# 1974

## ПРАЗ ДЗЕНЬ ПАСЛЯ САЛЮТА...

### I

Гэта быў адзін са старых панскіх, насаджаных у англійскім стылі паркаў — іх даволі шмат засталося на заходніх абсягах Украіны і Беларусі. Нават праз стагоддзе, з парадзелымі дрэвамі, з абымшэлымі пеньчукамі вось гэты парк, у якім цяпер размясціўся полк сувязі, мала чым адрозніваўся ад звычайнага лесу: дуб рос побач з грабам, клёнам, бяроза ў суседстве з берастам і рабінай.

Парк падняўся на шырокім, разлеглым пагорку з амаль што стромымі схіламі. Веснавая і дажджавая вада вымыла на скатах глыбокія яры, густа зарослыя дзядоўнікам, крапівой і дзікім вішняком. Злева, у нізіне, стаяў напаўразбураны панскі дом, праўдзівей, ад дома засталіся белыя калоны і тры пярэднія сцяны; задняй сцяны, як і даху, не было — усё гэта ляжала кучамі бітай цэглы і парослага быльнягом друзу. З правага боку ля падножжа паркавай гары бялее дамкамі невялікі гарадок.

Тут Валынь, Украіна, і гэта адчуваецца ў малюнках навакольных палявых краявідаў, у гаворцы жыхароў, у тым, як узыходзіць і заходзіць сонца. Стаіць верасень, над полем, дзе пакатыя ўзгоркі мяжуюць з глыбокімі ярамі, лятае белая павуцінка, чэзлыя на выгляд яблынькі гнуцца ад тугіх жаўтабокіх антонавак, з вішняку, якога тут — як лазы,

пераспелыя, толькі збольшага паклёваныя птушкамі ягады асыпаюцца на дол.

Армейскі полк сувязі са сваімі радыёстанцыямі, апаратамі Бадо, СТ, з усёй разнастайнай тэхнікай атабарыўся ў парку больш за месяц назад. У засені дрэў стаяць грузавікі з прыробленымі да кузаваў драўлянымі будамі. Будаў бадай хапае для жылля, бо брызентавыя палаткі нацягнулі для сябе толькі лінейныя тэлефаністы.

Штаб размяшчаецца ў гарадку, там жа стаяць на пастоі старшыя афіцэры, якія прыходзяць у парк толькі па службе.

Служба вядомая. Полк сваім ходам перадыслацыраваўся з Германіі. Калі наспела вайна з Японіяй, была каманда грузіцца ў вагоны, але калону вярнулі назад са станцыі. Там, на Далёкім Усходзе, вайна і без палка сувязі ішла паспяхова. Роты і ўзводы цяпер займаюцца вывучэннем баявой тэхнікі, статутаў, праводзяць страявыя заняткі. Але ўсё гэта хутчэй для блізіру, бо наперадзе няпэўнасць. Ходзяць чуткі пра расфарміраванне, дэмабілізацыю. Не сакрэт, што полк сувязі болей чым напалавіну складаецца з дзяўчат. Хто іх у мірны час будзе трымаць у арміі?

Пад вечар спыняецца нават бачнасць заняткаў. Стаяць на вызначаных месцах пасты, каравулы, кухня пачынае раздачу вячэры.

У гэты час да буды, у якой жыве старшына групы бліжняй разведкі Хомчык, прыходзіць лейтэнант Траяноўскі — ён служыць начальнікам палкавога ПЗД. Кішэнь брыджаў у лейтэнанта злёгку адтапырана. Хомчык таксама сёе-тое падрыхтаваў. Пераканаўшыся, што ніхто за імі не віжуе, парушальнікі вайсковага статута прыхопліваюць шклянку, загорнуты ў паперу пакунак з закускай і па крутому схілу пагорка спускаюцца да разбуранага панскага палаца. Там, у зараслях дзядоўніку, ёсць зацішнае месца, дзе сябры вячэрняю часінаю вядуць працяглыя размовы.

Добра, ціха ў дзядоўніку. Заходзіць сонца, яго праменні, прабіўшыся праз купы дрэў, карункавымі ўзорамі кладуцца на закураныя сцены палаца. Востра пахне палыном, выпетранай, перасохлай травой, і Хомчыку лёгка ўявіць, што тут улонне прыроды, дзікі, закінуты кут.

Хомчык выцягвае з рыльца бутэлькі зробленую з пакулля затычку. Самагонка вельмі моцная, бураковая, і гэтай бутэлькі хлопцам хопіць на ўвесь вечар. Любяць яны не столькі выпіўку, колькі магчымасць адкрыта, даверліва пагаварыць, паспавядацца. І не адны яны. Шмат за вайну накапілася ў салдацкіх душах такога, што патрабуе выйсця, абгаварэння. А гарэлкі дастаць няцяжка — вайна скончылася.

Хлопцы выпіваюць па паўшклянкі, закусваюць.

— Канцавога не бачыў? — пытаецца Хомчык.

— Мабыць, пайшоў да сваёй беленькай. Яму не да нас.

Радыётэхнік лейтэнант Канцавы быў трэцім, хто яшчэ нядаўна прылучаўся да збораў у дзядоўніку. Але, пазнаёміўшыся ў горадзе з бялявенькай настаўніцай, на сяброўства махнуў рукой.

Хомчык нарадзіўся і вырас у драўляным палескім мястэчку, Траяноўскі — у Маскве, але тое, мабыць, што хлопцы жылі, вучыліся ў адзін час, чыталі тыя самыя кнігі, аднолькава думалі, зрабіла іх на дзіва блізкімі адзін аднаму. Нягледзячы на розніцу ў званні, яны зблізіліся, а цяпер, прадчуваючы расстанне, асабліва даражаць вячэрнімі спатканнямі.

— Дзе ты ў Маскве жыў? — пытае Хомчык.

— Ля Рыжскага вакзала. Вуліца наша ціхая, зялёная.

— Беларускі вакзал блізка ад Рыжскага?

— Блізка. Хвілін пятнаццаць язды на трамваі.

Хомчык двойчы быў у Маскве. Першы раз прыязджаў з бацькам яшчэ да вайны, другі — ужо мабілізаваным, разам з капітанам з ваенкамата, які, маючы службовую камандзіроўку, заехаў да знаёмай дзяўчыны, але абодва разы ён трапляў у Маскву праз Кіеўскі вакзал. Таму ён не ведае, дзе размяшчаецца Беларускі, дзе Рыжскі вакзал і як выглядае ў тых месцах горад.

— Зялёныя вуліцы ў Маскве? — перапытвае Хомчык.— І мураўка па дварах ёсць?

— Дзеля гэтага трэба ехаць у Замаскварэчча. Там поўна такіх двароў. Вечарам бабулі пад вязамі п’юць чай з самавара. Ідылія...

Хомчыку за вайну прыйшлося пабачыць гарадоў. У некаторых з іх ён нават быў падоўгу, як, напрыклад, у Выбаргу ці ў гэтым нямецкім горадзе ля падножжа Судэтаў,

з якога яны нядаўна выехалі. Але ўсё адно ў яго вострая цікавасць да людзей, якія выраслі ў горадзе.

— Што ты рабіў летам, пасля школы?

— Чытаў, купаўся, хадзіў у кіно.

— А ў лесе быў? Ягады, грыбы збіраў?

Не, такімі справамі Траяноўскі не займаўся. Ездзячы зрэдку да бацькі на дачу (бацька пакінуў сям'ю, калі сыну было восем гадоў), бачыў, зразумела, дзе і як растуць ягады, грыбы, але імі чамусьці не зацікавіўся.

— Ты многае страціў,— гаворыць Хомчык.

— Што я страціў?

— Як табе сказаць. Нешта такое, што цяжка выказаць словамі. Радасць адчування жыцця. Калі я толькі заходжу ў лес, мне радасна.

— А на полі не радасна? — падкалвае Траяноўскі.— Не рабі са сваёй прывычкі закона. Хто ў якім месцы вырас, той да яго прывязваецца.

— Нешта ўсё-такі ёсць.

— Нічога няма. Проста табой валодаюць захапленні, вядомыя яшчэ з часоў Русо. Шчаслівае жыццё, несапсутыя норавы магчымы толькі на ўлонні прыроды.

Хомчык не пярэчыць. Яго таварыш скончыў педінстытут, праўда, па паскоранай, уведзенай у ваенны час праграме, а Хомчык толькі дзесяць класаў. Вось так яны ляжаць, размаўляюць, іншы раз нават крыху спрачаюцца. Аб чым? Аб усім.

Дружбакамі валодае асаблівы настрой. Скончылася вайна, у якой яны маглі загінуць. Ды не ў адной вайне справа. Яны абодва трохі пабачылі свету — з мінулагодняй восені былі ва Усходняй Прусіі, затым на пачатку зімы полк перакінулі на Першы Украінскі фронт, і яго шлях пралягаў праз Польшчу, Германію, нават частку Чэхаславакіі прыйшлося вызваляць. А цяпер наперадзе няпэўнасць. Калі полк расфарміруюць, то Траяноўскага і Хомчыка хутчэй за ўсё парассоўваюць па розных часцях або нават дэмабілізуюць. Вайсковай спецыяльнасці ў іх фактычна няма.

— Успамінаеш Эльзу? — пытае Траяноўскі.

Хомчык маўчыць. Болей як тры месяцы полк стаяў у ціхім шахцёрскім гарадку ля падножжа Судэтаў. Там Хомчык

з Траяноўскім нават да нямецкіх дзяўчат хадзілі: Хомчык да чарнявай, падобнай на армянку Эльзы, Аляксей — так завуць Траяноўскага — да яе сяброўкі Інгі.

— Мы брыдка зрабілі, што не папярэдзілі дзяўчат пра ад'езд. Хоць бы па-людску развіталіся. Што яны пра нас падумаюць?

— На вайне як на вайне. Бачыў жа, што было...

Так, было дзіўна, і доўга яшчэ пра гэта будуць думаць і разважаць дружбакі. Вайна падзяліла свет, і салдатам, пакуль не дайшлі да Германіі, мабыць, здавалася, што немцы — суцэльныя пачвары, што там, на іх радзіме, усе ходзяць калонамі, аддаюць адзін аднаму чэсць і выгукваюць фашысцкія лозунгі. Мажа, немцы іх і выгуквалі, але з таго часу, як полк размясціўся ў шахцёрскім гарадку, малюнак змяніўся. У абвітых плюшчом і дзікім вінаградам катэджыках, у двух- і трохпавярховых, закапцелых ад вугальнага пылу будынінах жыло шмат маладога веку фрау; цыбатых дзяўчат, якія, відаць, мала думалі пра гітлеравы лозунгі, а найболей пра тое, як і дзе дастаць паўбоханчык цвёрдага, як гліна, хлеба, лыжку тлушчу або, на горшы выпадак, павідла.

Першыя два-тры дні, пасля таго як полк заняў пад стойбішча падобны на казарму старадаўні цагляны будынак школы з агароджаным жалезнымі прутамі пляцам, фрау і цыбатыя немачкі хаваліся, носа з кватэр не вытыркалі. Яны, мабыць, таксама лічылі, што рускія, савецкія, падобныя да лютых, з раскосымі вачамі скіфаў, якія зараз жа пачнуць трушчыць і нішчыць усё нямецкае. Такімі іх маляваў Гебельс на сваіх плакатах, шкуматы якіх яшчэ і цяпер віселі на сценах гэтак жа, як бясконцыя лісткі лозунгаў з трох толькі слоў: «Berlin bleibt deutsch»[1]. Але па Берліне ўжо болей як тыдзень расхаджвалі савецкія салдаты. Вар'яцкага выгляду фюрар атруціўся крысіным ядам. А тут, у запыленым вугалем гарадку, рускія не праяўлялі ніякіх барбарынскіх намераў: яны нават не цікавіліся, належыць хто-небудзь з тубыльцаў да нацысцкай партыі ці не належыць.

Між тым май зелянеў на вуліцы каштанамі, букамі, клёнамі, рускія былі зусім не такімі, як маляваў іх Гебельс, з

[1] Берлін застанецца нямецкім.

выгляду — людзі, а не звяры. Больш таго — гарадок вельмі хутка высветліў, што ў іх, пераможцаў, добрыя сэрцы. Дзецям, жанкам, якія адважыліся першымі да іх падысці, яны давалі хлеб, цукар, суп са сваіх салдацкіх кухань.

У гарадку, між тым, мужчын было мала: нават пятнаццацігадовых падлеткаў і пасівелых дзядоў фюрар пхнуў у фолькСштурм. Расы, народы змешвалі сваю кроў на працягу ўсёй гісторыі, і калі глядзець на падзеі менавіта з такой высокай вышкі, то асабліва прыкметнымі ў сэнсе сказанага былі два тыдні пасля дня Перамогі, бо начальства ў гэты час пазірала скрозь пальцы на зблiжэнне салдат, сяржантаў і нават асобных афіцэраў з мясцовымі жанчынамі і дзяўчатамі.

Хомчык з Траяноўскім якраз тады і пазнаёміліся з Эльзай і Інгай. Ім было гэта зрабіць нават лягчэй, чым астатнім: да арміі, да фронту, Хомчык быў у партызанах, ды і на фронце па характару службы так ці інакш сутыкаўся з немцамі і нямецкую мову ведаў ніштавата. Аляксей таксама яе трохі ведаў, хоць ад яго можна было чакаць большага: як-ніяк скончыў педінстытут.

Полк выязджаў з гарадка трыма калонамі, праз кожныя два-тры дні. Выезд першай жа калоны паказаў, наколькі цесным, блізкім было яднанне некаторай часткі асабовага складу з мясцовымі жанчынамі. Яны стаялі на вуліцы густым, шчыльным натоўпам і, не саромеючыся, выцiралі слёзы.

Пасля гэтага быў строгі загад: ніякай інфармацыі насельніцтву аб часе перадыслакацыі. Хомчык з Траяноўскім загад выканалі: знаёмым дзяўчатам пра свой ад’езд не сказалі.

Шахцёрскі гарадок, Эльза, Інга — цяпер гэта толькі ўспамін. Мінуў пераможны май, нібы ў сне праляцела першае мірнае лета, і вэлюм святочнасці, урачыстасці пакрысе спадае, саступаючы месца будзённым, іншы раз неспакойным клопатам і турботам. У Траяноўскага — настаўніцкі дыплом, а ў Хомчыка ніякай прафесіі. Перад ім, хоць і смутна, а ўжо вынікае пытанне: што будзе рабіць, калі дэмабілізуецца з арміі?

Пра адно не гавораць і нават стараюцца не думаць дружбакі — пра вайну. З лістоў, якія таму і другому прыходзяць ад матак, яны ведаюць, што большасць іхніх таварышаў,

знаёмых ніколі дадому не вернецца. Іх праглынула вайна. На вайне адчуванні асаблівыя, смерць там — звычайнасць, і, можа, па гэтай прычыне тыя, хто бачыў смерць, не любяць пра яе ўспамінаць.

## II

На Украіне, на бязлесым прасторы, ноч наступае нечакана. Часіна сутоння, калі дзённае святло нібы змагаецца з цеменню, вельмі кароткая. Яшчэ некалькі хвілін назад было светла, і раптам — змрок.

З наступленнем цемені на дубах, пад якімі абсталявана танцавальная пляцоўка, запальваюцца электрычныя лямпачкі. Хлопцы-сувязісты так іх развесілі, што дрэвы здаюцца нейкімі незямнымі, казачнымі. На вышмарганым ботамі пятачку грае радыёла, пачынаюцца танцы. Вальсы і танга будуць звінець гадзіны дзве, да самага адбою.

Танцуюць пераважна дзяўчаты з дзяўчатамі, хлопцы — яфрэйтары, сяржанты — тоўпяцца збоку, назіраюць. З радыёлы вырываюцца цягучыя, млявыя гукі, шоргаюць па ўтаптанай пляцоўцы кірзавыя боты, надзетыя на стройныя дзявочыя ногі.

Можна стаяць, глядзець на парачкі, а можна блукаць па парку. Наводдаль ад пляцоўкі, праз навісь галін праглядвае высока ўкраінскае неба, засеянае шчодрымі зоркамі. Над гарадком вісіць паўбоханчык месяца, лье на белыя дамкі сваё таямнічае святло. Над старым паркам як бы лунае дзіўны, загадкавы настрой: кончылася самая вялікая вайна, якая калі-небудзь была на свеце, і што падорыць гэтым уцалелым у яе агні дзяўчатам і хлопцам мірнае жыццё, абсягі якога яшчэ за хісткай, няпэўнай заслонай?

У гурце дзяўчат ёсць адна, з якой Хомчык з той пары, як полк атабарыўся ў былым панскім парку, у час танцаў раз-пораз пераглядваецца. Завуць яе Таня Верашчагіна. У яе круглы, мілавідны твар, трохі паўнаватая постаць. Дзяўчына, як і Хомчык, старшына. Яны хутка год служаць разам, але дасюль не знаёмыя. Справа ў тым, што ў вайну група бліжняй разведкі ў размяшчэнні палка сувязі амаль не знаходзілася,

сядзела на перадавой, у пяхотных палках, ды і пасля вайны Хомчык жыў не ў казарме, а ў асобным штабным доме.

Каб Хомчык умеў танцаваць, то пазваў бы Верашчагіну ў круг, знайшоў бы нейкія словы. А так ён толькі стаіць і глядзіць. Колькі вечароў кончылася тым, што, павітаўшыся з Таняй кіўком галавы, кінуўшы ў яе бок некалькі позіркаў, Хомчык затым адыходзіў і ўвесь вечар вандраваў з Траяноўскім па парку. З дзяўчатамі ён сарамлівы, нясмелы і нічога з сабой не можа зрабіць.

Так і ў гэты вечар.

— Дзіўны ты,— гаворыць Траяноўскі,— калі не можаш так проста падысці, напішы запіску. Запрасі ў кіно. Яна ж табе падабаецца.

— Падабаецца.

Запісак Хомчык пісаць не хоча. Ёсць у гэтым нешта дзіцячае, школьнае. А ён ужо даўно не школьнік. Ды і ў яго адносінах з Верашчагінай шмат няяснага, цьмянага. Было некалькі выпадкаў, калі ён сустракаў Верашчагіну з сяброўкамі, перасільваючы сябе, рабіў спробу прыпыніцца, завязаць гаворку, але яна трымалася з ім, як з незнаёмым. А потым праз другіх дзяўчат перадавала Хомчыку прывітанні...

— У Верашчагінай нікога не было? — пытае Хомчык.

— Не ведаю. Такія справы напаказ не выстаўляюць. Ды, зрэшты, што табе? Ты ж з ёю ў загс не збіраешся?

Траяноўскі гаворыць праўду. Хоць і без яго Хомчык гэта ведае. Чалавек цягнецца да чалавека не толькі дзеля таго, каб выйсці замуж ці ажаніцца. Полк сувязі, які больш чым напалавіну складаецца з жанчын, засведчыў гэта сваім прыкладам. У вайну шмат хто з дзяўчат, якія ў ім служаць, не надта глядзелі, жанатыя іх кавалеры ці нежанатыя. Кавалерамі найчасцей былі афіцэры з карпусных і армейскіх штабоў, у іх была магчымасць наладзіць на Новы год ці ў якое іншае свята пагулянку, і некаторыя дзяўчаты ахвотна на гэтыя пагулянкі ездзілі. Хлопцы ў такіх выпадках па двое і па трое сутак без змены дзяжурылі ля апаратаў Бадо, СТ і, вядома, праклінали напарніц. А калі скончылася вайна, нават помсцілі ім, абмінаючы сваёй увагай, знаёмячыся з чужымі. Вядома, не ўсе дзяўчаты былі такія, можа, меншая палавіна, можа, трэць ці чвэрць — дакладнай статыстыкі няма.

— На вайне жылі сённяшнім днём,— працягвае Траяноўскі.— Заўтрашняга магло не быць. Вось у чым соль.

Ён зноў гаворыць правільна. Яго словы можна дапасаваць нават да цяперашняга часу: дзяўчаты і хлопцы — маладыя, маладосць у жыцці бывае адзін раз. Стаіць цёплы вераснёвы вечар, і проста грэх у такі вечар не абнімацца, не цалавацца...

— Чаму сам так не жывеш? — пытае Хомчык.

Траяноўскі зацінаецца. Пра жонку ён ніколі нічога не расказвае. У дваццаць гадоў, калі яшчэ вучыўся ў інстытуце, ажаніўся, аднак лісты ад жонкі атрымлівае рэдка, і сам ёй не піша. Хомчык даўно здагадваецца, што жаніцьба яго таварыша не радуе. Хто тая невядомая жанчына?

— Я думаю, вайна нічога не спісвае,— разважае Хомчык.— Мы панясём і добрае і благое з вайны.

У гэтую хвіліну ён думае пра выпадак, калі яшчэ там, у Германіі, з палка дэмабілізавалі некалькі дзяўчат, якія зацяжарылі.

## III

Назаўтра мусіла быць тое самае — млявыя заняткі, вывучэнне статутаў, вечарам танцы пад дубамі — каб раптам не вынікла нечаканая навіна: скончылася вайна з Японіяй.

Прывід гэтай вайны ўсё ж вісеў над палком, бо некаторыя сувязісты, не могучы ўтаймаваць радасць, яшчэ днём, у службовы час, пакаштавалі самагонкі. Гэта было ЧП. І начальства неадкладна прыняло меры: чалавек восем было пасаджана на гаўптвахту, танцы адменены.

ЧП тым не меней працягвалася. Гаўптвахту абсталявалі ў напаўразбураным панскім доме, прайсці туды, нягледзячы на вартавых, было не вельмі цяжка, і спагадлівыя таварышы арыштаваных здолелі-такі перадаць ім некалькі бутэлек. Падвяселеная градусамі «губа» ноччу заспявала пра трох танкістаў...

Загадам па палку выпіўка была прыроўнена да найцяжэйшага злачынства. Жанчын з кошыкамі, якія вандравалі вакол парку, нібы ветрам здзьмула.

Старшына Хомчык жыве ў будзе разам з малодшымі лейтэнантамі Лімарам і Зускіным. Лімар — малады, шырака-

плечы, з даволі прыгожым, засеяным вяснушкамі тварам, на якім асабліва выдзяляюцца падпухлыя губы і зеленавата-жоўтыя, круглаватыя, як у ката, вочы.

У полк Лімар трапіў у самым канцы вайны, і цяпер вельмі задаволены, што яго прызначылі камандзірам страявога ўзвода. Свой будучы лёс ён звязвае з арміяй.

Як ні дзіўна, але прыкладна такія ж сяганні ў Зускіна, хоць яму пад сорак, а на пагонах адна толькі зорачка.

У адзін з тых дзён Лімар просіць Хомчыка:

— Ты пасля абеду не прыходзь. Салон мне самому патрэбен.

Хомчык ведае прычыну. За Лімарам, нібы цень, блукае доўгая, непрыгожая, знешне падобная на бутэльку сувязістка.

Выпадак на гаўптвахце пакрысе забываецца, і танцы пад дубамі аднаўлены зноў. Начальства проста вымушана дазволіць гэтыя танцы, бо чуткі пра дэмабілізацыю дзяўчат робяцца рэальнасцю. Ужо вядома, што рыхтуецца загад, у штабе афармляюцца дакументы.

Лёс нарэшце робіцца літасцівым і да Хомчыка. Развітаўшыся з Траяноўскім, ён на сцяжынцы, наводдаль ад палатак і буданоў, спатыкае Таню. Яна адна. Яшчэ звініць радыёла, чуюцца галасы, а яна, самотная, вандруе ў адзіноце.

О, гэты Хомчык даволі змыслы чалавек! Ён даўно марыў пра такую сустрэчу, нават прадбачыў яе. Таму загадзя абдумаў сякія-такія варункі і захады. На схіле пагорка, у густым вішняку, ёсць вельмі прыдатны, зарослы травой гурбочак, на якім можна пасядзець, як на лавачцы. Хомчык вядзе туды Таню, і яна ахвотна ідзе.

Яны сядзяць, размаўляюць, як бы навыперадкі расказваючы кожны пра сябе. Таня з Поўначы, з Яраслаўскай вобласці, і Хомчыку прыемна чуць яе трохі нязвыклую, напеўную гаворку, працяглае «о» нават у тых словах, дзе масквіч Траяноўскі прамаўляе «а».

Не меней прыемна Хомчыку адчуваць побач з сабой ладнае, зграбнае Таніна цела, нават у шэрані ночы выдзяляць рысы яе мілага круглаватага твару, высокія грудзі пад салдацкай гімнасцёркай, на якой прышыты чорныя (як ва ўсіх тэхнічных войсках) пагоны са срабрыстым старшынскім малатком.

Хомчык — ён нібы даказвае гэта самому сабе — яшчэ і даволі смелы чалавек. Ён раз-пораз цалуе Таню, і яна не ўхіляецца ад пацалункаў. А хіба ён не мае на гэта права? З Таняй яны знаёмы даўно, і проста так здарылася, што не мелі магчымасці спаткацца, застацца адзін на адзін.

У Хомчыка хмельна кружыцца галава. Даўно перастала іграць радыёла, наступіў час адбою. Полк спіць. Але навошта ім з Таняй сон? Свеціць месяц, і, здаецца, там, унізе, ля руін палаца, плюскоча хвалямі рэчка, а над яе берагамі трымціць туман. Нібы вясна, нібы спяваюць у зарасніку салаўі — такое адчуванне.

Яны выходзяць са сховішча толькі пад раніцу, калі зоркі на небе пачынаюць бляднець. Кепска адно: Хомчык не можа выканаць свой кавалерскі абавязак і правесці Таню да буданчыка. Калі пойдуць удваіх, іх паставыя «засякуць». Па адным жа як-небудзь можна прашмыгнуць.

Заўтра на гэтым месцы яны зноў сустрэнуцца...

Яны сыходзяцца ў зарасніку яшчэ два разы. Збліжэнне настолькі нечаканае, імклівае, што Хомчык губляе раўнавагу. Ён, як раней, праводзіць з байцамі заняткі па дысцыплінарным статуце, але не ў прыклад папярэднім дням ніяк не можа знайсці патрэбны тон. Можа, па той прычыне, што яго распірае радасць, ён даруе цяпер недакладныя адказы, блытаецца сам, збіваючыся нават на тых параграфах, якія ведае назубок.

Няўважлівы ён і да Траяноўскага. Вечарам яны сустракаюцца, стаяць ля танцавальнай пляцоўкі, але Хомчык увесь час думае пра Таню, з нецярпеннем пазіраючы на свой наручны гадзіннік. Што ж, ён не лепшы за Канцавога.

Дзіўныя стаяць вечары і ночы. Ахутаныя месячным мроівам дрэвы, кусты, зорнае неба, нерухомае цёплае паветра, музыка, якая ліецца з радыёлы, вальсы і танга пад аздобленымі электрычнымі лямпачкамі дубамі — уся гэтая прыгажосць нібы апошні дарунак дзецям вайны, якія ў хуткім часе раз’едуцца, каб ніколі болей не сустрэцца.

У памяці Хомчыка ўсплываюць вычытаныя яшчэ ў школьныя гады радкі і звіняць у вушах несупынна:

> Спит как во сне зачарованный сад,
> Ночь в бирюзе утопает,
> В воздухе носится рой серенад,
> Кто-то безумно рыдает...

Нейкай трывогай вее ад гэтых радкоў. У чым яна, дзе? Хомчык не ведае.

Вярнуўшыся з выраю, птушкі пачынаюць віць гнёзды — так думае Хомчык пра тых, хто робіць няхай сабе яшчэ нясмелыя, першыя захады, каб неяк асталявацца ў мірным жыцці. Да такіх ён адносіць сябе і лейтэнанта Канцавога, які хутка месяц прападае ў беленькай настаўніцы.

Таню дэмабілізуюць, а ён, Хомчык, магчыма, застанецца служыць, але пачнецца зусім іншая служба, бо ён будзе ведаць, што яго чакае дзяўчына. Ні аб чым сур'ёзным ён пакуль не думае, яму трэба вучыцца, але ўсё адно яго жыццё стане другім, зусім другім...

У палку ёсць людзі, якія і аб сур'ёзным падумалі. Прыклад — старшы лейтэнант Пятакоў, камандзір групы бліжняй разведкі, непасрэдны Хомчыкаў начальнік. Як толькі скончылася вайна, ён афіцыйна сышоўся з радысткай Зінай Варанцовай, такой жа, як і сам, чарнявай, маўклівай, гаспадарлівай. У іх цяпер усё агульнае — будка на калёсах, куды Зіна носіць кацялкі са сняданкамі і абедамі. Ёсць падобныя прыклады сярод сяржанцкага і нават радавога саставу, хоць тым парачкам асобных будак, вядома, не выдзелілі.

Недзе тут пачынаецца Хомчыкава трывога. Таня да яго блізкая, прыхільная толькі пры патаемных спатканнях, а днём, на людзях, яна па-ранейшаму трымаецца як незнаёмая.

Падзеі між тым нарастаюць. З раніцы ў палку паявіўся апрануты ў сіні цывільны касцюм чалавек, і ўсе пазналі ў ім былога камандзіра радыёроты капітана Белага. З капітанам здарылася няшчасце менавіта ў той дзень, калі скончылася вайна. Радысты аб гэтым першыя даведаліся, наладзілі банкет, на якім тры чалавекі атруціліся кансервамі, якія недзе раздабыў увішны камандзір. Капітана судзілі. Але добра тое, што добра канчаецца. Амністыя з нагоды перамогі над Германіяй скасавала капітану большую палавіну вызначанага судом тэрміну турэмнага зняволення, нядаўняя — пасля перамогі над Японіяй — астатнюю.

У той жа дзень, апоўдні, урачыста адпраўлялі дамоў першую групу дэмабілізаваных дзяўчат. Грымеў аркестр, начальнік штаба, парторг, іншыя вядомыя людзі палка гаварылі прамовы, уручалі дзяўчатам баявыя граматы. Яны

стаялі ў страі ў сваіх мытых-перамытых гімнасцёрках, наваксаваных кірзавых ботах, з ордэнамі, медалямі, але з выгляду прыціхлыя, разгубленыя...

Таню з першай групай не адправілі, але Хомчык з ёй усё адно не спаткаўся. Вечарам танцаў не было, полк раставаў на вачах, настрой быў такі, што не да танцаў, а назаўтра Хомчыка паслалі на хлебанарыхтоўкі. У затуленай між асенніх пажаўцелых пагоркаў вёсачцы Хомчык разам з байцамі і камандзірамі пражыў цэлы тыдзень: звозілі збожжа на такі, малацілі, грузілі на машыны.

Калі Хомчык ад'язджаў, да яго падышоў нізенькі, рабаваты, апрануты ў пакамечаную парусінавую гімнасцёрку лейтэнант — камандзір аднаго з лінейных узводаў — і сунуў яму ў рукі надпісаны чарнільным алоўкам трохкутнічак. Ліст адрасаваўся Тані Верашчагінай.

Хомчык напачатку нічога кепскага не падумаў. Але, калі ён вярнуўся ў полк, Тані ўжо не было, наогул нікога з дзяўчат не было — іх усіх паспелі адправіць дамоў.

Хомчыка чакала запіска — у ёй Таня паведамляла адрас, перадавала прывітанні, прасіла пісаць.

Хомчык мог бы проста адправіць лейтэнантаў трохкутнічак па адрасе, але на яго раптам нахлынула падазрэнне, рэўнасць, ён некалькі дзён вагаўся і, нарэшце, не вытрымаўшы, праклінаючы самога сябе, разгарнуў трохкутнічак.

Гэта быў канец. Лейтэнант у сваім пасланні нарабіў мноства памылак, але пра характар яго адносін з Таняй сумнявацца не выпадала...

Далёкія, палітыя крывёй дарогі віхурнай маладосці. Хто адважыцца кінуць камень у тых, хто па іх прайшоў?..

*1974*

## ЗА КАМПАНІЮ

За перагародкай размаўляюць Ганна Міхайлаўна з маці. Валодзя ляжыць у бакавым цёмным пакойчыку, больш за ўсё баючыся, што настаўніца яго пакліча і яму прыйдзецца выйсці да яе з-за перагародкі.

Валодзя крануў пальцамі губы. Яны апухлыя, раздутыя, як шары, і вывернуліся яшчэ болей, чым удзень. Канечне, з такімі губамі перад настаўніцай паказвацца нельга. Яна адразу здагадаецца, у чым справа. Пачне распытваць, дзе і з кім ён курыў.

У Валодзі на душы нядобра, брыдка. Ён не курыць, да курэння яго зусім не цягне, і віной усяму пахвальная грамата, якую раніцай перад усім класам дала яму Ганна Міхайлаўна. Праз гэтую грамату ўсё і пачалося.

«Ён у вас дужа старанны,— чуе Валодзя голас настаўніцы.— Я проста здзіўляюся, у хлопчыка вельмі развіта пачуццё абавязку. Цяпер няхай бегае, гуляе. Ён па развіцці апярэдзіў сваіх таварышаў на цэлы клас...»

Валодзю душаць слёзы. Што з таго, што ён апярэдзіў Сяргея Пахомчыка і Стася Вашчылу, якім далі падрыхтоўку на лета? Яны з ім проста не хочуць гуляць. Грэбуюць ім. Калі, аднёсшы дамоў пахвальную грамату, Валодзя выйшаў з двара, нядаўнія дружбакі сустрэлі яго насцярожана.

— Выдатнік,— прамовіў Сяргей, зняважліва цыркнуўшы праз зубы слінай.— Да настаўніцы падлізваешся.

Стась Вашчыла і астатнія злавесна маўчалі.

Да такога абыходжання Валодзя прывык. Адзін на адзін ён добра сябруе са Стасем, з астатнімі хлопцамі, але варта паявіцца ў кампаніі Сяргею, які вучыцца, бадай, горш за ўсіх, як усё мяняецца.

— Я ні да каго не падлізваюся,— сказаў Валодзя.

— Завошта ж грамату далі? Усё сядзіш ды зубрыш. Хадзем, хлопцы!..

Кампанія рушыла прэч. Валодзя стаяў і не ведаў, што рабіць. Сёння якраз можна пагуляць, бо прыехала бабуля, не трэба няньчыць Нюрку і зганяць з градаў курэй.

«Ён у вас трохі адасоблены,— гаворыць далей Ганна Міхайлаўна.— Проста часцей выпраўляйце яго да таварышаў. У такім узросце дрэнна губляць сувязь з калектывам, адасабляцца...»

Нічога яна не разумее, думае Валодзя пра настаўніцу. Хоць і інстытут скончыла. Калі б хлопцы нават не пазвалі, ён бы за імі пайшоў. Але яны пазвалі. Адышоўшы ад Валодзі крокаў на пяцьдзясят, кампанія раптам спынілася.

— Давай да нас! — гукнуў Сяргей, махнуўшы рукой.

Валодзя, не тоячы радасці, падбег да таварышаў.

— Мы ідзём есці зайцаву цыбулю,— сказаў Сяргей.— Потым будзем курыць. Калі не хочаш — адвальвай. Толькі нікому ні слова. Зразумеў?..

Курыць Валодзю не хацелася. Але каб ён пра гэта сказаў, хлопцы проста б не ўзялі яго з сабой.

Зайцаву цыбулю яны збіралі на пясчаных пагорках за Бібікавым дубам. Потым расклалі вогнішча і сталі сушыць вішнёвае лісце, якога Сяргей прынёс поўныя кішэні. Курылі, набіваючы сухой пацярухай маленькія, выразаныя з дрэва піпкі.

Валодзя стараўся дыму не глытаць. Толькі ўцягваў яго ў рот і адразу выпускаў. Але пацярухі было многа, і пакуль яны ўсю скурылі, у роце зрабілася горка і непрыемна.

Губы ў Валодзі сталі пухнуць і выварочвацца, калі ён ужо ішоў дамоў. Ён цяпер нават слова не мог прамовіць, бо адна губа не даставала да другой.

«Трэба развіваць у ім таварыскія пачуцці,— вядзе сваё настаўніца.— Паўнацэнная асоба вырастае толькі ў калектыве. У астатніх адносінах ён бездакорны хлопчык...»

Ганна Міхайлаўна нарэшце пайшла, і ў Валодзі як камень з душы зваліўся. Навошта, каб нехта бачыў яго ганьбу? Ён зрабіў так, што нават бабуля нічога не заўважыла. Маці, калі трэба, ён прызнаецца. Але адной толькі маці. Вячэраць не пойдзе, скажа: баліць галава. А да заўтра губы, можа, атухнуць. Не будуць жа яны вечна такія тоўстыя, як каўбасы...

*1974*

## З ДАДАТКАМ

— Дзе ты дзеў той рубель, што ў цябе астаўся? — спытаў бацька, і Саша адразу знямеў.

Бяда здарылася пазаўчора. Саша ішоў са школы, не ўтрымаўся і зазірнуў у краму. Там, у куточку, побач са слоікамі яблычнага і вішнёвага кампоту, якога ніхто не купляе, стаіць некалькі парудзелых кніжак. Адну з іх, «Прыгоды Тома Соера», Саша марыў купіць даўно. Ён чытаў гэтыя прыгоды,

браў у школьнай бібліятэцы, але кніжка такая цікавая, што яе можна чытаць хоць дваццаць разоў.

— Дзе дзеў рубель? — зноў спытаў бацька.

Рубель застаўся ў Сашы з пяцёркі, калі два тыдні назад маці пасылала яго ў краму купляць крупы і цукар. Бацька быў лагодны і дазволіў Сашу рубель пакінуць сабе. «Толькі не траць грошы на што папала»,— сказаў тады бацька.

Саша думаў, што пра рубель забылі. У бацькі была новая палучка, ён прынёс Нінцы новыя чаравікі, Стасі і Людзе аднолькавыя вязаныя кофтачкі, а Сашу — нічога. Саша не пакрыўдзіўся, але з таго часу ён лічыў сябе паўнаўладным гаспадаром рубля. Гэта вынікала як бы само сабой.

— Чаго маўчыш? — закрычаў бацька.— Рубель, мабыць, таму вісусу аддаў? Яго са школы выгналі, а табе другіх хлопцаў няма.

Бацька гаворыць пра Уладзіка Сікору. Але са школы Уладзіка не выгналі. Ён сам не захацеў вучыцца, бо яму дванаццаць гадоў і сядзець з Сашам у другім класе яму сумна. Дый да грошай, якія растраціў Саша, Уладзік не мае ніякага дачынення. Вінавата Ксюха, крамшчыца. Кніжка пра Тома Соера каштавала шэсцьдзясят капеек, але яна дала Сашу ў прыдачу дзве заседжаныя мухамі брашуркі — пра малярыйнага камара і тарфяныя машыны. Саша не хацеў браць брашуркі, але Ксюха ледзь не сілай усунула іх Сашу. Рэшты з рубля дала толькі тры капейкі.

Бацька яшчэ больш раззлаваўся, калі Саша нарэшце паказаў яму кніжкі. Пра «Тома Соера» не сказаў нічога, а брашуркі кінуў у парог:

— Сабаку пад хвост такія кніжкі!.. Занясі і аддай. Грошы табе няма куды дзяваць?!.

Маці маўчала, але з дакорам пазірала на сына.

Саша апрануўся, забраў брашуркі і пайшоў з хаты. На вуліцы разводдзе, набраклы вадою снег і гразь. Сашавы чаравікі прамоклі яшчэ тады, калі ён ішоў са школы, і нагам у іх вельмі няўтульна. Але яшчэ больш няўтульна ў хлопчыка на душы. Настрой у яго панылы, і выйсця са свайго становішча ён не бачыць, бо крамшчыцу Ксюху ведае. Ксюха нізавошта грошай назад не аддасць. Тым болей што на адной брашурцы Нінка паспела накрэмзаць розных каракуляў.

На бацьку Саша не крыўдуе. Бацька працуе начным вартаўніком на дрывяным складзе, у яго хворыя ногі, і з дзяжурства ён прыходзіць злосны. Злосны ён яшчэ і таму, што грошай ад палучкі да палучкі не хапае, асабліва калі прыходзіцца купляць новую вопратку і абутак. А Саша ўсё-такі неразумна патраціў рубель. Мог бы ён купіць «Прыгоды Тома Соера» летам, калі наносіць і наздае ў сельпо крушынавай кары. Тады б і Ксюха непатрэбных брашурак не ўсунула.

Саша прыйшоў у краму і стаў каля прылаўка. Ксюха, убачыўшы ў яго руках пакамечаныя кніжачкі, адразу адвярнулася. Як бы і не яна сама пазаўчора сілком усунула іх Сашу.

У краме мокрая асклізлая падлога, кіслы непрыемны пах. Адчыняюцца і зачыняюцца дзверы, прыходзяць новыя пакупнікі. Ксюха важыць каўбасу, рыбу, кідае на прылавак боханы хлеба. На Сашу яна зусім не глядзіць. Нібы яго ў гэтай краме няма.

Сашу разбірае злосць. Нікуды ён з крамы не пойдзе. Нават тады, калі Ксюха пачне яе замыкаць. Брашурак ён не прасіў, таму мае права аддаць назад. Што з таго, што прайшло два дні, і адну кніжачку Нінка трохі запэцкала? Каб Саша не прынёс яе дадому, то нічога б і не было. Усё адно пра тарфяныя машыны і малярыйнага камара ніхто чытаць не будзе. Дзе знойдзеш такіх дурняў?

Гадзіны дзве прайшло, а Саша стаіць. У краме цямнець пачынае, і Ксюха запальвае лямпу.

— Што табе трэба? — нарэшце злосна пытае яна ў Сашы.

— Вазьміце кніжачкі. Я іх не прасіў.

Ксюха зірнула на цану, і нават не заўважыўшы Нінчыных каракуляў, кідае брашуркі ў кут, а Сашу адлічвае дваццаць адну капейку і дае восем карабкоў запалак.

— Вось і працуй з такім народам. За капейку гатовы павесіцца.

Дамоў Саша ляціць як на крылах. А дома неяк усё змянілася. Бацька, відаць, адумаўся, што дарма накрычаў на Сашу, грошай назад не ўзяў, а запалкі схаваў у пячурцы. Бацька нават пагладзіў Сашу па галаве і, закурыўшы, адвярнуўся і стаў глядзець у акно…

*1974*

## ЦЁТЧЫН БЛІНЕЦ

Хведарышын Сашка, Пудлік, як мы яго называем, сядзіць на даху хаты, на чарапіцы, і лямантуе на ўсю ваколіцу:

— Звары картопляў! Звары картопляў!..

Суседкі — Хведарыха і Харытоніха — перакопваюць агарод.

— Каб табе зарвала! — сказала Харытоніха і, знайшоўшы ў зямлі бульбіну, кінула ў бляшанае вядро. Хведарыха маўкліва пагразіла сыну рукой. Але гэта толькі паддало Пудліку ахвоты.

— Звары картопляў! — закрычаў ён яшчэ гучней.

Пудлік псуе мне ўсю справу. Нюрку і Стася я знарок вывеў з хаты на агарод, каб не канькалі есці. Мы паабедалі ўжо, з'еўшы крупнік і два блінцы, якія нам пакінула маці. Адзін блінец застаўся для цёткі Аксінні. Яна мусіць прыйсці да нас навіваць ніты.

— Хачу блінца,— першая не вытрымала Нюрка.

Стась, надзьмуўшыся, раз-пораз шморгае носам, і па ўсім відаць, што хутка заплача.

— Звары картопляў! — набіраючыся ўсё большай моцы, разлягаецца Пудлікаў голас.

Пудліка я ведаю. Ён, пакуль не даможацца свайго, не перастане крычаць.

— Будзем есці смалу,— сказаў я малым.— Спачатку абдзяром з вішні, потым са слівы. Смала — смачная. Хіба ты не ведаеш, Стась?

— Не хачу смалы, хачу блінца! — заяўляе Нюрка.

Другім разам я даў бы ёй плескача. Але Пудлік па-ранейшаму крычыць, і на малую не падымаецца рука.

Мне ўдаецца аддзерці невялікую пасачку вішнёвай смалы, і я аддаю яе Стасю.

— Жуй, Стась. Калі доўга жаваць, то есці зусім не захочацца. Вось пабачыш.

Нюрка прыціхла, чакаючы сваёй чаргі. Я зноў лезу на вішню. З-за малых я і ў школу не хаджу. Маці бегае ў саўгас зарабляць бульбу, і малых пакінуць няма з кім. Маці нават кросны паставіць няма калі, і навіваць ніты прыйдзе цётка Аксіння.

Яна жыве ў Аляксеевічах, дзе хаты папалены і людзі сядзяць у зямлянках. Таму мы і пакінулі блінец цётцы Аксінні. Калі яна будзе на нас рабіць, то павінна ў нас і харчавацца.

Я даю камячок смалы Нюрцы.

— Звары картопляў! — аж захліпаецца Пудлік.

Ён усё-такі нягодны, Пудлік. З ім і хлопцы таму не хочуць гуляць. Калі дасі штурхаля, то ён можа раўці хоць цэлую гадзіну, пакуль не пачуе матка. Бацькі ў Пудліка няма, але наш таксама з вайны не вярнуўся. А летась была засуха. Таму нам цяжкавата гэтай вясной.

Хведарыха кінула перакопваць бульбянішча і пайшла ў двор. Пудлік імгненна кульнуў з даху ўніз.

— Смала нясмачная,— зарумзала Нюрка.— Яна прыліпае да зубоў.

На агародзе, на тым месцы, дзе ўлетку цвіце рознымі краскамі паплавец, стаіць вада. На паплаўцы не толькі кветкі цвітуць, а і шчаўе расце. Але вада, відаць, сыдзе не хутка. Яшчэ да палавіны камля ў вадзе старая вербалозіна, на якую мы летам лазім, каб гушкацца на веццi.

— Пайду пагляджу, ці прыйшла цётка Аксіння,— сказаў я і рушыў у хату.

Нюрка зноў прыціхла. Малыя насцярожана ўтаропіліся на мяне. Пра блінец яны ведаюць. Абед даўно мінуў, а цёткі Аксінні няма. Можа, яна зусім не прыйдзе?

Блінец ляжыць на стале, прыкрыты льняным настольнікам. Я яшчэ выглянуў у акно: ці не пакажацца цётка? Але нідзе не відно яе. Спакуса была настолькі вялікая, што я не вытрымаў і адшчыкнуў кавалачак блінца і адразу спалохаўся. Мне стала брыдка самога сябе.

Калі я вярнуўся да малых, яны мой настрой разгадалі ўмомант.

— Хачу піць,— сказала Нюрка і пайшла ў хату.

Праз некалькі хвілін яна з’явілася. Блінца, нягодніца, мабыць, адламала, але па ёй зусім не відаць, што хоць трошкі пакутуе ад дакораў сумлення.

Услед за Нюркай, перавальваючыся на сваіх крываватых нагах, падаўся ў хату Стась.

Я маўчаў. Што мог я сказаць гэтым двум бессаромнікам?

Кропля надзеі ў маёй душы ўсё ж таілася. Я схадзіў у хату, зірнуў пад настольнік. Ад блінца засталася палавінка. Я махнуў на ўсё рукой і адламаў яшчэ кавалачак. Пасля мяне ў хату па чарзе шуснулі Нюрка і Стась.

Цётка Аксіння прыйшла пад вечар. Твар яе быў стомлены, шэры, нібы прысыпаны попелам. Пра яду яна нават не спыталася і, ходзячы ад сценкі да сценкі, адразу пачала навіваць ніты.

*1974*

## ГНЯДЫ

Дзяцінства ў мяне было звычайнае, вясковае. Паўз наша вялікае сяло, якое называлі нават мястэчкам, пралягала чыгунка, і яна ўносіла нешта сваё ў захапленні хлапечай талакі. Бадай што аднолькава нас, басоту, вабілі імклівыя паязды і птушыныя гнёзды, якіх мы прагнулі разведаць як мага больш.

Мае дачыненні да чыгункі на першым часе былі проста сузіральныя. Пасвячы свінню, затым карову, якая не магла хадзіць у чарадзе, бо ў яе быў прабіты, а таму адвіслы бок, я любіў глядзець, як набліжаюцца да станцыі паязды — поўныя, гружаныя і паражнякі. Апошнія вызначаліся нейкім паспешліва-вясёлым ляскатам колаў.

Паражнякі мы прапускалі. Зачуўшы гружаны ці пасажырскі, клалі іншы раз на рэйку, пад колы поезда, пятак, а калі апошні вагон, злёгку пагойдваючыся, мінаў месца, на якім ляжала манета, падымалі яе, цеплаватую, расплюшчаную, падобную на медаль, які атрымаў мой прадзед на турэцкай вайне.

Мой бацька працаваў на чыгунцы. І хоць ён лічыўся рабочым, чысціў стрэлкі, ішоў і прыходзіў са службы з казённым ліхтаром, у якім былі чырвоныя і зялёныя шкельцы, аднак сялянскага звычаю да канца не выракаўся. У сяле арганізаваўся калгас, туды завялі цягло, завезлі калёсы, плугі нашы суседзі, якія на чыгунцы не працавалі, а мы, рабочая сям’я, трымалі каня.

У гэтым далікатным становішчы догляд каня быў даручаны мне, а свінню і карову сталі пасвіць меншыя браты.

Каня звалі проста — Гняды. Сапраўды ён быў гнедай масці, ніякіх асаблівых прыкмет не меў, але я пазнаў бы яго сярод сотні другіх коней.

З раніцы я садзіўся на Гнядога і ехаў на ляда. Там, у пнёўі, путаў яго і пускаў на пашу. Ляда ад нашай хаты — вярсты паўтары, але мне нічога не каштавала два, а то і тры разы на дзень збегаць у пнёўе і паглядзець, як пасвіцца мой конь. Каб лепей падкарміць Гнядога, я рваў яму на межах дзятлавіну, кожнага вечара выдзіраў са шкуры кляшчоў, якія паўпіваліся за дзень, расчэсваў грыву.

Конь адказваў удзячнай дружбай. На зайздрасць сябрам-таварышам, ён не ўцякаў ад мяне, калі нават часам сам распутваўся, браў з рук траву, а вечарам, калі я садзіўся на яго, каб прывесці дамоў, ляцеў наўскач, варта было толькі злёгку паддаць яму пяткамі пад бок.

Я ўжо скончыў першы клас і вельмі ганарыўся тым, што магу нібы вецер імчаць на кані. Мне здавалася, што ўсе, каго я ведаю, у гэты час зайздросцяць і захапляюцца мной.

Конь і ў возе быў такі ж ціхмяны і паслухмяны. Калі мы везлі снапы ці сена, вёў за лейцы каня я, а бацька ішоў побач. Ён пабойваўся, каб сельсавет не наклаў лішняга падатку, таму рабіў выгляд, што конь быццам бы не ягоны.

Нечакана дружбацкія адносіны з Гнядым парушыліся. За лета конь стаў круглы, як булка, ад’еўся, поўсць на ім ільснілася і блішчала. Мы ж яго ў воз запрагалі рэдка, а падачкамі, ласкамі я, мабыць, зняверыў каня. Гняды стаў мной пагарджаць. Убачыўшы мяне з аброццю, ён скакаў прэч, травы з рук не браў, у рукі не даваўся. Цяпер для мяне стала вялікай пакутай прывесці каня з пашы дамоў.

Аднойчы, паганяўшыся за Гнядым цэлую гадзіну і нарэшце злавіўшы, я не вытрымаў, ударыў яго па храпе, а ён, калі я садзіўся верхам, укусіў мяне за нагу.

Хутка бацька адвёў каня ў суседні калгас. У свой аддаваць не захацеў, бо балюча было яму бачыць Гнядога кожны дзень.

Я пайшоў у другі клас. Неяк позняй восенню, калі мы пачалі патроху каня забываць, каля хаты пачулася ціхае ржанне. Я выскачыў на вуліцу. Перад варотамі стаяў Гняды. Убачыўшы

мяне, ён нібы ўстрапянуўся, задрыжаў і стаў церціся пысаю аб маё плячо. Зноў мы былі з Гнядым дружбакамі...

Але абменьвацца, як раней, пяшчотамі і ласкамі не выпала. Вечарам вярнуўся са службы бацька і адвёў каня да новых гаспадароў.

*1974*

## СУСТРЭЧА З МАРШАЛАМ

Як толькі Алёшка прыйшоў у свой трэці клас, ён адразу адчуў незвычайнае. Вучні гучна размаўлялі, і ніхто не вымаў з сумкі кніг. Галіна Андрэеўна абвясціла, што школа сёння пойдзе на плошчу: там будзе выступаць Маршал Савецкага Саюза — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Алёшка аж задрыжаў ад узбуджэння. Ён ведае гэтага маршала — чытаў у кнігах пра грамадзянскую вайну, дый партрэт ягоны змешчан у падручніку па гісторыі. І якое шчасце, што ён, Алёшка, убачыць на свае вочы такога выдатнага чалавека!

Пасля другога ўрока Галіна Андрэеўна загадала выходзіць на двор — там вучняў ужо ставілі ў калону.

— Дзяжурны астаецца ў класе,— сказала Галіна Андрэеўна, і Алёшка ў першую хвіліну проста анямеў. Ён зусім забыў, што сёння дзяжурыць і што перад пачаткам урокаў сам памыў анучку і выцер дошку.

Бачачы замяшанне хлопчыка, настаўніца хацела яму памагчы. Галіна Андрэеўна паважала Алёшку, бо ён добра паводзіў сябе і старанна вучыўся.

— Можа, ты, Каця, астанешся? — звярнулася яна да бялявай дзяўчынкі, якая сядзела побач з Алёшкам.— Ты прастудзілася, кашляеш, і доўга на вуліцы табе быць нельга. Алёшка заўтра за цябе падзяжурыць.

Каця ўткнулася тварам у парту і адразу заплакала. Алёшку зрабілася няёмка.

— Раз мая чарга, буду дзяжурыць,— сказаў ён і адышоўся да акна.

Ён стаяў, стараючыся не глядзець на шумлівую, галасістую калону, якая са сцягамі, транспарантамі ў хуткім часе

выбралася са школьнага двара. Двор быў пусты і нязвычна ціхі. Доўгімі радкамі стаялі голыя таполі, каля якіх кружкамі ляжала апалае жоўтае лісце.

Алёшка хутка супакоіўся. Яму нават стала прыемна ад думкі, што ён як бы служыць усяму класу. У партах ляжалі сумкі, партфелі, ранцы, і некаму трэба за іх адказваць.

Алёшка дастаў з парты кніжку, прымасціўся каля цёплай грубкі, пачаў чытаць. Так прайшло некалькі хвілін.

Раптам у калідоры пачуліся крокі, дзверы адчыніліся, і ў пакой зайшло некалькі чалавек. Наперадзе стаяў каржакаваты, немалады ўжо вайсковец. Яго твар падаўся Алёшку трохі знаёмым.

Вайсковец агледзеў клас, рудыя падцёкі на сценах, на столі, пабітую на дзіркі падлогу.

— Трэба новую школу будаваць,— сказаў ён, павярнуўшыся да старшыні сельсавета.

Яшчэ праз хвіліну вайсковец звярнуўся да Алёшкі:

— Чаму сядзіш адзін?

— Я дзяжурны. Школа пайшла маршала сустракаць.

— Я, брат, маршал і ёсць. Вось зайшоў паглядзець, якая ў вас школа. Сам некалі ў такой вучыўся.

У Алёшкі ад радасці перахапіла дыханне: будзе што расказаць хлопцам.

— Вучышся як? — спытаўся маршал.

— Чацвёркі толькі па пісьму і маляванні. А так пяцёркі.

— Малайчына. Старайся і надалей трымаць такі курс. Кніжкі любіш чытаць?

— Люблю. І яшчэ птушак умею лавіць. У мяне кожны дзень новая сініца.

Маршал зноў усміхнуўся:

— Вось гэта, брат, дарэмна. Птушкі любяць волю. Абяцай мне, што кінеш гэты занятак.

— Я іх і так выпускаю. Магу зусім не лавіць.

— Значыць, дамовіліся.

Маршал працягнуў Алёшку руку. Далонь у яго цвёрдая, пастава дужая, а твар звычайны, добразычлівы. Нават не верыцца, што маршалы могуць быць такія простыя.

*1974*

# СЯМІГОДКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

У той дзень на лугавіне каля вагавай будкі Іванчыкаў Піліп, круглы, як поклад, рухавы і ўвішны, вынюхаў уюноў. Цімоху загадаў ён бегчы па заступ, і Цімох пабег. Але пакуль Цімох вярнуўся назад з рыдлёўкай, чорную ліпкую гразь перасохлай лужыны шмаравалі рукамі ледзь не ўсе станцыйныя хлопцы. Ля замурзанага, з падкасанымі калашынамі Піліпа стаяла вядро, напалавіну закіданае ўюнамі — чорныя, слізкія, падобныя на вужоў, яны ўвесь час варушыліся і, здаецца, нават ледзь чутна папісквалі. Нават непрыемна было глядзець у вядро.

Пастаяўшы з хвіліну з недарэчнай, непатрэбнай нікому рыдлёўкай ля разгарачанай хлапечай талакі, Цімох рушыў прэч. Лезці ў лужыну было позна — уюноў палавілі. Цімоха душыла крыўда: навошта Піліп паслаў яго па заступ? Каб адаслаць падалей і самому гаспадарыць у лужыне?

Дома з-за нечаканых уюноў вынікла сварка між бацькам і маці. Яна б, можа, аціхла сама сабой, каб у двор не ўваліўся сцэпшчык Майсей з лазовай таптухай за плячамі.

— Пайшлі, Змітро, патупаем па Мядзвёдцы. Дзеці вунь ля самай станцыі ўюноў знайшлі. Можа, што-небудзь і нам трапіцца...

Бацька адмовіўся, і гэта падліло масла ў агонь.

— Некалі яму! — не тоячы злосці, сказала маці.— Як жа, у навуку кінуўся. Змоладу са школы ўцёк, дык цяпер даганяе. Дзеці свецяць голымі пузамі, а ён за кніжкі. Трэцяе лета ходзіць у тую школу. Якога злыдня выхадзіць?

— Змоўкні! — Бацька нават пабялеў.— Хоць бы сёння памаўчала. Заўтра можаш плявузгаць колькі захочацца. Даруй, Майсей. Другім разам я цябе сам пазаву.

Збянтэжаны сцэпшчык шуснуў за веснічкі.

Цімоху шкада бацькі. Сямігодка, якую ён канчае, і на школу не надта падобна. Стрэлачнікі, кандуктары, абходчыкі, якія ў ёй вучацца, ходзяць на заняткі толькі вясной і летам. Можа, таму, што настаўнікі, якія вучаць у звычайнай школе, у гэтую пару маюць больш вольнага часу. Дый праграма ў сямігодцы для дарослых вельмі скарочаная. Бацька ходзіць у сёмы клас, а Цімох скончыў шэсць, аднак па навуцы

ён ведае болей за бацьку. У бацькавым сёмым класе ўсё яшчэ топчуцца на простых і дзесятковых дробах. Ні пра якія алгебру, геаметрыю, хімію там і гаворкі няма. Акрамя арыфметыкі разбіраюць трохі гісторыю, геаграфію і пішуць дыктоўкі. Задачы па дробах памагае рашаць бацьку Цімох, а ў дыктантах, якія бацька піша самастойна на ўроках, ён робіць па шэсцьдзясят памылак. Бадай у кожным слове памылка.

Бацька ўзяў пад паху кніжкі, тоўсты агульны сшытак, заведзены для ўсіх прадметаў, і нахмураны, злосны пайшоў з двара.

У гэты момант усчаўся лямант на Іванчыкавым панадворку.

— Ладыруга пракляты, пустадомак! — крычыць цётка Праскева на ціхмянага, задуменнага Іванчыка.— У людзей бульба, дровы, сена, а ён толькі дзяцей напладзіў. Кніжкамі тваімі я гаршчок напхну? Каб не Піліп, дык хоць у пельку галавой. Сын у двор цягне, а бацька — з двара!..

У суседзяў вось гэткая музыка кожны раз, як толькі гаспадар выбіраецца ў школу. Цімоху незразумела, як толькі Іванчык можа ўсё гэта вытрымаць. Цётка Праскева крычыць не толькі ў хаце, на двары, а яшчэ выскаквае за мужам на вуліцу, не саромячыся людзей, пасылае яму праклёны ўслед. А Іванчык тым часам у сваім рудаватым лапсардаку, абуты ў лапці, сагнуўшыся, ціснучыся да парканаў, стараецца як мага хутчэй знікнуць з вачэй.

У Цімоха вострая цікавасць да ўсіх гэтых людзей, якія, маючы жонак, дзяцей, вялікі сямейны клопат, пайшлі вучыцца. Напачатку іх было намнога больш, але, відаць, сваркі і звягі зрабілі сваю справу. У пятым, а найбольш у шостым класах мужчыны паадсыпаліся, перастаўшы пад тым ці іншым прыклёпам наведваць школу. Сямігодку для дарослых канчаюць цяпер сем ці восем чалавек.

Дзіва няма — летняга часу шкода. Тыя, хто не ходзіць у школу, у вольныя ад дзяжурстваў, ад работы, ад службы на чыгунцы дні паспяваюць і сена карове накасіць, і лыка надраць, а калі выпадае халтурка, зарабіць на пагрузцы лішні рубель.

У Цімохавай сям'і сваркі не такія частыя, як у Іванчыкаў. Маці з бацькавай навукай збольшага мірыцца, толькі вось сёння, пад злую руку выгаворвае, што ён шукае лёгкага

хлеба. Бацька робіць стрэлачнікам, і які лёгкі хлеб яго чакае наперадзе, Цімох нават уявіць сабе не можа.

Незвычайнае здарылася вечарам. Праўдзівей кажучы, нічога асаблівага не здарылася. Проста прыйшоў павесялелы бацька, паставіў на стол бутэльку яблычнага віна і паклаў, асцярожна разгарнуўшы, надрукаваны на машынцы лісток паперы з пячаткай. Паперка — бацькаў атэстат. Па ўсіх прадметах бацькі «здавальняюча», і, аказваецца, не сямігодку за тры леты ён закончыў, а агульнаадукацыйныя курсы на базе пачатковай школы.

Настрой быў святочны, нават дзецям далі па чарачцы віна, а калі палеглі спаць, бацька з маці да паўночы прыцішана між сабой размаўлялі.

— На курсы дзяжурных па станцыі могуць паслаць,— сказаў бацька.— Начальнік яшчэ на тым тыдні рабіў намёкі.

Маці доўга маўчала.

— Я думаю, не трэба табе ехаць на курсы, Сцяпан. Пражывем без курсаў. Тут у нас агарод, пралёт, хата свая. А можа ж, і на чужой станцыі пасля курсаў прыйдзецца работаць.

— Можа, і на чужой.

— Жыць з чыстай капейкі... У нас сям'я, трое дзяцей.

— Нікуды я не паеду! — як бы нават нечаму ўзрадаваўшыся, выгукнуў бацька.— А за школу не крыўдуй, Ганна. Жыццё ў той бок ідзе, што трэба ў грамаце трохі кумекаць. Вунь у нас аўтаблакіроўку ўводзяць, дынама-машыну прывезлі. Сказана ясна — другая пяцігодка...

Цімох заснуў, не даслухаўшы да канца размовы, задаволены тым, што бацькава навука рэзруху ў сям'ю болей не прынясе і нікуды не прыйдзецца ехаць ад родных мясцін...

*1974*

# 1975

## ПТУШКІ ЛЮБЯЦЬ ВОЛЮ

Усе апошнія дні Алёшка ставіць пасткі на сініц. Пасткі вядома якія — знізу збітая з дошак невялікая скрыначка, зверху — такая ж накрыўка, а ўсярэдзіне жалабок, на які трэба насыпаць круп. У жалабку робіцца зазорчык, куды ўстаўляецца язычок, прывязаны ніткай да накрыўкі. Пастка стаіць на хляве. Птушкі бачаць крупы і лезуць іх дзяўбці. Але варта ім дзюбкай дакрануцца да жалабка, як язычок адскаквае і накрыўка зачыняецца.

Праўда, не ўсе птушкі даверлівыя. Найбольш паддаюцца на прынаду сініцы. Хітры верабей скача вакол пасткі, зазірае, скасавурыўшыся, унутр, ды лезці ў небяспечную скрынку не адважваецца. Алёшка толькі аднаго разу злавіў вераб'я. А ўчора трапіла ў пастку мышка. Нягледзячы на тое, што ў скрынцы было цёмна, яна з'ела ўсе крупы і, стуліўшыся ў куточку, спакойна пазірала на Алёшку сваім вочкам-бісерынкай, калі ён ледзь-ледзь прыўзняў накрыўку.

Сініц Алёшка выпускае. Яму проста прыемна патрымаць у руках далікатнае стварэнне, якое без нічыёй дапамогі ўмее лятаць і, апынуўшыся на волі, пачынае цінькаць яшчэ весялей. Толькі вельмі палохаюцца птушкі, калі Алёшка вымае іх з пасткі: іх маленькае сэрца б'ецца так часта, што, здаецца, вось-вось выскачыць з грудзей.

Алёшка і мыш выпусціў, хоць ведае, што мышы шкодныя. Яны точаць у зямлі норы, сцягваюць туды ўсялякае дабро.

Але Алёшкава пастка стаіць на самым вільчыку хлява, і калі мыш жыве ў страсе, у саломе, то ніякай асаблівай шкоды яна не робіць. Ну, можа, паточыць трохі сена, дык карова і такое з'есць.

Вяртаючыся са школы, Алёшка яшчэ з вуліцы бачыць, трапіла што ў пастку ці не. Калі накрыўка зачынена, ён нават у хату не забягае — лезе на хлеў.

Алёшка вельмі хацеў бы, каб птушкі прыжыліся. Ён карміў бы іх просам, мушкамі, чарвякамі. У Колі Юзафовіча, які жыве ў каменнай будцы каля чыгуначнага пераезда, ёсць два дзікія галубы-туркалікі. Іх яшчэ летам, калі яны былі ў стрэлках, прынёс з лесу старэйшы Колеў брат Янка. Ужо ў будцы галубы пакрыліся пер'ем, у іх выраслі крылы, яны навучыліся есці хлеб, бульбу, дзяўбці зярняты.

Калі Алёшка прыходзіць у будку да Колі, ён вачэй не можа адвесці ад шастка, на якім, распушыўшы веерам прыгожыя шэра-белыя хвасты, сядзяць туркалікі. Іншы раз яны лятаюць па хаце, садзяцца на палічку, на спінку ложка, на акно. І кот іх не чапае.

Але галубоў такой пасткай, якая ёсць у Алёшкі, не зловіш. У яе нават звычайная сарока не палезе.

Тым часам надышла позняя восень. З раніцы, калі Алёшка ідзе ў свой трэці клас, над ваколіцай-балачанкай вісіць густы туман, які напаўзае на агароды. Ужо і капусту ссеклі, і кароў не гоняць на пашу — яны адны, без пастуха вандруюць па пустых агародах.

Алёшка чакае зімы. Зімой ён будзе лавіць снегіроў. Ён ведае, як гэта рабіць: трэба падперці палачкай звычайнае карыта, пад яго насыпаць зярнят, а ад палачкі працягнуць шнурок у сенцы. Пазірай у шчыліну: як толькі снягір падлезе пад карыта, тузай за шнурок...

Нарэшце і першы снег выпаў. Прыбегшы са школы, Алёшка накідаў перад сенцамі трохі хлебных крошак, каб прынадзіць снегіроў, а сам узяўся віць з белых нітак шнурок. Шнурок трэба доўгі і непрыкметны, каб птушкі не адчулі небяспекі.

Якраз у гэты час у хату зайшоў дзядзька Пятро. Алёшка адразу кінуў свой занятак, бо дзядзька жыве далёка, у другім раёне, бывае ў іх рэдка і наогул Алёшка яго надта паважае.

— Што гэта ты рабіў? — нагаварыўшыся з бацькамі, спытаў дзядзька ў Алёшкі.

— Рыхтую пастку на снегіроў. Сягоння я ўжо аднаго бачыў.

— Навошта табе снегіры?

«Як навошта?» — Алёшка нават зніякавеў ад дзядзькавага пытання. Няўжо дзядзька Пятро, які так доўга вучыўся, а цяпер працуе галоўным аграномам у саўгасе, не разумее, што снегіры — вельмі прыгожыя птушкі, у іх чырвоныя грудкі, якія гараць нібы агонь. Патрымаць такую птушку ў руках — вялікая радасць. А як хлопцы будуць зайздросціць, калі Алёшку ўдасца злавіць снегіра!

Уголас Алёшка адказаў:

— Я люблю птушак. Лаўлю, а потым выпускаю.

Дзядзькаў твар спахмурнеў.

— Не бачу, брат, што любіш. Вось зловіш снегіра, выпусціш, а ён усё адно будзе баяцца людзей і на двор не прыляціць. Можа загінуць зімой ад бяскорміцы. А летам птушка — памочнік чалавеку. Яна знішчае шкодных жучкоў, чарвякоў, насякомых. Без птушак даўно б загінулі і лес, і поле...

Ад крыўды Алёшка ледзь не заплакаў.

— Дык ёсць жа людзі, якія трымаюць птушак у няволі,— сказаў ён.— У Колі лясныя галубы-туркалікі ў хаце жывуць, у Грышкі Краўца пеўчы шчыгол сядзіць у клетцы, і ніхто ім нічога не гаворыць. Я ж выпускаю птушак...

Дзядзька ўсміхнуўся:

— Ты правільна сказаў пра няволю. Але я прашу цябе — не палохай птушак, не лаві іх пасткамі. Пачакай, вясной я прыеду, прывязу свойскіх галубоў. Калі ты іх будзеш любіць, то яны цябе палюбяць таксама.

Алёшка з нецярпеннем чакаў вясны, а вясной дзядзька Пятро слова спраўдзіў — прывёз пару прыгожых галубоў-турманаў. Галубы жылі ў драўлянай скрынцы на гарышчы, вуркаталі, елі хлеб, бульбу, а на двор выляталі праз прарэзанае акенца.

Да восені, калі Алёшка пайшоў у чацвёрты клас, галубоў ужо было шэсць, яны вывеліся там жа, у драўлянай скрынцы, зрабіўшы з хварасцінак і пакулля ледзь прыкметнае гняздзечка.

Маладых галубоў Алёшка вучыў лятаць. Стоячы на гарышчы, ён выпускаў іх з рукі, і яны, распраўіўшы крылы, рабілі спачатку нясмелыя кругі над дваром, а потым усё вышэй і вышэй узнімаліся ў неба...

*1975*

## АСФАЛЬТ

Таполі па-летняму задуменныя, ціхія, сям-там на асфальце перона шасціць пад нагамі жаўтлявае скручанае лісце. Да восені далёка яшчэ, лісце падае ад гарачыні. Выпетраныя палыны, якія густа падняліся між жужалевых куч, на ўзбочыне пуцей, забіваюць гаркотай астатнія станцыйныя пахі.

Спякотна, млосна, хоць час надвячоркавы. У буфеце мужчыны п’юць піва. Жызнеўскі, як толькі з’явіўся на станцыі, па даўняй трывалай звычцы таксама памкнуўся туды, але, дайшоўшы да дзвярэй чакальнай залы, рашуча спыніўся. Ён злавіў сябе на адчуванні, што яму зусім не хочацца ў буфет. Гэта нечаканае адчуванне было як адкрыццё самога сябе, як выяўленне нейкіх патайных, глыбока схаваных сіл душы, якія, падсвядома збіраючыся, прыводзяць да зусім свядомых вынікаў.

Жызнеўскі, абагнуўшы рог вакзала, зайшоў у скверык, пад цень таполяў, прысеў на лаўцы. Ва ўсім, што ён толькі што адчуў, трэба было разабрацца. Але яму не ўдалося пабыць на адзіноце, бо аднекуль выплыў інжынер з «Сельгастэхнікі» Місінскі, похапкам абцёр насоўкай узмакрэлы азызлы твар, плюхнуўся побач, кінуўшы на лаўку туга напакаваны партфель.

— Едзеш куды? — нудна спытаў, як заўсёды гугнявячы.

— Група ад’язджае.

— Тыя, што шашу выбіраюць?

— Тыя самыя.

— Ну і як? Будзе што-небудзь?

— Будзе асфальт. Гладкі, як яйка. Прывязалі да мясцовасці.

Твар у Місінскага круглы, ацеслівы, нос загнуты кручком, але ўсё адно ёсць у выразе гэтага твару штосьці такое, што робіць яго падобным да трусінай мордачкі.

— Я не пра праекты пытаю,— цягне Місінскі.— Праектаў хапае. Грошы хто дае і фонды?

— Нафтахімбуд. Пятая частка — з абласнога бюджэту.

— З абласнога? — Інжынер загугнявіў больш звычайнага.— Сто гадоў будзеце пракладваць шашу на абласным бюджэце.

Жызнеўскі пачынаў злавацца.

— Заяц хваліцца не любіць! — з выклікам прамовіў ён.— Праз год паедзеш ва ўпраўленне па асфальце. Гэта абсалютна точна.

Місінскі з недаверам зірнуў на субяседніка.

— Скажы ты! Драўляных мастоў адрамантаваць не можаце, а тут — асфальт. Хоць пры чым тут вы? Бензінам запахла, таму даюць шашу.

У адпрасаванай беласнежнай сарочцы, пагойдваючы шырокімі круглымі плячамі, падышоў Зянчук, і Жызнеўскі ўпершыню зусім спакойна на яго зірнуў. Не было да начальніка пагрузачнай канторы ніякіх пачуццяў — ні добрых, ні дрэнных.

— Карасцялёва з Бабінавіч чакаю,— як бы скардзіцца Місінскі.— Дамовіліся сустрэцца на станцыі. І ў іх трактар стаў. Ні к чорту новы харкаўскі трактар. Восем узялі, і ўсе стаяць. У адным масла, у другім — шмасла. Сем нянек, а дзіця без носа...

— Чаму сем? — стоячы перад мужчынамі, падрыгваючы нагой, ляніва перапытвае Зянчук.

— Таму што матор робіць адзін завод, трактар збірае — другі. Няма на каго скардзіцца.

Зянчук раз-пораз кідае непрыкметныя позіркі на Жызнеўскага.

— Трэба каню ў зубы глядзець, як купляеш,— гаворыць ён.— Але ж вы не купцы-перакупшчыкі. Вам абы прадаць...

— Гаворыш глупства. Вот вязу партфель рэкламацый. Хто іх возьме?

Дзіўна, што знайшла Зіна ў Зенчуку, разглядваючы ў сваю чаргу начальніка пагрузачнай канторы, без ніякай узрушанасці думае Жызнеўскі. Нават як мужчына ён не надта. Чым яна магла ў ім захапіцца? Вядома, дастане, што захоча. Жонка павінна быць задаволена. Але што Зіне да гэтага?

— Пойдзем вып’ем піва, хлопцы,— раптам запрашае Зянчук.— Карасцялёў цябе, Місінскі, знойдзе і ў буфеце. Дый нікуды ён не паедзе. Хіба такі дурны, каб спадзявацца на вашу кантору? Сам адрамантуе трактар.

Мужчыны ідуць у буфет.

Яшчэ ніколі не было, каб Жызнеўскі, напаткаўшы Зенчука, адчуваў сябе так спакойна. На чалавека, які прынёс столькі згрызненняў, пакут, ён глядзіць зусім абыякава. Ні злосці на яго, ні якіх-небудзь іншых пачуццяў.

Калі яны ўтрох падыходзяць да буфетнай стойкі, Зіна чырванее. Заўсёды ў прысутнасці Зенчука яна чырванее. Жызнеўскі нават наперад можа сказаць, як будзе яна трымацца. Ёй нібы прыбавіцца рухавасці, звяртаючыся да каго-небудзь з наведвальнікаў, яна пачне жартаваць, сыпаць вострымі слоўцамі. І ніводнага позірку не кіне на Зенчука.

Нарэшце вызваліўся столік, і мужчыны селі за яго.

— У Бабінавічах трактар толькі месяц працаваў нармальна,— зноў цягне Місінскі.— Потым упаў ціск масла ў рухавіку. Знялі паддон картэра, думалі бог ведае што, а там у масляным насосе клапаны выкруціліся. Вось так збіраюць новую тэхніку. Цяп-ляп...

Жызнеўскі не слухае размовы. У Зіны з Зенчуком пачалося тры гады назад. Перамену ў паводзінах жонкі ён прыкмеціў адразу. Прыходзіла то ўзбуджаная, то разгубленая і прыціхлая, без ніякай прычыны магла ўсчаць лаянку, кінуцца ў слёзы. Дома была пераважна панылай. Затое на людзях, калі яму з ёй выпадала трапіць у кампанію, мянялася на вачах. Рабілася вогненна-ўзбуджанай, імкнулася прамаўляць тосты, зварачаць на сябе ўвагу. Да яго, мужа, таксама пачала ставіцца іначай. Як бы шкадавала яго. Зрэшты, сям’я трымаецца на Зіне. Цягае сумкі з прадуктамі, мые, шые, варыць. Ён толькі прыносіць зарплату...

— Кінь пра трактары,— перабівае Місінскага Зянчук.— Не веру, што ты пра іх толькі і думаеш. Проста ў камандзіроўку не хочаш. Я б сам не паехаў. Гарачыня, спякота, а там цягайся па кабінетах.

— Жніво зрываецца. Па галоўцы не пагладзяць.

— Будзе жыць ваша кантора. Калгасы самі выкручваюцца.

— Скажаш, і ўгнаенні ляжаць па нашай віне?

— Па вашай. Тэхнікі на прыколе ў вас болей, чым у калгасах. Ведаю, як сялу памагаеце. Абы грошы садраць...

Зіна нечым устрывожана. Раз-пораз кідае насцярожаныя позіркі на іх столік. Відаць, не можа зразумець, чаму ён сядзіць з Зенчуком. Можа, скандалу баіцца. Але скандалу не будзе. Яшчэ год назад ён сапраўды ледзь не вар’яцеў, уяўляючы, як Зянчук абдымае Зіну. Але тое сплыло. Ён цяпер нібы глядзіць на іх адносіны праз павелічальнае шкло пачуцця, якое нарэшце прыйшло і да яго. Ён сам палюбіў другую жанчыну, і свет перамяніўся. Тое, што здарылася, ён называў раней здрадай, пакутаваў, не спаў начамі, цяпер ведае другое слова — каханне. Зіна пакахала Зенчука. Іначай іх сувязь не цягнулася б так доўга. Выпадковыя сувязі доўга не трываюць...

— Ты праўду кажаш,— раптам падхопліваецца Місінскі.— Карасцялёў не прыйдзе, і навошта мне ехаць? Пайду здам білет.

Партфель Місінскі пакідае і, увішна ныраючы між столікаў, выбіраецца з буфета. Яны толькі ўдвух засталіся — ён і Зянчук. Гаварыць няма пра што, Зянчук і не збіраецца гаварыць. Ён барабаніць пальцамі па шкле бакала, аб чымсьці думае, і, гледзячы цяпер на яго твар зблізку, Жызнеўскі раптам бачыць на ім тое, чаго ніколі не бачыў раней. Па-свойму ён нават прыгожы, Зянчук. Фігурай не надта кідкі — тоўсты, прысадзісты,— але на твары як бы выраз дзіцячай наіўнасці, чысціні, летуценнасці. Штосьці іменна такое. І гэтая горкая складка каля губ.

Жызнеўскаму нават робіцца прыемна. У Зіны не такі дрэнны густ. Чалавек, якога яна палюбіла, багацейшы зместам, чым здаваўся на першы пагляд. Душа ў ім ёсць...

З’яўляецца Місінскі, садзіцца за столік, і аж трашчыць пад ім кволы — пластмасавая накрыўка, жалезныя ножкі — табурэцік.

— Здаў,— паведамляе, аддыхваючыся.— За той самы кошт. Давайце піць піва.

Жызнеўскі глядзіць на гадзіннік. Праз пятнаццаць хвілін прыбудзе цягнік, і тады ён выйдзе на перон. Каб лішне не пашкодзіць жанчыне, якая вылечыла ад пакут і хвароб. Яна не адна, яго жанчына, з ёй выязджаюць астатнія інжынеры,

якія праектавалі шашу, і стаяць з імі на пероне, перакідвацца нікчэмнымі словамі ён не хоча. Ён падыдзе да кампаніі ў апошні момант і сядзе разам у вагон...

Завітвае ў буфет жонка Зенчука: чарнявая, маўклівая, і, нібы не заўважыўшы мужа, адразу выходзіць. На адно імгненне ў Жызнеўскага мільгае думка, што Зіна, магчыма, пацягнулася да Зенчука з пачуцця саперніцтва. Жонка начальніка пагрузачнай канторы відавочна прыгажэйшая за Зіну, а жанчыны любяць перамагаць. Але нечаканая гэтая думка адразу сплывае, не выклікаўшы ніякага ўзрушэння. Зіна, яе каханак, яго жонка — нібы староннія для Жызнеўскага людзі, у справы якіх ён зусім не хоча ўмешвацца.

У горадзе, у філіяле інстытута, працуе яго жанчына, і яе з ім ужо звязвала нябачная, існуючая толькі ў праектах шаша, бо апошні год ён толькі ёй і займаўся, мала бываў дома, праводзячы дні і месяцы на трасе будучай дарогі. На сотай вярсце гэтай трасы ён сустрэў сваю жанчыну, і, што б там ні было далей, ён ёй удзячны, бо яна абудзіла ў ім прыспаныя сілы і жаданне жыць...

Зрэшты, не так многа трэба ў жыцці. Трэба, каб аб адным чалавеку клапаціўся другі і каб сэрцы гэтых двух біліся суладна. І каб было чэсна. Гэта самае галоўнае.

Прыбыў цягнік, і Жызнеўскі выскачыў на перон. Ён адразу заўважыў сінюю касынку, белы плашчык — жанчына трымала яго на левай руцэ, у правай — невялікі чамаданчык. Вагон, у які яна мусіла сесці, супыніўся якраз насупраць буфета.

*1975*

## КАКАВА ДЛЯ ПАПРАЎКІ ЗДАРОЎЯ

Свабода — гэта калі можаш рабіць што хочаш і тое, што робіш, не шкодзіць другім. Васіль па начах чытае. Другая палавіна іхняй хаты, чыстая і большая, здадзена пад кантору «Плодагародніна». Днём тут ляскаюць на лічыльніках бухгалтары, рахункаводы, вісіць густы тытунёвы дым, а вечарам Васілёва царства. Пабраўшы пад пахі папкі, бухгалтары а палове шостай знікаюць, маці мые падлогу,

дым вылятае праз фортачку, якую спецыяльна дзеля гэтага прарэзалі ў раме акна, і кантору займае Васіль. Тут ён нікому не замінае. Тром малодшым братам і сястры, якая пакуль што ляжыць у калысцы, кантора не патрэбна. Спаць на сталах не будзеш, і сям'я туліцца ў пярэднім пакойчыку.

Колькі сябе Васіль памятае, у іхняй хаце заўсёды жылі кватаранты, адчыняліся, зачыняліся дзверы, і жыццё сям'і было навідавоку. Ужо гады два, з таго часу, як мястэчка стала цэнтрам раёна, у іхняй хаце кантора. Так, можа, нават лепш. Кліенты валам валяць у «Плодагародніну» толькі ў канцы лета і восенню, калі калгасы здаюць нарыхтоўку — гуркі, памідоры, капусту, бульбу. Сезон канчаецца, і настае цішыня. Бухгалтары падбіваюць балансы, і толькі зрэдку які-небудзь рахункавод з калгаса завітае ў кантору, каб атрымаць квіток.

Кантора і грыбы нарыхтоўвае. Дзеля гэтага ў лясных вёсках у канцы лета пачынаюць дыміць грыбаварныя пункты. Наконт грыбоў кантора не надта мудрагеліць: увішным дзядзькам, якія згаджаюцца закупляць і варыць грыбы, выдаецца пад распіску пачак грошай, жалезны кацёл, па мяшку лаўровага лісту, чорнага, у гарошынках, перцу, вялікая бутля воцату і воз дубовых бочак. Восенню дзядзькі разлічваюцца з канторай гатовай прадукцыяй — прывозяць бочкі з грыбамі.

Але ад грыбоў неспакой. Бочачку ці дзве марынаваных крамяных баравічкоў начальнікі «Плодагародніны» ў вагон не грузяць, пакідаюць сабе на закусь, і пасля рабочага дня ў канторы наладжваюцца застоллі. Тады Васілю сюды ходу няма. Але пачастункі бываюць не так часта, і з гэтым, зрэшты, можна змірыцца.

Добра вечарам у канторы. Сям'я ўгаманілася, браты, наеўшыся бульбы, паляглі спаць, і толькі зрэдку падае голас з лазовай калыскі маленькая сястра. У канторы чатыры сталы, на кожным з іх добра запраўленая газай лямпа, і адну з гэтых лямп Васіль запальвае. За акном ноч, шастае цёмнымі галінамі яблыня ў палісадніку, па кутках паміж шафамі, у якіх стаяць састаўленыя ў рад канцылярскія папкі, згушчаюцца цені.

Васіль напачатку чытае газеты. Кантора іх выпісвае шмат. Восенню пачалася вялікая вайна: Германія напала на Польшчу, Англія і Францыя аб'явілі вайну Германіі, але тым часам на

еўрапейскіх франтах зацішша. Затое ў нас неспакой. Ужо месяц, як на Карэльскім перашыйку ідуць баявыя дзеянні, але відавочнага поспеху не відаць.

Васіль вучыцца ў сёмым класе, ён прачытаў многа кніг і цяпер начамі глытае адну за другою. У мястэчку тры бібліятэкі, у кожнай з іх Васіль запісаны, і яшчэ ёсць кнігі, якія ходзяць па руках,— такія ён таксама стараецца перахапіць.

Кнігі — цуд. Каб у Васіля спыталі, што з'яўляецца найбольшай радасцю ў жыцці, то нават не задумваючыся, ён адказаў бы — кнігі. Увесь свой вольны час ён разрахоўвае так, каб хутчэй застацца сам-насам са старым пашкамутаным томікам ці з новай кнігай, якая пахне яшчэ друкарскай фарбай. Няма большага шчасця, як неўпрыкмет перагортваць старонкі, поўніцца слодыччу ці горам бясконцых чалавечых гісторый, пра якія на іх апавядаецца. За свае пятнаццаць гадоў Васіль адзін раз быў у Маскве — бацька працуе стрэлачнікам, і яму даюць бясплатны чыгуначны білет, і яшчэ раз у Мінску — туды як выдатніка пасылала на экскурсію школа. Але каб прыйшлося, ён расказаў бы пра многія гарады, краіны і не толькі пра іх клімат, горы, рэкі, а яшчэ пра многае іншае. Васілю часам здаецца, што ён нават быў у Парыжы: столькі пра гэты горад напісана, што ён нібы ўвачавідкі бачыць, як гараць ліхтары на зацемненых вулачках, як стукаюць па бруку колы фіякраў і як на хаду, высунуўшы з-за фіранкі руку, таямнічая незнаёмка адважна кідае запіску свайму кавалеру.

Пакуль што яго Парыж пад грубкай. Перакінуўшы газеты, Васіль сцеле на падлозе бацькаву фуфайку — яна прыемна пахне газай, мазутам,— кладзе падушку, ставіць на маснічыну лямпу. Падлога трохі няроўная. У адным месцы гарбом уздыбілася дошка, яе рог муляе бок, але на такую дробязь Васіль не зважае. Ад таго, што лямпа стаіць на падлозе, у пакоі дзіўнае асвятленне: светла ўнізе, вялікі светлы кружок на стале і паўзмрок на астатнім прасцягу.

Прыхіліўшыся спіной да цёплай грубкі, Васіль чытае. Гадзінніка ў канторы няма, і ён звычайна прыпыняе свой занятак пасля таго, як прапяюць пеўні. Калі захопіцца, нават іх не чуе. Пяці-шасці гадзін, якія застаюцца для сну, яму дастаткова.

Час ад часу Васіль адкладвае кнігу ўбок, задумваецца. Думае пра living рознае, у залежнасці ад таго, пра што расказваецца ў кнізе. Там часта гаворыцца пра каханне, таму і гэтай тэмы ён у развагах сваіх не мінае.

Васілю толькі пятнаццаць гадоў, у канцы зімы пойдзе шаснаццаты, але ён ужо два разы быў закаханы. Ён ведае, якое гэта магутнае пачуццё, як цалкам, без астатку захоплівае яно, можна нават сказаць, паглынае чалавечую істоту. Цяпер Васіль вольны ад заляцанняў, усе дзяўчаты ў класе для яго аднолькавыя, а раней было не так.

Першы раз ён закахаўся ў пятым класе. Яго абранніцай стала Маня Сокал, вясёлая, гнуткая, як рабіна, з ледзь прыкметнымі вяснушкамі на прадаўгаватым твары. Цэлае лета Васіль трызніў ёй. Маня жыла ў другім канцы мястэчка, ён ні разу за час канікул яе не сустрэў, але не было дня, можа, нават гадзіны не было, каб ён яе не ўспомніў. Але ў пачатку новага навучальнага года Васіль убачыў, як адзін з аднакласнікаў падхапіў Маню на рукі, пасадзіў сабе на плечы і насіў па класе, а яна ў гэты час звонка, залівіста смяялася і нават нагамі ў паветры дрыгала. Зачараванасць як рукой зняло, Васіль наважыў, што з такой легкадумнай асобай звязвацца не варта, і з таго часу ніводнага прыязнага позірку ў Манін бок не кінуў.

У шостым класе ён захапіўся Аняй Ракіцкай. Ён сядзеў за самай пярэдняй партай, яна за наступнай, была ціхмяная, маўклівая і, можа, нават яшчэ прыгажэйшая за Маню — круглы тварык, шчокі з ямачкамі, зграбная, трохі паўнаватая пастава. Ён раз-пораз паварочваўся, кідаў якое-небудзь слова, і Аня чырванела. Вельмі прыгожа прабівалася чырвань на яе шчоках з ямачкамі. Ён яшчэ і як бы супернічаў з Аняй, бо яна таксама добра вучылася. Але аднойчы закрыла рукой чарніліцу, у якую ён хацеў памачыць пяро, і пачуццё пачало мізарнець. Які дурань стане захапляцца скнарай!..

Васіль цяпер пра дзяўчат не думае, пра сваё каханне ён ні Мані, ні Ані, вядома, не гаварыў, таму трохі звысоку глядзіць на любоўныя гісторыі, пра якія расказваецца ў кнігах. І ўсё-такі нечым яны хвалююць. Ён нібы прадчувае, што хутка сам уступіць у складаны, супярэчлівы, трывожны свет, які называецца жыццём.

На дварэ тым часам патрэсквае. Бярэцца на мароз. Грубка цёплая, Васіль шчыльней прыхінаецца да яе бока, яшчэ гадзіны дзве чытае, але пасля першых пеўняў адкладае кнігу, тушыць і адсоўвае трохі ўбок лямпу, каб у сне ненарокам не зачапіць.

Назаўтра ўсё было, як дагэтуль. Толькі ўсчаўся вялікі мароз. Сухі, бязветраны, ён усё адно зацінае дыханне, і каб Васіль, бегучы ў школу, не паціраў час ад часу нос і шчокі, дык напэўна б іх адмарозіў. Васіль вучыцца лёгка, добра і нават любіць хадзіць у школу. Пачынаючы з першага класа, яго нязменна выбіраюць старастам, а з таго часу, як усе пасталі піянерамі, яшчэ і старшынёй савета атрада. Ні на адной з гэтых пасад Васіль нічога асаблівага не робіць, не выкрывае гультаёў, лайдакоў, наадварот, калі яго просяць, ахвотна дае перапісаць са свайго сшытка гатовае рашэнне. Было два ці тры выпадкі, калі ўвесь клас не рашыў задачы. Прыйшоўшы ў школу, Васіль не стаў зацінацца, а яшчэ да пачатку ўрокаў вывеў рашэнне на дошцы. Можа, яго таму і старастам выбіраюць.

Выпрабаванні пачынаюцца пасля школы. У сям'і Васіль старэйшы, на яго плечы кладзецца большы клопат. З братоў яшчэ Міхась ходзіць у школу, у чацвёрты клас, астатнія — седуны, але ўсе разам ядуць дай Божа. Іншы раз трох буханак на дзень не хапае.

Як помніць сябе Васіль, ён пасля ўрокаў носіць з крамы хлеб і цішком цягае з дрывянога склада, са станцыі, плашкі. Гэта яго асноўныя абавязкі. Без хлеба і без дроў не пражывеш.

Прыйшоўшы з урокаў, Васіль сёрбае капусту, бярэ ў маці тры рублі і кіруе купляць хлеб. Раней ён любіў гэтыя вандроўкі. Колькі ўсяго перадумаеш, пакуль абыдзеш крамы, завітаеш па дарозе ў якую-небудзь з бібліятэк, каб абмяняць кнігу! Але пачалася вайна, спачатку вызваленне заходніх беларусаў і ўкраінцаў, затым фінская, і з хлебам стала тугавата. У кожнай краме натрапіш на чаргу.

Чэргаў Васіль не баіцца, яны прайшлі праз усё яго дзяцінства, усё, што ён на сабе носіць — паліто, чаравікі, штаны,— дасталося ў чарзе. Але на хлеб, цукар, селядцы чэргаў не было даўно, бадай, з таго далёкага часу, калі ён толькі падаўся ў школу. Цяпер за ўсім трэба выстаяць.

У цэнтральнай краме, вялізнай, як стадола, чарга не стаяла, але і хлеб, нават белы, па рубель семдзесят кілаграм, даўно прадалі. Васіль пашыбаваў у леспрамгасаўскі магазін. А мароз тым часам падціскае. Пранізліва рыпіць пад нагамі прамёрзлы, прыбіты, утоптаны снег. У левым чаравіку падэшва трохі адстала, і швы разышліся. Васіль, як умеў, прымацаваў падэшву дротам, швы сцягнуў суравымі ніткамі, а каб не было прыкметна, ніткі пафарбаваў чарнілам. Але нага ўсё адно мерзне. Ды і палітончык, перашыты з чорнага чыгуначнага шыняля, не надта грэе.

Можна было прыйсці ў адчай — у леспрамгасаўскім магазіне хлеб таксама прадалі. Не вельмі чакалі Васіля, пакуль ён адсядзіць шэсць урокаў. Вось жа гора. Лягчэй за ўсё вярнуцца з пустымі рукамі, сказаць, што хлеба няма. А што есці будуць? Маці, вядома, можа наварыць бульбы, як-небудзь павячэраюць. А як заўтра? З чым ён і Міхась пойдуць у школу?

Між тым хлеба няма і ў чыгуначнай краме, і ў сельпоўскім буданчыку, у якім стаіць за прылаўкам раскормленая, дзябёлая Ліда Чайкоўская. Буданчык гэты так і называюць — «Лідзін»,— так доўга Чайкоўская ў ім гандлюе.

Усюды, куды Васіль ні паткнуўся, прадаўцы ў адзін голас балабоняць: хлеба не будзе. На сённяшні дзень, маўляў, ліміт з’елі.

Ён не ведае, што рабіць. Другіх крам у мястэчку няма, ісці болей няма куды. Жанчыны лаюцца з прадаўцамі, але толк з гэтага невялікі.

Раптам Васілю цюкнула, што ёсць яшчэ станцыйны буфет і сталоўка. Хлеб там не прадаюць, але, можа, як-небудзь ён выкленчыць. Не проста ж будзе прасіць — за грошы.

У станцыйным буфеце густа вісіць махорачны дым. Стаіць чарга, тым, хто бярэ віно, гарэлку, буфетчыца дае па кавалачку дарагой каўбасы і не болей чым па дзвесце грамаў хлеба. Васілю ж трэба тры кілаграмы, спадзявацца, што злосная, нахмураная буфетчыца адпусціць яму паўтары буханкі, не прыходзіцца.

Васіль ідзе ў сталоўку. Нават ногі перасталі мерзнуць. Усе сілы душы цяпер скіраваны на тое, каб як-небудзь дастаць хлеба. Разлік у Васіля просты: сталоўка размешчана на

ўскраіне, цісне мароз і наўрад хто з местачкоўцаў пойдзе туды сёрбаць боршч. А хлеб тым часам застанецца.

Разлік не падвёў. Наведвальнікаў у сталоўцы няма, ёсць хлеб, бяры хоць тры буханкі, але не вельмі возьмеш, бо каштуе па два восемдзесят за кілаграм. Ён белы, пульхны, мяккі, як вата, і толькі аднойчы на Першае мая бацька прынёс булку такога хлеба.

Васіль вагаўся з паўгадзіны. Замест трох ён за свае грошы прынясе толькі кілаграм, дома яго праглынуць, як муху, і ніхто не наесца. Але падыходзілі ўзгарачаныя жанкі, якія ўведалі, што ў сталоўцы ёсць хлеб, бралі па буханцы, па дзве, і Васіль нарэшце наважыўся.

Пакуль Васіль дабег дамоў, хлеб зашэрх, змёрзся, як лядзяшык. Маці не дакарала Васіля, але ён сам адчуваў сябе вінаватым.

Калі дзень пачнецца няўдала, то няўдала і скончыцца. На дрывяным складзе ёсць вартаўнікі, але Васіль пра іх не вельмі думае. Прыцемкам ён падыходзіць да штабеля дроў, выбірае сярэднюю плашку, каб ільга было панесці, і, не надта асцерагаючыся, шыбуе ўзбоч чыгункі дадому. Ідзе чалавек, нясе на плячы палку дроў. Ну і што? Увесь канец іхняй вуліцы вось такім манерам паліць у печах. Коней ні ў кога няма, машыну не ноймеш — дарагая, а казна тым часам не збяднее. Можа, дваццаць ці трыццаць грузавікоў тралююць дровы з лесу, штодня некалькі вагонаў адпраўляюць у гарады, то неяк жа павінна жыць і мястэчка.

Пабойваецца Васіль аднаго Бозі. Гэты худы выпетраны стары пільнуе склады, склепы, забуртаваную бульбу «Плодагародніны», кантора якой размяшчаецца ў Васілёвай хаце. Але, відаць, леспрамгас яму таксама нешта прыплачвае, бо Бозя пільна сочыць за тымі, хто надвячоркам валачэ на плячы плашку. Дарослым яшчэ спускае, а падлеткам праходу няма.

У гэты надвячорак Васіль якраз і нарваўся на Бозю. Стары вынырнуў аднекуль з цемры і стаў перад Васілём як укопаны.

— Я табе вушы паабрываю, калі яшчэ раз злаўлю,— паабяцаў ён прарэзлівым, пісклівым голасам, усклаўшы Васілёву плашку на свой худы плячук.— Развялося паганцаў, бозя, мой бозя. Прадыху няма...

Бозя павалок плашку ў курэнь. Зімой і летам жыве ён у гэтым абкладзеным дзёрнам куранi, у якім пастаянна гарыць агонь і віецца з вузкай гарлавіны дым. Бозя варыць сабе страву ў закураным кацялку, ходзіць у даматканых штанах, кашулі, толькі накідваючы на плечы кажушок. Вартаўнік ён адменны.

Дрэнна страціць веру ў сябе. У наступныя дні мароз не спадаў, нават яшчэ больш узмацніўся, але колькі ні шастаў Васіль каля станцыйных штабялёў, мёрзнучы ў сваім палітончыку, яму не ўдалося прынесці ніводнай плашкі. Усюды мроіўся Бозя. Між тым тры метры дроў, выпісаныя канторай для апалу грубкі, зніклі на вачах. Дзіва няма: гэтымі дрывамі маці паліла і сваю печ.

З хлебам наладзілася: бачачы, што яго не хапае, чыгуначнікі свайго дамагліся. У іх ёсць пякарня, і хлеб ім цяпер завозяць у кандуктарскую, дзе і прадаюць. Пастаяўшы якую гадзіну ў чарзе, Васіль штодня шыбуе дадому з дзвюма буханкамі пад пахай.

З дрывамі ж — катастрофа. Усё драўлянае, без чаго можна абысціся — дошкі, якімі адгароджваўся закутак для цяляці, падпоркі з-пад яблынь, нават арэхавыя кійкі, наношаныя ім летам пад фасолю,— Васіль папілаваў, пакалоў, пасек, і цяпер, каб ён нават захацеў, няма за што зачапіць рукі. Не будзеш жа расцягваць на дровы хлеў ці хату?..

Адзін з тых марозных дзён выдаўся асабліва брыдкі. Зябнучы, дрыжучы, Васіль гадзіны тры дрыгляваў каля штабялёў, але Бозя пільна стаяў на варце. Плашку сцягнуць не ўдалося.

Васіль быў проста ў адчаі. Наступае вечар, барвавее заходні край неба — прыкмета, што ноччу мароз затрашчыць яшчэ большы,— а паліць у печы няма чым.

Васіль нарэшце ўспомніў: на ўзмежку суседняга агарода ляжыць вываратень — таполю паваліла ветрам, яе парэзалі на кавалкі, а корань застаўся. Васіль узяў пілу, паклікаў Міхася і рушыў на агарод. Яны адпілавалі рагі ад вываратня, і атрымаўся абярэмак дроў. Але што гэта былі за дровы! Успыхнулі, як салома, не даўшы ніякага цяпла, і ледзь-ледзь удалося зварыць на вячэру бульбы.

Добра, што добра канчаецца. Бозя, відаць, збрыдзеў не аднаму Васілю. Вуліца, населеная чыгуначнікамі, адчула, што праз Бозю зацiскаецца яе інтарэс, і на ўвішнага вартаўніка нехта напісаў заяву. Прыбыла камісія, факты пацвердзіліся. Бозя сапраўды паліў казённыя дровы не шкадуючы. Пад бульбоўнікам, за куранём, у яго знайшлі аж два метры плашак. Мабыць, і Васілёва ляжала ў той незаконнай паляніцы.

Вартаўніка звольнілі, усё стала на месца. Васіль цягаў плашкі, пілаваў, сек, а начамі, прыхінуўшыся да цёплай грубкі, чытаў. Хутка і дрывяны клопат паменшаў, бо кантора, зважаючы на вялікія маразы, выпісала яшчэ тры метры дроў.

Мінула вайна з белафінамі, надыходзіла вясна. З харчам па-ранейшаму тугавата, і Васіль за зіму парадкам падупаў. Можа, таму, што занадта пераборлівы ў ядзе. Зусім не есць паранай бульбы, кіслых буракоў, ячменнага крупніку. Калі такія стравы маці ставіць на стол, абыходзіцца шклянкай малака і кавалкам хлеба. Затое меншыя браты сякуць без разбору. Міхась нават печаную бульбу кладзе ў сумку, калі збіраецца ў школу.

Скончылася трэцяя, самая доўгая, надакучлівая чвэрць. Васіль прынёс у дзённіку адны пяцёркі, а ў Міхася «добра» толькі па трох прадметах: па фізкультуры, спевах і маляванню. Па астатніх — «дрэнна». Дзіўны Міхась: давучыўся да чацвёртага класа, а не ведае, што ёсць расклад заняткаў. Калі збіраецца ў школу, кладзе ў сумку ўсе падручнікі.

Бацьку і маці выклікалі на бацькоўскі сход. Яны ніколі на такія сходы не хадзілі, а цяпер раптам загарэліся. Можа, таму, што Васіль канчае сёмы клас, а гэта значыць, будзе мець няпоўную сярэднюю адукацыю.

Усё з-за сходу і пачалося. На ім вельмі ўжо ўзносіў Васіля сам дырэктар школы. Называў лепшым вучнем, гордасцю школы. Пахвала на ўсё мястэчка. Бацьку дырэктар прысароміў: маеш, маўляў, такога сына, а худы ён у цябе, змарнелы, кепска апрануты.

Справіць Васілю абновы бацькі не маглі, гэта было адкладзена на восень. А папраўляць здароўе ўзяліся адразу. Назаўтра бацька знарок схадзіў у краму і прынёс бляшанку какавы з наклееным на яе бліскучым ярлыком. Бляшанка была наканавана аднаму Васілю. У меншых шчокі і ад

бульбы трашчаць. Калі Васіль раніцай збіраўся ў школу, маці згатавала і падала яму поўны кубак цудадзейнага напітку, які мусіў адразу ўзняць яго здароўе. Але з якой зайздрасцю глядзелі на гэты кубак меншыя браты! Васілю аж няёмка было піць пад іх прагнымі позіркамі.

Але ў той жа дзень папраўка Васілёвага здароўя і скончылася. Міхась прыходзіў са школы раней Васіля. Выкарыстаўшы хвіліну, калі маці выйшла з хаты, ён дастаў бляшанку з бліскучым ярлыком з верхняй палічкі, падгаварыў меншых братоў, і ўтрох лыжкамі яны выбралі бляшанку амаль да дна. Нават вадой не запівалі — з’елі какаву сухую.

Зрэшты, прыгрэла сонца, надышла сапраўдная вясна, маці пачала варыць шчаўе. Можна было паправіцца і без какавы.

Калі пачалі зацвітаць яблыні, стала відаць, што палавіна іх памерзла. Так і стаялі яны голыя, чорныя сярод суцэльнай зеляніны, пакуль іх не ссеклі, знішчыўшы памятку аб халоднай суровай зіме.

*1975*

## ЛІСТОЎКІ СОРАК ПЕРШАГА ГОДА

Расцягнутым ланцужком разведчыкі сталі выходзіць на ўскраек сасонніку, маўкліва спыняючыся і аглядаючы раўніну, якая рассцілалася перад позіркам. Раніца ўбіралася ў сілу, наперабой шчабяталі птушкі, і было чуваць яшчэ, як пазвякваюць у рэчавых мяшках хлопцаў, што ідуць ззаду, запасныя аўтаматныя дыскі. Наперадзе ляжала вёска, справа, ахутанае туманам, віднелася люстэрка азярка, з левага боку, крыху наўзбоч, узвышаўся парослы сасоннікам пагорак. На пагорку, на самай седлавіне, стаяў аздоблены надбудоўкамі палац ці замак — такіх многа траплялася і ва Усходняй Прусіі і тут, у Памераніі.

— Драпанулі фрыцы,— сказаў малодшы лейтэнант Сінічкін, камандзір узвода пешай разведкі, разглядваючы карту.— Гэта хутчэй за ўсё Грунвальд. Пройдзем вёску і ўзбяромся на курган. Адтуль добры кругагляд.

Грунвальд нічым асаблівым не вызначаўся: крытыя чырвонай чарапіцай дамкі, замкнутыя на манер падковы двары з мураванымі хлявамі і стадоламі. Паўсюдна ў вёсках жыхароў амаль не заставалася: спецыяльныя воінскія каманды гналі перад сабой старых і малых.

На ўсялякі выпадак разведчыкі завіталі ў некалькі двароў. Малюнак знаёмы: рэзрух, расчыненыя насцеж дзверы жылых памяшканняў, вароты хлявоў, напакаваныя рознымі бэбахамі скрынкі, што не ўмясціліся на фуры. Ёсць многа іншага дабра, якое бежанцы не здолелі прыхапіць: у кладоўках і склепах шкляныя банкі са смажанай свінінай, курыным мясам, з рознымі ягадамі і нават цурубуллем лопуху, які немцы марынуюць; у ацэментаваных сховішчах-падвалах засталася бульба, а ў дамах, на верхніх паверхах, насыпанае проста на падлогу, ляжыць збожжа. Разведчыкам, што пастаянна адрываюцца ад кухні, асабліва клапаціцца пра харч у гэтым краі не выпадае. Усе ходзяць сытыя.

Разведчыкі прайшлі вёску наўсцяж, вярнуліся назад і сталі ўзбірацца на пагорак. Сям-там сярод соснаў стаяць бярэзнікі — покаўкі на іх пачынаюць праклёўвацца першай зелянінай. З таго боку, дзе азярко, даносіцца водгулле глухіх выбухаў.

З пагорка сапраўды выдатны кругагляд. Пароcлая лесам раўніна перарываецца прагаламі палёў, вёсачкамі, невялічкімі азёрамі, удалечыні відаць буйнейшае паселішча са стромкімі вежамі кірхі.

Да ўзвода прымацаваны сувязіст. Прысеўшы на кукішкі ля каробкі рацыі, ён пачынае звычайную малітву:

— «Рамашка», «Рамашка», я — «Фіялка». Як чуеш? Прыём...

Сінічкін тым часам падзывае да сябе памкамузвода Смірнова і старшага сяржанта Ульянку.

— Аглядзіце дом. Дый снедаць пара. Тут, мабыць, жыў нейкі памешчык.

Прозвішча Сінічкіна як нельга лепш пасуе да яго асобы. Ён нізкарослы, шчуплы і вельмі рухавы. Па характару абыходлівы, з разведчыкамі, у якіх часта мяняюцца камандзіры, сышоўся хутка, але ўсё адно надта любіць камандаваць. Нават там, дзе ясна ўсё без ніякага загаду.

Смірноў паблажліва ўсміхнуўся. Ён, як старажыл узвода, носіць на гімнасцёрцы дзве чырвоныя і жоўтую нашыўкі — за лёгкія і цяжкае раненні — у перапынках, калі раніла ці забівала камандзіра, сам камандаваў узводам, але заўсёды яму на змену прысылаюць малодшых лейтэнантаў і часцей за ўсё, як вось гэтага Сінічкіна, адразу з вучылішча.

Ульянка ва ўзводзе выконвае ролю перакладчыка. Ён ніштавата ведае нямецкую мову і з мінулай восені, калі ступілі на нямецкую зямлю, увогуле незаменны чалавек.

— Тут не памешчык жыў,— гаворыць Ульянка, як толькі разведчыкі наблізіліся да пафарбаванага ў жоўты колер будынка з рознымі мезанінчыкамі, што здаля нагадваў палац.— Вунь шыльда — гэта лясніцтва...

Лясніцтва, між тым, мае шырокі забрукаваны двор, стайню, гараж, іншыя гаспадарчыя службы. Дзверы ўсіх іх, як і ў вёсцы, расчынены насцеж. У гаражы, відаць, стаяла легкавая машына: на макраватым пяску між каменнямі бруку выразна праглядвае след гумавых шын.

— Ляснічы паехаў дакладваць Гітлеру абстаноўку,— жартуе Смірноў.— А мы паглядзім, як ён жыў. Можа, часам галадаў, небарака?

У ніжнім пакоі размяшчалася кантора лясніцтва. Тут стаяць тры сталы, на падлозе ў беспарадку валяюцца паперы, на сцяне пад партрэтам Герынга вісіць старамодны тэлефон з нікеляванымі званочкамі.

— Чаму ў ляснічага Герынг? — пытае Смірноў.

Ульянка ведае чаму: у лясах Усходняй Прусіі яны аднойчы наткнуліся на агароджаны запаведнік, які асабіста належаў Герынгу.

— Герынг у фашыстаў не толькі камандуе авіяцыяй. Ён яшчэ і галоўны ляснічы...

Смірноў прысвіснуў.

Па вузкай вінтавой лесвічцы разведчыкі падняліся на другі паверх. Тут асабістыя пакоі ляснічага: сталовая, гасціная, спальня. Усё некранутае, зіхаціць адмысловай чысцінёй. Мэбля дарагая, мабыць, з арэхавага дрэва і моранага дуба.

Раптам Смірноў усклікнуў:

— Ты паглядзі, якая птушка! Няйначай гітлераўскі ас!..

У гасцінай уся сцяна завешана павялічанымі фотаздымкамі, пастаўленымі пад шкло ў чорныя асадкі: высокі з вітымі пагонамі ваенны чын прышпільвае танкляваму, з вузкім тварам маёру жалезны крыж, гэты ж маёр у рамянях, шлёме стаіць перад самалётам, сядзіць у кабіне, назіраючы за прыборамі; ён разам з такімі, як сам, зняты на ўзлеску, перад замаскаванымі самалётамі. Нарэшце апошні здымак: маёр з жалезным крыжам між пятліцамі, з некалькімі іншымі крыжамі, рэгаліямі на мундзіры стаіць з пустым падцягнутым рукавом фрэнча.

— Бамбіў нашы гарады, сволач! — вылаяўся Смірноў, пагардліва азіраючы астатняе ўбранне пакоя.— Але дайграўся, руку адкусілі...

— Мабыць, гэта сам гаспадар,— выказаў здагадку Ульянка.— Без рукі не наваюеш, і Герынг даў яму месца ляснічага.

— Зараз праверым,— Смірноў падышоў да шафы, ірвануў дзверцы.

Здагадка адразу пацвердзілася. У шафе побач з касцюмам, паліто вісіць мундзір, той самы, што і на здымку,— з падшытым правым рукавом. І ўвогуле ні жаночай, ні дзіцячай вопраткі няма, акрамя цывільнага касцюма, паліто, скроеных, мабыць, на адну мерку. Яшчэ капялюш з жураўліным пяром ляжыць — такія носяць ляснічыя. Маёр, відаць, халасцяк ці, можа, сям'я жыве ў якім-небудзь іншым месцы.

Смірноў адразу страціў цікавасць да пакояў ляснічага.

— Пашуруй тут, можа, дакументы знойдзеш,— сказаў ён.— Я спушчуся ніжэй. Не можа быць, каб у аса не было далікатных трункаў.

Ульянка перайшоў у гасціную, высунуў шуфлядку стала. На вочы яму трапілася кардонная скрыначка, ён адчыніў яе і ўбачыў кучку сярэбраных манет — савецкіх рублёў і паўрублёвікаў чаканкі тысяча дзевяцьсот дваццаць чацвёртага года. Адзін толькі раз бацька падараваў Ульянку паўрублёвік, і ён панасіў яго ў кішэні дзень ці два, а далей трымаць не хапіла цярпення — купіў за грошы на кірмашы тры яблыкі. А рубля ніколі нават не бачыў — яны былі выпушчаны ў той год, калі ён толькі нарадзіўся, і да таго часу, як падрос,

разышліся. Фашыст, аднак, недзе на іх напароўся. Збіраў, відаць, серабро, каштоўныя рэчы, разбагацець разлічваў.

Ульянка стаў уважліва разглядаць рубель. На пярэднім баку герб, надпіс «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!». На другім баку малюнак: стаяць, абняўшыся, селянін і рабочы, удалечыні вымалёўваюцца абрысы нейкага завода з высокімі трубамі, а над усім гэтым узыходзіць сонца. Па каёмцы яшчэ выгравіраваны словы і лічбы: «Чистого серебра 12 грамм».

Пагаліўся фашыст на серабро. Нават не спалохаўся надпісу — закліку да пралетарыяў аб'яднацца.

Спусціўшыся ўніз, выбраўшыся з памяшкання на двор, Смірнова Ульянка не знайшоў — той, відаць, рушыў да разведчыкаў. З лесу даносіліся галасы і смех — сябры снедалі. Есці Ульянка не хацеў, адышоўшыся ад двара лясніцтва, прылёг між соснамі на верас.

І адразу перад вачамі ўзнікла на дзіва выразнае відовішча: ён ляжыць не ў нямецкім лесе, а ў сваім — беларускім, палескім — там такія ж, як тут, гонкія сосны, гэтак жа цвіце верас, застаючыся зялёным, некранутым, з крапінкамі леташняга цвету, да самай вясны.

Восенню сорак першага года, калі фашысты асталяваліся ў яго гарадку, Ульянка ад суму сыходзіў у лес і аднойчы на верасе ўбачыў чырвоныя лісткі. Іх савецкі лётчык кінуў для нямецкіх салдат. Ульянка і тады трохі ведаў нямецкую мову, з дапамогай слоўніка пераклаў тэкст.

У лістоўцы гаварылася, што нямецкія рабочыя і сяляне галадаюць, а ў самой Германіі нястача бензіну, вугалю, дні яе злічаны.

Ульянка нават усміхнуўся, успомніўшы пра тую даўнюю лістоўку. Чатыры гады спатрэбілася, рэкі крыві праліліся — перш чым савецкае войска дайшло да Германіі і ўбачыла, як тут усё ёсць. Не, з голаду фашысты, відаць, не памерлі б, склепы іхніх будынкаў і цяпер не такія пустыя.

Тады, калі савецкі лётчык кідаў лістоўкі, немцы стаялі пад Масквой, цяпер нашы акружаюць Берлін. Вайна, па ўсім відаць, хутка скончыцца, і калі ён, Ульянка, застанецца жывы, болей за ўсё на свеце ён жадае пахадзіць па родным лесе, паслухаць пошум сосна́ў, спевы птушак.

*1975*

# 1979

## ГРЫБНАЯ ЗЯМЛЯ

Вядома, краявід стаў другі, не падобны на той, што рассцілаўся перад вачамі, калі Станіслаў Іванавіч сам быў юнаком і, выбіраючыся па грыбы, выдыбаў па гэтай дарозе з кошыкам у руках і ножыкам-складанчыкам у кішэні. Усё мяняецца на свеце: краявіды, воблікі людзей, гаворка. Праўда, нешта ад ранейшага ўсё адно застаецца, бо калі б было не так, то парвалася б усялякая сувязь часоў.

Чыгунку ад поля аддзяляе зялёная ахоўная паласа, на якой высока падняліся бярозы, асіны, дубкі. Ды і само поле інакшае. Прасцяг яго намнога большы, чым раней, бо поле ўвабрала ў свае межы забалочаную нізіну, што прылягала да мястэчка з паўднёва-заходняга боку, былыя сядзібы хутаранцаў, ды, відаць, і лес пацясніла.

Некалі па правую руку ад прасёлкавай дарогі астраўком сярод роўнядзі поля выдзяляўся дубовы гаёк. Яны, дзятва, любілі сюды бегаць: з маладых дубкоў выразалі пруткі, з якіх гнулі дужкі для лукаў, ставілі сілкі на сініц, драздоў. Перад каменнай будкай абходчыка, дзе прасёлкавая дарога крута выгінаецца, дарогу з абодвух бакоў абступалі асіны, кусты крушыннiку і лазняку. Яшчэ, здаецца, пасля вайны раслі тут шапаткія асіны.

Нічога гэтага цяпер няма. Да самага далёкага лесу поле роўнае, як скаварадка: ні шкуматка лесу на ім, ні дрэўца.

Чыгуначных будак таксама няма. На іх месцы кучы цэглы і рознага друзу. Будкі пуцявых абходчыкаў пакінуты і

зруйнаваны нібыта на той падставе, што дзецям абходчыкаў было далёка хадзіць у школу.

Станіслаў Іванавіч гадоў трыццаць не жыве ў мястэчку, мае ў горадзе сям'ю — дзвюх дачок і сына — і не вельмі часта наязджае ў родны кут. На гэты раз ён прыехаў да старой маці разам з сынам, рослым, плячыстым падлеткам: вельмі хочацца Станіславу Іванавічу, каб сын хоць раз прайшоў тымі сцежкамі, па якіх у маладосці вандраваў ён сам.

Яны выйшлі позна: пра грыбы вялікай пагалоскі няма. Дзень сонечны, але не спякотны, сонца плыве ў млявай павалоцы рухомых аблачынак. У дзвюх ці трох мясцінах па полі шастаюць камбайны, падбіраючы познія аўсы.

Станіслаў Іванавіч хвалюецца, а сын Юра, пра якога гавораць, што ён як дзве кроплі вады падобен на бацьку, спакойны. У тым лесе, куды цяпер Станіслаў Іванавіч ідзе з сынам, ён збіраў грыбы даўно — калі быў, бадай, у тым узросце, у якім цяпер сын.

Яны звярнулі з дарогі, калі дайшлі да Чарнічнага бору. У гэты найбліжэйшы ад мястэчка лес Станіслаў Іванавіч не баяўся сягаць у самым раннім узросце. Пасвіў тут карову, збіраў ягады, ды і першыя, дзіцячыя яшчэ грыбы тут таксама вучыўся збіраць.

Толькі даўно няма Чарнічнага бору — ён прылягаў да чыгункі, і яго ў акупацыю высеклі фашысты. Ва ўспамінах Станіслава Іванавіча лес яго дзяцінства паўстае як прыгожы сон: кашлатыя хвоі ўперамешку з рэдкімі бярозамі, зарослы чарнічнікам сухадол, пачуццё прастору ў светлым, наскрозь пранізаным сонечнымі праменнямі бары.

Цяпер на месцы Чарнічнага бору паднялося густое чарналессе. Спляліся галінамі бярозы, асіны, ляшчыннік, крушыннік. Але ў тых жа абсягах паміж чыгункай і пясчаным з выбітымі, запоўненымі вадой каляінамі шляхам пралягае гэты новы лес, і Станіслаў Іванавіч, прадзіраючыся праз густыя зараслі, даволі ўпэўнена вядзе сына на сваё першае грыбовішча. Паміж Чарнічным борам і сцяной грабняку была зарослая травой палянка, на якой яны, дзятва, заўсёды ў грыбную пару вытупвалі па некалькі баравікоў.

Станіслаў Іванавіч хутчэй чуццём, чым свядомасцю, вызначыў, што палянка тая самая. Раней яе абступалі маладыя

дубкі, з боку мястэчка падпірала цёмная сцяна грабняку. Цяпер на месцы дубкоў густа разросся ляшчыннік, сям-там кустамі падняўся грабняк.

Не паспеў Станіслаў Іванавіч некалькі крокаў ступіць, як убачыў сямейку баравікоў — тры ці чатыры разам і наводдаль яшчэ некалькі.

Дзіва дзіўнае! Як бы зарослая, напаўзабытая грыбная палянка яго спецыяльна чакала.

— Грыбы! — крыкнуў ён сыну.— Баравікі. Я заўсёды на гэтым месцы знаходзіў...

У сына — уласны гонар: падышоў, зірнуў на бацькавы баравікі і зноў падалей ад бацькі стаў калясіць па паляне, пільна ўзіраючыся ў зарослы травой, закіданы лісцем дол.

Не растуць, як раней, наўзбоч палянкі маладыя дубкі, яе цяпер густа атуляе ляшчыннік, таму і баравікі цяпер тут іншыя. З цёмна-карычневымі каптурыкамі — такія заўсёды вытыркаюцца пад арэшынамі. Але сіла зямлі ранейшая: на невялікім лапіку сярод лесу, як сорак, а мо як і сто гадоў назад, прабіваюцца баравікі. Хоць, можа, і мяняецца іх парода.

З дзясятак баравікоў Станіслаў Іванавіч паклаў у кошык, бадай столькі забракаваў. Баравікі, якія растуць па ляшчынніку, заўсёды напалавіну чарвівыя.

Далей здарылася тое, што, відаць, мусіла здарыцца. Станіслаў Іванавіч прывёў сына на другі канец Чарнічнага бору, які некалі межаваў са светлым бярэзнікам. Зарослыя мохам, напаўзасыпаныя ляжалі там у пару дзяцінства і юнацтва Станіслава Іванавіча акопы грамадзянскай вайны. У акопах і вакол іх добра раслі баравікі, і яму на гэтым месцы заўсёды шэнціла.

Светлы бярэзнік на тым месцы расце і цяпер, але акопы інакшыя. Гэтыя, што зарастаюць цяпер, засталіся з часу Айчыннай вайны. У бярэзніку, мабыць, займала пазіцыі артылерыйская батарэя, бо паўсюдна ў лесе трапляюцца глыбокія квадратныя ямы.

У бярэзніку на дзіва пачало шэнціць сыну. Раз за разам падымае ён баравікі, паведамляючы аб гэтым бацьку. Станіслаў Іванавіч на першым часе шчаслівыя выгукі сына прымаў спакойна, потым, адчуўшы, што сын па ліку знойдзеных баравікоў пакінуў яго далёка ззаду, пачаў нервавацца. Што ж,

старасць мусіць саступіць маладосці, супакойваў сябе Станіслаў Іванавіч. Пачуцці аднак працівіліся. Па другі бок пясчанага шляху ў пару юнацтва Станіслава Іванавіча на многія вёрсты ўздоўж і ўшыркі цягнуліся маладыя, насаджаныя чалавечай рукой на сыпучым пяску сасоннікі. Калі Станіслаў Іванавіч падрос, стаў вучыцца ў старэйшых класах, ён не баяўся адысціся ад мястэчка на восем, а то і на дзесяць вёрст: блукаў тады вось па гэтых сасняках, верасах.

Цяпер тут бор. Намнога больш разлеглы, чым вынішчаны фашыстамі Чарнічны бор. Высока ўзняслі ў гэтым бары свае купчастыя шаты выносныя, прыгожыя меднастволыя сосны.

Як у харом уступіў Станіслаў Іванавіч у цудоўны незнаёмы бор, што вырас за час яго адсутнасці. Дол мясцінамі ўкрыты жорсткай травой, верасам, а на прагалах, між дрэвамі, ці па маладым сасонніку — белавата-наздраватым мохам.

Некалі, блукаючы вось па гэтых лясных абсягах, Станіслаў Іванавіч песціў мары аб будучыні. Многае не спраўдзілася з тых гарачых мар. Нібы кампенсуючы свае жыццёвыя страты, Станіслаў Іванавіч пачаў раз за разам знаходзіць баравікі. Гэта іменна баравыя грыбы: з медна-цёмным каптурыкам і крамянай акруглена-тоўстай ножкай. Такіх баравікоў у пару маладосці Станіслава Іванавіча тут не расло.

Станіслаў Іванавіч знаходзіць меднагаловыя баравікі найбольш па белаватых, сярэбраных імхах. Яны вытыркаюцца кучкамі па два-тры, пяць штук і відаць здалёк. Ніхто яшчэ не быў у гэтыя дні ў бары, таму прыгожыя баравікі шчаслівы грыбнік бярэ першы. А сыну ў бары наадварот не шанцуе. Ніводнага баравіка не падняў. Станіслаў Іванавіч радуецца, што можа параўняцца па ліку знойдзеных баравікоў з сынам, а магчыма, нават трохі перагоніць. Радуецца і нічога з сабой не можа зрабіць.

Зноў працінае Станіслава Іванавіча здагадка: грыбная зямля сваё даказвае. Лес, мяняючыся сам, мяняе пароду грыбоў, але грыбное месца грыбным застаецца.

Па дарозе дамоў Станіслаў Іванавіч загарэўся паказаць сыну дубы, да лёсу якіх меў у дзяцінстве некаторае дачыненне. У час канікулаў яны, школьнікі, каб набыць новыя штаны, сарочкі, выпраўляліся на заработкі ў лясніцтва. Вось там, за чыгункай, за балотцам рабілі прасвятленне дубкам.

Дубкі падняліся на градках, але ў росце іх абганялі бярозкі, асінкі, якія раслі побач, заглушаючы дубкі. Каб даць святло і жыццёвую прастору дубкам, астатнія дрэўцы належала высякаць. Колькі гадоў прайшло з таго часу? Лічы, ледзь не паўвека.

У Станіслава Іванавіча не раз узнікала жаданне паглядзець на дубкі, дзеля добрага росту якіх яны, дзятва, тры леты ўзапар церабілі асіны і бярозы, крушыны, іншыя дрэўцы.

Яны перайшлі чыгунку, перасохлае, вытаптанае скацінай балотца. Павінен ужо быць той жаданы дубовы гай. Вось дарога, якая ідзе поруч з чыгункай, балацянка, зусім зарослы травой ставок, у якім яны, дзятва, тады купаліся.

Але няма дубкоў. Замест іх на ўсім бачным прасторы разложыстыя асіны. Галаву трэба задраць, каб убачыць верх такога высокага дрэва. Камлі асін гладкія, прамыя, магутныя. І на ўсёй плошчы толькі два ці тры чэзлыя дубкі. Марна, значыць, прапала дзіцячая праца. Не пайшлі на гэтай зямлі ў рост дубы. На ёй наканавана расці вось гэтым прыгожым асінам, як па грыбных мясцінах — грыбам-баравікам.

*1979*

## МУЛЬМЕНКАЎ САД

У гэтым садзе для мяне
Яшчэ астаўся дрэваў шум
І лёгкі басаногі след
Далёкага юнацтва...

*Максім Танк*

### I

Цімафей Рыгоравіч прачнуўся, калі ў напаўзавешаным дзяружкай акне ледзь-ледзь пачало святлець: як заўсёды была чацвёртая гадзіна. Хацелася ўстаць, ціха пратэпаць босымі нагамі па гладкіх, вымытых маснічынах, прайсці на дыбачках кухню, асцярожна націснуўшы язычок клямкі, нячутна адчыніць дзверы і шуснуць у сенечкі. Там на нізкім

драўляным палку тры поўныя як вока вядры з вадой. Сястра звечара прыносіць.

Суш. Гарачыня за ноч трохі спадае, але вада ўсё адно траціць першапачатковую сцюдзёнасць. П'е ён яе з прыемнасцю. У горадзе такой вады няма. Гарадская, нават самая лепшая, пахне хлоркай, жалезам, і калі яна, як тут, ледзь-ледзь цеплаватая, то не даліўшы ў шклянку некалькі кропель канцэнтрату хлебнага квасу, ён яе не можа піць.

Вада ў сенечках з калодзежа, які размешчан на вуліцы пад старой разгалістай івай, метраў за пяцьдзясят наўскасяк ад хаты. Нагадвае яна сцюдзёную, крынічную ваду дзяцінства, смак якой Цімафей Рыгоравіч памятае ўсё жыццё.

Анюта спіць на кухні, і ён не хоча яе будзіць. Кожны раз, калі ён выходзіць у сенечкі, яна прачынаецца, хоць і робіць выгляд, што спіць. У пяць гадзін сястра сама ўскочыць, падоіць карову, разалье малако па гладышках, потым пабяжыць на службу, каб паспець да сямігадзіннага брэсцкага цягніка прывезці пошту на станцыю.

З таго часу як Цімафей Рыгоравіч пайшоў на пенсію, ён заўсёды абуджаецца ў чатыры гадзіны ці трохі пазней, гадзіны дзве не спіць, абдумваючы розныя падзеі свайго жыцця, дае ім ацэнку, іншы раз настолькі ўзрушваецца, што пад раніцу ледзь засынае. Няпраўда, што ў пенсіянераў бяздумнае, райскае жыццё. Якраз тады, калі Цімафей Рыгоравіч працаваў, думаць на вольныя тэмы бракавала часу, ён жыў вострым надзённым клопатам.

Адхінуўшы занавеску, у пакой зайшла Анюта. Яна ўжо паспела апрануцца.

— З Федзем ноччу прыпадак быў,— сказала як бы з дакорам.— «Скорую помач» вызывалі. Ледзь адкачалі яго. Вы ўчора многа выпілі?

— Бутэльку сухога. У буфеце на станцыі... Слабыя цяпер генералы пайшлі.

— Цімафей, Цімафей. Калі ўжо нап'ешся? Сам жа дыхаеш цяжка. Як той мех у кузні. Іншай ночы я баюся за цябе.

— Не бойся, Анюта. Сустрэліся ўчора з Федзем. Сорак гадоў не бачыліся. Ты, можа, забыла, што яго бацька таксама на хутарах жыў. Каторыя за лесам, бліжэй к сялу.

— Не забыла.

— Федзя і малады быў слабак. Я помню. З аблічча бледны, сухашчавы. Я ўчора сустрэў і не пазнаў. Генерал, а без формы. Падобен на хворага бухгалтара.

— Сам бачыў, што хворы. Нашто цягнуў піць?

— Не піў ён. Паўшклянкі сухога віна. Трэба было пагаварыць...

Анюта пайшла даіць карову. Цімафей Рыгоравіч пратэпаў у сенечкі, напіўся вады, выглянуў на двор. Сонца яшчэ не ўзышло, але дзень абяцае быць гарачым і млосным. Расы на мураве няма, на небе нерухома вісяць рэдкія аблачынкі. З такіх дождж не пойдзе. Каторы тыдзень сушыць. Ніводнага дажджу не было ні ў маі, ні ў чэрвені. А цяпер канец месяца. Трава на ўзгорках, узлобках жоўкне, высыхае, нібы ў канцы лета.

У ложку ён зноў думаў пра хутар, на якім прайшлі дзіцячыя і першыя юнацкія гады. Дзівосна прыгожым здаецца цяпер хутар: разлеглая лясная паляна сваім паўночным бокам упіралася ў чыгунку, цагляную будку, у якой жыў з сям'ёй абходчык. Паляну абступалі з заходняй стараны разлеглыя векавыя дубы, а таксама змешаны лес, у якім пераважалі выносныя бярозы і асіны. Была нават града цёмнага густога грабняку, якога сёння, бадай, не засталося зусім.

Як цяпер разумее Цімафей Рыгоравіч, бацька пасяліўся на лясным хутарцы не з-за нейкіх выгод. Асаблівых выгод, выключаючы тое, што можна было трымаць трох ці нават чатырох кароў, якім хапала корму, першымі шастаць у лес па грыбы, па ягады, на хутарцы не было. Зямлі мала, дый тая падзолістая, неўрадлівая, дабірацца да школы дзецям далёка: ад хутарца да мястэчка чатыры вярсты.

У першую германскую вайну бацька ў акопах наглытаўся газу, быў хваравіты, кашляў, і, мабыць, не ў апошнюю чаргу гэтым можна вытлумачыць, што ён пасяліўся на лясной паляне.

Яны, дзеці, над гэтым не задумваліся. Мелі змалку занятак: пасвілі свіней, кароў, зграбалі сена, якое касіў бацька, нарыхтоўвалі на зіму дровы, выбіраліся па ягады, грыбы, арэхі. Хутарэц не быў закінутым месцам: побач грымела чыгунка, мільгалі між дрэў доўгія ланцугі чырвоных таварных і зялёных пасажырскіх вагонаў, нараджаючы ў

душы парыванне зазірнуць за полаг тых невядомых даляў, куды кіруюць і імчаць цягнікі.

На паляне біла з-пад зямлі крынічка. Бацька выпрасіў у суседа-будачніка цэментовы круг, які астаўся лішнім пасля збудавання вымашчанага такімі кругамі калодзежа-прорвы, і агарадзіў ім крынічку.

Вада з крынічкі запаўняла круг, паціху пераліваючыся цераз край. Летам вада была сцюдзёная, аж зубы сцінала, а зімой як бы нават цяплейшая за ўсялякую іншую ваду.

Побач з крынічкай бацька выкапаў сажалку. Лясны хутарэц ніколі не абміналі людзі, якія па сваіх патрэбах зімой і летам прыходзілі ў лес. Найбольш, вядома, завітвалі летам, у спёку, каб напіцца сцюдзёнай вады.

Цімафей Рыгоравіч, варушачы прыемную для сябе даўніну, непрыкметна заснуў, а калі прачнуўся, Анюта, стараючыся не рабіць груку, поркалася ў сенечках.

— Што было з Федзем? — спытаў ён, беручы вядро і намерваючыся ісці ўмывацца.

— Сэрца бытта. «Скорая помач» прыязджала. Жара такая,— відаць, каб змякчыць ранейшую размову, сказала сястра.

— Усе мы хворыя. Пенсійны ўзрост. Патроху развінчваецца машына.

Двор густа зарос муравой. Толькі вузкая сцяжынка вядзе ад хлява да варот — карова пратаптала. Гадавалага парсючка сястра трымае ў тым жа хляве, у закуце.

Вядро і вялікую медную конаўку, зробленую, відаць, яшчэ вайной, Цімафей Рыгоравіч паставіў на траву і доўга плёскаў вадой па твары, шыі, грудзях. Дома, у горадзе, ён трохі займаецца зарадкай, прысядае, нагінаецца, але пры сястры рабіць гэта няёмка, і ўсе свае няхітрыя практыкаванні тут, на радзіме, ён замяняе воднымі працэдурамі.

— Накашу табе сена,— сказаў ён сястры, садзячыся за накрыты цыратай столік, які адначасова служыць шкапчыкам для посуду. Есці за такім столікам няёмка — няма куды схаваць калені.— Пяць дзён прагуляў, пара за дзела. У цябе каса ёсць?

— Не выдумляй, Цімафей. Нічога не накосіш.

— Накашу. Індывідуальныя каровы цяпер у пашане. З ляснічым я дамовіўся.

— З пошты вецце рэзаць паслалі. Пяць чалавек. У помач саўгасу.

— Ты ж тожа малако здаеш саўгасу?

— Здаю. З бітонамі кожнай раніцы па вуліцы ездзяць.

Анюта паставіла на стол яешню, збан малака. Густа носяцца над сталом мухі. Садзяцца на твар, рукі. Іх ніякім спосабам нельга выжыць з хаты: ні ліпучкі не памагаюць, ні зачыненыя вокны.

— Наліўкі вып'еш?

— Давай.

Сястра прынесла з сенечак запыленую бутлю з вішнёвай наліўкай. Абцерла хвартухом, паставіла на стол. Заткнута бутля папяровай затычкай, гарлавіна марляй абвязана.

— Мне тры месяцы да пенсіі,— у каторы раз сказала сястра.— Гарыць усё кругом. Пра сена думаць баялася.

— Каровы не хочаш збываць?

— Не хачу. Пайду на пенсію, за што тады рукі зачаплю?

Сястра зняла марлю, выняла з бутлі затычку.

— Выпі, Цімафей. Я сюды толькі чацвяртушку ўліла. Лічы — сок адзін.

Ён зірнуў на Анюту з павагай. Жыве, як цяпер лічыцца, у горадзе, тым часам карову трымае. Учэпістая. Усе ў іх сям'і ўчэпістыя. За выключэннем яго самога. Ён трохі ветрагон. Пры пасадах, якія займаў, мог мець раскошную кватэру, дачу, яшчэ сёе-тое. Машыны, гаражы ёсць у абедзвюх замужніх сясцёр, якія, як і ён, жывуць у Мінску. У яго няма і не было ніколі.

Ён выпіў шклянку ліпучай саладкаватай наліўкі, стаў закусваць.

— Чаму ты пра сена ўспомніў?

Ён зірнуў на Анюту. Значыць, ёй хутка пяцьдзясят пяць. З выгляду яшчэ ніштаватая. Паўнацелая, дужая, і сівізны ў валасах амаль няма. Калі яны з братам ад'язджалі на вучобу, была рухавым, танклявым падлеткам, гучней астатніх сясцёр плакала. Як бы не спадзявалася братоў болей пабачыць. Максім у вайну загінуў. Перад вайной яны прыязджалі ў мястэчка два ці тры разы. Апошні раз у гэтую самую хату,

якую ўжо без бацькі маці і сёстры з хутара перавезлі на гэты пляц. Ссяленне хутароў, здаецца, пачалося ў трыццаць восьмым годзе ці трыццаць дзявятым.

— Я курыць кінуў,— сказаў ён Анюце.— Два гады таму. Адразу як пайшоў на пенсію. Каб была свежая галава. Дый п’яніцай не стаў, хоць, сама ведаеш, выпіваў. Я лічу — правільна пражыў. Нічога такога не шукаў. Працаваў, дыхаў паветрам, спаў. Дзяцей у людзі вывеў. Жонку ніколі не крыўдзіў. Сама б нам пажыць з ёй цяпер. Пасля таго як памерла Надзя, стаў задумвацца. Можа, ад адзіноты. Маладыя гады стаў успамінаць. Як мы на хутары жылі. Можа, таму сена накасіць табе захацеў. Хачу пажыць так, як мы некалі жылі. Ты хоць хутар помніш?

— Чаму не. Шаснаццаць гадоў мне было, як сюды перабраліся.

— Каса ёсць у цябе? — зноў спытаў ён.

— Маёй касой не накосіш. Я ёй крапіву каля плота збіваю. У дзядзькі Сцяпана касу папросім.

Сястра раптам заспяшалася.

— Прыбярэш сам са стала. Я пабягу. Трэба пошту прыгатовіць дванаццацічасоваму. Да дзядзькі Сцяпана заскочу, папрашу яго. Не ўсё так проста. Касу трэба адкляпаць, навесці. Ды ў чаравіках касіць не пойдзеш. Лапці трэба. Ты, мабыць, забыў, як лапці абуваюць?

— Не забыў,— няўпэўнена адказаў ён.

— Сам не сплацеш?

— Не спляту.

— Вось бачыш. Усё даставаць трэба. Лапці, касу, мянташку. Дый шчэ ці ёсць дзе тая трава. Бачыш, як сушыць.

— Ёсць трава. Ляснічы выдзеліў. Не наш — макаўскі. Чула, можа, пад Салахом. Быў такі Салах, тожа жыў на хутары.

— Уга,— сказала сястра.— Гэта вёрст восем. Як ты туды дойдзеш?

— Ляснічы падвязе. Жыве тут, робіць у Макаве. На матацыкле ездзіць. Ад Макава да сенакосу вярсты тры.

## II

Касу, мянташку, брусок прынёс дзядзька Сцяпан. Пры сваім высокім росце ён трохі прыгнуты, і не скажаш, колькі за яго ссутуленымі плячамі прашумела гадоў — семдзесят ці восемдзесят: ссечаны суцэльнымі маршчынамі вузкі твар, выцвілыя васільковыя вочы, няпэўнага колеру, попельна-шэрыя валасы не даюць падстаў для дакладнага вызначэння ўзросту.

— Пастарэў ты, Цімафей,— сказаў дзядзька.— Пенсіянер, значыцца. А я за твайго бацьку ўсяго гадоў на дзесяць маладзей.

Гарачыня нясцерпная, жарам дыхае, як з печы, і дзядзька з пляменнікам выходзяць з двара, прымошчваюцца на лавачцы. Тут трохі цень — ад хаты, паркана, разлапістай таполі, якая расце ў гародчыку. Дзядзьку Цімафей Рыгоравіч ведае не так добра: за ўсё жыццё разы два ці тры на хаду перакінуўся некалькімі словамі. Лепш уяўляе ягоных унукаў і, можа, праўнукаў: да апошняга часу з вуснай рэкамендацыяй дзядзькі Сцяпана яны заяўляліся ў Мінск, здаючы экзамены ў тэхнікумы, інстытуты, жылі ў яго на кватэры, сталаваліся, а тых, што экзамены правалілі, ён уладкоўваў з цягам часу на працу і ў розныя рабочыя інтэрнаты.

— Пры маёй памяці такога не было,— гаворыць дзядзька.— Каб з самай вясны так пякло. Але на балоце і ў лесе травы знайсці можна. Пры такой жары па нізкім яна сама расце. Табе дзе ўчастак выдзелілі?

— Пад Салахом. У Макавіцкім лясніцтве.

— Там ёсць балота. Асака, дзічка. Даўно я там не быў.

Вуліца бязлюдная: усё жывое схавалася ў які-небудзь цень, сланечнікі ў гародчыку насупраць павесілі галовы, неяк бездапаможна апусцілі разлапістае лісце. У млявай гарачыні расплываюцца гукі, якія даносяцца з майстэрні перасоўна-механізаванай калоны — яна размешчана на суседняй вуліцы, ля самых могілак,— удары молата, вурчанне матораў.

— Адзін жывеш? — пытае дзядзька.

— Адзін.

— Пераязджай сюды. Хопіць Анюце гараваць. Тожа адна душой жыве. У нас тут добра.

— Баюся — не прывыкну.

— Што тут прывыкаць? Вот жа захацелася пакасіць...

— Глуха ў вас тут. Я не так прывык жыць.

— Глуха? — дзядзька аж прыўзняўся ад здзіўлення.— Тут столькі ўсяго настроілі, што хутка дыхаць не будзе чым. Болей строіць не трэба. Не, не трэба!.. Пошасць стала разводзіцца. Хіба ты не чуў?..

— Што я павінен быў чуць?

— Хлопцаў двух, родных братоў, нейкі прахадзімец зарэзаў. Нібыта ўтрох да адной каханкі хадзілі. Не падзялілі яе. Аднаму было за сямнаццаць, другому — дваццаць гадоў. Як цяпер той матцы пераджыць?

— Хіба раней такога не было?

— Было, ды не такое. Не гавары, Цімафей. Народу ўсялякага наплыло. Як бытта ў Мінску ці Гомелі ён тунеядзец, а тут святым зробіцца. Вот і пайшло. Летась папова нявестка мужыка собсцвеннага зарэзала. Нібыта са свёкрам, з папом, зляглася. Толькі сем гадоў сцерве далі. Кажуць, поп грошай на кніжку налажыў. Глядзі, што хутка з'явіцца, адкупіцца. Другая тожа з любоўнікам знюхалася, павязла мужыка на курорт і ў моры ўтапіла...

Цімафей Рыгоравіч чуў ад сястры пра гэтыя і іншыя прыкрыя гісторыі, якія здарыліся ў мястэчку, якое цяпер называецца горадам, і сам для сябе вытлумачваў іх зусім іншымі, чым дзядзька, прычынамі. У прыватнасці, застоем. Насельніцтва ў мястэчку немалое, некалькі тысяч, а прадпрыемствы па пальцах пералічыш. Перасоўна-механізаваная калона, невялікая мэблевая фабрыка, цагельны завод і заводзік сухога малака, на якім усяго трыццаць рабочых. Найбуйнейшая прамысловая ўстанова, як і ў часы яго маладосці, чыгуначная станцыя.

Дзядзька, уволю нагаварыўшыся, наскардзіўшыся, пакіраваў дадому. У Цімафея Рыгоравіча вольнага паўдня, і варта праведаць Федзю Хлябцэвіча, адстаўнога генерала, якога ён учора падбіў выпіць дзеля сустрэчы шклянку віна.

Хата Хлябцэвічаў — на галоўнай, Савецкай, вуліцы. Яна, бадай, такая, якой была сорак гадоў назад. Можа, нават горш, чым раней, выглядае, бо праезджая частка вуліцы заасфальтавана, паднялася вышэй, а драўляныя, вясковага

выгляду хаціны глыбей убіліся ў зямлю, прыселі. Не ратуюць становішча сям-там пафарбаваныя аканіцы, парканы.

На гэтай вуліцы жыве пераважна састарэлы калгасны люд, які цяпер атрымлівае саўгасную пенсію. Захутаныя ў хусткі, цёплыя жакеткі, бабулі вечарамі сядзяць на лавачках, не зважаючы на трэск матацыклаў, гул машын, праводзяць зацікаўленымі позіркамі кожнага, хто пройдзе па вуліцы. Стары вясковы звычай.

Дворык Хлябцэвічаў густа зарос муравой. Перад домам сад — старыя, разгалістыя яблыні, якія зусім засланілі будыніну, такія ж высокія дрэвы падняліся па агародчыку, размешчаным усцяж двара. Паміж хатай і хлеўчыкам — маліннік. Яшчэ адна новая прыкмета паселішча: безліч садоў, зеляніны.

Федзя танклявай паставай, худым тварам, усім знешнім сваім выглядам зусім непадобны да генерала. Таксама прыехаў да сястры — бацька, маці памерлі. Памяшканне адстаўны генерал абсталяваў сабе ў хлеўчыку: паставіў раскладушку, дзве табурэткі, дол заслаў саломай і нават электрычнасць правёў у хлеўчык — каб вечарамі чытаць. Ён спаў і адразу прахапіўся, як толькі Цімафей Рыгоравіч завітаў да яго. Твар бледны, змізарнелы, цёмныя кругі пад вачамі.

— Ну, як ты? — замест прывітання спытаў Цімафей Рыгоравіч.— Што-небудзь сур'ёзнае?

— Для мяне — дзела прывычнае. Не першы раз. Сястра паніку падняла. Ад гарачыні цяжка дыхаць.

Цімафей Рыгоравіч прысеў на табурэтку. У хлеўчыку адносная прахалода. Каровы, свінчаці даўно ў ім няма. Нават дух іхні выветрыўся. І куры на двары не сакочуць.

— У цябе кватэра ў Маскве? — спытаў Цімафей Рыгоравіч.

— У Маскве.

— Дзеці жывуць асобна?

— Асобна.

— Давай пераедзем сюды,— паўтарыў словы дзядзькі Цімафей Рыгоравіч.— Сорак гадоў лавілі вецер на чужым полі. Я цяпер, калі не спіцца, успамінаю наш хутар. Мы ж з табой абодва сярод лесу выраслі. Столькі гарадоў бачыў, розных другіх мясцін, а сняцца лес, наша хата на Кротавай паляне. Якой няма даўно. У трыццаць пятым я паехаў адсюль, васямнаццаць было.

Федзя падняўся з раскладушкі, усунуў тонкія, абцягнутыя спартыўнымі штанамі ногі ў тапачкі.

— І мне сніцца наш двор і вуліца. Гэта ўсё ў нас ад старасці. Толькі не прыжывёмся мы тут. Адрэзаныя кавалкі. Прывыклі да другога рытму. Я, як пайшоў у запас, трэці раз сюды прыязджаю. Перабіраю ў думках мінулае — яно мне святым здаецца, ірвуся, як кажуць, у краіну дзяцінства, а прыеду — сумна. Больш тыдня не вытрымліваю. Можа, таму, што няма чым рукі заняць.

— Я вот касіць пайду,— сказаў Цімафей Рыгоравіч.— Рашыў сестрыной карове сена накасіць. Пайшлі са мной.

— Слабы я касец.

— Мульменкаў сад не памятаеш? — нечакана для сябе спытаў Цімафей Рыгоравіч.

— Не памятаю.

— Ты калі з мястэчка паехаў?

— У трыццаць дзявятым.

— Ну і не будзеш памятаць. Ты ж з іншай эпохі...

— З той самай эпохі,— сказаў Федзя.— Падумаеш — розніца чатыры гады. Сёння ідзе той жа працэс, што і сорак, пяцьдзясят гадоў назад. Моладзь ірвецца ў гарады, шукае цікавай работы. Каб аж вецер у вушах свістаў. Такая запанавала філасофія жыцця, і нічога не папішаш. Чалавек хоча пабольш прыемнага ад жыцця палучыць...

— Сапраўды нічога не папішаш, калі так гаворыць генерал. Ты кім вайну скончыў?

— Падпалкоўнікам. Камандзірам асобнага палка сувязі.

— Ясна. Да вайны паспеў скончыць дзесяцігодку, нармальнае ваеннае вучылішча, пасля вайны — акадэмію.

— Так точна.

— У мяне, брат, таксама магла быць такая кар’ера. Класавая барацьба перашкодзіла. Мы з братам Максімам — ён у вайну загінуў — у трыццаць пятым падаліся ў Ленінград, у Ваенна-транспартную акадэмію. Галоўным чынам з-за таго, што там вучылі на казённы кошт. Перад гэтым праявілі сябе як актывісты на мясцовай арэне. Сельсавет даў накіраванне. Паступілі, сталі вучыцца. Але адзін вельмі пільны чалавек напісаў у акадэмію, што мы дзеці кулака, хутаранца. І хоць сельсавет адразу прыслаў абвяржэнне, нас на ўсякі выпадак з

акадэміі адлічылі. Хутароў тады яшчэ не ссялілі. Добра, што сярод выкладчыкаў знайшлася добрая душа, стары, цывільны прафесар. Дапамог нам з братам перавесціся ў політэхнічны інстытут...

— Ясна,— сказаў Федзя.— Ты на вайне кім быў?

— Камандаваў сапёрнай ротай. Капітан. Вышэй чынам не падняўся.

— Іван Пракопавіч з вамі вучыўся?

— Са мной. На клас ніжэй ішоў. Яму дзесяцігодку прыйшлося канчаць.

— Дэмабілізаваўся,— паведаміў Федзя.— У чыне палкоўніка. Пусціў карэнне пад Масквой. Я з ім іншы раз сустракаюся. Успамінаем наша мястэчка. Нікога з хлопцаў больш не засталося. Хоць я хлушу — ёсць яшчэ адзін. Сцепанюк Мікалай. Нават, як мы з вамі, хутаранец. Нашы хаты побач стаялі. Па гэты бок лесу, бліжэй да мястэчка. Мы разам у ваенныя вучылішчы паступалі. Ведаеце Сцепанюка Мікалая?

— Здаецца, ведаю. Белагаловы такі хлопец. Маўклівы.

— Вялікі дзівак ён. У вайну быў лётчыкам, ордэн Чырвонага Сцяга палучыў. Пасля вайны па рапарту дэмабілізаваўся. Паступіў на станцыю стрэлачнікам. Колькі я яму ні пісаў, ні разу не адказаў. Адзін раз, прыехаўшы сюды, я яго сустрэў на станцыі. Хацеў пагаварыць. Пра школу, таварышаў. З нашага выпуску я ды ён жывыя засталіся. Але ён гаварыць не захацеў. Прамармытаў нешта і пайшоў ад мяне. Калі я ад'язджаў, памог узяць білет без чаргі. Кажуць, цяпер ён служыць лесніком...

Федзя раптам зморшчыўся, дастаўшы з каробачкі, тарапліва глынуў зялёную пілюлю, запіў вадой. Здароўе ў яго неважнецкае.

## III

Назаўтра Цімафей Рыгоравіч устаў рана — разам з сястрой. Не простай справай было сабрацца на сенажаць. Па-першае, што апрануць? Касцюм, у якім прыехаў да сястры, ношаны мала, прыстойны. Ірваць па кустах і мачыць у балоце — шкода.

Пакорпаўшыся ў кладоўцы, Анюта прынесла выцвілыя, з плямамі плесені, у шахматную клетку штаны, якія ён сам пакінуў гадоў дзесяць назад, калі прыязджаў у мястэчка яшчэ разам з жонкай і выбіраўся па грыбы. Але сястра, мабыць, уявіўшы, як у такіх штанах ён будзе ісці па вуліцы, забараніла іх надзяваць.

Анюта збегала да дзядзькі, прынесла лапці, штаны, сарочку, нарвала з крамнай старызныануч і запакавала ўсё гэта ў сумку. Цімафей Рыгоравіч мусіў пераабувацца, пераапранацца ў лесе, дзе ніхто яго ў паношаных, залатаных уборах, лапцях не ўбачыць.

На нізе сумкі, загорнуты ў цэлафанавую плёнку, ляжыць полудзень — кавалак сала, хлеб, дзве зялёныя цыбуліны і асобна — бутэлька малака. Як у далёкія часы маладосці.

У сенечках на круку вісіць стары саламяны капялюш, і Цімафей Рыгоравіч надзявае яго. Не так будзе пячы сонца галаву.

З касой за плячамі, саламяным капелюшом на галаве брыдзе Цімафей Рыгоравіч праз усё мястэчка. Ківае галавой пажылым жанчынам, якія выганяюць кароў — некаторых пазнае, з некаторымі вітаецца дзеля ветлівасці.

Сонца ўзыходзіць, падымаецца ў сінечы неба, толькі зрэдку адзначанай нерухомымі аблачынкамі. Як і ўчарашні, пазаўчарашні, дзень абяцае быць гарачым. Над вуліцай вісіць пыл — па абодва бакі замошчанай часткі вуліцы ідзе статак. Узаб’ецца карова на асфальт, растапырваючы капыты, нібы коўзаючыся, пройдзе два-тры крокі і стараецца хутчэй сігануць на пыльную, мяккую ўзбочыну.

У сем гадзін касец на пераездзе. Ляснічы мусіць ехаць на матацыкле ў свой Макаў і прыхапіць яго. Цімафей Рыгоравіч агледзеўся. Даўно ён не быў на гэтым пераездзе. Памятаў яго з белымі каменнымі слупкамі, плямістымі балясінамі, шлагбаумам, дзвюма будкамі, з якіх адна была складзена з бліскучай чырвонай цэглы, другая — драўляная, пафарбаваная ў жоўты чыгуначны колер.

Некалі пераездам канчаўся паўночны край мястэчка. За ім адкрываўся прастор палёў, сінеў далёкі лес. Цяпер і за пераездам лента асфальту, і вуліцы не відаць канца.

Чыгунка таксама перамянілася. Некалі абсяг навакольнага поля, лесу нібы рассякалі дзве сталёвыя каляі. Цяпер адна.

У вайну, у акупацыю партызаны шкуматалі чыгунку, адступаючы, руйнавалі яе фашысты. Пасля вызвалення мястэчка з пакрэмсаных, пакарочаных рэек аднавілі на скорую руку адну каляю, пусцілі цягнікі, ды так яно і засталося.

Цяпер рэйкі павялічанага памеру, шпалы з жалезабетону, між імі не пясок, а шчэбень. На старым насыпе ўзняўся новы, вузейшы, на якім ляжаць рэйкі і шпалы. Побач з ім укатаная дарога, па якой ездзяць на веласіпедах і матацыклах.

Цімафей Рыгоравіч не стаў чакаць ляснічага, паціху паклыпаў узбочынай новага насыпу. Паласа адчужэння з двух бакоў засаджана бярозамі, дубамі, клёнамі, якія падняліся высока, разрасліся густа — ідзеш, як па зялёным калідоры, і нічога, апроч дрэваў, наўкруг не відаць.

Хутка ззаду пачуўся матацыклетны трэск. Ляснічы дагнаў касца. Цімафей Рыгоравіч сеў ззаду, сумку паклаў у люльку, левай рукой дзяржаўся за плячо ляснічага, правай трымаў строма ўзнятую касу. Гэтак яны паехалі.

Ляснічы добры чалавек. Вязе касца не ў Макаў, а на самы сенакос. Збочвае направа ля разбуранай будкі пуцявога абходчыка, насупроць Кротавай паляны, дзе стаяў некалі родны хутарэц. Цімафей Рыгоравіч паблукаў тут у першы дзень прыезду. Няма болей Кротавай паляны, сажалкі, крынічкі. Нейкі дурань засадзіў былое поле, лужок таполямі. Дзікая рэч — побач з дубамі, бярозамі, асінамі — таполі, якія ў лесе ніколі не растуць. Сажалка высахла, крынічка знікла...

Матацыкл ляснічага тым часам грукае па лясной сцяжыне, падскоквае на карэннях. Цімафей Рыгоравіч дзяржыць касу на плячы, стараючыся не зачапіць за галіну. Праскочылі пясчаны запушчаны Макаўскі шлях, з вялізнымі, выбітымі коламі грузавікоў каляінамі. Нарэшце матацыкл памчаў між соснаў, роўнай дарогай, якая губляецца ў траве. Хвілін праз колькі ляснічы звярнуў у сасоннік, паказаў касцу яго ўладанні — густа зарослае кустамі, дрэвамі балотца.

— Касіце тут. Хопіць на тры каровы.

Ляснічага завуць Павел Іванавіч. Яму пад пяцьдзясят, плячысты, дужы, з абветраным шыракаватым тварам. І на

твары ўсё буйное, прыкметнае: рот, нос, лоб. Негаваркі, нават хмурнаваты з выгляду чалавек.

— Калі хочаце, буду кожны дзень падвозіць. За выключэннем выхадных. У суботу, нядзелю ў Макаў не езджу.

— Буду пешкі хадзіць. Дзякуй за дастаўку. Я вырас тут. На Кротавай паляне...

— Ведаю,— адказаў ляснічы, заводзячы матацыкл.

Ляснічы паехаў. Сіні дымок, пакінуты матацыклам, яшчэ вісіць між хвой. Хвіліну-другую чуваць трэск матацыкла, які ўсё аддаляецца. Нарэшце наступае цішыня.

Цімафей Рыгоравіч прайшоўся ўзбоч балотца, звярнуў на дарогу. Мясціна глухаватая, і дарога не вельмі ўезджаная, хутчэй за ўсё зімнік. Сонца паднялося досыць высока, але ў сасонніку гарачыні яшчэ не адчуваецца.

Знайшоўшы гурбачок, касец стаў пераапранацца. Скінуў чаравікі, нацягнуў выцвілыя дзядзькавы штаны, старую сінюю з белай палоскай сарочку. Выгляд — хоць у каноплі стаўляй.

З хваляваннем касец пачаў абувацца ў лапці. Ён не абуваўся ў іх болей як сорак гадоў, з таго часу, як пакінуў мястэчка, і трохі пабойваўся за сваё ўменне. Але калі што ўмеў, то, нават забыўшыся, можна ўспомніць.

На парцянкі сястра падрала байкавую кофту. Ён даволі спрытна, туга нацягваючы, абгарнуў ступню, голень анучай, з прыемнасцю адчуваючы далікатную мяккасць матэрыі. Уставіўшы нагу ў лапаць, спачатку зацягнуў забарсень на пятцы, замацаваў зашмарг спераду, затым стаў абвіваць голень аборамі. Прарабіўшы такую ж аперацыю з правай нагой, Цімафей Рыгоравіч устаў, некалькі крокаў прайшоўся па лесе. Мудры чалавек прыдумаў лапці! Нагам лёгка, утульна, у той жа час адчуваеш, што абуты.

Дол у сасонніку густа заслан шыгаллем, праз якое толькі зрэдку прабіваюцца кволыя травінкі. Валяюцца сукі, струхлелыя галіны, растрэсканыя шышкі. У асобных мясцінах шышкі навалены кучамі, яны свяжэйшыя на выгляд, вакол раскідана медна-бурая луска. Вавёрка ласавалася шышкамі. Зрэдку папіскваюць невядомыя птушкі. Дзесьці ўпарта дзяўбе старадрэвіну дзяцел.

Пінжак, сумку Цімафей Рыгоравіч павесіў на сук. З унутраным дрыжаннем падыходзіў да балацянкі. Кустоў аж

залішне на ёй, чародкамі падняліся асінкі, бярозкі, крушыннік. Вельмі лёгка можна ўсадзіць касу ў дрэва, зламаць.

Памятаў — касцы закладваюць мянташку за ручку касы. Але ён забыўся, як гэта робяць, таму мянташку разам з бруском паклаў у кішэню.

Балотца верхавое, купіны невялікія. Калісьці тут стаяла лужына. Трава тым часам някепская: побач з асакой, кашкай, рознымі балотнымі дудкамі праглядваюць мятлік, дзягель, рагаза, бабоўнік.

Раскарачыўшы, упёршы ногі ў дол, ён размахнуўся з правага пляча на левае. Каса лёгка, паслухмяна ўвайшла ў траву. Дзядзька добра адкляпаў касу: паўкругі пракосаў роўныя, чыстыя, скошаная трава акуратна кладзецца ў рад.

Выкасіўшы невялікі, ад берага да першага куста гак, Цімафей Рыгоравіч азірнуўся. На выкашаным доле выразна празначыліся дзве вытаптаныя сцяжынкі ад ног. Не, не забыў ён, як касяць!..

Гонячы наступны пракос, Цімафей Рыгоравіч напружваецца менш. Пад лапцямі чвякае вада. Балотца не высахла дашчэнту.

Нарэшце касец адчувае: лязо касы прытупілася. Час мянташыць. Як да свяшчэннадзеяння, прыступае Цімафей Рыгоравіч да гэтай работы. Паставіўшы кассё між ног, для трываласці ўвагнаўшы канец яго ў дол, ён адной рукой трымае касу за насок, другой раз-пораз з абодвух бакоў чыркае па лязу мянташкай. Чах-чах, чах-чах! Гук той самы, як і ў забытыя маладыя гады. На асінку прыляцела сарока, патрашчала, паскакала з галінкі на галінку, паляцела далей.

Чым далей, тым цяжэй касіць. Горача, млосна... Пот залівае вочы. Раз-пораз Цімафей Рыгоравіч знімае капялюш, выцірае твар рукавом, намячае рубяжы дальнейшага дзеяння і адпачынку. Дойдзе да таго вунь ажынавага куста, зробіць перадых, адмянташыць касу...

Ён прымушае сябе касіць, гоніць пракосы гадзіну ці дзве, хоць пачынаюць балець рукі, ные спіна, ломіць у крыжы паясніцу. У роце перасохла, хочацца піць. Але ён стрымлівае сябе. Бутэлька малака адна, калі ён вып’е яе цяпер, што будзе піць да вечара?

Пайшоў суцэльны асот. Кассё выслізгвае з рук. Сонца вісіць над самай галавой. Смаліць, як з печы. Пара рабіць

перапынак. Ніхто з сапраўдных касцоў у палудзенны час касой не махае. Ды і выкасіў ён ніштавата — увесь выгіб балацянкі, які прылягае да дарогі. Капы тры будзе.

Цімафей Рыгоравіч, ледзь перастаўляючы ногі, кіруе да берага. Знімае з сука пінжак, рассцілае на доле. Баляць усе косці. Здаецца, паваліцца на зямлю і болей не ўстане.

На нейкі час ён нібы правальваецца ў небыццё. Адкрыўшы вочы, бачыць — стаўбуры сонечнага святла не строма, а коса, з нахілам стаяць між соснаў. Сонца, значыць, пачынае ісці на спад. Ён дастае з сумкі бутэльку з малаком, адпівае некалькі глыткоў. Адчуванне такое, нібы даўно ведае сасоннік, балотца, навіслы над дарогай, закіданы ігліцай грудок жаўтапёсу. Нібы, акрамя соснаў, балотца, болю ў руках, у крыжы, жадання бясконца ляжаць на засланай шыгаллем зямлі, нічога іншага ў яго жыцці не было...

Пячэ смага, і ён дапівае малако. Зноў набягае хваля напаўтрызнення, напаўявы, і ён — каторы раз за апошні год — бачыць разлеглы, з пакатым, крытым гонтай дахам дом Разанава — інтэрнат для тых, хто жыве не ў мястэчку і каму позняй восенню і зімой цяжка дабірацца ў школу,— і Мульменкаў сад, размешчаны наўскасяк, за чыгункай, з развілкамі станцыйных пуцей і дрывяным складам. Чамусьці памяць няўхільна вядзе сюды, у мястэчка, у гулкі, пабіты на пакойчыкі дом Разанава, у якім мелі інтэрнат вучні школы другой ступені, і ў вялікі яблыневы сад, які займаў ледзь не ўвесь прамежак паміж вакзальнай вуліцай, дрывяным складам і станцыяй.

У Мульменкавым садзе, асабліва летам, сыходзілася моладзь. Курсанты аўташколы, ці, як іх называлі, прафшкольцы, старэйшыя школьнікі, тэлефаністкі, студэнты і студэнткі педвучылішча, якія прыязджалі з Рэчыцы на вакацыі, спачатку шпацыравалі на пероне, сустракалі вячэрні маскоўскі цягнік, затым расцякаліся па шматлікіх алейках саду. У засені дрэў на лавачках да позняй ночы, да таго часу, як узыдзе месяц і зальне сваім святлом наваколле, шапталіся парачкі.

Быў яшчэ клуб імя Вароўскага — вялізная, нібы стадола, будыніна, у якой да рэвалюцыі размяшчаўся нейкі склад. Сельсавет даў дазвол, і са склада камсамольцы зрабілі клуб.

Цімафей Рыгоравіч з братам Максімам передапошняе перад выездам з мястэчка лета на хутар да бацькі хадзілі толькі за харчам, жылі ў доме Разанава, памагалі пераабсталёўваць склад на клуб. У гэтым клубе паставілі бясконцую колькасць п'ес, прыдумвалі розныя ідовішчы, якія потым пераносілі на пляцоўку, на вуліцу.

Ён змалку ўмеў араць, касіць, ведаў іншую сялянскую работу, любіў лес, але нават думкі не дапускаў, што астанецца на бацькавым хутары, будзе рабіць у калгасе, за які так горача агітаваў, удзельнічаючы ў розных ідовішчах, што наладжвалі камсамольцы. Касавіца, жніво, малацьба, грыбы ў лесе — гэта ўсё было знаёмае, зведанае. Ён ірваўся ў новыя далі, якія адкрываліся для тых, хто ехаў у гарады, паступаў у інстытуты. Каб не здолеў выехаць з мястэчка, сягнуць у тое невядомае жыццё, лічыў бы сябе няўдачнікам...

Першы абрыс невядомага, прывабнага жыцця з яго спакусамі, радасцямі, як бы праглядваў у Мульменкавым садзе. Прыгожы быў сад у летнюю ноч, калі ўзыходзіў месяц, ліў срабрыстае святло на будыніны, дрэвы, чыгуначныя рэйкі, што паблісквалі ў шараватым паўзмроку за дрывяным складам. У дальнім кутку саду іграў на мандаліне прафшколец, даносіўся дзявочы смех. На кожнай лавачцы шапталіся, уздыхалі, цалаваліся.

Ягонае сэрца таксама захапіла ў палон дзяўчына, але ён яе так моцна любіў, што ні разу не адважыўся ні пасядзець з ёй на лавачцы, ні нават дакрануцца да яе рукі. Такія, як ён, яшчэ не сядзелі на лавачках, а толькі прыслухоўваліся да чужых шэптаў. Тонкую, кволую дзяўчыну з далікатным тварам, пявучым голасам звалі Зіна, яна вучылася ў Рэчыцы, у педтэхнікуме, і цэлы год з інтэрната ў доме Разанава ён па суботах сігаў на станцыю, каб хоць крадком убачыць, як злазіць з вячэрняга цягніка яго дзяўчына.

У той час яму трапіла ў рукі кніжачка вершаў паэта Валерыя Маракова, якая называлася «На залатым пакосе». Яму, сямнаццацігадоваму хлопцу, вельмі імпанаваў настрой вершаў. Адзін з іх ён ведаў на памяць:

Я не кахаў, кахаліся другія,
А я на іх з трывогаю глядзеў...

У Зіны штосьці не атрымалася ў педтэхнікуме, яна вярнулася ў мястэчка, уладкавалася тэлеграфісткай на станцыю. Як трэба было чакаць, дабром не кончыліся яго ціхія бязмоўныя заляцанні. У Мульменкавым садзе стала мільгаць постаць высокага, плячыстага, зацягнутага ў рамяні інструктара шафёрскай прафтэхшколы Альфрэда Плашчынскага. Відаць, дзеля таго каб рабіць уражанне на дзяўчат, Альфрэд нават летам не скідаў скураной тужуркі, якая блішчала ў месячным святле і шалясцела пры хадзьбе.

Ён ведаў: Альфрэд Плашчынскі падлюга, якога свет не бачыў. Не адна дзяўчына паплакала ад яго. Аднак рып і бляск рамянёў і на гэты раз зрабіў сваю справу. Зіна адразу кінулася ў абдымкі да Альфрэда.

З таго дня, як стала пра гэта вядома, для яго Зіна перастала існаваць. Пра яе далейшы лёс ён час ад часу чуў ад другіх людзей.

Альфрэд на гэты раз, відаць, палічыў, што валацужнае жыццё трэба канчаць, бо знойдзена надзейная прыстань. Дзяўчына прыгожая, адна ў бацькоў, і бацькі цёплыя. Маюць добрую хату, зажытак.

Пакуль Цімафей Рыгоравіч вучыўся, мяняў інстытуты, Зіна нарадзіла трох сыноў і яшчэ дачку. Няшчасці пасыпаліся на яе ў вайну. Альфрэда мабілізавалі ў армію. Затым памерла маці. Стары бацька з сілы выбіваўся, каб па цяжкім акупацыйным часе пракарміць чатырох унукаў. Не грэбаваў нічым, каб разжыцца лішнім пудам бульбы. На кані, пазычаным у паліцая, паехаў у партызанскую зону здабываць харч. Партызаны прынялі яго за паліцэйскага шпіка, затрымалі. Ён кінуўся ўцякаць, і яму паслалі кулю наўздагон.

У канцы сорак трэцяга года, калі мястэчка вызвалілі ад немцаў, Зіне прыйшоў заклеены сургучнай пячаткай канверт. На выдрукаваным казённым бланку паведамлялася, што яе муж, камандзір аўтароты капітан Плашчынскі, загінуў смерцю героя.

Зіна, відаць, усё гэта вынесла б. Многія не вярнуліся з вайны. Ваенкамат прызначыў ёй вялікую, болей за тысячу рублёў, на старыя грошы, пенсію. Яна, хоць была не надта прыстасавана да будзённага, практычнага жыцця, старалася з усіх сіл, вяла дамашнюю гаспадарку, вучыла дзяцей.

Падкасіў Зіну падман. На чацвёртым ці пятым пасляваенным годзе раптам высветлілася, што капітан Альфрэд Плашчынскі не загінуў, а наадварот, шчасліва жыве ва ўральскім гарадку з маладой жонкай. Маючы доступ да вайсковых канцылярый, казённую паперу аб сваёй смерці сфабрыкаваў ён сам. Мабыць, нейкім чынам пранюхаў, што Зіна асталася адна з чатырма дзецьмі, цесця і цешчы болей жывых няма.

Нягодніка, відаць, судзілі б, але пашкадавалі дзяцей. Цяпер грошы, якія Зіна атрымлівала некалькі гадоў, пачалі вылічваць з заработку Плашчынскага. З таго ж заработку выплачваліся аліменты дзецям — лічаныя капейкі.

Не знайшлося добрай душы, чулага сэрца сярод суседзяў, раённых службоўцаў, каб падтрымаць жанчыну. Зіну пачалі суцяшаць баптысты, а затым цалкам аблыталі сваёй павуцінай. Яна цяпер, па чутках, у іх актывістка.

Цімафей Рыгоравіч прабудзіўся ад напаўтрызнення: здалося, што па лесе нехта ходзіць. Прыўзняўшы галаў, ён сапраўды ўбачыў чалавека ў сіняй безрукаўцы, на галаве якога была форменная шапка лясной аховы. Гэта, відаць, быў ляснік, і меней за ўсё Цімафей Рыгоравіч хацеў яго бачыць. Нудным болем ныла паясніца, усяго сябе ён адчуваў разламаным, разбітым, і каб падышоў ляснік, не здолеў бы падняцца са свайго логвішча.

Ляснік, агледзеўшы пакошанае, знік між сосен, і Цімафей Рыгоравіч з палёгкай уздыхнуў.

Сонца вісіць яшчэ высока, самая спякота. Ён трохі паляжыць, адыдзе, а затым пакосіць. Есці зусім не хочацца, толькі піць. Ён зрабіў памылку, выпіўшы ўсё малако...

Раптам Цімафей Рыгоравіч уздрыгнуў ад нечаканай, радаснай здагадкі. Не хочучы бачыць лесніка з-за сваёй слабасці, празмернай зморанасці, Цімафей Рыгоравіч раптам зразумеў, што прыкладна гэтак паводзіў сябе ў жыцці бацька. З вайны вярнуўся нядужым, атручаным газамі, не мог весці гаспадарку нараўне з суседзямі, таму ад чужых нядобразычлівых вачэй перабраўся на адзіноту, на лясную паляну. Ён і ў сям'і як бы саромеўся сваёй нядужасці. Калі нападаў кашаль, выходзіў на двор, на загуменне — каб не чулі, як кашляе, дзеці, жонка...

Усё жыццё Цімафей Рыгоравіч задаваў сабе пытанне, чаму бацька пасяліўся на хутары, і не знаходзіў адказу. Цяпер яму аж радасна стала ад сваёй здагадкі. У новым святле як бы паўстаў бацька — разумны, абыходлівы, мяккі...

На хвіліну ён прымгнуў вейкі і зноў — каторы раз — убачыў зялёную Кротаву паляну, а на ёй, нібы ў зялёным вянку, крытую дранкай невялікую хату, хлявы, пуню, гумно. Быў садзік на іх сядзібе — некалькі вішань, яблынь, грушдзічак. Найлепшым будынкам было гумно. Можа, таму, што збудавалі яго ў той час, калі падраслі дзеці і сталі пасабляць бацьку. Гумно склалі з тонкіх доўгіх сасновых бярвенняў, надзіва роўных, падагнаных адно пад другое. Ток наслалі з глею, які бралі, пашыраючы копанку. Гумно было прасторнае, бы якая-небудзь вялікая гарадская зала. У іх ніколі не было столькі жыта, ячменю, аўса, каб хоць напалавіну закласці снапамі гумно. Вольна адчувалі сябе ў прасторнай будыніне ластаўкі. Пад самым вільчыкам заўсёды вісела некалькі гнёздаў, у якіх цэлае лета весела шчабяталі ластавяняты. Ластаўкі забруджвалі сваім памётам ток, але ўсё адно іхніх гнёздаў не спорвалі.

Бусел на іх сядзібе чамусьці ніколі не сяліўся, хоць на гумно, на пуню яны, хлопцы, спецыяльна ўсцягвалі кола. Буслы гнездаваліся на дубах, якія падступалі да паляны з заходняга боку. Харчу для іх было колькі хочаш у прылеглай да паляны балацянцы. Балацянку за лета яны ўсю выкошвалі на сена. У мокрыя гады, косячы, грабучы сена, выносячы на насілках копы на бераг, па пояс плавалі ў балотнай твані...

Дзіўнай была зімой Кротава паляна. Цёмны, чорны лес навакол, цёмнае, усеянае бясконцымі зоркамі неба. У завіруху вецер свістаў між дрэў — нібы галасіў. Ваўкі падыходзілі пад самыя хлявы. Аднойчы падгрэбліся і парвалі трох авечак. Каб не гул цягніка з блізкай чыгункі, парвалі б усіх...

Цімафей Рыгоравіч ачнуўся, адчуўшы, што нехта над ім стаіць і глядзіць на яго. Ён расплюшчыў вочы, убачыў лесніка, які нядаўна шнураваў краем балацянкі, і таропка падняўся.

— Калі хочаце піць,— сказаў ляснік,— то з таго краю (ён паказаў рукой на прамежак між дарогай і балотцам) ёсць крынічка. Вада чыстая, халодная...

Гэты дзень прыносіў нечаканасці. Цімафей Рыгоравіч раптам пазнаў лесніка — белыя валасы, абветраны, без загару твар. Гэта быў лётчык Мікалай Сцепанюк, той самы, які адразу пасля вайны махнуў рукой на чыны, званні, дэмабілізаваўся, вярнуўся ў мястэчка, працаваў на чыгунцы стрэлачнікам, а цяпер служыць лесніком. Ён памятаў гэтага Мікалая, белагаловага, маўклівага хлопца — хутар яго бацькі стаяў з усходняга боку лесу, бліжэй да мястэчка.

— Мікалай,— спытаў Цімафей Рыгоравіч,— пазнаў мяне? Я Цімох, Рыгора Крота сын. Жылі па суседству...

— Пазнаў,— адказаў ляснік абыякавым голасам.— Мне ляснічы гаварыў. Ваду бярыце з крынічкі...

Павярнуўся і пайшоў прэч размераным, спакойным крокам.

Цімафей Рыгоравіч усміхнуўся, паківаў галавой: дзіўны чалавек. Але ён яго, здаецца, разумее. Зацяўся, бо кожны лезе з роспытамі. Як ды чаму? Узляцеў так высока і раптам з неба самахоць спусціўся на зямлю. Ды хоць бы начальнікам зрабіўся. А то стрэлачнікам, лесніком...

Ён пакіраваў ва ўказаным лесніком напрамку і сапраўды хутка натрапіў на агароджаную бярозавымі жардзінамі крынічку. Вада выбівалася з-пад невысокай пясчанай выспачкі, збіралася ў ямку, якую нехта спецыяльна выкапаў, і адтуль сцякала ў балотца, якое ён косіць. Вісеў на сасновым суку зроблены з бяросты карэц з доўгай ручкай.

Цімафей Рыгоравіч нібы на жывую ваду натрапіў, якая вяртае сілы волатам. Столькі снілася яму апошнія гады Кротава паляна, бацькава крынічка, і вось нарэшце ён нібы ўвачавідкі вярнуўся ў сваю маладосць.

Вада чыстая, як сляза, і сцюдзёная, аж сківіцы зводзіць. Ён піў яе невялікімі глыткамі, адчуваючы, як цела пакідае зморанасць, як вяртаецца сіла.

Ён яшчэ гадзіны дзве касіў, затым схаваў пад травой касу, мянташку, брусок. Не знімаючы лапцей, несучы на плячы, на бярозавым кійку, сумку з чаравікамі, чыстай вопраткай, рушыў дадому. Сонца вісела над самым лесам. Заходзіла ў бялесай, з вогненнымі водсветамі смузе — прыкмета, што і заўтра дзень будзе спякотны.

Дабраўшыся да чыгункі, ён звярнуў з яе ў тым месцы, дзе з усходняй стараны лесу размяшчалася некалькі сядзіб

хутаранцаў і ў тым ліку хаты генерала Хлябцэвіча і лесніка Сцепанюка.

Ніякіх будынкаў на тым месцы няма. Якраз каля самага лесу цягнецца вялікая, пракапаная экскаватарам канава, на дне якой блішчыць зацягнутая плёнкай іржы вада, а ўвесь бачны працяг былой ваколіцы засеян жытам. Нягледзячы на спёку, жыта стаіць суцэльнай лавай. Мястэчка віднеецца зялёнымі прысадамі, паўзверх якіх уздымаюцца белакаменныя гмахі новых будынін. Зусім не відаць адсюль прыземістых, пакрыўленых хатак, а толькі новыя камяніцы, якія здаляка надаюць мястэчку сапраўды гарадскі выгляд.

*1979*

# 1980

## ЯК КУПІЦЬ АЎТАМАШЫНУ

Фелікс мусіў прыехаць з Крыма ў дзесяць вечара, і я на сваім драндулеце падкаціў да вакзала за паўгадзіны да цягніка. Месяц назад, калі Фелікс выбіў бясплатную пуцёўку на курорт, мяне трохі калола зайздрасць. Але цяпер зласлівыя пачуцці зніклі.

Пакуль Фелікс ляжаў уверх жыватом на марскім пляжы, я сабраў свой драндулет.

— У цесця машыну ўзяў? — спытаў Фелікс. Ён быў задаволены, што я прыехаў яго сустракаць.

— Свая,— адказаў я.

Ён вытрашчыў ад здзіўлення вочы.

Па дарозе я расказаў, як набыў машыну. У лясах ад Груцка да Бруцка наўзбоч ажыўленай шашы, якая грыміць днём і ноччу, валяецца колькі хочаш розных запасных частак. Вось з іх і сабраў свой драндулет. Задні мост, пакрышкі, каленчаты вал, цыліндры, масляныя фільтры знайсці было працай простага. Трохі больш часу патраціў на пошукі матора. Матор я выдраў з сямітоннага самазвала, пакінутага без нагляду на глухой дарозе. Затое з такім маторам мой драндулет можа імчаць звыш усялякай дазволенай хуткасці. Каб прыладзіў крылы, відаць, паляцеў бы.

Фелікс адразу загарэўся.

— Давай і мне збяром на машыну.

— Збяром, а што? — пагадзіўся я.

Праўда, у маёй душы былі сумненні. Убачыўшы, што ў мяне справы ідуць паспяхова, мантажом уласных машын заняліся яшчэ дзясяткі два самадзейных аўтааматараў. Відаць, падабралі, чэрці, запасныя часткі наўзбоч шашы ад Груцка да Бруцка.

Назаўтра мы з Феліксам выехалі ў лес. Мае прадчуванні спраўдзіліся. За дзве гадзіны пошукаў мы знайшлі толькі з дзясятак каленчатых валаў, некалькі пакрышак, масляных фільтраў, а найбольш дэфіцытных запчастак не было ніводнай. Усё выграблі прагныя аўтааматары.

— Трапло ты! — пакрыўдзіўся Фелікс.

Мне было сорамна. Але зараз жа ў мяне выблісну ла выратавальная ідэя.

— Ведаеш што,— сказаў я.— Не зайздросць, што я сабраў драндулет. Мне на ім самому брыдка ездзіць. Давай купім сапраўдныя аўтамашыны.

— За што я куплю? — паныла прамовіў Фелікс.— На тым поўдні вычхаўся дарэшты. Яшчэ восемдзесят рублёў пазычаных грошай трэба аддаваць. Потайкам ад жонкі...

— За бутэлькі,— сказаў я.— Сам бачыш — у лесе іх процьма.

Фелікс павесялеў. Бутэлькі трапляліся, бадай, на кожным кроку. Іх было намнога больш, чым грыбоў, якія слабавата раслі ў гэтае засушлівае лета.

У першы дзень мы сабралі семсот бутэлек. Добра, што я на сваім драндулеце замест багажніка прыладзіў кузаў ад пяцітонкі. Знойдзеныя бутэлькі занялі ў ім нязначнае месца.

Справа пайшла. З раніцы мы хадзілі з Феліксам на службу, а пасля шасці гадзін выбіраліся ў лес. За лічаныя гадзіны, што заставаліся да цемені, збіралі па дзве, а іншы раз і па тры сотні бутэлек. Іх было колькі хочаш, у якім напрамку ні паедзь.

Найбольш, вядома, на палянах вакол вогнішчаў. Некаторыя бутэлькі віселі нават на дрэвах, надзетыя рыльцамі на сукі.

Можна было падумаць, што іх для сваіх гаспадарчых патрэб зацягнулі на дрэва вавёркі.

Некаторыя запчасткі мы куплялі ў аўтамагазіне, а найбольш дэфіцытныя — з левых рук. Грошай у нас хапала, за цаной не стаялі. На бутэльках мы зараблялі моцна.

Праз месяц у мяне і ў Фелікса стаялі новенькія «Масквічы».

Едучы на новай, чэсна запрацаванай аўтамашыне па вуліцы, я наткнуўся позіркам на плакат. На ім быў намаляваны малады, прыгожы мужчына, які ўзнімаў у руцэ ашчадную кніжку. Унізе стаяў вершаваны подпіс: «Грошы на ашчадную кніжку палажыў — машыну нажыў».

«Няма табе, браце, чым выхваляцца,— падумаў я, пазіраючы на прычэсанага, прылізанага плакатнага дзецюка.— Ты колькі гадоў збіраў грошы, працэнты? Пяць або і ўсе дзесяць. А я за месяц купіў. Без адрыву ад вытворчасці».

*1980*

# 1981

## БАЙДАЧНІКІ

Трахімчук даўно смакаваў асалоду, з якой правядзе дзень ці два ў сваім загарадным дамку. Сярод службовай мітусні, тэлефонных званкоў, паседжанняў, якіх — смешна сказаць — іншы раз выпадала на дзень па два і нават па тры, магчымасць пабыць на адзіноце, сярод першабытнай цішыні, уяўлялася шчасцем.

У загарадным дамку, атуленым пяццю ці шасцю яблынямі, кустамі парэчак, агрэсту, нарэшце паявілася печка, і невялікую, абшаляваную дошкамі будыніну з поўнай падставай цяпер можна лічыць дачай.

На гэтай дачы Трахімчук правёў рэшту водпуску, цэлы тыдзень — канец жніўня і пачатак верасня. Гэта былі цудоўныя дні. Ён хадзіў па лесе, збіраў сыраежкі, падасінавікі, рэдкія баравікі, затым, пратапіўшы печачку, сушыў іх, як некалі сушыла маці: заслаўшы бляху ці іншую жалезіну паперай. Асабліва прыгожымі пасля такой сушкі здаваліся баравікі — белыя, цвёрдыя, з прыліпшымі да шляпак кавалачкамі паперы.

Вечарам Трахімчук рабіў яшчэ адну праходку — цяпер ужо дзеля адпачынку і прыемных уражанняў. Ён вандраваў па ўзгоркаватым, густа засыпаным каменнем полі, якое аддзяляла садова-агародныя ўчасткі ад ціхай, лясной, з адной вуліцай вёсачкі, глядзеў на густа засеянае зоркамі неба, на тры дубы, каржакаватыя, з падпаленымі камлямі, з крушнямі камення пад імі, якія прыкметна выдзяляліся на ахутаных хісткім паўзмрокам пагорках.

Перад сном ён гадзіну ці дзве чытаў. Лежачы ў ложку, перагортваючы старонкі кнігі, ён час ад часу дакранаўся рукой да цёплай грубкі, глядзеў у акно, за якім шастала цёмнымі галінамі яблыня. Прыемна было ў гэтыя, ужо халаднаватыя ночы адчуваць цеплыню, жылую ўтульнасць пакоіка.

Ён у тыя жнівеньска-вераснёўскія вечары меў вялікую асалоду ад цішыні, якая толькі зрэдку парушалася гулам самалётаў.

У абсягу некалькіх бліжэйшых гадоў Трахімчук не меў больш прыемных адчуванняў, чым сем дзён, праведзеныя на дачы, таму да самага Новага года ён марыў аб тым, каб як-небудзь зноў наведаць загарадны дамок.

На дачу Трахімчук выбраўся на другі дзень новага года. Ён зрабіў памылку, не дазнаўшыся загадзя раскладу прыгарадных цягнікоў. Гэта каштавала больш гадзіны бязмэтнага швэндання па запоўненай натоўпам пасажыраў станцыі і трохі падпсавала настрой. Але ў вагоне на лаўку насупраць Трахімчука села маладая, чырванашчокая настаўніца, якая, карыстаючыся школьнымі канікуламі, ехала ў вёску да маці. Настаўніца аказалася вясёлай, гаваркой, відаць, радуючыся, як і Трахімчук, адпачынку, на ўсе лады расхвальвала сваю вёску. Паўтары гадзіны язды праляцелі непрыкметна.

Па дарозе на дачу, у тым месцы, дзе побач з рэчышчам вузкай звілістай рачулкі экскаватарам пракладзена яшчэ адно — роўнае і прамое, як аршын,— Трахімчук напаткаў гурму студэнтаў, якія, відаць, сустракалі Новы год на чыёй-небудзь дачы, а цяпер вярталіся ў горад. На вузкіх драўляных мастках, зверху пакрытых цэмянтовымі плітамі, ён саступіў ім дарогу.

Студэнты здаваліся стомленымі. Ішлі як пасля цяжкай работы — пахмурыя, маўклівыя, з сінімі кругамі пад вачамі. Неслі дзве ці тры гітары, прыёмнік, за плячамі — напакаваныя коўдрамі рукзакі. І толькі адна студэнтка, маларослая, круглая, як яечка, у джынсавых штанах і куртачцы, ветліва Трахімчуку ўсміхнулася, нібы засведчыўшы сваёй усмешкай, што нічога благога з ёй не здарылася.

Дні ў пачатку студзеня вельмі кароткія. Надвячоркам пайшоў снег. Рэдкія сняжынкі, нібы белыя летнія матылі, млява кружыліся ў паветры, павольна і ляніва падалі на

зямлю. Цікава было глядзець на знаёмыя, зведаныя мясціны праз гэтую снежную мітусь. Зіма толькі пачыналася, і настрой лесу быў самотна-затоены.

Калі Трахімчук прыдыбаў да свайго закіданага снегам, пафарбаванага ў зялёны колер дамка, паветра пачало сінець, і сярод гэтай сінечы цёмнай маўклівай сцяной выдзяляўся сасоннік на пакатым узгорку, які з левага боку падступаў да дачнага пасёлка.

Наступала ноч.

Трэба было паварочвацца барзджэй, бо не было ні лучыны, ні дроў, каб распаліць печку, ні вады, каб згатаваць чай. Трахімчук адамкнуў дзверы, зайшоў у халодны, настылы дамок, намацаў на сцяне веранды ўключальнік. Святло ўспыхнула на адно толькі імгненне і адразу згасла. Ён падумаў, што лямпачка слаба ўключана ў патрон, і паспрабаваў яе падкруціць. Святла па-ранейшаму не было. Не паявілася яно ні на кухні, ні ў пакоіку, колькі Трахімчук ні пстрыкаў уключальнікамі. Пробкі тым часам не маглі перагарэць, яны былі замежныя, так званыя вечныя, і ў выпадку кароткага замыкання выключаліся механічна.

Ужо ў поўнай цемені Трахімчук намацаў пробкі. Знайшоўшы табурэтку, стаўшы на яе, ён на ўсякі выпадак выкруціў пробкі, затым паставіў іх зноў на месца. Святла не было.

Горшае становішча цяжка было ўявіць. Лямпы, газы ў дамку няма, і, выходзіць, доўгі зімовы вечар прыйдзецца сядзець у цемені.

Трахімчук выйшаў на двор. Ён меў надзею, што хто-небудзь, як і ён, прыехаў на дачу пераначаваць, і, можа, гэты чалавек дасць хоць якую параду. Ужо зусім змерклася, але ніводнае акно не блішчэла. Засыпаны снегам, маўклівы пасёлак нібы заснуў. У другі час Трахімчук трохі б паўзіраўся ў гэты малюнак, радуючыся цішыні і спакою, але цяпер было не да сантыментаў.

Ён наважыў спакойна ўсё абдумаць. Чаму выключылася святло? Некалькі разоў ён абышоў дамок, і нарэшце яго позірк запыніўся на дратах: яны вядуць ад высокага слупа,

што стаіць насупраць дамка, да крукоў з чашачкамі ізалятараў, умацаваных у сцяну. Ад крукоў пачынаецца ізаляваны провад.

Трахімчук знайшоў лесвіцу, прыставіў да сценкі. Канцы провада, які вядзе на веранду, прыкручаны да дратоў без ніякай ізаляцыі. Ён пашастаў верхнім, затым ніжнім провадам і ўбачыў, што на дроце прабіваецца ланцужок ледзь прыкметных зеленаватых іскарак. Ясна, замыканне было тут. Варта зачысціць кантакты.

Але нічога рабіць не прыйшлося. Спусціўшыся з лесвіцы, наважыўшы пашукаць абцугі, наждачную паперу, Трахімчук убачыў палоску святла, якое прабівалася з-пад дзвярэй зачыненага на веранду пакоя. Святло, значыць, уключылася, ледзь-ледзь ён крануўся дратоў...

Узрадаваны нечаканай перамогай, Трахімчук выкінуў з хлеўчука некалькі плашак, пачаўшы пілаваць іх пілой-аднаручкай. Накалоў дроў, нашчапаў лучыны, запаліў печку. Сухія паленцы весела і дружна затрашчалі. Зрэшты, гэта было тое, чаго ён чакаў, і дзеля чаго сюды прыехаў. Сядзі каля печкі, падкладвай дровы, глядзі на агонь. Яшчэ толькі шэсць гадзін, а ён ужо амаль усё ўправіўся зрабіць.

Узяўшы вядро, Трахімчук пайшоў па ваду. Калодзеж па гэты бок агароджы, якраз перад сцяной хмурага сасняку. Ціха ў пасёлку. Снег перастаў сыпацца, але неба цёмнае, змрочнае, і толькі сям-там у прагалах між густых воблакаў праблісквають дзве ці тры адзінокія зоркі.

Трахімчук з прыемнасцю слухаў, як усё шпарчэй раскручваецца ворат, як ляціць у прорву ацэментаванага калодзежа прывязанае да жалезнага ланцуга вядро. Нарэшце глыбока ўнізе пачуўся ўсплёск. Круцячы ворат, выцягваючы вядро, з якога на дно калодзежа з гучным звонам падалі буйныя кроплі, Трахімчук думаў пра тое, што кожнаму чалавеку, хто б ён ні быў, трэба час ад часу дакрануцца да вось такой простай, першабытнай плыні жыцця, якое ва ўсім яго смаку можна адчуць толькі тут, на прыродзе.

Калі Трахімчук, перакладваючы дужку цяжкага вядра з правай рукі ў левую, падыходзіў да свайго дамка, у суседняй будынінцы ўжо свяціліся вокны. Зацікавіўшыся, ён спыніўся, паставіў вядро на дол. Хто мог быць тут вечарам, зімой, тым болей што суседзі ў сваёй высокай, падобнай на вадзяны

млын дачы печку яшчэ не паставілі? Як адказ на пытанне, па прыступках знадворнай лесвіцы, якая вяла ў пакоі пабудаванага на высокіх палях дамка, загрукалі крокі, і перад Трахімчуком вынікла постаць хлопца ў накінутым наапашкі кажушку.

— Дзе вы ваду бралі? — спытаў хлопец.

— У калодзежы,— адказаў Трахімчук, пазнаўшы ў хлопцы пляменніка суседкі.

Хлопец зноў загрукаў па лесвіцы, падымаючыся наверх.

У печцы трашчалі дровы, але настылы за зіму пакоік награваўся марудна. Пасядзеўшы перад грубкай яшчэ гадзіну, пакідаўшы ў яе дровы, якія нарыхтаваў на заўтра, папіўшы чаю, Трахімчук нарэшце лёг у халодную пасцель. Каб сагрэцца, акрыўся адразу дзвюма коўдрамі. Не, ні ў якое параўнанне не ішоў гэты ягоны прыезд з памятным тыднем у канцы лета. Тады ад трох-чатырох паленцаў у пакоіку рабілася цёпла, утульна, іншай была яблыня за акном, весялейшым зорнае неба.

Сцішыўшыся, Трахімчук пачаў засынаць. Штосьці трызнілася, снілася, але раптам, перабіўшы сон, пачуліся зусім выразныя выгукі, песня, потым лаянка. Нейкай часткай свядомасці Трахімчук падумаў, што гэтыя гукі нясуцца з суседняга дамка, дзе, відаць, пляменнік не адзін, а з такімі, як сам, сябрамі. Печкі там няма, гарадскія хлопцы грэюцца, відаць, моцнымі трункамі.

Галасы то заціхалі, то ўзмацняліся да высокай пранізлівасці — госці суседняга дамка, мабыць, час ад часу выскоквалі на двор, гарланілі на чыстым паветры, але Трахімчуку не хацелася канчаткова прачынацца, нічога ён не мог змяніць у сваім становішчы, і памяць паслушліва перакінула яго ў нешта падобнае, што адбывалася даўно-даўно, яшчэ ў час яго далёкага дзяцінства. У сонным трызненні межы часу як бы сцёрліся, і выгукі, свіст, галёканне за сцяной памяць вельмі лёгка дапасоўвала да напаўзабытай местачковай гісторыі.

...Некалі ў мястэчку вось гэтак гарланілі байдачнікі. Местачкоўцы — як і ён сам, пакуль не абрыдла — спецыяльна хадзілі слухаць, як з раніцы да вечара лаецца, грызецца, калоціцца няўрымслівая, страшная сям’я, якая невядома адкуль прыбрыла.

Пасля таго як выслалі былога кандуктара Мульменку, які, возячы «зайцоў», сабраў капейку, за якую пабудаваў два ніштаватыя дамкі, па мястэчку пайшла пагалоска, што ў яго харомінах размесцяцца гарадскія, як тады гаварылі, рабоча-пралетарскія сем'і.

Чуткі не пацвердзіліся. У большым доме была абсталявана чыгуначная бальніца, а ў меншым якраз і пасяліліся байдачнікі.

Байдачнікі паявіліся ў мястэчку на пачатку лета, адразу сталі карыстацца Мульменкавым агародам, садам. Праз тыдзень мястэчка жахнулася, убачыўшы, якія насельнікі ў яго прыбылі.

Самога байдачніка звалі Гаўрылам. Гэты рудаваты, шчуплы, з някідкім маршчыністым тварам чалавек наняўся на лесасклад мясцовага леспрамгаса выrabляць загатоўкі на дубовую клёпку. Цэлыя штабелі цяжкаватых чатырохкантовых загатовак цягнуліся наўзбоч чыгуначных пуцей. Час ад часу іх грузілі ў вагоны, адпраўлялі ў розныя гарады, дзе з іх выточвалі клёпку і рабілі бочкі для віна.

На лесаскладзе з раніцы да вечара звінела круглая цыркулярная піла, і абсыпаны дубовай тырсай, нібы мучным пылам, Гаўрыла штохвіліны адкідаў ад сябе дубовыя загатоўкі. Але самае цікавае і нават незразумелае пачыналася ў абед.

Гадзін у дванаццаць ля цыркуляркі паяўлялася Гаўрылава жонка. У адрозненне ад мужа, яна была мажная, тоўстая, надзвычай павольная ў рухах. На яе смуглявым круглым твары як бы навечна застыў выраз спакою і поўнай абыякавасці да жыцця.

Убачыўшы жонку, Гаўрыла кідаў работу, і яны ўдваіх павольна крочылі ў чыгуначную краму. Там куплялі чацвяртушку гарэлкі, чаго-небудзь яшчэ з яды і тут жа на бочках ці на пустых скрынях, не выходзячы з крамы, абедалі.

У байдачнікаў, якія засялілі чатырохпакаёвы дом Мульменкі, было восем ці нават дзевяць дзяцей, пачынаючы з такіх, якія бегалі без портак, і канчаючы танклявым ахайным юнаком Алімпай, амаль жаніхом, але, як хутка высветлілі местачкоўцы, ні сняданак, ні вячэра, ні нават абед у гэтым доме не гатаваліся. Шматлікая сям'я байдачнікаў кармілася самапасам.

— Як жа ты, братка, вот етак жывеш? — пытаў Гаўрылу збянтэжаны ўшчэнт местачковец, якому лёс наканаваў быць суседам дзіўнай, незразумелай сям'і, якая парушала непахісныя, дзядамі і прадзедамі ўсталяваныя звычаі.

— Вот так і жыву,— адказваў Гаўрыла.— Заработку на ўсю прорву, як ні круці, не хопіць. Хоць бы сябе ды бабу паддзяржаць. А дзеці, чорт іх бяры, і так не падохнуць.

— Як жа ты раней жыў? — дапытваўся цікаўны сусед.

— Раней — другое дзела,— у Гаўрылавым голасе паяўляліся нават сентыментальныя ноткі.— Ля мора мы жылі. Пакірую нанач у Дняпроўскі ліман, закіну сеткі, а да раніцы прытарабаню поўную байду рыбы. Ешце, хоць захлыніцеся...

Ад байды — вялікай лодкі,— уласнікам якой нібыта быў Гаўрыла, відаць, пайшла мянушка прыезджых — байдачнікі.

У хуткім часе мястэчка, праўдзівей, тая яго частка, якая прылягала да лесасклада і чыгункі, на вопыце спасцігла, што такое плойма някормленых, галодных Гаўрылавых дзяцей. Байдачнікі з ранку да вечара аціраліся ў сталовай, станцыйным буфеце, клянчылі нібы старцы, а калі гэта не памагала, не саромеліся выхапіць лусту хлеба з-пад носа ў чалавека, які садзіўся абедаць. У сваім здабыванні харчу Гаўрылавы дзеці дасягнулі найвышэйшага спрыту, які межаваў з мастацтвам. Варта было каму-небудзь з байдачнікаў прашмыгнуць каля драўляных радоў, на якіх станцыйныя бабы расстаўлялі свой тавар, як у імгненне вока нейкім чарадзейным шляхам рабіліся напалавіну пустыя збанкі з малаком, прыкметна змяншалася колькасць раскладзеных на талерках бульбяных піражкоў, знікалі шклянкі з арэхамі, семечкамі.

Не дзіва, што ля драўляных станцыйных радоў, у сталовай, буфеце, усчынаўся гам і лямант, як толькі туды завітваў хто-небудзь з рудых, настырных байдачнікаў.

Тым часам свет клінам не сышоўся на сталовай і буфеце. Харчовыя прыпасы мела кожная местачковая хата, скляпок, гарышча. Пранырлівыя байдачнікі дакладна вывіжоўвалі, у якой хаце, у які час няма дома гаспадароў. Знікалі з гарышчаў вэнджаныя шынкі, зашытыя ў мяшэчкі на час сенакосу кавалкі жоўтага ёлкага сала, скруткі кілбас. Калі на гарышчы ці ў скляпку было пуста, галодныя байдачнікі не грэбавалі проста залезці ў хату, выцягнуць з печы гаршчок са стравай,

выменціць яго да дна. Яны кралі гуркі, памідоры, яблыкі — усё, чым можна задаволіць свае вечна пустыя жываты.

Скардзіцца было бескарысна. Старыя байдачнікі ніколькі не пярэчылі, калі хто-небудзь, застаўшы на месцы злачынства, караў, лупцаваў іхніх дзяцей. Іншы раз у двор да Гаўрылы прыходзіў міліцыянер. Гэта азначала, што нехта з байдачнікаў залез у краму ці ў прадуктовы склад. Міліцыянер пісаў пратакол, а стары байдачнік яго ахвотна падпісваў, відаць, спадзеючыся, што каго-небудзь з яго ненасытнай прорвы возьмуць на казённае ўтрыманне. Але ў калонію для малалетніх злачынцаў маладых байдачнікаў чамусьці не бралі. Яны кралі, сварыліся, тузаліся да самага таго часу, пакуль адзін за адным не паразляталіся з мястэчка...

З адным з байдачнікаў, з рудым Аляксеем, Трахімчук разам вучыўся. Аляксей паяўляўся ў класе толькі ў пачатку навучальнага года, атрымліваў штаны, сарочку, паліто — тады дзецям мнагадзетных сем'яў дапамагала школа — і знікаў. З чацвёртага ці пятага класа ён наогул пакінуў школу.

У той жа час канчаў местачковую сямігодку адзін са старэйшых байдачнікаў — Алімпа. Настаўнікі яго хвалілі. Гнуткі, высокі Алімпа добра вучыўся, першы здаў нормы на значок «Варашылаўскі стралок», выступаў у самадзейнасці. Яшчэ перад вайной ён паехаў паступаць у лётнае вучылішча і больш у мястэчку не паказаўся.

Руды Аляксей у акупацыю надзеў павязку паліцэйскага. Першай ваеннай восенню добраахвотна вазіў расстрэльваць у сасоннік старых, знямоглых яўрэяў, якія не здолелі выехаць з мястэчка — каваля, шаўца, аптэкара.

Пасля вайны Аляксея доўга не маглі знайсці. Вельмі спрытна, умела ён хаваўся. Нарэшце яго злавілі, судзілі гадоў праз пятнаццаць пасля вайны. Вельмі жаласную прамову сказаў Аляксей у канцы суда. Аб тым, што быў малапісьменны, несвядомы, таму пайшоў па крывой дарожцы. Нават заклікаў змагацца супроць такіх, як ён сам...

Так здарылася, што ў дні суда над братам у мястэчку паявіўся Алімпа. Ён быў у лётнай форме, з пагонамі маёра, з некалькімі ардэнамі на кіцелі. Алімпе было непрыемна, што трапіў у мястэчка ў такі час. Ён толькі прайшоўся па вуліцах і зноў сеў у цягнік.

...Гадзіны ў тры ночы выгукі за сцяной сціхлі. Відаць, спіртны прыпас скончыўся, і бяздомнікі павалакліся на станцыю, на першы ранішні цягнік.

Да гэтага часу сагрэўся пакоік, і Трахімчук нарэшце моцна заснуў.

Ён прачнуўся, калі ў вокны глядзеў шараваты зімовы дзень. Ноччу ішоў снег, усё навокал было белае, свежае, чыстае. У садова-агародным пасёлку, як і на схіле лета, зноў панавала вялікая цішыня.

*1981*

# ВЫБАР

## I

Пасля мітынгу, на якім выступалі партызанскія камандзіры, сувязныя, падпольшчыкі, да Варанецкага падышоў сярэдняга росту, з трохі прыплюшчанымі, сінімі, як васількі, вачамі чалавек. Калі зважаць на святочнае зборышча, то апранут ён даволі неахайна і нават не пагаліўся: шырокі дабрадушны твар пакрывае буйная сівая шчаціна.

— Добры дзень,— сказаў ён, узяўшы Варанецкага за руку.— Я пазнаў вас. Вы прыходзілі да Арсеня Булыбы, які жыве ў Багімавічах. Я ў яго хаваўся. Вы слухалі радыё і расказвалі, што немцаў пад Масквой разбілі.

— Я не ведаю вас,— разгублена прамовіў Варанецкі.— Ніколі не бачыў...

— Не бачылі. Бо я хаваўся за печчу. На вас глядзеў праз шчыліну. Вы былі зусім малады хлопчык. У чорным палітончыку. Перашытым з чыгуначнага шыняля. Вы і да Піліпа Краснея прыходзілі...

Зрэшты, Варанецкі ўспомніў. Іх мястэчковае падполле ў першы год акупацыі перахоўвала яўрэя-краўца. Па прозвішчу Голуб. Толькі Арсень Булыба не быў падпольшчыкам. Быў проста добры чалавек. Тады, у снежні сорак першага года, Варанецкі вельмі здзіўляўся, чаму языкатая Арсеніха раптам стала заклікаць яго да сябе ў хату і цікавіцца падзеямі на фронце. Але няма нічога тайнага, што б не стала яўным...

— Майму родзічу не пашанцавала,— працягваў Голуб.— Доктару Багамольцу. Не знайшлося чалавека, які б прытуліў яго, расказаў пра Маскву. Адна Масква ў сорак першым годзе ратавала яўрэяў...

## II

Вісіць над лесам цёмная коўдра снежаньскага неба. Такое неба цяпер над усім светам. Нават над Масквой. Учора і сёння ад трох ці чатырох сустрэчных, якіх Багамолец напаткаў у лесе, ён пачуў, што фашысты Маскву захапілі...

Людзі глядзелі на яго ашалелымі ад страху вачамі. Сказаўшы два-тры словы, кідаліся прэч. Няўжо ён такі страшны? Мабыць, людзі палохаюцца яго зараслага рудой шчацінай твару, парванай нашчэнт вопраткі — выгляду валацугі ці нават бандыта. Але ад іх пярэпалаху цёмны страх напаўзае на яго самога: агідны, слізкі, ён адбірае волю, выклікае напаверх няпэўныя, здрадлівыя інстынкты...

Па дарозе Багамолец дайшоў да пагорка. Адсюль відаць мігатлівыя аганькі, якія паблісквають у Бараўцах. Бараўцы — сяло вялікае, доўгае, але аганькоў мала. Няма карасіну. Як тады, у грамадзянскую вайну. Тады свяцілі ў хатах смалякамі, лучынай. Відаць, і цяпер так. Таму аганькі мігатлівыя.

Злева Бараўцы, справа — курган могільніка. Яшчэ ў мірныя дні, калі Багамолец прыязджаў у сяло на райздраваўскай «эмцы», ён не любіў глядзець на могільнік. Штосьці цёмнае, халоднае, здрадлівае ён нагадвае...

Пастаяўшы некалькі хвілін на пясчаным узлобку, Багамолец рушыў назад, да лесу. Ён пераначуе яшчэ адну ноч у пасадках. Заўтра выйдзе на дарогу і запыніць чалавека з Бараўцоў. Хто б той ні быў. Распытае пра Філімончыка. Чаму недавучаны фельчар можа жыць у хаце, у цяпле, а ён, урач з дыпломам, як воўк, бадзяцца па лесе?..

Пакуль Багамолец дабрыў да лесу, узмацніўся вецер. У вершалінах маладых сасонак ён шуміць глуха і працяжна. Наогул пахаладала за апошні дзень. Невядома, як пры такім холадзе ён правядзе ноч у пасадках.

Ідучы непрыкметнай у цемені вечара разорай, якой край маладых пасадак аддзяляецца ад старога сасонніку, Багамолец

раптам запыняецца. Праз глыбіню хвойнай гушчэчы прабіваюцца трапяткія бляскі вогнішча. Агонь гарыць, бадай, на тым месцы, дзе ён правёў апошнія дзве ночы. Няўжо высачылі?..

Першым жаданнем было кінуцца прэч, уцякаць. Але, ашаломлены нечаканым відовішчам, ён неяк пераадолеў у сабе халодны, агідны страх. Калі б за ім сачылі, то маглі даўно схапіць. Хіба цяжка ўзяць бяззбройнага, абяссіленага чалавека, які два месяцы блукае без прыстанішча?..

Багамолец праз навісь галін пачынае ўглядвацца ў агонь, які бліскае між маладых хвоек. Яшчэ праз хвіліну ён асцярожна рассоўвае галіны, нячутна падбіраючыся да вогнішча. Пад нагамі трэснула сухая галіна, і Багамолец зноў застыў на месцы.

— Ідзі сюды, Ісаак! — пачуўся хрыплы голас ад вогнішча.— Не бойся!..

Голас нібыта знаёмы.

Адкінуўшы апошнюю асцярогу, Багамолец расхінуў галіны і выйшаў ледзь не да самага вогнішча. На аблюбаванай ім два дні назад невялікай палянцы палае агонь, ляжыць куча назапашанага нанач ламачча. Ля агню сядзіць апрануты ў зімовае паліто чалавек з сялянскай шапкай-кучомкай на галаве. Не зважаючы на Багамольца, чалавек торкае палкаю між вуголля — пячэ бульбу.

— Хто ты? — пытае Багамолец.

— Твой швагер,— адказвае знаёмы голас.— Можа, не зусім швагер. Але я не ўмею правільна сказаць, якія мы з табой родзічы. Я цябе яшчэ ўчора ўбачыў, Ісаак. Я ў балоце сядзеў, а ты хадзіў па лесе. І вот я знайшоў твой дом...

Чалавек падняў галаву, і, зірнуўшы на яго шырокі, зарослы цёмнай шчаціннай твар, Багамолец пазнаў краўца Гірша Голуба.

Яны паходзяць з аднаго прыдняпроўскага мястэчка і сапраўды між сабой нейкія родзічы — пажаніліся на стрыечных сёстрах.

Багамолец прысеў да агню, прасцёр над полымем адубянелыя рукі.

— Дзе ты начаваў?

— Я табе сказаў — на балоце. Знайшоў стог, выскуб дзірку. Да ўчарашняй ночы спаў у стозе. Але стала холадна. Прыйшла зіма.

— Зіма,— пацвердзіў Багамолец.— Што думаеш рабіць?

— Не ведаю.

Кравец выкаціў палкаю з вуголля дзве бульбіны. Канец палкі загарэўся, і ён торкнуў ім у зямлю. Кінуў у агонь некалькі ламачын.

— Давай вячэраць, Ісаак. Калі быў мір, мы адзін да другога не хадзілі. Вот як сустрэліся. Можа, бачымся апошні раз...

Багамольца пачаў раздражняць сам тон гаворкі. Нібы немаведама які мудрэц гэты самы ягоны швагер.

— Мы жылі ў розных месцах, Гірш. Ты не можаш сказаць, што я табой грэбаваў. Раён арганізаваўся ў Багімавічах нядаўна, і толькі прыехаўшы ў Багімавічы, я цябе пабачыў. Пасля таго як мы купаліся і лавілі рыбу ў Дняпры...

— Ты вучоны чалавек, доктар. А я хто?.. Я на цябе крыўды не маю.

— Ты паспеў адправіць сям'ю? — каб перамяніць гаворку, спытаў Багамолец.

— Мая сям'я паехала разам з тваёй. У адным эшалоне. Я ў той дзень бачыў цябе на станцыі. Мост па Дняпры яшчэ не ўзарвалі...

— Што ты хочаш гэтым сказаць?

— Хачу сказаць, што эшалон куды-небудзь даехаў. Калі не разбамбілі...

— Ты з палону ўцёк?

— Я ў палоне не быў,— адказаў кравец.— З такімі насамі, як мой і твой, немцы з палону не выпускаюць.

— Хіба ты не быў у арміі?

— Быў. Служыў у майстэрні. Мы шылі шынялі, гімнасцёркі. Калі наша майстэрня яшчэ стаяла пад Гомелем, немцы ўжо былі наперадзе. Мы трапілі ў акружэнне. Я тады знайшоў вось гэтае паліто і пайшоў сюды.

— Чаму не пайшоў на ўсход? Праз лінію фронту...

— Чаму ты так гаворыш, Ісаак? Ты не рэбе, а я не малы, дурны хлопец. Я думаў так: немцы наперадзе, праз іх я не праб'юся. Бачыў: па вёсках, сёлах іх няма. Былі і пайшлі. Я думаў: знойдзецца месца беднаму краўцу дзе-небудзь у глухім кутку. Ты вот быў вялікі начальнік і прыйшоў сюды. Чаму прыйшоў?..

— Я зрабіў памылку, Гірш. Вялікую памылку...

Багамолец змоўк. Выняў з кішэні кавалак хлеба, дзве цыбуліны, паклаў побач з печанымі бульбінамі. Агонь трохі прытух, і былі відаць дзве ці тры зоркі на чорным зімовым небе.

— Я калі пазаўчора ўбачыў цябе ў лесе, то вельмі ўзрадаваўся,— прызнаўся кравец.— Сачыў за табой. Хацеў паглядзець, куды пойдзеш. Хадзілі чуткі, што цябе пакідаюць у партызанах.

— Я не хацеўаставацца тут. Каго пакінулі, тыя пайшлі ў лес. Я — на ўсход. Але позна сабраўся. Не паспеў прабіцца. Трапіў, як ты, у акружэнне. Да лініі фронту не пайшоў, успомніў, што магу быць у партызанах. Вярнуўся, а атрада няма...

— Немцы атрад разбілі? — вырвалася ў краўца.

— Сам распаўся. Частка людзей пайшла за лінію фронту. Астатнія — хто куды...

Яны падкінулі ламачча ў агонь, павячэралі. Перад тым як легчы спаць, пашасталі па сасонніку, прынеслі па бярэмку сухіх галін, сукоў. Не шкадуючы, наламалі хвойных лапак, наслалі на дол. Павярнуўшыся спінамі да агню, паляглі спаць...

Ноччу пайшоў снег.

Ён сыпаў густа, шчодра, і начлежнікі хутка прачнуліся. Падкінулі хварасцін у прытухлы агонь.

— Нам тут болей нельга заставацца, Ісаак,— сказаў кравец.— Па першых слядах нас схопяць. Павядуць на шворцы, як бычкоў на разніцу.

— Куды збіраешся ісці, Гірш? — спытаў Багамолец.

— У Багімавічы. Да людзей. Без людзей мы прападзём.

— Я астануся ў Бараўцах. У Багімавічах мяне ўсе ведаюць.

Яны сталі збірацца. Які ў іх быў выбар? Ніякага іншага, апроч таго, што трэба шукаць прытулку пад чыёй-небудзь страхой. У лесе без прыстанішча, без харчу не пражывеш.

— Давай развітаемся, Ісаак,— хрыпла сказаў кравец.— Можа, апошні раз бачымся. Калі будзеш жыў і пачуеш пра маю смерць, перадай сям'і...

— Ты таксама, калі што якое, раскажаш маёй сям'і, Гірш...

Яны на развітанне абняліся, тры разы прыхінуліся адзін да другога зарослымі шчокамі. Выбраўшыся з сасонніку на дарогу, пайшлі ў процілеглых напрамках. Багамолец у Бараўцы, якія размешчаны блізка: за сасоннікам, за пясчаным пагоркам, кравец — у Багімавічы, у раённы цэнтр, да якога адсюль вёрст пятнаццаць.

Шчодры, густы снег вельмі хутка замёў іхнія сляды.

## III

Вайна да Багімавіч падыходзіла марудна. Немцы на Палессі завязлі. Толькі ў другой палавіне жніўня Багамолец разам з калонай мабілізаваных рушыў у водступ. У калоне нядаўні загадчык райздрава выконваў абавязкі ўрача.

Калоне прамой дарогі на ўсход ужо не было: немцы захапілі Гомель. Мабілізаваныя ішлі кружным шляхам: на Лоеў і далей за Днепр.

Гэта былі мясціны, дзе прайшла маладосць. У прыдняпроўскім гарадку Багамолец нарадзіўся, на ціхаходным параходзіку дабіраўся да Кіева — ён там вучыўся ў медыцынскім інстытуце — быў бадай ва ўсіх прылеглых да вялікай ракі раёнах, працаваў пасля сканчэння інстытута.

Ён спрабаваў перахітрыць лёс. Нізавошта не хацеў ісці ў партызанскі атрад, куды яго спачатку накіравалі. Замест сябе ўгаварыў астацца ў атрадзе хірурга Фукса. Зрэшты, логіка ў ягоных довадах была: у баявых умовах болей патрэбен хірург, які ўмее зашыць рану, паставіць на месца вывіхнуты ці перабіты сустаў, чым тэрапеўт, які лечыць парашкамі.

Багамолец свядома не хацеў заставацца на занятай ворагам зямлі. Меў горкі вопыт. Ён быў малады хлопец, калі ў гарадок на Дняпры па чарзе прыходзілі немцы, белапалякі, наляталі атаманы і «бацькі». Асабліва жудасным паўстае ў памяці Стракапытаўскі мяцеж. Чырвоны камандзір Стракапытаў, зноў перафарбаваўшыся ў белы колер, пачаў знішчаць савецкіх актывістаў, яўрэяў. Пры тым пагроме загінуў бацька Багамольца, гандляр сярэдняй рукі. Багамолец выратаваўся тым, што своечасава паехаў да цёткі ў Багімавічы. Стракапытаўцы лютавалі і там, але ў Багімавічах жыў разумны, выдатны поп, які выратаваў местачковых яўрэяў. Ён

пусціў яўрэяў у царкву, а сам пры ўваходзе стаў з паднятым крыжам. Рынуць на крыж стракапытаўцы не адважыліся...

Даўняе, жудаснае прадыктавала Багамольцу рашэнне: не заставацца ў акупацыі. У смутныя часы, пры змене ўлады робяцца непадобнымі да саміх сябе нават добра знаёмыя людзі. Але ад лёсу не ўцячэш. Пад Кіевам, горадам маладосці, ён трапіў у акружэнне. Прыйшлося міжволі ўспомніць пра партызанскі атрад.

Ён, зрэшты, як мог спрыяў гэтаму атраду. Стварыў некалькі патайных аптэк, адна з якіх у Бараўцах. У Бараўцы, да старога фельчара Філімончыка, ён пераправіў найбольшы прыпас бінтоў, ёду, іншых медыкаментаў. Ён ведаў: раённыя ўлады ўзялі з Філімончыка абяцанне памагаць партызанам...

І вось сам ён ідзе ў Бараўцы...

З цёмнага неба сыпле снег. Канчаецца малады сасоннік і пачынаецца поле. З правага боку праступае курган могільніка. За ім чыгунка-аднапутка, па якой ён прыйшоў сюды.

Багамолец мог завітаць у Бараўцы да Філімончыка яшчэ тры дні назад. Але здарылася непрадбачанае. Вёрст за дзесяць да сяла яго засцігла ноч, і ён папрасіўся нанач да будачніка. Ад будачніка, стараватага, спагадлівага дзядзькі, дазнаўся, што партызанскі атрад, пакінуты раённымі ўладамі, распаўся: немцы з паліцаямі разграбілі склады, знішчылі зямлянкі і буданы.

Будачнік паведаміў навіну наогул неверагодную: у Бараўцах старшынёй нямецкай воласці былы старшыня сельсавета Мігай, які вярнуўся з партызан...

Пра Мігая Багамолец думаў усе тры дні, калі блукаў вакол Бараўцоў. Успамінаў усё, што ведаў пра былога старшыню. На раённых нарадах Мігай, высокі, даволі няскладны мужчына гадоў сарака, гаварыў без паперкі, гучна, крыкліва, але бесталкова. Заўсёды прызнаваў памылкі, адгукваўся на заклікі. Здаваўся чалавекам нават празмерна аддадзеным службе.

У тым, што Мігай стаў старшынёй воласці, тоіцца загадка. Хіба выключана, што падобны крок зроблены для маскіроўкі, для разгортвання падпольнай работы? Калі так, то сховішча, паратунак Багамольцу забяспечаны...

Адно за другім набягаюць сумненні. Што, калі раптам сапраўды прадаўся Мігай? Як у такім выпадку павядзе сябе Філімончык?

Выбару ў Багамольца, аднак, няма. Філімончык самы блізкі чалавек. Калі ён, бяздомнік, не знойдзе ў яго схову, прыстанішча, то не знойдзе нідзе...

Год назад, у пачатку зімы, Філімончыка ўзнагародзілі. Першы з медыцынскіх работнікаў раёна ён атрымаў ордэн «Знак Пашаны». Дзеля ордэна нямала пазмагаўся Багамолец. У самым прамым сэнсе.

Ён шчыра хацеў адзначыць доўгае і самаахвярнае служэнне медыцыне сельскага фельчара. Вольга Іванаўна, жонка фельчара, тут ні пры чым. Вольга Іванаўна, намнога маладзейшая за мужа, была проста каханкай. Не першай і не апошняй. На адносіны з жанчынамі Багамолец глядзеў без асаблівай цнатлівасці. Жонка хварэла, ездзіла па дактарах, і што заставалася рабіць? Жыццё даецца адзін раз. Ён жыў сам і даваў жыць другім. Ніколі нікога не пакараў. Наадварот, вызваляў з бяды...

У перадсвітальнай шэрані Багамолец лёгка знайшоў сядзібу Філімончыка. Яна ў цэнтры сяла, агароджана высокім дашчаным парканам. Вокнамі пярэдняга пакоя дом выходзіць на вуліцу, глухой сцяной — на правулак, які вядзе на поле. Правулкам, ціснучыся да сцяны, Багамолец прабраўся на вуліцу. У двух ці трох вокнах хат скачуць мігатлівыя бляскі. Хутка прачнецца сяло. Трэба хутчэй...

Ён асцярожна пастукаў у шыбіну. Адразу занавеска расхінулася, мільгнуў нечы твар. Багамолец пайшоў да веснічак. Пачуліся крокі. Нехта, правальваючыся ў снег, ішоў на двор.

— Хто там? — пачуўся сярдзіты голас Вольгі Іванаўны.

Багамолец, стараючыся гаварыць не вельмі гучна, назваў сябе. За веснічкамі з хвіліну сцятае маўчанне.

— Ідзіце прэч! — прыглушана, але вельмі выразна сказала Вольга Іванаўна.— Мы вас не ведаем. Ведаць не хочам. Вам няма чаго тут рабіць...

Яна нават не адчыніла веснічак. Пачухкала назад да ганка.

Багамолец застыў у здранцвенні. Прыхінуўся да шула і гэтак стаяў.

Праз некалькі хвілін на двары зноў пачуліся крокі. Ляскнула жалезная засоўка, і веснічкі адчыніліся.

— Заходзьце хутчэй, Ісаак Абрамавіч,— спалохана сказаў Філімончык.— Бяда ў нас. Не дай Бог вас пабачаць...

Паспешліва прычыніўшы дзверкі, засунуўшы засаўку, пастарэчаму шоргаючы па снезе нагамі, абутымі ў разлезлыя валёнкі, Філімончык падыбаў паперадзе. У правай руцэ трымаў ліхтар «лятучая мыш». Мінулі хату, паветку, хлеў, расчынілі яшчэ адны веснічкі, якія вядуць на агарод.

На агародзе, наўзбоч раскарачаных, з цёмнымі галінамі яблынь стаіць лазенька. Яе якраз і меў на ўвазе Багамолец, думаючы пра Бараўцы, пра прытулак, які можа для яго знайсці Філімончык.

У твар патыхнула вільготным цяплом. Учора ці пазаўчора ў лазеньцы мыліся. Аднак услончык, полка, падлога зусім сухія.

— Я прынясу вам есці,— сказаў Філімончык і, не пакінуўшы ліхтар, выйшаў.

Зрабілася цёмна, як у склепе. Багамолец вобмацкам знайшоў полку і лёг. Ён успомніў, што некалі лазеньку спецыяльна для яго тапілі. Званілі ў раён. Аднойчы ён прыехаў і дома Філімончыка не застаў. Вольга Іванаўна перш чым пасадзіць яго за стол, прывяла ў лазеньку. На хвіліну адвінулася і зноў прыбегла. Похапкам распранулася, нібы хочучы выхваліцца буйным, трохі азызлым целам. Пахатлівая жывёліна!..

Нечакана для сябе Багамолец заснуў. Праваліўся нібы ў бездань. Ён, відаць, гадзіну ці нават болей паспаў, бо калі прачнуўся, у невялічкае, зашклёнае замглёнымі, накладзенымі адзін на другі кавалкамі шкла акенечка пазіраў шэры зімовы дзень.

Дзверы рыпнулі, апранутая ў нейкае шэрае, з доўгімі крысамі паліто зайшла Вольга Іванаўна. Выняла з лазовага кошыка яду: гаршчэчак са стравай, кавалак хлеба, лыжку.

— Антона Кузьміча выклікалі ў бальніцу,— сказала пра мужа.— Вы, Ісаак Абрамавіч, паешце і ідзіце. Вам тут быць нельга. Пазаўчора злавілі і расстралялі доктара Фукса. Ён да нас ішоў.— Вольга Іванаўна гучна ўсхліпнула.

— Доктара Фукса? — перапытаў Багамолец, халадзеючы.— Хіба ён не пайшоў на ўсход?

— Не пайшоў. Ён два разы да нас прыходзіў. Калі быў яшчэ разам з Мігаём у лесе. Мігай яго спецыяльна расстраляў. Каб замесці сляды і паказаць немцам, што ён ім адданы. Цяпер да нас чэпіцца. Кожны дзень выклікае Антона Кузьміча...

Вестка пра Фукса нібы аглушыла Багамольца, зрабіла абыякавым да ўласнага лёсу.

— Змеркнецца, і вы ідзіце, Ісаак Абрамавіч,— працягвала гаспадыня.— Дваром не ідзіце, пералезце праз плот. Пройдзеце полем, а там у лес...

— Добра,— абыякава згадзіўся Багамолец.

Неяк похапкам, не развітаўшыся, Вольга Іванаўна выскачыла з лазенькі...

«Сытая кабыла,— падумаў Багамолец пра Вольгу Іванаўну.— Сволач. Хоць бы дазволіла пагрэцца, абмыць вошы. Ведае, што выганяе на смерць...»

На другі дзень Багамолец прыйшоў у мястэчка. Хадзіў па вуліцах, не тоячыся, не паказваючы страху, чытаў нямецкія аб'явы. Надвячоркам яго арыштаваў паліцэйскі патруль...

## IV

Голуб торкае шыльцам, прабівае на шве дзірачку, прасоўвае іголку з навошчанай суровай ніткай, сшываючы аўчыны. Паціхеньку сам сабе пад нос напявае:

Тумбала-тумбала, тум балалайка,
Тум балалайка, спіл балалайка...

Дзясяты ці адзінаццаты кажух шые Голуб за зіму. Ён пашыў бы болей, але гаспадар на гаспадара не прыходзіцца. У аднаго аўчын няма, у другога не выраблены, цвёрдыя, як жалеза. Дый на другую работу ён адцягваўся, перашываючы розную старызну.

Дзень пабольшаў. Праз акенечка стопкі Голубу відаць, якія доўгія капяжы-суслы павіслі са страхі хлява. Сонца ўсё часцей прабіваецца з-за калматых воблакаў, і капяжы безупынна капаюць. Кроплі звіняць, як музыка. Вясна на дварэ.

Тумбала-тумбала, тум балалайка,
Тум балалайка, спіл балалайка...

У гэтым трэцім па ліку сховішчы Голубу найлепей. Ён тут амаль поўны гаспадар. Калі хоча ўстае, калі хоча лажыцца.

У яго ёсць вядро вады, паўмяшка бульбы, крупы, трохі скораму. У стопцы зроблена пячурка, і ён топіць яе прыцемкам, варыць страву. Робіць гэта вечарам і раніцой, каб не асабліва кідаўся ў вочы дым, які выходзіць у жалезную трубу праз акенца.

Вядома, і гаспадыня яго падкармлівае. Прынясе цёплы блінец са шкваркай, гладышык малака.

Ноччу Голуб на некалькі хвілін выбіраецца са свайго сховішча. Чалавеку нельга жыць, не паглядзеўшы на неба, зоркі, воблакі, не адчуўшы нагамі зямлі, а тварам — подых ветру.

Тум балалайка, спіл балалайка,
Спіл балалайка, фрэлех зо зэйн...

Голубу адразу пашанцавала. Развітаўшыся з Багамольцам, ён рушыў у мястэчка, да гаспадара сваёй першай кватэры Арсеня Булыбы. Спадзяваўся, што Арсень з хаты не выганіць. Трохі пабойваўся ягонай жонкі, кабеты неспакойнай, залішне языкатай, якая перасварылася з усімі суседкамі.

Але іменна Куліна, жонка Арсеня, адыграла асноўную ролю ў яго выратаванні.

— Будзеш жыць у нас, Гірш,— сказала, як адрэзала.— Хлеба няма, але пракормімся.

Яму паставілі ложак у закутку, паміж грубкай і сцяной, у чыстай палавіне хаты.

Загарадзілі закутак шырокім самаробным шкапам — каб часам не ўбачыла пастаяльца чужое цікаўнае вока.

Пра схоў яўрэя ведала ўся Арсенева сям’я. Такога ўтаіць нельга. Але старэйшы сын, малодшая дачка, якія жывуць з бацькамі, язык за зубамі дзяржалі цвёрда. Чаго не трэба ведаць, ні адна чужая душа не ўведала. Старэйшы Арсенеў сын Валодзя — машыніст. Вадзіў цягнік да Оўруча, да Гомеля. Так здарылася, што не здолеў уцячы ад немцаў нават на цягніку. Два сярэднія сыны, хоць на чыгунцы не служылі, не вадзілі паяздоў, з мястэчка выбраліся.

Арсень да вайны стаяў кантралёрам у раённым клубе. Пры немцах у клубе таксама наладжваліся танцы, іншы раз

паказвалі кіно, і ён заняў ранейшую пасаду. Але Арсень чалавек надзвычай маўклівы. Прыйдзе са службы, пасёрбае капусты, ляжа спаць. Слова абцугамі не выцягнеш. Сын і дачка рабілі выгляд, што пра пастаяльца не ведаюць.

Выйсце знайшла Арсеніха. Адчувала, што чалавеку, які дзень і ноч сядзіць за грубкай, трэба ведаць хоць трошкі з таго, што робіцца на белым свеце. Нават мудрай кабетай аказалася Арсеніха. Разумела — настрой яўрэю могуць падняць толькі добрыя весці з фронту.

Арсеніха стала запрашаць у хату суседскага хлопца. Па словах гаспадыні, хлопец добра вучыўся, чытаў многа кніжак і быў такі разумны, што за год канчаў па два класы.

Адхінаючы занавеску, Голуб час ад часу дзівіўся на хлопца. Ён сядзеў на стуле ў някідкім, перашытым з чорнага чыгуначнага шыняля палітончыку, стараючыся схаваць пад стул разлезлыя, сцягнутыя па швах суровымі ніткамі чаравікі. Твар у хлопца быў прыемны, далікатны і голас трохі глухаваты.

Арсеніха задавала пытанні, хлопец адказваў. Яна цікавілася, чаму немцы расстрэльваюць яўрэяў, і хлопец тлумачыў, што немцы лічаць сябе вышэйшай расай, яўрэяў — ніжэйшай і, бадай, што поруч з яўрэямі ставяць многія іншыя народы — французаў, палякаў, рускіх, беларусаў.

Месяц ці нават болей завітваў у хату суседскі хлопец. Менавіта ад яго Голуб пачуў, што немцаў пад Масквой спынілі, затым пагналі назад...

Відаць, Арсеніха запрашала хлопца, каб і сябе супакоіць. Хаваючы яўрэя, рызыкуючы сабой, сям'ёй, хацела пераканацца, што немцы ў мястэчку аселі не навечна. Бо страшнае гаварылі тады, калі Голуб, развітаўшыся з Багамольцам, прыйшоў да Арсеня: немцы захапілі Маскву, Ленінград, сягнулі ледзь не да Урала...

Вестку пра расстрэленага немцамі доктара Багамольца, які прыйшоў у мястэчка і адкрыта, не хаваючыся, хадзіў па вуліцах, Арсеніха доўга ад Голуба таіла. Не хацела яго хваляваць, палохаць. Голуб многа думаў пра далёкага свайго родзіча. Не пашанцавала яму сустрэць добрых людзей, і нічога ён, відаць, не ведаў пра Маскву, пра тое, што немцам сталі даваць у зубы, інакш бы знайшоў ратунак.

Голубу шкода Багамольца. Ён ведае хваробу, якою той захварэў. Хвароба называецца адчай. Ён сам ёй хварэў, але, на шчасце, вылечыўся. Не ад лішняй адвагі хадзіў, не хаваючыся, па вуліцах мястэчка Багамолец, а ад адчаю. Не меў дзе прытуліць галаву. Любіў многіх жанчын, меў з імі ўцеху, асалоду, і ні адна ў ліхую гадзіну не адгукнулася...

І, відаць, залішне службу, пасады любіў Багамолец. Бо ёсць адзін пункт, паводзіны далёкага родзіча ў якім ён, Голуб, не ўхваляе. У грамадзянскую вайну Багамолец хаваўся ад пагрому тут, у мястэчку. Яго выратаваў мясцовы поп. А калі гады за тры да гэтай вайны крута прыйшлося самому папу, якога арыштавалі, і калі жонка папа стала збіраць подпісы сярод тых, хто ўратаваўся ад пагрому, то Багамолец свой подпіс не паставіў...

Другім чалавекам, хто Голубу даў схоў, быў крамнік Сцяпан Лопат. Голуб сам да яго папрасіўся. У адну з зімовых начэй Арсеніха перавяла пастаяльца да былога крамніка.

У Лопата Голуб жыў на гарышчы. Днём, апрануты ў фуфайку, з падшытымі лямцам валёнкамі на нагах, ён шыў кажухі, а ноччу, прыхінуўшыся да цёплага лежака, спаў. У франтоне было невялікае зашклёнае акенечка, у якое кравец час ад часу зазіраў. Від зацянялі чорныя галіны яблынь. Хата Лопата стаяла ў глыбіні двара, аддзеленая ад вуліцы невялікім садам. Аднак сёе-тое можна было ўбачыць. Па вуліцы, як і ў звычайным жыцці, хадзілі людзі, іншы раз яны спыняліся, размаўлялі, нават жартавалі, смяяліся...

Крамы пры немцах не працавалі. Сцяпан уладкаваўся ў цырульню. Галіў, стрыг местачкоўцаў, мясцовых паліцэйскіх, часам нават немцаў. Навін прыносіў заўсёды шмат. Аж захліпаўся, расказваючы іх...

Лопат чалавек залішне трапяткі. Было відаць, што ён вельмі баіцца за сябе і сям'ю. Аднойчы ў дом прыйшлі паліцэйскія, начны патруль, і Сцяпан ад страху накрычаў на паліцэйскіх. Яны павялі яго з сабой, усыпалі шампалоў...

Голуб зразумеў, што ад Лопата трэба хутчэй перабірацца. Ён зразумеў і другое: такія, як Лопат, гандляры, крамнікі ў мінулым, калі яны толькі не надта палахлівыя, будуць перахоўваць яўрэяў, бо звязаны з імі былым жыццём, як і

жыццём будучым, у якім такія іх паводзіны могуць стаць зарукай дальнейшага бясхмарнага існавання.

Піліп Жыгун, які да вайны стаяў у краме «Заготжыўсыравіны», прымаў шкуры, шэрсць, свіную шчаціну і вёў з насельніцтвам сустрэчны гандаль мануфактурай, гаруснымі хусткамі, іголкамі, ніткамі, пры немцах падняўся на ступеньку вышэй па службовай лесвіцы. Цяпер загадваў базай «Заготжывёлы», адпраўляў у Германію кароў, свіней, авечак.

Жыгун відны з сябе, буйнацелы, вясёлы. Хітры чалавек. У хату да яго прыходзяць паліцэйскія, а часам і нямецкія гаспадарнікі ў жоўтых без пагонаў шынялях.

Прыцемкам, калі не цікуе чужое вока, завітваюць да Жыгуна іншыя людзі. Адзін раз Голуб пазнаў хлопца, які на пачатку зімы прыходзіў да Арсеніхі і расказваў пра разгром немцаў пад Масквой, другі раз убачыў высокую шыракаплечую жанчыну, якая, перш чым зайсці ў хату, схавала за пазуху нешта падобнае на наган.

З гэтага Голуб робіць выснову, што Жыгун знаецца з партызанамі ці з людзьмі, якія шкодзяць немцам тут, у мястэчку...

Мінула зіма, вясна. Наступіла лета.

Даўно апрануў зялёную вопратку лес. Было цёпла, добра, кожны куст мог даць прытулак такому бяздомніку, як Голуб.

Але Жыгун не спяшаўся. Абяцаў накіраваць краўца ў харошы атрад. Ішлі дні, тыдні...

Аднойчы Піліп разбудзіў Голуба ноччу. Спявалі другія ці трэція пеўні. Зарэла неба. Каля стопкі ён убачыў постаць высокай плячыстай жанчыны. Яна паціху ўсхліпвала.

Піліп вынес торбу з харчамі, даў у рукі Голубу.

— Яна завядзе цябе ў атрад,— сказаў.

На развітанне Голуб з Піліпам абняліся.

Калі мінулі вуліцу, поле, увайшлі ў лес, жанчына раптам упала на зямлю, стала качацца, выкрыкваць гучныя літанні.

— Братка мой! Мая дарагая сястрычка!..

Голуб спалохаўся, падумаў, што жанчына ненармальная.

Але яна хутка ўстала, паправіла на сабе хустку, аднекуль з-пад куста дастала і павесіла на плячо вінтоўку.

— Майго брата і сястру ўчора расстралялі,— сказала коратка.— Тут у мястэчку. За сувязь з партызанамі...

І пайшла...

Краўцу хацелася суцешыць суровую з выгляду, з заплаканымі, чырвонымі ад слёз вачамі, жанчыну, сказаць ёй штонебудзь добрае, ласкавае, але ён не знаходзіў слоў і моўчкі тупаў за ёй.

*1981*

## ЗАГАРОДКА НА ВАКОЛІЦУ

### I

Аглядчык вагонаў Пятро Лосік блукаў вакол млына, спадзеючыся разжыцца кулём вобмешкі: часам прадаюць калгасныя шафёры, калі мелюць субар для жывёлы. Але малола падсобная гаспадарка маслазавода. У гэтых не дакупішся — самі сцягнуць, калі што не так ляжыць. Маслазавод завёў свіную кашару, прадае сала і мяса сваім рабочым.

Млын знаёмы Пятру змалку. Непадалёк ад яго, на пясчаным пагорку была школа, куды ён бегаў пяць гадоў, пакуль не пабудавалі новую школу ў цэнтры мястэчка.

Здаецца, млын спрадвеку стаіць на гэтым месцы. Раней над ім узвышалася высокая, з чатырма адводамі-дратамі труба. Гучна чахкала паравая машына, і чорная труба выпускала ў неба цёмна-шэрыя клубы дыму. Цяпер млын працуе ад электрычнасці.

У гэтым месцы наогул была засяроджана ці не ўся мясцовая прамысловасць. Адначасна з уздыхамі паравіка чуўся пранізлівы віскат: рэзала дошкі піла-цыркулярка. Была яшчэ парня: з доўгіх, распараных кавалкаў дубу спатнелыя, у адных сарочках дзядзькі гнулі вобад на колы.

На месцы парні, пілы-цыркуляркі цяпер мэблевы камбінат, які вырабляе шкапы, табурэткі, нават абцягнутыя каляровай матэрыяй мяккія канапкі.

Новыя завознікі не пад'язджаюць. Дзень прапаў марна. Лосік рушыў дадому.

Насупраць старой школы размаўляюць, размахваючы рукамі, чацвёра мужчын. Яны знаёмыя, але Пятро толькі кіўнуў галавой, хочучы прайсці міма.

Але не ўдалося не зачапіцца за кампанію — аклікнуў Мікалай Прахарэнка, шафёр «хуткай дапамогі».

У купцы мужчын акрамя Мікалая і Івана Лізюка, дырэктара мэблевага камбіната, двое прыезджых, якія ў мястэчку даўно не жывуць. Чорны, як грак, Міша Галосны, сувязіст з Гомеля, Пятру непрыемны, а з Васілём Бабоўкам, тоўстым, распаўнелым, што яшчэ хлапчуком падаўся ў Ленінград, адносіны ў Пятра заўсёды былі самыя прыязныя.

— Пойдзем вып’ем,— вітаючыся за руку з Пятром, сказаў Мікалай.— У маю хату. Вот хлопцаў сустрэў. Мы ж разам вучыліся. Калі яшчэ пабачымся?

— Мне заўтра на дзяжурства,— стаў адмаўляцца Пятро.

Галосны зарагатаў:

— Дык то заўтра. Да заўтра можна мора гарэлкі выпіць. Ты стрэлачнікам робіш?

«У цябе вып’еш,— падумаў пра Галоснага Пятро.— Снегу леташняга не дапросішся».

Услых сказаў:

— Ад Гомеля да Жыткавіч няма ніводнага стрэлачніка. Дыспетчар адзін усіх замяняе. Сядзіць у кабінеце, націскае на кнопкі. Ты ж па сувязі ў Гомеле служыш. Павінен ведаць...

Шыракаплечы, з ледзь прыкметнай рудаватай шчэццю на белым, зусім не кранутым загарам твары, Васіль Бабоўка, відаць, спалохаўся, што кампанія распадзецца.

— Перастаньце, хлопцы,— Васіль сціснуў Пятрову руку абедзвюма сваімі.— Не паспелі сабрацца, а ўжо сварымся. Я пяць гадоў тут не быў. Хаджу па вуліцах, і плакаць хочацца. За тры дні не сустрэў ніводнай знаёмай мардасіны. Цяпер я вас проста так не выпушчу...

— Пойдзем да мяне,— зноў сказаў Мікалай.— Гарэлка ёсць, і закуску знойдзем. Хіба што мінеральнай вады трэба купіць. Ці ліманаду. Каб запіваць гарэлку.

Пятро падумаў, што да Мікалая варта схадзіць. Некалі яны таварышавалі. А ён з таго часу, як Мікалай аддзяліўся ад бацькі, стаў жыць у другім канцы мястэчка, ніколі парог яго дома не пераступіў. Тым болей што Мікалая напаткала бяда...

— Я прыйду,— сказаў Пятро.— Забягу да жонкі. На пошту. Скажу, каб не пазнілася з работы. Не будзе каму карову пусціць у двор.

— Твая жонка яшчэ робіць? — спытаў Лізюк.

— Да пенсіі год астаўся. Хоча даработаць.

Лосік падаўся на пошту. Увогуле ён не любіць бавіць час з людзьмі, далёкімі ад сябе. Але тут прыйдзецца. Мікалай не так сабе заве ў госці.

Пошта, праўдзівей, тэлефонная станцыя, радыёвузел, некаторыя іншыя службы сувязі, размешчаны ў вялікім, падобным на стадолу, драўляным доме са шматлікімі прыбудоўкамі. Нішто не паказвае, што менавіта ў такім будынку павінна знаходзіцца тэлефонная станцыя. Раней тут размяшчалася шавецкая арцель.

Жонка Лосіка працуе тэлефаністкай. Раздабрэлая, мажная, з белымі, нібы пух, валасамі, яна сядзіць на табурэціку ў вузкім, абклееным бляклымі шпалерамі пакоі з адным акном, імкліва выхопліваючы, устаўляючы ў медныя лункі зноў шматлікія шнуры з бліскучымі наканечнікамі. Пятро не ведае, як знаходзіць жонка на чорнай пластмасавай дошцы патрэбныя лункі, як адрознівае адзін ад другога патрабавальныя галасы, што, нібы чмялі, звіняць у тэлефоннай трубцы, як наогул трывае ў гэтым бясконцым тлуме. Ён шкадуе жонку, стараецца перакласці пабольш дамашняй работы на сябе.

— Не бaўся,— сказала жонка, выбраўшы хвілінку ў сваёй няспыннай прамове з кліентамі.— Не пі многа. Табе заўтра на дзяжурства.

Непадалёк ад пошты сядзіба Івана Лізюка. Вуліца тут наўсцяж пясчаная, затое заўсёды сухая. Лізюк адбудаваў дом з размахам — цэлая харомiна. Вокны шырачэзныя, зашклёная веранда, мезанін. У такім доме, відаць, пакояў восем. Нездарма Лізюк дырэктар мэблевага камбіната.

Але, з другога боку, чалавек Лізюк не благі. Нос не дзярэ. Калі ў Пятра памерла маці і трэба было вырабіць дубовы крыж, ён пайшоў на камбінат. Лізюк адразу загадаў выпісаць нарад, і да паўдня крыж быў гатовы.

Мінуўшы Лізюкоў дом, правальваючыся туфлямі ў сыпучы пясок, Лосік нос у нос сутыкаецца з Лявонам Бяганскім. Чарнатвары, неахайна апрануты Лявон трохі прыдуркаваты,

і меней за ўсё Пятро хацеў бы з ім цяпер запыняцца. Але ад Лявона не адчэпішся. За год ён мяняе два ці тры месцы работы, месяцаў некалькі зусім не працуе, блукаючы ў гэты час па мястэчку і ўступаючы ў размову з кожным, каго ні сустрэне.

— Куды ідзеш? — пытае Бяганскі.

Пачуўшы адказ, з хвіліну думае.

— Хана твайму Мікалаю! — заяўляе рашуча.— Рак у паследняй стадыі. Метастазы пайшлі па ўсім целе. Яго таму з дыспансера выпісалі. Болей месяца не пражыве...

— Я чуў — ён падлячыўся...

— Пабачыш, што будзе цераз месяц. Я табе точна гавару.

Сказаўшы апошнія словы, Лявон спакойна пабрыў сваёй дарогай.

Пятру ніякавата. У маладыя гады ён сябраваў з Мікалаем. Так здарылася, што пазней іхнія дарогі разышліся, хоць ён і Мікалай ні разу між сабой не пасварыліся. Мікалаеў бацька прыехаў з іншага раёна, рабіў у калгасе, купіў старую, напаўразваленую хатку — яна стаяла на ўзмежку з Пятровым агародам.

Да вайны мястэчка мела небагата садоў. У іхнім канцы вуліцы невялікі садок — тры яблыні-пепінкі, груша, некалькі слівін — быў толькі ў Пятра. Можа, таму ягонай дружбы дамагаліся многія хлопцы з вуліцы. Мікалай таксама стаў прыходзіць да Пятра, як толькі прыехаў у мястэчка. Усіх здзіўляў яго незвычайна высокі рост. Ён так хутка рос, што рукі вылазілі з рукавоў нават у новых сарочках, а штаны здаваліся заўсёды кароткімі, пашытымі нібыта на недаростка.

Мікалай быў ціхмяны, бяскрыўдны. Боек, шумных гульняў не любіў, хадзіў заўсёды з кнігай. Гоніць пасвіць карову, цёлку — і людзей не бачыць, бо нос уваткнуты ў кнігу. З кнігай Мікалай уставаў, клаўся спаць, але вялікіх поспехаў у навуцы не паказваў, вучыўся не лепей за Пятра. Гэтак жа, як ён, на сямігодцы супакоіўся.

У іхнім садку пры самай сцяне суседскай хаты расла высокая, з раскідзістай кронай хвоя. Бацька пасадзіў яе, калі быў малады, і за ягонае жыццё яна такая вымахала. Пятро цяпер разумее бацьку. Ён хварэў на сухоты і, мабыць, лічыў, што хвоя ва ўласным садку будзе спрыяць выздараўленню.

Хвоя як бы перапыніла дружбу з Мікалаем. У сорак другім годзе, у акупацыю, калі Пятру і Мікалаю было па сямнаццаць гадоў, іх абодвух запісалі для адпраўкі ў Германію. Гэта было летам, у ліпені месяцы. Мікалай прыйшоў да Пятра, выняў з кішэні загорнуты ў насавую хустачку пакунак.

— Тут мае дакументы,— сказаў.— Давай твае і мае закапаем разам. Пад хвояй. Там сухая зямля. Можа, вернемся ты ці я...

У іх не было яшчэ пашпартоў, іншых важных дакументаў, а толькі пасведчанні аб сканчэнні сямігодкі, членскія кніжачкі Асаавіяхіма, МОПРа.

Яны знайшлі картонную скрыначку, абгарнулі паперы рыззём, лахманамі, закапалі...

Пятро, аднак, не паехаў у Германію. Яго выратавала суседка, немка Гертруда Базылевіч, і гэта асобная гісторыя. Шкада, што гэту гісторыю ён ніколі не расказваў Мікалаю...

У дваццатым годзе прыбрыў у мястэчка невядомы тут чалавек Антон Базылевіч. Не адзін з'явіўся, а з жонкай-немкай, якую знайшоў, калі быў у палоне ў Германіі. Антон быў хваравіты, зеленаваты з твару: у акопах, на фронце, атруціўся газамі, а ўжо потым трапіў у палон.

Немка, як гаварылі, рабіла разам з Антонам парабчанкай у памешчыка. Таму выйшла замуж за палоннага і згадзілася ехаць з ім на яго радзіму — у краіну, дзе адбылася рэвалюцыя.

За мястэчка Базылевіч здолеў зачапіцца. Меў у руках рамяство: умеў стрыгчы і галіць.

Калі Пятро падрос, ён ахвотна запыняўся каля пафарбаванага ў зялёны колер буданчыка цырульні, што стаяла па правы бок пыльнай местачковай плошчы, у блізкім суседстве з разлеглым хлявом пажарнай каманды. Базылевіч быў блізкім суседам, і гэта як бы давала Пятру права таўчыся каля цырульні, назіраючы, як спрытна палясквае бліскучымі ножніцамі апрануты ў белы халат цырульнік, як стрыжэ адну кучматую галаву за другой, скідае на падлогу русявыя, чарнявыя, сівыя патлы чужых валос, затым замятае іх венікам у кут.

Некаторыя кліенты, пастрыгшыся, яшчэ і галіліся. І гэтую работу Базылевіч выконваў з няменшым бляскам: за лічаныя імгненні наводзіў брытву на раменным пасе, хутка і старанна

намыльваў кліенту твар, затым ледзь-ледзь прытыкаючыся худымі, тонкімі пальцамі да намыленай шчакі, падбароддзя, імкліва слізгаў па іх брытвай.

Хата Базылевіча стаяла перад загародкай на ваколіцу. Пятру падабалася само месца, і летнім часам ён прыбягаў сюды бадай кожны дзень. Сядзеў на жардзяным плоце, якім праход на ваколіцу быў адгароджаны ад вуліцы, і назіраў, што робіцца на цырульнікавай сядзібе.

Па агародзе з лазовым кошыкам у руках звычайна бегала Базылевічава жонка, таўставатая, няскладная з выгляду, але надзвычай увішная і працавітая. Гэта яна сама, без чыёй-небудзь дапамогі, капаючы адной рыдлёўкай, узадрала кавалак удзірванелай балацянкі пад агарод. Немка добра агарод даглядала і не горш іншых суседак вырошчвала на балацянцы радыску, гуркі, памідоры.

Русявая, даўганогая, з далікатным тонкім тварыкам Ліза, старэйшая дачка цырульніка, была падобна на бацьку. Пятро з ёй разам вучыўся і наколькі дазвалялі жорсткія ўмовы хлапечай талакі нават сябраваў.

Восенню ваколіцу залівала вада, зімой на разлеглым лёдавым прасторы каталася на каньках-дзеравяшках хлапечая талака. Ваколіца, праходы да якой калгас загароджваў, каб ашчадзіць траву ад патравы, не пераставала вабіць Пятра і летам.

Ён асабліва любіў месца, дзе стаяла загародка. Тут быў сухі, засеяны далікатным белым пясочкам дол, які, відаць, утварыўся з глею. У шуле плота, складзенага з тоўстых бярвенняў — ім быў агароджан проціleглы Базылевічаў двор,— вяліся чорныя шэршні. Кожны з іх пагрозліва гудзеў, перш чым нырнуць у сваю бяздонную дзірку.

Іншы раз Ліза выходзіла са двара, садзілася поруч з Пятром на жэрдкі загародкі, і яны абое дзівіліся, як сонечным поўднем трымціць над зялёным долам ваколіцы сіняватае марыва смугі, як носяцца, трывожна кігікаючы, кнігаўкі, што якраз гэтай парой пераводзяць сваё малое птаства ў іншае месца.

Седзячы на жардзінах, дрыгаючы ў паветры нагамі, было прыемна глядзець на далёкі лес, які нібы падковай агінаў разлеглую лугавіну. Навальніца заўсёды прыходзіла з

боку лесу. Спачатку хмары згушчаліся над далёкімі дубамі, пускалі са сваіх глыбінь сярэбраныя стрэлы-зігзагі, грымелі грымотамі, затым паволі насоўваліся на мястэчка.

Маці не любіла, калі Ліза доўга адсутнічала.

— Лізе! — крычала яна.— Ком гер!..

У трыццаць сёмым годзе Базылевіча арыштавалі. Можа, якраз за тое, што прывёз з Германіі жонку.

Пятру было шкада Лізы. Ён зрабіў ёй канькі-дзеравяшкі, але яна ні разу не выйшла на лёд, бо не мела добрых чаравікаў.

Пра гэтыя канькі, відаць, успомніла Лізіна маці, калі ратавала Пятра ад Германіі. Яна ў акупацыю высокіх пасад не займала, працавала на станцыі табельшчыцай, але яна была немка і добра гаварыла па-нямецку. Каму трэба, Лізіна маці давяла, што Пятро ў сям'і кармілец, трымае на руках старую маці, хворую сястру. Перад самай адпраўкай Пятра са спіскаў выкраслілі...

Мікалая тым часам у Германію пагналі. Пачынаючы з гэтага моманту, між ім і Пятром як бы прабегла чорная кошка. Мікалай не ведаў пра Лізу, яе маці, не ведаў, што дзеля свайго выбаўлення ад Германіі сам Пятро нічога не рабіў.

Калі восенню сорак трэцяга года фронт стаў прыбліжацца да мястэчка, Гертруда разам з дзецьмі паехала ў Германію. Відаць, не спадзявалася спаткацца з мужам. Ён сапраўды не вярнуўся.

А Пятро пайшоў у армію. Выкапаў пад хвояй скрыначку з дакументамі, свае ўзяў з сабой, Мікалаевы прыткнуў пад бэльку.

Мікалай і Пятро вярнуліся ў мястэчка ледзь не адначасова: праз год пасля сканчэння вайны. Мікалай пасля Германіі працаваў на шахтах у Данбасе, Пятро лячыўся ў шпіталі: у самым канцы вайны яго цяжка паранілі.

Пятро ўладкаваўся на станцыю: пабыўшы два месяцы практыкантам, заняў пасаду стрэлачніка. Мікалай скончыў шафёрскія курсы. Шафёры леспрамгаса па тым часе добра зараблялі. Але ён у леспрамгас не пайшоў, за доўгім рублём не пагнаўся. Стаў вадзіць бальнічную «хуткую дапамогу».

## II

Гаспадарлівы чалавек Мікалай Прахарэнка, хоць усё жыццё кніжкі чытае. Хата агледжана, прасторная — на тры ці чатыры пакоі,— добрая забудова на двары.

Стол застаўлены выпіўкай, закускай, хоць гасцей ніхто не чакаў. Сама б пажыць Мікалаю: дзяцей ён, як і Пятро, пагадаваў, разляцеліся дзеці...

У застоллі тон задае Бабоўка. Яго шыракаваты, белы, з рудымі, малапрыкметнымі канапацінкамі твар проста ззяе ад задавальнення. Пятро бачыць: Бабоўка шчыра радуецца, што сустрэўся са знаёмымі хлопцамі, з якімі разам рос і вучыўся, хоць ні з кім з тых, хто сядзіць за сталом, ён не таварышаваў. Можа, з адным Лізюком. Бо і ён, і Лізюк яшчэ да вайны паехалі ў рамесніцкія вучылішчы, пад акупацыяй не былі.

Васіль бясконца расказвае пра сваё жыццё. У Ленінградзе мае другую кватэру, бо першую размяняў: па пакою пакінуў былой жонцы і двум сынам, якія паспелі пажаніцца. Сам ён таксама ажаніўся. Другі раз. Узяў маладую жонку, у якой была свая кватэра.

Васіль пра ўсё расказвае так, нібы справа гэтая самая звычайная. Нават фатаграфію маладой жонкі пускае па руках: стаіць ля легкавой машыны даволі прыгожая, з такім жа, як у Васіля, шыракаватым тварам жанчына, смела пазірае на белы свет.

У Пятра цьмяна, з глыбіні памяці прабіваецца ўспамін: штосьці падобнае ўжо было ў сям'і Бабоўкі. Тут, у мястэчку. Яго дзед, мужчына відны, з магутнай паставай, да таго, як арганізаваліся калгасы, трымаў млын, той самы, вакол якога цяпер часта шастае Пятро. Млынар узяў у прымы зяця, бацьку Васіля, але гады праз тры выгнаў. Па мястэчку ў тыя гады нават газета хадзіла, перадавалася з рук у рукі. У газеце падрабязна распісвалася, як кулак, гэта значыць, Васілёў дзед, расправіўся са сваім батраком — у такой ролі выступаў тады Васілёў бацька. Мужчыны чыталі і рагаталі.

Рогат меў пад сабой падставу: дачка млынара кідала прыязным вокам на многіх мужчын. Праз год у сям'ю млынара прыйшоў новы зяць і таксама доўга не пратрымаўся, хоць млын і перастаў быць уласнасцю старога Бабоўкі...

Захоплены сабой, Васіль спявае, як сыты, асенні шпак. Выхваляецца дачай, якую мае пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, рыбай, якую ловіць у азёрах і рэках, а потым вяліць, сушыць, спажывае з півам.

З Васілёвага апавядання вынікае, што жыццё падобна да райскага саду, і з яго патрэбна ўзяць паболей уцехі, задавальнення...

Пятро верыць і не верыць. Памятае Бабоўку схуднелым, змізарнелым хлопцам, якім прыехаў ён да дзеда, перажыўшы ленінградскую блакаду. Гэта было якраз у той год, калі Пятро вярнуўся з арміі. Аднойчы яны пілі з Васілём піва ў станцыйным буфеце. Васіль расказваў пра блакаду страшныя рэчы.

Дзед ягоны і пры немцах быў млынаром. Вадзіў дружбу з мясцовым начальствам, нямецкімі салдатамі, паліцэйскімі. Часта наладжваў з імі пагулянкі. Праўда, у палітыку не лез, людзям не шкодзіў і яго не зачапілі.

Зрэшты, Васіль харошы чалавек. Душэўны, прыязны. Не ў прыклад Галоснаму, які, седзячы за сталом, таксама пахваляецца сваім жыццём.

Васіль блакаду перанёс, а Галосны ад арміі выкруціўся. Не пасаромеўся сяброў-таварышаў, з якімі разам вучыўся і якія пасля вызвалення мястэчка пайшлі на фронт. З хітрай, з заграбушчымі рукамі сям'і Галосны. Бацькі пазалацілі каму трэба руку, і Міша разам з братам, які таксама падлягаў прызыву, уладкаваўся ахоўваць вайсковы кабель. Так да кабелю і прыкіпеў: пасля вайны астаўся служыць у сувязі.

Пагулянка кончылася тым, чым мусіла кончыцца. Выпілі і разышліся...

Пятрова хата стаіць на ваколіцы, непадалёк ад таго месца, дзе некалі жыла Ліза Базылевіч. Пятро, калі быў у арміі, у Германіі, песціў надзею сустрэць Лізу. Але дзе ты сустрэнеш!.. Ліза з Германіі так і не вярнулася, і ён нічога пра яе не ведае.

Ваколіца пасля вайны стала высыхаць, на ёй адна за другой пралеглі тры новыя вуліцы. На астатняй зямлі саўгас сее жыта, ячмень, пшаніцу.

Пятро жыве звычайна. Акрамя службы мае гаспадарку: карову, двух падсвінкаў, курэй, гусей. Падгадаваўшы, аднаго падсвінка здае на загатпункт, малако таксама патрохі здае.

Жыве ён няблага, не горш, можа, за таго самага Бабоўку, але і мітрэнгі хапае. З ранняй вясны пачынае думаць Пятро, дзе накасіць сена, як, на чым прывезці, колькі заплаціць?..

Праз тыдзень, ходзячы каля млына, Лосік спатыкае Лізюка.

— Бачыў, які Бабоўка! — выгуквае Іван, вітаючыся з Пятром за руку.— Пенсія на носе, а ён жаніцца. Узяў маладую. Галоўнае — дарослых сыноў не пасаромеўся...

— У іх сям'я такая,— сказаў Пятро.— Маці тры разы замуж выходзіла. Можа, нават чатыры. Два сыны, дачка — усе ад розных мужоў...

— Пры чым тут сям'я? Ты хоць раз на курорце быў? Ён кожны год ездзіць. Ля мора жыве і да мора ездзіць.

Лосік пра курорты не думае. Даўно, як толькі ажаніўся, у яго забалела прастрэленая нага. Ён тады напісаў заяву ў рабачкам і дабіўся пуцёўку. Бясплатную. Але пакуль дабіваўся, настала лета, трэба было думаць пра сена карове. Боль у назе тым часам стаў сціхаць. Лосік паспрабаваў перапісаць пуцёўку на жонку, але ў рабачкаме не дазволілі. Так яна і прапала.

— Можа, ён лячыцца ездзіць,— сказаў Лосік.— Лечыць страўнік ці яшчэ што...

— Здаровы ён, як конь. Хіба ты не бачыў? Кожны год едзе на поўдзень у адзін і той жа месяц — у верасні. Называецца — бархатны сезон. На цёплым месцы сядзіць Бабоўка, таму і ездзіць.

Пятро ніколькі не зайздросціць Бабоўку. Праз два гады ён пойдзе на пенсію. Тады нагуляецца. Будзе час. Збярэ грошай і купіць веласіпед. Карову Лосік збываць не збіраецца,— трэба памагаць замужнім дочкам,— а нага чым далей, тым болей баліць. Ён на веласіпедзе будзе ездзіць летам у лес на сенакос, а восенню — па зялёнкі.

У пачатку восені Лосік узяў водпуск. Жонцы водпуску не далі, і ён адзін усе тры тыдні капаў на пралёце бульбу, тачкай вазіў у двор мяхі.

Перад сканчэннем водпуску Лосік пачуў, што памёр Мікалай Прахарэнка...

Ён у той жа дзень пайшоў на могілкі. Але на пахаванне спазніўся: убачыў насыпаны грудок жаўтапёсу, драўляны

абеліск, на якім было напісана прозвішча Мікалая і даты ягонага жыцця.

Быў сонечны асенні дзень. У ціхім задуменні стаялі на могілках старыя, разлапістыя хвоі. Лосік цяпер толькі зразумеў, чаму Мікалай запрасіў яго на пачастунак. Прадчуваў смерць і хацеў развітацца са школьнымі таварышамі. З ім таксама. Зла на яго не меў...

Пятро ішоў дадому і ў думках дакараў сябе, што так і не расказаў Мікалаю пра Лізу, яе маці, пра сваё выбаўленне ад нямецкай няволі. Зрэшты, ён цяпер разумее прычыну. У акупацыю яны з Мікалаем былі патрыётамі: чыталі савецкую газету, лістоўкі, і Пятру, відаць, было проста непрыемна расказваць, што на дапамогу яму прыйшла немка...

Каля млына Пятро запыніўся. Яму раптам успомнілася, што даўно-даўно, у часы напаўзабытага дзяцінства, на гэтым месцы стаялі два ветракі. Яны весела махалі падобнымі на вялікія грабяні крыламі і былі відаць здалёк. Даўно няма ветракоў, але вобраз іх час ад часу чамусьці ўсплывае ў памяці, нараджаючы то радасныя, то маркотныя ўспаміны...

*1981*

## СРЭБНЫЯ ІМХІ

### І

Ноч Васіль не спаў, здарожыўся, але, пад’ехаўшы да мястэчковай станцыі, убачыўшы праз акно знаёмую, падобную на шпакоўню будку стрэлачніка на высокіх палях, складзеную з чырвонай цэглы вежу вадакачкі, іншыя станцыйныя будынкі, адчуў, што стомленасць як рукой зняло. Нібы ў спякотны дзень нырнуў у рэчку.

Васіля ніхто не будзе сустракаць, не чакае, але ўсё адно ён хвалюецца. Можа, таму, што не часта прыязджае ў мястэчка, дзе рос, вучыўся, адкуль пайшоў на вайну і пасля вайны жыў.

Трымаючы ў руках чамаданчык, Васіль выйшаў з вагона на перон. Сярэдзіна жнівеньскага дня, і людзей на станцыі небагата. Бадай, тыя толькі, што самі ад’язджаюць ці прыехалі.

Васіль часта ўспамінае станцыю. Можа, за тое, што час яе пашкадаваў і сама яна мала змянілася за доўгія гады. Той самы драўляны, крыты бляхай будынак, у якім размяшчаецца пакой дзяжурнага, тэлеграф, білетная каса, чакальны зал, буфет.

Па суседству яшчэ адзін пафарбаваны ў жоўты колер дамок — асяродак астатніх станцыйных службаў. У тым дамку па былым часе знаходзіўся вузенькі кабінецік самога начальніка станцыі. Трохі наводдаль каробка пакгаўза, да якога прылягае замошчаны каменем двор, асабнячок пагрузканторы, і ўладанні станцыі на гэтым канчаюцца.

Васіль прайшоўся па пероне, затым прысеў на лавачцы ля драўлянай сеткі, якой агароджаны палісаднік. Хутка і знаёмага ўбачыў — Івана Петручка, які вынырнуў з пакоя дзяжурнага. Іван — шыракаплечы, ладны ў сваёй чыгуначнай форме — таксама заўважыў Васіля, падышоў прывітацца.

— У водпуск да нас? — спытаў, аглядаючы госця спакойнымі, спагадлівымі вачамі.

— У водпуск. Занудзіўся па дамоўцы. Хоць хаты — сам ведаеш — няма.

Іван прысеў на лавачцы поруч з Васілём.

— Можаце ў мяне пажыць. Дом на чатыры пакоі. Пусты. Дзеці разляцеліся.

— Дзякуй, Іване,— адказаў дрыготкім голасам Васіль.— Сястра ў мяне ёсць. Можа, ведаеш — Аляксандра. Яна мне дваюрадная. У яе пажыву.

Іван на хвіліну задумаўся.

— Жыве ваша Аляксандра добра. Мужык угору пайшоў. Кароў скуплівае на мяса. Але свая карова ў вашай сястры запусцілася. Я вам малака прынясу.

— Чаго ты выкаеш? — сказаў Васіль.— Мы ж з табой разам раслі. Вот тут, на станцыі бегалі.

— Прывычка. Ды і служба такая. Калі да чалавека ласкавей, то і ён меней агрызаецца.

Хвіліну памаўчаўшы, Іван спытаў:

— Вы па-ранейшаму ў шахце?

— Наверх вылез. На пенсію аформіўся, але яшчэ раблю. Інструмент выдаю. Нам дазваляюць, калі сіла ёсць, работаць.

— Я і так дзіўлюся. З выгляду не вельмі вы дужы. Але, мусіць, гадоў дваццаць рабілі пад зямлёй?

— Дваццаць тры.

— Я б дня не вытрываў. Страшна робіцца, як падумаю пра шахцёраў. Сонца не відно, зямля абваліцца можа...

Васіль усміхнуўся:

— Тут тожа пад цягнік можна трапіць.

— Можна,— згадзіўся Іван.— Нядаўна адзін стрэлачнік пакалечыўся. Нагу адцяла. Малады хлопец. Сама жыць.

— Усюды нялёгка. Рабочаму чалавеку дарма грошай не даюць.

— Правільна гаворыце,— пацвердзіў Іван.— Неабавязкова высока драцца. Я вот курсы кончыў. Начальнікам станцыі пасылалі на чужую станцыю. Не пайшоў. Дома лепей. Вот ужо дваццаць гадоў дзяжурным. Жывём паціхеньку. Усё добра, толькі жонка стала хварэць. Вот зараз іду да яе.

Прыцішваючы хаду, прарэзліва скрыгочучы тармазамі, насупраць будынкаў станцыі спыніўся доўгі таварны састаў. Вагоны ўперамешку з чатырохвоснымі ёмістымі платформамі, загружанымі вугалем. Найбольш буйныя вугальныя кавалкі, якія ляжаць наверсе, нібы выпраменьваюць пераліўчаты бляск. Вязуць некуды першагатунковы антрацыт.

— Жонка твая Багданавых Насця? — спытаў Васіль.

— Насця.

— Я помню, як ты гуляў з ёю. Перадавай ад мяне прывет, як пойдзеш у бальніцу.

— Дзякуй. Перадам.

— То ідзі да жонкі,— сказаў Васіль.— А то я цябе тут затрымліваю. Малако не трэба. Проста так прыходзь. Па чарцы вып’ем. Я вот украінскай гарэлкі прывёз. На дне бутэлькі струк перцу ляжыць...

— Дзякаваць за ласку. Толькі, брат, гарэлку даўно не п’ю. Нават тую, што ў нас прадаюць — без перцу...

Стрыечная сястра жыве недалёка ад пераезда і да яе найлепей ісці пуцямі. Колькі ўспамінаў, думаў пра мястэчка, вось пра гэтую станцыю Васіль. Седзячы ў цёмным сырым штрэку на кукішках, а то і лежачы на спіне, ён, калі на душы было асабліва кепска, выклікаў ва ўяўленні розныя тутэйшыя краявіды.

Шахта ёсць шахта. Так здарылася, што Васіль ледзь не палавіну жыцця правёў пад зямлёй. Два разы трапляў у завал.

За год да пенсіі абваліўся штрэк. Глыбай Васілю перабіла левую нагу, боль быў жахлівы, думаў — не адкапаюць, развітаўся з жыццём...

Перамены вакол станцыі прыкметныя. Даўно спілаваны купчастыя таполі, якія, нібы хмары, завісалі над пуцямі, будынкамі, нават над вежай вадакачкі. На іх месцы цяпер клёны. І клёны паспелі за час Васілёвай адсутнасці вырасці. Яны не такія разлапістыя, як старыя таполі, але таксама нібы зялёны вянок акружаюць станцыю.

Стрэлкі на пуцях інакшыя, прамежкі між шпаламі ўтрамбаваны шчэбенем. А Васіль памятае баласт. Колькі ён пазабіваў баласту пад шпалы! У параўнанні з разгонкай рэек, нават пераменай шпал гэта была самая сумная работа. Дзяўбі кіркай і дзяўбі, і знаку не відаць. Вынік рабіўся вядомы вечарам, калі прыходзіў брыгадзір і клаў на рэйкі шаблон. Калі шпала ў які-небудзь бок перакошана, то і назаўтра ў гэтым месцы трэба было дзяўбці.

Восем гадоў назад памерла Васілёва маці. З таго часу не быў ён у мястэчку. Можа, таму так пільна ўглядаецца ў перамены. Дрывянога склада ўзбоч пуцей болей няма. Дзіўна бачыць на тым месцы, дзе ўзвышаліся штабялі дубовых круглякоў, рудстойкі, суцэльныя, доўгія сцены плашак, звычайныя агароды з пацямнелым бульбоўнікам, сланечнікамі, жаўтабокімі гарбузамі.

Насупраць чарады драўляных, пашарэлых ад вятроў і часу складскіх будынін на былых агародах як бы пачала ўзнікаць новая вуліца. Тры ці чатыры пабеленыя мураванкі, некалькі добра выбудаваных драўляных дамоў вокнамі глядзяць на чыгунку. Выгляд вуліцы моцна псуе старая нарыхтоўчая база, якая стаіць упоперак агародаў, на адной лініі з новымі дамамі. Струхлелая гонтавая страха базы свеціць вялізнымі дзірамі, у некаторых месцах кроквы агаліліся і тырчаць як рэбры. Вось гэтая, цяпер напаўразбураная будыніна, на двары якой цюкавалі лазовую і дубовую кару, крушынавыя кійкі, рознае крамное шкумаццё, мела некалі дачыненне да Васілёвага жыцця. Тады, калі яе ўзводзілі, яна перарэзала надвое тры суседнія агароды, у тым ліку агарод старога Пупка, на сядзібе якога калгас пасяліў сям’ю бацькі. Тут каля гэтай базы прайшло Васілёва дзяцінства.

## II

У двары стрыечнай сястры Аляксандры, якая жыве на Залінейнай вуліцы, што пачынаецца адразу за пераездам, звініць піла, чуюцца зычныя галасы. Не адразу з чатырох мужчын, якія завіхаюцца каля стуса новых сасновых бярвенняў, Васіль выдзеліў сваяка, шаўца з прамкамбінатаўскай майстэрні, які якраз у той год, калі ён сам ад'язджаў з мястэчка, ажаніўся са стрыечнай сястрой.

Родныя брат і сястра, Васілёў бацька і цётка Ганна — так звалі маці Аляксандры,— не надта адно з другім ладзілі, і гэта перадалося стрыечным. У маці Аляксандры былі нейкія маёмасныя рахункі да Васілёвага бацькі. Васіля і стрыечную сястру нішто не раздзяляла, але ніці сваяцкай сувязі між імі пачалі завязвацца толькі пасля вайны. Васілёў бацька, хоць быў чыгуначнік і на фронце не ваяваў, з эвакуацыі не вярнуўся, загінуў пад бомбамі, і гэта прымірыла цётку Ганну з Васілёвай маці і з усёй іхняй сям'ёй.

Васіль рэдка прыязджаў у мястэчка з Данбаса. За доўгія гады, можа, тры ці чатыры разы. Апошні раз, калі памерла маці. Тады Сцяпан, мужык Аляксандры, здаваўся ціхмяным, сарамлівым і як бы нейкім прыбітым. Цяпер ад стуса бярвенняў да ганка, ля якога ў нерашучасці спыніўся Васіль, падкаціўся раздабрэлы, круглы, як шар, чалавечак з такім жа круглым сытым тварам, на якім паблісквалі вясёлыя і хітрыя вочы.

— Сваяк прыехаў,— сказаў ён, паціскваючы Васілю руку.— Добра, што нас не забываюць сваякі.

Тое, што на двары ідзе работа і яе хопіць на некалькі дзён, Васіля ўзрадавала. Само сабой адпадала пытанне, на якіх правах ён будзе жыць у стрыечнай сястры.

— Як ведаў, што ў вас будаўніцтва. Дайце і мне тапор. Даўно не чуў, як пахне сасновае бярвенне.

— Вы што — бярвенне сюды ехалі часаць? — павесялелым голасам спытаў Сцяпан.— Адпачніце з дарогі. Аляксандра ў краму пайшла. Хутка вернецца. Чалавека спачатку трэба прыняць. Тады ўжо няхай і работа.

— Пачнём з работы. Вот толькі чамадан пастаўлю і пінжак здыму. Ты мне, Сцяпан, якія-небудзь штаны дай. Шкода ў гэтых.

Сцяпан зірнуў на сіні, амаль яшчэ новы шарсцяны Васілёў касцюм, забегаў, замітусіўся. Два маладыя хлопцы, якія пілуюць бярвенне, на гэты момант перасталі цягаць пілу і ўталопіліся на Васіля. Дзівак чалавек, здаецца гаварылі іх позіркі, не паспеў у хату ўвайсці, а ўжо рвецца да работы. Хударлявы, з сівой галавой мужчына пахаджвае ля пільшчыкаў, прыкладвае да бервяна складны жоўты аршын, малой, з жалезным тронкам сякеркай робячы насечкі, і таксама раз-пораз кідае зацікаўленыя позіркі на госця. Толькі цяпер Васіль пазнаў у ім прымака Вольгі Транчаковай, суседкі па былым сваім двары.

У цемнаватых сенечках Васіль скінуў пінжак, надзеў старыя Сцяпанавы штаны, трохі для сябе караткаватыя, падперазаўся рамянём, выцягнуўшы яго з новых касцюмных штаноў, і выйшаў на ганак. Сцяпан выскачыў услед за ім з ладнай конаўкай у руках.

— Асвяжыся з дарогі. З вясны задзелалі. Быў бярозавік, а цяпер вада з хлебам.

Васіль з прыемнасцю выпіў церпкі, з пахам падгарэлых хлебных скарынак квас, успамінаючы, што ў маленстве, калі жылі яшчэ на Далёкім Лядзе, у іх усё лета не зводзіўся такі самы.

Нарэшце Васіль узяўся за тапор. Даўно ён не трымаў сякеры ў руках і, можа, таму ў першыя хвіліны адчуваў сябе ніякавата. Але калі што ўмееш, то ўмееш. Часаў калісьці бярвенне. Чэшучы сасновыя круглячкі, адпластоўваючы ад іх роўныя пасачкі трэсак, ён радуецца, што трапілася іменна такая работа.

Камандуе цеслярамі прымак Вольгі Транчаковай. Васіль успомніў: завуць яго Мікалай Мікалаевіч. За год ці два да таго, як Васіль паехаў з мястэчка, Мікалай Мікалаевіч прыстаў да Вольгі, дзяўчыны ціхмянай, прыгожай, хоць і немаладой, якая жыла разам з бацькамі. Гаварылі, што ён, прыстаўшы да Вольгі, кінуў сям'ю і нібыта немалую — жонку і траіх дзяцей.

Транчакі жылі праз тры хаты ад ранейшага Васілёва котлішча, і ён усё пра іх ведаў. Мікалай Мікалаевіч аказаўся чалавекам рухавым, руплівым, у яго былі ўмелыя рукі. Наўсцяж ён памагаў местачкоўцам ставіць новыя хаты,

перасыпаць старыя, рабіць дзверы, аконныя рамы, шкліць вокны, крыць дахі. Работы такому ўмельцу хапала. Службы таксама не выракаўся — у дзесяцігодцы Мікалай Мікалаевіч вёў фізкультуру. Вельмі хутка ён купіў пусты суседскі дом і гэтак яго выштукаваў, што было люба глядзець.

Але што робіць з людзьмі час! Быў Мікалай Мікалаевіч ружавашчокім мацаком, а цяпер сухі, выпетраны дзядок.

З двух хлопцаў, якія пілуюць бярвенні, адзін у расхлістанай сарочцы, цыбаты і тонкі, Сцяпанаў сын, Васілёў пляменнік. Смуглявым, далікатным тварам ён падобен на Аляксандру. Перасмейваючыся, хлопцы лёгка і весела цягаюць пілу, па метках, зробленых Мікалаем Мікалаевічам, адпілоўваюць ад бярвенцаў чурбакі, кладуць на козлы новыя бярвенцы. Працуюць, нібы жартуюць.

Сцяпан капае ямкі для шулаў. На такую работу ў гэты дзень ён, мабыць, не разлічваў, бо апрануты па-святочнаму. Прыбаўка рабочай сілы прымусіла перамяніць планы. Па прыкладу Васіля Сцяпан збегаў у хату і хуценька пераапрануўся. У дзіравых штанах, старой сарочцы, разлезлых чаравіках ён падобен да вялікага рухавага жука. Ёсць ужо жывоцік у Сцяпана — нібы гарбуз выбіваецца з-пад паласатай сарочкі. Тады, калі крукам сядзеў сваяк у шавецкай майстэрні, здаецца, не было жывоціка.

Мікалай Мікалаевіч бярэ з рук Васіля тапор. У бярвеннях трэба рабіць пазы, каб у сцяне яны шчыльна адно да другога прылягалі. Што ж, і такая работа Васілю не ў навіну.

З’явілася Аляксандра, несучы напакаваную сумку. Пастаяла, паківала галавой, дзівячыся, што стрыечны брат, аб прыездзе якога яна яшчэ ўчора нічога не ведала, сёння паспеў наняцца да яе ў работнікі. Памажнела, раздабрэла Аляксандра. Выглядае і трымаецца як начальніцкая жонка.

Перад тым як скончыць работу, Сцяпан паклікаў Васіля ў хляўчук.

— Паглядзі, для каго прыбудоўку робім.

У хлеўчуку парадак. Правая палавіна, адгароджаная сценкай з гладкага, круглага бярвення, ледзь не да самай страхі забіта сенам. У левай палавіне зроблен закут, у якім рохкаюць свінні.

— Двух паноў выгадаваў,— пахваляецца Сцяпан.— Цесна ім тут. Трэба ад каровы перавесці.

Нават у паўзмроку катуха можна разгледзець двух вялікіх, нібы копы, япрукоў. Але не на іх Васіль глядзіць. У хлеўчуку столькі блізкага, напаўзабытага за доўгія гады акуратнага гарадскога жыцця. Працягнуты ўпоперак ад сцяны да сцяны шасток — седала для курэй. Ластаўчына гняздзечка прыляпілася пад самым вільчыкам. Ад сена, складзенага ў хляве, патыхае, здаецца, усімі пахамі поля і лесу...

— Не завідуй,— нібы адгадаўшы Васілёвы думкі, гаворыць Сцяпан.— Мець сёння карову, свіней — катарга. Кожны дзень, вот як сёння, топчамся. Не адно, дык другое...

Пяць мужчын — сіла. Не толькі абчасалі, падагналі бярвенне пад патрэбны памер, выдзеўбалі пазы, паставілі шулы, але паспелі тры вянцы бярвенняў палажыць. Хлевушок будзе выглядаць на сучасны манер — невялікі, ахайны і цёплы.

Вячэралі — з нагоды прыезду госця — у чыстай палавіне хаты. Зажытак у стрыечнай сястры відавочны: на ложках — пухавікі, узбоч сцен — камоды, шкафы, сцены завешаны дыванамі. Ад гэтага і, можа, яшчэ ад таго, што вокны застаўлены кветкамі ў гаршках, што з падлогі пад столь уздымаецца цэлы лес фікусаў, у хаце пануе паўзмрок. Уражанне такое, што пакоі залішне напакаваны розным дабром.

Мужчыны, хлопцы, парадкам стомленыя, выпіваюць слаба. Толькі сам гаспадар, выкарыстаўшы момант, калі жонка падалася на кухню, спрытна кульнуў сваю шклянку і зараз жа зноў наліў. Жэст гэты не схаваўся ад Аляксандры.

— Госці не п’юць, а ты наліваешся,— сказала мужу.— Як крадзеш усё адно...

Сцяпана пачало развозіць.

— Не люблю прыгону,— адказаў як бы з выклікам.— Хто хоча, хай п’е. Сёння ў мяне свята. Дарагі сваяк прыехаў. Першы раз у хаце. Жарты сказаць — за трыццаць гадоў нашага з табой жыцця, твой брат першы раз у маёй хаце...

— Сцяпан! — Аляксандра пасуровела з твару.— Не распускай язык.

— Я праўду кажу. Магу сказаць, што паважаю цябе, Васіль. Не кожны здольны дваццаць гадоў пад зямлёй вытрымаць. З мястэчка розных настаўнікаў, інжынераў, лётчыкаў, другой шантрапы — хоць пруд прудзі. Шахцёр — адзін ты. За ета цябе люблю...

Калі ўжо запалілі электрычнасць, у дзверы з сенечак нехта асцярожна пастукаў. У хату зайшоў дзяжурны па станцыі Іван Петручок са збанам у руках.

— Каб вы свайго госця голадам не замарылі, малака яму прынёс,— сказаў Іван.

Іван з’явіўся ў паношаным пінжаку і невыразнага колеру пакамечаных штанах. Доўга не хацеў садзіцца за стол. Маладыя хлопцы з-за стала шуснулі, а Івана нарэшце ўсадзілі на вольнае месца. Ён адразу паскардзіўся:

— Другі раз сёння частуюся. Аж няёмка. Толькі што з памінак. Былі памінкі Мар’і Паўлавай...

— Мар’я Паўлава памерла? — спытаў Васіль.

— Год назад. Мінулым летам,— адказаў Іван.

— Не хачу гаварыць,— умяшалася Аляксандра.— Не сваёй смерцю яна памерла. Стражнік атруціў...

Цяпер Сцяпан пачаў ушчуваць жонку:

— Не трэба так гаварыць. Ніхто нічога не даказаў. Старая была твая Мар’я. Дажыла да васьмідзесяці гадоў. Ты дажыві...

— Я нічога не выдумляю. Людзі гавораць. У адзін голас. Здурнела пад старасць Мар’я. Абкруціў яе Стражнік. Пакуль не перапісала на яго хату, залатыя горы абяцаў. Маўляў, буду карміць цябе, цётка, даглядаць. Захочаш, дык і чарку вып’еш. Чаркамі і даканаў. Кажуць, чэмер у самагонку дамешваў.

Сцяпан пачынае злавацца:

— Аляксандра, не гавары, чаго не ведаеш. Калі да Стражніка дойдзе, можа на суд падаць.

— Няхай падае. Так яго, сволачы, я спужалася. Мне Мар’я сама жалілася. Вып’ю, кажа, Аляксандрачка, чарку гарэлкі, дык пад грудзьмі агнём пячэ...

— Навошта яна тады піла? — абураецца Сцяпан.— Старая была. Сядзела б на печы...

— Ты чаго п’еш? — ускідваецца Аляксандра.— У цябе дзеці, жонка, служба. А ў яе што? У дзвюх войнах двух мужыкоў страціла. Да каго прытуліцца?..

Мікалай Мікалаевіч, які дагэтуль маўчаў, ажыўляецца:

— Падобна на праўду. Калі ўлічыць, што Стражнік са сваёй першай жонкай учыніў. Калі паглядзець, хто такая другая яго жонка...

Прыкрую для Васіля размову перапыняе Сцяпан:

— Хопіць вам пра Стражніка!.. Наш госць не хоча пра яго слухаць...

— Забыў,— спахопліваецца Мікалай Мікалаевіч.— Прашу прабачэння...

Сцяпан сп’янеў найбольш ад усіх.

— Ты малайчына, Васіль! — выгуквае.— Я часта гавару Аляксандры, што з усёй яе далёкай і блізкай радні самы разумны ты. Кінуў усё і з’ехаў. Дзяліцеся, грызіцеся...

— Затое ў цябе радня! — рашучая Аляксандра тарганула мужа за валасы.— Не гавары, чаго не ведаеш...

— Ведаю, таму гавару. Як пражыў яго бацька і твая маці? Хаты адной падзяліць не здолелі. Ворагамі адно другому сталі. Вы як пражылі? Дваюрадны брат да цябе ў госці прыехаў, толькі як на пенсію выйшаў...

Гатова была выбухнуць сварка, таму Васіль, а за ім Мікалай Мікалаевіч разам з Іванам Петручком паспешліва падняліся з-за стала.

## III

Начаваць Васіль папрасіўся ў хлеў. Хацелася адчуць даўняе, вясковае, што ён амаль забыў і што толькі зрэдку выплывала ў памяці смутным, прыемным успамінам.

Аляксандра зрабіла пасцель на сене. Напаўрасчыніўшы дзверы хлява, пастаяла, пачакала, калі Васіль забярэцца ў сваё логвішча.

— Ён не паганы,— сказала пра мужа.— Не дробязны, не помслівы. Языком, праўда, любіць памянташыць. Аднаго баюся: да чаркі стаў прыхіляцца. Малады не піў...

Рыпнуўшы дзвярамі хлява, пайшла ў хату. Праз некалькі хвілін вярнулася — прынесла кажух.

— Ноччу можа быць халадна,— сказала.— Акрыешся.

Памаўчаўшы, спытала:

— У цябе ўсё добра ў сям'і? А то пры людзях і пагаварыць нельга.

— Добра,— адказаў Васіль.— Ніна ад нас выбралася. Мужыку яе кватэру далі. Саша пасля тэхнікума работае на Кубані.

— Ну то спі. Пагаворым заўтра.

Аляксандра пайшла, і стала ціха. Чуваць, як, перажоўваючы жвачку, уздыхае карова. Ледзь чутна, мабыць, у сне адзываюцца куры. Дзесьці далёка забрахаў сабака. Знаёмы гэтыя начныя гукі і зыкі Васілю. Ён, можа, і ў мястэчка прыехаў, каб паслухаць іх, вярнуцца ў даўняе, напаўзабытае, што апошнім часам усё часцей і часцей нагадвае аб сабе, вярэдзіць душу.

Васіль ловіць сябе на непрыемным адчуванні, якое нарадзілася ў душы, і толькі цяпер пачынае разумець, што ідзе яно ад нядобрай за сталом гаворкі пра Стражніка і бацьку. Бог з ім, са Стражнікам. Васіль думаць пра яго забыў. За бацьку крыўдна. Аляксандра адчула, што муж ляпнуў глупства. Але ні яна, ні яе гэты сыты шпак ніколі бацьку не зразумеюць.

Пачуўся гудок, затым па рэйках праляскаталі колы цягніка. Васіль латвей уладкаваўся ў сваім логвішчы, але заснуць не можа. Вельмі многа ўражанняў сплялося ў адзін клубок.

У апошнія гады Васіль многа думае пра бацьку. Бачыць яго чалавекам глыбокай, цвёрдай веры. Хоць па натуры бацька быў мяккі, падатлівы. Разам з думкамі пра бацьку ў вачах паўстае Далёкае Ляда, дзе прайшла большая палавіна дзяцінства. На Далёкім Лядзе, лясным хутары, дзе было двароў дванаццаць, бацька першы ўступіў у калгас. У агульны хлеў адвёў не толькі каня, карову, але свіней, авечак загнаў. Чыстую палавіну хаты аддаў пад брыгаднае памяшканне. Некаторыя хутаранцы смяяліся з бацькі за гэтую яго залішнюю адданасць, прыхільнасць да калгаса.

Тым часам справы ў местачковым калгасе, у яго далёкай лясной брыгадзе разгортваліся не надта добра. Як цяпер разумее Васіль, тутэйшаму калгасу заўсёды было цяжка спаборнічаць з прамысловымі прадпрыемствамі, якія ў мястэчку існавалі адвеку. Чыгуначнікам, рабочым цагельнага завода, абоднай майстэрні, мылаварні, нават розным вартаўнікам, якія ахоўвалі

крамы, склады, штомесячна выплачвалі зарплату, а калі туга было з харчамі, выдавалі хлебны паёк. Пабыўшы два-тры месяцы ў калгасе, пабачыўшы, якія ў ім парадкі, многія местачкоўцы дружна адтуль сыпанулі, перакідваючыся пераважна на чыгунку, у шэрагі мясцовага рабочага класа.

Бацька трымаўся. Верыў у калгас, у тое, што нездарма яго арганізавалі. Пад брыгадны двор аддаў нарэшце ўсю сядзібу. У хаце збіраліся сходы, сядзеў рахункавод, у хлявах стаялі калгасныя коні, у гумне ляжалі абагульненыя плугі, бароны, у пуні — сена для коней.

Мінула два ці тры гады, і бацька ўсё часцей пачынаў заўважаць непарадак. Брыгадзір аддаваў коней на старану, нават не калгаснікам, і за гэта піў, працадні налічваліся як папала, ніхто не сцярог сена, саломы, канюшыны, і людзі з заграбушчымі рукамі арцельнае дабро расцягвалі.

Бацька стаяў за праўду, крытыкаваў брыгадзіра, нават заявы пісаў пра розны непарадак у брыгадзе. Але ўчарашнім хутаранцам, якія сталі калгаснікамі, быў больш даспадобы хітры, нячысты на руку брыгадзір, чым дзівакаваты, незразумелы Іван Галавенька. У час такіх спрэчак, разбораў справы яны станавіліся на бок брыгадзіра.

Іван Галавенька пайшоў па той жа дарожцы, што і некаторыя іншыя местачковыя арцельцы. Плюнуў на ўсё і падаўся на чыгунку. Хату, астатнія будынкі калгас вярнуць бацьку не мог, таму сям'і выдзелілі пад жытло дамок у самім мястэчку.

У гэтым ніштаватым на выгляд дамку да калектывізацыі жыў культурны гаспадар Цімох Макаранка, які, калі на яго сталі насядаць, усё кінуў-рынуў і з сям'ёй падаўся ў Маскву. Пры дамку быў прасторны хлеў, такі прасторны, што яго першыя калгаснікі аблюбавалі пад арцельны свінарнік. З цягам часу жывёлагадоўчыя памяшканні сцягваліся ў адно месца, і Макаранкаў хлеў калгас перавёз на цэнтральную сядзібу.

Васілёва сям'я пасялілася ў Макаранкавым доме, але карову, свінню прыйшлося трымаць у чужым хляве. І не толькі месца не было, каб хлеў паставіць на новай сядзібе, але нават для грады зямлі не знайшлося. Галавенькі не мелі пры хаце ні агурка, ні памідора.

Ніхто не быў вінаваты. Цімох Макаранка паставіў дом на цесцевай сядзібе. Займала сядзіба старога Пупка вялікі трохкутны прамежак, які ўтварыўся між шляхам, чыгункай і местачковымі агародамі. Гэта была нават прыгожая сядзіба. Стары Пупок абсадзіў яе па ўзмежку бярозамі, таполямі, і яны высока ўзнялі раскідзістыя шаты, нібы падковай атуляючы агарод. Таполя на рагу агарода каля чыгуначнага насыпу вымахала магутная, бачная здалёку. У дажджлівую пару пад Пупковымі бярозамі, нібы ў сапраўдным лесе, раслі падабабкі.

Калі Васіль стаў жыць у Макаранкавым доме, вялікі агарод Пупка сталі падціскаць і абразаць. Ён межаваў з чыгункай, а пры тупіковых чыгуначных пуцях якраз сталі будаваць розныя базы, склады, зернясховішчы — каб было куды звозіць нарыхтоўку з калгасаў.

Увогуле з Пупковым агародам абышліся па-барбарынску. Нібы гэта была нічыйная, нікому не патрэбная зямля. Якраз спрамлялі стары шлях, дык ездзіць далёка па пясок не захацелі, кар’ер зрабілі на Пупковым агародзе. Зямлю пакапалі на ямкі, знявечылі. Па частцы агарода праклалі яшчэ адну дарогу — да баз і складаў, выбудаваных каля тупіковых пуцей.

Вось такія падзеі адбываліся на вачах Васіля. Стары Пупок, відаць, лічыў новых суседзяў пасланцамі самога д’ябла, з-за якіх пачаліся яго згрызоты і пакуты. Ён з імі не вітаўся, наўмысна адварочваўся, калі сустракаў на вуліцы.

Прачнуўшыся аднойчы раніцай, Васіль убачыў тры рады калючага дроту паўзверх паркана, якім Пупкоў сад і рэшта агарода аддзялялася ад дворыка новых суседзяў. Пупок быў непахісны ў сваёй зацятасці. Нідзе не працаваў, у белых даматканых штанах, сарочцы расхаджваў па агароджанай высокім парканам сядзібе, пілой-аднаручкай пілаваў дровы, калоў іх, складваючы ў акуратныя штабялі. Дроў у белага дзеда-лебедзя было гадоў на пяць.

У Пупковым двары, агародзе, садзе панаваў выдатны парадак. Цыбуля на градах расла вялікая, нібы лаза, незвычайнай велічыні вымахвалі качаны капусты, буракі. Шчодра радзіў сад — падпоркі стаялі пад кожнай галінай яблыні.

Так, белы дзед-лебедзь гаспадар быў добры, але і язык меў адмысловы. Якіх толькі чутак не распускаў пра новых суседзяў! Пра Васіля, на той час дзесяцігадовага падлетка, плёў кожнаму сустрэчнаму, што нібыта ноччу прабіраецца Васіль у хлеў да Пупковай каровы і выссе з яе вымені малако да кроплі, таму назаўтра баба нават шклянкі не надойвае.

Васіль рос, маўкліва зносячы крыўду, коса кінутыя позіркі, кпіны. Летам, калі было асабліва цяжка, бегаў на Далёкае Ляда. Там адчуваў сябе лёгка і вольна. На цёплых, прагрэтых сонцам лясных палянах збіраў суніцы, асочваў па дубовых дуплах гнёзды галубоў...

Успамінаючы, перабіраючы ў памяці вясёлыя і сумныя праявы далёкага дзяцінства, Васіль непрыкметна для сябе заснуў.

## IV

Назаўтра папрацавалі каля хлеўчука толькі гадзіны дзве з раніцы. Прымак Вольгі Транчаковай атрымаў па закону прыбаўку да пенсіі і мусіў ехаць, каб аформіць яе, дзённым цягніком у раённы горад, Аляксандра падалася ў бальніцу — ставіла новыя зубы, Сцяпан з самай раніцы пайшоў на службу; мільгануўшы ля веснічак у ярка-чырвонай футболцы, дзесьці знік пляменнік.

Васіль астаўся адзін. Меў вольны час, мог рабіць, што захоча. Ён пасядзеў на ганку, паслухаў, як трашчаць вераб'і ў густым вішанніку, клююючы пераспелыя ягады, затым замкнуў дзверы, схаваў, як наказала Аляксандра, ключ пад ганак і выйшаў на вуліцу.

Апошні раз Васіль быў у мястэчку восем гадоў назад. У той год, калі памерла маці, ён быў тут нават два разы: спачатку пахаваў маці і месяцы праз два, восенню, прыехаў і прадаў матчыну хату. Асфальту на гэтай вуліцы, утворанай гады за два-тры перад вайной са сселеных хутароў, тады яшчэ не было і называлася яна, як і да вайны — Палявая. Цяпер называецца вуліцай Касманаўтаў. Магла б і Васілёва хата, каб дачасна не перабраліся ў мястэчка, стаяць на гэтай вуліцы, і тады б, відаць, быў зусім іншы ягоны лёс. Не паехаў бы ён у далёкі Данбас, жыў бы тут, працаваў бы, як Іван Петручок, на чыгунцы.

Непрывычна бачыць асфальт на звычайнай сельскай вуліцы. Асфальтам на манер гарадскога бульвара заліты і ўзбочыны вуліцы, якія падступаюць да самых варот і плятнёў. Стаяць паабапал заасфальтаванай дарогі старасвецкія, крытыя струхлелай дранкай хаты, па дварах, агародах узвышаюцца вялізныя, разгалістыя ігрушы-дзічкі, сакочуць у дварах куры, гегаюць гусі, рохкаюць, лежачы пад плятнямі, свінні, а на вуліцы — асфальт.

Паасобныя хаты ўсё ж набываюць некаторы гарадскі выгляд — яны абшаляваны дошкамі, пакрыты шыферам, налічнікі, аканіцы — пафарбаваны.

Васіль нават весялее, адзначаючы перамены. Так, у гэты свой прыезд ён зробіць тое, аб чым многа думаў на чужыне. Паходзіць, агледзіць усе цікавыя мясціны, асабліва Далёкае Ляда.

Калі і быў Васіль шчаслівы, задаволены жыццём цалкам, то толькі ў самым раннім дзяцінстве, калі жылі яшчэ на Далёкім Лядзе. Там адразу за іх агародам, нібы вежы, узвышаліся вялізныя дубы. Ён заўсёды, калі толькі хацеў, мог шуснуць з хаты пад дубы, пашукаць жалудоў або яблычкаў, якія нарасталі на дубовым лісці — іх сок імгненна сцягваў рану, калі абдзярэш руку ці пракалеш нагу.

На сярэднім дубе была буслянка. Знізу яна нагадвала не вельмі ахайную кучу хворасту, усцягнутую ледзь не на самую макушку дуба, у развілак між верхнімі галінамі. Буслы сюды заўсёды прылятаді адны і тыя ж. Яны толькі злёгку рамантавалі гняздо, засцілаючы дно яго новымі хварасцінкамі, і пачыналі сталае да восені жыццё. Падсуседзямі буслоў былі вераб'і — пяць-шэсць, а можа, нават болей іхніх, звітых з пырніку, сухіх сцяблінак, гняздзечкаў мясцілася між хварасцін па краях буслянкі.

Вераб'і з раніцы ўсчыналі зацятае, бясконцае цiліўканне, вельмі часта вялі між сабой бойкі, але буслы на іх не звярталі ніякай увагі. Яны нібы не заўважалі гэтай драбязы, ганарліва, падцінаючы то правую, то левую нагу, аглядалі разлеглы навокал прастор. Потым нібы па камандзе распластвалі крылле і вылятаді з гнязда, кіруючы ў бок зарослага хмызамі балота.

Нарэшце наступаў дзень, калі буслы пачыналі пакідаць гняздо па адным. Увесь гэты час Васіль пільна сачыў за

буслянкай, ведаючы, што хутка ў ёй паявяцца маладыя буслікі. Самае цікавае і пачыналася якраз тады, калі то бусел, то бусліха, несучы ў вострай чырвонай дзюбе жабу або доўгага, як пута, вужа, узляталі на дуб і садзіліся на буслянку. Старыя буслы радасна клекаталі, маладыя ледзь чутна папісквалі. Гэтая музыка паўтаралася шмат разоў на дзень...

Вось такія дробязі Васіль успамінае, ідучы заасфальтаванай палявой вуліцай, маючы намер спачатку пабываць на Блізкім, а затым на Далёкім Лядзе. Гэтыя мясціны найглыбей запалі ў душу. Да дзесяці гадоў, пакуль не пераехалі ў мястэчка, Васіль шмат чаму навучыўся, жывучы на Лядзе. Не аднымі толькі бусламі цікавіўся, знаходзіў за лета дзясяткі птушыных гнёздаў, сочачы, як падрастае ў іх, пакрываючыся спачатку стрэлкамі, затым пер’ем, маладое жаўтадзюбае птаства.

Зрэшты, птушкі, ягады, грыбы — забаўкі. Жывучы сярод поля і лесу, Васіль рана навучыўся хадзіць каля каня, мог адвесці і прывесці яго з пашы, запрэгчы ў калёсы. Ён і за плугам, за бараной навучыўся хадзіць, умеў касіць, грабці сена, складваць у копы.

З паўночнага боку Далёкае Ляда межавала з разлеглым, зарослым лазой балотам. У канцы вясны, калі кара яшчэ лёгка аддзяляецца ад прутка, усё мястэчка драла на гэтым балоце лазовае лыка на лапці. Васіль на лазу лішне не налягаў. Жывучы сярод лесу, наглядваў, прыкмячаў сабе многа маладых ліпак, лыка з якіх далікатнейшае і лапці прыгажэйшыя.

Калі пераехалі ў мястэчка, пасяліліся ў Макаранкавым доме, Васіль моцна засумаваў. Звыклага, блізкага яму асяроддзя тут не было. Пакуль карова стаяла ў хляве на іх ранейшым двары, Васіль па два, а то і па тры разы на дзень бегаў на Далёкае Ляда. Ніякай цяжкасці для яго ў гэтым не было, хоць лічылася, што ад хутароў да мястэчка вярсты тры. Васіль ляцеў басанож па ўтоптанай сцежцы, і было прыемна адчуваць, як пад яго нагамі злёгку падрыгвае глеістая, балотная зямля. У спёку зямля на сцежцы трэскалася, але пасля першага дажджу глыбокія маршчыны-трэшчыны згладжваліся зноў.

Перш чым дасягнуць Далёкага Ляда, трэба было мінуць Блізкае, на якім хутары былі параскіданы як папала. Некалі

тут увесь бачны абсяг займалі дубы, але Васіль іх не застаў. Дубы — гектараў пяцьсот, а можа, і больш — спілавалі «ў свабоду» — так называліся прамежкі безуладдзя паміж рэвалюцыяй, нямецкай і белапольскай акупацыямі. Ад тысяч спілаваных дубоў на разлеглым прасторы засталіся толькі пні, ды на полі, якое называлася Дуброва, высока ўздымалі купчастыя шапкі паасобныя магутныя дрэвы.

На дубовае гала, або, як яго называлі, пнёўе, пастухі гналі пасвіць статкі. Васіль, прыбегшы з мястэчка, знаходзіў сваю карову і, бачачы, што нічога кепскага з ёй не здарылася, у далейшым паводзіў сябе як хацеў. З правага боку да пнёўя падступаў алешнік. Васіль не любіў альху як дрэва і альховага лесу не любіў. У ім заўсёды было змрочна, сыра, чарнела голая, вытаптаная быдлам, зямля. Не раслі ў алешніку ягады, грыбы; птушкі, апроч драздоў, удодаў і галубоў-туркалікаў, не вілі ў ім сваіх гнёздаў.

Калі і хадзіў Васіль у алешнік, то толькі затым, каб налаташыць дзікіх яблыкаў. У сад да Пупка ён не лазіў, таварыства ў мястэчку не меў. А яблыкаў хацелася. Бліжэй да восені ён зганяў аскому дзікімі дробнымі яблычкамі, страшэнна кіслымі — ад іх зводзіла сківіцы. Дзікія пладовыя дрэўцы часцей, чым у другім лесе, трапляліся чамусьці ў алешніку.

Васіль дайшоў нарэшце да месца, з якога пачынаецца вуліца Касманаўтаў. Калісьці тут стаяла пяць ці шэсць хат хутаранцаў Блізкага Ляда. Яны размяшчаліся пры самым шляху, і іх не кранулі пры ссяленні хутароў. Яны, бадай, і цяпер стаяць, толькі выгляд змянілі — перасыпаны, абшаляваны дошкамі, другімі, шырэйшымі вокнамі глядзяць на свет.

Дзень гарачы, нават млосны. Людзей на вуліцы няшмат. Хіхікаючы, паведамляючы на хаду адна адной штосьці надзвычай таемнае, прабегла купка дзяўчатак у яркіх кароткіх сукеначках, басаножках на тоўстых гумавых абцасах. На лавачцы сядзіць бабуля ў завязанай ражком на падбароддзі хустцы, цёплай ватоўцы. Бабуля пільна сочыць за ўсім, што адбываецца на вуліцы, але не спускае вока з малой, якая ля веснічак забаўляецца з кацянём. Падымаючы воблакі пылу, раз-пораз праносяцца грузавікі.

На пачатку вуліцы ёсць і зусім новая будынінка, якой раней не было. У прагале між старых хат вырасла мураваная, атынкаваная і пабеленая крамка з высокім каменным ганкам. На ганку нібы пасланец лёсу стаіць Іван Петручок.

— Я да вас сабраўся,— гаворыць Іван.— Нядобра палучаецца. Чалавек прыехаў у госці, і ніхто яго да сябе ў хату не пазаве.

Васіль нават спалохаўся. Ні ў якія госці ён не збіраўся.

— На Далёкае Ляда хачу прайсці,— адказаў ён, за руку вітаючыся з Іванам.— Дзе быў раней наш двор...

— Што вы на тым лядзе ўбачыце? Роўнае поле, і ўсё. Як талерка. Лес высеклі, і саўгас адсюль відаць.

У гэты момант з крамы выйшла рослая, паўнаватая, з прадаўгаватым чарнявым тварам жанчына і, павітаўшыся з Петручком, безуважліва слізгануўшы позіркам па постаці Васіля, рушыла па вуліцы. Жанчына ішла, пакалыхваючы буйным станам, лёгка і ў той час упэўнена ступаючы, як бы выстаўляючы напаказ сваю расцвіўшую жаноцкасць, і было ў яе вобліку, паставе, паходцы штосьці да болю знаёмае. Васіль міжволі ўздрыгнуў.

— Зіна,— сказаў Іван.— Дачка Стражніка. Ад першай жонкі. За шафёрам замужам. Па-мойму, да бацькі не вельмі хіліцца. Пойдзем да мяне,— працягваў Іван.— Паглядзіце мой двор. Пчолак сваіх пакажу. Пойдзем агародамі, і можна адтуль усё ляда пабачыць...

Іван сагітаваў ці дачка Стражніка, падобная на сваю маці, перамяніла Васілёў намер, але ахвота вандраваць у адзіноце прапала. Васіль зайшоў у краму. Ён хацеў што-небудзь купіць, каб не ісці ў хату да Івана з пустымі рукамі. Але купіць няма чаго. За прылаўкам сядзіць разамлелая ад гарачыні маладзіца, ляніва перамаўляючыся з дзвюма кабеткамі, што, грэбліва падцяўшы губы, перамацваюць у кутку скруткі наваленых адзін на другі крамных матэрыялаў. На паліцы ляжыць стус ватовак, на падлозе куча нязграбных, агромністага памеру ботаў. З харчовых прадуктаў у наяўнасці хлеб, цукар і акамянелыя ад доўгага ляжання пернікі ў драўлянай скрынцы.

Васіль купіў бутэльку віна з выцвілай этыкеткай. Нічога лепшага не было, а гарэлкі браць не хацеў.

Яны з Іванам рушылі ўзмежкам былога Блізкага Ляда, і тое, што Васіль убачыў, цалкам яго расчаравала. Ніякага

падабенства з карцінамі, якія памятаў Васіль. Некалі над абсягам Блізкага Ляда як бы панаваў дух спакою, задуменнай засяроджанасці. Спрыялі гэтаму разложыстыя волаты-дубы, якія атачалі, бадай, ледзь не кожную сядзібу, мысок алешніку, круглыя купы зялёных хмызоў, што, як кінуць вокам, цягнуліся ўскрай балота. Ні дубоў, ні алешніку, ні хмызоў няма. Нават бясконцыя дубовыя пні зніклі. Навокал сапраўды круглая, як талерка, раўніна, на якой сям-там узвышаюцца скірды саломы. Яшчэ больш саломы на гэтым неабсяжным полі параскіданай, непрыбранай: бясформеннымі валкамі як асталася пасля камбайнавага жніва, так і ляжыць, гніе пад дажджамі.

З тых памятных дубоў дзяцінства не засталося ніводнага. Ля разбітай ушчэнт, раз'езджанай трактарамі дарогі стаіць доўгая, прысадзістая будыніна на каменным падмурку — кароўнік ці канюшня. Зямля навокал разварочана, у бясконцых ямах-калдобінах вада. Хутчэй за ўсё тут саўгасны двор. У беспарадку пад адкрытым небам стаяць гусенічныя трактары, камбайны, каткі, якімі ўтрамбоўваюць балотную глебу, розныя навесныя прылады, прызначэння якіх Васіль не ведае.

— Агаляецца зямля,— сказаў Іван.— Памятаеш, колькі лесу паміж мястэчкам і саўгасам было. Цяпер саўгас адсюль відаць. Паглядзі...

Васіль зірнуў і ў канцы гладкай, аднастайнай раўніны — гэтак цяпер выглядала асушанае, пераўтворанае ў поле балота — убачыў між дзвюх грывак далёкага лесу хісткія, няпэўныя абрысы крытых шыферам ці чарапіцай будынкаў. У пару Васілёвага дзяцінства ў той мясціне, на лысым пясчаным востраве-пагорку, на тры чвэрці акружаным балотам, таксама размяшчаліся хутары. Хутароў было некалькі, пяць ці шэсць, раскіданых па ўскрайках лесу, балота, але мелі яны агульную назву — Прыстань. Бліжэй да Далёкага Ляда жылі ва ўрочышчы Астроўкі яшчэ хутаранцы і сярод іх бацька Стражніка.

— Як думаеш, учора праўду гаварылі пра Стражніка? — раптам спытаў Васіль.

Іван спыніўся, зірнуў на Васіля спакойнымі шэрымі вачамі.

— Хто яго ведае,— адказаў разважліва.— Сам бы я такога не зрабіў. Таму і паверыць цяжка. Як гэта — за хату звесці са свету чалавека. Няхай сабе старога...

## V

Вечарам Васіль падаўся на пераезд.

Стаяць, як і раней, дзве будкі — драўляная, пафарбаваная ў жоўты чыгуначны колер, і каменная, складзеная з гладкай чырвонай цэглы. Нехта ў чыгуначных памяшканнях жыве і цяпер, сядзібы агароджаны акуратна шчыкетнікам; у дворыку, ля драўлянай будкі, па-ранейшаму сцяной стаіць густы шыпшыннік.

Быў некалі пераезд месцам зборышча моладзі. Хлопцы прыходзілі сюды вечарам, сядзелі або стаялі, прыхінуўшыся да драўляных балясін, лузгаючы семечкі, дурэлі з дзяўчатамі, рагаталі, пацвельваліся адзін з другога. Іншы раз з'яўляўся гарманіст, і тады наладжваліся танцы. Пляцоўкай для танцаў служыў утоптаны пятачок на развілцы трох дарог адразу за пераездам.

Цяпер на пераездзе ціха і бязлюдна. Для вартаўніцы выбудавана маленькая, як цацачная, мураванка, пабеленая звонку. Не выходзячы з яе, вартаўніца можа падымаць і апускаць паласаты шлагбаум.

Ля пераезда прайшла другая палавіна Васілёва дзяцінства і наогул уся маладосць.

Крайняй ад пераезда была хата старога Пупка. Дамок Макаранкі, у якім стала жыць сям'я Васіля, стаяў якраз насупраць семафора. Васіль з цяжкасцю прывыкаў да мястэчка, але пакрысе прывыкаў.

На былым Пупковым агародзе расло чатыры бярозы і вялізная таполя. Адна з бяроз вымахала як дзе-небудзь на ўзлессі — магутная, з тоўстым, шурпатым камлём і раскідзістымі галінамі. Гаспадарлівы Пупок па бярозавік у лес не ездзіў, ставіў цабэркі пад уласнымі бярозамі.

Дрэвы на Пупковым агародзе напачатку замянялі Васілю лес. Пасвячы на адхоне чыгуначнага насыпу цялушку, ён шастаў каля бяроз. У дажджлівае лета нават падабабкі, сыраежкі пад імі знаходзіў. Ягоную ўвагу ўсё болей і болей пачынала займаць чыгунка. Тут была прывабнасць не меншая, чым у лесе. Па сталёвых рэйках у далёкі свет імчалі цягнікі, і кожны з іх меў нешта асаблівае, адметнае.

Семафор, падымаючы крыло, пускаў цягнікі на станцыю. Іншы раз ён стаяў з апушчаным крылом, і тады цягнікі, не

даязджаючы да пераезда, спыняліся, агалошваючы наваколле нецярплівымі гудкамі.

У хуткім часе ў дадатак да семафора паставілі яшчэ адзін жалезны маяк. Ён размяшчаўся па другі бок пераезда, за дзве-тры сотні метраў ад семафора, называўся дыск і таксама падаваў сігналы паяздам. На самым версе маяка замест крыла быў прымацаваны круглы дыск. Калі дарога цягніку адкрывалася, дыск, кладучыся плашмя, як бы знікаў для позірку, калі ж станцыя не магла прыняць поезд, ён вісеў круглым, выразна бачным боханчыкам.

Семафор, дыск некалькі разоў пераносілі з месца на месца. То бліжэй, то далей ад станцыі.

У абедзвюх будках, размешчаных ля пераезда, жылі на дзіва цікавыя людзі. Гаспадаром драўлянай быў пуцявы абходчык Дзяніс Драздовіч, мужчына надзвычай спакойны і ціхі. Здавалася, няма на свеце сілы, якая б вывела яго з душэўнай раўнавагі. Затое жонка ў Дзяніса была як агонь — рухавая, непаседлівая, якая і на чужых мужчын вельмі прыязным вокам кідала.

На першым часе Васілёву ўвагу прыцягвала каменная будка, у якой жыў вартаўнік пераезда Драгі-Мілеўскі. Ён быў бежанец, у час першай германскай вайны прыблукаў аднекуль з-пад Баранавіч. У мястэчку ажаніўся і асеў назаўсёды.

Падмяняючы Драгі-Мілеўскага, на пераездзе часцей за ўсё стаяла яго жонка, сухая, чорная кабеціна, а ён сядзеў на каменным ганку будкі, стукаў малатком, дыміў паяльнай лампай. Меў залатыя рукі Драгі-Мілеўскі, валодаў розным рамяством: паяў самавары, каструлі, лудзіў чыгуны, майстраваў вёдры, дайніцы, конаўкі.

Васіль кожнай раніцы прыбягаў на сметнік Драгі-Мілеўскага, знаходзячы там абрэзкі бліскучай, цынкавай бляхі, кавалкі меднага дроту і іншыя цікавыя рэчы.

Сыны Драгі-Мілеўскага, Янка і Альфрэд, прыручалі дзікіх галубоў. Адзін раз Васіль купіў у іх голуба, аддаўшы за яго алавяны пугач, які бацька прывёз з горада.

Пахаджваючы каля пераезда, Васіль з прыемнасцю аддаецца ўспамінам. Даўно мінулыя карціны, праявы прошлага жыцця нібы паўстаюць перад мысленным позіркам, выклікаючы радаснае хваляванне. Вялікую ўладу над чалавекам мае зямля, па якой рабіў ён свае першыя крокі.

Краявід моцна змяніўся. Паміж чыгункай і пачаткам вуліцы ўзнікла некалькі новых двароў. Яны ўсе тонуць у цёмнай перадасенняй зяляніне садоў. Нават на месцы кар'ера — частцы Пупковага агарода, з якога бралі пясок, калі сыпалі дарогу — знаходзіцца чыясьці сядзіба. Зацягнула кар'ер ілам, і зраўняўся ён з астатняй зямлёй. А калісьці Васіль з сябрамі-падлеткамі лавіў у ім баўтушай карасёў і плотак.

На тым месцы, дзе туліўся дамок Макаранкі, у якім жыў Васіль, высіцца каменная хароміна Стражніка. Дзіўна, семафор цяпер зноў стаіць насупраць былой Васілёвай сядзібы.

Балясіны шлагбаума нячутна апусціліся, і Васіль міжволі ўздрыгнуў. З заходняга боку данёсся ледзь чутны перастук колаў — прыбліжаўся цягнік. Усё як і тады, у даўнія гады...

Плыў адвячорак, сіне-шэрае летняе сутонне. Васіль стаяў ля пераезда і глядзеў на будку вартаўніцы. Пры прыбліжэнні цягніка з яе выйшла жанчына і, не зважаючы на Васіля, узняўшы ў руках ліхтар, стаяла насупраць сваёй будкі ўвесь той час, калі колы цягніка грукалі па пераездзе.

Вечар, як і дзень, дарыў неспадзяванкі. Па буйным, мажным стане, ганарлівай пасадцы галавы Васіль пазнаў у вартаўніцы дачку Стражніка — ад Івана Васіль ужо ведаў, што яе завуць Зіна. Правёўшы цягнік, вартаўніца рушыла ў будку. А для Васіля нібы цудадзейна сцёрліся межы часу. Нешта прыемнае, цёплае варухнулася ў душы. Вось гэтым пераездам, які некалі вельмі многа значыў у Васілёвым жыцці, нібы замыкаўся круг, звязаны з прыездам Васіля ў мястэчка.

Васіль дакладна не памятае, калі з усіх местачковых дзяўчат ён выдзеліў Кацю, дачку абходчыка Драздовіча і яго вясёлай, няўрымслівай жонкі. У Драздовіча было аж чатыры дачкі. Каця, другая ў сям'і, была мала падобна на старэйшую і маладзейшых сясцёр. Яны былі чорненькія, тоненькія, рухавыя, нібы яшчаркі, а яна бялявая, мажная, спакойная. Можа, сваім спакоем, ураўнаважанасцю і падабалася Васілю.

У апошні год перад вайной, скончыўшы сем класаў, Васіль, па прыкладу бацькі, падаўся на чыгунку. То быў час, калі ў мястэчку мала хто спыняўся на сямігодцы. Людзі, якім нават не давалася навука, імкнуліся, аднак, калі не ў інстытуты, тэхнікумы, то хоць бы на якія курсы. Якраз вызвалілі заходніх

беларусаў і ўкраінцаў, у школы новых савецкіх абласцей патрабавалася шмат настаўнікаў. Некаторыя Васілёвы таварышы вельмі лёгка сталі педагогамі — пасля сямігодкі толькі месяц павучыліся на курсах. Васіля такі шлях не вабіў. Ён не бачыў нічога кепскага ў рабоце стрэлачніка, пуцявога абходчыка, рамонтніка, а пасадам машыніста і памочніка машыніста проста зайздросціў.

Пераезд у той час ахоўвалі па чарзе Драгі-Мілеўскія і Драздовічы. Папераменна на ім стаялі то сухая, выпетраная кабеціна бежанка, то Каціна маці. Каця аднachасова з Васілём пакінула школу і ўсё часцей стала падмяняць маці.

Ідучы на работу ці вяртаючыся дадому, Васіль шукаў выпадку запыніцца на пераездзе. Яму прыемна было бачыць Кацю. На работу яна заўсёды выходзіла ў адной і той жа цеснаватай, але вымытай, белай у палоску сукенцы, якая шчыльна аблягала яе паўнаваты стан.

Наогул ён добра пражыў два апошнія перад вайной гады. Яму падабаліся парадкі ў пуцейскай брыгадзе. Ніхто ні на каго не крычаў, не падганяў, пуцейцы часта рабілі перакуры, летам у абедзенны перапынак па гадзіне спалі пад кустом, але працавалі таксама зацята, на совесць. Васіль з задавальненнем вяртаўся пасля работы дамоў, ступаючы па шпалах стомленымі нагамі, ведаючы, што свой абавязак на гэты дзень ён выканаў. Наперадзе была радасць: дома яго чакаў цёплы боршч, адпачынак, спагадлівыя позіркі маці, бацькі, сястры. Праз усё жыццё пранёс Васіль гэтае, зведанае яшчэ ў ранняй маладосці пачуццё выкананага абавязку, якое трымае на свеце рабочага чалавека.

Васіль праходжваецца па насыпе. Цёплы жнівеньскі вечар плыве над мястэчкам. Неба ў суцэльным засеве яркіх, нібы вымытых зорак. Даносяцца гукі радыёлы — мабыць, з танцавальнай пляцоўкі, якая ў цэнтры мястэчка. На станцыі раз-пораз азываецца манеўровы паравоз.

Ад пераезда да наступнай будкі з абодвух бакоў чыгункі паднялася шчыльная сцяна пасадак. Сапраўдны лес. Калі Васіль ад'язджаў у Данбас, клёнікі, бярозкі, асінкі тырчалі на паласе адчужэння тоненькімі дубчыкамі.

Дайшоўшы да разбуранай, нежылой будкі, якая стаіць ужо за межамі мястэчка, Васіль павярнуў назад. Нішто тут

не нагадвае ранейшых мясцін. У прагалах між пасадкамі цёмнае поле, лес адступіў так далёка, што яго ў шэрані вечара зусім не відаць. Васіль павярнуўся назад. Да яго слыху данёсся прыдаўлены смех, ціхія выгукі. Відаць, прагульвалася моладзь.

Васіль дайшоў да пераезда і ўжо збіраўся павярнуць на вуліцу Касманаўтаў, да дома сястры, калі ля беленькай будкі вартаўніцы заўважыў цёмную постаць. Стаяў мужчына. Рыпнулі дзверы, і да яго выйшла дачка Стражніка. Яна сказала мужчыне штосьці злоснае, абразлівае, і ён паспешліва падаўся прэч...

У гэтую ноч Васіль начаваў у хляве, на сене і зноў доўга не мог заснуць...

Драздовічы і Драгі-Мілеўскія, якія месціліся ў будках на пераездзе, жылі неяк похапкам, неахайна, неўладкавана. Адразу пасля палучкі два ці тры дні гулі спевы то ў будцы Драгі-Мілеўскага, то Драздовіча. Па гарэлку некалькі разоў на дзень, незалежна ад таго, будзень гэта ці свята, шыбаваў то прысадзісты, худы, з закручанымі рудымі вусамі Драгі-Мілеўскі, то шустрая жонка Драздовіча. Нарэшце пагулянка канчалася. Прыбітая, прыціхшая Драздовічыха, апусціўшы вочы, хадзіла ад хаты да хаты па суседках пазычаць грошы на хлеб. Драгі-Мілеўскі і ў гэтым выпадку форсу не губляў. Накінуўшы на шырокія касцістыя плечы запэцканы сіні халат, садзіўся на ганак, ляпаў малатком па блясе, ганарыста, з выглядам уласнай перавагі адказваючы на прывітанні прахожых.

Быў, аднак, мізэрны чалавек Драгі-Мілеўскі, што выявілася ў вайну. Калі ў мястэчка прыйшлі немцы, вартаўнік пераезда абодвух сваіх сыноў, Янку і Альфрэда, паслаў у паліцыю. Можа, на гарэлку пазарыўся: паліцэйскім новыя гаспадары выдавалі па літру спірту ў месяц.

Затое з найлепшага боку паказаў сябе Пупок. Помсціцца з прыходам немцаў не стаў, правоў на аднятую маёмасць не дамагаўся. Бацька Васіля эвакуіраваўся на ўсход разам з некаторымі чыгуначнікамі. Пупок ведаў, што Іван Галавенька прынят кандыдатам у члены партыі, аднак нікому не заявіў, што ў зяцевым доме жыве сям’я камуніста. Плаваў Пупок белым лебедзем па зарослым муравой двары, з-пад рукі праз тын кідаючы нядобразычлівыя, касыя позіркі на прышэльцаў...

Найбольш цяжка сям'я жыла ў першую восень і зіму акупацыі. Ні хлеба не было, ні солі, ні лішняй вопраткі, каб абмяняць яе на якія-небудзь прадукты. З наступленнем цяпла Васіль зноў пайшоў у рамонтную брыгаду. Не мог паступіць інакш: апроч таго, што сям'я галадала, яго запісалі для адпраўкі ў Германію. Работай на чыгунцы гэтай адпраўкі ён унікнуў.

На той час пачалі аб'яўляцца партызаны. Ды і ў самім мястэчку былі людзі, якія цішком шкодзілі немцам. Васіль спачуваў гэтым людзям, але знайсці іх, пазнаёміцца было не так проста. І ўсё ж ён трохі пасабляў партызанам. Разоў некалькі да іх у хату завітваў стрыечны матчын брат, які жыў у прымах у лясной вёсцы. Спачатку асцярожна распытваў, што робіцца ў мястэчку, затым, пераканаўшыся, што Васіль — чалавек свой, пачаў прыносіць заданні. Васіль, працуючы ў брыгадзе, здабываў для партызан пуцейскі інструмент. Гаечныя ключы, лапы, іншыя рэчы хаваў ва ўмоўленым месцы, а матчын брат іх адтуль забіраў.

З Кацяй Васіль таксама зблізіўся ў вайну. Хоць нічога асаблівага між імі не было: сядзелі на лавачцы, цалаваліся, хаваючыся ад патрулёў, якія расхаджвалі па пераездзе. Калі пасля вызвалення мястэчка Васіль ішоў у армію, Каця падаравала яму вышыты кісет. На фронт лісты прысылала.

Іх сувязь парвалася, калі наступіў мір. Васіль пасля вайны яшчэ чатыры гады служыў у арміі. Якраз перад яго дэмабілізацыяй Каця выйшла замуж за Стражніка. Як пазней даведаўся Васіль, непрывабную ролю ў гэтай гісторыі адыграла Каціна маці. Сілай выштурхнула дачку замуж.

## VI

Прыбудоўку да хлява выводзілі цэлы тыдзень. Рабочай сілы паменшала, рабілі ўдвух — прымак Вольгі Транчаковай і Васіль. У Сцяпана гарачы час — прыёмка жывёлы, і, нават не паснедаўшы, ён бяжыць на службу.

Нарэшце трысценак скончылі. Атрымаўся ніштаваты, надаўшы лепшы выгляд не толькі хляву, а і ўсяму двару. Узрадаваная Аляксандра нават грошы хацела даць Васілю нараўне з Мікалаем Мікалаевічам, але ён рашуча адмовіўся.

Тры дні яшчэ паходзіць Васіль па мястэчку, па яго ваколіцах, а там дадому трэба. Адпачынак канчаецца.

Нарэшце ён выбраўся на Далёкае Ляда. Ён, вядома, здагадваўся, гледзячы на перамены ў другіх мясцінах, што мала знойдзе знаёмага на сцежках дзяцінства, але тое, што ўбачыў, збянтэжыла ўшчэнт. Толькі чалавек, які вельмі добра ведае мясцовасць, стоячы на пагорку пасярод разлеглага, шэрага ржышча, мог разгадаць, дзе ўзвышаліся калісьці дубы з буслянкай, цягнуліся купы лазнякоў, града алешніку, дзе, нарэшце, стаялі хаты хутаранцаў. Краявід, пазбаўлены лесу, здаваўся аднастайным і панылым.

Значыцца, вось так, нічога прывабнага. Казка пра райскі зялёны куток, які ёсць на зямлі, скончылася. А колькі Васіль думаў, успамінаў гэты куток! І надалей будзе думаць і ўспамінаць...

У памятнае лета пясчаны пагорак, як і ўсё навакольнае поле Далёкага Ляда, быў засеяны грэчкай. Калі грэчка зацвіла, вынік малюнак незвычайны, ніколі нікім не бачаны. Здавалася, разлягаецца кругом белае, малочнае мора. Звінела мора прыцішанай, зладжанай музыкай: мільёны пчол раптам зляцеліся на поле. На кожнай сцяблінцы, у кожнай развілцы белага суквецця па пчале! Ад густога мядзвянага паху, які плыў з грачнёвага поля, кружылася галава...

Палявой дарогай Васіль пабрыў да саўгаснага пасёлка, які бачыцца з вышыні пагорка шэра-белымі шыфернымі дахамі. Памятаў пасёлак някідкім — звычайныя сялянскія хаткі, пачарнелыя ад вятроў і дажджоў, якія стаяць наўзбоч пясчанай вуліцы, у процілеглым канцы некалькі густа заселеных баракаў з каморкамі-сотамі.

Хаткі стаяць і цяпер, толькі весялейшыя з выгляду. Прыгажэйшы від ім, відаць, надаюць абшаляваныя, пафарбаваныя сцены, а таксама сады, палісаднікі, што зеляненюць ледзь не ў кожным двары. Толькі гэтая вулачка, якая стала ўскраінай, нагадвае штосьці даўнейшае. Уздоўж яе выцягнуліся яшчэ тры ці чатыры, застаўленыя дамамі новай забудовы, вялікімі і прасторнымі. Няўжо тыя даўнія саўгасаўцы, якія туліліся ў цесных барачных каморках, не надта кідка апраналіся, сталі ўладарамі гэтых — з шырокімі светлымі вокнамі, верандамі, тэлевізійнымі антэнамі над шыфернымі дахамі

дамоў, у дварах якіх ацэментаваныя калодзежы, матацыклы, легкавыя машыны?

Так ці не так, але аблічча пасёлка гаворыць пра дастатак, нават зажытак тубыльцаў...

Міжволі думкі Васіля перанесліся на Стражніка — сядзіба яго бацькі стаяла недзе блізка ад гэтага месца. Узбоч балота цягнулася чарада разгалістых дубоў, ліп, а ніжэй, па дрыгвяністай нетры, густа сплялося чарналессе — лаза, альха, бяроза, асіна. Балота аж кішэла вужамі. Мясціна была глухая, дзікая. Бацька Стражніка іменна тут выбраў месца для хутара. Хутар быў звычайны — не вельмі кідкая хата, хлеў, гуменца. Але абгароджаны быў хутар не парканам ці плятнём, а суцэльнымі сценамі. Нібы лясная крэпасць.

Хутаранец быў вельмі ўпарты чалавек. Калі на пясчанай выспе паявіліся першыя баракі саўгасаўцаў і пачалася асушка балота, старога Стражніка раскулачылі. Але неяк лагодна, без высылкі. Яму дазволілі жыць ва ўласнай хаце і працаваць у саўгасе.

Стражнік, аднак, сваё котлішча пакінуў, перабраўся ў лес. На лясной паляне пабудаваў саламяную хату на высокіх палях. Маўляў, калі забралі маю зямлю, то мне зямля наогул непатрэбна. Вось так і буду вісець у паветры...

Саламяная хата на высокіх палях гады два мазоліла вочы саўгасаўцам, пакуль гаспадара яе, падабраўшы адпаведны артыкул, з гэтага месца не выслалі. Сын Стражніка ад высылкі ўвільнуў — трохі раней падаўся на заработкі.

Васіль рушыў у мястэчка тарфянікам, пакінуўшы збоку Далёкае і Блізкае Ляды. Думаў пра заможнасць саўгасаўцаў, і яго пры гэтых думках агортваў супярэчлівы настрой. Прыемна было бачыць дабротную, ахайную забудову былой няўдобіцы, адчуваць нават нешта магутнае ў размаху, з якім паўстаў перад вачамі новы пасёлак. Але да прыемных, нават узвышаных пачуццяў прымешвалася штосьці халаднаватае, насцярожанае. Можа, ішло яно ад асабістых пачуццяў. Васілю яшчэ ў тым, старым пасёлку прыйшлося перажыць некалькі непрыемных хвілін. Вярнуўшыся з арміі ў галаднаваты пасляваенны год, ён прыязджаў у саўгас купляць бульбу. Жылі саўгасаўцы ў цесных, барачных каморках, але за пуд бульбы, якой у іх хапала, лупілі па тры скуры...

Пра каго думаеш, таго напаткаеш. Выйшаўшы на мястачковую вуліцу ля мураванай крамкі з высокім каменным ганкам, Васіль убачыў трох мужчын. Стаяць ледзь не ў абдымку, зычнымі галасамі нешта выгукваюць.

Не заўважыў Васіль своечасова, што сярод вясёлай кампаніі Церах Стражнік, таму не прыняў мер перасцярогі. Між тым Церах пазнаў Васіля адразу. Растапырыўшы рукі, стаў на дарозе:

— Іванавіч! Колькі лет, колькі зім!..

З трох п'янаватых мужчын адзін у шапцы лясной аховы з цэшкай і зялёнай каймой. Другі — хутчэй, механізатар, у зашмальцаваным пінжаку, з цёмнымі, якія штодзённа маюць справу з мазутай і жалезам, рукамі. Сам Церах, нягледзячы на летні дзень, таксама апрануты ва ўсё цёмнае. Паблажэў ён, апусціўся — некалі вузкаваты, досыць прыемны твар расплыўся, валасы пасівелі, плечы ссутуліліся.

— Іванавіч! Наколькі вядома, у нашым так называемым горадзе жылой плошчы ў вас не імеецца. Хата прададзена. Чым аб'ясніць ваш прыезд? Можа, патрэбна спраўка для пацвярджэння стажу? Напрыклад, парцізанская. Як устаноўлена, з партызанамі сувязь вы імелі...

— Спраўка непатрэбна,— адказаў Васіль.— На пенсіі я. Хоць яшчэ працую. Не ў шахце — наверсе. Нам дазваляюць.

— Трэба адмеціць ваш прыезд, Іванавіч. Рабочыя людзі заўсёды разумеюць адзін другога. Вот я бачу — вугальны пыл пранік ва ўсе поры вашага цела. Рукі вашы чорныя. Іх не адмыеш. І не трэба адмываць. Рабочы чалавек павінен ганарыцца сваімі рукамі. Мы з вамі ўсё-такі разам жылі, Іванавіч. У адным двары...

Другім разам Васіль нізавошта не згадзіўся б быць у адной кампаніі з трыма п'янымі мужчынамі, паставіць ім за свой кошт бутэльку дарагой сібірскай гарэлкі, выслухваць прызнанні Стражніка, які каяўся перад Васілём. Відаць, ён проста расслабіўся, пахадзіўшы па памятных ваколіцах мястэчка. А можа, зрабілі сваю справу сумныя, як бы прысыпаныя попелам вочы Стражніка і тое, што ён прызнаваў перад Васілём сваю віну.

— Жызнь ідзе, Іванавіч,— сказаў ён перад тым, як яны зайшлі ў краму.— Мы ўжо старыя. Таго, што прайшло,

не вернеш. Я нарабіў у сваёй жызні памылак. Быў да вас несправядлівы. Прашу мяне прасціць. Усё ад несазнацельнасці. Я адно цвёрда зразумеў за сваю жызнь... Не трэба насіць у душы зло на другога чалавека. Асабліва блізкага чалавека не трэба крыўдзіць...

Яны паспелі выпіць па паўшклянкі, закусіўшы сухімі, як камень, пернікамі. Выбавіла Васіля з яго міжвольнага палону Аляксандра. Высокая, паўнацелая, яна нібы хмара паўстала ў дзвярах крамы.

— Алкашы няшчасныя! — разгнявана выгукнула.— Чалавек адпачыць прыехаў, паглядзець на месца, дзе на свет нарадзіўся, а вы яму хутчэй зенкі залівапь. Марш да жонак!..

Па дарозе Аляксандра ўшчувала Васіля:

— Знайшоў з кім піць. Стражнік мокне ў гарэлцы не прасыхаючы. Дзень пры дні. Розум адпіў...

— Нядобра ў яго на душы. Вочы вельмі сумныя. Я нават сумеўся, убачыўшы яго...

— Знайшоў каго шкадаваць! Ды ён любога ў лыжцы вады ўтопіць. Паразіт і п’яніца. Забойца...

Рэшту дня, увесь вечар Васіль думаў пра Стражніка. Многа, вельмі многа значыў у ягоным жыцці гэты чалавек...

Калі, дэмабілізаваўшыся з арміі, Васіль вярнуўся дадому, Пупка і яго жонкі жывых не было. Хатай, дваром валодаў Стражнік, іхні далёкі родзіч.

Пра тое, што Каця выйшла замуж, Васіль ведаў. Але маці з сястрой не напісалі яму, што яна жыве ў Пупковым двары. Баяліся, відаць, што, ведаючы гэта, Васіль у мястэчка не вернецца. Ён сапраўды не вярнуўся б...

Церах у той час быў на кані. Пад немцамі не быў, прайшоў фронт, быў паранены — ад левай рукі засталася кукса з двума пальцамі...

Стражнік ведаў, што Васіль пісаў з арміі Каці лісты, таму яго прыезд сустрэў з несхаванай варожасцю. У той жа вечар, напіўшыся, крычаў праз паркан:

— Думаеш, у арміі паслужыў, дык усё забыта. Не забыта, даражэнькі. Я кроў праліваў за родзіну, а ты немцам чыгунку ладзіў, зад ім лізаў. Бацька быў гарлапанам, на чужое зарыўся, і сын не лепшы...

Нават бацьку Васіля, які з эвакуацыі не вярнуўся, загінуў пад бомбамі на падмаскоўнай станцыі яшчэ восенню сорак першага года, не пашкадаваў Стражнік. Не забыў, значыць, што бацька памагаў трэсці хутар у Астроўках.

Каця бегала па двары, не падымаючы ад зямлі вачэй. Саромелася Васіля. Пры сустрэчах вінавата віталася, і твар яе пры гэтым густа пунсавеў.

Аднаго за другім Каця нарадзіла двух хлопчыкаў і ў сваім мацярынскім клопаце не ведала ўпынку. Ніхто ёй не памагаў няньчыць дзяцей, ды яна і патрэбы ў гэтым не мела. Паспявала ўсё рабіць сама: даіла і выганяла на пашу карову, карміла свіней, курэй, паласкала бялізну і яшчэ на службу бегала — як і раней, працавала на чыгуначным пераездзе вартаўніцай.

Сам Стражнік з пастаяннай службай не звязваўся. Валодаў рамяством муляра, клаў печы, ад кліентаў не было адбою. Вялікія грошы зарабляў. Ужо тады распачаў будоўлю першага мураванага дома, і Каця яму самаахвярна памагала: мясіла гліну, падавала наверх цэглу, нават вазіла на тачцы пясок з кар’ера.

Васілёва рана пачала паступова загойвацца. Крыўды на Кацю не меў. Ведаў дакладна — піхнула дзяўчыну за Стражніка Кацiна маці, пазарылася на Пупкоў двор.

Няшчасце здарылася летнім часам. У госці да замужняй сястры прыехала Любка, малодшая з дачок Драздовіча — працавала выхавацельніцай у яслях у бліжэйшым ад мястэчка гарадку. Любка — вылітая маці, такая ж шустрая, непаседлівая, смяшлівая, толькі цямнейшая з твару — бацькавага ўзяла. Відаць, някепска Любцы жылося ў яслях. У параўнанні са старэйшай сястрой, якая за пяць гадоў замужжа выпетрала, як цявіна, малодшая здавалася лялькай: распушчаныя валасы, гнуткі стан, адтапыраныя клубы.

Стражнік стаў прыставаць да Любкі, і яна яго не адштурхнула. Даведаўшыся пра гэта, Каця справіцца з сабой не здолела, кінулася пад цягнік...

Тым часам Стражнік жыў, ляпіў людзям печы, робячы выгляд, што нічога асаблівага не здарылася. Узяў за жонку Любку, і яна штосьці хутка, месяцаў праз пяць, нарадзіла яму сына.

У тое лета Васіль, які быў зноў у рамонтнай брыгадзе, з брыгады звольніўся і паехаў у Данбас. У Данбасе было да каго прыхінуцца: яшчэ раней за яго туды паехала сястра — працавала ў сталовай.

## VII

З раніцы ў хату завітаў Іван Петручок.

— Жонцы аперацыю зрабілі,— паведаміў усхвалявана.— Слабая Насця. Баюся...

Аляксандра суцешыла:

— Будзе ўсё добра, Іван Паўлавіч. Не трэба лішне браць да сэрца. Дактары цяпер вучоныя...

— Каб жа даў Бог. Вот іду ў бальніцу. Я і начаваў там. Дадому забег толькі карову выпусціць.

Васіль рушыў з хаты разам з Іванам. Дзесяць дзён прабыў ён у мястэчку, а ўражанне такое, што ніколі яго не пакідаў. Нібы не было трыццаці гадоў, якія жыў на чужыне, і нібы ўсё-ўсё ведае пра заасфальтаваную вуліцу, разлеглыя палі на балацянках і пнёўі, пра пераезд, будкі пры пераездзе, у якіх жывуць зусім іншыя людзі. Многа перамен у мястэчку...

Так, корні кожнага чалавека там, дзе ён нарадзіўся, пражыў маладыя гады. Гэтага нельга забыць, выкінуць з душы, памяці. Корні яго, Васіля, тут, у мястэчку, і, можа, таму ў кожны свой прыезд ён на дзіва лёгка і хутка асвойваецца з тутэйшым жыццём.

Мінуўшы станцыю, гліняны кар’ер, Паштовую вуліцу, Васіль з Іванам падышлі да бальніцы.

Гарадок — так называецца шырокі пляц, на якім размясціліся бальнічныя будынкі,— самае прыгожае месца ў мястэчку. Пляц агароджаны штыкетнікам, засаджаны таполямі. Дрэвам, відаць, столькі гадоў, колькі старым будынкам — некаторыя з іх аселі, пакрывіліся. Таполі тым часам у самым росквіце сілы. Высока, густа навісаюць іх шаты над дахамі, камінамі, над новымі мураванымі карпусамі. Бальнічны двор — нібы суцэльны зялёны шацёр.

Іван, які ведае ўсе хады-выхады, знік у дзвярах каменнага, падобнага на барак, будынка. У ім бальніца. Сцены звонку пабелены, на вокнах фіранкі, з дзвярэй раз-пораз выскакваюць

санітаркі ці доктаркі ў белых халатах. Востра, непрыемна пахне хлоркай.

Ля наступнага каменнага будынка, у якім амбулаторыя, стаіць доўгая чарга. Частка людзей сягнула ў калідор, некаторыя сядзяць на прыступках высокага ганка, а яшчэ больш — доўгі хвост — стаяць, прыхінуўшыся да сцен.

Васіль прайшоў уздоўж чаргі. Многа ў ёй немаладых людзей — яго веку і старэйшых. Толькі два знаёмыя твары ўбачыў Васіль. Усіх астатніх людзей ён не ведае. Шмат што змянілася ў мястэчку за доўгія гады яго адсутнасці.

Падышоў узрадаваны Петручок.

— Насця спіць,— паведаміў.— Няхай спіць. Можа, лепей ёй стане. Я яшчэ пабуду тут...

Развітаўшыся з Петручком, Васіль выбраўся на вуліцу. Заўтра ці паслязаўтра трэба ад’язджаць. Ён яшчэ павандруе па мястэчку, паглядзіць, як яно выглядае, зойдзе на могілкі.

З ціхмяна-самотным настроем праходзіў Васіль міма каменнай двухпавярховай школы, у якой вучыўся з пятага па сёмы клас, і міма школьнага двара, куды ў пачатковыя класы прыбягаў аж з Далёкага Ляда. Высока падняліся, разрасліся дрэвы дзяцінства. У памяці яны — маладыя, шапаткія — цяпер, нібы хмары, навісаюць над дахамі школьных будынкаў.

З трапятаннем глядзеў некалі Васіль на доўгі, з шырокімі вокнамі, высокім ганкам, бляшаным дахам будынак, які здаваўся найбольш ахайным, гарадскім сярод астатніх, што нагадвалі звычайныя сялянскія хаты і на манер падковы замыкалі пясчаны школьны двор.

Тых хат даўно няма, а памяшканне пад жалезным дахам яшчэ трывае. Урасло ў зямлю і ледзь пpаглядае з густых зарасляў бэзу.

Дабраўшыся да могілак, Васіль доўга вандраваў, пакуль натрапіў на магілу маці. Магілка агароджана, але крыж ад часу пахіліўся, і гурбачок насыпу зарастае травой...

Пасля могілак Васіль гадзіны тры ці чатыры абходзіў ваколіцы мястэчка, нібы развітваючыся са старымі вуліцамі, завулкамі, якія памятаў, і з новымі, што паўсталі за час яго адсутнасці. У новай сваёй частцы мястэчка сапраўды нагадвае горад. Большасць будынкаў і тут драўляныя, але яны не ідуць ні ў якое параўнанне з пахілымі, пакрытымі

струхлелай дранкай, хаткамі, што нібы спадылба пазіраюць на свет на старых вуліцах.

Даўшы вялікага крука, прытомлены, поўны ўражанняў, Васіль зноў апынуўся ля бальнічнага гарадка. Насупраць бальнічнага двара стаіць прамавугольны, нібы карабок запалак, павільён закусачнай. Ён наскрозь праглядваецца — сценкі з суцэльнага шкла. Здзіўлены незвычайным выглядам закусачнай, Васіль запыніўся, нават хацеў завітаць у яе, пакуль не ўбачыў за адным са столікаў Стражніка. Стражнік ужо паспеў падпіць — крычаў, размахваў рукамі, нешта даказваючы.

Васіль борзда падаўся прэч. Не хацелася яшчэ раз трапіць у п’яную кампанію. Але ў гэты дзень схавацца ад былога суседа не ўдалося.

Вечарам Аляксандра са Сцяпанам пайшлі ў госці, як заўсёды, рушыў на пагулянку пляменнік. Васіль адзін застаўся ў хаце, ляжаў на ложку, слухаў зыкі вячэрняй вуліцы і нечакана для сябе задрамаў. Прачнуўся ад тупату ў сенечках. У першую хвіліну было такое ўражанне, што туды ўбілася жывёліна: бразнула вядро, нешта ўпала на падлогу. Нехта незнаёмы нязграбна паварочваўся ў сенечках, шукаў клямку, але ў цемені не мог знайсці.

Васіль запаліў святло, адчыніў дзверы. У хату ўваліўся п’яны, як зямля, Стражнік. Васіль правёў яго ў чысты пакой, пасадзіў ля стала.

Стражнік нечакана схапіў Васілёву руку, пацалаваў.

— Даруй мне,— прамовіў вельмі выразна.— Перад табой вінават. Але найбольш перад Кацяй. Скруціў ёй жыццё. Лепшага, чым яна, чалавека не бачыў. Не магу забыць... Кожнай ночы бачу ў сне...

Выціраючы рукой слёзы, Стражнік плакаў. Яшчэ праз хвіліну ён падняўся і даволі цвёрдай паходкай рушыў за дзверы...

Назаўтра Васіль пайшоў па грыбы. У Макаўскую старану — куды хадзіў, пераехаўшы ў мястэчка. Лес стаіць у перадасенняй млявасці, ціхі і спакойны. У шатах бяроз прабіваецца жоўты ліст, асіна як бы пачынае прымяраць залаціста-вогненны ўбор, яркія чырвоныя занізкі навесіла на сябе арабіна. Але перамяніўся дашчэнту лес дзяцінства. Крочачы пясчаным шляхам,

з вялізнымі, выбітымі коламі машын калдобінамі, Васіль амаль нічога не пазнае.

Там, дзе на вёрсты цягнуліся сасновыя пасадкі, маладнякі з пясчаным, пакрытым верасам долам, цяпер падняліся сапраўдныя бары. Васіля найбольш і ўразілі гэтыя бясконцыя бары з іх урачыстай цішынёй, спакоем, сіняватымі палосамі святла, якія вісяць між медных ствалоў. На няўдобіцы, жаўта-пёсах выраслі стромкія сосны, спляліся наверсе шатамі, дол у прагалках між дрэвамі зарос срэбнымі імхамі.

Вандруючы па імхах, Васіль пачаў натрапляць на баравікі. Яны былі відаць здалёк, выгляд мелі адменны: з бурымі каптурыкамі, моцнымі, цвёрдымі ножкамі. На ножках таксама быў буравата налёт. У дзяцінстве на гэтых мясцінах такіх грыбоў Васіль не знаходзіў. Дый прыгажэйшага бору, чым гэты, родны, які вырас за час яго адсутнасці, Васіль не бачыў...

Дамоў Васіль вяртаўся чыгункай. Яшчэ ў межах лесу, адразу за разваленай будкай убачыў чалавека, які скурчыўшыся, падцягнуўшы ногі пад жывот, спіць на адхоне насыпу. Каля яго ляжыць пуцейскі інструмент: звязка гаечных ключоў, грабок, рыдлёўка.

Васіль пазнаў пуцейца — спіць, выкарыстоўваючы свой абедзенны перапынак, Пятро Скарынкін,— разам з ім Васіль пачынаў сваю работу ў рамонтнай брыгадзе. І раней было, калі брыгадзір пасылаў на які-небудзь участак толькі аднаго чалавека.

Васіль не захацеў будзіць Пятра. Няхай паспіць, шуруе рыдлёўкай, грабком з сямі раніцы. Тым болей што няма паблізу начальніцкага вока.

Яшчэ раз мільгнула ў Васіля думка, што мог ён не выязджаць з мястэчка. Мог працаваць у рамонтнай брыгадзе, хадзіць зведанымі, знаёмымі сцежкамі, бываць калі захоча ў прыгожым бары, дол якога зарос мяккімі, срэбранымі імхамі.

*1981*

# 1982

## ЗА КАПУСТУ

Сяргейка не можа растлумачыць сам, чаму згадзіўся пасвіць рабую Антонішыну свінню. Можа, таму, што ў той дзень вучняў адпусцілі на канікулы. Сяргейка прэмію атрымаў за трэці клас — кнігу «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра,— і ў яго быў добры, лагодны настрой.

Калі ён ішоў са школы, несучы пад пахай кнігу, Антоніха — высокая і худая, як жэрдка,— стаяла ў веснічках свайго двара.

— Свіней пагоніш пасвіць? — спытала яна Сяргейку.

— Пагоню.

— Займі маю рабую. Вунь яна ходзіць на выгане.

Сяргейка марудзіў з адказам, і Антоніха, бачачы яго разгубленасць, паспешліва загаварыла:

— Я вунь капусту кончыла садзіць. Палавіну агарода засадзіла. Расады Антон з саўгаса прынёс. Ведаеш жа, якая ў саўгасе расце капуста. Кожны качан па пуду. Восенню набераце ў мяне капусты. Колькі захочаце. Які ў вас там агарод, а сям'я вялікая...

Сяргейка з неахвотай згадзіўся і пайшоў дадому. Ён расказаў маці, што за капусту падмеўся на час канікул пасвіць Антонішыну свінню.

— Не палучыш ты ў яе ніякай капусты. Знайшоў з кім звязвацца. Свае тры байбусы без дзела ходзяць, а цябе забрытала.

У Антоніхі тры сыны — Васіль, Іван і Косцік,— але рабая, доўгая, чымсьці падобная да сваёй гаспадыні свіння бегае самапасам. Старэйшы Васіль скончыў сямігодку, збіраецца паступаць у школу памочнікаў паравозных машыністаў. Перарос ён пару, калі пасвяць свіней.

Іван з Косцікам, прасядзеўшы па тры гады адзін у трэцім класе, другі — у чацвёртым, з навукай развіталіся і часу мелі дастаткова. Паназіраць за сваёй свіннёй яны, вядома, маглі б. Але Іван на дрывяным складзе, на станцыі абстругвае дручкі, а Косцік заняты на пякарні, якая якраз размяшчаецца побач з іхнім дваром. Носіць Косцік пекарам ваду са студні, за гэта нібыта атрымлівае штодзень буханку хлеба, а падгарэлых скарынак можа есці колькі захоча.

Пасвіць свіней — справа вясёлая, таварыская. Хлопцы з Сяргейкавай вуліцы займаюць свіней і гоняць за пераезд, за чыгунку: там, на выгане, на папарах, а пасля жніва на ржышчы, найлепшы прастор для такой неспакойнай скаціны, як свінні.

Ёсць цвёрды закон: хто колькі свіней займае, той столькі разоў узапар бегае адварочваць усю чараду. Сяргейку болей за ўсіх прыходзіцца бегаць, бо ў яго чарадзе свая свіння, два цётчыны парсюкі (Сяргейкава і цётчына сем'і жывуць у адным двары) і рудая Антонішына пантэра.

Намучыліся хлопцы з гэтай няўрымслівай, проста-такі ненавіснай жывёлінай. Кожнай хвіліны лезе ў шкоду. Сама раскладуць пастушкі агонь, пачнуць пячы бульбу, смажыць на ражончыках сала, а ўжо трэба бегчы адварочваць ненасытную пантэру. Ужо ўбілася ў маладую бульбу альбо латошыць чыенебудзь грады.

Кончылася тым, што хлопцы наогул адмовіліся адварочваць Антонішыну свінню незалежна ад чаргі. Папабегаў за ёй Сяргейка, папакалоў на ржышчы ногі!..

Тым часам канікулы скончыліся. Збіраючыся ў школу, Сяргейка апошні раз загнаў у Антонішын двор рудую свінню, якая за лета прыкметна пабольшала. Калі ён выйшаў на вуліцу, у веснічках паявілася гаспадыня.

— Вусень паеў усю капусту! — голасна пачала скардзіцца.— Не качаны, а фігі. Самой не хопіць на зіму. Хадзі, Сяргейка, я табе семачак у кішэню насыплю...

Ад семачак Сяргейка адмовіўся наадрэз.

Усю восень хлопчыка душыла крыўда. Гэтак абвяла яго вакол пальца языкатая суседка! Ідучы ў школу міма Антоні-шынага двара, Сяргейка нават у той бок не глядзеў. Калі спатыкаў Антоніху на вуліцы, наўмысна адварочваўся.

Між тым у сяло кінаперасоўка прывезла першае гукавое кіно. Карціна называецца «Юнацтва Максіма» і будзе ісці толькі адзін вечар. Вельмі хочацца Сяргейку трапіць у клуб, паглядзець незвычайную карціну. Але грошай, як назло, няма, і няма ў каго іх пазычыць. Да апошняга часу меў Сяргейка сярэбраны паўрубель, але не вытрымаў, у апошні кірмашовы дзень праеў на яблыках. Пра тое, што паўрубля няма, нават маці не ведае.

Нарэшце Сяргейка ўспомніў: правярае білеты ў дзвярах клуба сусед Антон. Няўжо ён забыў, што Сяргейка цэлае лета ягоную свінню пасвіў?

Антон, бачачы, што білета ў хлопчыка няма, спачатку рукой загарадзіў уваход у клуб. Але Сяргейка так на Антона зірнуў, што ён, нібы спалохаўшыся, паспешліва адвёў руку.

Гукавой карцінай Сяргейка быў вельмі задаволены, і з гэтага часу злосць на Антоніху пачала раставаць.

*1982*

## КАНЦЭРТ МАЙСЕЕВА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Трапіўшы па службовай камандзіроўцы, якая будзе цяг-нуцца тры месяцы, у агромністы, шматлюдны, шматгалосы Нью-Ёрк, Пятро Сямёнавіч Вішанька засумаваў. Кладзецца спаць і ўстае з адной думкай: хутчэй бы дадому. Толькі цяпер Пятро Сямёнавіч зразумеў, як можа пакутаваць адарваны ад радзімы чалавек і якое гэта глыбокае і ўсеўладнае пачуццё. Яно захоплівае чалавека цалкам, не дае ні пра што іншае, акрамя роднага кутка, думаць.

Пятро Сямёнавіч прыехаў у Нью-Ёрк дыпламатам. Болей як дваццаць гадоў выкладае ён навейшую гісторыю, друкуе ў часопісах артыкулы, выдае кнігі, нядаўна стаў прафесарам, і вось яго прыкмецілі. Паслалі на асамблею Арганізацыі

Аб'яднаных Нацый, дзе Вішанька ў Спецыяльным палітычным камітэце прадстаўляе Беларусь.

З раніцы разам з калегамі, у большасці такімі, як ён сам, непрафесіянальнымі дыпламатамі, Вішанька едзе ў прыземісты, размешчаны на беразе Іст-Рывер будынак ААН (побач нібы ўзлятае ў неба другі, магутны і шматпавярховы, у якім размяшчаецца службовы апарат арганізацыі), слухае выступленні дэлегатаў, найбольш цікавыя думкі запісвае, чытае шматлікія паперы, стосік якіх кожнай раніцы паяўляецца на ягоным стале.

Старанна рыхтаваўся Вішанька да выступлення ў камітэце, які больш месяца разглядаў пытанне аб апартэідзе ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Ён уважліва праслухаў выступленні папярэдніх дэлегатаў, сам сабраў нямала фактаў пра здзек, які чыніць белы ўрад так званай рэспублікі над карэнным чорным насельніцтвам. Апартэід — той жа фашызм. А Вішанька ведае, як паводзяць сябе фашысты. У юначым узросце ён быў у партызанах, на ўласныя вочы бачыў, як знішчалі эсэсаўскія карнікі родныя беларускія вёскі, жывымі спальвалі людзей.

На абед Пятро Сямёнавіч вяртаецца ў савецкае прадстаўніцтва. Іменна ў гэты час праводзяць свае мерапрыемствы сіяністцкія лігі. Натоўп збіраецца каля сінагогі, размешчанай праз вуліцу, трохі наўскасяк ад будынка прадстаўніцтва, падступае пад самыя яго вокны. Сіяністы махаюць кулакамі, гудуць, як разгневаныя шэршні. Прыслухаўшыся, можна разабраць асобныя, найбольш прарэзлівыя выгукі:

— Пусціце да мяне брата!

— Не маеце права раздзяляць сем'і!

— Я тры гады ў Амерыцы і не магу выклікаць маці!

Нахабныя тыпы сіяністы. Атрымліваецца, нібыта браты, сваты, пра якіх крычаць, жывуць на чужыне і прагнуць вярнуцца на радзіму. Наогул, уражанне такое, што сіяністам плацяць за лямант, бо крычаць яны роўна паўгадзіны, гадзіну і адразу разыходзяцца.

Толькі адзін раз прымоўклі сіяністы — калі на асамблею ААН прыязджаў Грамыка. Паліцэйскія ў цёмна-сініх мундзірах, з бліскучымі кукардамі на шапках густа стаялі тады на вуліцах, па якіх у чорнай лакіраванай «Чайцы» праязджаў савецкі міністр. Некаторыя ахоўнікі парадку, дбаючы пра яго

бяспеку, нават узбіраліся на дахі дамоў, а над прылеглымі да савецкага прадстаўніцтва кварталамі вісеў у паветры паліцэйскі верталёт.

Сіяністы і пры Грамыку таўкліся каля сінагогі. Але паводзілі сябе не вельмі адважна. Ступіць каторы з тратуара на праезджую частку вуліцы і атрымае ад паліцэйскага гумай па лабаціне.

Грамыка паехаў у Маскву, і ўсё стала, як і раней.

Шабашы сіяністаў — прыкрае выключэнне. Бо ўвогуле большасць амерыканцаў ставіцца да савецкіх прыхільна. У тым ліку паліцэйскія з бліжэйшага да савецкага прадстаўніцтва ўчастка. З вялікай ахвотай узялі яны ад беларускіх дэлегатаў прэзент бутэльку «Белавежскай» — і чым могуць ім спрыяюць: не затрымліваюць выпіску розных пропускаў, дазволаў.

Вішаньку запала ў душу, як амерыканцы адзначалі свята Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яно праводзілася ў някідкім, размешчаным за некалькі кварталаў ад савецкага прадстаўніцтва рабочым клубе. У доўгім зальчыку сабралася сотні дзве людзей, у большасці пажылых яўрэяў і яўрэек, якія, відаць, выехалі з Расіі яшчэ да рэвалюцыі.

Вішанька прыйшоў трохі зарана: удзельнікі сходу якраз збіралі грошы на рускую газету, якая выходзіць у Нью-Ёрку. Хто па два долары даваў, хто па тры, хто па пяць...

Сіяністы хацелі сарваць свята, уварваліся ў клуб, сталі лямантаваць, пагражаць. Але ў сяброў СССР ёсць абарона. Некалькі плячыстых хлопцаў паўскаквалі з месцаў, выштурхнулі крыкуноў з памяшкання, яшчэ трохі і ў каршэнь надавалі.

Тады пачаўся сход.

Ён здаўся Вішаньку дзіўным. Устала сівая жанчына, урач па прафесіі. Падышла да кафедры на невялікім узвышэнні і стала расказваць пра ўражанні ад нядаўняй паездкі ў Савецкі Саюз. Гаварыла пра наведванне бальніц, паліклінік, амбулаторый. Раз за разам паўтарала, што лячэнне ў Савецкім Саюзе бясплатнае, зусім бясплатнае. Зал слухаў, стаіўшы дыханне.

Затым прафесар-лінгвіст расказаў, як падарожнічаў па Каўказе. Ён не столькі гаварыў пра горы і цясніны, колькі

пра тое, што на Каўказе жыве шмат невялікіх народаў, якія выдаюць на сваіх нацыянальных мовах газеты, кнігі, вядуць радыёперадачы. Гэта азначае, заявіў прафесар, што ўсе мовы ў СССР маюць дзяржаўнае значэнне...

Зал выбухнуў бурнымі апладысментамі.

Так, прыкладаў павагі да сваёй краіны Вішанька бачыў нямала. У магазіне электратавараў ён папрасіў батарэек да партатыўнага радыёпрыёмнічка «Селга».

— Хіба ў вас няма такіх батарэек? — пазнаўшы ў ім рускага, спытаў рухавы тоўсценькі прадаўшчык, які нядрэнна валодаў рускай мовай.

— Ёсць,— сумеўся Вішанька.— Але іх хутка разбіраюць.

— Нічога,— суцешыў прадаўшчык.— Калі вы касмічную станцыю на Венеру паслалі, то батарэек як-небудзь наробіце.

Вялікіх грошай у Вішанькі і яго таварышаў няма, і сякія-такія пакупкі яны робяць у Даўнтаўне, ніжнім горадзе, які сваімі вузкімі вулачкамі, складзенымі з чырвонай цэглы двух- і трохпавярховымі будынкамі, прысадзістымі крамкамі-падвальчыкамі вельмі нагадвае дарэвалюцыйны Бабруйск. Валадараць тут галасістыя яўрэі-перакупшчыкі, якія беспамылкова пазнаюць рускіх.

— Масква — Варонеж, не дагоніш! — выгукваюць яны, заўважыўшы купку савецкіх нават і ў тым выпадку, калі ніхто з іх рота не паспее раскрыць, і тут жа наперабой запрашаюць у свае крамы-падвальчыкі, дзе шубу са штучнага футра (вядома, з невялікім, але нябачным бракам) можна купіць разоў у пяць танней, чым яна каштуе ў прыстойным, з паліцэйскімі ля ўвахода, магазіне.

Гэтая катэгорыя амерыканцаў да савецкіх таксама ставіцца прыхільна. Ну, можа, трохі лішне мянташыць языком.

У Нью-Ёрку, яго ваколіцах ёсць што паглядзець. Небаскробамі, ажурнымі, зробленымі з жалеза і сталі кіламетровымі мастамі, якія прыгожа і лёгка вісяць над вадой, шырокімі аўтастрадамі, па якіх у адзін толькі бок імчыць восем ці нават дзесяць радоў машын, многімі іншымі ўзорамі тэхнічнага прагрэсу Нью-Ёрк як бы паказвае агромністыя магчымасці чалавечага розуму, працы.

З другога боку, газеты зусім правільна пішуць, што велізарны Нью-Ёрк — повен кантрастаў. Накіруйся, скажам, у

Бронкс — так называецца заселены пуэртарыканцамі, неграмі, іншай беднатой раён горада — і на ўласныя вочы ўбачыш жахлівыя кантрасты. На вуліцах паўсюдна кучы смецця, бясконца цягнуцца запушчаныя, напаўразбураныя кварталы, трушчобы, у якіх шыбы акон заткнуты анучамі, а дзвярэй зусім няма.

Дні ідуць. Вішанька, калі надараецца магчымасць, блукае па густа засеяным каменнямі-валунамі парку, размешчаным у цэнтры горада, наведвае музеі, карцінныя галерэі. Аднак няма ў душы вялікай радасці. Можа, таму, што ні неба, ні краявіды, ні дрэвы не нагадваюць таго, што можна ўбачыць у Беларусі.

У чарадзе аднастайных, запоўненых смуткам па дому дзён трапіліся два дні, калі Вішанька па-сапраўднаму ўзрадаваўся. Першы раз гэта здарылася, калі ён убачыў вераб'я. Адзінокі, абскубаны, бясхвосты верабей скакаў па цэментаванай пліце тратуара на самім Брадвеі і, нягледзячы на гаротны выгляд, быў такі ж шустры, дзейсны, як яго сваякі на далёкай радзіме Вішанькі.

У другі раз на апранутым у камень узбярэжжы акіяна Вішанька ўбачыў бярозку. Тут якраз размешчан музей акіянскіх рыб і жывёл. У агароджаных з боку вады жалезнымі сеткамі, з боку сушы — тоўстым шклом прасторных камерах палошчуцца акулы, рыбы-шаблі, рыбы-мячы і іншыя насельнікі акіяна. Але і бярозка на месцы. Беленькая, тоненькая, яна расце між каменных пліт і не сагнулася ад безупынных вятроў, што сурова дзьмуць з акіяна. Па асеннім часе гэтак жа, як дома, бярозка скідае апошняе залатое лісце...

Мінула два месяцы. Весялей стала жыць Вішаньку. Выразней бачыцца дзень, калі ён возьме свой чамадан, сядзе ў аўтобус, паедзе ў аэрапорт і адтуль паляціць на радзіму. Праз дзесяць гадзін лёту будзе ў Маскве, а яшчэ праз дзве ці тры гадзіны — у Мінску. Цуд! Як толькі можна ў такі цуд паверыць?..

У адзін з тых дзён Вішанька прачнуўся, ахоплены ціхмяна-лагодным, падобным на святочны, настроем. Як бы таілася ў душы прадчуванне чагосьці светлага, раднага, што абавязкова ў гэты дзень збудзецца. З такім пачуццём ён прачынаўся даўно-даўно, дзесьці ў бесклапотным дзяцінстве,

калі ведаў наперад, што кончыліся заняткі ў школе і ён вольны, як вецер.

Вішанька ўстаў, босы прыдыбаў да акна, падняў жалюзі. У запыленае акно глядзіцца хмуры асенні дзень. На ложку, прыстаўленым да супрацьлеглай сценкі, пасапвае носам Вася Шкундзік, Вішанькаў напарнік, кандыдат геаграфічных навук і таксама часовы дыпламат. За два месяцы сумеснага жыцця яны неяк прыцерліся адзін да аднаго і, можна лічыць, сышліся характарамі. Вася вельмі карысны для Вішанькі чалавек. Ён някепска валодае англійскай мовай, і цяжка сказаць, як бы хадзіў па вуліцах, крамах, магазінах Пятро Сямёнавіч, каб не было побач Васі.

— Уставай! — Вішанька торкае таварыша за плячо.

Вася высоўвае з-пад коўдры чорную ўскудлачаную галаву:

— Давай паспім. Сёння мне на камітэт у дванаццаць.

— Мне зусім не трэба на камітэт. Але я хачу есці... Ты сёння кухар.

Гаспадарка ў насельнікаў пакоя сумесная: па чарзе гатуюць сняданні, вячэрні чай, а ў выхадныя дні — і абеды.

— Абжора! — гаворыць Вася, памкнуўшыся ўставаць.— Я табе адпомшчу. Майсееў прыехаў, заўтра дае канцэрт. Але ты не пойдзеш! Кухар заўтра ты і будзеш гатаваць вячэру...

Значыць, не падвяло Пятра Сямёнавіча прадчуванне. Такі здарылася незвычайнае. Вішаньку распірае неўтаймаваная, ні з чым не параўнаная радасць. Ён пабудзе на савецкім канцэрце, дыхне сваім, родным, чаго пазбаўлен два невыносна доўгія месяцы!..

— Спі, Вася! — зусім сур’ёзна гаворыць Вішанька.— Хоць да дванаццаці гадзін спі. Я згатую сняданне і падам табе ў ложак. За добрую навіну заўтра таксама не будзеш галодны.

І вось канцэрт...

У Мінску ёсць Палац спорту. Па фасаду залішне мадэрнізаваны: нагадвае ашчэраную пашчу нейкага велізарнага страшыдла. Але знутры глядзіцца лепей, дый змяшчае ў сабе тры з палавінай тысячы чалавек. Памяшканне, у якім будзе выступаць танцавальны ансамбль Майсеева, падобнае на мінскі палац. Але па памерах большае — на дзесяць тысяч чалавек. Агромністы зал біткам набіты. Столькі амерыканцаў прыйшло глядзець канцэрт Майсеева.

Артыстычны бляск пачынаецца з першых хвілін. Відовішча выдатнае, артысты не робяць ніводнага лішняга руху, жэсту, паказваючы найвышэйшую зладжанасць і прыгажосць.

Не трэба пры такім відовішчы тлумачэння. Мелодыяй, рытмам, малюнкам танца, тварамі, постацямі, вопраткай артыстаў, чароўным і няўлоўным, што стварае паэзію, Майсееў паказвае Расію, душу народаў, якія яе насяляюць.

Шматтысячны зал то зачаравана глядзіць і слухае, то выбухае падобным на горны абвал громам апладысментаў. Рускія танцы змяняюцца беларускімі, абхазскімі, малдаўскімі, украінскімі...

Свет таму і цудоўны, што ў ім пад адным небам і сонцам расцвітае так многа кветак.

Гучыць старая кадрыль, выдыбаюць мілыя, у стылі Чэхава, людзі: жанчыны ў доўгіх белых сукенках, старамодных шляпках, з накінутымі на твар вуалькамі; мужчыны ў цыліндрах, даўгаполых сурдутах, ва ўздзетых у галёшы чаравіках, з палачкамі ў руках... Старая, яшчэ дарэвалюцыйная Расія...

Вішанька не толькі хвалюецца, радуецца, змахваючы час ад часу чуллівую слязіну. Ён адчувае сябе так, нібы раздае скарбы ўласнай душы. Няхай паглядзіць, падумае Амерыка, колькі ў сэрцах рускіх дабрыні, спагады чужому гору. І смеласці колькі, адчайнага бясстрашша, вынаходлівасці! У танцах каўказскіх партызан адзін артыст нават паказвае ўменне лятаць: нейкім цудадзейным спосабам уздымаецца з-за натоўпу таварышаў і, праляцеўшы над іх галовамі, шчасліва апускаецца на пярэднім прасцягу сцэны.

У пярэднім радзе сядзіць чалавек з сівой галавой, з прыемным прадаўгаватым тварам, і побач з ім такая ж немаладая, толькі дробная з постаці, жанчына ў чорнай моднай шляпцы. Чуючы рускую гаворку, чалавек раз-пораз азіраецца, услухоўваецца, як бы хочучы завязаць з суседзямі размову і не адважваючыся на яе.

Вішанькава ўяўленне вельмі лёгка зрабіла з чалавека эмігранта, таго даўняга, які, не зразумеўшы ці спалохаўшыся рэвалюцыі, прыехаў у Амерыку шмат гадоў назад, ажаніўся з амерыканкай і ўсе доўгія, пакутлівыя гады сумуе па радзіме.

Так яно, бадай, і ёсць. Чалавек несумненна рускі па нацыянальнасці. Твар яго ззяе. Ён пацірае ад задавальнення рукі, раз-пораз штурхае пад бок сваю сяброўку, гучна і доўга пасля кожнага нумара ляскае ў далоні.

— Спасібо,— гаворыць чалавек, павярнуўшыся да Вішанькі, і тут жа адварочвае твар, відаць, не хочучы, каб ён заўважыў у яго на вачах буйныя, нібы брыльянты, слёзы...

*1982*

# НЕСПАКОЙ

## I

План па бурэнні не дацягнулі. Як заўсёды ў такіх выпадках віна падала на Гармаша. З Хабібуліным, начальнікам аддзела, пасля нарады яны абедалі ў рэстаранчыку рачнога порта.

— Ідзі на пенсію, стары,— сказаў Хабібулін.— Ну што ты губляеш? Я ўслед за табой. Праз два гады. Будзем рыбу вудзіць...

У мястэчка, вакол якога вядзецца бурэнне, Гармаш прыехаў назаўтра невясёлы. У кантору ісці не хацелася. Гадзіну паспаўшы, інжынер прысеў на лавачку пад таполяй побач са сваім кватэрным гаспадаром Дзянісам Хрыпачом, безбародым, з пасечаным глыбокімі маршчынамі тварам старым, шафёрам у мінулым.

— Паліць,— сказаў Хрыпач.— Выпаліць усё дазвання. Як летась...

Гарачыня сапраўды страшэнная. Сланечнікі ў гародчыку апусцілі прывялае лісце, схавалася ў засень, у цень усё жывое — куры, гусі, свінні. Сабака ляжыць побач з высалапленым языком.

Гармаш другі год кватаруе ў Хрыпача. Буравыя вышкі падняліся раней за ягоны прыезд, бурэнне вакол мястэчка вядзецца гадоў дзесяць. Ёсць дзве ці тры свідравіны, з якіх фантануе нафта. Яна падаецца ў нафтаправод, і на тым

месцы, дзе выходзіць наверх, акрамя выгнутых каленчатых труб і залітай мазутам, нібы ў паравозным дэпо, зямлі, нічога асаблівага не ўбачыш.

Нафта здабываецца даўно, але гэта мала ўплывае на знешні воблік драўлянага, раскіданага мястэчка, на яго дабрабыт. Бурыльшчыкі прыязджаюць з прырэчнага горада, у якім жывуць, Гармаш таксама мае там кватэру. Але ён немалады, адзінокі і яму цяжка штодня трэсціся ў аўтобусе з горада і назад.

— Пайду на пенсію, Дзяніс Сямёнавіч,— гаворыць Гармаш.— Добра было б пад старасць вярнуцца ў Маскву. Толькі як кватэру абмяняеш?

— Дай аб’яву. У газету.

— Ідэя,— сумна згаджаецца Гармаш.— Напішу ў бюро аб’яў.

З двара насупраць выходзіць поўная, мажная, апранутая ў белую, з выразам на грудзях сукенку жанчына. Ад гарачыні трымае над галавой пярэсты парасон. Сказаўшы прыемным пявучым голасам «Добры дзень», жанчына павольна плыве па вуліцы.

Гармаш зрываецца з месца. Высокі, па-спартыўнаму падцягнуты, пераскоквае забрукаваную буйным каменем вуліцу, хуткім, пружыністым крокам даганяе жанчыну. «Спрытны,— думае пра кватаранта Хрыпач.— Любіць салодкае. Толькі дзіўны чалавек. З яго характарам не знойдзе ён сабе прыстанішча ні ў Маскве, ні ў другім месцы...»

За год Дзяніс вывучыў кватаранта. Чалавек бяскрыўдны, абыякавы да грошай, якія зарабляе, да ўмоў, у якіх жыве. Можа за адзін вечар спусціць палучку з незнаёмым чалавекам. Калі такі чалавек чым-небудзь спадабаецца яму.

Хрыпач патроху аберагае пастаяльца. Проста выганяе з хаты прыліпалаў. Але кватарант, бывае, і ў хату не прыходзіць. Лятучы чалавек. Бегае ў сталовую, у чайную, у станцыйны буфет...

Хрыпач даўно заўважыў, што кватарант улягае за суседкай. Але ці не ўсе восемдзесят гадоў Ані Дуброўскай? Дачка Аляксандра пайшла на пенсію. Проста дзіўна, як можа баба сябе зберагчы. Дачка выглядае старэйшай за маці. У маладосці

Аня была сапраўднай прыгажуняй. Можа быць, адна такая на ўсё вялікае мястэчка.

Вечарам, вярнуўшыся са шпацыра, кватарант дапытваецца пра суседку. Але Хрыпач памоўчвае. Па-першае, ён не верыць, што з позніх заляцанняў дзівакаватага пастаяльца выйдзе што-небудзь людскае. Па-другое, наогул у такіх справах лепей трымаць язык за зубамі...

Хрыпач усё ведае пра суседку. Ёсць пагаворка: не радзіся красіваю, а радзіся шчасліваю. Да Ані пагаворка стасуецца цалкам. У першую германскую вайну ў мястэчку стаяў полк, і вакол Ані, маладзенькай тады дзяўчынкі, ахвотна пакручваліся золатапагоннікі. Былі такія, што па ваенным часе гатовы былі нават замуж узяць: вельмі ўжо незвычайнай красой цвіла дзяўчына. Вытанчаны, далікатны твар, гнуткая пастава, доўгая русявая каса...

Грымнула рэвалюцыя, і афіцэрыкі разляцеліся, як камары ў непагадзь.

Аня пайшла замуж за фельчара. Быў у мястэчку адзін такі мяшок з саломай. Ад усіх хвароб выпісваў рыцыну ды нашатырны спірт. Нарадзіўшы дачку, Аня яго пакінула...

Знайшоўся мужчына хват. Аня здорава за ім бегала. Дзіва няма: мужчына быў відны, прыгожы, разумны. Працаваў старшынёй сельсавета. Але вельмі ўжо смела наступаў старшыня некаторым асобам на мазоль, ламаў старыя парадкі. На старшыню напісалі пісулю, і гады за тры да апошняй вайны ён як скрозь зямлю праваліўся...

У вайну Аня прыняла прымака. Нібыта інжынера, якому ўдалося ўцячы з палону. Але інжынер у мястэчку ціха сядзець не хацеў, стаў займацца палітыкай, шкодзіць немцам. Нехта данёс: інжынера схапілі і расстралялі.

Аня ўсё жыццё цягнулася да людзей адукаваных, з інтэлігентнымі прафесіямі, хоць сама граматы невялікай. Кончыла яшчэ за царом, можа, тры ці чатыры класы. Каб ёй адукацыя ды каб жыла ў горадзе, які-небудзь генерал ухапіў бы. Царская жанчына...

Хоць, трэба сказаць, Аня сябе берагчы ўмела. Ад каго толькі такую навуку пераняла? Уласны агарод ніколі не ўскапала і на калгасную работу не хадзіла. Неяк ёй удавалася. Палежвала, сачыла за сабой. Калі падрасла дачка, работа

лягла на яе. Дачка ў маці не ўдалася. Звычайная з выгляду, невысокая ростам, таўставатая. Калі цяпер паставіць маці і дачку побач, то старэйшай здаецца дачка. Можа, таму, што вельмі ўжо ўлягала ў работу...

У адзін з тых дзён Гармаш пайшоў у госці да Дуброўскай. Стараваты яе дом не страціў фацэтнасці: высокі ганак, трохскатны дах, вокны з аканіцамі. У доме тры ці нават чатыры пакоі, пафарбаваная падлога, на якой разасланы дарожкі, дываны дамашняга вырабу.

Аня накрыла стол. Нажарыла яешні, нарэзала тонкімі скрылікамі вяндліны, сала, памідораў, паставіла графінчыкі з рознымі настойкамі.

Гармаш прынёс бутэльку шампанскага, каробку дарагіх цукерак.

Аня ўвіхалася ля госця. Нечым ён ёй падабаўся.

— Бярыце вяндліну, Анатоль Кузьміч,— прасіла яна сваім пявучым голасам.— Вы чалавек адзінокі, і некаму пра вас паклапаціцца...

Вечар быў харошы. Гармаш выпіў дзве ці тры чарачкі настоек, у галаве хораша, прыемна зашумела. Гаспадыня толькі ледзь-ледзь прыгубіла з чарачкі, але і ад гэтага яе прыгожы, трохі прадаўгаваты твар прыемна паружавеў. Гармаш, любуючыся, глядзеў на твар немаладой жанчыны. Яго чулая да прыгажосці душа цяпер знаходзілася ў стане поўнай гармоніі. Інжынер ведаў, што жанчына старэй яго самога, што дачка пайшла на пенсію, але ў той жа час не мог пазбавіцца ад уражання, што ён вярнуўся ў свет маладосці, далёкі, чароўны, забыты.

— Раскажыце пра сябе, Анатоль Кузьміч,— папрасіла гаспадыня.

Яна ўстала і ўключыла святло. Ён глядзеў на яе паўнаватую, з усімі адзнакамі яшчэ захаванай жаночай павабнасці паставу. Прырода не пашкадавала жанчыне нічога, аж залішне шчодра адарыла. Твар, постаць, голас, жэсты, рухі — усё сведчыла аб дзіўнай зладжанасці, суразмернасці. Якая гордая пасадка галавы, якая натуральная прыемная ўсмешка! Зубы нібы нітка жэмчугу. Ніякіх слядоў сівізны ў раскошных валасах.

У такім узросце. Прыроджаны розум, такт, далікатнасць... Несапсаванае дзіця мітуслівага, непрыкаянага веку...

— Што расказаць, Анна Сцяпанаўна? Я з Масквы. Жыў у Маскве да дваццаці трох гадоў. Пакуль не скончыў інстытут. Бацька — быў прафесар. Не здзіўляйцеся — прафесар. Я проста не дацягнуў да бацькі. Ён вывучаў жывапіс, пісаў кнігі. Праўда, ён з намі не жыў. Пайшоў да другой жанчыны. Мне тады было чатырнаццаць гадоў. Потым я паехаў з Масквы. Жыў у многіх месцах. На Поўначы, у Сібіры, у Башкірыі. Можна карту намаляваць. Увогуле я геолаг. Цыганская прафесія. Братоў, сясцёр няма. Маці памерла. Адзін, як перст...

— Вы не былі жанаты? — спытала Аня.

Гармаш трохі збянтэжыўся. Ён не любіў такіх пытанняў.

— Увогуле быў,— адказаў ён.— Неяк няскладна. Не хочацца ўспамінаць...

Пасля гэтага вечара Гармаш часта стаў завітваць да Ані. Прыносіў бутэльку віна, каробку цукерак, гаспадыня штонебудзь ставіла на стол. Яны гадзінамі сядзелі і размаўлялі. Яму падабаўся сталы, раз назаўсёды заведзены парадак, які панаваў у доме Дуброўскай. На адным і тым жа месцы ляжаць вышытыя сурвэткі, дываны, вісяць на сцяне фотакарткі ў чорных драўляных асадках, стаяць у гаршках палітыя гераńкі, тахкае старамодны гадзіннік у цёмнай, паточанай шашалем скрынцы.

У доме дастатак, хоць Аня жыве з агарода, з таго, што трымае карову, свінню. Але паспрабуй у яе гады справіцца з гаспадаркай, здабыць корм карове, засеяць, дагледзець агарод!..

Галоўную скрыпку ў дамашнім аркестры іграе Надзя, Аніна дачка. Страшэнна ўедлівая да работы кабетка. Была да нядаўняга часу аграномкай, з ахвотай пайшла на пенсію. Подбегам носіць мяшкі з травой, поркаецца ў хляве, у агародзе, а вечарам апранае кажух і бяжыць пільнаваць краму. Працуе начным вартаўніком.

Вынікі руплівасці, так сказаць, у наяўнасці. Мае прыстойны дом Аня, і яшчэ большы, лепшы, збудавала на другім канцы агарода, дзе зачынаецца новая вуліца, Надзя. Два дамы на дзве душы.

Вядома, гэта не болей чым мяшчанства. Дамы, карова, гаспадарка Гармаша не вабяць. Але тое, як жыве Аня, яму падабаецца. Яна і цяпер прыстойна апранаецца, сочыць за сабой, любіць, каб на яе глядзелі, захапляліся. У той жа час не кінулася на шыю ніводнаму авантурніку. Такія, вядома, былі. Спрабавалі пагрэцца ля прыгожай жанчыны, якая мае дом, гаспадарку. І адскоквалі, нібы гумавыя мячыкі ад сцяны.

— Чаму вы не выйшлі замуж, Анна Сцяпанаўна? — пытаецца Гармаш.— Выходзяць і ў вашы гады.

— Чалавека, які б падабаўся, не знайшлося. Абы за каго ісці не хацела.

Адказваючы, яна пасмейваецца, і смех яе прыгожы, прывабны, чымсьці нагадвае галубінае вуркатанне.

— Ідзіце за мяне. Можа, удасца абмяняць кватэру. Тады ў Маскву паедзем.

— За вас бы я пайшла, Анатоль Кузьміч. Чэснае слова. Каб раней да мяне пасваталіся. Хоць гадоў на дваццаць...

І смяецца...

Прыехала Аніна ўнучка з мужам, пяцігадовай дачкой, пасялілася ў бабкі. Можа, таму, што ў матчыным доме яшчэ не пафарбавана падлога, не хапае мэблі. Гармашу собіла трапіць на сямейны банкет, і ён заныў душой.

Аня за сталом была прыгажэй усіх. Невысокая, залішне распаўнелая дачка з круглым, абветраным тварам, на якім густа выступаюць чырвоныя пражылкі, здаецца яе старэйшай сястрой. Яшчэ мізэрней выглядае ўнучка. Дробная, маларослая, з невыразным цёмным тварыкам, яна ўвесь час падладжваецца пад мужа, такога ж някідкага недаростка, механіка па прафесіі. Яна ў механіка другая жонка, баіцца, мабыць, каб механік не кінуўся да трэцяй, таму на кожным кроку стараецца яму дагадзіць...

Зрабіла некалі прыгожая жанчына памылку, выйшла замуж за нявіднага, мізэрнага чалавека, і вось якія нашчадкі. Можа, добрыя яны душой, чулыя, працавітыя. Але цуд прыгажосці знешняй, для ўсіх бачнай, не паўтарыўся. Гены красы, дасканаласці, калі яны толькі ёсць, аказаліся слабейшымі за сілу пасрэднасці, безаблічнасці.

Унучка жыла ў бабулі месяц. Гармаш да Дуброўскай не хадзіў. Чаго хадзіць?..

Усё жыццё ён любіў прыгожае. Можа, пачалося гэта з бацькавых кніг з іх выдатнымі ілюстрацыямі антычных багоў, багінь, герояў. Ён лістаў кнігі гадзінамі, любаваўся шматлікімі Венерамі і Апалонамі. Верыў, што такія людзі былі, жылі, бо як іначай магла ўзнікнуць краса з халоднага каменю.

Ён ажаніўся рана, будучы яшчэ студэнтам. Маці старэйшую за сына нявестку, асляпляльна прыгожую піяністку, у кватэру не пусціла. У вайну, калі Гармаш быў на фронце, піяністка напісала яму толькі адзін ліст, у якім папрасіла разводу...

Унучка паехала, але Гармаш не хадзіў да Дуброўскай. Не меў часу. Наступіла восень, пара справаздачнасці. Ён ездзіў па буравых, складаў ведамасці на выдаткаванне саляркі, труб, солі, гліны, падпісваў акты, графікі...

На буравой, якая размяшчалася ў ваколіцах мястэчка, сярод асушанага балотнага масіву, бурэнне вядзецца па нахільнай прамой.

Вышка стаіць на пясчаным пагорку, і свідравіна ад яе ідзе паката, пад вуглом у сорак пяць градусаў. Ставіць буравую на самім тарфяніку саўгас забараніў. Каб не транжырыць зямлю.

З-за гэтага на буравой вялікае перавыдаткаванне труб, другіх матэрыялаў, і адказваць прыйдзецца Гармашу...

Гармаш атрымаў ліст з Масквы. Знайшоўся ахвотнік мяняцца кватэрамі. За двухпакаёвую кватэру ў прыдняпроўскім гарадку ён прапаноўвае аднапакаёвую ў сталіцы. Раён — Новыя Кузьмінкі, ад тэатраў, музеяў далекавата, але ўсё ж Масква...

У той вечар Гармаш зноў пайшоу да Дуброўскай, расказаў пра маскоўскую кватэру.

Пасур’ёзнеўшы, Аня зірнула яму ў вочы:

— Я прыеду да вас у госці, Анатоль Кузьміч. Яй-богу, прыеду. Я ні разу не была ў Маскве...

Як і раней, яны сядзелі за сталом, пілі маленькімі чарачкамі, ён настойку, яна віно, і ім было хораша і неспакойна...

*1982*

# ПОМНІ СВОЙ ЛЕС

## I

За пасляваенныя гады — а іх столькі прамінула — на зборы партызан Карызна не ездзіў. Цяпер рашыў паехаць. Можа, расслабіўся, атрымаўшы Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета — пра яго ўзнагароджанне было надрукавана ў дзвюх ці нават трох газетах,— а можа, таму, што стаяў на парозе пенсіі.

У Мінску, з Ганаровай граматай пад пахай, Карызна пайшоў да Быліча. У лясной вёсцы, дзе кругленькі, ціхмяны Быліч гадаваўся ў дзеда, малодшага палітрука Карызну, які, выбраўшыся з беластоцкага акружэння, прабіраўся да фронту, затрымаў нешчаслівы ваенны лёс. Тады, сорак гадоў назад, прыдыбаў Карызна ў Зарэчча зняможаны, знясілены дашчэнту дэзінтэрыяй, якую нажыў, вандруючы пакручастымі сцежкамі акружэнца і кормячыся чым папала.

Быліч, жаўтароты юнак, які да пачатку вайны паспеў закончыць два курсы нейкага тэхнікума, стаў напарнікам Карызны па падпольных, затым партызанскіх справах, і застаўся, бадай, адзіным блізкім чалавекам на працягу ўсіх пасляваенных гадоў, хоць жыццё і развяло іхнія дарогі.

Быліч быў дома. Невысокага росту, з прыкметнымі залысінамі на русявай, без сівізны галаве, трохі пукатымі шэрымі вачамі, ён, як заўсёды, сустрэў Карызну са спакойна-добразычлівай уважлівасцю. Праслужыўшы гадоў трыццаць у органах, выйшаў Быліч на пенсію і, маючы яшчэ ахвоту да дзейнасці, падрабляў кадравіком у навуковым інстытуце.

Яны сядзелі за чаркай, і, дазнаўшыся, што Карызна збіраецца на сустрэчу былых партызан, Быліч падахвоціўся ехаць разам з ім.

І вот яны ў цягніку. Цягнік пасажырскі, марудны, усе без выключэння вагоны старога тыпу, на другіх чыгунках яны, мабыць, даўно спісаны, а на гэтай усё яшчэ служаць, хоць неміласэрна скрыпяць і рыпяць усімі сваімі швамі.

Вагон напаўпусты, Карызна з Былічам занялі асобнае купэ, разлёгшыся на ніжніх полках. У купэ пыльна, нягледзячы на тое, што замутненае, з бруднымі падцёкамі па шкле акно зусім не адкрываецца.

Быліч пасля выпітай чаркі дрэмле, а Карызна заснуць не можа. Не без унутранага хвалявання едзе ён у Клінск. Там, у ваколіцах чыгуначнага гарадка, правёў ён сваю вайну, перажыў, калі карыстацца высокімі словамі, найвялікшы ўзлёт духу, і хоць пасля гэтага ўзлёту была цэлая паласа брыдот і агіднасці, час той па-ранейшаму свеціць і грэе, а ўсё дрэннае, што нахлынула пасля, пакрысе забывалася.

Летам сорак другога года, калі немцы рваліся да Сталінграда, група акружэнцаў і былых палонных, якія прытуліліся на зіму ў Зарэччы, скончыла прымакоўства і падалася ў лес. Дзіўнае было тое лета. Здаецца, нават навакольныя лясныя абшары — сасьнякі на сыпучых пясках, беразнякі, круглыя купы лазняку на балацянках, зарослыя травой лясныя сцежкі, па якіх шнырылі яны, першыя ва ўсёй акрузе партызаны,— былі прасякнуты стоеным адчуваннем таго, што на свеце ідзе самая вялікая вайна.

У нямым чаканні застылі лясныя вёскі — з крытымі дранкаю хатамі, саламянымі стрэхамі хлявоў. Узыходзіла сонца, і над сасоннікамі, над соннымі з выгляду аселіцамі трымцела няпэўная, з сіняватым адценнем намітка смугі. Яна, здаецца, таксама сведчыла аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплены свет.

Немцы да лета паспелі пусціць чыгунку, але на першым часе не надта ўзброеныя мясцовыя партызаны былі бяссільныя супроць яе. Не мелі ні пуцейскага інструменту, ні толу. Справа рушыла наперад, калі да групы далучыўся дэсантнік Серада. Ім, першым партызанам, ён здаваўся чалавекам незвычайным: яшчэ месяц назад хадзіў па Маскве, чуў і ведаў тое, аб чым яны, цэлы год адарваныя ад арміі, не ведалі і нават не здагадваліся. Перад тым як далучыцца да партызан, Серада страціў двух сваіх таварышаў: яны падкладвалі на чыгунцы міну і самі з-за сваёй нявопытнасці на ёй падарваліся.

Залучыўшы да сябе Сераду, група разгарнула плечы. Быў тол, і партызаны шпурлянулі пад адхон ці не тры цягнікі адзін за другім. Рэха ад тых выбухаў далёка пайшло. Да іх сталі прыбываць новыя прымакі, а надзейныя хлопцы, дзяўчаты, якія паявіліся ледзь не ў кожнай вёсачцы, інфармавалі групу аб кожным кроку мясцовай нямецкай улады.

Паліцэйскага гарнізона ў воласці не было. Можа, таму, што валасная ўправа размяшчалася ў чыгуначным пасёлку, у якім, у былой пуцейскай казарме, стаяла ахоўная нямецкая рота. З данясенняў сувязных вынікала: у воласці два асноўныя гады — старшына воласці Крымарэнка і фінагент Міхальчук.

Крымарэнка быў тутэйшы, затоены куркуль. Ездзіў да немцаў у мястэчка, выбіваў з насельніцтва пастаўкі, але асабліва носа з воласці не вытыркаў. Прыхапіў гектараў пяць былой калгаснай зямлі і рваў на ёй жылы, стараючыся як найлепей урабіць.

Фінагент Міхальчук, высокі, маслакаваты стары, з белай, як у біблейскага прарока барадой, асеў у Зарэччы ў апошні перадваенны год, прывандраваўшы аднекуль з-пад Гродні. У сямігодцы Міхальчук выкладаў другарадныя прадметы: маляванне, чарчэнне, спевы. Але ён хутка стаў вядомы ў наваколлі: арганізаваў школьны хор і заваяваў першае месца на раённай алімпіядзе.

Цяпер Міхальчук хадзіў па вёсках, збіраў падаткі і ў кожнай хаце, куды забрыдаў, абліваў граззю Савецкую ўладу і бальшавіцкія парадкі.

Гэтага даравацъ было нельга. З часу выбухаў на чыгунцы Крымарэнка дома не начаваў, падціснулі хвасты старасты з вакольных вёсак, некаторыя нават самі набіваліся на дружбу з партызанамі. Міхальчук варожай дзейнасці не спыняў: выдыбваў па вёсках, робячы выгляд, што ніякіх партызан не існуе.

Яго, вядома, падпільнавалі. Але, прашыты трыма кулямі, Міхальчук выкарабкаўся з лап смерці. Дапоўз да воласці, а там Крымарэнка паклаў яго на воз і завёз у раённую бальніцу.

Праз два-тры месяцы Міхальчук зноў вандраваў па вёсках, яшчэ з большай лютасцю ганьбячы бальшавікоў. Восенню, калі на падваконніках вясковых хат гарэлі чырванню груды памідораў, а стрэхі прыгрэбнікаў, хлявоў наўсцяж былі закладзены жаўтабокімі гарбузамі, партызаны другі раз злавілі Міхальчука. На гэты раз выканаўцы прысуду не прамахнуліся...

Вось так тое лета, восень запомніліся: ноччу грымелі на чыгунцы выбухі, раніцай узыходзіла сонца, млелі ў густой смольнай духмянасці сасоннікі на пясчаных пагорках, днём

з’яўляліся дзяўчаты-сувязныя, якія расказвалі пра вынікі начных выбухаў...

У Клінск цягнік прыбыў, калі было ўжо гадзін дванаццаць ночы. Вакзал новы, шчыльна да перона падступаюць муры станцыйных будынкаў. Карызна памятаў пасляваенны вакзальчык, пабудаваны з ачэсаных сасновых бярвенняў наводшыбе ад чыгуначных пуцей, і хоць новыя камяніцы таксама бачыў, але да іх не паспеў прывыкнуць, і адчуванне было такое, што прыехаў у незнаёмы горад.

З начнога цягніка такіх, як Карызна і Быліч, злезла чалавек шэсць. Гасцей сустракае камандзір брыгады Піскун, маленькі, мітуслівы, як лунь сівы. Ён у старым, залішне прасторным для яго выпетранай фігуры ваенным мундзіры без пагонаў, без ордэнаў. Піскуна суправаджаюць яшчэ трое былых партызан, якія пастаянна жывуць у гарадку, але толькі ён адзін па чарзе з кожным прыезджым абдымаецца, цалуецца, выціраючы бруднаватай насоўкай слёзы.

Не маюць, аднак, у гарадку ўлады ўчарашнія партызаны. Не хапіла ў іх сілы нават гасцініцу заказаць. На начлег прыезджыя мусяць уладкоўвацца хто як здолее.

У Быліча ў гарадку ёсць добрыя знаёмыя, і да іх сябрытаварышы рушылі начаваць.

Вісіць над гарадком срабрысты боханчык месяца, свецяць бляклыя — можа, з-за яркіх вулічных ліхтароў — зоркі. Доўга брыдуць Карызна з Былічам незнаёмымі, відаць, адбудаванымі пасля вайны вуліцамі, пакуль не дабіраюцца да патрэбнага месца. Дамок Былічавых знаёмых у прадмесці, на самай ускраіне гарадка. Стаіць каля шашы, аддзелены ад яе невялічкай рачулкай, што булькае ўнізе. Сад пры дамку. Нават у шэрані ночы відаць, што сад якраз цвіце: стаіць як малаком абліты. Да саду, да дворыка трэба дабірацца драўляным мастком, навешаным над рачулкай.

Начлежнікам пасцелі сцелюць у застаўленым фікусамі зальчыку. Карызну адводзіцца ложак з высокай гарой падушак, Быліч кладзецца на канапцы. Фортачка адчынена ў сад: у пакой плыве густы, востры пах квецені, даносіцца гул машын, якія зрэдку праносяцца па шашы, нават чуваць плюскат шустрай рэчачкі.

Святы чалавек Быліч: у вагоне спаў і тут спіць. Пасапвае сабе носам. Карызна заснуць не можа. Яго здзівіла, нават уразіла, што праз Клінск цячэ рачулка. Паўтара года шастаў ён вакол гарадка ў акупацыю, гадоў пяць ездзіў па шашы, калі працаваў у абкаме камсамола, а рэчачку толькі цяпер убачыў.

З абкама Карызна звольніўся сам, папрасіўся на педагагічную работу: яшчэ да вайны паспеў скончыць інстытут, пакаштаваць настаўніцкага хлеба. У тым, што зрабіў, не раскайваецца ні кропелькі.

Дзіўна ўстроены чалавек. Ёсць мясціны, якія без бачнай прычыны падабаюцца аж занадта, і ёсць такія, да якіх з першага позірку не ляжыць душа. Бадай, тое ж можна сказаць пра пражыты час. Трыццаць пяць пасляваенных гадоў у Карызнавых думках, адчуваннях жыве лета сорак другога года. Нібы зрокава бачыць ён густыя, пасаджаныя пад шнур сасоннікі, у якіх партызаны любілі размяшчацца. Калі не ішлі на заданне, начавалі на пясчаным доле, на разасланых на зямлі сасновых лапках. Крычалі начныя птушкі, і праз густую навісь галін праглядвалі зоркі.

Адзін раз пачуўся гул самалёта, і па гуку матора яны здагадаліся, што самалёт савецкі. Самалёт зрабіў два ці тры кругі над лесам, а назаўтра, разбіўшыся на групкі па два-тры чалавекі, яны абшасталі ўсё наваколле. Шукалі савецкіх газет ці хоць лістовак.

Час быў трывожны. Пасля пераможнай для Чырвонай Арміі зімы немцы зноў імкнуліся павярнуць у сваю карысць ваенную кампанію, разграміць савецкія войскі. Поспех у іх быў: зноў захапілі Керчанскі паўвостраў, дабівалі заліты крывёй Севастопаль. Пра гэта партызаны ведалі з нямецкіх паведамленняў: радыёпрыёмніка тым летам яшчэ не мелі.

У тую ноч, калі кружыў самалёт, Карызна нават не здагадваўся, якую вялікую ролю адыграе гэта падзея ў ягоным жыцці. Калі да групы далучыўся Серада, а ўся яна ўлілася ў атрад Піскуна, партызаны ўведалі, што дэсантнік і два яго таварышы, якія загінулі на рэйках пры падкладцы міны, былі скінуты для пошукаў пяцярых разведчыкаў з рацыяй, што на працягу месяца не падавалі пра сябе ніякіх вестак. Па

падліках якраз атрымоўвалася, што разведчыкаў мог даставіць самалёт, які кружыў над лесам памятнай чэрвеньскай ноччу.

Доўга не маглі знайсці разведчыкаў. Не было разам з тым вестак, што яны трапілі ў рукі да немцаў. Толькі восенню, у кастрычніку ці нават у лістападзе, удалося іх адшукаць. Так здарылася, што на іх зямлянку, схаваную ў непралазнай лясной гушчэчы, першы наткнуўся Карызна.

Разведчыкі панеслі страты яшчэ пры высадцы: адзін загінуў, завісшы на дрэве ўніз галавой і не здолеўшы выблытацца са строп парашута, другі ад групы адбіўся. З пяці чалавек засталося тры: два чорнавалосыя ўкраінцы — камандзір групы капітан Гузь, яго памочнік па дыверсіях і азызлая ад дрэннага харчу радыстка-масквічка. Рацыя ў разведчыкаў не дзейнічала, але дзякуючы ёй зводкі Саўінфармбюро яны неяк праслухоўвалі, былі ў курсе падзей.

Гузь ужо меў сякія-такія сувязі. Харчаваў разведчыкаў кульгавы ляснік з вёскі Няхамава Слабада Іван Міцуль. Зрэдку ў вёску наведваліся самі разведчыкі да лесніка, да двух-трох памочніц, якіх паспелі займець. Мыліся ў лазні, мянялі бялізну, давалі заданні сувязным.

Гузь па-сапраўднаму акрыяў, далучыўшыся да партызан. Аўтаномію сваю захоўваў у атрадзе, а пазней у брыгадзе, стварыўшы невялікі ўласны атрад. Гузь і Піскун мелі заўсёды асобныя буданы, зямлянкі, праўда, размяшчаліся гэтыя лясныя прыстанішчы ў блізкім суседстве.

Да разведчыкаў два разы прылятаў самалёт, скідаў боепрыпасы, харч. Партызаны пра такія цуды маглі толькі марыць.

З Аняй Луцэнка, сваёй будучай жонкай, Карызна пазнаёміўся яшчэ калі жыў у Зарэччы. Калі пайшоў у партызаны, яна да яго прыбягала на спатканні. Да ўсіх партызан, большая палавіна якіх першай ваеннай зімой жыла па вёсках, прыходзілі знаёмыя жанчыны ці дзяўчаты. Можа, і помніцца лес маладосці гэтымі незабыўнымі спатканнямі. Дамы сэрца натхнялі рыцараў на подзвігі. Прыносілі не толькі блінцы са шкваркамі, цёплы картапляны суп ці боршч у абвязаных хусткамі гаршчэчках, але і звесткі пра вынікі начных партызанскіх дыверсій, пра тое, што робяць, дзе хаваюцца старасты і паліцаі. Дрыжалі нямецкія служакі, тулячыся па

чужых гарышчах, падстрэшшах у той час, калі іх гаспадары пахваляліся, што падыходзяць да Сталінграда, дасягнулі Каўказа.

Пасля Арла і Белгарада, калі немцы, агрызаючыся, пакаціліся назад, Піскун — ён ужо быў камандзірам вялікай, з шасці атрадаў брыгады — прылучыў Карызну да разведчыкаў. Загадаў усімі сіламі дапамагаць Гузю.

Аня Луцэнка жыла на чыгуначным паўстанку вярсты за тры ад Зарэчча. На паўстанку размяшчалася ахоўная нямецкая рота, і Карызна з лёгкім сэрцам загадаў Ані ўладкавацца да немцаў паварыхай. Такі быў час. Вызначаўся пранізлівым пачуццём самаахвярнасці. Нават думкі не дапускалі тагачасныя партызаны, іх шматлікія памочнікі, што пасля пераможных салютаў нехта паставіць пад сумненне іх учынкі, паводзіны, будзе развязваць складаныя вузельчыкі акупацыйных узаемадачыненняў.

У буднях, якія наступілі пасля агромністай, нечувана жорсткай і гераічнай вайны, можа, нават залішне многа паявілася людзей, якія з насцярожанай праніклівасцю ўглядаліся ў графкі анкет, лісткі біяграфій, шукаючы супярэчнасці ў напісаным, стараючыся што-небудзь вычытаць між радкоў.

Карызне прапанавалі развесціся з жонкай у сорак восьмым годзе. Факты ў кадравіка былі неабвержныя: жывучы ў пасёлку, Луцэнка памагала партызанам, але ж і на кухні нямецкай працавала. На вайсковай кухні!..

На гнеўныя выгукі Карызны кадравік паблажліва ўсміхаўся.

Хутка ва ўласнай біяграфіі Карызны знайшлася плямка. Той самы кадравік папрасіў пісьмовае тлумачэнне. «Так, у баях пад Беластокам вы ўдзельнічалі, даты, нумар батальёна, палка — усё супадае. Але ў Зарэччы паявіліся толькі праз тры месяцы пасля беластоцкіх баёў. Дзе былі, што рабілі цэлыя тры месяцы?»

Карызна чакаць не стаў. Успомніў, што свет клінам не сышоўся на яго пасадзе. З таго часу болей як трыццаць гадоў адпрацаваў у рамесніцкім вучылішчы. Доўгі час узначальваў вучылішча. Цяпер вот збіраецца на пенсію.

## II

Яны з Былічам усталі, мыліся з рукамыйніка на двары, потым снедалі, выпіўшы па шклянцы настойкі, якую выставілі ў графіне на стол прыхільныя да Быліча гаспадары. Як высветлілася, мажныя, распаўнелыя гаспадар і гаспадыня таксама ў маладосці зналіся з партызанамі. Не, у атрадзе не былі, выконвалі сякія-такія заданні тут, дома. Даведкі аб сваёй рабоце не маюць, дый навошта тая даведка? Без яе дажылі да пенсіі.

Цікавасці да збору партызан гаспадары не праявілі ніякай. Нават, як здалося Карызне, пераглянуліся з насмешлівымі аганькамі ў вачах.

Карызна з Былічам рушылі да плошчы, дзе мусіць адбыцца партызанскі мітынг.

Перамяніўся чыгуначны гарадок. Некалі станцыю ад застаўленых драўлянымі хацінамі вуліц аддзяляў разлеглы голы прамежак: зарослая аерам, асакой балацявіна суседнічала з ладным, пакрытым толькі рэдкімі кусцікамі вербалозу, россыпам жаўтапёсаў. Цяпер тут вырасла некалькі новых, незнаёмых вуліц, забудаваных аднастайнымі трох- і чатырохпавярховымі блочнымі камяніцамі.

Будынкі райкама партыі і райвыканкама — у новым раёне. Стаяць адзін насупраць другога, з двух бакоў падпіраючы забрукаваную гранітнай брусчаткай прамавугольную плошчу. Пасярэдзіне пляца невялікая мураваная трыбуна.

Ля трыбуны чалавек пятнаццаць — дваццаць. Пасівелі галовы, пастарэлі, зморшчыліся твары, апусціліся плечы былых баявых партызан, але ўсё адно Карызна пазнаваў кожнага. Абнімаючыся, цалуючыся з кожным, хто прыйшоў або прыехаў на гэты, не надта шматлюдны партызанскі збор, Карызна расчуліўся да слёз. Так, на плошчы сабраліся баявыя сябры, з якімі ён не раз трапляў у небяспечныя і нават адчайна-безвыходныя становішчы: разам выбаўляўся з бяды, з нямецкіх пастак, засад, блакад, не еў па некалькі дзён, плакаў, калі хавалі забітых таварышаў. Ён некалі шчыра лічыў, што ніколі не скончыцца іхняе баявое брацтва, бо столькі разам передумана, перагаворана, пережыта.

Ледзь не ўсіх, хто стаіць на плошчы, Карызна ведае. Вядома, па былых справах. Большасць асела ў гарадку, жыве тут з памятнага зімовага дня, калі чатыры ці пяць атрадаў, якім удалося злучыцца з часцямі Чырвонай Арміі, разам з войскам вызвалілі гарадок. Тады таксама быў мітынг. Па вуліцах горда маршыравалі партызанскія роты, здзіўляючы жыхароў, вайскоўцаў незвычайнасцю вопраткі і ўзбраення. Мундзіры многіх армій мільгалі ў партызанскіх радах, па бруку каціліся гарматы, пастаўленыя на колы ад жняяркі, прыклады многіх вінтовак былі самаробныя, хоць і старанна адшліфаваныя.

На прасторным, абсаджаным па баках ліпамі гаку, перад драўляным будынкам райвыканкама стаяў вялізны, ледзь не двухтысячны натоўп, які запрудзіў прылеглыя вуліцы і двары. Дзе тыя людзі?

Вядома, дзе. Ішла вайна, і большасць удзельнікаў мітынгу была прызвана ваенкаматам у армію. Некаторыя партызанскія роты трапілі на фронт, нават не паспеўшы атрымаць вайсковага абмундзіравання. Наступленне тым часам замаруджвалася, задыхалася, фронт стабілізаваўся. Баі ішлі пераважна дзеля паляпшэння пазіцый, заваявання новых плацдармаў. Штурмуючы безыменныя вышыні, балотныя выспы, многа палягло ў тых баях партызан...

Для аднаўлення гаспадаркі ў гарадку было пакінута чалавек дзвесце. Камандзіры, хто меў ці нават не меў цывільную спецыяльнасць, былі прызначаны на некаторыя раённыя пасады. На плошчы цяпер збольшага і сабраліся тыя, хто да пенсіі здолеў утрымацца на раённых пасадах...

Між тым пачаўся мітынг. На трыбуне раённыя кіраўнікі, з партызан адзін Піскун. Першым прамаўляе сакратар райкама партыі, яшчэ малады хлопец, з інстытуцкім значком на лацкане. Сакратар, па ўсім відаць, нарадзіўся пасля вайны. Пра партызан ведае з кніг, з таго, што бацька ці маці расказалі.

Наступны прамоўца — Піскун. Сёння ён прычапіў ордэны, медалі — суцэльны бляск на запалых грудзях. Але чытае Піскун старэчым дрыжачым голасам па паперцы, блытае словы, і ўражанне ад яго прамовы невялікае.

Апошніх слоў Піскуна наогул ніхто не слухае, бо ўсе глядзяць на каржакаватага, чорнавалосага чалавека, наўсцяж

па бартах пінжака абвешанага бліскучымі знакамі ўзнагарод — ён якраз падыходзіць да трыбуны.

Карызна пазнае Гузя імгненна, хоць ні разу не бачыў пасля вайны. А вось у караткаватай, залішне раздабрэлай жанчыне, з белымі, як пух, валасамі, якая плыве побач з Гузем, не адразу прызнае радыстку Наташу, маскоўскую камсамолку, хоць яна і ў дні сваёй маладосці была кругленькая, тоўсценькая і карцілася па зямлі, нібы мячык.

Прыезд Гузя прыдаў большай вагі збору брыгады. Гэта адчулі ўсе. Піскун, сяк-так кончыўшы прамову і не захоўваючы ніякага этыкету, матлянуўся з трыбуны і павіс на шырокіх грудзях Гузя. З несхаванай павагай глядзяць на шчодра адоранага ўзнагародамі чалавека райкамаўскія хлопцы.

З Гузем ледзь не ўсе вітаюцца па-брацку: абнімаюцца, цалуюцца. Толькі моцна здалі баявыя арлы. Галіліся рана, пахапкам, таму ва ўсіх ужо цяпер, калі дзень ідзе толькі к палавіне, на падбароддзі, скронях праступае сівая шчэць.

Карызна памятае: у вайну, у лясныя гады Гузя не надта шанавалі. Партызаны шкамуталі чыгунку, кідалі пад адхон эшалоны, а Гузь пры дапамозе сувязных, якія сядзелі на чыгуначных станцыях, лічыў эшалоны, тэхніку, войскі, якія рухаліся на фронт, і перадаваў звесткі па рацыі. Але за спіной Гузя стаяла большая сіла, чым за ўсёй брыгадай: да яго два разы прылятаў самалёт, скідаў цюкі з толам, магнітнымі мінамі, вінтоўкамі-бясшумкамі.

Частка дабра перападала партызанам, і нейкую колькасць раструшчаных вагонаў, узарваных рэек Гузь з чыстым сумленнем перапісваў сабе.

Служба ў Гузя намнога шырэй адкрыла Карызну вочы на размах патайной барацьбы, якая ішла ў гарадах, мястэчках, прылеглых да чыгункі вёсках. Шматлікія групы падпольшчыкаў, якія складаліся пераважна з моладзі, здабывалі для разведчыкаў, партызан патрэбныя звесткі, дакументы, праводзілі дыверсіі, наводзілі лясных хлопцаў на цэль, забяспечвалі іх медыкаментамі, соллю, іншымі рэчамі. Іх было сотні, маладых патрыётаў, і дзе яны цяпер? Колькі б на плошчы было людзей, каб прыйшла, прыехала хоць палавіна хлопцаў, дзяўчат, якія памаглі Гузю, партызанам! Вядома,

пастарэлі тыя хлопцы, дзяўчаты, але з актыўнага жыцця яшчэ не выбылі...

З некаторымі з патайных патрыётаў паступілі гэтак жа як з Карызнавай жонкай. Не прызналі іх барацьбітамі з ворагам. Невядома кім узведзеная мяжа ў мірны час аддзяліла Піскуна, Гузя ад іх шматлікіх памочнікаў, чым далей, тым болей адсякаючы звяно за звяном...

Гадоў дзесяць назад спахапіліся. Сталі правяраць, прызнаваць падпольныя групы. Некалькі афіцыйных папер атрымаў Карызна: просім пацвердзіць дзейнасць аднаго, другога. Ён пісаў, пацвярджаў, адчуваючы, што робіцца гэта позна, і крыўда ў душы людзей так ці інакш застаецца. Як застаецца ў яго самога...

## III

Пасля мітынгу была складчына, на якую народу сабралася разы ў тры болей, чым стаяла на плошчы перад трыбунай. Сядзелі за даўжэзным, накрытым казённай цыратай сталом у бруднаватым, падобным на склад памяшканні сталовай мясакамбіната, выпівалі, закусвалі, адзін перад другім спавядаліся. Гаманілі ўвесь вечар і ноч.

На кватэру Карызна з Былічам прыйшлі толькі пад раніцу. Не паспелі вочы звесці, хоць гадзіну паспаць, як прыбег пасланец ад Гузя.

Гузь начаваў у Івана Брандыбы. У таго самага Брандыбы, якога ведала ад малога да вялікага ўся брыгада. Нельга было не ведаць. У свае васямнаццаць гадоў вымахаў Іван, як магутны дуб. У яго не толькі рост — усё астатняе было большых памераў, больш прыкметнае, чым у звычайных людзей: рукі, ногі, галава, плечы, нават вочы — ледзь не па яблыку.

За шырокімі, як шафа, плячамі насіў Іван амуніцыю разведчыкаў: радыёстанцыю «Северок», батарэі сілкавання, скрутак дроту, які разматваўся, закідваўся на дрэва, становячыся антэнай. Гузь настолькі прывык да Брандыбы, што пры прыбліжэнні фронту ўзяў яго ў ліку нямногіх з сабой — групе

было дадзена новае заданне: перабрацца далёка на захад, за Буг, на тэрыторыю Польшчы.

Пасля вайны Брандыба пусціў карані ў гарадку. Не толькі сабе дамок збудаваў, а і радні падсабіў — побач з яго агародам пляц роднага брата, трохі далей — сястры. Сваякі Брандыбы перабраліся ў гарадок з размешчанай на сыпучых пясках далёкай вёсачкі, папоўніўшы рады мясцовага рабочага класа.

Постаць Брандыбы яшчэ болей магутная, чым у даўнія партызанскія часы. Прыходзіцца здзіўляцца, што прырода шчодра абдарыла чалавека на фізічную моц і не адбірае гэтай моцы нават у немаладыя гады.

Маючы фігуру волата, Брандыба вельмі мяккі, памяркоўны характарам.

Ён ужо болей як трыццаць гадоў служыць у чыгуначнай міліцыі. Вялікіх чыноў не дасягнуў: на пагонах нашыўкі старшыны. Лішняга дастатку ў Брандыбы таксама няма: прыгожы звонку дамок мае тры невялікія пакоікі.

Госць — як нявольнік. Не паспелі як след пасядзець за сталом у Брандыбы, успомніць мінулае — з'явіўся нарачны ад Піскуна.

Піскун сабраў кампанію ў доме адстаўнога маёра авіяцыі, які нібыта піша пра партызан кнігу. Даўно піша, толькі ніхто не бярэцца гэтую кнігу друкаваць.

У трохі зацененым, абстаўленым старамоднай мэбляй пакоі сабраліся ўсе тыя людзі, якія ўчора стаялі на плошчы ля трыбуны. На стале няма ні выпіўкі, ні закускі. Падняўся і пачаў гаварыць Піскун.

— Свята правялі,— сказаў ён.— Наступнае, калі не памром, правядзём праз пяць гадоў. У круглую дату. А цяпер паедзем у Няхамаву Слабаду. Каля яе спусціўся на парашуце таварыш Гузь, наш баявы друг. Людзі з Няхамавай Слабады ўсю раніцу звоняць, хочуць пабачыць таварыша Гузя, якому памагалі ў суровы час. Адтуль блізка да першай стаянкі нашага атрада. Пабудзем там. Не трэба забываць наш лес...

Дыхнула ў твар доўгім, знаёмым, партызанскім. Піскун заўсёды быў вось такі. Не камандаваў, не загадваў — заклікаў, пераконваў. Шырынёй душы, вялікасцю сэрца з’яднаў брыгаду. З ім было надзейна: самы апошні партызан адчуваў і ведаў — камандзір няправеднага кроку не зробіць...

Самы вялікі сярод былых партызан начальнік — дырэктар саўгаса. Дзякуючы яму, да маёрскага дома, размешчанага ў тупіковым, не замошчаным каменем завулку пад’язджае стары, разбіты аўтобусік. І вось імчыць аўтобусік, грукаючы па выбоінах, да Няхамавай Слабады.

У Няхамавай Слабадзе, пясчанай, раскіданай, прылеглай да самой шашы вёсцы партызаны правялі рэшту дня і ночы. Кульгавы ляснік Міцуль, які першы напаткаў у лесе Гузя, памагаў яму ў цяжкае лета сорак другога года, наладзіў пачастунак шмат багацейшы, чым учора ў сталовай мясакамбіната. Успаміналі мінулае. Спявалі песні. Тыя песні таксама, якія складзены пра партызан:

Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць...

Карызна не мог утрымаць слёз, якія самі набягалі на вочы. Мокрыя вочы ў Піскуна, у Гузя, у лесніка Міцуля, у лесніковай жонкі і яе сястры, якія некалі прыбягалі ў лес да разведчыкаў, прыносілі ім гаршчэчкі з цёплай стравай.

Свята падпсаваў зяць лесніка, белабрысы, вузкатвары дзяціна, з жорсткімі бялеса-сінімі вачамі.

— Камандзір! — падняўшыся над сталом, звярнуўся ён да Гузя.— Вось вы тут песні спяваеце, цалуецеся, прыгожыя словы гаворыце. А чаму ты, камандзір, раней не прыехаў? Мой цесць, цешча памагалі табе, жыццём рызыкавалі. А ў іх жа ніякай спраўкі няма. Калі на пенсію ішлі, ім ваенныя гады нават у стаж не залічылі. Чаму ты не падумаў, камандзір?..

Міцуль абарваў зяця:

— Не псуй абедню. Пра гэта асобны разгавор...

Карызна адчуваў, што зяць лесніка гаворыць праўду. Толькі не да месца, бо не лічыцца з настроем, які апанаваў людзей.

Пад раніцу ў Карызны з'явілася адчуванне, што ён ніколі не разлучаўся з гэтымі знаёмымі, блізкімі, роднымі людзьмі, пражыў з імі адно жыццё, за якое не сорамна ні яму, ні ім. Відаць, у іх, як і ў яго, жыве ў душы балючы і радасны ўспамін пра хвоі, бярозы, зарослы вераском лясны дол, пра далёкія партызанскія дні, якія часта ўсплываюць у памяці і па начах не даюць заснуць...

*1982*

## БАЛОТЦА МІЖ ЛЕСАМ

Калі Пятрок ідзе па грыбы, то звычайна абмінае невялікае балотца з чэзлымі хвойкамі, бярозкамі, што растуць між асакі і куп'я. Што там знойдзеш? З усходняга боку да балотца падступае града старых дубоў, і Пятрок туды таксама не заглядвае, бо дол у дубняку суцэльны дзёран і ніякі грыб на такой зямлі не вырасце.

Якраз у гэтым месцы пралягае насыпаны пясчаны шлях, які нібы лінейкай аддзяляе дубовую граду ад цёмнай сцяны грабняку. Граб — рэдкае дрэва, расце ён толькі тут. Пятрок думае, што і дубы, і цёмны густы грабняк падняліся пасля таго, як у гэтым месцы пралягла дарога. Бо звычайныя дрэвы ў лесе змешваюцца, і дубы, няхай сабе паасобныя, маглі расці і па правы бок дарогі, як грабы — па левы. Можа, той і другі лес былі нават спецыяльна пасаджаны.

Калі Пятрок уступае ў лес, то забывае пра ўсё на свеце. Для яго нібы настаюць святыя хвіліны. Кожная дзялянка лесу мае свой характар і выклікае ў душы адпаведны настрой. Сярод дубоў, высачэнныя шаты якіх нават у яснае надвор'е як бы вядуць патаемную размову з вятрамі, Пятрок адчувае сябе ўрачыста, нібы ў хораме, з думак, пачуццяў знікае ўсё дробязнае, нікчэмнае. Светлы, чысты бярэзнік выклікае такія ж светлыя і чыстыя пачуцці. А сярод ружовых верасоў з рэдкімі выноснымі соснамі на іх бясконцым абсягу хочацца марыць пра будучыню...

У час школьных канікул, калі пачынаюць расці грыбы, Пятрок ледзь не штодзень шастае ў лес. Грыбнікоў многа, не так проста назбіраць хоць паўкошыка грыбоў, і, перад тым

як пайсці ў лес, Пятрок заўсёды трывожыцца. Іншы раз ён нават ноччу прачынаецца ад неспакойнай думкі: ці знойдзе што-небудзь у лесе?

У самім лесе трывога пакідае Петрака. Дзень на дзень не падобны. Сёння ў адным месцы грыб падымеш, заўтра ў другім.

Гэты дзень быў для Петрака надзвычай шчаслівы. Удача напаткала на самым пачатку. Ніколі не зварочваў ён у дубняк, а сёння нібы што падштурхнула. Пятрок сыходзіць са шляху і вачам не верыць. На травяністым доле, проста на дзёрне,— сядзяць вялікія і моцныя, як капыты, баравікі. Іх сем ці восем штук. Відаць яны здалёк: проста сыдзі са шляху і бяры. Толькі, як і Пятрок, ніхто не верыў, што пад дубамі, па траве могуць расці баравікі, не хадзіў тут, таму баравікі выраслі такія вялікія.

Знайшоўшы баравікі пад дубамі, Пятрок і ў грабняк заварочвае, які раней гэтак жа абмінаў. І тут пад апалым лісцем яму ўдаецца знайсці некалькі маладзенькіх баравічкоў. Лес нібы адкрывае перад ім свае спрадвечныя таямніцы.

Калі ўдача, дык удача! Найбольш адорвае Петрака белагаловымі, схаванымі ў шчыльнай шорсткай траве баравічкамі невялікая паляна, якой хмуры цёмны грабняк аддзяляецца ад чарнічнага, наскрозь прагрэтага сонцам бору. Ён і раней знаходзіў тут грыбы. Але сённяшні паход у лес не ідзе ні ў якое параўнанне з усімі папярэднімі. Амаль поўны кошык грыбоў, добрая палавіна якіх баравікі, назбіраў Пятрок. Горды і шчаслівы ад сваёй удачы, прыйшоў дадому.

Дома Петрака чакае неспадзяванка. Бацька просіць памагчы згрэбці сена, і Пятрок, хоць трохі баляць ногі, згаджаецца.

І вось удвух з бацькам яны ідуць у той самы лес, дзе з раніцы Пятрок збіраў грыбы. Мінаюць дубовую граду і грабняк, паляну, дзе Петраку гэтак пашанцавала, прыходзяць на край атуленага лесам балотца.

Усё тут сходжана, зведана да дробязей і разам з тым як бы незнаёма. Пятрок зграбае сена, гоніць валкі, кідаючы даволі абыякавыя позіркі на дубы, на сваю грыбную паляну, што размешчана якраз насупраць балотца, цераз шлях. Ён не адчувае ніякага ўзрушэння. Лес як лес. Сваю грыбную,

таямнічую казку ён цяпер Петраку не расказвае. Сонца пайшло на схіл, яго прамяні кранаюць толькі вершаліны дрэў, ад дрэў кладуцца доўгія цені.

Сена многа, бацька выкасіў усё балотца. Пятрок зграбае сена ў валкі, потым яны з бацькам складаюць яго ў копы. Ужо цямнець пачынае, а работа яшчэ не скончана.

Нарэшце чуваць ляскат калёс. Едзе старэйшы Петракоў брат Валодзя. Пятрок з бацькам выносяць копы на бераг балотца, каб ільга было адразу класці сена на воз. Пад'ехаўшы, Валодзя адразу пачынае займацца гэтай справай.

Бацька бярэ насілкі за кароткія канцы, пры самай капе, Петраку пакідае доўгія. Ён робіць так дзеля таго, каб сын меней стамляўся. Але Пятрок сама ўвайшоў у ахвоту. Ён увесь дзень на нагах, але можа яшчэ працаваць хоць усю ноч. Стомленасці не адчувае. Бо такая, як цяпер, работа прыносіць вялікае задавальненне. Не меншае, чым збор грыбоў.

Калі на воз усклалі тры капы, Пятрок лезе ўтоптваць сена. Бо застаюцца дзве капы, якія абавязкова трэба забраць. Не прыязджаць жа за імі яшчэ раз.

Бацька падае Петраку гладкі, драўляны рубель, спераду воза ўстаўлены ў вераўчаную пятлю. На рубель закідваецца вяроўка. Ззаду сена ўціскаецца як толькі можна. Цяпер яно па дарозе не растрасецца.

Вось і скончана работа. Усё Петракова цела ные ад стомы. Але гэтая стома прыемная. Столькі за дзень зрабілі!

Ужо ноч вісіць над лесам, такім незнаёмым, загадкавым, таямніча-зацятым. Лес здаецца Петраку яшчэ прыгажэйшым, чым раніцай, калі ён прыходзіў сюды ў грыбы.

*1984*

## СТАРАВІЛЕНСКІ ТРАКТ

Вуліца з такой назвай яшчэ жыве ў адбудаваным пасля вайны горадзе. Тым часам шматлікія засаджаныя ліпамі, таполямі завулкі, правулкі, якія выводзяць у паўночна-заходняе прадмесце, да былога конскага базару, паступова знікаюць з твару горада, і толькі старажылы памятаюць іх назвы. Напорна,

уладна паўстаюць сярод статкаў драўляных дамкоў з аселымі ў зямлю, амаль нявіднымі падмуркамі, цеснымі дворыкамі, яблыневымі садамі шматпавярховыя, падобныя адна на другую камяніцы. Выгляд гэтых, складзеных з гатовых блокаў каробак асабовасці не нясе, узвышаных пачуццяў не выклікае, наадварот, як бы прыгнятае сваёй панылай аднастайнасцю, ардынарнасцю.

Але і ў ардынарнасці — сіла. Ці ж цяжка спраектаваць такі дом, лягчэй, чым з цэглы, яго скласці, і, зрэшты, у някідкіх на выгляд каробках жывуць людзі, вараць страву, раджаюць дзяцей, песцяць надзеі на лепшую будучыню. Тым болей што ёсць у кватэрах гарачая і халодная вада, не трэба бегаць да калонкі, калоць дровы ці купляць брыкет, клапаціцца, каб падрамантаваць дах.

Восенню сорак чацвёртага года, калі ад горада толькі-толькі адышла вайна, а сам ён ляжаў грудай развалін, адну са спаленых з цёмнымі праваламі акон каробак не вельмі далёка ад Старавіленскага тракту наспех адрамантавалі, і ў ёй адкрылася мастацкае вучылішча. У гэтае вучылішча прыехаў паступаць высокі, стройны, з даволі прыгожым тварам юнак Андрэй Кахаоўскі. Ён паходзіў з прыдняпроўскага гарадка, болей за год прабыў у партызанах, мінулай восенню, пры вызваленні роднага гарадка, быў цяжка паранены ў жывот і амаль год пралячыўся. З-за гэтага дваццацігадовы юнак атрымаў белы білет і ў той час, калі яго равеснікі мясілі восеньскую гразь на польскай, венгерскай, румынскай землях, мог распараджацца сабой як хацеў. Ён падаўся ў навуку. Андрэй прывёз з сабой жмак малюнкаў з рознымі момантамі партызанскага змагання і быту, выкананых звычайным алоўкам на кавалачках паперы рознай велічыні, і добрую характарыстыку. Яго прынялі ў вучылішча без экзаменаў, далі стыпендыю, карткі на хлеб, талоны на абед у сталовай. Пра ўсё астатняе ён мусіў паклапаціцца сам.

Вось тады, у пошуках прытулку, Андрэй прыбрыў на Старавіленскі тракт, адносна цэлы ў суцэльна разбураным горадзе, завітаў у адзін, другі, трэці дамок, просячыся на кватэру, і ўсюды адмаўлялі. Што мог даць шчаслівым уладальнікам уцалелых дамкоў худы, з галодным бляскам у вачах юнак, за

месячную стыпендыю якога не купіш нават двух боханчыкаў хлеба на Юбілейным ці Камароўскім рынку?

Юнак быў упарты. Рушыў у чацвёрты, пяты, шосты дамок. Нарэшце ў адзінаццатым ці дванаццатым яго сустрэла круглатварая, з коратка падстрыжанымі валосікамі дзяўчына, з-за сваіх круглых, жаўтаватых вачэй трохі падобная на саву. Калі юнак сказаў, чаго хоча, дзяўчына ўважліва на яго паглядзела жоўтымі рухавымі вочкамі, усміхнулася і папрасіла прыйсці заўтра. Сказала: без маці не можа такое рашыць.

Андрэй прыйшоў назаўтра і стаў кватараваць у аселым у зямлю дамку на Старавіленскім тракце, размешчаным на схіле касагора, што вядзе да Свіслачы. Яму прыйшлася да душы мясціна: драўляны з бляшаным, паедзеным іржой дахам дамок, маленькі дворык, агарод, які засаджваюць салатай, радыскай і памідорамі,— усё гэта нагадвала родны гарадок над Дняпром.

Юнаку асабліва падабалася, што на вуліцы, пры самым дамку расце высозная, старая ліпа, якая сваім купчастым верхам нібы прыкрывае яго ад вятроў і дажджоў.

Андрэю адвялі адгароджаную тонкай дашчатай перагародкай бакоўку, і ён стаў жыць: адзін мужчына сярод трох жанчын. Ён быў прывучаны да дамашняй работы і наогул меў у руках спрыт: пілаваў, калоў дровы, змайстраваў столік, які ўціснуў у сваёй бакоўцы паміж грубкай і ложкам, адрамантаваў выкінутае на гарышча старамоднае крэсла з выгнутай спінкай, на якім цяпер мог сядзець і глядзець на вуліцу. Ён нават абклеіў пакоік зеленавата-сінімі шпалерамі, дзве трубкі якіх купіў на базары, прадаўшы дзве карціны ўласнага вырабу, на якіх перамаляваў з развешанага на сцяне залькі гаспадынінага дывана задуменную дзяўчыну з пышнай прычоскай і вялікімі грудзямі, што адзінока сядзіць на беразе сіняга мора, самотна пазіраючы на белых гусей-лебедзяў.

Вечарам юнак слухаў, як шастае па даху каструбаватымі галінамі ліпа, як шуміць у яе кроне вецер, як аднастайна шапаціць за акном халодны асенні дождж.

Ён марыў аб вясне, аб тым часе, калі ліпа зазелянее.

Вясна прыйшла, ліпа апранулася ў зялёны ўбор, наступіў Дзень Перамогі...

Дома ў юнака засталася маці, якая ад раніцы да вечара стракатала на швейнай машыне, і малодшая сястра, школьніца, якія нічым не маглі яму дапамагчы. Ён мог разлічваць толькі на сябе. Людзі пачыналі заводзіць быт, і гусі-лебедзі, якіх час ад часу маляваў юнак, выносячы потым на рынак, попытам карысталіся. За кватэру Андрэй плаціў столькі, колькі астатнія таварышы па вучылішчы, якія гэтак жа, як ён, уладкаваліся на жытло ў разбураным горадзе. Ён, як і яны, хацеў быць вольным і незалежным.

І ўсё ж у залежнасць ад гаспадароў кватэры хлапчына трапіў. Гаспадыня, маўклівая, рухавая, з цёмным маршчыністым тварам, чымсьці падобная на мышку, трымала карову. Карова, у сваю чаргу, трымала на свеце гаспадыню і дзвюх яе дачок, буйную целам, з усімі адзнакамі расцвіўшай жаноцкасці Александрыну, якая працягвала перапыненую вайной вучобу ў медыцынскім інстытуце, і жаўтавокую соўку Марысю, што толькі бегала ў дзявяты клас.

Соўка з першага дня стала клапаціцца пра юнака, нібы родная сястра: мыла яго бялізну, цыравала шкарпэткі, ведаючы, што быў паранены ў жывот і мае патрэбу ў далікатным харчы, раніцай і вечарам прыносіла ў яго бакоўку кубак малака. Ніякімі прададзенымі на рынку гусямі-лебедзямі не здолеў бы разлічыцца хлопец за гэтыя штодзённыя бясконцыя кубкі.

Час ішоў. Вярталіся ў горад уцалелыя на вайне хлопцы даваеннага і ваеннага прызыву. Адзін з іх, лётчык-капітан, на працягу двухтыднёвай пабыўкі звадзіў у загс і звёз з горада пышнацелую Александрыну, якая толькі паспела скончыць інстытут.

Фактычна гаспадыняй у доме стала Марыся. Яна цяпер сама вучылася ў педагагічным інстытуце, у летнюю, асеннюю пару бегала каля Свіслачы з сярпом і мяшком, зжынала асаку, аер, усялякую іншую траву, што расла па нізкіх мокрых рачных затоках, рассцілала на дворыку, сушыла, нарыхтоўваючы карове корм на зіму.

Андрэй скончыў вучылішча, уладкаваўся на працу мастаком-афарміцелем у часопіс. Але ў горадзе адкрыўся мастацкі інстытут, і ён, не пакідаючы работы, зноў стаў студэнтам. Марыся мусіла закончыць інстытут раней, чым Андрэй. Час ішоў, і яна ўсё запытальней, трывожней глядзела

на кватаранта. Андрэй разумеў: трэба нешта рабіць, бо вельмі проста дзяўчыну могуць размеркаваць на раён, і тады яму прыйдзецца развітацца з дамком пад старой ліпай, кубкамі малака, побытам, пра які ў апошнія год-два ён зусім перастаў клапаціцца.

Паразважаўшы, Андрэй рашыў, што ад дабра дабра не шукаюць. Марыся трохі яму падабалася, яшчэ больш ён да яе прывык: добрых, нават адменных якасцей яна мела шмат. У хуткім часе малады мастак прапанаваў Марысі руку і сэрца, і яна расцвіла, як вясновая ружа. Папрыгажэла, пасталела, і цяпер ніхто не пазнаў бы ў ёй дзеўчаняці, што некалі нагадвала вачастае савянё.

Нарадзіўся сын, потым дачка. Марыся не ведала стомы: выкладала ў школе, вяла гаспадарку, цалкам пазбавіўшы мужа ад якога-небудзь гаспадарчага клопату. Карову яны трымалі да таго часу, пакуль наогул не забаранілі трымаць у горадзе буйную рагатую жывёлу.

Як мастак, Кахаоўскі сябе зусім не праявіў. Эцюдзікі, замалёўкі, нацюрморты, пейзажы — толькі гэта і выходзіла з-пад яго пэндзля. Як бы не рашаўся ён брацца за нешта большае, адчуваючы, што ў душы яно яшчэ не паспела.

Скончыўшы мастацкі інстытут, Каханоўскі ўладкаваўся ў гэтым самым інстытуце на выкладчыцкую работу. Сярод маладых мастакоў ён лічыўся добрым, таварыскім, нават багатым чалавекам, і яны ахвотна прыходзілі ў дамок на Старавіленскім тракце. Марыся іх ветліва сустракала, наладжвала добрыя пачастункі, якія зацягваліся іншы раз да поўначы.

Душой кампаніі нязменна быў Саша, Аляксандр Станкевіч, чарнявы, добра складзены, з сінімі, як васількі, вачамі, густой цёмнай бародкай саракагадовы мацак. Саша быў не толькі вясёлы, прыгожы, са спрытным языком, але і як мастак заваяваў імя: пра яго пісалі ў газетах, паспеў наладзіць уласную выстаўку, адзін яго малюнак нават адціснулі на паштоўцы.

Хутка Андрэй Іванавіч заўважыў нядобрае: Марыся захапілася Станкевічам. Яна не ўмела таіць пачуццяў, і тое, што Станкевіч ёй падабаўся, маглі лёгка заўважыць таварышы Каханоўскага.

Заўважылі яны ці не, ён не пытаўся. Але ён страшэнна пакутаваў. Тое, што здарылася з Марысяй, азначала для яго катастрофу. Толькі цяпер ён адчуў, што за доўгія гады сумеснага жыцця не толькі прывык да Марысі, але і палюбіў яе. Таму, не знаходзячы месца ад рэўнасці, падазрэнняў, ён не мог зрабіць, як робяць у такіх выпадках некаторыя мужчыны: завесці на старане каханку, выбіваць, як гавораць, клін клінам.

Зладжанае жыццё пахіснулася. Не вытрымліваючы, Андрэй дакараў Марысю, яна адказвала патокам слёз, літанняў, нашчэнт адмаўляючы якія-небудзь узаемадачыненні са Станкевічам. Андрэй Іванавіч сам не верыў, што Марыся патаемна сустракаецца з таварышам. Але яму было крыўдна, што яна гэтак жа, як іншыя легкадумныя жанчыны, захапілася пазёрам і верхаглядам. Талент Станкевіча ён ставіў невысока, ведаў, што яго ўдачлівы таварыш выплывае на кан'юнктуры. На яго карцінах заводскія трубы і варштаты выглядалі куды выразней, чым людзі. Ведаў дакладна Каханоўскі, што Станкевіч мае шмат паклонніц і не вельмі сумленна абыходзіцца з імі. Марысю ён цаніў за дабрачыннасць, нават думкі не дапускаў, што яна здольна захапіцца чарамі патайнога кахання. Цяпер у яго вачах яна як бы зраўнялася з легкадумнымі жанчынамі, на якіх ён усё жыццё глядзеў зняважліва і пагардліва.

Заставалася адно: сціснуць зубы і чакаць. Іншага выйсця не было. Ён меў абавязкі перад дзецьмі, дый не было на свеце другой жанчыны, да якой ён мог бы пайсці.

Вось іменна ў гэты горкі час Андрэй Іванавіч пачаў працаваць над сваёй першай карцінай «Дуб на ўзлессі». Яму нарэшце захацелася расказаць, што думалі, адчулі яны, хлопцы, дзяўчаты ваеннай пары, якія ў маладыя гады гінулі на фронце, у партызанах, у фашысцкіх засценках.

Выбіраючы кожную вольную хвіліну, ён стаў ездзіць у лес. Не толькі дзеля таго, каб вывучаць натуру, рабіць накіды. Ён даўно адчуў: мастацтва — тайна. Дасягае поспеху той, хто найбольш да тайны дакранаецца. У лесе маўкліва стаяць дрэвы, спяваюць птушкі, у душу прыходзіць зладжанасць, спакой, добра думаецца.

Ноччу Андрэй не спаў, часта слухаў, як шастае пад ветрам галінамі старая ліпа. Іншы раз ён уставаў, апранаўся, выходзіў

на двор, затым асцярожна спускаўся па касагоры да Свіслачы. Ён удзячны лёсу, што пасяліўся ў гэтым месцы. Адбудаваны горад ззяе морам агнёў, ходзячы па ярка асветленых вуліцах, размешчаных у цэнтры горада, ні неба над галавой, ні зорак не ўбачыш. А тут, на ўскраіне, ён заўсёды бачыць неба, зоркі, боханчык месяца, сінюю стужку Свіслачы, цёмныя купы дрэў, прыземістыя дамкі. Чуе пах прывялай травы, прыглушаныя галасы парачак, што ў такую позннюю пару прахаджваюцца каля ракі.

У час сваіх вандровак у лес ці да ракі Каханоўскі дакараў сябе, што ажаніўся з Марысяй. Былі другія, па-сапраўднаму прыгожыя дзяўчаты, якія ставіліся да яго прыхільна. Успамінаў: нават Александрына, старэйшая сястра Марысі, ласкава, часам як бы з выклікам на яго глядзела. Цяпер Александрына зноў жыве ў горадзе. Яе лётчык неба пакінуў, спусціўся на зямлю, атрымаў кватэру, працуе ў будаўнічай канторы, і Александрына ў дамок на Старавіленскім тракце часта завітвае. Андрэй Іванавіч міжволі любуецца ёю: сапраўдная мадонна! Спакойная, ураўнаважаная, задаволеная жыццём. А яго круглатварая сава ніяк не можа ўтаймаваць пачуцці...

Каханоўскі працуе. Адпачынку сабе не дае. Жыве на пачуцці супраціўлення. Якое б ні было на дварэ надвор'е, які б ні быў настрой, кожную вольную хвіліну ён праводзіць у майстэрні. Або едзе ў лес. Там ён супакойваецца, лагаднее душой, як бы зараджваючыся на новую працу.

Вось і закончыў ён «Дуб на ўзлессі». Крытыкі сустрэлі карціну стрымана, але чым далей, тым часцей яе ўпамінаюць. Палатно сапраўды нічога асаблівага не нясе: маладзенькая дзяўчына-партызанка вартуе двух параненых, з павязкамі на галовах таварышаў, якія, вяртаючыся з задання, прыляглі пад дубам адпачыць.

У Андрэя Іванавіча ёсць новыя, на яго думку, больш глыбокія задумы, якія ён пакрысе ажыццяўляе.

Імкліва ляцяць гады. Падраслі дзеці. Сын скончыў ваеннае вучылішча, паехаў служыць на Поўнач. Андрэю Іванавічу нарэшце выдзелілі добрую кватэру. Але ён і Марыся саступілі яе дачцэ, якая выйшла замуж і не мела прытулку.

Не мог Андрэй Іванавіч так проста развітацца з дамком на Старавіленскім тракце, дзе столькі перажыў шчаслівых і горкіх хвілін...

І вось здарылася гісторыя, якая, калі зірнуць глыбей, нарадзіла гэтае апавяданне.

У горадзе шырока ішла слава пра выдатнага спевака, які са сцэны опернага тэатра заваёўвае сэрцы і душы. Аднойчы пайшоў у тэатр Андрэй Іванавіч, паслухаў артыста і таксама захапіўся яго голасам. У тэатры яму нехта паказаў жонку спевака. Божа, якая прыгожая жанчына! Іменна пра такіх гавораць: боская. Як прырода выкшталцавала, дакладна дапасавала адно да другога ў гэтай жанчыне, жывой Венеры Мілоскай.

Поспех спевака, думаў Каханоўскі, напалавіну, калі не болей, залежыць ад жонкі. Валоданне такой жанчынай дае спеваку крылы, творчую сілу, імпэт. На жаль, яго самога падобнае шчасце абмінула...

Далей здарылася неверагоднае: спявак пакінуў прыгажуню, пераехаў у другі горад, нават у другую рэспубліку і там неўзабаве памёр.

Каханоўскі іншы раз сустракаў жонку спевака на вуліцы, адзінокую, самотную, вітаўся з ёю, аднойчы адважыўся загаварыць.

Так пачалося іхняе знаёмства. А яшчэ праз некаторы час мастак адчуў, што не можа жыць без Алены Рыгораўны — так завуць гераіню нашага апавядання,— без яе буйнога, з выдатна расцвіўшымі формамі жаноцкасці цела, кранутага першымі прыкметамі адцвітання, вытанчанага твару, вясёласмяшлівых шэрых вачэй, пявучага голасу.

Для яго пачалося нешта падобнае на насланнё, на вар'яцтва. Ён зусім немалады чалавек, у якога дарослыя дзеці, не мог саўладаць з уласнымі пачуццямі. Можа, усё было б інакш, каб у справу ўмяшалася жонка. Але, занятая нейкімі сваімі думкамі, перажываннямі, Марыся зусім не заўважала, што творыцца з мужам. Карміла яго, прасавала сарочкі, застаючыся да ўсяго астатняга сляпой і глухой.

Кончылася тым, што Андрэй Іванавіч пакінуў жонку. Растлумачыць сваё рашэнне, гледзячы ёй у вочы, ён не

адважыўся, проста напісаў доўгі, блытаны ліст, склаў у чамадан пару касцюмаў, сарочак і пайшоў з драўлянага дамка на Старавіленскім тракце, дзе пражыў трыццаць пяць гадоў.

Алена Рыгораўна (яна працуе выкладчыцай інстытута) займае чатырохпакаёвую, прасторную, нібы палац, кватэру, на галоўным праспекце. У яе толькі адна дачка, якая выйшла замуж і разам з маці не жыве.

На першым часе Андрэй Іванавіч мітусіцца як апантаны. З раніцы кідаецца ў майстэрню, малюе, загрунтоўвае палатно, робіць бясконцыя накіды пейзажаў, партрэтаў, нацюрмортаў. Адчувае: наступае яго зорная часіна. Позна наступае, на схіле жыцця, але шчасце асабістае і творчае яго ўсё-такі не абмінула.

Толькі дзіўна: дрэнна пасоўваецца справа. Натхненне, на якое гэтак спадзяваўся Андрэй Іванавіч, чамусьці не прыходзіць. Усё, што робіць,— дрындулькі, драбяза, даравальныя толькі пачаткоўцу. На сур’ёзнае не хапае духу...

Ды і кватэра, у якой ён жыве, яму зусім не падабаецца. Вялізная, нібы стадола, безгустоўна абсталяваная. Пад акном, якое выходзіць на праспект, таксама расце ліпа, ледзь-ледзь дацягваючыся вершалінай да трэцяга паверха. Толькі што гэта за ліпа? Падстрыжаная, цацачная, ніяк яна не радуе вока. Ходзячы па праспекце, ні зорак не бачыць Андрэй Іванавіч, ні неба над галавой...

Андрэй Іванавіч усё выразней адчувае дакоры сумлення. За што ён так жорстка пакараў Марысю? Разам пражылі жыццё, а ён уцёк ад яе, як злодзей, як паганы цюцька. Як бы ні была Марыся занята, яго заўсёды чакала сняданне, чыстая сарочка, догляд і клопат. Нават у тыя дні, калі між імі не было ладу, Марыся званіла ў інстытут, у майстэрню, пыталася, ці паабедаў ён, бывалі выпадкі, калі гатавала абед і ў каструльках прыносіла ў майстэрню.

Такія звычайныя, зямныя рэчы, як сняданне, абед, вячэра, новую жонку зусім не цікавяць. Яе не цікавяць нават малюнкі, карціны Кахаshowskaga, хоць для прыліку яна іншы раз кідае на іх вокам. Яна зрэдку ходзіць з новым мужам у кіно, тэатр, паказваецца на людзях, ва ўсім астатнім даючы яму поўную свабоду. Хочаш рыбу ці мяса смаж на абед, хочаш у сталоўку ідзі...

З раніцы Алена Рыгораўна садзіцца за столік з люстэркам, падводзіць бровы, вейкі падмалёўвае, пудрыць твар.

— Маладая я была д'ябальскі прыгожая! — любіць паўтараць Алена Рыгораўна, як бы напрошваючыся на камплімент. Андрэю Іванавічу нічога не застаецца, як хваліць прыгажосць новай жонкі, хоць ён добра бачыць, што няўмольны час робіць сваю разбуральную справу.

Пакруціўшыся каля люстэрка, прымераўшы новую сукенку, шапачку ці які-небудзь шарф, Алена Рыгораўна накіроўваецца да краўчыхі. Яна пастаянна шые ці перашывае што-небудзь з убораў. Добрых краўчых у горадзе не хапае, і Алена Рыгораўна ездзіць у Вільнюс, Рыгу, Талін і там робіць заказы.

Андрэй Іванавіч успамінае: Марыся, калі яны толькі пажаніліся, гадоў пяць хадзіла ў зялёнай, выцвілай ад часу сукенцы, і пры гэтых успамінах у яго грудзях нарастае горкі камяк.

Кожны дзень Алена Рыгораўна надоўга знікае з дому. Яна ніколі не гаворыць, куды ідзе, калі вернецца. Здараецца: вяртаецца апоўначы ці нават пад раніцу, пад хмяльком, з вясёлым бляскам у шэрых, усё яшчэ жывых вачах. На кватэру часта звоняць. Незнаёмыя мужчыны патрабавальна просяць паклікаць да тэлефона Алену Рыгораўну.

— Мае студэнты,— тлумачыць Алена Рыгораўна.— Не могуць рыхтавацца да экзамену без кансультацыі.

Так, яна выкладае ў інстытуце, чытае лекцыі, вядзе семінары, але да смешнага мала мае кніг і нават тых ніколі не бярэ ў рукі.

Іншы раз да маці прыходзіць дачка, высокая, чорная, ні на Алену Рыгораўну, ні на нябожчыка спевака не падобная...

Андрэя Іванавіча ўсё часцей агортваюць невясёлыя думкі. Некалі ён вінаваціў Марысю, што захапілася зухам, пазёрам Станкевічам (даўно сышоў са сцэны Станкевіч, спіўся, згуляўся), але ён не можа ўспомніць ніводнага выпадку, калі доўгі час Марысі не было дома ці вось гэтак, як новая нарачоная, яна фарбавалася, прыхарошвалася, клапацілася аб туалетах. Так, Марыся ўсю сябе аддавала яму, служыла яму верна, самаахвярна. Ён як мастак доўга не праяўляў сябе, бясконца вучыўся, раздумваў, і Марыся, як кожная, відаць, жанчына,

міжволі пацягнулася да энергічнага, удачлівага Станкевіча. Усё астатняе, відаць, дамалявала ягоная хваравітая фантазія...

У дом на галоўным праспекце Андрэй Іванавіч перабраўся ранняй вясной, а ўжо наступае халодная восень. Ідуць дажджы, падае лісце з дрэў. Андрэй Іванавіч прыхварэў: відаць, прастудзіўся. Не зважаючы на гэта, Алена Рыгораўна паехала разам з інстытуцкімі выкладчыкамі ў падарожжа: па талстоўскіх і тургенеўскіх мясцінах.

Ён два дні ляжаў з тэмпературай, на трэці выбраўся з кватэры, каб купіць якога-небудзь харчу.

Вяртаючыся, Андрэй Іванавіч раптам спыніўся, уражаны і ўсхваляваны. Яму падалося, што з-за вугла суседняга пад'езда за ім назірае Марыся. Ён зрабіў некалькі крокаў назад, стаў прыглядацца, і тады Марыся выйшла з пад'езда яму насустрач. Убачыўшы яго, яна заплакала.

— Даруй мне, Марыся,— прамовіў Андрэй Іванавіч, перакладваючы з левай рукі ў правую авоську з бутэлькай кефіру і батонам.— Хоць мне, можа, нельга дараваць...

— Я таксама вінавата,— адказала яна, выціраючы слёзы.— Недагледзела. Ты заўсёды быў неўраўнаважаны і дурны. Пойдзем дадому...

Ён не захацеў заходзіць у кватэру, зноў пераклаў авоську з кефірам і батонам у левую руку і паныла пабрыў побач з Марысяй у процілеглым ад дома на праспекце напрамку...

*1984*

## СЯМЁН ГУЛЯШ

### I

Стасюлевіч адчуў прыліў сіл і бадзёрасці, калі ад цёткі, бацькавай сястры, перайшоў у гасцініцу. Канферэнцыя будзе цягнуцца два дні, начаваць яму ў горадзе яшчэ дзве ночы, і проста страшна падумаць, што зноў ён, пакуль засне, будзе ледзь не да раніцы варочацца на вузкай, траскучай канапцы, слухаць зыкі начнога горада, перашэпты стрыечнай сястры Лізы са сваёй разведзенай дачкой, якая, каб не плакала дзіця, усю ноч гойдае калыску.

Стасюлевіч з самага пачатку не хацеў ісці да цёткі Мальвіны. Угаварыла маці.

Маці жыве ў мястэчку, размешчаным пры чыгунцы, і па дарозе на канферэнцыю Стасюлевіч да яе заскочыў.

Маці ацаніла сітуацыю правільна: калі ён, пляменнік, не зойдзе да цёткі Мальвіны, будзе вялікая крыўда, бо Ліза, якая служыць сакратаркай у тым самым інстытуце, дзе праводзіцца канферэнцыя, так ці іначай дазнаецца, што ён быў у горадзе і, значыць, пагрэбаваў іхнім домам.

Да Лізы, да цёткі Мальвіны Стасюлевіч заўсёды ставіўся прыязна, і гэтыя ягоныя пачуцці маюць даўні грунт. Яму наогул падабаецца тып жанчын, як цётка Мальвіна, Ліза, хоць дачка зусім не падобна на маці.

Цётка Мальвіна буйная, паўнацелая, вясёлы, прыветлівы нораў спалучае з задуменнасцю і сур'ёзнасцю, мяккасць, паблажлівасць да людзей з цвёрдасцю характару. У сямнаццаць гадоў насуперак волі братоў, сясцёр выскачыла замуж за хударлявага, прыгожага тварам, паставай, але хворага на сухоты парабка Івана Зязюлю.

Радня, аднак, хутка прыняла, нават палюбіла Івана. Натуру ён меў мяккую, падатлівую. Сваім былым парабкоўствам, галоўнае тым, што стаў адным з першых у сельскай ваколіцы партыйцаў, ён трохі як бы прыкрываў заможна-серадняцкіх сваякоў жонкі ад наскокаў рашучых, зласлівых сельсаветчыкаў.

І яшчэ Зязюля іграў на гармоні. Гэтак хораша, па-заліхвацку іграў, што Стасюлевіч, якому на той час, калі цётка Мальвіна выходзіла замуж, было гадоў шэсць ці сем, пранікся да яе мужа глыбокай павагай.

Калі Стасюлевіч нарэшце пайшоў у школу, дзядзька Іван, закончыўшы Мінскі камвуз, працаваў намеснікам дырэктара МТС па палітчастцы.

— Купі і мне гармонь,— папрасіў Стасюлевіч дзядзьку.— Дзіцячую. Тры рублі каштуе.

— Куплю. Вось наступны раз прыеду і прывязу.

Па разліках Стасюлевіча, дзядзька мог прыехаць толькі на асенняга Міколу, на прастольнае ў мястэчку свята. З вялікім нецярпеннем чакаў Стасюлевіч гэта свята, на якое ў іхнюю хату звычайна з'язджаецца процьма далёкай і блізкай радні.

Наступіў асенні Мікола, прыехаў дзядзька Зязюля, аднак гармоні не прывёз.

Стасюлевіч разважыў, што гармонь дорага каштуе. Тры рублі — не жарты. На гэты раз ён папрасіў дзядзьку купіць піянерскі барабан з матузкамі праз шыю. За барабан трэба заплаціць толькі адзін рубель і дзесяць капеек.

Дзядзька паабяцаў:

— Куплю, браток. Абавязкова куплю!

Не купіў Зязюля і барабан. Ён шчыра, шчодра раскідваў абяцанні, любіў падтрымаць чалавека ў яго найлепшых імкненнях, спадзяваннях.

Ад імя сям'і Стасюлевіч пісаў дзядзьку лісты. У чацвёртым ці пятым класе ён зразумеў, што яго прыгожы дзядзька грамату мае не вельмі высокую. Ён, калі адказваў на лісты, рабіў мноства самых грубых памылак, а косак, двукроп'яў, працяжнікаў наогул ні ў якім месцы не ставіў. Дзядзьку не прыйшлося вучыцца ў звычайнай школе, і хоць яго пасылалі на розныя курсы, затым у камвуз, пісаць без памылак ён так і не навучыўся.

Тады, калі Стасюлевіч вучыўся ў пачатковай школе, у Германіі да ўлады прыйшоў Гітлер. Пра гэту падзею многа разважалі суседскія мужчыны, якія прыходзілі да Стасюлевічавага бацькі пакурыць і пагаманіць. Аднойчы прыехаў дзядзька, і Стасюлевіч спытаў у яго, што такое фашызм.

— Фашызм — гэта фінансавы капітал,— адказаў Зязюля.— Прасцей кажучы, улада буржуяў.

Пасады дзядзька мяняў часта. Здымалі з адной, ставілі на другую. Але пасля МТС, хоць быў ён не стары, уверх па службе не падымаўся. Наадварот, апускаўся ўніз. Перад вайной загадваў барахолкай у абласным горадзе.

Зязюлю перад прыходам немцаў пакінулі ў партызанскім атрадзе. Толькі ён, хворы чалавек, мала ў лесе пратрымаўся: патаемна вярнуўся дамоў і ціха сканаў у першую акупацыйную зіму.

Пасля сканчэння вайны цётка Мальвіна перабралася ў мястэчка, бліжэй да радні. Ёй тады было толькі дваццаць дзевяць гадоў. Відная, прыгожая, яна яшчэ магла выйсці замуж. Але, дбаючы пра дачку, адмаўляла жаніхам.

Нарэшце браты і сёстры ўгаварылі цётку сысціся з працавітым, памяркоўным удаўцом, у якога быў дом, двор, добры дастатак. Мальвіна нехаця згадзілася, але ўцякла ад удаўца на другі дзень. Яна помніла свайго прыгожага Івана і нікога не магла палюбіць.

Ліза пайшла ў бацьку: гэткі ж чарнявы, далікатны твар, нічога лішняга ў целе. Ад маці пераняла вясёлы нораў, памяркоўнасць, але яе цвёрдасці не ўзяла.

Як маці, Ліза ў сямнаццаць гадоў кінулася замуж і таксама за гарманіста. Гарманіста звалі Віктар, ён меў званне лейтэнанта і, пакуль служыў у арміі, паспеў павазіць Лізу па свеце: жыла ў Мурманску, у Сярэдняй Азіі, на Далёкім Усходзе.

Пакуль Ліза блукала з месца на месца, яе маці зляпіла хацінку. У самым цэнтры мястэчка, паблізу базару.

Праходзячы паўз гэтую хацінку, нават звонку пабеленую, Стасюлевіч заўсёды здзіўляўся з яе цацачных памераў. Бываў у цёткі ў гасцях: знутры хацінка вельмі ахайная, утульная, чыстая. І такой маленькай зусім не здаецца.

Тым часам з далёкіх вандраванняў вярнулася Ліза са сваім гарманістам і з трохгадовай дачкой Ларысай. Маладая сям’я пасялілася ў каробачцы-каморцы і некалькі гадоў у ёй жыла.

Гарманісты заўсёды ў цане, тым больш калі яны дэмабілізаваныя лейтэнанты. Віктара запрасілі на пасаду кіраўніка мастацкай самадзейнасці раённага Дома культуры, а ў хуткім часе ён стаў загадваць гэтым домам. Ліза ўладкавалася машыністкай у нарыхтоўчай канторы.

Цётка Мальвіна задумала новае будаўніцтва. Ёй выдзелілі месца пры самай чыгунцы, наўзбоч пасадак паласы адчужэння. Хутка цётка выбудавала новы дамок, які складаўся цяпер з двух малых пакоікаў. Дамок быў вельмі падобны на той першы, які стаяў ля базарнай плошчы і які цётка прадала, толькі прыкметна большы. Чыгуначныя пасадкі паразрасліся: разгалістыя клёны, таполі, акацыі прыгожа атулялі сядзібу.

І ў новай хаце Стасюлевіч быў у гасцях, не пераставаў здзіўляцца ўтульнасці, чысціні, парадку, які цётка Мальвіна ўмела ствараць, дзе б ні пасялілася. Але цяпер ён быў толькі госць, бо жыў і працаваў у Мінску, зрэдку наязджаючы ў

мястэчка, і акалічнасцей цётчынага, Лізінага жыцця не ведаў. Між тым радня Віктара не хваліць: самазакаханы, эгаістычны, драбнаваты ў пачуццях.

Маючы мужа-артыста, Ліза нямала адпакутавала. Да гарманістаў заўсёды ліпнуць дзяўчаты. Яе гарманіст быў яшчэ і начальнік. Каханак з ліку ўдзельніц самадзейнасці меў шмат. Нават заробак пачаў траціць на іх, не прыносячы дадому ні капейкі.

Кончылася тым, што Ліза развялася з мужам. Пражыла з ім гадоў дваццаць, мела амаль дарослую дачку — і развялася. Артыст тым часам як з ланцуга сарваўся. За адзін год памяняў дзве жонкі.

Цётка Мальвіна з дачкой і ўнучкай, каб уцячы ад сораму, які нечакана абрынуўся на яе немаладую галаву, перабралася ў горад, дзе займаў апошнюю пасаду і памёр у вайну яе муж-партызан. Ёй выдзелілі невялікую двухпакаёвую кватэру.

Але нібы пракляцце вісіць над нашчадкамі вясёлага Івана Зязюлі. Дачка Лізы Ларыса закахалася ў акардэаніста, які іграў у гарадскім парку, на эстрадзе, і, бадай, як маці і бабка, у няпоўныя васямнаццаць гадоў выйшла за яго замуж. Паспешлівы шлюб нічога добрага не даў. Нават паўгода не пажыла Ларыса са сваім рослым, дужым музыкантам. Дачку нарадзіла, калі муж з горада знік і яна наогул нічога не ведала аб яго месцазнаходжанні.

Дык вось цяпер у маленькай цётчынай кватэры жывуць тры адзінокія жанчыны. Смех і слёзы. Іменна па гэтай прычыне Стасюлевіч не вельмі прагнуў завітваць да цёткі Мальвіны. Тым часам усё абышлося як найлепш. Трагічным ці нават драматычным настроем не пахне ў сям’і, якой, нібы капітан караблём, камандуе цётка Мальвіна. Лад і дастатак у сям’і. Спакой і згода. Што болей трэба?

Стасюлевіч прывёз сякія-такія падарункі, пасядзелі за сталом, пагаварылі.

Ноч ён пераначаваў у цёткі Мальвіны, далей проста грэшна сцясняць сваякоў. Ім і без яго ў іх цеснай кватэрцы няма разгону.

## II

У гасцініцы, вядома, лепш. Даўно мінулі часы, калі, кудынебудзь прыехаўшы, Стасюлевіч ішоў не ў гасцініцу, а да знаёмага ці блізкага чалавека, заставаўся начаваць, лічачы гэта зусім натуральным. Цяпер так не робяць ні ён, ні блізкія і знаёмыя. Ірвуцца ніці сваяцтва, сяброўства...

Перабраўшыся ад цёткі Мальвіны ў гасцініцу, Стасюлевіч увесь дзень думаў пра яе сям'ю. Пра тое, што ёсць нешта застыгла-зацятае ў жанчын роду, да якога належыць ён сам. Цётка Мальвіна — родная бацькава сястра. Але і стрыечная яго сястра гэтак жа, як Мальвіна ў Зязюлю, закахалася ў курсанта шафёрскай школы, і калі бацькі замуж за курсанта не пусцілі, нарадзіла ад яго дачку і болей ні за кога не пайшла.

Зрэшты, мужчыны Стасюлевічавага роду таксама жонак не мянялі. З родных, стрыечных ягоных братоў ні ў аднаго падобнае не здарылася.

У перапынку паміж пасяджэннямі Стасюлевіч знайшоў Лізу, трохі пагаварыў. У яго з ёй, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, гаворка атрымліваецца шчырая.

— Не асуджай,— сказала Ліза з усмешкай, якая вельмі пасуе да яе далікатнага, усё яшчэ прывабнага твару.— Сабраліся ў хаце тры саламяныя ўдавы. Калі хочаш ведаць, ёсць у мяне паклоннік. Але спачатку пра Ларысу трэба падумаць.

— Як Віктар? — асцярожна пацікавіўся Стасюлевіч.

— Не пытай. Узяў сёмую жонку. З партыі выключылі, з работы прагналі. Жыве тым, што іграе на вяселлях. Іншы раз шкада яго. Дваццаць гадоў пражылі...

Канферэнцыя скончылася, і ў Стасюлевіча цэлы вольны дзень. Ад экскурсіі ён адмовіўся, пайшоў на раку. Высока ў небе свеціць сонца, залоціць шырокі, люстрана-сіні рачны плёс. Далёка праглядваюцца злёгку асмужаныя, застаўленыя бясконцымі стажкамі зарэчныя далі. Рака аж гудзе: купаюцца дзеці, дарослыя, носяцца, пакідаючы за сабой празрыстую баразну, маторкі, шматлікія аматары вяслуюць на звычайных лодках.

Стасюлевіч вырас у мястэчку, якое ракі не мае, усё жыццё зайздросціць жыхарам прырэчных паселішчаў. Здаецца, яны

адчуваюць, ведаюць нешта такое, чаго ніколі не адчуваў і не ведаў ён.

Перавесіўшы праз руку пінжак, зняўшы туфлі, шкарпэткі, Стасюлевіч ідзе да кустоў. Бераг тут стромы, увесь бачны абсяг, падступаючы да самай ракі, займае гарадскі парк, насаджаны яшчэ ў мінулым стагоддзі. Пясчаны схіл берага сям-там шчодра зарос кустамі лазы, сітняку, крушынніку.

Стасюлевіч прымасціўся ў кустах, разаслаў газету, падклаў пад голаў пінжак і, нават не зважаючы на шматгалосы гул пляжа, трохі прыдрамнуў. Прачнуўся, адчуўшы, што нехта валтузіцца побач.

Па другі бок лазовага куста распранаецца немалады, з сівой галавой чалавек. Яго можна прыняць за прыезджага, бо побач ляжыць на пяску вялікі, ёмісты, ушчэнт абшарпаны і пабіты чамадан. Штосьці ў постаці, рухах чалавека здаецца Стасюлевічу знаёмым, і, злавіўшы момант, калі чалавек паварочваецца да яго тварам, ён лёгка пазнае ў ім местачкоўца, кандуктара Сямёна Гуляша.

Вось, значыць, сустрэча. Кандуктар тым часам разуваецца, здымае вопратку, складваючы яе на пясок. Трусоў не мае — астаецца ў нагавіцах: даўно не мытыя, яны здаюцца шэрымі. Кандуктар падкасвае нагавіцы, адчыняе чамадан, дастае загорнуты ў газету кавалачак гаспадарчага мыла. Увайшоўшы па калені ў раку, пачынае мыцца. Націрае абмылкам азызлыя плечы, шыю...

Стасюлевіч адчувае: сустрэча не вельмі прыемная для абодвух, і разам з тым нельга нічога зрабіць. Сямён яшчэ не пазнаў яго. Калі ён падымецца, пойдзе прэч, то пазнае і пакрыўдзіцца. Зрэшты, будзе што будзе...

Стасюлевіч садзіцца, глядзіць у расчынены чамадан. У ім, мабыць, усё кандуктарава багацце. Вопратка, бялізна, нават харч. Як у лацінскай прымаўцы: усё сваё нашу з сабой... Тым часам Сямён глыбей уваходзіць у ваду. Сам ён памыўся, цяпер мые нагавіцы.

Зайшоўшы за куст, Сямён выціраецца ручніком, нацягвае чыстую бялізну, апранаецца і тады толькі пазнае Стасюлевіча.

— Здрастуй,— голас у Сямёна пявучы і як бы з нейкім клекатаннем.— Ты, здаецца, тут не жывеш. У камандзіроўку прыехаў?

— У камандзіроўку.

— У мяне, сам бачыш, врэменнае расстройства сямейнай жызні. Жыву пакуль адзін. Імею пенсію і службу. Памяшчаюся ў памяшчэнні кандуктарскага рэзерву. Служу ўборшчыкам пры етым самым памяшчэнні...

Аднойчы Стасюлевічу, не тут, у другім месцы, прыйшлося начаваць у памяшканні кандуктарскага рэзерву, вялікім, як стадола, з абшарпанымі сценкамі, груба збітымі, вышмараванымі да бляску нарамі, закіданай недакуркамі падлогай. Востра пахла ў тым памяшканні газай, мазутай, усю ноч прыходзілі і выходзілі людзі.

— Давай паабедаем,— гаворыць Сямён.— Мы з табой усё-такі землякі. Хоць рэдка відзімся. Якраз надвор'е харошае. У мяне бутылка піва ёсць. Стакана няма, але можна з рыльца...

Так, пра Сямёна можна гаварыць усё, не скажаш толькі, што ён благі чалавек. Ветлівы, памяркоўны, добразычлівы быў заўсёды. Маланкава ўзнік у памяці адзін даўні, прыкры для Стасюлевіча выпадак. Ён перабраўся ў Мінск, збіраўся абараняць дысертацыю, але загарэлася на месцы былой службы. Вобласці аб'ядноўваліся, і ў сувязі з induceратурбацыяй было выяўлена фінансавае злоўжыванне ў арганізацыі, якой Стасюлевіч дагэтуль кіраваў. Стасюлевіча справа непасрэдна не датычыла, але прозвішча яго называлася, і ён занепакоіўся. Самохаць прыехаў у гэты горад, увесь дзень даказваў недаверлівым рэвізорам сваю праўду, а калі вечарам прыбег на вакзал, цягнікі на Мінск і на мястэчка ўжо адышлі.

На пероне Стасюлевіч напаткаў Сямёна. Ён быў у чыгуначным гарнітуры, з ліхтаром у руках.

— Чаго бегаеш, непакоішся? — спытаў у Стасюлевіча.— Ад поезда адстаў. Такой бяды. Пойдзем да мяне начаваць...

Да раніцы цягнікоў не прадбачылася, і Стасюлевіч пайшоў з Сямёнам у яго службовую, цесную кватэрку. Хоць начаваць там не застаўся — вярнуўся на вакзал. Вельмі ўжо няветліва яго сустрэла Сямёнава жонка — трэцяя ці чацвёртая па ліку. Нават мацюкацца пачала пры госцю.

Ад абеду Стасюлевіч адмаўляецца. Дзякуе Сямёну, збіраецца адыходзіць, і раптам ягоны позірк запыняецца на бутэльцы, якую выняў з чамадана Сямён. Яна заткнута папяровай затычкай, і піва ў ёй толькі палавіна.

— Дзядзька Сямён,— гаворыць Стасюлевіч,— вы адну рэч забылі. Памятаеце, я ад поезда адстаў. Быў у вас у доме. У мяне на білет не хапала, і вы далі мне грошай.

Сямён на імгненне задумваецца.

— Не даваў я табе грошай.

— Давалі. Вы проста забылі. Мне не многа трэба было, але за тую пазыку хачу аддаць з працэнтамі. Вось, калі ласка...

Стасюлевіч похапкам усоўвае ў кішэньку засаленага Сямёнавага пінжака некалькі грашовых паперак.

На вочы кандуктара набягае здрадлівая слязіна.

— Спасіба. Калі будзеш, прыходзь. У кандуктарскі рэзерв. Там мяне знойдзеш.

Стасюлевіч ідзе берагам ракі і думае пра Сямёна. Кандуктар жыў хат за шэсць ад іхняга двара, і ён ведаў пра яго ўсё. Тым болей што побач з яго прыземістай, з двума невялікімі акенцамі хаткай размяшчаўся крыты чарапіцай дом яго найлепшага сябра, у якім Стасюлевіч дняваў і начаваў.

Сямён быў ціхі, бяскрыўдны, ніколі не сварыўся з суседзямі. Наогул быў у добрай згодзе з усім светам. Раз у дватры дні з чыгуначным ліхтаром у руках шыбаваў зарослым гарбузнікам агародам на станцыю.

Першую жонку Сямёна звалі Сцепанідай. Была яна вельмі працавітая, гаспадарлівая, пры хатцы на курынай ножцы здолела, наняўшы мужчын, скідаць хляўчук, у якім рохкала свінчо і нават стаяла карова.

За Сямёнам не было грахоў, апрача некаторага лайдацтва і жадання пусціць пыл у вочы наконт уласнай асобы. Быў ён сынам бабылкі, атрымаў ад маці хатку на курынай ножцы. Можа, таму стараўся выхваляцца, чыста апранацца, нават на службу хадзіў у святочным чыгуначным касцюме.

— Вот паабедаў у сталоўцы,— гаварыў мужчынам Сямён.— З'еў суп-пюрэ, катлет і мясны гуляш...

За такую пахвальбу і празвалі — Сямён Гуляш.

Гады за чатыры да вайны Сямён развёўся са Сцепанідай, адразу прывёўшы ў сваю нізенькую хатку тоўстую, крыклівую ўкраінку. Вуліца не асудзіла Сямёна: з першай жонкай у яго не было дзяцей.

Сцепаніда вярнулася ў станцыйны пасёлак, размешчаны вёрст за восем ад мястэчка. Стасюлевічу, калі ён быў яшчэ

падлеткам, аднойчы прыйшлося трапіць у пасёлак, і ён пайшоў начаваць да Сцепаніды. Яна яго накарміла, паслала пасцель, але ні словам не спытала пра Сямёна.

Украінка між тым адно за другім нарадзіла аж трое дзяцей. У адрозненне ад працавітай, скупой на словы Сцепаніды, была ленаватая: сядзела на парозе, скубла пер'е, крычала на дзяцей ці лаялася з суседкамі...

У пачатку вайны Сямён, разам з другімі чыгуначнікамі, эвакуіраваўся на ўсход. Усю акупацыю ўкраінка адна бічкавалася, каб як-небудзь пракарміць дзяцей.

Вуліца жахнулася, калі стала вядома, што Сямён на вайне не загінуў, наадварот, ажаніўся і жыве цяпер з новай жонкай у вузлавым чыгуначным горадзе.

Толькі тады вуліца пачала ўспамінаць гісторыю: маці прыжыла Сямёна невядома з кім, бацькі хлопец не памятае, не ведае, таму хаваецца ад уласных дзяцей.

Сямён сапраўды хаваўся. Пакінуў і трэцюю жонку...

Стасюлевіч вяртаўся ў гасцініцу, разважаючы пра Сямёна, пра Лізінага гарманіста, свайго нядаўняга сваяка. Ён не асуджае ні таго, ні другога. Тым часам зразумець іх таксама не можа.

*1984*

# 1985

## ГОД КАРАСЯ

У часіну, калі Мікалай Іванавіч у добрым настроі, калі не точаць душу клопаты, сумненні, згрызоты, ён з прыемнасцю ўспамінае год карася. Чаму карася, якога карася? Мікалай Іванавіч чуў ці чытаў, што па японскім ці нейкім іншым усходнім календары існуюць гады Свінні, Сабакі, Змяі. Магчыма, ёсць год Рыбы, а значыць, у нейкай меры і карася.

Але справа не ва ўсходнім календары. У жыцці самога Мікалая Іванавіча, праўдзівей, ягонай сям'і быў год карася, і гэты шчаслівы год надоўга запомніўся.

Дзеці Мікалая Іванавіча параслі, паканчалі інстытуты, звілі ўласныя гнёзды, а ў той памятны год былі дробныя, як мак: старэйшаму сыну пяць гадоў, дачцэ — чатыры і самай малодшай дзяўчынцы — два з палавінай. Калі жонка купала дзяцей, то ўсіх траіх разам: садзіла ў ванну і пакуль мыліла іх, яны капрызнічалі, плакалі, а потым доўга плёскаліся, вішчалі ад задавальнення, не хочучы вылазіць з прыемнай цёплай вады.

Мікалай Іванавіч з жонкай з раніцы кіравалі на работу. Пра яслі ў той час думаць не выпадала, і невядома, як было б з дзецьмі, каб лёс не паслаў ім Мальвіну Станіславаўну, жончыну цётку.

Мальвіна Станіславаўна маленькая, кволая з выгляду, мела больш як восемдзесят гадоў, але была яшчэ досыць рухавая, жвавая і, жывучы ў адзіноце, ахвотна згадзілася няньчыць

дзяцей пляменніцы. Была яна на дзіва мяккая, далікатная, і хоць сама не мела дзяцей, нянькай аказалася выдатнай.

Жонка кожны дзень траціла пятнаццаць капеек, купляючы дзецям тры сшыткі для малявання. Раніцай яна похапкам мыла, прычэсвала, апранала, карміла дзяцей, гатавала ім абед, бегла на работу, і дзеці да самага вечара траплялі пад уладу Мальвіны Станіславаўны.

Маючы сшыткі і каляровыя алоўкі, дзеці клаліся жыватамі на падлогу і пачыналі маляваць. Малявалі ўсё, што хацелі: дрэвы, будынкі, паравозы, самалёты, ільвоў, сланоў, мядзведзяў. Потым падносілі свае малюнкі Мальвіне Станіславаўне. Яна нязменна ўсё намаляванае ўхваляла і пад кожным малюнкам ставіла адзнаку «пяць». Ніжэй пяцёркі яе ацэнкі ніколі не спускаліся.

Потым пачынаўся час казак. Вялікай граматай Мальвіна Станіславаўна не валодала, але выдрукаваныя вялікімі літарамі дзіцячыя кніжкі чытаць умела. З захопленымі позіркамі, раскрытымі ратамі слухалі дзеці казкі пра ваўкоў, мядзведзяў, лісіц, ільвоў, волатаў-асілкаў і іншых цудадзейных асоб.

Калі дзеці пачыналі капрызнічаць, не слухацца, цётка палохала іх ільвамі, ваўкамі. У кватэры іншы раз самі па сабе з рэзкім, непрыемным гудам дрыжалі жалезныя трубы, і Мальвіна Станіславаўна тлумачыла нечаканы гуд тым, што гэта злуецца воўк або леў. Бадай да самай школьнай пары дзеці верылі, што ў туалеце, іншых цёмных закутках кватэры хаваюцца злосныя, лютыя звяры.

Чытанне кніжак кончылася тым, што сын на шостым годзе, сярэдняя дачка на пятым, а самая малодшая нават у чатыры гады з дапамогай Мальвіны Станіславаўны разгадалі механіку літар, складоў і самі пачалі пакрысе чытаць. Яшчэ праз год кожнае з дзяцей грызла грамату як рэпу, дзе-небудзь стаіўшыся, чытала кніжку, якая найбольш падабалася.

Ранняе чытанне мела і адваротны, нават адмоўны бок. Сын пайшоў у школу, прыносіў адтуль звесткі, якія не мог пачуць ад Мальвіны Станіславаўны, але абмяркоўваў іх разам з ёй і малодшымі сёстрамі.

— Ты, цётка, помніш татара-мангольскае нашэсце? — дапытваўся ён.

— Помню. Няхай на іх ліха, на тых татараў. Касавокія, крываногія, злосныя. Агароды за горадам заворвалі. Не даступіцца было за імі на базар. Проста завальвалі базар агуркамі, памідорамі...

— Напалеона помніш? — працягваў прыставаць сын.

— Таго лупатага, васпаватага? Што каля Казадоіхі дом меў? Няхай на яго немач. Гад быў несусветны. Жонку яшчэ маладую ў магілу загнаў, дзяцей голых і босых па свету пусціў.

— Можа, ты і Гітлера бачыла?

— Няхай ён не дадждэ, той Гітлер. Столькі людзей панішчыў, гарадоў папаліў. Не бачыла яго, таго гада. Каб бачыла, сваімі б рукамі задушыла...

Дзеці падрасталі, іх ужо не маглі задаволіць толькі казкі пра дзівосных звяроў, птушак. Яны патрабавалі цікавых гісторый, якія адбываліся з самімі людзьмі. Мальвіна Станіславаўна нязменна расказвала пра свайго мужа. Ён быў фельчар і, як яна гаварыла, мог лячыць ад усіх хвароб, выратаваў ад немінучай смерці сотні і сотні людзей. Фельчар пабудаваў дом на тры пакоі, пакрыў яго бляхай, пасадзіў сад. Гэта быў нібы райскі сад, і чаго толькі ў ім не было: яблыкі, грушы, вішні, агрэст, парэчкі.

Успамінала цётка і згрызоты, якія выпалі ёй у жыцці. У тысяча дзевяцьсотым годзе — яна дакладна памятала дзень і месяц — у Чарнігаве на вакзале ў яе ўкралі чамадан з яшчэ дзявочымі ўборамі, у шаснаццатым годзе зладзеі знялі з пальца залаты шлюбны пярсцёнак, які падараваў муж, а зусім нядаўна, калі знеслі яе драўляны дамок і яна перабіралася ў выдзеленую ёй аднапакаёвую кватэру, грузчыкі, пераносячы, пашкодзілі камод, які муж купіў яшчэ ў дзевяцьсот восьмым годзе.

Аднойчы дзеці да слёз пакрыўдзілі Мальвіну Станіславаўну. Наслухаўшыся яе гісторый, якія, на іх думку, судакраналіся з сівой старажытнасцю, яны, перагаварыўшыся між сабой, заявілі:

— Мы, цётка, нарадзіліся ад мамы і таты, а ты — ад малпы. Бо ўсе першыя людзі паходзяць ад малпы...

Дні тры Мальвіна Станіславаўна нават не прыходзіла няньчыць дзяцей, але потым сэрца яе адлягло. Што возьмеш з малых, неразумных дзяцей?

Гісторыя з карасём адбылася ў той самы год, калі дзеці гэтак моцна пакрыўдзілі цётку. Жонка прынесла рыбы, пачала яе чысціць, і дзеці раптам заўважылі, што адзін вялікі, тоўсты карась раз-пораз раздзімае жабры і б’е хвастом. Калі зазваніў тэлефон і маці адышлася, загаварылася з сяброўкай, дзеці налілі ў ванну вады і пераклалі туды карася. Ён адразу аджыў, пачаў насіцца па ванне як апантаны. Жывога карася, вясёлага, бадзёрага, хоць ён важыў ледзь не паўкілаграма, дзеці пад нож не аддалі. Гэта супярэчыла іх уяўленню пра дабро і справядлівасць.

Дзеці спрабавалі падкормліваць карася хлебнымі крошкамі, але харчу ён не браў і ўсю ноч і палавіну наступнага дня насіўся па ванне. Было вырашана занесці карася ў раку.

Трэба было бачыць гэтае шэсце! Наперадзе ішоў Мікалай Іванавіч, за ім важна, з усведамленнем высокай місіі, ускладзенай на яго, крочыў сын, які нёс у вядзерцы з вадой абамлелага карася, і ззаду, пабраўшыся за рукі, з заплеценымі ў косы бантамі, падскоквалі дзяўчынкі.

Калі карася кінулі ў раку, ён хвіліну ці дзве стаяў на паверхні, відаць, не разумеючы, што з ім адбываецца, потым уздрыгнуў, вільнуў хвастом, нырнуў углыбіню і знік з вачэй...

Дамоў дзеці ішлі вясёлыя, радасныя. Яны падаравалі жыццё такому выдатнаму карасю і ад гэтага радаваліся.

Калі Мікалай Іванавіч успамінае той, па сутнасці, звычайны, радавы выпадак, міжволі паўстае вобраз Мальвіны Станіслаўны, якой ужо няма на свеце. Бо была яна не толькі нянькай, але і добрай настаўніцай ягоных дзяцей. Дзеці ў школе добра вучыліся, не хуліганілі, не мелі прыводаў у міліцыю і, зрэшты, знайшлі належнае месца ў жыцці.

*1985*

## МІША ДУДЗІК І САБАКА РУДЗІК

Рашэнне навучыць Рудзіка чытаць прыйшло Мішу ў галаву перад выхадным, калі ён ішоў са школы, а сабака, як звычайна, чакаў яго на пясчаным пагорку пад бярозай. Які разумны сабака! Здаецца, ён умее ўгадваць самыя патаемныя

Мішавы думкі і жаданні. Раніцай Рудзік праводзіць Мішу да школы, але ў школьны двор не забягае — чужыя хлопцы валтузяцца з ім, дражняць. Сабака спыняецца пад бярозай, сядзіць, чакае, пакуль Міша не знікне з поля зроку, потым абнюхвае зямлю і, загнуўшы хвост абаранкам, бяжыць дадому.

К таму часу, калі ў школе заканчваюцца ўрокі, Рудзік зноў прыбягае пад бярозу. Бывае, Міша затрымаецца ў школе, мяняе ў бібліятэцы кнігу ці яшчэ якая справа набяжыць, але Рудзік усё адно яго чакае. Хоць цэлую гадзіну ці нават дзве.

Цяпер Міша нясе ў сумцы кнігу пра птушак і звяроў, якую ўзяў у школьнай бібліятэцы. Ён загадзя смакуе, як накінецца на яе пасля таго, як зробіць арыфметыку, чыстапісанне, прынясе ў хату дроў і нальe ў балею вады карове.

Ён трохі ведае, пра што пішацца ў гэтай кнізе, бо настаўніца чытала ўрыўкі з яе на ўроках. Цікава там расказваецца пра саву, якая палюе ноччу, бо ўсё добра бачыць у цемені, ваўка, які жарэ мяса, а потым адрыгвае яго са страўніка, каб накарміць сваіх ваўчанят. Міша вельмі любіць чытаць пра птушак і звяроў.

Міша бачыў шмат якіх птушак, звяроў на свае вочы. Шпакоў, драздоў, сіваваронак, усялякіх дробных птахаў колькі хочаш у навакольным лесе. Не раз ён падымаў з логвішчаў зайцоў, мінулай восенню, калі хадзіў па грыбы, яму перабегла дарогу шустрая, рудая, як агонь, лісіца.

Але ўсё гэта дробязь у параўнанні з тым, якіх звяроў ён пабачыў у цырку. Нядаўна, едучы ў Мінск, бацька ўзяў з сабой Мішу і завёў яго ў цырк. Якіх дзівосных жывёл там толькі не было! Сланы, вучоныя мядзведзі, малпы...

Калі цяпер вось Міша ўспомніў малпу, якраз і ўзнікла жаданне навучыць Рудзіка чытаць. Што малпа! Валасатая, падлобістая, няўклюдная. На яе нават брыдка глядзець. Скакала з шаста на шост, вісела на хвасце, ела цукеркі, здымаючы з іх валасатымі крывымі лапамі папяровую абгортку. Розуму на гэта багата не трэба.

Малпу нават параўнаць нельга з прыгожым Рудзікам, у якога такія разумныя вочы, і які ўсё разумее з паўслова. Ён павінен навучыцца чытаць. Можа, нават пачне расказваць вычытаныя гісторыі другім сабакам і яны таксама паразумнеюць. А то,

седзячы на ланцугу, толькі брэшуць, а каторы з ланцуга сарвецца, то часам пакусае чалавека, нібы дзікі воўк.

Міша вучыцца ў другім класе і ўмее добра чытаць. Ён можа пералічыць літары з пачатку да канца і нават у адваротным парадку. Літар не так шмат, яны адпавядаюць гукам, з якіх складаюцца словы чалавечай мовы.

— Гаў-гаў! — весела прывітаў Мішу Рудзік, які да гэтага маўкліва сядзеў пад бярозай, і завіляў сваім хвастом-абаранкам.

«У сабачай мове таксама ёсць гукі,— думае Міша.— Узяць хоць бы гэтае «гаў-гаў». «Г» і «ў» кароткае чуюцца выразна. Калі Рудзік злуецца, гурчыць ці вые, то і «р» выразна вымаўляе».

Не, чытаць Рудзік абавязкова навучыцца. Ён жа разумее Мішу з паўслова. Варта паклікаць на рэчку лавіць таптухай акунькоў ці на луг, дзе Міша ставіць драцяныя пасткі ў норах кратоў, то ён проста шалее ад радасці.

Зрабіўшы ўрокі і што трэба па гаспадарцы, Міша не стаў вучыць Рудзіка чытаць. Заўтра выхадны, яны пойдуць на рэчку. Там у кустах ёсць адно вельмі ўтульнае месца, куды Міша прыходзіць іншы раз з кніжкай. Там будзе Рудзікава школа.

Назаўтра Міша паклікаў Рудзіка з сабой. Сабака, не таячыся, выказваў удзячнасць свайму маломе гаспадару. Скакаў, клаў пярэднія лапы яму на грудзі, стараўся лізнуць чырвоным языком нос ці шчаку, бегаў уперад-назад, вішчучы ад радасці.

Нарэшце прыйшлі ў кусты. Міша сеў на грудок і разгарнуў кнігу. Рудзік, віляючы хвастом, абнюхаў тым часам краціныя норы, якія былі паблізу, перавярнуў лапай жука-гнаевіка, стаў ганяцца за матылькамі. Ён яўна не разумеў, навошта Міша прывёў яго сюды.

Пачытаўшы з гадзіну пра птушак і жывёл, Міша адклаў кнігу і задумаўся. З якога слова пачаць вучыць Рудзіка грамаце? Яны, першакласнікі, складалі з літар першыя словы «мама», «тата», «дом». Але Рудзік, відаць, гэтых слоў не разумее. Наўрад ці памятае ён, хто быў яго бацька, маці, і жыве ён не ў хаце, а ў невялікай драўлянай будцы.

Нарэшце Мішу прыйшла шчаслівая здагадка. Ён узяў аркушык паперы, як умеў, намаляваў сабаку, а пад малюнкам па складах напісаў: «Ру-дзік». Потым падазваў свайго сябра і паказаў на малюнак.

— Ру-дзік! — гучна, па складах вымавіў Міша.

— Гаў-гаў-гаў! — весела забрахаў Рудзік, завіляў хвастом, не звяртаючы ніякай увагі на Мішаў малюнак.

Міша паўтарыў практыкаванне. Рудзік панюхаў малюнак, лізнуў яго і без ніякай цікавасці адвярнуўся. Ён яўна не разумеў, што Міша ад яго хоча.

Міша парашыў болей сабаку не мучыць. На сённяшні дзень хопіць. Не так проста скласці сабачую граматыку. Ён яшчэ падумае, якія для Рудзіка намаляваць малюнкі, якія напісаць словы, каб сабака зразумеў.

Быў цёплы верасеньскі дзень. Над рэчкай, над шырокай лугавінай з вясёлым піскам насіліся дразды. Перад адлётам яны жыравалі, набіраліся сіл.

Міша і Рудзік наперагонкі бегалі па лузе. Міша кідаў шапку, Рудзік браў яе ў зубы і зараз жа прыносіў. Ён па-ранейшаму да кропелькі разумеў усе Мішавы думкі, жаданні, і таму не магло быць, каб не навучыўся чытаць.

*1985*

# 1986

## ЯКАЯ ДОЎГАЯ ВАЙНА

### I

Халодныя, нудныя дажджы летняй парой. Ірваныя шэрыя воблакі плывуць над зямлёй, сеючы то кароткія імклівыя ліўні, то зацяжную абрыдлую імжу. Азяркі вады стаяць на забалочанай лугавіне, на агародах, што нізамі выходзяць да ўзбалотка. На асушаным балоце туман распаўзаецца толькі апаўдня.

Касавіца пачалася позна. Жніво цягнулася аж да пачатку восені. Рэдка выплывала сонца, і ў такі дзень работнікі кідалі майстэрню, прыгнаныя на двор камбайны, трактары, беглі сушыць сена. Ад шчыльна прыбітых дажджом, прарослых травой пластоў, калі іх пераварочвалі, нібы ішоў дым. Сена папрэла, пачарнела.

Нарыхтавалі кармоў мала. З грахом папалам зжалі, змалацілі збэрсаную, пакручаную збажыну, палавіна якой асыпалася, нават паспела прарасці.

Толькі ў сярэдзіне кастрычніка Павел Дубавец выбраўся ў горад да сына.

За саўгаснымі майстэрнямі — прастор пясчанай няўдобіцы. Павел памятае пяскі шэрымі, пустымі, з купінамі-бародкамі высахлага ціпцу, рэдкімі кусцікамі чырванаватага ракітніку.

Знайшлася разумная галава, прыслала на пяскі школьнікаў, якія засадзілі выспы жаўтапёсу малымі, з палец велічынёй,

сасонкамі. І вось зазелянела шэрая няўдобіца маладым барком, у якім усё як трэба: расцвіў верасок, па прагалах папоўз наздраваты срабрысты мох-лішайнік, пачалі вытырквацца маслякі, зялёнкі, а часам нават меднагаловыя, з моцнай крамяной ножкай баравікі.

З нядобрым настроем едзе Павел у горад. З-за сына. У сына зноў нелады з жонкай. Баламутны сын многа папсаваў крыві Паўлу і працягвае псаваць. Кааператыўную кватэру, выбудаваную за бацькавы грошы, пакінуў чужой жанчыне, якая ўжо была замужам, сам жыве ў інтэрнаце. Мае за плячамі трыццаць гадоў, тым часам паводзіць сябе як блазнюк.

З-за сына Павел выехаў з мястэчка. З горам папалам скончыўшы школу, сын не здолеў нікуды паступіць. Сядзеў на бацькавай шыі, буяніў, бясконца трапляў у міліцыю. Замуж за яго не пайшла б ніводная дзяўчына.

Вось чаму Павел з мястэчка перавёўся ў «балотны» саўгас, уладкаваўшы сына ў Саснагорску, размешчаным за сорак кіламетраў. Каб час ад часу назіраць за сынам. На адно спадзяваўся: у горадзе хлопца не ведаюць і, можа, яму ўдасца выправіцца.

Усе рвуцца ў горад. Ад зямлі, травы, зялёных дрэў і кустоў на каменныя праспекты. Павел ніколі не хацеў пакідаць мястэчка, перабірацца ў горад. Ён не любіць скараспелых гараджан, якія, прыязджаючы да сваякоў, пагардліва, звысака пазіраюць на тых, хто застаўся на зямлі.

На ўсім працягу ад саўгаса да Саснагорска з расквечаных колерамі восені гайкоў, пералескаў, з зялёных сасоннікаў выходзяць грыбнікі. Іх кошыкі, вёдры, сумкі даверху поўныя зялёнак, апенек, чорных груздоў. У найбольш хваткіх, змыслых вяскоўцаў паўзверх казлякоў нават па некалькі баравічкоў красуецца.

На адхоне шашы жанкі, дзяўчаты перабіраюць грыбы. Востры грыбны пах змешваецца з пахам бензіну, мазуты, саляркі, што ўстойліва вісіць над шашой.

Дзіўны гэты Саснагорск. Вырас у недалёкія пасляваенныя гады сярод пяскоў і балот. Прыйшлі людзі, паставілі на беразе ракі некалькі драўляных будачак, пачалі карчаваць зараслае куп’ем, чэзлым хвайняком, бярэзнікам балота, рыхтуючы пляцоўку для электрастанцыі. Вялікая раённая

электрастанцыя, пра якую пісалі нават у цэнтральных газетах, мусіла працаваць на мясцовым торфе. Праз два-тры гады на пясчанай выспе паўсталі трох- і чатырохпавярховыя камяніцы, карпусы хімічнага завода, праляглі вуліцы.

Горад жыве, разбудоўваецца, прыцягваючы на свае абсягі шматлікіх людзей, якія, пасяліўшыся ў каменных дамах, ужо ў якасці шэфаў прыязджаюць у навакольныя калгасы, саўгасы, памагаюць касіць сена, нарыхтоўваць сілас, сянаж, капаць бульбу.

Грымучы, расхлістаны рэйсавы аўтобусік нарэшце прывёз Паўла ў Саснагорск.

У вестыбюлі інтэрната захутаная ў старамодны шэры шаль вахцёрка, не зазіраючы ў досыць пашкамутаную дамавую кнігу, якая ляжыць перад ёй, заяўляе, што яго сын у інтэрнаце не жыве.

— Як не жыве? — збянтэжана перапытвае Павел.

— Вярнуўся да жонкі. Праз тыдзень, як пасварыцца, зноў сюды прыйдзе…

Жанчына здымае з электрычнай пліткі чайнік, налівае ў белы кубачак кіпеню. У яе вытанчаны, далікатны, толькі вельмі змізарнелы твар. Доўгі тонкі носік на ім нібы дзюба ў птушкі. Нялёгка, відаць, прыходзіцца кабецінцы.

Збіраючыся адыходзіць, Павел бярэ ў руку чамадан.

— Пабудзьце тут,— раптам гаворыць жанчынка прыкметна паласкавелым голасам.— Невядома, як там у вашага сына. Ён у інтэрнаце кожны вечар з'яўляецца.

Вахцёрка адчыняе адну са шматлікіх шуфлядак стала, знаходзіць патрэбны ключ, аддае Паўлу.

Дзякуючы ў думках вахцёрцы, Павел валачэ на трэці паверх чамадан. Усё-такі спагадлівая душа. Другая б не пусціла.

Інтэрнат як інтэрнат. У доўгім напаўцёмным калідоры застойны тытунёвы дух, гараць электрычныя лямпачкі. Павел адмыкае дзверы ў вузкі пакоік, сярод трох ложкаў адразу знаходзячы ложак сына. Толькі яго Віталь можа вось так нядбайна, споднім бокам рудаватай заплямленай коўдры заслаць пасцель, кінуць на спінку ложка ўшчэнт парваны, пашкамутаны світар. Гэты світар Павел купіў сыну ў мінулым годзе, калі прыязджаў у Саснагорск да доктара.

Павел, не распранаючыся, кладзецца на ложак. Зняможаны дарогай, невясёлымі думкамі пра сына, неўпрыкмет засынае. Спіць гадзіну ці дзве, прачынаецца, адчуваючы, што ў пакоі нехта ёсць.

Кароткі дзень скончыўся. У вокны глядзіць сіні асенні вечар. На суседнім ложку, стараючыся не зварухнуцца, нехта сядзіць.

Адчуўшы, што госць прачнуўся, незнаёмец падхопліваецца, сігае да дзвярэй, пстрыкае ўключальнікам.

Павел бачыць высокага танклявага хлапчыну, па-спартыўнаму апранутага: жакетка з «маланкай», вузкія шчыгульныя штаны. Чарнявы, досыць прыемны твар хлопца падаецца Паўлу знаёмым. Ён толькі не можа ўспомніць, дзе і калі бачыў гэты твар.

— Валерый Нагібовіч,— называе сябе спартсмен.— Друг вашага сына. Вы павінны ведаць майго бацьку. Ён з таго, што вы, мястэчка…

З хвіліну ці дзве Павел не можа апамятацца. Нібы з яснага неба грымнуў гром. Стараючыся не паказваць хвалявання, разглядвае маладога Нагібовіча. Ад бацькі ён узяў, бадай, толькі смуглявасць. Усё астатняе ад маці, праўдзівей, ад матчынага бацькі, свайго дзеда, ненавіснага, забытага ўсімі Вальдэмара Кабылая, якога Павел, аднак, не забудзе да скону. Такі ж, як у Кабылая, прыгожы твар, высокі рост, танклявы стан, шырокія плечы.

Павел не ведае, што гаварыць. Ён, відаць, выдаў бы сябе, каб у гэтую хвіліну не заскочыў у пакоік Віталь. Высокі, белабрысы, спакойна-насмешлівы сын, нібы нічога не здарылася, падаў бацьку руку, абыякава спытаў пра маці і, падхапіўшы чамадан, павёў бацьку на кватэру.

Палавіну ночы Павел не спіць. Сын ажаніўся з жанчынай, якая была замужам, развялася, пахавала малога сына. Цяпер, як падалося, ходзіць дзіцем, нават на апошніх месяцах, і, значыць, ён, Павел, хутка будзе дзедам.

Ад гэтай думкі радасна. Займеўшы сына ці дачку, мусіць аціхнуць ягоны баламут. Стане думаць, як зарабіць грошай, прынесці дадому, пракарміць, апрануць дзіцё.

Заўтра ён пагаворыць з Віталем. Сёе-тое яму скажа. Нельга сварыцца з жонкай, тым болей калі яна ў такім далікатным становішчы.

Уцякаць ад жонкі — наогул агіднасць.

У тым, што да сына прыйшла бяда, вінават і ён, бацька. Была ў ягоным жыцці паласа, пра якую не хочацца ўспамінаць. Не здагадваецца чалавек, што трэба плаціць за кожны няpraведны крок. Часам вельмі дарагую цану…

Нявестка Паўлу падабаецца. Маўклівая, мяккая, інтэлігентная. Чымсьці яна нагадвае міласэрную вахцёрку з інтэрната. Відаць, як і той, нясоладка жылося.

Раз-пораз ён ловіць сябе на адчуванні, што завяршаецца круг, звязаны з выездам з мястэчка, пярэбарамі ў саўгас, у незнаёмыя, чужыя мясціны, да якіх ён так і не прывык.

Нечакана Павел рашае, што настаў час наведаць мястэчка. Ён заўсёды з радасцю ўспамінае бацькаву хату, чыгунку, абсягі тарфянікаў, што падступаюць да самай іхняй сядзібы. Сын хутка стане бацькам. Сам ён дасягнуў пенсійнага ўзросту і можа цяпер перабрацца назад у мястэчка. Адтуль цяжэй ездзіць у Саснагорск, але часу ў пенсіянера хопіць.

## II

Дажджы ідуць, але трохі пацяплела. Нізкае сонца ўстае ў суцэльным тумане, але праз гадзіну-дзве, узняўшыся над небакраем, паступова туман разганяе. Зелянее атава, на выпетраных былках бліштчыць раса. Падае з дрэў намоклае важкае лісце, пластом кладучыся на вільготную траву.

Вакол вёсак, праз якія Павел праязджае, па ржышчы, паплавах пасвяцца каровы. У тутэйшых нізкіх мясцінах заўсёды трымалі многа кароў: травы хапае. Але людзей, каб самім справіцца з работай, не хапае даўно. На бульбяных палях стракацяць сінія, жоўтыя, чырвоныя капронавыя курткі: капаюць бульбу гараджане і студэнты.

Прыехаўшы ў мястэчка, Павел толькі забег у старую бацькаву хату, у якой адзінока жыве аўдавелая сястра, пакінуў сумку з харчамі, трохі з сястрой пагаварыў і рушыў на вуліцу.

Стары ён чалавек і ўсё часцей прыхворвае. У маладосці не баяўся далёкай дарогі, цяпер баіцца блізкай. Вось і ў мястэчку не быў тры гады. З узрушана-чуллівым настроем ходзіць цяпер па вуліцы, глядзіць на новыя будынкі, якія з'явіліся без яго, і на старыя, знаёмыя, што яшчэ больш змізарнелі, на гонтавых дахах пакрыліся зялёным мохам,ураслі ў зямлю.

У мястэчку Павел нарадзіўся, вырас, пражыў большую частку жыцця і, нават перабраўшыся ў саўгас, заскокваў часта. Але тады патрэба была: прыязджаў па запчасткі, машыны прыганяў у рамонт, маці з бацькам жылі на свеце.

Раён ліквідавалі, памерла маці, затым бацька. Паўлу трэба было ездзіць у другі раён, па іншай дарозе, якая бліжэй да Саснагорска, чым да старога мястэчка.

Дрэмле мястэчка пад асеннім нізкім небам. Вуліца Чангарскай дывізіі, на якой стаіць бацькава хата, закіданая і запушчаная. Па ёй мала хто ездзіць і ходзіць. Аднак вуліца па-ранейшаму гулкая, бо размешчана насупраць чыгуначнай станцыі. Цяпер нават больш гулу. Раней слухала вуліца толькі гудкі, чуханне манеўровых паравозаў, жалезны ляскат бufераў. Цяпер да гэтага дабавіліся зычныя каманды дзяжурнага па станцыі стрэлачнікам, счэпшчыкам, саставіцелям паяздоў, ці як іх там цяпер называюць, якія перадаюцца па гучнагаварыцелі.

Высока ўзмахнулі раскіданымі шатрамі вершалін таполі, пасаджаныя ля чыгункі, па мяжы агародаў. Тапаліным лісцем засыпаны выбітыя машынамі гразкія каляіны, лужыны, канавы.

Стары чалавек Павел, і, бадай, усё яго цяперашняе жыццё ва ўспамінах. Бацька не любіў гулу чыгункі, паравозных гудкоў, таму хату паставіў у глыбіні двара, на самым узмежку з балотам. З вуліцы да хаты вядуць вузкія — абы праехаць возам — сутачкі. Ад блізкасці балота былі выгоды і невыгоды. Сена, праўдзівей, калючай асакі Дубаўцы накошвалі, колькі хацелі. Па грудзі правальваючыся ў здрадлівай дрыгве, выносілі рудыя копкі на бераг, фактычна на свой агарод. Зімой ператрасалі асаку з мурожным паплаўным сенам, і каровы ў ахвоту елі.

Вясной і на пачатку лета, асабліва ў млосную гарачыню, камары густой сеткай мітусіліся ў паветры. Здавалася, трасецца перад вачамі шэра-цёмная пацяруха. Гэта было як насланнё. Усе, хто жыў пры балоце, не ведалі, як ратавацца ад заедзі.

З балотам звязаны ў Паўла і добрыя ўспаміны. Ён быў рухавы, шустры, у зімовую пару, калі толькі-толькі замярзала балота, гадзіны не мог выседзець дома. Прымацаваўшы да

лапцей канькі-дзеравяшкі, выбягаў на лёд. Бясконца, на многія кіламетры цягнуўся заліты асенняй вадой замёрзлы прастор. Паўзверх лёду вытыркалася вярхоўе розных балотных дудак, зараслі трыснягу, чароту з чорнымі катамі на выпетраным цыб'і, грыўкі рудой асакі. Трыснягі Павел абмінаў, усё астатняе не перашкаджала навыперадкі з ветрам ляцець па звонкім лёдзе.

Павел яшчэ захапіў аднаасобнага жыцця. Вадзіў з хлопцамі коней у начное, памагаў бацьку грэбці, зносіць у копы сена, няньчыў малую Маню. Апошняе ён не вельмі любіў. Асабліва ў жніўную пару. На полі на шастах-таганах падвязвалася калыска, таганы пакрываліся посцілкай, і ў гэтым зацененым шатры, на свежым паветры, сястра магла соладка спаць. Аднак не спала. Варта было Паўлу перастаць гойдаць калыску, на хвіліну-другую адвінуцца, як Маня прачыналася і пачынала плакаць. Маці ў такія хвіліны пераставала махаць сярпом, заломваць перавяслы на снапы, ішла даць Мані грудзей. Але часцей маці толькі на хвіліну разгіналася, шукала вачамі Паўла, гразіла, патрасваючы ў паветры кулаком, і ён колькі было сілы імчаў да таганоў.

Тым часам было вельмі цікава адысціся ад калыскі. На полі між пожні вытыркаліся авечачкі — мяккія, далікатныя раслінкі з пушыстымі, нібы пакрытымі мяккай шэрсткай галоўкамі. Іншы раз з жыта выбягалі спужаныя зайцы, гучна лопаючы крыллем, вылятлі патлусцелыя шпакі, якія сама жыравалі, збіраючыся перад восенню ў дальнюю дарогу.

Самым цікавым на полі быў маяк. Гэтае драўлянае збудаванне з бясконцымі лесвіцамі між слупоў-апор цягнулася, як здавалася Паўлу, ледзь не да самага неба. Ён, вядома, марыў узабрацца на маяк, паглядзець, што робіцца на небе, але баяўся маці.

Іхняе поле было ў розных месцах: у Рагачах, на Злыбядзе, у Дуброўі і Цішыне. Усе гэтыя мясціны Павел любіў, хоць яны зусім не падобны адна на другую: Злыбяда — гара, Рагачы — сыпучы пясок, Дуброўе — раўнінная, урадлівая зямля і Цішын — балацянка.

Ён сама пачаў убірацца ў сілу, канчаў школу першай ступені, па-цяперашняму сямігодку, калі па местачковай вуліцы прагрукатаў першы трактар. Дзіўна: пад бокам

чыгунка, станцыя, праз якую нясуцца цягнікі — імклівыя, як вецер, скорыя, ці, як раней іх называлі, кур'ерскія, павольна-марудныя, доўгія — таварныя. Нішто гэта Паўла не кранула, не захапіла. А гулкі жалезны жук-трактар раптам абудзіў прагную цікавасць да сябе.

Цікавасць да тэхнікі была і раней. Павел змалку любіў жалеза, медзь, алюміній, збіраў болцікі, калёсікі, вінцікі, трубкі, майстраваў самакаты, самапалы, іншыя прылады. На пераездзе адзін з будачнікаў займаўся бляхарствам, запайваў дзіркі ў вёдрах, каструлях, даёнках, выкідваючы на сметнік абрэзкі бляхі, іншыя адыходы. Кожнай раніцы Павел прыбягаў на гэты сметнік, заўсёды знаходзячы нешта цікавае для сябе.

Тады ж паявіўся ў Паўла найлепшы і найбліжэйшы сябар. Ім стаў Міхась Нагібовіч, ціхмяны, прыгожы з твару хлопец, які прыйшоў вучыцца ў шосты клас. Мястэчка тады зрабілася цэнтрам раёна, яго выгляд стаў хутка мяняцца, паявілася многа новых людзей.

Сям'я Міхася прыехала з другога раёна і пасялілася ў прыбудоўцы да клуба імя Вароўскага, які да нядаўняга часу быў гандлёвым складам нэпмана Румана. Нэпман з мястэчка збег, прыхапіўшы тры чамаданы (гаварылі, адзін чамадан быў даверху напакаваны чырвонцамі). Крамы нэпмана адышлі пад сельпо, у доме пасяліўся старшыня рыка, а прасторны склад камсамольцы пераабсталявалі пад клуб, наладжваючы ў ім вечары і самадзейныя спектаклі. Айчым Міхася служыў пры клубе кінамеханікам, круціў кіно.

Гэты Нагібовіч сімпатый не выклікаў: панылы, прыгорблены, са страхавідным чорным тварам, на якім вызначаліся шырокія сківіцы і навіслыя над вачамі, нібы ў малпы, вялізныя дугі-падковы броваў.

Хоць Нагібовіч лічыўся работнікам культпрасвета, аднак адчайна піў і амаль штовечар біў жонку, такую ж, як сам, чорную, з мігатлівымі вочкамі, з такім жа, як у мужа, непрыгожым, непрыемным тварам.

Павел ведаў: жывецца Міхасю нялёгка, бо айчым яго проста не можа пераносіць. Летам, каб быць падалей ад п'яных боек айчыма, Міхась або вандраваў па вуліцах, або сядзеў пад падлогай паднятага на палі склада-клуба, абсталяваўшы сабе там зацішны куток. Ён заслаў зямлю саломай, з фанеры збіў

нешта накшталт сабачай будкі і ў гэтай будцы праводзіў час, часта нават начаваў.

Ён быў ціхмяны, мяккі і ў той жа час зацяты. Нічога не расказваў пра сям'ю, свае пакуты. У яго былі тры сястры: старэйшая, мілавідная, як і ён, хадзіла ў школу, дзве малодшыя, падобныя да айчыма і маці, шустрыя чорныя малпачкі, бегалі, пішчучы, па двары.

Пасля сямігодкі Павел паступіў на аўтатрактарныя курсы, якія толькі што адкрыліся ў мястэчку. Выдатныя былі курсы! Хлопцы на іх былі адзін у адзін: галасістыя, смелыя, баявыя — і такіх трыста чалавек. Пачыналася калектывізацыя, раскулачванне, і адбор на курсы быў строгі: прымалі толькі па рэкамендацыях сельсаветаў, якія зацвярджаліся затым райвыканкамам.

Заняткі на курсах — па восем гадзін. Сталовая карміла скупа: да нішчымнай капусты, запраўленай маргарынам ячменнай кашы, несалодкага чаю дадавалася толькі трыста грамаў хлеба на дзень. Аднак ніхто ні з курсаў, ні з трактарыстаў, як цяпер, не ўцякаў.

Павел тры гады паездзіў на трактары, затым перавёўся ў майстэрню МТС, стаў рамонтнікам. Любіў хадзіць каля машын.

Эмтээсаўская майстэрня размяшчалася на пагорку, у канцы ціхай, мала забудаванай вуліцы МОПРа. Адсюль былі відаць пясчаныя горы, наўсцяж пpаточаныя чыгуначнай веткай-аднапуткай, зарослы крупчастымі соснамі курган могільніка, усходняя і паўднёва-ўсходняя старана вялікага раскіданага паселішча.

Можа, таму, што бацькава хата стаіць на ўзбалотку, Павел любіць высокія, сухія мясціны. Эмтээсаўская майстэрня якраз на такім месцы. На пясчаным, занятым дваром майстэрні пагорку ніколі не бывае камароў. Можа, дыму, гару баяцца, можа, на сухой пясчанай зямлі ім няма дзе пладзіцца.

Ходзячы каля трактароў, аўтамабіляў, Павел не заўважаў, як наступае вечар. Ён любіць сваю работу. Ішоў дадому, вячэраў, заўсёды добра спаў, назаўтра подбегам пераскокваў чыгунку, шыбуючы ў майстэрню.

Ён заўсёды быў ваўкаваты, дзівакаваты, да вайны сябраваў з адным Нагібовічам. Адчуваў у ім блізкую душу. Міхась,

скончыўшы сямігодку, вазіў пошту ў паштовым вагоне, папраўіўся, нават папрыгажэў.

Наогул палепшыліся ягоныя справы. Чорны падлобісты айчым падшукаў сабе новую сяброўку і разам з ёй шуснуў з мястэчка. Не паглядзеў, што кідае на волю лёсу дзвюх родных дачок.

Жыць пры клубе не выпадала, і Міхась выбудаваў маці і сёстрам хацінку. Яна стаіць на ражку зямлі, адрэзаным ад пляца аднаасобніка Мельнічука, і невялікімі акенцамі пазірае на чыгунку, на семафор з паднятым ці апушчаным крылом, які стаіць якраз у гэтым месцы.

Цяпер Павел жыў блізка ад Міхася. Варта мінуць нафтабазу, на двары якой ляжаць на каменных падмурках вялізныя цёмна-бурыя бакі-цыстэрны, напоўненыя бензінам і карасінам, пераскочыць чыгунку, як ён трапляў да Міхася. Якіх-небудзь дзесяць хвілін хадзьбы.

Пры самай чыгунцы ўзвышаецца вялізная, відная здалёку таполя, пасаджаная Мельнічуком. Другая, трохі меншая, шасціць купчастай вершалінай над дахам Міхасёвай хаты. У восеньскую ноч меншую таполю паваліла бурай, і цэлы тыдзень Міхась з Паўлам пілавалі таўшчэзны камель на дровы. З напаўвывернутым коранем справіцца не здолелі, і ён яшчэ доўга ляжаў пры дарозе, палохаючы людзей сваім страхавідным выглядам.

Нібы бачыць Павел: на тупіковыя пуці часта прыганяюць па дзве-тры цыстэрны, і бензін ці карасін з іх трэба перапампаваць за некалькі гадзін у нафтабазаўскія бакі. Начальства ў такіх выпадках грошай не шкадуе. На гэтую халтурку ён з Міхасём ходзіць ахвотна. Намахаешся за ноч білай помпы да поўнай знямогі, затое да раніцы маеш у кішэні дзве ці нават тры хрупасткія дзясяткі.

Павел набыў хромавыя боты, зялёную шоўкавую кашулю, шэры шарсцяны касцюм. Міхась грошы ашчаджае: на яго абавязку трымаць на свеце маці і сясцёр. Ды і не трэба Міхасю вопратка. Яму выдалі на службе сінюю шавіётавую форму паштавіка, і ён у ёй здаецца вельмі ніштаватым хлопцам.

У дадатак да касцюма пошта ўзнагародзіла Міхася радыёпрыёмнікам. Называўся «Калгаснік». Невялікая, абцяг-

нутая чорным дэрмацінам скрыначка з некалькімі гузікамі-рычажкамі.

То быў час, калі паўсюдна — у хатах, на плошчах, наогул у найбольш людных мясцінах — вешалі талеркі рэпрадуктараў. Прыёмнік быў яшчэ дзівам. Уласныя прыёмнікі мелі ў мястэчку толькі найбольш відныя асобы: дырэктар школы, начальнік міліцыі, пракурор.

Прыёмнік яшчэ больш умацаваў маладую дружбу. Дня не мог пражыць Павел, каб не завітаць да таварыша, не паслухаць музыку. Міхась хаваў прыёмнік у чамадан, чамадан замыкаў, засоўваў пад ложак. Захады былі не лішнія: цікаўныя сёстры таксама прыахвоціліся да радыё. Калі Міхась забываў схаваць «Калгаснік», яны, не шкадуючы батарэй, уключалі прыёмнік і маглі скакаць пад ягоную музыку хоць цэлы дзень.

Паўлу Міхась дазваляў бясконца круціць гузікі рычажкоў, вышукваць сярод шуму і трэску новыя станцыі, песні і музыку. Іншы раз аб'явы наконт музыкі, песень рабіліся на чужой, незразумелай мове. Сябры прымаўкалі: агромністы свет акружаў іх, у песнях, музыцы чужых, незнаёмых краін, таксама як і ў родных, гучалі боль, радасць, шчасце і горыч.

Музычную адукацыю Павел атрымаў у нізенькай Міхасёвай хаце. Ён нават не здагадваўся, што гэтак будзе любіць музыку, прытым самую разнастайную: імклівыя танцавальныя матывы баяністаў, цымбалістаў і спакойныя задуменныя мелодыі, якія выконваліся на фартэпіяна ці на скрыпцы.

Было ўражанне, што Масква, у якой размешчана большасць радыёстанцый, перадачы якіх лавілі сябры, сама пачынае спяваць. Можа, таму складвалася такое ўражанне, што жыццё відавочна рабілася лепшым. Ля мястэчковага ўнівермага яшчэ стаялі чэргі за міткалём, кортам, сукном, рознымі швейнымі вырабамі; але ў прадуктовых крамах можна было купіць што хочаш: хлеб, камсу, цукар, селядцы, воблу, крупы і макароны. Абы грошы.

Цудоўная была ў Паўла з Міхасём дружба! Можа, таму, што яны былі маладыя, сама заглядвалі ў жыццё, кожная драбніца мела для іх вялікае значэнне. Вечарамі лілася з «Калгасніка» музыка, яны слухалі і марылі. За адчыненым акном шасцела буйным лісцем кукуруза, нястомна трашчалі цвыркуны. Іншы раз неба паласавалі бліскаўкі-маланкі. І тады на душу як

бы набягала трывога: трэск, шум у прыёмніку заглушалі музыку. Але яны яшчэ не ўмелі падоўгу трывожыцца. Столькі прыгожага абяцала наперадзе жыццё…

У поўнач Павел вяртаўся дадому. Мінаў магутную таполю, якая, нібы гара, навісала над чыгункай, пераскокваў насып, крочыў лугавінай, па правую руку якой размешчана нафтабаза. Іншы раз трава на лугавіне была росная, ён нават прамочваў абутыя ў брызентавыя туфлі ногі, іншы раз — зусім сухая.

Вось так плыла іхняя з Міхасём маладосць. Дзень ён праводзіў у майстэрні, сярод жалезнага стуку, груку, лязгату, вечарам прыбягаў дахаты, адмываў карасінам задубелыя рукі, апранаў новы касцюм, ішоў да Міхася…

Ахоплены плынню ўспамінаў, Павел дабрыдае да месца, дзе вуліца Чангарскай дывізіі скрыжоўваецца з другой, значна даўжэйшай, што з поўдня на поўнач перасякае мястэчка. Вунь пад засенню пажаўцелых ігруш малая, някідкая з выгляду хата Міхася, якую ён купіў пасля вайны, ажаніўшыся з дачкой Вальдэмара Кабылая.

Узнікла жаданне ступіць у Міхасёў двор, зайсці ў хату, у якой ён яшчэ ніколі не быў, як і ў далёкія дні маладосці, пасядзець, пагаварыць. Але Павел тут жа адганяе ад сябе гэтае жаданне. Ён не вораг Міхасю. Нічога не мае супраць яго. Часта ўспамінае свае з ім маладыя прыгоды. Але глядзець у вочы дачцэ Кабылая, нават павітацца з ёй ён не можа. Ніякая сіла не прымусіць яго гэта зрабіць…

Павел крута паварочваецца, ідзе назад.

## III

Восень, сталая восень ахутвае шэрыя хаты, парканы, голае поле, цёмны прасцяг балота. Маня, каб дагадзіць Паўлу, штодзень топіць грубку, печку і цэлы дзень гатуе сняданкі, абеды, варыць кампоты і кісялі.

Чатыры пакоі ў доме, і па ўсіх расхаджвае адна Маня. Сын і дачка яе ад’ехалі ў Ленінград, займелі свае сем’і і рэдка заскокваюць у мястэчка.

Маня, на сем гадоў маладзейшая за Паўла, падобна на старэнькую бабульку. Малая, ссівелая, па-старэчы ходзіць,

шаркаючы падэшвамі па падлозе, неяк нараспеў, расцягваючы словы, гаворыць.

Расказвае навіны. Ледзь не ўсе суседзі старэйшага веку, якіх Павел добра ведаў, памятаў іхнія твары, постаці, прывычкі, звязаныя з імі гісторыі, з жыцця адышлі. У знаёмых хатах, панадворках жывуць іхнія дзеці, унукі, іншыя родзічы, яны падняліся, выраслі за апошнія гады, і Павел іх мала ведае.

— Пераязджай сюды,— гаворыць Маня.— Стары чалавек… Што табе ў тых Разводах? Сын ажаніўся, няхай жыве. Хопіць вадзіць яго за руку…

Ён не дае Мані адказу. Будзе відаць. Тым болей што цяпер восень і ні пра якія пярэбары думаць не выпадае.

Хата, двор вельмі заняпалі.

У хляве праваліласяя страха, выгнулася сцяна, падпёртыя колам дзверы ўраслі ў зямлю. Сярэдняя частка паркана ў сутачках нахілілася да самай зямлі: пагнілі дубовыя слупкі.

З боку балота паркана зусім няма. Хоць якое тут балота. Шэра-цёмны прастор асушанага тарфяніка разлёгся да далёкіх саўгасных будынкаў, шыферныя дахі якіх цяпер відаць з двара. Ладны кавалак лесу, якім саўгасны пасёлак аддзяляўся ад балота, вынішчаны.

Да паўдня Павел поркаецца ля пахіленага жабрацкага паркана, затым у адну хвіліну кідае работу, заносіць пілу, тапор у сенечкі, пераапранаецца. Дзіркі ён як-небудзь залатае. Трэба думаць пра большае. Калі перабірацца ў мястэчка, то трэба дбаць пра будаўніцтва: перасыпаць, абшаляваць хату, паставіць новы хлеў, парканы.

Зноў церусіцца імжа. Здаецца, цяжкія, цёмныя воблакі вісяць над самымі стрэхамі, комінамі хат. Чарнее мокрае дрэва плятнёў, парканаў. У агародзе насупраць Паўлавага двара незнаёмыя людзі паляць бульбоўнік, і нізка, пры самай зямлі, сцелецца дым.

Павел, збіраючыся ў мястэчка, у глыбіні душы, відаць, спадзяваўся напаткаць былое, ранейшае, што свяціла ў маладыя гады. Толькі няма таго. Нават блізка няма. Выключаючы хіба адну станцыю.

## IV

Ён заўсёды любіў станцыю. Ён яшчэ ў школу не хадзіў, а ўжо як бы меў з ёй знаёмства. У іхняй хаце кватаравала брыгада цесляроў, якія ўзводзілі розныя станцыйныя будынкі. Маці гатавала для цесляроў абед — дзве вялікія каструлі з капустай і смажанай бульбай, абвязвала іх ручнікамі, і Павел, трымаючы ў кожнай руцэ па каструлі, нёс цеслярам абед.

Ад іхняй хаты да далёкага блок-паста, дзе цесляры ўзводзілі будынак пуцейскай казармы, болей за вярсту, і колькі за гэты час ён паспяваў пабачыць новага і цікавага! Ён праходзіў міма зарослых палыном, быльнягом тупіковых пуцей, разлеглых нарыхтоўчых баз, куды восенню звозяць бульбу, капусту, моркву. Далей цягнуліся абсягі лесасклада з бясконцымі штабялямі рудстойкі, дубовых, альховых бярвенняў, дроў.

У суседстве з лесаскладам стаяла распоўзлая, збітая з дошак-цалёвак і пакрытая фанерай база райспажыўсаюза. За ёй вельмі цікавалі местачковыя жанкі. Разгружаючы вагон ці нават два, сюды звозілі цюкі розных шарсцяных і баваўняных матэрый, адзення, скрынкі з абуткам. Жанкі ведалі, што гэта значыць, і ў наступную ноч каля ўнівермага выстройвалася доўгая чарга.

Не відаць тых баз, лесасклада. Ледзь не ўсё знёс вецер перамен. Толькі будынак плодаагародніннай базы застаўся. Некалі ён стаяў на высокіх палях, уражваў, цяпер асеў на зямлю, зрабіўшыся зусім мізэрным па памерах.

Сама станцыя — пафарбаваныя ў жоўты колер будынкі пакгаўза, пагрузачнай канторы, некалькі памяшканняў, у якіх размяшчаюцца чыгуначныя службы,— такая, як была. Ад гэтага радасна. Для чалавека важна, каб у ягоным жыцці было нешта сталае, нязменнае.

Гэтак жа ляжыць месцамі вышчарблены, з лужынкамі вады ў выбоінах перон, пабліскваюць вымытыя дажджом рэйкі.

І дрэвы ёсць на станцыі. Калісьці яе атулялі вялізныя, з раскідзістымі шатамі срабрыстыя таполі, якія навісалі над будынкамі, нібы зялёныя хмары. Аднойчы вецер адламаў вялізную галіну і кінуў на рэйкі. Баючыся, што такое можа

паўтарыцца, выклікаць аварыю, станцыйнае начальства загадала таполі спілаваць. На іх месцы пасадзілі маладыя ліпкі. Тым часам і ліпы вымахалі ніштаватыя.

Знутры станцыйныя памяшканні час ад часу пераабсталёўваюцца. Чакальная зала цяпер шырэйшая, прасторнейшая, бо паглынула службовыя пакойчыкі касіра і дзяжурнага. У зале некалькі новых ёмістых лавак з выгнутымі спінкамі, на якіх і паспаць можна.

Буфет як быў, так і застаўся на месцы.

На пероне пуста, як і на вуліцы Чангарскай дывізіі. Можа, таму, што восень, дождж, які сеюць цяжкія шэрыя хмары.

Павел не заўважыў, як побач з ім апынуўся прысадзісты, з высахлым, нашчэнт зарослым сівой шчацінай тварам стары, апрануты ў цёплую фуфайку.

— Не пазнаеш? — спытаў Паўла.— Я Піліпенка Ілья. Хвораст па-вулічнаму…

Павел зірнуў на высахлы, змізарнелы твар, на якім скрозь сівую шчэць прабіваецца густая сетка сіняватых атожылкаў, на выцвілыя валошкавага колеру вочы і, вядома, пазнаў. Служыў Ілья на станцыі счэпшчыкам ці саставіцелем, быў рухавым, порсткім мацаком і заўсёды прыхільна ставіўся да Паўла. Дзівіўся, чаму ён, жывучы каля чыгункі, пайшоў рабіць у МТС.

— Такіх старых, як я, тры на ўсё сяло засталося,— гаворыць Ілья.— І тваіх таварышаў няма. Паўміралі, хоць маладзейшыя. Ніхто не ведае, што яму напісана на раду…

Павел памятае: карова-пярэдайка, матлянуўшы ў час даення хвастом, рассекла маці рагавіцу на воку. У маці доўга, некалькі гадоў, балела вока. Карову яны ў хуткім часе прадалі і засталіся без малака.

Ілья тады ім паспагадаў. Прапанаваў, каб бралі малако ў яго. Паўлу было гадоў сем-восем, і цэлае лета вечарамі шыбаваў ён праз чыгунку на панадворак Хвораста. Ільёва жонка налівала поўны як вока збанок. Нават несці такі поўны збанок было немагчыма, не разліўшы малака. Адышоўшы некалькі крокаў ад Ільёвага двара, Павел трохі малака адпіваў.

— Памятаеш Ясеневага сына? — раптам пытае Ілья.— Таго, што стаў генералам. Дык вось той генерал прыехаў. Тут жыве. Разам з жонкай. Кажуць, паміраць прыехаў. Але

памерці можна і ў горадзе. Помнік харошы паставяць. А ён сюды прыехаў.

Сагнуўшыся, цяжка перастаўляючы ногі, абутыя ў вялікія, распоўзлыя чаравікі, Ілья рушыў прэч. Павел глядзеў яму ўслед, поўнячыся шчымлівымі, горкімі пачуццямі.

Прыйшоў пасажырскі цягнік. Паравоз цяжка, часта дышучы, стаў як укопаны; вагоны яшчэ парыпваюць тармазамі, падрыгваюць.

Два ці тры чалавекі вылазяць з вагонаў, столькі ў вагоны садзіцца. Хмуры, затканы імжой дзень канчаецца, непрыкметна пераходзячы ў такі ж непрывабны вечар.

Упершыню да Паўла ва ўсёй сваёй выразнай аголенасці, непрыемнасці прыходзіць думка: мястэчка занепадае. Так, занепадае, і справа не толькі ў тым, што старыя знаёмыя будынкі, дамы, памяшканні, зыначыліся, змізарнелі і новых будуюць мала, а ў чымсьці больш істотным. Не той рух жыцця. Ніколі не бачыў Павел, каб перад прыходам пасажырскага цягніка перон быў пусты. Заўсёды ў такую часіну тут тоўкся народ. Асабліва моладзь. Летам — больш, зімой — менш. Цяпер нікога няма. Бо, відаць, мала застаецца ў мястэчку моладзі і няма каму прыходзіць на станцыю.

## V

Дома Паўла чакае тэлеграма. У Віталя нарадзіўся сын, хлопчык харошы, здаровы, і маці сябе добра адчувае.

Не ведаў Павел, што гэтак узрушыцца. Як бы стаў іншым свет, і ён у гэтым свеце знайшоў нарэшце сваё месца. У яго быў дзед і бацька, цяпер ён таксама бацька і дзед.

Маня тупае вясёлая, лагодная. Бясконца разважае:

— Цяпер твой Віталь палюднее. Ад сына не пабяжыць. Як пераедзеш сюды, мне самой жыццё адкрыецца. А то адна ды адна.

Ноччу Павел слухае, як грукочуць па рэйках цягнікі, запыняючы свой бег ля станцыі, як, манеўруючы, цяжка дыхаюць цеплавозы, ляскаюць буферамі вагоны. Дзесьці зацята брэшуць сабакі. У хаце востра пахне зёлкамі, якія сушыць на печы Маня, жытняй саломай, мышамі. Знаёмыя, блізкія пахі, і нібы кружыцца ад іх галава.

Вось гэты самы пакой займаў да вайны Кабылай, які ў вайну, як ніхто другі, прагнуў знішчыць Паўла. Невядома, чаму бацька, увогуле вельмі асцярожны, узяў у хату такога кватаранта? Памыліўся бацька. Хоць лёгка было памыліцца. Кабылай здаваўся інтэлігентным, далікатным. Быў зграбны, нават прыгожы. Тым часам у хаце падрастала нявеста. Мані было гадоў сямнаццаць. Відаць, пра гэта думаў бацька.

Кабылай кіраваў не то раённым спортам, не то Асаавіяхімам. Меў дачыненне да абедзвюх гэтых устаноў. Хадзіў у камандзірскім абмундзіраванні, штодзень акуратна падшываў белыя падкаўнерыкі.

Ён рэдка начаваў дома. Але ў тыя гады часта праводзіліся ваенна-спартыўныя гульні, іншы раз у начны час, і было вядома, што Кабылай прымае ў іх удзел.

Хутка па мястэчку папаўзлі нядобрыя чуткі. Насупраць Паўлавага дома стаяў выдатна выштукаваны, атулены таполямі дом кандуктара Свішча, чалавека хмурага, негаваркога, які хадзіў, паныла спусціўшы свой доўгі нос. Свішч прыбрыў у мястэчка з Баранавіч яшчэ ў Першую сусветную вайну, калі да горада падступалі немцы, дый так тут і асеў. Збудаваў сабе дом, меў сына, дачку-красуню. У мястэчку быў яшчэ адзін Свішч, машыніст, таксама бежанец, магчыма, родзіч кандуктара. Абодва жылі на вуліцы Чангарскай дывізіі, і сядзібы іх размяшчаліся недалёка адна ад другой.

Свішч-кандуктар хадзіў у форменным сінім касцюме, чысты і ахайны, Свішч-машыніст — у заплямленай мазутай спяцоўцы, брудны і чорны, як чорт.

Дык вось, вярнуўшыся раніцой з паездкі, крочылі стомленыя Свішчы да сваіх дамкоў, віталіся са знаёмымі. Машыніст нёс закопчаны сундучок з рознымі прычындаламі, кандуктар — раменную торбу праз плячо, абодва трымалі пад пахай па булцы хлеба.

Ноччу Свішчоў не стала. Як скрозь зямлю праваліліся. Нават распытваць пра іх лёс было небяспечна.

— Свіснулі Свішчы,— нявесела жартавалі местачкоўцы.

Пошапкам перадаючы адзін аднаму навіну, нечаканае знікненне машыніста і кандуктара местачкоўцы звязвалі з дзейнасцю Кабылая, які нібыта сам перабраўся з Польшчы і ведаў пра Свішчоў штосьці такое, чаго ніхто другі не ведаў.

Бацька спахапіўся, ды было позна. Выселіць такога кватаранта ён не мог. Заставалася — падладжвацца, ліслівіць, крывіць душой.

У той год Павел з Міхасём пайшлі на прызыў. Паўла закасавалі — пласкаступ'е, яўна акрэсленая грыжа. Міхася ваенкаматаўская камісія не толькі прызнала годным, а і накіравала на вучобу ў вельмі ганаровае па тым часе вучылішча войск НКУС.

Міхась паехаў, Павел застаўся ў мястэчку. Па-ранейшаму хадзіў у майстэрню, вечарамі адмываўся ад мазуты, бруду, сажы, апранаў чыстую сарочку, абуваў вастраносыя туфлі, завязваў гальштук і ішоў на шпацыр. Мястэчка ўжо мела другі, больш прасторны і ахайны клуб, перабудаваны з царквы. Амаль штовечар там паказвалі гукавыя фільмы. Клуб імя Вароўскага, пад падлогай якога хаваўся ад злоснага айчыма Міхась, зноў адвялі пад склад, і ён стаяў па суседстве з новым клубам хмурай, змрочнай аграмадзінай. У вайну ці пасля вайны — Павел дакладна не памятае — палі старой будыніны падгнілі, яна рухнула на зямлю, рассыпаўшыся ўшчэнт.

Вайной ужо добра папахвала. Падняў галаву Гітлер, артачыліся японцы, правяраючы на Далёкім Усходзе моц савецкіх граніц. Многія з фільмаў, якія дэманстраваліся ў новым клубе, былі прысвечаны будучай вайне, якой яшчэ ніхто не бачыў. Павел хадзіў у кіно, выпісваў газету, слухаў радыё — быў у курсе ўсіх вялікіх і малых падзей. Жыў, бадай, так, як які-небудзь настаўнік ці агранам. Рабіла справу ягоная любоў да тэхнікі: трактары, аўтамабілі, іншыя машыны, якія траплялі ў эмтээсаўскія майстэрні, ён ведаў няблага, а калі не ведаў, то за кароткі час вывучаў. Яго прызначылі брыгадзірам рамонтнікаў, іншы раз ён замяняў механіка.

У апошнюю мірную восень, скончыўшы школу НКУС, прыехаў у мястэчка малодшы лейтэнант Міхась Нагібовіч. Яму вельмі пасавала зялёная шавіётавая гімнасцёрка, сінія суконныя галіфэ, начышчаныя да глянцу і бляску хромавыя боты. Быў малады і прыгожы Міхась. Заглядваліся на яго мясцовыя прыгажуні. Ніхто з іх цяпер не браў пад увагу, што ў дзяцінстве Міхась дняваў і начаваў пад падлогай клуба,

вучыўся похапкам, жыў у голадзе, холадзе, вечным страху перад айчымам.

Ні з адной з дзяўчат Міхась не пазнаёміўся. Быў залішне сціплы і сарамлівы.

Вузельчык будучых падзей, аднак, завязваўся. Нарэшце ажаніўся Кабылай, выбраўся ад Дубаўцоў. Брат ягонай жонкі ў хуткім часе ўзяў замуж старэйшую сястру Міхася. Такім чынам Міхась стаў сваяком Кабылая.

Калі выбухнула вайна, Паўла ў армію не прызвалі. Разам з такімі, як сам, ён вывозіў эмтээсаўскую тэхніку ў тылавыя раёны. Першы эшалон з трактарамі Павел суправаджаў да Курска. Другі эшалон адправіць не паспелі: баючыся прарыву немцаў, нашы самі ўзарвалі мост на Дняпры. Фронт у Прыдняпроўі пасля гэтага пратрымаўся яшчэ паўтара месяца.

Трактары сваім ходам рушылі за Днепр. Пад Кіевам Паўла мабілізавалі ў армію. На сваім ЧТЗ ён падвозіў снарады да фронта. Так цягнулася да сярэдзіны верасня, пакуль немцы не самкнулі вакол Кіева кальцо акружэння.

У сярэдзіне верасня становішча стала безнадзейным. Павел утапіў свой ЧТЗ у Дняпры, сам пераапрануўся ў цывільную вопратку, якую хаваў у кабіне трактара. Гэта выратавала ад палону: вопратка не з чужога пляча, пашпарт сапраўдны.

Прабіраючыся ў мястэчка, у адной з левабярэжных прыдняпроўскіх вёсак Павел напаткаў Кабылая. Той быў у сіняй саколцы, гумавых тапачках, нёс у руцэ збанок з вадой, трымаў на плячы касу, што, відаць, азначала: у ціхай, зялёнай вёсачцы знайшоў сабе жытло і занятак.

Яны з паўгадзіны паляжалі на запыленай прыдарожнай траве, і за гэты час Кабылай, увогуле зацяты і нешматслоўны, раскрыўся дарэшты. Агідны пярэварацень! Як ён лаяў парадкі, пры якіх жыў, як здзекаваўся з ваеннай падрыхтоўкі, якой сам займаўся. Бэсціў усё тое, чаму раней служыў. Па словах Кабылая, не было да вайны нічога добрага, сталага, цвёрдага. Немцы — іншая справа. Немцы парадак навядуць...

Не мог адкрыта запярэчыць Павел. Ён толькі сказаў, што не варта пляваць у калодзеж, з якога сам піў ваду. Кабылай прапусціў ягоныя словы міма вушэй. На тым развіталіся.

Павел не паспеў апомніцца, як Кабылай вынырнуў у мястэчку. Відаць, не прывык касіць. Спачатку насіў павязку

паліцэйскага, потым неяк паспешліва перарабіўся на гандляра. Сыты, добра адкормлены, апрануты ў савецкую камандзірскую гімнасцёрку і галіфэ, хадзіў па людных вуліцах, прыглядваўся, прыслухоўваўся, пошапкам прапаноўваў загатоўкі на боты, сахарын, нямецкія цыгарэты.

Павел ніколі не разумеў Кабылая. Не мог даўмецца, чым у жыцці кіруецца. Кабылай не піў, не цягаўся за жанчынамі, не прагнуў улады. Не лаяўся, не падсміхаўся над людзьмі, але і газет, кніг не чытаў. Адно — любіў добра апрануцца і смачна пад'есці. Бадай, яшчэ любіў грошы. Збіраў усялякія грошы — і савецкія, і нямецкія...

Зрэшты, было няцяжка здагадацца, якой справай Кабылай займаецца.

Ён некалькі гадоў працаваў у мястэчку, раённых кіраўнікоў ведаў, ведаў, хто чым дыша. Найбольш сталых партыйцаў, пакінутых, магчыма, для патайной работы, немцы схапілі ў першыя месяцы. Відаць, не без дапамогі Кабылая.

Парадкі новыя гаспадары закручвалі крута. Пад пагрозай арышту, нават расстрэлу кожны мусіў працаваць на ранейшым месцы. Павел вярнуўся ў майстэрню. Хоць МТС фактычна не было. Восем ці дзевяць рамонтнікаў, прыходзячы на работу, выпільвалі запальнічкі, выточвалі пярсцёнкі, грабянцы — на продаж. Для блізіру бясконца рамантавалі адзіны, сабраны на жывую нітку трактар, які адразу, пасля таго, як яго заводзілі, зноў выходзіў са строю.

У пачатку першай ваеннай зімы ў майстэрню быў залічаны механік Маслакоў, высокі, нават магутны мужчына, дашчэнту выпетраны ў лагеры для ваеннапалонных. Родам, як гаварыў, быў з Паволжа. Тое, што ён добры механік, рамонтнікі ўбачылі адразу. Толькі дзень пахадзіў Маслакоў каля трактара, і стары ХТЗ зладжана, гулка залапатаў маторам. Хоць у поле выязджай.

Назаўтра трактар зноў сапсаваўся. Маслакоў падняў капот, папоркаўся ў маторы, затым недаўменна зірнуў на рамонтнікаў. Яны кружком сядзелі каля цяпельца, маўкліва курылі, па чарзе перадаючы адзін другому асмалак цыгаркі. Механік усё зразумеў.

Ён стаў часта адлучацца ў суседні гарадок. Кілаграм бабіту прывязе, якую-небудзь дэталь. Маслакоў прыблізіў да

сябе Паўла. Прызнаўся, што збіраецца ў партызаны. У пачатку вясны Маслакоў знік, загадаўшы Паўлу чакаць указанняў.

Яшчэ праз месяц, у светлую вясновую ноч, Маслакоў з'явіўся на панадворку Дубаўцоў, пастукаў у шыбіну. Так з таго часу і пайшло: то Павел бег праз балота ў алешнік, дзе яго чакаў абвіты рамянямі, абвешаны гранатамі Маслакоў, то сам партызан, не зважаючы на нямецкія, паліцэйскія патрулі, прыходзіў на вуліцу Чангарскай дывізіі.

У той самы час прыбрыў у мястэчка Міхась Нагібовіч. Выцерабіўся з акружэння, у якое трапіў пад Вязьмай, абмінаючы буйныя сёлы, гарады, тры месяцы дабіраўся да маленькай матчынай хаты.

Міхась паводзіў сябе як у дзяцінстве, пры айчыме. Сядзеў у нізенькай, якую выбудаваў для маці, хатцы, носа на вуліцу не вытыркаў. Зрэдку выбіраўся за чыгунку. Рэзаў бярозавыя дубцы на венікі, шылег, з якога плёў кошыкі. Ён не галіўся, аброс шчацінай і хутка стаў нагадваць старога дзеда.

Радыёпрыёмнік «Калгаснік» маці ў паліцыю не здала, і патаемна Павел з Міхасём час ад часу слухалі Маскву. Гэта былі самыя радасныя хвіліны ў іх тагачасным жыцці.

Паўлу Міхась прызнаўся, што выконваў на фронце спецыяльнае заданне: ахоўваў сакрэтную гармату, якая называецца «кацюша». Ствала такая гармата не мае, страляе вогненнымі снарадамі, якія, перш чым паляцець, коцяцца па звычайных рэйках.

Пад Вязьмай «кацюша» трапіла ў кацёл. Міхась выканаў патрабаванне інструкцыі. Узарваў «кацюшу» і сам немцам у рукі не даўся.

Тым часам паліцаі пранюхалі, што за дзед хаваецца ў пахілай хаціне непадалёк ад чыгуначнага пераезду. Ведаючы, што Міхась быў лейтэнантам НКВД, пытанне паставілі рубам. Або ідзі ў паліцыю, або станеш да сценкі.

Павел, не вагаючыся, загадаў Міхасю станавіцца паліцэйскім. Ён часта шастаў праз балота ў хмызнякі, сустракаўся з Маслаковым і добра ведаў, што трэба партызанам, якія толькі пачалі арганізоўвацца. Свой чалавек у паліцыі — найперш.

Колькі перанасіў Павел напісаных чарнільным алоўкам запісак ад Міхася, то перадаючы іх непасрэдна ў рукі

Маслакова, то хаваючы ў дуплоўнікі! Колькі розных нямецкіх і паліцэйскіх налётаў, засад дзякуючы гэтым запіскам скончыліся для партызан без ніякай шкоды!

Летам сорак трэцяга года, пасля Сталінграда, Курска, Кабылай адчуў, што сеў не на таго каня. І дарогі для адступлення не было. Бо жылі на свеце людзі, якія шмат пра яго ведалі. У тым ліку і Павел.

Звярыным нюхам адчуваў Вальдэмар, што Павел звязаны з партызанамі. Прамых доказаў, аднак, не меў. Пайшоў на правакацыю. Забітаму партызану, якога для ўстанаўлення асобы немцы прывезлі ў мястэчка, патаемна падклаў у кішэню запіску. Запіска адрасавалася Паўлу...

Міхась на некалькі хвілін апярэдзіў немцаў, якія пакіравалі на сядзібу Дубаўцоў. Гэтых хвілін хапіла, каб Паўлава сям'я кінулася ў балота, у зараснікі. Немцы добра пажывіліся: увесь набытак застаўся ім. Але ўцекачоў не злавілі.

Фактычна Міхась выратаваў жыццё Паўлу і ягонай сям'і. Тым часам аддзякаваць у такой жа меры Міхасю Павел не здолеў. Дый не ад аднаго яго гэта залежала.

Пры прыбліжэнні фронту Міхась рушыў у водступ разам з паліцыяй. Да партызан перайшоў тады, калі мястэчка занялі савецкія войскі і не вісела пагроза над маці і сёстрамі. Амаль год быў Міхась у партызанскім атрадзе, які дзейнічаў на прасторах Пінскіх балот, пасля атрада трапіў у армію. Яму аднавілі лейтэнанцкае званне.

Далей ягонае жыццё закруцілася, як у шалёным танцы. Міхась не адзін перайшоў да партызан. Сагітаваў, павёў з сабой дванаццаць паліцаяў. Астатніх, не верачы ім, немцы пасадзілі ў лагер.

Гэта быў лагер нявольнікаў, і большасць людзей у ім зазналі гора. Але паласатую форму, як і ўсе вязні, насілі таксама былыя паліцаі.

За месяц ці два да капітуляцыі фашыстаў лагер вызвалілі савецкія войскі.

Міхась канчаў вайну, служыў у арміі, тым часам вязні-паліцаі, выстаўляючы сябе пакутнікамі, выдалі на яго матэрыял што трэба.

Дрэнна сталася, калі ў першы мірны год Міхась вярнуўся ў мястэчка. Яго арыштавалі. Апеляцыі Паўла, які стукаўся куды толькі мог, засталіся марныя.

Маслакоў тым часам захістаўся. Кончылася тым, што ў патрэбны момант ён не адважыўся сказаць слова ў абарону Міхася.

Бачачы, што ратунку няма, Міхась уцёк з турмы. Разлічваў, відаць, перахавацца, як некалі хаваўся ад айчыма. Толькі тут пахла не айчымам. Тыдні праз два ўцекача высачылі ў лесе, вывалаклі з-пад дубовага вываратня, дзе ён асталяваў сабе часовае прыстанішча.

Пасля гэтага і Маслакоў не здолеў бы дапамагчы...

Вярнуўшыся гадоў праз восем з заключэння, Міхась дружбы з Паўлам не шукаў. Далей здарылася зусім неверагоднае: ажаніўся з дачкой Кабылая. Цягалася па мястэчку яшчэ маладая, але дачасна звялая, з паблеклым прыгожым тварам дзяўчына, піла, курыла, гуляла з кожным, хто набіваўся ў кавалеры.

Пасля такой яго жаніцьбы дружбы з Міхасём не шукаў і Павел.

Пазней, раздумаўшыся, Павел зразумеў, чаму Міхась так зрабіў. Ён бы лёгка мог узяць замуж другую жанчыну. Але, зацяты, горды, ён баяўся, што яна не будзе яму раўнёй і пры выпадку нават абразіць...

## VI

З раніцы зноў сеецца дробны дождж, вісіць над галавой кажух шэрага нізкага неба. Каб не прамокнуць, Павел адшукаў у кладоўцы стары брызентавы плашч, накінуў на плечы. Ён тупае па двары, зазірае ў розныя куткі, адшукваючы патрэбныя для латання паркана жэрдкі, дошкі, дубовыя слупкі. Бацька быў гаспадарлівы і ўсё гэта меў у запасе.

Пілой-аднаручкай Павел пілуе жэрдкі на патрэбнага памеру штыкецціны, добра навостранай сякерай ачэсвае ад кары. Толькі чамусьці не клеіцца работа. Без асаблівай патрэбы ён часта перапыняе занятак, ідзе ў хлеў, цяпер вельмі прасторны, бо ў ім няма ні каровы, ні цялушкі, ні засека з сенам і толькі

сонна рохкае ў адгароджаным катушку раскормлены, сыты япрук. Яшчэ куры месяцца ў хляве. Ноччу сядзяць на седале — навешаных упоперак хлява жэрдках, днём грабуцца на двары і агародзе.

Кожная драбніца нагадвае Паўлу пра мінулае жыццё, як бы выкрэсваючы ў душы іскрынкі ціхай радасці. Змоладу, як толькі наступала лета і ў хлеў завозілі два-тры калеснікі новага сена, ён перабіраўся сюды начаваць. Ноччу слухаў, як праносяцца па рэйках цягнікі, як дудзіць у свой ражок стрэлачнік ці счэпшчык, як ляскаюць буферамі вагоны, якія перацягвае з месца на месца манеўровы паравоз.

У самім хляве панавалі не менш цікавыя зыкі і шорахі. Уздыхала, пераложваючы жвачку, карова, раз-пораз ускілікалі на седале сонныя куры, ледзь чутна папісквалі ў злепленым пад самым вільчыкам гняздзечку ластавяняты...

Павел вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы на двары суседку Сцепаніду. Чамусьці ён думаў, што яе няма на свеце. З незапамятных часоў высокая, шырокая ў плячах, не вельмі складная Сцепаніда памагала маці па гаспадарцы.

Падышоўшы да Паўла, павітаўшыся, Сцепаніда пачала скардзіцца:

— Усе памерлі, а я жыву. Можа б, ты памог мне, Павел. Напісаў бы куды-небудзь заяву. Ведаеш жа: на станцыі змоладу рабіла, згубіла здароўе. Пенсію толькі за Івана палучаю. Сорак два рублі...

Не чакаючы адказу, Сцепаніда рушыла ў хату. Яна заўсёды, вось гэтак па-мужчынску ступаючы, калываючыся, прыходзіла ў двор, скардзілася, затым нечакана абрывала размову.

Калі была жывая маці, Сцепаніда прыходзіла з самай раніцы. Са зляжалых яблык, ігруш маці ўмела вырабляць віно, і гэтае віно да апошняй бутэлькі выпівала Сцепаніда. Сама маці кроплі ў рот не брала.

Сцепаніда ўсё жыццё была пад хмяльком. На станцыі працавала прыбіральшчыцай, гадоў да пяцідзесяці была бабылкай. У такім узросце яе пазваў у сваю пахіленую хату сусед Іван Лявонік, вартаўнік дрывяного склада. Івана пакалечыла на першай германскай вайне, хадзіў з выгнутым бокам, не мог павярнуць шыі, жаніцца не збіраўся і наогул

глядзеў пагардліва на ўвесь жаночы род. Тым часам пад старасць стала немагчыма жыць без жаночага дogляду.

Сцепаніда папівала і пры Іване, і ён прыхоўваў ад яе грошы, найбольш каштоўныя рэчы, якія яна магла прадаць або проста памяняць на гарэлку. Суседкі меркавалі, што дні Сцепаніды злічаны: гэтак спілася. Тым часам усе яны памерлі, памёр Іван, а Сцепаніда жыве.

Павел найбольш думае пра сына — як у яго пойдзе далей? Успамінае свае, пражытыя тут, у бацькавай хаце, гады.

Ён сам ажаніўся позна, на трыццатым годзе жыцця, узяўшы за жонку прыгожую, вясёлую дзяўчыну, якая, аднак, даводзілася яму далёкай раднёй.

Насця разумная, жывая, рухавая. Але яму з ёй ці ёй з ім пашанцавала не надта. Адразу пасля вяселля ў яе адняліся ногі. Некалькі месяцаў ляжала ў бальніцы без руху. Нарэшце Насця ачуняла, нарадзіла Віталя, а далей няшчасці пайшлі суцэльнай паласой. Наступныя дзеці або нараджаліся мёртвыя, або, два-тры дні пажыўшы, паміралі.

Павел быў у адчаі. Яго спасціг лёс нават горшы, чым бацьку. Бацька доўга вазіў па дактарах маці, якой карова пашкодзіла вока. Зрэшты, вока маці так-сяк падлячылі. Насці тым часам дактары не памаглі.

Разрыў з Міхасём, сямейная бяда прывялі да таго, што Павел, як вось гэтая Сцепаніда, пачаў адчайна піць. Сябры знайшліся. Адзін працаваў вагаўшчыком на станцыі, другі, сын начальніка мясцовай пажарнай каманды, жыў часовымі заробкамі ды яшчэ тым, што ўдавалася ўварваць ад бацькі.

Дарослыя, жанатыя людзі, яны нібы паганялі маладосць: хоць раз у тыдзень збіраліся, куплялі ў складчыну бутэльку, выпраўляліся драць лазу, лавіць рыбу або збіраць грыбы. Вядома, не грыбы і не рыба ядналі іх. Разлёгшыся пад кустом і выпіўшы па кілішку, яны вялі душэўныя размовы, якія нейкім чынам іх узвышалі і апраўдвалі. Яны былі чымсьці падобныя адзін да другога і ўпарта ахоўвалі сваю еднасць. Вагаўшчык яшчэ да вайны скончыў педтэхнікум, але працаваць у школу не пайшоў. Саромеўся свайго заскаленага, з прыплюшчанай вейкай вока. Сын начальніка пажарнай каманды, акрамя сямігодкі, нідзе не вучыўся.

Ужо тады мястэчка пачынала пусцець. Вырай за выраем вылятались з яго пакаленні маладых хлопцаў і дзяўчат. У МТС, затым РТС, дзе Павел працягваў працаваць, стала не хапаць рамонтнікаў, затым і трактарыстаў. Кожны год МТС набірала на курсы чалавек па сто, а на трактар садзілася меней палавіны. Атрымаўшы спецыяльнасць, хлопцы разляталіся хто куды.

Тэхніка, якую прысылалі з заводаў, мела нярэдка відавочныя заганы. Асабліва камбайны. Кожны трэці ці нават другі камбайн, яшчэ не выйшаўшы ў поле, трапляў у майстэрню: патрабаваў дапасавання вузлоў, замены дэталяў, а то і больш сур'ёзнага рамонту. Іначай ён выходзіў са строю на першых гектарах.

У бясконцых выпіўках з сябрамі-таварышамі Павел прагледзеў сына. Як ён цяпер разумее, яго п'янкі былі як насланнё, як вар'яцтва. Сын напачатку рос рухавым, дапытлівым. Чытаў кнігі і вельмі цікавіўся мінулай вайной, партызанскімі справамі бацькі. Дакладна ведаў, дзе, якія вяліся баі за мястэчка, адкуль, якога калібру страляла гармата. Корпаўся ў зарослых травой акопах, выкопваючы пазелянелыя гільзы патронаў, асколкі снарадаў, рэшткі салдацкай амуніцыі.

Бацька ж у гэты час ірваўся да п'янкі. Цяпер ужо кожны вечар. Насця адбірала грошы, хавала вопратку, замыкала дзверы. Тады, апрануўшыся ў што папала, ён выскокваў з дому праз акно...

Ён, вядома, спахапіўся, апомніўся. Ацверазіла тое, што сын збіраўся ісці па ягонай дарожцы...

Як і ўчора, Павел кідае работу, мые рукі, пераапранаецца. Ідзе да Маслакова.

Калі і ёсць у мястэчку жыццё, то яно найбольш віруе на новых вуліцах, што праляглі на прасторным пляцы былых аўтатрактарных курсаў. Доўгія вучэбныя карпусы курсаў аселі, змізарнелі, сталі звычайнымі жылымі дамамі. Побач з імі выраслі драўляныя і каменныя катэджы з акуратнымі дворыкамі, палісаднікамі, садамі.

Дом Маслакова збудаваны таксама на гарадскі манер — з зашклёнай верандай, шырокімі вокнамі. Над дахам тэлевізійная

антэна, у садзе альтанка, вароты ў двор, веснічкі — новыя, з добрага сасновага цёсу.

Маслакоў, мажны, дужы з выгляду, толькі нашчэнт ссівелы, сустрэў Паўла прыязна. Яны сядзяць на верандзе, размаўляюць, пакуль не пачынае цямнець.

Маслакоў раіць перабірацца ў мястэчка. Абяцае памагчы дастаць лесу на рамонт хаты, уладкавацца, калі Павел захоча, у майстэрню. Яна цяпер належыць «Сельгастэхніцы». Ён сам яшчэ працуе, камандуе, хоць, вядома, не на першых ролях...

Павел развітваецца. Апускаецца на зямлю сутонне восеньскага вечара. Нізкае неба заслана шэрымі, рванымі воблакамі, якія імкліва перамяшчаюцца. Забудаваныя новымі катэджамі вуліцы запальваюць агні. Электрычнасць зыркае не толькі ў вокнах дамоў, а і над сасновымі падваротнямі, над дзвярыма хлеўчукоў, проста ў садах між дрэвамі.

Павел ловіць сябе на адчуванні, што даўно-даўно, нібы ў нейкім іншым жыцці, быў такі самы вечар, сіне-шэры змрок сутоння, па-асенняму востры пах зямлі, зыркі бляск агнёў.

Калі гэта было? Можа, у акупацыю, у апошнія асеннія месяцы перад вызваленнем, калі ён быў у партызанах? Падыходзячы да мястэчка, з якога ён з таварышамі насіў соль, тытунь, нямецкія цыгарэты ў атрад, яны падоўгу стаялі на ўзмежку лесу і балота, глядзелі на вуліцу Чангарскай дывізіі, на залітую агнямі станцыю.

Не, тады адчуванне было іншае. Гледзячы на нямецкія агні, на станцыю, на мястэчка, у якім ён не мог паказацца, Павел лавіў сябе на варожым пачуцці да ўсяго гэтага.

Як ён тады захапляўся Маслаковым! Бачыў у ім бясстрашнага чалавека, героя, запамінаў кожнае сказанае ім слова.

З першага партызанскага лета Маслакоў люта помсціў здраднікам. Знаходзіў іх у самых патайных сховішчах, закарвашках, выносячы суровы прысуд.

На вуліцы Чангарскай дывізіі пасяліўся фінагент з суседняй воласці, высокі, з доўгім, як склюд, тварам, агромністымі конскімі зубамі. Фінагент — сошка дробная, на яго можна было не звяртаць увагі. Але вельмі ўжо выдыбаў нягоднік перад немцамі, насіў за плячыма вінтоўку, выдаваў камуністаў, актывістаў, насільнічаў вясковых жанок і дзяўчат.

Павел, калі яшчэ быў сувязным, падказаў Маслакову, дзе начуе фінагент, і назаўтра той як скрозь зямлю праваліўся.

Трапіўшы ў партызаны, Павел хацеў зрабіць тое самае з Кабылаем. Але не даваўся ў рукі хітры воўк. Хаваўся, таіўся, носа з мястэчка не вытыркаў. Жыў прыкладна там, дзе жыве цяпер Маслакоў. Займаў прасторны асабняк старшыні райспажыўсаюза, выбудаваны перад самай вайной. Немцы гэты дом спалілі пры адступленні.

Па чутках, Кабылай нібыта жыве ў Амерыцы. Кажуць, нават пісьмы прыслаў. Абяцаў вярнуцца на белым кані і з сім-тым звесці рахункі.

Пасля вайны Маслакоў працаваў дырэктарам МТС, РТС, загадваў раённай «Сельгастэхнікай». Першыя пасляваенныя гады хадзіў у зеленаватым, з англійскага сукна шынялі, стаптаных кірзавых ботах. Яго бязлітасна крытыкавалі на розных сходах, нарадах, у раённай і абласной газетах.

Другога б расціснула, сцерла ў парашок безупынная, якая цягнулася гадамі, часам вельмі зласлівая крытыка, папярэджанні, вымовы, якія на яго сыпаліся. А ён хадзіў, павольна перастаўляючы ногі, глухім голасам аддаваў каманды, і здавалася, не яго распякаюць у газетах і на сходах, а нейкага зусім іншага чалавека.

Цяпер вось Маслакоў збудаваў сабе выдатны катэдж. Такі самы побач з уласным паставіў сыну. Пахваляўся Паўлу, што ўнучку ўладкаваў у медыцынскі інстытут. Праз знаёмага партызана, які ў інстытуце працуе дацэнтам.

Упершыню варухнулася ў Паўла думка, што не заўсёды быў праведны Маслакоў. Хоць сам пабываў у акружэнні, у палоне, да другіх людзей, якія трапілі ў акрутнае становішча, спагады не меў. Мог бы памагчы Міхасю. Ведаў пра ягоныя справы, займаў кіруючае становішча. Не захацеў. Значыць, ужо тады думаў Маслакоў найбольш пра сябе, пра вось гэтыя катэджы, выбудаваныя для сябе і сына.

## VII

Мінуў другі тыдзень, як Павел у мястэчку.

Памяць лёгка звязала цяперашняе з мінулым. Пачуццё такое, што ніколі Павел з мястэчка не выязджаў, хадзіў па

зарослым травой двары, па сцежцы ў сутачках, глядзеў праз балота на белыя будынкі саўгаса, на шэры абсяг тарфянікаў.

Восень пад самы канец нібы плоціць падатак мокраму халоднаму лету.

У поўдзень сонца вісіць нізка, грэе тым часам ніштавата. Пануе асенняя празрыстасць, хісткай смугой ахутаны далёкі сіне-цёмны лес.

Думкі пра пярэбары мяжуюцца ў Паўла з вострымі неспакойнымі думкамі пра сына. Колькі зможа, будзе ён сыну памагаць. І ўнуку. Калі ўнук падрасце, можа, згодзяцца бацькі, каб гасцяваў у дзеда. Хоць у летнія месяцы.

За дзень да Паўлавага ад'езду з'явілася стрыечная сястра Зіна. Зіна равесніца Мані, але выглядае за яе лепей. Яшчэ рухавая, паўнацелая маладзіца з жывымі вачамі. Хоць замуж аддавай.

Зіна на пенсіі, жыве адна, бо дачка, як і Паўлаў сын, у Саснагорску. Зіна просіць, каб Павел адвёз ёй зімовую вопратку і трохі харчоў.

Сядзяць, размаўляюць, успамінаюць.

Блізка каля Зінінага дома сядзіба Ясеня, сын якога стаў генералам. Павел з цікавасцю спытаў пра генерала, што вярнуўся ў мястэчка.

— Слабы ён,— адказала Зіна.— Пройдзе па двары, на вуліцу зірне. Тады зноў у хату. Іншы раз, апіраючыся на палачку, у поле выберацца. Стане і глядзіць...

Вечарам Павел пакіраваў да клуба, дзе Міхась працуе вартаўніком. Хацеў напаткаць яго аднаго, пасядзець, пагаварыць. Толькі не знайшоў Міхася — у яго якраз выхадны.

На рагу вуліцы, побач з клубам, размешчаны новы кінатэатр.

Павел з цікавасцю пахадзіў каля белай каменнай будыніны, пастаяў на выкладзенай плітамі пляцоўцы. Людзей няма, пачаўся кінасеанс.

Будынак кінатэатра на высокім фундаменце, з пляцоўкі са ступенькамі добра відаць прылеглыя вуліцы, трохпавярховая школа, бальнічны двор, дзе на месцы драўлянай бальніцы выраслі новыя каменныя карпусы.

Насупраць кінатэатра стаянка аўтобуса, якім Павел прыехаў і заўтра паедзе.

Ноччу здарылася незвычайнае. Стары, перабудаваны з царквы клуб, куды Павел прыходзіў да Міхася, успыхнуў як свечка і за гадзіну згарэў. Пажарнікі падкаціліі, калі полымя ахапіла ўвесь будынак і ўжо нічога нельга было зрабіць.

Павел добра спаў, пажару не бачыў, пра ўсё даведаўся толькі раніцай.

Было шкада старога клуба. Столькі з ім звязана. Ён нібы часцінка асабістага жыцця, якую нельга ні забыць, ні закрэсліць. Мільганула думка: Міхасю на гэты раз пашанцавала. Ён не дзяжурыў і не будзе несці адказнасць за пажар.

І яшчэ падумаў Павел, што з Міхасём трэба сустрэцца. Нават у тым выпадку, калі не ўдасца пераехаць у мястэчка.

*1986*

# 1988

## АПРАСЦІМСЯ, СЯБРЫ!..

З выгляду Лёха Фунцік асабліва не выдзяляецца. Худаваты, рудаваты, апранут неахайна. Можа, з прычыны таго, што Фунцік у вечным руху, заўсёды некуды бяжыць, спяшаецца, ён часам нават пагаліцца забывае. Але справа зрэшты не ў знешнасці.

У апошні час справы Фунціка пайшлі ўгору. Падумайце самі: вучыўся Лёха ў аспірантуры, але маючы гарачы, запалісты характар, люта пасварыўся з навуковым кіраўнікам. Пра дысертацыю давялося забыць. На некалькі гадоў Лёха наогул знік з горада. Дзе жыў, чым займаўся? — невядома.

І вось той самы, амаль невядомы Фунцік раптам выплывае ў якасці загадчыка аддзела рэдакцыі вядомай газеты. Літаратарам стаў Лёха і не абы-якім літаратарам! Фунціка друкуюць у розных газетах, і ў маладзёжны часопіс ён прабіўся. Хто-небудзь скажа: пашанцавала. Няхай так. Але ж трэба шанц свой не ўпусціць, у патрэбны момант сказаць сваё слова, звярнуць на сябе ўвагу. Лёха ўсё гэта зрабіў. Таму ён на кані.

Некаторыя творчыя асобы жыць не могуць без Лёхі. Пішуць, праўда, не надта, але ў кіраўнічых крэслах хочуць сядзець. Фунцік іншы раз пахваліць таго ці іншага. Хіба мала гаворыцца розных слоў? Тым часам ягонае сумленне спакойнае. Хабараў Фунцік не бярэ, жыве за кошт сваіх ганарараў.

Так ідзе год ці нават болей.

І вось сарваўся Лёха. Старыя крыўды не мог забыць. Рашыў адпомсціць кніжным душам, якія яшчэ на подступах да абароны зарэзалі ягоную дысертацыю. Адзін артыкул ім падсыпаў, другі. Доўга чухаліся вучоныя ахламоны. Нарэшце ўдарылі па Фунціку калектыўным артыкулам. Два дактары навук, тры кандыдаты. Прыйшлося з рэдакцыяй развітацца.

Можа, і добра, што пайшоў Фунцік з газеты. Што там такога асаблівага? Тым часам на творчых вяршынях Фунціка заўважылі. У крыўду не далі. У штаты часопіса трапіў.

Цяпер Лёха разгорнецца як мае быць. Ён пакажа ўсім гэтым задрыпаным літаратарам, што жыўцом пруць у класікі! Вецер перамен нібы спецыяльна дзьме ў разгарачаны твар Лёхі! О, ён цяпер працярэбіць сабе шлях! Сёння патрэбны новыя сюжэты, новыя тэмы, характары, вобразы. Новае, новае, новае!.. Скінем з высокіх п’едэсталаў заплеснявелых ідалаў! Дарогу маладой, творчай змене!..

Сваю задачу Лёха разумее добра. Нядаўна раман аднаго жывога генія вылучылі на прэмію. Лёха ведае, што рабіць. Тыдзень не вылазіць са свайго закуранага пакойчыка-бакавухі, перамацвае раман за ўсе парэбрыны. Рэцэнзія атрымалася аж на пяцьдзясят старонак. Лёха пасылае яе не ў рэдакцыю, а ў інстанцыі. Так надзейней. Вядома, без подпісу. Гулу смаленую, а не прэмію, будзе мець той геній. І ніколі не здагадаецца, сівы пацук, хто гэтак удружыў.

У Лёхі ад творчых перспектыў галава кружыцца. Трохі часу — і ўзбярэцца Лёха на саменькі Парнас. Артыкулаў дзесяць ужо надрукавана. Так што ў недалёкім будучым уласная кніга Лёху свеціць. А там і брама Саюза пісьменнікаў перад ім адчыніцца. За адзін артыкул, у якім ён надта ўдала патаптаўся па літаратурнай ніве, аўтарытэтная, але далёкая ад мясцовых спраў газета Лёху нават прэмію прысудзіла.

Лёха ездзіць па камандзіроўках, носіцца па рэдакцыях. Сёння тут, заўтра — там.

Галоўнае — заваяваць аўтарытэт у моладзі. Рашаючае слова гаворыць сёння моладзь. У адзін з вечароў Лёха трапляе на дыскатэку хэві-металістаў «Зялёнае вока». У цесным паўпадвальчыку мігцяць рознакаляровыя агні, чуваць надрыўна-ўзбуджальныя рытмы, шоргаюць, стукаюць,

грукаюць па ацэментаванай падлозе падэшвы распараных, разгарачаных у імклівым руху хлапцоў і дзяўчат.

Лёху бедлам падабаецца. Ён адчувае, як ва ўласных жылах нібы закіпае кроў, а цела пачынае трэсці, як у ліхаманцы. Калі на момант сціхае музыка, Лёха сігае на асветлены чырвона-сіні круг падлогі.

— Апрасцімся, сябры! — выгуквае ён на ўсе грудзі.— Станем сапраўднымі дзецьмі прыроды. Будзем поўнымі прыгаршчамі чэрпаць радасці, якія дае жыццё! Прыгажосць не трэба хаваць! Будзем як першыя людзі на зямлі! Як Адам і Ева...

У тую ж хвіліну Лёха адчувае, як чыясьці цяжкая рука кладзецца на ягоны худы плячук.

— Ты да чаго заклікаеш, стары шкілет? — грыміць высокі чорны дзяціна.— Хочаш скінуць транты і паказваць нам свае маслы? Каціся адсюль, пакуль жывы...

Дзяціна выводзіць Лёху з падвальчыка і на развітанне яшчэ нагой трохі наддае. Няўдача ніколі не ходзіць адна. Яна вядзе з сабой другую і нават трэцюю няўдачу. Вярнуўшыся ў свой пакойчык-бакавушку, Лёха застае Міхайлу Брындуся, сябра горкіх гадоў, якія, як Лёху здавалася, даўно адышлі ў нябыт.

Міхайла сядзіць на ложку, засланым бруднаватай коўдрай, гартае часопіс.

— Дрэнна жывеш, Лёха,— гаворыць Міхайла.— Хоць і артыкулы друкуеш. Мы з табой лепей жылі, калі па свеце блукалі...

Міхайла кранае паласу жыцця, якую Лёха не хоча ўспамінаць. Пасля таго, як выпхнулі Фунціка з аспірантуры, пайшоў ён па крывой дарожцы. Разам з Міхайлам ездзіў па невялікіх гарадках, мястэчках, выдаваў сябе за таго ці іншага паэта, наладжваў творчыя вечары. «Крытык» Міхайла пра «паэта» расказваў, «паэт» чытаў вершы. Горкае, рызыкоўнае было жыццё. Разы са два проста са сцэны прыходзілася ўцякаць.

— Я прыйшоў папярэдзіць цябе, Лёха,— працягвае Міхайла.— У горад прыехаў Васька Пухір. Той самы, што выстаўляў сябе за прапраўнука Дастаеўскага. Васька гаворыць, што прадаў ты яго...

— Нікога я не прадаваў...

— Не мае значэння, Лёха. Ты Пухіра ведаеш. Жыць не будзе, пакуль не папомсціцца. Знікні пакуль з горада. У цябе, здаецца, дыплом ёсць. Зашыйся куды-небудзь у школу. Дый ногул трэба да ціхага берага прыбівацца. Па сорак гадоў нам. Я вот качагарам на ТЭЦ паступіў. Жыву сабе...

Падаўшы на развітанне руку, Міхайла знікае. Лёха распранаецца, бярэ таблетку валідолу, запівае вадой з пазелянелага графіна і доўга, да раніцы не можа заснуць. Варочаецца, цяжка ўздыхае, думае...

*1988*

## ВЫГНАННЕ ВАДАЛЕЯ

Новага дырэктара васьмігодкі Вадалея брыгадзір брыгады механізатараў Васіль Карпец адразу неўзлюбіў. Куртаты, пузаты, і вочы, як у змея. Ніводнай маладой жанчыны не прапусціць, не правёўшы сваім змяіным позіркам. І гэта, называецца, настаўнік, ды яшчэ дырэктар! Скончыў інстытут, мае дыплом. Настаўнік прыклад сваімі паводзінамі павінен паказваць, а Вадалей што робіць?

Вадалей нарадзіўся ў суседняй вёсцы, і Васіль цьмяна ўспамінае чуткі пра ягонага бацьку. Нібыта стары Вадалей, працуючы ў раённай установе, быў вялікі зух па жаночай частцы, меў каханак ледзь не ў кожнай вёсцы. На гэтым і пагарэў. Нібыта тры каханкі адразу падалі на яго ў суд.

Так ці не так, Васіль дакладна не ведае. Але Вадалея не любіць. Нават выгляду яго не пераносіць. Выгадаваўся, гультаіна, на казённых харчах. Мурло наеў, як ражку. І хто такіх, як гэты Вадалей, дырэктарамі школ прызначае? Тут на абразіну, на зіркатыя вочы зірні — і адразу ўсё ясна: за вярсту такіх казлоў у штанах не трэба падпускаць да школы. Вучаць жа дзяцей цяпер пераважна жанчыны, настаўніцы, і як такі прайдзісвет будзе імі кіраваць?..

Можа б, так і не лютаваў Карпец, каб яму не падалося, што ўласная яго жонка, Галя, якая таксама працуе ў школе настаўніцай, усё з большай сімпатыяй расказвае пра

дырэктара. І разумны ён, і далікатны, а які дасціпны, як умее рассмяшыць, развесяліць!..

Васіль шалее ад злосці.

Дырэктар жыве ў цагляным, васьмікватэрным доме, які пабудавалі настаўнікам у бярозавым гайку. Мае жонку, двух дзяцей. З неспакойным сэрцам праходзіць міма гэтага дома Васіль. Як бы шукае пацвярджэння, што Вадалей зусім не той чалавек, за якога сябе выдае.

У Васіля ёсць грунт трывожыцца за Галю. Яна ў яго другая жонка, першай была асоба, якая прагнула вясёлага жыцця і ўцех. Васіль з ёй развёўся. Але нейкая рана ў душы засталася. Васіль стаў з падазрэннем ставіцца да ўсіх жанчын наогул.

Мо й сваю Галю таму моцна крыўдзіў. Раўнаваў, зневажаў. Толькі пражыўшы з ёй некалькі гадоў, Васіль зразумеў, як ён памыляўся. Цяпер баіцца, каб Галя як-небудзь не адпомсціла. Бо Вадалеем яна, здаецца, усё болей і болей захапляецца...

Мінае год. Васіль такі асочвае Вадалея. Праўдзівей, даказвае сабе самому, што ён не памыляецца наконт дырэктара васьмігодкі. Хітры двурушнік. На выгляд — прыстойны сем'янін, на справе — памаўзлівы марцовы кот. Шастае да прыгожай Дунькі, жонкі трактарыста ягонай брыгады Ваціка Базылёва, які вельмі любіць чарку і свету за ёй не бачыць.

Дома Васіль спрабуе сёе-тое расказаць пра Вадалея Галі. Але яна нават слухаць не хоча. Маўляў, гэта ты са злосці на чалавека нагаворваеш. А ён разумны, інтэлігентны, высакародны.

Мінае яшчэ адзін год.

Масла ў агонь падлівае знаёмы настаўнік, які працуе на другім канцы раёна і якога Васіль сустракае ў раённым гарадку.

Павітаўшыся, настаўнік з ходу пытаецца ў Васіля:

— Вадалея, новага вашага дырэктара школы, яшчэ не прагналі?

— За што яго павінны прагнаць?

— Ды ён жа амаральны тып. Распуснік. За бытавое разлажэнне яго ў нашай школе з дырэктарства знялі. Ды, відаць, руку мае. Нехта яго моцна падтрымлівае. Зноў назначылі дырэктарам.

Пасля гэтай размовы Васіль рашае болей не выпрабоўваць цярпенне.

На другі дзень Васіль выклікае Ваціка Базылёва.

— Паедзеш у раён,— брыгадзір працягвае трактарысту камандзіроўку.— Прывязеш запчастак. Думаю, управішся да заўтрашняга вечара. Жніво вось-вось пачнецца, а яшчэ два камбайны на прыколе.

— У камандзіроўцы пазначана тры дні тэрміну,— здзіўлена гаворыць Вацік.

— На ўсякі выпадак. Каб жонка не хвалявалася, калі раптам што сарвецца. Зрабі, адным словам, усё, каб заўтра вечарам быць дома...

Васіль ведае, куды цэліць. Вадалей шастае да Дунькі па вечарах, калі Ваціка няма дома і калі менш віжуе чужое вока...

...Шкада, мала людзей бачылі тое відовішча. Вацік Базылёў вяртаецца з камандзіроўкі бадай што ўночы. Дзверы дома замкнуты знутры. Вацік стукае ў дзверы. Жонка чамусьці не адчыняе. Вацік стукае больш настойліва. Раптам з грукатам расчыняецца акно і з яго вывальваецца белая круглая постаць. Вацік у першую хвіліну губляецца, і белая постаць паспявае выскачыць на вуліцу. Нарэшце Вацік усё разумее, похапкам выломлівае з плятня кол...

Раз’юшаны Вацік гоніць Вадалея, які нават нагавіцы не паспеў надзець, выскачыў у адной кашулі, праз усю доўгую вуліцу. Ён, вядома, пазнае дырэктара васьмігодкі, і ад гэтага ягоная лютасць з кожнай хвілінай узрастае.

Вадалей то ў чужы панадворак забяжыць, то ў жыта, то ў каноплі, але Вацік не адстае. Шалёны ад злосці, гоніць палюбоўніка жонкі з калом у руках.

Магла б здарыцца бяда, ды пашкадаваў дырэктара шафёр, які якраз прыгнаў машыну на калгасны двор. Завёў шафёр машыну — і па следу. Адчыніў дзверцы кабіны, на хаду падхапіўшы Вадалея ў кабіну. Так у гэтай машыне назаўсёды з’ехаў з вёскі памаўзлівы дырэктар Вадалей.

Галя, вядома, даведалася пра начную гісторыю, якая здарылася з Вадалеем. Чамусьці не асудзіла яго. Толькі пасмутнела, пазмрачнела.

Дзіўныя яны, жанчыны.

*1988*

# ГУСІ-ЛЕБЕДЗІ

Пад трохметровую цагляную сцяну, некалі пабеленую, але цяпер ад вятроў і дажджоў пашарэлую, цёмную Пятро Галаскок прабіраецца прыцемкам. Пры святле дня небяспечна.

Каменная сцяна не абы-якая: агароджвае прасторны, са шматлікімі будынкамі двор вытворчага вінна-гарэлачнага аб'яднання «Блакітны ветразь» ад вуліцы, горада і наогул ад усяго астатняга свету. Тут Пятро Галаскок свой чалавек: ужо паўгода працуе вартаўніком.

Так запісана ў яго шматпакутнай працоўнай кніжцы. Шмат чаго цікавага можна прачытаць у гэтай кніжцы. Кім толькі Галаскок ні быў! Слесарам, токарам, тэхнікам-асенізатарам, дворнікам, швейцарам у рэстаране, матросам-інструктарам на рачной выратавальнай станцыі, нарэшце, інструктарам эксперыментальнай кафедры адной з навукова-даследчых медыцынскіх устаноў.

Пра перадапошнюю пасаду варта сказаць падрабязней. Спрытна закідваючы вераўчаную пятлю, Галаскок лавіў па горадзе вандроўных сабак, прывалакваў у цёмную драўляную будку, абсталяваную на грузавіку.

Гіцлем працаваў Галаскок. Але нават з гэтай пасады яго звольнілі. Бо, прывёзшы сабак у падвальнае сутарэнне, ён выбіраў прыстойнейшых, пародзістых, мыў іх, падкормліваў і з выгодай для сябе прадаваў.

Ні на адной пасадзе Галаскок доўга не трымаецца. Тры-чатыры месяцы, ад сілы паўгода. Звальняецца па ўласным жаданні. Свабоду любіць.

...Шэрым зімовым адвячоркам тры постаці запыняюцца на мосце, перакінутым цераз раку. Двое трымаюць у руках каністры, у якіх шафёры звычайна возяць запасны бензін.

— У добры час,— гаворыць адзін сіплым прастуджаным голасам.— Доўга не затрымлівайся. Бачыш, як мы змарнелі. Трэба хутчэй пагрэцца...

Галаскокавы таварышы, не зважаючы на зімовы час, апрануты не надта. На першым замест паліто плашч, шыя захутана шалікам, шапкі наогул няма. Другі нібы сабраўся ехаць да цёплага мора: у капелюшы, сандалях і парусінавым пінжачку.

У таварышаў Галаскока пасінелыя ад холаду твары, сіне-пунсовыя насы. Ад холаду яны час ад часу пацепваюць плячамі.

Галаскок бярэ ад сяброў каністры.

— Калі вернешся? — пытае той, што апрануты ў плашч.

— Гадзіны праз дзве. Тут не стойце. Пад мост схавайцеся.

— Мы ў кацельную пойдзем. Да Вярблюда. Але давядзецца Вярблюду бутэльку паставіць.

— Паставім.

Галаскок спускаецца да ракі. Ісці цяжка: снег стаў абледзянелым грудам, ногі блытаюцца ў доўгай шорсткай траве. Ён сяк-так дабіраецца да каменнай сцяны. Тут ісці яшчэ цяжэй. Мясцінамі сцяна спускаецца ледзь не да самай вады. Так што вельмі лёгка можна баўтануць у халодную раку, прастудзіцца, а там і душу Богу аддаць.

Нарэшце Галаскок дабіраецца да вярбы, якая навісае над сцяной і ракой. Мясціна тут прывабная. Пясчаны мысок метры на два. Так што пад вярбой і прылегчы можна. Блізка адсюль па цэментаванай трубе выпускаецца вада з заводскіх адстойнікаў. Таму ў гэтым месцы рака ніколі не замярзае. Зімуюць на плёсе дзікія гусі-лебедзі, якія колькі ўжо зім не лятаюць у цёплыя краіны.

Гусі-лебедзі ведаюць Галаскока. Прыбрыдаючы пад вярбу, ён прыносіць за пазухай батон. Птахі даверліва гергечуць, падплываюць да берага, вывуджваючы чырвонымі дзюбамі з вады кавалачкі батона, якія кідае Галаскок. І маскіроўка харошая. Калі з процілеглага берага хто-небудзь і вытрашчыцца на Галаскока, то нічога благога не падумае. Ну, сядзіць пад дрэвам чалавек, падкормлівае гусей-лебедзяў. Значыць, добрае ў чалавека сэрца...

Між тым Галаскок намацвае гумавы шланг, выведзены праз шчыліну ў каменнай сцяне з заводскага двара на бераг ракі. Здымае стальны зажым, і спірт пругкім струменем б’е ў дно жалезнай каністры. За лічаныя хвіліны напаўняецца каністра.

Усё ідзе заведзеным парадкам. Толькі на гэты раз чамусьці не спяшаецца Галаскок. Напоўніўшы спіртам каністры, ён бярэ шланг у рукі і, перш чым пераціснуць яго зажымам, падносіць да рота, робіць адзін глыток, другі...

Спірт перахоплівае дыханне, і Галаскок, нахіліўшыся, зачэрпвае бляшанкай рачной вады. Запівае вадой спірт. Усё патрэбнае, так сказаць, пад рукой.

Хутка робіцца Галаскоку цёпла і добра. Прыемна адчуваць сябе ўладаром. А ён сапраўдны ўладар: мае, можна сказаць, уласны спіртзавод. Хоць тону спірту за ноч можа выкачаць. Лапухі ў гэтым вінна-гарэлачным аб'яднанні. Яго, вопытнага інжынера-канструктара, прызначылі вартаўніком. Нядоўга ён ламаў галаву над тым, як зрабіць спіртаправод. Купіў тры камплекты шлангаў для паліўкі садоваагародных участкаў, злучыў іх, адзін канец даўжэзнага шланга апусціў у чан са спіртам, другі — вывеў праз дзірку агароджы. Далей бездакорна дзейнічае закон злучаных сасудаў...

Вядома, не ад харошага жыцця Галаскок пайшоў у вартаўнікі. Ведаў ён і лепшыя часы. Працаваў некалі інжынерам на трактарным, быў паважаным чалавекам, меў вынаходствы, часта атрымліваў прэміі. Можа, гэтыя прэміі і павялі па крывой дарожцы. Ён стаў выпіваць, і нават часта. Хаўруснікі знайшліся. Як вось гэтыя, што пайшлі ў кацельную. Чакаюць, д'яблы, ягонага спірту. Аднаго з інстытута выперлі, другі, здаецца, наогул злодзей. З мясцін не вельмі аддаленых вярнуўся. Сябры на гадзіну. Адразу адвернуцца, як надыдзе бяда.

Далей у лес, болей дроў. Уладкаваўся Галаскок інжынерам на другі завод, але пачало здавацца, што жонка здраджвае. Да шаленства даходзіла. Прыступы рэўнасці былі жудасныя. Аднойчы ён ледзь не зарэзаў жонку. Кончылася тым, што яна падала на развод. На дваіх дзяцей не паглядзела...

І пайшло, і паехала. Прыйшлося Галаскоку згубіць працоўную кніжку, у якой запісана, што ён інжынер. Бо інжынерам яго болей не бралі.

Успамінаючы мінулае, Пятро непрыкметна засынае. Скрозь сон чуе: залішне голасна крычаць на вадзе гусі-лебедзі. І ўжо бачыць сябе Галаскок на крылах гэтых дзікіх птушак. Яны ляцяць у вырай, у цёплыя краіны і нясуць на сваіх крылах Галаскока. Там, у ціхім зялёным краі, чакае Пятра жонка, дачка Галя, сын Петрык. Бо Галаскок болей не п'е, стаў чалавекам, яго зноў узялі інжынерам-канструктарам на трактарны.

Ад пранізлівага гусінага крыку Галаскок прачынаецца. Гусі-лебедзі паводзяць сябе дзіўна: імкліва б’ючы крыламі, носяцца па вадзе, гергечуць. Нібы танцы наладзілі.

Галаскок хапаецца за шланг. Ён цяпер бачыць: забыў заціснуць шланг зажымам, і спірт пругкім струменем б’е ў раку. Колькі ён спаў? Гадзіну, дзве? Колькі за гэты час выцекла спірту ў раку? Можа, цэлая тона? Бо гусі-лебедзі відавочна п’яныя: шукалі сваіх вадзяных жукоў і наглыталіся непрыкметна спірту.

У шэрані ночы відаць на процілеглым беразе ракі дзве постаці. Яны махаюць рукамі, штосьці крычаць. Нястрымная злосць апаноўвае Галаскока. «Дудкі, даражэнькія. Не памочыце болей нос у крадзены спірт»,— думае ён. Галаскок б’е нагой па адной каністры, другой, скідаючы іх у раку. Заціскае зажымам шланг.

Са «спіртзаводам» ён сёння не ўправіцца. Але зробіць гэта заўтра, калі яго да заўтра не пакліча да сябе сагнутым пальцам міліцыянер. Зрэшты, няхай і міліцыянер кліча. Ёсць за што...

*1988*

## ПАЛЯВАННЕ НА ДЗІКА

— Завязу, браткі, у такую мясціну!.. Дзіч. Глуш. Чалавечая нага не ступала. Папалюем у ахвоту. На дзікоў, зайцоў, ліс... Зверыны — на любы густ. Першабытная мясціна...

Так абмалёўваў выгоды палявання ў вядомым яму месцы тэхнікумаўскі выкладчык Аляксей Апанасавіч Маргун. Ягоныя малодшыя калегі Яскавец і Рабіна вераць і не вераць. Па-першае, дзе ты сёння знойдзеш тую першабытную мясціну? Па-другое, Аляксей Апанасавіч, здаецца, майстар заліваць кулі. Заўсёды пляце пра што-небудзь неверагоднае.

Але выбару няма. Яскаўца і Рабіну толькі-толькі прынялі ў саюз паляўнічых, і яны аж гарэць ад узбуджэння. Купілі сабе па стрэльбе, патранташы, гумавыя, з высокімі халявамі боты, у якіх не страшна палезці нават у балотную дрыгву. Зрэшты, Яскавец і Рабіна не прэтэндуюць на бог ведае

якое паляўнічае шчасце. Галоўнае — паблукаць, павандраваць па лесе, набрацца ўражанняў, адпачыць ад надакучлівай тэхнікумаўскай будзённасці: заняткаў, пасяджэнняў, лекцый, дакладаў. Прырода — яна ж лечыць, натхняе.

Тым часам пра Маргуна вядома: грыбнік і рыбак ён што трэба. Летам баравікоў насушвае кілаграмы два. Апенькі, зялёнкі цягае восенню кашамі. У розных сажалках, рачулках Маргун удачліва ловіць карасёў, краснапёрак, а часам нават шчупакоў.

Сябры-таварышы дамовіліся і цяпер толькі чакаюць пачатку паляўнічага сезона. Нарэшце прачыталі ў газеце: дазваляецца паляваць на дзікоў. На дзікоў, дык на дзікоў. І хоць тэхнікумаўскія паляўнічыя яшчэ ні разу са сваіх стрэльбаў не бабахнулі, ніводнай курапаткі або якой-небудзь дзікай качкі не ўпалявалі, тым не меней адважваюцца паляваць на дзіка.

Выязджаюць на паляванне ў другой палавіне ночы на «Масквічы» Рабіны. Абодва паляўнічыя набілі патроны дранкулькамі і зарадзілі імі свае стрэльбы. Дзік — жывёла сур'ёзная: не ўложыш яго на месцы, то, не дай бог, недабіты рыне на цябе самога. Парве на кавалкі ікламі.

У Маргуна стрэльбы няма. Ён проста падахвочваецца паказаць маладзейшым таварышам мясціну, дзе процьма ўсялякай дзічыны.

Гадзіны дзве едуць па шашы, а потым зварочваюць на прасёлкавую дарогу і пры запаленых фарах яшчэ доўга трасуцца па выбоінах і тугім карэнні, якім проста аплецена вузкая лясная каляіна. Уражанне такое, што сапраўды забраліся ў несусветную нетру.

— Здаецца, на месцы,— прыцішыўшы голас, прамаўляе Маргун. Ён, здаецца, у машыне драмаў і нават за дарогай не сачыў.

Паляўнічыя вылазяць з «Масквіча». Ад доўгага сядзення ногі ва ўсіх здранцвелі, зрабіліся непаслухмянымі, нібыта ватнымі.

Неба пачынае святлець. У прагалах між хмарамі гаснуць апошнія зоркі.

— Трэба яшчэ прайсці трохі, хлопцы,— гаворыць Маргун.— Машыну тут пакінем. Выведу вас на лясную паляну. На ёй аер расце. Дзікі любяць ласавацца карэннямі аеру.

Ціха ступаюць праз гушчэчу бярэзніку, асінніку. Нарэшце наперадзе як бы расступаецца лес. Так і ёсць: позірку адкрываецца нешырокая, круглая паляна-лугавіна.

— Вось тут у кустах кладзіцеся і чакайце,— напаўголаса дае ўказанні Маргун.— Дзікі выходзяць на світанку. Урыюцца лычамі ў зямлю і нічога не чуюць. Тады страляйце. Я ля машыны пабуду...

Яснавец і Рабіна кладуцца на зямлю за кустом вербалозу, выставіўшы наперад свае новенькія стрэльбы. Не сказаць, што вельмі падабаецца ім мясціна. Неяк не падобна яна на запаветную нетру. Але, зрэшты, не павінен Маргун хлусіць.

Тым часам пачынае світаць. Сініцы цінькаюць, і цікаўная сарока трашчыць, скачучы з куста на куст. Відаць, іх, паляўнічых, заўважыла. Ніякія дзікі пры сарочым трэску на палянку не выйдуць. Пальнуць бы па гэтай балаболцы.

Можа, цэлую гадзіну ляжаць пад кустом Рабіна і Яскавец. Нават змерзлі трохі, бо баяцца паварушыцца. Ужо добра вывіднела. Бярозы, асіны, якія атуляюць паляну, стаяць у асенняй пазалоце. У процілеглым канцы паляны як бы вымалёўваецца яшчэ адзін прагал, на ім саламяная страха хлява ці адрыны. Але не можа быць у гэтай лясной гушчэчы чалавечага жытла. Можа, паляўнічыя хіба шалаш сплялі? Па вясне сядзяць у такіх шалашах, асочваюць цецерукоў.

Сарока між тым трашчыць на суседнім кусце.

— Пляткарка праклятая! — гаворыць Яскавец, устаючы.— Усё паляванне сапсавала. Вось зараз я цябе пачастую.

Яскавец ловіць на мушку сароку, якая скача з галіны на галіну.

У гэтую хвіліну на паляну выскаквае паласаты, з доўгім лычом дзік, штосьці нюхае, рохкае, затым пачынае рыць зямлю. Яскавец дзіка не бачыць: цэліцца ў сароку. Рабіна адважваецца: дзік блізка і, можа, другі такі момант не набяжыць. Амаль адначасова раздаюцца два стрэлы. Не прамахнуўся Яскавец. Забітая сарока падае на дол. Тым часам Рабіна толькі падраніў дзіка: вішчучы, цягнучы зад, ён паўзе ў напрамку да хлява, які цяпер выразна відаць. Далей наогул здараецца неверагоднае. За хлявом і хата стаіць, дым з коміна ідзе.

Між тым падбіты дзік так вішчыць, што бедныя паляўнічыя адразу бачаць, як яны страшэнна памыліліся. Бо не дзік гэта, а звычайны падсвінак.

Горш за ўсё тое, што пачуўшы віск парасяці, з панадворка выглядае кабеціна. Убачыўшы падбітага падсвінка, яна заскаквае ў хату, прыхоплівае качаргу і бяжыць да кустоў.

— Алкашы праклятыя! — крычыць кабеціна.— Зенкі пазалівалі і свойскую свінку застрэлілі. Я вам не дарую. Пад суд пойдзеце! Такая ядучая свінка была...

Ушчэнт збянтэжаныя, перапалоханыя, Рабіна і Яскавец выходзяць з-за куста. Далі-такі яны маху. За палянай відаць вёска: стрэхі хлявоў, хат. І гул матораў выразна чуваць. Значыць, вёска пры шашы.

Разгневаную цётку паляўнічыя ўлагоджваюць грашамі. Шэсцьдзясят рублёў даюць, абы не крычала. Падстрэлены парсюк таксама ёй застаецца...

Каля машыны Маргуна няма. Сябры залазяць у машыну, Рабіна адразу ўключае газ.

— Трэба было хоць сароку ўзяць,— гаворыць Яскавец.— Я яе ўсё-такі падстрэліў.

— Твая сарока нам усю справу сапсавала.

З бярэзніку выскаквае Маргун, махае рукой. У другой трымае кошык з зялёнкамі. Не траціў, значыць, дарэмна час Аляксей Апанасавіч.

Рабіна з Яскаўцом робяць выгляд, што не бачаць Маргуна. Рабіна нават газу наддае. Няхай пешшу дабіраецца хітры свістун да шашы.

*1988*

# 1989

## НЕ ХАЧУ БЫЦЬ КАРАЛЁМ

Я сядзеў на залатым троне і трымаў у руках залаты скіпетр — знак каралеўскай улады. Скіпетр нечым нагадваў звычайны сахор, якім вясной выкідваюць зляжалы гной з хлявоў. На руках у мяне былі белыя пальчаткі, падобныя на тыя, у якіх міліцыянеры рэгулююць вулічны рух. Залатая карона ціснула на галаву. Яна важыла не меней пуда. У аздобленай золатам мантыі было душна, пот ліў з мяне цурком. Абмахнуцца хусцінкай не выпадала — кожны рух і жэст караля павінен быць напоўнены веліччу і грацыяй. Караля ж нібы фатаграфавала гісторыя. Нешта кусала ля паясніцы. Пры адной думцы, што пад залатую мантыю залезлі блохі, мяне кідала ў жах.

Каля трона тоўпіліся прыдворныя. Яны пазіралі ў падлогу. Былі відаць толькі іх раскошныя, завітыя на сярэдневяковы манер, парыкі. Я ведаў, што пад парыкамі лысыя чарапы. Прыдворныя нагадвалі статак авечак, якіх добра вымылі і зараз пагоняць на стрыжку. Мне хацелася хутчэй ад іх пазбавіцца. Але трэба было вытрымаць выдуманыя нейкім маім папярэднікам хвіліны афіцыйнага прыёму. Нешта ўкусіла за лытку. Як марудна, пакутліва цягнецца час!

Нарэшце прыём скончыўся. Прыдворныя выйшлі задам, нізка кланяючыся. Каб застацца аднаму, я паслаў лёкая, аздобленага, як і кароль, залатымі пазументамі па вопратцы, купіць сельтэрскай вады. Пасля ўспомніў, што каралю

нягожа піць сельтэрскую, і, вярнуўшы яго, загадаў прынесці бутэльку кюрсо на лёдзе. Азірнуўшыся, ці не падглядвае хто, я з асалодай пачухаў паясніцу, паказатыў сябе пад пахай і, падвярнуўшы ўгору жабо, распусціў залатыя аплікі, якія ўеліся ў шыю.

Ускочыў кардынал Мазарыні. Ён заўсёды з'яўляўся без даклада. На худым, нібы гарохавы струк, твары свяціліся хітрыя вочкі.

— Ваша вялікасць,— завіляў Мазарыні,— Англія зноў пляце тайныя інтрыгі супраць Францыі. Наш святы абавязак — прысекчы грэшныя намеры ў корані. Я арганізаваў хваляванні ў Шатландыі. Трэба яшчэ мільён франкаў з казны, пашлём туды новых лазутчыкаў. Англіі будзе не да нас, даю вам слова гонару...

«Дурань,— падумаў я.— А колькі абыходзіцца казне твая новая палюбоўніца? А яшчэ кардынал. Напусціць бы на цябе нашых бязбожнікаў...»

А ўголас прамовіў:

— Казна не настолькі багатая, Мазарыні. На гэтыя грошы мы лепш пабудуем стадыён. Апрача ўсяго, трэба адрамантаваць кватэры на ўскраінах Парыжа! Ты быў там калі-небудзь?

Мазарыні скрывіўся, нібы папярхнуўся гарчыцай.

Нячутна ўплыла каралева. Уся ў капроне і ў шоўку. Ніколькі не клапоцячыся аб прыстойнасці, яна вытанцоўвала ля трона на манер рок-н-рола.

— Пупсік,— звярнулася яна да мяне.— Графіня Наварская мае тысячу дзвесце сукенак. Гэта на сорак больш, чым у мяне. Нягожа каралеве мець такі бедны гардэроб. Выпішы мне чэк на мільён франкаў. На дробныя выдаткі...

Не памятаю, што я адказаў каралеве. Штосьці не надта ласкавае... пра рыначную эканоміку.

Апоўдні пацеў на парадзе каралеўскай гвардыі. Глуха гулі медныя трубы. Цокаючы па бруку, на белых конях ехалі мае любімыя мушкецёры. Я ўглядваўся ў іх рады, стараючыся ўбачыць адважнага Д'Артаньяна, дужага Партоса, праніклівага Атоса. Яны ехалі ў першай шарэнзе. Я здалёк памахаў ім пальчаткамі. Хацелася паклікаць да сябе гэтых добрых хлопцаў, пасядзець з імі ў чайной, пагаварыць. З

іх атрымаліся б, мабыць, неблагія трактарысты, розуму ж і хваткі ім не пазычаць.

Вечарам у мой пакой паціхеньку прабраўся Атос і на вуха шапнуў, што на мяне рыхтуецца замах. На трон адразу прэтэндавалі два мае малодшыя браты і стрыечны дзядзька. Існавалі тры патаемныя варыянты пазбавіць мяне жыцця. Першы: атруціць у час сённяшняй вячэры, другі — задушыць падушкамі, калі я засну, і трэці — аб'явіць вар'ятам і забіць нібыта пры спробе да ўцёкаў. Усе тры спосабы маёй смерці ўхвалены каралевай і кардыналам Мазарыні.

Атос прапанаваў сваю дапамогу, але я адмовіўся, шчыра яму падзякаваўшы. Не, больш я не мог цярпець! Патаемна выбраўшыся з замка Цюільры, я паехаў у карэце з апушчанымі шторамі ў Булонскі лес і там адпусціў рамізніка. Карону я шпурнуў у густую крапіву, залаты скіпетр засунуў у мурашнік, а каралеўскую мантыю запхнуў у жарало дуба. Застаўшыся ў трусах і майцы, я пачаў збіраць ягады. Іх было шмат у Булонскім лесе, і былі яны куды смачней за славутыя труфелі і спаржу, якімі штодня кармілі ў замку.

Раптам нібы з-пад зямлі з'явіўся кардынал Мазарыні. Ён заўсёды ўсё пра ўсіх ведаў. Гэта быў праніклівы, хіжы шпіён, дарма што меў вышэйшы царкоўны чын і быў прызначан на пасаду самім рымскім папам.

— Ваша вялікасць! — усклікнуў ён.— Кароль голы!.. Гэта ж нечувана...

— Ідзі к д'яблу! — крыкнуў я яму.— Хіба ты не ведаеш, што Бастылія даўно ўзята. Не хачу быць каралём! Каціся адсюль...

...Тут я прачнуўся. Каля ложка стаяла жонка і тармасіла мяне за нос.

— Уставай, Сцяпан! — гаварыла яна.— На работу спознішся. Нават і пагаліцца не паспееш. Чаго гэта ты так крычаў ноччу, нібы цябе рэжуць?

Я, вядома, не прызнаўся, што цэлую ноч сядзеў на каралеўскім троне. Пасаромеўся. А сам хаджу і думаю: чаму мне такое сніцца? Кажуць, што калі чаго-небудзь моцна хочаш, дык тое перш-наперш з'явіцца ў сне. Я ж ніколі не дамагаўся ўлады. Калі ў мясцкам мяне выбіралі, у бытавую камісію, я адмаўляўся з усіх сіл...

Нарэшце я здагадаўся: ад макулатурных кніг усё. У нашай бібліятэцы безліч усякіх кніг пра каралёў. За апошнія паўгода мне нараілі прачытаць «Трох мушкецёраў», «Віконта дэ Бражэлона» ў трох тамах, «Праз 20 год» французскага пісьменніка Дзюма. Кнігі ўсе новенькія, нядаўна выпушчаныя. Ну, і начытаўся ж я. Працую бухгалтарам, і раптам каралі сняцца. Тут хоць бы ў старшыя бухгалтары як-небудзь выбіцца. А што да пасады галоўнага бухгалтара, то мне да яе, відаць, ніколі не дабрацца...

*1989*

## ФОРУМ У ДЗЕРКАЧАХ

Ліха ведае, як яно так здарылася. Здаецца, з галавы не выпускаў Пятро Захаравіч Дубаносік, што ў Дзеркачы, дзе ён робіць загадчыкам клуба, мусяць прыехаць пісьменнікі. І на табе — забыў. А ён жа нават планы будаваў наконт гэтых самых мастакоў слова. Прыкідваў: калі раптам яны запозняцца з выступленнямі і застануцца начаваць, то ёсць куды развесці. Рэзерв, так сказаць, у наяўнасці. Агата Куніцкая, дарма што працуе вартаўніцай сельпо, даўно піша вершы і з мужам развялася. Жанчына ў самым саку. І яшчэ ёсць дзве-тры малодкі, якія не тое што пісьменнікаў, нават гіцляў якіх-небудзь прымуць, абы былі ў іх грошы.

Але за клопатамі, за турботамі забыў пра пісьменнікаў Пятро Захаравіч. А можа, і не забыў. Можа, думаў, што і без пісьменнікаў як-небудзь абыдзецца. Бо месяц назад меў Дубаносік вялікі страх і непакой.

Месяц назад у клуб, у Дзеркачы, прыехалі тры патлатыя хлопцы і дзве дзеўчаняці з разрэзанымі ззаду і спераду спаднічкамі. Канцэртная брыгада. Божа, якіх толькі конікаў не выкідвала гэтая брыгада! Самадзейныя артысты распрануліся ледзь не дагала, і аказалася, што пад вопраткай яны размаляваны, нібы зебры. Тромкала электрычная гітара, верашчала, нібы недарэзаная свіння, бліскучая сярэбраная труба, бухаў вялікі турэцкі барабан, а пад гэты візгат і лямант

паласатыя артысты скакалі і пелі такое, што хоць святых вынось!

Пятру Захаравічу застаўся толькі год да пенсіі, і добра, што ніхто не напісаў у раён пра гэты дзікі канцэрт. Вельмі лёгка мог загрымець са сваёй пасады Пятро Захаравіч. А тут яшчэ пісьменнікі гэтыя. Нагавораць такога, што за год не разбярэш.

Але рабіць нешта трэба. Бо толькі што пазваніў загадчык раённага аддзела культуры. Едуць, маўляў, твае інжынеры чалавечых душ. Сустракай...

Пятро Захаравіч проста ў адчаі. Клуб вялізны, як стадола, чалавек чатырыста змесціць. А каго вясновым часам знойдзеш? Моладзі — кот наплакаў. На гарадскі асфальт рынула сельская моладзь.

З гадзіну Пятро Захаравіч ходзіць па пакоі, наморшчыўшы лоб, думае, і раптам стукае сябе рукой па цемені. Эўрыка! Калі вельмі чаго хочаш, выйсце знойдзеш. У сяле размяшчаецца школа-інтэрнат для глуханямых. Не будзе ніякай цяжкасці запоўніць імі клуб-стадолу. А ляскаць далонямі нават глуханямыя ўмеюць. Так што і пісьменнікі будуць задаволены, і крамола, калі што якое, да глуханямых не дойдзе.

Дубаносік развівае шалёную дзейнасць. За якую-небудзь гадзіну ўсё паспявае зрабіць. Вось да дзвярэй клуба падыходзяць дзве калоны хлапчукоў і дзяўчынак. Не парушаючы строю, выхаванцы інтэрната заходзяць у клуб, расцякаюцца, займаючы ледзь не ўсю прасторную залу.

У клубе тым часам запалены агні, на сцэне стаіць засланы чырвоным абрусам стол, на трыбуне графін з вадой. Нават лозунг, напісаны на кумачы, вісіць над сцэнай: «Прывітанне дзеячам літаратуры ад работнікаў калгасных палёў і фермаў!»

Дзеячаў літаратуры з’яўляецца трое. Высокі, з грывай рудаватых валасоў, лірычны паэт Мікіта Торба выдыбае першы. Ён не толькі лірычны паэт, а і публіцыст, і надзвычай актыўны грамадскі дзеяч. Кожнага тыдня Мікіта прамаўляе па радыё, дый на экране тэлевізара вельмі часта мільгае яго вузкі, нібы клін, твар. Не толькі ў Мінску, Кіеве вядомы Мікіта, актыўна выступае ва ўсесаюзным друку, і ягонымі кніжкамі забіта ўся сельская крама.

Тоўсценькая, нізкарослая жанчына з круглым кацiным тварыкам, з якога не зыходзіць выраз драпежнасці, ідзе ўслед за Мікітам. Прозвішча яе Аня Грамадзянская. Пятро Захаравіч трохі чуў ад настаўнікаў пра гэтую Аню. Яна, аказваецца, вядучы крытык, і вучні спісваюць з яе артыкулаў сачыненні. І не Аня сапраўднае імя крытыкесы, а Аана, гэта значыць скарочана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. Відаць, моцна думалі пра мір на планеце бацькі Ааны, калі далі дачцэ такое імя.

Прозвішча трэцяга літаратурнага дзеяча — маркотнага хлопца з шырокім ротам і вялікімі мокрымі губамі — таксама Торба. Ён, аказваецца, далёкі родзіч і давераная асоба кіраўніка дэлегацыі, усюды з ім ездзіць, затым асвятляе ягоныя выступленні ў друку.

Вечар пачынае Аня Грамадзянская. З-за высокай трыбуны відаць толькі яе малая круглая галава. Але гэта справе не перашкаджае, бо з ранніх гадоў Аня была прылучана да піянерскай работы, голас мае зычны, уладны, у якім часам звіняць нават жалезныя ноткі.

Аня расказвае пра творчую дзейнасць Мікіты Торбы, яго месца і ролю ў сучаснай літаратуры, прыводзіць шматлікія цытаты з ягоных вершаў. Зала маўчыць. Нібы не твары бачыць перад сабой Аня Грамадзянская, а нейкія зацятыя маскі. Шмат масак — дзве ці тры сотні. Аня пачынае нервавацца, блытацца, нарэшце збіваецца ўшчэнт і пакідае трыбуну.

Тым не меней чамусьці іменна ў гэты момант грымяць дружныя воплескі.

Мікіта Торба таксама заўважае штосьці незвычайнае. Таму стараецца гаворку не расцягваць. Але, бадай, кожнае ягонае слова заглушаецца гучнымі апладысментамі. Адчайна ляскаюць далонямі як правы, так і левы бакі залы. Слова не паспее Мікіта сказаць, а ўжо новая лавіна воплескаў. І зусім не падобна, што яго зганяюць з трыбуны, бо твары падлеткаў і дзяўчат ажываюць, свецяцца добрай прыветлівасцю, цеплынёй.

Мікіта натхняецца. Ён збіраўся скарачацца, але якраз нахлынула хваля ўдзячнасці, узняла яго на свой грэбень і не дае спыніцца. Ён чытае верш за вершам. Апладысменты нарастаюць, нібы горны абвал...

Ніколі, нідзе Мікіта Торба не сустракаў такой удзячнай аўдыторыі.

У заключэнне вечара выступае загадчык клуба Пятро Захаравіч Дубаносік. Ён шчыра дзякуе літаратарам за іхні прыезд, выступленні, жадае ім новых творчых поспехаў. Зноў дружныя воплескі.

Пад гучныя воплескі з залы выскокваюць дзве дзяўчынкі і адзін хлапчук, узнагароджваюць гасцей букетамі кветак.

Нарэшце пісьменнікі выходзяць з клуба. Іх, відаць, бянтэжыць нязвычны, як бы нават загадкавы прыём, які ім аказала моладзь у Дзеркачах. Яны маўчаць. Шчарбаты акрайчык месяца то плыве па небе, то хаваецца за воблакамі, нагадваючы злодзея, які выглядвае з-за вугла. Здаецца, гэты хітры месячык-злодзей ведае штосьці такое, аб чым нават не здагадваюцца небаракі-літаратары, і паціху насміхаецца над імі.

*1989*

# 1990

## ДОКТАР НАВУК НА ХУТАРЫ

Добра жыве Станіслаў Браніслававіч Абламейка! Лепей не прыдумаеш. Доктар навук, працуе ў Інстытуце гуманітарна-прыродазнаўчых праблем. Немалую капейку атрымлівае. Тым часам жыве на хутары, трымае карову, свіней, авечак, урабляе з паўгектара зямлі. Думаеце, парабкаў наймае? Нікога ён не наймае. Усё робіць сваімі мазольнымі рукамі, небарака. Вельмі працавіты чалавек Станіслаў Браніслававіч! Хвіліны не згуляе.

А што на казённую службу не ходзіць, дык што тут такое? Большая палавіна супрацоўнікаў Інстытута гуманітарна-прыродазнаўчых праблем гэткім жа чынам сябе паводзіць. Каб даўжэй паспаць, яшчэ з вечара папярэдняга дня або нават за два ці тры дні наперад распісваюцца ў журнале рэгістрацыі: маўляў, ідуць у бібліятэку, у архіў, у якую-небудзь установу. Усмак выспаўшыся, рассыпаюцца хто куды хоча. Крычы, свішчы, можа, каго і знойдзеш. Але ніхто не крычыць і не свішча. Надзвычай гуманныя парадкі ў вышэйназваным інстытуце! Шыльду інстытута нязменна вартуе вучоны сакратар, які кожны дзень з раніцы з’яўляецца на службу. Ён адказвае на званкі афіцыйных асоб, а таксама прымае наведвальнікаў, якія, бывае, завітваюць у інстытут. Вядома, і дырэктар іншы раз заходзіць ва ўзначальваемую ім установу. Час ад часу заглядваюць у інстытут яго намеснік, а таксама загадчыкі аддзелаў, некаторыя супрацоўнікі.

Што датычыць Станіслава Браніслававіча, то ў яго, так сказаць, асобы статут. Ён прыязджае ў інстытут толькі два разы ў месяц — у дні атрымання заработнай платы. Чым жа заслужыў Абламейка такое сваё выключнае становішча ў інстытуце? Пра гэта асобная гаворка.

Па-першае, усе дактары навук у інстытуце загадваюць ці то аддзелам, ці сектарам, ці нясуць яшчэ якую-небудзь адміністрацыйную нагрузку. Абламейка — вольная птушка. Ніякім начальнікам ён не з'яўляецца. Проста старшы навуковы супрацоўнік. У кабінеце, дзе ён мусіць працаваць, стаяць аж тры сталы. За адным сядзіць кандыдат навук, за другім — супрацоўнік, які нават не мае ніякай навуковай ступені. То як жа разам з імі будзе працаваць Станіслаў Браніслававіч? Ён жа ўсё-такі не абы-хто — доктар навук. Таму не можа ён цэлы дзень слухаць, што балбочуць гэтыя блазны.

Ёсць яшчэ адна важная прычына, чаму Станіслаў Браніслававіч жыве на хутары. Справа ў тым, што хоць мае ён болей як пяць дзясяткаў гадоў за плячамі, але не гэтак даўно ажаніўся. На жаль, так здарылася, што трэці раз. Сэрцу не загадаеш. Сустрэў прывабную аспірантку, дысертацыйнай работай якой кіраваў, і не ўстаяў перад чарамі маладосці.

Аспірантка таксама гэтак захапілася Станіславам Браніслававічам, што нават кінула пісаць дысертацыю. Так яны пажаніліся. Але кватэру (другую па ліку) Абламейку прыйшлося пакінуць ранейшай жонцы і двум дарослым сынам. Не цягацца ж з імі па судах. Добра, што хоць аліментаў не трэба плаціць.

Новую, трэцюю кватэру Абламейку выдзяляць не спяшаюцца. Дык што ж было рабіць? Вось і купіў ён хутар, абавязаўшыся здаваць мясцоваму калгасу колькі там бульбы і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Вядома, ніякай бульбы ён не здае. Нават прыкупляе тое-сёе ў калгасе. Усё-такі як-ніяк — доктар навук, прафесар.

А цяпер дык і не збіраецца Станіслаў Браніслававіч у горад. Што ён там не бачыў? Дым, шум, гам... У новай сям'і яшчэ нарадзілася двое дзяцей, і абое кволыя, хваравітыя. Ім трэба сырадой, свежае паветра. Хіба яны будуць мець гэтыя даброты ў горадзе? І яшчэ ёсць адна прычына, чаму Абламейка рашыў асесці на хутары. Яго новая жонка расцвіла, як ружа, а

самому застаўся толькі год да пенсіі. Пусці такую прыгожую птушку ў горад — мігам хто-небудзь прыварожыць. А тут, на хутары, зацішна. За вярсту новага чалавека ўбачыш. Так што на гэты конт спакойнае сэрца ў Станіслава Браніслававіча.

Абламейка прыязджае ў інстытут не толькі ў дні зарплаты, а яшчэ прымяраецца, каб быў які-небудзь сход. На сходах ён выступае абавязкова. На які б ні патрапіў. Гаворыць блытана, нават зразумець цяжка, пра што гаворыць, але актыўнасць сваю праяўляе. Можа і начальства часам крытыкнуць. Так што начальства, можна лічыць, нават трохі пабойваецца вольнага, як сокал, Станіслава Браніслававіча.

І вось сядзіць Абламейка за сталом на верандзе свайго хутарскога дагледжанага дома. Вясна, зеляніна, птушкі спяваюць. Станіслаў Браніслававіч рыхтуе да абмеркавання сваю навуковую працу, на якую затраціў тры апошнія гады. Па праўдзе кажучы, за тры гады ён нічога не напісаў. Не пра тое думаў. Клопат пра маладую жонку, новую сям'ю, розныя згрызоты адабралі ўвесь час. Але ёсць у Станіслава Браніслававіча галава на плячах. Так што са складанага становішча ён як-небудзь выберацца.

Узброіўшыся нажніцамі і бутэлькай клею, Абламейка стварае новую навуковую працу. Ім выдадзена дзве кнігі, надрукавана процьма розных артыкулаў. Паклаўшы ўсё гэта перад сабой, Станіслаў Браніслававіч вырэзвае, затым клеіць выразаныя з кніг і часопісаў старонкі. А што тут такога? Многія так робяць. Гэта са ста зайцоў нельга, напрыклад, скласці аднаго каня, а з некалькіх уласных работ яшчэ адну стварыць можна.

У гэты час каля веранды чуецца гул аўтамашыны. Станіслаў Браніслававіч выскоквае на двор. І трохі ніякавее. З «Волгі» вылазіць старшыня галіновага прафсаюза работнікаў навукі і асветы, маладжавая, яшчэ досыць прывабная жанчына і нейкі незнаёмы, хмуры таварыш у памятым капелюшы.

— Хочам пaглядзець, як вам працуецца,— досыць з'едліва паведамляе прафсаюзная дама.— Каб вопыт пераняць. Да нас вось адно пісьмо паступіла. З вашага інстытута...

— А я ў адпачынку,— не міргнуўшы вокам, адказвае Станіслаў Браніслававіч.— З першага чэрвеня афарміў

адпачынак. Трэба было вам найперш у аддзел кадраў зазірнуць...

Прафсаюзнікі нерашуча перамінаюцца з нагі на нагу. Не чакалі, відаць, такога павароту справы.

— Адпачывайце на здароўе,— нарэшце гаворыць прафсаюзная дама, садзячыся ў машыну.— Мы проста ехалі міма і рашылі заехаць...

— Пудры каму-небудзь другому мазгі,— сам сабе гаворыць Абламейка.— Мяне не купіш. Напісала-такі нейкая сволач. Ах, зайздрасць, зайздрасць чалавечая...

Станіслаў Браніслававіч шыбуе ў калгасную кантору. Адтуль па тэлефоне пазвоніць у інстытут, аформіць адпачынак. Не, яго так проста не зацугляеш, як-небудзь ён правядзе тэлефон і на свой хутарок. Тады ніякія налёты не страшны...

*1990*

## ГАСЦІНІЦА НАД ПРЫПЯЦЦЮ

### I

Івашка прыехаў у горад на Прыпяці ў лістападзе, у хмурную, сумную восень. Па небе паўзуць цяжкія, шэрацёмныя, як дым з паравоза, воблакі, і выгляд горада, нягледзячы на пабеленыя гмахі шматлікіх новых будынкаў, змрочна-няветлівы, пануры. Адлюстроўваючы цёмнае неба, такая ж цёмная, нават злавесна-чорная, цячэ Прыпяць.

За апошнія чатыры гады трэці раз Івашка ў горадзе і, можа, таму ехаў сюды без асаблівай радасці. Ён пенсіянер, хоць яшчэ працуе, жыццё, як кажуць, зроблена, і нішто асаблівае наперадзе не свеціць. Дый нібы эмігрант ён цяпер у адносінах да роднага краю. Вёрст за сотню ад гэтых мясцін Чарнобыль, а што здарылася ў Чарнобылі, усім вядома.

Івашка вылазіць з «Масквіча» перад гасцініцай, якая ўзведзена адразу за мостам цераз Прыпяць, на знаёмай Пралетарскай вуліцы. Машына гэтак абляпана граззю, што непрыемна на яе глядзець. А дзевяціпавярховая гасцініца ніштаватая: ажурна-лёгкая, светла-белая, яна, здаецца,

вісіць у паветры. Удала, умела гасцініца пабудавана. Івашка разумее ў чым справа: адразу за мостам уверх па касагоры карабкаліся дзве вулкі, забудаваныя драўлянымі дамкамі і нават звычайнымі, старасвецкага выгляду хацінамі, з перакрыжаваным бярвеннем вуглоў, падслепаватымі акенцамі, пакрытымі сатлелай дранкай дахамі. Няма тых дамкоў і хацін. На месцы, дзе пачыналі драцца ўгору дзве вулкі — Пралетарская і Падгорная, і падняўся гмах белай гасцініцы, які нібы валадарыць над усім блізкім наваколлем, здаючыся лёгкім, цацачным.

Івашка ўздрыгвае: месца, дзе стаяў дамок цёткі Сынклеты, таксама паглынула гасцініца, бо ён быў трэці ці чацвёрты ад пачатку Пралетарскай вуліцы, а цяпер вуліца агалілася ледзь не да канца.

Івашка з хвіліну разглядвае вячэрні горад, які ўжо сям-там пачынае запальваць агні. У паўзмроку выдзяляецца грунтоўны, з высокімі клеткамі парэнчаў мост цераз Прыпяць, па якім ён прыехаў у горад. Міжгародняя аўтобусная станцыя лепіцца ледзь не ўпрытык да моста. Там тоўпяцца людзі, пад’язджаюць, ад’язджаюць аўтобусы. Вышэй станцыі (горад размешчаны на пагорках і ў ярах) перапляценне эстакад, па якіх машыны ўз’язджаюць на мост з прылеглых вуліц.

Івашка падганяе «Масквіч» да воданапорнай калонкі, збольшага выцірае анучай гразь. Ужо амаль цёмна, машынай трэба заняцца заўтра. Памыўшы рукі, ён вырульвае «Масквіч» да квадрата стаянкі, што размешчана пад самымі вокнамі гасцініцы.

Нумар Івашка заказаў па тэлефоне, за два ці тры дні да выезду з Мінска. Чарнявенькая, з прыемным тварам адміністратарка лёгка знаходзіць бланк з ягоным заказам, бярэ пашпарт, грошы, выдае патрэбныя паперкі з відам на жыхарства.

На ліфце Івашка падымаецца на чацвёрты паверх.

І вось ён у невялікім пакоіку, у якім ложак, канапка, столік з тэлефонам, у кутку невялікая каробка чорна-белага тэлевізара, а на сцяне блакітная скрыначка рэпрадуктара — пад колер шпалераў. Галоўнае — з акна адкрываецца від на горад.

Дзіўныя справы творацца на свеце. Нумар, у якім будзе жыць Івашка, размешчаны, бадай, над тым месцам, дзе стаяў фацэтны дамок цёткі Сынклеты. Такім чынам, нібы яднаюцца часы мінулыя з часамі сённяшнімі і дагэтуль нябачаная гасцініца як бы мае непасрэдныя адносіны да асабістага жыцця Івашкі.

Івашка гэтак здарожыўся, знябыўся, што яму нават страшна спусціцца ўніз, у кафэ ці рэстаран.

Адклаўшы на далейшае вячэру, ён пераапранаецца, здымае і акуратна складвае пакрывала, затым кладзецца на ложак. Ён пражыў жыццё дамаседам, падарожнічае мала, без асаблівай ахвоты. І калі, як вось цяпер, надараецца выпадак, то стараецца выкарыстаць яго як найлепей. Бо такія падарожжы — адпачынак. У чужым горадзе ніхто не назаляе, не звоніць па тэлефоне, не псуе нерваў.

У акне свецяцца агні горада. Уражанне такое, што горад вялікі, агромністы, бо агні то цягнуцца ўверх, то спускаюцца ўніз, займаючы сабой увесь бачны прасцяг. Івашка ведае, што гэта толькі падман зроку. Горад на Прыпяці зусім не гігант, па цяперашніх мерках звычайны сярэдні горад. Да вайны і пасля вайны ён наогул быў ціхім малым гарадком, хоць насіў тытул абласнога. Цяпер не абласны. Але, як многія падобныя на яго беларускія гарадкі, размешчаныя на рэках, імкліва расце, маючы цяпер тысяч сто насельніцтва. Дзякуючы, вядома, індустрыялізацыі, што прыбрала да рук многія ціхія гарадкі. Паблізу размешчаны нафтаперапрацоўчы завод, здабываецца соль, вырабляецца сода.

Але, як прадбачылі вучоныя, пісьменнікі, губіць індустрыя прыгожую Прыпяць, якая да апошняга часу лічылася самай чыстай беларускай ракой.

Івашка бярэ са стала мясцовую газетку, якая, відаць, выдаецца тубыльцам гасцініцы бясплатна, уключае радыё. Ён паляжыць, паслухае апошнія паведамленні ці музыку, тым болей што яшчэ толькі сем гадзін вечара.

Гарадская газетка невялікая, нагадвае звычайную раённую. Ранейшая абласная, у якой адразу пасля вайны працаваў мастаком-рэтушорам Івашка, была ў два разы большая. Хоць загалоўкі заметак, артыкульчыкаў, нягледзячы на перабудову і галоснасць, вельмі падобныя да ранейшых: «Ліквідаваць

адставанне», «Раўняцца на перадавых», «Узялі павышаныя абавязацельствы».

Івашка ведае, што гучныя загалоўкі ў такіх газетках, як гэтая, мала што значаць, бо ніхто нікога не даганяе, а тым болей не думае сур'ёзна пра абавязацельствы. Загалоўкі лёгка, на свой густ вынаходзяць загадчык аддзела, адказны сакратар ці рэдактар.

Івашка напружвае слых. У паведамленнях, якія перадаюць па радыё, мільгае знаёмае прозвішча. Так і ёсць, акадэміку Вандзярскаму прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Няма нічога тайнага, што б не стала яўным. Месяц назад Івашка разам з акадэмікам быў у Варшаве, вандраваў па музеях, карцінных галерэях, пераймаючы вопыт рэстаўрацыі пашкоджаных карцін.

Сівы, стройны акадэмік з выразным арыстакратычным тварам, здавалася, чагосьці напружана чакае. Вітаецца, размаўляе з незнаёмымі людзьмі, выслухвае доўгія тлумачэнні экскурсаводаў, цікавіцца кожнай дробяззю і ў той жа час нібы рашае цяжкую задачу.

Цяпер ясна, якую задачу рашаў акадэмік. Узважваў, прыкідваў, ці дадуць яму да васьмідзесяцігоддзя Залатую Зорку. Далі ўсё-такі. Значыць, прага славы, знакамітасці жыве ў чалавеку нават у такім паважаным узросце.

Стома пакрысе спадае. Івашка раптам адчувае голад. Нічога не папішаш, трэба спусціцца на першы паверх, перакусіць у кафэ ці нават у рэстаране. Тым болей што знізу даносіцца выразны розгалас вясёлай рэстараннай музыкі.

Музыка нават залішне гучная. У зале рэстарана папераменна мігаюць чырвоныя, зялёныя, жоўтыя бляскі святла, што чаргуюцца з кароткімі момантамі поўнай цемені, і пад зычна-ўдарныя, аглушальныя гукі мадэрновых рытмаў млява, як у паўсне, калышацца шчыльны натоўп. Вось так, значыць, жыве Пралетарская вуліца, якая ў гады Івашкавай маладосці ведала, бадай, толькі рып гармоніка ды яшчэ танцы пад мелодыі патэфонных пласцінак.

Івашка ніякавее, не адважваючыся зайсці ў гэты тлумны рэстаран. Не для яго ўзросту такая пацеха. Бачачы нерашучасць пастаяльца, з-за адгароджанай балясамі канторкі азываецца ўжо знаёмая чарнявенькая адміністратарка:

— Ёсць буфеты. На трэцім і сёмым этажах. Тут нафтавікі жывуць, прыязджаюць позна, то буфеты да дванаццаці адчынены.

Падзякаваўшы, Івашка выходзіць з гасцініцы. Ён трохі праветрыцца, павандруе каля Прыпяці, а тады ўжо зазірне ў буфет.

Нібы ўгадаўшы думкі пастаяльца, адміністратарка папярэджвае:

— Толькі ля ракі не хадзіце. Зараза плыве з самага Чарнобыля.

— Чарнобыль вышэй па Прыпяці.

— Усё адно. Атрута сплывае з поля, балота. Прыпяць цяпер называюць Угрум-рака.

У вёсках, якія па дарозе ў надпрыпяцкі горад праязджаў Івашка, ён бачыў закрытыя драўлянымі кругамі калодзежы, воданапорныя калонкі, якія нечакана паявіліся на вуліцах. Ваду тутэйшыя жыхары п’юць толькі з глыбіні зямлі. Малако, надоенае ад уласных кароў, зусім не п’юць. Б’юць масла, каб яно не псавалася, захоўвалася даўжэй, percatопліваюць. І ўсё менш застаецца на гэтай параненай зямлі кароў.

На вуліцы ўсё звычайнае. Лінуў кароткі дождж, і ў святле электрычных ліхтароў блішчыць асфальт, разнастайнымі бляскамі адліваюць мокрыя машыны, якія стаяць на пляцоўцы пад вокнамі гасцініцы. А Прыпяць чорная, злавесная. Плыве пад змрочным лістападаўскім небам, і не відаць ні хваль яе, ні якіх-небудзь іншых прыкмет жыцця. Толькі цёмны глухі прасцяг.

Івашка ідзе назад у гасцініцу. Колькі пахадзіў ён па гэтым схіле Пралетарскай вуліцы, якая вядзе на пераправу цераз раку. Да вайны вісеў над ракой выдатны жалезны мост, які нашы ўзарвалі, калі адступалі з горада. Пасля вайны доўга ставілі часовыя драўляныя масты. Паводкай іх зносіла, і месяцы два-тры на процілеглы бераг гараджане дабіраліся на паромах і лодках.

Вярнуўшыся ў вестыбюль гасцініцы, Івашка раптам уздрыгвае. Ён бачыць Руслана Вайнілу, славутага па сённяшнім часе свайго калегу-мастака. Апрануты ў сінюю замежную куртку, з цёмнай аладкай берэта на галаве,

ваўкавата ўнурыўшыся, не гледзячы па баках, Руслан таропка ўзбіраецца па лесвіцы.

Танцы ў рэстаранным зале не спыняюцца. Гучыць неміласэрна пранізлівая музыка, мільгаюць, развейваючы цемень, рознакаляровыя бляскі, і ў гэтым аглушальным тлуме, віску калышацца бязлікі, нібы безасабовы, натоўп.

## II

Пасля таго, што здарылася ў Чарнобылі, мастак Андрэй Івашка адчувае сябе выгнаннікам. Усе апошнія гады песціў надзею: калі стане пенсіянерам, то абавязкова вернецца ў мястэчка. Адкупіць пабудаваны бацькам дом, які пасля смерці маці займаюць чужыя людзі, і будзе жыць у ім усё лета і восень.

Івашка трэці раз прыязджае ў родныя мясціны, над якімі пранесліся злавесныя воблакі Чарнобыля. У год Чарнобыля прывёз і пахаваў на местачковых могілках сястру Люсю. Насуперак ягоным просьбам, нават заклінанням хваравітая незамужняя сястра двойчы ў тое лета прыязджала ў мястэчка і залішне доўга там пражыла.

Вярнуўшыся ў Мінск, дзе мела каапературыўную кватэрку, сястра звалілася з балкона, з чацвёртага паверха. Выпадкова не выпадкова — хто скажа?

Люся нарадзілася ў год бацькавага арышту. Маці ледзь не памерла, нараджаючы яе. Пасля арышту мужа яна другога дзіцяці не хацела, бясконца раілася з шаптухамі, піла розныя зёлкі. Зёлкі не дапамаглі, Люська нарадзілася, але слабенькая, кволенькая, ледзь дыхала. Нават не плакала: не было сілы. Пішчэла як цыплянё...

Да самага свайго арышту бацька даводзіў да ладу іхні дом: навешваў на вокны ліштвы, фарбаваў аканіцы, забіваў новымі абгабляванымі дошкамі франтон. Марыў яшчэ пасадзіць сад. Не паспеў...

Перайшоўшы ў дзявяты клас, Андрэй паступіў у камсамол. Бацьку арыштавалі якраз у канцы першага паўгоддзя. З гэтага часу на Андрэя Івашку напаў страх. Ён вельмі баяўся той хвіліны, калі яго будуць выключаць з камсамола. Не мог уявіць, як павядзе сябе, што скажа. Хоць у школе было ціха. Ні

настаўнікі, ні вучні не выказвалі ніякай непрыязі да тых, чыіх бацькоў забралі. Ніхто не называў іх дзецьмі ворагаў народа. Ворагі народа, здаецца, былі дзесьці далёка: у вялікіх гарадах, у глухой тайзе, у прыгранічных паселішчах. У мястэчку — звычайныя людзі. Тут, калі задумацца, і шкодзіць няма дзе. Цагельны завод, мылаварня, абодная майстэрня, размешчаныя ў звычайных хлявах. Падпаліш які-небудзь хлеў, дык што — дзяржаву пахіснеш?

Сярод арыштаваных найбольш машыністаў, як бацька Андрэя, але ёсць і кандуктары, саставіцелі паяздоў і нават адзін стрэлачнік.

Пасля незразумелых і страшных падзей Андрэем востра завалодала думка вырвацца з мястэчка. Калі не ў дзявятым, дык у дзясятым абавязкова выключаць з камсамола. Дый ці дадуць скончыць дзясяты клас? Усё-такі сын ворага народа...

У дзясяты клас Андрэй не ідзе. Капае бульбу, возіць тачкаю з лесу бярэзнік. Зіма на носе, і маці чым-небудзь трэба паліць у печы, калі ён з’едзе з мястэчка. Так праходзіць верасень.

Недзе ў сярэдзіне кастрычніка Андрэй едзе ў надпрыпяцкі горад. Дазнацца наконт паступлення ў настаўніцкі інстытут. Па чутках, у гэты двухгадовы інстытут прымаюць пасля дзевяці класаў.

Вядома, ён мае надзею на цётку Сынклету, бацькаву сястру, якая жыве ў горадзе.

Цётка страшэнна працавітая, рухавая, хвіліны без дзела пасядзець не можа. Але ў сямейным жыцці ёй не пашанцавала. Выйшла замуж за кандуктара, высокага, статнага, вясёлага чалавека, сына адзінокай бабылкі. На тое, што кандуктар, прыйшоўшы са службы, палец аб палец не ўдарыць, каб зрабіць што-небудзь па гаспадарцы, Сынклета не зважала. Пакуль яна ходзіць па зямлі, гаспадарка будзе дагледжана.

Але бяда ходзіць не адна. Мала што гультай кандуктар, дык яшчэ і бабнік. Блукаюць пра яго благія чуткі. Нібыта залішне ён зарыцца на маладых жанок.

Як толькі Сынклета даведваецца пэўна, што яе суджаны сапраўды завіхаецца каля чужых спадніц, яна ні хвіліны не вагаецца. Прадае карову (яна прывяла яе ў пасаг), сёе-тое з набытку, здымае грошы з ашчаднай кніжкі, якія назбірала,

прадаючы гуркі і радыску, і едзе ў надпрыпяцкі горад. Далей ад сораму. Тыдня не праходзіць, а Сынклета ўжо ўладальніца палавіны дамка, гарадская жыхарка.

Кандуктар таксама доўга не чакае. На другі ці трэці дзень пасля ўцёкаў Сынклеты ён прыводзіць у пустую хату каханку — тоўстую крыклівую ўкраінку.

Андрэй едзе ў надпрыпяцкі горад як бы ў разведку. Не мае ніякай стратэгіі. Між тым з першага заходу паступае ў інстытут.

Пачынаецца, аднак, з непрыемнасці. Кватэра цёткі Сынклеты на замку. Андрэй брыдзе па вуліцы, якая цягнецца ўздоўж Прыпяці, не ведаючы, што рабіць. Нічым не ўражваюць яго дамкі, ніжнія паверхі якіх складзены з пабеленай цэглы, а верхнія — драўляныя. Ад плошчы, якую акружаюць нізкія, падобныя на склады старасвецкія будынкі, пачынаецца другая, прыкметна шырэйшая вуліца, на якой і размешчаны настаўніцкі інстытут.

Інстытут Андрэй вельмі хутка знаходзіць. У яго адразу нараджаецца прадчуванне ўдачы, бо па выгляду, планіроўцы будынак інстытута такі самы, як і местачковая школа. Сюды якраз завітвае Андрэй і адразу натрапляе на чалавека, які патрэбен: на самога дэкана. Невысокі, падлобісты, з рагавымі акулярамі на тоўстым носе, дэкан з ходу разгадвае Андрэевы намеры:

— Хочаш у інстытут паступаць?

— Хачу даведацца...

— Дзевяць класаў маеш?

— Вучуся ў дзясятым.

— Камсамолец?

— Паступіў у камсамол яшчэ ў мінулым годзе.

— Якія ў цябе адзнакі па гісторыі і літаратуры?

— Выдатныя.

— Дык вот што, брат вылучэнец. Экзамены скончыліся ў жніўні. Спецыяльна для цябе камісію ствараць не будзем. Прыходзь заўтра на заняткі. На першы курс гісторыка-літаратурнага факультэта. Калі будзеш дрэнна вучыцца, адлічым. Пасля першай жа сесіі. Калі здасі ўсе прадметы на «выдатна», атрымаеш стыпендыю. Аднак за вучобу прыйдзецца плаціць. Можна пазней трохі, праз месяц.

Андрэй нават не верыць такому раптоўнаму, нечаканаму шчасцю. Яшчэ паўгадзіны назад ён быў ніхто, а цяпер студэнт.

Між тым рашучы дэкан дыктуе чарнявай, з дробным тварам сакратарцы загад аб залічэнні Андрэя ў інстытут і ўжо затым выдае анкеты, якія трэба запоўніць.

У анкеце і заяве Андрэй свядома ідзе на хлусню. Няхай неба падае на зямлю, а не напіша ён, што бацька вораг народа. Які ён вораг? Проста здарылася глупства і недарэчнасць. Не, ніколі Андрэй не прадасць бацьку, не напіша, што ён арыштаваны. Нават калі скасуюць загад, які толькі што надрукавала машыністка, і выключаць з камсамола.

У Андрэеву заяву, анкету між тым ніхто асабліва не торкае нос, і праз два дні ён бачыць на дошцы аб'яў падпісаны дырэктарам інстытута загад аб сваім залічэнні на першы курс гісторыка-літаратурнага факультэта.

У загадзе прозвішча яшчэ аднаго хлопца, Руслана Вайнілы, але ён залічаны на фізіка-матэматычны факультэт.

На сёмым небе Андрэй! Местачковыя сябры-таварышы дзяўбуць навуку ў дзясятым класе, а ён тым часам студэнт. Хоць халодная гадзюка страху таксама час ад часу падымае галаву ў Андрэевых грудзях. Раптам хто напіша, што бацька арыштаваны. Бо Андрэй і з мястэчка ўцёк, баючыся, што выключаць з камсамола, зганьбяць перад усёй школай.

Так і жыве ён з дня на дзень у абладзе халоднага, непрыемнага страху. Пра бацьку ён успамінае дзесяць ці дваццаць разоў на дзень і столькі разоў набягае хваля страху.

Экзаменаў Андрэй не трымаў, стыпендыі не даюць. Мусіць, чакаюць да першай сесіі. Дый пасля сесіі стыпендыю прызначаць толькі ў тым выпадку, калі ўсе прадметы паздае на пяцёркі. Ён, вядома, будзе старацца.

Цётка Сынклета робіць на швейнай фабрыцы. Праўдзівей, у арцелі, якая называецца «Індпашыў». Дома стракатала на швейнай машынцы і тут стракоча. З гэтай машынкі, відаць, і палавіна дамка вырасла, якой на правах поўнай гаспадыні валодае цётка. У гэтай палавіне два пакойчыкі і адгароджаны фанерай катушок, які займае Андрэй.

Цётка — з выгляду камлюкаватая, някідкая, з нявідным, нібы высечаным са звычайнага кавалка дрэва тварам — вельмі дзейная і працавітая. Хвіліны не губляе. Яна надзвычай

ашчадная і, як гаварылі ў сям'і, скупаватая. Але пляменнікава становішча разумее добра.

— Жыві,— цётка цяжка ўздыхае.— Талерку супу я табе дам. Пра астатняе сам думай...

Дзякуючы цётцы і палавіне яе дамка з прылеглым да яго палісаднічкам і нават садам, у якім дзве яблыні і дзве грушы, мае Андрэй у горадзе над Прыпяццю не такія ўжо благія ўмовы пражывання. Прытулак ёсць і кавалак хлеба таксама. Думаць трэба пра вопратку і пра тое, каб заплаціць за вучобу ў інстытуце.

На Андрэю ніштаваты шарсцяны пінжачок, мала ношаныя чорныя штаны, новыя чаравікі, якія бацька прывёз з Масквы. Бадай, на ўвесь тэрмін навучання хопіць вопраткі і абутку. Калі што парвецца, можна зашыць, а на абцасы чаравікаў набіць набойкі. На гарадскім бруку абцасы збіваюцца хутка.

Дамоў Андрэй ездзіць кожны тыдзень. Маці з малой хваравітай Люськай на руках мала чым можа яму памагчы. Бадай, ён маці больш памагае. Пілуе пілой-аднаручкай дровы, коле, складвае пад паветку ў акуратны штабель. Штабялёў такіх пад паветкай ужо тры ці чатыры. Андрэй марыць усю паветку закласці колатымі дрывамі, каб іх — сама мала — хапіла маці на год.

Андрэй усю бульбу пакапаў, нават на пралёце, на чыгуначнай паласе адчужэння. Насыпаў поўнае падполле, частку бульбы ў капцы ў агародчыку схаваў, акуратна прыкрыўшы бурт саломай і зямлёй. Андрэй любіць свой дом і месца, у якім ён стаіць. Дом на ўскраіне мястэчка, недалёка ад чыгуначнага пераезда. Крыты гонтаю, з чатырохскатным дахам, вялікімі светлымі вокнамі, шасцю, а калі лічыць кухню, сямю пакоямі, дом ці не самы лепшы ў гэтым канцы мястэчка.

Быць кожны тыдзень дома добра. Толькі і пра заняткі трэба думаць, і пра экзаменацыйную сесію.

Не сказаць, каб горад на Прыпяці дужа Андрэя захапіў. Ён не такі вялікі, можа, нават меншы па плошчы за мястэчка, забудаваны часткова драўлянымі, часткова цаглянымі пабеленымі дамкамі, на другія паверхі якіх вядуць знадворныя драўляныя лесвічкі. Няма чым асабліва захапляцца. Хіба што

Прыпяццю. Яна тут шырокая і мнагаводная. Нібы маці туліць да сябе гарадок.

Дні ідуць. Вось і восень канчаецца, з дрэў ападае апошні ліст, і яны стаяць голыя, чорныя. Андрэя чамусьці вельмі кранаюць гэтыя малюнкі, асабліва асеннія. Восенню адбываецца штосьці незвычайнае, думае ён. Толькі людзі гэтага не заўважаюць. Не замірае жыццё восенню, а стаіць на парозе новага круга. Азіміна на полі зелянее, збіраючыся выстаяць пад снежным покрывам, на дрэвах утвараюцца покаўкі, якія паміж марозаў і вятроў захаваюць зародак зялёнага ліста.

Андрэй адчувае ўладную цягу да малявання. Для яго нічога не каштуе алоўкам ці нават вугалем накідаць на аркушы паперы знаёмы твар, падмеціць тое асаблівае, што гэты твар вызначае. Тым часам Андрэй прадчувае: маляванне не толькі падабенства карціны да яе рэальнага адпаведніка. Яно штосьці большае, неразгаданая тайна. Інакш чаму праз вякі свецяць людзям вялікія творы вялікіх майстроў.

У мястэчку няма ракі, калі не лічыць малой рэчкі Ведрыцы, што працякае праз далёкія балоты і зрабілася звычайнай канаўкай, пасля таго як балоты асушылі. А рака — гэта многа, гэта чароўны, адмысловы свет.

Прыпяць Андрэя чаруе. Тым болей што яе пакрытая сінім ільдом дуга добра відаць з Пралетарскай вуліцы і нават з цётчынага дворыка.

Люта ўгрызаецца Андрэй у навуку. Не прапускае ніводнай лекцыі, да самага закрыцця сядзіць у бібліятэцы, прыйшоўшы да цёткі, схаваўшыся ў катушку, чытае ледзь не да світання. У яго добрая памяць, і ён амаль не робіць выпісак. Дый не надаядае яму чытанне. Тым больш што заглытвае ён цікавыя рэчы: айчынную і зарубежную гісторыю, якую амаль не выкладалі ў школе, зусім нечаканую для яго і проста захапляльную гісторыю мовы, а з грамадскіх прадметаў — палітэканомію.

Экзаменацыйную сесію Андрэй вытрымлівае з поспехам.

Дэкан Дзям’ян Дзям’янавіч, які прымаў ад Андрэя заяву пры ягоным паступленні ў інстытут, зірнуўшы ў заліковую кніжку першакурсніка, гаворыць адно толькі слова:

— Малайчына.

Мінае месяц, пачынаецца другі семестр. Для факультэцкага вечара, які мае адбыцца, Андрэй малюе аб'яву, аздабляючы яе living рознымі завітушкамі. Літары ў ягонай аб'яве нагадваюць разгарачаных у танцы хлапцоў і дзяўчат.

Убачыўшы аб'яву, дэкан запыняе Андрэя:

— Твая работа?

— Мая.

Наогул пры сустрэчы дэкан запыняе на студэнце доўгі запытальны позірк. Позірк гэты не варожы, хутчэй спачувальны. Тым часам Андрэй ушчэнт губляецца. Можа, пра бацьку ведае дэкан, трывожыцца Андрэй. Ён нават пачынае думаць, што дэкан штосьці ведае пра бацьку. Ён не навуковец, вучонай ступені не мае — проста стары вопытны настаўнік. Не выключана, што ён знаёмы з месячковымі настаўнікамі, якія час ад часу з'язджаюцца ў абласны горад на нарады.

У адзін з тых дзён дэкан заклікае Андрэя ў свой вузкі, нібы пенал, кабінецік і гаворыць такое, аб чым студэнт-першакурснік нават марыць не адважваўся.

— Паколькі валодаеш мастакоўскім талентам,— гаворыць Дзям'ян Дзям'янавіч,— хачу прапанаваць табе работу. Маем штатную адзінку загадчыка пакоя адпачынку і культуры. Толькі вось самога пакоя, брат, няма. Цесна з вучэбнымі плошчамі. Але ёсць адно выйсце...

Дэкан гаворыць пра ізалятар, завалены ўсялякімі бэбахамі. Калі выкінуць з ізалятара розныя непатрэбныя рэчы, рыззё, смецце, пабяліць сцены, памыць вокны, пафарбаваць падлогу, будзе ніштаваты пакойчык. Ці згодзен зрабіць гэтую работу Івашка? Калі згодзен, то можна прызначыць яго загадчыкам пакоя культуры і адпачынку. У пакоі будзе радыёпрыёмнік, падшыўкі газет. Увогуле трэба зрабіць твар інстытута. Паболей партрэтаў правадыроў, асабліва таварыша Сталіна, лозунгаў, нагляднай агітацыі...

Андрэй з удзячнасцю прымае прапанову дэкана і тут жа развівае ліхаманкавую дзейнасць. Ён нават не ведаў, што можа быць такім актыўным. Мые, чысціць, беліць пакойчык, наводзячы поўны глянец. За два дні паспявае аббегаць усе магазіны горада, скуплівае партрэты, якія там ёсць.

Цяпер інстытут нібы карцінная галерэя. Ад партрэтаў аж мільгаценне ў вачах. Сталін глядзіць на студэнтаў, выкладчыкаў у кожнай аўдыторыі, са сцен актавай залы, і нават у доўгіх калідорах Андрэй павесіў па некалькі партрэтаў вялікага правадыра.

Андрэй бачыць: дэкан задаволены. Студэнт-першакурснік тым часам на сёмым небе ад шчасця: стаўка інстытуцкага культработніка — гэта яшчэ адна студэнцкая стыпендыя. Нават самотнай маці з хваравітай сястрычкай на руках Андрэй трохі грошай падкідае.

У горадзе зноў чэргі па хлеб, і пуд бульбы на базары каштуе трыццаць рублёў. Каб не цётка Сынклета, нават на дзве стыпендыі не ўтрываў бы ў горадзе Андрэй.

А яна не толькі яго падкармлівае. Зняўшы мерку і ўзяўшы ў пляменніка сто рублёў, цётка тыдні праз два прыносіць выдатны, шарсцяны, светла-шэры са срабрыстай паскай касцюм. Выштукавана адзежына як мае быць. Пасуе Андрэю да твару, да постаці.

Вось так: першы ў жыцці касцюм справіў Андрэю не бацька, які, робячы машыністам, меў ніштаватую капейку, а бедная, лёсам абыдзеная цётка.

У горадзе глуха блукаюць чуткі пра перапоўненую турму, пра тое, што не ўсіх людзей адпраўляюць адтуль на высылку — некаторых апраўдваюць і выпускаюць.

Андрэя не пакідае трывога. Раптам бацька ў гэтай турме? Як у такім выпадку дапамагчы?

Андрэй часам блукае каля турмы, размешчанай у цэнтры горада, паблізу крытай шопы базара. Высока ўзносіць старажытны храм свае хмурыя вежы-званіцы, з якіх пазбіваны крыжы і паскіданы званы. Царкоўны двор абнесены высокай мураванай сцяной, наўзбоч якой растуць старыя ліпы. Час ад часу ў сцяне адчыняецца брама, выязджае крыты грузавік — чорны воран,— і брама адразу зачыняецца. Куды едуць злавесныя машыны, каго вязуць? Каля брамы паходжвае вартавы ў шапцы з сіняй акантоўкай, з такімі ж пятліцамі на каўняры шыняля. У лёхах, сутарэннях царквы, сядзяць арыштаваныя. Але ў каго пра іх спытаеш? Ні ў кога не спытаеш...

Надзеі Андрэй не губляе. Ён думае, што бацьку, магчыма, удасца перадаць пра сябе хоць якую-небудзь вестку. Поўны такога спадзявання, ён ездзіць да маці ў мястэчка.

Гэтыя прыезды прыносяць Андрэю душэўную палёгку, хоць вестак ад бацькі няма. Праседжваючы ночы за кнігамі, ён проста адпачывае ў родным доме, сустракаецца з сябрамі-дзесяцікласнікамі, сёе-тое робіць па гаспадарцы.

Прыезд у мястэчка і вяртанне назад, у надпрыпяцкі горад, нічога Івашку не каштуюць. Ёсць знаёмыя машыністы, кандуктары, якія, памятаючы бацьку, дазваляюць Андрэю залезці на тармазную пляцоўку ці нават у паравозную будку. Стараваты ўжо машыніст Косцікаў з доўгай гусінай шыяй, дробным тварам і на дзіва зычным голасам, адводзіць аднойчы Андрэя ўбок.

— Заранок на твайго бацьку паклёп напісаў. Толькі прашу, хлопец, маўчы. Інакш і мяне ў турму запратораць...

Андрэй уздрыгвае. Заранка ведае. Высокі, чыста апрануты, з густой шавялюрай непакорлівых чорных валасоў. Стаіць звычайна на пероне, адставіўшы ўбок нагу ў блішчастым хромавым боце, курыць, цвыркае слінай. Ён памочнік машыніста і жыве на Варашылаўскай вуліцы.

— Навошта напісаў? — пытае Андрэй.

— Бо сволач. Месца твайго бацькі прагнуў заняць. Як бачыш, заняў. Машыністам ездзіць.

Маці Андрэй пра Заранка не гаворыць. Навошта хваляваць, дый ці сказаў Косцікаў праўду?

Бягуць дні.

Моцна западае ў душу Івашкі другая палавіна інстытуцкага года ў надпрыпяцкім горадзе. У лютым, сакавіку хрупасціць пад нагамі тонкая наледзь. Тратуар Набярэжнай вуліцы, якой Івашка ходзіць у інстытут, камунгасаўскія работнікі старанна чысцяць, шоргаючы жалезнымі лапатамі, разбіваючы лёд ламамі. Але то снег ідзе, то сыплецца белая крупка, сеецца імжа, капае з бляшаных дахаў. Ноччу ўдарыць прымаразак, і зноў тратуар абледзянелы і слізгота страшэнная: людзі ломяць рукі, ногі.

У гарадку дзве Набярэжныя вуліцы: ніжэйшая спускаецца да самай Прыпяці. Там бадай звычайныя сялянскія хаціны, хлеўчукі, гародчыкі, у якіх садзяць бульбу і капусту.

За Прыпяццю прастор сенажацяў, якія вясной і восенню залівае вада, далей — асмужаная сінеча сасоннікаў. З ціхім сумам пазірае Івашка на лес. У тым баку — мястэчка, знаёмы з маленства бор, палявы прастор, сходжаныя дарогі і сцежкі. Хоць ледзь не кожны тыдзень бывае Андрэй дома, але ўсё адно баліць душа па блізкіх і далёкіх местачковых ваколіцах.

Гарадок адметны. Каб не сум па бацьку, страх, які пастаянна сядзіць у душы, Івашка абшастаў бы, відаць, вуліцы, завулкі, наогул усе чым-небудзь прывабныя мясціны прадмесця. А іх шмат. Бо размешчаны гарадок на пакатых глiназёмных пагорках, якія чаргуюцца з глыбокімі ярамі, спрэс зарослымі густым ляшчыннікам і дубняком. Кажуць, у зарасніках нават ваўкі водзяцца. Прывыклі жыць побач з чалавекам і яго не чапаюць. Толькі не да прыгажосці гарадка Івашку. Бадай, кожнай хвіліны ў ягонай свядомасці ўспыхвае думка, што яго могуць выключыць з інстытута.

Андрэй часта сустракае цыбатага, зацята-маўклівага Руслана Вайнілу, які адначасна з ім паступаў у інстытут. Руслан брыдзе на заняткі, апусціўшы галаву, нічога і нікога не бачачы. Ён жыве на той жа, што Івашка, Пралетарскай вуліцы. Дамок, у якім кватаруе, вышэй па касагоры праз дзве сядзібы. Руслан вучыцца на фізіка-матэматычным факультэце, і да Івашкі яму няма справы. Да знаёмстваў, дружбы не горнецца. Нібы адзінокі воўк.

## III

У лютым ці сакавіку Івашка чытае паперку, прыклееную на дошцы аб’яў: яна насупраць інстытута, на процілеглым баку вуліцы, і ў паперцы паведамляецца, што ў горадзе пачынае працаваць студыя выяўленчага мастацтва. У студыю прымаюць здольную да жывапісу моладзь, толькі трэба прынесці ўласныя малюнкі і даведку з месца вучобы ці работы.

Маляваннем Івашка займаецца даўно, хоць вялікай увагі свайму захапленню не прыдае. Малюе кожную вольную часіну на шматках паперы, у сшытках, нават у канспектах, якія вядзе па ўсіх прадметах — твары, постаці знаёмых дзяўчат, мясціны, якія найбольш уражваюць, далёкі зарэчны лес, дзядзькоў у

падшытых валёнках, кажухах, зімовых шапках, якія сядзяць на Прыпяці, над выдзеўбанымі пешняй палонкамі і час ад часу выцягваюць з-пад лёду рыбіну, голыя цёмныя дрэвы ў скверы побач з двухпавярховым будынкам інстытута. Ён не ведае, навошта малюе. Яму проста падабаецца гэта рабіць.

Цяга да малявання нарадзілася ў Івашкі даўно. З вакон бацькоўскага дома адкрываецца від на поле, якое цягнецца да далёкага сіняга лесу. У розную пару года глядзеў Андрэй на поле і на лес і бачыў, што кожнага дня яны розныя, розная афарбоўка паветра, неба, розны настрой зямлі, які як бы вызначаецца рознымі фарбамі, колерамі, шматлікімі іх адценнямі.

Ніколі не ўдаецца Івашку дакладна перадаць настрой таго жыцця, якое яго акружае. Малюнкі атрымліваюцца прэсныя, перадаюць толькі знешняе падабенства. Таму ён думае, што майстэрства малявання — тайна. Ёю валодаюць толькі вялікія мастакі, якія ўмеюць дакладна перадаць тое, што адчуваюць. Бо адной якой-небудзь рыскі дастаткова, каб малюнак стаў жывым, паказваў не толькі тое, што намалявана, а яшчэ штосьці іншае, чаго на самім малюнку няма, але ёсць у жыцці ці ў душы мастака.

Студыя знаходзіцца на заходняй ускраіне гарадка, у запушчаным, атуленым старымі дрэвамі будынку мясцовага краязнаўчага музея. Два ці тры пакойчыкі адведзены пад секцыі студыі. Івашка запісваецца ў секцыю жывапісу. Ён здзіўляецца і чамусьці радуецца: у гэтую ж секцыю запісаўся Руслан Вайніла.

Сцены ў пакойчыку абшарпаныя, з іх звісае касмыллё пашкамутаных шпалераў, месцамі нават тынкоўка абвалілася, і ў дзірках праглядваюць рэбры крыж-накрыж прыбітых да сценкі драначак. Мэблі ніякай. Проста на драўляныя чурбачкі пакладзены неабструганыя, з шорсткай паверхняй сасновыя дошкі, і на дошках гэтых сядзіць чалавек дванаццаць мясцовых талентаў самага рознага ўзросту. Людзей пажылых, сярод якіх дзве-тры жанчыны, нават больш, чым моладзі.

Тым часам кіраўнік секцыі — яго завуць Антон Друк — немалады, хмурага выгляду мужчына, які заходзіць у пакой, не скінуўшы паношанае паліто і шапку-аблавушку (у пакойчыку халаднавата), неяк надзвычай хутка робіць адбор. Садзіцца

за стол, імкліва перакідвае стусікі малюнкаў, што прынеслі з сабой ахвотнікі вучыцца ў студыі.

Называючы прозвішчы, кіраўнік раз за разам выносіць іх уладальнікам суровыя прысуды:

— Вам рана займацца ў студыі...

— Маляваць не ўмееце. Не тлуміце галаву сабе і другім...

— Ідзіце ў секцыю разьбы па дрэве. Там няма людзей...

Далікатных слоў Антон Друк не шукае. Затое пасля ягонага экзамена ў пакойчыку застаецца толькі пяць чалавек. Жанчыны — ніводнай, пажылых дзядзькоў — таксама. Кіраўнік спыняецца на Руслане Вайніле, Івашку і яшчэ трох школьніках.

У наступныя дні ў студыю торкаецца яшчэ некалькі кандыдатаў у мастакі, але няўмольны кіраўнік іх бязлітасна адшывае.

Выкладчык сам мастак. Гэта Івашка адчувае з першых заняткаў. Цяпер яму нават страшна ад думкі, што ён мог не заўважыць паперкі, прыклеенай да дошкі аб'яў, і не паступіць у студыю. Бо Друк якраз адказвае на пытанні, якія самі сабой паўставалі перад Івашкам, як толькі ўзяўся за маляванне. І адказу на гэтыя пытанні не ведаў, дзе пачуць...

Бацька пабудаваў дом у прывабным месцы. Тут канчаецца шырокі правулак і пачынаецца поле. Не абы-якое поле — самае ўрадлівае ў мястэчку. Нездарма называецца Дуброва. Некалі стаялі тут спрэс дубы. Магутныя, як вежы, з разгалістымі шатамі, што ледзь не сягаюць да аблокаў, яны падковай абступілі мястэчка. Цяпер ад тых дубоў сям-там на полі засталіся толькі купкі па некалькі дрэваў. Але калі прыйдзеш нават пад гэтыя дубы, станеш ці сядзеш на ўтравелы, здзірванелы грунт, душу поўніць асаблівы настрой. Ніколі не маўчаць дубы. Вецер не сціхае ў іхніх шатах нават пры самым ціхім, спакойным надвор'і, і здаецца, шаты гэтыя вядуць сваю, ім толькі зразумелую, даверлівую гаворку з самім небам.

Вось такія дубы яшчэ застаў Івашка. Ён хацеў уявіць знаёмае, трошкі ўзвышанае поле, якое засявалі то канюшынай, то жытам, ячменем, то засаджвалі бульбай, такім, якім яно было сто ці дзвесце гадоў назад, калі тут быў яшчэ суцэльны дубовы лес, які цягнуўся на многія вёрсты. І не мог уявіць

далёкай, ніколі не бачанай карціны. У ягоных думках, развагах гэта быў нібы лес багоў, святы хорам, дзе чалавек сам-насам сутыкаўся з веліччу, найвышэйшай прыгажосцю прыроды. Але вынішчаны лес багоў. Нібы не хацелі разумець людзі, якія нішчылі дубы, што такія дрэвы могуць вырасці за трыста ці за пяцьсот гадоў.

Іншы раз Івашку наведвае здрадлівая думка, што людзі наогул не любяць, не церпяць нічога вялікага і высокага. Вось і бацька быў, бадай, самы прыкметны чалавек на ўсім канцы вуліцы. А дзе ён? Выходзіць, у жыцці пануе не парадак, а хаос, бяздумнасць, сляпыя інстынкты, разбурэнне.

Рэшткі дубовых гаёў і цяпер бязлітасна вынішчаюцца. Па саннай дарозе шмат гадоў узапар вывозяцца на чыгуначную станцыю магутныя дубовыя камлі. У кары — своеасаблівыя сані з вялізнымі дубовымі палазамі — запрагаецца па дзве, а то і па тры пары коней. Гэтыя дубовыя камлі, зачапіўшы іх канцы канатамі, цягнуць на чыгуначную платформу па падстаўленых бярвеннях-легарах дзесяць — дванаццаць грузчыкаў, якія стаяць у два рады. Нават частушкі, часцей за ўсё брыдкія, спяваюць у гэты час грузчыкі, заканчваючы кожны такт гучным крыкам: «Узялі!..» Аднойчы камель сарваўся з легара і забіў двух грузчыкаў, якія не паспелі адскочыць.

Тое, што сядзіба Івашкі глядзіць на прыгожае поле і на лес, можа, і прыахвоціла яго да малявання. Ён з самых малых гадоў пачаў вандраваць у лес, спачатку асочваючы птушыныя гнёзды, а потым з карыслівым разлікам: прынесці маці мяккага ляснога вішу, каб зрабіць сяннік, бабоўніку свінням, назбіраць суніц, чарніц. Нарэшце пачаліся грыбныя вандроўкі, якія адкрылі Івашку дзівосны свет: разлівы чырвона-сініх верасоў, на разлеглых пясчаных палянах баравыя лясы, прастор пакрытых наздраватым мохам супесяў.

Вяртаючыся з лесу, ён заўсёды любуецца выглядам мястэчка. Здалёку яно прыгожае: нібы агромністы зялёны карабель плыве па залацістым жытнёвым моры. Даўно Івашка ведае: здалёку прадметы прыгажэйшыя, чым зблізку.

Чаму так? Хто можа на гэтае пытанне адказаць?

Поле, якое было некалі дубровай, далёкі лес, увогуле прыгожыя мясціны, вобразы якіх уражваюць, узрушваюць,

западаюць у душу, можа, і нарадзілі ў Івашкі жаданне маляваць. Але што то было за маляванне! Нават дзіўна, што ў тых малюнках, якія прынёс у студыю Івашка, выкладчык і мастак Друк знайшоў штосьці цікавае.

Студыя для Івашкі — як адкрыццё, як чараўніцтва. Друк вучыць адчуванню прастору, перспектывы, узаемадзеянню колераў, якія ствараюць адпаведны настрой. А без настрою, без душы мастака, якія ён укладвае ў свой твор, мастацтва няма.

Упершыню ад Друка пачуў Івашка пра школу імпрэсіянізму, якая нарадзілася ў французскім жывапісе яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Рэнуар, Ван-Гог, Манэ...

Пад канец заняткаў Друк прыносіць некалькі малюнкаў, якія проста зачаравалі студыйцаў. Малюнкі належаць мясцоваму мастаку, прозвішча якога Друк чамусьці не называе. Выдатныя малюнкі чымсьці падобныя на жывапіс Ван-Гога. Называюцца малюнкі невядомага мастака «Прачкі над Прыпяццю», «Адзінокі дамок» і іншыя. Дамок Івашка нават ведае, бо стаіць ён паблізу Пралетарскай вуліцы, на стромым беразе ракі.

Адразу не скажаш, чым уражваюць гэтыя малюнкі. Бо ў іх усё надзвычай проста, нават прымітыўна. Нішто не ідэалізуецца, можа, нават агрубляецца. З трох прачак у старой ногі расстаўлены залішне шырока і азадак шыракаваты, дзве астатнія жанчыны маладзейшыя, зграбнейшыя. Некалькі мазкоў, зробленых тушшу, і малюнак як жывы, і пра намаляваных на ім кабет шмат можна сказаць.

На пытанне, хто аўтар малюнкаў і карціны, Друк кожны раз адказвае штосьці няпэўнае:

— Адзін выдатны чалавек. Толькі цяпер яго тут няма...

Нават за тры месяцы навучання ў студыі Івашка ні на крок не зблізіцца з Русланам Вайнілам. Той зацяты, пахмурны і ў ніякія гаворкі не ўступае. Усё ж дазнаецца Івашка пра рэчы дзіўныя. Аказваецца, адрокся Руслан ад роднага, высланага бацькі, бо інакш яго не прынялі б у інстытут. Жыве ў дзядзькі, праўдзівей, у дзядзькавай жонкі, бо дзядзька, родны бацькаў брат, працуе сакратаром райкама ў суседнім лясным раёне.

Відаць, і сакратар выракся брата, бо інакш яго не трымалі б на гэтай высокай пасадзе.

Гісторыя даваеннага Івашкавага жыцця ў гарадку над Прыпяццю будзе няпоўнай, калі не сказаць пра дзяўчыну, якая менавіта ў гэты час трапіла яму на вока і запала ў душу. Дзяўчына знаёмая і незнаёмая: бясконцую колькасць разоў бачыў яе Івашка ў местачковай школе, бо яна вучылася ў паралельным класе, але ніколі не пагаварыў з ёй Андрэй, не ведаў, хто яна і адкуль.

Тым часам Яніна Саўко — так завуць дзяўчыну — з не такой далёкай ад мястэчка вёскі Хапалавічы, дачка настаўнікаў, скончыла ў вясковай школе сем класаў, але ў местачковай вялікіх поспехаў не выявіла: па два гады сядзела ў восьмым і дзявятым класах. На дзясяты бацькі-настаўнікі спадзявацца, відаць, не захацелі і піхнулі дачку ў настаўніцкі інстытут, для паступлення ў які поўная сярэдняя адукацыя і не патрабавалася. Яніна прысадзістая, з вузкім лісіным тварам, трошкі касаватая, затое з на дзіва добра развітымі жаночымі формамі.

У інстытуце Яніна таксама зорак з неба не хапае: заваліла першы семестр і ўсю зіму ходзіць здаваць «хвасты».

Івашка, відаць, і ў інстытуце не зацікавіўся б Янінай: лекцыі, дзяжурства ў пакоіку культуры і адпачынку, заняткі ў студыі забіраюць увесь ягоны час. Аднак залішне часта стала забягаць Яніна ў пакоік культуры і адпачынку. Зойдзе, сціпла павітаецца і, зрабіўшыся чырвонай, як мак, возьме ў рукі газету. Івашка бачыць: газеты яна не чытае, толькі для прыліку павядзе вачамі па радках, але ў асноўным глядзіць на яго.

Яніна, безумоўна, ведае, што бацька Івашкі арыштаваны. Але тайну яна захоўвае моцна і земляка не выдае. Можа, ад гэтага ў грудзях Івашкі раз-пораз варушыцца пачуццё ўдзячнасці да дзяўчыны. Ён пачынае патрошкі размаўляць з ёй, цікавіцца яе справамі. Стыпендыю Яніна не атрымлівае ды яшчэ плаціць за кватэру: трымаюць у гарадку на ўсім гатовым бацькі-настаўнікі. Як Івашка, Яніна ездзіць дамоў бадай кожны тыдзень. Толькі не чыгункаю, як ён, а па шашы-брусчатцы да вёскі Залессе, ад якой да Хапалавіч чатыры кіламетры.

Аднойчы Яніна падбівае Івашку з’ездзіць дамоў па шашы: ад Залесся не так далёка і да мястэчка. Стаіць май, цёпла, добра, распускаецца лісце на дрэвах. Ля моста цераз Прыпяць яны ўладкоўваюцца ў кузаў паўтаратонкі, загружаны бульбай.

Да гэтага выпадку Івашка не меў справы з дзяўчатамі. Вядома, размаўляў, жартаваў, маляваў на паперках іхнія профілі, некаторыя з дзяўчат нават падабаліся, але ў пачуццях сваіх ён ні перад кім не раскрываўся.

Па траскай дарозе яго і Яніну ўвесь час кідае адно на аднаго. Яму нават падаецца, што Яніна, ад кожнага новага штуршка наваліўшыся на яго, не спяшаецца адхінуцца, ціснецца, здаецца, яшчэ шчыльней.

Ад халаднаватага ветру ў Івашкі і ягонай дамы чырванеюць твары, набягаюць слёзы і пад насамі робіцца макравата. Івашка, можа, і пацалаваў бы Яніну, але з мокрым носам не выпадае.

Увогуле добра, што ён пачаў ездзіць па шашы, перад ім паўней раскрываецца воблік роднага краю. На пяцідзесяцівярстовым прасцягу ад горада да Залесся балоты, нізкія алешнікі чаргуюцца са знаёмымі па мястэчку дубовымі гаямі. Ён бачыць вёскі, якія туляцца да шашы, пра якія толькі чуў, але ніколі не бачыў.

А дубы выдатныя. Нібы лёгкая акварэльная вязь ахінае разлапістыя макушы магутных дрэваў: на дубах толькі-толькі праклёўваецца першае лісце. Добра, што трохі захаваліся дубровы, не ўсе вынішчаны.

Яніна ўражвае Івашку сваёй безабароннасцю. Яна нібы малая птушка, якая ўсяго баіцца, не могучы адстаяць незалежнасць, права на існаванне. Як ён, наіўны рамантык, памыляўся! І як дорага яму каштавала памылка...

## IV

Пра вайну Івашка не думае, хоць тое, што яна стаіць ля парога, адчувае. Па чыгунцы імчаць на захад эшалоны з танкамі, артылерыяй, салдатамі. Але, думаючы пра арыштаванага бацьку, поўны страху, што яго самога могуць выключыць з інстытута, з камсамола, ён як бы закрывае вочы на ўсё астатняе.

Вайна выбухае, ледзь паспяваюць студэнты першага курса здаць экзамены. Нават не развітаўшыся з Івашкам, Яніна кіруе ў свае Хапалавічы. Руслан Вайніла застаецца ў гарадку. Родам ён з Міншчыны, і ягоная мясцовасць за нейкі тыдзень ужо захоплена немцамі.

Вайна рашуча перакрэслівае, выкідае з Івашкавай душы думкі пра бацьку. Яму здаецца, што іменна цяпер з бацькам разбяруцца як след. Трэба думаць пра сябе, пра сваё месца ў нябачна жорсткай, бязлітаснай барацьбе, якой ахоплен свет.

Праз два месяцы пасля пачатку вайны Івашка, падгаварыўшы двух мястэчковых таварышаў, вяртаецца ў гарадок. Цяпер ясна, што немцы прыйдуць: на ўсіх астатніх напрамках яны далёка наперадзе. Дарога на ўсход перарэзана, і застаецца адно выйсце: на Кіеў. Да Кіева немцы яшчэ нібыта не падступілі. Па чутках, па Прыпяці ходзяць параходзікі, і, значыць, можна будзе на такім параходзіку дабрацца да сталіцы Украіны.

Параходзікі былі, ды сплылі. Гарадок замёр у чаканні непазбежнай бяды. У інстытуце пуста. Гарадок бамбілі, таму ўсе шыбы заклеены палоскамі паперы. Тыдзень назад яго пакінула апошняя воінская часць: кавалерыйская дывізія, якая тут фарміравалася. Івашка дазнаецца: з гэтай дывізіяй рушыў у водступ Руслан Вайніла. Ягоны дзядзька, сакратар райкама ў далёкім лясным раёне, захопленым немцамі, паспеў праславіцца як партызанскі важак. Нейкі важны мост узарваў, калону немцаў разбіў. Нават званне Героя заслужыў. У гарадок ён нібыта з'явіўся дзеля справаздачы аб партызанскай дзейнасці, але абкам партыі накіроўвае яго на другую пасаду — камісарам у кавалерыйскую дывізію, якая тут, у гарадку, фарміравалася.

Ноччу, калі сябры начавалі ў дамку цёткі Сынклеты, адзін з хлопцаў знік. Уцёк, вядома, назад у мястэчка. Застаўся Андрэй з хлопцам, з якім і дружыў не надта.

Назаўтра, перайшоўшы праз яшчэ неўзарваны мост на Прыпяці, двое вандроўнікаў рушылі на Чарнобыль. Чаму на Чарнобыль? Відаць, таму, што ён найбліжэйшы горад, які ляжыць на рацэ. Хлопцы наважылі ісці прасёлкавымі дарогамі, каб не трапіць пад бамбёжку, але і ад ракі асабліва не аддаляцца. Насупраць Чарнобыля як-небудзь перабяруцца

на правы бераг Прыпяці, а там і Чарнігаў недалёка. Бліжэй, вядома, ісці праз Гомель. Але Гомель, па чутках, захоплены фашыстамі.

Хлопцы мараць прабрацца ў тыл: у Курск, Растоў-на-Доне, куды нага немца не ступіць, і там уладкавацца ў якое-небудзь ваеннае вучылішча. Андрэю і ягонаму напарніку па сямнаццаць гадоў, і ў армію іх пакуль не возьмуць.

Мала Андрэй пабачыў свету. Два разы быў з бацькам у Гомелі — і ўсё. Ягоны напарнік Васіль Грыцко, шыракаплечы хлапчына, які перайшоў у дзясяты клас, нават у Гомелі не быў. І вось цяпер перад хлопцамі далёкая дарога.

Адзін дзень хлопцы ідуць разам з воінскай часцю. Вельмі непрывабная з выгляду гэтая часць. Чырвонаармейцы зняможаныя, панурыя, у цёмных ад поту і пылу гімнасцёрках, з белымі плямамі солі на спіне.

Вісяць над дарогамі, нават над палявымі, прасёлкавымі, па якіх ідуць разбітыя, разрозненыя воінскія часці і такія адзінокія бадзягі, як Васіль Грыцко і Андрэй Івашка, нямецкія самалёты. Зрэдку чуваць кулямётны пошчак і асобныя выбухі. Нямецкія лётчыкі не грэбуюць абстрэльваць, бамбіць нават невялікія купкі людзей.

Левабярэжная паласа Прыпяці пераважна балоцістая, зарослая алешнікам, лазняком, чарналессем з невялікімі крапінамі палёў, на якіх асыпаецца даспелы авёс, жыта. Лета на зыходзе, але ніхто не ідзе на поле з сярпом ці касой.

З часу катастрофы ў Чарнобылі Івашка ўспамінае дарогу адступлення сорак першага года. Іншы раз яму здаецца: сорак першы год з яго адступленнямі, акружэннямі, паражэннямі і выбух у Чарнобылі — штосьці блізкае адно да другога па памерах бяды, трагедыі, якая абрынулася на народ.

Дыбаюць хлопцы-вандроўнікі тры доўгія жнівеньскія дні. У тым месцы, дзе выходзяць да шырокай Прыпяці, пераправы няма. Яны і не сталі шукаць пераправы, бо ўжо ноччу з таго боку, дзе мусіў размяшчацца Чарнобыль, стала даносіцца глухая артылерыйская кананада.

Івашку здаецца, што нейкімі патаемнымі ніцямі ніколі не бачаны Чарнобыль звязаны з ягоным асабістым лёсам. Яму з Васілём Грыцко не ўдалося ў сорак першым пераправіцца цераз Прыпяць, а каб удалося ды яшчэ каб Івашка, напрыклад,

ацалеў на вайне? Зусім іншае пражыў бы жыццё. А так да трыццаці гадоў, да дваццатага з’езда партыі, дый пасля яго, жыў Івашка ва ўладзе страху. Як жа, сын ворага народа дый яшчэ ў акупацыі быў. Руслан Вайніла, які не быў у акупацыі, пражыў жыццё зусім інакш.

Кавалерыйская дывізія, камісарам у якой служыў дзядзька Вайнілы і да якой прыляпіўся Руслан, з кіеўскага акружэння выслізнула, але трапіла ў другое — пад Палтавай. Руслан, аднак, паспеў сесці ў цягнік, дабрацца да Саратава. Ягоны дзядзька, герой-партызан, загінуў у акружэнні.

Ці здолелі б зрабіць гэтае самае Івашка з Васілём Грыцко, каб пераправіліся цераз Прыпяць і трапілі ў Чарнобыль. Кавалерысты рушылі з надпрыпяцкага гарадка дзён на пяць раней, чым Івашка з Васілём Грыцко, і то апынуліся ў акружэнні і выскачылі з яго дзякуючы таму, што былі на конях. А што яны, пешыя бадзягі? Ні ў якім разе не здолелі б выбрацца з вогненнага кальца, у якім ужо апынуўся Чарнобыль. Пад рознымі планетамі, сузор’ямі, відаць, нарадзіліся Руслан Вайніла і Андрэй Івашка...

## V

Пераначаваўшы, Івашка выходзіць з гасцініцы і жахаецца: ягоны «Масквіч», нягледзячы на тое, што ён яго ўчора мыў каля воданапорнай калонкі, выгляд па-ранейшаму мае ўбогі: усюды падцёкі, пісягі, гразь. Трэба вяртацца да калонкі і яшчэ мыць, чысціць машыну.

Зняўшы яшчэ новую куртку, выняўшы з багажніка якія ёсць анучы, шчоткі, Андрэй мые, шмаруе ўжо далёка не новы «Масквіч», каб надаць яму хоць які-небудзь боскі выгляд. Дзень пахмурны, цёмны, неба шчыльна, у некалькі пластоў абложана цяжкімі свінцовымі воблакамі. Адсюль, з касагора гарбатай Пралетарскай вуліцы, Прыпяць здаецца цёмнай, нават чорнай: нібы не вада ў ёй, а якая-небудзь мазута. Выгляд вуліцы ўшчэнт зыначыўся: у канцы яе на яшчэ вышэйшым касагоры праглядваюць такія, як гасцініца, шматпавярховыя хароміны, і наогул здаецца, што там, на вышыні, пачынаецца нейкі зусім новы горад. Але і старое, знаёмае ёсць. Дамкі, што дзяруцца ўверх па касагоры, бадай, такія самыя, якімі

былі да вайны і ў першы пасляваенны час: прысадзістыя, з насунутымі казыркамі дахаў, маленькімі падслепаватымі акенцамі. Толькі ў некаторых гнілая гонта, дранка дахаў заменена шыферам, а сцены абшаляваны і пафарбаваны.

Дрэнны Івашка работнік: з непрывычкі пот залівае вочы. Ён разгінаецца, выцірае пот з ілба рукавом пінжака, разглядваецца. Няма ніякага сумнення, абсягі цётчынага двара і дамка займае гасцініца. Адным левым бокам аграмадзіна дзевяціпавярховай гасцініцы накрыла плошчу не толькі цётчынага дворыка, а яшчэ двух ці нават трох іншых, якія па схіле забрукаванай каменем-кругляком Пралетарскай вуліцы спускаліся ўніз да Прыпяці.

Горад мяняецца на вачах. У многіх мясцінах, асабліва на ўскраінах, выраслі новыя, размешчаныя наводшыбе ад горада мікрараёны. Яны спрэс забудаваны блочнымі, трох- і чатырохпавярховымі каробкамі з кішэнькамі балкончыкаў па фасадах, на якіх, нібы сцягі, трапечуцца на ветры рознакаляровыя блузкі, трусы, споднікі. Трэба ж рабочаму люду дзе-небудзь сушыць бялізну.

У пару Івашкавай маладосці горад нічым асаблівым не вызначаўся. Але аблічча меў. Драўляныя і цагляныя дамкі свяцілі вокнамі на дне глыбокіх яроў, па схілах і вяршынях пагоркаў, ствараючы ўражанне адметнасці, стракатасці забудовы. Тут можна было спакойна жыць, купацца ў Прыпяці, валяцца на засыпаным мяккім рачным пяском пляжы, піць добрае піва, якое тут здавён вырабляе мясцовы завод.

Але заштатнаму гарадку нечакана надалі тытул абласнога цэнтра. Пераведзеныя з другіх мясцін службовыя людзі суцэльнай плынню хлынулі ў ціхі гарадок, на цэнтральнай вуліцы шыльды розных кантор густа наляпіліся на фасады ледзь не кожнай будыніны. На некаторых дамках такіх шыльдаў было па дзве і нават па тры.

Ніколі не бачыў ціхі гарадок столькіх людзей з партфелямі: яны заклапочана бегалі па вуліцах, званілі па тэлефонах, раз’язджалі па гарбатых вулачках на легкавых машынах.

З гарадка вырас горад, у якім тысяч сто насельніцтва, пад бокам нафтаперапрацоўчы завод і яшчэ адзін буйны завод, які, здаецца, выпускае сельскагаспадарчую тэхніку. Уздымаюцца блочныя аграмадзіны, і знікаюць напалавіну

драўляныя, напалавіну цагляныя дамкі. І хоць горад даўно не абласны, ён імкліва губляе заштатную непаўторнасць. Такі горад сёння можна ўбачыць у любой частцы краіны. Ён нічым асаблівым не ўзрушыць, не запомніцца.

Захоплены думкамі аб гарадку маладосці, Івашка збольшага такі адчысціў «Масквіч». Вядома, машыну яшчэ трэба некалькі разоў абліць вадой з брандспойта, але ўжо можна і так паказацца на людзі.

Тым часам да Івашкі падыходзіць сярэдняга росту мужчына, цельпукаваты, з круглым смуглявым тварам. Гэта Піліп Глыбоўскі, мясцовы мастак, а таксама выкладчык тутэйшага педагагічнага інстытута.

— Рад цябе бачыць, Піліп Іванавіч,— гаворыць Івашка, разгінаючыся і радуючыся, што ён можа скончыць непрыемную работу.— Спецыяльна цябе чакаў. Пойдзем паснедаем. Учора вось гэтую каструлю чысціў і сёння ўсю раніцу шмарую. Да бляску, як бачыш, яшчэ далёка.

— Далёкая дарога,— гаворыць Глыбоўскі.

Яны заходзяць у вестыбюль гасцініцы, распранаюцца, Івашка на хвіліну адлучаецца памыць рукі.

Рэстаран, у якім звечара гэтак наярваў аркестр, папераменна мігала святло, з раніцы працуе як звычайнае кафэ. Туды хоча завесці таварыша Івашка. Але Глыбоўскі чалавек мясцовы, абыходлівы і, відаць, лепш ведае, што рабіць. Ён некуды знікае, і праз хвіліну ў панэльнай сценцы пад колер дуба, побач з бюро абслугоўвання, адчыняюцца дзверцы.

— Ідзіце сюды,— кліча таварыша Глыбоўскі.

Зальчык утульны. У ім толькі тры ці чатыры столікі. Паяўляецца беленькая, у белай, вышытай мясцовымі ўзорамі форме афіцыянтка.

— Паслужы нам, Зіначка. Пакажы, чым багаты горад на Прыпяці...

Дык вось снеданне. Два кухлі знаёмага піва. Яно залацістаянтарнае, пеніцца і нібы ззяе іскрамі, што падымаюцца знізу, з самага дна.

— Мне нельга піва,— няўпэўнена бароніцца Івашка.

— Можна. Наша міліцыя не тое што мінская. На піва не рэагуе.

Не шмат у Івашкі добрых знаёмых, і адзін з іх Піліп Іванавіч Глыбоўскі. Ён графік, многа гадоў назад скончыў мастацкі інстытут, у якім тады выкладаў яшчэ адносна малады Івашка. З выгляду Глыбоўскі цельпукаваты і маларухомы. Але гэта толькі з выгляду. На самай справе ён зух, цікавіцца жанчынамі і яны ім таксама. З-за гэтага жонка Піліпа Іванавіча — яна таксама скончыла мастацкі інстытут — вечна ходзіць з заплаканымі вачамі і пакутніцкім выглядам.

Сюды, у надпрыпяцкі горад, Глыбоўскі прыехаў з-за кватэры. На базе настаўніцкага тут адкрылі педагагічны інстытут, з факультэтам малодшых класаў. На гэтым факультэце ёсць такі прадмет, як маляванне, а значыць, і работа для мастака, якому, як чалавеку вольнай прафесіі, зарплату не плацяць, а толькі ганарар. Але паспрабуй пражыві на ганарар! На яго могуць пражыць толькі славутыя свяцілы, ды і то не ўсе.

Апроч выкладання графікі Глыбоўскі расшуквае звесткі аб жыцці малавядомых мастакоў, а таксама іхнія творы. Ужо два ці тры даведнікі выдаў.

— Вайніла прыехаў,— паведамляе Глыбоўскі.— Я яму званіў, прасіў выступіць. Ды дзе там!

— Адмовіўся? — з недаўменнем пытае Івашка.

— Адмовіўся.

— Дзіўна. Вайніла вучыўся ў вашым інстытуце. Разам са мной. Яшчэ да вайны. Мог бы, зрэшты, выступіць.

У Піліпа Глыбоўскага загараюцца вочы.

— Вы маладыя былі для інстытута. І Вайніла, і вы...

— Інстытут быў настаўніцкі, двухгадовы. Бралі з дзевяццю класамі. Нават з васьмю. Не хапала настаўнікаў.

Глыбоўскі аж гарыць ад цікавасці. Але Івашка змаўкае. Не мае ён права гаварыць аб тым, аб чым сам Вайніла маўчыць. Нельга торкаць нос у чужыя таямніцы. Вайніла не піша пра высланага бацьку... Ягоная справа.

— Не разумею Вайнілу,— гаворыць нарэшце Глыбоўскі.— Мае аўтарытэт, вядомасць. То чаму лезе ў розныя камітэты? Цяпер яны растуць, як грыбы. Можа, таму, што малюе горш?

Глыбоўскі як бы з запытаннем глядзіць на Івашку. Але той у гаворку не ўступае.

— Наогул, я не ўсё прымаю ў Вайнілы,— працягвае Глыбоўскі.— Ёсць у ім штосьці жорсткае, бязлітаснае. Сатырык. А ў сатырыкаў дно неглыбокае. Аднапланавыя яны. Да тайны мастацтва не імкнуцца.

Глыбоўскі вымае з унутранай кішэні сшытак, кладзе перад Івашкам.

— Вось тут пра Дарашэвіча,— неяк узрадавана гаворыць ён.— Па адной-дзве яго карціны ёсць у музеях Нікалаева, Ніжняга Тагіла, Златауста. Буду шукаць яшчэ. Не веру, што дзвесце карцін, забраныя пры арышце Дарашэвіча, проста знішчаны. Хоць у час, калі шукаюць ведзьмаў, усялякае здараецца...

Івашка з прагнасцю гартае сшытак.

— Можа б, вы выступілі ў інстытуце,— неяк няпэўна пытае Глыбоўскі.

— Няхай другі раз, Піліп Іванавіч. Далібог, часу няма. Працую кансультантам, то трэба хоць раз у тыдзень у свой інстытут з'яўляцца.

Малайчына Глыбоўскі. Жывучы ў надпрыпяцкім горадзе, працуючы ў не надта выдатным інстытуце, у якім, здаецца, няма ніводнага доктара навук, прафесара, ён займаецца работай, якой можа пазайздросціць той самы доктар і прафесар. Выяўляе Глыбоўскі рэпрэсіраваных і наогул забытых мастакоў, расшуквае іх творы, выяўляе ўсё, што можа выявіць.

Ён і Дарашэвіча адкрыў для Івашкі і для астатняга свету. Малюнкі, якія яшчэ да вайны прыносіў у студыю дзівакаваты выкладчык Друк і якія так трывала запалі ў душу Івашку, належалі Дарашэвічу. Друк не называў аўтара, бо проста не мог у той час гэтага рабіць: мастак быў арыштаваны. З надпрыпяцкага гарадка паехаў вучыцца ў Віцебск, у Маскву, дабіўся прызнання: удзельнічаў у дзвюх ці трох выстаўках, патроху пачалі пра яго пісаць, друкаваць рэпрадукцыі карцін. І раптам знік Дарашэвіч, як скрозь зямлю праваліўся.

Івашка ведае: Дарашэвіч жыў на Цімбараўцы. Ёсць такая ўскраінная вуліца, і цягнецца яна ўздоўж Прыпяці, якая, мінуўшы горад, цячэ ў паўднёва-заходнім напрамку. Ні да вайны, ні нават пасля вайны Івашка па гэтай вуліцы не хадзіў. Чуў, вядома, што Цімбараўка існуе, але не надаралася

выпадку па ёй пахадзіць. Між тым з росшукаў Глыбоўскага вынікае, што Дарашэвіч жыў на Цімбараўцы.

Нарэшце сябры-таварышы развітваюцца. Івашка садзіцца ў «Масквіч».

Цімбараўка пачынаецца бадай што адразу за добра вядомым Івашку крытым рынкам. Доўгая вуліца Цімбараўка: цягнецца адной лініяй будынкаў кіламетраў на пяць-шэсць. Дамкі пераважна местачковага выгляду: з пафарбаванымі рамамі вакон, аканіц, узорнымі ліштвамі, іншымі фацэцыямі драўлянага дойлідства. Гарадское тут шчыльна мяжуе з сельскім: у дворыках хлеўчукі, за імі агароды, сады, перад фасадамі дамкоў палісаднікі. Летам, відаць, тоне вуліца ў зеляніне. Жыве вуліца Цімбараўка пад знакам мілых Івашку дубоў: на задах агародаў, між дамамі, іншы раз проста на ўскрайку яны паўстаюць разлапістымі купамі.

І нібы ўсё знаёмае тут Івашку. Нарэшце прыходзіць шчаслівая здагадка: Дарашэвіч маляваў Цімбараўку. Вось гэтыя самыя дамкі, дубы, Прыпяць, людзей, якія тут жывуць. Як выдатна ён улавіў настрой Цімбараўкі, Прыпяці з пясчанымі пляжамі, высокім берагам, нізкімі ракітамі на процілеглым беразе. І неба дакладна маляваў Дарашэвіч — высокае, трохі задуменнае палескае неба, якое не зблытаеш з ніякім другім.

Дзень, як і ўчарашні, пахмурны, нават цёмны. Неба гэтак шчыльна абложана цяжкімі воблакамі, што нібы застыла. Ніякага руху воблакаў не відаць.

Вылезшы з машыны, Івашка ідзе да Прыпяці. Рака толькі здалёк здаецца цёмнай, а так, калі стаяць каля самага ўзмежку вады і мокрага пяску,— чыстай і празрыстай. На процілеглым беразе пясчаныя дзюны, кусты ракітніку, вербалозу, а яшчэ далей, аж да цёмнай грады хвойніку, шэры прастор заліўных сенажацяў.

Як адчуваў настрой Прыпяці Дарашэвіч! На нешматлікіх акварэльках, алоўкавых эскізах, якія засталіся, настрой ракі ці, можа, тое, што называюць душой, перададзены ў вышэйшай ступені дакладна. І зроблена ўсё скупымі, як бы накіданымі на скорую руку штрыхамі.

Сам Дарашэвіч вырас на стыку Польшчы, Беларусі і Літвы. Івашка ездзіў у ягоную вёску. Не толькі дзеля Дарашэвіча ездзіў.

Ён у тых мясцінах ваяваў. З часоў ваеннай маладосці памятае Івашка сумны краявід: заходзіць позняе лістападаўскае сонца, неяк злавесна асвятляючы размешчаную на касагоры вёсачку, адбіваючыся крывава-чырвонымі бляскамі ў вокнах нізенькіх, з саламянымі стрэхамі хат. У тых хатках патрэсканыя, даўно не беленыя сцены, замест падлогі гліняны дол.

Батальён, у якім служыць Івашка, начуе ў той вёсачцы. Ён вырваўся наперад, кухні адсталі, прыцемкам старшыны пабеглі па хатах раздабыць (заўтра аддадзім) якога-небудзь харчу. Мала чым, аднак, пажывіліся. Далі байцам па кавалку чорнага з асцюкамі хлеба ды па некалькі вараных, у шалупінні, бульбін.

Івашку чамусьці доўгі час здавалася, што ў вёсцы, якую ён бачыў, жыў Дарашэвіч. Паехаўшы ў Польшчу, Івашка адвінуўся на Беласточчыну, адшукаў патрэбнае паселішча. Мясціна, аднак, была зусім другой: прыгожай і светлай. Івашка нават узрадаваўся ад гэтага: мастак мусіў нарадзіцца і жыць, няхай сабе толькі ў дзяцінстве, у прыгожай мясціне.

У дадатак бацька Дарашэвіча працаваў садоўнікам у памешчыцкім маёнтку і, вядома, браў з сабой сына. Такім чынам, у будучага мастака рана нарадзілася адчуванне прыгажосці: ён бачыў вясновы сад, мора квецені, разнастайнасць, багацце колераў. Такое западае ў душу з самага ранняга дзяцінства.

Маёнтак, на жаль, зруйнаваны, ад яго засталіся толькі некаторыя паасобныя памяшканні, складзеныя з цэглы муры і лёхі вінакурнага заводзіка ды яшчэ доўгія алеі, абсаджаныя разлапістымі старасвецкімі ліпамі.

Цяпер ведае Івашка: у бацькі Дарашэвіча было шаснаццаць дзяцей. Адсюль вынікае: кожны хлапец, дзяўчына з гэтых шаснаццаці мусілі разлічваць у жыццёвай барацьбе толькі на ўласныя сілы.

Дарашэвічу-мастаку было не пазычаць упартасці, зацятасці, цярплівасці. На хлебе і вадзе, бо меў толькі выпадковыя заробкі, скончыў гімназію і яшчэ трохі ў мастацкай студыі павучыўся. Гэта было ў Вільні, у пачатку дваццатых гадоў, калі буржуазны рэжым у нованароджанай Польшчы толькі набіраў сілу. Вядома, Дарашэвіч далучыўся да падпольнага камсамола і за час вучобы паспеў папсаваць столькі крыві

паліцыянтам, што чакала яго немінучая турма. Прыйшлося ўцякаць у СССР. Так трапіў Дарашэвіч у надпрыпяцкі горад.

У Беларусі Савецкай заслугі Дарашэвіча не былі забыты. Яму нават прапаноўвалі высокую камсамольскую пасаду. Аднак да пасад ён не рваўся. Зноў жа рана адчуў: мастак — самая высокая пасада.

І вось камсамол пасылае Дарашэвіча ў Віцебскі мастацкі тэхнікум, а па сканчэнні яго — у Маскву для далейшай вучобы.

О славуты Віцебскі тэхнікум! Івашка чуў пра яго, нават марыў пры дапамозе якой-небудзь цудадзейнай сілы трапіць туды. Соладка замірала сэрца пры напамінку пра Віцебск. Толькі цудаў на свеце не бывае. Віцебск для Івашкі быў далёкі і недасяжны.

У Маскве Дарашэвіча лічылі самавукам, самародкам. Можа, таму, што ў ягоных карцінах было штосьці дзіцячае, наіўнае, штосьці ад наскальных малюнкаў далёкіх дагістарычных мастакоў.

Дзіўна Дарашэвіч жэніцца. Яму ўжо трыццаць, кватэры няма, нават пакоя не можа наняць, бо не мае сталага заработку. І вось прыходзіць натуршчыца, сямнаццацігадовая дзяўчына, якая западае ў душу з першага позірку. Пры другім ці трэцім сеансе ён гаворыць ёй пра свае да яе пачуцці, але дзяўчына, спалохаўшыся, уцякае.

Ён яе ў спакоі не пакідае. Дазнаецца: дзяўчына нават з Масквы знікла, вандруе па Каўказе разам з сяброўкамі. Ён, не раздумваючы, едзе на Каўказ, блукае з горада ў горад і пасля месячных пошукаў нарэшце знаходзіць сваю Дульцынею.

Цяпер ён не адстае ад яе ні на крок.

Яны вяртаюцца ў Маскву разам. Дзяўчына нарэшце перастае вагацца, дае згоду выйсці за мастака замуж. Яны наймаюць пакойчык у ціхім маскоўскім завулку, і пачынаецца сапраўды шчаслівае для Дарашэвіча і абранай ім Дульцынеі жыццё.

Жонку мастак малюе бясконцую колькасць разоў. Знаходзіць у яе твары, паставе, у яе знешнім і ўнутраным вобліку ўсё новыя і новыя якасці.

Пяцігодкі завалокваюць неба дымамі новых фабрык, заводаў. Дарашэвічу падабаюцца пяцігодкі. Ён малюе ўдарнікаў,

агітатараў, калоны аўтамашын, піянераў на ўборцы ўраджаю. Лінія, характар штрыха ў ягоных малюнках нягнуткія, ёсць у іх штосьці адкрыта вуглаватае, затое надзвычай выразнае. Гэтая вуглаватасць малюнка, просталінейная, трохі нават грубаватая кампазіцыя і ў той жа час надзвычай багатая гульня фарбаў, якую любіць мастак, робяць яго творы адметнымі і незабыўнымі.

Дарашэвіч ездзіць па Урале, Алтаі, па іншых новабудоўлях. Ён як бы шукае агульны, сумарны вобраз часу. Фарбы яго размыты, намаляваныя прадметы, твары, постаці трохі абстрагаваны. Галоўнае для мастака — агульны настрой. А настрой часу, той ці іншай мясцовасці ён адчувае выдатна.

Івашка ведае: у падобнай манеры пісалі імпрэсіяністы, у прыватнасці, славуты мастак Ван-Гог.

Як некалі Ван-Гог, які стаў славутым толькі пасля смерці, Дарашэвіч стварае дзясяткі карцін, нічога за іх не атрымліваючы. Часам за бесцань ён прапаноўвае карціны музеям. Яны купляюць адну ці дзве, астатнія ён раздае сябрам і розным аматарам мастацтва. Майстэрні ў мастака няма. Захоўваць карціны няма дзе.

## VI

Івашка чуе каля сябе крокі. Хтосьці ідзе, ледзь падымаючы ногі, шоргаючы па пяску ботамі. Адарваўшыся ад мальберта, Івашка бачыць апранутага ў старую фуфайку, з зарослым сівой шчацінай круглым тварам дзядзьку, які стаіць за два крокі ад яго.

— Малюеце? — пытае дзядзька.— Як у вас рукі не памерзнуць. Мае ў кішэнях мерзнуць. Можа, таму, што банщчыкам раблю. У баншчыка рукі заўсёды ў вадзе. Вунь мая баня...

Дзядзька паказвае на чатырохкантовы дамок, які стаіць на самым беразе ракі.

— Забруджваеце раку,— гаворыць Івашка.

— Баняй раку не забрудзіш. Бані спрадвеку стаяць ля рэк. І ваду можна было піць. Цяпер не нап’ешся...

— Чарнобыль ніжэй на Прыпяці. Ён не можа забруджваць ваду ў горадзе.

Дзядзька зняважліва глядзіць на Івашку.

— Пыхкаў смерцю Чарнобыль. Можа, цэлы год. А воблакі са смерцю плылі, куды вецер гоніць. Вот і атруцілі зямлю. Ёсць такая зямля за трыста вёрст ад Чарнобыля. Вада з малых рэк у вялікія цячэ. Вот і ў Прыпяць прыцякла. Вунь шчуку злавіў — на тры кілаграмы. Панёс, каб праверылі. Сказалі — есці нельга. Вунь колькі сёння памірае людзей. Бальніцы забіты...

— Вучоныя гэта не пацвярджаюць.

— Што вучоныя? Што ім загадаюць, тое скажуць.

Шоргаючы распоўзлымі ботамі па пяску, стары сунецца ў напрамку каменнай лазенькі.

Не першы раз спатыкае Івашка людзей, падобных да лазеншчыка. У першую пасля аварыі на Чарнобылі восень ён з’ездзіў у сваё мястэчка, затым яшчэ ў два падобныя мястэчкі, што ўпрытык прылягаюць да зоны, з якой выселена насельніцтва. На першы погляд у тых мясцінах людзі жывуць як жылі. Ходзяць па вуліцах, тоўпяцца ў крамах, працуюць, нават жартуюць і смяюцца. І ўсё ж штосьці глыбока стоенае, трывожнае як бы носіцца ў паветры. З некаторых школ выехалі настаўнікі, з бальніц — урачы. Фактычна — уцяклі. У родным мястэчку лёгка купіць за невялікія грошы ніштаваты дамок, нават мураваны. У першы год даілі кароў, і малако дарэшты злівалі на дол. Цяпер не нішчаць: са смятаны робяць масла, ператапліваюць, здаюць на прыёмныя пункты. Усюды ў прылеглай да зоны адчужэння мясцовасці калодзежы накрыты драўлянымі корабамі. Людзі стараюцца піць ваду з воданапорных калонак.

Увесь дзень Івашка думае пра Чарнобыль. Нейкімі таямнічымі ніцямі ніколі не бачаны горад як бы звязаны з ягоным асабістым лёсам. Каб не пайшлі хлопцы ў сорак першым на Чарнобыль, можа б, вырваліся на ўсход, не былі ў акупацыі. У такім выпадку зусім інакш пражылі б жыццё. Не ведалі б абразы, знявагі, страху.

Руслана Вайнілу, хоць бацька быў высланы, прынялі ў ваеннае вучылішча. Івашку, які трапіў пасля вызвалення на фронт, пабыўшы цэлы год у партызанах, нават думаць аб гэтым не прыходзілася. Як жа: сын ворага народа, быў у акупацыі, па некаторых звестках, іконы маляваў.

Летась, не завітваючы ў горад на Прыпяці, Івашка праехаў па мясцінах, па якіх яны, двое сяброў-таварышаў, кіравалі ў сорак першым на Чарнобыль. Няма школьных дружбакоў: загінулі на фронце.

Напачатку Івашка едзе па шашы, па якой можна трапіць у паселішчы, што ўпрытык прылягаюць да выселенай зоны. Цішыня, адзінота, пустэча на шашы, што прабягае па прыгожых барах, дубняках, бярэзніках. Ні чалавека, ні стрэчнай машыны. Здаецца, нават птушак не чуваць. Нібы ўсё знікла, вымерла або так глыбока затаілася, што не выказвае ніякіх прыкмет жыцця. Сонца наверсе ды лес навакол.

Па ўказальніках Івашка нарэшце пачынае чытаць знаёмыя назвы вёсак, праз якія яны, бадзягі, некалі праходзілі, трымаючы кірунак на Чарнобыль. Ён уздрыгвае, убачыўшы на ўказальніку назву вёскі — Дуброўнае. У гэтай вёсцы яны начавалі. Першы начлег мелі проста ў лесе — таго месца цяпер не знойдзеш. Другую ноч правялі ў Дуброўным, трэцюю — у паселішчы, размешчаным на беразе Прыпяці, насупраць Чарнобыля.

Яны прыйшлі ў Дуброўнае прыцемкам, і нехта з жыхароў адвёў іх у клуб. Клуб мясціўся ў царкве. Відаць былі ў цемені царкоўныя макаўкі без крыжоў. У клубе-царкве была сцэна з накіданай на яе саломай. Відаць, шмат такіх, як яны, бадзяг валялася на гэтай саломе, бо яна сцерлася ў труху.

І вось Івашка збочвае з шашы на прасёлак, кіруючы ў Дуброўнае. Вёска рассыпаецца перад позіркам някідкімі хаткамі, якія нагадваюць статак кароў на пашы. Першае ўражанне: не тая вёска. Тая, убачаная ў першыя месяцы вайны, была з выразнымі абрысамі вуліц, густа засаджаных дрэвамі. Цяпер толькі паасобныя старыя ліпы высяцца між хат. Івашка пад'язджае да дамка, які мае яўнае грамадскае прызначэнне. Гэта крама. Яна размешчана трохі наводдаль ад раскіданых хатак, на пясчаным пагорку.

У вясковай краме — як звычайна. Палавіна стэлажоў з гаспадарчымі таварамі, палавіна — пад прадуктамі. Хоць небагата прадуктаў: каробкі з макаронамі-ражкамі, рыбныя кансервы, скрыні з акамянелымі пернікамі.

І незвычайнае бачыць Івашка: кабеткі, сярод якіх маладзіца з дзіцем на руках, купляюць такое, чаго вёска зроду не

купляла — прывезеныя прывялыя агуркі, памідоры, малако ў гарадскіх цэлафанавых пакетах. Значыць, малака ад уласных кароў вёска па-ранейшаму не п’е, агародніны не есць. Бо ўсё з цэзіем, плутоніем, стронцыем...

На двары два нехлямяжага выгляду мужчыны. Адзін з вялізнай чырвонай верхняй губой, другі — аднарукі, з густа зарослым сівой шчацінай дробным тварам. Івашка ўступае з мужчынамі ў гаворку і толькі цяпер дазнаецца, што Дуброўнае было спалена немцамі ў вайну. Вось як. А ён і не ведаў. Суседняя вёска Амяльянаўшчына, таксама спаленая за дапамогу партызанам, будзе высяляцца. Дуброўнае пакуль не. З яго толькі пясок збіраюцца вывозіць, у якім залішне многа цэзію і стронцыю. Божа, як можна вывезці з пясчанай вёскі пясок?

Болей Івашка ў вёсках не запыняецца. Ездзіць па палявых дарогах, бліжэй да паласы адчужэння, бачыць ураджайныя, такія ж, як у сорак першым годзе, нівы з жытам, пшаніцай. Сям-там паспелая, бура-залацістая збажына палягла, але рэдка, толькі мясцінамі. Тугія сцябліны яшчэ моцна трымаюць колас. Ніва толькі злёгку шасціць пры кожным павеве ветру.

Гарадок, былы гарадскі пасёлак, Івашка не пазнае, хоць шмат разоў у ім бываў, начаваў у гасцініцы, харчаваўся ў мясцовай чайной. Памаладзеў, ледзь не нанава адбудоўваўся гарадок за апошнія трыццаць гадоў. Ён на мяжы з зонай суцэльнага высялення. Нібы пярэдні край...

Не баючыся нахапаць лішніх бэраў, Івашка рушыў у адселеную вёску. Яму, як мастаку, трэба такое бачыць. Ён паказаў міліцэйскаму лейтэнанту пасведчанне, сказаў, што нарадзіўся, жыў непадалёк ад гэтых мясцін, і лейтэнант злітаваўся, падняў шлагбаум.

Стаіць пад сонцам, пад бязвоблачным сінім небам мёртвая вёска, якая дасягнула высокага дабрабыту. Большая частка дамоў каменныя, вуліцы, нават завулкі — заасфальтаваныя. За два гады на агародах вырас густы высачэнны быльнёг, бур’ян. З дзікага разнатраўя выскокваюць прыгожыя чародкі курапатак і бягуць-бягуць па заасфальтаваных дарожках, як і ў жывой вёсцы. У гняздзе на высокай старой ліпе важна стаіць на адной назе бусел. Па садах адчайна ціліўкаюць вераб’і, клюючы вішні. Ластаўкі шчабечуць, навучаючы лёту

маладых ластавянят. Значыць, няпраўда, што вераб'і, ластаўкі могуць жыць толькі побач з чалавекам. Абыходзяцца без яго. Вось нават сука пабегла з адвіслымі саскамі і, не зважаючы на Івашку, збочыла ў быльнёг: карміць, даглядаць сваіх шчанят. А чалавека няма. Каменныя і драўляныя дамы, пафарбаваныя ў розныя колеры, стаяць з выбітымі шыбамі, расчыненымі вокнамі...

Даўно-даўно, тысячагоддзі назад, чалавек здабыў агонь. Усё астатняе жывое, што мае ў жылах гарачую кроў, дыхае, рухаецца, ад агню адхінаецца, баіцца яго. Чалавек агнём валадарыць. Цяпер вось завaладарыў атамам. Сотні тон урану закладзены ў кожны атамны рэактар.

Яшчэ вучачыся на першым курсе ў надпрыпяцкім горадзе, пачуў Івашка міф пра Праметэя. За ўкрадзены ў іх агонь багі прыкавалі Праметэя да скалы, і дзікія драпежныя птушкі клявалі яго печань. Як жа цяпер будуць помсціць багі за наступную тайну, якую выведаў, вырваў у іх чалавек: за атам?..

## VII

У гасцінічным рэстаране зноў мігаюць рознакаляровыя агні, грыміць музыка. Мітусяцца постаці. Акорды музыкі настольні зычныя, уладарныя, што падаўляюць усе астатнія гукі.

Цяпер такой музыкі шмат. Яна як бы падаўляе, выключае свядомасць, даючы выйсце глыбока схаваным, стоеным, прымітыўным пачуццям і нават інстынктам. Нібы здымае мяжу, што аддзяляе чалавека ад звычайнай біялагічнай асобы, для якой не існуе ніякай забароны. Івашку здаецца, што ёсць, няхай сабе не надта трывалая, сувязь між Чарнобылем і такой вось музыкай. Як ёсць яшчэ больш цесная, страшная сувязь паміж Чарнобылем і трыццаць сёмым годам, Чарнобылем і апошняй вялікай вайной. У апошніх двух выпадках як бы выходзяць з-пад кантролю чалавека злосныя д'ябальскія сілы, з якімі чалавек не ў стане справіцца.

На чацвёрты паверх музыка далятае прыглушана. Ад гэтага яна здаецца нават прыемнай. Ёсць рытм, акорд, часам нават мелодыя.

— Да вас жанчына прыходзіла,— паведамляе Івашку худзенькая, дзюбаносая дзяжурная.— Пакінула пісьмо.

У заклееным, без ніякага надпісу канверце квадрацік паперы, спісаны вялікімі круглымі літарамі. Запіска ад Яніны. Прапануе сустрэцца.

Івашка заходзіць у нумар, распранаецца. Запіска ад Яніны не ўзрушвае яго і, здаецца, зусім не ўражвае. Такое ўжо было.

Некалькі разоў пасля таго як разышоўся з Янінай, ён прыязджаў у надпрыпяцкі горад. На першым часе былая жонка сустрэч з ім не шукала, нават падавала ў суд, спрабуючы спагнаць дадатковыя аліменты. То быў цяжкі для яго час. Трое малых дзяцей у новай сям'і і рэальная пагроза, што з ягонай зарплаты інстытуцкага дацэнта стануць вылічваць на аліменты не чвэрць, як раней, а палавіну зарплаты. Бо Яніна набрала ў галаву, што за свае карціны ён палучае бог ведае якія ганарары.

Ён тады спецыяльна ездзіў у надпрыпяцкі горад, каб дамовіцца з Янінай. І ні аб чым не дамовіўся. Сына Яніна не выхоўвала: ён жыў з яе бацькамі ў Хапалавічах, а на вялікія грошы квапілася.

Працаваць у інстытуце не мела сэнсу. Івашка рушыў у творчы адпачынак. Ён добра тады папрацаваў, а Яніна хутка адчула розніцу паміж заробкам казённага дацэнта і вольнага, як вецер, мастака.

У наступныя разы, калі Івашка завітваў у надпрыпяцкі горад, Яніна падсылала да яго знаёмую крамніцу. Маўляў, у крамцы, у заднім складскім памяшканні, лепей за ўсё сустрэцца. Ніхто не пабачыць і не пачуе. Сустракацца з былой жонкай у крамцы ці нават у якім-небудзь другім месцы Івашка не хацеў...

Звініць тэлефон. Івашка падхопліваецца, бярэ трубку. У трубцы голас Піліпа Глыбоўскага.

— Ведаеш, чаго прыехаў Вайніла? — у Піліпавым голасе насмешлівыя ноткі.— Ствараюць камітэт. Па ахове Прыпяці...

Навіна Івашку не здзіўляе. Апошнім часам пра Прыпяць пішуць многа. Асабліва пасля Чарнобыля. Узнікаюць недарэчныя планы яе спрамлення, абвалавання левага нізкага берага. Гэта значыць, каб Прыпяць не разлівалася, не затапляла прырэчныя лугі і сенажаці.

Івашка сам двойчы ці нават тройчы падпісваўся пад рознымі зваротамі ў абарону Прыпяці, якія затым былі надрукаваны ў газетах. А вось Вайніла ўдзел у такіх справах зрабіў сваім прызваннем. Дзіўны чалавек!..

Кладучыся спаць, Івашка думае пра Яніну. Да слыху даносяцца прыглушаныя раскаты мадэрновай музыкі. Дзіўна ўсё сплятаецца. Івашка начуе ў гасцініцы, якая стаіць на месцы дамка цёткі Сынклеты. У дамку два першыя пасляваенныя гады ён жыў з Янінай. Канчаў двухгадовы настаўніцкі інстытут, працаваў у рэдакцыі газеты мастаком-рэтушорам, прыносіў маладой жонцы небагатыя ганарары.

Мінулую ноч, стаміўшыся за дарогу, Івашка спаў прыстойна. Цяпер варочаецца, на некалькі хвілін упадае ў трызненне і прачынаецца зноў. Унізе не перастае грымець музыка. Узышоў месяц, на яго раз за разам набягаюць воблакі, і такое ўражанне, што месяц плыве, перакатваючыся на шэра-срабрыстых хвалях.

Даўно-даўно Івашка прывёў у дамок цёткі Сынклеты Яніну. Цётка, вядома, абразілася, хоць выгляду не падавала. Ён сам саромеўся цёткі, сваёй ранняй жаніцьбы, таму жытло сабе і Яніне абсталяваў у хлеўчуку. Паставіў столік, тапчанчык, нават керагаз раздабыў, каб шкварыць яешню.

Яніна ў цётчыну хату амаль не заходзіла. Але і ў хляўчук да Івашкі не спяшалася. Колькі ён папачакаў яе ў тым хлеўчуку, поўнячыся нецярпеннем, злосцю, абразай, і адразу забываў усе колкія, зневажальныя словы, як толькі Яніна з'яўлялася.

Іх хлопчык, па разліках, мусіў нарадзіцца ў студзені. Ён чамусьці нарадзіўся ў кастрычніку. Яніна тлумачыла — сямімесячны. У душу Івашкі тады ўжо закралася падазрэнне...

Музыка ўсё яшчэ наярвае. Танцы працягваюцца. Глуха, як паравы молат, грыміць турэцкі барабан, вішчыць, скрыгоча — здаецца, цыркулярка дошкі рэжа — электрычная гітара, як недарэзаныя быкі, равуць розныя трубы. Чалавек, які завітаў у гэты бедлам, не можа выйсці з яго непашкоджаным. Каб заснуць, Івашка навальвае на вуха падушку.

Назаўтра Івашка выязджае з надпрыпяцкага горада. Вісіць над Прыпяццю дый прылеглымі да ракі вуліцамі густы, шчыльны туман, і машыны, агалашаючы наваколле настойлівымі гудкамі, едуць з запаленымі фарамі.

Ён едзе па знаёмай з даўніх юнацкіх гадоў шашы-брусчатцы, па якой некалі ў кузаве паўтаратонкі ездзіў з Янінай. Шашу гэтую да вайны будавалі бухгалтары, рахункаводы, наогул гаспадарнікі, якія дапусцілі растрату і халатнасць, былі прысуджаны да кароткатэрміновых прымусовых работ. Брусчатка лягла першай шашой у гэтым лясным, балотным краі і прабягала міма самотных старасвецкіх вёсак, размешчаных або на пясчаных выдмах, або ў лясной гушчэчы.

Паменшала дубоў наўзбоч брусчаткі, і паменшала прыкметна. Цяпер толькі паасобныя вяршаліны дрэў-веліканаў узвышаюцца над голым балотным чарналессем.

Каля вёскі Залессе Івашка нечакана зварочвае направа, на вузкую, пакрытую гудронам дарогу. Учора ён не захацеў пабачыцца з Янінай, сёння едзе ў яе вёску. Вось так…

Час ідзе, чалавек адчувае яго па тых зменах, якія бачыць навокал. Пясчанае, узгоркавае поле перад Хапалавічамі наўсцяж зарасло бярэзнікам і хвойнікам. Уражанне такое, што лес тут быў заўсёды. Нават гудронавая шасейка, якая ўецца ўскрайкам бярэзніку, не можа пахіснуць гэтага ўражання.

Выгляд Хапалавіч мала змяніўся: закіданае, запушчанае сяло. Паабапал пясчанай вуліцы цесна збіліся шэрыя хаты — нібы авечкі ў летнюю спякоту, калі карыстацца вобразам паэта.

Зялёным астраўком сярод шэрай аднастайнасці выдзялялася сядзіба настаўнікаў Саўкоў. Не было другой такой сядзібы ў вялікім бедным сяле: дом з трохскатным гонтавым дахам, вялікімі вокнамі, пафарбаванымі аканіцамі, сад, у якім расло, бадай, усё, што можа расці на гэтай беднай пясчанай зямлі: яблыні, грушы, слівы, вішні, чарэшні і нават дзікі вінаград, які абвіваў бяседку ў садзе і крыты ганак у двары. Вось сярод такой прыдобы расла-гадавалася Яніна.

Гэта далёкія, даўнія прыкметы. Цяпер жа Івашка не адразу знаходзіць дом настаўнікаў Саўкоў. Ён вылазіць з «Масквіча» і некалькі хвілін выдыбае па вуліцы, прыглядваючыся да двароў і будынкаў. Нарэшце знаходзіць.

Тым часам няма прыгожай сядзібы. Бацькі Яніны памерлі, сядзібу яна, відаць, прадала тутэйшаму чалавеку. Той лішне не мудрагеліў: перарабіў дом на звычайную хату. Крыты

ганак знёс, уваход прасек з працілеглага ад вуліцы боку. Атрымалася доўгая, як адрына, будыніна, якая злілася з агульным малюнкам шэрай непрывабнай забудовы сяла.

Сад, мабыць, састарэў, высах і прапаў сам сабой.

Так, усё на свеце змяняецца. Толькі неабавязкова ў лепшы бок.

Выбліснула позняе лістападаўскае сонца, зганяючы шматкі туману з разлеглага абсягу балота, што ўшчыльную падступае з поўдня да хапалавіцкіх агародаў. Балота дзікае, не асушанае. Зараснікі лазняку, асінніку яшчэ гараць прыемным полымем жаўталісця, на вецці рабін яшчэ свецяць гронкі чырвоных ягад, выгінаецца пад ветрам высокая парудзелая асака.

Івашка едзе наўзбоч балота, выбіраючыся на гудронавую шасейку, едзе паўз маладыя, пароcлы на пясчаным полі бярэзнік, і зноў у яго, як пры ўездзе ў Хапалавічы, нараджаецца думка, што пад высокім небам поўдня Беларусі заўсёды стаялі сасновыя і бярозавыя лясы, ляжалі балоты, цяклі ў нізкіх берагах павольныя, марудлівыя рэкі. Усё на свеце мяняецца, развіваецца, пагаршаецца або паляпшаецца, і ўсё застаецца самім сабой: добрае і благое, радасць і сум, шчасце і пакута.

*1990*

# НЕСМЯРОТНЫЯ ЛЮДЗІ

## I

Дзень, відаць, будзе сонечны.

Пахаджваючы па пляцоўцы станцыі, Пархімовіч чакае рэйсавы аўтобус, які ходзіць у два самыя паўднёвыя гарадкі, размешчаныя ў небяспечнай пасля чарнобыльскай катастрофы мясцовасці. Раней мала каму вядомыя, цяпер гэтыя гарадкі маюць сумную славутасць. Адзін з іх, па чутках, збіраліся высяляць, але пакуль што абмежаваліся так званай дэзактывацыяй: вывезлі з вуліц, двароў верхні пласт зямлі, памылі, пафарбавалі парканы, сцены дамоў, з некаторых хацін, хлявоў знялі старыя, гонтавыя і саламяныя стрэхі, зарослыя зялёным мохам, замяніўшы шыфернымі.

З абодвух гарадкоў — мястэчак па-ранейшаму — у абласны горад ходзяць аўтобусы. Людзі прыязджаюць і ад'язджаюць. Але гэта тубыльцы мясцін, якія крануў чорным крылом Чарнобыль. Іншыя, не лічачы службовых асоб, у паўднёвыя раёны ездзіць баяцца. Дзіва няма: адтуль паўцякалі многія настаўнікі, урачы, аграномы, іншы службовы люд.

У самім абласным горадзе, дзе цяпер жыве Пархімовіч, неспакойна. Тут таксама ёсць радыяцыя, хоць і невысокая, і па гэтай прычыне часта ўзнікаюць у горадзе мітынгі, нават забастоўкі. Гараджане патрабуюць чыстых ад нуклідаў прадуктаў, лепшага медыцынскага абслугоўвання. Па чутках, лік захворванняў, асабліва горла, бронхаў, шчытавідных залоз, расце. Ад радыяцыі гэтыя хваробы ці проста ад страху — невядома. Вучоныя пакуль што спрачаюцца.

Кажуць, што гараджанам хутка будуць плаціць па пятнаццаць рублёў на чалавека ў месяц — так званыя «грабавыя».

Каля аўтастанцыі Пархімовіч нечакана спатыкае настаўніка Белаконя, які выкладаў гісторыю і геаграфію ў суседняй з ягонай школай васьмігодцы. Белаконь драбнаваты ростам, паставай і вельмі задзірысты. Адзін час ён працаваў у той жа, што і Пархімовіч, дзесяцігодцы, размешчанай у вялікім бязлесным сяле, дзе былі сякія-такія выгоды: паштовае аддзяленне, камбінат бытавога абслугоўвання, клуб, у якім амаль штодзень паказвалі кіно, дый да чыгункі было бліжэй.

Чарнобыль зраўняў вялікае, падобнае на стэпавае Пархімовічава сяло і суседнюю, атуленую хмызамі Белаконеву вёску. Абодва паселішчы трапілі за дрот мёртвай зоны, а людзей, у тым ліку і настаўнікаў, выселілі.

— Дзе ты цяпер? — як бы нават насцярожана пытаецца Белаконь.

— Ды вось тут, у горадзе.

— Каб ты ды не дабіўся! Жыў у сяле і адразу ў абласны цэнтр пралез. А я з паскуднай дзіркі трапіў у яшчэ горшую. Пасёлак у балоце: ад камароў, заедзі спасу няма. Печ дыміць. Галоўнае: зямля і на новым месцы заражоная. Чатыры кюры. Па цэзію. Хто ведае, колькі па стронцыю, плутонію…

— У горадзе таксама чатыры кюры,— адказвае Пархімовіч.

Белаконь нібы не чуе.

— Кватэра вялікая?

— Трохпакаёвая. З-за дзяцей далі. Дачка і сын працавалі ў горадзе, стаялі на чарзе. Дачка нядаўна замуж выйшла. Аддзялілася…

— Шчаслівы ты.

У Белаконя новы, чырвонага колеру «Масквіч». Пархімовічу раптам штосьці цюкнула.

— Ты куды сабраўся?

— Мала куды. Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

— Ведаю твае грахі. Хочаш у зону. Мабыць, усе бэбахі не перавалок. Давай прабірацца разам….

Белаконь з хвіліну разважае.

— Думаеш, знойдзеш тое, што пакінуў? Чакай Пятра. Розных тарбахватаў хапае. Шастаюць па зоне, нікога не баючыся. Вопратку, тэлевізары, радыёпрыёмнікі, веласіпеды даўно вынеслі. Добра, што я свой матацыкл закапаў у хляве, у сене…

Нарэшце Белаконь адчыняе дзверцы «Масквіча».

— Садзіся. Да зоны давязу. Пяцёрку на бензін дасі?

— Дам.

І вось яны едуць.

Ніколі не ездзіў па гэтай дарозе Пархімовіч, хоць пражыў у Прыдняпроўі ўсё жыццё. Дый у абласным горадзе, у якім цяпер жыве, бываў не часта. Разы тры-чатыры, калі чыгункай вяртаўся з Мінска, з завочнай сесіі. Скончыўшы настаўніцкі інстытут, ён ужо немаладым чалавекам давяршаў адукацыю ў Мінску.

З абласнога горада ён звычайна кіраваў на Чарнігаў, рабіў яшчэ адну перасадку і злазіў на станцыі, размешчанай не гэтак далёка ад ягонага сяла. Найчасцей самалётам лятаў да Мазыра, а далей — аўтобусам.

Даўно тое было.

Шаша добрая, пакрытая гудронам. Краявіды звычайныя: гладкая, як талерка, раўніна, на ёй вялікія сёлы, за якімі ўдалечыні сінеюць лясы. Пара жытнёвая, жыта паспела амаль паўсюдна, хоць чырвоныя жукі-камбайны паўзуць па полі толькі ў асобных мясцінах.

Нарэшце дасягнулі прыдняпроўскіх ваколіц, і малюнак паступова змяняецца: болей лясоў, хвойных і лісцяных,

трапляюцца нават дубровы, а поле праблісквае толькі невялікімі масівамі. Днепр, шукаючы сабе лепшага логвішча, нарабіў мноства старыц, зарослых па берагах асакой, чаротам, лазняком, алешнікам. Між старыц, на ўсім бачным вадзяным прасторы, зялёнымі астраўкамі размяшчаюцца кавалкі сушы. На некаторых астравах стаяць копкі, стажкі сена.

Пасля лазы, альхі, чарналесся зноў вынырваюць дубы. Пархімовіч радуецца: значыць, яшчэ засталіся дубовыя гаі. Не ўсё вынішчана.

Нарэшце ад гудронавай шашы аддзяляецца замошчаная брусчаткай, а то і проста дзікім каменем шасэйка. Гэта дарога ў размешчаныя ў небяспечнай зоне гарадкі.

Белаконь аберуч трымаецца руля. Глядзіць толькі на дарогу. Адчуваецца напружанасць, з якой вядзе машыну.

Яшчэ вёрст праз дзесяць шасэйка бяжыць між суцэльных сасоннікаў. Прыгожыя выраслі бары. Дрэвы пасаджаны, відаць, яшчэ да вайны. Роўныя, меднастволыя сосны. Поўдзень, над лесам свеціць гарачае сонца. Яго промні прабіваюцца праз хвойную навісь, асвятляюць дарогу. Малюнак прыгожы, ідылічны.

Шаша роўная, як страла. Пракладзена нібы пад лінейку: абмінае вёскі, паселішчы. Ніводнага не трапілася на ўсім працягу. Толькі на афарбаваных у жоўты колер дошках указальнікаў можна прачытаць здаўна знаёмыя назвы вёсак.

Раптам Пархімовіч ловіць сябе на няпэўным пачуцці трывогі. Не ведае, адкуль трывога ідзе.

Белаконь па-ранейшаму маўкліва сядзіць, нахмурыўшы някідкі вострабароды твар, аберуч учапіўшыся за руль. Трымае сябе напружана: відаць, не часта яму прыходзіцца ездзіць.

Недзе на палавіне гэтай прыгожай дарогі Пархімовіч нарэшце здагадваецца, што яго трывожыць. Адзінота і цішыня. За ўсю дарогу не трапілася ніводнай стрэчнай машыны. Нібы вымерлі прасекі, узбочыны лесу, сама шаша. Прыходзіць думка: відаць, такой вось была дагістарычная эпоха, калі на зямлі яшчэ не паявіўся чалавек. Поўзалі вялізныя яшчары, у паветры ляталі дзіўныя істоты — птэрадактылі. Тым часам ні яшчараў, ні птэрадактыляў, ні нават звычайных птушак не відаць.

Вось і першае мястэчка. Многа разоў, пачынаючы з дзён маладосці, бываў тут Пархімовіч. Шукаў якога-небудзь транспарту, каб даехаць да размешчанага сярод суцэльных, нібы ўкраінскі стэп, палёў гарадскога пасёлка, а ўжо адтуль дабірацца ў сваё сяло.

Да першага мястэчка, або гарпасёлка, як пазней яго сталі называць, вядзе чыгунка-аднапутка. Цягнік сюды, на канечную станцыю, прыбываў ледзь не апоўначы, і заўсёды на станцыі шафёры чакалі сваіх начальнікаў, якіх мусілі даставіць у палявы гарадок. Калі былі паўтаратонкі, Пархімовічу ўдавалася ўладкавацца ў кузаў якой-небудзь, а калі толькі «Пабеды» ці нават «казлы», то, здаецца, ніколі.

Ён брыў тады сярод начы ў прылеглы да чыгункі гарпасёлак, з міжвольнымі дрыжыкамі мінаў зарослы соснамі курган могільніка і вёсачку, якая амаль злілася з мястэчкам.

Да мястэчка прылягалі аж дзве такія вёсачкі з някідкімі, абымшэлымі хаткамі, хлявамі, гумнамі — з паўднёвага і заходняга боку. Ноччу тут залівіста брахалі сабакі і кукарэкалі пеўні.

Іншы раз удавалася ўладкавацца ў гасцініцу, драўляную, падобную на шырокую каробку, але найчасцей брыў Пархімовіч да бліжэйшай з дзвюх дзесяцігодак, таксама драўлянай, з нейкім адмысловым завостраным дахам, грукаў ботамі ў дзверы, і глухаваты вартаўнік пускаў яго перабыць рэштку ночы ў якім-небудзь класным пакоі.

Нічога асаблівага не ўяўляла сабой драўлянае мястэчка. Хоць мела ў тутэйшай балотна-лясной і палявой мясцовасці пэўную вагу: вясной і восенню збірала вялікія кірмашы. Летам яно зелянела, прыгажэла, бо таполі, акацыі, мнагалікія сады як бы хавалі шэрую паныласць дамкоў, абшарпаных мураванак, гаспадарчых будынкаў.

Мястэчка цяпер зусім не тое, якое памятаў Пархімовіч. Чалавек, які не быў тут гадоў дваццаць, гарадка бадай што не пазнае. Дамкі, катэджыкі каменныя, размаляваныя ў белы, зялёны, жоўты колеры. Яны стаяць між дрэў і як бы нагадваюць курортнае месца.

Зрэшты, дзіва няма. Мясцовыя землі давалі неблагі ўраджай, і тутэйшыя людзі мелі кавалак хлеба нават тады, калі астатняя пясчана-балотная Беларусь галадала. Чарнобыль

нанёс агромністую, нечуваную страту Беларусі: адабраў яе лепшыя землі. Бо паўднёвыя яе раёны — нібы пшанічная Украіна. Бязлесная раўніна нагадвае шырокі стэп, вялікія, атуленыя зялёнымі прысадамі сёлы, што вылучаюцца нібы астравы сярод жытнёвага, пшанічнага прастору, нагадваюць украінскія ці кубанскія.

Жыве гарадок. І твары ягоных жыхароў, нягледзячы на блізкі Чарнобыль, здаецца весялейшыя, чым у вёсках пад горадам, у якім жыве Пархімовіч. Можа, таму, што тут бойка гандлююць крамы, магазіны і, мяркуючы па першым уражанні, у іх сёе-тое ёсць. З магазінаў выходзяць жанчыны, дзяўчаты ў пярэстых летніх сукенках, з кошыкамі, поліэтыленавымі мяшэчкамі ў руках, мужчыны з закасанымі рукавамі, таропка, на хаду запіхваюць у кішэні пачкі цыгарэт, бутэлькі з трункамі.

— Можа, пачакаеш хвілінку? — пытае Пархімовіч.— Збегаю ў райвыканкам. Папрашу пропуск.

— У тым мястэчку папросіш,— з’едліва адказвае Белаконь.— Там лепшае начальства.— Палагаднеўшы, працягвае.— Не дадуць ні тут, ні там. Я спрабаваў. Нават слухаць не хочуць.

Усё ж Пархімовіч выходзіць з машыны, заглядвае ў невялікі, чамусьці пафарбаваны ў сіне-белыя палосы, магазінчык. Па цяперашнім часе ён зусім не пусты. Можна нават сказаць — багаты. Ёсць мяса, масла, малако, каўбасы, нават трункі, якія ў абласным горадзе даюць па талонах.

Пархімовіч бярэ пару бутэлек, сёе-тое з закускі. Ужо далёка за поўдзень, варта падумаць пра абед дый Белаконя аддзячыць.

Белаконь ад абеду рашуча адмаўляецца.

— У тым мястэчку спынімся,— гаворыць.— Ды далей і не пусцяць.

Здаецца, яшчэ ніколі не бачыў Пархімовіч больш запамінальнай карціны, чым тая, што адкрылася яго вачам па дарозе з аднаго палявога гарадка ў другі. Неяк злавесна свеціць ужо нізкаватае — хіліцца на спад — сонца. З гэтых мясцін многія вёскі таксама выселены, бо забруджаныя нуклідамі зямельныя плошчы размяшчаюцца нераўнамерна: адна вёска

бязлюдная, суседняя — не, жыве, сее жыта, пшаніцу, доіць кароў. Хоць малака не п'е: збірае смятану, маслаператоплівае.

Перад позіркам заліты сонечнымі праменнямі бясконцы пшанічны прастор. Аж да далёкага на даляглядзе паселішча. Можа, атамы цэзію ці стронцыю спрыяюць ураджаю: пшаніца высокая, колас важкі, сцябліна бадай у рост чалавека. Ледзь прыкметна гойдаецца пад павевамі ветру пшанічнае мора. І зноў нідзе ні машыны на дарозе, ні камбайна на полі. Багаты, але нібы выкляты Богам край…

Пархімовіч проста ўзрадаваўся, калі ўскрай поля ўбачыў дзяўчыну на веласіпедзе. Белая ў палоску сукенка шчыльна аблягае паўнаваты стан, русявыя валасы спушчаны на плечы.

Дзяўчына толькі левай рукой трымае руль. Правай падносіць да рота яблык і есць. Жывуць, значыць, людзі ў гэтым краі. І калі мець на ўвазе гэтую дзяўчыну, не надта думаюць пра небяспеку.

Пшаніца і пшаніца. Да самага палявога гарадка. Дзякуй Богу, праехалі тры ці чатыры сустрэчныя машыны. Паблізу гарадка па полі плывуць два камбайны. І грузавікі паціху едуць услед за камбайнамі.

Вось нарэшце размешчаны сярод палёў, атулены лавамі жыта, пшаніцы гарадок. Пархімовіч ведае яго лепей, чым той, што стаіць недалёка ад чыгункі. Бо пасля скасавання самага паўднёвага, прылеглага да Прыпяці раёна, Пархімовіч як дырэктар школы бываў тут сама мала два разы на месяц.

Перамены ў гарадку відавочныя. Вабяць позірк новыя, пафарбаваныя парканы, шыферныя дахі, і наогул гарадок як бы падцягнуўся, стаў ва фрунт перад нябачным начальнікам.

Пархімовіч ведае: гарадок нібы выпрабавальны палігон. Выжыве народ ці не выжыве. Колькасць кюры тут высокая, і людзям у такім месцы заставацца нельга. Ён чуў: першыя два гады дзяцей у час перапынкаў не выпускалі на школьны двор, трымалі ў класах. Адабранае дзяцінства…

Чаму ж не выселілі гарадок? Пакуль што толькі абяцаюць выселіць. Трэба на гэтую справу дзясяткі мільёнаў рублёў. Дый дзе, на якой зямлі можна заснаваць другі такі самы гарадок, які пад вятрамі, снягамі, дажджамі стаіць болей за тысячу гадоў. Няма другой такой зямлі, як няма другой Беларусі. Такі лёс гэтага краю. Хто яго толькі ні вынішчаў!

Татары і іншыя дзікія качэўнікі, шведы, французы, немцы, якія прыходзілі сюды двойчы. У апошнюю вайну большая частка раёна была спалена фашыстамі.

Мылі, чысцілі, дэзактывавалі гарадок пасля Чарнобыля. Аблівалі будынкі спецыяльным растворам. З двароў, вуліц, агародаў вывезлі верхні пласт зямлі. Але Чарнобыль нібыта і цяпер час ад часу выпускае са свайго смертаноснага чэрава цяжкія, атрутныя выкіды. А як карміць народ? Хіба навозішся чыстага ад прымешку нуклідаў хлеба, малака, мяса і таго, што спрадвеку тут расце: бульбы, морквы, капусты, буракоў, агуркоў…

Перад будынкам райвыканкама Белаконь спыняе машыну.

— Ідзі прасі пропуск,— гаворыць і, скрывіўшы ва ўедлівай усмешцы губы, дабаўляе: — На мяне таксама бяры. Прозвішча ведаеш…

Па калідоры райвыканкама ходзяць вайскоўцы. Пархімовіч паткнуўся да старшыні — кабінет зачынены, да намесніка — тое самае. У наступным пакоі за сталом сядзіць маёр са стомленым няголеным тварам.

— Прапускоў не выдаём,— тлумачыць Пархімовічу.— За сваю маёмасць вы грошы атрымалі. Поўнасцю і нават з дадаткам.

— Дакументы забыў,— тлумачыць Пархімовіч.— Вельмі для мяне важныя. Фатаграфіі бацькі, маткі.

— Нічым не магу дапамагчы,— маёр устае, паказваючы, што размова закончана.

— Атрымаў пропуск? — выскаляецца, паказваючы рэдкія жоўтыя зубкі, Белаконь.— Дзірку ад абаранка. Тут, брат, і без прапускоў такія дзялы дзелаюцца…

## II

Калі на зямлю лёг шэры начны змрок, Пархімовіч з Белаконем рушылі ў дарогу. Белаконь паперадзе, за ім — Пархімовіч. Белаконь у правай руцэ нясе каністру з бензінам. Заправіць матацыкл. Географ ужо два разы пабываў у адселенай зоне. Выкапаў матацыкл, схаваў у хляве, у саломе.

— Зямля дзічэе адразу,— тлумачыць Пархімовічу.— Па дварах, на дарогах, на полі быльнік вырас па грудзі. Заглушыў

пасевы. З-за дзікай травы нішто з зямлі не вытыркаецца. Ні бульба, ні пшаніца, ні жыта. Як бы нічога не было і не патраціў чалавек тысячы гадоў, каб вывесці культурныя расліны. Усюды нібы першабытная зямля.

Ісці да зоны, да загароды кіламетраў трыццаць. Але і па-за зонай, дзе калючага дроту няма, шмат вёсак, дзе насельніцтва выселена. Мясцовасць ахоўваюць ваенныя, і каб не трапіць ім на вочы, вёскі лепей абмінаць. Таму Белаконь вядзе па вядомых яму сцежках, а Пархімовіч дыбае следам.

Нейкія асаблівыя пачуцці агортваюць душу Пархімовіча. Атручаная зямля дыхае смерцю. І яшчэ будзе дыхаць сотню ці болей гадоў. Дзе, калі здаралася такое? Пархімовіч быў на фронце, ведае, што чалавек вельмі проста памірае. Не думае пра смерць. І бываюць часіны, калі нават лёгка ахвяруе жыццём. Але тут штосьці іншае.

Зорнае неба над галавой. Празрыстыя зоркі мільёны гадоў глядзяць на зямлю. Што такое зоркі? Бясконцыя сонцы, невядома кім запаленыя. І невядома для чаго. Астываючы, змяншаючыся ў памерах, яны, магчыма, робяцца планетамі, падобнымі на Зямлю. Але і Зямля, як у выпадку з Чарнобылем, здольна выбухнуць той самай смертаноснай сілай, якая тоіцца ў глыбінях зорак-сонцаў. Значыць, не ўсялякае рэчыва мае надзейную ўстойлівасць, такую, напрыклад, як золата. Уран чамусьці такой устойлівасці не мае, ён не ўзят у цвёрдыя, надзейныя абцугі сваёй унутранай будовы. Распадаецца і сее смерць…

Але жылі людзі і жывуць цяпер на землях, у глыбінях якіх залягае смертаносны уран, і не выключана, што, распадаючыся, уран выпраменьвае часцінкі гэтага самага цэзію, стронцыю на паверхню. А людзі жывуць. Як гэта можна? Божа, хоць бы кропля надзеі для роднага, спустошанага краю…

Змоўшчыкі ідуць. Шэры змрок навокал. То справа, то злева цьмяна бачацца неакрэсленыя цёмныя купы. Пэўна, прысады пакінутых вёсак. Нідзе ні агеньчыка, ні зыку, ні шораху. Толькі далёка-далёка як бы чуецца сабачы брэх. Дзе сабака, там чалавек. Тут, па чутках, гэта неабавязкова. Сабакі нібыта здзічэлі і абыходзяцца без чалавека. Хоць на чалавека яшчэ не нападаюць. Жывуць і множацца ў выселенай зоне вераб'і, сініцы, шчыглы, шпакі, якія селяцца заўсёды непадалёк ад

чалавечага жытла. Чалавек, аказваецца, не гэтак ім і патрэбен. А вось свойская жывёла жыць без чалавека не можа. Не чуваць, каб перажылі хоць першую зіму пасля высялення людзей каровы, коні, куры.

Дый ахвотнікаў на свойскую жывёлу, вядома, хапала. Розныя тарбахваты палявалі за ёй тады, калі людзей ужо вывезлі з вёсак і паселішч. Рэзалі жывёлу і мяса прадавалі ў далёкіх ад гэтых мясцін гарадах: можа, нават у самай Маскве.

У той дзень, калі выбухнуў Чарнобыль, Пархімовіч корпаўся ў агародзе. Падгроб сухую траву, апалае лісце, вычысціў лазеньку, паветку, хлеў. Запаліў касцёр і, апрача травы, апалага лісця, кінуў у агонь непатрэбныя скураты, старую збуцвелую вопратку, іншыя бэбахі.

На двары і ў агародзе кошкаўся Пархімовіч з раніцы і да гадзін трох-чатырох дня. Стаміўся так, як ніколі да гэтага не стамляўся. Проста знямогся. Не сеў ні абедаць, ні вячэраць, лёг у ложак і заснуў. Жонка сама адчула неверагодную стому і не стала яго трывожыць.

Відаць, у той першы дзень да іх ушчыльную падступіў Чарнобыль. Дзіва няма: калі на карце акрэслілі трыццацікіламетровы круг вакол Чарнобыля — зону, жыхары якой падлягалі неадкладнаму высяленню, то лінія гэтага круга якраз прайшла праз сяло Пархімовіча. Ён чуў: ягоны двор аказаўся каля самага дроту…

Яны з Белаконем ідуць і ідуць. Маўчаць. Гаворку можа пачуць патруль або які-небудзь ліхі чалавек. Мабыць, ужо дзве ці тры гадзіны ночы. Але змрок не толькі не рассейваецца, а як бы нават гусцее. Тут толькі Пархімовіч заўважае, што зорак на небе не відаць, яно паступова зацягнулася воблакамі. Дальні край неба паласуюць пісягі маланак. І трава сухая, сухія калашыны штаноў, хоць яны з Белаконем прастуюць часам па высокай траве. Можа быць навальніца. Толькі гэтага ім не хапала…

Чуецца раптам прыглушаны голас Белаконя:

— Лажыся!

Пархімовіч валіцца на зарослую травой прасёлкавую дарогу і ад нечаканасці ў першую хвіліну нічога не чуе і не бачыць. Паступова да яго даносіцца нейкі шорах. Хтосьці,

цяжка ступаючы, прыбліжаецца. З шэрага змроку нарэшце вымалёўваецца цёмная постаць

— Стой! Хто ідзе? — выгуквае Белаконь і ягоны спалоханы голас нясе ў сабе выразнае адценне піску.

Постаць няўхільна прыбліжаецца. Ідзе, мабыць, стары чалавек, бо цяжка дыхае і шкрэбае гучна па зямлі абуткам, проста цягне ногі.

Прысаромленыя вандроўнікі похапкам падхопліваюцца.

— Дабранач,— падышоўшы, вітаецца глухаватым голасам бабуля. За плячамі ў яе нейкі мяшок.— З саўгаса іду. Саўгас высяляюць, але хлеб яшчэ прывозяць. А вы не бандзіты? Я была спужалася. Хоць адбіраць у мяне нечага. Нясу чатыры буханкі хлеба. Сваю магу аддаць…

Толькі цяпер Пархімовіч заўважае, што абапал прасёлка не палын, не быльнёг, як у другіх мясцінах, а пшаніца. Цяжкая, з налітым коласам лава пасеваў хіліцца на дарогу.

— З якой вы вёскі? — пытаецца Пархімовіч і, пачуўшы адказ, уздрыгвае ад узбуджэння: вёска, якую назвала старая, усяго вёрст за дзесяць ад ягонага сяла.

Ён зноў пытаецца, не тоячы радасці:

— Дык што, там яшчэ людзі жывуць?

— Жывуць. Я і яшчэ дзве сям'і. Усяго чатыры чалавекі. Вярнуліся з етай самай эвакуацыі. Мне дык ва ўсім свеце няма прапіскі. Толькі ў маім сяле…

Пачынае святлець. Непрыкметна хмары сплылі і відаць, як на дальнім канцы неба паступова блякнуць зоркі. Ціха вее перадранішні вецер. На старой зношаная ватоўка, з-пад якой выглядае шэрая мультановая кофта ў кветачкі, цёмная спадніца, а за спіной зусім яшчэ новы салдацкі рукзак. Бабулін твар з высокім ілбом зусім без маршчын і цэлыя, трохі рэдкаватыя зубы.

З несхаванай падазронасцю бабуля ўглядаецца ў Белаконя, які стаіць, трымаючы ў руках каністру.

— Ты не з етых самых падпальшчыкаў? — насцярожана пытаецца.— Каторыя хаты руйнуюць бульдозерам. Іншыя хаты нават паляць. Прыходзілі да мяне на тым тыдні. Я сказала: закапайце мяне разам з сялом… Пасаромеліся. Дзе жывуць людзі, тых сёл яшчэ не чапаюць.

Белаконь ахрыплым голасам пытае, ці не рушылі ягоную вёску.

— Хто яе ведае,— адказвае бабуля.— Людзей мала. Няма ад каго пачуць…

Нічога не сказаўшы Пархімовічу, не выпускаючы з рук каністры з бензінам, Белаконь кідаецца прэч. Амаль што бяжыць па высокай траве.

— Нейкі як памешаны,— заўважае старая.— Ды яшчэ з каністрай.

— Ён матацыкл схаваў,— тлумачыць Пархімовіч.— Хоча заправіць бензінам. Выехаць з зоны…

— Матацыкл,— паўтарае бабуля.— І ты па матацыкл ідзеш?..

— Не. Па фотакарткі. Бацькі, маці, таварышаў. Многіх няма на свеце. Няхай хоць фотакартачкі будуць…

— Добра, што ідзеш. Забываць бацьку і маці не трэба. Дый паглядзіш, як жывём…

Хоць бабуля пярэчыла, ён узяў ад яе мяшок, перакінуў сабе за плечы. Бабуля, відаць, не намнога старэй за яго: на два ці тры гады. Адно пакаленне. Пархімовіч нарадзіўся ў мястэчку, падобным на гарадкі, у якія яны днём заязджалі, але жыццё пражыў на вёсцы. Толькі дзве вёскі памяняў за жыццё. У гэтай самай мясцовасці. Спачатку працаваў у васьмігодцы, а як падраслі дзеці, перабраўся ў сяло з дзесяцігодкай. Першую хату пабудаваў сам (у бязлесай мясцовасці, бярвенне вазілі з лесу, які знаходзіўся за шэсцьдзясят вёрст), другую хату купіў.

Ужо зусім вывіднела. Дождж нават не пакрапаў. Пабліскала на небе, і хмара сышла недзе бокам.

— Некаторыя ад смерці ўцякаюць, а я смерці не баюся,— гаворыць старая.— Перасялілі нас, дайжа асобную хату далі. Ды дзіка мне на новым месцы. Нішто не міла. Ніякай радасці няма. То ўзяла казу на вяровачку, у каробку пасадзіла двух курэй, певуна для разводу і на другое лета вярнулася сюды. Вот ужо два гады тут. Мае суседзі яшчэ раней вярнуліся. Уцяклі адразу, як іх вывезлі…

— Нясуцца куры? — чамусьці спытаў Пархімовіч.

— Нясуцца. Чаму ж не. Толькі як бы адзічэлі. Яйкі ў траве пакідаюць. Трэба збіраць. І выводзяцца без мяне, самапасам. Я дайжа не ведаю, колькі ў мяне цяпер курэй. Дванаццаць

ці пятнаццаць. Каб абкладалі падаткам, то невядома, колькі плаціць грошай. Другі раз цэлы тазік яек назбіраю. Салдатам даю. Адны бяруць, другія — баяцца. Жыву добра. Каза малако дае. Салдаты кансервы прыносяць, часам хлеб. Вось цяпер парсючка завяла. Бульбу саджу. Сотак дзесяць. На большае няма змогі. Трошкі агуркоў, буракоў…

— Не страшна вам? Адной…

— Чаму страшна? Я ж сказала: не адна я. У нашым сяле дзве бабы. Другая з мужыком, маладая. І яшчэ адзінокі інвалід ёсць, без нагі. Каня дзержыць. Харошы конь. І каламажка ў таго мужыка добрая. На гумавых колах…

— Можа, і дзеці ў каго-небудзь ёсць?

— Не, дзяцей няма. За дзяцей людзі баяцца. Вось у зоне, за дротам ёсць, кажуць, цэлае сяло, якое нікуды не выязджала. Адтуль Чарнобыль відаць. Дык вот там і дзеці разам з бацькамі жывуць. Малако на зямлю выліваюць, не ядуць свайго ні сала, ні мяса, а жывуць.

І вось яны ў вёсцы, дзе жыве бабуля. Пустэча і запусценне. Двары забіла высокая, ледзь не ў рост чалавека, трава, непамерна разраслiся дрэвы ў садах, палісадніках, схаваўшы ў сваім зялёным спляценні абрысы хат і хлявоў, астатніх будынкаў. Як бы назусім пакінулі гэтую зямлю людзі.

Аднак не пакінулі.

— Кірылаўна, каго прывяла? — чуецца з вуліцы мужчынскі, як бы трохі надтрэснуты голас.— Можа, прымака сабе…

— Ага ж, прымака…

Каля двара спыняецца фурманка на гумавых колах, запрэжаная ўкормленым гнядым канём. У двор, апіраючыся на выструганую таўставатую палку, заходзіць высокі, у паношаным шэрым касцюме, насунутай на самыя вочы кепцы чалавек. Касцюм на ім старамодны, з шырокімі калашынамі. На лацкане пінжака ў чалавека нават нейкі значок. Твар паголены, валасы падстрыжаны. Відаць, той самы інвалід, пра якога гаварыла старая, думае Пархімовіч. Яна між тым вымае з рукзака буханку хлеба і аддае чалавеку.

— На два дні хопіць. А там, можа, Насця збегае ў саўгас. Ці салдаты прынясуць…

Чалавек пільна ўглядаецца ў твар Пархімовіча, як бы хочучы нешта спытаць.

— Настаўнік,— тлумачыць Кірылаўна.— Яго хата за дротам. Ідзе забраць фатаграфіі. Маткі, бацькі…

— Панятна,— коратка адказвае інвалід, клыпаючы да варот, на вуліцу.

Услед за інвалідам яшчэ даволі маладыя мужык з жонкай завітваюць у двор Кірылаўны і бяруць дзве буханкі хлеба. Дзіўна: адгароджаныя ад свету, яны як бы зусім не цікавяцца, што на гэтым свеце дзеецца.

Двор Кірылаўны не надта зарос. На штыкеціне парканчыка вісіць закопчаны кацялок, сушыцца саматканая ў сінія і чырвоныя палосы дзяружка. Пры парканчыку лаўка, на ёй два тазы, вядро. Стаяць некалькі кошыкаў, поўныя сакавітых яблыкаў-наліваў.

— Пасядзіце, я бульбы звару,— гаворыць Кірылаўна.

Чакаць бульбы Пархімовіч не хоча. На душы цяжка, самотна.

— Хоць яблычкаў вазьміце. Схрумаеце па дарозе. Не бойцеся — яны чыстыя, памытыя.

Пархімовіч бярэ пару яблыкаў, развітваецца, выходзіць на вуліцу. Яна таксама не надта зарасла: як бы яшчэ адчувае вуліца дух і прысутнасць чалавека.

Пархімовіч ідзе да загароды. Яму трохі вусцішна. Свеціць сонца, навакол разлягаецца шырокі прастор, і нічога апрача высокай травы наперадзе не відаць.

Толькі ў адным месцы высіцца купа дрэў і як бы нейкі будынак. Пархімовіч кіруе туды. Ад нечаканасці ён уздрыгвае. Тут была, відаць, вёсачка ці хутарок. Яго зруйнавалі, мясціну зраўнялі бульдозерам, чамусьці пакінуўшы толькі печ і рэшткі паркана. Печ вялікая, чараном і ляжанкай яна займала, відаць, палавіну сялянскай хаты.

Котлішча паспела зарасці высокім, у рост чалавека, быльнягом.

Пархімовіч азіраецца і яшчэ болей дранцвее. Навокал, як кінуць вокам, пад лёгкім ветрам калышацца высокая — па грудзі чалавеку — не пшаніца, не жыта, а дзікая трава, якую звычайна на полі выполваюць. Пырнік, сівец, драсён, быльнёг, палын.

У вайну на Ленінградскім фронце камандзірам давалі папяросы «Тры багатыры». На пачку была адбіта вядомая карціна рускага мастака Васняцова. Лейтэнант Пархімовіч таксама атрымліваў папяросы з намаляванымі ў жалезных шлемах і кальчугах багатырамі, углядваўся ў малюнак, здзіўляючыся, чаму магутныя коні старажытных воінаў ледзь не хаваюцца ў высокай траве.

Толькі цяпер, амаль праз паўвека пасля вайны Пархімовіч здагадаўся: такім быў многія стагоддзі назад дзікі стэп. Толькі тры, самае большае чатыры гады няма на гэтай зямлі чалавека, і нарадзіўся той самы дзікі, зарослы высачэннай травой стэп. На даляглядзе яшчэ сям-там бачацца зялёныя прысады вёсак, сёл, але хутка і яны знікнуць. Яны ёсць, пакуль жывуць у пакінутых вёсках такія, як Кірылаўна і яе падсуседзі. Але век іх небясконцы. Рана ці позна бульдозер зробіць тое, што зрабіў вось тут, каля пакінутай печы. І тады застанецца тут толькі высокае сіняе неба ды дзікі, пярэсты ад красак, кветак стэп. Можа, яшчэ трохі птушак застанецца, такіх вось далікатных шэрых курапатак, якія чародкамі выбягаюць з высокай дзікай травы на зарослую, з ледзь прыкметнай каляінай прасёлкавую дарогу.

*1990*

## ПЫЛ

Васілец нават не здагадваўся, што ў мястэчку можа знайсціся такая малая хатка. Тым болей што стаіць яна ў мясцінах ягонага дзяцінства. Непадалёк ад хаткі размешчана Бечанкова канава, у якой яны, дзятва, купаліся. Да яе ўшчыльную падступае сад удавы Хамуціхі, нягеглы, хваравіты сын якой ніколі не мог каго-небудзь з іх злавіць, калі яны кралі яблыкі. Да копанкі прылягае зарослае аерам і асакой балотца, дзе аднойчы, у дажджлівы год, развялося столькі ўюноў, што мястэчка лавіла іх кашамі і вёдрамі. І тут жа насып чыгункі, тупіковыя пуці, вагавая будка, на якой узважваліся вагоны, нагружаныя зернем, бульбай, морквай, капустай, бо наўзбоч

тупіковых пуцей якраз размяшчаліся розныя нарыхтоўчыя базы і склады.

Васілец два гады ваяваў, нядаўна дэмабілізаваўся, з'ездзіў у Мінск паступаць ва ўніверсітэт і паступіў. Але не туды, куды прагнула душа. Марыў вучыцца на стацыянары, слухаць прафесараў, але прыйшлося змірыцца з завочным аддзяленнем. Каб трымацца на стацыянары, ён мусіць мець падмогу з дому. Бо на базары буханка хлеба каштуе сто рублёў, селядзец — дваццаць пяць. За сваю месячную стыпендыю ён мог купіць дзве буханкі хлеба і амаль два селядцы. Малавата. І з дому нічога падаслаць не маглі.

Васілец ніякай прафесіі не мае, але ўспамінае тым часам, што вучачыся ў школе, пісаў заметкі ў раённую і нават у абласную газеты. У раённай газеце пасады заняты, ды іх толькі дзве: рэдактар і адказны сакратар. Васілец едзе ў абласны горад, там яго лёгка ўспамінаюць, адразу залічваюць на работу куставым карэспандэнтам з месцам пражывання ў родным мястэчку.

Куды ў першую чаргу пойдзе нявопытны карэспандэнт, які не ведае, пра што пісаць і як пісаць? Вядома, у рэдакцыю раённай газеты. Яна размяшчаецца ў доўгім, як адрына, пабудаваным яшчэ да вайны памяшканні, дзе знаходзіцца таксама і друкарня.

Рэдактара Смарговіча, сур'ёзнага, задуменнага чалавека, Васілец трохі ведае. Ён падпісваў маленькую, нібы лістоўка, партызанскую газетку, якую Васілец спачатку чытаў як сувязны, а затым, вырваўшыся ў атрад, як партызан. А вось адказнага сакратара Сяргея Шалыгу, рухавага, з шырокім чырвоным тварам, пустым правым рукавом, не памятае. Хоць яны былі ў адной брыгадзе. Шалыга, аказваецца, фактычна адзін рабіў маленькую партызанскую газетку (васьмушку сапраўднай), сядзеў крукам дзень і ноч, таму асабліва ў вочы не кідаўся.

Шалыга як бы бярэ Васільца пад сваю апеку. Ён насмешлівы, трохі самаўпэўнены, адчувае сябе ў рэдакцыі поўным гаспадаром. Бо газету і цяпер фактычна робіць ён адзін. Рэдактара райкам бясконца пасылае ўпаўнаважаным па розных гаспадарчых і іншых пытаннях. Так што Шалыга не толькі

піша ўсе матэрыялы (за выключэннем тасаўскіх і белтаўскіх), але і газету падпісвае ў свет.

Наступіў фактычна першы мірны год. Але летась быў неўраджай, і сёлета на тое паказвае. Настрой невясёлы. Суш стаіць страшэнная. Усё перасохла дазвання, і калі праедзе па вуліцы аўтамашына, то падымае агромністыя стаўбуры пылу, які доўга вісіць у паветры, павольна асядаючы на двары і агароды. Пыл навісае над усімі дарогамі, палямі, нават над асушаным балотам. Там ён асабліва страшны і злавесны: чорна-руды, нерухомы, бо змешваецца з шызым густым дымам, калі гараць тарфянікі.

Раённая газетка гэтак жа, як абласная, як «Правда», «Известия» піша толькі пра станоўчае. Па ёй ніколі не здагадаешся, як жывуць людзі, якія ў іх думкі, настроі, як ідуць справы ў раёне.

Пад матэрыяламі мільгаюць прозвішчы людзей з розных прадпрыемстваў, вёсак, калгасаў, саўгасаў. Можна падумаць, што ў раённай газеткі вялікі аўтарскі актыў. На самай справе гэта толькі падман зроку.

— Мікалай! — звоніць знаёмаму калгаснаму рахункаводу адказны сакратар Шалыга.— Як там у вас з праполкай пасеваў?

— Якая, к чорту, праполка,— гучыць у тэлефоннай трубцы зычны голас рахункавода.— Усё выгарала. Праўда, пустазелле расце. Спякоты не баіцца. Аж жоўта на полі ад свірэпкі.

— Ну, а бабы хоць раз выходзілі на поле? — дапытваецца Шалыга.

— Можа, і выходзілі. Хоць мала з гэтага толку…

Праз дзень ці два ў газеце паяўляецца заметка «Прапалолі пасевы» за подпісам рахункавода, з якім Шалыга размаўляў па тэлефоне. І ніхто не крыўдзіцца: ні калгаснікі, якія бачаць поўную ману, ні кіраўніцтва раёна, ні сам рахункавод, які за заметку атрымае два рублі ганарару — якраз на кухаль піва.

Васільцу такі спосаб збірання матэрыялу не па душы. Хоць, бывае, калі прыстаюць з нажом к горлу загадчыкі аддзелаў абласной рэдакцыі, патрабуючы адпаведных фактаў, ён таксама карыстаецца тэлефонам. А ўвогуле дзень у дзень ён блукае па вёсках, якія памятае яшчэ з партызанскіх часоў, назірае, як паступова, хоць марудна, яны аднаўляюцца,

пакрысе мяняюць твар, і пра гэта стараецца пісаць. Піша замалёўкі пра даярак, свінарак, кавалёў, якія сапраўды добра працуюць. У кожным калгасе ёсць свой адметны чалавек, і ўсюды прозвішча яго ахвотна называюць.

— Пісьменнікам хочаш стаць,— падкалвае Васільца Шалыга.— Хочаш, каб біяграфію ў школе вывучалі. Усход, заход сонца малюеш. Расу на траве, шчэбет птушак. Тады лепей вершы пішы...

Як напрарочыў Шалыга: Васілец пачынае складваць вершы. Адказны сакратар абласной рэдакцыі, рудаваты, інтэлігентны, смяшлівы яўрэй, сам піша вершы, і, можа, па гэтай прычыне ахвотна друкуе прадукцыю Васільца.

Так здараецца, што ў мястэчка заяўляецца сапраўдны паэт, прозвішча якога мільгае ў рэспубліканскіх газетах, а вядомыя кампазітары на ягоныя словы складаюць песні. Паэт каржакаваты, лабаты, у поўнай яшчэ мужчынскай сіле.

Шалыга і Васілец не могуць не пачаставаць такога высокага госця. Гэта, можна сказаць, справа іхняга гонару.

— Я бутэльку гарэлкі куплю,— гаворыць Васілец.— Толькі з закускай слабавата.

— Пойдзем да мяне,— прапануе Шалыга.— Я бульбы з вёскі прынёс.

Вось тады ўпершыню ўбачыў Васілец хацінку, у якой жыве адказны сакратар раённай газеты, які гэтую газету фактычна стварае. Тут раней была, відаць, лазенька, у якой маглі змясціцца самае большае два чалавекі.

Шалыга выстаўляе на столік чыгун бульбы, кладзе дзве галоўкі цыбулі. У сподачку ёсць трохі солі.

Васілец выцягвае з кішэні паўлітра дарагой разліўной гарэлкі. І яшчэ адну ціхенька ставіць пад столік.

Паэт, як выяўляецца, чалавек неперaборлівы. Ды, відаць, і згаладаўся парадкам. Бо ў сталоўцы не пад'ясі: даюць талерку пустой поліўкі і дзвесце грамаў хлеба.

Кульнуўшы шклянку гарэлкі, адразу зачырванеўшыся, паэт зацята налягае на бульбу. Бульба ў чыгуне яшчэ ёсць, Васілец выстаўляе на столік другую паўлітэрку.

— Я калі падап'ю, лазу магу есці,— пахваляецца паэт-песеннік.— Няхай лепш жывот лопне, чым бульба застанецца...

Наступае пара жніва. Ураджай мізэрны: некаторыя калгасы нават насення не вернуць. Васілец — карэспандэнт куставы, як бы прывязаны да трох сумежных раёнаў, але рэдакцыя газеты з гэтым не асабліва лічыцца, ганяе яго, можна сказаць, па ўсёй вобласці.

Між тым усюды адно і тое. На сходах, нарадах актыву раённыя кіраўнікі заклікаюць выканаць заданні па здачы бульбы, гародніны, малака, мяса. І нідзе хоць бы слоўцам не абмоўліваюцца, як жывуць калгаснікі, што атрымліваюць на працадзень. Нібы гэта не вартая ўвагі дробязь, а яны, раённыя кіраўнікі, толькі зборшчыкі падацей...

Раённыя цэнтры, палескія мястэчкі і гарадкі, з выгляду не аднолькавыя. Але на ўсіх як бы ляжыць адзнака закіданасці, запусцення, рэзруху. Ва ўсіх вуліцы не забрукаваны, і вецер гоніць па іх пыл, абрыўкі газет, living ашмоцце.

Васілец за вайну прайшоў па дарогах Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. У Польшчы, бадай, гэтак жа як у нас, ну, можа толькі трохі лепей. Затое нямецкія, нават чэшскія паселішчы, малыя гарадкі па парадку, утульнасці, якая ў іх пануе, намнога лепшыя за нашы. Ад гэтага баліць у Васільца душа. Калі ж і палешукі-беларусы дачакаюцца светлага дня? Стануць жыць па-людску? Няўжо гэта выкляты Богам край?..

Але пакуль нішто не паказвае на палепшанне жыцця. Разбураны дашчэнту Мінск з закуранымі каробкамі дамоў, зарослымі быльнягом папялішчамі, заваламі на вуліцах пакрысе пачынае аднаўляцца. У тутэйшых вёсках таксама ідзе перасяленне з зямлянак у новыя дамы. Але што гэта за дамы? Скіданыя на скорую руку хаціны, з кожнага кутка якіх пазірае беднасць, убогасць, нястача. Асабліва ва ўдоў, мужыкі якіх не вярнуліся з вайны. Адкуль быць дастатку, калі ў калгасах ужо трэці год нічога не даюць на працадні.

Не, не такім уяўляў Васілец мірны час. Ён, вядома, бачыў вялікае разбурэнне, рэзрух, нястачу і не спадзяваўся, што адразу пасля вайны наступіць суцэльнае свята. Але ж народ выйграў такую агромністую, кровапралітную вайну, якой, можа, ніколі не было ў гісторыі. То можна было трохі і ўшанаваць народ, падбадзёрыць, не адразаць па хлявы соткі, даць магчымасць калгаснікам накасіць сена, трымаць карову, а то і дзве. Каму ад гэтага шкода?

Але не да гэтага ідзе. Бадай, у кожным нумары абласной газеты, трохі радзей — у раённай, партрэт правадыра, які і ў мірны час не зняў мундзір і пагоны генералісімуса. Гэта, выходзіць, ён выйграў вайну. У газетах так і пішуць. Палонных, якія вяртаюцца ў мястэчка, падоўгу цягаюць на допыты, некаторыя кудысьці знікаюць.

У мястэчку няма ніводнага партызана, якіх застаў у атрадзе Васілец. Бо партызаны таксама не адразу сталі партызанамі: уцякалі з нямецкага палону, выбіраліся з акружэння, а тыя, што прыйшлі ў лес з мястэчка, да гэтага дзе-небудзь працавалі. Бо як жа яны жылі б, каб не працавалі?

Васілец і ягоныя сябры ведаюць, што ў Беластоцкае, Кіеўскае, Бранска-Вяземскае, Харкаўскае акружэнне байцы і камандзіры трапілі не самі. Іх завялі туды камандуючыя арміямі і франтамі. Можа, сам Сталін вінаваты ў гэтым. А цяпер помсціць людзям, якія столькі ўсяго вынеслі і выцерпелі...

Сябры-таварышы іншы раз збіраюцца, абмяркоўваюць мінулыя баявыя справы. Але ўсё радзей і радзей адбываюцца гэтыя сходкі. І ўсё менш і менш прыходзіць на іх хлопцаў і дзяўчат. Была баявая група, звязаная верай у перамогу, адзіным пачуццём, якое гарэла ў грудзях, нібы агонь, а стала проста кучка знаёмых, якім нават сустракацца непрыемна. Цвёрды надзейны грунт як бы знік, ператварыўся ў пыл...

Здымаюць з пасады рэдактара раённай газеты Смагаровіча. Ён, аказваецца, быў пасланы ў нямецкі тыл, у свой раён са спецыяльнай групай і перш чым далучыцца да партызан, палавіну зімы прасядзеў у маці. Довады Смагаровіча: адмарозіў ногі, а ў маці не проста сядзеў — лячыўся, ніхто не слухае. Пацвярджэння ж са шпіталя няма...

Душа Васільца поўніцца трывогай. Калі пачалася вайна, яму было шаснаццаць гадоў, на фронт пайшоў у васямнаццаць. Быў нядоўгі час у партызанах (з мястэчка, з гарнізона не проста было трапіць у партызаны!), а да гэтага падпольшчыкам і партызанскім сувязным. Даведкі ёсць, але ўсё адно душа поўніцца трывогай. Ну, добра — займаўся падпольнымі справамі, нават арыштоўваўся. Але за якія заслугі, даражэнькі, цябе з турмы выпусцілі?

Зрэшты, лінія адна: калі нічога не даюць за цяжкую працу калгаснікам, якія ўсіх кормяць і пояць, то чаму павінны ўшаноўваць партызан, а тым болей нейкіх там падпольшчыкаў?

Адказнага сакратара раённай газеты Сяргея Шалыгу вылучаюць між тым першым сакратаром райкама камсамола. Ён рухавы, увішны, проста гарыць прагай дзейнасці, і нельга не заўважыць такога чалавека.

— Я памагу тваім падпольшчыкам,— абяцае Шалыга Васільцу.— Заслухаем вашу справаздачу на нашым бюро і перададзім справу ў райкам партыі...

Толькі не прыйшлося Шалыгу здзейсніць добрую справу. На яго самога напісалі ананімку, што, перш чым пайсці ў партызаны, ён месяц ці два працаваў настаўнікам.

Знялі з пасады Шалыгу імгненна. Зняважаны, ён амаль не паказваўся ў мястэчку.

Усё тое лета і восень стаяла нечуваная суш, вісеў над дарогамі, палямі, на вуліцах мястэчка густы шэры пыл. Дзесьці ў канцы верасня пайшлі дажджы, але яны ўжо мала што маглі ўратаваць...

*1990*

# 1991

## ЗВЯГА

### I

Вечарам, калі сінявата-шэры змрок ахінае навакольны лес, Давыдзюк з кім-небудзь з тых, хто адпачывае ў гэты няўдзячны час у прафілакторыі, выходзіць на вандроўку. Асабліва блізкіх людзей у прафілакторыі няма, акрамя Івана Калíткі, спакойнага чалавека, кандыдата навук і пенсіянера, якога Давыдзюк ведае з часоў вайны, акупацыі і пасляваеннай вучобы ва ўніверсітэце.

Дый працаваў ён з Калíткам у навукова-даследчым інстытуце, пакуль той не пайшоў на пенсію.

Давыдзюк памятае: ва ўніверсітэце з Калíткам здарылася прыкрая гісторыя, з якой доўга, год ці два, рагаталі студэнты.

Гісторыя была такая. Студэнтаў паслалі ў падшэфны калгас. Пакапаўшы бульбу, ссыпаўшы яе ў бурты, студэнты тут жа на полі наладзілі баляванне. Расклалі вогнішча, пяклі бульбу, пражылі на ражончыках сала, нават гарэлкі трохі дасталі. Нечакана побач з Калíткам прымасцілася студэнтка, якую на курсе лічылі трохі прытрушанай. Яна падпіла і, не тоячыся, выказвала да аднакурсніка прыхільнасць і замілаванне. Калíтка перасеў на другое месца. Але прытрушаная і туды дапяла. Вечар на полі перастаў Калітку цікавіць, і ён, незаўважна для другіх, пакінуў вясёлых студэнтаў, паклыпаў да гаспадыні і рана лёг спаць.

Студэнты вярнуліся ў горад. Праз некалькі дзён факультэт быў узрушаны нечаканай навіной. Аднакурсніца, якая ў вёсцы дамагалася ад Калíткі ўзаемнасці ў амурных справах, прынесла ў камітэт камсамола заяву: Калітка яе спакусіў, абяцаў жаніцца, цяпер ад абяцання ўвільвае.

Камітэт заяве не паверыў: благая слава ішла пра студэнтку. Дый якая дзяўчына, што хоць трохі сябе паважае, адважыцца на такі крок.

Аднак у справу ўмяшаўся парткам. Сакратар парткама, нядаўні палкоўнік-палітработнік, быў чалавек надзвычай строгіх правіл. Цэлы год Калітку цягалі на розныя пасяджэнні, разбіраючы заяву студэнткі ва ўсіх дэталях і падрабязнасцях. Нарэшце справа затухла сама сабой: студэнтка выйшла замуж за выпускніка-палітэхніка.

Як толькі Давыдзюк паявіўся ў прафілакторыі, Калітка яго адразу зацугляў. Былы аднакурснік пастарэў, паблажэў: вялікая мядзведжая галава сядзіць на адносна кароткім тулаве, ды яшчэ і жывот выпірае.

— Падпішаш гэтую заяву?

Ён даў яму ў рукі два надрукаваныя на машынцы аркушыкі. У заяве ішла гаворка пра Кузняцова, сакратара падпольнага гаркама партыі, дзейнасць якога ў гады акупацыі не толькі не прызнана, але нават зняважана, перакрэслена. Да гэтага часу ягонае прозвішча не ўпамінаецца ў друку: лічыцца, што Кузняцоў, не вытрываўшы катаванняў у фашысцкім засценку, перайшоў на бок ворага.

Палова другога аркуша спярэшчана рознакаляровымі подпісамі.

Давыдзюк здзіўлена глядзіць на Калітку.

— Чаму ўзяўся за заяву іменна ты? — пытае.

— Ды вось узяўся. Каму-небудзь трэба.

Давыдзюк маўчыць. Наколькі ён памятае, у першыя пасляваенныя гады, дый пазней, Калітка займаўся трохі іншымі справамі. Нават Давыдзюку, бадай, псаваў біяграфію. У партызанах, на фронце ён не быў, хоць, жывучы ў захопленым ворагам горадзе, належаў да нейкай падпольнай групы. У акупацыйны час раз ці два Давыдзюк бачыў яго з Анатолем Скібінам, няўрымслівым, самаўпэўненым хлопцам,

які жыў на вуліцы Талстога ў іхнім Залінейным раёне і быў расстраляны немцамі.

У першыя пасляваенныя гады ніхто падпольшчыкамі не цікавіўся, не прызнаваў іх, і, можа, пагэтаму Калітка аж залішне актыўна выкрываў розных нямецкіх прыслужнікаў, друкаваў артыкулы пра акупацыйную палітыку фашыстаў, стараўся вызначыцца іменна гэтым.

Ён, відаць, трохі перабраў. Пасля XX з'езда партыі некалькі асуджаных, паказанні супраць якіх даваў Калітка, былі рэабілітаваны. Па чутках, яны пагражалі паклёпніку пасадзіць яго самога. Але з вялікай мядзведжай галавы ні адзін волас не ўпаў.

Па гэтай прычыне Давыдзюк асцерагаўся Каліткі. У інтымныя, даверлівыя размовы не ўступаў. Хоць адчуваў: чалавек не такі благі. Сам забіты, затурканы. Таму і хіліцца пад ветрам, як сухая балотная трава.

На гэты раз Давыдзюк давяраецца Калітку. Заяву падпісвае. Многа чаго на свеце адбылося, і многае перамянілася.

Узбоч старой, забрукаванай каменем-кругляком шасэйкі, па якой выдыбае Давыдзюк, пралягае новая, двухпалосная, пакрытая гудронам шаша. У тым выпадку, калі Аляксей Рыгоравіч блукае адзін, на гэтай шырокай шашы, якраз насупраць прафілакторыя, запыняецца якая-небудзь машына. Яна бліскае заднімі чырвонымі агеньчыкамі і стаіць доўга, бадай, увесь той час, пакуль Давыдзюк прагульваецца.

Можна рознае думаць. Але Давыдзюку здаецца, што шафёр машыны ці хто там яшчэ цікавяцца іменна ягонай персонай. За пакрытай гудронам, шырокай двухпалоснай шашой у густым ельніку ёсць паляна, на якой раскапаны вялікі квадрат зямлі і размешчаны гурбачкі зямлянак.

Два разы вакол квадрата блукаў Давыдзюк, і толькі на трэці раз яму нарэшце цюкнула: выдыбаць тут не варта. У вялікіх зямлянках штосьці такое ёсць, хоць іх ніхто і не вартуе. Ёсць і патайное вока, бо пасля вандровак Давыдзюка вакол квадрата на шашы пачала спыняцца машына з чырвонымі агеньчыкамі дый двое ці трое тых, што адпачываюць у прафілакторыі, летась і пазалетась як бы ненарокам заводзілі з Аляксеем Рыгоравічам гаворку пра воінскую часць, размешчаную непадалёку, і пра яе склады, пакінутыя на тым баку шашы.

Вось так. Знішчаны ракеты сярэдняй дальнасці, надрукавана карта размяшчэння балістычных ракет, а з нейкім задрыпаным складам носяцца як з пісанай торбай. Відаць, некаму патрэбен заробак, кавалак хлеба.

Калі Давыдзюк выходзіць на шпацыр з Каліткам, машына не паяўляецца і не запыняецца. Механіка, значыць, працуе дакладна, адладжана…

Давыдзюк з Каліткам прагульваюцца па вузкай шасэйцы, якая пралягае наўзбоч яшчэ аднаго прафілакторыя, што належыць прафсаюзу мясцовай прамысловасці. На гэтым кіламетровым абсягу выдатны бор. Мала засталося такога лесу ў далёкіх і блізкіх ваколіцах. Разлеглыя макушы сосен можна разгледзець і ў цемені, на фоне шэрага і нават цёмнага неба. У зімовую пару ў іх шатах заўсёды гуляе вецер, і яны шумяць то ціха і прыглушана, то з глыбокім уздыханнем і як бы надрывам.

— Як думаеш,— пытае Калітка,— чаму ўзнікаюць мітынгі, дэманстрацыі?

— Чытай газеты,— раіць Давыдзюк.— У газетах пішуць. Не так, як раней.

— Я думаю, мы многае прахлопалі. Жыццё даўно пайшло наўскасяк, а мы, як страусы, хавалі галаву пад крыло. Не хацелі нічога бачыць. У калгасе нічога не даюць на працадзень — нармальна. Вёска гібее, людзі ўцякаюць у горад — нармальна. Пішам тое, у што самі не верым. Абы начальства было задаволена…

Такую гаворку з Каліткам Давыдзюк стараецца як-небудзь прыпыніць…

Давыдзюк пакутуе. Даўно пачалася ягоная пакута. Яшчэ з таго, ужо далёкага часу, калі асудзілі культ асобы. Большая палавіна ягонага жыцця прайшла пад знакам сумнення: штосьці робіцца не так. Пасля асуджэння культу асобы ён кіпеў і гарэў. Не хаваў настрою. Выказваў яго перад знаёмымі і незнаёмымі людзьмі.

Дзеля таго, каб утаймаваць яго, тыя, хто гэтым займаецца, знайшлі адпаведныя сродкі. Якраз у тыя гады на яго былі напісаны дзве ці нават тры ананімкі, якія датычылі акупацыйнага мінулага.

Як водзіцца, была створана камісія, якая доўга і нудна займалася ягонай персанальнай справай. Здаецца, нават Калітка прыткнуў свой грошык да дзейнасці камісіі. Абвінавачванні, вядома, адпалі. Паступова патух у душы Давыдзюка і пажар, які выбухнуў, калі ён пачуў пра злачынствы, што тварыліся падчас ягонага бясхмарнага дзяцінства і юнацтва...

## II

Аляксей Рыгоравіч жыццё пражыў, уступіў у пенсійны ўзрост, хоць яшчэ працуе, кіруе навукова-даследчым інстытутам. У вайну, фактычна хлапчуком, ён далучыўся да фантастычна-смелага, адчайнага гарадскога падполля, якое, аднак, нягледзячы на вядомыя ўсяму гораду справы, было прызнана толькі гадоў праз дваццаць пасля пераможных салютаў. Дый то не ўсё…

У спалены, разбураны бамбардзіроўкамі горад немцы ўвайшлі на сёмы дзень вайны. Так склаліся абставіны, што ў горадзе засталося многа партыйных, савецкіх работнікаў; дый ваенных людзей, якія вырваліся з палону, акружэнняў, асела многа.

Праз месяц ці два пасля прыходу немцаў хлопцы-школьнікі, якія жылі на зялёнай, застаўленай драўлянымі дамкамі вуліцы Льва Талстога, размешчанай бадай паралельна з чыгункай, стварылі падпольную групу. Яны ведалі адзін аднаго і бясконца адзін аднаму давяралі. Яны нават думкі не дапускалі, што хто-небудзь з іх можа здрадзіць.

Позняй хмурнай восенню да мясцовых барацьбітоў далучыўся яшчэ адзін — Анатоль Скібіна. На другі ці трэці дзень вайны ён некуды знік, а з’явіўся, калі баі ўжо грымелі пад самай Масквой.

Скібіну вуліца ведала, і нават някепска. Школу ён пакінуў і разам з бацькам, такім жа нізкаватым, прысадзістым, з круглым, як бы азызлым тварам, стаяў за прылаўкам доўгага, як стадола, прамтаварнага магазіна, які размяшчаўся на скрыжаванні вуліц Льва Талстога і Маскоўскай.

Анатоль выхваляўся: ён як леў змагаўся з фашыстамі ў партызанскім атрадзе, які дзейнічаў пад горадам. Атрад

часова, да вясны, разышоўся, а ён, Скібіна, прысланы нібыта ў горад са спецыяльным заданнем.

Між тым за дамком Скібінаў, ладным, збудаваным з новага сасновага бярвення, прагна віжавалі паліцаі. Пра Анатоля — відаць, з ягоных слоў — яны ведалі толькі тое, што вярнуўся ад дзядзькі, які жыве недзе пад Арлом. Хаваўся, значыць, у дзядзькі ад вайны Анатоль, але немцы і да Арла дапялі. Акружэнцаў, палонных, пагражаючы лагерам, паліцаі прымушалі паступаць у свае шэрагі. Над Анатолем, аднак, такая пагроза не вісела. Паліцаі, здаецца, думалі пра другое. Здагадваліся, што Скібіны, працуючы ў прамтаварным магазіне, нацягалі дамоў усялякага дабра. Таму квапіліся на гэта дабро паліцаі. Разлічвалі, што могуць някепска пагрэць рукі ў доме Скібінаў. Толькі не ведалі, з якога боку да гэтага дома падступіцца.

У тым месцы, дзе вуліца Талстога, пераскочыўшы людную Маскоўскую вуліцу, становіцца непрыкметным завулкам, з левага боку стаіць трохпавярховы мураваны дом. На доме вісіць мемарыяльная дошка, на якой напісана, што ў гэтым будынку зімой і летам 1942 года размяшчалася радыёстанцыя савецкіх разведчыкаў.

На ваенных разведчыкаў Давыдзюк працаваў. Напачатку адзін з усяе падпольнай групы. Дзеля гэтага ён уладкаваўся касірам у таварную чыгуначную кантору.

Летам 1942 года ў горадзе пачаліся арышты. Паліцаі падсцераглі-такі Анатоля Скібіну. Ён знаёміўся з кім папала, амаль адкрыта вёў гутаркі пра тое, што трэба ісці ў лес, выхваляўся наганам, які пастаянна насіў у кішэні. З гэтым наганам Анатоля і схапілі.

Як груганнё, наляцелі паліцаі на дом Скібінаў. Яны добра там пажывіліся: вывалаклі некалькі сувояў міткалю і сукна, узялі некалькі новых касцюмаў і паліто.

На трэці ці чацвёрты дзень пасля арышту Анатоля паліцай перахапіў Давыдзюка па дарозе на службу:

— Табой жандармерыя цікавіцца. Даскакаўся…

На допыт Давыдзюка выклікаюць яшчэ праз дзень. У прасторным пакоі чалавек сем ці восем службоўцаў СД, шыракатварых, укормленых. Чорную форму яны знялі, застаўшыся ў нацельных сарочках. Усе службоўцы трымаюць

у руках бярозавыя кіі. Той, што дапытвае Давыдзюка, таксама ў адной сарочцы: ягоная густа зарослая чорнымі валасамі грудзіна аж палохае.

— Колькі яму гадоў? — пытае валасаты.

Пакуль дзюбаносы, нягеглы з выгляду, апрануты ў цывільную вопратку перакладчык думае над пытаннем, Давыдзюк яго апярэджвае.

— Мне сямнаццаць гадоў,— адказвае па-нямецку.

Служкі СД пераглядваюцца, а перакладчык ніякавее.

Наступнага пытання Давыдзюк не схоплівае, і перакладчык гэтаму радуецца. Блытаючы рускія, украінскія і нават нямецкія словы, ён перакладае:

— Ці ты маеш радыёэмпфэнгер і слухаеш бальшавіцкае радзіва?

— Не маю ніякага радыёпрыёмніка.

— Мамэнт.

Праз дзве ці тры хвіліны на парозе паяўляецца Анатоль Скібіна. Твар апухлы, з кровападцёкамі, выгляд безуважны і, здаецца, Анатоль зусім абыякавы да ўсяго, што дзеецца на свеце.

— Скажы ім, дзе радыёпрыёмнік,— безуважліва, пазіраючы ў падлогу, гаворыць Анатоль.

— Скажы сам,— спакойна пярэчыць Анатолю.— Калі ведаеш…

Следчы з валасатымі грудзьмі балюча пляскае Давыдзюка па твары. Засыпае яго пытаннямі наконт сувязі з партызанамі, зброі, агітацыі супраць немцаў. «Немец нічога не ведае,» — мільгае ў Давыдзюка радасная думка. Анатоль ім нічога не сказаў. Хіба толькі пра зводкі з фронту…

Анатоля выводзяць. На Давыдзюка яшчэ з большым імпэтам насядае следчы з валасатай грудзінай.

— Ты знаёмы з бандытам, сябраваў з ім?

— Іншы раз сустракаўся.

— Ты яму расказваў што-небудзь?

— Расказваў,— адказвае Давыдзюк зноў.— Я чытаю нямецкія газеты. Напрыклад, «Фёлькішэр беабахтэр», «Дас Райх», «Шварцэ кор» (назву апошняй газеты Давыдзюк вымаўляе з асаблівым націскам, бо гэта газета эсэсаўцаў). Расказваў, што ў газетах пішацца. Хіба нельга?

Службоўцы СД зноў пераглядваюцца.

— Балбатня,— гаворыць валасаты следчы.— Ідзі і падумай. Добра падумай, бо другі раз мы з табой будзем размаўляць інакш. Як вось з гэтым бандытам...

Давыдзюка зноў запіраюць у камеры. Пастунова ён знаёміцца з арыштаванымі, размаўляе, хоць яны да яго ставяцца насцярожана. Вярнуўся з допыту не пашкамутаны, не пабіты. Толькі адна шчака чырвоная. Хто ведае, што за птушка…

У сінім вячэрнім паўзмроку Давыдзюк бачыць, як міма акна турэмнай камеры мільгае знаёмая, трохі прыгорбленая постаць. Дык гэта ж Юнг, намеснік начальніка таварнай канторы! Юнгу як фольксдойчу яго аднапляменнікі давяраюць мець радыёпрыёмнік. Немец настойліва набіваецца на дружбу, расказвае пра падзеі на фронце, лае сваіх жа немцаў. Яўна шукае, дамагаецца даверу Давыдзюка.

Вядома, сябры Давыдзюка не абмяжоўваюцца звесткамі, якія выкладае Юнг. Маюць свой радыёпрыёмнік. Праўда, селі батарэі, і апошнія дні савецкае радыё яны не слухаюць.

Цэлую ноч Давыдзюк думае. Вельмі падобны Юнг на выведніка. А калі раптам свой? У душы Давыдзюка халоднае пачуццё да Юнга. Ніколі ён яму не верыў. Слізкі, хітры памочнік начальніка канторы! І, здаецца, нават пад свайго начальніка, таксама фольксдойча, былога экспедытара мясакамбіната Хайма падкопваецца.

Раніцай Давыдзюк стукае ў дзверы і просіць адвесці да следчага.

Следчы той самы, толькі цяпер апрануты па форме ў чорны мундзір.

— Я ўспомніў,— пачынае Давыдзюк.— У нас у канторы ёсць чалавек, які мае радыёпрыёмнік. Расказвае пра падзеі на фронце. Але ён расказвае пра нямецкія перамогі…

Следчы слухае няўважліва.

— Як яго прозвішча?

— Юнг.

— Добра. Можаш ісці…

Вечарам Давыдзюка выпускаюць з турмы.

Нечаканы прыём наладжвае Давыдзюку начальнік канторы Хайм.

— Ты вінаваты! — крычыць на Давыдзюка.— Сябраваў з гэтым бандытам Скібінам! А ён, падумаць толькі, хадзіў па вуліцах з наганам у кішэні. Але стойкі чалавек. Слова не сказаў на допытах…

Словы начальніка запомнілі многія ў канторы. І словы гэтыя сыгралі дрэнную ролю ў дальнейшым жыцці Давыдзюка. Пасля вызвалення горада ад немцаў яны хутчэй за ўсё сталі вядомымі людзям, якія ўсе доўгія пасляваенныя гады займаліся разгадкай хітраспляценняў акупацыйных адносін. На Давыдзюка такім чынам начальнік канторы як бы навёў цень падазрэння.

Пазней Давыдзюк для сябе самога вытлумачыў выкрык Хайма. Былы экспедытар жыў на вуліцы Льва Талстога, быў добра знаёмы з бацькам Анатоля Скібіны, баяўся і немцаў, і свайго памочніка Юнга, і старога Скібіну не хацеў крыўдзіць. Усім хацеў дагадзіць.

Юнг у канторы такі быў выведнікам. З ягонай галавы ні адзін волас не ўпаў. Ён па-ранейшаму набіваўся да Давыдзюка на дружбу, пераказваў франтавыя навіны, лаяў немцаў, ды толькі спрактыкаваны юнак слухаў яго нават менш, чым раней.

Анатоля расстралялі — адзінага з іх падпольнай групы. Пасля гэтага ягоны баявы таварыш Калітка ні разу не вытыркнуў нос на вуліцу Льва Талстога.

У работу з разведчыкамі паступова ўцягнуліся яшчэ два-тры таварышы Давыдзюка. Ды раптам нечаканасць: па вуліцы Талстога і іншых ціхіх зялёных вуліцах Залінейнага раёна стала паяўляцца машына з рашоткамі пеленгатараў. Летняй ноччу шафёр, які належаў да падпольнай групы, вывез капітана-разведчыка і партызанскую радыстку ў лес.

Работы Давыдзюку прыбаўляецца: два разы на тыдзень мусіць сустракацца з партызанскай сувязной, якой перадае свае і таварышаў паперкі. Нібы па лязу брытвы ходзіць.

Але ёсць і ўзнагарода. Горад час ад часу бамбяць савецкія самалёты. Бамбардзіроўкі начныя, бомбы рэдка трапляюць у цэль, але Давыдзюк усё адно радуецца.

З часу арышту зразумеў Давыдзюк: трэба стаіцца. Не кідацца ў вочы немцам, паліцаям. Нават з таварышамі не трэба на вуліцы паяўляцца. Даваць толькі самым надзейным

сябрам. Бо выдаў яго фактычна Анатоль Скібіна. Няхай сабе адно пра зводкі расказаў…

Гэта толькі залінейная частка горада ўцалела. А так знаёмы, родны горад разбураны і знявечаны. Нямецкай авіяцыі спатрэбіліся толькі тры ці чатыры масіраваныя налёты, каб вынішчыць і спаліць яго дашчэнту. Пажараў ніхто не тушыў: вялікая панавала ў горадзе паніка, мітусня, неразбярыха.

А цяпер вось панікі няма, тыя самыя руіны, нібы апомніўшыся, страляюць. Дня не праходзіць, каб падпольшчыкі ці партызаны не ўчынілі якую-небудзь дыверсію. Нібы людзей падхапіла нястрымная, магутная хваля, з’яднала, напоўніла іх грудзі адвагай. Большасць гараджан проста жывуць, працуюць там, дзе раней працавалі, зусім не думаючы, што гэтыя ўстановы цяпер нямецкія. А як інакш? Немцы не на пагулянку прыйшлі. І так у заняволеным горадзе на базарах, наогул у людных месцах наладжваюцца аблавы, схопленых вывозяць у Германію. У гестапаўскіх, паліцэйскіх засценках падпольшчыкаў, партызан катуюць. Ракой цячэ ў запалоненым горадзе кроў…

У пачатку восені другога года вайны гарадское падполле перажывае другі масавы правал. Вось тады ўпершыню пачуў Давыдзюк пра Кузняцова. Нібы арыштаваны чалавек, які кіраваў гарадскім падполлем.

Давыдзюку, каб паспяхова выконваць заданне, трэба не толькі стаіцца, добра канспіравацца, але неяк прыблізіцца да немцаў, заваяваць іхні давер. Але як гэта зрабіць таварнаму касіру, асобе непрыкметнай, мізэрнай, з якой ніхто не лічыцца і не будзе лічыцца? Тым болей што на ім кляймо, сядзеў у турме, знаўся з бандытам, якога расстралялі.

Дзяўчаты, якія працуюць рознымі сакратаркамі, машыністкамі і ў свой час паканчалі па восем ці дзевяць класаў, шпараць па-нямецку, пахаджваючы пад ручку з салдатамі і афіцэрамі. Толькі на іх веданне мовы Давыдзюк глядзіць зняважліва. Ведаюць самае большае трыста ці пяцьсот слоў. Гэтага хапае, каб балбатаць з немцамі, але газету ці нават звычайную дзелавую паперу такія дзяўчаты нізавошта не прачытаюць. Не хопіць сілы. Давыдзюк тым часам чытае, і ёсць ад гэтага доля карысці нават для капітана-разведчыка.

Давыдзюк паступае на курсы нямецкай мовы.

Курсы платныя, размешчаныя ва ўцалелым будынку сярэдняй школы ў цэнтральнай, найбольш разбуранай частцы горада.

Доўгая цёплая восень трымаецца ледзь не да самага лістапада. На фронце асаблівых поспехаў немцы не маюць. На поўдні ўпёрліся ў Каўказ, ля Волгі, у Сталінградзе, таўкуцца на месцы чатыры месяцы. Калі Сталінград выстаіць, перамога будзе абавязкова. Цяжкая, залішне крывавая перамога. Але галоўнае — выгнаць немцаў. Каб не хадзілі па роднай зямлі, не адчувалі сябе яе гаспадарамі. Бо акупацыя — найвялікшая ганьба як для народа, так і для асобнага чалавека.

Льюць дажджы, свішчуць у прысыпаных снегам руінах халодныя вятры. Вось і Сталінград акружаны савецкімі войскамі, і паступова сціскаецца вакол гэтага далёкага, ніколі не бачанага горада вогненнае кола. Немец Юнг апускае доўгі, як піка, нос, затое весялей ходзяць па зямлі Давыдзюк і ягоныя таварышы. Юнг, вядома, прыглядвае за Давыдзюком. Шпік. Але няхай цяпер насыпле яму солі на хвост. Давыдзюк не толькі чытае, але і гаворыць па-нямецку. Калі ў памяшканне таварнай канторы заходзяць па якой-небудзь патрэбе немцы, а Юнга няма, то ў размовы з імі ўступае Давыдзюк. І гаворку нямецкую пакрысе пачынае разумець...

Зноў наступае лета. Немцы арганізавалі СМБ — Саюз беларускай моладзі. Нейкія даўганосыя юнакі і дзяўчаты брындаюць па вуліцах разбуранага горада з бела-чырвона-белымі сцягамі, б'юць у барабаны, спяваюць песні. Дурні! Якая пры фашыстах можа быць Беларусь…

Вораг аднак не спіць. Ёсць самапомач: нешта накшталт мясцовага войска, як нярэзаных сабак паліцаяў, якія, здаецца, запаланілі ўсе вуліцы.

Можа, і пра Давыдзюка, які ходзіць няхай сабе не на вельмі прыкметную службу, але затое чытае па-нямецку і можа з немцамі сяк-так пагаварыць, хто-небудзь думае як пра ворага. Няхай думае. Цяпер гэта толькі на карысць. Час пакажа…

Раптам перасталі прыходзіць сувязныя: смяшлівая, з густа засеяным вяснушкамі вузкім тварам дзяўчына, і сталая, паўнацелая настаўніца, жонка камандзіра Чырвонай Арміі,

якую вайна прыгнала з пагранічнага Брэста ў ціхую лясную вёску.

У Давыдзюка ёсць запасны варыянт, які ён мусіць выкарыстоўваць толькі ў выключным выпадку. На адной са станцый на разведчыкаў працуе сам начальнік станцыі. Давыдзюк ведае ягонае прозвішча, пароль.

Выйсця іншага няма: трэба ехаць да гэтага чалавека. Давыдзюк знаходзіць верагодную прычыну, бярэ службовую камандзіроўку на станцыю, якая ад горада за сорак вёрст.

Начальнік станцыі, пажылы, спакойны і нават залішне памяркоўны чалавек, паведамляе навіну страшную: была блакада партызанскага раёна. Капітан-разведчык загінуў, немцы не толькі захапілі радыёстанцыю «Север», але не выключана, што і паперы капітана, у тым ліку падпіскі яго памагатых. Трэба чакаць арыштаў…

Давыдзюк страшэнна разгублены. Трэба ісці ў лес, у партызаны, але дома маці, малодшы брат і сястра. Немцы адпомсцяць ім з усёй лютасцю.

— Пераначуйце ў мяне,— між тым загадкава гаворыць чыгуначнік.— І наогул дні два-тры пабудзьце. Свет цяпер неспакойны…

На трэцюю ноч на станцыю робяць налёт партызаны. Паляць вагоны, станцыйныя памяшканні, руйнуюць стрэлкі, крыжавіны. Начальніка станцыі, Давыдзюка, яшчэ з дзясятак станцыйных службоўцаў бяруць з сабой. Нібы палонных…

Так цэлы год Давыдзюк ваюе ў партызанах, затым іх брыгада ўліваецца ў армію, і яшчэ амаль год ён на фронце. У партызанах Давыдзюк даведваецца, што ніякіх папер у капітана-разведчыка немцы не захапілі. Ваенныя разведчыкі — народ сур'ёзны: звесткам тых, каго не ведаюць, не вераць. Яшчэ ў першую зіму нейкім спосабам капітан пераправіў у Маскву падпіску Давыдзюка. Можа, самалётам. Паступаючы ў партыю, Давыдзюк напісаў па адрасе, які яму далі ў ваенкамаце, запытанне, і праз тыдзень атрымаў даведку, аўтарытэтную і ганаровую.

Пасля вайны ніхто не думаў пра падпольшчыкаў, пра неспакойны, бунтарны горад, які з руін, скляпенняў страляў па немцах, бадай кожнага дня чыніў дыверсіі. Першую групу падпольшчыкаў прызналі толькі праз дванаццаць гадоў,

пасля дваццатага з’езда партыі. Але Кузняцова па-ранейшаму працягвалі абліваць граззю. Нібы прадаўся немцам з кішкамі, паехаў у Берлін, пісаў антысавецкія кнігі і здымаўся ў антысавецкіх фільмах. Хоць ніхто не чытаў тых кніг і не бачыў фільмаў.

## III

Давыдзюк з Каліткам як ніколі падчас вандровак, размоў зблізіліся па лясных сцежках. Снежань ёсць снежань: позна світае і рана, у чатыры-пяць гадзін, наступае вечар. У снежні адпачынак, відаць, лепей лічыць не на дні, а на ночы.

Але Давыдзюку і снежань падабаецца. Яго пакой як бы ў двух вымярэннях: унізе спальня, туалет, па крутой лесвіцы падымешся наверх і апынешся ў пакойчыку-мансардзе, дзе стаіць пісьмовы стол, ёсць канапка, лежачы на якой усе даўгія снежаньскія вечары Давыдзюк чытае.

Час ад часу ён адскоквае ў горад і вяртаецца сюды, у снежаньскі лес, як на месца збавення. Бо ў горадзе апрача шуму, тлуму, дыму, ад якога не прадыхнуць, яшчэ і мітынгі, спрэчкі, сходкі…

Гэта здарылася некалькі месяцаў назад, у цёплым, сонечным маі. Давыдзюк прыйшоў на работу ў інстытут, і тое, што пачуў, пабачыў, не толькі вывела яго з раўнавагі, але пасеяла ў душы буру супярэчлівых, няўрымслівых пачуццяў.

Камсамольцы інстытута — іх усяго дванаццаць чалавек — запрасілі да сябе ў госці сяброў нядаўна створанай суполкі «Вызваленне», шматлікай, шумлівай і надзвычай радыкальнай у сваіх лозунгах і патрабаваннях.

Давыдзюк нават думкі не мог дапусціць, што ў сценах інстытута, якім кіруе, адбудзецца крыклівае і непатрэбнае зборышча. Зрэшты, як свет стаіць, прафесары, навукоўцы на мітынгі не хадзілі, наадварот, угаворвалі маладых людзей не бунтавацца, не ўдзельнічаць у дэманстрацыях, а вучыцца, займацца справай.

Намеснікі Давыдзюка, загадчыкі аддзелаў, парткам, мясцкам аднадушна супраць зборышча ў інстытуце. Сталі шукаць завадатара, сакратара камсамольскай арганізацыі, аспіранта апошняга года навучання, якім кіруе Давыдзюк.

Доўга не маглі знайсці. Нарэшце ён сам з'явіўся. Недарослы, дробны з тварыку дый па здольнасцях з ліку тых, што зорак з неба не хапаюць. Аспірант пераступае з нагі на нагу, памоўчвае.

— Колькі людзей прыйдзе? — пытае Давыдзюк.

— Наша зала можа змясціць трыста чалавек.

— Вас, камсамольцаў, дванаццаць, а гасцей будзе трыста. Хто дазволіў сходку?

— Мы размаўлялі з камендантам…

Справа ясная: нехта хоча правесці ў сценах інстытута гаманлівае зборышча. Мітынг. Але мітынг можна правесці на плошчы, на вуліцы. Навошта ў цёплым маі рвацца ў памяшканне, дзе спёртае паветра, гарачыня, задуха? Тым болей насупроць ночы. Дый побач з актаваю залаю сховішча рэдкіх кніг, карцін, куды сам Давыдзюк рэдка завітвае.

Надвячоркам перад будынкам інстытута пачынае збірацца натоўп. Божа, не дай бачыць перакошаныя ад злосці твары ўзбуджаных, апантаных юнакоў і дзяўчат, якія нікога, апрача сябе, не хочуць слухаць і не прымаюць ніякай чужой думкі, ніякіх довадаў.

Прапусціў нешта істотнае ў жыцці Давыдзюк. Чытаў лекцыі, вёў семінары і не заўважыў, што ў асяроддзі моладзі расце штосьці новае, не знаёмае ягонаму пакаленню. За адзін-два месяцы такое нарадзіцца не можа, яно спее доўга, спакваля, спадыспаду.

Давыдзюк выходзіць на ганак. Ён хоча ўлагодзіць натоўп, знайсці важкія, даверлівыя словы, каб яго паслухалі, пагадзіліся з ягонай думкай. Натоўп, аднак, сустракае Давыдзюка здзеклівымі выклікамі:

— Прыстасаванец! За шкуру дрыжыш…

— Кансерватар!..

— Далоў дырэктараў-цемрашалаў!..

Давыдзюк узбудзіўся, стаў крычаць сам і нарэшце пад лямант, выццё, свіст натоўпу сігануў у вестыбюль інстытуцкага будынка.

Нечакана з'явіўся ўзвод міліцыі…

Зрэшты, Давыдзюк разумее моладзь, якую бачыў на мітынгу. Ён сам быў такі. Двойчы ў жыцці: у акупацыйным горадзе і ў гады, калі асудзілі культ асобы. Дык што: прытамілі

сіўку высокія горкі? Не, штосьці іншае. Пастарэў Давыдзюк і сёе-тое стаў глыбей разумець. Ва ўсялякім выпадку не спадзяецца, што заўтра ці паслязаўтра наступяць дзівосныя перамены. Не наступяць. Доўгія гады трэба працаваць і змагацца. І каб не здарылася ў гэтыя гады чаго-небудзь горшага, чым мітынгі і зборышчы.

Вечар. У пакойчыку-мансардзе Давыдзюк чытае кнігу. За акном лютуе вецер. Свішча, часам проста вые. Праз акно відаць, як гойдаюцца ўправа-ўлева меднастволыя выносныя сосны. Пачынае сыпаць снег.

Давыдзюк чуе: унізе нехта настойліва стукае ў дзверы. Ён таропка спускаецца па крутой лесвіцы, варочае ў дзвярным замку ключом. На парозе — Калітка. Ён трымае ў руках газету.

— На, пачытай. Кузняцова рэабілітавалі. Тут ёсць кропля і нашых з табой заслуг.

Давыдзюк бярэ газету. Ён ніколі не верыў, што сакратар падпольнага гаркама партыі здраднік. Тым часам колькі было навалена, наварочана хлусні і фальшу вакол імені гэтага чалавека. Можа, таму і ў жыцці сёння неспакойна, што дарога да праўды такая пакручастая, доўгая і пакутлівая…

*1991*

## КРАЙ ПЯСЧАНЫ, БАЛОТНЫ

### I

Шэсць першых пасляваенных гадоў адпрацаваў Лявонік карэспандэнтам абласной газеты. Жыў у родным мястэчку, у бацькавай хаце, хоць рэдакцыя часам пасылала ў іншыя раёны.

Ён і ў вайну тут жыў, быў падпольшчыкам, вырваўся ў партызаны, затым васямнаццацігадовым хлопцам пайшоў на фронт.

Лявонік часта ўспамінае тыя адметныя, непаўторныя гады. Бо то была ягоная маладосць, летуценная і горкая, якой, аднак, не вернеш і не пераменіш. Маладосць скрашвае сабой нават благое, не надта вясёлае і радаснае…

Карэспандэнт жыве і працуе адзін. Над ім ніхто не стаіць, не камандуе. Таму трэба мець характар, волю, каб не разлайдачыцца, не праводзіць дні і тыдні ў бяздзеянні. Вядома, заданні з рэдакцыі ёсць, але залішне строга карэспандэнта ніхто не кантралюе. Можна адаслаць у рэдакцыю два матэрыялы на тыдзень, а можна і пяць.

Кожны дзень Лявонік наведвае рэдакцыю раённай газеты, райкам партыі, райвыканкам. Трэба адчуваць і лавіць тое, што толькі носіцца ў паветры. Раён аграрны, сельскагаспадарчы, і асноўны матэрыял трэба шукаць у вёсках. Лявонік так і робіць. Кожны тыдзень ён выбіраецца ў які-небудзь калгас. Транспарту мала, і найчасцей ён выдыбае пешкі. Ён прынёс з вайны яшчэ добры шынель з зялёнага англійскага сукна, моцныя ялавыя боты з высокімі халявамі і амаль новую лейтэнанцкую сумку. У сумку Лявонік кладзе стусік парэзанай на лісткі газетнай паперы і кавалак хлеба, каб пратрымацца дзень ці два. Карэспандэнт павінен быць незалежны і не напрошвацца ў госці да брыгадзіра ці старшыні калгаса.

Раён не надта выдатны. Мясціны то пясчаныя, зарослыя дробным хмызам, то паныла-балотныя, жураўліныя. У вёсках, якія немцы не спалілі (толькі трэцяя частка вёсак уцалела), густа прыткнуты адна да адной старасвецкія хаты з маленькімі акенцамі, збуцвелымі, пакрытымі зялёным мохам дахамі, вузкімі дварамі і гразкімі вуліцамі. Агульны іх малюнак не радуе. Цяжка ўявіць, што ў гэтых спарахнелых хатках, якія засталіся ад дзядоў і прадзедаў, можна наладзіць шчаслівае, светлае жыццё. А ў такіх хатках жывуць і настаўнікі, і аграномы, і іншая інтэлігенцыя, якую лёс загнаў на сяло.

У мястэчку весялей. Бо ёсць чыгунка, станцыя, каменная двухпавярховая школа, бальніца, Дом культуры ды і рух жыцця зусім іншы.

Найперш Лявонік завітвае ў рэдакцыю раённай газеты. Робіць газету смяшлівы, рухавы адказны сакратар Сяргей Шугай, у якога няма правай рукі. Але і левай ён добра спраўляецца пісаць заметкі, правіць карэктуру і, прыціснуўшы правым плячом тэлефонную трубку да вуха, занатоўваць розныя лічбы і факты, якія вывуджвае ў сельсавецкіх сакратароў і калгасных рахункаводаў. Цэлы дзень гучны, настойлівы голас і рогат Шугая пануе ў сценах рэдакцыі.

Рэдактар раённай газеты Бандарэнка, высокі, трохі сутулаваты, з худым аскетычным тварам, таксама піша ў газету, але толькі перадавыя артыкулы: «Падрыхтавацца да жніва», «Сабраць ураджай да апошняга зерня», «Выканаць план па нарыхтоўцы драўніны». У такім выпадку ён абкладваецца кіпамі падшывак, замыкаецца знутры і нікога ў свой кабінет не пускае. Найчасцей рэдактар прападае на раёне, куды райкам накіроўвае яго ўпаўнаважаным па розных кампаніях.

Жыве Бандарэнка тут жа, у рэдакцыі. Мае два пакойчыкі, размешчаныя насупраць свайго кабінета і пакоя адказнага сакратара. У доўгім, змрачнаватым калідоры стаіць на старым табурэціку керагаз, мяхі з бульбай. Тут жа завіхаецца вясёлая і смяшлівая жонка рэдактара. Яна праводзіць прыязным позіркам усіх болей-меней маладых мужчын, якія завітваюць у рэдакцыю, гатуе сняданкі і абеды. Таму ў рэдакцыйным калідоры заўсёды пахне паленай цыбуляй, часнаком, і пахі гэтыя змешваюцца з пахамі карасінавай гары, друкарскай фарбы, мокрай паперы. Доўгі калідор упіраецца ў дзверы друкарні, дзе стукаюць і грукаюць друкарскія машыны, выдрукоўваючы раённую газету і бясконцую колькасць бланкаў для розных раённых кантор, устаноў, а таксама для калгасаў і саўгасаў.

Жонка рэдактара — ладная, са зграбнай постаццю, добра развітымі жаночымі формамі — адчувае сябе ў тлуме і грукаце як рыба ў вадзе. Яна не толькі весела ўсміхаецца наведвальнікам рэдакцыі і друкарні, а часам уступае з імі ў размовы. Лявоніка яна таксама не абмінае сваёй увагай.

Вайна разлучыла рэдактара і ягоную шуструю жонку. Бандарэнку паслалі ў тыл, да партызан, а яго чырванашчокая, з гарэзлівымі вачамі сяброўка працавала вольнанаёмнай у ваенным гарадку, размешчаным у далёкіх казахстанскіх стэпах.

Рэдактар ходзіць хмуры, задуменны, заклапочаны. На гэта ёсць прычына. У абкаме партыі зацікавіліся некаторымі падрабязнасцямі яго біяграфіі. У нямецкі тыл яго паслалі восенню сорак другога года праз так званыя «віцебскія вароты» — дзірку, што ўтварылася ў лініі фронту. Ад Віцебска да Палесся дарога доўгая, небяспечная: наўсцяж нямецкія, паліцэйскія гарнізоны, засады.

Групу партызан застала зіма, яны начавалі дзе прыйдзецца, харчаваліся тым, што трапіць пад руку. У адным месцы немцы загналі партызан у балота. Бандарэнка адмарозіў ногі. Таму, сяк-так дабраўшыся да свайго раёна, вёскі, Бандарэнка паўгода прасядзеў у маці і толькі ў канцы мая наступнага года зноў далучыўся да партызан.

Цяпер гэта паставілі яму ў віну. Тое, што рэдактар у маці не проста сядзеў — лячыўся, ніхто не браў пад увагу. Пацвярджэння са шпіталя няма, а словам хто паверыць?

У тыя сёння ўжо далёкія першыя мірныя гады разважалі жорстка: Бандарэнка на ідэалагічнай рабоце, і ягоная анкета павінна быць чыстая, як шклянка. Па гэтай прычыне Бандарэнку з рэдактарства знялі, і ён стаў працаваць загадчыкам сельгасаддзела райвыканкама. Усё-такі недарэчнасць!.. Нібыта кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, якая людзей корміць, поіць, апранае, штосьці менш важнае, чым падпісванне газеткі, у матэрыялах якой гучныя заклікі, лозунгі і вельмі мала зямной, звычайнай праўды.

Дый каго паставілі на месца Бандарэнкі! Новы рэдактар Бізун, чырванатвары і ўкормлены, на вайне не быў, прасядзеў у тыле. Анкета ў яго чыстая, хоць праз лупу глядзі, не знойдзеш плямкі. А што ў дадатак да анкеты? Нічога. Новы рэдактар слізкі, падхалімісты, угодлівы і як рэдактар — ніякі. Бо пісаць зусім не ўмее. Нават перадавых артыкулаў, якія ўсё-такі з горам папалам складаў Бандарэнка.

Цяпер з напаўцёмнага калідора зніклі керагаз і мяхі з бульбай. Бізун далучыў да ранейшай кватэры яшчэ два рэдакцыйныя пакоі, абсталяваў кухню, залу, прабіўшы ў сцяне будынка асобны ўваход. На прасторным двары рэдакцыі выраслі два збітыя з аполкаў хлеўшкі. У адным стаіць карова, у друхім рохкае ладны вяпрук.

Рэдакцыйнага каня, а таксама конюха, які належыць рэдакцыі па штату, Бізун поўнасцю прыбірае да сваіх рук. Ён толькі тым і займаецца, што нешта дастае, прывозіць, мяняе, дбаючы пра ўласны дабрабыт. Нездарма быў загадчыкам сельпо. І вось з такой пасады — на рэдактара!

— Як добра, што я паехаў у эвакуацыю,— пахваляецца іншы раз Бізун.— Добра, што не паслухаў старшыні

райспажыўсаюза, які сам нікуды не паехаў. Дзе цяпер той старшыня?..

Лявонік ведае: старшыня райспажыўсаюза, які ў акупацыю нідзе не вытыркаў носа, пражыў як прусак у шчыліне, цяпер працуе прыёмшчыкам у адной з нарыхтоўчых кантор. Акупацыю, хоць нічым сябе не запляміў, яму не даравалі, як не даравалі нікому іншаму. На кіруючай раённай рабоце няма ніводнага партызана: адны загінулі на фронце, другія — паразбрыдаліся па свеце. Бо ў біяграфіі бадай кожнага партызана можна знайсці якую-небудзь плямку. Адзін з палону вырваўся, другі ў акружэнні быў, трэці дзе-небудзь пры немцах працаваў.

Першы сакратар райкама партыі Сматрыцкі Сымон Раманавіч — прысадзісты, ураўнаважаны, з круглым, як месяц, чарнявым тварам — чалавек неблагі. Ходзіць імкліва, вітаецца са знаёмымі не запыняючыся, звонку здаецца ганарыстым, непрыступным. Але гэта толькі звонку. На самай справе ён просты і абыходлівы. Стараецца ладзіць з людзьмі. У тым ліку з тымі, хто быў у акупацыі. Але не ад аднаго Сматрыцкага ўсё залежыць.

Раённы актыў — старшыні сельсаветаў, калгасаў, начальнікі розных кантор, райкамаўскія, райвыканкамаўскія работнікі — не ганяць першага сакратара. Ведаюць: у крыўду не дасць, пры выпадку нават заступіцца. За адно толькі падколваюць Сматрыцкага за вочы: ягоная жонка Рэвека Ізраілеўна суне нос не ў свае справы. Залішне падтрымлівае старшыню райспажыўсаюза Хаіма Хаскіна. Тым часам Хаскін — несусветны круцель і зладзюга. Нажываецца на вачах. У сельскія крамы, магазіны нічога не дае, усё пакідае ў раённым цэнтры, шчодра забяспечваючы бясконцых сяброў-прыяцеляў.

У сэнсе харчовага забеспячэння Лявонік у незайздросным становішчы. Загадчыкі аддзелаў абласной газеты і нават літработнікі там, у абласным цэнтры, атрымліваюць літар «Б» — спецыяльную картачку,— маючы якую можна някепска жыць. У раёне літараў няма, ёсць затое партактываўскі паёк. Але нават гэтага пайка Лявонік не мае. Бо ўсё залежыць ад волі Хаіма Хаскіна. Захоча — дасць бляшанку амерыканскіх кансерваў, не захоча — не дасць. Часцей за ўсё акрамя

буханкі хлеба на тры ці чатыры дні Лявонік нічога болей не атрымлівае.

Тым часам нават і з хлебам цяжка. Хлеб местачкоўцы ездзяць купляць у Заходнюю Беларусь. Там яго больш насеялі і намалацілі. Двойчы ездзіў па хлеб бацька Лявоніка. Прывёз два мяшкі жыта на тармазной пляцоўцы таварнага вагона. На гэтым хлебе жыве сям'я.

Лявонік марыць напісаць фельетон пра круцяля і жуліка Хаскіна. Толькі цяжка да гэтага тыпа падабрацца. Спрытна хавае канцы ў ваду. Тым часам карэспандэнт абласной газеты не губляе надзеі.

А жыццё ідзе…

Вось наступае і другое мірнае лета. Лявонік пакрысе асвойваецца са сваімі абавязкамі, пашырае кола знаёмстваў, ведае, у якім калгасе можна знайсці хоць збольшага станоўчы матэрыял, у якім — толькі адмоўны.

Адказны сакратар раённай газеты Сяргей Шугай ідзе на павышэнне. Яго вылучаюць першым сакратаром райкама камсамола. Якраз на месцы шустры, рухавы Шугай. Мітусіцца, носіцца па раёне, збірае камсамольскія сходы, праводзіць пасяджэнні бюро і пленумы райкама камсамола.

Лявонік ставіцца трохі скептычна да гэтай мітусніны. Ён не любіць людных зборышчаў, людскога тлуму, гармідару. Кожную вольную часіну выкарыстоўвае для чытання. Не мінае ніводнай новай кнігі, якую хваляць. Дый студэнт жа ён, няхай завочнік. Студэнту трэба як мага болей чытаць.

Аднойчы Сяргей Шугай затрымлівае Лявоніка ў сваім кабінеце, які выгодна адрозніваецца ад катушка, які займаў ён, калі быў адказным сакратаром раённай газеткі.

— Не вешай нос. Памагу тваім падпольшчыкам. Заслухаем вашу справаздачу і перададзім справу ў райкам партыі…

Другі мірны год хараша пачынаецца. Ідуць дажджы, і нават пасеянае на пясках жыта добра ідзе ў рост, выкідвае буйны колас. На тарфяніках жыта — у рост чалавека. Абяцаюць ураджай ячмені, авёс, проса, бульба, якая рана і густа залапушылася. Калі будзе хлеб, будзе і дастатак у хаце чалавека.

Сакратар райкама Сматрыцкі штодзень садзіцца ў абцягнуты брызентам «віліс», аб'язджае калгасы. Вандруе па

палях, аглядвае фермы. Хоча ўсё бачыць на ўласныя вочы. Сматрыцкага найбольш цікавяць нарыхтоўкі: як ідзе здача малака, мяса, яек, воўны, ці выконваюць калгасы планы здачы збожжа, бульбы, агародніны. Усё ясна: выканае раён нарыхтоўкі, на добры рахунак будзе запісаны і райкам, і ягоны першы сакратар.

Лявоніка іншы раз наведвае крамольная думка: усе супрацоўнікі раённых устаноў, у тым ліку Сматрыцкі — зборшчыкі падаткаў. Галоўнае для іх — зрабіць справаздачу перад вобласцю, рэспублікай. Здаць пастаўкі, ажыццявіць бясконцыя дэкады і месячнікі: па нарыхтоўцы драўніны, рамонту дарог, вывазцы ўгнаенняў. Як жывуць людзі, што атрымліваюць, напрыклад, на працадзень калгаснікі — іх цікавіць вельмі мала.

А вёска жыве дрэнна. Невыносна дрэнна. Абяскроўленая за вайну (палавіна, а то й болей мужчын палягла на фронце, загінула ў час розных карных экспедыцый, асабліва калі немцы палілі вёскі), вёска і цяпер нясе двайны ці нават трайны цяжар у параўнанні з даваенным часам. А падаткі якія агромністыя! Здай малако, мяса, яйкі дый грошай збяры немаведама дзе, бо на працадні іх зусім не даюць.

## II

Лявонік найбольш зблізіўся з другім сакратаром райкама Рыгорам Шурко, высокім, трохі сутулым, з добрым маршчыністым тварам. Шурко — вылучэнец дваццатых гадоў. Яшчэ тады падхапіў яго вецер перамен, і з таго, цяпер ужо далёкага, часу ён перабраў бадай усе пасады, якія існуюць у раёне: сакратар камсамольскай ячэйкі, загадчык хаты-чытальні, старшыня сельсавета, старшыня калгаса, інструктар райкама, загадчык райза…

Лявоніку здаецца, што ён і Шурко адзін аднаго добра разумеюць. Хоць пра многае не гавораць услых. Рыгор Ісакавіч — так завуць другога сакратара — горача верыць у сілу друкаванага слова. Можа, таму, што ніколі рэгулярна не вучыўся: скончыў процьму ўсялякіх курсаў, нават у камвузе трохі пабыў, але ўсё гэта без падпоры, без цвёрдага грунту, бо не скончыў нават звычайнай сямігодкі. «Галоўнае

ў марксізме — вучэнне аб дыктатуры пралетарыяту»,— гаворыць аднойчы Шурко. Лявонік схамянуўся: ён ужо скончыў два курсы ўніверсітэта, а такога яшчэ не чуў.

Выступае між тым Шурко бліскуча. Яго прамовы, поўныя гумару, дасціпнасці, заўсёды выклікаюць рогат залы і гучныя воплескі. На сходах актыву, пленумах райкама ён бязлітасна крытыкуе аднаго за адным старшыняў калгасаў, і можа здарыцца, што на ўвесь раён не застанецца ніводнага добрага...

Лявонік часта ездзіць з другім сакратаром райкама па калгасах. Няма ў раёне, бадай, ніводнай вёскі, у якой бы ён не пабываў. Старшыні калгасаў водзяць сакратара райкама па палях, паказваюць пасевы, новыя кароўнікі, цялятнікі, свінарнікі. Яшчэ вёска не разбягаецца, яшчэ маладыя мужчыны, маладыя хлопцы, дзяўчаты, хоць плату на працадзень атрымліваюць мізэрную, за родную хату і сядзібу трымаюцца моцна. Упаўнаважаныя па аргнабору, якія вярбуюць рабочую сілу ў Карэлію на лесараспрацоўкі, у Данбас — у шахты і проста ў гарады, нават у беларускія, вялікага поспеху не маюць. Мала знаходзяць ахвотнікаў ехаць у далёкі свет і там многа зарабляць...

То быў нейкі вышэйшы момант адданасці селяніна зямлі, і, на вялікі жаль, раёншчыкі яго прамаргалі. І не толькі раёншчыкі. Ніхто сур'ёзна не думаў ні аб развіцці вёскі, ні ўвогуле аб зямлі і яе гаспадарцы. Чакалі ўказанняў зверху. Газеты па-ранейшаму з нумара ў нумар друкавалі партрэты генералісімуса з вялікімі пагонамі на ўсе плечы і шырокай зоркай на іх. Генералісімус кіраваў усім, і сельскай гаспадаркай таксама.

Ведаючы востры язык Шурко, старшыні калгасаў сустракаюць яго гасцінна. Не выключана, што наогул паважаюць. Павадзіўшы па палях, фермах, новабудоўлях, калгасныя кіраўнікі наладжваюць пачастунак, і карэспандэнту тое-сёе перападае.

Толькі штосьці нядобрае заўважыў Лявонік. Шурко, не п'янеючы, п'е колькі наліваюць. Дзве, тры, іншы раз нават чатыры шклянкі гарэлкі выпівае. Пасля гэтага ў ягоных вачах пачынае свяціцца невыносны сум, ён змаўкае, нарэшце, пахістваючыся, выходзіць з хаты...

Лявонік адчувае: душа сакратара райкама партыі чымсьці надломлена. Што яе надламіла? Можа, гэтыя самыя калгасы? Гадоў дваццаць ездзіць ён па вёсках, вучыць старшыняў, як кіраваць арцельнай гаспадаркай, якія захады прымаць, а поспех тым часам невялікі.

У Лявоніка душэўнага надлому няма. Наадварот, ён на ўзлёце надзей. Дажджы ідуць у маі, чэрвені, і колас наліваецца буйным зернем. Будзе хлеб! Разам з хлебам зажытак, дастатак, новыя далягляды.

Душа карэспандэнта радуецца, і ў газеце адзін за другім друкуюцца ягоныя нарысы. Яны поўныя бадзёрасці, аптымізму, узвышаных пачуццяў.

Менавіта ў гэты час Лявонік атрымлівае першую ўзнагароду як аўтар. У райкаме партыі сакратаром-машыністкай працуе на дзіва прыгожая дзяўчына Волька Сіўчыкава. Карэспандэнт не памятае яе па школе: калі ён быў у дзясятым класе, яна, можа, вучылася толькі ў чацвёртым ці пятым.

— Мне падабаецца, як вы пішаце! — гаворыць аднойчы Волька, калі карэспандэнт завітвае ў прыёмную райкама.— З усёй абласной газеты я толькі вашы заметкі чытаю!

І зачырванелася як макаў цвет...

Лявонік удзячны Вольцы. Здаецца, толькі ў апошнія год-два гэтая ружа так чароўна расцвіла. Доўгія светлыя валасы, якія спадаюць на плечы, вытанчаны тварык, дзявочая зацятасць, далікатнасць. Відаць, нялёгка ёй сказаць словы, якія сказала...

Да апошняга часу Лявонік Вольку проста не заўважаў. Можа, сыграла тут сваю ролю не зусім добрая слава пра яе сям’ю, праўдзівей, пра маці, якая, па чутках, аднаго за адным прагнала трох мужыкоў.

Ёсць важная прычына, чаму Лявонік пакуль не хінецца ні да адной з дзяўчат. З вайны ён прыйшоў з непашкоджанымі нагамі, рукамі. Здаровы чалавек. Толькі гэта не зусім так. Ён паранены двойчы, у нагу і галаву, але ў шпіталі не ляжаў: раны былі нязначныя, проста драпіны. Ён і пасля кантузіі не быў у шпіталі, а толькі ў медсанбаце. На брустверы акопа разарвалася міна, нічога на целе не пашкодзіла, толькі з горла і носа пайшла кроў.

Кантузія і цяпер час ад часу нагадвае пра сябе: Лявонік зусім не адчувае пахі, часам у яго без прычыны кружыцца галава, а калі ён з кім-небудзь паспрачаецца ці засядзіцца на сходзе, то тады ўсю ноч не можа заснуць. Не пераносіць мнагалюддзя.

Лявоніка і дэмабілізавалі з-за ягонай кантузіі.

Цяпер прыбавілася новая бяда. Нядаўна Лявонік прайшоў медыцынскі агляд, і пасля рэнтгену ўрач размаляваў на спецыяльнай паперцы ягоныя лёгкія такімі плямамі, што было страшна глядзець. Ачаг на ачагу. Што можа быць, калі на лёгкіх такія плямы? Справа вядомая — туберкулёз...

Да сваёй грознай хваробы Лявонік, аднак, аднёсся на дзіва спакойна. Доктар загадаў есці паболей масла, сала, піць яйкі, з’ездзіць на поўдзень у санаторый. Толькі дзе цяпер возьмеш масла ці сала? Лявонік есць што прыйдзецца, замест поўдня з’ездзіў на завочную сесію, скончыў другі курс універсітэта. Ён нават курыць не кінуў.

Вось чаму да дзяўчат карэспандэнт ставіцца стрымана. Яшчэ трэба паглядзець, як будзе развівацца ягоная хвароба. Тым болей што носіць ён у сабе і душэўную рану.

Рану нанесла аднакласніца Лявоніка, няўрымсліва-вогненная Таня Гардзейка, славутая школьная спявачка і танцорка. Многа хлопцаў, таварышаў Лявоніка, захаплялася ёю. Ён глядзеў на яе толькі здалёк. Ён, можа, ніколі б не падышоў да Гардзейкі першы, але так здарылася, што падышла яна. У перадапошні школьны год, за год да вайны, быў сумесны баль дзевяцікласнікаў і дзесяцікласнікаў. На гэтым балі прысутнічалі два лейтэнанты, якія самі нядаўна скончылі па дзесяць класаў. Каля Тані завіхаўся асабліва прыгожы лейтэнант, высокі, стройны, з блішчастымі рамянямі, чырвонымі кубікамі на чырвоных пятліцах, рыпучымі хромавымі ботамі. Але, відаць, з-за нечага пасварылася Таня Гардзейка са сваім лейтэнантам. Яна сама запрасіла Лявоніка на вальс і тут жа папрасіла, каб ён праводзіў яе дамоў.

З гэтага пачалося...

Калі гаварыць шчыра, то толькі пачалося, бо ніякага далейшага працягу не было. Яшчэ цэлы год вучыўся Лявонік разам з Таняй. Ён зрэдку даваў ёй здабытыя ў жорсткай барацьбе кнігі, яна іх вяртала, нават не гаворачы,

ці спадабалася ёй што-небудзь. Высокая, гнуткая, смяшлівая Таня як бы прыглядалася да яго, не могучы канчаткова рашыць, ці хіліцца да яго яе няўрымслівае сэрца.

У дзясятым класе школьнага балю не было: пачалася вайна.

Таня знікла з мястэчка: яе бацька, дырэктар рускай сямігодкі, падаўся з сям'ёй у эвакуацыю.

Да самай дэмабілізацыі, вяртання дамоў Лявонік Таню Гардзейку не бачыў. Хоць успамінаў яе часта, і ўспамін гэты нараджаў у грудзях шчымліва-салодкае пачуццё. Знаходзячыся на фронце, ён нарэшце адшукаў яе адрас і, напісаўшы некалькі пісем, два ці тры атрымаў у адказ. Ва ўсялякім выпадку, ён ведаў, што Таня ў вайну час дарам не губляла, скончыла скарочаны курс (за тры гады) музычна-педагагічнага інстытута. Пра музычны ды яшчэ пра педагагічны інстытут ён не меў ніякага ўяўлення.

Лявонік прыбыў у мястэчка хмурым снежаньскім днём, чорны ад сажы і з вывіхнутай рукой. Руку ён пашкодзіў, узбіраючыся на тэндар паравоза, на якім прыйшлося адольваць значную частку дарогі. Гэта быў звычайны малюнак для таго часу: салдаты-пераможцы ехалі ў вагонах і на вагонах, на паравозах і нават на цыстэрнах.

Тані ў мястэчку не было: працавала выкладчыцай музычнага вучылішча ў недалёкім гарадку, размешчаным на Дняпры. Яна з ім сустрэчы не шукала. Ён таксама стараўся пра яе не думаць.

## III

Лета харошае, ураджай добры.

За агародам Лявоніка, як грыбы пасля дажджу, выраслі розныя нарыхтоўчыя базы. Там і прыёмны пункт «Заготзбожжа». Перад варотамі гэтай вялікай, складзенай з гладкага сасновага цёсу будыніны заўсёды доўгі цуг аўтамашын. Прыёмшчыкі не адразу бяруць збожжа. Правяраюць на вільготнасць, на засмечанасць, на наяўнасць кляшча. Калгасныя дзяўчаты па гэтай прычыне часта начуюць каля нарыхтоўчай базы. Рассыпаўшы зерне на разасланым брызенце, дасушваюць яго, пералапачваюць, веюць, ачышчаюць ад насення пустазелля.

За кілаграм зерня дзяржава плаціць калгасам толькі дзве капейкі. Нават перавозка збожжа з калгаса на базу не пакрываецца такой платай.

А восень прыгожая. Мяккая, ціхая. Па-летняму ўзыходзіць сонца, цяпер ужо ласкавае, негарачае. Сінім хістка-няпэўным святлом асмужаны далі.

Лявонік ездзіць па раёне. Як раней, часцей за ўсё з сакратаром райкама Шурко. Аглядваюць новыя кароўнікі, цялятнікі, свінарнікі. Жыццё пакрысе наладжваецца. Але толькі пакрысе. Нягледзячы на добры ўраджай, не шмат атрымаюць калгаснікі на працадзень. Па паўкілаграма, кілаграму нават у перадавых калгасах, дзе добра далі збожжа на аванс.

Лявонік тоіць у сабе думку, якой баіцца падзяліцца з Шурко. З пачаткам вайны ў сорак першым годзе на ўсход пагналі калгасных коней, жывёлу, трактары, павезлі іншую тэхніку. Але толькі першы год акупацыі галадалі, недаядалі людзі. На другі год, не маючы ні трактароў, ні коней, хлеба нарабілі. Капалі зямлю рыдлёўкамі, аралі на каровах. Дый да другога акупацыйнага лета маладых лашачкоў падгадавалі.

Частку вырашчанага збожжа ў местачкоўцаў ды і ў жыхароў бліжэйшых вёсак, якія не кантраляваліся партызанамі, адбіралі немцы. Але і сабе людзі хлеб прыхоўвалі. Значыць, за адзін год, за адзін добры ўраджай можа селянін забяспечыць сябе хлебам. То чаму ж не можна зрабіць гэта ў калгасе, дзе ёсць сякая-такая тэхніка, аграномы вучаць, як сеяць, даглядаць пасевы і работа гуртавая?

Вёска ў вайну жыла аднаасобным жыццём. Але яна добра ладзіла з партызанамі, якія нібы прадстаўлялі савецкую ўладу. Ні ў чым не мелі недахопу партызаны. Вёска забяспечвала іх хлебам, салам, мясам і нават самагонкай.

На Спаса Лявонік з Шурко трапляюць у вялікае сяло Дабрынічы, якое налічвае амаль чатырыста двароў. Калгас тут сярэдні — не бедны і не багаты,— хоць зямля ўрадлівая.

Старшыня калгаса ў Дабрынічах, някідкі постаццю і тварам, беспартыйны Адам Уласенка. Ён вельмі баіцца начальства. Калі толькі пачуе, што едзе хто-небудзь з раёна, хаваецца. Часцей за ўсё сігае ў каноплі, пасеяныя паблізу калгаснай канторы. Вывесці яго адтуль можа толькі давераны

чалавек — калгасны рахункавод. Ён ведае ўсе старшынёвы хованкі.

Шурко Уласенка не баіцца. Паколькі Спас у Дабрынічах — прастольнае свята, то Уласенка Шурко і Лявоніка нават у госці запрашае. Не да сябе — да старшыні мясцовага сельпо.

Лепш бы ён не задумваў такія госці! Сельпоўскі начальнік, пухлы, з бабскім тварам і з жыватом нібы начоўкі, паставіўшы на стол паўлітэрку і вельмі небагатую закуску, адразу пачынае вытаргоўваць сабе розныя прывілеі. Вось яму дроў не адпускаюць, і трэба, каб сакратар райкама пазваніў у лясніцтва. Спажыўсаюз у мінулым квартале не выдзеліў Дабрынічам ніводнага жаночага паліто. Не дае ніякага абутку. І яшчэ, і яшчэ…

Нібы з лазні, выскокваюць Шурко і Лявонік з ладнага, пад чарапічным дахам дома мясцовага гандляра. Якія ёсць на свеце брыдкія людзі!..

А ўвогуле дабрыніцкія тубыльцы Шурко і Лявоніка ўвагай не абмінаюць. Пачынаюцца пярэзвы — з двара ў двор. І ў кожнай хаце гасцей з раёна чакае добры пачастунак: вяндліна, катлеты, мяса варанае і смажанае, розныя коржыкі і аладкі, траска, прыпраўленая грыбамі, і мяккая, хлебная, ад якой ніколі не баліць галава, самагонка.

Ноччу Шурко і Лявонік прачынаюцца ад гучнага мычэння кароў, іржання коней. Шурко кідаецца шукаць Уласенку.

— Ах, гадаўё! Яны ж жывёлу не кармілі, не паілі. Мабыць, і кароў не падаілі…

Вось такія адносіны да грамадскай жывёлы ў адносна неблагім калгасе. А што гаварыць пра калгасы адсталыя, закіданыя…

У раёне часта збіраюцца сходы партактыву, пленумы райкама, сесіі райсавета, розныя нарады. І ўсё гавораць, гавораць мясцовыя начальнікі на гэтых нарадах і сходах. Можа, па гэтай прычыне ў душы Лявоніка нараджаецца адчуванне нерэальнасці, хісткасці навакольнага жыцця. Нібы ў бясконцых словах, спрэчках, разважаннях хочуць утапіць справу раённыя кіраўнікі. Нібы не матэрыялісты яны, а ідэалісты. Справу падмяняюць словам і лічаць, што гэта добра.

Ярчэй за ўсіх выступае другі сакратар райкама Шурко. Ён валодае добрым запасам гумару, дый наогул яму ўласцівы народны, сялянскі погляд на свет. Але пасля яркіх прамоў Шурко справа наперад таксама асабліва не пасоўваецца. Усё застаецца як было…

Над свядомасцю Лявоніка вісіць нядаўняя вайна, праўдзівей, тое, што ў вайну адбылося. Спачатку былі паражэнні, адступленні, а потым перамога. Можа, і ў мірным жыцці дзейнічае такі самы закон, думае Лявонік. Вёскі спалены, гаспадарка вынішчана, міне год-два, і ўсё пойдзе на лад. Ніхто ж не мае дакладнага чарцяжа, як будаваць новае жыццё…

Відаць, не адзін ён так думае.

Пра сваю хваробу Лявонік стараецца не ўспамінаць. Якраз гэтай восенню ён сфатаграфаваўся, і на фотакартцы ягоны твар не паказвае ні на якую хваравітасць. Якраз наадварот: нібы дыша здароўем і ўнутраным спакоем.

Тым часам Лявоніка не пакідае адчуванне несапраўднасці, выдуманасці навакольнага жыцця. Ён ездзіць не толькі па сваім раёне. Пасылаюць яго ў камандзіроўкі фактычна ледзь не ва ўсе раёны вобласці. Ён піша карэспандэнцыі, нарысы. Паяўляюцца яны ў газеце зусім не такімі, як іх напісаў карэспандэнт. Загадчык аддзела іх правіць па-свойму, дадае сёе-тое ад сябе адказны сакратар і нават рэдактар. Яны як бы загадваюць душой карэспандэнта.

Крытычных матэрыялаў у газеце многа, але крытыка, як здаецца Лявоніку, вядзецца зусім не ў той бок, у які трэба. Крытыкуюцца ў асноўным рознага ўзроўню кіраўнікі, якія не арганізавалі як належыць справу. Нібы адны яны вінаваты. І ніколі не гаворыцца праўда: калгаснікі не хочуць працаваць на полі, на фермах, бо ім вельмі мала плацяць. Часам зусім нічога не даюць.

І ўжо пачынаецца адыход з калгаса. Людзі ўладкоўваюцца на чыгунку, на якія-небудзь іншыя прадпрыемствы. Моладзь кіруе ў гарады…

І гэтага таксама як бы не хочуць заўважаць ні раённыя, ні абласныя кіраўнікі. Чакаюць указанняў зверху. Толькі гэтым і жывуць. Хоць самі па сабе людзі неблагія. Ёсць нават разумныя, дасціпныя. Але глядзяць на жыццё нібы праз

нейкія шоры. Калі гаварыць шчыра, Лявонік ад іх таксама не далёка адышоўся.

Няма ўнутранага спакою ў душы Лявоніка. Ратуе яго адно: універсітэт. Два разы ў год за кошт адпачынку ды яшчэ двухтыднёвага неаплачанага водпуску ездзіць у Мінск і там на завочных сесіях жыве зусім іншым жыццём. Вярнуўшыся, тыдзень ці нават болей ходзіць пад уражаннем лекцый, экзаменаў, сустрэч з такімі ж, як сам, завочнікамі.

Да сесій Лявонік як бы нават не рыхтуецца. Дый няма па чым рыхтавацца: для ўніверсітэтаў, інстытутаў падручнікі яшчэ не напісаны. Ён проста многа чытае. У тым ліку артыкулы па мовазнаўству, філасофіі, палітэканоміі, якія друкуюцца ў спецыяльных часопісах. Дзень аддае газеце, вечар, як гавораць на сходах,— рабоце над сабой, палавіну ночы — літаратуры. Ён чытае літаратурныя навінкі, пра якія дазнаецца з рэцэнзій у газетах і часопісах, зарубежных пісьменнікаў, якіх не паспеў прачытаць да вайны. Ён выпрацаваў самадысцыпліну, строгі рэжым і няўхільна яго выконвае.

У рэдакцыі на Лявоніка не скардзяцца. Ён піша за месяц з дзясятак сваіх матэрыялаў і столькі ж арганізоўвае. Арганізаваныя артыкулы таксама сам піша, бо ні старшыні калгасаў, ні аграномы, ні заатэхнікі, ні раённыя работнікі пісаць у газету або не хочуць, або не ўмеюць.

І звоніць у рэдакцыю Лявонік амаль кожны дзень, калі ён на месцы, не ў ад’ездзе, бо трэба перадаваць і аператыўную інфармацыю. Квіткі за тэлефонныя перамовы ён акуратна збірае, хоць бухгалтэрыя не заўсёды іх аплачвае.

Адно задавальненне мае карэспандэнт: часта бачыць сваё імя надрукаваным. Кожны новы дзень ён фактычна пачынае з таго, што ідзе на пошту, купляе свежы нумар абласной газеты і шукае вачамі свае матэрыялы. Ад гэтага ў некаторай меры і настрой ягоны залежыць.

Вечарам Лявонік ідзе на станцыю. Каб быць прыстойным карэспандэнтам, трэба не толькі аператыўна, добра пісаць, але яшчэ ўмець перадаваць матэрыялы ў рэдакцыю. Бо запознены матэрыял — не матэрыял. Без ніякага шкадавання загадчык аддзела кіне яго ў карзіну. Таму Лявонік шукае на станцыі асоб, якія едуць у абласны горад. Сярод чыноўнага

люду амаль заўсёды ёсць чалавек, які з раённай канторы едзе з якой-небудзь справаздачай у абласную.

Лявонік просам просіць такога чалавека ўзяць ягоны матэрыял і аднесці ў рэдакцыю. Адмовы карэспандэнт амаль не ведае. Людзі бяруць пухлыя канверты, дастаўляюць па адрасу, тым болей што ўсе болей-меней значныя абласныя ўстановы, у тым ліку рэдакцыя, размешчаны на адной Ленінскай вуліцы.

І ўсё адно жыве ў душы Лявоніка нездавальненне сабой, сваёй работай. Да вайны, вучачыся ў школе, ён наймаўся ў рамонтную брыгаду. Там, як цяпер ён успамінае, было нешта сапраўднае. Раніцай да ўсходу сонца ён уставаў, таропка паснедаўшы, узяўшы з сабой полудзень, бег у пуцейскую казарму, з казармы рамонтнікі разыходзіліся на розныя ўчасткі. Часам работа была цяжкая: разгонка рэек, падбіўка баласту пад шпалы ці разгрузка з платформаў таго самага баласту. Але работа была гуртавая, вялася са смехам, рогатам, узаемным падколваннем. Стомлены, знясілены Лявонік вяртаўся з чыгункі з пачуццём выкананага абавязку. Ён добра спаў, усмак еў. Гэтае самае было ў арміі і нават на фронце.

Цяпер, бывае, галава баліць з раніцы, няма ніякага апетыту, а тут яшчэ трэба садзіцца пісаць нудны, нікому не патрэбны артыкул. Лявонік адчувае: людзі ніколі не хваляцца, не расказваюць адзін аднаму, як яны выконвалі тую або іншую работу. Рабілі яе, і ўсё. А ў матэрыялах, якія піша Лявонік, брыгадзіры, напрыклад, падрабязна расказваюць, як яны пачыналі барацьбу за ўраджай, як вывозілі ўгнаенні, аралі, сеялі, даглядалі пасевы…

Хлусня ўсё гэта! Ніколі ў жыцці так не бывае. І гэтай хлуснёй займаецца Лявонік, звычайны местачковы хлопец, які ведае жыццё, вырас сярод простых людзей і ад гэтых людзей адрозніваецца тым, што праглынуў некалькі соцень кніг, якіх яны, калгаснікі, стрэлачнікі, пуцявыя абходчыкі, увогуле не чыталі.

Але і ва ўсіх іншых газетах пішацца іменна так. Лявоніку часам здаецца, што нехта нябачны, далёкі, як Бог, хоча заснаваць жыццё па кніжных тэорыях. Ён, гэты невядомы, падняўшыся на вялізных драўляных хадулях, глядзіць на жыццё зверху ўніз, на звычайную грэшную зямлю з

паднябесных высяў. З такой вышыні, вядома, падрабязнасці жыцця і нават яго змест заўважыць цяжка.

Выдуманае жыццё… Гэтая думка даволі часта наведвае Лявоніка. Іменна выдуманае, нерэальнае, несапраўднае апісваецца не толькі ў газетах, але і ў мастацкіх творах.

Думкі прыходзяць і знікаюць, не пакідаючы прыкметнага следу. Зрэшты, Лявонік сам мерае жыццё вельмі высокімі меркамі. Таму ён амаль заўсёды самотны. Бо мала ёсць у мястэчку, вёсках куткоў, мясцін, якія б нагадвалі хоць бы тое, што ён бачыў пад час вайны ў Германіі, Чэхаславакіі. Многае робіцца неахайна, як бы на скорую руку. І нішчыцца тое, што падаравала чалавеку прырода. Апошнія сасновыя бары, дубовыя гаі зводзяцца. Паўстаюць на папялішчах някідкія, убогія вёскі, і знікаюць навакольныя лясы. То чаму б не паспрабаваць будаваць хаты, гаспадарчыя будынкі з цэглы. Як усюды на Захадзе. Чаго-чаго, а гліны ўсюды хапае.

## IV

Лявонік — студэнт чацвёртага курса. Завяршыўшы трэці курс, у анкеце можна пісаць пра незакончаную вышэйшую адукацыю. Але справа не ў анкеце. Паступаў Лявонік ва ўніверсітэт не толькі дзеля таго, каб атрымаць дыплом. Хацеў атрымаць адказ на ўсе балючыя пытанні, якія ўзнікаюць, відаць, у многіх людзей. Што такое жыццё, чалавек, дзеля чаго чалавек жыве?..

Дацэнт, які чытае дыялектычны матэрыялізм, худы, чорны і, па ўсім відаць, змыслы, пачуўшы пытанні Лявоніка, усміхнуўся:

— Жыццё ў біялагічным сэнсе — форма існавання бялку,— адказаў.— Так сцвярджае Энгельс. Чалавек — біялагічная істота. Але адначасна і сацыяльная. Чалавек жыве для грамадскіх мэт…

— Мы — бялкі! — выгукнуў нехта са студэнтаў, і выкладчык не паспеў завяршыць сваю думку, бо аўдыторыя дружна зарагатала.

Дыялектычны матэрыялізм, які сцісла выкладзены ў чацвёртым раздзеле «Кароткага курса ВКП(б)» і ў тоўстым, ледзь не кілаграмовым падручніку па гэтым прадмеце,

Лявонік асвоіў без асаблівай цяжкасці. Іншая справа — не дае дыялектычны матэрыялізм адказу на пытанні, якія даўно ўзнікаюць у душы. Можа, для вытлумачэння з'яў нежывой прыроды і падыходзіць гэтае вучэнне. Напрыклад, вада закіпае толькі пры ста градусах па Цэльсію, і, значыць, справядліва сцверджанне аб раптоўным пераходзе колькасных паказчыкаў у паказчыкі якасныя. Але што такое прыгажосць, хараство, каханне, узвышаныя пачуцці — на гэтыя пытанні, здаецца, не можа адказаць ні матэрыялізм дыялектычны, ні гістарычны.

Бываючы ў Мінску, Лявонік не прамінае выпадку схадзіць у тэатр. Ён паглядзеў спектаклі па некалькіх вядомых п'есах, у тым ліку «Гамлета» ў пастаноўцы Віцебскага тэатра. Глядзеў «Мяшчане», «На дне» М. Горкага, «Ліса і вінаград» Фігерэйда — усё гэта ў выкананні артыстаў драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Ёсць і ў Беларусі добрыя артысты і добрыя тэатры.

У абласны горад і нават у мястэчка завітваюць музычна-драматычныя і проста драматычныя тэатры з Украіны. Дзякуючы ім Лявонік патроху знаёміцца з украінскай класікай.

Сяргей Шугай, першы сакратар райкама камсамола, пастараўся ўвесці Лявоніка ў склад пленума і нават бюро райкама камсамола. Не хіліцца, аднак, Лявонік да бясконцых паседжанняў і прамоў. Шугаю, наадварот, ягоная пасада, па ўсім відаць, вельмі падабаецца. Ён увесь у руху, у дзеянні і аж кіпіць ад узбуджэння.

Аднойчы Шугай запрашае Лявоніка ў сваю вёску Кукуеўку. Вёску ягоную Лявонік бачыў яшчэ ў партызанскія часы: спаленую, з як папала раскіданымі гурбачкамі зямлянак.

З дзяцінства памятае Лявонік гісторыю, звязаную з Кукуеўкай. Быў галодны трыццаць трэці год, і маці Лявоніка, запрогшы каня, паехала ў Кукуеўку па бульбу. Тым болей што ў гэтым сяле працаваў сваяк, муж роднай матчынай сястры. І не проста працаваў — быў старшынёй калгаса.

Час надарыўся асенні: дні кароткія, ночы доўгія. Маці бясконца расказвала пра сваю паездку ў Кукуеўку. Якіх толькі страхаў яна ў дарозе не нацярпелася, якія незвычайныя прыгоды не перажыла.

Тады, у дзяцінстве, Лявонік думаў, што да Кукуеўкі сама меней — вёрст сто. Аказалася, толькі дваццаць пяць. Маці

неаднойчы паўтарала, што ў дарозе яе засцігла ноч, і па якой дарозе ехаць, яна не ведала. Таму даверылася каню: няхай вязе, скаціна дарогу адчувае.

Высветлілася: дарога з Кукуеўкі ў мястэчка адна — разбітая, пясчаная, з глыбокімі каляінамі-выбоінамі. Развілак, скрыжаванняў на ёй няма, і конь, вядома, нічога не шукаючы, клыпаў у адзіным напрамку. Тады, калі маці ездзіла ў Кукуеўку, наўзбоч дарогі разлягалася бясконцае дрыгвяністае балота. Тут маці можна паверыць: палохаў яе свіст ветру ў трыснягах, які, можа, здаваўся ёй перасвістам нядобрых людзей, што грабяць неасцярожных падарожнікаў. Магчыма, чула маці воўчае выццё, і гэта выццё сапраўды магло падганяць каня…

З дзяцінства запомніў Лявон Кукуеўку, і вобраз сяла нёс у сабе рысы таямнічасці, загадкавасці. Сяло, аднак, вельмі звычайнае: раскіданыя на пясчанай выспе хаткі, пастаўленыя на суцэльным пажарышчы. Навокал балота, цяпер ужо асушанае. Так званы тарфянік. Сотні, тысячы гектараў асушаных балот чамусьці не прыбавілі багацця шматлікім навакольным калгасам, і ні адзін з іх нічым не адрозніваецца ад гаспадарак, якія тарфянікаў не маюць. Тая самая беднасць, убогасць, панылыя аднастайныя мясціны. Не натхняе Лявоніка нізінны балотны край, і можа, таму ён нічога асаблівага не піша. Паэт-песеннік, які прыязджаў гады два таму назад у мястэчка і якога частавалі Лявонік з Шугаём, паездзіўшы па раёне, сказаў на развітанне мясцовым газетчыкам: «Не зайздрошчу вам, браткі. Жывеце ў балотнай дзюры. Вот ездзіў, ездзіў, а напісаць нечага. Бо нішто не радуе вока. Жураўліныя мясціны. Узвышаныя пачуцці нараджаюцца, калі бачыш разлітую навокал прыгажосць. А дзе тут прыгажосць? Пясок ды шэры тарфянік. Нават лесу няма…»

Шугаёва вёска Кукуеўка можа найлепш ілюстраваць паэтаву прамову. Глядзець тут нечага. Балоты, загончыкі бульбы на прысядзібных участках, ніцыя вербы на вуліцы. Вечарам Сяргееў дзядзька, старшыня мясцовага калгаса, такі ж прысадзісты, чырванатвары, з хітрымі шэрымі вачамі, паставіў пляменніку і заезджаму карэспандэнту паўлітра самагонкі, даў павячэраць. Пераначаваўшы ў Шугаёвай хаце, раніцай Лявонік Сяргея не ўбачыў. Сакратар райкама

камсамола сігануў у мястэчка адзін, хоць напярэдадні ўгаворваўся вяртацца ў раённы цэнтр разам з карэспандэнтам.

У грудзях Лявоніка варухнулася нядобрае пачуццё да Шугая. Аднарукі кар'ерыст. Адчувае сябе персонай больш значнай, чым карэспандэнт абласной газеты. А сам апрача шаблонных заметак, што не грэюць ні душу, ні цела, ці казённых камсамольскіх пратаколаў, якімі займаецца цяпер, нічога напісаць не ўмее.

Ідучы дарогай, па якой гадзіны дзве назад шпарыў у мястэчка Шугай, Лявонік бачыць сляды ягоных маленькіх, нібы дзіцячых, чаравікаў. Чаравікі маленькія, а крокі шырокія. Ірвецца ў жыццё Шугай.

Знайшоўся чалавек, які здолеў-такі апаэтызаваць сумныя балотныя мясціны. Чалавек гэты член Саюза пісьменнікаў і карэспандэнт «Праўды» Міхальцоў. З Міхальцовым здарылася няшчасце: нёсся на катэры па Прыпяці, і катэр наляцеў на падводны камень. Экіпаж, два ці тры абласныя начальнікі, якія суправаджалі карэспандэнта, загінулі, а ён уцалеў. Добра ўмеў плаваць. Дабраўся да берага, з тыдзень паляжаў у бальніцы, затым заехаў у раён, дзе жыве Лявонік.

Возіць высокага карэспандэнта па раёне той жа самы Шурко. Ён умее вазіць высокіх гасцей, умее паказваць лепшае. Дзён праз дзесяць «Праўда» адзін за адным друкуе пяць нарысаў пад назвай «Пяскі і хлеб». Відаць, рэдакцыя хоча аддаць належнае свайму мужнаму карэспандэнту, які, трапіўшы ў адчайнае становішча, выйшаў з яго з гонарам. Дый самі па сабе нарысы выдатныя. Пісаць так Лявонік яшчэ не ўмее.

У нарысах усё праўда: знаёмыя краявіды, назвы вёсак, калгасаў, прозвішчы старшынь калгасаў, брыгадзіраў, паляводаў. І прозвішча сакратара райкама Шурко мільгае некалькі разоў. Лявонік радуецца за Шурко: цяпер аб ім будзе ведаць уся краіна. Ён сапраўды выдатны чалавек і арганізатар адменны.

Міхальцоў піша пра трэці пасляваенны ўраджай. Ён багаты, як і мінулагодні. Шчодра ішлі дажджы, і ўсюды па пясках, шэразёмах жыта ў рост чалавека. Лепшыя калгасы далі на працадзень па тры кілаграмы зерня. Значыць, будзе зажытак, канец нэндзе, убогасці.

Ніякі не канец! Лявонік ужо мае вопыт. Аванс па тры кілаграмы раздзеляць на ўвесь год, і дай Бог, каб атрымалася на працадзень хоць па кілаграму. Усё збожжа, нават насеннае, адвязуць у мястэчка, на нарыхтоўку. Высокі ўраджай, як пераконваецца Лявонік, мала ўплывае на дабрабыт земляробаў. Бо самі яны ім не распараджаюцца…

Мінуў год. Тая самая «Правда» выступае за ператварэнне вёсак і сёл у аграгарады. Мікіта Хрушчоў, відны дзеяч, змясціў на яе старонках такі артыкул. Ды гэта ж нейкае асляпленне! Няўжо там, наверсе, высокія кіраўнікі нічога не бачаць? Як могуць ператварыцца ў аграгарады пабудаваныя на жывую нітку на пажарышчах бедныя вёскі ўдоў? І хіба лепшае становішча ў спарахнелых вёсках, якія ў вайну ацалелі?

А жыццё ідзе…

Волька Сіўчыкава, райкамаўская сакратарка і машыністка, напярэдадні свята Кастрычніка наладжвае вечарынку. Нібыта хоча Волька адзначыць дзень нараджэння. Ёй спаўняецца васямнаццаць гадоў.

— Будзе мая Волька! — запэўнівае Лявоніка сакратар райкама Шугай.— Не вырвецца ад мяне. Не ўцячэ…

Вечарынка ў доме Вольчынай маці. Хата на дзве палавіны. Усё чыста, прыбрана. Адчуваецца, што ў хаце жыве дзяўчына.

Лявонік падараваў Вольцы вялікага рудога ліса. Спецыяльна купіў у Мінску, калі быў на сесіі. Дзяўчына так узрадавалася падарунку, што ўся запунсавела, а на яе прыгожых вачах аж слёзы выступілі.

Вечарынка скончылася танцамі пад патэфон, і Лявонік пайшоў дахаты. Увесь вечар ён танцаваў з Волькай, хоць на душы было трывожна. Ён ведаў пра намер Шугая.

Шугай між тым застаўся.

Назаўтра яго на рабоце не было. Не было і праз дзень. Тым часам пачаліся Кастрычніцкія святы.

Лявонік пайшоў да Сяргея дамоў. Над дамком-лазенькай трапятаў на ветры вялікі чырвоны сцяг. Такія сцягі вывешвалі першы сакратар райкама партыі, старшыня райвыканкама. Шугай, відаць, лічыў, што ён таксама мусіць вывешваць вялікі, нібы афіцыйны, сцяг.

Зірнуўшы на шырокі, да немагчымасці абдзёрты твар Шугая, Лявонік зразумеў усё. Малайчына Волька! Умее за сябе пастаяць. Пра яе адчайнае супраціўленне гаварылі бясконцыя драпіны, пісягі на шчоках, ілбе, з-за якіх Шугай і не паказваўся на людзях.

Праз месяц-два завітаў у мястэчка паэт-песеннік, які прыязджаў колькі гадоў назад. На гэты раз ён з’явіўся ў малую хатку Шугая з бутэлькай гарэлкі ў партфелі і са скруткам добрай мінскай каўбасы.

— Жывём, браткі,— прывітаў ён сваіх знаёмых.— Жыццё наладжваецца. Можа, чулі маю новую песню?..

Песню чулі. Яна Лявоніку падабаецца. Паэт з выгляду грубаваты, не падобны на інтэлігента, а словы для песні знайшоў харошыя:

Ой, мяцеліца, ой, мяцеліца,
Усе дарожкі замяла,
Як мне з міленькім на вяселейка,
Ехаць з вёскі да сяла…

— Толькі нейкая мітрэнга, хлопцы, пачынаецца,— паведаміў паэт-песеннік.— Лаюць мэндэлістаў-марганістаў, шукаюць новых ворагаў. Давайце вып’ем, каб усё хутчэй мінулася…

Выпілі. Толькі ліха не абышлі і не аб’ехалі. Прайшло два-тры дні, і знялі з пасады сакратара райкама Шурко. За тое, бадай, самае, за што некалі рэдактара Смагаровіча: позна ўступіў у партызаны. Хоць тое, што партызанаў у раёне, дзе жыў Шурко, да сорак трэцяга года не было, ніхто не бярэ пад увагу.

Сакратару райкама камсамола Сяргею Шурко таксама не ўдалося зрабіць добрую справу: зацвердзіць местачковае падполле. На яго самога напісалі ананімку, што, перш чым пайсці ў партызаны, ён месяц ці два працаваў настаўнікам.

Вызвалілі з пасады Шугая імгненна. Збянтэжаны, зняважаны, ён падаўся кудысьці ў дальні сельсавет, у школу.

*1991*

## ПЕНСІЯНЕРЫ МЯСЦОВАГА ЗНАЧЭННЯ

Бухман ніколі не думаў, што будзе гэтак хваляваецца. Ён спыніў «Жыгулі», затым вылез з машыны перад будынкам райкама партыі, аддзеленым ад вуліцы прысадамі старых акацый. Побач з райкамам стаіць доўгі, пафарбаваны ў зялёны колер магазін, вельмі падобны да таго, які стаяў на гэтым жа месцы да вайны: два ганкі, дзве зусім самастойныя гандлёвыя ўстановы. З правага боку — харчовыя, з левага — прамысловыя тавары.

У тыя гады, калі хворы на сухоты, дэмабілізаваны з арміі Бухман працаваў у райкаме, магазіна не было: згарэў у вайну. І вось нібы выплыў з казкі кавалачак Бухманавага дзяцінства і няспелага, з першым пушком на губах юнацтва. На вялікім перапынку яны, шкаляры, шасталі ў гэты магазін. Булачка, якіх пяклі штук па дваццаць на адной патэльні і якія трэба было адну ад другой адламваць, каштавала трыццаць шэсць капеек. Выдатныя былі булачкі дзяцінства: мяккія, пульхныя, ледзь-ледзь саладкаватыя. Але не заўсёды меліся ў кішэні адпаведныя капіталы. Таму часцей Бухман абыходзіўся проста хлебам. Купляў дзвесце грамаў рублёвага хлеба — наздраватага, смачнага, добра выпечанага, і яшчэ — цукерку. Асалода была не меншая, чым ад булачкі, а па цане — танней.

Бухман з хваляваннем аглядваецца. Драўляны, раскіданы, падобны на вёску гарадок бадай што не змяніўся. Ва ўсякім выпадку, з таго не такога ўжо далёкага часу, калі Бухман сюды прыязджаў. Раён ліквідавалі, кіраўнічых устаноў няма. Хто размяшчаецца ў будынку райкама партыі, Бухман не ведае. А вось у памяшканні райкама камсамола ўваход цяпер з другога боку і шыльда другая: «Гасцініца».

Здаецца, прыбавілася магазінаў, крамак. Разросся, як лес, тапаліны парк, які яны, школьнікі, за год ці два да вайны насадзілі на гаку былога базару — голага як бубен і засыпанага — ногі правальваліся — жоўта-шэрым пяском.

Цяпер восень, канец верасня, тапалінае лісце ападае, шасціць пад нагамі. Праз парадзелую, залацiста-жаўтаватую навісь дрэў праглядвае іхняя двухпавярховая школа, некалі самы відны ў гарадку будынак. Паблякла і як бы асела школа.

У гарадку ёсць другая, трохпавярховая, а ў гэтай нібыта нейкі інтэрнат.

Галоўная вуліца замошчана каменем. Але яна была замошчана і некалькі гадоў назад, калі Бухман прыязджаў на пахаванне жончынай маці. А цяпер і жонка памерла. Сорак гадоў назад, калі Бухман ажаніўся з Жэняй, гарадок з’едліва часаў языкі: такая здаровая, прыгожая дзяўчына выскачыла замуж за дахадзягу. Бухман тады страшна выглядаў: запалыя шчокі, увогуле змізарнелы твар і толькі з-пад навіслага лба ліхаманкава блішчэлі вялікія чорныя вочы.

Так, усё пазнае Бухман у гарадку, не пазнае толькі людзей. Ён пенсіянер, і яго даўнія знаёмыя таксама, відаць, даўно на пенсіі. Таму па вуліцах не брындаюць. Корпаюцца на агародах ці грэюцца на лавачках. Тым болей што гарадок побач з адселенай чарнобыльскай зонай.

Бухман садзіцца ў «Жыгулі». Ён яшчэ заедзе на пляц былой аўташколы і, можа, зойдзе ў аптэку. Бо гэта істотныя вехі ягонага жыццяпісу. Аптэка ўяўляла сабой чатырохкантовы дамок з высокім ганкам і пафарбаванымі ў белы колер аканіцамі. У адгароджанай для сям’і аптэкара палавіне дамка Бухман жыў да сямнаццаці гадоў, пакуль не паступіў у аўтамеханічны тэхнікум. Бацькі яго памерлі рана, і добрая душа, жонка аптэкара, родная сястра маці прыгрэла яго каля сябе. Аптэкар Фах таксама быў добры чалавек. Кругленькі, добразычлівы, гаваркі, ён ніколі не абразіў Геню Бухмана ні словам, ні ўчынкам. Елі за адным сталом, не сварыліся, не тузаліся. Вядома, Геня жыў трохі горш за стрыечнага брата і сястру. Не насіў новых кашуль, портак. Іх яму звычайна пераніцоўвалі з паношаных. І па гаспадарцы Геня больш завіхаўся, чым яго стрыечны брат Ізя, які толькі чытаў кнігі ды перапісваў у альбом вершы.

Аптэка атаплівалася казённымі дрывамі, іх звычайна прывозіў камунгасаўскі грузавік, звальваў пасярэдзіне аптэчнага двара. Астатняе было справай рук Гені. Ён пераносіў плашкі ў хляўчук, пілаваў пілой-аднаручкай, калоў і складваў дровы ў стусы. Ён і грубкі тапіў — ва ўсіх васьмі пакоях. У штатах аптэкі лічыліся — прыбіральшчыца і вартаўнік. Але прыбіральшчыца больш завіхалася на кухні, а вартаўнік,

стары, глухаваты дзед, адхропшы ноч на разасланым кажуху ў прыёмным пакоі, з раніцы шыбаваў дадому.

Гарадок хутчэй за ўсё вырас з вялікага, раскіданага сяла, відаць, дзякуючы таму, што праз яго прайшла чыгунка. І станцыя была пабудавана, нават у нейкай меры вузлавая, бо менавіта тут ад асноўнай магістралі адгаліноўвалася ветка ў паўднёва-прыпяцкія раёны. Было дэпо, паваротны круг, машыністы, іх памочнікі, кандуктары, якія вадзілі цягнікі.

Аптэка размяшчалася блізка ад станцыі, і ў яе сценах былі выразна чуваць гудкі паравозаў, ляскат буфераў, нават пранізлівыя свісткі кандуктараў, счэпшчыкаў. Бухману падабаўся ўвесь гэты гул і гармідар. Ён нібы адчуваў сябе побач з цывілізацыяй, бо ўвогуле любіў жалеза, машыны, тэхніку.

Але не паравозы кранулі сэрца задумлівага, засяроджанага, з пышнымі завіткамі рудаватых валасоў падлетка. У блізкай адлегласці ад аптэкі размяшчалася не толькі чыгуначная станцыя, але і засаджаны маладымі таполямі пляц аўташколы. У той час, калі Геня Бухман дасягнуў чатырнаццаці-пятнаццаці гадоў, аўташкола рыхтавала шафёраў для лясной прамысловасці. Адначасна яна выпрабоўвала аўтамабілі-газагенератары, вялізныя, прымацаваныя побач з кузавам бакі якіх запаўняліся дубовай чуркай. У баках гарэла чурка, скапляўся газ, і газ гэты рухаў матор.

Быў спецыяльны цэх, дзе з дубовых плашак піла-цыркулярка рэзала чуркі, і Геня напачатку дапамагаў пільшчыкам. Пазней пачаў падсаджвацца ў кабіны да шафёраў.

Вучылі шафёраў вадзіць груваcткія газагенератары не ў гарадку, дзе на пыльнай вуліцы можна было лёгка задавіць курыцу, парасё, а то і наехаць на глухаватую бабулю, а вёрст за шэсць ад гарадка, дзе сярод маладых сасновых пасадак была спецыяльна адведзена вялікая, зарослая сіўцом, наздраватым шызым мохам паляна, на якой будучыя шафёры рабілі кругі і віхлястыя петлі.

У пятнаццаць гадоў Геня стаў вадзіць газагенератар. Гэта быў бадай што лёс. Бо пасля аўтатэхнікума быў аўтабатальён, якім, пачынаючы з другой, пераможнай палавіны вайны, капітан Бухман стаў камандаваць.

Таму, намячаючы прыезд у гарадок, Бухман вельмі хацеў пабачыць пляц аўташколы і тую сасновую паляну, дзе ён фактычна стаў шафёрам.

Пляц аўташколы не ўразіў. Акрамя таполяў. Таполі паднялі свае залацістыя шаты ледзь не пад самыя аблокі. Шасціць пад нагамі апалае лісце, тоўстыя пласты якога ляжаць на ўсіх сцежках і дарожках разлеглага аўташкольнага двара. Доўгія, як адрыны, карпусы як бы прыселі, сталі, відаць, звычайным камунальным жытлом. Сушыцца на вяроўках бялізна, валяюцца на дарожках дзіцячыя веласіпеды, мячы, вядзерцы.

Аптэка на тым жа месцы. Парадкам збуцвела, страціла свой ранейшы фацэтны выгляд. Аптэкар Фах пасля вайны ў гарадок не вярнуўся. Асеў аж у Магнітагорску, куды ягоную сям'ю загнала вайна.

Стоячы на тратуары насупраць аптэкі, Бухман упершыню бачыць знаёмы твар. З памяшкання аптэкі выходзяць двое мужчын у форменнай вопратцы лясной аховы — старэйшы і маладзейшы, і ў першым, зусім сівым, з няголеным, зарослым сівой шчацінай тварам, Бухман пазнае Сяргея Задарожнага, свайго аднакласніка, найлепшага ў школе матэматыка і шахматыста.

— Сяргей,— няголасна аклікае ён былога таварыша.— Падыдзі да мяне.

— Бухман,— Сяргей нібыта зусім не здзіўляецца і ніяк не выказвае сваіх пачуццяў.— Змяніўся ты здорава, але пазнаць можна. Быў рыжы, а стаў, як я, сівы…

— Старасць мяняе шатэнаў, бландзінаў, брунетаў на сівых дзядоў. Ты, здаецца, быў шатэн?

— Бландзін. Нават альбінос. Альбіносы мала мяняюцца. Я пра цябе ведаю,— дадае Сяргей.— Ты ў Дубне. Атамшчык.

— Цяпер пенсіянер. Збіраюся перабрацца бліжэй да вас. У горад на Прыпяці…

— Іван,— тым часам звяртаецца Задарожны да маладзейшага спадарожніка.— Дастань…

І кладзе яму ў далонь чырвоную грашовую паперку.

Іван увішны. Сяргей з Бухманам не паспелі як след разгаварыцца, як ён ужо з'явіўся з загорнутай у газету бутэлькай.

— Пайшлі б да мяне, ды жонка хворая,— гаворыць Задарожны.— Даўно хворая…

— Пакажы мне лес,— просіць Бухман.— Той, дзе шафёры да вайны вучыліся вадзіць машыны. Шырокая такая паляна. З аднаго боку шлях, з другога — сасновыя пасадкі. Ведаеш тое месца?

— Не жартуй. Я трыццаць гадоў быў тут ляснічым. Пасля таго, як ты з райкама паехаў. Я і цяпер у лягасе. Дзяжуру ў выхадныя дні, раблю сёе-тое. Саветнік дырэктара…

— Давай паедзем на паляну. Зрабі ласку…

— Ніякай паляны няма. Не забывай: мінула паўвека. Зарасла лесам твая паляна. Дый праехаць туды ўжо немагчыма.

— Чаму немагчыма? Ёсць жа шлях.

— Пабачыш, які шлях. Тваё «Жыгулі» засядуць у першай лужыне.

— Не засядуць. Не забывай: я аўтатэхнікум канчаў. Праеду не толькі праз лужы. Праз моры, горы і пустыні…

Каля зялёнага магазіна, дзе Бухман спыняўся, толькі прыехаўшы ў горад, яны зноў астанавіліся: прыкупіць сёе-тое да бутэлькі. Лепш бы Бухман не заглядваў у гэты магазін.

Уздоўж прылаўка, дзе адпускаюць хлеб, стаіць адносна невялікая чарга. Некалькі старых, ссівелых людзей лепіцца збоку. Тым часам у магазіне тлум і лямант. Прарэзліва крычыць апрануты ў добры шэры касцюм, высокі, з худым абветраным тварам дзяціна.

— Не даваць Залкінду хлеба! Хай становіцца ў чаргу. Хто ён такі, каб без чаргі палучаць хлеб? Лепшых сялян раскулачыў, згнаіў у Сібіры, давёў да ручкі калгас. Яму не хлеб трэба даваць, а ў тую самую Сібір саслаць. У Цюменскую вобласць, дзе я ўкалваю…

У ссівелым, сухенькім, ссутуленым дзядку, які абапіраецца на кіёк, Бухман пазнае старшыню мясцовага калгаса Хаіма Залкінда, якога добра ведаў, калі працаваў у райкаме. Нават не павітаўшыся з Залкіндам, Бухман выбіраецца з магазіна. За ім выходзяць леснікі. У маладога пад пахай пакунак, у які штосьці загорнута.

— Я быў на мітынгу ў Маскве,— гаворыць Бухман.— Але каб так зневажалі старога чалавека — не чуў.

— Не звяртай увагі,— супакойвае Задарожны.— У нас усё-такі цішэй, чым у Маскве. Бузацёрыць адзін гэты Сілякоўскі, якога ты бачыў. Ды і то крычыць, як нап’ецца. Ён нафтавік. Працуе пад Цюменню. Вахтавым метадам. Ляціць на самалёце ў Цюмень, два тыдні там, потым сюды прылятае. Паглядзеў бы ты, якую ён выбудаваў хароміну. Два паверхі, пад домам гараж. Ён купіў дом, у якім яшчэ можна было жыць, але разбурыў, каб пабудаваць на тым месцы новы. Недалёка ад аптэкі, на Вакзальнай вуліцы. Дзеля месца купіў дом…

Яны садзяцца ў машыну. Бухману непрымна, што нават не павітаўся з Залкіндам. Нібы ўцёк ад яго. Тым часам ён яго добра памятае. Быў малады Залкінд рухавы, шустры, як верабей, бадай, кожнага дня прыбягаў у райкам. Выслухваў парады першага сакратара, другога, загадчыка сельскагаспадарчага аддзела. Мясцовы калгас, якім ён кіраваў, грымеў на ўсю рэспубліку. Валам валілі сюды карэспандэнты, пісалі нарысы, да неба ўзносячы дасягненні калгаса. Хоць, калі шчыра прызнавацца, вялікіх поспехаў не было: калгас быў сярэдняй рукі. Але заслугі Залкінд меў. З калгасам, размешчаным у гарадскім пасёлку, спаборнічалі шматлікія арганізацыі, установы, асабліва чыгуначная станцыя, дзе людзі атрымлівалі жывую капейку. Залкінд у лепшым выпадку даваў на працадзень па кілаграму-два збожжа, трохі бульбы, сена. Галоўнае — ён умеў ладзіць з людзьмі. Не абразаў прысядзібных участкаў, закрываў вочы, калі бачыў, што які-небудзь калгаснік косіць па межах ці па кустах сена.

Карэспандэнтам, між тым, Залкінд бязлітасна хлусіў. Каб дагадзіць райкаму партыі. Усё-такі абласное і нават вышэйшае начальства глядзела на раённых кіраўнікоў больш паблажлівым вокам, калі чытала ў газетах пра поспехі калгаса.

Ад сваёй хлусні, мітусні Залкінд мала што выгадваў. Жыў у нізенькай, на дзве палавіны хатцы, бегаў у адным і тым жа шэрым, паношаным лапсардаку. Ніхто ніколі пра яго не сказаў, што цягне з калгаса…

Пераехаўшы пераезд, звярнулі на грунтавую дарогу. На полі, па правым баку дарогі стаяць, нібы птушкі з апушчаным крыллем, нафтачарпалкі. Нафта больш не цячэ з прабураных тут свідравін, і махалкамі-чарпалкамі больш ніхто не цікавіцца.

Перад самым лесам па суседстве з нафтачарпалкамі чубок рослага бярэзніку.

— Брацкая магіла,— тлумачыць Задарожны.— Немцы тут падпольшчыкаў расстрэльвалі. Памятаеш Віктара Шацілу? Ён на два гады вышэй нас ішоў. Скончыў ваеннае вучылішча. Трапіў у палон, прыбрыў у мястэчка. Склаўшы рукі не сядзеў: падпаліў цюкі з сенам, якое немцы нарыхтоўвалі для фронту. Яго тут расстралялі…

У Бухмана на імгненне нарадзілася непрыемнае адчуванне: нафтачарпалкі побач з брацкай магілай. Нібы кроў з зямлі вычэрпвалі.

Задарожны не хлусіў: у лесе ніякай дарогі няма. Лужа на лужыне. Калі ехаць прама, утопіш машыну і сам утопішся. Бухман пятляе і віхляе між дрэў, пнёў, кустоўя, бязлітасна кідаючы то ў адзін, то ў другі бок машыну. І такой дарогі — вёрст пяць. А калісьці ж была няхай грунтавая, але прыстойная, дагледжаная дарога.

Нарэшце выбіліся на сухі, з глыбока выбітымі каляінамі шлях. Задарожны просіць спыніць машыну, і з яе выскаквае рухавы памочнік ляснічага.

— Вазьмі яды,— гаворыць Задарожны, падаючы памочніку пакунак.— Сёння я не прыеду. Дзейнічай сам…

Хлапчына похапкам штосьці вымае з пакунка і адразу аддае яго ляснічаму. Машына кранаецца.

— Плошчы падбіраем,— тлумачыць Задарожны.— Для пасадкі дубкоў. Па той бок чыгункі. Гэты хлопец — майстар. Па-ранейшаму, аб’ездчык. Інстытут скончыў, а вот пайшоў на такую работу. Хоча вывучыць дзела… А ты чэмпіён,— дадае, хвалячы Бухмана як шафёра.— Думаў: з такой калатушы не вылезем…

Бухман пачынае як бы штосьці пазнаваць. Чарналессе скончылася, пайшлі сасннякі. Ён цьмяна штосьці ўгадвае і чамусьці вельмі хвалюецца.

— Зварочвай у лес і станавіся,— гаворыць раптам Задарожны.— Тут твая паляна…

Ніякай паляны няма. Ёсць малады, дагледжаны бор з верасковым, засыпаным ігліцай долам. Што ні сасна, то прыгажуня. Адна ў адну. Дрэвы купчастыя, з тоўстымі гладкімі стваламі, якія адліваюць меддзю. Вось такія сосны

выраслі на паляне, на якой калісьці курсанты аўташколы вучыліся вадзіць газагенератары. Бухман успамінае: у той далёкі даваенны час паляна таксама не была зусім голая: між петлямі, кругамі, якіх нарабілі на пясчаным доле колы машын, раслі невысокія, прысадзістыя, падобныя на кусты сасонкі.

Задарожны бярэ з машыны пакунак.

— У цябе шклянкі няма?

— Ёсць,— Бухман з гатоўнасцю кідаецца да машыны, вымае з багажніка шклянку, тэрмас.— У мяне і бутэрброды ёсць…

— Нясі бутэрброды…

Яны прымошчваюцца пад маладой бярозкай, якая шчодра наўкруг сябе засыпала дол апалым жоўтым лісцем. Задарожны разгортвае пакунак, рэжа каўбасу, чысціць сялёдку. Затым налівае гарэлкі ў накрыўку тэрмаса і ў шклянку.

— Давай вып’ем, Бухман. Бяры шклянку. Ты госць. Мы з табой некалі сябравалі. І ні разу за жыццё не выпілі. Памятаеш, якая ў нас была кампанія?

Бухман усміхаецца: сын аптэкара Ізя Фах, ён, Бухман, і яшчэ Рува Зайчык, бацька якога стаяў за прылаўкам доўгага, як стадола, леспрамгасаўскага магазіна, шчыра сябравалі з некалькімі хлопцамі, хадзілі адзін да аднаго і толькі аптэкар не пускаў гаманлівую талаку ў давераную яму ўстанову.

Бухман з Задарожным выпіваюць, з хвіліну моўчкі закусваюць.

— Загінулі нашы хлопцы,— гаворыць Задарожны.— Амаль усе. Я ведаю: ты быў на фронце. Рува Зайчык быў. Ізя Фах на фронт не трапіў. У санітарны поезд уладкаваўся. Нібыта меў хворае сэрца. А ў школе, памятаеш, які быў прапагандыст і агітатар. Памятаеш, як дэкламаваў: «Гренада, Гренада, Гренада моя…»

— У яго сапраўды хворае сэрца. Гадоў дваццаць назад я ездзіў у Магнітагорск. Там Ізя жыве. Бацька яго здзяцінеў, маці памерла, а Тамара, памятаеш, была ў Ізі шустрая, вясёлая сястра, замужам за Рувам Зайчыкам. Ён інжынер на металургічным камбінаце. Там, у Магнітагорску…

Бухман нечакана змаўкае. Зноў наліваючы гарэлку ў шклянку і ў накрыўку тэрмаса, просіць:

— Дагаварвай. Ты сказаў не ўсё…

Выпіваюць зноў, закусваюць.

Бухман прыкметна хмялее.

— Ведаеш, сорамна гаварыць. Рува не захацеў са мной пабачыцца. Ён думае, што я быў закаханы ў Тамару. Да гэтага часу раўнуе жонку да мяне. А яна мне стрыечная сястра…

— Глупства,— адказвае Задарожны.— Дурны твой Рува. Ты лепей скажы: куды мы коцімся? Успомні, як жылі да вайны, у вайну, пасля вайны. Хіба была такая калатня? Ніхто ні ў што не верыць, і ўсе дамагаюцца правоў. Ты чуў, як крычаў нафтавік на Залкінда? Ён на ўсіх мясцовых пенсіянераў так крычыць…

Бухман смешна моршчыць нос, хусцінкай выцірае слязу.

— Ты пенсіянер і я пенсінер. Шкада, што пад нашу старасць такія петлі пайшлі. Я нават думкі не дапускаў…

— Як твая Жэня? — нечакана мяняе напрамак размовы Задарожны.— Прыгожая яна была дзяўчына: беленькая, светлая. За ёй многія хлопцы ўлягалі. Я, паміж іншым, таксама. А яна за цябе раптам выскачыла… Не крыўдуй, ты быў тады дахадзяга. Усе дзівіліся, што за цябе Жэня замуж пайшла.

Бухман з хвіліну маўчыць.

— Памерла Жэня,— нарэшце з сумам прамаўляе ён.— А дахадзяга, як бачыш, жыве. З-за Жэні сюды прыехаў. Я ж атамшчык, і Чарнобыль адсюль блізка. Буду рабіць у інстытуце. У надпрыпяцкім горадзе. Саветнікам, як ты ў лясгасе…

Яшчэ гарачае вераснёўскае сонца ідзе на схіл. Прыгожым залатым бляскам адліваюць ствалы сосен, асабліва наверсе, каля самых вяршалін. Маўчыць лес. Плывуць па сінім небе аблачынкі, і здаецца, што ва ўсім свеце пануе такая, як тут, згода, зладжанасць і цішыня.

*1991*

# 1992

## ПАСЦЕЛЬ БЕЛА

Загадчык лабараторыі Шалудзінскі прайшоў на лыжах кіламетраў пятнаццаць, ніколькі не адставаў ад моладзі і на абед у санаторый-прафілакторый, размешчаны сярод сасновага бору, вярнуўся ў вельмі неблагім настроі. Яму за пяцьдзясят, а вось яшчэ спраўляецца з моладдзю.

Ён у ахвоту паабедаў, паспаў і, прачнуўшыся, адчуваючы ў целе пругкую сілу, рашыў яшчэ раз пабегаць на лыжах. Зімовы дзень кароткі. Але да змроку гадзіны паўтары-дзве і можна па снежнаму насту паспрабаваць дабрацца да вёсачкі, якую Шалудзінскі даўно шукае.

З вёсачкай звязана даўняя і прыемная гісторыя. Гадоў дзесяць назад Шалудзінскі працаваў не ў навукова-даследчым інстытуце, а выкладаў ва ўніверсітэце, меў такога ж, як сам, сябра, дацэнта Шаройку, і разам з Шаройкам яны блукалі па ўсіх лясах, размешчаных вакол горада. Былі заядлымі грыбнікамі. Машын не мелі, ездзілі ў лес на рэйсавых аўтобусах, і амаль заўсёды спатыкаў іх поспех.

Аднойчы і ў лясах, якія акаляюць санаторый-прафілакторый, сябры добра паджыліся. Злезлі з аўтобуса, не даязджаючы мястэчка, з якім санаторый амаль мяжуе, абагнулі мястэчка з усходу і нарваліся на вельмі ўдалы грыбны бярэзнік. Дзівадзіўнае: паехалі ў лес апаўдня, калі сапраўдныя грыбнікі даўно вярнуліся дадому, і тым не меней набралі па кошыку баравікоў. Штук па сто.

Пад вечар дабрылі да раскіданай, атуленай ліпавымі прысадамі вёсачкі. На вуліцы стаяў рэйсавы аўтобусік. Яны селі ў яго і шчасліва вярнуліся ў горад.

Аднойчы Шалудзінскі прыехаў у санаторый восенню, у грыбную пару і настойліва шукаў мясціну, на якой яны з Шаройкам некалі так паспяхова назбіралі баравікоў. Трэба было спачатку знайсці вёсачку, у якой яны напаткалі аўтобус. Арыентуючыся на тое някідкае, з ліпавымі прысадамі паселішча, ён бы і ўдалы грыбны беразняк знайшоў.

Але не пашчасціла. Шалудзінскі набрыў нават на дзве вёсачкі, але на патрэбную не натрапіў. Гэтыя, па-асенняму ціхія, задуменныя, нібы драмалі сярод маладых сасоннікаў і ніякіх ліпавых прысад каля іх не было.

І вось цяпер, зімою, Шалудзінскі намерыўся знайсці памятную вёсачку. Ён пераскочыў шашу, паглыбіўся ў сасоннік і выйшаў да хутара з двух старых, прысадзістых хат. Гаспадары адзінокіх сядзіб трымалі вельмі злосных сабак і, відаць, дбаючы пра сваю бяспеку, ніколі іх не прывязвалі. Так што, кіруючыся ў бок хутарка, Шалудзінскі заўсёды ўзбройваўся добрым дрынам. Сабакі і цяпер заўважылі Шалудзінскага, кінуліся да яго з адчайным брэхам, але ўбачыўшы два лыжныя кіі, адразу пацішэлі і, падняўшы хвасты, пабеглі да будынкаў.

За хутарком — шырокае поле. За ім цьмяна сінеюць хмызы, а далей — бярэзнікі. У тыя бярэзнікі і пакіраваў Шалудзінскі. Бо з поля відаць крайнія хаты мястэчка, а мястэчка ў памятную грыбную паездку яны з Шаройкам абышлі з усходняга боку. Значыць, трэба, не збочваючы, кіравацца прама.

Праязджаючы поле, Шалудзінскі на сярэдзіне яго ўбачыў дзіўны малюнак. Нехта прывалок на поле жалезны ложак, прыкладна такі, якія стаяць у студэнцкіх інтэрнатах ці салдацкіх казармах, і пакінуў яго тут.

Вецер неяк зусім нечакана ўзмацніўся, пайшоў снег. Дый цямнець як бы стала. Шалудзінскі хацеў было павярнуць назад, але зірнуўшы на неба, пакрытае шэрымі хмурымі воблакамі, зразумеў, што дачасны змрок ад гэтых цяжкіх воблакаў, якія сыпалі снегам. Дый лазнякі сінелі блізка, а за імі — бярэзнік.

Шалудзінскі прыбавіў кроку. Калючы, пранізлівы вецер раптам падзьмуў з усходняга боку, проста апякаючы твар. Лыжнік узяў сабе гэта на заметку. Калі будзе вяртацца назад, вецер будзе дзьмуць у спіну.

Мінуўшы балотныя, круглыя, нібы шары, лазнякі, Шалудзінскі адчуў, што вецер яшчэ больш узмацняецца і снег сыпле спарнейшы. Снег адразу замятаў лыжны след. У паветры вісела суцэльная белая каламуць. Але наперадзе бярэзнік, за ім павінна быць вёсачка. У горшым выпадку ён, дасягнуўшы паселішча, папросіцца да каго-небудзь у хату. Будзе цікавая прыгода.

Калі Шалудзінскі дасягнуў бярэзніку, завіруха адчайна круціла снежнай замеццю і выла як дзікі звер. Трэба было перахавацца ў вёсцы ці, на горшы выпадак, у лясным зацішку перачакаць непагадзь.

Бярэзнік між тым усё не канчаўся. За адной дзялянкай пачыналася другая, яшчэ болей глушэйшая, са шчыльным падлескам, кустамі, у якіх застравалі лыжы. Не, такі глухі лес не мог быць ускраінай вёскі.

Шалудзінскі між тым драўся наперад. Іншага выйсця не было. Павінен жа калі-небудзь скончыцца гэты пракляты бярэзнік.

Між тым зусім сцямнела. А ён усё ішоў і ішоў.

Снег сыпаў, вецер свістаў. Бярэзнік скончыўся, зноў пачаліся лазнякі. На гэты раз балотныя. Значыць, замест вёскі ён трапіў на нейкае балота. Шалудзінскі і праз балота пасунуўся. Ён цяпер суцяшаў сябе думкай, што ідзе не па тайзе, дзе чалавек можа прапасці як іголка ў стозе сена, а па беларускім лесе, які куды-небудзь ды выведзе. Вёскі тут размешчаны за пяць-шэсць кіламетраў адна ад другой. А ён, глядзі, адолеў вёрст дзесяць.

Шалудзінскі адчуваў, што стаміўся страшэнна. Лыжы глыбока правальваюцца ў снег, іх трэба адтуль выцягваць, і кожны новы крок ён адольвае з вялікай натугай. Бо рукі, ногі адубянелі, вецер наскрозь пранізвае цела праз накінуты паўзверх фізкультурнага касцюма парусінавы пінжачок. Ён наогул не адчувае свайго цела і гэта дрэнна. Можна прастудзіцца, захварэць на тое самае запаленне лёгкіх.

Нарэшце Шалудзінскі пачуў наперадзе глухі шум. Ён напружыў сілы, адольваючы апошнія балотныя кусты, і перад ім скрозь віхурную замець паўстала высокая сцяна яловага лесу. Лес шуміць аднастайна і грозна.

У першую хвіліну Шалудзінскі ўзрадаваўся. Ён, вядома, заблудзіўся. Але ў яловым лесе зацішней. Ён сядзе пад яліну, трохі адпачне і тады пойдзе пацціху назад. Дарма ён насупраць ночы выбраўся шукаць невядомую вёсачку. З раніцы прайшоў вёрст пятнаццаць і цяпер не меней. А ён жа не малады чалавек…

Шалудзінскі забрыў у ельнік. Снегу тут менш, чым у лазняку і бярэзніку. І ціха ў лесе. Толькі зверху шумяць-гудуць кашлатыя яловыя вершаліны.

Не знімаючы лыж, Шалудзінскі прылёг пад яліну. Адразу стала цёпла, добра і нават на сон пацягнула. Ён, відаць, заснуў трошкі, бо нібы праз сон пачуў песню, якую яшчэ ў дзяцінстве чуў ад маці:

На балозе сціртa сена,
Там паслана пасцель бела,
Там мы будзем начаваці…

Хто цяпер спяваў гэтую песню? Можа, вецер, які свістаў у вершалінах ялін…

Раптам яго нібы электрычным токам працяло. Гэтак можна заснуць і не прачнуцца. Не ў тайзе, не ў тундры, а ў парадзелым, напалавіну высечаным беларускім лесе…

Працяты страхам, ён падхопліваецца, становіцца на лыжы. Ён вельмі замёрз, бо цела не адчувае. Ідзе назад, механічна апускаючы і вынімаючы са снегу лыжы. Ранейшы след знайсці цяжка, але сям-там ён яго намацвае. Вецер дзьме ў спіну — значыць напрамак правільны. Ён ідзе і ідзе, думаючы пра выратавальны хутарок і сабачы брэх, які павінен пачуць. Вось лазняк скончыўся, і ён трапіў у бярэзнікі. Па-ранейшаму з-за снежнай каламуці нічога не відаць. Здаецца, і бярэзнікі ён мінуў, і яшчэ адны зараслі лазы. Але дзе знаходзіцца, Шалудзінскі не ведае.

Раптам ён напорваецца на штосьці жалезнае. Яно пад гурбай снегу. Ён палкай здымае пласт снегу і нават праз мітуслівую сетку замеці бачыць спінку жалезнага ложка.

Дзікая радасць авалодвае Шалудзінскім. Ён усё-такі не збіўся з дарогі. Ложак нібы сапраўды заслан белай пасцеллю. Але ў гэтую пасцель ён не ляжа…

Яшчэ хвілін праз пяць, пачуўшы чалавека, забрахалі хутарскія сабакі. Шалудзінскага ахапіла незвычайная радасць. Небяспечная прыгода скончылася. Ён цяпер дзясятаму закажа: немаладому чалавеку з маладымі раўняцца нельга і нельга кідацца ні ў якія авантуры...

*1992*

## ДРЭВЫ НАД ВАДОЮ

Кавальчук зусім не думаў сыходзіць на станцыі роднага мястэчка, міма якой праязджаў. Але, відаць, ёсць у нашых душах неўсвядомленыя, патаемныя сілы, якія часам вызначаюць учынкі і паводзіны. Кавальчук, можна сказаць, пажылы, нават стары чалавек, раптам падхапіў свой абшарпаны чамаданчык і насупроць ночы выскачыў на перон.

Станцыйныя памяшканні цяпер новыя, і выгляд станцыі зусім зыначыўся, цьмяна гараць дугі-ліхтары, і ў гэтым хісткім, няпэўным святле паўстаюць каменны, двухпавярховы куб вакзала і такія ж незнаёмыя, цагляныя прыбудоўкі да яго.

Ранейшыя, драўляныя, пафарбаваныя ў жоўты колер станцыйныя памяшканні (на рэйках была адбіта дата — 1884 год) прастаялі больш як сто гадоў, перанеслі дзве сусветныя вайны і тры акупацыі і яшчэ б маглі пастаяць. Але вядома даўно: у нас вельмі любяць ламаць і крышыць старое, няхай сабе яшчэ прыгоднае да ўжытку. Вось так прыгожую станцыю, аздобленую магутнымі разгалістымі таполямі, знішчылі.

Позняя восень. Імжыць дробны халодны дождж. Хлюпае пад нагамі макрата. Мікалай Іванавіч апрануты ў лёгкае асенняе паліто, абуты ў летнія туфлі. Праўда, у яго ёсць схаваны ў чамаданчык складны парасон, так што ён не прамокне. Кавальчук вымае гэты парасон, падымае над галавой і бадзёра выдыбае між шпаламі.

Цяпер адчувае: імпульсіўнае парыванне — глупства. Начаваць у мястэчку, якое мясцовы паэт-настаўнік назваў

«вясковым горадам», недзе. Бацька, маці памерлі. У родным доме, даўно прададзеным, жывуць чужыя людзі. З радні толькі стрыечная сястра, з якой Мікалай Іванавіч не асабліва блізкі. Даўно няма сяброў-таварышаў. Некаторыя загінулі ў вайну, астатнія даўно разбрыліся.

Дрэнна на свеце. Можа, таму дрэнна і на душы Мікалая Іванавіча. Ён, бадай, не перажываў яшчэ такога часу, калі ўсіх старых багоў скінулі, нават насмяяліся над імі, а ў новых веры няма. І наогул, па некаторых мерках, такія, як Кавальчук, людзі проста дарэмна пражылі жыццё.

Каля пяцідзесяці гадоў назад, якраз у такую познюю асеннюю пару, Кавальчук, тады яшчэ маладзенькі партызан, прымаў удзел у вызваленні мястэчка. Вызваляла яго вайсковая дывізія разам з іхняй, не вельмі славутай партызанскай брыгадай. Божа, які то быў узнёсла-святочны час! Вайна яшчэ не скончылася, яшчэ ўся Беларусь ляжала пад акупацыяй, такім, як Кавальчук, хлопцам трэба было ісці на фронт, але яны былі на сёмым небе ад шчасця.

Галоўнае — немцаў выгналі, вызвалілі зямлю, народ. Сапраўды, Кавальчука ў тую восень нішто не палохала: ні фронт, ні тое, што раён дашчэнту вынішчан карнікамі, што людзі жывуць у зямлянках, ім нечага есці і няма ў што апрануцца.

Вось так: нэндза, убогасць, жабрацтва і высокі ваяўнічы дух. Як увогуле такія процілеглыя рэчы могуць у душы сумяшчацца? Аднак сумяшчаліся. Як сказана ў паэта: «Четвертку колючего хлеба поделим с тобой пополам...»

Кавальчук пайшоў па вуліцы, якая некалі называлася Паштовай і сапраўды вяла да пошты. Цяпер пошту, здаецца, збудавалі ў другім месцы. Зрэшты, страху няма. Калі ён не знойдзе начлегу (маленькая гасцініца заўсёды перапоўнена), ён вернецца на станцыю, сядзе ў які-небудзь начны цягнік і паедзе далей. Затое нікім не пазнаны, не заўважаны павандруе па родным гарадку. Ёсць у гэтым нават нейкая рамантыка і таямнічасць.

Вуліцу Паштовую было б лепей назваць Бальнічнай. Вось з правага боку стаіць, як стаяў у час маладосці Кавальчука, квадратны дамок аптэкі, а з левага пачынаецца анфілада будынкаў бальнічнага гарадка. Іх, здаецца, нават пабольшала,

гэтых будынкаў, хоць даўно мястэчка перастала быць цэнтрам раёна, а такім заштатным мястэчкам — гарадком раённага падпарадкавання — сродкі на будаўніцтва адпускаюцца вельмі скупа.

Вуліца асветлена. Электрычныя дугі-ліхтары, размешчаныя на высокіх цэментаваных слупах, вырываюць з цемені нават паасобныя дэталі не надта густа заселенай вуліцы: цэментаваныя пліты тратуара, пакрытую гудронам з частымі цёмнымі лужынамі праезджую частку, паркан, які заваліўся каля чыйсьці закіданай, занядбанай сядзібы.

Высока ўзнёсся тапаліны лес над бальнічным гарадком. Вершаліны дрэў спляліся недзе ў цёмным небе, і святло ліхтароў іх не дасягае. Кавальчук заўсёды любіў гэтае месца. Сам не ведае за што. Можа, за тое, што бальнічныя памяшканні стаяць на пясчаным пагорку, тут ніколі не бывае гразі, і ўвогуле мясціна ахайна-ўпарадкаваная, прыемная для позірку.

Раптам Кавальчука пранізвае думка, што ён так проста не можа пакінуць мястэчка. Калі ўжо ён сюды трапіў, то трэба наведаць магілы бацькі, маці, а ноччу гэтага не зробіш. Ноччу на могілкі не ходзяць. Значыць, начаваць усё-такі прыйдзецца. Толькі дзе і ў каго?

Ён ідзе далей. Пакаленне ў гарадку змянілася, тон задаюць людзі, якім па дваццаць, трыццаць, сорак гадоў і якіх ён зусім не ведае. Тым часам нехта знойдзецца. Ён перастае думаць пра начлег і крочыць далей.

Вуліца Камсамольская, на рагу якой стаіць новы будынак кінатэатра, асветлена горш, а на Савецкай, галоўнай вуліцы гарадка, зусім цёмна. Але час яшчэ не позні, ходзяць людзі, і ў кінатэатры, відаць, яшчэ не скончыўся апошні сеанс. Кавальчук мінае школу, у якой вучыўся (цяпер тут, здаецца, інтэрнат для дзяцей-сірот), затым Савецкай вуліцай кіруе да роднага котлішча.

Збяднела, змізарнела вуліца. Яе пакрылі асфальтам, яна як бы ўзнялася, затое драўляныя хаціны, нават ладныя дамкі струхнелі, аселі, уехалі ў зямлю. Наогул Савецкая вуліца заўсёды была найменш гарадская: самая звычайная сельская забудова, хаты стаяць упрытык адна да другой, на дварах хлявы, хлеўчукі, студні з асверамі, а ў канцы вуліцы, перад

чыгункай, дзе якраз стаяла хата Кавальчука, непралазная гразь.

Тым не меней яшчэ гадоў пяць — дзесяць назад Кавальчук марыў адкупіць бацькаву хату, якую прадалі, і, пайшоўшы на пенсію, прыязджаць на летнія месяцы ў родныя аселіцы. Ды грымнула аварыя ў Чарнобылі, які ад гарадка вельмі недалёка.

Тым часам нават Чарнобыль не галоўнае. Аднойчы ў бяссонную ноч Кавальчук уявіў сабе, што такіх, як ён, дзядоў, якія не носяць барады, старанна голяцца, летам ходзяць без шапкі, у родным мястэчку фактычна няма. Адны маладымі загінулі ў вайну, другія разбрыліся хто куды. Наогул яго пакаленне, як некалькі пакаленняў папярэдніх, вайна выкасіла ледзь не цалкам.

Што магло свяціць Кавальчуку ў мястэчку? Бадай, толькі знаёмыя, старыя, пахілыя хаты. Малая ўцеха... І лес зыначыўся, і ўсё местачковае наваколле стала другім.

Не дайшоўшы да роднай хаты, Кавальчук рашуча паварочвае назад. Не можа ён у цемені глядзець на свой панадворак.

Калі шчыра прызнавацца, у канцы вуліцы Кавальчуку ёсць у каго пераначаваць. Па правы бок хата дзядзькі Васіля, стрыечнага бацькавага брата. Дзядзька памёр, можа, цёткі Ганны таксама няма, а дачка Насця, трохі маладзейшая за Мікалая Іванавіча, вядома, жыве.

Можа ён пераначаваць і ў другога суседа, які збудаваў сабе хату на пляцоўцы былога кар'ера. Кар'ер выкапалі, калі насыпалі пясчаны шлях. Утварылася копанка, у якой яны, дзятва, лавілі баўтушай карасёў. З кожным годам копанку зацягвала ілам, яна мялела, і вось нарэшце на месцы кар'ера чалавек, які перабраўся з дальняга сяла ў мястэчка, паставіў сабе хату. Кавальчук ведае яго: добры чалавек. Калі некалькі гадоў назад на мясцовых могілках хавалі маці (яна жыла ў другім горадзе, разам з сястрой Кавальчука) і спецыяльна правезлі труну каля роднага двара, чалавек гэты плакаў як бабёр, хоць не быў ні блізкай, ні далёкай раднёй.

Але ні да Насці, ні да суседа, які жыве па левы бок, Кавальчук не пойдзе. Даўно ён не робіць такіх рэчаў. Пайсці да чужых людзей начаваць (да сваякоў таксама), гэта значыць перапыніць звычайную ходу іхняга жыцця, прымусіць іх

хваляваецца, непакоіцца. Дый не засне Кавальчук, калі побач людзі, якіх ён не ведае або ад якіх даўно адарваўся. У маладосці было інакш. Але ўзрост, у які ўступіў Мікалай Іванавіч, называецца старасцю, а ў старасці зусім іншыя прывычкі і законы.

Кавальчук кіруе на станцыю. Станцыя вузлавая, і ёсць на ўсходнім баку яе цагляны чыгуначны дом рэзерву машыністаў. Зрэшты, у маладосці Кавальчук працаваў на чыгунцы, на гэтай станцыі, і мае права ў цагляным доме пераначаваць.

Цяпер у дарогу, нават у Маскву, іншыя вялікія гарады без уласнага харчу не ездзяць. Бо прападзеш: на магазінных полках хоць шаром пакаці. Сёе-тое жонка паклала Кавальчуку ў чамаданчык. Нават насыпаныя ў бутэлечкі ад лекаў шчопаці солі і чаю.

— Я вас ведаю,— сказала рудаваценькая, з вузкім лісіным тварыкам, і шустрая, нібы яшчарка, жанчына, як толькі Кавальчук пераступіў парог цаглянага чыгуначнага дома.— Вы з маім мужам разам у партызанах былі...

— Як прозвішча вашага мужа?

— Рыжык.

Кавальчук усміхнуўся: ён успомніў камлюкаватага хлапчука гадоў дванаццаці-трынаццаці, які прыбіўся да іх у тую ноч, калі яны, двое хлопцаў-дружбакоў, і таксама малады, але ўжо жанаты, з жонкай і малым дзіцём мастак-самавучка Кушнер выбіраліся з мястэчка ў партызаны. Яго, відаць, нехта паклікаў. Хутчэй за ўсё Кушнер. Прагнаць яго было немагчыма: ён бачыў іх вінтоўкі і нямецкі мундзір, які паверх шарсцянога пінжачка нацягнуў на сябе Кавальчук.

— Я вас у асобны пакойчык пасялю,— сказала жанчына, даючы ключ.— Для начальства. Начальства сёння не будзе.

Пакойчык, дзе ён пераначаваў, ніштаваты: мяккі ложак-канапа, два крэслы і нават тэлевізар. У асобным шкапчыку талеркі, кубкі, шклянкі, нажы, відэльцы. Сапраўды, прызначан пакойчык для высокіх чыгуначных гасцей.

Пагаліўшыся, ускіпяціўшы ў электрычным чайніку ваду, заварыўшы гарбату, Мікалай Іванавіч паснедаў і ў добрым настроі выйшаў у калідор.

— Дзе ваш муж працуе? — спытаў ён у жанчыны.

— Па сувязі працаваў. Тэхнікам. З леташняга года на пенсіі. Унукаў пасвіць. Ён пра вас часта расказвае...

— Перадавайце яму прывітанне. І вялікі дзякуй вам за гасціннасць.

— Прыязджайце яшчэ. Зойдзеце да нас...

Дзіўныя пляце жыццё гісторыі. Некалькі гадоў назад, калі Кавальчук прывёз у мястэчка хаваць маці, у той дзень у мястэчку было яшчэ двое хаўтур. Насупраць машыны, у якой везлі труну з целам маці, па вуліцы на могілкі павольна рухаўся грузавік з целам старога Рыжыка.

Старога Рыжыка ў мястэчку ведалі. Прысадзісты, шыракаплечы, з грубым, нібы вычасаным з каменю тварам, ён быў славуты тым, што застрэліў уласную жонку, маці Рыжыка. За здраду. Ён ездзіў у паштовым вагоне і меў наган. Адсядзеўшы гадоў восем, Рыжык вярнуўся ў мястэчка і зноў стаў вазіць пошту.

Выйшаўшы з цаглянай чыгуначнай будыніны, Кавальчук вачам не паверыў: сонечна, цёпла, светла. Нібы ў поўнай красе вярнуўся памятны дзень позняй восені, калі вызвалялі мястэчка. Прыкладна ў гэтую пару яго і вызвалялі. У ваеннай зводцы аб узяцці мястэчка паведамілі на дзень раней, чым было ў сапраўднасці. Тады чамусьці так рабілі.

Праз некалькі крокаў Мікалай Іванавіч натрапляе на яшчэ адну нечаканку. На тэлеграфным слупе прыклеены выбарчы плакат — лістоўка са знаёмым шырокім тварам Івана Шынкарэнкі, чалавека, які не так даўно настойліва шукаў дружбы з Кавальчуком.

Вялікімі сінімі літарамі ў лістоўцы-плакаце выдрукавана, што Шынкарэнка вядомы журналіст, якога хвалююць вострыя грамадскія пытанні, а ягоным артыкулам уласцівы дух бескампраміснасці, пошуку праўды, ісціны.

Рыторыка, вядома. Прытым суцэльная. Журналіст Шынкарэнка сярэдні. Да гэтага быў геолагам, меліяратарам, трохі ў школе выкладаў, працаваў у іншых месцах і нідзе сябе не знайшоў. Цяпер вось наважыў падацца ў дэпутаты.

Спраў у Кавальчука няшмат. Трэба схадзіць на могілкі, паглядзець магілы бацькі, маці. Можа, трохі іх падправіць. Добра было б на магілы кветкі пакласці. Мінулы раз, гады

два-тры назад, ён так і зрабіў. Але тады быў на машыне і кветкі купіў у бліжэйшым горадзе.

Каля чыгуначнай крамы, каля новага магазіна з вялікімі, з суцэльнага шкла вокнамі доўгія чэргі. Здаецца, за хлебам і малаком.

Чэргі прайшлі праз усё Кавальчукова дзяцінства. Шкада, што яны дагналі яго і цяпер, калі надышла старасць і калі стаяць у такіх чэргах яму ўжо не стае сіл.

Кавальчук зварочвае на бакавую вулку, якая ідзе поруч з чыгункай. Гэтая вулка толькі з аднаго боку бязладна застаўлена дамкамі. З другога боку яе — дрывяны склад. Адсюль на працягу многіх гадоў грузіліся, вывозіліся агромністыя дубовыя камлі, пакуль дубоў ва ўсім бачным наваколлі не стала.

Дык вось у гэтай ціхай, нягледзячы на суседства чыгункі, мясціне ёсць куток, які часта паўстае перад Кавальчуковымі вачамі. Асабліва калі ён не спіць. Прадаўгаваты, заўсёды поўны вадой ставок, над якім схіліліся чатыры, з раскідзістымі кронамі, асіны.

Ставок на месцы, і асіны на месцы. Гэта як бы выклікае ў Кавальчуковай душы ціхую радасць, спакой. Усё, значыць, будзе добра. У акупацыю, маладым хлопцам, ён прыходзіў пад дрэвы напярэдадні арышту. Абышлося: з турмы выйшаў жывы і таварышы засталіся жывыя. Калі ішоў на фронт, таксама схадзіў пакланіцца асінам. І вярнуўся з вайны не вельмі пакалечаны: на сваіх нагах, з гатовымі да работы рукамі.

Залацістае, жоўтае, чырвонае лісце, якое апала ў ваду з асін, прыгожа аздабляе вадзяную паверхню нерухомага стаўка. Нібы пярэсты дыван.

Кавальчук здагадваецца: ставок заўсёды поўны вады, бо недзе з дна яго струменіць крынічка. Яны, дзятва, калі купаліся ў стаўку, заўсёды мерзлі: нават гарачым днём вада была надзвычай халодная.

Павярнуўшыся, каб ісці на могілкі, Кавальчук твар у твар сутыкаецца з доктарам Вінерам. З незапамятных часоў робіць у гарадку доктар Вінер і за гэты доўгі час стаў як бы яго прыналежнасцю. Сорак гадоў назад, калі Кавальчук паехаў з мястэчка, Вінер ужо загадваў бальніцай. Мікалай Іванавіч

не ведае, ці дазволена такое ў медыцыне, але доктар Вінер адначасова хірург, тэрапеўт і роды таксама прымае — акушэр. Можа, таму, што ў бальніцы не так шмат спецыялістаў.

Доктар Вінер, як заўсёды, думкі выказвае адрывіста і канкрэтна.

— Добры дзень. Любіце гэтае месца? Куток прыгожы. Я таксама яго люблю. Асабліва цяпер, калі восень і шмат вольнага часу...

— Вы на пенсіі?

— Дзесяць гадоў. Але яшчэ трохі памагаю ў бальніцы. Некаторыя ўрачы з'ехалі. Баяцца радыяцыі. Я стары, радыяцыі не баюся...

Прыкметна здаў доктар Вінер. Некалі высокі, паўнацелы, з рудым, густа засеяным вяснушкамі, паўнаватым тварам, ён здаваўся веліканам. Нібы той Каваль Вярнідуб. Цяпер выпетраны, павольны ў рухах, трохі прыгорблены дзед, і толькі вялікія сінія вочы яшчэ жывыя і свецяцца цікаўнасцю і добразычлівасцю.

Лячыў доктар бацькоў Кавальчука, яны яго шанавалі, хвалілі. Тым часам так здарылася, што Кавальчук не толькі ніколі не пачаставаў Вінера, але і не пагаварыў з ім. Ды і не ішоў доктар ні на якія размовы. Выслухваў, выстукваў хворага, выпісваў рэцэпт, коратка тлумачыў, як карыстацца лякарствам, складваў у чамаданчык свае прычындалы, кіраваў у бальніцу. Роўны, спакойны, аднолькава ветлівы і ўважлівы да ўсіх.

Цяпер яны ідуць побач і маўчаць. Маўчанне нарэшце парушае доктар.

— Як там у горадзе? — пытае.

— Цяжка сказаць. Нічога радаснага. Чэргі за прадуктамі яшчэ даўжэйшыя, чым у вас.

Доктар усміхаецца.

— Дзьмуць вятры з поўначы, дзьмуць з поўдня і прыходзяць вятры на свае кругі,— адказвае словамі біблейскага Эклезіяста.— Я нават газет не чытаю: там толькі пра дрэннае пішацца. Уладкуецца жыццё як-небудзь. Хоць, можа, не хутка. Вы да таварышаў прыехалі?

— Не засталося ў мяне тут таварышаў.

— Як не засталося? Ветэрынарны ўрач Мікіценка месяц назад мяне на наваселле запрашаў. Перабраўся з вёскі, якая ад Чарнобыля за сорак кіламетраў. Адсюль да рэактара ўсё-такі далей. З Мінска прыязджаў урач Андраюк, і яны ўвесь вечар расказвалі пра геройскія справы, якія вы тут тварылі падчас акупацыі. Вас успаміналі. Хочаце, дам адрас Мікіценкі?

Ён назваў адрас: ветэрынарны ўрач якраз жыве паблізу могілак, на адной з новых вуліц, размешчаных на пясчанай няўдобіцы.

І вось схадзіў Кавальчук на могілкі, трохі падправіў, пачысціў магілкі, паклаў кветкі (у суседкі Мікіценкі дацвіталі ў палісадніку познія астры). Зарослы купчастымі соснамі курган могільніка стаіць як стаяў. Толькі шэрагі крыжоў, надмагільных помнікаў, пліт сягнулі далёка за межы пясчанага кургана, займаючы абсягі поля і нават прылеглага да могільніка тарфянога балотца.

Мураваны дамок ветэрынарнага доктара Мікіценкі меншы, чым хароміна, якую ён выбудаваў у недалёкім ад Прыпяці глухім лясным сяле, у якім некалі быў Кавальчук. Але дамок уходжаны, дагледжаны, мае тры малыя пакойчыкі і нібы спецыяльна прызначаны для кругленькага, нізенькага, тоўсценькага бяздзетнага дзядка Мікіценкі і вельмі падобнай да гаспадара ягонай сяброўкі.

Кавальчук цікавіцца шансамі на выбранне дэпутатам у Вярхоўны Савет Івана Шынкарэнкі, з бацькам якога Мікіценка працаваў у акупацыю ў мясцовай канторы «Заготжывёла».

— Якія шансы...— насмешліва адказвае Мікіценка.— Выбары тыдзень як прайшлі. Толькі трэцяя частка людзей галасавала. Не хоча народ нікога выбіраць. Не верадь ні ў якія словы. Іван, кажуць, у трох месцах выстаўляўся...

— Можа, з-за бацькі?

— Хто яго бацьку цяпер памятае? Амаль пяцьдзясят гадоў мінула.

Кавальчуку шкада Шынкарэнкі. Непрыкаяны чалавек. Хоць за плячамі гадоў пяцьдзясят пяць. І ўсё-такі хутчэй за ўсё ён з-за бацькі пакутуе. Бо ёсць людзі, якія нічога не забываюць. Бацька Іванаў звычайны заатэхнік, працаваў у той жа, што і Мікіценка, канторы «Заготжывёла», але залішне моцна прыліп да немцаў. Служыў ім верай і праўдай. Віжаваў

за падпольшчыкамі, якія ўдала дзейнічалі ў «Заготжывёле»: нарабаваных немцамі кароў некалькі разоў пераганялі партызанам.

Шынкарэнку-заатэхніка падпольшчыкі нават забіць хацелі, да таго ён ім збрыдзеў. Ды перашкодзіў ягоны брат, які быў камісарам у атрадзе, з якім мястэчковае падполле было звязана.

Кавальчук добра памятае гэтага камісара. Павольны ў рухах, хітры, расцягваючы, нібы стары дзед словы, ён гаварыў, нібы спяваў:

— Дурны гэты мой брат. Савецкая ўлада вывучыла, у людзі вывела. А ён вунь што... Але вы, хлопцы, яго не чапайце. Мы з ім, падлюгай, самі расправімся...

Расправіліся. Такіх актыўных нямецкіх памагатых, як заатэхнік Шынкарэнка, звычайна судзілі. А з ягонай галавы ніводзін волас не ўпаў. Відаць, зрабіў камісар сёе-тое, не даў роднага брата ў крыўду.

Добра пасядзеў, пачаставаўся ў Мікіценкі Кавальчук. Пагаманілі, успомнілі былое. Харошы, незабыўны быў час, асабліва памятная восень, калі вызвалялі мястэчка.

Па дарозе на станцыю Кавальчук зноў завітаў да стаўка, над якім схіліліся напаўасыпаныя асіны. Нібы прасіў у іх благаславення на тую рэштку дарогі, якую засталося прайсці. Негарачае сонца хаваецца за дахі хат, яго касыя праменні неяк злавесна адбіваюцца ў шыбах акон, вячэрняя сінеча ўсё больш напаўняе паветра. Ёсць штосьці самотнае, тужлівае, нават трывожнае ў спатканні ночы з такім вось зіхатлівым, сонечным днём, які выбліснуў сярод хмурай панылай восені.

*1992*

# 1993

## ВАГАВАЯ БУДКА

Калі не сплю ці доўга не магу заснуць, стаіць у вачах вагавая будка, ад якой пачынаюцца тупіковыя пуці. У гады майго дзяцінства яна была маленькая, падобная на каплічку, пафарбаваная, як усе станцыйныя будынкі, у жоўты колер, а зверху пакрытая цёмна-чырвонай бляхай.

Перад вайной каля зарослых палыном, гадзючнікам, быльнікам тупіковых пуцей раённыя нарыхтоўчыя канторы набудавалі розных складаў і баз. З іх, пачынаючы з сярэдзіны лета, грузілі ў вагоны скрынкі памідораў, агуркоў, розную іншую агародніну, бульбу, а зімою — збожжа.

Менавіта тады на месцы непрыкметнай каплічкі вырасла новая вагавая будка — прасторная, светла-жоўтая, з вялікімі, на ўсю сцяну, вокнамі-рашоткамі. Бо цяпер трэба было ўзважваць многа вагонаў.

Мае дзіцячыя гады праляталі каля чыгункі. За нашым агародам ляжаў чыгуначны насып, а насупраць хаты стаяў з паднятым ці апушчаным крылом семафор.

Калі па рэйках несліся цягнікі, у вокнах звінелі шыбы, трохі падрыгвалі сцены, падлога, але да гэтага, як і да пранізлівых паравозных гудкоў, перастуквання колаў мы прывыклі і не звярталі ўвагі. Нават ноччу на сон гэта не ўплывала.

Бацька працаваў на чыгунцы стрэлачнікам. Гадоў у дзесяць, пасля таго, як я скончыў другі клас, ён узяў мяне за руку і адвёў у рамонтную брыгаду. З таго часу маё вольнае жыццё скончылася. Восенню, зімой, вясной хадзіў у школу,

а ў час летніх канікулаў шыбаваў у пуцейскую казарму. Там чарнавокі, падлобісты, страшнаваты з твару брыгадзір (па характары, аднак, вельмі добры чалавек) размяркоўваў, каго куды паслаць. Напачатку я ссякаў між шпалаў траву, зносіў са станцыйных пуцей жужаль і гэтак непрыкметна дарос да пуцейскага рамонтніка. А гэта ўжо нялёгкая работа: мы падбівалі баласт пад шпалы, мянялі гнілыя шпалы на новыя, разагнанай лябёдкай звужалі стыкі рэек.

Правільна напісаў адзін пісьменнік: у час нямецкай акупацыі ў кожным пасёлку, гарадку, а ў вялікім горадзе дык нават на кожнай вуліцы была свая «Маладая гвардыя», гэта значыць падпольная арганізацыя ці група. І я быў у такой «маладой гвардыі».

Акупацыя гарадка працягвалася два з лішнім гады. Першы год я нідзе не працаваў.

Летам другога года прыйшлося ўладкоўвацца на службу. Я ведаў дакладна: мяне запісалі на работу ў Германію. А там заганяць на завод ці шахту, і прыйдзецца ўкалваць дзеля перамогі нямецкай зброі. То лепей тут дзе-небудзь прыткнуцца...

Брыгадзір са страхавідным тварам па-ранейшаму ўзначальваў рамонтную брыгаду і лёгка мог залічыць мяне рамонтнікам. Але рамантаваць немцам чыгунку я не хацеў. Па перашытай каляі імчалі на ўсход нямецкія цягнікі, і працаваць на чыгунцы, значыць пасабляць ворагу. Так я тады думаў...

Прыёмніка да лета сорак другога года мы не мелі, аднак прага ведаць, што робіцца на фронце, на свеце, была такая нясцерпная, што я і мой сябар Іван Гарошык настолькі добра вывучылі нямецкую мову (мы яе і да вайны ніштавата ведалі), што свабодна чыталі нямецкую газету.

Мы з Іванам наважылі ўладкавацца ў якую-небудзь кантору. Пісарчукамі ці рахункаводамі. Вядома, з дазволу падпольнай групы.

Тоўсценькі, чырванатвары бургамістр (жыхары благога пра яго не гаварылі, наадварот, хвалілі) накіраваў нас з Іванам на фінансавую работу. Мяне касірам у лясгас, Івана — картатэчнікам у гандлёвую кантору.

У той прыкладна час, калі я паступіў на работу, савецкі самалёт у недалёкай ад мястэчка вёсцы высадзіў дэсант. Так здарылася, што я бачыў, як высаджваўся гэты дэсант. Самалёт

спусціўся зусім нізка, зрабіў некалькі кругоў над лесам і паляцеў на ўсход. Было гадзін дванаццаць ночы.

У хуткім часе мы ўстанавілі сувязь з дэсантнікамі. Іван Гарошык пакінуў кантору і стаў працаваць на чыгунцы. Трэба было лічыць воінскія эшалоны.

Я касірскую пасаду не пакінуў. Яна давала сякую-такую магчымасць збіраць патрэбныя звесткі. Добра ведаць чужую мову. Звычайна нямецкія часці, якія прыбываюць на адпачынак ці папаўненне ў мястэчка ці на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі, будуюць бункеры, іншыя памяшканні, не пытаючыся дазволу лясгаса, бяруць драўніну. Але рахункі ім лясгас выстаўляе.

Гэтыя рахункі — мой козыр. З імі я завітваю да інтэндантаў, ваенных пісараў і часта штосьці патрэбнае вынюхваю.

Але баліць душа. Вораг другі год топча родную зямлю. Гэта — я думаю — разумее толькі той, хто сам перажыў падобнае. Няма большай знявагі, чым чужая ўлада, чужая воля, якая вісіць над табой і ад якой ты залежыш.

Летам сорак трэцяга года на ўтравянелыя тупіковыя пуці прыгналі і паставілі цэлы эшалон абшарпаных цяплушак. Размяшчаўся ў іх разнастайны люд: палякі, чэхі, бельгійцы, французы. Немцы адарвалі людзей ад сем’яў, прыгналі на далёкую, невядомую станцыю. Выкарыстоўвалі ў якасці рамонтнікаў. Прытым рамонтнікаў асаблівых, якія аднаўлялі чыгунку, клалі новыя рэйкі, шпалы пасля партызанскіх дыверсій. Не хацелі немцы, каб рамантавалі чыгунку мясцовыя людзі. Бо тады пра партызанскія справы, іх размах будзе ведаць усё навакольнае насельніцтва. Кожную раніцу я праходжу міма застылага эшалона цяплушак, вагавай будкі, кіруючы ў лясгас, на службу.

У думках я называю тупіковы эшалон «новай Еўропай». Пра «новую Еўропу», «новы парадак» цяпер кожны дзень пішуць у газетах немцы. Відаць, баяцца рускіх, іх наступлення і хочуць з’яднаць еўрапейскі люд, пагражаючы нашэсцем дзікіх азіяцкіх ордаў.

Каля эшалона ніколі не спыняецца гандаль. Тут аціраецца мясцовая басота. Яна за нямецкія маркі, якія ніякай цаны ў мястэчку не маюць, выменьвае ў рамонтнікаў запальнічкі, цыгарэты, іншую драбязу, якую, відаць, бельгійцам, чэхам, французам прысылаюць з дому.

У мяне сярод рамонтнікаў ёсць знаёмы беларус Мікола Кашуля, з-пад Белай Падляскі. Ён служыў у польскай арміі. Трапіў у палон да немцаў, і вось яго прызвалі сюды. Круглатвары, прысадзісты, ён здаецца спакойным і ўраўнаважаным. Але толькі да таго часу, пакуль гаворка не заходзіць пра немцаў. Немцаў Мікола ненавідзіць люта і адразу выбухае гневам:

— То гэрады!.. Бандыты, вісельнікі. Іх трэба стшэляць, нішчыць, мардаваць! Справідлова робяць вашы партызаны...

Мікола прыходзіць да мяне. Маці яго трохі падкармлівае. Пайка, які атрымліваюць рамонтнікі, не хапае.

Ужо чэрвень мінуў, ліпень пачаўся, але немцы не наступаюць. Я трывожуся. Няўжо будзе, як летась і пазалетась? Зімой поспех у Чырвонай Арміі, але як толькі прыгрэе сонца, падсохнуць дарогі, ачысціцца ад воблакаў неба, немцы пруць напралом наперад.

Нарэшце і Кашулю я прылучаю да справы. Ён ахвотна згаджаецца дапамагаць партызанам.

Між тым на фронце пачалося. Мы, сувязнікі, лічы, з сакавіка-красавіка паведамляем дэсантнікам, у якіх ёсць радыёстанцыя, пра новыя танкі, артылерыйскія ўстаноўкі, якія немцы ліхаманкава перакідаюць на фронт. Толькі не ведаем, як гэтая тэхніка называецца. Аказваецца, танкі — «тыгры», артылерыйскія самаходкі — «фердынанды». Цяпер «тыгры» і «фердынанды» хочуць адсячы Курскі выступ.

Я кожны дзень хаджу на станцыю, дзе для немцаў-чыгуначнікаў у калідоры цаглянага двухпавярховага дома-інтэрната вывешваюцца надрукаваныя на пішучай машынцы вайсковыя зводкі.

Слаба прасоўваюцца немцы, але ўсё ж прасоўваюцца. Маё сэрца поўна трывогі і непакою. Няўжо зноў паражэнне, адступленне? Але так цягнецца нядоўга. Нарэшце немцы спатыкаюцца. Пішуць пра шалёныя атакі рускіх, якія нібыта з поспехам адбіваюць, пра жорсткія, крывавыя баі. Я навучыўся чытаць між радкоў: савецкае войска, значыць, перайшло ў наступленне. Здагадка ў хуткім часе пацвярджаецца: нібы скрозь зубы немцы паведамляюць: пакінулі два гарады — Арол і Белгарад.

Трэба было бачыць у гэты дзень «новую Еўропу»! Скінуўшы чорныя рабочыя робы, апрануўшыся ў лепшую

вопратку, рамонтнікі частуюць адзін другога шнапсам, іграюць на гітарах, губных гармоніках, спяваюць. Той, хто іграць не ўмее, б'е лыжкай па кацялку. Абы болей гуку. Гэтак адзначае «новая Еўропа» летнюю перамогу рускіх.

Кашуля як з нажом к горлу прыстае да мяне:

— Ты партызан. Дай мне вашу штуковіну. Зробіш, як належыць.

Праз колькі часу я перадаю Міколу чорную магнітную міну-чарапашку. Хлопцы, якія працуюць на чыгунцы, прыладзілі дзве такія міны пад нямецкія цыстэрны. Вынікаў, аднак, мы не ведаем: міны з хімічным узрывальнікам і выбухаюць яны аж праз дванаццаць гадзін, далёка ад нашай станцыі.

Кашуля міну прыладзіў пад цыстэрну, не могучы стрымаць радасці, ледзь не крычыць:

— Ну і жарнула! Поцёнг стаў ракам. Вагон узлез на вагон, як жарабец на кабылу. Германцы пшыехалі ў дупу...

Кашуля яўна пахваляецца: выбуху ён бачыць не мог. Але я яго разумею.

У тыя дні я паверыў канчаткова: песенька немцаў спета. Болей ім не падняцца, колькі б вайна яшчэ ні працягвалася.

Прыязджаючы дамоў, у мястэчка (цяпер яно называецца горадам), я заўсёды праходжу міма вагавай будкі, баз, складскіх памяшканняў. Яны зьначыліся, прыселі, як бы ўехалі ў зямлю... Быльнёг, палын, гадзючнік, як і раней, раскашуюць на тупіковых пуцях. Але радасна б'ецца сэрца, калі я праходжу міма гэтых мясцін. Тут сталела маё юнацтва. У той далёкі сорак трэці год я перажыў найвышэйшы ўзлёт духу, адчуўшы, зразумеўшы, што вораг, які прыйшоў на родную зямлю, лічыў яе заваяванай, пастаўленай на калені, зламаны, падкошаны і больш ніколі на ногі не падымецца, колькі б ні працягвалася вайна.

*1993*

## У ЗАГРАБЕ, НА ПЛОШЧЫ...

Мы ехалі з Заграба ў Любляну. У сталіцы Харватыі праводзіўся кангрэс славістаў, і яго ўдзельнікам, каб трохі адпачылі, развеяліся, наладзілі вось гэтую паездку. Я ніколі

не быў у Югаславіі, і было цікава хоць трохі пазнаёміцца з зямлёй паўднёвых славян. Краявіды навакол выдатныя. Асабліва ў Панонii, роўнай, пакатай даліне з багатымі нівамі, прыгожымі пералескамі, гаямі, пасёлкамі і гарадкамі, белымі дамкамі, пакрытымі чырвонай чарапіцай. Калі ёсць дзе-небудзь рай, то ён іменна тут, думаў я.

Можна было адпачыць і нават павесяліцца. Але мы, савецкія людзі, заўсёды задуменныя, заклапочаныя, дысцыплінаваныя. Асабліва калі трапляем за рубеж. На кангрэсе выступіў англічанін, праўдзівей, наш беларускі яўрэй, які перабраўся ў Англію і стаў там прафесарам-славістам. Гаворачы пра Максіма Багдановіча, ён увогуле ацаніў яго правільна, хоць тое-сёе ў ягонай прамове мне не спадабалася.

Англійскую мову я ведаю надзвычай кепска, таму перакласці выступленне англійскага прафесара папрасіў калегу-ўкраінца. Змарнаваў яго час і свой. Прыгажосці Панонii мы не ўбачылі. Бо ўсю дарогу ўкраінец тлумачыў мне незразумелыя словы.

На сённяшні мой розум, пярэчыць містэру Бэрку (так на англійскі манер ён перарабіў сваё прозвішча Бяркові́ч) было зусім не абавязкова. Кожны мае права гаварыць, што хоча. Але ў той час мы не маглі не аспрэчыць апанента нават у дробязях.

Любляна — горад мяккі, утульны. Такой, здаецца, і павінна быць сталіца невялікага славянскага народа. У люблянскіх пячорах, куды нас павялі на экскурсію, надпісы былі па-нямецку, па-французску, па-англійску і ніводнага па-руску. Я нават пакрыўдзіўся. Хіба не нашы хлопцы гінулі ў апошнюю вайну, каб вызваліць гэтую самую Славенію. Партызаны, якія тут, відаць, былі, гэта добра, але яшчэ ніколі і нідзе партызаны без рэгулярнай арміі не вызвалялі родную зямлю ад захопнікаў.

Было ва ўсім гэтым трошкі і асабістай абразы. Мой прадзед Іван, ваюючы на Шыпцы, вызваляючы паўднёвых славян, заслужыў медаль, і гэтая ягоная ўзнагарода, можна сказаць, паклала пачатак нашаму роду. Калі прадзед вярнуўся з войска, яму нарэзалі валоку казённай зямлі. (У нашай мясцовасці прыгону ніколі не было.) З гэтай валокі перапаў добры кавалак майму дзеду, а затым бацьку. А вось бацькаваму брату Гаўрылу пакарыстацца зямлёй не прыйшлося. Пачалася Першая сусветная вайна. Яго мабілізавалі ў войска, і ў Галіцыі, дзесьці не вельмі далёка ад гэтай Славеніі, ён склаў галаву.

Прадзедаў медаль мог захавацца да сённяшняга дня, каб не наша дзіцячая бесклапотнасць. Ён валяўся ў шафе стала разам з засаленымі вiдэльцамі, брускамі, шыльцамі, катушкамі нітак, быў ужо без лентачкі і нагадваў старадаўні пятак з чырвонай медзі.

Калі я пайшоў у школу, стаў сёе-тое разумець, памкнуўся надзейней прыхаваць прадзедаву ўзнагароду, але медаля ўжо не знайшоў. Мае малодшыя браты любілі класці пятакі на рэйкі, пад колы цягніка, а ў расплясканых кружочках прабівалі дзіркі, нанізвалі на нітку, робячы для гульняў індзейскія бусы. Магчыма, дзеля гэтай мэты быў выкарыстаны і прадзедаў медаль.

Я, вядома, выступіў супраць пана Бэрка-Бярковіча, невысокага, смяшлівага і надзвычай шустрага чалавека. Ён за гэта нiколькі не пакрыўдзіўся. Наадварот, з удзячнасцю пацiснуў мне руку: у нейкай меры я ўзняў ягоны аўтарытэт, бо пра пераважную большасць прачытаных на кангрэсе дакладаў ніхто нават словам не азваўся.

Браты-славяне між тым бубняць бясконцыя даклады, рэфераты, паведамленні кожны на сваёй мове. Ёсць такая прывілея на славістычных кангрэсах: кожны, калі захоча, можа гаварыць на ўласнай нацыянальнай мове. Я добра разумею ўкраінцаў, збольшага — палякаў, трошачкі чэхаў і болей нікога. Хоць даўно купляю газеты на сербахарвацкай, славацкай, славенскай мовах. Тэкст сяк-так разбіраю, але вусную гаворку не схопліваю.

Паглядзеўшы праграму, пераканаўшыся, што наперадзе даклады на незразумелых мне мовах, я з кангрэса пацiху змываюся. Блукаю па глухіх вулачках Заграба, дзе яшчэ захаваліся дашчаныя парканы, плятні, зелянеюць агароды, з бульбай, капустай, агуркамі, і дзіўлюся, што ўсё гэта вельмі падобнае на наша, беларускае. Існуе, значыць, агульны славянскі дух і падобны побыт. Можа ганарыцца славянства: недалёка цёплае Адрыятычнае мора, якога я ніколі не бачыў, за морам — Італія, Рым, калыска старажытнай культуры.

Я ведаю, што ў мінулую вайну, у якой і я ўдзельнічаў, Гітлер і Мусаліні стварылі так званую незалежную Харватыю, у якую ўваходзілі другія паўднёваславянскія землі, у тым ліку Боснія і Герцагавіна. У газетах пісалі пра стаўленіка фашыстаў Павеліча, які асабліва жорстка знішчаў сербаў.

Па гэтай прычыне мне не зусім зразумела, чаму кангрэс праводзіцца ў Заграбе, а не, скажам, у Бялградзе ці той жа Любляне? У Бялградзе ён мусіў праводзіцца, нават зборнік дакладаў быў выдадзены, але пачалася Другая сусветная вайна. Пасля нападу Гітлера на Расію Югаславія паўстала, гарэла ў агні партызанскай вайны. То чаму не ўспомніць пра гэта, не ўшанаваць гераічных сербаў, якія найбольш пралілі крыві, змагаючыся супраць агульнага ворага. Хоць, з другога боку, кангрэс, магчыма, закліканы прымірыць супярэчнасці, даць штуршок яднанню і брацтву славянскіх народаў. Бо партызаны, якія змагаліся супраць фашыстаў, Павеліча, ягоных усташоў, былі і ў Харватыі.

Вечарам невялікая цэнтральная плошча Заграба шчыльна забіта. Моладзі, відаць, некуды падацца, апрача вось гэтай не надта шырокай плошчы. Тут працуюць кавярні, бары. Таму таўчэцца народ.

Я лёгка ўяўляю, што гэтак жа было ў акупацыю. Усе славянскія сталіцы, уключаючы Прагу, Варшаву, Бялград, Кіеў, мой родны Мінск, былі захоплены фашыстамі. Тут размяшчаліся нямецкія шпіталі, афіцэрскія казіно, нават публічныя дамы. Вольнай, незалежнай заставалася адна толькі славянская сталіца — Масква.

Збіраючыся на плошчы, патрыёты, партызанскія памочнікі, падпольшчыкі ў вайну, відаць, гаварылі пра становішча на фронце, радаваліся поспехам, перамогам Чырвонай Арміі, смуткавалі з прычыны яе няўдач. Бо не было другой сілы, акрамя Расіі, якая б магла вызваліць усходніх, заходніх, паўднёвых і ўсіх астатніх славян.

Адбубнілі славісты даклады, рэфераты, а далей — недарэчнасць. Звычайна мнагалюдныя міжнародныя форумы, на якія іх удзельнікі прыязджаюць з Амерыкі, Канады, нават з далёкай Аўстраліі, заканчваюцца няхай не багатымі — з чаркай віна, бутэрбродам на закуску — прыёмамі, прамовамі, віншаваннямі. У Заграбе і гэтага не было. Папхалі дэлегаты даклады ў папкі, тэчкі, нямытую бялізну паклалі ў чамаданы, купілі білеты на цягнікі і паехалі кожны ў свой бок...

*1993*

# 1994

## АВЁС ДЛЯ РЭДАКТАРА

На другім годзе пасля сканчэння вайны ў Рыкалавічах — раённым цэнтры — была наладжана сельскагаспадарчая выстаўка. Год якраз выдаўся харошы: часта ішлі дажджы, але ў меру, нішто не вымакла, не загінула, шчодра свяціла сонца, тым часам засухай нават не пахла. Нават на пясках жыты, ячмені рвалі зямлю. На сенажацях буяла разнатраўе.

Выстаўку наладзілі ў агромністым — нібы хлеў пажарнай каманды — раённым Доме культуры. Чаго толькі сюды не прывезлі вакольныя калгасы і саўгасы! Некаторыя экспанаты былі проста выдатныя. Снапы жыта вышэй росту чалавека, пшаніца з надзвычай буйным — нібы свечка — коласам, залацісты — з галоўкамі-званочкамі — лён, налітыя салодкім сокам чырванабокія яблыкі, слуцкія бэры, кожная з якіх велічынёй з кулак, і нават такія агромністыя гарбузы, якіх аднаму чалавеку нізавошта не падняць.

Мінула толькі два гады з канца вайны, а багата жывуць людзі, падумаў бы кожны, хто наведаў выстаўку. Але карэспандэнт абласной газеты Юрка Сцізорык, які ўжо два гады пераважна пешшу мераў доўгія вёрсты ад вёскі да вёскі, гэтак не думаў. У раёне шэсцьдзясят калгасаў, ёсць сортавыпрабавальныя ўчасткі, за якімі спецыяльнаназіраюць аграномы, лепей даглядаюць, падкармліваюць угнаеннямі збажыну, і адтуль на выстаўку нямала ўзята. Дый наогул у кожным калгасе, які б ён бедны ні быў, што-небудзь адметнае

ёсць. Так што з кожнага па нітцы і голы будзе ў світцы. Абласному начальству, з ліку якога быў і рэдактар абласной газеты, непасрэдны Сцізорыкаў начальнік, пыл у вочы быў пушчан.

У другой палавіне дня раённае кіраўніцтва наладзіла ў сталовай абед. На гэты абед быў запрошан і Юрка Сцізорык.

Вось тады да карэспандэнта абласной газеты падышоў яе рэдактар Тужык, вяртлявы, з зусім лысай галавой і цёмнымі вочкамі-свярдзёлкамі.

— Ведаеш,— сказаў ён неяк сарамліва і ніякавата,— са мной жыве цешча. Яна вельмі любіць аўсяны кісель. Але ў горадзе — сам ведаеш — аўса не купіш.

— Аўсяны кісель называецца жур,— чамусьці сказаў Юрка, які паспеў трохі выпіць гарэлкі і ў якога злёгку кружылася галава. Юрка быў горды ад усведамлення таго, што з ім прылюдна размаўляе рэдактар абласной газеты.

— Дык ці не купіў бы ты паўпуда аўса,— цягнуў далей Тужык.— Раён жа ў вас, па ўсім відаць, ніштаваты...

Юрка злёгку замяшаўся, але каб не асаромецца перад рэдактарам, бадзёра адказаў:

— Куплю.

— Толькі, калі ласка, не залазь у калгаснае. З якой-небудзь звеннявой пагавары. Каб прадала з асабістых запасаў.

— Авёс на прысядзібных участках не сеюць. Бульбу садзяць,— запярэчыў Сцізорык, адваёўваючы сабе свабоду дзеяння.

— Глядзі сам,— здаўся нарэшце рэдактар.— Толькі каб усё было чыста.— Пры гэтым ён сунуў Юрку ў рукі чатыры пяцідзесяцірублёвыя паперкі.

Гэтую размову або проста падслухаў, або здагадаўся аб яе змесце старшыня калгаса «Парыжская камуна» Мігай, высокі, перахлябісты, з мігатлівымі хітрымі вачамі. Калгас, размешчаны на суцэльных балотах, лічыўся перадавым, і Юрка не раз пісаў у абласной газеце пра поспехі «Парыжскай камуны».

— Можа, што трэба? — Мігай нібы з-пад зямлі вырас перад Юркам.— Я маю на ўвазе твайго рэдактара. Высокі чалавек. Да сакратара райкама яму нялёгка звяртацца...

Юрка стаяў у замяшанні. Што Мігай жулік і прайдзісвет, ён ведаў даўно. Але ж чалавек сам набіваецца. Як яму не верыць?..

Юрка напаўголаса сказаў Мігаю пра авёс.

— Браток ты мой! Зраблю. Падыходзь паслязаўтра да пункта «Заготзбожжа». У дванаццаць гадзін. З калгаса прывязём нарыхтоўку і твой авёс прыхопім.

Юрка выняў з кішэні грошы. Мігай іх проста выхапіў з рук і кінуўся за дзверы. Баль у сталовай выдыхаўся, бо начальства выдзеліла толькі па сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі на чалавека. Мігай, відаць, пабег за гарэлкай.

Праз дзень у вызначаны час Сцізорык быў каля базы «Заготзбожжа». З «Парыжскай камуны» прыбыла аўтамашына, некалькі фурманак, але ніякага аўса яны не прывезлі. Так паўтаралася на трэці, чацвёрты, пяты дзень... Сцізорыку абрыдзела брындаць ля разложыстай, пабудаванай з новага сасновага цёсу базы «Заготзбожжа».

Мінуў другі, затым трэці тыдзень. Мігай яўна забыў пра абяцанне.

Прыкладна праз месяц Сцізорык злавіў Мігая ў райкаме партыі.

— Братачка, не крыўдуй. Толькі цяпер змалацілі авёс. Я ўсё помню. Не забыў. Прыходзь заўтра да «Заготзбожжа».

Сцізорык на ўсялякі выпадак прыйшоў. Хоць не верыў, што Мігай спраўдзіць слова. Каля «Заготзбожжа» стаяла машына з «Парыжскай камуны», але ніякага аўса зноў не было.

Яшчэ раз ці два злавіў Мігая карэспандэнт. Той бажыўся, прысягаў, што спраўдзіць абяцанне абавязкова. І, вядома, падводзіў.

Мінула тры месяцы. Сцізорык зразумеў, што Мігай з яго проста смяецца. Ведае, шэльма, што Сцізорык нічога благога яму не зробіць. Не напішаш жа ў газеце пра авёс.

Карэспандэнт наважыў шукаць іншае выйсце. Паехаў, дамовіўшыся папярэдне са знаёмым брыгадзірам, у таксама багаты калгас, не таргуючыся купіў за дзвесце рублёў паўпуда аўса. Толькі авёс быў неяк залішне лёгкі: паўпуда заняло палавіну мяшка.

Жыццё ўсё-такі помсціць жулікам. Яшчэ праз месяц ці два пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі. Сцізорык у райкаме партыі даведаўся, што кандыдатам у дэпутаты вылучана перадавая даярка з саўгаса, размешчанага па суседстве з раённым цэнтрам. У «Парыжскай камуне» ў гэты ж дзень намячаўся перадвыбарчы сход у падтрымку яе кандыдатуры.

Сцізорык разам з райкамаўцамі паехаў у «Парыжскую камуну». Перш чым пачаць сход, Мігай запрасіў да сябе на кватэру ўсю райкамаўскую брыгаду. Сталы ламіліся ад варанага і смажанага.

Райкамаўцы, помнячы пра сход, амаль не пілі. Затое Мігай глушыў шклянку за шклянкай. Хвілін праз дзесяць ён зусім сп’янеў і, не тоячы радасці, выгукнуў:

— Хлопцы, я вас яшчэ не так пачастую. Як толькі мяне выберуць дэпутатам...

Толькі цяпер да першага сакратара райкама, які ўзначальваў брыгаду, дайшло, чаму старшыня калгаса такі гасцінны.

— Мігай, выкінь дурноту з галавы. Мы не цябе прыехалі вылучаць. Вы будзеце падтрымліваць лепшую даярку раёна. Ідзі праспіся. Ты на нагах не стаіш...

Ужо зімой, калі Сцізорык прыехаў у рэдакцыю і зайшоў у кабінет да галоўнага рэдактара, той, распытаўшы пра навіны, нарэшце пажартаваў:

— Дрэнны ты камерсант, Сцізорык. Твой авёс — адно шалупінне. Цешча нават талеркі кісялю не зварыла. Хто цябе так падкузьміў?

Карэспандэнт пачырванеў. Доўгая, смешная атрымалася гісторыя, і рэдактару проста немагчыма было ўсю яе расказаць.

*1994*

## БЛАСЛАВЕННЕ БУЛЬБЕ

Я доўга шукаю дот, блукаю па густым, парослым верасам хвойніку і нарэшце знаходжу. У абымшэлым, напаўразбураным доце адзін вугал зусім разваліўся, з жалезабетону тырчаць стальныя пруты арматуры — яны нагадваюць зубы нейкага нябачнага страшыдлы.

Дот некалі стаяў у голым полі, меў абсяг прастрэлу: тут за два ці тры дзясяткі кіламетраў ад Мінска праходзіла мяжа з Польшчай. Граніца пазней хоць і адсунулася пад Брэст, Беласток, але доты ў апошнюю вайну яшчэ ваявалі. Ад мясцовых жыхароў я чуў апавяданні, як мужна змагаліся супраць фашыстаў чырвонаармейцы, што ў апошні момант занялі гэтыя доты.

Адгрымела вайна, ляцелі гады, і з часам на полі вырас лес, у якім цяпер хаваюцца доты.

У гэты лес я вырываўся з горада, калі быў яшчэ намнога маладзейшы. Так здарылася, што непадалёку ад дота мне выдзелілі садова-агародны ўчастак. Я пабудаваў на ім дамок, пасадзіў дрэвы, вырошчваю бульбу. І, вядома, шастаю па пералесках.

Я і цяпер выбраўся да дота, бо паблізу яго ёсць паляна, на якой вясной растуць смарчкі. Лес нішчыцца, засмечваецца. У ім бясконцыя чорныя плямы ад вогнішчаў, пустыя бутэлькі, бляшанкі, іншы друз. Дзе тут тым смарчкам вырасці.

Гэткія сляды пакідаюць пасля сябе гараджане, якія прыязджаюць у лес адпачыць. Раскладваюць агонь, п’юць гарэлку, смажаць сала. Пасля іх, як кажуць, хоць трава не расці.

На знаёмай паляне я нічога не знаходжу. Яна вытаптана, збэрсана, на кожным кроку чорныя галавешкі, вуголле, попел ад вогнішчаў. Я ў душы праклінаю гараджан. Няўжо не разумеюць, што падсякаюць сук, на якім сядзяць? Знявечаная, спустошаная зямля адплаціць за здзек, які ўчыняецца над ёй.

Злосны, з пустым кошыкам, я выходжу на дарогу. І бачу малюнак, якога не бачыў за доўгія гады вандровак па тутэйшых мясцінах. На абсягу вялікага, з пракладзенымі канавамі балота, на якім раней толькі асака ды розныя дудкі раслі, капошацца дзясяткі гараджан. Мільгаюць белыя, сінія, чырвоныя касынкі, сарочкі, майкі, трусы. Працуюць мужчыны, жанчыны, дзяды, падлеткі, рагатлівыя дзяўчаты. Сонца вісіць яшчэ досыць гарачае, хоць ідзе на схіл. Людзі, якія капаюць, перакопваюць балотны дол, лішнія вопраткі скінулі, і якіх толькі не пабачыш фігур. Нібы на пляжы каля цёплага мора.

Міжволі я ўспамінаю далёкі і зусім другі час. Штосьці падобнае да таго, што бачу цяпер, я ўжо пераэжыў...

Першую акупацыйную зіму наша сям'я проста галадала. У нас быў невялікі запас солі, карасіну, і мы мянялі гэта на бульбу. Добра памятаю: раніцай бульба з гуркамі, на абед бульбяная тоўчанка, запраўленая льняным семем, вечарам бульба ў мундзірах, якую мы торкалі ў соль і елі...

Соль, карасін нарэшце скончыліся. А яшчэ быў толькі канец снежня.

Як будзем жыць далей, я не ведаў. Бо і вопраткі, крамніны не было, каб мяняць на харч. Бацька быў на фронце, і ратавала сям'ю (маці, трох сыноў, дачку) бадай толькі адна карова. Яна добра даілася.

Пад Новы год здарылася незвычайнае. Вечарам да нас, гучна пастукаўшы ў дзверы, зайшоў высокі, страшэнна змізарнелы чалавек, апрануты ў дзіравыя транты. З цяжкасцю мы пазналі ў ім матчынага стрыечнага брата Карнея, або Карнюша, як мы яго называлі.

Карней быў на фронце і пад Кіраваградам трапіў у палон. З лагера ён неяк вырваўся і вось два ці нават тры месяцы брыў па Украіне, каб дабрацца да роднай хаты, якая размешчана ў недалёкай ад мястэчка вёсцы, адкуль родам і мая маці.

Карнюша, як маглі, пакармілі і, разаслаўшы на падлозе салому, паклалі спаць. У тых жа вашывых трантах, у якіх прыйшоў. Новай вопраткі даць яму не маглі.

Памятаю: Карнюш сядзеў на табурэце і, прыхінуўшыся да печы, грэў спіну, а я яму расказваў пра падзеі на фронце. Немцаў нібыта ад Масквы пагналі, і глухія чуткі пра гэта блукалі па мястэчку. Карнюш слухаў і нічога не гаварыў. Ён яшчэ не вырваўся з палону сваёй доўгай пакутлівай дарогі, на якой, відаць, было нямала цяжкіх прыгод і нягод.

Назаўтра Карнюш пайшоў. А тыдні праз тры, пад стары Новы год у наш двор заехаў запрэжаны ладным конікам воз і падужэлы, расчырванелы ад марозу Карнюш унёс у хату на сваіх шырокіх плячах паўмяшка мукі.

Тут варта падрабязней расказаць пра Карнюша. Ён нарадзіўся ў Пецярбурзе, бо ягоны бацька на той час быў дэпутатам апошняй чацвёртай Думы. А выбралі ў дэпутаты ягонага бацьку, трохі пісьменнага селяніна, за тое, што вельмі

добра праявіў сябе на пасадзе валаснога старшыні. Умеў абыходзіцца з людзьмі. Тры новыя школы пабудаваў у воласці. Ахайныя будынкі дзвюх невялікіх пачатковых школ з высокім ганкам і бляшаным дахам і цяпер яшчэ стаяць у мястэчку.

Пасля рэвалюцыі дэпутацтва Карнюшавага бацькі скончылася. Ён вярнуўся ў родную вёску. Сялянскай навукі не забыў: араў, сеяў, касіў, як усе. Падчас белапольскай акупацыі, калі жаўнеры бязлітасна рабавалі вёску, заступіўся за аднаго беднага селяніна. Рабаўнікі гэтага яму не даравалі: страшэнна збілі прыкладамі, і ён у хуткім часе памёр.

Карнюш з сястрой і старэйшым братам раслі сіротамі. У час НЭПа бацькавы браты рашылі збудаваць паравы млын. Ведаючы, што ва ўдавы дэпутата водзяцца залатыя дзясяткі царскай чаканкі, запрасілі ў хаўрус яе старэйшага сына.

Млын пыхкаў дымам з высокай жалезнай трубы, пакуль не пачалася калектывізацыя. Дзядзькі і старэйшы брат з’ехалі з вёскі падалей ад граху, а непаўналетняга Карнюша з’едлівыя сельсаветчыкі не кранулі.

Немцы таксама не аддалі млын былым гаспадарам. Яны толькі прызначылі іх млынарамі. Адным з млынароў стаў Карнюш.

Толькі дзякуючы матчынаму стрыечнаму брату мы перажылі тую цяжкую зіму. Карнюш ніколі не мінаў нашага дома, калі прыязджаў у мястэчка. То паўмяшка мукі падкіне, то трохі круп, то хоць якога-небудзь субару. Я так і не паспеў аддзячыць яму: пайшоўшы другі раз на фронт, Карнюш загінуў.

Трэба было бачыць мястэчка першай ваеннай вясной! На немцаў ніхто не спадзяваўся. Яны ў абрэз давалі хлеба нават тым, хто хадзіў на службу: паўкілаграма работніку і ні грама на дзяцей, жонку. Таму стары і малы кінуўся ў поле. Хто, прывучыўшы карову, араў загон, але большасць мястэчкоўцаў капалі зямлю рыдлёўкамі. Як вось цяпер мінчане на балоце. Ад раніцы да вечара не сціхала на полі гамонка. Пад рыдлёўку садзілі бульбу, сеялі яравое жыта, ячмень, проса. Ніводнага вольнага кавалка поля не засталося. Хоць не тое што трактара — нават коней не было ў мястэчку.

Я капаў уздзірванелы кавалак зямлі на адведзеным нам пясчаным кургане, які ўзвышаўся сярод балота. Я, здаецца,

быў прывучаны да работы: да вайны на канікулах працаваў у рамонтнай брыгадзе. Але хіба можна параўнаць падбіўку баласту пад шпалы з капаннем уздзірванелага долу, які ніколі не бачыў плуга, зарос здзічэлай травой, карэнні якой, нібы скручаны дрот, спляліся ў тугія жмуты і вузлы. Кожную жменьку зямлі трэба было размяць, расцерці ў руках, а карэнне, траву знесці на край поля.

Я цэлы тыдзень ваяваў з дзірваном, але не адолеў яшчэ і палавіны зусім невялікай дзялянкі. На руках былі суцэльныя мазалі, яны палопаліся, і рукі нясцерпна балелі. Тым часам я працягваў капаць, расціраць пераплеценыя карэннем камякі зямлі, радуючыся кожнай ускапанай цалі.

Курган я ўсё-такі ўскапаў. На ім пасеялі проса. Яно добра ўзышло, потым закусцілася, закаласілася. Я хадзіў на курган глядзець, як яно расце. Я нават некалькі пудзілаў паставіў, каб не дзяўблі зерне вераб’і. Ва мне нібы прачнуўся хлебароб, гаспадар, які любаваўся вынікам уласнай працы. Гэтае пачуццё прыйшло і цяпер, калі я гаспадару на сваіх невялікіх сотках. Смачны хлеб, вырашчаны ўласнымі рукамі.

Таму я шчыра спачуваю гараджанам. Няхай садзяць бульбу. Каб толькі лета было не дажджлівае і яна не вымакла на гэтай нізкай, якая яшчэ нічога добрага не радзіла, балацянцы.

*1994*

## ВЫПАДАК НА АЎТОБУСНЫМ ПРЫПЫНКУ

Князі былі разумныя людзі, з добрым густам, адчуваннем прыгажосці. У гэтым я пераканаўся даўно. Удзельнічаў у многіх раскопках, каля розных гарадоў, княжацкіх пасадаў. Для жытла князі выбіралі прыгожае месца. На гары альбо сярод балота — каб было зручна абараняцца ад ворагаў. Але абавязкова з прыгожым навакольным краявідам.

Некалі я стаяў у Кіеве, на Уладзімірскай горцы, глядзеў на Дняпро, на асмужаныя зарэчныя далі. У той жа год выпала пабываць і ва Уладзіміры. Божа мой! Такая самая горка, амаль такі самы краявід, толькі не дняпроўскія, а другія зарэчныя далі адкрываліся позірку.

Люблю княжацкія сталіцы, хоць сёння многія з іх толькі раённыя цэнтры. Напрыклад, Лагойск, Наваградак, Слуцк. А старажытныя Тураў і Заслаўе нават гэтых не надта вялікіх тытулаў не маюць.

Я грыбнік, таму вандроўнік. Блукаў па лагойскіх, стаўбцоўскіх, пухавіцкіх, слуцкіх, заслаўскіх і іншых лясах. Прыгожая наша Беларусь! Асабліва цэнтральная, сарцавінная частка. Пакатыя, ахутаныя наміткай смугі, пакрытыя лясамі пагоркі тояць пад сабой цэлае мора лячэбнай, на любы густ вады, нібы чакаючы, калі ў гэтых мясцінах паўстануць курорты і санаторыі. Швейцарыя…

Я марыў пад старасць пабудаваць дачны домік дзе-небудзь у лясной, грыбной мясціне, якая ў дадатак яшчэ і гістарычная. Я люблю адзін такі, размешчаны на чыгунцы гарадок, з яго нізкімі дамкамі, напаўразбуранымі мурамі, пясчаным валам.

Там цяпер яшчэ захоўваецца прыстойны лес. Гонкія сосны высока ўзносяць купчастыя верхавіны, сонца адбіваецца на гладкіх, меднага колеру ствалах. Пад нагамі шасціць мяккі мох або ружова-сіні верас. Па-над балотцамі п’яніць голаў багун. Шустрыя вавёркі спускаюцца на самы нізкі сук сасны, цікаўна сочачы, хто ходзіць па іхніх баравінах.

У гэтым баравым лесе мяне заўсёды ахоплівае асаблівы настрой. З думак знікае звычайнае, будзённае, душа настройваецца на высокі лад. Бор нібы дыхае вечнасцю. Можна легчы на мяккі імшасты дол і глядзець у неба і яго бяздонную сінечу, на чародкі белых аблачынак, на птушак, якія то мільгаюць, то кружаць у вышыні.

Той лес, паблізу якога я марыў пабудаваць домік, меў у маім жыцці асаблівае значэнне. Колькі разоў у гадзіны неспакою, душэўных згрызот я ехаў туды, вандраваў між сосен, бяроз, асін і — маўкліва, без слоў — нібы распавядаў ім пра сваё гора. Нават у змрочныя асеннія дні, калі зямля рыхтуецца да сустрэчы з зімой, я стараўся выбрацца ў лес. Раскладваў цяпельца, слухаў шум сосен — то аднастайна-зацяты, то нібы з цяжкім перарывістым уздыханнем,— глядзеў, як спадае з бяроз і асін жоўтае і барвовае лісце.

Аднойчы ў такім лістападаўскім лесе напаткала мяне незвычайная грыбная ўдача. Я выбраўся на верасовую паляну, густа засеяную апалым лісцем, але штосьці пацягнула мяне

на бліжні ўзгорак. На ім расце некалькі высокіх гонкіх сосен. Дол голы, толькі ў асобных мясцінах пакрыты жорсткім наздраватым лішайнікам. І вось на гэтым ужо авеяным халоднымі асеннімі вятрамі голым пятачку я бачу вялікую сям'ю баравікоў. Застываю ў здзіўленні і радасці. Ёсць у грыбной сям'і патрыярх — вялізны баравік з шырокім, нібы парасон, медна-барвовым каптуром, за ім трохі меншы, але таксама прыкметны, астатнія прыкладна адной велічыні. Нібы генерал, палкоўнік у акружэнні маёраў і капітанаў.

Усе баравікі на тоўстых крамяных ножках, моцныя, пругкія. Дзевятнаццаць штук і ніводнага чарвівага.

Чалавеку, дзе б ён ні жыў, трэба сустракацца з зямлёй, вадой, травой, лесам. І хоць раз у жыцці з такімі, як я знайшоў, баравікамі.

Жаданы, выпеставаны ў марах дамок я нарэшце будую. І там, дзе хацеў,— паблізу заняпалай княжацкай сталіцы, у якой, аднак, можна купіць хлеба, малака, часам нават страшэнна дарагой на сённяшні дзень каўбасы і селядца.

З вакна майго дамка відаць два пакатыя пагоркі, на кожным з якіх высіцца пабіты маланкамі, з выпаленым пастухамі тулавам дуб, а далей мысок сасняку і бярэзніку.

Вечарам я прымасчваюся ля вакна і чытаю. Паступова, не спяшаючыся, асенні дзень пераходзіць у ноч. Спачатку зямлю ахутвае толькі лёгкая шэрань, потым яна пераходзіць у светлую сінечу. Я ўключаю электрычнае святло. Сінь згушчаецца ўсё болей і болей. Нейкі час яшчэ можна адрозніць галіны яблыні, якая расце пад вакном, іх спляценне, перакрыжаванне. Потым усё паглынае цёмная, як дзёгаць, ноч.

На зломе лета і восені над галавой асабліва зорнае неба. Трохі зорак, сузор'яў я ведаю. Свяцілі яны да мяне і пасля мяне будуць свяціць. Але ад гэтага не знікне ў душы ўрачыстасць, якую выклікае велічнае, бясконца зорнае неба.

У апошні час робіцца штосьці дзіўнае. Невялікія, накшталт майго, дамкі пераважна летняга тыпу, як стаялі, так і стаяць. Але ў найбольш прыгожай мясціне, каля вадасховішча, на самым яго беразе вырастаюць двух- і нават трохпавярховыя катэджы з белай або чырвонай цэглы, з узорнымі вастраверхімі мезанінамі, балконамі, крытыя чарапіцай або бляхай. Мне здаецца, што нават княжацкія

палацы горш выглядалі. Пасёлкі-шанхаі з дамкамі-сотамі здаюцца ў параўнанні з гэтай пышнай, магутнай забудовай звычайнымі мурашнікамі.

Гэтай восенню ў мяне вынікае непрыемная сустрэча з жанчынамі старажытнага гарадка. Я прыйшоў на аўтобусны прыпынак, а яны ўжо сядзелі на лаўках, абцяжараныя сумкамі з буракамі, капустай. На бліжнім полі, за сценкай нізкарослых елак буракі нядаўна выбіралі студэнты. Але так выбіралі, што палавіна ці нават болей засталася ў зямлі. Вось жанкі і дабіралі саўгасныя буракі. Вядома, дзеля ўласнага спажывання.

Калі я падышоў, яны ўважліва мяне агледзелі. Пераканаўшыся, што баяцца мяне нечага, жанкі працягвалі шастаць адна за другой праз шасейку і на капуснае поле. Капусту яшчэ ніхто не зразаў, яна чакала гаспадара. Жанкі яе проста кралі.

Нарэшце адна найбольш шустрая, з мігатлівымі, цёмнымі вочкамі, якая ўвесь час з падазрэннем на мяне пазірала, спытала, адкуль я з’явіўся.

— З дачы,— адказаў я.— Хачу аўтобусам дабрацца да чыгункі.

Што тут пачалося! Жанкі крычалі, лямантавалі, гатовы былі разарваць мяне на кавалкі.

— Зладзеі бессаромныя! Народ абіраеце. За чэсную зарплату такія харомы не пабудуеш!..

У тлуме, мітусні я ніяк не мог давесці раззлаваным жанкам, што прыйшоў са звычайных дач, з шанхаяў, дамкі ў якіх пабудаваны людзьмі з невялікай зарплатай.

— Буржуі праклятыя! Ніяк нажэрціся не можаце. Паглядзіце, як народ жыве…

— Вылезуць вам бокам палацы! Трэба дынамітам іх узрываць!

Падыходзіць аўтобус. Жанкі напорна ў яго лезуць. Жаночы натоўп з сумкамі буракоў, накрадзенай капусты настолькі раз’ятраны, што я не адважваюся ўціскацца ў аўтобус.

Саджуся на лавачку, чакаю наступнага. Настрой сапсуты. Але што зробіш? Ніхто нічога не хоча слухаць.

*1994*

# ЗЯЗЮЛІ Ў РОДНЫМ ЛЕСЕ

Напярэдадні Дня Перамогі пісьменнік Кулінковіч не вытрымаў: нягледзячы на тое, што трэба капаць агарод, адвезці на садова-агародны ўчастак мяшок насеннай бульбы дый на ўрачыстым сходзе ветэранаў пасядзець, ён, не раячыся з жонкай, раптам рушыў на станцыю, пастаяў у чарзе і купіў білет да гарадка, куды даўно запрашае яго знаёмы настаўнік.

Апошні год Кулінковіч усё часцей успамінае родны лес, дзяцінства, разлівы верасоў на пясчаных выгарах і лясныя партызанскія сцежкі.

Ён хоча пабачыць партызанскую штабную хату ў вёсцы Гагалі, якая ўсімі сваімі вокнамі звернута на вуліцу. У гэтай хаце яго прымалі ў партызаны. На ўсход ад вёскі высілася града дубоў, кранутых першай асенняй пазалотай. У вячэрні час над дубамі гулі савецкія самалёты. Яны ляцелі на захад бамбіць немцаў.

Даўно напісаў пра ўсё гэта Кулінковіч. Але на схіле жыцця хочацца пабачыць знаёмыя мясціны. Можа, нават развітацца з імі.

Гарадок, у які прыехаў Кулінковіч, суседнічае з родным мястэчкам, дзе не засталося радні, а гасцініца такая малая, што ўбіцца ў яе немагчыма.

У знаёмага настаўніка ёсць машына. Выпіўшы ў святочны дзень па чарцы, яны рушылі ў дарогу. Настаўнік здаў, пастарэў, даўно на пенсіі, машыну сам даўно не водзіць. Дзеля гэтай мэты ён запрасіў пляменніка, шустрага белабрысага хлопца, здаецца, навучэнца рамесніцкага вучылішча.

І вось яны едуць. У Кулінковіча заўсёды ўзмоцнена б’ецца сэрца, калі ён бачыць знаёмыя мясціны, паселішчы, якія даўно не бачыў. Новае ёсць: лепшыя, сям-там нават заасфальтаваныя дарогі, каменныя будынкі, наогул увесь кругагляд, які прыкметна перамяніўся. Але яшчэ больш ранейшага, знаёмага. Марудна расце вёска. Многа, вельмі многа трапляецца старасвецкіх хат, з падслепаватымі акенцамі, гнілымі, пакрытымі зялёным мохам гонтавымі дахамі. Калі сказаць агулам, вёска па-ранейшаму старэе, пусцее.

А ў Гагалях штабной хаты няма. Два разы праехалі ўздоўж шэрай, якая пачынае аздабляцца зелянінай нешматлікіх садоў,

палісаднікаў, лавы хат і ніводнага магутнага, як памятае Кулінковіч, будынка, звернутага ўсімі вокнамі на вуліцу, не ўбачылі.

Яны прыпыніліся каля гурта жанок і даведаліся аб прычыне знікнення, можа быць, самага прыгожага будынка ў Гагалях.

— Грудзіха хату прадала,— перабіваючы адна другую, паведамілі жанкі.— На знос. І сама даўно выехала…

Кулінковіч здагадваецца, у чым справа. Штабная хата належала паліцэйскаму, які служыў у раённым гарнізоне. У канцы сорак трэцяга года партызаны нічога не баяліся і маглі заняць нават будыніну, якая б належала хоць сваяку Гітлера, каб такі ў гэтай балотнай, глухой мясціне знайшоўся. Той памятнай восенню партызан адчайна ганялі ўласаўцы, але і ўласаўцаў яны не баяліся.

Грады высокіх стромкіх дубоў на ўсходняй ускраіне вёскі таксама няма. Іх спілавалі, і нават пнёў ад гэтых прыгажуноў не засталося. Не любяць людзі нічога высокага.

Кулінковіч прыехаў дарма. Тое, аб чым марыў столькі бяссонных начэй, не здзейснілася. Настаўнік, які возіць Кулінковіча, нічога не разумее. Ну, няма хаты, дубоў, якія запомніліся з юнацтва, дык бог з імі. Можна на другія хаты і дубы паглядзець. Ці не ўсё роўна.

Кулінковічу тым часам не ўсё роўна. Гэта была ягоная хата, а стромкія дубы даўно сталі як бы часцінкай душы. Цяпер душа нібы збяднела. Ён, напрыклад, ездзіў у Дом творчасці, размешчаны не гэтак далёка ад Мінска. Вечарамі выходзіў на шасейку, глядзеў на начны лес. На ўскрайку бору высіліся тры вялізныя, купчастыя сасны, якія неяк асабліва выдзяляліся на фоне цёмнага неба. Спілавалі гэтыя тры сасны, і Кулінковіч перастаў ездзіць у Дом творчасці.

Заставаўся яшчэ бор дзяцінства, юнацтва. Ён нашаптаў уражліваму хлопцу столькі зваблівых казак, накалыхаў такіх мараў-летуценняў, што, можа, праз гэта Кулінковіч і пісьменнікам стаў. Блукаючы па неабсяжных ружова-сініх дыванах верасоў, гледзячы на бясхмарнае сіняе неба, ён, малады падлетак-юнак, лічыў, што большай прыгажосці на свеце няма. Ён яе больш і не пабачыў, бо гэтак, як родны

лес, не зачаравалі яго ні мора, ні горы, ні нават чужаземныя краіны з іх цудоўнымі, дзівоснымі даляглядамі.

Але і памятнага лесу, разліву верасоў, якімі трызніў Кулінковіч, таксама няма. Паўвека — вялікі час. На пясчаных выгарах, дзе рассцілаліся чырвона-блакітныя азяркі верасоў, стаіць хмуры, густы сасоннік. У ім чамусьці зусім не звіняць птушыныя галасы. Толькі куванне зязюлі, аднастайна-шчымлівае, бясконцае, даносіцца аднекуль з ускрайку лесу.

Магчыма, Чарнобыль і на птушак уплывае. Ён ад гэтага лесу, нацянькі, крыху болей за сотню кіламетраў.

Кулінковіч пазнае мясціну, на якой яны садзяцца палуднаваць. Яны якраз на мяжы Галістрай лужы — вузкай і доўгай балацянкі, якая высахла і таксама густа зарасла сасоннікам. На груду, на якім яны ляжаць, густа растуць, пачынаючы распускаць суквецці, ландышы. Ландышы і ландышы, куды ні кінь вокам…

Кулінковіч памятае: у гэтым месцы былі акопы першай германскай, затым польскай вайны. Ён у іх знаходзіў баравікі, высокія, крывыя, белагаловыя, бо з акопнага паўзмроку яны цягнуліся да святла.

Тыя акопы даўно аселі, зараслі травой, зраўняліся з зямлёй. Але яшчэ можна адрозніць абрысы акопаў, траншэяў апошняй Айчыннай вайны.

Выгнаныя з мястэчка арміяй і партызанамі немцы яшчэ доўга, тыдзень ці болей, агрызаліся. Яны заселі якраз у гэтым лесе і адсюль абстрэльвалі мястэчка.

Цярпець такое было немагчыма. Яны, мясцовыя хлопцы-партызаны і ў іх ліку Кулінковіч, узяліся дапамагаць байцам. Свой лес яны ведалі як належыць. Яны падводзілі байцоў-мінамётчыкаў у тыл нямецкіх пазіцый, абстрэльвалі з ротных мінамётаў, а часам гранатамі закідвалі.

Вось гэты грудок, дзе Кулінковіч з сябрам палуднуюць, асцярожна беручы па чарцы (абодва носяць у верхніх кішэньках пінжакоў валідол), здаецца, адна з такіх мясцін. Адсюль павінна праглядвацца вёска Макаў. Яна сапраўды праглядваецца за крайняй чародкай шэрых хатак.

Зрэшты, адзначыў Кулінковіч гадавіну Перамогі. Дай Бог дажыць да наступнай. Усё жыццё ён піша пра пакаленне юнакоў, дзяўчат, якія ў гадзіну ліхалецця ішлі з цёплых

хат, з вёсак, гарадоў у халодны асенні ці зімовы лес, гінулі ў засадах, нямецкіх засценках, прагна лавілі радыёхвалю Масквы, разносячы па вёсках ці перадаючы блізкім людзям лістоўкі.

Хутчэй за ўсё ў сваім пісанні Кулінковіч паўтараецца, піша горш, чым раней. Але сядзяць у памяці, у сэрцы выпадкі, эпізоды, а галоўнае, настрой самай вялікай вайны, якую ён прайшоў, і выбавіцца ад гэтага велічна-шчымлівага настрою ён проста не можа.

*1994*

## ЗЯМЛЯ, ЗЯМЛЯ...

У пачатку першай акупацыйнай зімы двух местачковых хлапцоў Грышу Дзеркача і Васіля Брацíка паклікалі ў валасць. Валасць размяшчалася ў амаль яшчэ новым, складзеным з добрага, ачэсанага сасновага бярвення будынка былой ашчаднай касы. Насупраць валасці двухпавярховы шэры гмах райвыканкама, у якім атабарылася нямецкая жандармерыя. Хлопцы пераступілі парог валасці з хваляваннем і насцярогай.

Аказалася — не валасць іх выклікала. Выклікаў староста Тодар Бародзіч, былы стрэлачнік, якога найбольш згуртаваная частка насельніцтва — чыгуначнікі вылучылі на пасаду старасты.

Тодар Бародзіч — чорны, з чорнымі вусамі, пабітым воспай шырокім тварам — знаёмы чалавек, і хлопцы трохі супакоіліся. На станцыі Бародзіч лічыўся найпершым стаханаўцам, і нават аднойчы малая па фармату газетка «Железнодорожник Белоруссии», якая выходзіла ў Гомелі, нават змясціла ягоны партрэт.

Будынак ашчадкасы, у якім цяпер размясцілася валасць, некалі належаў Тодаравай дачцэ. Але яна, працуючы ў краме, заблыталася, дапусціла растрату. Крамніцу асудзілі, далі два ці тры гады, а дом апісалі пад казну. Уласны дом Бародзіча праз агарод, ён акружан такім высокім дашчаным парканам, што нічога праз гэты паркан не ўбачыш. Агарод між тым

агульны для Тодара і ягонай дачкі: ён цягнецца да самай ашчаднай касы, дзе цяпер воласць.

Ніхто нічога дрэннага пра Барoдзіча не гаворыць. Дый што дрэннае ён можа зрабіць? Пакуль не было паліцыі, наладжваў самадзейную ахову мястэчка. Ноччу па вуліцы, апрануўшы кажухі, вандравалі пажылыя дзядзькі, білі палкамі ў бляшаную засланку. Такім чынам зладзеяў і розных прайдзісветаў палохалі.

Бародзіч падзяліў калгасную бульбу паміж местачкоўцамі. Падзяліў справядліва, адвёўшы па некалькі сотак нават тым, хто ніякага дачынення да калгаса не меў. Бо трэба ж людзям неяк жыць, карміцца, перажыць ліхі час.

І вось цяпер Бародзіч выклікаў да сябе хлопцаў-дружбакоў.

— Вы добра вучыліся ў школе,— сказаў староста, запрасіўшы хлопцаў садзіцца на самаробныя табурэткі.— То я вам хачу адно дзела даручыць.

— Якое дзела? — спытаў Грыша Дзяркач як старэйшы: ён скончыў дзесяць класаў і наогул меў славу вельмі здольнага хлопца. У пакоі старасты толькі стол, два стулы і голыя, чыста пабеленыя сцены: ні лозунгаў на іх, ні заклікаў, няма нават партрэта Гітлера, які вісіць у некаторых установах.

— Дзела вот якое, хлопцы,— разважліва тлумачыць Бародзіч.— Жывёлу калгасную пагналі на ўсход, а хлявы засталіся. Іх могуць парасцягаць. Па паленцу, па дошчачцы. То трэба хлявы паабмерваць на квадратныя метры. Даручаю вам гэтую работу. Хлявоў на калгасным двары не чапайце, мы самі зробім. Абмерайце на Забродззі, Блізкім і Далёкім Лядзе...

Забродзе, Блізкае і Далёкае Ляда — супрацьлеглыя канцы местачковых аколіц. Пачатак зімы, снежань, хоць снегу яшчэ няма. Хлопцы спачатку рушылі на Забродзе. Неба шэрае, невясёлае, з шэрымі калматымі воблакамі. Першы прымаразак пасерабрыў парудзелую, месцамі няскошаную траву, і ў ёй блытаюцца ногі, абутыя ў дзіравыя, распоўзлыя чаравікі.

Забродзе — лугавіна. Яшчэ нядаўна, гады два-тры назад, яе залівала асенняй вадой, а зімой разлягалася лёдавая прастора. Фактычна на Забродзі былі калгасныя кашары. Летам сюды зганялі цялят, авечак, нават свіней, і яны пасвіліся на вольным прасторы, нагульвалі жыр.

Невясёлы малюнак уяўляюць цяпер кашары. Сплеценая з лазовых дубцоў агароджа паваліласяся, двор голы як бубен, а ў доўгіх прысадзістых хлявах праз адчыненыя дзверы, дзіркі ў сценах свішча халодны снежаньскі вецер.

Ніякіх прылад для вымярэння даўжыні і шырыні будынкаў хлопцы не маюць. Яны проста ходзяць уздоўж і ўпоперак сцен, мераюць іх крокамі. Лічбы запісваюць у школьны сшытак, які ім далі ў воласці.

Да вечара дружбакі і да Блізкага і Далёкага Ляда дабраліся і зрабілі там тое самае. Акалелі, згаладаліся, бо нічога з сабой не ўзялі. Дый што ўзяць? Хлеба няма, дома толькі тоўчанка з бульбы.

— Вот быў калгас і няма калгаса,— гаворыць Грыша Дзяркач.— І нічога ад яго не засталося. Хіба што гэтыя спарахнелыя хлявы…

— Чым бы ты замяніў калгас? — пярэчыць таварышу Васіль Брацік.— У майго дзеда было тры ці чатыры палоскі зямлі. Столькі ў бацькі. У розных канцах мястэчка. За дзень можна было завезці на далёкае поле па возу гною. А каб прыйшлося дзяліць зямлю на мяне і братоў? Па колькі б нам прыйшлося? Сотак па дваццаць. Як жыць?..

Разважлівы Грыша пагаджаецца з такім довадам.

— Памылка была дапушчана ў мінулым,— гаворыць.— На Захадзе зямля не дзялілася, а заставалася за старшым сынам. Вялікім кавалкам. Не дзялілася на палоскі...

Глуха, дзіка ў мястэчку. Ходзяць самыя неверагодныя чуткі. Масква ці то ўзята немцам, ці то нават затоплена. Галоўнае, гэтыя чуткі пацвярджаюць зусім сур'ёзныя людзі. Асабліва акружэнцы і ваеннапалонныя, якія прыбрылі дадому.

Грыша Дзяркач лепіцца каля дзеда. Бацькі няма, даўно памёр, маці хварэе, і клопат пра маці і малодшую сястру ляжыць на Грышу. Грышаў дзед — нядаўні калгаснік, працавіты, цягавіты, і, можа, дзякуючы гэтаму ў яго ёсць хлеб і нават скорам. Грыша памагае дзеду малаціць, веяць жыта, выконвае іншую работу, прыносячы дадому булку хлеба, гладышык з малаком, а часам і крышан сала.

У Васіля ёсць бацька. Ён працаваў на чыгунцы, а цяпер займаецца гаспадаркай. Нават загончык азімага жыта пасеяў.

Заняўшы мястэчка, немцы знішчылі помнік Леніну, які стаяў на пясчанай цэнтральнай плошчы, не пашкадавалі нават фігурак піянера і піянеркі, што нібы застылі ў салюце перад двухпавярховым будынкам школы. Цяпер цэментовыя фігуркі гэтых прадвеснікаў новага жыцця ляжаць, пабітыя на кавалкі, на доле.

Страшэнная няпэўнасць пануе ў мястэчку. Калі немцы сапраўды авалодалі Масквой, кіруюць да Урала, то, значыць, усё, што пісалі ў кнігах, газетах пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пра савецкае жыццё, можа, і няпраўда. Бальшавікі проста хітрыкамі захапілі ўладу і цяпер паспешліва здаюць яе, пакідаючы народ на мукі, здзек у варожым палоне.

Выявілася мноства цёмных людзей — гадалак, калдуноў, яснавідцаў, якія прарочаць будучыню. Будучыня ў іх казаннях цёмная і няпэўная.

І раптам перамены…

Марудна, але настойліва папаўзлі па мястэчку чуткі пра разгром немцаў пад Масквой. Грыша, Васіль, іншыя школьныя хлопцы акрыялі духам. Сталі збірацца, згаворвацца. Тое, у што яны паверылі, выходзіць, не загінула, а толькі часова адступіла. Трэба рабіць усё, каб яно зноў вярнулася.

Надышла вясна. Які ні слабы быў мясцовы калгас, якія далёка не выдатныя былі ў ім парадкі, а нечаму местачкоўцаў, пераважна сялян, ён усё-такі навучыў. Дзіва дзіўнае: ніхто не хапаецца за зямлю, не збіраецца рваць на ёй жылы. Найбольшы надзел, вызначаны немцамі, складае пяць гектараў. Між тым ні адзін местачковец такі надзел не бярэ. Бяруць па гектару, два, найбольшае — па тры. Каб толькі як-небудзь пракарміцца.

Васілёў бацька, нядаўні пуцеец, узяў паўтара гектара. І тут жа купіў у далёкай вёсцы лашачка, каб гадаваць з яго каня. Бацька цвёрда захоўвае стары сялянскі звычай: нягледзячы ні на што, ары, засявай зямлю. А зямля не падвядзе.

З вялікім імпэтам і спрытам кінуліся местачкоўцы апрацоўваць зямлю. Нават служачыя розных кантор, канцылярый, якія ніколі за ручкі плуга не трымаліся і нават рыдлёўку ў рукі не бралі. Цяпер урабляюць зямлю як толькі могуць, упрагаюць у плуг кароў. Каровы матляюць галовамі, адчайна мычаць, але паступова прывыкаюць да ярма: цягнуць плуг, а затым і вазы са збожжам.

За адзін год без трактароў, жняярак і касілак, нават без коней мястэчка забяспечыла сябе хлебам. Пры гэтым значную частку ўраджаю адабралі немцы.

Наступнай восенню Грыша Дзяркач і Васіль Брацік трапілі ў партызаны. Завітваючы ў вёску, паселішчы, яны бачылі, што парадкі ўсюды аднолькавыя. Вёска жыве аднаасобным жыццём. Аднак усюды, як і ў мястэчку, ніхто не захоплівае лішняй зямлі. Гектар, два, самае большае тры. І гэтак жа на поўную губу ядуць хлеб вяскоўцы. Яшчэ і самагонку гоняць.

Партызан вяскоўцы сустракаюць ахвотна. Кормяць, пояць, частуюць той самай самагонкай. Блізіцца зіма, і партызаны вядуць хлебанарыхтоўкі. Дзесьці ў лесе (ніхто дакладна пра гэта не ведае) капаюцца ямы і ў іх засыпаецца збожжа. Кожны двор ахвотна дае па мяшку, па два. Аднаасобная вёска, выходзіць, зусім не супраць партызан, савецкай улады.

Тым часам каля самага Дняпра загрымела. Здараецца так, што і стараста Тодар Барадзіч трапляе ў партызаны. Напаткаўшы Грышу Дзяркача і Васіля Брацíка, на хвіліну запыняе:

— Памятаеце, хлопцы, як я паслаў вас абмяраць калгасныя хлявы? Тыя хлявы і цяпер стаяць. Захаваў я іх для калгаса. Калі спытаюць, то скажыце пра гэта.

Так, калгас вернецца, і зноў не будзе аднаасобнай зямлі. Гэта ясна. Аднак і ў акупацыю ніхто асабліва на аднаасобную гаспадарку не квапіўся. Не хацеў ірваць на зямлі жылы. Можа, таму, што на родную зямлю прыйшоў вораг. А як будзе пры вольным жыцці?..

*1994*

## ПАРАСКА

Успаміны пра далёкае юнацтва: салодкія, прыемна-шчымлівыя, часам горкія...

Крываногі, яшчэ даваенны паштальён Якімчык прынёс позву: з’явіцца ў ваенкамат. З двухдзённым запасам харчу, кружкай, лыжкай...

Ясна: мабілізацыя.

Цімох Стрыж, пляменнік Якімчыка і мой сябар, які пайшоў у армію яшчэ ў пачатку вайны, пасля вызвалення мястэчка пісьма не прыслаў. І ніякай весткі пра сябе не падаў ягоны бацька, зяць Якімчыка. Значыць, загінуў. Або пакутуюць бацька і сын у палоне. Як абыходзяцца немцы з палоннымі, мястэчка ведае.

Якімчык аддае маёй маці позву, сам распісваецца за яе і, нічога не сказаўшы, выдыбае з хаты.

Значыць, у мяне толькі адзін вольны дзень. Заўтрашні. Рэчавы мяшок, у які я паклаў брытву, кавалачак мыла, трохі хлеба, сала, сухароў, спакаваны.

Ёсць большы клопат: мне васямнаццаць гадоў, я іду на фронт, і трэба мець дзяўчыну, пра якую б я думаў, пісаў ёй лісты, а яна б мне адказвала.

Адна такая дзяўчына ёсць. Але я не веру ёй. Учора я бачыў яе ў кампаніі двух маладых лейтэнантаў. Яна весела з імі шчабятала, залівіста смяялася і, убачыўшы мяне, толькі памахала рукой. Не, гэткая пісаць мне лісты не будзе. У мястэчку для яе хопіць лейтэнантаў.

І тут я ўспомніў пра Параску. Я вучыўся з ёй у дзявятым класе, праўда, мала, толькі апошнюю чвэрць. Але я ведаў яе. Ладненькая, паўнаватая, з густа засеяным вяснушкамі тварам, яна кожны дзень шыбавала міма нашай хаты ў школу. Жыла Параска ў Дуброве, вёсцы, размешчанай ад мястэчка за восем вёрст. Можа, яна кватаравала ў каго, а можа, і не мела кватэры і мерала маладымі нагамі доўгія кіламетры. Гэтага я дакладна не ведаў.

Бліжэй я пазнаёміўся з Параскай перад вызваленнем мястэчка. Фронт стаяў на Дняпры, і кожны дзень да слыху даносіліся гарматныя выбухі. Я прагна чакаў вяртання нашых, і гэтыя выбухі былі для мяне як радасная музыка. Я зусім не думаў пра тое, што Беларусь толькі пачала вызваляцца, што пасля яе вызвалення вайна не скончыцца і што мне прыйдзецца ваяваць на фронце. Абы вярнуліся нашы!

Наш партызанскі атрад стаяў у суседняй з Дубровай вёсцы, лясной, балотнай. Была восень сорак трэцяга года, ва ўрачыстай пазалоце стаялі дубы, цэлая града якіх ахінала вёску. У вячэрнія часы над дубамі гудзелі савецкія самалёты. Нямецкіх не было чуваць. Як было не радавацца маладому

сэрцу, калі ўвачавідкі здзяйсняліся самыя лепшыя яго надзеі. Праз які-небудзь месяц немцаў выганяць, і зноў можна будзе жыць вольным чалавекам, гаспадаром хадзіць па сваёй зямлі, не адчуваючы абразы і знявагі.

З мястэчка ў атрадзе было некалькі хлопцаў, і разы два на тыдзень то з адным, то з другім я хадзіў на сустрэчу з падпольшчыкамі, нашымі сябрамі, якія даставалі для партызан усё, што маглі дастаць. Найперш соль і медыкаменты.

Я вяртаўся назад з тым разлікам, каб заначаваць у Парасчынай хаце. За два гады, якія я не бачыў дзяўчыну, яна пасталела, расцвіла прывабнай жаноцкасцю, і нават засеяны вяснушкамі прадаўгаваты тварык папрыгажэў і як бы выпраменьваў нейкую мяккую прыцягальную сілу.

Парасчынай маці я заўсёды адсыпаў трохі солі.

Мне здавалася, што я падабаўся і Парасцы. Ноччу, калі я клаўся на доўгай лаве, якая цягнулася ўздоўж сцяны, а яна на драўляны скрыпучы ложак, мы доўга не маглі заснуць. Варочаліся, уздыхалі. Іншы раз у вакно зазіраў месяц-поўня, і тады я бачыў, што, лежачы на спіне, Параска аб нечым думае. Пра каго яна думае? Можа, пра мяне? Мне было радасна і трывожна...

У сваіх летуценнях, як я цяпер разумею, не хацеў заўважаць нават тое, чаго не заўважыць было проста нельга. Параска пазбягала застацца са мной адзін на адзін, пагаварыць, што-небудзь спытаць. Яе, відаць, мала абыходзіла, што я быў добрым вучнем у школе, друкаваў у раённай газеце вершы, а цяпер вось прабіўся ў партызаны. Усё гэта як бы не мела для Парaскі ніякага значэння.

Парасчына маці паводзіла сябе зусім інакш. Яна дагаджала мне, як магла. Ніколі не выпускала з хаты, не сасквaрыўшы яешню, не наліўшы кубак малака. Відаць, гэта і звяло мяне ў зман.

Раніцай свайго апошняга вольнага дня я пачаў збірацца ў Дуброву.

— Васіль прасіў, каб ты пабыў дома,— сказала маці.— Хоча развітацца. Іх сёння пагоняць на фронт.

Я на хвіліну завагаўся. Васіль — матчын пляменнік. Два гады назад, у гэтым самым снежні месяцы, ён, вырваўшыся з палону ў далёкім Днепрапятроўску, прайшоўшы сотні

неймаверна цяжкіх вёрст, сядзеў на прыпечку і, прыхінуўшыся спіной да печы, еў бульбу з кіслым малаком. Ён радаваўся, што застаўся жывы і такі здолеў дадыбаць да родных мясцін.

Вярнуўшыся ў сваю вёску, Васіль жыў, як усе. Узяў дзялянку зямлі, араў, касіў.

Іншы раз ён завітваў у мястэчка і нават начаваў у нас. Але размоў пра фронт, пра палітыку ніколі не заводзіў.

А цяпер вось ён хацеў са мной пагаварыць і развітацца.

Я, аднак, нават думкі не мог дапусціць, што не пабачуся з Параскай. Мне здавалася, што яна мяне чакае. Я хацеў знайсці і сказаць ёй асаблівыя словы, папрасіць, каб пісала мне лісты. Карацей, я пайшоў у Дуброву. Снежань ляжыць шэры, нецікавы. У выпетраным балотным бадыллі свішча вецер. Раз-пораз чуюцца выбухі. Фронт адышоўся недалёка. Яго лінія пралягае па балотах, па якіх нядаўна шасталі мы, партызаны.

Да Дубровы кіламетраў восем. Маючы на ўвазе пабачыцца з Параскай і вярнуцца ў мястэчка, каб развітацца з Васілём, я прыбег у вёску хутка. За якую-небудзь гадзіну.

Параску застаю ў хаце адну.

— Заўтра іду на фронт,— паведамляю ёй з парога.

Яна недаўменна на мяне пазірае.

— Нашы хлопцы пайшлі тыдзень назад.

Мне робіцца няёмка. Хіба гэтыя хлопцы, а не я, з крыўдай думаю, вучыліся разам з табой у школе, рызыкуючы жыццём, завіталі ў Дуброву, якая партызанамі не ахоўвалася, начавалі ў тваёй хаце?

У няпэўнай, мізэрнай гаворцы ідзе час. Я проста не ведаю, як з Параскай развітацца.

Нарэшце я саджуся побач з ёю на лаву, абдымаю, прыхінаю да сябе. Параска, адвярнуўшы твар, пачынае хіхікаць. Зняважаны, я ад яе адсоўваюся.

У гэты час бачу ў вакне калону мабілізаваных. Наперадзе паважна, як бусел, выдыбае Васіль.

Каб не абраза, сорам, замяшанне, я б, відаць, выскачыў з Парасчынай хаты, дагнаў Васіля, кіламетр ці два прайшоў бы з ім побач, пагаварыў. Але якраз вярнулася ў хату Парасчына маці, усчала гаворку, нават пачала завіхацца, каб пачаставаць мяне.

Ад пачастунку я рашуча адмовіўся.

Ужо на фронце я даведаўся, што Васіль загінуў у першым баі. На тым праклятым балоце, па якім поўзалі і мы, партызаны. Яму адарвала сківіцу, і паміраў ён цяжка, пакутліва. Даруй мне, Васіль...

Я даведаўся таксама, што Параску па рабочай мабілізацыі накіравалі аднаўляць Данбас. Дзіва дзіўнае: з мястэчка на такія работы бралі толькі дзяўчат з падмочанай рэпутацыяй: тых, якія гулялі з немцамі ці паліцаямі. А ў Дуброве нават паліцыі не было.

Маладое сэрца абразы не даруе. Пасля вайны я многа разоў бываў у Дуброве і ні разу не пацікавіўся лёсам Параскі. Я не тое што помсціў ёй, насіў у сэрцы на яе крыўду. Я проста не думаў пра яе, ніколі яе не ўспомніў. Яе вобраз знік з душы, як знікае, набягаючы адна на другую, хваля на вадзе быстрацечнай рэчкі...

*1994*

# 1995

## АДВЯЧОРАК НА ЎСКРАІННАЙ ВУЛІЦЫ

Плыве асенні з залатым лістападам адвячорак, згушчаюцца цені, з вуліцы чуюцца гучныя галасы. Два разы ў месяц ціхая ўскраінная вуліца незвычайна ажыўляецца: у адзіным размешчаным на ёй шматпавярховым мадэрным будынку, які нагадвае вінтавую лесвіцу, што ўкручваецца прама ў неба, размешчаны радыёцэнтр.

Два разы ў месяц у пасляабедзенны час плацяць ганарар і вуліца поўніцца галасамі.

Ужо некалькі гадоў Грынявіцкі, журналіст і літаратар, які дасягнуў пенсійнага ўзросту, сустракае раніцу і вечар на гэтай ускраіннай вуліцы, якая, пераскочыўшы вёску (горад проста абышоў яе, пакінуўшы ў сваіх абсягах), слухае мычанне кароў, кукарэканне пеўняў, брэх сабак.

Добра тут жыць. Тут зусім не такое паветра, не такое неба, як у залітым электрычным святлом горадзе.

Цяпер, восенню, неба найчасцей зацягнута хмарамі, але бываюць ночы, калі зорны шацёр нібы вісіць над вуліцай. Стой, глядзі, думай пра сэнс жыцця, якое невядома для чаго створана і ў якім чалавек толькі часовы вандроўнік. Вецер прыносіць з блізкага сасонніку разнастайныя пахі смалы, мокрай зямлі, прэлага асенняга лісця.

Іншы раз на вуліцу забяжыць з блізкага пералеску ліс ці які-небудзь іншы лясны звярок, і сабакі, чуючы нюхам чужога прышэльца, узнімаюць дружны залівісты брэх.

Вуліца, на якой жыве Грынявіцкі, носіць імя ягонага сябра і земляка Вазнечука, таксама літаратара, але куды больш вядомага, слыннага, чым сам ён, Грынявіцкі. Вазнячук пераважна пісаў п’есы, у тым ліку радыёп’есы — вострыя, сатырычныя, можна сказаць, выдатныя сваёй надзённасцю. Многія тэатры ставілі іх, і Вазнячук, атрымліваючы шматлікія, з многіх гарадоў ганарары, быў нібы магнат сярод літаратурнай беднаты, што служыла ў розных рэдакцыях і на радыё таксама.

Вазнячук часта прыходзіў начаваць да Грынявіцкага, асабліва ў апошнія гады, калі развёўся з жонкай, невысокай, пухленькай, падобнай на ласкавую пушыстую кошачку. Бог ведае, што іх развяло. Грынявіцкі адчувае: любіць ягоны таварыш сваю пакінутую жонку, жыць без яе не можа. І ў той жа час адчайна шукае любоўных уцех.

Вазнячук прыгожы мужчына. Добра складзены, з мужным, трохі падобным да цыганскага тварам. Здаецца маналітам, чалавекам непахіснай волі, цэльнасці, якому не страшныя ніякія перашкоды.

Толькі Грынявіцкі ведае: гэта не так. Вазнячук мяккі, добры, з уражлівай, якую можна лёгка параніць, душой. Але яму падабаецца іграць ролю гэтакага хлопца-зуха, якому мора па калена. Ён вызначаецца красамоўствам, умее развесяліць якую хочаш кампанію, прымусіць застолле рагатаць хоць увесь вечар. Жанчыны хінуцца да Вазнечука, захапляюцца ім.

Разышоўшыся з жонкай, Вазнячук заводзіць шматлікіх каханак, аднак пакідае іх адну за адной.

Ноччу ён завітвае да Грынявіцкага, звычайна п’янаваты і не надта вясёлы. Але не кладзецца ў ложак. Выходзіць на двор, садзіцца на лавачку, падстаўляючы ветру твар, слухае брэх сабак, кукарэканне пеўняў, глядзіць на цёмную сцяну сасоннікаў, на акрайчык месяца, які вісіць над лесам.

— Сыходзься з жонкай,— угаворвае таварыша Грынявіцкі.— Ты сам на сябе не падобны. Навошта твае бадзянні?

У адрозненне ад мужа пакінутая жонка вядзе сябе прыстойна. Пра яе не ходзіць ніякіх благіх чутак. Прыгожая, з добра развітымі жаночымі формамі, можа, толькі трохі манерная, яна б лёгка знайшла паклоннікаў. Але трымаецца.

Нават аліментаў не патрабуе ад багатага мужа. Пайшла працаваць на радыё, у гэты самы высозны будынак на ўскраіннай вуліцы, і пра яе гавораць як пра добрую дзелавітую супрацоўніцу.

Грынявіцкаму падаецца, што таварыш адвячоркамі падпільноўвае былую жонку, якая вяртаецца з работы. Але на вочы не паказваецца. Проста цікуе з густога палісадніку. А ноччу ідзе да чужых жанчын...

П'есы Вазнечука ідуць, тэатры іх ставяць. Бывае, тую ці іншую п'есу чыноўнікі ад культуры затрымліваюць, патрабуюць штосьці перарабіць. І аўтар саступае. Спачатку лаецца, даходзячы ў злосці да шаленства, шукае дапамогі ў самых высокіх начальнікаў. Ён жа і сябруе з гэтымі самымі начальнікамі. Ездзіць з імі на паляванне, на іх дачах бывае, выпівае чарку.

Начальнікі п'есы чытаюць, забарону здымаюць, адзначаючы алоўкамі, што пакінуць, а што выкінуць. Бывае, ад першапачатковай задумы аўтара застаецца вельмі мала.

Моладзь, аднак, лічыць Вазнечука сваім кумірам. Як ні паласуюць п'есы прошаныя і няпрошаныя цэнзары, але нейкі бунтоўны дух у іх застаецца. Акрамя тэксту ёсць падтэкст. Акторы ўмеюць гэта выдзеліць, данесці да гледача, і тэатр, калі ідзе п'еса Вазнечука, заўсёды поўны.

Грынявіцкага аднойчы апаноўвае злосць:

— Сяргей,— звяртаецца да сябра,— напішы сур'ёзную п'есу і пакладзі ў стол. На год ці на два. Час мяняецца хутка. Бо тое, што ты робіш, толькі бунт на каленях...

Вазнячук адварочваецца. Непрыкметным рухам рукі змахвае са шчакі слязіну...

Канец гісторыі сумны.

Знаходзіцца хітрая лісіца, якая нарэшце прыбірае Вазнечука да рук. Лісіца працуе масажысткай, жанчына яна адзінокая, самотная, яшчэ не старога веку. Зусім непрыгожая. Нейкім чынам, аднак, яна ўзварушыла душу Вазнечука. Умее яму дагаджаць. Галоўнае: кватэру мае.

Год ці два высока носіць галаву Вазнячук. Ходзіць у адпрасаваных касцюмах, носіць чыстыя белыя сарочкі, наглянцаваныя туфлі. Дагледжаны, атулены ўвагай чалавек.

Ды новая бяда здараецца: адчайна пачынае піць Вазнячук. Ужо і п’ес яго не ставяць, ды і не піша ён новых п’ес, радуючыся радыёпастаноўкам, якія час ад часу выпускаюцца ў эфір.

Тым часам лісіца-масажыстка, не маючы ад мужа вялікага прыбытку, мігам перастае аб ім клапаціцца. Чуткі пра масажыстку нядобрыя: нюхаецца з чужымі мужчынамі.

Паміpae Вазнячук нечакана, яшчэ малады. На пахаванні прысутнічаюць абедзве жонкі. Першую — пушыстую кошачку — Грынявіцкі ледзь пазнае. Распухлы ад слёз, страшэнна спакутаваны твар. Стаіць каля труны нябожчыка і, нібы звар’яцелая, шэпча:

— Даруй, прашу цябе, даруй... Болей таго, што было, ніколі не будзе...

Масажыстка спакойная. Для прыліку толькі раз-пораз выцірае хусцінкай сухія вочы.

Шумяць на вуліцы Вазнечука старыя ліпы, клёны, бярозы. Вясной апранаюцца ў малады зялёны ўбор, восенню скідаюць лісце. Адвячоркамі паступова чарнее лава блізкага сасонніку. Усплывае на край неба месяц, на цёмным небе густа праклёўваюцца зоркі.

З галоўнага праспекта даносіцца шум, прыглушаныя гудкі машын, а тут сярод старых дрэў, невысокіх будынкаў, заўсёды пануе цішыня.

*1995*

## КОТ МІКІТА

Вася вельмі любіў свайго ката — вялікага, плямістага, у якога белыя адмеціны чаргаваліся з чорнымі. Мікітам ката празвалі таму, што яшчэ маленькім кацянём прынёс яго Васеў дзед ад шаўца Мікіты.

Можна лічыць, што ката выгадаваў Вася. Кот напачатку нават малака не мог піць са сподачка і проста аблізваў памочаны ў малако Васеў палец. Але ўжо праз два-тры дні кацянё так налаўчылася маленькім чырвоным язычком

вылізваць са сподачка малако, што можна было толькі здзіўляцца ягонаму спрыту.

Кацянё расло рухавым, шустрым, гуляла з клубком шарсцяных нітак, калі маці вязала дзецям цёплыя зімовыя панчохі.

Непрыкметна кацянё вырасла ў ката, які добра паляваў на мышэй. Хоць яго, здаецца, ніхто гэтаму не вучыў.

Кот па-ранейшаму спаў з Васем на печы. Калі ён засынаў, то нібы злёгку пачынаў пахрапваць, але гэта было прыемнае на слых, ледзь чутнае храпенне, і пад яго музыку Вася засынаў таксама. Бабка Яўгенія гаварыла Васю, што кот, калі спіць, «пяе рулі».

Аднойчы кот яшчэ на світанні разбудзіў Васю. Ён торкаў сваім вечна халодным носам у Васеву шчаку і лагодна мурлыкаў. Калі Вася расплюшчыў вочы, то ўбачыў на падушцы, каля свайго твару, мыш. Кот прынёс Васю мыш нібы ў падарунак за добрыя да сябе адносіны. Ён мурлыкаў, не разумеючы, чаму Вася не радуецца ягонаму падарунку. Вася грэбліва скінуў мыш на падлогу. Кот тут жа гопнуў уніз і ахвотна з’еў мыш, якую адкінуў Вася.

Вася любіў птушак і трохі баяўся за іх. Бо ён бачыў, з якой цікавасцю кот сочыць за вераб’ямі, сініцамі, снегірамі. У ката ў гэты час загараліся зялёным агнём вочы і ўвесь ён аж дрыжэў. Скакаў з паркана на птушак, якія дзяўблі проса, што насыпаў Вася, але птушкі ўмомант разляталіся.

Тым часам здарылася няшчасце. Вася прынёс з двара замёрзлую сінічку. Яна ляжала на снезе лапкамі ўгору. Вася ўзяў сінічку ў рукі і адчуў, што яна жывая. У хаце, у цяпле, сінічка адагрэлася, вырвалася з Васевых рук і, цінькаючы, паляцела да акна, пачала біцца аб шыбы, каб вырвацца на волю.

Мікіта маланкай сігануў з печы на падлогу, потым на акно і злавіў птушачку. Выратаваць яе Вася не паспеў. Ён пахаваў сінічку за хлевам, дзе было мала снегу і можна было ў мёрзлай зямлі выкапаць маленькую ямку.

Дружба з катом прыпынілася. Летам Вася нават ратаваў птушак ад Мікіты. У Васевым хляве звілі гняздо ластаўкі. Знізу ластавак Мікіта дастаць не мог. То ён пачаў узлазіць на хлеў і разграбаць салому на вільчыку ў тым месцы, дзе было гняздо ластавак.

Мікітаў намер Вася зразумеў. Наверсе хлява, якраз насупраць гнязда, ён прымацаваў фанеру, і Мікіта ўжо нічога не мог зрабіць ластаўкам.

Аднаго дня здарыўся незвычайны выпадак. У паляўнічага, які жыў па суседству, ашалеў сабака. Рыжы, вялікі, ён заўсёды быў ласкавы з Васем. Але на гэты раз ускочыў у Васеў двор, пачаў нюхаць зямлю, мутнымі вачамі аглядацца навокал і злосна гыркаць. З ашчэранага рота цякла сліна. Сабака гаўкнуў і гатовы быў кінуцца на Васю.

Але ў гэты момант Мікіта, які сядзеў на плоце, скочыў на зямлю перад самым сабакам. Ён натапырыўся, раздуўся ўдвая, зашыпеў і выставіў супраць сабакі вострыя кіпці.

Шалёны сабака спалохаўся і пабег на вуліцу. Вось так кот Мікіта выратаваў Васю ад няшчасця. І яны зноў пасябравалі.

*1995*

## НАШЫ КАРОВЫ

Яшчэ ў першыя пасляваенныя гады, калі я вярнуўся з фронту, здарыўся выпадак, пра які хачу расказаць. Жывучы ў раённым мястэчку, я працаваў карэспандэнтам абласной газеты, уздоўж і ўпоперак абышоў свой раён, пабываў у многіх іншых раёнах вобласці.

Шэсць гадоў займаў я карэспандэнцкую пасаду. Нарэшце здарылася: з абласной газеты мяне перавялі ў Мінск, у рэспубліканскую.

Горад аднаўляўся на маіх вачах. Раслі новыя гмахі, вымалёўваліся контуры вуліц.

Рэдакцыя новай газеты прыйшлася мне да густу. Падабаліся таварыскія, добразычлівыя адносіны між супрацоўнікамі. І наогул сам дух, які панаваў у рэдакцыі, як бы заклікаў да яднання, узаемнай дапамогі і разумення.

Мяне прызначылі літсупрацоўнікам у аддзел сельскай гаспадаркі. І вось аднойчы, разбіраючы пісьмы, якія рэдакцыйная сакратарка пераслала ў аддзел, я наткнуўся на адно, якое памятаю да гэтага часу.

Гэта была карэспандэнцыя, напісаная мной і надрукаваная ў абласной газеце прыкладна год назад. У ёй ішла гутарка пра калгасны сход у вёсцы Заброддзе. Я ведаў і любіў гэтую вёску: тут адбываліся сустрэчы мястэчковых сувязных з партызанамі, дый і ў партызаны я прыйшоў, завітаўшы спачатку ў Заброддзе.

Можа, па гэтай прычыне карэспандэнцыя атрымалася неблагая. Я ў ёй і навакольны лес апісаў, і стагі сена на балоце, і сіні зімовы адвячорак, які павольна ахінаў вёску.

Хлапчуку, хутчэй за ўсё вучню мясцовай сямігодкі, маё апісанне, відаць, спадабалася, і ён слова ў слова перапісаў карэспандэнцыю і прыслаў у рэспубліканскую газету.

І вось тут я заўважыў штосьці незвычайнае. Карэспандэнцыя пачыналася ўзятымі ў дужкі словамі (наш кар.), што азначае «наш карэспандэнт». Мой пераймальнік зразумеў іх інакш — напісаў у дужках «нашы каровы».

У аддзеле доўга рагаталі з «нашых кароў», не могучы дадумацца, чаму селькар напісаў іменна гэтыя словы.

З таго часу мінула шмат гадоў. Аднойчы ў мяне мільганула здагадка, чаму іменна словы «нашы каровы» вясковы хлапчук выбраў нейкім газетным паролем.

Я ўспомніў уласнае дзяцінства.

Яно было далёкае ад раскошы, часам нават галаднаватае. Галоўная роля ў забеспячэнні сям'і харчам належала нашай карове.

Карова была выдатная: сіментальнай пароды, агромністая, бурая, з белымі плямінамі на мысе і нагадвала каралеву ў статку дробных, малարослых мясцовых каровак. Малака яна давала два вядры: адно раніцай, другое вечарам. Карова ратавала сям'ю ад голаду, бо ў нас часам не толькі хлеба, бульбы не было.

Адзін-адзіны недахоп быў у нашай сіменталкі: яна была залішне марудлівая, непаваротлівая. Сярод малых шустрых мясцовых каровак, якія хутчэй нагадвалі коз, яна плыла на пашу павольна, велічна, нібы панская карэта, і ёй часта пападала ад пастуха і ад другіх кароў, якія бадалі яе пры зручным выпадку.

Сёння я разумею: наша карова патрабавала сталага ўтрымання ў хляве, зялёнага корму, наогул добрага нагляду.

Але мы не маглі даць ёй такой раскошы. У нас быў буланы конік, запрогшы якога я часам накошваў і прывозіў нашай «Княгіні» — так мы звалі карову — два-тры ахапкі травы. Але каня мы хутка здалі ў калгас: бацька працаваў стрэлачнікам і не меў права трымаць каня.

Адну вялікую памылку мы ўсё-такі зрабілі. Княгіня штогод цялілася, часам прыводзіла такіх жа самых пародных цёлачак, і ні адну з іх мы не захавалі, не сталі гадаваць.

І няшчасце здарылася. Шустрыя дробныя каровы-козы прапаролі нашай Княгіні бок, ды так прапаролі, што ён адвіс, і было непрыемна глядзець на вялікую прыгожую жывёліну, якая ледзь не валакла па зямлі вялікі, адвіслы жывот.

Карову ў статак не пусцілі, і я стаў пасвіць яе асобна. Ганяў на лапіны травы між палёў, на невялікія лужкі, у зарослае травой кустоўе наўзбоч чыгункі. Карова на вачах пакруглела, пажвавела, хоць па-ранейшаму цягнула адвіслы бок. У поўдзень, калі залішне прыпякала сонца і не давалі спакою жывёліне сляпні, авадні і іншая заедзь, я гнаў Княгіню ў двор, у хлеў. Маці даіла карову цяпер тры разы на дзень і кожны раз прыносіла па вядру малака. Княгіня прыкметна прыбавіла надой, як бы падказваючы нам, што вось гэтак, як цяпер, трэба з ёю абыходзіцца.

З пачаткам восені я пайшоў у школу, і Княгіню зноў пусцілі ў статак. Спецыяльна прыплачвалі пастуху, каб пільна сачыў за нашай каровай.

Усё, здаецца, ішло добра. Кончылася восень, настала зіма, а карова працягвала ў збытку даваць малако.

Другое, яшчэ большае, няшчасце здарылася наступнай вясной.

Пастух пагнаў статак на балота, на першую траву — чарнагалоў. Княгіня правалілася ў багну. Выбрацца з дрыгвы яна не магла і жаласна мычала, як бы прадчуваючы свой канец. Выцягнулі мы карову з балота ўжо ноччу, на вяроўках. Княгіня захаладзіла ногі і не магла стаяць на нагах. Яе прырэзалі...

Такой каровы, як Княгіня, у нас больш ніколі не было, і мы доўга яе ўспаміналі. Маці нават часта плакала.

Мне прыйшлося яшчэ раз успомніць Княгіню пры асаблівых акалічнасцях. У той абласной рэдакцыі, дзе я працаваў,

аднойчы зрабілі супрацоўнікам газеты флюараграфію. Карацей, правяралі лёгкія. Мы ведалі: адзін наш загадчык аддзела хварэе на сухоты, ездзіць штогод у Крым, нават у Башкірыю, на кумыс.

Мяне таксама праверылі. Рэнтгенолаг так размаляваў мае лёгкія, што плям на іх было нават болей, чым у хворага загадчыка аддзела.

— Вы перанеслі туберкулёз,— сказаў мне доктар, калі я завітаў у клініку.— У дзіцячым узросце. Туберкулёз быў сур'ёзны, актыўны. Як вы лячыліся?

Я пацiснуў плячыма. І тут успомніў Княгіню. Год ці два я сапраўды адчуваў сябе неяк млосна, хваравіта. Але я заўсёды любіў малако, а ў нас яго было ў збытку.

І вось цяпер я падумаў: ці не здарылася што-небудзь падобнае з селькарам, які спісаў маю карэспандэнцыю, паставіўшы замест «наш кар.» — «нашы каровы». У тыя бясхлебныя, галодныя гады карова значыла ўсё...

*1995*

# 1996

## АРКЕСТР

Ідуць гады, і ўсё меней застаецца партызан.

Калі памёр Валодзя Тычына, у вайну маладзенькі, ціхмянага выгляду падрыўнік, а ў апошнія гады дырэктар саўгаса, які дзеля зборышчаў партызан выдзяляў гулкі, грымучы аўтобусік, Багавік рашыўся. Без баявых сяброў-таварышаў горад зрабіўся пусты.

— Зямля круглая,— сказаў ён знаёмым.— На Пцічы я нарадзіўся. Паеду туды канчаць жыццё...

Пціч пачынаецца пад Мінскам, цячэ на поўдзень, на Палессе. Нарадзіўся Багавік на Палессі, у станцыйным пасёлку, дзе праз паўнаводную раку перакінуты магутныя жалезныя аркі чыгуначнага моста, якія трымаюцца на таўшчэзных ацэментаваных быках-апорах. Восенню сорак другога года яны, партызаны, гэты мост узарвалі.

А служыць у войску Багавіку прыйшлося ў мясцінах, дзе Пціч нагадвае вузенькую канаўку. Там і маршал Жукаў служыў: камандаваў кавалерыйскім палком, штаб якога размяшчаўся ў Мінску.

Цяпер там Дом ветэранаў. Туды і пакіраваў Багавік, у якога памерла другая жонка, а з родных засталася немаладая хваравітая дачка.

Толькі расчараваўся Багавік. Дом ветэранаў — фактычна запушчаная багадзельня. Па зарослых дарожках соваюцца з кійкамі ў руках згорбленыя дзяды і бабулі. Дзядам — хоць

пенсію да капейкі забіраюць — не даюць нават табакі. Хоць ты недакуркі па сцежках сабірай. І, як мухі, паміраюць былыя высокія і сярэднія начальнікі, палкоўнікі і маёры. Іх хаваюць нават без аркестра, без ніякай музыкі. Могілкі — насупраць іпадрома, на якім калісьці практыкаваліся кавалерысты палка, якім камандаваў Жукаў. А вакол іпадрома — дзясяткі камяніц-палацаў. Самай неверагоднай формы — вастраверхія, з антрэсолямі, басейнамі, вокнамі, што нагадваюць сярэдневяковыя шчыліны-байніцы. Большасць — на два-тры паверхі. Набудавалі палацаў мінскія начальнікі, якія яшчэ ў сіле. Толькі зямлі каля палацаў малавата — па дзесяць сотак — і яны згрувасціліся нібы высотныя гмахі дзе-небудзь на вузкай нью-ёркскай Уол-стрыт.

Нарэшце вестка аб тым, што Багавік падаўся ў Дом ветэранаў, дайшла да ўлад ягонага горада. І яны зразумелі: зрабілі памылку. За ім прыехалі на легкавой машыне. Якніяк быў камандзірам партызанскага злучэння, і кіраўнікам надпрыпяцкага горада стала проста сорамна.

Багавіку нават кватэру выдзелілі: двухпакаёвую на аднаго. Усё жыццё Багавік быў увішны, рухавы, і, з чэсцю вярнуўшыся ў родны горад, ён не спыніў актыўнай дзейнасці. Ён трохі музыка. У маладосці іграў на гармоніку, балалайцы, нават на гітары. Цяпер, на схіле гадоў, асвоіў акардэон. Яму нібы прыбавілася сілы, пасля таго як гарадскія ўлады без просьбы з ягонага боку вырвалі яго з Дома ветэранаў, а фактычна з заняпалай багадзельні.

Багавік складае спіс гараджан пенсійнага ўзросту, якія валодаюць якім-небудзь музычным інструментам. Актыўнасці яму не пазычаць. Завітвае асабіста да кожнага.

— Мы па агульным шляху не пойдзем. Ад смерці ўстрымаемся. Але раптам прыйдзецца...

— Відаць, прыйдзецца. Не адхрысцішся...

— То давай, браце, з музыкай. Каб самі нябёсы пачулі. Хіба мы няздарма пражылі жыццё?..

Багавік — арганізатар адменны. Заўсёды здзяйсняў, што задумваў.

Ціха нясе шырокая, паўнаводная Прыпяць трохі рудаватыя воды ў Дняпро. На яе правым стромым беразе даўно стаіць старая прысадзістая, падобная на які-небудзь склад,

шопа. Пасля Чарнобыля шопу меліся знесці: мецілі на яе месцы пабудаваць даследчую станцыю. Багавік пакіраваў у гарвыканкам і адстаяў шопу.

Ніхто нават не заўважыў, што за месяц-два шопа як бы памаладзела. Вечарам яна глядзела светлымі вокнамі на цёмную, як дзёгаць, ваду Прыпяці.

Недалёка ад шопы — аўтобусная станцыя, побач з ёй, на самай гары, шасціпавярховая гасцініца. Вечарам, калі сціхае гарадскі тлум, на аўтавакзале выразна чуваць музыка. Гэта мадэрная музыка нясецца з гасцініцы: лязгат, бразгат, завыванне.

З некаторага часу да аўтавакзала стала даносіцца іншая музыка. Галоўным чынам мелодыі песень Грамадзянскай і Айчыннай войнаў. Аркестрам кіруе, відаць, вопытны дырыжор, бо мелодыі гучаць зладжана, выразна.

Пасля кожнай рэпетыцыі ўдзельнікаў самадзейнасці развозіць па горадзе, што стаіць на сямі пагорках, бразгалісты, рыпучы аўтобусік з таго саўгаса, якім кіраваў партызан, нябожчык Валодзя Тычына. Аўтобусік спісалі, і яго за невялікія грошы выкупіў Багавік.

Напярэдадні Дня Перамогі памірае Перапёлкін, адзін са старэйшых партызан, фактычна памочнік Багавіка, а ў мірныя гады дырэктар МТС.

Невялікі, па сутнасці, горад яшчэ не бачыў такога пахавання. Уверх па гарбатай ускраіннай вуліцы, дзе пахілыя, вясковага выгляду хаты мяжуюць з мадэрновымі катэджамі камерцыйных структур, рухаецца агромністы натоўп. Наперадзе аркестр з меднымі трубамі, акардэонамі, звычайнымі гармонікамі. Ён дыхае на поўныя грудзі, выконваючы песні рэвалюцыі і Айчыннай вайны.

Над магілай прамаўляюць Багавік, два-тры сівыя прыгорбленыя партызаны, высокі чарнявы хлапчына з гарвыканкама. Калі труну на вяроўках апускаюць у магілу, кідаюць першыя камякі зямлі, як бы зноў прачынаецца аркестр. У ім, аказваецца, ёсць флейты, скрыпкі і нават вялікія турэцкія барабаны з меднымі бляхамі. Аркестр пачынае «Інтэрнацыянал». Баявую мелодыю напачатку як бы намацваюць акардэоны, флейты, скрыпкі. Яна гучыць сцішана, паволі нарастаючы, пашыраючыся. Але вось адна

за другой уключаюцца ў справу шыракагорлыя медныя трубы, бухаюць турэцкія барабаны, і цяпер толькі адна баявая, урачыстая мелодыя лунае над наваколлем. Музыка людзей, што намерыліся перавярнуць увесь свет, разбурыць яго і адбудаваць зусім новы. Некаторыя з прысутных, не саромеючыся, выціраюць слязіну, а некалькі бабулек, што не прапускаюць ніводнага пахавання, зацята хрысцяцца.

*1996*

## ГРУША НА ПРЫГУМЕННІ

Даўно няма гэтай разгалістай, трохі як бы самотнай грушы з цемнаватым, лапатлівым на ветры лісцем. Але яна і цяпер стаіць у маіх вачах. Груша належала нашаму суседу Асташонку, які ўвесь свой вялікі агарод абсадзіў па мяжы бярозамі. Асташонак, відаць, любіў дрэвы, зеляніну, шэпат лісця, быў вёрткі нават у свае старэчыя гады. Насіў белыя даматканыя штаны, кашулю, як нейкі прарок, меў сівую доўгую бараду.

Чалавек мінулага веку. Хоць не зусім. Калі я падрос, чуў гаворкі, што ў маладыя гады не даваў Асташонак спуску ўдовам, нават замужнім жанчынам, якія па нейкіх прычынах шукалі ўцехі па-за домам. Жонку меў нямоглую — у яе не згінаўся хрыбетнік, і вельмі набожную.

Доўгая Асташонкава хата выходзіла на вуліцу глухой сцяной, і двор ён абгарадзіў высокім, складзеным з тоўстага бярвення плотам. Так што ніколі нельга было ўбачыць, што робіцца на суседавым двары.

Вечарам Асташонак выходзіў на вуліцу, садзіўся на лавачку, пад засень таполяў, якія насадзіў наўзбоч сядзібы. Ягоная хата была крайняя: за прасцягам агарода пачыналася чыгунка, пераезд. Пры пераездзе стаялі дзве будкі: каменная, складзеная з гладкай чырвонай цэглы, і драўляная, абшытая дошкамі і пафарбаваная ў жоўты чыгуначны колер.

Да Асташонка падыходзілі адзін за другім суседзі, садзіліся на лавачку, і да позняга вечара цягнулася нетаропкая сялянская бяседа. Хоць сялянскай вуліца, якая скрыжоўвалася

з чыгункай, даўно не была. У калгасе затрымаўся адзін Іван Казачэнка, хата якога стаяла насупраць Асташонкавай і была прыкрыта ад сонца разгалістай бярозай. Толькі два гэтыя чалавекі з усяе вуліцы любілі дрэвы, пасадзілі на сядзібах сады. Казачэнка ў дадатак быў паляўнічы, насіў за сутулымі плячамі стрэльбу-двухстволку, меў прыгожую, зусім не злосную аўчарку Рэксу і ў калгасе ахоўваў кашары, размешчаныя пры самым лесе.

Казачэнка таксама меў лавачку, на якой збіраліся пераважна жанчыны, і толькі ў нядзельныя дні. Казачэнка ў такі дзень дзе-небудзь выпіваў і зацягваў песню. Жанчыны яму падпявалі. Ён так любіў песні, так самаахвярна ім аддаваўся, што калі спеў ладзіўся, то па ягоным безбародым, трохі азызлым твары цяклі слёзы.

— Завяла капэла паніхіду,— падколваў спевакоў Іван Дранюк, па прозвішчы Ляпіца, бліжэйшы Казачэнкаў сусед, які, аднак, ніколі не далучаўся да суседавай кампаніі.

Ляпіца, шчуплы, як верабей, са зласлівым маршчыністым тварам, быў з вельмі вострым языком, нейкім чынам нават артыст. Ён не толькі расказваў смешныя гісторыі, а як бы іграў іх: мяняў голас, выраз твару, рухаў плячамі, выбіраў адпаведную позу, выклікаючы нязменны рогат. Ён не баяўся палітычныя анекдоты расказваць, дзе былі прозвішчы Леніна, Троцкага, Сталіна, а таксама высмейваў калгасы, саўгасы, савецкія парадкі.

Ляпіца адчуваў сябе вольным казаком, бо не належаў ні да якога прафсаюза, нідзе не служыў, не меў над сабой начальнікаў. Ляпіў тым, хто папросіць, печы, грубкі, устаўляў шыбы ў вокны, умеў рабіць рамы, нават боты шыць умеў і гадзіннікі чыніць. Майстар на ўсе рукі.

Асташонак таксама быў аднаасобнік. Цэлы дзень пілой-аднаручкай пілаваў на дровы бярозавыя камлі, калоў кругляКі, складаў пад паветкай у стусы звонкія акуратныя паленцы. У адрозненне ад астатняй вуліцы, якая крала плашкі на станцыйным складзе і гэтак апальвалася — з плеч у печ,— дроў ён назапасіў на два або нават на тры гады. Жыў з агарода. Абсаджаны дрэвамі ягоны агарод быў сапраўды агромністы.

Я з Адамам, сваім стрыечным братам, часта пакручваліся каля Асташонкавай кампаніі. Але мужчынскія размовы нас

не надта цікавілі. Таму з большай ахвотай мы шасталі на прыгуменне, дзе на стыку нашых з Асташонкавым агародаў расла суседава груша. На ёй ніколі не было груш. Мы з Адамам ставілі на грушы шпакоўні, але шпакі чамусьці іх абміналі. Толькі адзін раз у шпакоўні пасяліўся верабей, нацягаў на гняздзечка карэнняў пырніку, але, можа, па той прычыне, што мы з сябруком залішне часта залазілі на грушу, заглядвалі ў вочка шпакоўні, пакінуў свой дом.

З грушай на прыгуменні сёлета адбыўся цуд. Асташонак і каля саду ўмеў хадзіць. Ён абчасаў на грушы тоўстую скарынку кары, абрэзаў лішнія галіны, падкарміў зямлю вакол дрэва гноем, і груша ўпершыню зацвіла. Абсыпаная густым белым цветам, яна нагадвала маладую нявесту, што ідзе пад вянец. Якімі ўбогімі ў параўнанні з гэтай прыгажуняй здаваліся наша гумно і асабліва пуня, у якой праваліўся саламяны дах, выгнуліся паточаныя шашалем сцены, пакрывіліся, уехалі ў зямлю вароты.

Людзі, якія ехалі па чыгунцы ў прыгожых зялёных вагонах, бачылі, вядома, прыгажуню грушу і крывыя, пахілыя будынкі гумна і пуні, якія стаялі пад адным саламяным, парослым зялёным мохам плехам. Мне было сорамна за гумно і пуню. Што думалі пра іх гаспадароў людзі з пасажырскіх цягнікоў?

Гумно і пуня належалі дзеду. Дзед памёр, і гаспадарамі спарахнелых будынкаў сталі мой бацька і ягоная незамужняя сястра. Яны ніяк не маглі падзяліць спадчыну, сварыліся, а падобныя на старыя, чарвівыя грыбы будынкі працягвалі стаяць, мазоліць людскія вочы.

Але хутка падзеі пачалі разгортвацца так, што само па сабе развязалася пытанне пра гумно і пуню. Нашы агароды ўпіраліся ў тупіковыя пуці, а каля іх пачалі ўзводзіць нарыхтоўчыя базы, каб прымаць ад калгасаў агародніну, бульбу, збожжа. Пясчаную дарогу да баз, не спытаўшыся дазволу гаспадара, пачалі пракладваць па Асташонкавым агародзе. Адным краем дарога ўперлася ў гумно і пуню, і пракладчыкі дарогі адным махам іх раскідалі. Цалейшыя бярвенні, дошкі забрала бацькава сястра і перавезла іх на свой новы пляц.

Груша стала нічыйнай, бо дарога адрэзала яе ад Асташонкавага агарода. Гаспадарамі дрэва як бы сталі мы з

Адамам (нашы агароды ляжалі побач) і на законным грунце ўсмак елі салодкія, сакавітыя грушы. Дзяліліся грушамі, вядома, з усімі хлопцамі, але лезці на дрэва або трэсці яго не дазвалялі.

Між тым вынiклі дзве незалежныя адна ад другой падзеі. Арыштавалі машыніста Барыса Дрыля, вялізнага маўклівага мужчыну, які жыў на другой палавіне вуліцы, у прыгожым трохскатным доме, што выбудаваў уласнымі рукамі. Ён ніколі не падыходзіў ні да Асташонкавай, ні да Казачэнкавай кампаніі. Ішоў, звесіўшы галаву, на службу, на станцыю, маўкліва, кіўком галавы вітаючыся з суседзямі. Нёс у адной руцэ закапцелы сундучок, у другой — маслёнку з доўгім носікам. Што шкоднага мог зрабіць Барыс Дрыль?..

Другая падзея была таксама нечаканая. Грабары, што насыпалі дарогу да нарыхтоўчых баз, выкапалі станкавы кулямёт «максім», ушчэнт заржавелы, але з закладзенай у яго лентай з патронамі. Месца, дзе яго выкапалі, знаходзілася непадалёк ад грушы, на стыку Асташонкавага і нашых з Адамам агародаў. Прыязджала міліцыя, корпалася каля ямкі, з якой выцягнулі кулямёт, штосьці вымярала, але так нічога і не высветліла.

Вынікам гэтых падзей сталася тое, што з Асташонкавай лавачкі мужчын нібы ветрам здзьмула. Назаўсёды апусцела лавачка пад разгалістымі таполямі. Мужчыны больш тут не збіраліся, не рагаталі. А Іван Ляпіца не расказваў зласлівых, едкіх анекдотаў. Казачэнкава капэла спявала па-ранейшаму. Пасля кожнай удалай, жаласлівай песні стараваты Іван выціраў рукавом буйныя слёзы, якія цяклі па яго безвалосым твары.

*1996*

## ДУБ НА ЎЗЛЕССІ

Мала вярнулася местачковых хлопцаў, якія пакантчалі па дзесяць ці нават па дзевяць класаў і пайшлі на вайну. Таму вялікую цікавасць выклікаў да сябе Мікалай Лясун, шыракаплечы малады хлапчына, з белымі, як у анёла, завіткамі валасоў.

За год да вайны, перайшоўшы ў дзясяты клас і нават месяца не павучыўшыся, ён нечакана кінуў школу, паехаў у авіяцыйнае вучылішча, размешчанае ў далёкім прыволжскім горадзе. Туды прымалі з дзевяццю класамі.

У школе Мікалай вучыўся сярэдне. Яму кепска давалася руская мова, і ён увесь час мармытаў пад нос выключэнні з правіл: кухонька, деревенька...

За час ваеннага лётніцтва вялікіх чыноў Лясун не дасягнуў. Меў званне малодшага лейтэнанта і ордэн Чырвонага Сцяга на гімнасцёрцы. Пра сваю лётніцкую службу нічога не гаварыў. Можна было думаць, што вайну ён правёў у абозе альбо наогул на ёй не быў.

З хлопцаў-аднакласнікаў Мікалая ў мястэчку жыў адзін толькі Пятро Дзядзюшка, самы здольны школьны матэматык, якому прарочылі вялікую будучыню. Гэтая будучыня пакуль што праглядвалася слаба. Пятро таксама быў на вайне, у сорак першым годзе трапіў у акружэнне, выбраўся з яго, пасля партызаніў.

Ён скончыў два курсы лесатэхнічнага інстытута і нечакана ажаніўся. Прыйшлося пераводзіцца на завочнае аддзяленне. Цяпер Дзядзюшка працаваў ляснічым.

Мікалай пазбягаў сустрэч, размоў са знаёмымі хлопцамі, а Пятра спецыяльна запрасіў на ранейшае котлішча. Ён вырас на хутары, на ўзмежку лесу і поля, і адсюль, адольваючы вярсты тры-чатыры балоцістай ваколіцы, бегаў у школу. Хутарская сядзіба Мікалая заняпала, зарасла кустоўем. Толькі адзічэлыя яблыні і густы, нібы лаза, вішаннік адзначалі месца былой сядзібы. Ды яшчэ высокі разгалісты дуб стаяў непадалёк ад двара.

— Гэты дуб я бачыў усю вайну,— прызнаўся Мікалай.— У сне і наяву. Каб не ён, мабыць, загінуў бы...

Мікалай адкаркоўвае пляшку, сябры патроху частуюцца.

— Не ляжыць душа да тэхнікі,— прызнаецца Мікалай.— Вядзе яна да пагібелі. Вазьмі гарады. Іх будавалі сотні гадоў. Разбурыць бамбёжкай горад можна за дзень. Што тады называецца прагрэсам?

Дзядзюшка памяркоўна згаджаецца. Бо як запярэчыш. Вунь атамная бомба з’явілася, і за нейкую хвіліну два вялікія

японскія гарады — Хірасіму і Нагасакі — як карова языком злізала...

— Добрую ты выбраў прафесію,— гаворыць Мікалай.— Я б таксама ў лесе рабіў ахвотна.

— Прыляпіся куды-небудзь на работу. На лёгкую. Скончы дзясяты клас. Паступі ў лесатэхнічны інстытут. Можна завочна...

— Позна, брат. Абрыдла па гарадах цягацца. Хоць бы трохі пажыць у цішыні...

Мікалай паступіў рабочым у рамонтную брыгаду. Жыў у бацькавай хаце, якую перад самай вайной перавезлі з хутара на Вакзальную вуліцу. Нават неяк непрыкметна ажаніўся з дзяўчынай, якая ў школе не вучылася, рабіла ў калгасе. На вяселле нават Пятра Дзядзюшку не пазваў.

Але да Дзядзюшкі яму ў хуткім часе прыйшлося звярнуцца. У райкам партыі прыйшла ўліковая картачка Лесуна. Мікалая выклікала сакратар райкама па кадрах, сярэдняга веку жанчына, з некалі мілавідным, а цяпер змізарнелым, пачарнелым тварам.

Такія, як Лясун, былі ў пасляваенны час у вялікай цане. У палоне, акружэнні, акупацыі не быў, мае ледзь не сярэднюю адукацыю, баявы ордэн.

— Пойдзеш у райкам камсамола,— заявіла сакратар па кадрах.— Пакуль другім сакратаром.

Мікалай ледзь не самлеў. Ніколі не ўмеў ён выступаць перад людзьмі, прамаўляць, рабіць даклады.

— Пашліце мяне ў лясгас,— папрасіў Мікалай, і голас яго задрыжэў.— Сем гадоў не меў прытулку. Кідалі з месца на месца...

Сакратар паглядзела на яго парадзелыя кучаравыя завіткі, збянтэжаны твар і, відаць, пашкадавала.

— Можна ў лясгас. Там слабая партыйная праслойка...

Дзядзюшка ўзяў Мікалая майстрам — так называліся ранейшыя аб’ездчыкі. Паступаць у інстытут Мікалай не асмеліўся: доўгая марока. Ён лёгка ўладкаваўся ў лясны тэхнікум і хутка, нешта гады за два-тры, здолеў атрымаць дыплом. Цяпер ён стаў памочнікам ляснічага.

Дзядзюшка і Лясун падыходзяць адзін другому. Спакойныя, ураўнаважаныя, яны, здаецца, ніколі не сварацца, не зводзяць

рахункаў. Жывуць, стараюцца нікога не крыўдзіць, нават не асабліва караюць парубшчыкаў.

Дзядзюшка бліскуча, з адзнакай скончыў інстытут. Яму, як вопытнаму практыку лясной справы, прапанавалі аспірантуру. Ён і аспіранцкія экзамены добра паздаваў. Але далей справа не пайшла. Не хацеў Пятро ў горад. Можа, па той прычыне, што лясніцтва само па сабе Богам дадзены рай.

Да ляснічага ніколі не прыйдзе з пустымі рукамі той, хто хоча выпісаць лесу на хату або нават дроў. Леснікі, як могуць, дагаджаюць ляснічым: у саміх рыльца ў пушку. Косяць ляснічаму сена, збіраюць ягады, сушаць грыбы. Хіба ў горадзе такое знойдзеш?

Лясніцтва атрымала матацыкл. Вадзіў матацыкл Лясун, Дзядзюшка сядзеў у калясцы. Пагойсаўшы па лясных кварталах, вырубках, маладых пасадках, службоўцы-дружбакі выбіралі зацішную мясціну з прыгожымі краявідамі, садзіліся палуднаваць. Усё часцей стала паяўляцца паўлітэрка. Не, яны асабліва не пілі. Так, каб узняць настрой. Па чарцы-другой.

Мікалай успамінаў вайсковую службу. Лячу, гаварыў, і ўсё зверху бачу. Дарогі, вёскі, машыны на дарогах, нават асобныя хаты, людзей. І ўсё маленькае, маленькае. І часта думка ўзнікала: навошта лятаць, калі можна нармальна хадзіць, дыхаць чыстым паветрам, жыць. Глядзець на кожнае дрэва, на траву, слухаць птушак...

Залішне цесную дружбу ляснічага з памочнікам заўважылі. Вышэйшае начальства рашыла дружбакоў разлучыць. Дзядзюшку перавялі ў лясніцтва, якое перасякае рака Бяроза, Мікалая Лесуна — у надпрыпяцкія лясы.

Ішлі гады. Лясун таксама стаў ляснічым. Разлучаныя сябры падбіраліся пад пенсійны ўзрост. Раптам выбухнуў Чарнобыль. Дзядзюшка застаўся на месцы: яго лясніцтва радыяцыя закранула мала. Лес Мікалая Лесуна аказаўся ў небяспечнай зоне. Прыйшлося пераязджаць у мястэчка, у старую бацькаву хату, з якой ён паехаў вучыцца на лётчыка, а потым даглядаць лес па-над Прыпяццю.

*1996*

## ЖОРЖЫК

Мы збіраліся на зарослым травой-муравой выгане, які ўтварыўся паміж дзвюма вуліцамі, што нібы разбегліся перад чыгуначным пераездам. Мы — гэта мой стрыечны брат Адам, Пеця Жаваронак, Жоржык і я.

Жоржык, круглы сірата, жыў у нашых суседзяў Кісялёў. Яго бабка Кацёра была вечна хмурая, непрыветлівая, і мы, дзятва, яе не любілі. Дзед Жоржыка Тарас — безбароды, з маршчыністым тварам — быў зацяты паляўнічы, любіў спяваць.

На нашых вачах Жоржык яшчэ меў маці і бацьку. Маці яго, дачка Кісялёў, прыехала з горада лячыцца — захварэла на сухоты. Муж яе, цемнатвары, плячысты, кучаравы, з чорнымі самотнымі вачамі, таксама быў хворы. Яны часта сядзелі ў садзе, елі яблыкі, пілі малако, дыхалі чыстым паветрам. Але нішто не дапамагло. Спачатку памёр бацька Жоржыка, потым — маці.

Жоржык застаўся жыць у дзеда і бабы. У яго вялікіх чорных вачах свяціўся невымерны сум. Ён, здаецца, ніколі не смяяўся. Толькі зрэдку ўсміхаўся, і ў такія хвіліны яго шыракаваты твар рабіўся весялейшым і прывабнейшым.

У нас былі бацькі, і мы ніколі не крыўдзілі Жоржыка. За здадзеныя пустыя бутэлькі атрымлівалі пакуначкі цукерак-падушачак, дзялілі іх і Жоржыку давалі на цукерку ці дзве больш.

Мы ўмелі знаходзіць гнёзды земляных пчол, чмялёў, выкалупваць з зямлі леташнія арэхі, якія толькі-толькі пачыналі прарастаць. Ведалі, дзе расце зайцава шчаўе. І гэтых лясных ласункаў таксама не шкадавалі Жоржыку.

Вучыліся мы не вельмі добра, за гульнямі, бегатнёй не бачылі белага свету. У чацвёртым класе задавалі цяжкія задачы. Пра два цягнікі, якія з рознай хуткасцю выйшлі насустрач адзін аднаму, або пра два басейны, якія напаўняюцца вадой з розных кранаў. Жоржык рашаў іх хутка, нібы семкі лузгаў. Як адмысловы матэматык, ён мог памножыць любы двухзначны лік на такі ж двухзначны ці трохзначны і, не пішучы нічога на паперы, даваў правільны адказ.

Мы дапытваліся ў Жоржыка:

— Як ты гэта робіш?

— Проста, множу сотні, дзясяткі, адзіночныя лікі. Потым складваю.

— У цябе адказ атрымліваецца раней, чым у нас на паперы.

Жоржык толькі паціскаў плячамі...

Кісялі жылі нядрэнна. Мелі вялікі агарод, сад. Стары Тарас многа дзічыны прыносіў. Малых дзяцей у Кісялёў не было.

Між тым папаўзлі чуткі, што дзед з бабай хочуць здаць Жоржыка ў дзіцячы прытулак. Мы ведалі: задумала так Кацёра, бо вельмі была скупая і ненаедная.

Аднойчы Жоржык не прыйшоў у школу. Потым мы дачуліся: да Кісялёў з дзіцячага прытулку прыязджала жанчына і забрала Жоржыка з сабой. У суседні горад, дзе размяшчаўся дзіцячы прытулак.

Мы чакалі ад Жоржыка пісьма. Але не дачакаліся. І да дзеда з бабай ён ні разу не прыехаў. Відаць, моцна пакрыўдзіўся на радню. А можа, што-небудзь іншае здарылася.

*1996*

## КАЛАБАРАЦЫЯНІСТ ПЕЦЯ ЖУЧОК

На станцыі Пецю Жучка ўсе ведаюць. Невысокага росту, з густа засеяным вяснушкамі шыракаватым тварам, на якім выдзяляецца аблузганы, чырвонага колеру нос, ён, Пецяя, вызначаецца незвычайнай шустрасцю. Вось ён з вамі, шмыгае носам, пераскаквае з адной босай нагі на другую, нешта расказвае, праз імгненне яго ўжо няма, ён далёка ад вас, віецца каля другога чалавека або цэлай кампаніі.

Маці ў яго ёсць, бацькі няма: Пеця — самасейка. Маці нарэшце выйшла замуж, у Пеці з’явілася маленькая сястра, і ён бы ахвотна з ёю гуляў, але айчым не любіць пасынка, і Пецю прыходзіцца большую частку блукаць па-за межамі роднай хаты.

Гэта і вызначыла Пецеў занятак падчас акупацыі, якая цягнулася на станцыі трохі больш як два гады. Айчым хлеба

не меў, таму адмовіўся карміць Пецю, і хлеб падлетак мусіў зарабляць сам.

Ён зрабіўся на станцыі падмятальшчыкам. Не, ніхто Пецю афіцыйна на службу не наймаў, не плаціў зарплаты, нават драўляных хадакоў яму не выдалі (ад гэтых хадакоў, між іншым, адмовіліся ўсе чыгуначнікі). Проста хітры тоўсценькі камендант станцыі скеміў, што з Пеці можа быць карысць і без усяго гэтага. Пецю выдалі мятлу і дазволілі па пероне, чакальнай зале і наогул па абсягах станцыі падмятаць смецце. За гэта ў абед каля станцыйнай кухні Пеця атрымліваў чарпак якога-небудзь варыва, кавалак сухога з белай плесенню хлеба, іншы раз нават костку з рэшткамі мяса.

Гэта была плата за работу.

Але Пеця не такі просты, як здаецца. Палец у рот яму не кладзі. Пеця вельмі хутка ацаніў выгоды і перавагі сваёй пасады. На станцыі, наогул на ахове чыгункі служылі пажылыя, нават старыя немцы, непрыгодныя для фронту. Іхняга пайка ім не хапала. Таму яны выпісвалі з дому, з Германіі, пачкі фарбы, ніткі, іголкі, розную іншую драбязу і ўсё гэта мянялі ў мясцовых жанок на яйкі, малако, сала. Пеця ў гэтай справе стаў ім незаменным памочнікам. Вядома, ён і пра свой інтарэс не забываў. Нават дадому сёе-тое прыносіў, улагоджваючы айчыма.

Хутка Пеця завёў уласнае дзела. Падмятаючы перон, чакальную залу, ён знаходзіў шмат недакуркаў. Між іншым, тытунь у вайну — вялікая каштоўнасць. Спачатку Пеця вылушчваў яго з недакураных цыгарэт, запакоўваў у пакецікі і спрабаваў прадаваць. Але на ягоную прадукцыю пакупнікі глядзелі коса, здагадваючыся, якога яна гатунку.

Пеця знайшоў выйсце. Адзін станцыйны немец выпісваў з дому пачкі пустых, не набітых тытунём гільзаў. Ён, відаць, таксама займаўся камерцыяй, набіваючы гільзы тытунём. Пеця знайшоў да немца падыход і займеў некалькі пачак гэтых самых гільзаў.

Справа пайшла! Набітая тытунём, цвёрдая папяроса — гэта зусім не тое, што расшкуматаная, разнаколерная табака. У Пецеву кішэню паплылі маркі. Маючы грошы, ён перакупляў у немцаў сапраўдныя цыгарэты і з выгадай прадаваў. «Прыват», «Кэмел» — ён і цяпер памятае іх назвы.

За грошы, якія збіраў, Пеця купляў цвёрды нямецкі хлеб, сыр у круглых запаяных бляшанках і насіў маці і сястрычцы. Бо жылі яны не вельмі. Цяпер ленаваты айчым проста ласкавым вокам стаў глядзець на пасынка.

Немцаў прагналі, Пеця пайшоў у пяты клас. Проста вучыцца, як другія дзеці, ён не мог, бо айчым па-ранейшаму адмаўляўся яго карміць. Таму Пеця наняўся вартаўніком на вугальны склад. Была ў яго вялікая мара: пасля сямігодкі паступіць у мараходнае вучылішча, стаць мараком, плаваць па ўсіх марах і акіянах. Вельмі падабалася яму песня: «По морям, по волнам нынче здесь, завтра там…»

Мара ледзь не спраўдзілася. Сямігодку Пеця скончыў на «выдатна». Паслаў дакументы ў мараходнае вучылішча. Адтуль у хуткім часе прыйшоў адказ, што ён залічаны на вучобу.

А яшчэ праз тыдзень у тоўстым канверце Пеця атрымаў назад свае дакументы і кімсьці нязграбна, каракулямі напісанае пісьмо. Пеця адразу пазнаў почырк айчыма. Айчым, які з маці разышоўся, спіўся, быў апошнім чалавекам на станцыі, паведамляў у вучылішча, што падчас акупацыі Пеця дапамагаў немцам, лізаў ім боты, актыўна служыў на чыгунцы. Ад кіраўніка вучылішча была злосная прыпіска: «Калабарацыяністаў на вучобу не прымаем. Бо вучылішча выпускае спецыялістаў, якіх і за мяжу пасылаюць».

Што такое «калабарацыяніст», Пеця не ведаў. Але здагадаўся, у чым справа. Не, не памагаў ён немцам. Хутчэй наадварот. Быў адзін выпадак, калі ледзь не ўзляцела ў паветра станцыя. Прыбыў воінскі эшалон славакаў, і тры-чатыры салдаты падцягнулі пад вагон з боепрыпасамі скрынку з выбуховым рэчывам. Славакі падпалілі бікфордаў шнур. Пецю папрасілі, каб апавясціў рабочых: хутчэй пакідайце станцыю. Пеця з усіх ног кінуўся выконваць просьбу салдат. Але скрынка не ўзарвалася. Лупаты Юрась Дрэка, які таксама гандляваў цыгарэтамі, убачыў шнур, з якога сыпаліся іскры, і папярэдзіў немцаў. Між іншым, Дрэка вучыцца ў тэхнікуме, і ніхто яго адтуль не праганяе.

Падумаўшы, Пеця махнуў рукой на мараходнае вучылішча. Дзе знойдзеш тых салдат-славакаў, якім ён хацеў дапамагчы?

Ён паехаў у суседні прыдняпроўскі гарадок і пастуціў у гандлёвы тэхнікум. Скончыўшы яго, працаваў у многіх мясцінах, нават на Поўначы. Нарэшце вярнуўся у свой раён, ажаніўся, дом пабудаваў, доўга, да самай пенсіі загадваў раймагам. І айчыму не помсціў. Напаткаўшы, соваў у чорную дрыжачую руку пяцёрку, іншы раз п'янага з канавы выцягваў.

*1996*

## ЛІПЫ ЦВІТУЦЬ

Два тыдні, як Васіль Халімонік ажаніўся, і вось, адарваны ад жонкі, на якую не паспеў наглядзецца, ён сядзіць у цемнаватым пакоіку, акно якога захінаюць галіны разгалістай ліпы, і чытае падручнік па палітэканоміі. Такіх падручнікаў у яго два, і абодва дала цяперашняя жонка Элеанора Замкавец, якая не захацела пераходзіць на Халімонікава прозвішча.

Так што ў Халімоніка, студэнта-завочніка трэцяга курса, не было мядовага месяца. Нават тыдня не было. Элеанора вучыцца на першым курсе настаўніцкага інстытута. У канцы мая яна сказала, што зацяжарала. У той жа дзень яны аднеслі заяву ў загс. Праз некалькі дзён іх запісалі, і Халімонік паехаў на сесію.

Халімонік памятае Элеанору з даваеннага часу. У апошні перадваенны год яна першая напісала яму пісьмо: прызналася ў каханні.

Да гэтага часу Халімонік справы з дзяўчатамі не меў, і пісьмо гэтае нібы абпаліла яго. Яго любіць дзяўчына! Халімонік вырас ва ўласных вачах.

Потым была вайна, доўгае расстанне, бо Халімонік жыў у раённым мястэчку, а Элеанора ў доўгім пясчаным сяле, да якога можна было даехаць па ветцы-аднапутцы.

Халімонік быў хлопец начытаны, за кнігамі свету Божага не бачыў. Кніжная рамантыка, відаць, спрыяла таму, што зялёны юнак узвёў даму сэрца на вышэйшую ступень дасканаласці. З твару яна была ніштаватая, толькі вочы былі трохі касаватыя. Але гэта і прыдавала нейкі выраз таямнічасці, загадкавасці.

Элеанора была невысокага росту, з добра развітымі жаночымі формамі.

Бачылася Элеанора з Халімонікам толькі два-тры разы. Аднойчы яны пасядзелі на лавачцы, і хлопец блаславіў тыя мясціны. Калі ён праходзіў міма іх, у яго заўсёды калацілася сэрца.

Халімонік не дакрануўся да Элеаноры. Бярог яе. Толькі аднойчы, калі пасля рэнтгену яму сказалі, што на ягоных лёгкіх выразна бачны плямы, ён спазнаў Элеанору як жанчыну. Дзяўчынай яна, вядома, не была. Халімонік даўно адкінуў падазрэнні, нічога не спытаўшы ў Элеаноры. Тое, што было да яго, не мела значэння.

Завочнікаў пасяляюць у невялікай драўлянай школцы, атуленай стогадовымі ліпамі. Ёсць, аказваецца, ціхі прыгожы куток у разбураным, вынішчаным Мінску.

Летняя сесія цягнецца сорак дзён. Ужо на першым тыдні, на століку, пры ўваходзе ў школку, з'яўляюцца лісты. Жонкі пішуць мужам, дзяўчаты — знаёмым хлопцам.

Халімонік ведае нораў Элеаноры і цуду не чакае. Яна і на фронт не пісала. Два-тры лісты за апошнія два гады вайны.

Аднак прычаравала да сябе Элеанора Халімоніка. Чым? Ён не ведае. Ён, калі ідзе на сустрэчу з ёй, заўсёды хвалюецца, прыдумвае словы, якія скажа. І ніколі не ўдаецца яму сказаць тое, што хацеў.

Можа, па гэтай прычыне ён абыякавы да чутак, якія да яго даходзяць. Чуткі тым часам нядобрыя. Пагульвае Элеанора з хлопцамі. Прытым з living рознымі. Якой-небудзь сталай прывязанасці ў яе няма. Хто спадабаўся, з тым згодна правесці вечар ці дзень.

Нельга сказаць, што Халімонік гэтак моцна закаханы ў Элеанору, што яна закрыла сабой увесь свет. Не раз у яго ўзнікала думка парваць з ёй. Свядома ці падсвядома ён адчувае: Элеанора недалёкая, не вельмі разумная і памешаная на самой сабе. На сваёй прыгажосці, якой, калі гаварыць шчыра, асабліва і не відаць.

Халімонік ажаніўся з Элеанорай, бо яна сказала: цяжарная. Тут ужо справа гонару. Халімонік сам сябе не будзе паважаць, калі пакіне дзяўчыну ў такім стане. Раз меў з ёй справу, трэба за гэта адказваць.

Інтэрнат утульны. У ім чатыры пакоі. Лета гарачае, плавіцца асфальт, але ў пакоях прахалода. Гэта ад разгалістых старых ліп, якія прыкрываюць школку і даюць цень. Яны цвітуць, і прыемны водар увесь дзень кружыць галаву.

Побач са школкай кінатэатр «Беларусь». Трохі далей, праз вуліцу, хлебазавод. Вялізная цагляная труба хлебазавода ўзвышаецца над усім наваколлем.

Уніз ад школкі збягае замошчаная каменем вуліца, застаўленая аднапавярховымі, з чырвонай цэглы дамкамі. Хоць гэта не прадмесце. Стары ўскраінны Мінск, відаць, быў увесь такі. Ціхія, засаджаныя дрэвамі вуліцы, іх забудову Хлімонік любіць. Ёсць у іх вобліку штосьці свойскае, блізкае. Можа, таму, што і ў мястэчку, дзе Халімонік вырас, трапляецца падобная забудова.

Лета коціцца да сонечнай, спякотнай сярэдзіны. У поўдзень так горача, што паказацца страшна. На трэцім мірным годзе цэнтральная мінская вуліца пакрысе забудоўваецца. Вечарам па ёй шпацыруе пярэсты натоўп. Бедным завочнікам, аднак, не да шпацыру.

Халімонік піша Элеаноры пісьмо, трэцяе па ліку, указвае адрас. Два тыдні мінае, і няма адказу. Халімонікавы таварышы па два-тры лісты атрымалі. Ён — аніводнага.

Жыць лягчэй робіцца. Бо рубель набывае вагу. На вуліцы Нямізе ў прадуктовым магазіне вісяць перавяслы каўбас. Першы раз у продажы з'яўляецца каўбаса. Васіль купляе дзвесце грамаў. За дзясятку. Летась за такія грошы ён мог купіць толькі пайку хлеба, не большую па вазе.

У сталоўку, на фабрыку-кухню, Халімонік ходзіць раз у дзень: на абед. У школцы паставілі тытан, раніцай і вечарам там кіпень. Ёсць хлеб, цукар, маргарын. Што болей трэба?

Да позняй ночы Халімонік чытае. Перад здачай экзамену наогул дзве-тры ночы не спіць. Адольвае два тамы палітэканоміі, звяраючы прачытанае з праграмай.

Ногул сесія цікавая. Шмат выкладчыкаў з Масквы. Добрых выкладчыкаў. Чаго варты падобны да байкапісца Крылова тоўсты, непаваротлівы выкладчык Самсун, які чытае рускую літаратуру дзевятнаццатага стагоддзя! Трэба паслухаць, як ён чытае! Не проста расказвае пра таго ці іншага літаратурнага

героя. Нібы артыст на сцэне, іграе яго, выстаўляючы то сур'ёзным, то смешным.

Самсун, здаецца, трохі ўзяў ад крытыка Пісарава. Рамантычных герояў спускае на зямлю, насміхаецца над імі. Часам востра і здзекліва. Аўдыторыя рагоча ледзь не ўпокат.

Самсуна трэба слухаць, але і запісваць варта. Бо яго думкі ўзважаныя, вынашаныя. Быў ён, аказваецца, прафесарам, цяпер — старшы выкладчык. Панізілі ў званні за нейкія ідэалагічныя грахі.

Халімонік пачынае разумець, што заняткі ва ўніверсітэце, няхай не вельмі працяглыя, трымаюць яго на свеце. Даюць духоўную сілу. Бо думкі, закінутыя ў душу тым самым Самсунам, абуджаюць уласную думку, не даюць абымшэць, зніякавець, расчаравацца.

Сонца — вялікі асляпляльны круг — вісіць у блакітным, без хмурынкі небе. Камяні, будынкі, дахі, нібы напаленая печ, дыхаюць жарам. Бедныя завочнікі ў шэрых або чорных пінжаках выдыбаюць па горадзе. Заняткі вядуцца ў школах, размешчаных у розных частках горада.

Маладой, прыемнай з выгляду аспірантцы Халімонік здае экзамен па рускай літаратуры першай паловы XIX стагоддзя. Прыстойна адказвае і адзнаку прыстойную атрымлівае. Але аспірантка памыляецца. Ставіць адзнаку і за другую палову стагоддзя.

Што рабіць? Літаратуру другой паловы стагоддзя чытае Самсун. Чытае выдатна, але здаць яму экзамен вельмі нялёгка. Патрабуе грунтоўных ведаў. Палавіну студэнтаў праганяе.

Халімонік можа не ісці да Самсуна. Адзнака ёсць. Штосьці, аднак, не дазваляе пакарыстацца памылкай маладой аспіранткі. Будзе пакутаваць ад сумлення.

Халімонік прыкідвае, пра што спытае Самсун. Задасць, відаць, цяжкія пытанні. Тры ночы чытае ён розныя кнігі. Уважліва праглядвае канспекты, якія стараўся весці акуратна. Бо таго, што гаварыў Самсун, ні ў якіх падручніках не знойдзеш. Дый няма пакуль для вышэйшай школы падручнікаў.

Самсун сустракае студэнта зычліва. Бачыў яго на занятках (Васіль не прапусціў аніводнай лекцыі), відаць, запомніў.

— На якія пытанні хочаце адказваць? — як бы просіць падказкі Самсун.

Васіль маўчыць. А ў думках загадвае: «Эстэтычныя погляды Чарнышэўскага».

— Запішыце: «Эстэтыка Чарнышэўскага»,— гаворыць Самсун.

«Цяпер скажы: «Вайна і мір»,— працягвае маўклівае ўнушэнне Халімонік.

— Другое пытанне «Вайна і мір» Талстога,— нібы падпарадкоўваючыся гарачай волі студэнта, абвяшчае Самсун.

Халімонік расслабляецца. Трэцяе пытанне яго не цікавіць. Ён заробіць капітал на першых двух.

Халімонік пачынае адказваць. Ён нібы вяртае выкладчыку думкі, якія той сам сеяў сярод студэнтаў. Эстэтыкай Халімонік нават захапіўся: даходлівей, чым Самсун, яе не раскрыў ніхто.

Ён бачыць, як лагаднее, яснее шырокі твар выкладчыка.

— Малайчына. Хопіць. З «Вайны і міру» скажыце толькі пра тое, якую бачыць Талстой розніцу паміж Кутузавым і Напалеонам.

І гэта Васіль ведае. Бо менавіта на гэта націскаў Самсун, раскрываючы перад студэнтамі змест эпапеі Талстога.

Пра трэцяе пытанне Самсун нібы забывае.

— Добра, паглядзім, якія ў вас поспехі на другіх франтах. Ага, адны пяцёркі. Чацвёркі таксама трапляюцца. Для разнастайнасці...

Васіль удзячны лёсу, што такі выдатны выкладчык, як Самсун, прылюдна хваліць яго, ставіць вышэйшую адзнаку. Яму толькі шкада трох ці чатырох студэнтаў, якія пасля яго адказу куляй вылятаюць з аўдыторыі Самсуна. Звычайны малюнак. У Самсуна заўсёды так.

Не шанцуе ў каханні, затое ў навуцы поўны поспех. Халімонік нібы пажынае славу. Ягоны адказ па палітэканоміі таксама хваліць чорненькі непрыкметны дацэнт. На экзамене па лацінскай мове паўтараецца тое, што ў Самсуна. Васіль лёгка завучвае два-тры дзясяткі лацінскіх выслоўяў. Бо яны прыгожа, звонка гучаць. Да тых, хто не вывучыў лацінскіх сказаў, пасівелая лаціністка літасці не мае.

Дыхаць лягчэй: экзамены ззаду. Трэці курс, можна лічыць, закончаны. Хоць на душы трывога: Элеанора не прыслала ніводнага пісьма.

Увогуле штосьці трывожнае носіцца ў паветры. Ва ўніверсітэце пачынаюць ганьбіць мендэлістаў-марганістаў. Нягледзячы на лета, адпачынкі выкладчыкаў, ідуць сходы, нецярплівыя прамоўцы выкрываюць памылкі асобных дацэнтаў і нават прафесараў.

Газеты бэсцяць камуністычную партыю Югаславіі. Ёй кіруюць, аказваецца, шпіёны, дыверсанты і забойцы. Суцэльны пажар партызанскай вайны палыхаў у Югаславіі. То як такая краіна трапіла ў рукі цёмных людзей, якія служылі Гітлеру?

Адказу няма. Штосьці незразумелае пачынае тварыцца на свеце.

Здаўшы экзамены, з вольнай душой Халімонік нарэшце наважыў схадзіць у кіно. У напаўразбураным Мінску толькі тры кінатэатры: «Першы», «Радзіма» і «Беларусь». Апошні — побач са школкай, дзе цяпер інтэрнат завочнікаў. «Радзіма» — трохі далей, на суседняй вуліцы.

Халімонік ідзе ў «Радзіму». Фае поўна людзей, душна, цесна. З дынаміка для наведвальнікаў кіно, якія чакаюць сеанса, льецца сумнаватая мелодыя новай песні, якую выконвае Бернес. Усіх слоў Васіль разабраць не можа:

...парень ходит, мается,
Свой покой он потерял навек,
Значит, без вниманья обращается
С человеком человек…

Песня нібы для Халімоніка спецыяльна напісана.

Надвячоркам у школку, дзе месцяцца завочнікі, завітвае чарнявы кучаравы Грыша Вадзянік, у маці якога Элеанора адзін час кватаравала.

Грыша працуе ў абкаме партыі. Цяпер вось прыехаў паступаць у партыйную школу.

— Захацеў цябе пабачыць,— гаворыць Грыша.— Ты ж, аказваецца, ажаніўся. На нашай былой кватарантцы.

Размова не клеіцца. Грыша штосьці як бы ўтойвае. Нарэшце яго прарывае:

— Не хацеў гаварыць, ды скажу. Праваліла сесію твая Элеанора. Ніводнага прадмета не здала...

Халімонік настолькі збянтэжаны, што не можа слова прамовіць.

— Чаму правaліла? — нарэшце прамаўляе.

— Пра гэта жонку спытай. Я толькі чуў: за Прыпяць ездзіла. Другія дзяўчаты таксама ездзяць. Схаваюцца ў кусты, канспекты зубраць...

Грыша развітваецца. Ён не хоча болей гаварыць. Да Халімоніка, аднак, даходзіць: як бы аб нечым папярэджвае Грыша. Папярэджвалі і другія, ды Халімонік не слухаў. Але тады ён быў нежанаты. Цяпер трэба аб нечым думаць...

*1996*

## НА СОТАЙ ВЯРСЦЕ

Гэта разлеглае, панылае балота душу не радуе. Яго асушылі да вайны, прабавалі штосьці сеяць, але паколькі мінеральных угнаенняў не хапала ды і вопыту належнага не было, то ніхто тут, відаць, не разбагацеў.

Відаць было, што пасля вайны тут яшчэ нічога не сеялі. Высокія рудыя пасмы высахлай травы спляліся між сабой, уздоўж асушальных каналаў густой сцяной стаяла высокае выпетранае бадыллё, нават лазнякі разрасліся.

І час невясёлы: запозненая вясна. Неба ўхутана густымі шчыльнымі воблакамі. Месяц красавік, а ў лажках яшчэ многа пачарнелага, абледзянелага снегу, зяляніна ледзь-ледзь прабіваецца.

Толькі ў адным месцы, на прыгрэве мільгануў астравок жоўта-залацістай лотаці. Малыя незнаёмыя птушачкі папіскваюць, пералятаючы з куста на куст.

Рудчык, карэспандэнт абласной газеты, яшчэ ўчора перабрыў гэтае балота. Ён пабываў у калгасе, які называецца гэтак жа, як абласная газета. Матэрыялу не знайшоў. Затое напаткаў такога дурнога старшыню, якога за час карэспандэнцкай практыкі яшчэ не сустракаў. Той палічыў Рудчыка ледзь не за шпіёна, званіў у раён і нават у абласную газету, высвятляючы яго асобу. І зусім непісьменны старшыня, хоць у арміі, як сказаў, быў старшым лейтэнантам.

Цяпер Рудчык зноў кіруе да чыгункі. Толькі па другой дарозе. Трэба трапіць яшчэ ў адзін калгас. У ягонай

лейтэнанцкай сумцы пісьмо. Там распісаны махлярствы, якія творыць кампанія жулікаў.

Гадзінніка ў Рудчыка няма. Быў гадзіннік ды сплыў. Але ён адчувае: вечарэе. Трэба да цемені дабрацца да вёскі.

Наперадзе маячыць дзявочая постаць. Рудчык не хоча даганяць дзяўчыну. Не любіць папутчыкаў. Наогул з незнаёмымі людзьмі ён не пускаецца ў лішнюю гаворку. Трэці год вандруе ён па раёнах, калгасах, начуе па чужых хатах, і, можна сказаць, не было ў яго ніводнай рамантычнай прыгоды. А колькі дзяўчат у вёсках, якія засталіся без жаніхоў. Жаніхі іх палеглі на вайне. Відаць, вельмі сур'ёзны, зацяты Рудчык, і дзяўчаты не ідуць з ім на збліжэнне. Хоць Рудчык і жартаваць умее, пасмяяцца любіць, але толькі ў знаёмай кампаніі.

Ёсць і другое штосьці. Рудчык як бы ў крыўдзе на дзяўчат. Не на ўсіх, вядома. На адну. Яна кінулася ў вочы даўно, але нібы вяроўкі з яго ўе. Душэўнай блізкасці між імі няма. Яна і не шукае гэтай блізкасці. Не хінецца да яго ў час рэдкіх сустрэч. А ён, відаць, бесхарактарны. Не можа парваць сувязі, якая прыносіць адны пакуты. Ён даўно развітаўся б з ёй, каб зрабіла яму што-небудзь брыдкае. Але яна і не хінецца да яго, і не кідае.

Адлегласць паміж Рудчыкам і дзяўчынай скарачаецца. Згушчаюцца імклівыя вячэрнія змрокі, і, відаць, дзяўчына, баючыся цемені, не супраць таго, каб мець спадарожніка. Наўмысна замаруджвае хаду. Нарэшце Рудчык даганяе яе.

З першага позірку дзяўчына Рудчыку падабаецца. Яна ў чорным палітончыку, павязаная белай вязанай хусткай, на нагах трохі завялікія для яе і, здаецца, мужчынскія чаравікі. Дзівіцца нечага: толькі два гады, як скончылася вайна.

Калі чалавек падабаецца, то і гаворка заводзіцца лёгка. У дзяўчыны далікатны, трохі змізарнелы твар, зграбная постаць і голас як бы з галубіным вуркатаннем. Рудчык гаворыць, хто ён і што, і ад дзяўчыны сёе-тое дазнаецца. Яна ідзе на станцыю, хоча сесці на цягнік і паехаць да старэйшай сястры. Калі тая дазволіць, трохі пажыве ў яе.

Дзяўчына штосьці не дагаворвае. Тым часам Рудчык лішне не дапытваецца. Яму прыемна ісці з Кацяй — так яна назвала сябе — і гаварыць аб дробязях. Каця скончыла летась (жыла ў

раённым мястэчку) дзесяцігодку і сёлета хоча паступіць кудынебудзь. Хоць у тэхнікум. Бо памагаць ёй некаму.

Недзе ў глыбіні душы Рудчык кляне долю. Вось трапілася б яму такая дзяўчына і не меў бы ён ніякіх згрызот. Вядома, добрых дзяўчат шмат. І Рудчык некаторых ведае. Але трэба яшчэ, каб яны падабаліся. Гэтая падабаецца. Можа, таму, што ён начытаўся кніг і хоча, каб дзяўчына была прыгожая. Неабавязкова красуня. Але каб што-небудзь у ёй падабалася, прыцягвала. Ён адчувае: з Кацяй было б усё добра. Яна простая, звычайная і, здаецца, не нясе ў сабе асаблівай тайны.

Яны падымаюцца на пагорак. За пагоркам — рачулка, мост, і там яны з Кацяй развітаюцца. Сінее далёкі зубчаты край лесу. За лесам чыгунка. Сядзе Каця на цягнік, і болей не ўбачыць яе Рудчык. А ён хоча завязаць знаёмства. Толькі не ведае як.

Ён вымае з нагруднай кішэні кашалёк, дае Каці некалькі сторублёвак.

— На білет,— гаворыць.— Грошай у вас няма.

Яна чырванее, нават мочкі вушэй пунсавеюць.

— Няма. Выскачыла з дому як на пажар. Толькі потым дасцё. Як будзем развітвацца. Вазьму ваш адрас і перашлю грошы.

— Лепей я ваш адрас запішу. Прыеду да вас.

Яны ўзыходзяць на седлавіну пагорка, і тое, што бачаць, прымушае Рудчыка здрыгануцца. Нізіна наўсцяж рэчкі заліта вадою. Моста нават не відаць. І не відаць ніякай дарогі.

Змрок згушчаецца. Няўжо па цемені вяртацца ў вёску, дзе дуркаваты старшыня правяраў асобу карэспандэнта? Ды і няблізка гэта. Кіламетраў восем…

— Я ведала, тут залівае,— гаворыць Каця.— Толькі думала: вада сышла…

У памяці Рудчыка, нібы іскра, успыхвае не зусім акрэслены малюнак. Калі ён толькі-толькі параўняўся з дзяўчынай, збоку ад дарогі, здаецца, шарэла прыбітая дажджамі капа сена. Ці адзёнак ад стога.

— Пойдзем у гасцініцу,— гаворыць ён.— Папросімся нанач…

Яна пакорліва ідзе за ім. Шэрасць вечара светлая. Яны падыходзяць да кучы, якая цямнее наўзбоч. Гэта сапраўды капа сена. Яна разварушана, разварочана. Нехта, як і яны, падышоўшы да рэчкі вечарам, знайшоў тут начлег.

«На балоце сціртa сена, там паслана пасцель бела, там мы будзем начаваці»,— усплываюць у памяці Рудчыка словы з песні. Ён глыбей разварушвае сена. Яно сухое, але ад яго патыхае прэллю.

У Рудчыка ў лейтэнанцкай сумцы ёсць кавалак хлеба і цыбуліна. Але прапанаваць такую вячэру дзяўчыне ён не адважваецца.

— Будзем начаваць,— гаворыць Рудчык.— У сене не замёрзнем. Ноч не халодная.

Ён падграбае болей сена пад галаву. Кладзецца, не расшпіляючы паліто. Каця кладзецца трохі наводдаль.

На небе выбліскваюць дзве-тры няяркія зорачкі. «Ці быў у цябе выпадак, падобны на такі?» — нібы пытае сам у сябе Рудчык. Здаецца, не было. На фронце не раз начавалі ў лесе. Пад плашч-палаткамі. Нават зімой. Але там быў гурт. Хлопцы, дзяўчаты ўперамешку.

— Летась маці памерла,— раптам гаворыць Каця.— Бацька нядаўна ажаніўся. Мачыха старэй за мяне толькі на два гады.

— У цябе хлопец ёсць? — пытае Рудчык.— З якім сябруеш…

— Быў. Толькі я парвала з ім. Ён і да маёй сяброўкі падкатваўся.

Змора бярэ сваё. Рудчык здарожыўся, дрэнна правёў ноч у вёсцы, дзе яго так па-дурному сустрэлі. Таму імгненна заснуў.

Ён прабудзіўся ноччу, калі неба наўсцяж было асветлена густым засевам зорак. Побач, ахінуўшы белай вязанай хусткай галаву, нячутна спала Каця. Рудчыку стала цёпла, хораша на душы, і ён зноў заснуў.

Калі прабудзіўся раніцай, Каці побач не было. З-за пагорка, рассцілаючыся па нізіне, плыў туман, кігікала нейкая птушка, на ўсходнім краі неба ледзь-ледзь бялела палоска зары…

*1996*

# ПАДРАНЕНЫ ЖУРАВЕЛЬ

Жыта зжалі жняяркамі, змалацілі проста на полі, салому застагавалі. І зноў зазелянела ржышча, бо быў яшчэ толькі канец жніўня. Іржышча падзялілі, калгаснікі касілі яго на сена. Але засталося яшчэ многа прастору, і сюды выбіраюцца хлопцы з усёй вёскі. Не проста так выбіраюцца: хто заняў карову, хто цяля, хто свінню. Бо летняя свабода канчаецца, наперадзе восень, зіма, бясконцыя заняткі ў школе. І трэба цёплыя дні як след выкарыстаць.

Сонца яшчэ гарачае, як у сярэдзіне лета. Неба сіняе, чыстае. Рассякаючы крыламі паветра, носяцца ластаўкі. Ловяць розных мушак і мошак. На правадах, а то і проста на зямлі сядзяць чароды шпакоў. Яны цяпер таксама жыруюць, каб набрацца сіл перад адлётам у вырай.

У адзін з такіх дзён раптам чуецца ціхае, нібы прыемная музыка, курлыканне. Хлопцы задзіраюць галовы. У небе шнурочкам выцягнуўся жураўліны клін. Наперадзе кліна, відаць, вопытны журавель, які вядзе чараду, за ім ляцяць астатнія птушкі.

Сумна ад ледзь чутнага курлыкання. Хлопцы сядзяць пры вогнішчы. Робяць прысак і ўзрыхляюць палкамі пад агнём зямлю. У гарачы прысак накідаюць бульбы, спякуць яе, каб стала мяккай, з хрумсткай скарыначкай, будуць частавацца. Што смачней за печаную бульбу, якая тут, на полі, асабліва пахне і мае выдатны смак?!

Зноў даносіцца зверху курлыканне — ціхі меладычны звон. У небе ледзь бачным шнурочкам цягнецца новы жураўліны клін.

Журавель — рэдкая, асцярожная птушка. Яна робіць гнёзды на далёкіх балотах, імшарынах, так што ніхто з хлопцаў не бачыў зблізку жураўля. Нават Змітрок Лявонік, які больш за астатніх захапляецца птушкамі.

— Журавель на бусла падобны? — пытаюць хлопцы ў Змітрака.

— Трохі падобны. Толькі пер’е ў яго цёмна-шэрае.

— Адкуль ведаеш?

— Мы з бацькам сёлета касілі сена ў Астроўках. За далёкімі лозамі. То на леташнім адонку было гняздо жураўля.

Я знайшоў пяро і шкарлупіны ад двух яек. Яйкі светла-шэрага колеру, вялікія.

— Чым жураўлі кормяцца? Можа, як буслы,— жабамі, вужамі.

— Не ведаю,— адказвае Змітрок.— Жураўлі ад людзей хаваюцца. Што ядуць — ніхто не бачыў.

Спяклася бульба. Хлопцы выкочваюць яе з прыску кійкамі. Падгарэлыя бакі падшкрэбваюць ножыкамі. Перакідваючы з далоні на далонь гарачыя бульбіны, з прыемнасцю ядуць.

Ужо шэры вячэрні змрок паціху расплываецца па полі. Хутка хлопцы пагоняць жывёлу дамоў.

Зноў чуецца далёкае, прыемнае на слых курлыканне. Толькі на гэты раз яно перарываецца нейкім адчайным, рэзкім крыкам. Хлопцы заўважаюць: адна птушка зніжаецца, вось-вось кранецца зямлі. Нарэшце журавель садзіцца на ржышча, працягвае пранізліва-трывожна крычаць.

Хлопцы наперагонкі кідаюцца да птушкі.

Дык вось ён які, журавель! Адно крыло ў яго звісае, цягнецца па зямлі. Яно, відаць, перабіта.

У гэты час па пыльным шляху гоніць статак цялят Ілля Звон, хлапчына гадоў васямнаццаці. У яго нават пугі няма — звычайны дубочак.

Дзеці любяць Іллю. Ён мяккі, прыветлівы. Яшчэ гады чатыры назад быў настаўнікам хлапечай талакі, шмат цікавага расказваў малодшым сябрам пра навакольны свет.

Хлопцы наперабой расказваюць Іллі пра жураўля.

— Вы ідзіце,— раіць Ілля.— Жураўлі натоўпу не любяць. Я забяру яго, знайду зацішнае месца.

— А чым будзеш карміць? — пытаюць хлопцы.— Вужоў, жаб цяпер не наловіш.

— Жураўлям гэта не патрэбна. Кормяцца яны травой, раслінамі,— тлумачыць Ілля і просіць: — Толькі нікому пра жураўля не гаварыце. На людзях ён не вытрывае, змарнее і загіне…

У цялятніку Ілля, які зімой працаваў даглядчыкам, абсталяваў для параненага жураўля закутак на кармакухні. Тут цёпла, утульна. Дол Ілля заслаў мохам, лісцем, сухой травой. Карміўся журавель тым, што і цяляты. Ахвотна еў

бульбу, буракі, бручку, высока задзіраючы выгнуты нос, прызвычаіўся піць цялячае пойла.

Усю восень і зіму хлопцы, звязаныя тайнай, перадавалі адзін аднаму навіны пра жураўля. А вясной Ілля паклікаў іх да сябе на калгасны двор, сказаў:

— Трывожыцца журавель. Крычыць, ірвецца некуды. Відаць, жураўлі прылятаюць.

Ён адчыніў дзверцы. І адразу з катушка выскачыў журавель. Сапраўдны прыгажун — цёмна-шэры, з пышным, як у страуса, хвастом, моцнымі нагамі. Дзівіліся хлопцы: журавель нібы пад музыку пачаў перабіраць нагамі — быццам танцаваў. Затым, зрабіўшы тры-чатыры кругі, узляцеў, падняўся над хлявамі, хатамі і неўзабаве знік з вачэй.

*1996*

## СЕЛЬСАВЕТЧЫКІ

Толькі нядаўна я даведаўся, што мястэчка не ўпершыню было раённым цэнтрам. Насіла такі тытул яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў, калі я толькі нарадзіўся. Раён у хуткім часе скасавалі. Чаму? Праз мястэчка праходзіць чыгунка Гомель — Жыткавічы і яшчэ адгаліноўваецца аднакалейка ў суседні багаты жытам і пшаніцай Паўднёва-прыпяцкі раён. На станцыі дэпо паваротны круг, вадакачка. Каля высокай, падобнай на літару «Г» калонкі паравозы запраўляюцца вадою, трохі далей — вугалем. І раптам выгаднае для кіраўнічых службаў паселішча робяць звычайным сельсаветам.

Маё больш-менш свядомае жыццё працякала пры сельсавеце. Я пайшоў у школу і, калі мяне перавялі ў трэці клас, запісаўся ў сельсавецкую бібліятэку. Раней не запісвалі. Было такое правіла.

Па гэтай прычыне я часта наведваў сельсавет. Гэта быў вялікі драўляны дом з высокім ганкам, мноствам пакояў, у кожным з якіх былі вялікія светлыя вокны.

З вуліцы да сельсавецкага ганка вяла пасыпаная жвірам алейка, заўсёды сухая, з малымі каменьчыкамі, што пахруствалі пад падэшвамі. Па абодва бакі алейкі — палісаднік з акацыяй.

Акацыя — паўднёвае дрэва, і ў нашым паўночным краі яна пачынае расцвітаць, калі бэз, чаромха, яблыні, вішні даўно адцвілі.

Прыгожы быў сельсавецкі палісаднік, калі расцвітала акацыя. Дрэвы, нібы нявесты, у белым вэлюме. З палісадніку плыў ні з чым не параўнальны мядзяна-п'янкі пах, ад якога кружылася галава. І чулася ціхая, меладычная музыка — нібы граў нябачны струнны аркестр. Гэта гулі, абследуючы кожную белую кветку, пчолы і чмялі. Мільёны пчол і чмялёў каля будынка сельсавета!

Будынак сельсавета, відаць, належаў нейкай раённай установе. У адным з пакойчыкаў, доўгім, вузкім, як пенал, размяшчалася бібліятэка. Каля сценак стаялі стэлажы.

Выдавала кнігі мажная, дзябёлая, з круглым пляскатым тварам жанчына — Ксюха Лапата, незамужняя і, можа, па гэтай прычыне злосная, незгаворлівая.

А для мяне бібліятэка стала святым месцам, храмам. Бо ад аднаго пагляду на стэлажы з непрачытанымі кнігамі мяне ахоплівалі радасць і ўзрушэнне.

Ксюха кнігамі не цікавілася. Меншым школьнікам давала тоненькія кніжкі, старэйшым — таўсцейшыя. Я паўстаў супраць такога парадку. І перамог, бо ўжо прачытаў мноства аповесцей, нават раманаў і пералічыў іх назвы бібліятэкарцы.

Шчаслівы, бласлаўлёны час! А несучы за пазухай новую кнігу, я ляцеў дадому як на крылах, прадчуваючы асалоду, якой хопіць на вечар і на ноч.

Кнігі я чытаў пераважна ноччу. Бо на дзённы час хапала іншых клопатаў. Трэба было адстаяць у чарзе па хлеб, украсці на станцыі на складзе плашку ці дзве дроў, папілаваць іх, пакалоць, каб дроў хапіла і на заўтрашнюю раніцу.

У хуткім часе Ксюха пачала мяне проста ненавідзець. Я прачытваў тоўстую кнігу за ноч, назаўтра прыходзіў па новую. Я прыбаўляў бібліятэкарцы клопату. І ўвогуле поркаўся каля стэлажоў доўга, настойліва шукаючы найцікавейшую кнігу, пра якую што-небудзь чуў.

Але іменна ў гэты час маё становішча палепшылася настолькі, што Ксюха не магла нават рота раскрыць. Справа ў тым, што ў Савет прыслалі новага старшыню Бутрымовіча:

маладога, стройнага, трохі рудаватага прыгажуна, які пасяліўся ў другой, чыстай, палавіне нашага дома.

Бутрымовіч адразу пачаў заводзіць у мястэчку новыя парадкі. У гразкіх мясцінах загадаў перакласці драўляны тратуар, пахілыя хібары, што псавалі выгляд вуліцы, абшыць дошкамі, на грамадскіх будынках павесіць лозунгі, партрэты правадыроў.

Якраз у час кіравання Бутрымовіча здарылася няшчасце. Сам па сабе разваліўся клуб імя Вароўскага. Гэта быў струхлелы стары склад нейкага купца, які камсамольцы перарабілі на клуб, падпёршы будынак апоркамі. У клубе камсамольцы наладжвалі розныя зборышчы, відовішчы, спектаклі, і жыць без такога асяродка моладзь не магла.

Не ведаю, ці камсамольцы падбілі Бутрымовіча, ці ён сам адважыўся на адчайны крок. За адну ноч зніклі залатыя макаўкі з новай прыгожай царквы. Начныя зухі скінулі на зямлю вялікія і малыя званы. Вялікія пакалоліся, малыя былі цэлыя.

Мне было шкада званоў. Які прыгожы, меладычны перазвон нёсся ў святочныя дні над мястэчкам. Званіў нейкі званар — майстар, які дасканала ведаў справу. Музыка званоў абуджала радасць, добрыя, высакародныя пачуцці.

І ў самой царкве было прыгожа, урачыста. Яе вузкія рознакаляровыя вокны-вітражы, серабро, пазалота на іконах, розныя карціны як бы паказвалі, што жыццё можа быць не такім шэрым і аднастайным, як на гразкіх вуліцах мястэчка.

Маім бацькам было ніякавата: пусцілі на кватэру галоўнага бязбожніка, які разбурае пабудаваны нядаўна за народныя капейкі Божы храм (старая царква згарэла, пры адступленні белапалякаў у яе трапіў снарад).

Між тым Бутрымовіч з царкоўных бярвенняў імкліва будаваў Дом культуры. Проста нечуванымі тэмпамі рос гэты клуб. Праз месяц ці два ў клубе паказвалі ўжо гукавое кіно: навінку для таго часу.

Ад набожных людзей у раён, вобласць, нават у Маскву, вядома, ляцелі скаргі. Прыехала камісія, але было позна ўжо. Насупраць былой царквы стаяла ахайная будыніна з шырокімі светлымі вокнамі. Дом культуры. На былым пляцы царквы пачалося будаўніцтва двухпавярховай каменнай школы.

Дзякуючы Бутрымовічу бібліятэкарка Ксюха стала выдаваць мне аж па дзве кнігі. У сельсавет я стаў хадзіць радзей. Але справы сельсавецкія трохі ведаў: да Бутрымовіча прыходзілі члены сельсавета, вялі гаворку, часам чарку бралі. Але прыходзілі галоўным чынам кіраўнікі: начальнік станцыі, загадчык млына, дырэктары мылаварні, леспрамгаса, намеснік старшыні сельсавета Весялоўскі, які заўсёды насіўся на прыгожай кабыле Ластаўцы, чорнай, з белымі падпалінамі на стройных нагах і лбе.

Гэта была памяркоўная кампанія. Раскулачванне скончылася. З мястэчка выслалі аднаго толькі Пятра Хоміча, абарванага, як старца, «багацея», які мясіў гразь у лапцях і ледзь не свяціў задам шарачковых штаноў. Багацце Хоміча змяшчалася ў высокіх дубовых бочках: ён назапасіў, можа, тысячу пудоў хлеба.

Тым часам сельсаветчыкі, якія начальнікамі не былі, прагнулі далейшага раскулачвання. Асабліва вызначаўся худы, з доўгай жылістай шыяй Гокім (імя ягонае было Якім, але ён страшэнна картавіў, замест «я» гаварыў «ё», і таму яго гэтак празвалі).

Быў яшчэ адзін няўрымслівы актывіст, шматдзетны і малапісьменны Кірыла Шыкула, які, аднак, хадзіў пры нагане, бо быў партыйцам. Гэты пісаў бясконцыя заявы на суседа Сцяпана Грэчку, зусім не багацея, звычайнага серадняка. Гокім, здаецца, нічога не дабіўся, а Грэчку з дома выселілі, зрабіўшы ў ім краму. Яго нікуды не высылалі, ён перабраўся ў саўгас і пасля вайны дом вярнуў.

Хутка Бутрымовіч ад нас выбраўся. Была прычына, і немалаважная. Да нас часта завітвала Анэта Багунова, стрыечная сястра маці, надзвычай прыгожая жанчына. Можа, другой такой прыгажуні ў мястэчку не было. Вельмі мілавідны, нават прыгожы твар, па-жаночы зграбная постаць, нібы спецыяльна вылепленая для таго, каб ёю любаваліся, пявучы, мілагучны голас.

Бутрымовіч з першага позірку захапіўся Анэтай. А яна ім. Не могучы стрымацца, Анэта прыходзіла да нас кожны вечар. Гэта сталі заўважаць людзі, пайшлі перашэпты, размовы, і Бутрымовіч перабраўся ў жактаўскі пакой, дзе быў поўны гаспадар.

Анэта тым часам падала заяву на развод з мужам, ціхім, памяркоўным ветэрынарам, які вечна прападаў па вёсках, лечачы хворых кароў і цялят. Але, як кажуць, чалавек, прагна чаго-небудзь хочучы, забывае, што ёсць на свеце злыя, нядобрыя сілы.

Анэта нарэшце стала свабоднай, і нішто не перашкаджала злучыцца двум прыгожым людзям, якія палюбілі адно аднаго.

У гэты якраз момант Бутрымовіча арыштавалі. Прычына хутка высветлілася. Сакратаркай у сельсавеце працавала Клаўдзя Галоша, некалі прыгожая, з тонкімі рысамі твару жанчына гадоў пад трыццаць. Не, яна не курыла, не піла. Але, цягнучы воз сельсавецкай работы, седзячы гадзін па дзесяць, дванаццаць у дыме, яна неяк змізарнела, схуднела, і яе прыгожы твар зрабіўся чорны.

Галоша, аказваецца, таксама мела надзею на Бутрымовіча, таму папомсцілася чалавеку, якога любіла. Яе, як і Бутрымовіча, арыштавалі.

Астатнія актывісты сыпанулі з сельсавета, як мышы з карабля, які вось-вось патоне. Пры наступных выбарах ніхто з ранейшых актывістаў не даў згоды стаць членам сельсавета. Гокім нават брыгадзірства ў калгасе кінуў, перайшоў у конюхі.

Кірыла Шыкула (наган, здаецца, ад яго адабралі) стаў за прылавак звычайнай крамы. Сям’я была вялікая, і яе неяк трэба карміць.

Намеснік старшыні сельсавета Весялоўскі перайшоў у нашу школу. Які гэта быў выдатны настаўнік! Многія вучні павінны быць яму ўдзячныя. За час навучання ў пятым класе ён навучыў пяцярых ці шасцярых з нас рускай мове так, што мы амаль не рабілі памылак у дыктантах, сачыненнях ува ўсіх наступных класах.

Летам Весялоўскага і дырэктара школы Геля таксама арыштавалі. Праўда, месяцаў праз восем — дзесяць іх з турмы выпусцілі, але працаваць у мястэчку яны не захацелі — з’ехалі ў іншае месца. Бутрымовіч, Галоша як у ваду канулі.

Апісаны час — маё дзяцінства. Дзіўна: час калатнечы, страху супаў з гаспадарчым уздымам. Пасля чэргаў, бясхлебіцы, бурачнага павідла ў крамах паявілася ўсё, што трэба: хлеб чорны, белы, пытляваны, траска, цукар... Як адно з другім сумясціць?

Тады якраз наша мястэчка другі раз стала раённым цэнтрам. Арганізавалася раённая бібліятэка, намнога багацейшая, чым сельсавецкая. Але асноўныя кнігі я прачытаў у сельсавецкай. Таму з удзячнасцю ўспамінаю Бутрымовіча, Весялоўскага, нават бібліятэкарку Ксюху, якая хоць і бурчэла, але дазволіла мне браць усе тыя кнігі, якія я хацеў прачытаць.

*1996*

## ТРОХІ ПРА ЯКУБА КОЛАСА

У пачатку 50-х гадоў мяне перавялі з мазырскай абласной газеты, дзе я працаваў шэсць пасляваенных гадоў, у рэспубліканскую «Звязду». Мне такое было на руку: я паступіў у аспірантуру, стацыянарную, і знаходжанне ў Мінску было абавязковым.

Маладосць — самаўпэўненая. Я лічыў: хопіць сілы і на рэдакцыю, і на аспірантуру. Вопыт быў: пераважна ў завочным парадку я скончыў універсітэт, і ў школе быў выпадак, калі за год скончыў два класы.

«Звязда» ў параўнанні з абласной газетай была чымсьці якасна новым. Тут можна было больш пабачыць і пачуць. У рэдакцыю завітвалі знакамітыя людзі, і самае галоўнае — пісьменнікі. Тут я не раз бачыў Якуба Коласа. Ён прыходзіў атрымліваць ганарар.

Пісьменнік заўсёды трохі затрымліваўся ў бухгалтэрыі. Пра гэта цішком перашэптваліся рэдакцыйныя жанчыны: яму нібыта падабаецца чарнявенькая, жвавая, з чорнымі мігатлівымі вочкамі бухгалтарка.

Упершыню Коласа я бачыў, перайшоўшы на другі курс універсітэта. Гэта было восенню 1946 года. Адзначалася саракагоддзе ягонай творчасці. Пісьменнік здаваўся стомленым, змрочным: не так даўно памерла яго жонка.

Так здарылася, што аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» я прачытаў толькі пасля вайны. Раней іх немагчыма было дастаць.

Я ведаў, што Колас жыве адзінока. І вось гэтая чарнявенькая бухгалтарка. Адносіны пісьменніка з ёй былі чыста платанічныя. Пасядзіць, паглядзіць на яе і пойдзе.

Коласаўскія аповесці я вывучыў ледзь не на памяць. Бо тэмай дысертацыі абраў яго творчасць. Я прыкідваў: на каго з гераінь аповесці можа быць падобна чарнявенькая бухгалтарка? І прыходзіў да высновы: на Ядвісю, дачку падлоўчага з першай аповесці. Можа, не зусім, можа, толькі знешне, бо нічога асабліва выдатнага я ў яе асобе не бачыў.

Але якія мы нецікаўныя, непаваротлівыя! Значна пазней я даведаўся: у той час мог пазнаёміцца з жанчынай, якая паслужыла прататыпам вобраза Ядвісі. Яна жыла ў Слоніме, мела дзвюх дачок і недзе на пачатку шасцідзясятых гадоў выехала ў Польшчу. А я ж быў у Слоніме, пісаў нарыс пра Жыровіцкі кляштар, і ніхто мне не падказаў пра Ядвісю.

Нават мой сябар, аспірант-літаратар, які нарадзіўся, вырас у Слоніме, нічога пра Ядвісю не ведаў. Так мы праваронілі цікавую асобу, якая магла многае расказаць, папоўніць наша ўяўленне пра пісьменніка.

Да пачатку пяцідзясятых гадоў Мінск пачаў пакрысе вымалёўвацца. Ён, нібы птушка фенікс, паўставаў з руін, попелу, хаосу разбурэння. Дом друку, дзе размяшчаліся ледзь не ўсе рэдакцыі газет, часопісаў, стаяў трохі наводшыбе. Па цэнтральным праспекце імя Сталіна грукатаў трамвай, і на яго шляху было яшчэ шмат пустыроў, незабудаваных прагалаў.

Насупраць Дома друку, дзе цяпер вымахалі карпусы Акадэміі навук, разлягалася царства рознакаляровых ларкоў-буданчыкаў. У іх прадавалі гарэлку, на закуску — рыбу траску. Усе, хто атрымліваў ганарар, маглі тут падмацавацца, сустрэцца з таварышамі, пагаварыць на творчыя тэмы.

У адным з тых ларкоў знаёмы газетчык, з якім мы разам вучыліся ва ўніверсітэце, за чаркай паведаміў мне:

— Бачыў Якуба Коласа. Здаваў пустую бутэлечку-чацвяртушку. Расшпіліў кашалёчак, ведаеш, такі з дзвюма бліскучымі бубкамі, і паклаў туды пятнаццаць капеек...

Мой знаёмы без падкавыркі нічога не гаварыў. У яго і твар быў адпаведны: вузкі, даўгаваты, са скрыўленым набок прамым рымскім носам.

У самім факце здачы бутэлечкі-чацвяртушкі я не бачыў нічога абразлівага. Ашчадны чалавек. Леў Талстой нават паўстаронкі чыстай паперы не мог выкінуць. Адрываў ад напісанага тэксту і прыхоўваў.

У тыя дні здарылася прыкрая справа. Якуб Колас выходзіў з пакоя бухгалтэрыі, а я з крытыкам Васілём Бурносавым стаяў у калідоры.

— Пазнаёмцеся, Канстанцін Міхайлавіч, малады літаратар. Вашай творчасцю цікавіцца...

Колас працягнуў пухлаватую руку, а я з такім імпэтам яе ціскануў, што ён войкнуў і сказаў са злосцю некалькі непрыемных мне слоў...

— Даруйце, Канстанцін Міхайлавіч,— азваўся Бурносаў.— Гэта я вінават. Не папярэдзіў, што ў вас хворыя рукі...

Колас, не азіраючыся, не развітаўшыся, пайшоў. Я стаяў пакрыўджаны. Рашыў нават памяняць тэму дысертацыі. Аднак не памяняў. Другога Коласа не было, а гэтага я любіў. Мне асабліва падабаўся стыль пісьменніка. Яго фраза была дзівосная: кароткая, ясная і адначасова мудрая.

Крыўда пакрысе пачала забывацца.

З таго часу прамінула многа гадоў.

Пішучы артыкулы пра Якуба Коласа, я амаль кожны год адкрываў новыя факты, якія датычылі яго асобы. Я пазнаёміўся з пяццю ці шасцю жанчынамі, кожная з якіх пахвалялася: малады настаўнік Міцкевіч вельмі ж хацеў з ёй ажаніцца. Але яна або сама не пайшла, або бацька не пусціў. Маўляў, залішне бедны настаўнік. Высвятлялася вельмі хутка: названыя жанчыны — усе як адна — Коласа нават у вочы не бачылі.

Вось што значыць славутасць!..

Знаёмы крытык, які займаецца творчасцю Коласа, расказваў мне пра адзін выпадак. У маскоўскай гасцініцы Коласу трапіла ў рукі аповесць «У палескай глушы», даўняя, ледзь не першага выдання. І ён усю ноч чытаў яе, нібы твор незнаёмага пісьменніка, які яго захапіў.

Што гэта? Можа, адказ у тым, што ўсе мы любім успамінаць маладосць, бо там нашы летуценні, мары, грунт таго, што ў жыцці спраўдзілася і што не спраўдзілася...

*1996*

# 1997

## АНЭЛЯ

На пачатку педагагічнай кар’еры Міхасю Юнчыку прыйшлося перажыць даволі цікавую прыгоду. Ён скончыў інстытут замежных моў (першая мова англійская, другая нямецкая), і яго паслалі настаўнікам на Палессе. Ён мог, як многія выпускнікі, уладкавацца ў Мінску: попыт на людзей, якія валодаюць замежнымі мовамі, расце. Тым больш, што ў Мінску ён нарадзіўся, вырас.

Аднак ён не захацеў ісці па крывой дарожцы. Меў ідэалы, планы, лічыў, што пачынаць трэба з нізінкі, з вывучэння народнага жыцця.

Трапіў ён не ў самую нізінку: у гарадок раённага падпарадкавання. Аднак гарадскога мелася тут малавата. Галоўная вуліца заасфальтавана, але ўзбоч яе стаяць вясковага выгляду хаціны, глыбока ўрослыя ў зямлю, з мутнымі, падслепаватымі акенцамі. Па асфальце пастухі гоняць кароў на пашу. Ён увесь закіданы сухімі каравячымі рапяхамі.

Зрэшты, не ўсё так блага. Ёсць пошта, кіёск, дзе прадаюць газеты, чыгуначная станцыя, кінатэатр.

Трохпавярховы будынак школы стаіць на пясчаным пагорку, і з вышыні трэцяга паверха вачам адкрываецца даволі прывабны малюнак. Вышыня як бы скрадвае розныя недаробкі ў дварах, на вуліцах. На першы план выступае найбольш адметнае, прыгожае, што ёсць у гэтым вясковым горадзе і ў яго ваколіцах. Галоўнае: тут многа садоў, зеляніны. З усіх чатырох бакоў горад акружаны лесам.

Лес Юнчык любіць. Багацце лесу канчаткова мірыць яго з месцам, дзе прыйдзецца пражыць два або нават тры гады.

Пасяліўся Юнчык у доме, размешчаным непадалёк ад школы. Ягоны гаспадар, відаць, з пэўным разлікам збудаваў дом на дзве палавіны. У адной жыве сам, другую разбіў на два пакоікі з асобнымі ўваходамі.

На адзін пакоік дамовіўся з гаспадаром Юнчык. Ён яму прыйшоўся па густу. Стол, шафа, этажэрка для кніг, грубка з ляжанкай, ложак. На сцяне цікае гадзіннік, ёсць яшчэ пераносная лямпа з абажурам і доўгім шнурам.

Юнчык расчыніў чамадан і сабраўся раскласці небагатыя пажыткі. У гэты час пачуўся стук у дзверы. Юнчык адчыніў іх, і ў пакой імгненна ўскочыла прывабная з твару, са зграбнай паставай і распушчанымі валасамі дзяўчына. «Нібы русалка,» — мільганула ў Юнчыка думка.

— Вы будзеце тут жыць? — спытала незнаёмка.

— Буду.

— Ай, як добра! Я ваша суседка. Мяне завуць Анэля. Будзеце будзіць мяне. Бо я люблю паспаць і заўсёды спазняюся на работу.

Юнчык ушчэнт разгубіўся, не ведаў, што рабіць. Нават не расклаўшы рэчы, не прыдумаў нічога лепшага, як дастаць з чамаданчыка бутэльку віна, адкаркаваць. Не ведаў, з чаго піць. На падмогу прыйшла суседка. Яна матлянулася да шкапчыка, прымацаванага да сцяны (Юнчык яго нават не заўважыў), дастала дзве шклянкі з тонкага шкла.

Так яны пазнаёміліся. Юнчык даведаўся: Анэля працуе ў фотаатэлье. Да гэтага была другім сакратаром райкама камсамола і ў школе працавала — піянерважатай.

Калі расчырванелая ад віна Анэля, захінаючы пярэсты халацік, устала і пачала развітвацца, Юнчык, праводзячы яе, незнарок паклаў руку ёй на плячо. Яна як бы задрыжала і прыхінулася да яго. Юнчык нават спалохаўся: ён мала знаўся з дзяўчатамі, і такі жэст незнаёмай дзяўчыны яго здзівіў.

Мінуў тыдзень ці два. У школе, пазнаёміўшыся з калегамі, Юнчык сёе-тое ўведаў пра суседку.

— Дзяўчына прыемная ва ўсіх адносінах,— сказаў біёлаг, чорны як грак хлапчына з доўгім, трохі скрыўленым на бок носам.— Ты лепей у Жарнасека запытай. Ён жыў у тваім пакоі. Перавёўся ў Дуброву, у васьмігодку.

Юнчык ведаў Жарнасека. Ён скончыў інстытут на год раней за яго.

Школа навалілася на Юнчыка як мядзведзь. Ён даваў па чатыры-пяць урокаў у дзень і да вечара страшэнна стамляўся. Хутка пераканаўся: настаўнікі ядуць нялёгкі хлеб. І прывязаны да школы штодзённымі ўрокамі, нібы ланцугом.

Анэля яшчэ два-тры разы завітвала да Юнчыка. Але ён гаворак не ўсчынаў, сядзеў за сталом, гартаў падручнікі.

Нарэшце настаўнікі расказалі Юнчыку ўсё як ёсць. Анэля проста ходзіць па руках. Калі хто-небудзь яе дамагаецца, яна проста не можа адмовіць. Хто б ні быў.

Юнчык сам хутка пераканаўся, што гэта так. Ён заўважыў, як вечарамі крадзецца да яе пакоя нейкі стары. Пазней Юнчык разгледзеў яго. Гэта быў загадчык фотаатэлье. Сівыя валасы на ягонай галаве стаяць старчаком. Твар непрыгожы, пляскаты. Мае гэты чалавек жонку і дзвюх дарослых дачок.

Аднойчы Юнчык зайшоў у фотаатэлье. Трэба было сфатаграфавацца на дакументы. На сцяне ён убачыў штосьці дзіўнае: Анэля была сфатаграфаваная буйным планам і ў розных паставах, але ва ўсіх выпадках з распушчанымі валасамі. Як тады, калі першы раз заскочыла ў пакой да Юнчыка. Яна сапраўды нагадвала русалку.

Хутка Юнчык пачаў ненавідзець Анэлю. Па вечарах, напісаўшы планы ўрокаў, ён звычайна браў кнігу і, перш чым заснуць, клаўся на кушэтку, чытаў. У гэты час да Анэлі прабіраўся яе сівы начальнік. Груку яны не рабілі ніякага, за сцяной у суседкі панавала поўная цішыня.

Тым часам маладое чуйнае вуха Юнчыка пачало ўлоўліваць сякія-такія гукі. Менавіта рытмічнае парыпванне канапы. Канапу суседкі і кушэтку Юнчыка раздзяляла толькі тонкая дашчаная сценка. Стары бугай, відаць, сілу меў. Канапа рыпела з вечара ў вечар…

Пра візіты старога нягодніка нейкім чынам даведаўся гаспадар дома. Юнчык аднойчы чуў, як ён прабірае фатографа, перахапіўшы яго перад ганкам суседкі:

— Як вам не сорамна! Стары чалавек, а займаецеся распустай. Лепей дачок пааддавайце замуж. Кім яны будуць у такога бацькі? І на мой дом цень кідаеце. Робіце з яго прытон…

— Мілы чалавек,— абураным голасам адказвае загадчык атэлье,— як вы маглі такое падумаць? Ваша кватарантка па ўзросту — мая дачка. Яна — нявіннае дзіця. Яе нябожчык-бацька быў маім сябрам. Вось я і завітваю іншы раз да яе…

Падлюга закончаны, думае пра загадчыка атэлье Юнчык. Яго не тое што словам, распаленым жалезам не праймеш. І Анэля падлюга. Жывеш са старым,— жыві. Але чаму да маладых падлабуньваешся? Дзеля чаго мяне хацела аблытаць?..

Тут Юнчык успомніў калегу, які жыў у ягоным пакоі, а потым драпануў у Дуброву, у васьмігодку. Не выключана: паддаўся чарам русалкі, а потым пачуў рып канапы за сцяной.

Аднойчы Юнчыка выклікалі ў раённы горад, у аддзел народнай адукацыі. Прапаноўвалі пасаду завуча. Ён рашуча адмовіўся. Ён яшчэ настаўнікам як след сябе не адчуў, а тут раптам завуч.

Вяртаўся Юнчык дамоў напаўпустым рабочым цягніком. Ён сеў каля акна на адзіночнае месца. Насупраць у купэ сядзела Анэля, ажыўлена размаўляючы з салдатам. Яна проста салаўём залівалася, і Юнчык падзівіўся з яе красамоўства.

На развітанне, перад станцыяй, на якой трэба выходзіць, Анэля раптам усклікнула:

— Вы такі цікавы чалавек! Ці не жадаеце мець перапіску?

Салдат, відаць, адказаў згодай, і Анэля, вырваўшы з блакноціка лісток, напісала свой адрас.

Юнчык стараецца абыходзіць Анэлю, калі даводзіцца сутыкнуцца, з падкрэсленай няўвагай вітаецца, у гаворку не ўступае.

Адзін выпадак прымусіў яго зірнуць на Анэлю іншымі вачамі.

На дзвярах у Юнчыка вісіць паштовая скрынка, куды паштальён засоўвае газеты, лісты. Аднойчы ён выняў са скрынкі пісьмо са штампам: «Адрасат выбыў». Толькі разарваўшы канверт, Юнчык зразумеў: пісьмо напісала Анэля. Можа, і нядобра ён зрабіў, што прачытаў пісьмо. Але была ад гэтага і карысць. Ён нібы зірнуў на Анэлю іншымі вачамі. Яна распісвала незнаёмаму адрасату прыгажосць краявідаў, якія атуляюць вясковы гарадок. Яна добра валодала пяром, і ў яе, несумненна, было паэтычнае пачуццё. Прыгожыя словы, фарбы яна знаходзіла для апісання навакольных

бароў, пералескаў, усходаў і заходаў сонца, летніх навальніц і зімовых завірух.

Здольная дзяўчына…

Пісьмо мела дзелавы падтэкст: Анэля паведамляла, што ў горадзе ўзводзіцца камбінат будаўнічых матэрыялаў і работа можа знайсціся чалавеку любой спецыяльнасці.

Шкада: пісьмо не дайшло да адрасата.

*1997*

## РУКІ НА КАМНІ

Гэта быў нібы падарунак лёсу. Азяроўскі трапіў у санаторый, размешчаны сярод сосен, бяроз, у мясцінах, па якіх ён вандраваў будучы яшчэ даволі маладым. Ён з дзяцінства любіў і ведаў лес. Але потым у любові гэтай быў працяглы перапынак. Бо па грыбы Азяроўскі не хадзіў ні ў вайну, ні гадоў дзесяць пасля яе.

Ён скончыў універсітэт, аспірантуру, стаў выкладчыкам, кандыдатам навук і дацэнтам. Кар’ера складвалася нібыта ўдала. Але ён увесь час адчуваў душэўны сум, незразумелую самоту. Чагосьці як бы не хапала. Чаго? Гэта ён зразумеў, паехаўшы са студэнтамі на бульбу. Не хапала зялёных пагоркаў, беразнякоў, сасоннікаў, высокага неба над галавой, птушынага спеву і самых звычайных краявідаў. Ён вырас у мястэчку, больш падобным на вялікую раскіданую вёску — у ёй была чыгуначная станцыя і дзясяткі два вуліц. І быў не гэтак далёка лес, балота, пнёўе, ягады, грыбы, арэхі і звычайная сялянская работа, якая не мінае нікога, хто вырас на ўлонні прыроды.

Яшчэ праз год знаёмы выкладчык звазіў яго на самыя познія асеннія грыбы — зялёнкі. І пайшло...

Азяроўскі пачаў, калі можна сказаць так, асвойваць навакольныя мінскія лясы, нават далёкія — лагойскія, бягомльскія.

Але пералескі наўзбоч чыгункі, у якія ён выбіраўся пасля лекцый, апаўдня, калі дзясяткі, а можа, сотні грыбнікоў прашнуравалі па іх, запалі ў сэрца. Гэта нібы першае каханне.

Яно не забываецца. Ён рэдка ў сваіх вандроўках знаходзіў баравік — найбольш сыраежкі, абабкі і як вяршыню ўдачы — падасінавік.

Азяроўскі жыў з лесам як з найлепшым сябрам. Іншая справа — лес паступова мяняўся. Чым больш набывалі гараджане машын, тым меней станавілася ў лесе грыбоў. Можна сказаць, у адваротнай прапорцыі.

Меў машыну і Азяроўскі. Аднойчы яны з жонкай знайшлі ў лагойскіх лясах шэсцьсот баравікоў. А наогул менш сотні белых, моцных, як капыты, грыбоў Азяроўскі не прыносіў.

Прайшлі гады...

Азяроўскі не можа сказаць, што час праляцеў, нібы імклівы вецер. Ён як на пальцах можа пералічыць пражытыя гады, знайшоўшы штосьці яскравае, важнае ў кожным з іх. Так ён дажыў да пенсійнага ўзросту. Ён яшчэ выкладае, але памяць патроху падводзіць. Таму ён на асобнай паперцы выпісвае імёны, прозвішчы, даты, якія могуць трапіцца ў далёкіх ці сумежных абсягах лекцыі. І рад дзясятку баравікоў, калі выязджае ў тыя ж лагойскія лясы. Бо іншы раз наогул вяртаецца з пустымі рукамі.

Санаторый для пенсіянераў размешчан у памятных пералесках. Тут лечаць травамі. Знаходзіцца каля паўстанка, які не мае ніякіх чыгуначных службаў. Няма стрэлак, запасных пуцей. Ёсць толькі ацэментаваны навес з некалькімі пастаўленымі ў адзін рад лаўкамі для пасажыраў і закуткам білетнай касы. Тут не спыняюцца ні таварныя, ні пасажырскія цягнікі. Толькі прыгарадныя.

Новае на паўстанку — вялікая драўляная адрына, якую выбудаваў недалёкі саўгас, каб складваць у ёй сена.

Азяроўскі радуецца: зробіць падарожжа ў маладосць. Але настаў месяц жнівень, а грыбоў не было. Нават сыраежак ці маслюкоў. Пералескі вытаптаны, абшастаны, і наогул лета сухое, гарачае — не для грыбоў. Гэта ўжо трэцяе ці чацвёртае такое лета.

У санаторыі Азяроўскі напаткаў такое, што яго надзвычай здзівіла. Ён лічыў, што недзе побач з пенсійным узростам канчаецца каханне, асабістае жыццё, сустрэчы, спатканні. Такое ўражанне ён вынес са свайго дзяцінства, юнацтва. У вясковых жанок — даярак, даглядчыц жывёлы ды і ў тых, хто

на полі працаваў,— нават у сорак гадоў зморшчваліся твары, выцвіталі вочы, а рукі з крывымі, вывернутымі пальцамі нагадвалі карані засохлага дрэва. Дый і ў сваёй маці, хоць яна не была калгасніцай, Азяроўскі бачыў такі ж твар і такія ж рукі. Падаі карову, дагледзь падсвінка, пакармі, абмый дзяцей, упраўся з агародам — хвіліны вольнай няма ў вясковай жанчыны.

Вядома, у санаторыі калі і былі вясковыя жанчыны, то не шмат. У яго прыязджалі пенсіянеркі, якія сядзелі ў канторах, у прыёмных начальнікаў, мелі сякія-такія сувязі, каб выбіць пуцёўку.

Як прыгожа танцавалі гэтыя даўно немаладыя, прывялыя жанчыны са сваімі сівымі кавалерамі, сярод якіх было палавіна інвалідаў вайны. Адзін з такіх, высокі, чорны, з пабітым воспай тварам, хадзіў, абапіраючыся на мыліцы, але ў час танцаў прыстаўляў мыліцы да сцяны і на некалькі хвілін рабіўся шустрым, спрытным, можна сказаць, нават хвацкім кавалерам. Так, шмат было нерастрачаных пачуццяў, няздзейсненых мар ва ўсіх гэтых немаладых мужчын і жанчын, і яны выяўлялі іх у гэтых запозненых для іх узросту танцах.

На танцы прыходзілі хлопцы, дзяўчаты з недалёкага гарадка, пасёлка цагельнага завода. Танцы доўжыліся да дванаццаці гадзін, і некаторыя, не хочучы ноччу вяртацца дамоў, ішлі на паўстанак і лезлі на сена, у адрыну. Тым болей што яе ніхто не ахоўваў. Нават некаторыя маладзейшыя спрытныя мужчыны з санаторыя туды шасталі. Прыцішаны гоман, піск, смех не сціхалі ў адрыне да світання.

На некалькі дзён заладзілі дажджы; масажысткі, санітаркі, якія жылі ў бліжніх вёсках, прынеслі аднойчы па некалькі падасінавікаў і нават баравік. Азяроўскі, узрадаваўшыся, адразу рынуў у знаёмыя з далёкіх часоў сасняк. Лепш бы ён туды не хадзіў! Пад бярозкай, паблізу напаўразбуранага дота ён убачыў такое, чаго не забудзе да канца жыцця. Там ляжала пасінелае цельца нованароджанага дзіцяці. На жывоціку яго, малых грудках ляжаў камень-кругляк, і дзіцё абхапіла яго малымі, тоненькімі, якія не паспелі яшчэ нічога зрабіць, ручкамі...

Божа, за што такая кара чалавеку, які нават не паспеў зірнуць на свет, які Ты стварыў...

У той жа дзень, не дабыўшы да сярэдзіны тэрміну, Азяроўскі выехаў з санаторыя.

*1997*

## ЯКІМЕЦ-ЯКІМЧЫК

У рэдакцыі паявіўся новы супрацоўнік. Нізкаваты, з маршчыністым, нібы ў старога дзеда, тварам, ён брындаў па доўгім цемнаватым калідоры, на хвіліну адчыняў дзверы, акідваў хуткім, нібы спалоханым, позіркам супрацоўнікаў і зачыняў дзверы. Нібы шукаў прытулку і не знаходзіў.

— Хто такі? — дапытваліся супрацоўнікі адзін у аднаго.

Ніхто нічога не ведаў. Нарэшце справу асвятліла сакратарка адказнага рэдактара, плакатна-прыгожая фея з прызыўным позіркам зеленаватых, як у кошкі, вачэй і шырокім выразам цёмнай шарсцяной сукенкі на грудзях.

— Яго зверху прыслалі. Рэдактар з ім гаварыў. Рашэння не прыняў.

Зверху — значыць, з Вялікага дома. Відаць, меў заслугі суб’ект, які некалькі дзён выдыбаў па рэдакцыйным калідоры.

Нарэшце мы ўведалі ягонае прозвішча — Якімец-Якімчык. Такое прозвішча, здаецца, нават у абласным друку не мільгала.

У адзін з тых дзён адказны рэдактар Даніла Рыгоравіч, памяркоўны, ціхі, з сівой грывай густых валасоў на вялікаватай галаве, заклікаў мяне ў кабінет.

— Паедзеце ў Бабруйск. Асвятляць справаздачна-выбарчую абласную партканферэнцыю. Мы і Якімца-Якімчыка пасылаем. Праверце, чаго варты...

Бабруйск ад Мінска блізка. Цягнікоў ходзіць шмат. Селі ў начны, каб да раніцы прыехаць у горад, уладкавацца ў гасцініцы.

Як толькі зайшлі ў купэ, зусім пустое, распрануліся, селі, Якімец-Якімчык выхапіў аднекуль бутэльку.

— Давай!

Я жахнуўся. Едзем на адказнае заданне — і выпіваць! Загубім дзела. Напіўшыся, нічога не пачуеш на канферэнцыі, а тым болей не напішаш.

Я ўгаворваў Якімца-Якімчыка, як толькі мог. Ён, здаецца, згадзіўся.

Уладкаваліся ў гасцініцы: нам далі пакой на дваіх. Побач з намі пасяліліся карэспандэнты газеты, якая выходзіла на рускай мове. Таксама два чалавекі.

Неверагоднае здарылася на пачатку канферэнцыі. Яна праводзілася ў памяшканні драматычнага тэатра. Якімец-Якімчык, здаецца, ні на крок не адыходзіў ад мяне. Мы разам паснедалі, атрымалі запрашальныя білеты. І вось пры ўваходзе ў тэатр два дужыя хлопцы, відаць, пераапранутыя работнікі органаў, затрымалі майго спадарожніка.

— Вы зусім п’яны. Ідзіце праспіцеся...

Я зірнуў на калегу. Ён сапраўды лыка не вязаў. Твар пачырванеў, рухі былі нервовыя, нязграбныя. Дзе, калі паспеў гэтак насмактацца?

Усё гэта бачылі карэспандэнты газеты, якая ў нейкай меры супернічала з нашай. Іх позіркі, здаецца, выпраменьвалі пагарду і знявагу. Вось, маўляў, як паводзяць сябе супрацоўнікі старэйшай у рэспубліцы газеты.

Якімца-Якімчыка ў памяшканне тэатра не пусцілі. Нават адабралі запрашальны білет.

Мяне трэсла як у ліхаманцы. У прэзідыуме сядзіць чарнявы, са сцятымі тонкімі губамі Жылянін, сакратар ЦК па кадрах. Што будзе, калі даведаецца, што на канферэнцыю не пусцілі п’янага карэспандэнта.

Жылянін — чалавек жарсткаваты. Гэта я ведаў, яшчэ калі працаваў у абласной газеце. Паляцелі па яго міласці галовы некалькіх знаёмых мне сакратароў райкамаў, рэдактараў раённых газет. Дый цяпер высокі партыйны чыноўнік быў на кані. Як з’едліва, без пашаны, нават без жалю збіваў ён у сваёй прамове першага сакратара абкама Баранчука.

Зал ужо ведаў: кранты Баранчуку. Пры такой крытыцы на пасадзе не пакідаюць.

На душы ў мяне было трывожна. Разам з тым расло нейкае помслівае пачуццё. Хто такі Жылянін? У вайну — камсамольскі сакратар, якога на другім ці, можа, нават

на трэцім годзе вайны закінулі ў варожы тыл. Тым часам Баранчук камандаваў партызанскім злучэннем. Паспрабуй з'яднай злучэнне, зрабі так, каб цябе выбралі камандзірам.

Я прагледзеў спіс кандыдатаў у члены пленума абкама. Баранчука сярод іх не было. Цішком выбраўся з залы.

У пакоі, на ложку, раскінуўшы рукі, хроп Якімец-Якімчык. Відаць, з-за непрыемнасці ён яшчэ болей паддаў.

Пад гэты храп я сеў пісаць справаздачу. Трэба было ратаваць становішча. Пазваніўшы ў рэдакцыю, я папрасіў, каб не адпускалі стэнаграфістку. У глыбіні душы таілася думка, што супернікі з рускамоўнай газеты за работу не сядуць. Яны бачылі п'янага Якімца-Якімчыка, якога не пусцілі на канферэнцыю. Мяне яны не ведаюць, і спяшацца ім няма ніякай патрэбы.

Гадзін у дзесяць вечара я прадыктаваў стэнаграфістцы справаздачу з канферэнцыі. Крытыку Баранчука даў памяркоўную: пераважна тое, што гаварылі дэлегаты. Пад карэспандэнцыяй стаяла маё прозвішча і Якімца-Якімчыка, які яшчэ не прачнуўся. Я ведаў: матэрыял ідзе ў нумар.

Апоўначы прабудзіўся Якімец-Якімчык.

— Ты працаваў у газеце? — спытаў я.

— Не працаваў.

— То хто ты такі?

Спалоханы, Якімец-Якімчык штосьці блытана тлумачыў пра спецзаданні.

Назаўтра мы купілі ў кіёску нашу газету і рускамоўную. У нашай надрукавана карэспандэнцыя пра партканферэнцыю. Рускамоўная газета, не маючы ўласнага матэрыялу і не жадаючы трапіць у няёмкае становішча, яе перадрукавала.

Можна было ганарыцца. Толькі я не ганарыўся. Я сам не пісаў бы так паспешліва матэрыял, каб не падвёў п'яны Якімец-Якімчык.

Мінула некалькі гадоў. Па камандзіроўцы мне прыйшлося завітаць у адзін паўночны і — трэба сказаць — даволі глухаваты раённы гарадок. Ні чыгунка да яго не вядзе, ні нават больш-менш прыстойнай шашы няма. Адно што ўзвышаецца пасярод гарадка сярэдневяковы, абымшэлы, узяты пад ахову дзяржавы кляштар.

Пасяліўшыся ў прыземістай гасцініцы (тут некалі быў «вясёлы дом»), я прыкмеціў нібыта знаёмага чалавека. Ён займаў суседні нумар. Адразу я яго не пазнаў, і толькі ноччу, засынаючы, успомніў, што гэта мой спадарожнік, з якім мы некалькі гадоў назад ездзілі на партыйную канферэнцыю ў абласны горад.

Назаўтра я павітаўся з Якімцом-Якімчыкам, спытаўшы, па якой справе ён прыехаў.

— Ты ў газеце працуеш? — у сваю чаргу спытаў ён мяне.

— У газеце.

— А я вось пасады шукаю,— сумна паведаміў ён.— Кім толькі не быў. Кідаюць з месца на месца. Бюракраты паўсюдна заселі, і праз іх не прабіцца...

*1997*

## ГАДЗЮКА

Міхась нічога ў лесе не баіцца. Можа, толькі гадзюк. Бо ад укуса змяі памёр ляснік Трахім, далёкі Міхасёў родзіч. У гарачы, спякотны дзень, вандруючы па лесе, ён захацеў піць. Пад вываратнем убачыў ставок з вадой, стаў на калені, нахіліўся, набраў у сашчэмленыя далоні вады. Ён не заўважыў, што на карані вываратня грэецца гадзюка.

Трахім, відаць, закрануў плячом корань і — гадзюка джгнула яго ў спіну.

Вакол ні чалавека. Ляснік кінуўся ў вёску. Цела пачало пухнуць. Дранцвелі ногі, рукі. Трахім, аднак, паспеў дабрацца да дарогі. Тут яго падабраў шафёр і за хвілін дваццаць давёз да бальніцы.

Трахіму зрабілі ўкол, але было ўжо позна. Каб гадзюка ўкусіла ў нагу ці ў руку, яд можна было б выціснуць, туга перавязаць тую ж нагу або руку. А спіну як перавяжаш?

Ляснік памёр: добры, вясёлы чалавек, які кожны год выдзяляў бацьку лужу-балацянку, каб накасіць сена, дый Міхасю не раз паказваў грыбныя мясціны.

З таго часу, як памёр Трахім, Міхась стаў асцерагацца гадаў. Ён, вядома, не перастаў хадзіць у лес. Лес прыцягваў

нібы магніт. З самай ранняй вясны пачынаў цячы бярозавік. Потым па сасновым пнёўі пачыналі вытыркацца першыя грыбы страчкі і смарчкі. За імі ягады — суніцы, чарніцы. А там да позняй восені самыя разнастайныя грыбы: сыраежкі, абабкі, падасінавікі, баравікі, нарэшце, апенькі, зялёнкі, падзялёнкі. Хіба Міхась мог усё гэта прапусціць?

Ды лес сам па сабе вабіў. Каб у Міхася спыталі, ён, відаць, не здолеў бы адказаць, чаму так любіць лес. Бо гэта цэлы асаблівы свет. У лесе душу як бы ахінае спакой і раўнавага. Хораша думаць і марыць у лесе. Знікае з пачуцця ўсё дробязнае, мізэрнае, сосны, бярозы, дубы як бы гавораць пра вечнасць.

Ды і населен лес жывымі, яркімі істотамі. Па ствалах, галінах сосен носяцца вогненна-рудыя вавёркі. Яны настолькі цікаўныя, што, забачыўшы Міхася, спускаюцца на самы ніжні сук, цокаюць, цмокаюць, нават шышкамі кідаюцца. На дрэвах да палавіны лета пырхае, спявае, перагукваецца celebrated малое птаства. Вывеўшы патомства, перастае спяваць, рыхтуецца ў далёкую дарогу — у вырай.

Шмат што ў лесе знаходзіць Міхась: норы барсукоў, асіныя гнёзды, земляных пчол, бясконца сутыкаецца з вожыкамі, якія зусім яго не баяцца: нават у маленькі клубок не згортваюцца.

З птушак яго асабліва дзівяць дзяцел, сава і зязюля. Летам у лесе колькі хочаш мошак, казюрак, рознай паўзучай і лятаючай дробязі. Можна лавіць яе з раніцы да вечара. Тым часам дзяцел гадзінамі дубае сваім нібы з жалеза зробленым носам па ствалу ці суку старадрэвіны, дабіраючыся да схаваных у іх закарвашках лічынак і чарвячкоў. І колькі сілы пры гэтым траціць. Наогул, дзяцел не падобен на звычайных птушак. Вельмі дзіўнае пярэстае яго ўбранне.

Сава дзіўная па-свойму. Днём спіць, а ноччу вышуквае сваімі жоўтымі, нібы маленькімі ліхтарыкамі, вачамі здабычу: мышэй, дробных птушак.

Вельмі цікавая птушка зязюля. Толькі, аказваецца, яна не зусім сумленная. Хораша кукуе, вылічвае, колькі каму жыць на свеце, а сама сваіх птушанят не выводзіць. Падкладвае яйкі ў чужыя гнёзды. Зязюльчыны дзеці, бывае, выкідваюць з гнязда птушанят, з якімі раслі і карміліся.

З таго часу, як загінуў ляснік Трахім, Міхась ходзіць у лесе з палкай. Каб уберагчыся ад гадзюк. Трох ці чатырох гадзюк ён забіў. І ўсё адно не ўбярогся.

Здарылася гэта так. Аднойчы Міхась выйшаў з лесу прама да чыгункі. На схіле насыпу ўбачыў кружок ягад суніц: буйных, спелых, якія чырванелі нібы раскіданыя бусінкі маністаў. Ён нагнуўся, стаў збіраць суніцы ў жменю. І раптам адчуў: штосьці торкнулася ў нагу вышэй забарасня лапця і як бы яе апякло. Ён азірнуўся і ўбачыў пярэсты тоўсты жмут гадзюкі, якая імкліва хавалася ў траву.

Забіць гадзіну Міхась не паспеў. Трэба было ратавацца самому. Ліхаманкава разбарсаўшы лапаць, раскруціўшы анучу, Міхась убачыў маленькую ранку на ступні нагі. Ён раз за разам стаў выдаўліваць з нагі кроў. Давіў і давіў, пакуль уся ступня не стала чырвонай ад крыві. Затым выцягнуў са штаноў раменьчык і туга перавязаў нагу ніжэй лыткі.

Калі Міхась, кульгаючы, прыйшоў у бальніцу, нага толькі ледзь-ледзь падпухнула.

— Малайчына,— сказаў доктар, агледзеўшы Міхасёву нагу.— Паступіў як трэба.

Доктар набраў у шпрыц нейкай вадкасці, зрабіў укол, і дні праз тры нага зусім перастала балець.

*1997*

## СЯРЭБРАНАЯ ПТУШКА

Алёшка жыве на ўскраіне горада. Іх сяміпавярховы дом велізарны. У ім, можа, дзвесце ці трыста кватэр. І двор прасторны. На ім усялякія прылады для гульняў: качалкі, арэлі і нават драўляныя коні. Але ўсё гэта Алёшку мала цікавіць. Бо побач лес. Найбольш сасновы, хоць ёсць і бярозы, асіны і нават маладыя дубкі.

У Алёшкі аднапакаёвая кватэра. Але месца хапае. Бацька з маці з раніцы ідуць на работу, прыходзяць надвячоркам.

Алёшка вучыцца ў другім класе. У першым класе ён быў старастам. Акуратна сачыў, ці выцерта дошка, ці ёсць мокрая анучка, крэйда. Адным словам, спуску дзяжурным не даваў.

Алёшку хацелі выбраць старастам і ў другім класе, ды ён рашуча заўпарціўся. Была прычына. Алёшка сябраваў з Сашам Пернікам, як і ён сам, выдатнікам. Саша жыў бліжэй да цэнтра горада, і ў яго дом Алёша не хадзіў. Але садовыя ўчасткі Алёшкавага і Сашкавага дзеда побач, і там хлопцы яшчэ да школы здружыліся. Лазілі па дрэвах, гадавалі вожыка, збіралі ягады і грыбы.

У першым класе якраз і вынікла гісторыя, з-за якой Алёшка наадрэз адмовіўся быць старастам. Саша нечакана разам з бацькамі і дзедам паехаў у Амерыку. Нават Алёшку не папярэдзіў. І садовы ўчастак яны прадалі. Там цяпер ходзіць чужы чалавек. Алёшку крыўдна да слёз: яны так добра з Сашам сябравалі. Адзін без аднаго жыць не маглі. І раптам такое…

Алёшка чакаў, што Саша напіша пісьмо з Амерыкі. Усё як трэба растлумачыць, і яны будуць перапісвацца. Цікава атрымаць пісьмо ад сябра аж з Амерыкі. Але пісьма няма і няма. Алёшка ўжо і чакаць перастаў.

А тут яшчэ Ніна Адамаўна, настаўніца старэйшых класаў, якая жыве на адной з Алёшкам пляцоўцы, пачала ўшчуваць:

— Як жа ты, стараста, такое дапусціў? Саша Пернік, сябра твой, паехаў у Амерыку. А ты куды глядзеў? Чаго добрага, твой клас наогул раз’едзецца. Хто ў Амерыку, хто ў Аўстралію. Што будзеш рабіць?

Алёшка маўчыць, не можа запярэчыць Ніне Адамаўне.

Алёшку не пакінулі ў другім класе без абавязкаў. Прызначылі адказным за прыроду, хоць ніякай прыроды ў класе няма. Гэта ў настаўніцкай стаяць у драўляных скрынках фікусы, на падаконніках розныя кветкі ў гаршках. Да класаў такая прырода яшчэ не дайшла. І жывога кутка яшчэ не стварылі.

Алёша, аднак, знайшоў сабе работу. Побач лес, не ўсе птушкі ляцяць у вырай, у цёплыя краіны. Вераб’і, сініцы, снегіры застаюцца зімаваць. Зімой, асабліва калі намяце снегу, яны галадаюць. Некаторыя гінуць. Алёшка сам бачыў сінічку, якая замерзла і ляжала на снезе — угору лапкамі.

Алёшка наважыў дзейнічаць. Ён стварыў сталоўку для птушак. Напачатку не такую вялікую: на тры месцы. На сасне, бярозе і асіне прыладзіў дошчачкі на шнурках. На дошчачкі

сыпаў хлебныя крошкі, крупы. Але прыпасаў, якія знайшоў дома, хапіла толькі на тыдзень. Зіма ж толькі пачыналася.

Тады Алёшка адважыўся на смелы крок. У адным доме, на ніжнім паверсе, знаходзіцца магазін. Алёшка ходзіць туды купляць хлеб, малако, кефір. На гэты раз ён пастукаўся ў дзверы загадчыцы. Яна сустрэла яго ветліва.

— Хто цябе пакрыўдзіў, хлопчык?

— Ніхто не крыўдзіў. У сваім класе я адказваю за прыроду. Кармлю птушак. Птушкі — карысныя. Ядуць розных вусеняў, лічынак. Але цяпер, зімою, карміць іх няма чым…

— Зразумела,— сказала загадчыца.— Дапаможам тваім птушкам.

Дзень у дзень завітвае Алёшка ў магазін. Ідзе ў лес, сыпле хлебныя крошкі, крупы на дошчачкі. Птушкі прыпісаліся да сталоўкі. Кожны дзень дошчачкі чыстыя.

Аднойчы здарылася няшчасце. На бярозе Алёшка залішне высока прымацаваў дошчачку. Сыплючы на яе крупы, ён трымаўся за сук. Але сук зламаўся. І Алёшка паляцеў уніз. Вывіхнуў нагу.

Знайшоўшы палку, Алёшка марудна кульгаў дамоў. А тут яшчэ снег пайшоў. Алёшка прысеў пад сасну і нечакана для сябе заснуў. Ужо ў прыцемку разбудзіў яго дзядзька ў скураным паліто, пыжыкавай шапцы.

— Ты што тут робіш?

Алёшка расказаў. Ісці ён не мог, і дзядзька на руках занёс яго ў машыну.

Два тыдні Алёшка не хадзіў у школу — балела нага. Прыйшоў якраз у той дзень, калі заняткаў не было: ладзілася ёлка. На ёлку прыйшоў дырэктар школы. Ён прынёс Алёшку ўзнагароду ад камітэта па ахове прыроды: выдрукаваную залатымі літарамі грамату, дзе ўпісана Алёшкава імя, і значок — з выбітай на ім прыгожай сярэбранай птушкай.

*1997*

# 1998

## САРОКА-ЗЛАДЗЕЙКА

Міхась проста шчаслівы. Старэйшы брат Грыша, які вучыцца ў інстытуце, прывёз яму вудачку — лепшай не трэба. І лёска сапраўдная — як ні сілься, не парвеш, і вудзільна бамбукавае — не зломіш. Ды яшчэ ў дадатак некалькі запасных кручкоў.

Рэчка, у якой купаецца і ловіць рыбу Міхась, невялікая. Яна з кожным годам мялее, зарастае па берагах лазняком, а на водмелях — трыснягамі, хвашчом.

Міхась з сябрамі да апошняга часу лавіў рыбу баўтушай. Так у іх мясцовасці называецца сплецены з лазовых дубцоў кош з плоскім дном, з шырокай гарлавінай, якая нагадвае свіны лыч. Калі рыба трапляе ў баўтушу, то выбрацца не можа: няма выйсця. Але і рыба хітрая, лезці ў кош не хоча. Баўтушу цягнуць двое хлопцаў, боўтаюць нагамі, распырскваюць ваду, і рыба кідаецца як мага далей ад гэтых рыбакоў. У першы заход яшчэ трапяць у кош два-тры лянівыя карасі, краснапёрка ці нават шчупачок. У другі заход толькі дурная лупатая жаба трапіцца.

Міхась загадзя смакуе, як сядзе між лазовых кустоў, насадзіць на кручок чарвяка, закіне вуду. Хлопцы, вядома, будуць зайздросціць. Ён не пашкадуе — дасць і ім па кручку.

Міхась перайшоў толькі ў трэці клас, а Грыша ўжо на чацвёртым курсе інстытута. На спартыўнай алімпіядзе ён заняў першае месца, і яго ўзнагародзілі гадзіннікам. На адваротным баку гадзінніка выгравіравана яго прозвішча.

Брат прыехаў пад раніцу, а цяпер мыецца каля студні, паклаўшы бліскучы гадзіннік на слупок паркана. Міхась палівае яму з меднай конаўкі. Навакол лятае і трашчыць сарока. То на галіну яблыні сядзе, то на дах сенечак, то на слівіну. Што вынюхвае гэта зладзейка?

— Я разведаў пяць гнёздаў,— пахваляецца Міхась.— Два чаканцовых, адно пліскі і яшчэ два драздовых. Птушаняты, мабыць, вывеліся. Я іх цяпер не чапаю. Дадому не прыношу.

— Правільна робіш,— хваліць Міхася брат.— Не трэба заводзіць птушак. Яны ж у цябе гінуць?

— Гінуць,— panыла пацвярджае Міхась.— Сініцы, шчыглы, вераб'і. Мушак, якіх ні налаві, есці не хочуць. Варону ці яшчэ шпака можна прыручыць. Астатніх немагчыма.

У гэты момант сарока злятае з яблыні, кідаецца да паркана і зноў узлятае на дрэва. У яе дзюбе нешта блішчыць.

Міхась і Грыша нават думкі не дапускалі, што спрытная сарока можа ўкрасці гадзіннік. А яна-такі ўкрала. Кінулася да слупка і схапіла дзюбай бліскучую рэч. Браты стаяць ашаломленыя, не ведаючы, што рабіць.

Сарока між тым скача з галіны на галіну, не выпускаючы з дзюбы гадзіннік. Ён, відаць, ёй падабаецца.

— Я зараз гэту зладзейку напалохаю,— гаворыць Міхась, шукаючы дручка ці каменя.

— Не чапай яе! — перасцерагае Грыша.— Можа, нагуляецца і кіне.

Тым часам Міхась шпурляе ў сароку драўляным аскабалкам. Яна імкліва ўзнімаецца з яблыні і з гадзіннікам у дзюбе ляціць на агарод.

— Прапаў гадзіннік,— засмучана гаворыць Грыша.— Шкада, падараваны.

А Міхась сам не свой. Дарма ён кідаў у сароку аскабалкам. Можа б, пагуляла і кінула гадзіннік.

Раптам Міхась успамінае Цярэшку Лузаніка. Цярэшка ўсё ведае і ўмее. Ён жыве ў бабулі, чалавек вольны і незалежны.

— Я ведаю гняздо зладзейкі,— выслухаўшы Міхася, гаворыць Цярэшка.— Бабуля забыла на лаўчацы напарстак. Сарока мігам яго сцібрыла. Бабуля крычала, што я ўзяў напарстак…

Цярэшка з Міхасём рушылі на лугавіну між агародаў, дзе расце старая раскарачаная вербалозіна. Галіны дрэва так густа спляліся, што нават стоячы пад ім, нічога не ўбачыш.

Цярэшка спрытна, як кот, шуснуў на вербалозіну.

— Ёсць! — праз хвіліну выгукнуў ён.— Тут цэлы склад. Дзве чайныя лыжачкі, свісток, некалькі гузікаў. І гадзіннік ёсць. Лезь, паглядзі…

Міхась палез на дрэва. Ён так узрадаваўся, што не зважаў на вострыя сукі, аб якія можна было абадрацца.

Сарочае гняздо толькі знізу падобнае на гняздо вароны. Усярэдзіне яно нібы ластаўчына: склеена з гразі, выслана сухой травой, нават пер’ем. І ўкрадзеныя рэчы вельмі акуратна раскладзены.

Найперш Міхась хапіўся за гадзіннік. Ён адразу пазнаў яго — Грышаў. І гравіроўка на адваротным баку.

Добра мець сяброў. Што б рабіў Міхась, каб не Цярэшка. А той нават падзякі не патрабуе. Злез з вербалозіны і пайшоў шукаць уладальнікаў чайных лыжачак ды іншага дабра. Сабе толькі свісток пакінуў.

*1998*

## СУСТРЭЧА З ВАЎКОМ

Міхась — цікаўны хлапчына. Ён любіць лес да самазабыцця. Ведае яго ў веснавую, летнюю, асеннюю пару. І ў кожную пару года лес нібы раскрывае перад хлопчыкам свае дары і прывабнасці.

Вясной, калі канчаткова растае пачарнелая скарынка снегу, на лясных балацянках расцвітае трава чарнагалоў. Чорныя пушыстыя коцікі травы — першыя веснікі вясны. Міхась са стрыечным братам Адамам, хата якога стаіць побач з Міхасёвай, прыганяюць на лясное балота схуднелых за зіму кароў. Сяброў якраз адпусцілі на веснавыя канікулы. Каровы жывяцца травой з чорнымі галоўкамі-макаўкамі, а хлопцы шастаюць па лесе, галёкаюць і нават спяваюць.

Ужо ў гэты час у лесе можна сям-там пажывіцца. Напрыклад, ягадай касцяніцай. Восенню яна горкая, нясмачная.

Возьмеш у рот і выплюнеш. Праляжаўшы пад снегам зіму, падмарозіўшыся, касцяніца робіцца кісла-салодкай і проста растае ў роце.

І бярозавы сок якраз пачынае цячы. Ледзь не пад кожнай тоўстай бярэзінай стаіць бочка або шчань, як называюць яе мясцовыя людзі. Прыязджаючы па бярозавік, яны адзін другога не крыўдзяць. Бывае, дзядзька возьме ў суседа, шчань якога поўны як вока, вядры два бярозавіку. Але асцярожна, каб не пашкодзіць латак. За ноч бярозавік зноў напоўніць бочку.

Вясновы лес аж звініць ад птушыных галасоў. Малое птаства сама ўе гнёзды, радуецца цяплу, сонцу, багаццю харчу. Нястомны працаўнік дзяцел дубае сваім нібы жалезным носам у галіну ці ствол старадрэвіны. Розных казюрак, чарвякоў колькі хочаш на ствале дрэва, на галінах. Але пярэсты, дзікаваты сваім адзеннем дзяцел увагі на іх не звяртае. Яму трэба дабрацца да лічынкі, якая глыбока схавалася ў сухадрэвіне.

Прырода, аказваецца, размежавала абавязкі сярод птушак.

У летнія месяцы Міхась ходзіць па ягады.

Але найбольшае яго захапленне — грыбы. Хлопчык вандруе ў пошуках грыбоў на шырокіх абсягах лесу, часам нават аж да ваколіц суседняй вёскі завітвае.

Гэтае лета выдалася асаблівым. Па мястэчку пайшла чутка, што па лесе гойсае шалёны воўк. Жывёлу кусае і нават людзей.

Міхась чуткам не верыць. Але сусед Адам адмаўляецца разам з ім ісці ў лес. Міхась наважвае ісці адзін.

Не, ён не пахваляецца смеласцю. Па-першае, невядома, хто пусціў чутку пра шалёнага ваўка. Можа, якраз заядлыя грыбнікі, якія хочуць напалохаць сваіх супернікаў і самі нахапаюць пабольш баравікоў. Бо няма ў паселішчы ніводнага чалавека ці якой-небудзь жывёліны, якую б пакусаў воўк.

Здагадка Міхася пацвярджаецца. Нават у блізкім лесе, не сягаючы на далёкія верасовыя прасторы, Міхась набраў кошык грыбоў і баравікоў ладнавата нарэзаў.

У іхнім лесе ёсць зарослыя раскіданымі соснамі пясчаныя пагоркі. Якраз у гэтым месцы ёсць нара барсука. Маючы

кошык грыбоў, Міхась і да нары завярнуў. Барсукі, відаць, жывуць у нары, хоць нос з яе не вытыркаюць.

Каб выйсці на дарогу, трэба ладны кавалак прайсці полем. Міхась ідзе. Насустрач яму брыдзе рослы перахлябісты сабака. Хоць сезон палявання яшчэ не пачаўся, але людзі з сабакамі часта завітваюць у лес. Паляўнічы, можа, як Міхась, шукае дзе-небудзь паблізу грыбы.

Сабака ідзе ўзбочынай дарогі, і Міхась на ўзбочыну звярнуў. Так яны параўняліся. Прайшоўшы крокаў дзесяць, Міхась азірнуўся. Гэта быў не сабака — воўк. У сабакі хвост закручаны, у ваўка — прыціснуты да ног.

Толькі цяпер Міхась спалохаўся і пабег. Азірнуўся: воўк таксама пабег.

Чуткі пра шалёнага ваўка спыніліся. Ніхто яго не бачыў, нікога ён не пакусаў.

Хутчэй за ўсё нехта, як і Міхась, бачыў звычайнага ваўка, які летам на людзей не кідаецца.

*1998*

# 1999

## ВАЯЎНІЧЫ ВОЖЫК

Юрка, можна сказаць, па-сапраўднаму сябруе з вожыкам. Летам жыве ў дачным дамку за горадам, бавіць час з такімі, як сам, хлапчукамі, якім яшчэ рана ў школу. Шмат радасцей, забаў нясе лета. Уздоўж дачнага пасёлка цягнецца мысок сасновага, перамешанага з елкамі, бярозамі лесу. І чаго там толькі няма!

Птушкі розныя перагукваюцца, скачуць з галіны на галіну. Вогненна-рудая, з пышным хвастом вавёрка перабіраецца з лесу на пладовыя дрэвы дачнікаў. Нібы маланка, кідаецца яна з яблыні на грушу, цокае, дзівіцца круглымі вочкамі на Юрку, потым знікае. Нават, бывае, у пустыя шпакоўні залазіць, высоўваючы адтуль цікаўную пыску.

У хуткім часе лес раскрывае перад хлапчукамі свае багатыя дары. Спачатку пачынаюць чырванець салодкія суніцы. Потым выглядаюць з долу сінія вочкі чарніц, за імі арэхі, грыбы. Усяго не пералічыш.

Агарод таксама адарае малечу яшчэ большымі спакусамі. Першай вытыркае зялёнае пер’е горкая цыбуля. За ёй паспяваюць салодкія, самі растаюць у роце, клубніцы. А яшчэ агрэст, парэчкі, нарэшце яблыкі, грушы, слівы.

Галоўнае, вядома, яблыкі. На Юркавай дачы ёсць добрая яблыня. Яе разбіла маланка. Але дрэўца падлячылі. Ствол звязалі алюмініевым дротам, дзіркі замазалі воскам. І яблынька жыве, першая дае сакавітыя кісла-салодкія плады, якія называюць жытнікамі.

Расце ў Юркі дружба не толькі з хлапчукамі, а і са свойскімі жывёламі, птушкамі. Шпакі высвістваюць розныя мелодыі, іншы раз нават пацяшаюцца, перакрыўліваючы Юркавы словы. Але хлопчык на іх не крыўдуе. Бо шпакі карысныя. Яны знішчаюць процьму розных шкодных жучкоў, вусеняў, чарвякоў. Лепшым яго сябрам стаў сабака Рудзька, вогненна-руды, імклівы, са скручаным нібы абаранак хвастом. Рудзька настолькі давярае Юрку, што калі знойдзе якую-небудзь недагрызеную костку, то прыбягае на Юркаў агарод і закопвае здабычу пад куст агрэсту. Рудзька ведае: Юрка на ягоную ўласнасць ніколі не пакваліцца.

У гэта лета ў хлопчыка завязалася дружба з вожыкам. Вожык сам прыйшоў да парога Юркавага доміка, і калі хлопчык узяў яго на рукі, не скруціўся ў калючы клубок. Юрка наліў у сподак малака, ткнуў у малако вожыкава рыльца, і звярок адразу, без ніякай навукі высунуў вузкі чырвоны язычок і пачаў ціхенька малако хлябтаць. Нібы рабіў гэта ўсё жыццё.

Вожык стаў завітваць кожны вечар. Юрка неяк пакінуў яго начаваць у дамку. Але вожык нікому не даў заснуць. Шастаў па падлозе, лазіў пад стол, пад ложак, грукаючы так, нібыта быў абуты ў цяжкія боты.

Юрка сярод ночы злавіў вожыка і вынес на двор.

Аднойчы здарылася гісторыя, якая прымусіла Юрку зірнуць на вожыка як на вельмі адважнага звярка. Вожык чамусьці прыйшоў раней звычайнага. Ён выпіў малако, трохі пашастаў па цэментаванай дарожцы і раптам шуснуў у густыя кусты, якімі Юркаў пляц адгароджаны ад суседняга. Нешта доўга ў тых кустах бавіўся. Потым вывалак на дарожку гадзюку, усю ў шэрых плямах і разводах. Гадзюка вырывалася, біла хвастом, скручвалася ў кружок. Вожык на гэта не зважаў. Нават тады, калі гадзюка ўджаліла яго ў доўгую пыску. Відаць, не баяўся гадзючага яду...

Юрка не бачыў, як вожык даканаў гадзюку. Ён нават баяўся за вожыка. Яму здавалася, што ўсе гадзюкі, якія месцяцца паблізу, аб'яднаюцца і адпомсцяць вожыку. Але вожык не меў ніякага страху. Ён прыходзіў яшчэ некалькі разоў, лез у кусты і выпорваў адтуль маладых гадзючанят.

*1999*

# ПАДАРОЖЖА Ў БАБІНАВІЧЫ

## I

Дзяўчат у сям'і няма. Таму так званую жаночую работу, калі куды-небудзь ад'язджаюць бацька і маці, выконвае старэйшы з трох братоў, Пятрок. Ён умее пячы бліны (яны ніколі не бываюць пульхныя і яшчэ на скавародцы, калі ён іх знімае, ірвуцца папалам). Доіць сяк-так карову, можа зварыць бульбяны суп.

У цёплым зялёным чэрвені, калі якраз наспяваюць чырванабокія салодкія суніцы, браты кіруюць у лес. Бо дрэнная тая гаспадыня, якая не наварыць хоць глечык сунічнага варэння. Але малодшыя Петраковы браты для збірання ягад непрыгодныя. Яны не вытрымліваюць і кідаюць больш ягад у рот, чым у гладышык.

Абавязак збіраць ягады, гэтак жа, як жаночая работа, выключна кладзецца на Петрака.

Суніцы растуць нядоўга. Тыдзень-два, і яны сыходзяць. Чарніцы — іншая справа.

У сяле Бабінавічы, адкуль родам Петракова маці, чарнічных баравін болей, чым у мястэчку. І кожнае лета Пятрок з ёмістым кошыкам кіруе ў Бабінавічы. Там ёсць яму кампанія — дзве стрыечныя сястры, якія збіраюць ягады.

Да Бабінавічаў ходзіць цягнік. Але на яго трэба набыць білет, які каштуе рубель і пятнаццаць капеек. За гэтыя грошы можна купіць болей чым кілаграм хлеба, і таму да сваякоў Пятрок ідзе пешкі.

Петраку нават прыемна прайсці дванаццаць вёрст ад мястэчка да Бабінавічаў.

Па дарозе трапляецца шмат цікавага: то вывернутая ветрам з карэннямі старадрэвіна, то будка пуцявога абходчыка (прасёлкавая дарога ляжыць побач з чыгункай), то якая-небудзь незвычайная птушка, якая сядзіць на тэлеграфным провадзе.

Лес на працягу падарожжа Петрака ў Бабінавічы прыкладна такі, як і лес, што цягнецца ад мястэчка на захад. Але ёсць і розніца. Местачковы лес — пераважна маладыя сасновыя пасадкі, размешчаныя на пясках. Да іх далучаюцца прыгожыя бярозавыя гайкі, што насеяліся на пясчаных дзюнах.

Бабінавіцкі лес — стары, укаранелы, іншы раз непралазная гушчэча. Не пахадзілі яшчэ як след тут піла, тапор, і гэта таму, што на бабінавіцкай чыгуначнай станцыі няма лесаскладу і патрэбнага абсталявання.

Пятрок ідзе. Калі разабрацца, то першая будка размяшчаецца не так далёка да Рабога моста. Дзесьці праз лес за кіламетр ці два ляжыць вёска Бабоўня. Пятрок ніколі не быў там і не ведае, што гэта вёска з сябе ўяўляе.

У будку Пятрок завітвае напіцца вады. Калодзеж тут такі самы, як і каля астатніх чыгуначных будак. Трохі абымшэлая знутры ацэментаваная труба, якая здаецца бяздоннай. Вядро ляціць уніз цэлую хвіліну. І яшчэ больш часу, круцячы ворат, трэба падымаць вядро наверх.

Увогуле Петрака цікавяць людзі, што, як вось гэты будачнік, жывуць у адзіноце. Днём усё ж які-небудзь падарожны пройдзе міма, грузавік прагрукае. А ноччу? Цягнікі, калі няма каля будак пераезда, увагі на іх не звяртаюць.

Будачнік засеяў загон жыта, на другім загоне лапушыцца бульба. Гаспадыня насадзіла гуркоў, буракоў, знайшла лапік для проса і лёну. Каля самага ганку песцяцца півоні і настурцыі. Пасвіцца на паляне цёлачка, прывязаная да дрэва. Па двары ходзяць куры на чале з ганарыстым, вогненна-рудым цыбатым пеўнем.

А вось і рэчка Ведрыца. Яна цячэ на паўдарозе ад мястэчка да Бабінавічаў. З таго часу, як пачалі асушаць балоты, яна рабілася вузейшай і вузейшай. Цяпер Ведрыца — зусім невялікая рачулка. Але ў гэтай рачулцы водзяцца карасі, ліні, ляшчы і падлешчыкі, нават шчупакі. На пясчаных водмелях можна колькі хочаш набраць ракавін, на берагах — нарваць аеру. Белае сцябло аеру каля карнявішча можна есці.

Пятрок сумуе, што ў мястэчку няма ракі. Хоць бы такой, як Ведрыца. Бо яна досыць глыбокая, мае харошае дно, светлую ваду, і ў ёй можна купацца з раніцы да вечара.

Так, местачковую малечу абышло такое шчасце, як рэчка. А як жыць без вады? Хлопцы боўтаюцца ў розных копанках, тарфяных кар'ерах, канавах, дзе нават немагчыма навучыцца плаваць.

Над Ведрыцай — два масты. На пясчаным шляху ўзведзены драўляны мост, які называюць Рабым. Можа, таму, што яго

парэнчы, перакладзіны пафарбаваны ў бела-чорны колер. Аж у вачах стракаціць. Чыгуначны мост зроблены грунтоўна, з жалезнымі фермамі.

Многа думак прыходзіць у галаву ў дарозе. Яны па невядомых прычынах змяняюць, набягаюць адна на адну, і ніякай сувязі між гэтымі думкамі няма.

У адным месцы Пятрок бачыць чарнічную паляну. Зварочвае: ягад многа, можна паласавацца. Ён збірае прыгаршчы за прыгаршчамі і кідае ў рот. Чарніца ў самым саку: мяккая, кісла-салодкая.

Сонца вісіць над лесам і пячэ нясцерпна. Самы поўдзень. Пятрок скідае пінжачок і кладзе на руку. У кошыку багацце невялікае. Кавалак хлеба і розная драбяза: некалькі цукерак, два-тры пернікі, трохі цукру цётцы на варэнне. І яшчэ лапці з анучамі. Няма лепшага абутку для лесу, чым лапці.

Ціха ў лесе і ва ўсім наваколлі. Ніводная машына ці падарожнік не трапіліся на шляху. Пранесліся толькі два ці тры цягнікі.

Некаторыя спрытныя калгасы пачынаюць здаваць раннюю бульбу, агуркі. Цяпер, на пачатку лета, плацяць добра. За агуркі, напрыклад, рубель за кілаграм. Пятрок ведае гэта, бо чыстую палавіну іхняга дома займае нарыхтоўчая кантора «Плодаагародніна».

Трохі прытаміўся Пятрок: прайшоў больш за палавіну дарогі ды яшчэ па такой гарачыні. Самы час папалуднаваць. Магазінны хлеб здаецца незвычайна смачным. Бо гэта рублёвы хлеб, яго можна есці без усялякіх прысмакаў. Ён наздраваты, з кіслінкай, і асабліва смачная ў яго скарынка.

Пятрок есць хлеб і шкадуе, што не ўзяў пустую бутэльку. У будачніка набраў бы вады, і была б зусім іншая справа. Наперадзе, здаецца, вады няма. Да самых Бабінавічаў.

Раптам Пятрок аж зніякавеў: ён заўважыў чмялёў. Яны звонка гулі над галавой і раз за разам імкліва спускаліся ўніз, хаваючыся ў дзірку на зарослай травой зямлі. Ясна: гэта земляныя чмялі. Яны найбольш трапляюцца на лугавіне, і касец звычайна выбівае іх гняздо касой.

Пятрок адламвае дзве хваёвыя галіны. Даўжэйшую, каб вывернуць чмялінае гняздо, і карацейшую — адбівацца ад чмялёў.

Чмялінае гняздо накшталт пчалінага ці нават мышынага. Невялічкі камячок, сплецены са збуцвелай тонкай травы, і ў ім соты. Пятрок лёгка выкалупвае гэты камячок, і чмялі на яго не нападаюць: яны, бедныя, проста не знаходзяць свайго прыстанішча.

Выціскаючы соты, Пятрок проста выпівае мёд — яго не шмат. Не больш чаркі.

І тут ён атрымлівае чмяліную помсту. Бухматы бамбавоз торкаецца яму ў шчаку.

Пятрок сам вінаваты. Трэба было адысціся на некалькі крокаў ад чмяліных уладанняў. Шмат разоў Пятрок выпіваў пчаліныя і чмяліныя соты — і ні разу такога не здаралася.

З апухлаю шчакою ён прыйдзе ў Бабінавічы. А можа, ападзе гузак… Наперадзе ледзь не палавіна дарогі.

На наступнай вярсце новая нечаканасць. Нехта забіў вужа і павесіў на суку прыдарожнай сасны. Пятрок ледзь не зачапіўся за вяроўку падсохлага гада. Увогуле, вужы бяскрыўдныя. Знішчаючы слімакоў, мышэй, нават карысць прыносяць. І ўсё ж у чалавечай душы жыве агіда, нават страх перад паўзучымі істотамі.

Аднойчы Пятрок прынёс у школу за пазухай вужа. Яму было непрыемна несці гэтае халоднае, ліпкае стварэнне. Але жаданне выхваліцца перад вучнямі, і асабліва перад дзяўчатамі, пераадолела агіду.

Сасlinks канчаюцца, пачынаецца чарналессе. Пятрок спыняецца, азіраецца. Ён трохі даў маху. Бабінавічы бліжэй, чым думаў. За сырымі алешнікамі пачынаецца града дубоў, а за імі — сяло.

Прыгожыя, велічныя дубы, якія атуляюць сяло з заходняга боку. І Петракова мястэчка некалі было акружана такімі ж дубамі. Людзі сяліліся сярод магутных дрэў-веліканаў, нібы чакаючы ад іх дапамогі. Ды і гаспадарчае значэнне мелі дубы. Ледзь не на кожным з іх стаялі пчаліныя вуллі. Буслы ахвотна будавалі на дубах гнёзды.

Мінуўшы дубовую граду, Пятрок выходзіць на бабінавіцкія агароды. Вуліцай ён не пойдзе. Не любіць цікавасці да незнаёмага чалавека, якую праяўляюць стары і малы.

Ён не першы раз у Бабінавічах і наперад ведае, як яго сустрэнуць. Стрыечныя браты, трохі маладзейшыя за Петрака,

будуць скакаць вакол яго, ухваляць, выказваць найвышэйшую прыхільнасць, але гэтак будзе працягвацца не больш чым паўгадзіны. Потым цікавасць знікне, браты разбягуцца, і Пятрок застанецца адзін у вялікай, нібы стадола, хаце.

## II

Назаўтра, абуўшыся ў лапці, Пятрок атрымлівае вялізны пяцілітровы гладыш і ў кампаніі стрыечных сясцёр Ані і Веры кіруе ў лес. Яны ідуць не шляхам, якім прыбыў Пятрок, а ляжнёўкай: вузкай дарогай-насыпам, якая вядзе ад бабінавіцкай станцыі да ракі Ведрыцы. Пад насыпам труба, па якой калісьці качалі ваду на станцыю, каб запраўляць паравозы.

Ляжнёўка шчыльна зарасла травой, кустоўем. Тут ёсць нават кусцікі буякоў — ягад, падобных да чарніц, але буйнейшых, прадаўгаватых, з шызым налётам. Побач з буякамі — кусты багуну.

— Не еш многа буякоў. Галава будзе балець,— папярэджваюць сёстры.

Пятрок сам ведае пра гэта. У іхнім лесе буякі растуць па балацянках і ў суседстве з багуном. Багун — з выгляду як бы нават не мясцовая расліна. Лісце вузкае, жаўтаватага колеру. Тады, калі буякі паспяваюць, багун якраз цвіце. Пылок яго, відаць, трохі атрутны. Ён асядае на ягадах, і ад яго баліць галава.

Ёсць усё ж свае таямніцы нават у такой звычайнай справе, як збіранне ягад.

Стрыечныя сёстры Петрака ўборы маюць небагатыя. Мытыя-перамытыя міткалёвыя сукенкі, хадакі на нагах, танныя хусткі. Наогул сям’я дзядзькі Івана жыве не надта багата. Хіба што не ў лахманы апранута. Хлопцы гайсаюць у латаных картовых штанах, выцвілых сарочках. Ды і на дзядзькавых плячах сарочка, здаецца, тлее, распаўзаецца.

А ён лічыўся багатым. Яго нібыта нават раскулачваць збіраліся. Знайшлася разумная галава, спыніла справу. Калгас проста забраў паравы млын, у лік пайшчыкаў якога ўваходзіў і дзядзька Іван.

Цяпер ён брыгадзір. Бегае пад вокнамі ды загадвае калгаснікам, куды і на якую работу ісці.

Гэтая ягоная работа не надта высока аплачваецца. Бульбы, праўда, дзядзькава сям'я атрымлівае ўдосталь. Дзве ці тры мажы (так называюць вялікія вазы, нагружаныя бульбай даверху) заязджаюць на дзядзькаў двор восенню. На гэтай бульбе трымаецца сям'я, у якой толькі дзяцей сямёра.

Ляжнёўка прыводзіць Петрака і ягоных сясцёр да прыгожай мясціны. Лес расступаецца, адкрываючы шырокую даліну, па якой звіваецца рэчка Ведрыца. На яе беразе некалькі белых дамкоў, будачак, каля іх уздымаюцца ўверх шасты з рознымі прыборамі-каробкамі. Гэта метэаралагічная станцыя.

Нарэшце кампанія дасягнула баравін. Сосны не надта густа пасаджаны, праз іх вяршаліны прасвечвае неба, промені сонца, якое толькі ўзыходзіць, пачынаюць кранаць верхнюю частку гладкіх медна-жоўтых ствалоў. Дол шчыльна ўкрыты чарнічнікам. Дзяўчаты абматваюць стан ручнікамі і да іх прывязваюць гладышкі. Пятрок таксама замацоўвае свой гладыш, прывязаўшы яго аборкай за рэмень. У такім выпадку абедзве рукі свабодныя.

Пятрок не надта аддаляецца ад дзяўчат, не губляе іх з вачэй. Лес чужы, незнаёмы, можна заблудзіцца.

Ягад многа. Не трэба іх вышукваць, а толькі зрывай са сцяблін і кідай у гладыш. Работа нудная, аднастайная. Самае непрыемнае — трэба ісці напаўсагнутым. Адразу пачынае балець спіна. Пятрок час ад часу разгінаецца, разглядае наваколле. Яны адразу прыйшлі ў сярэдзіну леса, дзе менш бывае людзей. Калі кіраваць адсюль па прамой да дарогі, па якой Пятрок ішоў у Бабінавічы, то выйдзеш, відаць, да чыгуначнай будкі. Бо і яна размешчана непадалёк ад Ведрыцы.

Зверху чуваць раўнамернае стуканне. Пятрок уздымае галаву. Прыціснуўшыся хвастом да гладкага ствала сасны, дзяцел дзюбае дрэва. Пачуўшы на зямлі нейкі трэск, дзяцел насцярожваецца, перапыняе свой занятак, але ў хуткім часе пачынае яго зноў.

Цяжка збіраць чарніцы. На такі гладыш, як у Петрака, патрэбна гадзін пяць. У гэтым лесе, можа, трохі менш, бо ягад шмат і мала людзей. Пальцы ў Петрака ўжо сінія: воляй-няволяй раздушыш якую-небудзь ягаду, і каб тая не прападала — кінеш яе ў рот. Пры збіранні чарніц трэба

адкінуць усялякія жаданні, забыцца пра ўсялякія інтарэсы і, прыгнуўшыся, зрываць ягады, кідаць іх у гладыш.

Пятрок хутка ўвайшоў у рытм гэтай марудлівай работы. Дзяўчаты, відаць, хутчэй збіраюць чарніцы. Але яму да іх няма ніякай справы. Яму трэба запоўніць свой гладыш. Самая цяжкая справа — дайсці да пука, дзе гладыш асабліва шырокі, і напоўніць яго. Далей справа пойдзе весялей.

Шклянка ягад каштуе дваццаць капеек. Ёмістасць гладыша — пяць літраў. Значыць, у ім змесціцца дваццаць пяць шклянак і Пятрок заробіць пяць рублёў. Ні на якой іншай рабоце яму болей не заплацяць.

— Пеця! — раптам раздаецца роспачны крык малодшай сястры Веры.— Бяжы сюды! Тут гадзюка…

Бегчы Пятрок не збіраецца. Па баравінах-сухадолах гадзюкі водзяцца рэдка. Хутчэй дзяўчаты ўбачылі вужа ці мядзянку, бяскрыўдных істот.

Нарэшце Пятрок падыходзіць да сясцёр. Яны сапраўды перапалохаліся: стаяць, прыхінуўшыся адна да адной, на сухім грудку, твары іх збялелі.

— Вунь яна,— паказвае на канаўку, густа аплеценую белаватай шчацінкай ціпчаку, Вера.— Я на яе ледзь не наступіла.

— Нічога страшнага не здарылася б. Гэта вуж. Вужы не кусаюцца.

— Забі яго.

— Не буду забіваць.— Пятрок успамінае ўчарашняга вужа, павешанага на сук прыдарожнай сасны.— Вужы нават карысныя. Ядуць мышэй, розных слімакоў.

— Тады давайце пойдзем на другое месца.

— Не дуры ты! — выгуквае старэйшая сястра Аня.— Слухай Пецю. Тут столькі ягад!

Пятрок між тым крадком зазірае ў гладышыкі дзяўчат і супакойваецца. Не надта яны яго абагналі. Усе яны назбіралі прыкладна аднолькава.

У гэты момант сасновая шышка ледзь не трапляе ў Петрака. Ён уздымае галаву. На ніжняй галіне стромкай сасны, распушыўшы хвост, стаілася вавёрка і вокам-бісерынкай дзівіцца з кампаніі. Затым, нібы вогненная маланка, сігае ўверх па ствале, знікаючы ў зялёнай вяршаліне дрэва.

Вуж, прыняты за гадзюку, вавёрка — гэтыя падзеі трохі разварушваюць Петрака, бо перапыняюць аднастайнае збіранне ягад. Пятрок і есці ўжо хоча, бо адпраўляючыся ў ягады, выпіў толькі шклянку малака. Але не ён тут гаспадар.

Сонца такі добра прыпякае. Тым часам нічога не папішаш. Трэба сагнуцца і ягадзіну за ягадзінай кідаць у ненажэрнае горла гладыша. І ні аб чым другім не думаць.

Пятрок выбірае месца ў зацемку, дзе не так паліць сонца, і зрывае адразу па дзве-тры ягадзіны. Тут, бадай, яшчэ ніхто не хадзіў. Каб не было дзяўчат, ён бы проста лёг на чарнічнік і збіраў ягады навакол сябе. Увогуле стома авалодвае Петраком. Каб хоць павеў ветрыку. А то і твар потны, і цела пад сарочкай мокрае.

Зноў трапляецца куст буячніку. Багуну паблізу няма. А ягад на галінках — нібы цацак на навагодняй ёлцы. Пятрок ласуецца буякамі. Бо не будзе ж ён змешваць іх з чарніцамі.

З-пад самых ног выпырхвае птушка. Пятрок аж палохаецца. Пад кустом на зямлі гняздзечка, а ў ім некалькі маленькіх птушанят з раскрытымі жоўтымі дзюбамі. Маці прылятала карміць сваіх дзетак, а ён ледзь не парушыў яе жытло.

Гледзячы сабе пад ногі, Пятрок асцярожна адыходзіць ад куста, згінаецца, каб збіраць чарніцы.

Стома, вяласць паступова праходзяць, голад Пятрок перабіў буякамі.

Раптам хлапчуку здаецца, што ён у родным лесе: і хвоі такія ж стромкія, трохі таўставатыя, растуць нібы групкамі, і гурбачкі-курганчыкі між імі, і між чарнічніку пралысіны, зарослыя жорсткай, ніба асака, травой. Нават голы, абадраны, падобны да вялізнай ступы камель ліпы паблізу.

Але ілюзія хутка знікае. Амаль такі ж узгорак сапраўды ёсць у мястэчковым лесе. Але ён пахіла спускаецца да чыгункі, перад якой сцяна лесу нібы агаляецца. Па другі бок узгорка бачны насып пясчанага шляху, які ляжыць па адной лініі з чыгункай.

Пятрок шчыруе. Тым болей, што ён падышоў да адказнай мяжы: запаўняе ягадамі самую шырокую частку гладыша — пук.

Пятрок рад, што не пашкодзіў гняздзечка. Ён не ведае, якой птушцы яно належыць. У сасновым лесе мала гняздуецца

птахаў. Некалькі гняздзечак ён і раней знаходзіў: маленькія, сплеценыя з шэрых высахлых травін, засланыя пер'ем ці пухам. Тыя гняздзечкі былі ў кустах або на дрэвах. А гэтае — на зямлі.

Петрака даўно цікавіць дзяцел, гнязда якога ён ніколі не бачыў. Між тым кожны ўчастак хвайняку мае ўласнага дзятла. Ніколі так не бывае, каб гэтыя птушкі дзяўблі старадрэвіну паблізу адзін ад аднаго.

Увогуле дзятлы, гэтак жа, як і сіваваронкі, нібы птушкі не нашага краю. Вельмі адметнае іх убранне. Нашы птушкі шэрыя, з выгляду някідкія. Узяць таго ж салаўя. Ніякая птушка не ўмее так, як ён, спяваць. А красы гэты пяюн не мае. Шэры камячок, якога нават заўважыць цяжка ў крушынавых кустах.

— Пеця! Ідзі палуднаваць…

Стрыечныя сёстры клічуць хлопчыка. Самая шырокая частка гладышыка запоўнена. Яшчэ гадзіна збірання — і ён будзе поўны.

Дзяўчаты размясціліся на зарослым мохам узгорку. Не пашкадавала цётка Аўгіння харчу для дачок, а галоўнае — для местачковага родзіча. На разасланым ручніку — нарэзанае скрылікамі сала, вараныя яйкі і нават некалькі маласольных маладых агурочкаў. Толькі хлеба няма. Замест хлеба цётка Аўгіння паклала два праснакі-скавароднікі.

Стрыечныя сёстры непадобныя адна да адной. Старэйшая Аня — высокая, трохі няскладная, з вузкім прадаўгаватым тварам. Вера больш зграбная, паўнацелая, з поўнымі, усеянымі вяснушкамі шчокамі. Яна бадай равесніца Петраку.

Пятрок і сёстры ядуць са смакам. Не кожны дзень выпадае такі пачастунак.

Без сарокі, як заўсёды, не абышлося. Яна, як і павінна быць, прыляцела, папераскоквала з дрэва на дрэва і, разведаўшы ўсё цікавае, паляцела перадаваць навіны іншым птушкам.

У лесе горача, нават парна. Неўпрыкмет пасля полудня сталі зліпацца вочы. Дзяўчаты прыкрылі твары хусткамі, а Пятрок — шапкай, і ўсе паснулі.

Салодкі, прыемны лясны сон. І хоць гудзелі над вухам нейкія мушкі, недзе ў лесе гучна крычала птушка, Пятрок спаў.

Калі ён прачнуўся, дзяўчаты збіралі ягады. Пятрок не засмуціўся гэтым. Бо ад іх асабліва не адстаў. Можа быць, яны адсталі, але ж самая вялікая пасудзіна ў яго.

Дзяўчаты павярнулі назад. І Пятрок за імі. Ягады ён кідае ўжо ў гарлавіну, і праз паўгадзіны гладыш будзе поўны.

Назаўтра прыходзяць на тое ж месца.

Менш пячэ сонца, лес дакладна разведаны. Пятрок і сёстры неяк лёгка, без лішняй натугі напаўняюць гладышы.

Часу хапае. Зрабіўшы круг, сёстры выводзяць Петрака да Ведрыцы.

О, тут прастор, разложыстыя лугі, сенажаці, па якіх, віляючы і пятляючы, цячэ рака. Каб мястэчку такую! Было б зусім іншае жыццё.

Берагі Ведрыцы крутыя. Спусціўшыся з іх, трапляеш на пясчаны пляц, усеяны галькай і ракавінамі.

Сёстры, пазнімаўшы сукенкі і панчохі, абкруціўшы сябе ручнікамі, кідаюцца ў ваду. Іх не турбуе, што Пятрок не ўмее плаваць, што ў яго няма трусоў, а толькі картовыя штаны, што на ім. Але Пятрок знаходзіць выйсце. Адыходзіць ад сясцёр падалей, здымае вопратку, лезе ў ваду. Як у мястэчковых копанках, бултыхае нагамі і штосілы б'е па вадзе рукамі. Але тут рака, не копанка. Пятрок адчувае — ідзе на дно.

Не, дапамогі ў сясцёр ён не папросіць. Намацаўшы дно, разы са два падскочыўшы, Пятрок нарэшце набліжаецца да берага. Тут ён не схаваецца ў вадзе з галавой. Пад нагамі пясчаны грунт. Тут ён і купаецца, пакуль не клічуць да сябе сёстры.

Старэйшая Аня пракалола нагу аб асколак разбітай бутэлькі. Знайшоўшы ліст падарожніку, дзяўчаты прыкладаюць яго да раны, абвязваюць панчохай.

Аня накульгвае. Дзеці прыходзяць у вёску зусім з другога канца. Пятрок адзначае, што дом дзядзькі Івана з гэтага боку суседнічае з прыстойным ляском: хвоя, бяроза, асіна, дубок. Дол зарос дробным вераском, брусьнічнікам.

Зрабіўшы пару невялікіх кругоў, Пятрок падымае сыраежку, лісічку, два абабкі. Лясок добра праграваецца сонцам, і тут грыбы з'яўляюцца раней, чым у іншых месцах.

Гэта ж можна перш чым маці зварыць суп, збегаць у лясок, прынесці грыбоў. Мяса няма, дык грыбы яго заменяць. Але стрыечныя браты — лайдакі і, вядома, гэтага не робяць.

Бабінавіцкія лясы, рэчка, барок пры самай вёсцы Петраку падабаюцца, а сама вёска — не. Шэрыя, аднастайныя хаты, якія збіліся ў кучу нібы авечкі.

На трэці, апошні дзень знаходжання ў Бабінавічах, Пятрок просіцца пайсці ў лес адзін. Дзяўчаты рады. У Ані баліць нага, яна нават трохі распухла, а Вера можа збегаць у лес у любы дзень.

З дзяўчатамі Петраку не было пра што гаварыць, дый наогул ён адчуваў сябе скаваным. А так будзе разняволеным. У лесе не зблудзіць. Хоць бы і першы раз пайшоў адзін.

Пятрок перайшоў у пяты клас. Вучыцца яшчэ тры гады. Скончыўшы сямігодку, можна падацца ў шырокі свет. Бо дома нелады. Беднасць на кожным кроку, а ад гэтага сваркі, звяга, лаянка.

Гэтым летам Пятрок працуе на станцыі: высякае між шпал траву, зносіць шлак, выконвае іншыя работы. Палучка ўжо была, але ён не здолеў узяць сабе рубель на зваротны білет з Бабінавічаў. Грошы аддаў маці.

У родным лесе Пятрок марыць аб тым, куды паедзе вучыцца, кім стане, якія мясціны пабачыць.

Тут, на чужых прасторах, думкі бягуць у іншым напрамку. Пятрок мусіць прызнацца: як ні дрэнна жывецца ягонай сям'і, сям'я дзядзькі Івана жыве намнога горш. Старэйшая дачка Маня пайшла замуж у недалёкую вёску. І ўсё роўна ў вялікай, як стадола, даўно нябеленай хаце жывуць шасцёра дзяцей і двое дарослых. Пятрок кожны дзень есць наздраваты, добра выпечаны магазінны хлеб, іншы раз сям'я купляе траску, камсу, іншыя прадукты. Нічога гэтага дзеці дзядзькі Івана не бачаць. Бульба, бульбяны суп, праснакі-скавароднікі. Ну яшчэ гуркі, буракі, капуста.

Кніг у хаце няма. Дзяўчаты імі не цікавяцца. Хлопцы за бегатнёй свету не бачаць. Не, Пятрок ніколі не жыў бы ў Бабінавічах. У мястэчку зусім іншае жыццё. Там таксама ёсць шэрыя хаты, гразь на вуліцы, але ж ёсць і раённы Дом культуры, дзе паказваюць кіно, некалькі бібліятэк,

двухпавярховая сярэдняя школа і шмат чаго іншага. Бабінавічам далёка да мястэчка.

Перавага Бабінавічаў хіба ў тым, што лес тут большы, разнастайнейшы, паблізу хаты дзядзькі Івана ўшчыльную падступае да вёскі. Пятрок ажно пазайздройсціў: родзічам літаральна за хатай можна збіраць сыраежкі, ababкі, падасінавікі і, відаць, нават баравікі.

Што да Петрака, то ён не ўпусціў бы такой магчымасці. Раніцай елі б суп з грыбамі, на абед насмажылі б іх цэлую скавараду.

У дзядзькавых хлопцаў няма ніякага інтарэсу да грыбоў. Затое аднарукая бабка Фядоска, маці дзядзькі Івана, якая жыве ў другой палавіне дома, падзеленага на дзве хаты агромністымі, невядома для чаго прызначанымі сенцамі, прыносіць процьму грыбоў. Родам яна з мястэчка, старая, дрэнна бачыць, грыбы шукае навобмацак і ў грыбную пару ходзіць у лес ледзь не штодзень.

Пятрок збірае ягады спакойна. Лес поўны людзей, справа і злева раздаюцца зычныя перазовы, але і ягад хапае. Каб такое багацце ў местачковым лесе! Там чарнічнік толькі ў прыгожым сонечным бары. На жаль, невялікі гэты барок і вытаптаны дашчэнту. Разам з чарніцамі з'яўляюцца і першыя грыбы. Нават баравікі, бо пачынае красаваць жыта.

І зараз Пятрок знаходзіць баравічок. Невялікі, беленькі, ахайны. Цалуе яго ў шапачку. Такога звычаю ён прытрымліваецца даўно. Лічыць, што павага да першага баравіка прыносіць поспех на ўсё лета і восень.

Пятрок пераходзіць пясчаную дарогу, якая, па ўсіх прыкметах, вядзе з Бабінавічаў у Бабоўню. За дарогай невялікая паляна, на якой стаіць воз, нагружаны нейкімі трантамі. Конь выпражаны, папасваецца паблізу. Два чалавекі, разаслаўшы на зямлі гуньку, сілкуюцца.

Пятрок спыняецца, пазнаючы людзей. Гэта зарослыя чорнымі барадамі яўрэі, якія збіраюць па вёсках рыззё. Не так даўно яны і па местачковых вуліцах ездзілі. Здалёку даносіўся голас каго-небудзь з іх:

— Караўкі! Караўкі! Караўкі!..

На гэты голас выскаквалі з двароў жанкі, несучы розныя бэбахі, старызну. Гандляр уважліва разглядваў прынесеныя

рэчы, адтапырваў губу і неяк адразу, гучна і катэгарычна, вызначаў ім цану:

— Дзве іголкі! Сіні парашок! Грабянец!

Іншы раз адбываўся торг. Але вельмі хутка абодва бакі прыходзілі да згоды.

Адзін з яўрэяў, трохі маладзейшы, апрануты ў расквечаны жоўтымі квадратамі лапсардак, звяртаецца да Петрака:

— Хлопец, я ведаю, ты з мястэчка. Чаго тут валочышся?

— Ягады збіраю.

— Ягады-шмагады. А таго не ведаеш, што ноччу павесіўся бабінавіцкі стараста Абрам Зухавіцкі.

— Чаму павесіўся? — спалохана пытае Пятрок.

— Ідзі, спытай у яго. Можа, скажа.

Другі яўрэй, незнаёмы, дабаўляе:

— У такі калгас самога Лазара Кагановіча прышлі, і то не справіцца. Ні адзін чалавек не выйшаў на сенакос…

Пятрок паварочвае ў ягаднік. У мястэчку, відаць, не даюць разгарнуцца каравачнікам. Дык яны ў навакольныя вёскі перабраліся. З маладзейшым яўрэем Пятрок меў асабістую справу. Збіраўся купіць барабан, а грошай не было. То ён насіў у крамку Хаіма — так звалі каравачніка — living рознае рыззё, косці, медныя рэчы. Хаім плаціў ашчадна. Але Пятрок такі назбіраў грошай і купіў барабан. Шкада толькі, што меншыя браты на другі ж дзень прабілі на ім скуру.

З трох вялікіх гладышоў атрымаўся кошык ягад. Кошык у руках не данясеш. Увесь вечар бегаў дзядзька Іван па вуліцы пазычыць Петраку рубель на білет. З вялікай цяжкасцю, але ўсё-такі выбегаў.

Старшыня калгаса, мяккі, палахлівы яўрэй, сапраўды наклаў на сябе рукі. Зернясховішча стаіць на высокіх палях. Нехта ноччу падлез пад яго, свердлам пракруціў у падлозе дзірку і выкраў збожжа, якое там было.

А тут яшчэ касьба, іншыя благія рэчы…

Усё гэта папсавала Петраку настрой, хоць вёз ён поўны кошык ягад.

*1999*

# ПАЧАТАК

## I

Лета дыхае невыноснай гарачынёй. Сонца не відаць, яно як бы стала самім распаленым небам, горад патануў у белым зіхатлівым бляску. Ён не акрыяў яшчэ ад ваеннай навалы, якая пракацілася праз яго з захаду на ўсход і з усходу на захад.

Нават на галоўных вуліцах стаяць задымленыя шкілеты дамоў, паўсюль за высокімі дашчанымі парканамі нагрувашчаны цэгла, тынкоўка.

У цэнтры ўжо неяк вымалёўваюцца контуры новага горада. Ён, па ўсіх прыкметах, будзе не падобны на даваенны, напалавіну драўляны, двухпавярховы, забудаваны прыветлівымі, местачковага выгляду дамкамі.

Цяпер паверхі імкнуцца ўвысь.

Іван Васільевіч Журавель праводзіць дні ў разамлелым ад гарачыні горадзе. На пачатку лета ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, яго пакінулі на кафедры беларускай літаратуры ва ўніверсітэце. Ён штораніцы ходзіць у бібліятэку, і, абклаўшыся стосам кніг, накідвае контуры будучых лекцый.

Мала крыніц па беларускай літаратуры. Тое, што напісана да вайны, асабліва ў трыццатыя гады, безнадзейна састарэла. Бо ўсе праявы жыцця, адлюстраваныя літаратурай, тлумачацца выключна класавай барацьбой.

Зала беларускай літаратуры малая, утульная. І людзей не шмат. Вокны выходзяць на заценены дрэвамі двор, і душная гарачыня амаль не адчуваецца.

Адчыняюцца дзверы. Да Жураўля валкай паходкай кіруе Кітуновіч, круглаваты, сярэдняга росту хлапчына з трохі завялікай для ягонай фігуры галавой. Яны жывуць у адным інтэрнацкім пакоі па вуліцы Свярдлова. І ў адну бібліятэку ходзяць, толькі ў розныя залы.

— Чуў? — узбуджана паведамляе Кітуновіч.— Рэабілітуюць пісьменнікаў. Тых, што пахапалі ў трыццаць сёмым...

Кітуновіч называе некалькі прозвішчаў.

Журавель ведае гэтых пісьменнікаў. З дзяцінства ён горача любіць літаратуру. Да шостага класа так начытаўся, што,

здаецца, не было пісьменніка, твораў якога б ён не ведаў. У іх мястэчку гэта можна было зрабіць: мелася аж чатыры бібліятэкі.

У трыццаць сёмым годзе настаўнікі загадвалі заклейваць у хрэстаматыях партрэты некаторых добра вядомых пісьменнікаў. Журавель не мог зразумець, у чым справа. Настаўнікі таксама нічога не тлумачылі.

Між іншым Кітуновіч у дысертацыі, якую абараніў у мінулым годзе, прозвішчы пісьменнікаў, якіх цяпер рэабілітавалі, пісаў з малой літары.

Журавель адчувае: пасля смерці Сталіна пачынаецца нешта новае. Як бы свежы вецер дзьме. Рэабілітуюць не толькі пісьменнікаў, але і іншых людзей, абвінавачаных у палітычных грахах. Пакрысе змяняюцца адносіны да ваеннапалонных і тых, хто жыў пад акупацыяй.

Самога Сталіна ў газетах пачынаюць падкалваць. Прозвішча не называюць, але і так зразумела; з’явіўся новы тэрмін — культ асобы.

Гарачыня не спадае. Усё сохне, гарыць. Вельмі патрэбен дождж. Асабліва цяпер, калі наліваецца зерне. Але яго няма. Між тым ужо сярэдзіна лета.

Марудна, пакутліва прывыкае Журавель да горада. Дзіва няма: пасля вайны ён вучыўся завочна. Працаваў карэспандэнтам абласной газеты, ездзіў па раёнах і два разы на год у Мінск на сесіі. Стацыянарна вучыўся нядоўга.

Ідучы з інтэрната ў бібліятэку, Журавель заўсёды запыняецца на скрыжаванні трамвайнай лініі з вуліцай Лодачнай, якая, дапяўшы да рэек, канчаецца. Выгнуўшыся дугой, тут цячэ Свіслач, рэчку ахінаюць старыя, раскарачаныя вербы, берагі зараслі трыснягом, асакой, чаротам.

Лодачная не забрукавана. Дамкі драўляныя, ёсць нават хаціны вясковага выгляду. Затое вуліца ўся ў садах. У агародчыках цвітуць кветкі. Амаль што сельскае відовішча.

Вось па гэтым і сумуе Журавель. Бо маладосць правёў у мястэчку. Тым часам новы горад будуецца з індустрыяльным размахам. Такія дамкі, як на Лодачнай, бязлітасна зносяцца, на іх месцы вырастаюць шматпавярховыя камяніцы. Новы Мінск, сталіца рэспублікі, як бы імкнецца нічым не нагадваць Мінска ранейшага, губернскага.

Але новы Мінск расце без аглядкі на вякі і стагоддзі, якія прамінулі. Напаўразбураныя гмахі старадаўніх цэркваў, храмаў узрываюцца, зносяцца. Нібы горад вырастае на новым месцы.

Журавель любіць бібліятэку. Тут нібы ў летнім сасновым бары: цішыня і спакой. Да кожнай кнігі, якую немцы вывезлі ў Германію, прыклеена машынапісная этыкетка з назвай на нямецкай мове. У Германіі знайшлі гэтыя пакутныя беларускія кнігі і прывезлі назад.

Горад пуставаты. Студэнты, здаўшы сесію, паехалі дамоў. Іх месца занялі пажылыя, сур'ёзныя завочнікі, якія вандруюць ад школы да школы. Бо аўдыторый універсітэт мае недастаткова, арандуе школьныя будынкі.

Жураўлю хочацца з'ездзіць дамоў, у пыльнае разлеглае мястэчка на Палессі, якое цяпер называецца гарадскім пасёлкам. Пасёлак з даваенных часоў — раённы цэнтр, тут чыгуначная станцыя, нават вузлавая.

Цягне да сябе Жураўля лес. Лес — яго дзяцінства, юнацтва. Але не выпадае ехаць. Сухмень стаіць не толькі тут, у Мінску, а і на Палессі. Пра грыбы і думаць нечага. Вандраваць па лесе проста так няма сэнсу.

Ды і радні трэба памагчы. Збіраецца паступаць ва ўніверсітэт на геаграфічны факультэт малодшы брат Сяргей. Вучыўся ён не надта добра, але ўсё адно меціць выходзіць у людзі. І другі брат, стрыечны, з сяла, дзе нарадзілася маці, таксама хоча ва ўніверсітэт.

Ясная справа: у высокую навуку так проста не праскочыш. Ідзе конкурсны адбор. Трэба рука, якая б трохі пасобіла. Такой рукой і мусіць стаць Журавель.

У інтэрнаце па вуліцы Свярдлова, дзе ў адным пакоі жывуць Журавель, Кітуновіч і аспірант-логік Бабарэка, па вечарах зацятыя спрэчкі. Ідэі, якія носяцца ў паветры, тут як бы праходзяць праверку на трываласць, абвяргаюцца або ўхваляюцца.

У Кітуновіча нюх востры. Ён даўно бачыць сябе на трыбуне. Раней збіраўся адстойваць чысціню літаратурных радоў ад розных шкодных ідэалагічных спакус. Але вецер падзьмуў з другога боку, і ён пераарыентаваўся. З дысертацыі

робіць цяпер кнігу. Рыхтуючы рукапіс да друку, Кітуновіч, наколькі можа, узвышае рэабілітаваных пісьменнікаў, якіх нядаўна ганьбіў.

Бабарэку палітыка цікавіць мала. Яго розум скіраваны на вечнае. Логік-філосаф, напрыклад, ніяк не можа пагадзіцца з тэорыяй Эйнштэйна, у якой бачыць навуковую фальсіфікацыю. Ну як можна паверыць, што найменшая часцінка матэрыі можа быць адначасна рэчывам і хваляй. Не верыць Бабарэка і ў другое эйнштэйнаўскае сцверджанне: пры вялікім скапленні матэрыі час рухаецца павольна, марудна, пры малым — ляціць як апантаны.

Калі ў пакоі ўсе яго насельнікі, спрэчкі выбухаюць кожны вечар. Але Кітуновіч да поўначы недзе вандруе, Бабарэка заседжваецца ў бібліятэцы. Тады ў пакоі нумар сем цішыня.

Журавель, карыстаючыся цішынёй, чытае кнігі. Непрачытаных кніг, пра якія трэба мець уяўленне, сабралася многа. Бо выкладчык беларускай літаратуры збольшага павінен ведаць літаратуру рускую і замежную. Ва ўсякім разе, плыні, якія там пануюць. Інакш які ён літаратуразнавец?

## II

Пачынаюцца заняткі. Журавель досыць упэўнена заходзіць у аўдыторыю да студэнтаў чацвёртага курса.

Ён ужо быў тут год назад. Чытаў абавязковыя пробныя лекцыі, прадугледжаныя аспіранцкім планам. У якасці матэрыялу ўзяў раздзел з дысертацыі Кітуновіча пра мову Кузьмы Чорнага. Кітуновіч таксама прысутнічаў на лекцыях. Яны мелі поспех: ніхто з выкладчыкаў такімі ведамі студэнтаў не частаваў.

І цяпер Журавель як выкладчык мае нейкі поспех. Ён трохі пабачыў свету. Быў у партызанах і на фронце. Працуючы журналістам, сустракаўся з многімі людзьмі. Так што ведае жыццё болей, чым ягоныя сябры-таварышы, якія проста скончылі ўніверсітэт.

Журналістыка, якой ён займаўся, і літаратуры пасабляе. Калі, паводле матэматыкі, ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца, то ў літаратуры, нават у той жа газетнай

публіцыстыцы, мяняецца і нават істотна. Іграюць сваю ролю мелодыка, музыка сказа, стоены рытм, які ёсць і ў прозе.

Людзі, якія не займаюцца творчай працай, гэтага не ведаюць. Журавель, пішучы не бог ведае якія рэчы, адчуў тое, і гэта якраз спрыяе выкладанню літаратуры.

Ён абмяняўся дысертацыямі з Кітуновічам і яшчэ з адным маладым кандыдатам навук. Абодва пісалі пра Кузьму Чорнага. А гэта, бадай, самы відны празаік у беларускай літаратуры. Сам Журавель ніштавата ведае Якуба Коласа: напісаў пра яго дысертацыю. Малады кандыдат на ўзлёце надзей. Відаць, іграе ролю і тое, што студэнты маладзейшыя за яго на якіх шэсць-сем гадоў. Два пакаленні, але блізкія адно да другога.

Кітуновіч між іншым не прыжыўся на філфаку. Збіраецца пераходзіць у акадэмічны інстытут. Публіцыст ён напорысты, уедлівы. Адчуў, што вецер дзьме ў іншы бок, і адразу пераарыентаваўся. Вынік у наяўнасці: артыкулы Кітуновіча пачынаюць друкаваць нават тоўстыя часопісы.

Гарачае лета мякка, непрыметна пераходзіць у восень. Гэтак жа свеціць сонца, вісіць над горадам сіняе, з лёгкімі белымі аблачынкамі неба. Але ранейшая задуха, спякота саступаюць месца цёплым дням.

Месяц верасень не для заняткаў. Бо ў полі ляжыць нявыкапаная бульба. Калгасы не ўпраўляюцца яе выбіраць, ім на дапамогу пасылаюць студэнтаў.

Яшчэ ў аспіранцкія гады Журавель аднойчы ездзіў на бульбу. У далёкім запушчаным калгасе кіраваў студэнцкай групай. Не зважаў на ролю кіраўніка: поруч з маладымі дзяўчатамі і хлопцамі сам капаў бульбу.

Тую восень ён успамінае з прыемнасцю.

Жураўля і цяпер пасылаюць на бульбу. На гэты раз калгас недалёка. Размешчаны ў прыгожым пасёлку пры чыгунцы, які сваім выглядам зусім не нагадвае закінутую вёску. Акуратныя дамкі, нават катэджы. Побач з бульбяным полем узвышаюцца зялёныя пагоркі, пакрытыя дробнымі бярозавымі і хвойнымі пералескамі.

Шчаслівая паездка! Тут Журавель упершыню адчуў, чаго яму не хапае ў горадзе. Няма прастору, шырыні далягляду. І яшчэ няма звычайнай зямлі, вось гэтых купаў дрэў, зялёнай травы.

Старшыня калгаса — прысадзісты, лысаваты, рухавы яўрэй — жыве ў Мінску. Да нядаўняга часу кіраваў нейкай канторай. Сюды яго прыслалі ўздымаць занядбаны калгас. Паяўляецца старшыня тут не часта. Фактычна кіруе гаспадаркай (і студэнтамі таксама) брыгадзірка — высокая пахмурая жанчына з худым чарнаватым тварам.

Дзіўную гісторыю чуе Журавель пра яе. Нібыта больш як дваццаць гадоў назад гэты самы яўрэй (толькі тады ён быў кучаравы) праводзіў у пасёлку калектывізацыю. У хаўрусе з актывам раскулачыў дзве-тры сям'і і ў іх ліку сям'ю пахмурай брыгадзіркі. Яна адна вярнулася з-пад Котласа і фактычна ўзяла калгас на свае плечы. Дужа працавітая, дбайная жанчына. Цэлы дзень матляецца па пасёлку, зазіраючы ў кожны куток. Некалькі разоў на дзень заглядвае да студэнтаў на поле. Так што не вельмі палайдачыш.

Пасёлак на вачах мяняецца. У розных канцах яго ўзнікаюць новыя будынкі, пераважна мураваныя. Відаць, селіцца тут не сельскі люд. Прыязджаюць гарадскія жыхары, у якіх ёсць грошы, выбіваюць участкі, кожны на свой густ будуе хароміну. Прычына ясная. Прыгожая мясцовасць, невялікая адлегласць ад горада. Электрычак хапае. Можна, уласна кажучы, працаваць у горадзе і жыць тут, на ўлонні прыроды.

Сама па сабе вабіць нават станцыя. Яна атулена старымі разлапістымі ліпамі, з перона адкрываецца прыгожы краявід: узгоркі, пакрытыя лясамі і гайкамі, паселішчы пераважна з белай цэглы патанаюць у засені садоў.

Журавель ведае ад пасялкоўцаў: тут падчас сваёй маладосці часта з'яўляўся славуты маршал Жукаў. Меў кватэру ў Мінску, але дзень і ноч праводзіў тут, бо тут размяшчаўся кавалерыйскі полк, якім ён камандаваў. На іпадроме праводзіліся ваенныя заняткі.

І яшчэ адну дзіўную навіну чуе Журавель. Нібыта Жукаў вёў ваенныя заняткі ва ўніверсітэце. Ішла беларусізацыя, і рускі чалавек Жукаў, хутка авалодаўшы беларускай мовай, чытаў лекцыі па-беларуску. Пра апошняе Журавель ведае з друкаваных крыніц. У адным часопісе ён чытаў біяграфію Жукава, дзе маршал пацвярджае, што валодае рускай і беларускай мовамі.

У першую паездку на вёску аспірант Журавель капаў бульбу разам са студэнтамі. Цяпер не капае. Хапае іншых

клопатаў. Брыгадзірка толькі размеркавала студэнтаў па хатах. А ім кожны дзень трэба выбіваць харч: хлеб, малако, мяса, іншыя прадукты. Гэтым займаецца Журавель. Жыве ў настаўніцы-пенсіянеркі Кацярыны Паўлаўны, высокай, касцістай, падобнай да салдата. Яна адпрацавала век у школе, не скончыўшы ні інстытута, ні нават тэхнікума. За плячамі мае толькі паўгадовыя курсы. З доляй павагі глядзіць старая настаўніца на кватаранта. Як жа, кандыдат навук!

Начамі, зачыніўшыся ў бакоўцы, Журавель піша лекцыі. Гэта падвышае яго ў вачах настаўніцы.

Аднойчы ён ідзе ў рэдкі сасновы лясок, размешчаны на ўскраіне пасёлка. Знаходзіць на пясчаным доле, у нізенькай, пакрытай празрыстай расой траве, адзін рыжык, затым другі... Божа, гэта якраз тое, чаго яму не хапала! Дзяцінства, пачатак юнацтва ён правёў, маючы найпершым другам лес. У лесе па-асабліваму дыхаецца, думаецца. Увогуле, чалавек як бы зліваецца там з прыродай, жыве яе жыццём, настройваючыся душой на вечнасць. І ён, Журавель, цяпер нібы вяртаецца ў маладосць. Хто перашкодзіць яму пасля лекцый прыехаць у гэты лясок, павандраваць з кошыкам, адчуць пад нагамі грунт жыцця — зямлю...

Кафедру, на якой пакінулі Жураўля, узначальвае дацэнт Журкевіч. Гэта часова аб’яднаная кафедра літаратуры і мовы. Па падручніку Журкевіча Журавель вучыўся ў школе. Там быў яшчэ адзін аўтар, прозвішча якога знікла з вокладкі пасля вайны.

Журкевіч — стары, вопытны настаўнік, трохі іранічна ставіцца да навукоўцаў, якія апрача суфіксаў і прэфіксаў шукаюць у мове яшчэ нейкія невядомыя глыбіні. Ён высокі, статны, з прыемным інтэлігентным тварам.

Жураўлю калісьці ён паставіў тройку па методыцы выкладання мовы. Потым, калі будучаму аспіранту засвяціў чырвоны дыплом, адзіную тройку давялося выпраўляць. Але зрабіў гэта іншы выкладчык.

Цяпер Журкевіч паважліва ставіцца да Жураўля. Зрабіў яму неблагую стаўку: палавіну акладу старшага выкладчыка і палавіну — дацэнта. Гэта тое, што трэба.

Браў Жураўля ў аспірантуру загадчык кафедры беларускай літаратуры Бобчанка, вядомы крытык, аўтар шматлікіх арты-

кулаў. Цяпер ён у творчым адпачынку: піша доктарскую дысертацыю. А тут, на бульбе, да яго сына — млявага байбака, як дзве кроплі вады падобнага да бацькі,— падбіваецца шустрая, нібы вавёрка, пісьменніцкая дачка. Бацька яе пісьменнік не слынны, але прабіўны. Паспеў напісаць раман пра мірнае аднаўленне жыцця. У тым рамане ўсё як трэба: вёска адбудавалася, стала лепшая, чым была да вайны, нават вуліцы ў ёй заасфальтаваныя. Толькі чамусьці галоўны герой, старшыня калгаса, вырашаць пытанне пра будаўніцтва цагельні едзе аж у Маскву.

Журавель адчувае: рыжая вавёрка зусім не пара ціхмянаму, непаваротліваму хлопцу. Але што ён можа зрабіць? Студэнты — людзі самастойныя. Яны, бывае, на другім курсе жэняцца, на трэцім — разыходзяцца.

Калі гаварыць пра самога Жураўля, то ён не лепшы. На трэцім курсе завочнай вучобы ажаніўся, на першым годзе ўжо стацыянарнай аспірантуры разышоўся.

Са сваёй жаніцьбы вынес Журавель страшэнны недавер да жанчын увогуле. Цяпер вось ужо колькі часу ён разведзены халасцяк. З яго заробку вылічваюць аліменты на сына. Так што кавалер ён не першага гатунку.

Але ён думае пра жанчын. У чымсьці яны загадкавыя, таямнічыя. Ён нарадзіўся, вырас у асяроддзі, якое, можна сказаць, вызначалася незвычайнай цнатлівасцю. Жанчыны выходзілі замуж, нараджалі дзяцей, глядзелі сям'ю, незалежна ад таго, любілі абраннікаў ці не, служылі ім верай і праўдай. За вельмі рэдкім выключэннем. І дзяўчаты паводзілі сябе вельмі сціпла.

Пэўны элемент разлажэння ў яго мястэчку з патрыярхальнымі норавамі ўнесла аўташкола, якая выпускала шафёраў для лясной прамысловасці. Маладым дужым хлопцам патрэбны былі дзяўчаты, і яны лёгка іх знаходзілі. Такія справы найчасцей канчаліся судамі, і будучыя шафёры, яшчэ не атрымаўшы пасведчанняў, атрымлівалі выканаўчыя лісты на прадмет спагнання з іх аліментаў.

Студэнты капаюць бульбу. Рыжая вавёрка ўзмацняе захады, актыўней расстаўляе сеці, каб аблытаць цельпукаватага сына загадчыка кафедры. Вавёрцы па нейкай прычыне неадкладна трэба выскачыць замуж. Здаецца, ёй гэта ўдасца.

## III

Журавель пашырае грыбныя вандроўкі. У лесе ён нечакана натыкаецца на хаціну, размешчаную не так далёка ад поля, дзе студэнты капаюць бульбу. Хаціна ніштаватая, дагледжаная, атуленая агародам і яблыневым садком. Галоўнае: перад сядзібай бруіць крынічка. Там, дзе выбіваецца струмень, нехта паставіў цэментовы круг. Вада ў ім заўсёды пераліваецца цераз край.

Хутка Журавель заўважае каржакаватую старую, якая заўсёды поркаецца ў агародчыку. Але не гэта яго дзівіць. Аказваецца, у хаціне жыве высокая ўвішная дзяўчына, якую ён бачыў некалькі разоў на маленькай станцыі. Гэтая ж дзяўчына іншы раз праносіцца па ўніверсітэцкім двары.

Гэтая акалічнасць настолькі цікавіць Жураўля, што ён распытвае пра лясную сядзібу настаўніцу, у якой кватаруе. І вось што чуе. Лясная гаспадыня, аказваецца, перабралася сюды ў пачатку вайны з Мінска, бо яе дом згарэў. А ў хаціне жыў яе брат, у якога памерла жонка.

Старая настаўніца нават залішне многа ведае пра ўладальніцу ляснай хаціны, бо яны абедзве паходзяць з бліжэйшага гарадка. Толькі Юзэфа Снядэцкая — так завуць лясную гаспадыню — шляхцянка, а настаўніца знатным паходжаннем пахваліцца не можа. Ды і Снядэцкая належыць да збяднелай шляхты. Яе бацька зямлі не меў, працаваў дробным чыноўнікам у гарадской управе. Бацька Снядэцкай рана аўдавеў і, маючы траіх дзяцей, мусіў узяць другую жонку.

Усё гэта было перад рэвалюцыяй. Мачыха знелюбіла Юзэфу, стараючыся як мага хутчэй выжыць яе з хаты. Тым часам каса трапляе на камень. Юзэфа мае характар. Аднак бацька хварэе, а ў гаспадара швейнай майстэрні ў Мінску — далёкага родзіча мачыхі — памірае жонка.

І ўсё ж Юзэфа схібіла. Мела чалавека, салдата з Яраслаўскай губерніі, які так моцна яе кахаў, што быў гатовы ажаніцца з ёй у любы час. Нават адыходзячы на ўсход, перад тым, як немцы авалодалі Мінскам, салдат прасіў нявесту ехаць да яго сям'і ў Яраслаўскую губернію. Юзэфа не паехала і ў хуткім часе выйшла замуж за гаспадара швейнай майстэрні.

Гэта быў пяцідзесяцігадовы мужчына, дзве ягоныя дачкі былі равесніцамі Юзэфы.

Ён быў багаты. Меў два дамы, якія здаваў наймальнікам у арэнду, агромністы сад.

На першым часе, калі панаваў НЭП, гаспадара швейнай майстэрні не чапалі. Потым наступілі брутальныя часы.

У мужа Снядэцкай не толькі адабралі швейную майстэрню, але і два ягоныя дамы. Іх перадалі камунгасу, пакінуўшы гаспадару кватэру з трох пакояў. Сад таксама абагулілі, выдзеліўшы былому гаспадару некалькі яблынь.

Вядома, Кацярына Паўлаўна расказала гэтую гісторыю Жураўлю не адразу. Проста ён часта распытваў яе пра гаспадыню лясной сядзібы, і яна пакрысе расказвала, як некалі сябравала з Юзэфай, як разам бегалі па фальварках, шляхецкіх засценках, абы толькі чулі, што там ладзяцца ігрышчы. Гэта быў побыт, зусім невядомы Жураўлю. У яго мястэчку шляхты не было.

Працуючы карэспандэнтам абласной газеты, Журавель завітаў у дзве шляхецкія вёскі, размешчаныя ў лясной глушы. Але нічога асаблівага там не ўбачыў, акрамя ўсеагульнай нэндзы, уласцівай і беларускай вёсцы. Хаткі, збудаваныя на жывую нітку, хоць паселішчы размяшчаліся сярод сасновых бароў. Бензапілы хутка далі рады тым пушчам.

Журавель у час вайны Польшчу прайшоў. Паўночную, каля Сувалак, якая межавала з Усходняй Прусіяй, і паўднёвую, каля горада Сандаміра, а пазней і Пястаўскія землі, Шлёнск, якія ў палякаў адабралі немцы.

Асабліва беднай, проста жудасна абдзёртай акупантамі была паўночная Польшча. Мізэрныя хаткі нават драўлянай падлогі не мелі — гліняную.

Дзякуючы сваёй звычайнай цікаўнасці, ён запомніў літары і гукі, якіх не было ў беларускай і рускай мовах, і вельмі хутка стаў чытаць па-польску. Праходзячы па польскіх вёсках, па вуліцах аблупленых, абшарпаных аднапавярховых гарадкоў, ён ніякага асаблівага паляцкага гонару не бачыў. Усюды жылі спакутаваныя, бедныя людзі. Ён лёгка знаходзіў з імі агульную мову. І вясковы побыт чымсьці нагадваў беларускі. Драўляныя хаты, ігрушы-дзічкі на агародах, старыя, пахіленыя парканы.

Ён кожны дзень кіруе да крыніцы піць ваду, але маладой дзяўчыны, якая мільгала ва ўніверсітэцкім двары, у калідорах, так і не сустракае.

За крыніцай сотня ці дзве чыгуначнікаў пабудавалі дачы. Хто якую — ад маленькіх будачак да прыкметных асабнякоў з верандамі. Па грашах і прыбытках кожнага. Хутка чыгуначнікі абцягнулі свой зялёны востраў драцяной агароджай. Бо ўжо буялі сады, пасаджаныя раней, чым узніклі катэджы і будкі. Дзіўна: чаму чыгуначнікі першыя з гарадскіх жыхароў выбіраліся за горад на дачы?

## IV

Перад вайной вырасла пакаленне юнакоў і дзяўчат, якое, можа, нават залішне чуйна ставілася да савецкіх лозунгаў, заклікаў, увабрала іх у душу, кіравалася імі ў жыцці. Гэта было рамантычнае пакаленне з высокімі думкамі і парываннямі. Вядома, да яго належалі далёка не ўсе людзі, што дыхалі савецкім паветрам. Гэта была яўная меншасць. Але з гэтай меншасці вербаваліся першыя лётчыкі, парашутысты, танкісты, людзі, якія ехалі ў Іспанію змагацца супраць генерала Франка.

Журавель па ўзросце не трапіў у наступальныя шэрагі камсамольцаў трыццатых гадоў. Але ён бачыў справы гэтых камсамольцаў: як яны ладзілі розныя відовішчы на рэвалюцыйныя святы, выжывалі з царквы папа, ездзілі па вёсках агітаваць за новыя калгасныя парадкі.

Журавель не любіў выступаць, выстаўляцца, хоць у школе ад першага да апошняга класа быў старастам. Ён добра вучыўся, і гэтая акалічнасць сама ўзносіла яго на нейкую вышыню.

Ён, вядома, не мог не заўважыць, што большасць камсамольскіх актывістаў, якія гарлапанілі на клубнай сцэне, на плошчах, падрастаючы, стараліся як мага хутчэй выслізнуць з мястэчка. Тады яшчэ не было дзесяцігодкі, і яны пасля школы першай ступені падаваліся на рабфакі, розныя курсы або проста ішлі на фабрыкі і заводы.

Сярод іх, камсамольцаў трыццатых гадоў, было нямала верхаглядаў, пустазвонаў, а таксама людзей, што актыўна прылучыліся да падзей трыццаць сёмага года.

Ваюючы на Ленінградскім фронце, Журавель меў над сабой начальніка, капітана, які рабіў мноства памылак у кожным сказе і не мог талкова скласці разведзводку. Хоць пыхі, фанабэрыі меў аж залішне.

Ездзячы па справах рэдакцыі па вобласці, Журавель прыйшоў да сумнай высновы: ніхто з раённых кіраўнікоў не мог самастойна напісаць у газету артыкул або звычайную заметку. Яны наадрэз адмаўляліся. Калі ж пасля доўгіх угавораў згаджаліся, то ў выніку атрымлівалася звычайная павярхоўная балбатня. Карэспандэнту даводзілася пісаць матэрыял самому, «аўтары» атрымлівалі толькі ганарар.

Зрэшты, сярод тых, хто не ўмеў пісаць, былі талковыя людзі, бліскуча выступалі на сходах, за што атрымлівалі ўсеагульныя воплескі. Але разумна, акуратна выкласці свае думкі на паперы не ўмелі.

Немцы, рыхтуючы агрэсію супраць Савецкага Саюза, відаць, разлічвалі, што выхаваныя на мітынгах савецкія ваенныя кадры не дорага каштуюць. Яны рабілі тут відавочную памылку. Дзяржава рабочых і сялян пры ўсёй партыйнай дагматычнасці, схаластыцы вярхоў у пэўнай меры была ўсё-такі народнай дзяржавай.

Прыехаўшы ў Мінск у канцы цёплага яшчэ верасня, Журавель сустрэў паблізу інтэрната на вуліцы Свярдлова, дзе жыў, трох дзяўчат. Яны ішлі ў рад, гучна смяяліся, і сярод іх была тая даўганогая, з якой ён хацеў пазнаёміцца ў пасёлку, калі студэнты капалі бульбу. Кампанія здалася Жураўлю бесклапотнай, з тых дзяўчат, якія павярхоўна глядзяць на жыццё, бяруць даніну ўцехі з маладосці. Жаданне знаёміцца з даўганогай студэнткай прапала. Яго не зацікавіла нават, на якім факультэце яна вучыцца.

Толькі лёсы людзей, як сказана ў мудрым выслоўі, вырашаюцца на нябёсах.

Недзе на пачатку зімы Журавель трапляе ў купалаўскі тэатр. Ставяць слабую шматслоўную п’есу М. Вірты «Гібель Пампеева».

У першым антракце аспірантка-біялагічка знаёміць Жураўля з дзяўчынай, маці якой жыве на блізкім ад Мінска лясным паўстанку. Дзяўчыну завуць Стася Зімародава. На гэты раз яна не здаецца Жураўлю залішне бесклапотнай.

Наадварот, ён бачыць дзяўчыну кемлівую, раскаваную і, можа быць, залішне эмацыянальную. Яна ўвесь час смяецца. Пры гэтым згінаецца, нібы яе пераламалі. На ёй шарсцяны світар, які робіць дзяўчыну зашырокай у плячах. Пры высокім росце яна здаецца проста магутнай.

У дзяўчат — Стасі і аспіранткі — білеты на галёрку, у Жураўля месца ў партэры. Ён не прапускае і другі антракт і зноў сустракае дзяўчат, прахаджваецца з імі. Аспірантцы гэта яўна не падабаецца і, здаецца, яшчэ болей выцягваецца яе доўгі нос.

Стася трохі няскладная, на калматай галаве няма ніякай прычоскі, проста ў яе кароткія валасы, скручаныя ў завіткі.

Журавель не памятае, што гаварыў Стасі, але памятае, што яна з ім не заўсёды згаджалася. Мела свой погляд на рэчы. Гэта яму спадабалася. Яе нельга назваць прыгожай. Але калі смяецца, на твары паяўляецца адценне, якое вабіць Жураўля.

Ён не тоіцца, у той жа вечар расказвае Стасі, што быў жанаты, мае сына, цяпер плоціць аліменты. На Стасю яго прызнанне, здаецца, не робіць ніякага ўражання.

Дні ідуць. Курс, з якім у пазалеташнім годзе Журавель капаў бульбу ў аддаленым сяле, цяпер выпускны. Выкладчык ведае амаль усіх студэнтаў. Заўважае, што разуменне літаратуразнаўчых катэгорый у іх досыць павярхоўнае. Прапануе ўвесці на пятым курсе спецсемінар, які дапаможа студэнтам напісаць дыпломныя работы. Сутнасць семінара такая: выкладчык прызначае кожнаму дыпломніку даклад, які, па-першае, стане як бы часткай яго дыпломнай работы; па-другое, будзе ўяўляць цікавасць для астатніх студэнтаў. Напрыклад, даклады пра сюжэт, кампазіцыю, мастацкую дэталь, рытм, інтанацыю.

Кафедра ўхваляе задуму Жураўля. Нават цяперашні яе загадчык моваавед-практык Журкевіч, які мала каго хваліць, выказваецца прыхільна:

— Абстрактных тэарэтыкаў не люблю. Але тут, здаецца, нешта ёсць. Жадаю ўдачы...

А Журавель ведае з уласнага вопыту: пісаць цяжка. Дакладней — размеркаваць матэрыял. Каб была логіка, паслядоўнасць і не было слоўнай пустаты і балбатні. Навучыла работа ў газеце.

Кітуновіч тым часам развітваецца канчаткова з выкладчыцкай дзейнасцю. Цяпер у акадэміі. Там вальней. Не вісіць над галавой штодзённы цяжар лекцый, семінараў, практычных заняткаў.

Яго месца ў пакоі займае Іван Вераціла, аспірант-палітэканом, хлопец жывы, хітры, і, здаецца, не вельмі сумленны.

У адзін з вечароў Іван просіць Жураўля і Бабарэку затрымацца гадзін да дзесяці вечара, бо ў яго інтымная сустрэча. Прыходзяць у дзесяць — пакой зачынены знутры. Хлопцы яшчэ гадзіну блукаюць па зімовай вуліцы. Калі ж у адзінаццаць вяртаюцца да зачыненых дзвярэй, то пачынаюць дубасіць нагамі.

З пакоя, накінуўшы на твар вуальку, выскоквае жанчына, апранутая ў цёмнае фацэтнае паліто. У пакоі, відаць, піравалі. Са стала не прыбраныя рэшткі каўбасы, сыру, шакаладныя цукеркі.

— Каб больш такога не было! — выціскае з сябе Журавель.— Мы, як цюцькі, па халадэчы блудзім, а ён тут рассеўся.

— А хто ты такі, каб камандаваць? — агрызаецца Вераціла.

— Кандыдат навук. Табе яшчэ трэба ім стаць.

— Якая там навука. Сцішкі Купалы ды Коласа.

— Дысертацыю не спісваў з брашур, як ты. Бачыў, якой літаратурай карыстаешся...

Вераціла скеміў, што перабраў меру. Бабарэка хоць маўчыць, але таксама надзьмуты. Нават не глядзіць у бок Верацілы.

— Ладна, хлопцы. Выпіце па шклянцы віна. Мала што бывае...

На гэты заклік хлопцы не адгукаюцца.

— Прыбяры на стале,— працягвае Журавель.— Мы не вячэралі.

Вераціла пахапкам прыбірае і гэтак жа імкліва выскоквае з пакоя. Вераціла жанаты. Дзесьці на раёне сядзіць жонка з дзіцем, а яе нарачоны, не паспеўшы адарвацца ад сям'і, круціць у горадзе раманы. І каб хоць мужчына быў. А то таўстазады недаробак на кароткіх нагах.

Стася Зімародава амаль штодзень наведвае сябровак, якія жывуць у інтэрнаце. І неяк так здараецца, што амаль кожны раз сустракаецца з Жураўлём. Жыве яна ў другім інтэрнаце, размешчаным у самім універсітэцкім гарадку. Журавель праводзіць яе. Яму прыемна, што Стася шукае з ім сустрэч.

Стася дыпломніца. Па ўсіх прыкметах, яе збіраюцца пакінуць у аспірантуры. Яна бойкая і вельмі ўхваляе загадчыка кафедры генетыкі Мурамцава, які праславіўся не толькі на біяфаку, але і ва ўсім універсітэце як паслядоўны, прынцыповы прыхільнік тэорыі і практыкі акадэміка Лысенкі і вораг мендэлістаў-марганістаў.

Праўда, тыя баі адгрымелі даўнавата. Калі Журавель толькі канчаў універсітэт. Апошні час лысенкаўцы як бы трохі прыціхлі. Мурамцаў, аднак, форсу не губляе. Высокі, чорны, знешне падобны да цыгана, ён пастаянна выступае на агульнаўніверсітэцкіх сходах, гаворыць зычна, упэўнена, нярэдка заслугоўвае апладысменты.

## V

Журавель біялогіяй не надта цікавіцца, не мае цягі да лысенкаўскай тэорыі. Можа, таму, што некалькі гадоў паездзіўшы карэспандэнтам, ён наведваў калгасы, саўгасы, вопытныя станцыі, і нідзе аграномы не хваліліся поспехамі, дасягнутымі дзякуючы метаду Лысенкі.

Пра гэта Журавель гаворыць Стасі. Яна не так ужо зацята адстойвае лысенкаўскі метад, але Мурамцава хваліць як асобу выключную.

У душы Жураўля паступова, але няўхільна вырастае падазрэнне. Ён ведае, некаторыя студэнткі захапляюцца таленавітымі выкладчыкамі. Пажылыя выкладчыкі — хоць гэта рэдкасць — дзеля іх кідаюць жонак. Але Мурамцаў, здаецца, не з такіх. Ён кар’ерыст, думае аб чынах, узнагародах, уласным узвышэнні.

У той час, калі Журавель заканчваў універсітэт, Мурамцаў абараніў кандыдацкую дысертацыю. А ўжо загадчык кафедры.

Прыхільнае стаўленне Стасі да Мурамцава яшчэ больш распальвае рэўнасць у Жураўля.

Недзе тут Стася недалікатная, не мае жаночай праніклівасці. Не разумее і — галоўнае — не хоча разумець, чаму Журавель так балюча рэагуе на яе пахвалы Мурамцаву. Бойкасць, рашучасць у яе характары забіваюць усе астатнія якасці. У хвіліны спрэчак яна нават гаварыць спакойна не ўмее — крычыць. Журавель у такія хвіліны, не давёўшы дзяўчыну да інтэрната, спыняецца, ідзе назад. Адумаўшыся, Стася яго даганяе...

Сюжэт з вядомай байкі пра чаплю і жураўля як нельга лепш падыходзіць да яго і Стасі. То журавель ідзе да чаплі, то чапля да яго. Ходзяць, ходзяць і ніяк не могуць сысціся. У чымсьці іх характары сходныя. Такія характары адштурхоўваюцца адзін ад другога. Але ёсць, відаць, штосьці такое, што прыцягвае, яднае сходныя натуры.

А вакол віруе жыццё — цаліна, баявыя песні пра новыя далі. Столькі накапілася за дзесяць пасляваенных гадоў у народзе супярэчнасцей, што проста неабходна разрадка, нават выбух. Як гром, навальніца ў спякотнае лета. І едуць, едуць на цаліну хлопцы, дзяўчаты, пакідаючы абжытыя мясціны, знаёмую работу, некаторыя — нават кватэры. Дзяўчатам трэба замуж выходзіць. Хлопцаў вабіць новае, незнаёмае.

Эшалоны адпраўляюцца пад музыку аркестраў. З кветкамі, прамовамі. Малайчына Мікіта Хрушчоў! Двух зайцоў хоча забіць. Даць моладзі, якая не была на вайне, высакародныя задачы і мэты. І хлеба прыбавіць краіне, якога, відаць, усё-такі не хапае.

## VI

Вяртаецца з творчага адпачынку і ўзначальвае кафедру Сямён Сямёнавіч Бобчанка. Цяпер ужо доктар навук. Дысертацыю абараняў у Кіеве. Ягоны кансультант акадэмік Беладзед нібыта ацаніў работу як выдатную і наогул наватарскую, так што на вучоным савеце яна прайшла без сучка і задзірынкі.

Бобчанка ззяе ад шчасця. Яго шырокі, са шматлікімі бародаўкамі твар, вялікая, як у мядзведзя, галава, пакрытая

непакорнай чупрынай чорных з завіткамі валасоў, наогул, уся яго мажная, раздабрэлая фігура сведчаць аб сіле і ўпэўненасці. Адразу пасля вайны яму, кандыдату навук, прысвоілі званне прафесара, і гэты высокі тытул стаяў пад шматлікімі артыкуламі Бобчанкі ў газетах і часопісах. Але чамусьці з кандыдатаў навук (а былі нават і не кандыдаты) прафесарскія званні знялі, відаць, маючы на мэце прымусіць іх пацвердзіць навуковую годнасць доктарскімі дысертацыямі.

Цяпер Сямён Сямёнавіч зноў стане прафесарам, і гэтае званне з яго ўжо ніхто ніколі не здыме. Чаму ж не радавацца, не ганарыцца сабой пасля такой выдатнай падзеі!..

Журавель не слухаў лекцый Бобчанкі. Але студэнты яго не хваляць. Чытае лекцыі нудна, нецікава, жуе аднастайную жуйку. Яшчэ дакаралі Бобчанку за незвычайную сквапнасць. Іван Васільевіч на ўласныя вочы бачыў ягонага пляменніка, высокага, дрэнна апранутага хлапчыну ў цесным пінжачку і залішне кароткіх штанах. Гаварылі, што дзядзька не дае пляменніку ні капейкі.

Зрэшты, размовы размовамі, а па характары доктар філалагічных навук Бобчанка чалавек неблагі. Нікому не перашкаджае жыць. Разважлівы, памяркоўны. Ні на кога не павысіць голас, не адштурхне, не зняважыць.

За два гады, калі кафедрай па сумяшчальніцтве загадваў дацэнт Журкевіч, на ёй прыкметна паболела супрацоўнікаў. Акрамя Жураўля на яе залічылі жвавага аспіранта Ласіцу, які не толькі артыкулы піша, але і сяды-тады друкуе вершы. І яшчэ заявіўся на кафедру апантаны шукальнік літаратурных фактаў далёкага і не надта далёкага мінулага. Чорны, як грак, Шымановіч належыць да ліку абеларушаных татараў, што служылі некалі літоўскім князям.

Шымановіча завуць Мустафа, але па пашпарце ён Сцяпан Ібрагімавіч. Мустафа корпаецца ў архівах, друкуючы штомесяц у розных выданнях безліч заметак і артыкулаў. Так сказаць, нарошчвае мяса на рэбрах-схемах беларускай літаратуры. Бо пра беларускіх пісьменнікаў, іх жыццё, творчасць вельмі мала вядома.

Тры кандыдаты навук, якія пішуць і імёны якіх становяцца вядомымі грамадскасці рэспублікі,— справа неардынарная. Бо ёсць кафедры, дзе ніводзін чалавек не ўмее пісаць.

Выкладчыкаў беларускай літаратуры патрохі пачынаюць пахвальваць. Дзякуючы гэтаму і Бобчанка як загадчык кафедры пачынае ўзвышацца. Праўда, пасяджэнні кафедры Бобчанка праводзіць доўга і нудна. Спачатку выслухоўвае паведамленні, меркаванні выкладчыкаў. Затым падагульвае іх, пераказваючы тое, што ўжо ўсе чулі і ведаюць. Уласных думак у Бобчанкі няма. Жураўлю здаецца: проста не хоча Бобчанка выдаткоўвацца, напружвацца.

У беларускую літаратуру наўрад ці ідзе лепшая частка моладзі, якую выпускаюць сярэднія школы. Сам Журавель заканчваў рускае аддзяленне. Затое беларускае аддзяленне філфака — багатае на паэтычна адораных юнакоў і дзяўчат.

Журавель адчувае, што маладым літаратарам патрэбна агульная культура. Ва ўніверсітэце яе можна атрымаць, прылучыцца да яе. Неабходна пазнаёміцца як мага бліжэй са здабыткамі сусветнай, а не толькі беларускай літаратуры. Трэба чытаць і чытаць. Тым болей, што большасць здольнай моладзі з вёскі. Некаторых значных твораў сённяшнія студэнты не толькі не чыталі, нават не чулі пра іх.

Аднак надрукаваўшы па вершу-другому ў газеце ці часопісе, паэты-пачаткоўцы пачынаюць гойсаць па рэдакцыях. У бібліятэку іх на вяроўцы не зацягнеш. Нават беларускіх кніг, патрэбных па праграме, некаторыя не чытаюць. І канспектаў не вядуць. Перахопліваюць іх у дзяўчат, якія больш старанныя.

Адчуўшы подых свабоды, Журавель часцей заходзіць у бібліятэку. Цяпер там можна ўзяць тое, чаго раней не выдавалі. Праўда, яму як аспіранту дазвалялі чытаць часопісы дваццатых, трыццатых гадоў. Але літаратура багацейшая за часопісы.

Журавель, напрыклад, сумаваў, што ў школьныя гады не паспеў прачытаць «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага. Кніга была заўсёды на руках, тым часам пісьменніка арыштавалі. Цяпер ён чытае тую забароненую кнігу. Яна ў не вельмі кідкіх вокладках, надрукавана на трохі пажоўклай ад часу шурпатай паперы.

Журавель чытае і дзівіцца: ніякай контррэвалюцыі ў кнізе няма. Яна нават залішне рэвалюцыйная, уся наскрозь скіравана супраць буржуазна-памешчыцкага ладу, розных буржуазных

партый. За што тады арыштавалі Цішку Гартнага, у выніку чаго ён бясследна знік?

Іншая справа: Журавель чытае «Сокі цаліны» без захаплення, пераадольваючы час ад часу нудоту, прыкрае пачуццё незадаволенасці. Кніга напісана сумна, залішне натуралістычна. А як хвалілі «Сокі цаліны» школьныя таварышы Жураўля, асабліва старшакласнікі, якім собіла атрымаць яе ў бібліятэцы!

Жыццё, значыць, пайшло наперад, змяніліся, выраслі, узбагаціліся густы чытачоў. Можа б, і Цішка Гартны патрапіў ісці ў нагу з жыццём, каб яго насільна не вырвалі з літаратуры.

Тое самае можа сказаць Журавель і ў дачыненні да многіх іншых пісьменнікаў, кнігі якіх пачынаюць выдаваць у бібліятэцы. За што тады пакаралі гэтых безумоўна здольных людзей, прытым пераважна маладога веку, талент якіх якраз быў на творчым узлёце? Вядома, і без іх літаратура развівалася, адольвала новыя мастацкія рубяжы і вяршыні. Але яна была б намнога багацейшай, шырэйшай, глыбейшай, каб з яе не выкраслілі столькі талентаў. Каму гэта было патрэбна? Дзе ва ўсім гэтым логіка? Адказаць на падобныя пытанні Журавель пакуль не можа.

Жыццё выкладчыка нялёгкае. Журавель вядзе самы буйны курс савецкай літаратуры на філфаку і ў журналістаў два семінары, спецкурс па творчасці Якуба Коласа. Гэта гадзін дванаццаць-чатырнаццаць на тыдзень. Ды яшчэ кіруе курсавымі, дыпломнымі работамі.

Скончыш лекцыю з уздыхам задавальнення, асабліва калі яна больш-менш удалася. Але радасць цягнецца нядоўга, бо заўтра новая лекцыя ці нават дзве. Ланцугі скінеш з ног хіба ў кароткія тыдні экзаменацыйнай сесіі ды яшчэ ў час летніх канікулаў. Але і на канікулах няма поўнай свабоды. Бо прыязджаюць завочнікі, ім таксама трэба чытаць лекцыі, кансультаваць па дыпломных работах.

У аўдыторыю да студэнтаў не прыйдзеш з пустой душой. Журавель — прамоўца слабы, прырода абдзяліла яго дарам красамоўства. Тым часам лекцыі яго слухаюць, і слухаюць — варта прызнаць — няблага. Можа, таму, што ён

мае вынашаныя думкі і дзеліцца імі са студэнтамі. І ўвогуле досыць старанна рыхтуецца да лекцый. Калі Журавель прачуе, што паявілася новая кніга ці хоць артыкул, які яму цікавы, абавязкова прачытае. Ён чытае ўвесь час, вечары і вольныя дзённыя гадзіны, і можна сказаць, што ягонае жыццё і ёсць чытанне.

## VII

Вечарамі, асабліва ў выхадныя дні, шуміць-гамоніць вестыбюль інтэрната па вуліцы Свярдлова. З дынаміка плыве музыка, нібы ў сонным трызненні, самазабыцці, калышацца шчыльны натоўп хлопцаў і дзяўчат.

Журавель працягвае сустракацца са Стасяй. Па-ранейшаму яны спрачаюцца, і калі капнуць глыбей, то вінаваты ў гэтых спрэчках найбольш Журавель. Можа быць, па той прычыне, што апёкся на першай жаніцьбе. На дзяўчат, увогуле на жанчын ён глядзіць залішне патрабавальна.

Яму трыццаць гадоў, быў жанаты, а хоча, каб дзяўчына была гады на два-тры за яго маладзейшая і чыстая, як ліст паперы. А так рэдка бывае. Дзяўчаты пачынаюць знацца з хлопцамі гадоў з шаснаццаці, з апошніх школьных класаў. Колькі бывае ў іх знаёмстваў, захапленняў і расчараванняў, скажам, да дваццаці пяці гадоў. Да здрады былой жонкі Журавель не распытваў дзяўчат, да каго мелі сімпатыі, каго любілі. Калі што было, то было да яго, і яму да гэтага няма ніякай справы.

Тым часам жыццё навучыла. Цяпер ён думае інакш. Калі дзяўчына хадзіла па руках, не мела ідэала, то, выйшаўшы замуж, засумуе па ранейшым вясёлым занятку і будзе яго працягваць.

Стася — дзяўчына сур’ёзная. Дзесяць разоў магла б кінуць вадзіцца з Жураўлём, аднак не кідае. Значыць, ён ёй падабаецца.

У душы, аднак, жыве сумненне. Стася цягнецца да выбітных, яркіх людзей. Нездарма гэтак абараняе Мурамцава, яўна напорыстага кар’ерыста, які нават асабліва не ўтойвае свае імкненні. Увогуле большасць жанчын — так здаецца Жураўлю — цягнецца да моцных, рашучых мужчын. Можа, гэта інстынкт самазахавання.

Дваццаты век, аднак, змяняе акцэнты. Бледны, худы, фізічна не надта развіты мазгавічок часта дасягае поспехаў большых, чым ружовашчокі здаравіла. Бо ўмее думаць, схоплівае на хаду ідэі, якія толькі пачынаюць насіцца ў паветры.

Скончыўся першы год выкладання. Шмат чаго спасціг за гэты час Журавель. У язычніцкіх народаў, здаецца, быў звычай: каб навучыць плаваць, падлетка кідалі ў раку. Вось і яго, Жураўля, жыццё кінула ў імклівую плынь ракі. Ён здолеў не толькі не патануць, утрымацца на хвалях, але авалодаў уменнем плыўца.

У пачатку лета мясцкам выдзеліў маладому выкладчыку, які няблага сябе паказаў, пуцёўку ў дом адпачынку. Але Жураўлю няма як ехаць: ладная частка нагрузкі прыпадае на сесію завочнікаў, якім ён мусіць чытаць лекцыі па восем і нават па дзесяць гадзін у дзень.

Пры такой шчыльнасці лекцый абавязкова мець напісаныя тэксты. Значыць, зноў дыбай у бібліятэку, садзіся, пішы.

Пуцёўку Журавель аддае Стасі. Яна ахвотна бярэ.

Ён крукам сядзіць у бібліятэцы. За тыдзень з лішнім нечага дамагаецца. Цяпер можна спакойна думаць пра сесію завочнікаў.

Нечага, аднак, Івану Васільевічу не хапае. Самотна на душы. Адчувае сябе адзінокім, пакінутым. Нарэшце праразаецца думка: сумуе па Стасі. Сварыліся, мірыліся, і за год такіх вось невясёлых сустрэч, спатканняў ён прыкіпеў да дзяўчыны душой.

Журавель купляе білет на электрычку. Канчаецца пуцёўка, якую ён аддаў Стасі. Нічога з сабой не зробіш. Калі Стася падабаецца, то так проста пераступіць праз свае пачуцці ён не можа.

Дом адпачынку размешчаны каля штучнага возера — яго называюць нават Мінскім морам.

Прыгожа тут. Сасновы лес. Два акуратныя карпусы, лаўкі, дарожкі.

Стасі нідзе няма. Затое, пагаварыўшы з тубыльцамі дома адпачынку, Іван Васільевіч чуе нешта неверагоднае. За дванаццаць дзён, праведзеных тут, Стася вывучыла ролю гераіні аднаактоўкі Антона Чэхава «Мядзведзь», сыграла яе на самадзейнай сцэне і нават прэмію атрымала. Яшчэ

даведваецца Журавель, што дзяўчына зблізілася з вядомым драматургам Анатолем Сіберным, пахаджвала з ім, а цяпер, магчыма, яны ўдваіх паехалі ў Мінск.

Назаўтра ён спатыкаецца са Стасяй. Не даўшы сказаць ёй слова, кідае ганебныя, абразлівыя папрокі, паварочваецца, ідзе прэч...

Апанаваны рэўнасцю, Журавель нібы святкуе перамогу. Не, па ім цяпер верціхвосткі болей не паедуць...

З такім настроем Журавель чытае лекцыі завочнікам. Стараецца пра Стасю не думаць.

Перад пачаткам навучальнага года даведваецца: Стася з горада знікла. Кінула аспірантуру, паехала працаваць настаўніцай. Куды, у якую школу, ніхто не ведае...

Вельмі хутка Журавель прыходзіць да думкі, што страшэнна пакрыўдзіў, нават абразіў дзяўчыну. За год спрэчак, сварак ён непрыкметна для сябе пакахаў яе і цяпер не можа ўявіць без яе сваё жыццё. Бывае, аказваецца, і такое каханне...

Ён не знаходзіць сабе месца. Распытвае ўсіх, хто можа што-небудзь пра Стасю ведаць. Знаходзіць нават дзяўчат, з якімі некалі яна зналася. Але тыя здзіўлены не менш, чым ён. Стася нічога нікому не сказала. І наогул яе ўчынак ніяк нельга растлумачыць. Кінулася наўцёкі, нібы ў вір галавой.

Ужо восень. Журавель раз за разам ездзіць на паўстанак, дзе капаў са студэнтамі бульбу. Стаяць у маўклівай задуменнасці бярозавыя пералескі. Іх жоўтым лісцем шчыльна ўсланы дол. Рыжык, сыраежку, нават абабак ці падасінавік можна знайсці ў траве, сярод апалага лісця. Але грыбы цяпер не цікавяць Жураўля. Увесь час ён думае пра Стасю.

Старая жанчына, Стасіна маці, як і раней, корпаецца ў агародзе. Стасі не відаць. Яна не паяўляецца нават па выхадных днях. Нават на кастрычніцкія святы не прыехала.

Ужо зазімкам Журавель адважваецца, заходзіць у хату да Стасінай маці. Да Стасі яна не падобная. Прыземістая, з даўгаватым, жорсткім тварам, сівымі валасамі, якія выбіваюцца з-пад хусткі. Багацце ў хаце, падзеленай на катушкі-каморкі, невялікае. Старая, нязграбная мэбля, даматканыя дарожкі на непафарбаванай падлозе.

Журавель прадстаўляецца знаёмым Стасі, просіць даць яе адрас.

Старая жанчына ўважліва аглядае яго з галавы да ног.

— Калі вы добра знаёмыя, то чаму яна сама не дала адрас? Не, я ў вашы справы мяшацца не буду. А то яшчэ завінавачуся...

Дапамагае Жураўлю старая настаўніца, у якой ён кватараваў. Ён, вядома, не мінуў яе хаты, і яна шчыра ўзрадавалася. Відаць, неяк уведала Кацярына Паўлаўна, чаму Журавель часта паяўляецца ў пасёлку, блукае па пералесках.

Як бы паміж іншым гаворыць:

— Дачка Снядэцкай у школе робіць. Не так далёка адсюль. За Маладзечнам...

Яна поркаецца ў шуфлядзе стала, дастае адтуль паперку.

— Калі хочаце напісаць ёй, вазьміце адрас. Дзяўчына яна харошая, працавітая. Як у школе вучылася, усё карову пасвіла. У нас асаблівай пашы няма. Прыгоніць карову на мяжу, сочыць, каб у шкоду не ўлезла, а сама ў кніжку глядзіць. Маці памагала, і сама вучылася вельмі добра...

Назад, у Мінск, Журавель вяртаецца павесялелы. Заўтра ці паслязаўтра ён паедзе да Стасі. Толькі якія словы знайсці, каб яна адтала душой, даравала яму, захацела з ім гаварыць. Калі яна яго адштурхне, то ён проста не ведае, што будзе рабіць.

*1999*

# 2000

## АЛЁШКА НА НЕБЕ

Поле Алёшкава далёка, на другім канцы мястэчка. Там высокі пясчаны пагорак, на якім асабліва нічога не расце.

Але на пагорку стаіць драўляны маяк. Ён, як здаецца Алёшку, уздымаецца да самых аблокаў. Алёшка лічыць: калі падняцца на самую высокую пляцоўку маяка, з зямлі нябачную, ды прыхапіць з сабой качаргу, то і неба можна памацаць. А калі ў небе ёсць дзірка, то і залезці на неба.

Праўда, пра гэта пакуль што можна толькі марыць. Бо лесвіца на маяку ёсць толькі з другога яруса. З зямлі яе няма. А як узабрацца па круглым гладкім бярвенні на другі ярус?

Маці жне жыта, складае снапы ў мэндлік. Алёшка тым часам калыша Сяргея, калі той прачнецца. Яго калыска падвешана на таганах і ахінута, каб не пякло сонца, посцілкай. Яшчэ Алёшка назірае за Васілём, які бруидае па полі, ловіць матылёў і крычыць, калі напаткае яшчарку.

Алёшка яшчарак не баіцца. Яны бяскрыўдныя. Можна наступіць на хвост, тады яшчарка яго адкідае, а сама стрымгалоў уцякае.

Мала цікавага на пясчаным полі каля маяка. Толькі матылі, яшчаркі ды коцікі — кветкі з пушыстымі галоўкамі.

Алёшка вандруе па ржышчы і марыць пра тое, што калі-небудзь ён узбярэцца на маяк і паглядзіць, якое зблізку неба. Час у яго яшчэ ёсць. У школу Алёшка пойдзе толькі на будучы год.

...І вось трапіў Алёшка на неба. Нейкім цудадзейным чынам далез да другога яруса, а там па лесвіцы дабраўся да самага верху. І дзірка якраз ёсць у небе. Алёшка смела сігануў у гэту дзірку. На небе вельмі прыгожа. Дол, як і зямля, парос травою і засыпаны жоўтым пясочкам. Нават розныя мушкі, матылькі, пчолы ёсць на небе. Яны поўзаюць, лятаюць, зумкаюць, і ад гэтага весялей на душы.

Нарэшце Алёшка заўважыў сівога дзядка каля брамы. Ён здагадаўся: гэта святы Пётра, які пускае чалавечыя душы ў рай або ў пекла. Так расказваў Алёшку дзед Піліп, які ведае шмат царкоўных гісторый.

— Як ты сюды трапіў? — спытаў святы Пётра.

— Праз дзірку над маяком.

— Навошта ты на неба залез?

— Хачу паглядзець, як тут. Мне дзед Піліп пра неба шмат расказваў.

Святы Пётра адчыніў браму, схадзіў у сад і вынес Алёшку вялікі яблык.

— Злазь на зямлю. Няма табе чаго рабіць тут. Не грашы толькі на зямлі.

— Я аднойчы прынёс дамоў гняздо са шчыгламі. Яны не хацелі есці мушак. Я аднёс гняздо назад. Але старыя шчыглы ад дзяцей адмовіліся.

— Не рабі болей так.

— Я Васіля два разы біў. Ён усюды нос совае.

— Нельга крыўдзіць брата.

— Яшчэ я разбіў талерку. А маці сказаў, што гэта зрабіў кот.

— Ніколі не трэба хлусіць...

Тут Алёшка прачнуўся. І вельмі шкадаваў, што гэта толькі сон. Бо так хораша, ціха было на небе. А які яблык даў яму святы Пётра! Алёшка, лазячы па садах, ніколі такіх вялікіх яблыкаў не бачыў.

*2000*

# ЗЯЛЁНАЯ КРЭПАСЦЬ

Гэты двор нагадвае зялёны востраў. Сярод дрэў прытулілася нізенькая хатка з маленькімі, на чатыры шыбкі, акенцамі. Дрэвы ў двары самыя розныя: бяроза, арабіна, ліпа, бліжэй да паркана, закрываючы хатку ад вулічнага пылу, расце раскідзістая чаромха.

Кожнае вясны, калі чаромха расцвітае, яе прыемны, тонкі пах запаўняе ўсё наваколле. Гаспадар звычайна абсякае ніжнія галіны дрэва, выкідваючы іх за паркан. Кожны з блізкіх ці дальніх суседзяў можа набраць чаромхі і паставіць букет ва ўласнай хаце.

У хатцы жывуць Самусікі, так завуць гэтую пажылую пару, якая дрэвамі, высокім парканам нібы адгарадзілася ад свету, адстойваючы сваю аўтаномнасць і незалежнасць. Сам Самусік, высокі, безбароды, у белых палатняных штанах і такой жа сарочцы, чымсьці нагадвае бусла. Па характары ён рахманы і ціхі, бо ніхто ніколі не чуў, каб ён на каго-небудзь крычаў або сварыўся. Калі Самусік смяецца, то гэты ягоны трохі перарывісты смех нагадвае бусліны клёкат. Малая ростам, зусім непрыкметная Самусікава кабета яшчэ цішэйшая.

У Самусікаў няма дзяцей. Няма ў іхняй гаспадарцы і каровы. Магчыма, яны трымаюць парсючка, але на двор не выпускаюць. Двор жа зарос густой муравой, па якой, шукаючы спажывы, ходзяць толькі дзікія птушкі.

Самусікі жывуць з вялікага агарода і саду, які прылягае да самай хаты. На першы погляд яны здаюцца адшчапенцамі. Бо ніколі не купляюць хлеба ў крамах, не стаяць у чэргах па мануфактуру. Ад навакольнага свету ім нічога не трэба, акрамя двух-трох літраў газы ў год, трохі солі і дзясятка карабкоў запалак.

Тым часам Самусікі зусім не адшчапенцы. Каля іхняга двара ёсць лавачка, на якой летнімі вечарамі сядзяць гаспадары побач з суседзямі, расказваюць і слухаюць розныя гісторыі і былі. Акрамя таго ў Самусікаў ёсць лазенька — адна на ўвесь доўгі канец вуліцы. Па суботах яны топяць яе. У лазеньцы можа памыцца кожны, хто толькі пажадае.

З некаторага часу ў Самусікаў з’явіўся сусед па прозвішчы Чорны. Палавіна мястэчка носіць такое прозвішча. Але гэты не мясцовы, прыбіўся аднекуль, прыстаўшы ў прымы да маладой яшчэ жанчыны.

Чорны — службовец. Кожнай раніцы ён праходзіць з туга напакаваным партфелем паўз сядзібу Самусікаў, кідаючы на яе непрыязны, можна сказаць, нават варожы позірк.

— Кулачугі! — гаворыць ён, напаткаўшы знаёмага і паказваючы на Самусікаў зялёны двор.

Кулакамі ў гэтым двары і не пахне. Яго гаспадары нават хлеба не маюць: абмяжоўваюцца скавароднікамі...

Так і павісае ў паветры абвінавачванне Чорнага ў адрас сапраўды чымсьці незвычайнай сям’і. Тым часам той не можа раўнадушна глядзець на Самусікаў, якія жывуць гэтак незалежна, не падобна на іншых. Такая пануе грамадская атмасфера — завісніцтва, паклёпаў і абвінавачванняў.

Пачалася вайна. Чорнага чамусьці ў армію не мабілізавалі. З тоўстым партфелем ён па-ранейшаму выдыбвае міма сядзібы Самусікаў.

Аднае ночы Самусікаў не стала. Іх пасадзілі ў «чорны воран», затым у цягнік і вывезлі ў невядомым напрамку.

Увесь канец вуліцы вінаватым лічыў Чорнага, які ў хуткім часе з мястэчка знік. Ці ён гэта на самай справе напісаў пра ціхмяных, бяскрыўдных старых, засталося невядомым.

Два з лішнім гады хатка пуставала. А калі пасля вайны гаспадары так і не вярнуліся, у далёкай, спаленай немцамі вёсцы адшукалася радня Самусікаў, якая перабралася ў старую пахілую хатку.

*2000*

## ПАДАРУНАК

Вася вельмі сябраваў з катом, якога ўсе ў доме звалі Мікітам. Чаму Мікітам? Можа, з тае прычыны, што кацянём Мікіта не мяўкаў, як усе каты, а неяк тоненька і жаласна цягнуў: «Міў-міў...»

Вася спаў на печы, а кот заўсёды пры ім, збоку. Ён у сне ціхенька мармытаў, часам уздрыгваў. Тады на ім, асабліва на хрыбціне, уздымалася поўсць, і з мяккіх лапак, на якіх Мікіта нячутна хадзіў па хаце, высоўваліся вострыя кіпці. Васю ў такія моманты здавалася, што кату сняцца мышы.

Мікіта вырас. Белы, з ледзь прыкметнымі чорнымі плямінамі, ён стаў вялікім прыгожым катом.

Мікіта быў сумленны кот. Ён не чакаў, калі зварыцца снеданне, нальюць яму ў чарапок малака, кінуць кавалак блінца. Ноччу ён спаў з Васем, а днём ішоў на раздабыткі.

Мышы па хаце не шасталі. Яны, відаць, адчувалі, што ў хаце ёсць кот, і нават духу яго баяліся.

Мікіта меў шырокія абсягі дзейнасці. Ён хадзіў на поле, на балота, нават у бліжэйшым ляску яго бачылі. Відаць, ва ўсіх гэтых мясцінах ён знаходзіў сабе спажыву.

Не заўсёды Вася ладзіў з Мікітам. Зайшоўшы аднойчы ў хлеў, кот убачыў у падстрэшшы два ластаўчыны гняздзечкі. Ён зацікавіўся птушкамі. Але з зямлі дастаць іх не мог. Тады пачаў узбірацца на хлеў. Хадзіў па самым версе, прынюхваўся, у якім месцы знаходзяцца гняздзечкі. Нават салому пачаў разграбаць лапамі.

Вася своечасова разгадаў хітрыя намеры ката. У тым месцы, дзе віселі на вільчыку ластаўчыны гнёзды, ён паклаў зверху хлява дошкі. Цяпер Мікіта мог дашчэнту садраць свае вострыя кіпці, але ластавянят ён не дастаў бы.

Вася любіў малых жывёл, птушак і ніколі не даваў іх у крыўду. Адно лета ён трымаў зайца, на другое лета ў яго жылі сава і вожык. Сава днём сядзела на жэрдцы. Вожык аблюбаваў сабе месца пад ложкам.

Мікіта іх баяўся.

Ноччу сава і вожык пачыналі варушыцца. Вандруючы па падлозе, вожык рабіў столькі шуму, нібы тупаў па хаце хтосьці абуты ў цяжкія боты. Сава торкалася ў цёмныя куткі, лапатала крыллем і таксама не давала сям’і спаць.

Па гэтай прычыне Вася іх выселіў.

Мікіта як быццам узрадаваўся. Ён зноў адчуў сябе адзіным гаспадаром у хаце.

Аднойчы Вася прачнуўся, адчуваючы на шчацэ штосьці халоднае. Расплюшчыў вочы і ўбачыў ката, які носам торкаўся

яму ў шчаку. Побач ляжала мыш — падарунак, які Мікіта прынёс Васю. Так сказаць, за добрыя да яго адносіны.

Вася з грэблівасцю адкінуў мыш. Тады кот падняў яе і яшчэ раз паклаў на падушку. Ён, відаць, ніяк не мог зразумець, чаму Вася не накідваецца на ласунак.

Вася яшчэ два разы адкідваў мыш.

Мікіта нарэшце зразумеў, што яго падарунак Васю не падабаецца. Гопнуў з мышшу ў зубах з печы і схаваўся, каб паласавацца сваёй здабычай.

Кот не пакрыўдзіўся, і дружба працягвалася.

*2000*

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СВАБОДЫ

### I

Восень позняя, лістападаўская. Але на дзіва цёплыя, сонечныя не канчаюцца дні. На ўсходняй ускраіне лясной, прывабнай з выгляду вёскі стаіць, нібы ў ганаровай варце, чарада высокіх дубоў. Іх вершаліны ў асенняй пазалоце.

За вёскай, за лесам садзіцца сонца, і шапкі дубоў нібы гараць агнём. Барвовая чырвань засцілае ўвесь заходні абсяг неба.

З вышыні даносіцца раўнамернае гудзенне. Самалётаў многа, але ў шараватым вячэрнім небе іх не ўбачыш. Па гулу чуваць: ляцяць савецкія самалёты і кіруюць на захад. Значыць, бамбіць немцаў.

Грудзі маладога партызана Сашы Мялешкі распірае радасць. Калі такое было? У сорак першым годзе ў небе гаспадарылі немцы. Савецкія самалёты нават не паказваліся. І танкі генерала Гудэрыяна перлі на ўсход, не зважаючы, што пакідаюць у тыле незахопленыя гарады, гарнізоны, дывізіі.

Больш як два гады мінула з таго часу. І вось нашы зноў на Дняпры. Адтуль выразна даносяцца выбухі. Артылерыйская кананада не спыняецца ні днём, ні ноччу.

Пасля правалу наступлення пад Курскам местачковыя немцы падтулілі хвасты. Калі ж Чырвоная Армія дасягнула

Дняпра, паліцаяў і розных бургамістраў як мятлой змяло — дружна драпанулі на Захад.

Тым часам настаўніца нямецкай мовы Паліна Сяргееўна, якая працавала перакладчыцай пры бургамістры, папярэдзіла Сашу Мялешку: «Знікай хутчэй з мястэчка». Яе ў сваю чаргу папярэдзіў анямечаны паляк-жандар, які хадзіў да настаўніцы вывучаць рускую мову.

Каля вёскі Байдакі немцы абсталявалі канцэнтрацыйны лагер. Проста кавалак поля абгарадзілі калючым дротам, паставілі вышкі. Піхалі ў той лагер усіх, хто, на іх погляд, даверу не выклікаў.

А Саша Мялешка, Іван Гарошык, Сяргей Ганчароў — трое сяброў-падпольшчыкаў — прымільгаліся немцам. Кожнага з іх немцы ў свой час арыштоўвалі, трымалі ў турме, але даказаць сувязь з партызанамі не здолелі. Вока тым часам мелі, падазрэнне вісела над галовамі хлопцаў, як цёмная хмара.

У партызанскім атрадзе хлопцы робяць тое, што рабілі, седзячы ў мястэчку. Толькі тады хадзілі з мястэчка ў лес: насілі партызанам соль, медыкаменты, табаку. Цяпер, прыходзячы з лесу на ўскраіну мястэчка да дзеда Івана Гарошыка Антона, забіраюць у сяброў-падпольшчыкаў тыя самыя, па сутнасці, рэчы.

Мястэчка як бы падзелена чыгункай на дзве палавіны. У меншую, залінейную частку, якая складаецца з вуліц Варашылаўкі і Першамайскай, немцы нос асабліва не торкаюць. Таму Саша з Іванам прыходзяць да ягонага дзеда Антона, сядзіба якога туліцца да ўскрайку Першамайскай вуліцы. За ёй пачынаецца пнёўе, круг алешніку, лазовыя зараслі.

Прыгожая сядзіба дзеда Антона. Размешчаная на пагорку, атуленая дубамі-веліканамі, яна прыдатная тым, што з яе як на далоні відаць чыгуначная станцыя і значная частка мястэчка. Нават уласную хату Саша Мялешка можа разгледзець.

Хлопцы так напакутаваліся пры немцах, так перахварэлі душой, што наступленне Чырвонай Арміі і яе выхад на Днепр ім здаецца проста цудам. Яны бачылі армію, якая адступала — бязладна, з аднымі вінтоўкамі. Чырвонаармейцы неслі плямы солі на гімнасцёрках, брылі ў разлезлых, разбітых чаравіках.

Абозы, кухні байцы разбітых палкоў страцілі і харчаваліся, чым прыйдзецца. І вось цяпер тая самая армія гоніць да зубоў узброеную, стальную армаду немцаў на захад. Як магло адбыцца такое пераўтварэнне?

Сябрам нават у галаву не прыходзіць, што і пасля вызвалення мястэчка вайна будзе працягвацца, яны мусяць пайсці на фронт. Толькі чамусьці затрымліваецца Чырвоная Армія на Дняпры. Хутчэй бы прыйшла! Страшэнна агорклі, абрыдлі немцы за гэтыя два гады з лішкам. Так абрыдлі, што нельга болей трываць…

З трывогай, з сумам глядзяць хлопцы на чыгуначную станцыю, якую найбольш любілі, калі жылі ў мястэчку. Іван і Сяргей жылі на Варашылаўцы, амаль насупраць станцыі, Саша — каля чыгуначнага пераезда. Цяпер ад станцыі, ад мястэчка яны адрэзаны назаўсёды. Той, хто пайшоў у партызаны, не можа думаць пра зварот. Бо зварот азначае смерць. Свабода для хлопцаў наступіць тады, калі выганяць немцаў.

А на Дняпры не перастае грымець…

Наваспечаныя партызаны начуюць у дзедавым хляве. Папярэджаныя дзедам, да іх прыходзяць іхнія таварышы. Прыносяць соль, цыгарэты, розныя медыкаменты, нават газету, якую немцы выдаюць у Мазыры на рускай мове.

Ёсць штосьці шчымліва-горкае і адначасна радаснае ў гэтых таропкіх, паспешлівых спатканнях. З трох толькі Сяргей жанаты, мае нават дзіця. Жонку з дзіцём прывёў у атрад. Івану васямнаццаць, Сашы сямнаццаць гадоў, і гэта якраз вясна іхняга жыцця. Толькі гэтай вясны дружбакі яшчэ не бачылі. Яны бадай што і танцаваць не ўмеюць і з дзяўчатамі не зналіся. Сваё маладое жыццё пачалі з таго, што вось так, з вінтоўкамі на плячы, блукаюць па ваколіцах мястэчка.

Вабіць бліскучымі агнямі разлеглая станцыя. Там кожны вечар скапленне цягнікоў. Ноччу цягнікі на прастор рэек выбірацца баяцца: чыгунку проста аблажылі партызаны. Грыміць чыгунка выбухамі. Немцы высеклі прылеглы да чыгункі лес, спалілі большую палавіну вёсак, а яна ўсё адно грыміць.

Урачыста стаяць, надзеўшы залаціста-барвовыя шапкі, дубы. Наводдаль шарэе алешнік. Яго акаляе бясконцае пнёўе.

Некалі на ўсім бачным прасцягу стаялі такія, як на дзедавай сядзібе, дубы.

Саша ўспамінае, як немцы захоплівалі гэтую мясцовасць. Раён пераразаюць дзве чыгункі. Тая, другая, перасякае раён з паўночнага боку. Калі немцы захапілі Бабруйск і Жлобін, то паспрабавалі з паўночнага боку прабіцца на Палессе. Тым часам дарэмна. На чыгунцы, як укопаныя, сталі два бронецягнікі і адбівалі нямецкія атакі. Ужо фашысты захапілі Смаленск і нават далей прасунуліся на ўсход, а ў тыле іх заставаліся Мазыр, Рэчыца, Гомель.

Занялі яны Гомель у сярэдзіне жніўня, а мястэчка — у канцы. Саша баіцца, каб Чырвоная Армія не запынілася на Дняпры. Бо ён ужо мерзне: цёплай вопраткі не мае.

Немцы ўзялі мястэчка без бою. Як і ўсю навакольную мясцовасць. Па галоўнай Савецкай вуліцы прамаршыравалі чатыры аўтаматчыкі з закасанымі рукавамі (па два з правага і левага боку), з настаўленымі на нябачнага ворага аўтаматамі. Войска тым часам валіла па пыльным, пясчаным макаўскім шляху. Хутка яно запрудзіла ўсе местачковыя вуліцы. Гэта было войска без танкаў, бронетранспарцёраў і іншай сучаснай тэхнікі. Гарматы валаклі сытыя чорныя біцюгі.

Немцы крочылі міма Сашыных грыбовішчаў, рабілі там папаску. Побач з заржавелымі бляшанкамі ад кансерваў, рыбных і мясных, Саша знайшоў абрыўкі газет. Той восенню Саша іх не ўзяў: не ўмеў яшчэ разбірацца ў нямецкім тэксце. Яны зіму праляжалі пад снегам, парыжэлі, але літары былі яшчэ выразна відаць. За першую ваенную зіму — на работу Саша прынцыпова не ішоў — ён падцягнуў нямецкую мову, якую і да вайны някепска ведаў. З цяжкасцю, раз-пораз зазіраючы ў слоўнік, ён прачытаў тое, што пісалі немцы для саміх сябе. О, як высока сягалі іхнія планы! Яны бачылі схіленую да іх ног Маскву, захопленыя ўкраінскія чарназёмы, заваяваны Каўказ, пакораныя неабсяжныя рускія прасторы. Карацей, немцы марылі стаць уладарамі свету, бо ў Паўночнай Афрыцы генерал Ромель працярэбліваў шлях на ўсход, каб злучыцца з германскімі войскамі, што мыслілі захапіць Каўказ.

Тым часам ненадоўга хапіла немцам сілы, каб выяўляць такую высокую фанабэрыю і палохаць свет. Толькі два-тры

бязвоблачныя гады былі ў Гітлера. Гэта тады, калі адну за другой ён заваёўваў еўрапейскія краіны.

А ў Савецкім Саюзе першы выспятак далі немцам пад Масквой, другі — пад Сталінградам, трэці — пад Курскам. І вось нашы на Дняпры.

Нам таксама дасталося. Так што лішне выхваляцца не варта. Ніхто ніколі не захопліваў (няхай часова) такіх агромністых тэрыторый Расіі, як зрабілі немцы. Хіба што татара-манголы. Але тады была толькі Русь.

Пасля таго, як, захапіўшы мястэчка, немцы рушылі на ўсход, па пустой чыгунцы ўсю восень сорак першага года да самых маразоў безупынным ланцугом крочылі людзі. З захаду на ўсход і з усходу на захад. Гэта былі байцы, камандзіры разбітых савецкіх дывізій. Тыя, хто трапілі ў катлы, акружэнні, вырваліся з палону.

Немцы глядзелі на гэта досыць абыякава. Лічылі перамогу здабытай. Паліцэйскія гарнізоны як мае быць яшчэ не ўсталяваліся, так што ваенных бадзяг пакуль што ніхто не затрымліваў, не патрабаваў у іх дакументаў.

Саша Мялешка, яшчэ калі жыў у мястэчку, зрабіў адну змыслую справу. На чыгунцы працавала ўкраінская чыгуначная рота. Ніякіх украінцаў у той роце, вядома, не было, пярэсты, разналікі народ, які трапіў у палон да немцаў і, каб як-небудзь выжыць, згадзіўся працаваць на чыгунцы. Гэтыя чыгуначнікі мелі нямецкія шынялі, мундзіры без нашывак, абутак, але вінтовак не насілі. Атрымлівалі нямецкія пайкі, цыгарэты, відаць, нейкія грошы, то ці цяжка, зрэшты, было даць ім яшчэ і вінтоўкі?

Местачковыя падпольшчыкі пачалі пахаджваць вакол гэтых «украінцаў». Камандаваў чыгуначнай ротай старшы лейтэнант Міхайлаў — высокі, плячысты хлопец гадоў дваццаці пяці з адкрытым круглым рускім тварам.

Саша Мялешка працаваў касірам у лясгасе. Па абавязку службы ён наведваў воінскія часці, вось такія арганізацыі, як чыгуначная рота, якія, не пытаючы ў лясгаса дазволу, бралі дрэва. За дрэва трэба было плаціць. Такім арганізацыям Саша выпісваў рахункі, а старшы ляснічы Жылюк іх падпісваў.

На грунце фінансавых разлікаў у Сашы і завязалася знаёмства са старшым лейтэнантам Міхайлавым. Далей —

болей. Саша нарэшце пераканаўся, што Міхайлаў свой чалавек.

Міхайлаў марыў перайсці да партызан. І не толькі сам: чыгуначную роту хацеў перавесці. Пра гэта, пакрысе адкрываючыся адзін другому, пачалі дамаўляцца Саша і лейтэнант.

Рота перайшла. Толькі не ўся. Дваццаць восем чалавек пакіравалі ў лес да партызан, каля палавіны роты. А як астатнія? Саша пра гэта не думае. Не думае нават пра тое, што тых, хто ў партызаны не падаўся, немцы маглі расстраляць. Такая ў іх практыка. Не маглі яны давяраць рэшткам чыгуначнай здрадлівай роты.

Калі хлопцы, ратуючыся ад лагера, ад агароджанага поля каля Байдакоў (яно размешчана каля шашы), прыйшлі ў атрад, на пытанне Мялешкі, дзе Міхайлаў, знаёмы партызан, які прыходзіў у мястэчка яшчэ першай ваеннай восенню, коратка адказаў:

— Загінуў у баі.

Гэтаму партызану яны, той няпэўнай часінай, далі батарэі для сілкавання радыёпрыёмніка, потым яшчэ сім-тым дапамаглі. Ён мог бы трохі болей сказаць пра Міхайлава. Бо сярод партызан былі такія, якія не надта давяралі перабежчыкам. А Міхайлаў быў камандзірам роты.

## II

Пад вечар да дзеда Антона прыходзіць аграном Драгун. Ён нясе на плячы старыя боты з разяўленымі перадамі: нібы боты есці хочуць.

Драгун перадае навіну незвычайную. На станцыі запыніліся два эшалоны. Адзін славацкі, які кіруе на захад, другі нямецкі з боепрыпасамі для фронту. Пад вагон з боепрыпасамі славакі паставілі скрынку з толам і, калі іх эшалон рушыў, падпалілі бікфордаў шнур.

Шнур, які трашчаў, сыплючы іскрамі, заўважыў падшывалец, што аціраўся на станцыі, сын адданага немцам чалавека, бухгалтара Дрынко. Немцы паспелі перарэзаць шнур. А што было б, калі б не перарэзалі?

Драгун паведамляе і больш важную навіну. У ваколіцах мястэчка блукаюць армейскія разведчыкі. З трыма вайскоўцамі ён гадзіны тры назад бачыўся ў саўгасе «Ведрыца». Даў арыенцір, дзе можна сустрэць партызанскіх пасланцоў. Карацей, назваў сядзібу дзеда Антона.

— Яны прыйдуць сюды вось-вось. Трэба партызан папярэдзіць…

Сапраўды, у хуткім часе ў двары дзеда Антона паяўляюцца тры маладыя хлопцы з перавешанымі праз шыю аўтаматамі. У зімовых шапках. Яны не старэй за партызан, якія іх сустрэлі.

У дзеда Антона, вядома, знайшлося пару бутэлек моцнага самагону і крышан сала. Так што сустрэчу адзначылі як належыць.

Разведчыкі паведамляюць: савецкае войска абыходзіць мястэчка, не хоча браць яго ў лоб.

Не прыйшлося папярэджваць партызанскіх камандзіраў. Самі дазналіся, што савецкае войска пад мястэчкам. І ўжо гарцуюць на конях партызанскія камандзіры. Партызаны павядуць атрады ў абход мястэчка, каб прыкрыць дарогу для адступлення немцаў з заходняга боку.

Івану, Сяргею і Сашу Мялешку заданне: правесці разведчыкаў, некалькі сапёраў на хутар Ключэеў, каб адтуль выйсці на чыгунку і ўзарваць рэйкі на захад ад мястэчка. Каб нічога не паспелі немцы вывезці і не прыйшоў ім на дапамогу які-небудзь браняпоезд.

Старая ў вайскоўцаў карта. Даўно няма Ключэеўскіх хутароў і дарогі туды таксама няма. Але местачковыя хлопцы правядуць вайскоўцаў да любога месца на чыгунцы.

Заўтра пачнецца наступленне на мястэчка. Каб толькі немцы яго не спалілі. Бо пажар разглядаецца на ўсё неба. Неба здаецца чорным, злавесным.

Дзень быў цёплы, а ноччу прымаразак. Саша ў сваім пінжачку дрыжыць, як асінавы ліст. Цэлы цуг партызан і байцоў, перайшоўшы чыгунку, спыняецца непадалёк ад будкі, якую немцы, ахоўнікі чыгункі, зрабілі сваім апорным пунктам.

Ноч светлая, водбліскі местачковых пажараў добра відаць і адсюль, з ваколіцы мястэчка. Немцы, па ўсіх прыкметах, яшчэ не ўцяклі са свайго штуцпункта (так называюцца ўмацаваныя чыгуначныя будкі). Яны, вядома, бачылі і калону,

якая перайшла чыгунку, і падрыўнікоў, група якіх, не таячыся, вываліла на насып чыгункі і пачала падкапвацца сапёрнымі лапаткамі пад рэйкі.

Тым часам немцы са штуцпункта робяць выгляд, што нічога не заўважаюць. Сядзяць, як мышы пад венікам.

Сашу ад холаду трасе, як у ліхаманцы, зуб на зуб не трапляе. Нарэшце, калі падрыўнікі збягаюць з насыпу, ён у аднаго з іх выпрошвае сапёрную лапату. Той напачатку не хоча даваць.

— Яна табе болей не спатрэбіцца,— угаворвае падрыўніка Саша.— Капусту будзеш секчы? Заўтра немцы з мястэчка вымятуцца…

Падрыўнік нарэшце аддае лапату. Саша таропка капае ямку. Акопаў ён яшчэ не капаў, але ў лесе бачыў даўнейшыя — нямецкія, белапольскія.

Побач варушыцца Сяргей Ганчароў — мастак, які ў акупацыю маляваў багоў (іначай было не пракарміцца). Быў у сорак першым на фронце, трапіў у палон, але ўцёк адтуль. У яго ёсць пляскаты нямецкі штых. Гэтым штыхам ён ямку сабе выкапаў і Сашу дапамагае.

Затым Саша ідзе да копкі, якая шарэе паблізу: будачнік сена накасіў. Прынёс добры ахапак сена, частку Сяргею Ганчарову даў. Ён зашыўся ў сена і, сагрэўшыся, нават задрамаў.

Далейшыя падзеі адбываюцца золкай раніцай. З боку лесу па пясчаным шляху рухаюцца дзве нямецкія танкеткі. Заўважыўшы норкі-акопчыкі партызан (перад лесам акапалася яшчэ адна партызанская рота), яны коўзаюцца па іх, душачы людзей.

Але і самі хутка знаходзяць пагібель. Да партызан, нібы прадчуваючы бяду, далучылася некалькі армейскіх сапёраў. Яны вылазяць з кустоў і закапваюць на пясчаным шляху некалькі супрацьтанкавых мін. І якраз жа на гэтых мінах падрываюцца танкеткі. Спачатку адна, затым — другая. Танкістаў, якія адкрылі люкі і спрабавалі выбрацца з нерухомых машын, зрашэцілі кулямі партызаны.

А вось партызаны, якія перайшлі чыгунку, здрэйфілі. Немцы са штуцпункта, чалавек пятнаццаць, нарэшце кінуліся наўцёкі. Партызанам нічога не каштавала іх перастраляць.

Але яны дружна кінуліся ў лес. Не захацелі ўсчынаць бойку. Праўда, і партызаны гэтыя — з брыгады імя Чапаева — напалавіну былыя паліцаі. Здаліся партызанам дружна, са зброяй і з паліцаяў ператварыліся ў народных мсціўцаў.

Узыходзіць сонца, развейваецца туман. Але гэта ўжо інакшае, чым учора, сонца, і асвятляе яно другую, чым учора, зямлю. Трэба адчуць імгненне, калі прыходзіць свабода. Саша адчуў і ўдзячны лёсу за гэта.

Мястэчка не згарэла. Немцы толькі ўласныя базы, склады папалілі, якія размяшчаліся пераважна ў райспажыўсаюзаўскіх будынках. Асабліва шкада новай, вялікай, выбудаванай з добрага сасновага цёсу будыніны ў канцы Сашавага агарода.

Саша і ва ўласную хату завітвае. З сям'і яшчэ ніхто не вярнуўся. За сталом сядзяць чалавек сем байцоў. Снедаюць. Яны раскрылі капец з бульбай у агародчыку перад хатай, наварылі бульбы, зрабілі тоўчанку і ядуць бульбяную кашу з хлебам. Акрамя хлеба, у байцоў больш нічога няма.

А сонца, як назло, у гэты дзень глыбокай восені свеціць па-летняму. Вуліцы тым часам проста забіты абозамі, фурманкамі, коньмі: падыходзяць тылавыя часці.

Немцы, відаць, ведаюць нашы парадкі. Налятае штук дзесяць самалётаў. Кідаюць бомбы на вайсковыя натоўпы. Бомбы касетныя: падае адна, на ляту раскрываецца і з яе чэрава вылузваецца некалькі драбнейшых. Многа крыві нарабілі гады.

З лесу па мястэчку немцы страляюць. Але і артабстрэл, і гэты барбарынскі налёт самалётаў не могуць заглушыць пераможнай музыкі, якая звініць у Сашавай душы. Як гэта так: учора хадзілі вось па гэтай вуліцы немцы, адчувалі сябе гаспадарамі, звысака глядзелі на тутэйшыя шэрыя хаціны, а сёння іх няма. Зніклі, як прывіды. І як адчуваюць сябе нямецкія салдаты, якія збеглі з мястэчка ў лес і адтуль грозяцца снарадамі? Што, бацькаўшчыну страцілі? Ці на самай справе верылі, што яны вышэй астатніх людзей? Ва ўсякім разе, вышэй тубыльцаў гэтага шэрага драўлянага паселішча з яго гразкімі вуліцамі, пачарнелымі ад дажджоў гонтавымі дахамі хат, драўлянымі парканамі і платамі.

Да каго першага пайсці?

Саша наважвае завітаць да агранома Драгуна. Ён найбольш актыўны ў іхняй групе: дзейсны, рухавы, вынаходлівы. Гэта ён учора вечарам сустракаў хлопцаў, якія прыходзілі на ўзлесак, на сядзібу дзеда Антона. Ён сказаў і пра разведчыкаў.

Але так здараецца, што першым, да каго завітвае Саша, аказваецца Васіль Грышкін, таксама падпольшчык, хата якога размешчана ў цэнтры мястэчка, каля базарнай плошчы. У тым жа двары сельсавецкі дом, у якім жыве настаўніца нямецкай мовы Паліна Сяргееўна. Яе муж быў старшынёй сельсавета.

Дом Паліны Сяргееўны замкнёны: відаць, недзе прыхавалася кабета, а Васіль дома. Ён не прыходзіў разам з іншымі на сядзібу дзеда Антона, і Сашу асабліва цікава пагаварыць з ім: як-ніяк, даўно не бачыліся.

Васіль такі ж марудны, павольны ў рухах, як і раней. На ягоных шырокіх плячах аж трашчыць трохі малаваты, з кароткімі рукавамі пінжачок.

— Не хаваўся? — пытае Саша.

— Ноч прасядзеў на гарышчы. Раніцай злез.

— З Палінай Сяргееўнай не гаварыў?

— Гаварыў. Пра цябе сказала, добра зрабіў, што сышоў у лес. У Байдакі забралі б абавязкова. З таго канца мястэчка схапілі чалавек дзесяць. Нават двух паліцэйскіх, якія адмовіліся ехаць на захад. Блізнюка, настаўніка, схапілі. Нешта сказаў такое, што немцам не спадабалася. І, галоўнае, не кормяць людзей у тых Байдаках. Вязні жывуць тым, што хто-небудзь з сялян кіне праз дрот бульбіну ці бурак…

— Загад ваенкамата вывешаны,— заканчвае Васіль пералічваць навіны.— На слупе на базары. Нам з табой у армію яшчэ не трэба. На нашым годзе прызыў абрываецца…

Саша адчувае: нейкае няпэўнае падсвядомае пачуццё прывяло яго якраз туды, куды хацеў. Васіль мае адгароджаную дашчаную бакоўку, у якой яны сустракаліся, вялі свае патайныя размовы. Усе два гады акупацыі. Разам з Грышкіным Саша хадзіў у адступленне. Няўдала: на Дняпры ўжо ішлі баі.

— Ты карту захаваў?

— Захаваў.

З-пад старэнькага палавіка, якім заслана падлога Сашавай бакоўкі, ён дастае, затым разгортвае карту еўрапейскай часткі

Савецкага Саюза. Яна ўся спярэшчана рознымі значкамі, кружкамі, трохвугольнікамі, квадратамі, лініямі.

Пачынаючы з восені сорак першага года, хлопцы адзначалі становішча на франтах. Каля кожнага больш-менш буйнога горада стаяць нанесеныя алоўкам дзве лічбіны: калі нашы горад здалі і калі ўзялі яго назад.

Лініі азначаюць становішча на фронце ў тым ці іншым месяцы, кружкі, трохвугольнікі, квадраты — мясціны, дзе былі акружаны савецкія дывізіі, вайсковыя злучэнні, арміі. Карта аж пярэсціць такімі кружкамі-квадратамі і на паўночным абсягу, і на сярэднім, і на паўднёвым.

І вось, нягледзячы на гэтыя іхнія знакі паражэння, савецкая армія тут, у мястэчку. Ад акружэння сталінградскай групоўкі да ўзяцця малавядомага палескага мястэчка прайшоў роўна год. Столькі часу спатрэбілася дывізіі, якая ўзяла мястэчка, каб фактычна прайсці агромністую адлегласць.

Хлопцы рознымі шляхамі здабывалі звесткі (адзін час у іх было радыё), выпытвалі пра становішча на фронце Паліну Сяргееўну, іншых людзей, якія мелі доступ да нямецкіх крыніц.

Навошта яны гэтак рабілі? Можна ўпэўнена адказаць: дзеля сённяшняга дня, калі па вуліцы ходзяць не надта ахайна апранутыя савецкія салдаты. Без гэтага першага дня свабоды ніякай будучыні хлопцы-дружбакі не бачаць. Гэта нібы дзень іх нараджэння, вялікае свята, значэння якога яны яшчэ як след не ўсведамляюць.

*2000*

## ПРАКЛЯЦЦЕ

Саставіцель цягнікоў Ілля Сінец похапкам ускочыў у хату.

— Не палохайцеся! Есіпаў двор гарыць!..

Мы адхінулі фіранку і зірнулі ў акно. Над Есіпавым дваром, які размяшчаецца на другім баку вуліцы, трохі наўскасяк ад Іллёвай хаты, уздымаецца стоўп агню і дыму.

Мы з Адамам, Іллёвым сынам, хацелі пабегчы туды паглядзець пажар.

— Сядзець на месцы! — загадаў нам прысадзісты Сінец і, схапіўшы вядро, шугануў за дзверы.

Па вуліцы бег народ. Стаялі крыкі, лямант. Пажарная машына прыімчала на дзіва хутка. Пажар толькі разгараўся, а яна ўжо залівала агонь вадой.

Пажар хутка патушылі. Згарэў адзін хлеў. Агонь не паспеў перакінуцца ні на хату, ні на іншыя будынкі.

Вуліца вядзе да чыгуначнага пераезда. Недалёка ад яго яна разыходзіцца, утвараючы даволі шырокі выган. Тут мы з Адамам, іншымі хлопцамі пасвім свіней, гуляем у ножык, рвём гусіныя лапкі — траву, зялёныя бубкі якой можна есці.

Дзён праз некалькі пасля пажару на выгане з'яўляецца Есіпаў буланы конь. Спіна яго моцна абгарэла, да мяса. На гэтую спіну імгненна злятаюцца мухі, авадні, сляпні. Гаспадар накрывае каня гунькай, і таму робіцца лягчэй.

Есіп працуе пуцейскім абходчыкам і ў той жа час трымае каня.

Есіп смелы чалавек. Ён і раней прыводзіў сюды свайго каня. На папярэджанні сельсавета не пасвіць яго тут не рэагаваў. Але з таго часу, як у беднай жывёлы абгарэла спіна, сельсавет супакоіўся.

Так і стаў конь з абгарэлай спінай неад'емнай прыналежнасцю нашага выгану.

У Есіпа была дачка Люся, прыгожая, зграбная, з тонкім далікатным носікам і тварыкам. Яна канчала школу першай ступені (так тады называлася сямігодка), прыходзіла на нашу лавачку з гітарай, іграла і спявала.

Чамусьці яна ўпадабала мяне. «Жанішок мой»,— гаварыла, стараючыся мяне злавіць, пасадзіць побач. Мне было сорамна. Я вучыўся ў першым класе, на дзяўчынак глядзеў звысоку, і такія жарты мне зусім не падабаліся.

Ішлі гады. На абгарэлым кані (спіну ўвесь час прыкрывала гунька) Есіп вазіў дровы, сена, снапы з пралёта. Увогуле ён быў цягавіты, дбайны гаспадар, жыў някепска. Ні з кім у хеўру не ўступаў. Нават не падыходзіў вечарамі да мужчын, якія сядзелі на лавачцы, размаўлялі і курылі. І баявы быў Есіп. Меў трохі заскаленае левае вока. І калі хто-небудзь крыўдзіў яго неасцярожным словам, ён спыняўся, адстаўляў нагу ўбок і, зыркаючы на крыўдзіцеля тым вокам, крычаў:

— Ты мяне хлебам корміш, ці што? Згінь, прападзі пропадам...

Люся пасля сямігодкі скончыла ў Гомелі курсы і працавала на станцыі тэлефаністкай.

У гэты час лясную школу, якая рыхтавала лесаводаў, перавялі ў другое месца, а яе памяшканні заняла так званая шасцімесячная прафтэхшкола, якая стала выпускаць шафёраў для лясной прамысловасці. Сярод яе выкладчыкаў з'явіўся высокі, проста такі магутны мужчына ў доўгім скураным паліто. Калі ён здымаў яго, можна было ўбачыць мноства бліскучых рамянёў, якімі была перапаясана яго апранутая ў ваенную гімнасцёрку і галіфэ фігура.

— Інструктар Тыклінскі,— звычайна прадстаўляўся гэты чалавек.

Інструктар, відаць, хацеў прыжаніцца і хутка вынюхаў, што найбольш прыдатнае для яго месца — Есіпаў падворак, у якім быў дом на дзве палавіны, неблагі зажытак і сімпатычная нявеста — тэлеграфістка Люся.

Да вайны Люся паспела нарадзіць аж трох сыноў. Калі грымнула вайна, самаму старэйшаму з іх было восем гадоў.

Тыклінскі пайшоў у армію. Клопат пра мнагадзетную сям'ю Люсі цалкам лёг на яе бацькоў. Люсю, адзіную дачку, пеставалі, лашчылі ў сям'і, і ў выніку яна была мала прыстасавана да будзённай работы. Есіп, як кажуць, нос на квінту не павесіў. Быў дзейсны, рухавы, нават залішне клапаціўся пра ўнукаў. Неяк над станцыяй вісела армада нямецкіх самалётаў, якія бамбілі яе, а ён у гэты час касіў на выгане рамонкі і дзядоўнік на подсціл карове. Суседзі раілі яму не вытыркацца.

— Што значыць для гэтых лётчыкаў адзін чалавек,— адмахваўся Есіп.— Будуць яны на яго бомбу траціць.

З прыходам немцаў здарылася бяда: памерла жонка Есіпа, якая абмывала, абшывала, карміла ўнукаў.

Конь з абгарэлай спінай па-ранейшаму пасвіўся на выгане. Новая скура на ім не вырастала. Месца апёку зацягнулася белай плёнкай.

Між тым наступілі цяжкія дні. Люсіны дзеці падрасталі, патрабавалі харчу. Дастаць яго можна было толькі падаўшыся

ў дальнія сёлы, дзе бульбу выменьвалі на соль, газу, якую-небудзь тканіну.

Там валадарылі партызаны. Старастаў, бургамістраў, паліцаяў яны паўсюдна павыкурвалі, і тыя збіліся ў мястэчку — раённым цэнтры.

Побач з сядзібай Есіпа пасяліўся адзін збеглы адтуль начальнік паліцыі. Есіп папрасіў у яго каня, бо на сваім, абгарэлым, ён паехаць далёка не адважваўся.

У адным з сёл каня пазналі, абвінаваціўшы Есіпа ў сувязі з паліцыяй. Бываюць моманты суцэльнага, паўсюднага вар'яцтва... Партызаны Есіпа расстралялі як пасобніка акупантаў.

Люся засталася адна з трыма дзецьмі. Немагчыма апісаць, якія пакуты яна перанесла.

У хуткім часе мясцовасць вызваліла Чырвоная Армія. Люся атрымала паведамленне, што яе муж, капітан, гераічна загінуў на фронце. Ваенкамат прызначыў ёй як жонцы афіцэра, маці траіх дзяцей, прыстойную пенсію.

Дзеці пайшлі ў школу, і Люся неяк прыстасавалася да жыцця.

Але тут новы ўдар. Адпаведныя органы высветлілі, што Люсін капітан не толькі не загінуў, а, выракшыся жонкі, траіх дзяцей, нанова ажаніўся і ў ваенкамат прыслаў падробны дакумент.

Люсі перасталі выплачваць пенсію, а ўсе грошы, якія яна атрымала, цяпер вылічвалі з заробку былога аўтамабільнага інструктара.

Дзеці між тым выраслі. Улада памагла. Старэйшы сын нават скончыў універсітэт.

Але пракляцце, якое як бы навісла над Есіпавай сям'ёй, працягвала рабіць сваю чорную справу. Старэйшы сын спіўся ўшчэнт. Сярэдняга пасля тэхнікума паслалі аж на Сахалін. Там ён атрымаў кватэру з пячным ацяпленнем. Не ведаючы, што такое чад, дачасна закрыў юшку і ад чаду, не прачынаючыся, памёр.

На пахаванні брата дзеці ўпершыню за столькі год сустрэліся з бацькам.

— Вось, бацька, што ты нарабіў,— сказаў старэйшы сын.— Разбіў, раскідаў па свеце нашу сям'ю...

Кажуць, што былы аўтамабільны інструктар на тым пахаванні плакаў як бабёр...

Не знайшоўшы суцяшэння сярод суседзяў, знаёмых, блізкіх, былая камсамолка Люся падалася да баптыстаў, якія яе прыгрэлі, суцешылі.

*2000*

## ПРЫКРАСЦЬ

Цяпер гэта чарнобыльская зона. Адселеныя вёскі ў большасці сваёй разбураныя, зруйнаваныя бульдозерамі і пахаваныя пад зямлёй. Ацалелыя яблыні, скручаныя вятрамі, ды высокі шчыльны быльнёг, у якім схаваецца конь, пазначаюць месца былых сядзіб. А так больш нічога. Над шэрым бязмежным абсягам вісіць хмурнае неба, і з нейкай шалёнай радасцю свішчуць калючыя вятры...

Бліжэй да раённага цэнтра ёсць пакінутыя людзьмі, але ацалелыя вёскі. Не проста іх разбурыць. Тутэйшыя калгасы, маючы ўрадлівыя землі, жылі ў дастатку, пабудавалі людзям каменныя дамы, заасфальтавалі вуліцы і правулкі. Але ўсё цяпер кінута, напаўразбурана, зарасло высокім, у рост чалавека, быльнягом.

Пра адно здарэнне ў такой вёсцы, праўдзівей, у вялікім надпрыпяцкім сяле, якое таксама ўвайшло ў зону адсялення, хачу расказаць.

Падзеі, пра якія згадваю, адбыліся даўно, у першыя пасляваенныя гады. Вёскі раёна, адносна багатага ў сваёй раўніннай частцы, позірку ўсё адно не лашчылі: цесна збітыя хаты, пазелянелыя, з узадранай саломай стрэхі хлявоў, гумнаў, іншай гаспадарчай забудовы.

Яшчэ горшы малюнак адкрываўся ў нізінна-балотнай, так званай прыпяцкай, зоне раёна. Адразу кідалася ў вочы незвычайная беднасць мясцовасці: зямля — пясок ды балацянка, ніцыя вербы на вуліцы, хаты мізэрныя, пабудаваныя ўроскід, ігрушы-дзічкі на падворках і агародах. І нейкая незвычайная цішыня. Ні чалавек не пройдзе па вуліцы, ні нават сабака не прабяжыць. Нібы вымерлі вёскі.

Я працаваў у той час карэспандэнтам абласной газеты. Ганарыўся сваёй газетай: як жа, ёй ёсць справа да ўсяго, што робіцца ў вобласці, і пра ўсё гэта я магу напісаць. Ад вёскі да вёскі я вандраваў (транспарту тады было мала) у кавалерыйскіх ботах з высокімі халявамі, якія прынёс з вайны, і ў хламідзе з шырачэзнымі плячамі, якая таксама дасталася мне ў якасці трафея. Хламіда грэла слаба, яе наскрозь пранізваў вецер. Зімой, каб не акалець, я паддзяваў пад яе суконны пінжачок і вязаную жаночую кофту.

Справа якраз і адбывалася зімой. У рэдакцыю прыйшоў ліст з некалькімі подпісамі з аднаго калгаса таго далёкага надпрыпяцкага раёна. У ім пісалася, што старшыня калгаса, былы партызан, які трохі служыў у паліцыі, проста раскрадае калгас, разбазарвае арцельнае дабро, наладжвае п'янкі з раённымі прыяцелямі, якія за гэта і трымаюць яго на пасадзе.

Такое пісьмо нельга было паслаць на рэагаванне ў раён. Рэдактар выклікаў мяне. Раён не ўваходзіў у мой «куст» — так называлася тэрыторыя, якую карэспандэнт звычайна абслугоўваў.

— Едзь, аднак, ты,— сказаў рэдактар.— Вучышся ва ўніверсітэце. Тэарэтычна падкаваны. Наогул тваё прозвішча ў вобласці вядома.

Што значыць «едзь»? І на чым «едзь»? Надпрыпяцкае сяло размяшчаецца ад раённага цэнтра за сто кіламетраў. Як адолець такую адлегласць?

З рэдактарам, шустрым, жвавым, які сам завочна вучыўся ў вышэйшай партыйнай школе ў Маскве, не паспрачаешся.

Мне пашанцавала. Я толькі дзень прасядзеў у раённым цэнтры. Вечарам дазнаўся, што з таго сяла некалькі падводчыкаў прывезлі сена. Я кінуўся на станцыю, на сенасклад, і паспеў там застаць вазакоў.

Яны ўзяліся падвезці мяне.

У кожнага з іх былі нават не сані, а запрэжаныя двума коньмі кары, на якіх звычайна возяць дубовыя круглякі.

Прыцемкам вазакі пакіравалі ў адваротную дарогу. Мяне яны абклалі сенам, зверху накрылі кажушком.

Незабыўнае ўражанне: ехаць пад зімовымі зоркамі, з незнаёмымі людзьмі. Мерна бягуць коні, слізгаюць па наезджанай дарозе палазы, міма прабягаюць цёмныя

лясы, хмызнякі, балацянкі. Пад гэтае мернае слізганне я непрыкметна заснуў.

Недзе ў другой палавіне ночы вазакі прывезлі мяне ў сяло.

— Вунь дом старшыні калгаса,— паказаў вазак, з якім я прыехаў.

З анямелымі нагамі (ехалі мы гадзін восем) я злез з кар. Вазак нокнуў на коней і рушыў прэч. У першыя хвіліны я не ведаў, што рабіць. Там, на станцыі, я не дамовіўся, каб хтосьці з вазакоў узяў мяне на кватэру.

Вялікае — не акінуць вокам — сяло спала. Што мне было рабіць? Яшчэ трохі павагаўшыся, я рушыў да дома старшыні калгаса.

Пастукаў у акно, і калі гаспадар адчыніў дзверы, зайшоў у хату, назваўся і папрасіў пасяліць мяне дні на два-тры ў якую-небудзь хату.

— Ніхто цябе не пусціць,— сказаў старшыня.— Асабліва ўначы. Да мяне часта прыязджаюць розныя ўпаўнаважаныя. Жывуць у мяне і мяне ж правяраюць. Я табе перашкаджаць не буду...

Старшыня быў высокі, рухава-энергічны чалавек гадоў трыццаці, нежанаты. Жыў са старэнькай маці. Прозвішча меў — Хвораст.

Назаўтра я рушыў правяраць пісьмо. Абвінавачванне ў паліцайстве адпала адразу: па натуры Хвораст — чалавек трохі рызыкоўны. Партызаны спецыяльна накіравалі яго ў паліцыю і з яго дапамогай гэтую паліцыю разграмілі.

У астатнім некаторыя факты пацвердзіліся. Хвораст меў шырокую натуру, добра прывячаў раённых начальнікаў, хоць калгаснага дабра відавочна не разбазарваў. Ён проста любіў абмены: мяняў коней, кароў на інвентар, якога ў калгасе не хапала.

Вядома, такія рэчы ён рабіў па ўласнай волі: ні з калгасным сходам, ні нават з праўленнем асабліва не раіўся.

На вячэру Хвораст прынёс бутэльку разліўной гарэлкі.

— Не п’ю,— сказаў я, адводзячы ягоную руку са шклянкай.

— Як хочаш,— сказаў ён.— Мяне многія правяралі. За сваё старшынства я не вельмі трымаюся. Ведаеш, хто я па спецыяльнасці? Капітан рачнога параходства. Праўда, толькі

два гады да вайны паплаваў. Люблю раку. Так што работу знайду сабе лёгка.

Я яшчэ два дні хадзіў і да тых, хто падпісаў пісьмо, і да іншых вяскоўцаў і цвёрда пераканаўся, што Хвораст свядомай шкоды калгасу не наносіў. Адно што трохі выпіваў і з тагачаснымі суровымі гаспадарчымі законамі не надта лічыўся.

Я хацеў заплаціць старшыні за сталаванне, начлег, але і ён, і ягоная маці рашуча адмовіліся ад грошай.

З тым я паехаў на спадарожнай машыне ў раённы цэнтр. Матэрыялу не напісаў. Рашыў параіцца з рэдактарам. Ён выслухаў мяне ўважліва. Задумаўся.

— Такія людзі, вядома, патрэбны,— сказаў ён.— Але ж твой старшыня з законам не ладзіць. Дзе гарантыя, што тыя ж людзі не напішуць у рэспубліканскую ці нават саюзную газету? Напішы матэрыял не вельмі злосны. Нават трохі пахвалі старшыню.

Я напісаў. Тыдні праз тры прыйшоў адказ, што Хвораст зняты з пасады старшыні калгаса і аддадзены пад суд.

Вынікаў суда не ведаю, але да гэтага часу не магу дараваць сабе, што напісаў тую заметку. Не трэба было пісаць. Такія людзі, як Хвораст, у той час былі патрэбны. Гэта стала ясна з пазнейшых законаў, пастаноў, калі з калгасных кіраўнікоў былі зняты некаторыя абмежаванні.

*2000*

# ЦЁМНЫЯ ЗМРОКІ

## I

Свірыдовіч ачуўся і застыў у здранцвенні. Ён нічога не памятае. Белы пакой, плафон пад столлю, і ён, заматаны ў бінты з галавы да ног. Два ложкі ў пакоі, і адзін з іх — яго.

Ён адчувае сябе чалавекам, які нібы апынуўся ў пустаце. У яго нічога няма. Вузкі праменьчык свядомасці, якая толькі цяпер вярнулася да яго, як бы падказвае, што даўно-даўно, на мяжы згаслай памяці, штосьці падобнае было. Зноў усплывае: тады нібыта была вайна і ён быў малады.

Ёсць яшчэ астравок, які слаба свеціцца. У яго была жонка, і яна памерла. Яны доўга жылі разам. Выгадавалі дзяцей. Яна працяглы час цяжка хварэла...

Яму здаецца, што падступае новая хваля беспамяцтва, а можа, вар'яцтва. Калі зноў ачуецца, зноў нічога не ўспомніць. Адзін на свеце. Ён нават не памятае свайго прозвішча. Нічога з мінулага. «Вось так людзі пачынаюць вар'яцець»,— толькі паспеў ён падумаць, і ў гэты момант адчыніліся дзверы і ў пакой зайшла паўнаватая, з прыветлівым круглым тварам, яшчэ досыць маладая жанчына.

— Небывалы выпадак,— сказала яна.— Пяць дзён без памяці. Слава Богу…

— Хто я? — спытаў ён.

Жанчына зняла са сцяны прадаўгаватае люстэрка і паднесла да ложка.

— Павярніцеся, паглядзіце на сябе…

Ён павярнуўся, зірнуў на свой зарослы сіваватай шчацінай твар, абматаную бінтамі галаву і адразу пазнаў сябе. І ўсё ўспомніў. Доктарка, выходзіць, ведала, што робіць. Дала яму вочную стаўку з самім сабой.

Ён — прафесар, гісторык. Цяпер на пенсіі, але яму яшчэ даюць магчымасць чытаць лекцыі. Ён вылічыў: тры месяцы назад памерла жонка, з якой ён пражыў паўвека. Усе тры месяцы ён успамінаў яе кожнае хвіліны. Пры пахаванні яе апранулі ў чорную шарсцяную сукенку, якую ён асабліва любіў. Не дай Бог нікому бачыць сваю жанчыну, якая нерухома ляжыць у труне... Ён ніколі не думаў, што яна памрэ першая, хоць у яе была невылечная хвароба. Першы збіраўся паміраць ён. Меў слабое сэрца, якое двойчы падводзіла да інфаркту. Ён змірыўся і без страху думаў пра смерць.

Увогуле першы павінен паміраць мужчына. Гэта натуральна. Жанчына больш патрэбна ў жыцці: дапаможа дзецям, упарадкуе маёмасць ды яшчэ ці мала што іншае зробіць…

— Вызначылі сваю асобу? — спытала доктарка.

— Вызначыў. Не разумею толькі, чаму я пайшоў на тое свята моладзі. Мне здаецца, што я проста міма праходзіў. Натоўп мяне захліснуў, і далей нічога не памятаю. Моцна мне дасталося? — спытаў ён жанчыну.

— Самае страшнае — гэта сатрасенне мозга,— сказала доктарка.— Вось чаму памяць страцілі. Астатняе — драпіны. Хоць іх многа. Тыдні два прыйдзецца праляжаць…

«Бедная мая галава,— падумаў ён.— На вайне ёй дасталося, і тут, у канцы жыцця, яшчэ дабавілі». Лепей было б, каб ён увогуле не апрытомнеў. Нічога радаснага не чакае яго на гэтым свеце. Такой сяброўкі, якую меў, ён не знойдзе. Ды і позна шукаць. Жыццё пражыта…

— Адпачывайце і ні аб чым не думайце,— сказала доктарка.— Вы выцягнулі шчаслівы білет. Колькі людзей загінула. Маладых. Якія толькі пачыналі жыць…

— Чорныя коні,— сказаў ён.

Доктарка, відаць, падумала, што хворы пачынае трызніць.

— Адпачывайце,— паўтарыла яна.— Я вам дам снатворнае.

Ён, аднак, бачыў чорных коней. Калі насунулася хмара, стала цёмна, закрапаў дождж, з заходняга боку на беразе ракі вынырнула армада коннікаў на чорных конях...

Доктарка вярнулася. Прынесла снатворныя таблеткі.

— Я падсяляю вам суседа,— сказала яна.— З вашай кампаніі. Будзе весялей. У нас хворыя ў калідоры ляжаць.

Ён не мог пярэчыць.

— Падсяляйце. Я і так дзіўлюся: ляжу — як кароль.

— Ведаю пра ваша гора. Пра жонку. Без памяці вы былі. Сярод пацярпелых гэтак вы адзін…

Прыбегла санітарка, рассцяліла ложак каля супрацьлеглай сцяны.

Увайшоў хворы, пажылы, паўнацелы дзядзька з адутлаватым тварам. Ні слова не сказаўшы, зняў бальнічны халат, палажыў на тумбачку, лёг, адвярнуўшыся тварам да сцяны.

А Свірыдовіч думаў пра жонку. Горкія ўсплывалі думкі. Нічога добрага яна за ім не бачыла. Цягнула воз спраў, як чорны вол, бытавы клопат цалкам брала на сябе. Пры траіх дзецях мела поўную лекцыйную нагрузку. У дадатак бегала па магазінах, гатавала ежу, мыла бялізну, нават машыну вадзіла. Ён лічыў гэта звычайнай рэччу. З яго боку гэта быў вялікі эгаізм…

Чым ён ад яе адрозніваўся? Толькі тым, што пісаў кніжкі. Выдаваўся, бадай, штогод. Відаць, таму быў перакананы, што яго занятак вышэйшага парадку. Не, у яго хапала розуму не лічыць сябе вялікім докам. Кніжкі ён не спісваў, выношваў у душы, але вялікай каштоўнасці ягоныя творы не мелі. Ён гэта ведаў.

Першыя гады іх адносіны трымаліся на каханні. Больш з яе боку, чым з яго. Потым прыйшла прывычка. Для сумеснага жыцця яму не патрэбна была іншая жанчына, акрамя яе. Авантурных прыгод ён не меў, ды і не імкнуўся да іх. А яна была вясёлая, іскрыстая, і відаць, трохі артыстка. Пра яе лекцыі — выкладала англійскую і французскую мовы — хадзіла большая слава, чым пра ягоныя. Колькі людзей хвалілі іх. Асабліва завочнікі, людзі сталыя, самі пераважна педагогі: яны ведалі толк у выкладанні.

Памяць жонка мела незвычайную. Ніколі не запісвала нумары тэлефонаў: запаміналаіх з першага разу. Ён пакутуе ад думкі, што не так, як трэба, пражыў жыццё. Не павінна была памерці жонка. Ды яшчэ такая. Ён не цаніў яе, як варта было б цаніць. Узваліў на яе плечы ўвесь цяжар будзёншчыны, хоць яна сама не патрабавала дапамогі, звычайна адбіваючыся словамі: «Рабі сваё». Вось так яно і ішло. Да самай старасці.

## II

Зрэшты, ён хутка пазнае чалавека, які ляжыць на суседнім ложку. Гэта Міхнюк, як і ён, аспірант першых пасляваенных гадоў. Здаецца, географ па спецыяльнасці. Абараніў Міхнюк дысертацыю ці не, ён не памятае. Хоць пасля вайны аспірантаў было мала, і яны адзін другога ведалі. Разам слухалі лекцыі па філасофіі, здавалі залікі, экзамены па замежнай мове, у рэвалюцыйныя святы нават наладжвалі сумесныя гулянкі.

Міхнюк нічым сярод іншых не выдзяляўся. Круглатвары, сімпатычны, ён кожнаму ўсміхаўся, ахвотна ўступаў у размову, падтакваў. Здзівіў ён у канцы навучання дзвюма рэчамі. Сябраваў з дзяўчынай, якая загадвала аспірантурай, сур'ёзнай, разважлівай. Усе лічылі іх амаль што сямейнай парай. Нечакана для ўсіх Міхнюк выкінуў незвычайны фартэль. У тыя часы аспіранту ці няхай сабе выдатнаму

выкладчыку, які ўсіх зацьміў поспехамі, нават не снілася ўласная кватэра. Бо Мінск ляжаў у руінах, і прафесары жылі на прыватных кватэрах.

Міхнюк, аднак, усіх пераплюнуў. Дамогся патрапіць на прыём да першага сакратара ЦК партыі, расказаў аб сваіх подзвігах (ён, аказваецца, у вайну быў лётчыкам), паплакаў у камізэльку і выбіў кватэру. Гэта быў цуд. Дарэчы, у тую кватэру ён прывёў не загадчыцу аспірантуры, а, па чутках, дзяўчыну, якая працавала ў гандлёвай сетцы. І прапаў з вачэй…

Гэта вытлумачвалася проста: час вялікіх геаграфічных адкрыццяў скончыўся, і перад Міхнюком асаблівыя гарызонты не адкрываліся.

Свірыдовіч з Міхнюком зрэдку сустракаліся на вуліцы ці яшчэ дзе-небудзь, і чым далей, тым болей ён знаходзіў былога калегу раздражнёным, скептычным. Знікла ўсмешка з круглага, сімпатычнага твару, вясёлы гумар, прыветлівы тон. На ўсё Міхнюк глядзеў як бы праз крытычныя акуляры.

Зразумела, што, дажыўшы да сівых валасоў, яны страцілі пачуццё дружалюбнасці адзін да аднаго і не вельмі ўзрадаваліся, калі прыйшлося ляжаць у адной палаце. Таму Міхнюк не павітаўся на самым пачатку. Але маўчанне працягвацца бясконца не магло. Памагла доктарка. Прынёсшы нейкія лекі для Міхнюка, яна прапанавала:

— Давайце, я вас пазнаёмлю. Ляжаць вам тут яшчэ ды ляжаць…

— Мы знаёмыя,— сказаў Свірыдовіч,— вучыліся разам.

— Дык чаму панадзімаліся як мышы на крупы? Можа, некалі дзяўчыну не падзялілі?

Свірыдовіч паглядзеў на Міхнюка.

— Падзялілі. Вы майго калегу ў якой палаце трымалі?

— У звычайнай. На тры чалавекі. Але ж вы не прыходзілі да памяці. Я вашу жонку ведала,— працягвала яна без ніякага пераходу.— Таленавітая была жанчына. Яркая. Нас, групу ўрачоў, збіраліся пасылаць у Афрыку. То яна ў нас французскую мову вяла. Толькі я няздольная аказалася. Перастала хадзіць на заняткі. Ад якой хваробы памерла ваша жонка?

— Не трэба пра гэта,— папрасіў Свірыдовіч.

— Не буду, не буду,— і доктарка таропка выйшла з палаты.

— Дык у цябе жонка памерла? — бы ўзрадавана перапытаў Міхнюк, павярнуўшыся да Свірыдовіча.

— Ты ж, мабыць, чуў.

— Я памятаю тваю жонку. Вясёлая, энергічная. Кажуць, ты жыў з ёй як у Бога за пазухай. Ніякага клопату не меў. Як мог яе не ўберагчы?

— Захварэла.

— Ты, доктар навук, прафесар не мог жонку на курорт паслаць?

— Пасылаў.

— Усё адно вінаваты. З тваімі магчымасцямі не здолеў памагчы жонцы. Яна ж маладзейшая за цябе.

— Маладзейшая… А ты як?

— Адзін. Сын ажаніўся, жыве асобна. Дачка ў іншым горадзе.

Свірыдовіч прыгадаў гісторыю жаніцьбы Міхнюка. Так, цяпер ясна, ён не абараніў нават кандыдацкай дысертацыі, бо прыйшлося б мець справу з загадчыцай аспірантуры, перад якой яму было проста сорамна.

Мяжа адчужанасці была збольшага пераадолена, і цяпер яны, даўнія знаёмыя, як у далёкія маладыя гады, маглі размаўляць без нацяжак.

— Слухай, Жэня,— Свірыдовіч нарэшце ўспомніў імя даўняга таварыша,— што думаеш пра таўхатню ў метро?

— Якая таўхатня? Там душагубка была! Мяне падхапіла, як трэску на хвалях, і панесла. Не здолеў выбрацца. У пераходзе апамятаўся і прыціснуўся да сцяны. Ты, во, не здагадаўся. Па табе, відаць, беглі?

— Беглі,— сказаў Свірыдовіч.— Лёгка маглі задушыць.

— Я трымаўся за сцяну, як мог. Што там рабілася! Ашалелы натоўп! Напалову п’яны. Піва бясплатна давалі. Некаторыя, відаць, гарэлкі дабавілі. І пашалелі.

— Ты чытаў «Слова аб палку Ігаравым»?

— У школе вучылі. Толькі пры чым тут «Слова»?

Свірыдовіч не стаў далей гаварыць. Міхнюк, відаць, такімі рэчамі не цікавіцца. А ён даўно думае пра тое, што зямля, на якой адбываюцца крывавыя падзеі, не застаецца да іх

абыякавай. Яна як бы зараджаецца адмоўнай энергіяй. І энергія гэта ўплывае на далейшыя падзеі.

Ён, Свірыдовіч, даўно не шпацыруе па набярэжнай Свіслачы, хоць Няміга ўпадае ў Свіслач па даволі вузкай трубе. Праверана вопытам: заўсёды ў час такіх вандровак псуецца настрой. Без ніякай бачнай прычыны.

## III

Ноччу прашумеў дождж, які даўно быў патрэбен. Пачынаецца лета. Вясна была сухая, напачатку яе стаяла страшэнная гарачыня, як калі-небудзь у сярэдзіне ліпеня. Потым прыціснулі замаразкі: пашкодзілі сады, нават азімыя пасевы, якія дружна пайшлі ў рост. Відаць, у клімаце адбываюцца змены.

Свірыдовіч хацеў пагаварыць пра гэта з Міхнюком, але тут у палату похапкам зазірнула нейкае чарнявае дзеўчанё, і той, сарваўшыся з ложка, шуснуў з ёй за дзверы.

— Дачка? — спытаў Свірыдовіч, калі пасля працяглай адсутнасці Міхнюк вярнуўся ў пакой.

— Жонка,— неахвотна адказаў той.

«Значыць, Міхнюк другі раз ажаніўся,— падумаў Свірыдовіч.— І, відаць, нядаўна, бо дзеўчанё залішне маладое». Распытваць, аднак, не стаў.

— Прафесара Гольца ведаеш? — раптам спытаў Міхнюк.

— Ведаю. Харошы чалавек. Вялікі кніжнік. Не мог прапусціць ніводнай навінкі.

— Ведаеш, чаму памёр?

— Немалады быў…

— Ты таксама немалады…

— Меў, як і ты, сына і дачку.

— Дачка ў другі горад пераехала. Сын прыходзіў толькі грошай прасіць. З Гольцам здарыўся сардэчны прыступ. Сын якраз быў у запоі.

Свірыдовіч пачынае злавацца. Хто такі Міхнюк, што абгаворвае прафесараў, дактароў, заслужаных людзей, глядзіць на іх як бы зверху? Хутчэй за ўсё ён даўно на пенсіі, а за жонку ўзяў па гадах унучку.

— Не памятаю, ці абараніў ты кандыдацкую дысертацыю?

— Напісаў, але не абараніў. Узяў тэму па эканамічнай геаграфіі. Памятаеш Казельскага? Па тры разы студэнты хадзілі здаваць экзамены. Дык яго мне першым апанентам прызначылі. Напісаў адмоўны водзыў. Пры адмоўным водзыве таксама можна абараняцца. Я — не захацеў: усё адно заваляць. Райкам паставіў дырэктарам прафтэхвучылішча. Я і цяпер там. Толькі не на першых ролях…

«Вось адкуль такая маладая жонка»,— падумаў Свірыдовіч. Услых сказаў:

— Нам прыйшлося жыць не ў лепшы час. Вайна, пасляваеннае бязладдзе. Ведаеш, болей-меней нармальную кватэру я атрымаў у трыццаць пяць гадоў. Па прыватных кватэрах жыў, па інтэрнатах.

Міхнюк не паспявае нічога адказаць. У дзвярах зноў паказваецца чарнявая галоўка маладой Міхнюковай сяброўкі. Былы таварыш выскоквае надзьмуты, злосны.

Не трэба дзядам (Міхнюк, здаецца, нават старэйшы за яго, Свірыдовіча) жаніцца з юнымі асобамі. Ёсць, значыць, сямейныя праблемы ў Міхнюка.

Раптам Свірыдовіча, як маланкай, апякае думка: Міхнюк чорных коней, вядома, не бачыў. Ён нават добра не ведае, што на Нямізе, можа, на гэтым самым месцы была вялікая бітва, дзе, па сведчанні паэта, «веялі душу ад цела».

Неба баіцца Міхнюк.

Па небе лятаюць д'ябальскія сталёвыя птушкі, якія ўмомант могуць знішчыць вялікі горад. Жыве ў душы Міхнюка, як, відаць, і ў іншых душах, падсвядомы страх перад пачварнымі вынаходніцтвамі чалавека. І страх гэты пагнаў яго ў падземны пераход метро. Бо можна было перачакаць дождж, схавацца пад дрэвы, прыліпнуць да якой-небудзь сцяны, а калі на тое пайшло, то нават трохі прамокнуць. Лета ж, цеплыня…

*2000*

# 2001

## А НЕМЦЫ Ў ПАРЫЖЫ...

### I

Школа далекавата ад Васілёвай хаты. Трэба прайсці добрую палавіну даўжэзнай Савецкай вуліцы і звярнуць у змрочны вузкі правулак каля моста праз ручай. У гэтым правулку толькі дзве хаты. Далей — агароды.

Сама школа на пагорку. Жывёла і людзі ў гэтым месцы так растаўклі зямлю, што нага ледзь не па шчыкалатку правальваецца ў пясок.

Школьны пляц забудаваны прамавугольна. Старыя будынкі пафарбаваны: сцены ў жоўты колер, жалезны дах — у чырвоны, і наўсцяж абсаджаны бэзавымі кустамі. Замыкаюць прамавугольнік звычайныя хутарскія хаты, перавезеныя ў час калектывізацыі на школьны двор.

Ад першага і вось цяпер да сёмага класа Васілю прыйшлося вучыцца ў гэтых хутарскіх хатах. Там з пазоў звісаў шэры мох, было цёмна, бо вокны маленькія, а зімой холадна: не было падвойных рам.

У асноўным школьным будынку падлога пафарбавана, вокны вялікія і ў кожным класе што-небудзь адметнае: то шкілет чалавека, то чучалы птушак, то нават заспіртаваная ў доўгай пасудзіне гадзюка. Толькі тады, калі запісвалі ў школу і хварэла настаўніца, Васіль трохі павучыўся ў тых прыгожых класах.

Каля Базарнай плошчы вырастала новая школа. Каменная, двухпавярховая. Яна будавалася на месцы царквы. Царкву разабралі. Спачатку скінулі са званіцы званы (два з іх трэснулі), потым сталі разбіраць высокі будынак па бярвенцу.

Як хораша ў святочныя дні вытылінгвалі царкоўныя званы! Відаць, у мястэчку быў майстар, які любіў гэту справу. Званы проста спявалі. Пачыналі меншыя, яны маладзенькімі галасамі як бы рабілі запеў, потым дабаўлялі басавітыя галасы сярэднія званы, нарэшце бомкаў вялікі звон.

Такога суладнага, прыгожага звону, як у мястэчку, Васіль болей нідзе не чуў.

Местачковыя актывісты з бярвенцаў на другім баку плошчы складвалі клуб, ці, дакладней, раённы Дом культуры. Царкву, вядома, прыкрылі нібыта па хадайніцтву працоўнага насельніцтва мястэчка. Хоць працоўныя не мелі да гэтага ніякага дачынення.

Такім чынам замест царквы вырас будынак Дома культуры. Там паказвалі кіно, выступала мастацкая самадзейнасць, іншы раз і вандроўныя групы артыстаў завітвалі.

У іншых месцах у цэрквах рабілі зернясховішчы, розныя склады, нават цялятнікі і свінарнікі. Мястэчка гэтым шляхам не пайшло.

Падручнікі за сёмы клас Васіль купіў у суседа Нупрэя. Ён ішоў на клас вышэй, Васіль у яго пазычаў кнігі па літаратуры і за год наперад прачытваў.

У Нупрэя вялікая сям'я — сямёра братоў і сясцёр. Як шматдзетнай сям'і ім выдзелілі дапамогу — дзве тысячы рублёў.

Васіль не ведае, якія абноўкі справілі дзецям, але патэфон Бірулі — такое прозвішча сям'і — купілі. З раніцы да вечара ў Біруляў не змаўкае музыка. Іголкі патупіліся, але іх вострыць на бруску і раз за разам ставяць новую пласцінку.

У іх шмат пласцінак, можа, цэлая сотня. Браты і сёстры Нупрэя па першым Васілёвым жаданні ставяць тую, якую ён хоча паслухаць. Сярод пласцінак ёсць такія, якія вызначаюцца асаблівай мелодыяй і рытмам: «Рыя-рыта», «Кармэн», вальс на гавайскай гітары, а таксама танец «Чобаты», які выконвае калектыў Хойніцкай машынна-трактарнай станцыі, размешчанай у суседнім раёне.

Дзесяць пласцінак прысвечаны прамове Сталіна на XVII з'ездзе партыі. Голас у Сталіна хрыплаваты, вымаўленне нярускае, у ім выразна чуецца акцэнт.

За падручнікі Васіль заплаціў цану, якая на іх пазначана. Нупрэй не саступіў ні капейкі. Васіль уважыў. Ён часта аціраецца ў Нупрэевай хаце, слухае музыку, то трэба ж і сумленне мець.

Пасля сямігодкі многія дзеці местачкоўцаў падаюцца вучыцца куды-небудзь далей. Можа, і Васіль так зробіць, паступіць у тэхнікум ці якое-небудзь вучылішча. Бо дома жыць становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. У сям'і тры хлопцы, грошай хапае бадай толькі на хлеб. І то не заўсёды.

На канікулах Васіль працуе. Летась і пазалетась ён зносіў на станцыі жужаль, які заставаўся пасля паравозаў, ссякаў між шпал траву. Гэтым летам працаваў у лесе на прарэджванні дубкоў: рабілі расцяробы на дубовых пасадках.

І вось сёмы клас.

Цяпер Васіля будуць вучыць яшчэ больш настаўнікаў, бо павялічылася прадметаў. Трохі ніякавата ад гэтай думкі. Хоць, здаецца, веды даюцца яму лёгка. Але то былі сярэднія класы, і навука там была не такая цяжкая. Тут жа алгебра, геаметрыя, фізіка больш складаныя. Прыбавяцца хімія, трыганаметрыя. Ці справіцца з усім гэтым Васіль? Трывога часам закрадваецца ў душу, але ён як мага яе адганяе.

На першы ўрок прыходзіць Варановіч. Васіль яго ведае. Ён працаваў старшынёй сельсавета і на Ластаўцы, гнядой кабыле з белымі падпалінамі на нагах, паўз двор Васіля імчаў у суседнюю вёску Кавенькі. Там якраз арганізоўваўся калгас.

Васіля страшылі. Гаварылі, што з усіх настаўнікаў ён найбольш строгі і суровы.

Варановіч з выгляду зацяты. Высокі, з чорнымі валасамі, гладка паголеным вузкаватым тварам. Тонкія губы, жорсткія, стальнога колеру вочы.

— Я буду выкладаць у вас рускую мову і літаратуру,— пачынае Варановіч.— Завуць мяне Георгій Канстанцінавіч. Думаю, паспеем пазнаёміцца. На тыдні ў мяне ў вашым класе восем урокаў. Шэсць па мове і два па літаратуры. Сёння — урок па літаратуры.

Страхі, якія напаўнялі душу хлопца, паступова развейваюцца. Бо Варановіч тлумачыць ясна, даходліва. Проста нельга не зразумець яго. Чаму тады старэйшыя школьнікі страшылі Варановічам Васіля? Гэта высветліцца пазней. Пакуль што Васіль усяго не ведае. Адно толькі можна сказаць пэўна: дысцыпліну Варановіч трымаць умее. На яго ўроку чуваць, як муха праляціць.

Увогуле настаўнікі ў сёмы клас прыходзяць цікавыя. Беларускую мову і літаратуру выкладае Васіль Хаміч Самацееў. Ён толькі што прыехаў у школу. У мінулым годзе яго не было. Высокі, шыракаплечы, трохі марудлівы, ён нагадвае мядзведзя. Дзіўна ён гаворыць. Па-беларуску, але як бы з рускімі канчаткамі: «ідзець», «пяець», «падскокваець». Іншы раз зусім не ўжывае канчаткаў.

Цікавы яшчэ географ Чобат. Маленькі, са зморшчаным смуглявым тварам, ён мае на дзіва зычны голас. «Турак»,— даюць мянушку географу на першым жа ўроку. Хоць прозвішча настаўніка, здаецца, беларускае…

Васіль ганарыцца тым, што вучыцца ў сёмым класе. Гэта не тое, што ў трэцім ці нават у пятым. Усе старэйшыя класы займаюцца ў другую змену. Сямікласнікі таксама. Цяпер верасень, дні яшчэ доўгія, і нават пасля шасці ўрокаў на двары светла.

Сямікласнікі, вяртаючыся са школы, не гарланяць так адчайна, як, напрыклад, першакласнікі. Яны ідуць вуліцамі, на якіх трапляюцца сады ці хоць ігрушы-дзічкі. Калі раскідзістая дзічка вытыркае галіны на вуліцу і на іх што-небудзь ёсць, ляцяць у зялёныя шаты driчкі, палкі. Шпокаюць аб зямлю кругленькія грушкі. Садоў у мястэчку мала. А дзяцінства так прагне яблыка ці кісла-салодкай ігрушы-дзічкі.

На Вакзальнай вуліцы ёсць сад чыгуначніка-пенсіянера, дзе даспяваюць познія яблыкі-цыганкі. Але гаспадар вельмі пільны. Ведае, калі канчаюцца ўрокі і калі пройдзе міма гурт школьнікаў. У гэты час ён сядзіць на лавачцы каля двара.

Аднаго разу шкаляры ўсё-такі ўварваліся ў сад скнары. Сышоў з рэек вагон, і гаспадар саду, хоць на чыгунцы ўжо не працаваў, кінуўся на станцыю. Сямікласнікі тым часам маху не далі. Косця Ціток пераскочыў цераз паркан, узлез на яблыню і з усёй сілы трасянуў галіну, якая навісала над

вуліцай. У зарослую травой канаву пасыпаліся чырванабокія цыганкі.

Кожны дзень адбываецца якая-небудзь падзея. На ржышчы, за заходняй паловай хат, сеў самалёт. Пасадка вымушаная: нешта сапсавалася ў маторы. Два лётчыкі, трымаючы ў руках пісталеты, нават блізка не падпусцілі да самалёта цікаўную грамаду падлеткаў.

Прыцемкам самалёт знік: нібыта прыйшоў спецыяльны, з вялікім кузавам грузавік, і ў яго пагрузілі пашкоджаны самалёт.

## II

Карыстаючыся тым, што заняткі ў другую змену, Васіль амаль кожнай раніцы бегае ў лес па грыбы. Ім усе гэтыя цёплыя вераснёвыя дні валодае добры настрой.

Іх лес размешчаны далекавата: трэба патраціць не менш за гадзіну, каб да яго дабрацца. Амаль кожны грыбны паход удалы. Не так ужо многа знаходзіць Васіль баравікоў, але не ў адных баравіках шчасце. Ён назірае, як узыходзіць сонца, як яго першыя промні ліжуць медна-жоўтыя галіны сасновых вяршалін, як пачынае працоўны дзень пярэсты дзяцел, дзюбаючы жалезным носам старадрэвіну, як увогуле абуджаецца лес, поўнячыся разнастайнымі зыкамі.

Буслы ўжо збіраюцца ў адлёт. На ўзлессі, на балацянках яны сыходзяцца гуртамі і раз за разам падскокваюць, адначасова распрамляючы крылле. Уражанне такое, што буслы перад дальняй дарогай танцуюць.

У лесе прыбаўляецца сінічак. Сінічкі, відаць, прылятаюць сюды з паўночных лясоў, бо тут цяплей і болей корму. Яны весела і гучна цінькаюць: блізка сапраўдная восень. Гэтыя маленькія прыгожыя птахі ў вырай не паляцяць, зімаваць будуць тут, перабраўшыся ў местачковыя двары і нешматлікія сады.

Можна яшчэ вожыка напаткаць: ён таксама будзе зімаваць і перад тым, як зашыцца куды-небудзь у лоўж, залегчы ў зімовую спячку, ад’ядаецца.

Лес сам па сабе ўздымае настрой. Васілю прыемна блукаць па разлівах верасоў, якія буйна квітнеюць, глядзець,

як кружком вакол сябе бяроза скідае жоўтае лісце, слухаць, як шамацяць барвова-жоўтыя асіны.

У адзін з гэтых дзён Варановіч дае класу дыктоўку па рускай мове. Дыктуе ён нават празмерна павольна, каб даць класу магчымасць падумаць над кожным словам. Дні праз тры прыносіць правераныя сшыткі. Божа ты мой! З перапоўненага 7 «Б» класа (тут займаецца сорак чалавек) станоўчыя адзнакі атрымліваюць толькі трое: Міхась Петручэнка (ён вучыўся ў горадзе і зусім нядаўна перабраўся ў мястэчка) мае па дыктоўцы «добра» і два чалавекі — «здавальняюча». Гэта Васіль і дзяўчына-другагодніца Аня Конаш, якая сядзіць за Васілёвай спінай.

У дыктоўцы было сто дваццаць слоў. Малы, як вузел, Вярчэбны, у дадатак страшэнна лахматы, нібы за ўсё жыццё ні разу не стрыгся, зрабіў болей як дзвесце памылак.

Варановіч не ўпускае магчымасці адзначыць такога незвычайнага вучня.

— Ідзі, Вярчэбны, да дошкі.

Бялявы, порсткі ў рухах вучань з задняй парты ў адзін момант апынуўся каля стала настаўніка. Нібы злоўлены звярок, з-пад ілба глядзіць на Варановіча.

— Ты з якой вёскі, Вярчэбны?

Ціхім голасам сямікласнік называе Бабчын, вёску, з якой паходзіць Васілёва маці і ў якой ён сам некалькі разоў быў.

— У вашай вёсцы ёсць сямігодка. Чаму ты там не застаўся?

— Бацьку па рабоце перавялі.

— А хто твой бацька?

— Бондар.

Недалёка ад школы, па суседстве з паравым млынам, які цэлы дзень чухкае чорным дымам, размешчана, як яе ў мястэчку называюць, парыльня. Там гнуць вобад, робяць калёсы, а таксама розныя бочкі, дзежкі, маслабойкі. Тут і працуе бацька гэтага малога хлапчыны.

— Напішы, Вярчэбны, на дошцы сваё прозвішча.

Неяк няўпэўнена, нячутна слізгаючы крэйдай па дошцы, вучань нарэшце крывымі каракулямі нешта вывеў. Здзіўлены клас не верыць вачам. На дошцы напісана: «Артэбныя».

— Вось бачыш, Вярчэбны. Свайго прозвішча граматна напісаць не ўмееш. Хто ў тваім дзённіку распісваўся?

— Сястра.

— У якім яна класе вучыцца?

— У чацвёртым.

Клас выбухае рогатам.

— Думаю, у сёмым класе, Вярчэбны, табе вучыцца яшчэ рана.

Амаль подбегам Вярчэбны сягае да сваёй парты, хапае сумку з кнігамі і выслізгвае за дзверы. З гэтага моманту ніхто ніколі не бачыў гэтага дзікаватага вучня ў мястэчковай дзесяцігодцы.

Вялікага дзіва ў тым, што клас так ганебна напісаў дыктоўку, няма. Мястэчка размаўляе на «трасянцы». Гэтая гаворка ў аснове беларуская, але ў ёй шмат слоў рускіх, украінскіх і мясцовых, якіх ні ў адным слоўніку не знойдзеш.

Па беларускай мове ёсць падручнік, а па літаратуры — толькі хрэстаматыя. У ёй кароценькія біяграфіі пісьменнікаў, вершы і ўрыўкі з іх твораў. Колькасць пісьменнікаў, творчасць якіх вывучаецца ў сёмым класе, за апошні час скарацілася.

Васіль марыў прачытаць «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага. За кнігай стаяла чарга ў школьнай і сельсавецкай бібліятэках. Цяпер Васіль яе ўвогуле не прачытае, бо Цішка Гартны абʼяўлены ворагам народа.

У ворагах апынуліся яшчэ некалькі пісьменнікаў, кнігі якіх Васіль чытаў: Міхась Зарэцкі, Платон Галавач, Андрэй Александровіч. Канешне, дзіўна і незразумела, як пісьменнікі могуць шкодзіць і што яны такое варожае зрабілі. Бо нічога заганнага ў іх творчасці Васіль не знайшоў. Проста адны цікавей пішуць, другія — нудней.

У газетах, нават у такой маленькай, як «Піянер Беларусі», шмат расказваецца пра шпіёнаў, дыверсантаў. Іх, аказваецца, у прыгранічных раёнах нават піянеры затрымліваюць.

Вася таксама хацеў бы затрымаць якога-небудзь шпіёна. Але ад іх мястэчка да граніцы далекавата. Граніца праходзіць каля Жыткавіч, і да іх адсюль кіламетраў паўтараста. Калі якія-небудзь дыверсанты і прабраліся цераз граніцу, то іх даўно палавілі. Жадаючых праславіцца шмат.

## III

Зрэшты, сёмы клас не такі цяжкі. Васіль цяпер ведае ўсіх настаўнікаў, якія выкладаюць. Настаўнікі як настаўнікі. Толькі выкладчыца нямецкай мовы Галіна Васільеўна Петрушэўская, маленькая, нерашучая жанчына, зусім не ўмее трымаць дысцыпліну. На яе ўроках сямікласнікі робяць што хочуць. Ледзь на галаве не ходзяць. Шум і гоман стаіць у класе. Ды і мова гэтая нікога зацікавіць не можа. Вось ужо хутка месяц, як спрагаюць дзеяслоў «хабен». Ну і што з гэтага «хабен»? Лепш бы завучылі звычайныя сказы, такія, напрыклад, як «Я прыйшоў у школу», «Я пайшоў са школы», «У школе мне падабаецца» і іншыя.

А восень стаіць харошая: мяккая, ціхая. Зранку туман з балота Гарадзінкі шчыльным полагам ахінае станцыю і прылеглыя вуліцы. Але ўзыходзіць сонца, і праз гадзіну туман развейваецца дарэшты.

Васіль па-ранейшаму вандруе па лесе. Дрэвы стаяць напалову голыя, апалае лісце шасціць пад нагамі. Цяпер калі і знойдзеш баравік, то адзін, а калі пашэнціць — два. Усё яшчэ пракідваюцца сыраежкі, зрэдку абабкі, падасінавікі. Часцей трапляюцца зялёнкі. Каб назбіраць іх, трэба хадзіць па маладых сасняках, дол якіх пакрыты белым наздраватым імхом, або па імшаніках. Вось такія цяпер грыбы. Але іх таксама прыемна збіраць, можа, па той прычыне, што яны — апошні падарунак яшчэ досыць цёплай восені.

У Васіля ёсць у лесе запаветныя мясціны. Адна якраз там, дзе густы грабняк мяжуе з лесам, у якім гонкія сосны перамешаны з такімі ж стромкімі бярозамі.

Васілёва палянка шчыльна зарасла ціпчаком, кругляцом, дзяцельнікам. Летам тут заўсёды трапляюцца баравікі. Толькі іх у густой траве не ўбачыш: трэба грыбы вытупваць і вымацваць.

Восень усё больш замацоўвае сваю ўладу. Хлопец і ў лес перастаў хадзіць. Лес стаіць голы, самотны. Пад нагамі — дыван з апалага лісця, пад якім наўрад ці знойдзеш які грыб.

У выхадныя дні Васіль з Адамам, суседскім хлопцам, клеяць паветраных змеяў.

Васілёвы змеі добра лятаюць. У ягоных руках няма асаблівага спрыту, але змеі атрымліваюцца нават лепшыя, чым у іншых хлопцаў з мястэчка. Прыемна бачыць, як твой змей — вырваны з сшытка двайны ліст з наклеенымі на яго фанернымі пласцінкамі — ірвецца пад самыя аблокі. Вось толькі з ніткамі цяжкавата. На кожнага змея, каб утрымаць яго, трэба клубок моцных суравых нітак.

У кожным класе, дзе вучыўся Васіль, стаялі нізенькія парты першакласнікаў. Сядзіш сагнуўшыся, не можаш ні ногі выпрастаць, ні спіну. І вось на перапынку Косця Ціток злёгку стукае Васіля па плячах:

— Не гніся ты. Лапаткі выпіраюць. Яшчэ горб нажывеш…

Косця — нізкага росту, а Васіль — высокі. На фізкультуры ён першы ў шарэнзе. Акрамя таго ён вельмі худы. Бо пераборлівы ў ядзе. Не есць смажанай бульбы, вараных буракоў, нават не пераносіць паху цыбулі, калі ёй разам са шкваркай запраўляюць суп. Абыходзіцца шклянкай малака і кавалкам хлеба.

Косцевы словы балюча ўражваюць Васіля. Ён сам не любіць згорбленых людзей. А вырасце, відаць, такім…

Канчаюць будаваць новую двухпавярховую школу. Зімой нібыта будуць пярэбары. Новая школа бліжэй да Васілёвага дома, і ўвогуле стаіць у цэнтры мястэчка, на краі Базарнай плошчы. Побач са школай вырастае яшчэ адзін двухпавярховы будынак — райвыканкам.

Ужо снежань месяц. Набліжаюцца першыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Школа ідзе на сустрэчу з кандыдатам у дэпутаты маршалам Кулікам. Сустрэча павінна адбыцца на Базарнай плошчы. Там трыбуна, ёсць месца пастаяць натоўпу.

Васіль застаецца ў класе. Бо ён стараста. Трэба ж некаму папільнаваць сумкі, кніжкі, іншыя рэчы.

Васіль з першага класа стараста. А цяпер яшчэ стаў і старшынёй савета атрада. Васіль нічога асаблівага не робіць. Але ён добра вучыцца, і яго выбіраюць на гэтыя пасады.

Ніхто не ведаў, што маршал перш-наперш завітае не на Базарную плошчу, дзе сабраўся народ, а прыедзе ў школу. Кандыдат у дэпутаты — з ім тры ці чатыры чалавекі мясцовага начальства — чамусьці завітвае ў сёмы клас, дзе, прыхінуўшыся да грубкі, грэецца Васіль.

Маршал прысадзісты, з вельмі суровым тварам, з вялікімі зоркамі на каўняры. Ён здзіўлена глядзіць на Васіля і пытаецца:

— Дзе народ?

— Вучні і настаўнікі пайшлі на сустрэчу з маршалам,— адказвае Васіль.

— Дык я і ёсць маршал,— усміхаецца вайсковец, і ад гэтага яго суровы твар прыкметна дабрэе.

— Не ведалі, што вы прыйдзеце,— як бы рапартуе хлопец.— А так засталіся б.

Па тварах людзей, якія суправаджаюць маршала, Васіль бачыць, што адказаў правільна.

— А ты хто такі, што не пайшоў з іншымі? — працягвае пытаць Кулік.

— Староста класа.

— Прыемна пазнаёміцца,— маршал працягвае Васілю руку.— Вучышся як?

— Добра. Была тройка па геаграфіі. Цяпер «выдатна». Дыктоўкі па рускай мове пачаў на «добра» пісаць.

— Малайчына. Жадаю поспехаў. Трымай, брат, так і далей.

Праз акно Васіль бачыць, як маршал са спадарожнікамі садзяцца ў машыну. У іншыя класы яны не зайшлі.

Калі Васіль гаварыў маршалу, што выправіў па геаграфіі тройку на пяцёрку, то гэта была чыстая праўда. «Турак»-географ, па ўсім відаць, яго недалюбліваў. Васіль напачатку неяк цярпеў. Гэта мала закранала самалюбства. Калі ж ён пераканаўся, што дзяўчатам, якія не ведаюць пра вялікія падарожжы і падарожнікаў, Чобат ставіць пяцёркі за вельмі пасрэдныя адказы, штосьці ў яго душы запратэставала.

Не, ён не падымаў руку, не выпрошваў лепшай адзнакі. Усё атрымалася само па сабе. Вывучалі якраз характарыстыкі вятроў. Географ падняў для адказу Васіля. Тым часам у яго галаве перамяшалася тое, што ёсць у падручніку, з тым, што прачытаў у Жуля Верна. І апрача пасатаў, мусонаў назваў брыг, смерч і яшчэ некалькі вятроў, якія дзьмуць у Афрыцы, Азіі і на акіянскіх прасторах і пра якія ў падручніку не было ні слова.

Чобат ад здзіўлення аж рот разявіў. Ён зразумеў, што перад ім начытаны і разумны вучань, і з таго часу нязменна ставіць Васілю пяцёркі. Але ж нейкая нядобразычлівасць у адносінах да Васіля ў яго засталася.

Аднойчы на сходзе сёмых класаў географ падняў Васіля з месца і спытаў:

— Вось ты вучышся добра. А каму памог?

Васіль не знайшоўся што адказаць. Што азначае «памог»? У сёмым класе вельмі цяжкая арыфметыка, бо яна тут канчаецца: двухпавярховыя прыклады з простымі і дзесятковымі дробамі, працэнтамі.

Васіль не надта любіць арыфметыку, але задачы рашае. На кожную такую задачу трэба патраціць вечар. Аднойчы задача трапілася вельмі закавырыстая. Тым часам не было дроў ні на сёння, каб у печы пратапіць, зварыць бульбу, ні на заўтра.

Васіль гадзіны дзве правёў каля станцыйнага дрывянога склада, пакуль сцягнуў дзве плашкі. Папілаваў іх, пакалоў на паленцы. На арыфметыку часу не засталося.

З класа задачу ніхто не рашыў. Тады Бухман — настаўнік матэматыкі — звярнуўся да Васіля.

— Ідзіце да дошкі і напішыце ваша рашэнне.

— Я сшытак дома забыў.

— Улічваючы вашы папярэднія поспехі, можна паверыць,— гаворыць настаўнік.— Успомніце, як рашалі. Ідзіце да дошкі…

Каля дошкі Васіль з задачай спраўляецца, хоць на гэта траціць ледзь не ўвесь урок.

Дык як Васіль памагае адстаючым? У большасці выпадкаў рашае задачы. Тыя, хто не рашыў, у яго спісваюць. Але пра гэта Чобату не скажаш.

Другой дапамогі ад Васіля, здаецца, ніхто не чакае.

## IV

Зіма. Абледзянелай скарынкай пакрыўся неглыбокі снег. Шматслойныя шэрыя воблакі зацягнулі неба. Шэрыя дрэвы, парканы, хаты. На прызбе школьнага будынка, да якой снег не дайшоў, вытыркнулася зялёная травінка. Васілю шкада яе.

А можа, сябе шкада. Колькі месяцаў трэба чакаць цёплага лета!..

Зімы Васіль не любіць. Можа, па той прычыне, што ніколі не меў цёплага адзення і добрага абутку. Вось і цяпер ён носіць палітончык, перашыты з чыгуначнага бацькавага шыняля. Пад палітончык надзявае дзве сарочкі: крамную, тоненькую і споднюю, кужэльную, з даматканага палатна. Распоўзлыя чаравікі Васіль зашывае суравымі ніткамі, і, каб менш кідалася ў вочы яго шавецкая самадзейнасць, фарбуе ніткі чарнілам.

Скончылася другая чвэрць. Некалькі дыктовак па рускай мове Васіль напісаў на «добра». Але Варановіч асцярожнічаў. Ён паставіў Васілю здавальняючую адзнаку. Чобат адступіў: па геаграфіі «выдатна». Так што за чвэрць у хлопца пераважаюць добрыя і выдатныя адзнакі, і толькі адна тройка.

Пасля Новага года — пярэбары ў новую школу. Ёлка таксама будзе там. Цяпер Васілю шкада старой школы, пясчанага двара, пасаджаных школьнікамі таполяў, якія ўбіраюцца ў сілу.

У мястэчку ўжо ёсць руская школа, у якой пакуль што чатыры класы. Яна займае пабудаванае яшчэ да рэвалюцыі памяшканне, падобнае на тое, якое стаіць на пляцы старой школы: пафарбаваныя сцены, жалезны дах. Толькі гэтае памяшканне меншых памераў.

Хто пайшоў у рускую школу? Галоўным чынам дзеці прыезджых людзей, загадчыкаў розных кантор, службоўцаў. Але і мясцовая дзятва там ёсць.

Руская школа нібыта таксама памяняе месца. Перабярэцца на месца беларускай. Ёй хопіць акуратнага памяшкання пад жалезным дахам. Хто зойме хутарскія хаты, пакуль невядома.

Двухпавярховая каменная школа не тое, што ранейшая. Тут размах і прастор. Даўжэзныя калідоры з пафарбаванай падлогай, агромністы двор. Перад уваходам у школу вялікая зацэментаваная пляцоўка, на якой сустракаюць школьнікаў і ўсіх астатніх статуі піянеркі з горнам і такога ж юнага барабаншчыка.

Базарная плошча пераносіцца ў іншае месца. А тут вымалёўваецца галоўнае месца раённага мястэчка. Бо побач будуецца райвыканкам. І райкам адсюль недалёка. Ужо

пабудавана трыбуна, з якой у святы будуць прамаўляць кіраўнікі раёна.

Навагодняя ёлка пастаўлена ў новай школе. Яе выдатна аздабляюць рознымі цацкамі, ніцямі серабрыстай паперы, якая імітуе снег. Прывезлі елку з другога канца раёна, бо ў вакольных лясах дрэва гэтае не расце.

Усё добра, але 7 «Б» зноў не шанцуе. Над уваходам у школу навісае каменны выступ, звернуты вокнамі на поўнач. Памяшканне, якое размешчана тут, адвялі класу для заняткаў. Спачатку сямікласнікі ўзрадваліся: прасторна, светла, зусім не так, як у хутарской хаце.

Хутка, аднак, апомніліся. Паўночны вецер абвявае выступ з трох бакоў, сцены настываюць, тым часам на ўвесь вялікі пакой адна грубка. Ёй такую каменную махіну не абагрэеш.

Цяпер Васіль з жалем успамінае хутарскія хаты, у якіх ён правучыўся шэсць з палавінай гадоў. У іх было цёмна, стаяла цяжкае паветра. Часам было халаднавата, але толькі да першага ўрока. Сорак вучняў дыханнем абагравалі клас. Тым больш што дрэва — не камень. Грубкі на клас хапала.

Ёсць, вядома, выгоды ў новай школе. З другога паверха мястэчка выглядае як на далоні, нават дальнія вуліцы відаць. Шэрыя, пахілыя хаты, аднастайная забудова. Мала дрэў і садоў. Лес, палі, балота таксама відны, хоць бачацца яны як бы ахутанымі сіняватай павалокай туману.

Васіль шчыра аддany школе. На ўрокі ходзіць дзень у дзень. Вядома, ёсць хатнія справы: раздабыць дроў, купіць хлеба. Але гэта не замінае часу для школьных клопатаў.

У адзін з тых дзён у хутараніна з Далёкага Ляда нанялі каня перавезці з балота сена. Бацьку трэба было ісці ў начное дзяжурства, таму да стажка ў Астроўках пайшоў Васіль. Апоўдні да яго мусілі пад’ехаць Кірдзюкі — бацька і сын.

Васіль прайшоў па замерзлым балоце, па цёмным алешніку. Тут снег між дрэў ледзь пацярушыў. Відаць патоўчаную быдлячымі нагамі чорную груду. Сарока пырхае з дрэва на дрэва, зацята трашчыць: убачыла чалавека і цікавіцца, чым ён будзе займацца. А ўвогуле стаіць глыбокая цішыня. І ўражанне такое, што свет нібы застыў у нерухомасці і спакоі. «Ёсць другое жыццё — без урокаў, без школьнай гаманы і

гвалту,— думае Васіль.— Не трэба рашаць задачы, пісаць пераказы, сядзець, сагнуўшыся за нізенькай партай».

Пад'язджаюць Кірдзюкі. Кірдзюк-малодшы — яго завуць Коля — з на дзіва прыгожым, як у анёла, тварам, спрытна ўзбіраецца на стажок, скідае апоўзіны, кідае на воз сена. Васіль, стоячы на возе, сена ўтоптвае.

Воз наклалі хутка. Але ён атрымаўся распоўзлы, крывы: Васіль нераўнамерна размеркаваў сена, дрэнна ўтаптаў. Кірдзюкам прыйшлося папраўляць воз.

Пазней стары Кірдзюк выгаварыў бацьку:

— Я думаў: твой як мой. А ён нічога не ўмее. Для гаспадаркі яго трэба вучыць і вучыць...

Між іншым ні Коля з тварам анёла-херувімчыка, ні яго старэйшы брат нават чытаць не ўмеюць. Бацька ў школу іх не пускае. Маўляў, і так абыдуцца. Затое ў гаспадарцы хлопцы вялікія зухі.

Васіль тым часам складаныя задачы па арыфметыцы рашае, дыктоўкі па рускай мове піша амаль без памылак. А каля воза з сенам асабліва завіхацца не ўмее.

Бацька выпісаў у лясніцтве два кубы дроў. Іх трэба яшчэ нарыхтаваць. У Астроўках цэлы квартал вывернутых з карэннем бяроз. Вось там і нарыхтоўвалі дровы. Васіль з бацькам дні тры выпілоўвалі з бярозавых камлёў бярвенцы даўжынёй па 4-5 метраў, каб загрузіць іх у кузаў грузавіка.

Шафёр аказаўся пад рукой: дзядзька Пеця з Бабчына, матчынай вёскі. Пеця вучыўся ў Рэчыцы на настаўніка. Памагаць было некаму, і ён з трэцяга курса вучобу кінуў. Рабіў у калгасе рахункаводам, ажаніўся. Жонка настаяла, каб ён скончыў шафёрскія курсы. Цяпер Пеця працуе ў мястэчковым леспрамгасе, возіць дубовыя кражы, рудстойку, дровы. Няблага зарабляе. Ён і нарыхтаваныя ў Астроўках бярвенцы перавёз у Васілёў двор. Так што да канца зімы апал ёсць.

Хлопец задаволены. Апал хаты — галоўны яго клопат. Папахадзі каля станцыйнага дрывяного склада, павіжуй, паназірай за Бозям, уедлівым, хоць і няштатным вартаўніком, пакуль прывалачэш плашку на двор. Цяпер плашак красці не трэба. А распілаваць гатовае бярвенца, пакалоць чурбакі на паленцы — справа нескладаная.

## V

Ужо трэці год Васіль ахоплены, калі можна сказаць так, кніжнай ліхаманкай. Прачытвае кнігу за дзень. І не сказаць, каб вельмі тоненькую. У сярэднім старонак на дзвесце. Дзе ён знаходзіць такую процьму кніг? Па-першае, ёсць сельсавецкая бібліятэка. Васіль яе ўжо дачытвае, нягледзячы на тое, што тоўстая, незамужняя бібліятэкарка Ксюша дазваляе яму завітваць сюды толькі раз у тры дні. Ёсць яшчэ школьная і леспрамгасаўская бібліятэкі. Але нават не гэта галоўнае.

Ёсць суполка, аб’яднанне такіх кніжнікаў, як Нупрэй, Іван Лазавік, якія ніводную цікавую кнігу не выпускаюць з рук і даюць чытаць толькі тым, хто ўваходзіць у суполку.

Дзякуючы Нупрэю, Васіль пазнаёміўся і сышоўся нават бліжэй, чым з самім Нупрэем, з Іванам Лазавіком, таксама васьмікласнікам.

Калі кнігу дастае Нупрэй ці Іван, то яе прачытвае і Васіль. Яны даюць кнігу на дзень, сама болей на два, але гэтага часу для Васіля дастаткова. Бо акрамя дня ёсць ноч.

Бацька злівае са стрэлачных ліхтароў газу, якая не згарэла за ноч, і ў бутэльцы прыносіць дадому. Так што паліва для асвятлення хаты ёсць.

Прыемна ўваходзіць у чужое жыццё, хвалявацца, радавацца, сумаваць. Колькі можна перажыць за вечар і ноч, пакуль чытаеш. І не толькі гэтым кніга прываблівае Васіля. Яна пашырае далягляд, дае магчымасць пабываць у розных краінах, у розных колах грамадства.

Добрая кніга западае ў душу чымсьці такім, чаму і назву цяжка адшукаць. Нейкай музыкай, мелодыяй. Змест праз некаторы час забудзеш, а мелодыя будзе гучаць у душы заўсёды.

Прачытаўшы добрую кнігу, хочацца самому зрабіць нешта незвычайнае, здзівіць калі не свет, то хоць сяброў, якія цябе ведаюць, дзяўчат, якія вучацца з табой. Але што ты такое асабліва можаш зрабіць? Вучыся, хадзі на ўрокі, старайся без памылак пісаць дыктоўкі.

Па беларускай мове пісалі пераказ па апавяданні Якуба Коласа «Страшнае спатканне». Дні праз тры настаўнік Васіль Хаміч Самацееў прынёс сшыткі, а пераказ Васіля зачытаў

перад класам. Пахваліў яго за апісанне лесу, за добрую перадачу псіхалогіі хлопчыка, якому аброслы імхом пень здаўся ваўком.

Самацееў папрасіў Васіля застацца пасля ўрокаў. Завёўшы падлетка ў пустую настаўніцкую, паслухаўшы ягоны расказ аб прачытаных кнігах, ён нават пляснуў рукамі:

— Столькі прачытаў! Дзейнічай так і далей. Запомні: вучонымі некаторыя становяцца не ў сорак ці пяцьдзясят гадоў, а ў тваім якраз узросце. Калі ты пойдзеш па гуманітарнай лініі, то гэтыя кнігі так альбо інакш прыйдзецца прачытаць. А ў цябе яны ўжо прачытаны. Разумееш, якая ў цябе перавага?

Размова з Самацеевым, дабрадушным, крыху павольным, схільным да жарту і гумару чалавекам, узбадзёрвае Васіля. Дыктоўкі, якія Варановіч праводзіць кожны тыдзень, ён пачынае пісаць без ніводнай памылкі. Клас наогул прыкметна падцягнуўся па рускай мове.

Іван Лазавік яшчэ больш пашырае Васілёвы гарызонты. Ён купляе на станцыі газеты, сочыць за падзеямі грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

— Не ўдасца генералу Франка авалодаць Уэскай. Ты разумееш, што такое грамадзянская вайна? Гэта калі чалавек сам ідзе на смерць. Хоча адстаяць свае перакананні.

Для Васіля вайна ў Іспаніі штосьці далёкае. Ён ёй асабліва не цікавіцца.

— Зразумей, перамогуць рэспубліканцы ці пацерпяць паражэнне, гэта мае значэнне для ўсёй Еўропы,— гаворыць Іван.— Фашызм прабуе моц сваіх кіпцюроў. Вось бачыш, і Гітлер пачаў варушыцца. Заняў Рэйнскую вобласць. Нацэліўся на Аўстрыю...

Яны, гэтыя хлопцы, як і тысячы другіх, падрастаюць пад гул бамбардзіровак, гарматных выбухаў, якія, праўда, гучаць далёка ад іхняй краіны. Але гэта не азначае, што вайна не ахіне чорным крылом іхнюю радзіму. Іван гэта прадчувае. Васіль, здаецца, пра такія рэчы не думае.

Іван, сын пуцейскага майстра, жыве ў прыгожым месцы. Ад чыгуначнай станцыі адыходзіць ветка, якая вядзе ў паўднёвыя раёны. Адтуль вывозіцца лес: тоўстыя сасновыя бярвенні, якія накіроўваюцца на дрэваапрацоўчыя заводы. Бацька Васіля — стрэлачнік — падрабляе на гэтай ветцы.

Кожны састаў павінен мець кандуктара, якім часта становіцца бацька.

Сядзіба майстра размешчана якраз там, дзе ветка рэзка паварочвае на поўдзень. Гэта прыдатная сядзіба. Тут адна палавіна доўгага чыгуначнага дома прыстасавана пад зборню, дзе сыходзяцца пуцейцы, у другой жыве сам майстар.

Іван мае асобны пакоік, у якім стаіць стол, жалезны ложак, шафа з кнігамі. На ўсю сцяну развешана геаграфічная карта Заходняй Еўропы. Спецыяльнымі сцяжкамі Іван адзначае лінію фронту ў Іспаніі.

Шафа поўная кніг. Але Васіль ужо добрую іх палавіну прачытаў. Ёсць кнігі на польскай мове. Іван купляе іх у палякаў-пенсіянераў, якія ў першую вайну пераехалі з Баранавіч і тут аселі.

— Цікавыя кніжкі. Хочаш, навучу па-польску чытаць. Трэба запомніць пяць-шэсць польскіх літар, і справа пойдзе...

Васіль пакуль адмаўляецца ад польскіх кніг. Ён яшчэ ўсіх рускіх, беларускіх не перачытаў.

Слоўнікаў-даведнікаў па матэматыцы, фізіцы таксама шмат у Івана. Нездарма ён лічыцца ў школе першым матэматыкам.

— Іспанія — пробны пляц для будучай вайны,— гаворыць Іван.— Калі перамогуць рэспубліканцы, вайны не будзе. Бачыш, Гітлер галаву падняў. Точыць зубы на Еўропу...

Іван апантана гаворыць пра Іспанію. Ён ведае ўсе франты, буйныя гарады, уважліва сочыць за ходам ваенных дзеянняў.

Васіль пра вайну асабліва слухаць не хоча. Цяпер сярэдзіна зімы, і ён чакае вясны, калі можна пакіраваць у лес, паслухаць пералзовы птушак, і лета, каб паласавацца ягадамі.

За хатай Івана ляжыць вялікае балота, дзе таўшчыня тарфянога пласта дасягае пяці-шасці метраў. Каля гэтага балота ўзвышаюцца пясчаныя пагоркі, якія некалі ўтварыў ледавік. Калі пракладвалі чыгунку, абмінуць так званыя горы не маглі. Праз іх пракапалі тунэль. Некалькі хвілін цягнік ідзе па вузкім, цесным карыдоры.

Васіля вабіць нават зімовы лес. За школьным хлявом — там увогуле сметнік — ён адшукаў дзве зламаныя лыжыны. Абедзве на правую нагу. Дома іх агледзеў, сяк-так падрамантаваў, прыстроіў раменьчыкі, каб льга было паставіць на лыжу нагу, і пакіраваў па заснежаным полі ў лес.

Снег добра ўляжаўся. Лыжы слізгаюць па ім, амаль не правальваючыся.

Як і тады, калі дапамагаў перавозіць стажок, Васіль убачыў многа цікавага. Птушкі, што засталіся зімаваць, кормяцца з поля — нашчэнт абцярэбліваюць быльнёг, пустазелле, якія вытыркаюцца з-пад снегу. А колькі слядоў на снежнай шэрані! Да мястэчковых ваколіц падбіраюцца лісы, зайцы і нават ваўкі.

У лесе лыжы між дрэў правальваюцца ў снег, і Васіль пераходзіць на шлях. Цяжка пазнаць лес. Ён стаіць задуменны, нахмураны, думаючы нейкую зацятую думку. І стоеная, старожкая цішыня пануе ў ім. Зрэдку трашчыць шышка, якую разгрызае вавёрка, ды дзесьці далёка стукае жалезнай дзюбай дзяцел.

Снег тоўстым пластом пакрыў Васілёвы грыбныя мясціны. Спяць у лаўжах вожыкі, пахаваліся ў падземныя норы мышы, яшчаркі, вужы і гадзюкі.

## VI

Урачыста прайшоў у школе вечар, прысвечаны гераічнай Іспаніі. Прыгожа чытаў верш Міхаіла Святлова «Гренада» Ізя Зелікман, сын аптэкара. Нават маленькую п’есу паставілі школьнікі, у якой рэспубліканская разведка захоплівала ў палон франкісцкага генерала.

Але Васілю болей помніцца вечарына з нагоды трыццацігадовай творчай дзейнасці Якуба Коласа. Арганізаваў і вёў яе Варановіч, хоць сам выкладае рускую мову і літаратуру. Колас блізкі, знаёмы, бо ён пісаў пра рэчы, якія добра ведае Васіль. З той вечарыны хлопец запомніў, можа, вершаў дзесяць. Вось так: пачуў і запомніў. Тое, што любіш, лёгка запамінаецца. І яму стала прыемна, радасна, што носіць у душы гэтыя вершы, яны як бы прыбаўляюць сілы, бадзёрасці, веры ў жыццё.

Летам Васіль зноў узяў томік вершаў Коласа і залез у хлеў на сенавал. Ішоў дождж, кроплі мерна шапацелі па саламяным даху. Гэта была лепшая музыка да вершаў паэта. Вялікая сіла — роднае слова! Ад таго, што гэтым словам

можна абмаляваць усё, што ёсць на свеце, робіцца радасна на сэрцы, думкі набываюць веліч і ўрачыстасць.

Агароды Васіля і яго сябра Адама завяршае высокі плот, складзены з бярвенняў. За гэтым плотам хлопцы змайстравалі турнік. Укапалі ў зямлю слуп, паклалі на яго жалезную трубу, другі канец трубы ўправілі ў сцяну хлява.

Не шмат чаго ўмеюць рабіць на турніку Васіль і Адам. Але ж турнік ёсць турнік. Павісець на ім на нагах і руках — і то карысць. Рукі ў хлопцаў пругкія, жываты падцягнутыя. Сябры хоць цэлы дзень могуць быць на нагах — і не стамляюцца.

Адамаў бацька чалавек не зусім добры. Неяк у лесе Васіль выкапаў бераст і пасадзіў яго пад плотам, складзеным з бярвенняў. Палівяў дрэўца, і яно прынялося, пайшло ў рост. Гэта не спадабалася бацьку Адама. Ён зрабіў так, што верхняе бервяно сарвалася і зламала дрэўца. Бераст, аднак, не загінуў. Ён даў буйныя парасткі. Тады Адамаў бацька чымсьці атруціў яго. Знайшоў нейкае зелле, падліў пад дрэўца, і яно засохла.

Маці расказвала, што гэтак жа старая Акуліна, маці бацькі Адама, вынішчыла сад, які належаў Васілёваму дзеду. Дзікія, варварскія норавы! На жаль, яны жывуць да гэтага часу...

Хоць і не надта любяць васьмікласнікі бачыць у сваёй кампаніі сямікласніка Васіля, ён цягнецца да іх усёй душой. Гэта не азначае, што ён цураецца аднагодкаў. Не, агульны інтарэс ёсць у яго і з імі, але васьмікласнікі — хлопцы як на падбор, кожны з іх яркая асоба. Акрамя Нупрэя, Івана Лазавіка, Ізі Зелікмана ёсць яшчэ Мікола Чобат, Яўсей Крупянка, Рува Азярынскі, Валодзя Трыгубовіч.

Мікола нязменна рагоча, хто б што ні сказаў. Рува, бацька якога стаіць за прылаўкам вялізнай, як гумно, паўцёмнай леспрамгасаўскай крамы, рэдка далучаецца да кампаніі, бо мае ў школе пасаду: загадчык піянерскага пакоя.

Вось гэтая кампанія складае суполку кніжнікаў і дастае кнігі, якія перападаюць і Васілю.

Хлопцы збіраюцца або ў Нупрэя, або ў Івана Лазавіка. Калі збор у Івана, то нязменны выхад у горы, на чыгуначны пуць, які вядзе ў суседняе мястэчка Хвойнае.

Горы цікавыя, спрэс з пяску і гліны, па схілах пазарасталі быльняком, лазой. Калі падняцца на самую вяршыню, з левага боку відаць лугавую гаспадарку «Ведрыца», з правага —

торфазавод «Закрасінскі мох». Аднойчы тут жа, у гарах, нараджаецца ідэя.

— Давайце, хлопцы, сходзім у «Ведрыцу» і на торфазавод,— прапануе Іван Лазавік.— Пра іх у газетах пішуць, а мы пад бокам жывём і ні разу там не былі.

Прапанова ўсім падабаецца. У наступную нядзелю хлопцы накіроўваюцца ў «Ведрыцу». Прамой дарогі да яе няма. Ёсць толькі кружная, доўгая. Вырашылі ісці замёрзлым балотам. Балота гэтае Васіль ведае, катаўся тут на ньках-дзеравяшках. Дабягаў да Багародзіцкай гары, праз якую дружбакі наважылі дабрацца да лугавой гаспадаркі. Вада ўмерзла добра. Але ўсё адно страшнавата глядзець у чорныя прорвы паміж рэдкіх купін, зараснікаў трыснягу і чароту. Якая глыбіня такой прорвы? Трапіш у яе і не выберашся.

Дарэчы, на балоце нехта займаецца рыбалоўствам. У прасечаныя ў лёдзе дзіркі апушчаны бучы. Значыць, нехта такім спосабам ловіць уюноў.

Узлезлі на Багародзіцкую гару. Пра яе ходзіць легенда. Нібыта тут стаяла царква. Яна апусцілася ў балота, а на гэтым месцы вырасла гара.

Саўгасны пасёлак выглядае вельмі ўбога. Стаяць пад ветрам і дажджом пачарнелыя хаткі, у кожнай з якой жывуць па дзве-тры сям'і. Наводдаль — хлявы. У «Ведрыцы» сеюць траву і на гэтай траве (відаць, яшчэ зерня дабаўляюць) вырошчваюць кароў, ад якіх шмат надойваюць малака.

Трава-сеянка надзвычай цэніцца ў мястэчку. Таму ў час касавіцы местачкоўцы пішчом лезуць у лугавую гаспадарку, каб хоць колькі дзён там папрацаваць. Бо так можна хоць трохі накасіць травы для ўласных кароў.

Цяпер, у зімовую пару, нічога тут не відаць. Лес стаіць голы, у галінах дрэў пасвіствае вецер. Асушанае балота ўслана снежнай наміткай. Стаяць гордыя дубы-веліканы, высока ўзносячы свае разгалістыя вяршаліны.

Гаспадарка носіць імя рэчкі Ведрыцы, якая далекавата ад паселішча. Хлопцы, аднак, рашылі і яе пабачыць. Пайшлі назад па шырокім шляху, а потым па чыгунцы падаліся на ўсход. І ўбачылі рэчку.

Змізарнела Ведрыца. Спусцілі ваду з балота — абмялела, павузела і яна. Але ўсё-такі гэта рэчка. І зараз, зімою, напорна,

у абдымкі да Дняпра бягуць яе хвалі, адбіваючы ў сваёй вадзе свінцовае неба. Марозы пакуль невялікія, і абледзянелі толькі берагі. Праз ваду праглядваюцца галька, ракавіны. Каб хоць такую змялелую, павузелую рэчку мела мястэчка. Зусім інакшае было б жыццё. Дзяцінству трэба вада. А вось гэтыя хлопцы, якія падбіраюцца пад кавалерскі ўзрост, вялікай вады не бачылі.

Васіль часцей бывае каля рэчкі, бо ходзіць у Бабчын, вялікую вёску, дзе жыве матчына радня.

— Давайце пройдзем трохі па беразе, і я пакажу вам цуд,— гаворыць Васіль.

Хлопцы згаджаюцца. Праз нейкую сотню метраў вачам адкрываецца сапраўднае відовішча. Шырокая паляна, агорнутая лесам, стаіць нібы ў вянку. Пасярод яе прыгожыя белыя дамкі. Паміж іх — рознай велічыні пабеленыя скрынкі, прымацаваныя на слупах, да некаторых вядуць лесвіцы. З правага боку вялікі, відаць, жылы дом. З яго коміна ідзе дым.

— Метэаралагічная станцыя,— паведамляе Васіль.— Яна пабудавана яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі.

Усе задаволены, што пабачылі прыгожы куток. У наваколлі нічога прыгажэйшага за гэтую метэастанцыю няма.

## VII

Хлопцы з восьмых — дзясятых класаў паставілі «Любоў Яравую» Канстанціна Транёва. Рыхтаваліся доўга: мелі пяць ці шэсць рэпетыцый. З-за гэтага і ў вучобе адсталі.

У школе ёсць здвоены клас. У пярэдняй частцы яго зрабілі ўзвышэнне, якое замяніла сцэну, павесілі заслону з цёмнасіняй матэрыі.

Спектакль па «Любові Яравой» прайшоў удала.

Праз месяц, пад вясну,— новая п’еса: «Паўлінка» Янкі Купалы. Ролю Адольфа Быкоўскага ўзяўся іграць Нупрэй. Хоць, здаецца, з усіх хлопцаў ён найменш валодае гумарам. Васіля таксама запрашалі ўдзельнічаць, але без пэўнай ролі, у масавых сцэнах. Ён адмовіўся.

І гэтая п’еса прайшла паспяхова. Можа, таму, што ролю Паўлінкі іграла самая прыгожая ў школе дзяўчына — Ядвіга Ліпская.

Нупрэй намазаў твар бураком і начапіў вусы. Ён спяваў казліным голасам на польскі манер: «Плываё голэмбі, летаё лабэндзі; з нашэго кахання, пэўна, ніц не бэндзе» — і заслужыў самыя дружныя воплескі. Ліпскай апладзіравалі за прыгажосць.

Нейкая тэатральная ліхаманка пачалася ў школе. Пятыя, шостыя класы раптам кінуліся ставіць п'есы. Пераважна аднаактоўкі і галоўным чынам пра шпіёнаў. Ляскаюць дошкамі ў тым месцы, дзе трэба страляць, падымаюць воблакі пылу. Але ўсе задаволены і рыхтуюць новыя пастаноўкі.

Нават вандроўныя артысты, якія час ад часу завітваюць у мястэчка, у раённым Доме культуры граюць шпіёнскія п'есы. Гэтая шпіёнаманія прыводзіць да смешнага выпадку.

У мястэчку арганізавалася секта пяцідзясятнікаў. Яны аблюбавалі хляўчук на ўскраіне мястэчка, спявалі там свае песні, нават распраналіся і скакалі. Гэта падгледзеў нейкі хлапчына, які і данёс міліцыі.

Цэлы ўзвод міліцыі, акружыўшы хлявок, прыслухоўваўся да псалмоў і спеваў божых людзей, і толькі калі яны сталі распранацца, разагнаў святую кампанію.

Набліжаецца вясна. На палях асядае і чарнее снег, на пагорках з'яўляюцца прагаліны. Ужо і ранні госць — жаваранак — прыляцеў, і яго песня звініць над аснежанымі палямі.

Стала цяплей у 7 «Б» класе, цяпер яго сцены з заходняга боку абвяваюць цёплыя вясеннія вятры.

Была нядзеля. Маці паслала Васіля нарэзаць бярозавых дубцоў на венік. Ён чамусьці не зарыентаваўся і пайшоў правай каляінай, якраз той, па якой цягнік будзе ісці за спінай. Дзень быў імглісты, церусіў дождж.

Васіль ішоў паціху, думаў пра нешта сваё, і калі раптам азірнуўся,— ледзь не скамянеў ад жаху. Метраў за пяць ад яго чухкаў чорны страшыдла-паравоз з запаленымі ліхтарамі.

Васіль толькі паспеў саскочыць у адхон, у зляжалы снег, як міма прагрукатаў паравоз, а за ім доўгая чарада вагонаў.

«Маці не дачакалася б веніка»,— падумаў Васіль, і яго апанавала нейкая дзіўная абыякавасць. Машыніст яго не бачыў, інакш даў бы сігнал. Вось такое жыццё чалавека: можа лёгка абарвацца. Чалавек — вышэйшае стварэнне

прыроды, а які ён фактычна бездапаможны перад жыццём. Гіне, заблудзіўшыся ў лесе, гіне ў катастрофе самалётаў, у крушэнні цягнікоў і караблёў. А найбольш гіне на вайне, на бясконцых войнах, якімі адзначана ўся гісторыя чалавецтва.

Васіль вяла падымаецца, абтрасае штаны і палітончык. Правальваючыся ў снег, ён рэжа бярозавыя дубцы, звязвае іх папліскай, каб льга было несці за плячамі.

Кладзецца на зямлю надвячорак.

Васіль вяртаецца дамоў той жа каляінай, каб сустрэць, як кажуць, паравоз грудзямі. У паўзмроку на процілеглым адхоне ён заўважае штосьці шэрае. Хлопец ідзе туды і бачыць ёмісты, мокры ад дажджу стус паперы. Гэта газета. Толькі нейкіх незвычайна вялікіх памераў. І, мяркуючы па ўсім, яна нямецкая, мае назву «Süddeutsche Zeitung». Як яна апынулася тут, калі за Жыткавічамі ляжыць не Германія, а Польшча, невядома.

Першай Васілёвай думкай было прайсці міма газеты, якая з'яўлялася яўнай правакацыяй. Хлопец азірнуўся. Усё ціха. Нідзе нікога няма. У апошні час столькі пішуць пра фашызм, што было б някепска з першых рук дазнацца, што гэта за з'ява. Ды і цікава, што немцы пішуць самі пра сябе, пра нас, як глядзяць на нас, на нашы парадкі. У вялікіх штабах чытаюць жа гэтыя газеты. Чытаюць і ў рэдакцыях цэнтральных газет, часта бяруць адтуль вытрымкі.

Добра чытаць па-нямецку Васіль не ўмее, але ж ёсць слоўнікі, граматыка. Нарэшце, Іван Лазавік у нямецкай мове, здаецца, някепска разбіраецца.

Хлопец бярэ газету — яна мокрая, важыць бадай паўкілаграма — і хавае пад крысо палітончыка.

Дома Васіль кладзе газету на печ, на чарон. Прыкрывае трантамі. Няхай высахне. Ён знойдзе ёй месца.

Вечарам Васіль ідзе ў хату да Івана Лазавіка. Той незвычайна рады знаходцы, аж рукі пацірае. Толькі трэба быць асцярожным. Нікому ні слова. Яны памятаюць мінулагоднюю кастрычніцкую дэманстрацыю. Выгуквалі лозунгі ў гонар кіраўнікоў партыі і ўрада, а Сяргей Кісель усклікнуў:

— А што, каб сказаў: «Няхай жыве Троцкі!..»

Сяргей прамовіў словы ва ўмоўным ладзе, але Люська Сасноўская (яе бацька, дарэчы, у турме) надала ім прамы

сэнс. Назаўтра пятнаццацігадовага Сяргея забралі. Тыдні на два выпусцілі, потым забралі зноў. Прапаў хлопец...

Газету сябры хаваюць у паддашак будкі, якая стаіць наводшыбе і куды складваецца пуцейскі інструмент.

— Газету буду чытаць я! — заяўляе Іван.— Ты нічога не зразумееш. Калі вычытаю што-небудзь цікавае, раскажу...

Іван, вядома, слоўнікаў мае багата і ніштавата ведае нямецкую мову. Ён даўно не звяртае ўвагі на «хабен» Галіны Васільеўны. Але мог сказаць далікатней...

На тупіковых пуцях, густа зарослых быллём, здаўна стаіць абшарпаны, абадраны вагон. Станцыйнае начальства ламала галаву: ніхто вагон не патрабуе, а на запыты, якія яно накіроўвала ў розныя месцы, адказаў не было. Утвараецца камісія, і ў яе прысутнасці вагон адчыняецца. Здзіўленню членаў камісіі, усіх прысутных няма канца: там кнігі. Мяркуючы па ўсім, напакавалі вагон кнігамі немцы, калі ўцякалі ў васямнаццатым годзе. Потым, ужо ў савецкі час, вагон пераганялі са станцыі на станцыю, пакуль ён не затрымаўся тут.

Справа палітычная. Высокая інстанцыя павінна стварыць сваю камісію і разабрацца з гэтымі кнігамі.

Але пакуль камісія складаецца, узгадняецца, хлопцы свайго не ўпускаюць. На вагоне цяпер замест пломбы — тоненькі дроцік, і яго лёгка разагнуць.

Чаго толькі няма ў вагоне! Кнігі з гімназічных бібліятэк, з настаўніцкіх семінарый, школ, ёсць нават царкоўныя кнігі. Якія ж хапугі немцы! Драпалі ва ўсе лапаткі. І яшчэ хацелі чужым дабром пакарыстацца.

Пакуль тая высокая камісія складае планы наконт вывучэння і размеркавання кніг, хлопцы забіраюць рускіх класікаў, навукова-папулярныя кнігі і тоненькія брашуркі беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў, надрукаваныя на дрэннай шорсткай паперы. Нават на такія кнігі немцы паквапіліся.

Камісію ўзначальвае партыйны арганізатар Сядзёлкін, грузны мужчына, апрануты ў камандзірскую вайсковую форму. Ён з'яўляецца ў Васілёвым доме: бацькі наладзілі пачастунак, на які запрасілі некалькі станцыйных начальнікаў.

Сядзёлкін вельмі просты і дэмакратычны чалавек. Ахвотна расказвае пра сябе. У той жа час адчуваецца нейкая яго прыніжанасць, прыбітасць.

У трыццаць чацвёртым годзе аўстрыйская рэвалюцыйная арганізацыя «Шуцбунд» узняла паўстанне, у якім прымаў удзел Сядзёлкін. Паўстанне падавілі ўрадавыя войскі. Як Сядзёлкін трапіў у Аўстрыю і як адтуль выбраўся, ён не расказвае.

Падзеі ў Іспаніі, дзе генерал Франка святкуе перамогу, сапсавалі настрой усіх тых, хто спадзяваўся на перамогу рэспубліканскай добраахвотнай арміі. А тут яшчэ гэты нямецкі вагон з кнігамі. Чаму яго амаль дваццаць гадоў ганялі са станцыі на станцыю і ніхто ім не зацікавіўся?

Канешне, віна ў першую чаргу ўпадзе на Сядзёлкіна. Ён, відаць, гэта прадчувае і, не дачакаўшыся абвінавачвання, ідзе ў горы, у чыгуначны тунэль, і там страляе сабе з нагана ў грудзі.

## VIII

Можа, неяк інтуітыўна дзеці неспакойнага трывожнага часу адчуваюць яго хісткасць, няўстойлівасць і цягнуцца адно да аднаго, асабліва ўступаючы ў пару паўналецця, калі яны стануць гаспадарамі жыцця.

У іх узросце хочацца трымаць дзявочыя рукі ў сваіх, слухаць і гаварыць ласкавыя словы. Але, здаецца, нічога гэтага ў герояў нашага апавядання няма. Яны рашаюць цяжкія задачы па трыганаметрыі і алгебры, пачынаюць цікавіцца палітыкай, а пра каханне, сустрэчы з дзяўчатамі толькі мараць.

У адзін з тых веснавых надвячоркаў, выходзячы ад Івана Лазавіка, Васіль бачыць на лавачцы прывабную дзяўчыну.

— Добры вечар! — першай вітаецца яна.

Васіль пасля такога ветлівага звароту не можа не прысесці на лавачку. Аказваецца, дзяўчына — дальняя родзічка Івана Лазавіка. Завуць яе Саша. Яна ўжо некалькі разоў бачыла Васіля. Саша прыехала на некалькі дзён з Мінска, дзе вучыцца ў хіміка-тэхналагічным тэхнікуме.

Ад дзяўчыны як бы зыходзіць цеплыня, яна прыязная, свойская і не хавае сваёй прыхільнасці да Васіля. І хлопцу яна падабаецца. Шыракатварая, уся ў рабацінках, яна нібы тоне ў каштанавых валасах, якія завіткамі спадаюць на плечы. Гаворыць яна грудным напеўным голасам, і вельмі смяшлівая. Яшчэ ніколі не траплялася Васілю такая дзяўчына.

— Ведаеш, у мяне яшчэ тыдзень да ад'езду. Давай сустракацца за садам. Там таксама лавачка ёсць. Тут няёмка. Бачаць усе...

Васіль згодны. Чаму ён павінен не згаджацца?

Назаўтра — трывога. Нямецкая газета, якую знайшоў Васіль, з паддашка будкі знікла. Край яе ўбачылі пуцейцы, выцягнулі і, не чытаючы, паколькі яна надрукавана на незразумелай ім мове, парвалі на цыгаркі.

— Я адзін артыкул прачытаў,— гаворыць Іван.— Называецца «Народ без жыццёвай прасторы». Гэта немцы пра сябе гэтак пішуць. Яны збіраюцца зганяць з зямлі іншыя народы. Нацэліліся пакуль на Польшчу. За Польшчай — мы.

Васіля не надта цікавяць словы сябра. Польшча далёка, ды яшчэ ці нападзе на яе Гітлер. А за садам на лавачцы яго чакае Саша. Цёплая, пухнатая, як пчала, дзяўчына. Яна сама прызначыла спатканне.

Васіль развітваецца з Іванам. Робіць выгляд, што кіруе на станцыю. А сам крута паварочвае да сада...

Вось і лета. Як і ў мінулыя гады, Васіль працуе ў рамонтнай брыгадзе. Саша паехала, і яны нават не дамовіліся перапісвацца. Ды і пра што пісаць? Абое вучацца, і яшчэ добра не ведаюць адно аднаго.

У Маскве ідуць перамовы з англа-французскай дэлегацыяй. Ідуць ужо даўно, але пакуль няма ніякіх вынікаў.

І вось маланкавы візіт у Маскву Рыбентропа. І як гром з яснага неба: Германія і Савецкі Саюз заключаюць дагавор аб ненападзенні.

Васіль задаволены гэтымі падзеямі. Увогуле ён за пашырэнне ўплыву Савецкага Саюза, вялікай дзяржавы, якая павінна граць такую ж вялікую ролю ў свеце.

У Івана Лазавіка думка процілеглая.

— Дурань ты,— сарамаціць ён Васіля.— Германія — наш асноўны праціўнік. Для Гітлера дамова — шматок паперы.

Парве, калі захоча. Ён проста пазбягае вайны на два фронты. Падтопча спачатку Еўропу, потым на нас нападзе. Хоць бы школу паспець закончыць...

У верасні Чырвоная Армія перайшла польскую граніцу, каб падаць руку дапамогі заходнім беларусам і ўкраінцам.

У мястэчка з-пад Белай Падляскі прыехала некалькі сем'яў заходніх беларусаў, і ў восьмы клас, дзе на той час вучыўся Васіль, прыйшло аж трое новых вучняў, якія ў Польшчы вучыліся ў гімназіі. Дваіх у хуткім часе адсадзілі: фізіку, хімію, алгебру, якія выкладаліся ў восьмым, яны не праходзілі.

Застаўся Слава Кухарэвіч, высокі, прыгожы хлопец, у элегантным касцюме, які на ляту хапаў тое, што тлумачылі настаўнікі. Бацьку Кухарэвіча не спадабаліся парадкі, якія панавалі ў мясцовым калгасе, куды ён уладкаваўся на працу. Ён спрачаўся са старшынёй калгаса, адкрыта выступаў на сходах. Яго арыштавалі і кудысьці вывезлі. Рэальнасць савецкага жыцця жорстка абыходзілася з тымі, хто не прымаў яе законаў.

Пасля дагавора з Германіяй жыццё не палепшылася. Пачалі забіраць у армію настаўнікаў, якія не прайшлі вайсковай службы. На першае месца сярод вучняў, якія займаюцца школьнай грамадскай работай, вылучаецца Нупрэй як кіраўнік секцыі па грамадзянскай абароне. Ён арганізоўвае хаду ў процівагазах, начныя ваенныя гульні, водзіць на могілкі групкі вучняў, якія страляюць з дробнакаліберкі: здаюць нормы на значок «Варашылаўскі стралок».

З рэпрадуктараў усё часцей грыміць песня «Если завтра война».

Краіна паступова ўключаецца ў вайну. Пасля паходу савецкіх войск у Заходнюю Беларусь і Украіну з восені таго ж года пачынаюцца баі на Карэльскім перашыйку. Баі зацяжныя, крывавыя, яны сведчаць пра непадрыхтаванасць Чырвонай Арміі.

Восенню саракавога года Васіль пайшоў у дзявяты клас, а яго сябры — у дзясяты. Хутка развітанне са школай. Куды пакіруюць дарогі заўтрашніх выпускнікоў?

Немцы тым часам ужо ў Парыжы. І нават у тых, хто, як Васіль, верыць у дагавор з Германіяй аб ненападзенні,

закрадаюцца ў душу сумненні: няўжо Гітлер на гэтым спыніцца? Калі ён нападзе на СССР, які тады быў сэнс дзесяць гадоў вучыць гэтых юнакоў і дзяўчат, дамагацца, каб яны ведалі мову, літаратуру, асновы фізікі, хіміі, засвоілі пачаткі дакладных навук, геалогіі і астраноміі?

Сэнс быў. Як паказаў час, з хлопцаў, што да пачатку вайны скончылі па дзесяць, дзевяць, нават восем класаў, за месяц-два рабілі малодшых лейтэнантаў, якія вялі ў бой узводы, а пазней роты і нават батальёны, станавіліся вельмі маладымі капітанамі і маёрамі.

Тое лета, калі немцы фатаграфаваліся каля Эйфелевай вежы, было ў мястэчку, асабліва сярод старэйшых школьнікаў, трывожным і пагрозлівым. Інтуіцыяй маладосць адчувала, што яе выпрабаванні толькі пачынаюцца.

Закон жыцця аказаўся суровым: ні палюбіцца, ні пажаніцца не паспелі маладыя людзі, якія перад вайной заканчвалі сярэднія школы, а ўжо мусілі апранаць шынялі, ісці ў бой, ліць кроў, абараняючы родную зямлю.

*2001*

## ГРЫБНОЕ ШЧАСЦЕ

Нялёгкае жыццё выкладчыка. Калі адна лекцыя, то гэта яшчэ не бяда. Але бываюць дні, калі прыпадае па дзве, нават па тры лекцыі. Паспрабуй, пастой за кафедрай цэлых шэсць гадзін. Ды нешта ж яшчэ і гаварыць трэба.

Выкладчыкі ўніверсітэта Пятро Бруй і Лявон Грэк разрыўку знаходзяць у тым, што пасля лекцый, колькі б іх ні было, імкнуць у лес. Вядома, па грыбы. Хоць мала іх у паўдзённы ці перадвячэрні час у лесе застаецца. Лес вытаптаны, як конскае тырла. Але трохі сыраежак, абабкаў яшчэ можна знайсці.

Пятро Бруй — кандыдат навук, а Лявон Грэк яшчэ толькі рыхтуе дысертацыю. Абодва адзін аднаго разумеюць, бо яны блізкія па душэўным складзе.

Нахадзіўшыся па лесе, у чаканні электрычкі калегі прымашчваюцца ў прыдатным месцы, выпіваюць па чарцы

(чацвярцінка гарэлкі на двух). Сілы адноўлены, у нагах прыемная стома, заўтра можна зноў станавіцца за кафедру.

У гэты дзень была толькі адна лекцыя. У дзесяць гадзін Пятро Бруй ужо стаяў на пероне. Вось-вось павінна падысці электрычка. Лявона Грэка тым часам не было. Замест яго ходзіць па пероне прыземісты вайсковы капітан з вялізным кошыкам.

Вось ужо і электрычка падышла. Грэк не паяўляецца. Відаць, нешта здарылася.

Бруй і капітан заходзяць у вагон. Садзяцца на лаўкі насупраць адзін другога.

— Па грыбы? — пытае Пятро.

— Па грыбы.

— Давайце знаёміцца. Бруй Пятро Іванавіч,— называе сябе кандыдат навук.

У адказ чуе:

— Бруй Пётр Іванавіч.

У першую хвіліну кандыдату навук здаецца, што вайсковец з яго насміхаецца. Але не, той глядзіць сур’ёзна і трохі здзіўлена.

— Выходзіць, мы поўныя цёзкі,— гаворыць выкладчык.

— Падобна на тое,— пацвярджае вайсковец.

У выкладчыка Бруя поўны цёзка ўжо быў. Ён жыў на процілеглым канцы галоўнай вуліцы іхняга мястэчка. Быў чымсьці падобны да гэтага капітана. У школе ішоў на клас вышэй за Пятра. Але недзе з пятага ці шостага класа яго шыракаваты твар пачаў бляднець, мізарнець, і сталася так, што, не скончыўшы сямігодкі, ён памёр. Ён неяк абыякава адносіўся да сваёй хваробы (відаць, гэта былі сухоты), патроху нават жартаваў, але глыбокі сум свяціўся ў яго шэрых вачах.

Капітан першы раз ехаў у грыбы. Таму ва ўсім падпарадкаваўся выкладчыку. Злезлі на глухаватым паўстанку. Грыбнікоў, акрамя іх, не было.

Бруй павёў свайго часовага спадарожніка ў глыб лесу. Дзень быў сонечны, але не спякотны. Восень нагадвала пра сябе першымі прыкметамі. Вісела на дрэвах, рэдка падаючы долу, жоўтае лісце, у каляінах стаяла празрыстая, нібы крышталь, вада, з глыбіні лесу павяваў, бадзёрачы цела, прыемны халадок.

Пятро Бруй кіраваў на пагоркі паблізу лясной вёсачкі. Туды не заўсёды даходзілі гарадскія грыбнікі. Увогуле месца тое вабіла нейкім спрадвечным спакоем, зацятай цішынёй.

У казках гаворыцца пра ноч, калі расцвітае кветка-папараць. Ёсць, відаць, ночы, калі ўладарыць грыбное царства. Як вось цяпер: схіл пагорка, нібы дыван кветкамі, засеяны грыбамі. Маладымі, пругкімі, з цвёрдымі цёмнымі шапачкамі ababкамі і чырвонагаловымі падасінавікамі. Гэтыя пісталецікі выраслі за апошнюю ноч. Два дні назад выкладчык Бруй быў тут і нідзе нічога не бачыў. Хіба гэта не цуд: не трэба шукаць грыбоў, крочыць па лесе — садзіся, вымай нож, падразай грыб за грыбам.

Бруй-выкладчык напачатку з іроніяй глядзеў на вялізны кош капітана. Цяпер іронія адпала. Пяць, нават дзесяць такіх кашоў можна нарэзаць на гэтых пагорках.

— Добра ведаеце лес, калі прывялі на такое месца,— гаворыць капітан.

Выкладчык не адказвае. Такое ён сам бачыць упершыню. Радуецца, што грыбное шчасце яго не абмінула. Гэта як у казцы пра кветку-папараць.

Два Пятры Іванавічы дамаўляюцца прыехаць на гэтае месца яшчэ раз. Але не выпадае: то адзін заняты, то другі.

Пятро Бруй і Лявон Грэк наведваюць грыбныя пагоркі праз тыдзень. Але тое, што было, здаецца сном. Звычайны ababак ці сыраежку трэба вытупваць, настойліва вышукваць.

*2001*

## ЖЫВОТ

На кафедры мовы, на якой ужо другі год займаецца Пятро Ламаносаў, ёсць жвавая, досыць прыгожая аспірантка Жэня Капусціна. Яна, відаць, настроілася зрабіць кар’еру, бо паступіла ў аспірантуру са здадзеным кандыдацкім мінімумам і ў дадатак уступіла ў партыю.

Нічога гэтага не мае Пятро, акрамя прозвішча, якое амаль усюды выклікае смяшлівае пытанне:

— Ты не родзіч таму, славутаму?

— Ён мой траюрадны дзед,— адказвае Пятро, даючы субяседніку зразумець, што таксама валодае гумарам.

Пятро нерастаропны, з вялікай мядзведжай галавой і ў дадатак абсалютна рыжы. Ён быў ужо жанаты. Ніхто не ведае, па якой прычыне ён развёўся. Вострыя языкі за ягонай спінай балбочуць, што жонка ад яго проста збегла, уявіўшы, якія будуць ад такога мужа дзеці.

На здзіўленне кафедры, Пятро ўсё часцей загаворвае з Жэняй Капусцінай, аказвае ёй розныя дробныя паслугі. Жэня таксама не ўхіляецца ад Пятровых заляцанняў. Можа, таму, што Ламаносаў упэўнена грызе навуку. Экзамены здае бліскуча, сёе-тое друкуе.

Загадчык кафедры Журкевіч, чалавек, які выбіўся ў дацэнты са старых школьных настаўнікаў і які ў першую чаргу заўважае ў людзях іх смешныя рысы, паступова змяняе іранічнае стаўленне да Ламаносава на цалкам станоўчае.

І вось Пятро пасля паседжання кафедры, якое вельмі зацягнулася, узяўся правесці Жэню дамоў. Тым болей што яна жыве за горадам у адным з ваенных гарадкоў. Па дарозе ён прапанаваў з’есці па марожанаму. Жэня згадзілася.

Вясна ў разгары. На ўскраінах горада садоў не пералічыць. Над імі ўспыхвае белае вогнішча квецені. Жэня маўчыць. Не дае ніякай падставы для гаворкі.

— Я думаю напісаць дысертацыю пра ўстойлівыя словазлучэнні, ідыёмы. Вы ведаеце многа ідыём, Жэня? — пачынае Пятро.

Жэня схамянулася і нічога не адказала.

Ламаносаў спрабуе зачапіцца за іншыя некранутыя пытанні моўнай праблематыкі, але з тым жа поспехам. Жэня рота не раскрывае. Вясёлая, жвавая шчабятуха, яна як бы вады ў рот набрала.

А ён нібы выхваляецца красамоўствам: гаворыць пра лінгвістычныя школы, славутых мовазнаўцаў, іх здзяйсненні.

І тут у Пятра пачынае бурчэць жывот. Відаць, дарма ён з’еў марожанае, да якога ўвогуле абыякавы. Можа, яно было няякаснае, тое марожанае, ці знайшлася яшчэ якая прычына. Тым часам жывот пратэстуе, бурчанне ўзрастае, і ён проста трубіць. І гэтай музыкі не можа не пачуць Жэня.

З гэтым бурчаннем — такое, дарэчы, здарылася з Пятром першы раз у жыцці — ён давёў Жэню да яе дома. Моўчкі, ніякавата развіталіся.

Ламаносаў вярнуўся ў інтэрнат з панылым настроем. Такое недарэчнае здарэнне. Пятро быў на вайне, спаў, дзе прыйдзецца, еў, што трапіцца, і ніколі, як цяпер, не падводзіў жывот.

У знаёмага медыка Ламаносаў спытаў, якая магла быць прычына нягодных паводзін яго ўласнага жывата.

— Нервы,— адказаў той.— Усё, брат, ад нерваў. Ты, відаць, быў не ўпэўнены ў сваёй дзяўчыне.

Ламаносаў згадзіўся.

Жэня, прыходзячы на кафедру, паводзіць сябе з Пятром па-ранейшаму. А ў глыбіні душы Ламаносава расце падазрэнне, што дзяўчына ўхіляецца ад яго кампаніі. Але яму не надараецца выпадку пабыць з ёй адзін на адзін.

Тым часам педантычны загадчык кафедры абавязвае аспірантаў напісаць рэфераты, у якіх патрабуе тэарэтычна абгрунтаваць важнасць абранай кожным тэмы. Пятро піша рэферат на сорак старонак.

Рэферат Капусцінай загадчык кафедры перадае на рэцэнзію Ламаносаву.

Як на вожыка ўссадзіў ён Ламаносава гэтым рэфератам. Бо ніводнай спелай думкі, ні грама самастойнасці ў рэфераце Капусцінай Пятро не знаходзіць. Студэнцкія курсавыя і то лепшыя.

Пакрывіць навуковым сумленнем Ламаносаў не можа. Ён піша адмоўную рэцэнзію. Яе ён зачытваць не стаў, проста аддаў Журкевічу.

Жэня, вядома, дазналася, хто напісаў рэцэнзію. Ад яе паступіла пісьмовая заява з просьбай адлічыць з аспірантуры.

І ніхто ніколі не спаткаў Жэню на мовазнаўчых канферэнцыях, не пабачыў яе імя ў друку. Хутчэй за ўсё Ламаносаў сваёй рэцэнзіяй, тэарэтычнымі разважаннямі, на якія быў мастак, адбіў у Жэні жаданне да далейшай вучобы.

Тым часам сам Ламаносаў працягвае лічыць, што шмат нашкодзіў яму ў адносінах з Жэняй яго ўласны жывот.

*2001*

# ЗАВАЁЎНІКІ

Ужо каторы дзень не працуе чыгунка. Партызаны ўзарвалі мост на Пцічы, і немцы яго аднаўляюць.

Дзіўная і наравістая гэтая Пціч. Беларускія рэкі цякуць на поўнач, напрыклад, Нёман, паблізу якога пачынаюцца вытокі Пцічы. А яна віхляе, пятляе і нарэшце трымае кірунак на поўдзень, упадаючы ў Прыпяць.

Сёння вярнулася група немцаў, якая ездзіла на станцыю Пціч аднаўляць мост. Яны гавораць, што заўтра пойдуць цягнікі. Тут, на станцыі, сабралася іх некалькі. У тым ліку два санітарныя.

Немцы жывуць у двухпавярховым, складзеным з чырвонай цэглы чыгуначным доме. Ужо позняя восень, і Саша Пташук, які працуе на станцыі вугальшчыкам, зазірнуў у пакой да знаёмых немцаў. Тыя ўсе ўчатырох сядзяць вакол стала. Пазнімаўшы шэрыя нацельныя сарочкі, насунуўшы на насы акуляры, яны вышукваюць і б’юць вошай. Відаць, прывезлі іх парадкам з Пцічы.

З аховай чыгункі ў немцаў бязладдзе. З пачатку лета, калі па рэйках толькі пайшлі цягнікі, ахоўвалі чыгунку славакі. У некаторых мясцінах — мадзьяры. Славакі пачалі звязвацца з партызанамі, уцякаць у лес і, па чутках, іх перакінулі пад Мінск. Быццам пад Мінскам няма партызанаў!.. Мадзьяраў таксама сталі замяняць.

Цяпер чыгунку ахоўваюць адны немцы. Але што гэта за ваякі — нестраевікі. Кожнаму болей як пяцьдзясят гадоў. Саша знаёмы з некаторымі. Харчу немцам не хапае. Яны выпісваюць з Германіі іголкі, ніткі, пачкі фарбаў, іншую драбязу, і ўсё гэта мяняюць у мясцовых жанчын на яйкі, сала, масла.

У гэтым абмене ім памагае Саша. Для гэтага ёсць прычына. Саша не толькі забяспечвае кацельную дома, дзе жывуць немцы, вугалем, а і збірае для партызан звесткі пра рух цягнікоў і ўвогуле пра паводзіны немцаў.

Немцы высеклі з абодвух бакоў чыгункі лес на цэлых пяцьдзясят метраў, прыстралялі найбольш прыкметныя дрэвы, павесіўшы на іх фанерныя ўказальнікі з рознымі літарамі алфавіта.

Але кожны дзень падрываюцца на партызанскіх мінах цягнікі. Немцы старыя: тое недабачаць, гэта недачуюць. Партызанам яны выгадныя, і тыя іх не чапаюць.

Хоць немцы і старыя, але да жанчын яшчэ цягнуцца. Вядома, не да маладзенькіх дзяўчат, з якімі нават не спрабуюць знайсці агульную мову. Наколькі ведае Саша, у знаёмых немцаў адна каханка — Кацярына Дзуля. Да вайны Каця працавала тут жа на станцыі стрэлачніцай. Цяпер немцы на такія пасады жанчын не бяруць. І Каця знайшла другі занятак.

Дзуля тоўстая, нязграбная, але даволі рухавая і ўвішная. Найбольш прырода пакрыўдзіла Кацю абліччам: чырвоны, плоскі, як талерка, твар, вялікі мясісты нос, шырокі, з выпетранымі губамі рот — яе твар, здаецца, не мае ніводнай прывабнай рысы.

Яшчэ прырода ўзнагародзіла Кацю незвычайна шырокім задам. Яе клубы — як млынавыя камяні. Гэта якраз і прыцягвае да яе ўвагу старых немцаў. Яны, здаецца, нават дзівяцца з такой незвычайнай асобы.

У хуткім часе Дзуля займае пусты яўрэйскі дом. Магчыма, не без дапамогі знаёмых салдат, якія кожны вечар валам валяць у гэты дом. Яны, мажа, склалі нават адпаведны графік, бо на ганку дома ніколі не таўчэцца болей як пяць чалавек.

Каці, відаць, падабаецца цяга мужчын да яе. Спаткаўшы незнаёмага салдата, Дзуля рэкламуе свой тавар:

— Пан, гут машынка,— і ляпае сябе па сцёгнах.

Па чыгунцы з вялікай асцярогай цягнуцца нямецкія эшалоны: наперадзе дзве платформы, нагружаныя пяском, хуткасць цягнікоў невялікая. Чым далей, тым болей немцы ходзяць панылыя, прыніжаныя.

Аднойчы знаёмы немец папрасіў Сашу:

— Прынясі карту, пакажы, дзе мы знаходзімся.

Саша прынёс агульную карту краіны з тайгой, пустынямі, з Далёкім Усходам. Убачыўшы, які маленькі кавалак савецкай зямлі немцы заваявалі, а цяпер, адступаючы, пакідаюць назаўсёды, салдат зусім зніякавеў.

Чырвонаармейская часць наступала па чыгунцы. Нямецкі ўзвод, які ахоўваў мост на рачулцы, кіламетраў за восем ад

мястэчка, паспрабаваў супраціўляцца і быў знішчаны цалкам. Немцы з мястэчка сутычак з арміяй не чакалі. Прыціскаючыся да чыгуначнага насыпу, кінуліся на злом галавы ў заходнім напрамку і, здаецца, паспелі праскочыць.

*2001*

## ЭХ, ЦЁПЛАЕ, ДОБРАЕ ЛЕТА...

### I

Вася перайшоў у пяты клас. Гэта можна лічыць нават дасягненнем, бо за плячамі чатыры класы, а гэта азначае, што пачатковую адукацыю ён ужо мае.

Галоўнае, аднак, не ў гэтым. Вася як бы ўступае ў новую паласу жыцця. Чатыры гады яго вучыла адна настаўніца — Марыя Рыгораўна. У пятым на ўрокі будуць прыходзіць некалькі настаўнікаў. Кожны будзе весці свой прадмет. Гэта найбольш цікавіць Васю. Можа здарыцца, што якому-небудзь настаўніку ён не спадабаецца.

Зрэшты, за вучобу Вася не баіцца. Толькі з пісьмом трохі кепска. У першым і другім класах Вася проста выводзіў нейкія каракулі, якія і самому было цяжка прачытаць. Цяпер падцягнуўся. Почырк яго не надта прыгожы. Але разабраць тое, што накрамзоліў, можна.

Настае лета. Свеціць сонца, вее ветрык, час ад часу ўмываюць зямлю цёплыя дажджы. Усё навокал зелянее, кветкі расцвітаюць, птушкі шчабечуць. За птушкамі ўсе папярэднія леты Вася ўпадаў. Жыць не мог, не разведаўшы двух-трох гнёздаў. Цяпер цікавасць да крылатых істот як бы змяншаецца. Птушак любіць Вася і зараз, але не так востра і апантана.

Лета для хлопчыка не толькі адпачынак ад школы, урокаў. Трэба і грошай трохі зарабіць. Хоць на штаны ці сарочку. Пасля другога класа бацька завёў Васю на чыгунку. Знаёмы пуцейскі дзясятнік тады даў работу: высякаць між шпал траву, зносіць жужаль, які астаецца ад стаянкі паравозаў.

Сёлета хлопцы падбіваюць Васю падацца ў лес на прарэджванне дубкоў. У лесе, вядома, цікавей. Толькі не

падабаецца Васю Піліп Поклад (гэта яго мянушка), нізкі, хітры хлапчына, які арганізоўвае брыгаду. Ён жыве праз тры двары ад Васі, раней за яго пайшоў у школу. Але дабраўся толькі да пятага класа. Такім чынам Вася яго дагнаў.

Піліп не любіць Васю. Будзе падколваць. Але і Вася ўбіраецца ў сілу: ростам вышэй за Поклада, хоць яшчэ і танклявы.

Збіраюцца прарэджваць дубкі знаёмыя хлопцы. Яны нарадзіліся, выраслі на адной вуліцы. Разам вандравалі ў лес па ягады ці грыбы. Разам пасвілі свіней, а далей хто цялё ці нават карову, якая па нейкай прычыне выбілася са статка, хто каня, пакуль бацькі не адводзілі яго ў калгасную канюшню.

Яны жывуць на паўночным канцы даўжэзнай Савецкай вуліцы, якая пачынаецца ад чыгуначнага пераезда і вядзе праз усё паселішча. Ад яе адгаліноўваюцца новыя вуліцы і завулкі ў бок паўднёвых ваколіц — пясчаных няўдобіц, значна горшых, чым зямля, якая рассцілаецца на поўнач ад пераезда.

Чыгунку, станцыю хлапчукі ведаюць бездакорна. Гэта самыя цікавыя мясціны ў мястэчку, і не ведаць іх проста ганебна. Там працуюць бацькі ўсіх дружбакоў, за выключэннем бацькі Мішкі Бычка, які працуе ў нарыхтоўчай канторы, і бацькі Грышкі Перальмана, які асталяваўся ў прафесійна-тэхнічнай школе, што рыхтуе шафёраў для лясной прамысловасці.

Чым прываблівае лета? Тым, што цёпла і не трэба наведваць школу. Сонца ўсходзіць і заходзіць, і сонечных, светлых дзён болей, чым пахмурных і халодных. У старой кніжцы па гісторыі Вася вычытаў, што старажытныя егіпцяне называлі сонца богам Ра. Людзі такім чынам, гледзячы на сонца, увачавідкі бачылі бога, маглі яму пакланяцца, маліцца, спяваць гімны, просячы добрага надвор’я і ўраджаю.

Вясна і лета шчодрыя на даброты. З ранняй вясны цячэ бярозавік і кляновік. Праўда, кляновага соку Вася не каштаваў, бо такіх дрэў у іхнім лесе няма. Але ўжо з вясны можна збіраць ягады касцянiцы, якія, перазімаваўшы, страчваюць горыч і робяцца салодкімі. Можна леташні арэх знайсці, які толькі прарастае і яшчэ не згубіў слодычы. На адхоне чыгуначнага насыпу колькі хочаш заечай цыбулі.

Затым ягады пачынаюцца: спачатку суніцы, пасля амаль адначасова чарніцы, маліны, брусніцы, чорныя ажыны.

На зыходзе ягад пачынаецца самае цікавае, чым вабіць Васю лес: грыбы. Тут ляжыць мяжа ў Васевых дачыненнях да лесу. Вандроўкі за грыбамі карэнным чынам знізілі яго інтарэс да птушак.

Летась, пазалетась жылі ў Васевай хаце сава, дзікі голуб, з жывёл — вожык і заяц. Цяпер у хаце пуста. Хлапчук не збіраецца прывучаць да дамашняга жыцця новых птушак ці звяроў.

Грыбы захопліваюць усю Васеву істоту. Іхні лес не надта багаты на грыбы. Колькі трэба пабегаць па лясных абшарах, верасах, каб вышукаць пятнаццаць ці дваццаць баравікоў! «Людзей болей як грыбоў»,— жартуе цётка Мар’я, хата якой стаіць цераз вуліцу насупраць Васевай. Дзябёлая, дужая Мар’я свайго не ўпускае. Устае на золку і аббягае ўсе грыбныя мясціны.

Кожны раз, калі Вася выбіраецца па грыбы, ім валодае няпэўнае пачуццё, нават страх: ці знойдзе што-небудзь? Тым часам, калі шукаеш, знойдзеш. З пустым кошыкам ён дамоў не прыходзіць. Хоць трохі грыбоў ды збярэ.

Грыбы не толькі цікавасць, а і падмога ў жыцці. Асабліва ў пачатку восені. Бо ўжо няма ні мяса, ні сала, каб заправіць суп ці іншую страву. Малако і грыб ратуюць становішча. Кінь два баравічкі ў бульбяны суп, забялі малаком і атрымаеш прыстойны абед.

У лесе Вася не сумуе. Нейкая хваля бяздумнай летуценнасці падхоплівае яго і нясе на сваіх крылах. І лес ніколі не бывае аднолькавым. Сёння ён хмурны, цяжка, працяжна ўздыхае, назаўтра ад панурасці, маркотнасці і напаміну няма. Сонца ліжа вяршаліны сосен, высвечвае іх медна-барвовыя ствалы, весела лапочуць, нібы размаўляюць паміж сабой, асіны, разгалістая бяроза ціха радуецца жыццю і сонцу, па ўскрайках лесу гамоняць аб чымсьці патаемным кашлатыя, з разгалістымі вяршалінамі дубы.

Вольна шастае па лесе вецер-свавольнік. Нават у ціхае надвор’е ён можа накінуцца на якую-небудзь бярэзінку, абдымаць яе, тармасіць, прыгінаючы ледзь не да самай зямлі.

Кожнае дрэва мае свой нораў, і трэба ведаць, каля якога дрэва той ці іншы грыб шукаць. Канечне, выключэнні бываюць, і дзе-небудзь наўзбоч балацянкі можна натрапіць на грыб баравік. А ўвогуле, кожнаму грыбу сваё дрэва і сваё месца. Баравік трэба вышукваць у баравінах, зарослых верасам, сасонніках, бярэзніках, у разлівах верасоў. Але ніколі не знойдзеш баравік, скажам, у алешніку. Там увогуле ніякага грыба не адшукаеш, апрача асенніх апенек. Ды і тыя стараюцца абкідваць пні на ўскрайках лесу.

Прыгожы лес у ціхую сонечную пагоду. Асабліва лес мяшаны, дзе хвоя суседнічае з бярозкай, асіна з арабінай, дуб з грабам. Лес жыве не толькі шумам-гоманам дрэў, а і іншымі галасамі. У пачатку лета ён звініць тысячамі птушыных песень. Птушкі спраўляюць вяселлі, потым кормяць living рознымі чарвячкамі, лічынкамі сваё пражэрлівае патомства, пакуль не памацнее яго крыло.

Тут і драпежнікі сярод птушак носяцца. Калі ўваб’ецца ў лес каршун, птушкі яднаюцца, забываюць асабістыя крыўды, накідваючыся дружнай гурбой на нахабніка. Сініца ляціць на каршуна побач з варонай, хоць вялікай шкоды для разбойніка не ўяўляе, але пішчыць з усяе сілы і хоць пяро ў шэрага бандыта ды выдзеўбе.

Буслы з птушынай драбязой хаўрус не водзяць. Увогуле ў лесе іх няма. Яны будуюць свае палацы з сухога ламачча, галін, селяцца на вяршалінах дубоў на ўскрайку лесу. У падсуседзі яны пускаюць вераб’ёў, шчыглоў, мухаловак і ў далейшым не звяртаюць на іх ніякай увагі. На сваіх доўгіх чырвоных нагах буслы вандруюць па балацянках, узбалотках, шукаючы спажывы. Паколькі плошчы балот скарачаюцца, буслы і па збожжавых пожнях дыбаюць, штосьці і там знаходзячы.

Вясёлы вэрхал усчынаецца на вяршаліне дуба, калі бусел ці бусліха прынясуць туды здабычу — доўгага, як пута, вужа ці гадзюку. У прадчуванні сытнага абеду клякочуць, нібы талеркамі звоняць, дарослыя буслы і пішчаць, заходзячыся ад радасці, бусляняты. Здабычу дзеляць тут жа, у гняздзе, парваўшы яе на кавалкі сваімі моцнымі касцянымі дзюбамі.

Каля дарогі на Макаў — па гэтай дарозе Вася ходзіць у лес — калгас пасеяў канюшыну. Буйная, сакавітая ўдалася

трава. А ў Васевым хляве цялушка падрастае. І прывязаць яе дзе-небудзь ці выгнаць на пашу нельга: малая яшчэ. Ледзь трымаецца на тоненькіх ножках. Тым часам канюшыну вельмі любіць. І — навошта грэх таіць — Вася даволі часта наведваецца на калгаснае поле. Ён зойдзе на сярэдзіну загона, ляжа і патроху рве сцяблiну за сцяблінай.

Так было некалькі разоў. І на гэты раз Вася нарваў добрую вязанку. Толькі падняўся, каб дамоў бегчы, а на дарозе картавы Ёкім стаіць — самы злосны з калгасных вартаўнікоў. У Васі нават ногі падкасіліся. Упаў на сваю вязанку і непрыкметна для сябе самога заснуў. Прачнуўся, калі зямлю пачаў ахінаць вячэрні змрок. Ніякага картавага Ёкіма ўжо і блізка не было.

Калі хто думае, што высачэзныя дубы, якія сям-там узвышаюцца на полі ці на лузе, самі сабой вось гэтак падняліся, то ён памыляецца. Нялёгкую барацьбу ім прыйшлося вытрымаць з пастушкамі, якія пад такімі дубамі раскладваюць вогнішчы. Колькі дубоў стаіць з выпаленымі камлямі, куды можна схавацца ад дажджу.

Нямала ёсць аматараў падсекчы дубок, калі ён толькі ўбіраецца ў сілу, каб зрабіць з яго рубель, якім уціскаецца воз, тапарышча ці нават звычайнае пугаўё.

На полі, дзе калгас пасеяў канюшыну, вылучаецца лапіна дубняку. На ёй расце некалькі ніштаватых дубкоў, на галінах якіх можна гойдацца, астатняе — дубовы зараснік, хмыз, з якога хлопцы выразаюць дужкі для сваіх лукаў. Хлапчукі, з якімі сябруе Вася, амаль усе ваяўнічыя, гатовыя страляць з падпаленак, звычайных ключоў, розных іншых самаробных самапалаў. Ды дзе ты набярэш пораху ці нават звычайнай серкі, якую трэба саскрабці з запалак і зарадзіць ёю падпаленку ці ключ ад замка.

Цімох Ліс, блізкі сусед, які бегае ў тым жа гурце, што і Вася, дзесьці раздабыў трохі дынаміту (ім дзеля шкіпінару ўзрываюць на лясных дзялянках карані-смалякі). Ні з кім не параіўшыся, Цімох заправіў ім падпаленку. То яму ўвагнала гэтую падпаленку ў жывот. Разам з рулькаю і ручкаю. Думалі, памрэ Цімох. Дактары неяк яго выхадзілі. Але нават пасля гэтага выпадку Ліс не страціў цікавасці да зброі. Ён навучыўся рабіць выдатныя лукі і стрэлы. Вася сам бачыў, як той стралою трапіў у вераб'я.

Шмат захапленняў прыносіць лета. Не мае значэння, што дома табе загадваюць што-небудзь зрабіць. Напрыклад, пасвіць на выгане свінню. Такой жа справай займаецца яшчэ хто-небудзь з хлопцаў, і адразу можна наладзіць хаўрус. Назбіваць палкамі з разгалістай вербалозіны хрушчоў і кідаць іх курам, якія з лютай апантанасцю з імі распраўляюцца. Або нарваць на адхоне чыгуначнага насыпу пук заечай цыбулі. Ці паглядзець, колькі новых гнёздаў павесілі ластаўкі пад бляшаным дахам будачніка Дмухайлы-Гілярскага, які жыве каля пераезда.

Гэты будачнік вельмі працавіты. З раніцы да позняй ночы стукае малатком, выпростваючы пагнутыя самавары, лудзячы каструлі, залітоўваючы дзіркі ў вёдрах, чыгунках. Вечарам зробленыя грошы прапівае.

Васю цікава паглядзець, што выкінуў на сметнік бляхар. Іншы раз трапляюцца цікавыя рэчы, якія на вуліцы не знойдзеш. Напрыклад, кавалак бліскучай бляхі, з якой Вася ўмее майстраваць выдатныя свісткі, можа, нават лепшыя, чым у міліцыянераў.

## II

Найбольш прыцягальнае месца для мястэчковай дзятвы — станцыя. Па-першае, яна размешчана ў цікавым месцы. Некалі тут быў пагорак, і з яго бралі пясок, калі насыпалі чыгуначны пуць. Дакапаліся да гліны. Мястэчкоўцы цягалі яе на печы, і не толькі мястэчкоўцы, але і людзі з навакольных сёл. Утварыўся велізарны кар’ер.

Пазней у гэтым кар’еры ўжо вялі вайсковыя заняткі чырвонаармейцы. Яны прымацоўвалі мішэні да глінянага схілу, вышыня якога дасягала метраў пяцьдзясят, і стралялі ў іх. Потым школьнікі выкопвалі кулі з гліны, выплаўлялі свінец. Іншы раз кулі былі сплюшчаныя. Такія для справы не падыходзілі.

На станцыю прыбываюць і адыходзяць цягнікі. Тут шум, гамонка, гудкі паравозаў. Паравозы манеўруюць, саставіцелі, сцэпшчыкі і нават стрэлачнікі вісяць на падножках вагонаў, свішчуць у свае свісткі, махаюць чырвонымі ці жоўтымі сцяжкамі.

Пры станцыі ёсць дрывяны склад. Апроч яго, пакгаўз. Найбольш каштоўныя рэчы выгружаюць і загружаюць з пакгаўза — доўгай будыніны, да якой ёсць пад’язны пуць. А ўвогуле розныя касілкі, жняяркі, нават трактары выгружаюць проста на зямлю. І нават аховы каля тэхнікі калгасы не ставяць.

Хлопцы круцяцца каля машын, як восы над мёдам. Адзін раз Піліп Поклад кінуў кліч: складзём уласны трактар. Але колькі ні адкручвалі колцаў ад жняярак, малатарань, трактар усё-такі не атрымаўся. Трэба матор! А яго як адкруціць?

На станцыі заўсёды можна чым-небудзь разжыцца. Скажам, загналі саставіцелі некалькі вагонаў на запасны пуць. На вагонах вісяць алавяныя пломбы. Хлопцы іх зразаюць, а з выплаўленага волава робяць шрот. Адна справа, калі выстраліш з падпаленкі проста так, і зусім іншая — калі са шротам. Шротам можна вераб’я ці якую большую птушку падстрэліць.

На станцыі і паваротны круг ёсць. Дзіўная справа: трымаючыся за доўгую тоўстую білу, Вася не толькі які-небудзь вагон, а цэлы паравоз можа павярнуць.

Куча бліскучага антрацыту ляжыць паблізу паваротнага круга, ёсць калонка, адкуль паравозы бяруць ваду, ёсць цёмнае закуранае дэпо, дзе рамантуюць гэтыя машыны.

Пры станцыі пабудавана некалькі ахайных домікаў, у якіх жывуць чыгуначнікі. Але каб пражыць, пракарміцца, заробку чыгуначнікам не хапае. Таму яны заводзяць сабе кароў, свіней. Набудавалі са старых шпал хлевушкоў і загналі туды скаціну. Але што гэта за хлевушкі? Саломы ў чыгуначнікаў няма, подсцілу ніякага, і каровы, свінні па пуза стаяць у гнаявой жыжцы. Смурод неверагодны. Пакутуюць жывёла і яе гаспадары. І няма выйсця. Шклянку малака дзецям дзе купіш?

Ёсць і прыемныя рэчы на станцыі. Па-першае, тут размешчаны пакой, які называецца «чырвоным кутком». Ён цікавы тым, што ў ім праводзяцца гутаркі, выступае мастацкая самадзейнасць, а іншы раз і кіно паказваюць. Кіно пакуль нямое. Але ходзяць чуткі, што і гукавое будзе.

Мястэчка асвятляе свае доўгія вечары газавымі лямпамі. І толькі на станцыі ёсць электрычнасць.

Прамысловымі таварамі — абуткам, рознымі швейнымі матэрыяламі, вопраткай і іншым — мястэчка забяспечана слабавата. Дастаць што-небудзь з крамніны цяжка.

Паблізу станцыі — распоўзлая, пабудаваная з фанерных блокаў шопа. Гэта база райспажыўсаюза. Местачковыя жанкі, асабліва тыя, што жывуць блізка каля станцыі, пільна сочаць за вагонамі, якія прыбываюць сюды. Бо ў той жа дзень тавары перагружаюць, перавозяць на базу. Насельніцтва ведае, што будуць прадаваць, і яшчэ з ночы наладжвае каля раённага магазіна даўжэзныя чэргі. Тлум, лямант, а іншы раз і бойкі ўзнікаюць у гэтых чэргах.

Восенню бываюць іншыя відовішчы. Бывае, прыбывае з поўдня некалькі вагонаў кавуноў. Іх разгружаюць паблізу дрывянога склада. І тады побач з высокімі радамі плашак вырастае яшчэ вышэйшая гара кавуноў.

Кавуны прадаюць цэлы месяц — верасень ці кастрычнік. На любой вуліцы ці ў завулку можна паслізнуцца на лупіне: кавуны мястэчка купляе і есць ахвотна.

Ёсць у леце штосьці цудадзейнае, фантастычнае. Калі і адводзіць чалавеку жыццё незабыўныя хвіліны, дні, то яны надараюцца ў час дзяцінства летам. І потым усё жыццё ў сваіх думках чалавек вяртаецца да гэтых часін пачатку жыцця.

Дзяцінства іншы раз дапамагае выбраць занятак на ўсё жыццё. Скажам, дапамагае хлапчук кінамеханіку раскручваць стужку ў яго вузкай будцы і непрыкметна сам робіцца кінамеханікам. Тое самае можна сказаць пра памагатых трактарыстаў, увогуле людзей, якія маюць справу з тэхнікай. Але гэта ў тым выпадку, калі ў чалавека ёсць адпаведная схільнасць.

У дзяцінстве летам чалавек адчувае нагамі траву, сухую і мокрую зямлю, спляценне бульбоўніку на агародзе, калі ідзе разорай. Ён захапляецца густой навіссю галін у садзе, праз якую не праб'ецца нават сонечны прамень, навальніцай днём і ноччу, густым засевам зорак на небе. І братоў нашых меншых спазнае чалавек, ходзячы спачатку падпасавічам, а затым і пастухом, бо нораў свінні, малых рахманых парсючкоў, каровы і цялушкі, каня і жарабяці, авечкі і ягняці ён вывучае ў маленстве. Жытняя ніва калышацца перад ім, хвалі набягаюць на хвалі, нібы гэта не поле, а рачная затока. Над галавой яго ў

сінечы неба лунаюць каршуны, маланкай кідаючыся на якое-небудзь куранё, якое ціўкае на двары.

Станцыя — найбольш ажыўленае месца. Вечарам прыбывае маскоўскі цягнік (ён ідзе толькі да граніцы, да Жыткавіч). На пероне збіраецца пярэсты натоўп. Гэтым цягнікам прыязджаюць у мястэчка найбольш важныя асобы. Адчыняецца кіёск, у якім прадаюцца расійскія газеты за ўчарашні дзень. Вайскоўцы (а іх у цягніку большасць) бягуць з буфета з цэлым ахапкам бутэлек.

Пасля адыходу маскоўскага цягніка на станцыі яшчэ некаторы час пыхкае мясцовы цягнік на Хвойнае. Адыходзіць ён, і перон пусцее. Публіка разбрыдаецца. Усталёўваецца незвычайная цішыня. Толькі пройдзе счэпшчык ці аглядчык вагонаў з запаленым ліхтаром, і ў дзверы станцыйнага буфета, які да гэтага часу ўжо зачыніцца, загрукаюць двое ці трое п’янюг.

Ціха шапочуць серабрыстым лісцем разгалістыя таполі, якія, нібы хмары, навісаюць над станцыяй. У кустах бэзу, якімі абсаджаны станцыйныя дворыкі, шэпчуцца парачкі, якія не знайшлі іншага месца для любошчаў.

Увогуле станцыя аказвае на мястэчка і некаторы культурны ўплыў. У станцыйным «чырвоным пакоі» і ў Доме культуры паказваюць пакуль што нямое кіно. На станцыю тым часам бадай кожны месяц прыбывае вагон-кіно. Школьнікаў тады адпускаюць з заняткаў і вядуць у кіно.

Заняткі скончыліся. Ужо быў выпускны вечар у дзявятым класе. Дзясятага няма — школа яшчэ расце. Нядаўна вырашылі зрабіць дзясяты клас. Бо ёсць школы першай ступені — сямігодка, і другой ступені — дзевяцігодка.

Васю, як пяцікласніка, пусцілі на выпускны вечар. Ён адбываўся ў Доме культуры. Малайцы старшакласнікі! Падрыхтаваліся як мае быць. Пасля таго, як сказаў некалькі слоў сіваваты, трохі прыгорблены, з высакародным тварам дырэктар школы Жэсь, былы лётчык, і выдалі пахвальныя граматы выдатнікам, пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Што гэта такое, вядома: спектаклі, танцы і спевы.

Аднаго выступлення Вася чакае з нецярпеннем. Нарэшце аб’яўляюць, што пяцікласніца Маня Бобрык выканае танец «Крыжачок». І тут жа маланкай вылятае на сцэну высокая

і стройная, як таполя, Маня, апранутая ў сіні ў кветачкі сарафанчык і ў белыя тапачкі.

Васева сэрца замірае ад хвалявання. Яно б'ецца, нібы спуджаная птушка. Яшчэ паўгода назад Маня нічога для Васі не значыла. Не сказаць, каб яна была вельмі прыгожая — вузкаваты тварык, рабацінне. Але ў яе зграбная постаць. Яна вясёлая, імклівая.

З чаго пачалося, Вася не памятае. Проста з нейкага часу ён стаў выдзяляць Маню з гурту дзяўчат, стаў прыслухоўвацца, як яна гаворыць, чакаць яе з'яўлення ў класе.

Ён заўважыў Маню Бобрык яшчэ ў старой школе. Старая школа, пабудаваная да рэвалюцыі,— у другой, паўднёвай, частцы мястэчка. Да яе ісці цэлую гадзіну. Яна стаіць на пясчаным пагорку. Калісьці паблізу школы махалі крыллем два ветракі. Цяпер іх няма: чухкае адзін паравы млын з высокай жалезнай трубою. Гэтую трубу падтрымліваюць чатыры тоўстыя скручаныя драты. Трохі далей — парыльня, дзе гнуць абады на калёсы, а яшчэ далей — курган могільніка.

Васю нават самога трывожыць, што ён кожнага дня ўсё болей думае пра Маню. Яна рухавая, вёрткая, як яшчарка. Вася, вядома, ніколі не скажа дзяўчынцы пра свае пачуцці. Навошта? Цяпер яму падабаецца Маня, і каму да гэтага справа? Нікому. Можа, іншым хлопчыкам падабаюцца іншыя дзяўчынкі, але яны пра гэта не гавораць.

Вася закахаўся так моцна, што толькі пра Маню і думае. Ён пра яе не вельмі шмат ведае. Дзяўчынка жыве ў процілеглым канцы мястэчка. Калі на Першамай і ў кастрычніцкія святы бываюць дэманстрацыі, хлапчукі ходзяць на той канец вуліцы, дзе яна жыве. Вася бачыў Маніну хату. Так сабе хата. Яшчэ брат ёсць у Мані, які вучыцца, здаецца, у трэцім класе.

Сама дзяўчынка вучыцца не надта. Але Вася чамусьці на гэта не зважае. Ёсць яна, высокая, вясёлая, з мілым рабацiннем на тварыку, і гэтага дастаткова.

На выпускным вечары, на якім танцавала Маня, выступала яшчэ адна знаёмая дзяўчына — Саша Шукайла, Піліпа Поклада сястра. Яна вучыцца ў восьмым класе. Саша прыгожая, стройная, як маладая бярозка, а Піліп — прысадзісты целяпень. Нездарма яго дражняць Покладам.

Увогуле дзіўная гэтая сям'я. У ёй тры дзяўчыны і хлопец. Кожнай раніцы ў Шукайлаў сварка. Бо замест таго, каб ісці касіць сена, Іван Шукайла — так завуць бацьку — складае ў сумку кніжкі, сшыткі, шыбуе ў школу. Ён заканчвае сямігодку для дарослых.

Рухавая і языкатая Макрына — яго жонка — усчыняе на ўсю вуліцу несусветны гвалт. Але гэта не замінае Івану крочыць са школьнай сумкай пад пахай насустрач местачкоўцам, якія з косамі на плячы цягнуцца на сенажаць.

Непрыемная гісторыя здарылася ноччу пасля выпускнога вечара, на якім Саша чытала на памяць пісьмо Таццяны да Анегіна. Хораша, выразна чытала, як сапраўдная артыстка. На вечары прысутнічалі навучэнцы прафесійна-тэхнічнай школы. Пасля выступлення да Сашы падыходзіць Дзіма Мігун, шыракатвары, трохі васпаваты, з тоўстай бычынай шыяй. Яна ведае гэтага хлопца, бо ў яго былі нейкія справы з братам Піліпам.

— Я з захапленнем слухаў вашу паэзію. Як вы такі вялікі верш вывучылі на памяць?..

Так здараецца, што Мігун падахвочваецца праводзіць Сашу дадому. Ён наўмысна вядзе яе не Савецкай вуліцай, а Паштовай і зварочвае ў бок дрывянога склада, што знаходзіцца побач з чыгункай.

Яны садзяцца на бярвенне, і тут жа Мігун пачынае дамагацца Сашынай блізкасці. Яна спачатку не разумее яго, потым не на жарт палохаецца, стараючыся вырвацца з яго абдымкаў. Мігун усё мацней прыціскае Сашу да сябе, а яго правая рука расшпільвае яе кофтачку.

— Пусці, Дзімачка! — просіць дзяўчына.

Дзіма, аднак, ні на што не зважае.

Саша, ахопленая жахам, пачынае лямантаваць.

— Ой, Дзімачка! Пусці, Дзімачка!..

Мігун дарэмна разлічваў, што сярод штабеляў плашак, на глухім складзе, ніхто не пачуе Сашыных енкаў.

Паблізу таго месца, куды Мігун завёў дзяўчыну, стаіць будка стрэлачніка, які жыве недалёка ад двара Шукайлаў.

Стрэлачнік Майсей, ладны мужчына-здаравяк, з'яўляецца з ліхтаром у прасценку між бярвення. Белая Сашына кофтачка, у якой яна выступала на сцэне, парвана.

— Хочаш дзеўку знасільнічаць? — не сваім голасам крычыць Майсей.— Ты ведаеш, што за гэта будзе?

— Мы па ахвоце…

— Бачу тваю ахвоту! Матай адсюль, пакуль я табе штаны не спусціў! Прыемна будзе ўцякаць з голым задам!

Як толькі Мігун выпускае дзяўчыну з абдымкаў, Саша ўмомант знікае. А Мігун хоча яшчэ загрудкі схапіцца са стрэлачнікам. Толькі адчувае сваё бяссілле і нібы нехаця дыбае са склада. Майсей яму на развітанне яшчэ і выспятка дае.

Назаўтра ўсё мястэчка гудзе пра тое, што Мігун знасільнічаў Шукайлаву дзеўку. У тое, што дзяўчына не паддалася, мала хто верыць, так што кляймо на ціхай прыгожай Сашы так ці іначай павісае.

## III

Назаўтра здарэнне абмяркоўвае грамада, якая пад Піліпавай камандай збіраецца ісці ў лес прарэджваць дубкі.

— Я зраблю так, што гэты Мігун па дзеўках болей не пабяжыць,— гаворыць Лявон Грыц, найбольшы ў мястэчку хуліган і авантурыст.

— А што ты зробіш?

— Выражу яму адну штуку. Ён ужо тром дзеўкам зрабіў жываты. Вольцы Піскуновай, Ганне Каробач і Алесі Бягунскай. Былі суды, ды што з голага бадзягі высудзіш? Сам у разбітых брызентавых туфлях валочыцца.

Прапанову Грыца аднадушна адхіляюць. Лявон, вядома, мог зрабіць тое, што дакляраваў. Але з такім тыпам, бяздушным ашуканцам, хлопцы не захацелі звязвацца.

Лявон, як і Піліп, дзелавы чалавек. Дні тры назад ён наняў хлопцаў разгружаць пульманаўскі вагон, у якім былі кошыкі для бульбы, за сто рублёў. Сабе ўзяў семдзесят рублёў, хлопцам заплаціў толькі па траячцы.

Таму хлопцы не пайшлі на хаўрус з Грыцам. Самі якнебудзь адпомсцяць Мігуну.

А лес стаіць у летнім росквіце і раскошы, зяляніна запаланіла ўсё, ліст важкі, набрынялы жыццёвымі сокамі.

Дабірацца да Палякова Рога — так называецца лес, дзе будзе ісці прарэджванне дубкоў,— трэба праз вялізны поплаў, які агінае мястэчка з заходняга боку. Яго аберагаюць ад быдла, пастухам забаронена гнаць сюды статкі, і ўсе праходы з вуліцы на поплаў перагароджаны жэрдкамі.

Гэты поплаў — такое ж, як і Гарадзінка, балота, толькі з больш тупкім, цвёрдым грунтам. І расце тут не асака, аб якую руку можна парэзаць, а сапраўдны мурог.

Чамусьці дзікае птаства, якое выводзіцца на сапраўдным балоце — Гарадзінцы, у пачатку лета перабіраецца сюды. Можа, тут харчу больш: розных жукоў, чарвякоў. Вялікая частка маладых качанят, кнігавак, кулікоў і іншых балотных птушак пры гэтым пераходзе гіне: трэба перабрацца цераз чыгунку, жалезныя рэйкі, а затым цераз агароды, вуліцы, дзе нявопытных птушанят падсцерагаюць прагныя каты, сабакі ды маладыя варвары з ліку местачковых хлапчукоў. Дарослыя птушкі ў гэты час носяцца ў паветры, трывожна кігікаюць, неяк падаюць знакі сваім вывадкам.

Восенню поплаў, як і Гарадзінку, залівае вадой, і катацца на каньках тут нават лепей, чым на балоце: няма карчоў, кустоў, чароту, трыснягу, якія густой шчоткай вытыркаюцца з-пад лёду на Гарадзінцы.

Паляковым Рогам завецца не толькі лес, а і хутарэц — бязлюднае месца, якое ажыўляе блізкая чыгунка. Пры ёй каменная будка, так што ўладальнік хутарца і будачнік — блізкія суседзі.

Што прымусіла рухавага дзікаватага Бозьку пакінуць надзел у мястэчку і перабрацца ў глухую нетру, сказаць цяжка. Разумных прычын мала. Зямля тут неўрадлівая, балацянка, іншых выгод, акрамя вольнага выпасу для жывёлы, бадай, няма. Але ў кожнага чалавека свой погляд на жыццё.

Бозька — дзівак. Любіць бязлюддзе, лес, адзіноту. Местачковага шуму і тлуму не прымае. Ён мае стрэльбу, але рэдка палюе, больш адганяе стрэламі ваўкоў, якія падкопваюцца пад ягоныя хлявы. Між тым уласны інтарэс Бозька не ўпускае: нарыхтоўвае ўдосталь сена, не мае клопату пра дровы, ягад, грыбоў, арэхаў назапашвае, колькі душа зажадае.

У адзін з тых дзён брыгада збіраецца каля лясніцтва: яно якраз лепіцца да шафёрскага гарадка. Хлопцы ўжо вырашылі: украдуць у Мігуна штаны, каб гэтак вольна не разгульваў з местачковымі дзяўчатамі. Але як гэта зрабіць?

Найбольш жвавыя і вострыя на язык у брыгадзе Мішка Бычок і Грышка Перальман, якія раней жылі ў горадзе і таму спрытнейшыя за местачкоўцаў. Пабрындаўшы па вучэбным гарадку, яны здабылі каштоўныя звесткі, як сапраўдныя разведчыкі. Вядома, дзе жыве Мігун. Ён дзеліць невялікі пакойчык з іншым прафтэхшкольцам. Толькі проста так у той пакойчык не прабярэшся.

У Грышкі дзядзька — інструктар шафёрскай справы. А Мішка Бычок, можна сказаць,— прайдзісвет. Ён усё пра ўсіх ведае. Аказваецца, Мігун водзіць мясцовых дзяўчат на рачулку Змейку купацца. Змейка недалёка — за балотным пясчаным пагоркам. Берагі яе зараслі кустамі, трыснягом. І што там дзееца, ніхто не бачыць.

Грышка Перальман прынёс дадатковыя звесткі. Мігун — важная птушка. Ён старшыня прафсаюзнага камітэта. Пад яго ўладай валейбольная сетка і мяч, футбольны мяч, більярд, шашкі, шахматы і ўсё такое іншае.

Хлопцы наважыліся прыбраць гэтыя рэчы да сваіх рук. Таму ўсе акалічнасці трэба абдумаць, узважыць самым старанным чынам.

Час брацца за работу. Ужо чэрвень канчаецца. Лясніцтва назначае інструктарам лесніка Гаўрылу Рокаша. Ён высокі, жартаўлівы і не надта мяккі па характары.

Гаўрыла падводзіць хлопцаў да дубовай градкі.

— Дык вось, малайцы, знайдзіце на ёй дубок.

Дубок аказаўся кволенькім, скручаным і нібы абсыпаным мукой.

— На градцы павінен застацца толькі дубок. Усё астатняе падлягае высячэнню, каб даць прастор для росту дуба.

— А калі няма дубка? — пытае Міхась Варона, да якога сказанае даходзіць на трэці дзень.

— Няма дык няма. Ёсць градкі, дзе па пяць дрэўцаў. Зробім перафарміроўку. Нас цікавіць дуб як найбольш карысная парода. Беразняк, асіннік на гэтым участку не патрэбны…

У гэты лес хлопцы хадзілі мала. Ён не грыбны. Наведваліся сюды хіба ў ягады ці арэхі. Іншая справа — бор на той бок чыгункі. Калі ісці з мястэчка, ён размяшчаецца праваруч ад Барсуковай будкі. Там Васевы грыбовішчы, і той лес ён ведае, бадай, да самай вёскі Макаў. А гэта добры дзясятак кіламетраў.

## IV

Дома Вася добра навастрыў тапор. На першай градцы, якую яму прыйшлося расцярэбліваць, два кволыя дубкі і некалькі бярозак, асінак, што пачалі ўбірацца ў сілу.

Першае дрэўца ён высякае з такой прамовай:

— Я цябе высеку, бярозка. То не крыўдуй. Няўдалае месца ты выбрала, каб пасеяцца. Тут па плану дубкі павінны расці. А мы выконваем план…

Гэтыя словы чуе Піліп Поклад. І тут жа апавяшчае астатніх:

— Ён, хлопцы, поп. Над кожным дрэўцам моліцца. Маўляў, даруй, бярозка, што я цябе высеку. Нібы просіць прабачэння...

Піліпава паведамленне, аднак, не выклікае ні смеху, ні нават водгуку. Хлопцы свядома ці падсвядома разумеюць, што нішчыць дрэвы, якія ўбіраюцца ў сілу, дзеля шурпатых, кволенькіх дубкоў — справа не такая ўжо высакародная. Прамаргалі штосьці работнікі лясніцтва. Не там, дзе трэба, пасадзілі дубкі. А цяпер хочуць справу паправіць.

Маладыя, здаровыя хлопцы махаюць тапарамі, пад корань падсякаюць двухметровыя і трохметровыя дрэўцы. Ссечаныя бярозкі і асінкі сцягваюць у лаўжы. Калі лаўжы трохі падсохнуць, іх спаляць.

Вася, заняты работаю, думае пра Маню. Дзе яна? Чым займаецца? Не, ён не хоча яе бачыць. І сказаць ёй нічога не мае. Калі сустрэне, прамаўчыць.

Бацька Мішкі Бычка, які працуе ў нарыхтоўчай канторы, амаль кожны дзень выпівае. Не адзін, з прыяцелямі. Бутэлька застаецца Мішку. За яе ў краме даюць сто грамаў цукерак. Мішка заве ў кампанію Васю, яшчэ каго-небудзь, і гэтыя цукеркі яны ядуць, строга захоўваючы прынцып роўнасці.

Возьме «падушачку» Мішка, затым Вася, пасля трэці ўдзельнік кампаніі. Хлопцы нават не думаюць пра тое, што бутэлька Мішкава і ўсе цукеркі мог з'есці адзін ён.

Мільгануў з касой Піліпаў бацька. Пакуль ён канчаў сямігодку для дарослых, усе паляны, нават глухія лясныя закуткі пранырлівыя местачкоўцы выкасілі.

Таму старэйшы Шукайла вяртаецца панылы, не паклаўшы касой ніводнага касмыля травы. Каля высечак, дзе завіхаюцца хлопцы, ён спатыкаецца з лесніком Гаўрылам Рокашам. Рокаш паціху гандлюе сенакосамі. Нездарма амаль кожны дзень пад хмяльком.

— Няма, мілы чалавек, дзе касой размахнуцца,— нібы са шкадаваннем гаворыць ляснік.— Трэба было раней. Выкасілі ўсё начыста. Народ зыркі, ад яго нічога не схаваеш.

А хлопцы ведаюць, што яшчэ ёсць прыдатнае для касьбы месца. Недалёка адсюль, прыкрытае лазняком, алешнікам, стаілася амаль высахлае балотца з ніштаватай травой. Сена, бадай, тры вазы будзе.

Хлопцы вырашылі памагчы Івану. Ад імя грамады выступае самы смелы, Мішка Бычок.

— Не трэба чалавека вадзіць за нос, дзядзька Рокаш. Аддай яму балотца за алешнікам. Чалавек навукай займаўся. Мае за плячамі сем класаў. Ты ж, мабыць, і двух не скончыў.

— Не лезь не ў свае дзела, байструк. То фонд лясніцтва.

— Калі мы раскрыем усе фонды, якія ты параздаваў, то несалодка табе будзе. Кожны дзень чарку выпіваеш, а тады п'яны спіш.

Гаўрыла Рокаш пачынае мякчэць.

— Ладна, Іван, ідзі за алешнік і выкасі палавіну лужыны. Толькі палавіну, інакш мне не адбаярыцца…

Адбылася падзея, да якой не мае дачынення ні адзін чалавек, уведзены ў змову супраць Мігуна. Пастух Ігнацік (ён пасвіў кароў з паўночных вуліц мястэчка, уключаючы станцыю), як заўсёды, ганяў статак за рэчку Змейку. У статку хадзіў Цімох — разважны, спакойны бык.

На гэты раз Мігун прывёў купацца аж дзвюх дзяўчат. Адна, хутчэй за ўсё, прыезджая, гарадская, прыйшла ў чырвоным халаціку. Убачыўшы чырвоную тканіну, бык раз'ятрыўся. Ён

усутыч падступіў да вопраткі, якую дзяўчаты зләжылі на беразе Змейкі, зачмыхаў, пачаў біць капытамі зямлю, нарэшце, яшчэ больш раз’ятрыўшыся, падняў на рогі чырвоную адзежыну. Ён матляў ёю, трос, кідаў пад ногі, ірваў і шкуматаў. У выніку ад новага халаціка засталася брудная анучына.

Чуткі пра гэтую падзею хутка разнесліся па мястэчку. Пастух Ігнацік (яму за шэсцьдзясят, а завуць яго як хлопчыка) на кожным кроку тлумачыў, што яго хата з краю, што бандыцкі ўчынак Цімох здзейсніў па ўласнай ахвоце.

Хлапечую каманду нечаканая вестка як бы падштурхнула да дзеянняў. Тым болей што прынізіў Мігуна нават не чалавек, а бык. Пакаранне распусніка Мігуна было стыхійным. Цімох не мог дзейнічаць свядома. Усе быкі інстынктыўна рэагуюць на чырвонае.

Мішку Бычка і Грышку Перальмана выклікалі на савет. Піліп, надзьмуўшыся і пачырванеўшы, як памідор, пачаў ушчуваць іх за бяздзейнасць.

Тым часам здарылася ці не самая галоўная драматычная падзея. Саша знікла з мястэчка. Шукайлы маўчаць. Відаць, знайшлі дзяўчыне ціхае месца. Будзе Саша вучыцца ў дзявятым класе ў іншым месцы, і ніхто не стане паказваць на яе пальцам. А мястэчка завіравала. Папаўзлі розныя чуткі. Адны гаварылі, нібыта Саша кінулася ў рэчку Змейку. Другія настойвалі на тым, што проста сышла ў белы свет. Пісьменная, восем класаў за плячамі. Хіба такая дзяўчына прападзе?..

У мястэчку два суды. Суд першага і другога ўчастка. У абодвух разглядаліся любоўныя справы Мігуна. Іх усяго тры. І па ўсіх трох Мігуну на ўтрыманне яго малалетніх дзяцей прысудзілі плаціць аліменты. Але ні па адным выканаўчым лісце Мігун не плаціць. Няма з чаго плаціць.

Самахоць стварылася грамадская камісія, каб рушыць справу наперад. Перш-наперш энтузіясты кінуліся ў бухгалтэрыю аўташколы. І вось што высветлілі.

Прафтэхшколец Дзмітрый Мігун атрымлівае шэсцьдзясят рублёў стыпендыі. Але палавіну яе — трыццаць рублёў — вылічваюць на аліменты ранейшым прыгажуням, з якімі Мігун меў справу, калі яшчэ не вучыўся ў аўташколе. Небагата адхапілі тыя прыгажуні — па дзесяць рублёў кожная. Так што

новым каханкам браць аліменты няма адкуль. Закон дазваляе з заробку чалавека вылічваць не больш як палавіну.

Змыслая камісія пацікавілася маёмасцю Мігуна. Тут яе чакала таксама поўнае расчараванне. Мае Мігун трохі падлапленыя штаны, яшчэ прыгодныя для носкі, дзве пары брызентавых туфель. Адна пара толькі раз была ў рамонце, другая — зусім разбітая. Ёсць яшчэ плашчык, праўда, у некалькіх месцах з дзіркамі. Паліто няма. Замест зімовай шапкі — кепка з касцяным гузікам на самай макаўцы.

Такім чынам, задаволіць просьбы і пагрозы тых, хто меў сувязь з Мігуном, аліментная камісія не мела ніякай магчымасці.

Падбадзёраная поспехамі грамадскасці, якая ўсё глыбей уваходзіла ў Мігуновы справы, пачала актыўней дзейнічаць «разведка» ў складзе Мішкі Бычка і Грышкі Перальмана. «Разведчыкі» цяпер ведалі, што футбольны і валейбольны мячы захоўваліся ў спецыяльнай каморцы, якую Мігуну выдзелілі як старшыні прафкама. Каморка замыкалася на маленькі замочак. Але, відаць, ад таго, што гаспадар яе часта губляў ключ, замок адчыняўся скрыўленым цвіком, які вісеў тут жа, на дзвярах.

Задача заключалася ў тым, каб падпільнаваць момант, калі Мігун будзе адсутнічаць.

Такі момант надарыўся падчас сходу навучэнцаў. Хлопцы адчынілі каморку і прыхапілі не толькі футбольны і валейбольны мячы, а і скрынкі з шахматамі і шашкамі. Валейбольную сетку, нацягнутую на слупы, проста знялі, дачакаўшыся цемры.

Цяжэй было з більярдам, які стаяў у спартыўнай зале. На ім навучэнцы каталі шары з раніцы да вечара. Прыйшлося паламаць галаву над тым, як яго вынесці. Нарэшце Мішка дапяў. У той вечар, на які намячалася аперацыя, хлопцы сапсавалі электраправодку, і аўташкола пагрузілася ў цемру.

І вось поўная перамога. Пад уладай Мігуна не засталося ніводнага прадмета, прызначанага для культурнага адпачынку прафтэхшкольцаў.

Валейбольную сетку даглядчыкі лесу павесілі проста на месцы працы, нацягнуўшы яе на дзве бярозы. Цяпер брыгада пачынала работу з перакідкі валейбольнага мяча. Рокаш

спачатку касавурыўся на гэтую сетку. Яму сунулі два пачкі махоркі, і ён супакоіўся.

Цяжэй было з футбольным полем. Зрэшты, хлопцы знайшлі больш-менш роўную паляну. Прыйшлося толькі некалькі пнёў выкарчаваць. І поле, хоць і не надта выдатнае, было абсталявана.

Вялізны, на паўхаты, більярд паставілі ў Мішкі. І хлопцы грукалі шарамі колькі хацелі. І ніхто пра гэта не данёс ні прафтэхшколе, ні міліцыі, ні якой іншай уладзе. Бывалі дні, што з раніцы да вечара, не чапаючы бярозак і асінак, бухалі хлопцы ў мяч, перакідваючы яго цераз сетку. І нікому ў галаву не прыйшло, адкуль у мястэчковай дзятвы раптам такое багацце — мяч, сетка. Навучэнцы школы, відаць, прамаўчалі, саромеючыся, што іх так ганебна абабралі.

## V

Тым часам помста Мігуну была звычайнай справай. Хлопцы кожнай вёскі, сяла абараняюць сваіх дзяўчат. Нашы героі прыбліжаліся да таго ўзросту, калі стануць кавалерамі. Хто, як не яны, павінны абараніць гонар дзяўчат, якіх збіваюць з тропу розныя нахабнікі?

Вася вунь закахаўся, перайшоўшы толькі ў пяты клас. Гэта, відаць, таму, што шмат прачытаў кніг. І верыў гісторыям, якія ў іх напісаны. Хоць жыў, як усе, і бачыў, што жыццё, пра якое напісаны кнігі, нашмат разыходзіцца з тым, якое ёсць у сапраўднасці.

Вася думае пра Дзіму Мігуна. Ён высокі, плячысты і з твару зусім не брыдкі. Хутка стане шафёрам і будзе працаваць у лясной прамысловасці. Даўно вядома, што леспрамгасаўскія шафёры, якія перавозяць плашкі, бярвенне, дубовыя кражы, зарабляюць больш за ўсіх. Больш за настаўнікаў, бухгалтараў, іншых спецыялістаў.

Можа, гэта адна з прычын, чаму дзяўчаты кідаюцца на навучэнцаў школы, як восы на мёд.

І яшчэ адна акалічнасць. Мястэчка трымаецца на сяміваcьмі прозвішчах — на людзях, якія жывуць тут спрадвеку. Прыезджых мала. Тут фактычна ўсе родзічы, няхай сабе далёкія.

А лета плыве харошае. Мінула пара суніц, якіх у гэтым лесе процьма. Хлопцы ўдосталь імі паласаваліся. Цяпер спее жыта, у ляшчынніку шмат арэхаў. Хлопцы не толькі іх вышукваюць і ядуць, а па цэлай торбе прыносяць дадому.

Ліне кароткі дождж, умые зямлю, траву, лес, і знікае пачуццё адарванасці ад свету, калі з раніцы да вечара махаеш сякерай у гэтай нетры.

Гул, які даносіцца з чыгункі, неяк асабліва прыглушаецца лесам. Уражанне такое, што на лес абрынуўся лівень.

Да хутара Бозькі хлопцы дабіраюцца або ваколіцай, што прасцей і бліжэй, або ўзбочынай чыгункі.

Хутар размешчаны недалёка ад чыгуначнай будкі, за якіх-небудзь паўкіламетра. Канечне, гаспадары будкі і хутарца сустракаюцца. Два чалавекі, якія жывуць у лесе ў глыбокай нетры, не могуць не сустракацца.

Бозька — фантазёр. Якіх толькі гісторый не напляце пра жыццё на сваім хутары! То ваўкі падрываліся пад яго хату, то нават мядзведзь прыходзіў, але спалохаўся цягніка і ўцёк, а што датычыць дробнага звяр'я — лісоў, зайцоў, барсукоў, вавёрак,— то яны пакідаюць сляды на двары, агародзе штоночы. Хоць сілкі на іх расстаўляй.

Бозька — дбайны гаспадар. Ён выкапаў копанку, запусціў карасёў, плотак, шчупакоў. Так што мае ўласную рыбную гаспадарку. Квас-бярозавік не зводзіцца ў яго цэлае лета. І хлопцам не шкадуе хутаранец ляснога напітку. Ён таксама назапашвае процьму ягад, грыбоў. Ёсць Бозьку выгада жыць наводшыбе, хоць бы ў гэтай нетры.

Ад Бозькавай хаты да самай чыгункі цягнецца куп'істае балота. Трава на ім не самая лепшая — асака, ціпчак, круглец. Але сена Бозька накошвае ўдосталь. Ды яшчэ да балотнай травы прыбавіць мурагу з лясных палянак. І зімой патроху гандлюе тым сенам.

Работа кіпіць. Хлопцы выходзяць у лес прыкладна ў той час, калі жанкі выганяюць на пашу кароў, і праз гадзіну яны на месцы. Кожнаму адведзена паласа градак, на якіх пасаджаны дубкі. Але дубкі яшчэ пры самай зямлі, а высока вымахалі вакол іх іншыя дрэўцы: асінкі, бярозкі, арабіны, ну, вядома, і быльніку, дзядоўніку хапае. Ёсць такія бярозкі —

проста прыгажуні. Але правіла суровае: пакідаць адны дубкі, усё астатняе высякаць.

Васю не падабаецца такі парадак. Дзеля нягеглага дубовага дубца нішчыць сапраўдную прыгажосць.

Увогуле дубы ў наваколлі ёсць. Магутныя, разгалістыя, яны неяк ацалелі на ўскрайках лесу, наўзбоч дарог. Нават прамежак паміж лесам і насыпам чыгункі абсаджаны дубамі. Асабліва бліжэй да мястэчка. Не ўзнялася ў чалавека рука на лясных прыгажуноў. Хоць у большасці мясцін дубы высечаны, засталося голае пнёўе. Напрыклад, на Малым і Вялікім Лядзе, куды Вася некалі вадзіў пасвіць каня. Цяпер спахапіліся. Робяць пасадкі дуба, якія хлопцы зараз расцярэбліваюць. Але калі вырастуць гэтыя дубы? І як раней выстаялі цяперашнія дубы-веліканы? Бо вядома: усякае іншае дрэва расце хутчэй, чым дуб. Узнікае пытанне: хто і як ахоўваў дубы-волаты, якія засталіся на тутэйшых палях і ўзлесках?

Хлопцы працуюць, пакуль не стомяцца. Гадзінніка ні ў кога няма. Апоўдні (па сонцу) робяць перапынак на полудзень. Потым яшчэ махаюць сякерамі гадзіны дзве-тры, пакуль канчаткова не выдыхнуцца. Валейбол, футбол не ў лік. Гэта толькі гульня, адпачынак.

Бозька, які прыйшоў паглядзець на іх работу, іранічна ківае галавой.

— Вы вось стараецеся, а лесу тут не будзе. Не такая зямля. Дуб сам сабе зямлю выбірае і нікога да сябе не пускае. Вы бачылі дубовыя зараснікі? Кустоўе там толькі дубовае.

Ляснік Рокаш неадкладна дае Бозьку адпор:

— Многа ты ведаеш. Дуб усюды расце. Нават на балоце. Наогул ён гарыстай зямлі не любіць. Скуль ты ўзяў, што дуб тут не будзе расці?

— Стуль і ўзяў.

Бозька спрэчкі працягваць не хоча. Зрэшты, яго хутар на зямлі ляснога фонду, і навошта яму псаваць адносіны з Рокашам, хоць начальнік ён невялікі.

Лес дорыць хлопцам бясконцыя і — галоўнае — бясплатныя радасці. Наеліся суніц, на тым баку чыгункі, у бары, ёсць чарніцы, хапае арэхаў. У лес завітвае мноства людзей. Кожныя паўгадзіны па рэйках імчыць цягнік, і яго жалезны ход аддаецца ў лесе стогалосым рэхам.

Ужо была першая палучка. Не, на чыгунцы ніколі не заробіш столькі, колькі выпісаў Рокаш кожнаму з даглядчыкаў лесу. Канешне, ён меў і свой інтарэс. Хлопцы гэты інтарэс улічылі. Пару паўлітэрак Рокаш усунуў у свае бяздонныя кішэні.

## VI

Дзіўна, прафтэхшкольцы не прымаюць ніякіх захадаў, каб адшукаць украдзеныя ў іх валейбольны і футбольны мячы, сетку і більярд. Заявілі б у міліцыю, і зламыснікі самае большае за тры дні былі б выкрыты. Не хочуць, відаць, нервы псаваць навучэнцы. Хлопцы здагадваюцца чаму. Хутка ў іх выпускныя залікі. Па той бок чыгункі, сярод маладых сасонак, ёсць паляна, спярэшчаная васьмёркамі, шасцёркамі, іншымі лічбамі і загагулінамі. Тут прафтэхшкольцы вучацца вадзіць свае газагенератары, рабіць правыя, левыя павароты. Лес выбраны па той прычыне, што тут не замінае дзятва, якая нават на кузаў газагенератара чапляецца.

І напярэдадні выпускных залікаў будучыя шафёры, відаць, не хочуць абвастрэння адносін з жыхарамі. Чорт яго бяры з тым більярдам і мячамі. Тым больш што грахі, за якія мястэчковыя падлеткі пакаралі Мігуна, водзяцца не толькі за ім адным.

Чытаючы кніжкі, Вася не ведаў, што каханне можа быць такім вострым. Пра Маню ён думае кожнае хвіліны. Як бы на ёй свет сышоўся. Васю зусім не хочацца бачыць дзяўчынку. Ён не імкнецца ні да якіх сустрэч. Так нават лепш. Не трэба прыдумваць слоў, якія ён павінен сказаць. Дый пра што гаварыць, невядома.

Аднойчы золкім дажджлівым вечарам, калі хлопцы вярталіся з расцяробаў, Васю падалося, што на выгане адзін са статкаў пасе Маня. Кароў з той часткі мястэчка, дзе жыве дзяўчынка, пасвяць якраз тут. Вася страшэнна зніякавеў: ён быў у падраных штанах, распоўзлых апорках і вельмі не хацеў, каб Маня ўбачыла яго такім. Ён нават пахаладзеў ад страху.

Дзяўчынка аказалася не Маняй. Гэта Васева ўяўленне іншую дзяўчынку зрабіла падобнай на яе. Хлопчык дае сабе слова, што болей такое не паўторыцца.

Аднойчы Піліп Поклад заўважыў, што Міхась Варона працуе несумленна, нядбайна. Калі на градцы толькі адзін ці нават два дубкі, ён не высякае астатнія дрэўцы, а проста вырывае з зямлі дубкі, хаваючы іх у ссечаным галлі. Поклад прысарамаціў Міхася. Піліпа асабліва ніхто не любіць, не сябруе з ім, але тут яго аднагалосна падтрымалі. Працаваць трэба сумленна. Прыгразілі Міхасю, што калі ён будзе рабіць гэтак далей, то раскажуць пра ўсё лесніку Рокашу.

Лета выдатнае. Але дзень на дзень не прыходзіцца. З раніцы то туман, то вее лёгкі вецер — туману і паміну няма. На бярозе пачынае жаўцець і патроху ападаць лісце. Шкада, што расцярэбліваць асталося на тыдзень-два. Трэба ў школу збірацца, а галоўнае — пачалі пракідацца баравікі.

Вася пазнаёміўся з сынам будачніка, якога таксама завуць Вася. Гэты нізкарослы, драбнаваты хлапчына вучыцца ў шостым класе, кватаруе ў зімовыя месяцы ў родзіча, дом якога побач з Маніным.

Хутка Вася пераканаўся, што сын будачніка наўрад ці стане сябрам. Ні птушкамі, ні грыбамі гэты лясны жыхар не цікавіцца і кніжак таксама не чытае.

З касой у лесе зноў з'яўляецца старэйшы Шукайла. На балотцы вырасла атава. Іван Шукайла стараецца. Сена на зіму пакуль што не хапае. Тым часам карова корміць сям'ю.

Хлопцы сімпатызуюць бацьку свайго таварыша. Усё-такі дзівак. Сена не назапасіў, затое мае дакумент аб няпоўнай сярэдняй адукацыі.

Тую нізінку ў альшэўніку Шукайла выкасіў усю. Цяпер, калі ён выкасіць балотца, сена хопіць.

Трымціць над жалезнымі рэйкамі лёгкая сінюватая смуга. Здаецца, там, далей, цячэ рэчка, якая, выгінаючыся, коціць свае хвалі аж да далёкага сіняга мора. Стаіць пры чыгунцы ганаровая варта дубоў.

Сёння хлопцы раней пакіравалі з работы: у лясніцтве палучка, ды і работы няшмат засталося. Самае большае — на дзень.

— Кончу сямігодку, як бацька,— гаворыць Поклад,— і падамся ў міліцэйскую школу. Форму дадуць, свісток, наган буду насіць збоку.

— Не прымуць цябе ў міліцэйскую школу,— пярэчыць Міхась Варона.— Ты малога росту. Я яшчэ не бачыў такога

малога міліцыянера. Цябе людзі за хлапчука будуць прымаць. Свішчы ў свой свісток, не свішчы…

— Я яшчэ падрасту…

Звычайна, намахаўшыся гадзін восем-дзевяць сякерамі, хлапчукі вечарам яшчэ прыходзяць на станцыю сустракаць маскоўскі цягнік. Увогуле народу ў гэты час на станцыі шмат.

Тое, што бачаць хлопцы ў гэты вечар, не толькі дзівіць іх, а незвычайна ўзрушвае. На лавачцы ў станцыйным скверыку яны заўважаюць Дзіму Мігуна, падфранчанага, у новых чаравіках, пінжаку, нават пад гальштукам. І побач з ім школьную піянерважатую Аню Цырульнікаву.

Сябрукі заўважаюць яшчэ некалькі старшакласніц, якія сядзяць з вясёлымі прафтэхшкольцамі. Як і не было знявагі Сашы, якая знікла з мястэчка, і звязанага з гэтай гісторыяй шуму-звону.

Хутка хлопцы ўведалі прычыну гэтых спатканняў. Навучэнцы здалі залікі, і цяпер яны сапраўдныя шафёры. Ды і да залікаў местачковыя дзяўчаты сустракаліся з імі. І іх зусім не кранала, што Мігун, якому так помсцілі падлеткі, зняважыў сястру Піліпа Поклада.

Адчувалі местачковыя дзяўчаты, што хлапчукі бароняць іх ад чужакоў. Толькі не звярталі на гэта ўвагі. Ёсць на свеце штосьці мацнейшае за такую вось абарону. Суполка падлеткаў у гэтым сэнсе пацярпела поўнае паражэнне.

*2001*

# 2002

## БАБА ЗОСЯ НА ТРЫБУНЕ

Пісьменніку Івану Пальчыку, перш чым узяць ад яго анкету, сказалі:

— Тут адно пытанне выпала. Скажыце: запішам. Ці заўважалі ў сваіх родзічаў якую-небудзь схільнасць да пісьменніцкай работы? Напрыклад, красамоўства, высокую адухоўленасць, непрактычнасць у бытавым жыцці…

Іван Пальчык, худаваты, з завостраным носам і прыкметным рабаціннем на вузкім тварыку, замяшаўся:

— Так, з ходу, не адкажаш…

— Падумайце. Зайдзіце заўтра ці паслязаўтра. Не гарыць.

Іван Пальчык выдаў два зборнікі вершаў і кніжку апавяданняў. Нібыта нядрэнныя кніжкі. Тым часам продкамі пісьменнік яўна незадаволены. Ну, што за прозвішча Пальчык? Што чалавек з такім прозвішчам можа сказаць грамадству, тым болей інтэлігентным людзям? Хоць бы які-небудзь Шастапал, ці ў горшым выпадку Пальцінскі. А то паэт і празаік Пальчык…

Думаў Пальчык аб сваіх продках і нішто прыстойнае не лезла ў галаву. Вось дзед па бацьку Павел. Звычайны селянін. Страшэнна працавіты. Гадзіны не мог згуляць. Іван памятае, як ляжаў з дзедам на печы, і дзед расказваў бясконцыя гісторыі з Евангелля, якія пачуў у царкве. Дзед быў непісьменны, ведаў адну толькі літару «О», але запамінаў пакручастыя аповеды пра шматпакутнага Ноя, царыцу Саўскую, Юду Іскарыёта,

будучага здрадніка. Тыя вельмі абмежаваныя рэлігійныя веды, якімі Іван валодае, даў яму менавіта дзед.

Іван успамінае больш далёкіх родзічаў і не можа знайсці ніводнага, хто хоць бы трохі меў пісьменніцкія здольнасці. Адзін іграў на скрыпцы, другі паспяхова хадзіў ля пчол, дзве далёкія цёткі лячылі травамі і ўмелі загаворваць кроў.

І раптам як бы вогненная маланка асвяціла мысленныя пошукі пісьменніка Пальчыка. Бабка Зося любіла яго больш, чым двух астатніх братоў. Нават песню пра яго спявала: «Шанька-Ванька пахвалёны, шапка сіня, верх зялёны»… Яна шкварыла яму яешню, частавала перапечкамі, арэхамі, семкамі-лузганцамі.

Сама бабка была відная з сябе, гаварлівая, языкастая. Калі дзед ведаў толькі некаторыя царкоўныя гісторыі, то бабка ведала ўсё на свеце. Усім тубыльцам доўгай местачковай вуліцы давала прозвішчы, і яны неяк адразу прыжываліся.

Але выславілася яна не гэтым. Сельсавет, як лічыла бабка, несправядліва накладвае падаткі. Яна лаяла, зневажала, як магла, сельсаветчыкаў, не давала ім праходу. І вось аднойчы, калі ішоў першамайскі мітынг і была ў зборы ўся грамадскасць сельсавета, бабка палезла на трыбуну. «Старшыня! — гукала яна на ўсё наваколле.— Ці забыў, як качаўся жыватом у маім просе, перапіўшы гарэлкі? Смалы я паставіла б сёння табе, а не першаку, каб ведала, які ты двудушны. А ты, секлетар, дарагі мой пляменнік Сцяпан, роднага дзядзьку ў кулакі запісаў. Ці ты не бачыў, як ён задам свяціў, да сёмага поту жылы рваў, рабіў без продыху, каб ты грудзьмі рабіў?!.»

Бабку Зосю не вельмі злосна ссадзілі з трыбуны, але самі сельсавецкія начальнікі доўга ўспаміналі яе палкую прамову і тыя характарыстыкі, якія яна дала кожнаму з іх.

Іван Пальчык наважыў расказаць пра талент бабкі Зосі. Толькі сам ён нічога смелага, вострага, хоць бы трохі падобнага на бабчыну прамову, не напісаў.

*2002*

# БАРАВІКІ-ВЕЛІКАНЫ

З усіх пораў года Міхась найбольш любіць восень. Восенню дрэвы стаяць у задуменна-ціхай самотнасці, лес, асабліва калі глядзець на яго з якога-небудзь пагорка, незвычайна багаты на колеры, фарбы. Залатым полымем палаюць бярозы, вершаліны трапяткіх асін, нават у зеляніне велічна-ўрачыстых дубоў прабіваюцца жаўцізна і шэрань.

Чыстае, церпкае восенню паветра, крыштальна-празрыстая вада ў ручаінах, прывабнымі дыяментамі зіхаціць раса на лісці дрэў.

Восенню ў разгары грыбны сезон.

Два разы ў жыцці Міхася напаткала грыбная ўдача. Першы раз было так. Ён пайшоў па грыбы разам з братамі і сёстрамі сябра Нупрэя, дом якога непадалёк ад Міхасёвага. Нахабная галасістая талака ніякіх правіл прыстойнасці ў лесе не захоўвала. Калі Міхась знаходзіў грыб, да яго збягаліся прагныя Нупрэевы браты і сёстры, рвалі ў тым месцы верас, уздзіралі мох. Нават статак дзікоў не мог нанесці лесу такой шкоды.

Грыбоў — годныя яны ў ежу ці не годныя — Нупрэева воінства не ведала: кідалі ў кошык вужоўкі, мухаморы і нават бледныя паганкі. Баючыся, каб бедакі не патруціліся, Міхась толькі тым і займаўся, што выкідваў з іх кошыкаў непатрэбную дрэнь. Яны яшчэ і не давалі чапаць свае знаходкі, і кожны раз Міхась клікаў на дапамогу Нупрэя.

Міхась закляўся хадзіць па грыбы такой талакой. Грыбоў ён у той раз набраў мала, дашчэнту сапсаваў сабе настрой. Але ёсць у жыцці нешта падобнае на праўду і справядлівасць. Пры выхадзе з лесу, у канаве, якая аддзяляе дарогу ад балотца, Міхась заўважыў нейкі вялікі каптур. У першую хвіліну ён не мог паверыць, што сярод ціпцу, гарчэчніку, асакі можа вырасці які-небудзь грыб. Але гэта быў грыб, прытым цар грыбоў — баравік.

— Вось гэта грыб! — усклікнуў Нупрэй.— Я такіх баравікоў яшчэ не бачыў.

Сам Міхась таксама ніколі не знаходзіў такіх агромністых баравікоў. Важыў грыб кілаграмы тры ці нават болей, быў зусім не стары, ягоны каптур не ўлазіў у абсягі вузкаватай

карзінкі. Корань баравіка можна было абхваціць толькі дзвюма рукамі, не меў ён ніводнай чарвівінкі.

Нупрэева брыгада кінулася ў балота. Але на балоце, як вядома, грыбы не растуць. Ні вялікія, ні малыя.

Калі захопішся грыбамі, то гэта на ўсё жыццё. Другі раз, ужо ў сталым узросце, Міхаіл Іванавіч знайшоў падобны баравік у лагойскіх лясах. Ён, як і ў дзяцінстве, быў не адзін — з кампаніяй. Здалёк убачыў у імшыстым сасонніку штосьці падобнае на пяньчук. Але гэты пяньчук меў шапку. Сэрца здрыганулася: грыб! Другі раз у жыцці Міхаіл Іванавіч знайшоў баравіка-велікана. І ў такую самую асеннюю пару, калі бярозы, кляны, асіны нагадваюць вялізныя вогнішчы.

*2002*

## БАРСУЧАНЯТЫ ГУЛЯЮЦЬ

Міхалка рана асвойтаўся ў лесе: яшчэ з таго часу, як пасвіў цялушку. У лесе добра. Хлопчыку здаецца, што ўсе навокал дрэвы — яго сябры. Вунь беластволая бяроза — стройная, маладая, з прыгожай прычоскай-шатром, яна здалёку вітае Міхалку. Пад гэтай бярозай аднойчы ён знайшоў белы крамяны грыб. Трошкі далей — сасна, якая таксама з Міхалкам у змове. Неяк проста так, дзеля смеху, ён паклаў на галінку сасны сінюю паску матэрыі, што ляжала ў яго кішэні. А праз дзень ці два заўважыў тую паску ў аснове гняздзечка, што віла сабе нейкая невялічкая шэрая птаха.

Асабліва ж падабаюцца хлопчыку лясныя пясчаныя горы. Яны за балотцам і не надта высокія, але ўсё-такі гэта горы. Лес тут чыста сасновы. Міхалка даўно прыкмеціў: у сасновым лесе мала птушак. Чамусьці яны не спяшаюцца тут гняздзіцца. Толькі дзятлаў хапае, хоць і яны не любяць лячыць дрэвы адзін побач з адным. У кожнага, як кажуць, свой надзел. А яшчэ хлопчык упадабаў горы за тое, што ў іх доле сапраўды кіпіць жыццё. Тут шмат усякіх нораў, і цяжка нават здагадацца, якая каму належыць. Міхалка ведае толькі барсучыную нару, бо нечакана пазнаёміўся з яе жыхарамі.

Аднаго дня ранняй вясною малы прыгнаў сюды цялушку і пусціў яе на балотца шукаць траву чорнагалоў. Дзень выдаўся сонечны, цёплы. Хлопчык прылёг за кустом ядлоўцу. Нечакана паблізу пачуўся нейкі шоргат. Пастушок зірнуў на барсучыную нару. І проста ў яго на вачах з нары адзін за адным выкаціліся тры паласаценькія звяркі, падобныя на малых парасят. Яны пачалі валтузіцца, гуляць паміж сабой. Міхалка аж залюбаваўся барсучанятамі. Такія яны былі пацешныя, прыгожыя, так моцна захапіліся гульнёй. Раптам на суседняй сасне затрашчала сарока. Звяркі спалохаліся і тут жа шуснулі ў нару.

Праз якую хвіліну сарока пераляцела на суседнюю сасну. Памаўчала і зноў затрашчала. Але барсучаняты, напэўна, добра ведалі гэтую трашчотку. Неўзабаве яны паказаліся з нары і пачалі далей наскокваць адно на адно.

Міхалка падхапіўся, каб паглядзець, дзе пасецца цялушка. І ў гэты самы момант убачыў, як, хаваючыся за ядлоўцам, да барсучанят падкрадваецца воўк. Аблезлы, з хвастом-абрубкам, ён быў ужо за некалькі крокаў ад вясёлых звяркоў.

Міхалка не вытрываў і моцна закрычаў, бо спалохаўся за сваю цялушку. Барсучаняты ў адно імгненне сiганулі ў нару. Воўк жа, злосна зіркнуўшы на пастушка, клацнуў зубамі і схаваўся ў кустах.

Так Міхалка выратаваў малых барсучанят. І сваю цялушку таксама ўпільнаваў.

*2002*

## ГУКАННЕ НАД ВЕРАСАМІ

### I

Пятро Грачанік рос у сям'і, у якой было чацвёра дзяцей. Бацька працаваў стрэлачнікам на станцыі, яго заробку не хапала для немалога сямейства. Але неяк жылі.

Пятро быў даволі прывабным: прамы нос, пульхныя губы, мяккае падбароддзе выдавалі незласлівы характар. І з фігуры ніштаваты: высокі, шыракаплечы, толькі шматгадовае

сядзенне за нізенькай партай трохі ссутуліла яго. Ён быў худы, дрэнна апрануты. Не любіў выдзяляцца сярод астатніх вучняў, але на ляту хапаў сказанае настаўнікамі. У дадатак многа чытаў і па праву лічыўся першым вучнем у класе.

Аднак ён не быў апантаным разумнікам, які апрача кніг і школы нічога не ведае. Прынесці са станцыі плашку дроў, пастаяць у чарзе за хлебам — гэта былі яго штодзённыя абавязкі.

Дайшоўшы да старэйшых класаў, Пятро не звяртаў на дзяўчат увагі. Але ў дзясятым класе з'явілася поўненькая ціхмяная вучаніца, з надзіва добра развітымі жаночымі формамі. Яна першая напісала Пятру запіску.

І ён загарэўся. На запіску адказаў цэлым пісьмом і яшчэ з большай упартасцю стаў налягаць на вучобу. Дзяўчыне — яе звалі Люся — ён насіў адну за другой кнігі, але не здагадваўся хоць раз запрасіць яе ў кіно. Ён нават не пацікавіўся, дзе яна кватаруе. Можа, таму, што саромеўся: Люся была дачкой дырэктара школы.

Люсю кнігі мала ўразілі, здаецца, яна нават не чытала іх. Каб Пятро быў больш назіральным, то заўважыў бы, што з іншымі хлопцамі яна хадзіла ў кіно і па вясне нават — у блізкі лясок.

Пачалася вайна, і хоць Пятру было толькі сямнаццаць гадоў і чатыры месяцы, яго ўзялі ў армію. Ён апынуўся ў вучылішчы сувязі, больш года правучыўся ў ім, атрымаўшы званне лейтэнанта.

На фронт трапіў на трэці год вайны. У палку сувязі было шмат дзяўчат. Некаторыя з іх кідалі на маладога лейтэнанта прыязныя позіркі. Але ён на іх не звяртаў увагі. У лейтэнанцкай сумцы ляжала фотакартка Люсі, ён часта вымаў яе і разглядваў. Яму здавалася, што Люся глядзіць на яго і ўсміхаецца.

Пасля вайны ён ажаніўся з Люсяй. Да яго даходзілі чуткі, што яна пагульвала ў акупацыю і пасля яе, але ён не надаваў ім вялікай увагі. Тое, калі і было, то без яго, і яму да гэтага няма ніякай справы.

У пасляваенны час ён доўга не мог знайсці сталае месца работы: выпускаў навіны на мясцовым радыё, працаваў тэхнікам на вузле сувязі, нарэшце ўладкаваўся ў школу настаўнікам. Праўда, ён дарма не губляў часу: каб успомніць тое,

што калісьці ведаў, дзясяты клас ён скончыў паўторна, хоць і рэдка хадзіў на ўрокі, і паступіў завочна ва ўніверсітэт.

Ён забыўся пра лёгкае каханне, на якое нагледзеўся ўдосталь, калі быў на фронце. Палкавое начальства наладжвала пагулянкі, а якая пагулянка можа абысціся без прыгожага полу. Хлопцам — радыстам, тэлеграфістам — прыходзілася дзяжурыць замест сваіх напарніц па двое і трое сутак. Яны лаяліся, але нічога не маглі зрабіць. І пасля вайны некаторыя хлопцы ўспрымалі выпадковыя сувязі як звычайную з’яву.

Нават атрымаўшы шлюбнае пасведчанне, Люся праводзіла доўгім позіркам кожнага мужчыну, калі ён нейкім чынам ёй спадабаўся. Гаспадыняй яна аказалася ніякай: умела толькі спячы яечню і згатаваць чаю. Але характар мела памяркоўны, у сваркі не лезла, і Пятро змірыўся са сваім незайздросным сямейным становішчам. Так або іначай, ён не мог проста пераступіць праз свае шматгадовыя думкі пра Люсю.

Пятро паехаў на апошнюю сесію, якая працягвалася амаль тры месяцы. Трэба было паздаваць апошнія экзамены і абараніць дыпломную работу.

Непрадбачанае здарылася на самым пачатку: Люся перастала пісаць. Пасля рашучай тэлефоннай размовы з ёй пісьмы пачалі прыходзіць, але ў Пятра было такое ўражанне, што яна напісала іх за адзін вечар, а далей паступова кідала ў паштовую скрынку. Адно пісьмо прыйшло пазначанае чыслом, якое яшчэ нават не наступіла.

На наступны дзень пасля абароны дыпломнай работы Пятро атрымаў тэлеграму: «Прыязджай».

Прадчуваючы нядобрае, ён паехаў. Горшае нельга было прыдумаць. Жонкі дома не было. Люся сышлася з механікам перасовачнай калоны. Калона рушыла далей, і Люся, чапляючыся за механіка, з якім круціла любоў увесь час, паехала ўслед. Двухгадовы хлопчык застаўся ў Пятровай маці.

## II

Пятро не жаніўся гадоў пяць. Ён нават не заўважыў, што за гэты час памяшаўся на дзявочай цнатлівасці. Цяпер у кожнай ён выпытваў, з кім яна дружыла да яго і які характар насіла гэтая дружба.

Маючы за плячыма ўжо трыццаць, ён пазнаёміўся з дзяўчынай. Яна вызначалася розумам, гумарам, гаспадарлівасцю. Дзеля яго ішла на ўсё. Вывучыўшы яе цалкам, Пятро адчуў, што перабраў меру ў распытваннях і прапанаваў сваёй каханцы — звалі яе Саша — руку і сэрца. Яна даравала яму знявагу і згадзілася.

Жылі яны добра. Пятро ўпершыню адчуў сябе чалавекам. Ён і жонка выкладалі ў інстытуце, толькі Саша ў дадатак брала на сябе ўсе гаспадарчыя справы, нават тыя, якія павінен быў выконваць ён, мужчына.

Нараджаліся, падрасталі дзеці. Сашы на ўсё хапала: абмыць дзяцей, накарміць, праверыць іх дзённікі, адвесці ў школу. А таксама падрыхтаваць і прачытаць свае лекцыі.

А на яго часам наплывала штосьці цёмнае, яму непадуладнае, ён рабіўся неспакойным, падазроным, раздражняўся з-за кожнай нязначнай дробязі.

Яна не разумела ягонага стану. Там, дзе трэба было суцешыць ласкавым словам або хоць змаўчаць, яна сама раздражнялася, грубіла, даючы адпор. Добра, што гэтая іх звяга доўга не цягнулася. Да вечара ці яшчэ раней яны мірыліся, і ніколі так не было, каб не размаўлялі цэлы дзень.

Саша, зрэшты, давала падставу для яго кепскага і змрочнага настрою. Напрыклад, на якой-небудзь гулянцы яна любіла паказаць сябе. Прамаўляла дасціпныя тосты, і ўсе прысутныя мужчыны цягнуліся да яе з чаркамі.

Пятру асабліва падабаўся час, калі ў лесе пракідваліся грыбы. Саша таксама любіла грыбы, нягледзячы на тое, што была гараджанкай. І хоць у грыбах ён быў першы, лепш ведаў грыбныя мясціны, Саша ніколі побач з ім не хадзіла. Яна рвалася на прасторы верасоў, адбягалася далёка, так што часам ён не мог яе дагукацца.

Пасля гукання над верасамі яны амаль заўсёды лаяліся.

Пасля пяцідзесяці год Саша пачала слабець. Ён штогод даставаў якія мог пуцёўкі ў санаторый, але здароўе жонкі не паляпшалася. І нават хворая, яна не падпускала яго да хатніх спраў, і не было выпадку, каб ён ці дзеці засталіся ненакормленымі ці недагледжанымі. Дзяцей яна любіла невымерна. І вырасціла іх. Дачакалася, што яны пакончалі інстытуты, павыходзілі замуж і пажаніліся. Выканаўшы прызна-

чаныя ёй у жыцці справы, Саша на пачатку восьмага дзясятка памерла.

І толькі цяпер, ходзячы на могілкі, Пятро зразумеў, кім для яго была Саша, і якую цяжкую хваробу — рэўнасць — вынес ён са сваёй першай жаніцьбы.

*2002*

## ДЗЕЦІ КУЛАКА

Былы карэспандэнт абласной газеты, а цяпер дацэнт мовазнаўчай кафедры інстытута Барыс Райкоў даўно збіраўся наведаць вёску Гагалі, дзе ў апошнія перад вызваленнем месяцы стаяў іхні партызанскі атрад. Ён старэе, дзеці пакончалі інстытуты, а ён за чатыры дзясяткі гадоў так і не здолеў выбрацца ў лясную ахайную вёску, якая часта паўстае ў вачах у бяссонныя ночы.

Вёска як вёска. У першыя пасляваенныя гады, калі Барыс вандраваў па бедных калгасах, ён быў завярнуў у Гагалі. І можна сказаць, незвычайны выпадак здарыўся з ім паблізу гэтых Гагалёў. На пачарнелым снезе ён убачыў кавалачак газеты. «Калі газета наша,— падумаў тады Барыс,— то мяне чакае ўдача». Газета аказалася не толькі той, у якой працаваў карэспандэнт, але на кавалачку трохі павільгатнелай паперы стаяла прозвішча карэспандэнта. Барыс не знайшоў нічога лепшага, як насыпаць на газетны квадрацік махоркі і закурыць. Ніякая асаблівая ўдача карэспандэнта тым часам не напаткала. Але выпадак з-за сваёй незвычайнасці засеў у памяці.

Дарэчы, Райкоў хацеў пабачыць штабную хату, у якой часта бываў. Яна належала паліцаю, які збег у раённае мястэчка. Партызаны на гэта не зважалі: на свеце быў сорак трэці год.

Многа чаго адбылося за так званыя пасляваенныя гады. Дацэнт Райкоў цяпер пенсіянер, мае шмат вольнага часу, і прыйшла нарэшце пара здзейсніць задуманае.

Ён спісаўся са знаёмым настаўнікам, такім як сам пенсіянерам, у якога можна пераначаваць.

Настаў месяц май. Надышоў Дзень Перамогі. Райкоў паехаў у чыгуначны гарадок, дзе цяпер жыве знаёмы настаўнік. Таварыш Райкова — завуць яго Іван Драгун — прыкметна пастарэў: не бачыліся яны некалькі гадоў. Але галоўнае не гэта. Сталі адымацца ногі. Іван з цяжкасцю ходзіць.

Зрэшты, не ўсё так дрэнна. Ёсць у Івана «Жыгулі», ледзь не па суседстве жыве пляменнік, які цяпер водзіць машыну. Іван не здаецца: мае за горадам агарод і нават невялічкую пчаліную пасеку.

Дык вось, месяц май. Дзень Перамогі. Іван партызаншчыны не ведае: быў на фронце. Фронт, можна сказаць, істотна выправіў Іванаву біяграфію.

Справа ў тым, што Іван — сын кулака. Яны з братам Анісам не ведалі дзе дзецца ў перадваенныя гады. Нарэшце махнулі аж у Сярэднюю Азію. Івану з братам удалося прабіцца ў настаўніцкі інстытут.

Пасля вайны яны з'явіліся ў роднай вёсцы, якая бадай што суседнічае з Гагалямі. Іван — звольнены ў запас старшы лейтэнант, і Аніс — старшына. Абодва партыйцы, маюць узнагароды.

Пасяліліся ў ранейшай, доўгай, як два счэпленыя таварныя вагоны, хаце. Узялі, не надта ў каго пытаючы, лепшай зямлі пад агароды.

Вяскоўцы ўзбунтаваліся. Як так, кулацкія сыны зноў камандуюць? З якога часу займелі такую ўладу?

Тым часам Іван і Аніс мелі цвёрды адказ:

— Мы на вайне кроў пралівалі, а вы тут немцу зад лізалі…

Шкала каштоўнасцей кардынальна перамянілася. Ніхто цяпер не думаў пра кулакоў. Вяскоўцы перамен проста не адчувалі. Іван у хуткім часе стаў намеснікам дырэктара МТС па палітчастцы, Аніс — загадчыкам райана. Дзеці кулака…

Райкоў насіў у карэспандэнцкай сумцы калектыўны ліст вяскоўцаў у рэдакцыю абласной газеты. Наконт дзяцей кулака. Ён яго так нікому і не паказаў. Не мела сэнсу.

Іван пасля таго, як партыйных органаў не стала, пайшоў у настаўнікі.

Дрэвы ў маладой лістоце. Водар вясны кружыць галаву. Прабіваецца першая трава, шчабечуць птушкі. Не дзіва ўбачыць матыля — белага ці жоўтага ў цёмныя крапінкі.

Гагалі на месцы. Пабудаваныя з добрага сасновага лесу хаты не маюць таго святочнага выгляду, што мелі ў вайну. На працягу паўвека іх абвявалі вятры, абмывалі дажджы. Хаты як бы папрысядалі, улезлі ў зямлю. А штабной хаты, звернутай вокнамі, дзвярамі на вуліцу, наогул няма. Яе гаспадыня, як высветлілі нашы падарожнікі, прадала яе на знос. Можа, таму, што сын яе быў паліцаем.

Пра кулакоў людзі пакрысе забываюць, пра злосных паліцаяў добра і доўга памятаюць.

*2002*

## ЛЯСГАС

### I

Пісьменнік Іван Андрушкевіч гадоў пяць не быў на радзіме, у вялікім сяле Багушэвічы, якое пасля вайны атрымала статус гарадскога пасёлка, а яшчэ праз некалькі гадоў — горада.

У сваіх апавяданнях Андрушкевіч называў сяло мястэчкам, каб узвысіць яго. Сапраўдным мястэчкам яно ніколі не было, хоць па памерах пераўзыходзіла любое з іх, асабліва з таго часу, калі праз Багушэвічы пралягла чыгунка...

Была восень. Самая позняя. Пасля зазімка снег растаў, і зямля зноў пачарнела. Дрэвы стаялі голыя. Скручаныя чорныя галіны яблынь, здаецца, нечага прасілі ў шэрага, пакрытага шматслойнымі воблакамі неба.

У Івана Андрушкевіча было цяжка на душы. Вайна ідзе амаль паўтара гады, і вынікі яе вельмі невясёлыя. Немцы ў Сталінградзе і на Каўказе. У Алагіры (гэта дзесьці на Каўказскім хрыбце) трапечацца нямецкі флаг са свастыкай. Хто думаў, што так усё атрымаецца? У дадатак асабістыя справы Івана няважныя. Ён у падпольнай групе, і яна перажывае не лепшыя часіны. Цэлы год Іван нідзе не працаваў, а ў чэрвені пранесліся чуткі, што моладзь пагоняць у Германію на прымусовыя работы. Праз дасведчаных людзей Андрушкевіч дакладна ведаў, што ён у тых спісках ёсць. Усё натуральна: у іхняй сям’і тры хлопцы.

Трэба ўладкоўвацца на якую-небудзь працу. Інакш завязуць у праклятую Нямеччыну, і будзеш на бручкавай баландзе батрачыць дзе-небудзь на заводзе па дванаццаць гадзін у суткі.

Паколькі Іван быў членам арганізацыі, сам ён пытанне аб працаўладкаванні рашыць не мог. Ён папрасіў дазволу ў кіраўніка групы Сымона Баравіка. Той некалі вучыўся ў адным класе з Іванам, але адстаў і, перавёўшыся ў вячэрнюю школу, працаваў у магазіне. Сымон быў у партызанскім атрадзе, які не ўтрымаўся і ў першую ваенную восень разбрыўся па хатах, аддаўшы немцам зброю, базы і склады.

Два разы Іван прасіў у Баравіка дазволу, і два разы той адмаўляў невядома па якой прычыне. Нарэшце згадзіўся.

Спіскі на адпраўку ў Германію былі складзены і ляжалі ў воласці, таму трэба было шукаць арганізацыю, вышэйшую за валасную. Іван падгаварыў аднакласніка Васіля Грышкіна, і яны ўдвух панеслі заявы бургамістру раёна, да якога насельніцтва адносілася даволі паважліва. Іван, цікавячыся падзеямі на фронце, усю зіму заглядваў у нямецкія газеты, якія ўдавалася даставаць, і парадкам падвучыў нямецкую мову. Таму ў сваёй заяве пару апошніх сказаў напісаў па-нямецку.

Іх абодвух бургамістр (у той дзень, відаць, у яго быў добры настрой) уладкаваў на фінансавую работу. Грышкіна — у гандлёвую кантору, якая толькі мусіла арганізавацца, Івана — у фінансавы аддзел Управы агентам па страхаванні.

Воласць мігам выкрасліла Івана са спіскаў. А Грышкін вывазу ў Германію і не падлягаў.

У той дзень, калі Іван упершыню прыйшоў у фінансавы аддзел, ён даведаўся пра свае абавязкі. Кожны аб'ект у межах раёна павінен быць застрахаваны. Немцы народ акуратны. У абедзенны перапынак хлопец завёз на веласіпедзе самаробную міну ў лес, схаваўшы яе паблізу чыгуначнага мастка. Праз месяц быў скінуты пад адхон нямецкі эшалон.

— Хто будзе плаціць страхоўку? — прыкідваючыся наіўным, спытаў Андрушкевіч.

— Гасподзь Бог заплаціць,— адказаў загадчык фінансавага аддзела Анегін, прыгажун гадоў трыццаці.

Ён прыбыў у Багушэвічы разам з братам, зусім не падобным на яго і з іншым прозвішчам. Гаварылі, што браты — дзеці раскулачанага, што яны пазбеглі высылкі і да пары да часу таіліся.

Увогуле такіх размоў Анегін не дазваляў, паказваючы гэтым, што фінансавы аддзел у палітыку не ўмешваецца.

Праз тыдзень пасля працаўладкавання Андрушкевіч пакіраваў у вёску Міханавічы, каб растлумачыць парадак страхавання будынкаў.

Сапраўдная ж прычына была іншай. У Міханавічах жыла Галя, дачка заслужанага настаўніка, якая падабалася Івану і якая прызналася яму ў каханні. Да Андрушкевіча даходзілі чуткі, што нягледзячы на ўсё круціць любоў яго Галя з кім ні спаткаецца. Ён верыў і не верыў. Стараўся пра гэта не думаць.

У Міханавічах выявілася, што шукаць спатканняў з Галяй не трэба. У валасці за пісара сядзіць яе бацька. Гэтая акалічнасць нават збянтэжыла Андрушкевіча. Ну, няхай бы быў пісарам звычайны настаўнік, а то заслужаны. Можа, адзін на некалькі навакольных раёнаў.

Пісар запрашае работніка фінансавага аддзела да сябе начаваць. На Іване прыстойныя бацькавы штаны ад чыгуначнага сіняга касцюма, а далей Бог ведае што: добрых шкарпэтак няма, ён нацягнуў на ногі нейкія падраныя, замест туфляў — распоўзлыя апоркі. Ногі, вядома, брудныя, у пяску, і вымыць іх няма магчымасці. Як ён з такімі нагамі пакажацца на вочы Галі і ляжа ў ложак, калі яго засцелюць чыстым прасцірадлам?

Але вайна найбольш, чым дзяўчына напаўняе трывогай душу. Думкі гэтыя сядзяць у галаве як загнаны туды цвік, не даючы спакою ні днём, ні ноччу. Няма горшага становішча, чым быць акупіраваным, не належаць роднай краіне і зямлі.

Галя, вядома, пра такія рэчы не думае. Прыезду Андрушкевіча яна ніколькі не ўзрадавалася, і гэта нібы пацвярджае тыя чуткі, што яна дарэмна часу не губляе.

Вечарам яны ўдвух выйшлі на вуліцу і селі на лавачцы. Малодшы брат Галі чамусьці ўвесь час круціўся каля іх. Відаць, бацькі паслалі хлопца віжаваць за сястрой.

Неба па-летняму зорнае. Міханавічы акружаны лесам і балотам, і кожны павеў лагоднага, нават ноччу, ветру прыносіць пахі хвоі, прэлай балотнай травы.

Раптам сярод застылых далёкіх зор з’яўляецца рухомая зорка. Яна перамяшчаецца даволі хутка, выразна чуваць гул матора і відаць, што самалёт робіць кругі над Міханавічамі і блізкім лесам. Гул то аддаляецца, то прыбліжаецца. Па гуку матора — самалёт савецкі. Ды і лятае ён нізка — над самай зямлёй.

Назаўтра ўзнята на ногі ўся міханавіцкая паліцыя. Яна не малая — больш за сотню чалавек. Сяло небагатае, і бедната падалася на службу да немцаў.

Прыбыла жандармерыя з раёна, нават нейкая вайсковая часць. Што яны знайшлі? Толькі два парашуты, што завіслі на дрэвах. А для Івана гэтая падзея мела велізарнае значэнне. Калі там, у галоўным штабе, думаюць пра іх закінуты балотна-лясны край, то вайна не прайграна. Галоўнае, што высадка парашутыстаў адбылася амаль на Іванавых вачах. Ён успрыняў гэта як знак лёсу.

## II

Пракацілася хваля арыштаў былых партызан. Арыштавалі і Сымона Баравіка. Пад падушкай у яго знайшлі наган. Той наган кожны з падпольнай групы па вечару-два насіў пад крысом пінжака, засунуўшы пад рэмень штаноў. Дзяцінства, вядома. Усе яны, змагары, мелі па сямнаццаць-васямнаццаць гадоў.

Арыштавалі і Андрушкевіча. Выпытвалі пра быццам бы схаванае радыё. Ён адбіўся тым, што сяк-так чытае нямецкія газеты і пераказвае вычытаныя навіны сябрам. Ды, галоўнае, відаць, памог раённы бургамістр, які прымаў яго на работу.

Напрыканцы лета загаварылі пра вучобу дзяцей. Немцы наважылі адкрыць пачатковыя школы. Толькі пачатковыя, як бы тутэйшае насельніцтва нічога лепшага не заслугоўвала.

Іван схадзіў да загадчыка раённага аддзела асветы, ціхага, інтэлігентнага чалавека, і той, дазнаўшыся, што ў хлопца сярэдняя адукацыя, ахвотна згадзіўся ўзяць яго настаўнікам.

Увесь гэты час Андрушкевіч жыў надзеяй, што ён абавязкова знойдзе парашутыстаў, якія спусціліся на зямлю ў

той летні вечар. Ён пойдзе да іх у атрад. Ды зрэшты можна і спектакль наладзіць: зрабіць так, нібы дэсантнікі забралі яго сілай. Тады і сям'я не будзе адказваць за яго ўчынак.

Праз дзень-два Андрушкевіч ідзе да бургамістра з заявай аб звальненні.

— Дзе працаваць будзеш? — пытае той.

— У школе. Настаўнікам.

— Бяруць цябе?

— Бяруць.

Але Андрушкевіч сёе-тое не ўлічыў. Бургамістр, відаць, здагадваўся, чаму ён ірвецца з мястэчка. Назаўтра загадчык аддзела асветы, хаваючы вочы, заявіў, што вольных месцаў няма і што яны ўвогуле аддаюць перавагу людзям хоць з нейкім педагагічным вопытам.

Вось так. І ранейшую пасаду Іван страціў, і ў настаўнікі не бяруць. А моладзь па-ранейшаму пасылаюць у Германію. Толькі меншымі, як улетку, групамі.

Шанцуе нарэшце і Андрушкевічу. Ён спрабуе ўладкавацца рахункаводам у лясгас, але не вытрымлівае праверкі на здольнасць да такой работы. Тры разы падбівае ведамасць са шматлікімі лічбамі, і кожны раз у яго атрымліваецца новы рэзультат. Галоўны бухгалтар Куліба, худы, як таран, рыжы, з вялікімі, як у маржа, вусамі, па мянушцы Эскімос, наадрэз адмаўляецца браць Андрушкевіча на пасаду рахункавода нават з выпрабавальным тэрмінам.

Панылы крочыць Іван пасля гаворкі з Эскімосам. І тут сустракае старшага ляснічага Лагуту, круглага, як шар, чалавека з мядзведжай галавой і кароткімі нагамі. Пры ўсёй сваёй адметнай камплекцыі Лагута вельмі рухавы і дынамічны.

— Чаго такі сумны, малады чалавек? — пытае ён.

— Хацеў паступіць да вас рахункаводам, ды не ўзялі,— адказвае хлопец.

Лагута на хвіліну задумваецца.

— Вы, здаецца, трохі нямецкую мову ведаеце. У якой меры?

— Магу газету чытаць.

— О, гэта выдатна! У нас, праўда, нямецкіх папер няма. Але не выключана, што яны будуць. Пайшлі са мной!..

У сваім кабінеце ляснічы доўга раіцца з Эскімосам. Нарэшце Андрушкевіча запрашаюць да Лагуты.

— Дык вось, малады чалавек, мы тут параіліся і рашылі, што перакладчык нам пакуль не патрэбен. Але ў касе павінен сядзець чалавек, хоць трохі знаёмы з нямецкай мовай. Надпісы на ўсіх грошах нямецкія. Рахункі за ўзятую драўніну мы выстаўляем воінскім часцям на рускай мове, але сёе-тое трэба патлумачыць. Так што мы афармім вас як перакладчыка, але будзеце працаваць касірам.

Што ж, Андрушкевіч згодны. Не было ні граша, ды раптам алтын. Ды і прэстыж ягоны павысіцца.

Некаторыя паліцаі і нямецкія начальнікі пазіраюць на Івана скоса. Як жа, быў пад арыштам...

Пазней Андрушкевіч адчуў вартасць і перавагу сваёй новай работы. Залічылі яго ў лясгас у снежні месяцы. Сталінградская групоўка на чале з Паўлюсам была акружана савецкім войскам у лістападзе. Лагута пра гэта ведаў: такім, як ён, немцы дазвалялі мець радыёпрыёмнік. У Івана была магчымасць слухаць навіны і перадаваць іх таварышам.

І закіпела работа. Калі Андрушкевіч успамінае акупацыю, то менавіта перыяд, калі ён стаў працаваць у лясгасе. Гэта быў харошы, надзейны дах для іх падпольнай дзейнасці.

Самым галоўным было тое, што падпольшчыкі наладзілі сувязь з парашутыстамі. Два разы на тыдзень сустракаўся з імі Мікола Біцюк, які ўладкаваўся настаўнікам у школу суседняй станцыі Мохаў. Мікола, высокі, бялявы хлапчына, рашучы і жарсткаваты, па самых строгіх патрабаваннях падыходзіў для гэтай ролі. Яшчэ вясной падпольшчыкі паслалі яго ў паліцыю. Там ён, нібыта вынімаючы партызанскую міну (на самай справе ён яе закладваў), страціў кісць правай рукі. За гэта зараз атрымліваў ад паліцыі пенсію. Хіба лепшага сувязнога можна было знайсці?

Праляцелі наступныя вясна і лета, асветленыя спадзяваннем і натхненнем. Напрадвесні быў Сталінград, дзе нямецкая армія пацярпела вялікае паражэнне. Нават у акупіраваным мястэчку немцы не пасароменіся вывесіць сцягі з чорным крэпам. Для насельніцтва, асабліва для такіх, як Андрушкевіч, гэта было прычынай асаблівай радасці і гордасці. Прыйшло нарэшце свята і на нашу вуліцу...

Хлопцы, якія складалі зводкі пра рух нямецкіх цягнікоў, ды і тыя, што збіралі іншыя звесткі, адчувалі, што хутка адбудзецца вялікая бітва, якая, магчыма, вырашыць зыход вайны. Яны фіксавалі новыя танкі, самаходныя гарматы, іншую ваенную тэхніку, што кіравала на фронт па чыгунцы. І вось нарэшце гэтая бітва настала — пад Курскам і Белгарадам.

Сэрцы змоўшчыкаў поўніліся трывогай: няўжо падзеі будуць разгортвацца так, як у першае і другое ваеннае лета. Але дзіва дзіўнае: тады нашы адступалі, у небе панавалі армады нямецкіх самалётаў, а тут раптам танкі-«трыццаць чацвёркі» нішчаць тое, што стварыла за апошнія гады захопленая гітлераўцамі Еўропа — славутыя «тыгры», «фердынанды»; нашы ІЛы, Петляковы паляць у небе «фокевульфы» і «месершміты». Гэта здавалася нейкім цудам, казкай.

Нарэшце ўзяты Арол і Белгарад.

І пайшло! Не праходзіла дня, каб Чырвоная Армія не вызваліла які-небудзь горад. Капітан Мазурэнка, камандзір парашутыстаў, быў старшым палітруком. Ён разумеў, што трэба падпольшчыкам, і прысылаў газеты, якія выдаваліся партызанамі ва ўсіх навакольных раёнах.

Іван Андрушкевіч памятаў даты захопу немцамі нашых гарадоў. Цяпер да іх ён дабаўляў даты вызвалення.

Галоўная радасць была ў тым, што немцаў гналі. Ім бокам выходзіў сорак першы і сорак другі год і ўвогуле іх пераможнае шэсце па Еўропе. Усё-такі ёсць на свеце Бог!..

Андрушкевіч з далёкіх пяцідзясятых гадоў пісаў пра хлопцаў-равеснікаў, якія, як умелі, змагаліся з фашыстамі. Па радыё, тэлебачанні даўно збіраліся пра іх расказаць. Скажам, сядзяць былыя хлопцы, а цяпер мужчыны, вакол вогнішча, падкладваюць у агонь сухое галлё, успамінаюць былое.

Толькі сталася не так. Адзін за адным паміралі тыя непрызнаныя героі. Цяпер вакол вогнішча няма каго садзіць...

Іван Андрушкевіч тым часам верна служыць справе, якая захапіла яго ў раннім юнацтве. Ён пісаў і піша пра сяброў, іхнія справы, відаць, нярэдка паўтараючыся. Але ў душы той юнацкі час трымаецца моцна, і далёкія, блізкія сэрцу вобразы шукаюць выйсця...

*2002*

# МОЙ КОНЬ

Лес — жывы. У гэтым Васіль даўно і цвёрда перакананы. Кожнае дрэва жывое, кожная галіна, ліст, трава. Толькі невядома, як зялёныя насельнікі зямлі між сабою размаўляюць. Тое, што яны разумеюць адзін аднаго, сумнення не выклікае. Калі ідзе дождж, таксама паводзяць сябе аднолькава. Урачыстыя, суровыя, стаяць зімой у снежным убранні.

З усіх дрэў Васіль выдзяляе дуб і сасну. У вершалінах дубоў пашумлівае вецер, пашумлівае нават у ціхае спакойнае надвор’е.

Васілёў бацька працуе на чыгунцы. Але ў іх ёсць конь. Спакойны буланчык, каля якога Васіль пахаджвае гадоў з сямі. Водзіць яго на пашу, на Блізкае Ляда, у дубовае пнёўе. За дзень хлопец наведвае каня разы тры-чатыры. Гняды, нават калі распутаецца, нікуды не ўцякае. Мае ціхмяны нораў.

Лес, конь і яшчэ птушкі — Васілёва дзяцінства. Ёсць яшчэ сябры-таварышы, гульня ў ялавога і кругавога, але гэта не кожны дзень. Дый для гэтага трэба, каб канец іх вуліцы быў у зборы. Але так не заўсёды бывае. А лес, конь, птушкі — кожны дзень.

Лес, дзе пасвіцца Гняды, не надта цікавы. Дубовае пнёўе. Калісьці тут стаялі магутныя дубы. Па два-тры агромністыя дрэвы з разгалістымі шатамі яшчэ засталіся на ўскрайках поля і нават па сядзібах хутароў. А лес на Лядзе (на Далёкім такі самы) — звычайны алешнік. Ну, яшчэ лаза і мокрае чарналессе. У алешніку нават трава не расце. Птушкі не ўюць там гнёздаў, дзе чорны, голы, размяшаны быдлячымі нагамі дол.

Перш чым сесці на каня, раней Васіль падводзіў яго да плота, узлазіў на плот, а тады ўжо перабіраўся на спіну Гнядога. Цяпер ён мігам ускоквае на каня. Возьме яго за грыву, паставіць нагу на костачку конскага калена — і ўжо там.

За чыгуначным пераездам, дзе стаяць дзве будкі — каменная з чырвонай цэглы і драўляная, пафарбаваная ў жоўты чыгуначны колер,— вачам адкрываецца прастор. Толькі адзінокія хаты хутаранцаў раскіданы на Гарадзінцы. Па правую руку — прасторнае балота Гарадзінка з гарой Багародзіцы — пясчаным

пакатым пагоркам, на якім дрэў няма, толькі высокая трава ды кусты ядлоўцу.

Па левы бок дарогі — урадлівае дуброўнае поле і тэлеграфныя слупы з нацягнутымі правадамі. Правады заўсёды гудуць. На іх сядзяць птушкі, пераважна шпакі, якія пасля жніва на гэтым полі жыруюць, ад’ядаючыся перад адлётам у вырай.

Прывёўшы Гнядога ў пнёўе, Васіль путае каня і адыходзіць. Ён бы пахадзіў каля пнёў і пашукаў бы птушыных гнёздаў, ды птушкі чамусьці гэтыя пні абмінаюць. Адны толькі пліскі, ківаючы доўгімі хвосцікамі, пералятаюць з пня на пень.

Дамоў Васіль вяртаецца другой дарогай — нацянькі праз узболатак. Зямля пад нагамі падрыгвае, бо гэта не звычайная зямля, а глей. У гарачыню на сцежцы ўтвараюцца трэшчыны. Туды чамусьці залазяць восы. Таму трэба ісці асцярожна: наступіш на асу, і яна пусціць джала ў ступню. Але Васіль не ідзе, а бяжыць. Па гэтай прычыне Васіля яшчэ ні разу не джгнула аса.

Першая сядзіба, міма якой праходзіць Васіль, старога Зубка. На яго двары высяцца тры высачэзныя дубы. Ён іх беражэ, не спілоўвае. Любіць дрэва.

Зубок страшэнна руплівы. Ніколі не ўбачыш, каб ён сядзеў на лавачцы, курыў ці размаўляў з мужчынамі. Ён вечна кудысьці едзе — на возе плуг, барана ці хоць звычайная каса і граблі.

Птушак таксама любіць Зубок. На яго грушах, яблынях прыбіты шпакоўні. У канцы агарода, дзе дрэў няма, шпакоўні ўзняты на звычайных жардзінах.

Наступная сядзіба Язэпа Корбута. У Зубка казліная бародка. У Язэпа — шырокая, раскідзістая, як у якога-небудзь святога прарока. Пра Язэпа расказваюць: да рэвалюцыі з Рэчыцы прыязджалі да яго сацыял-дэмакраты, прывозілі лістоўкі, у гумне наладжвалі розныя сходкі.

Цяпер у гэтае гумно, хаваючыся ад сельсавецкага вока, звозяць снапы аднаасобнікі, людзі, якія служаць на чыгунцы, і ўвогуле тыя, хто не хоча плаціць лішняга падатку.

І яшчэ адзін хутарэц перад самым мястэчкам. Сам гаспадар робіць на станцыі ў вугальным складзе, а яго сыны — тры хлопцы — займаюцца чым хочуць, нават крадзяжом. Хоць

што можна ўкрасці ў гэтым балотным кутку. А што хочаш: памідоры, гарбузы, якія даспяваюць на стрэхах, яблыкі, слівы, грушы, якія вісяць, бывае, на галінах да самай восені.

За дзень Васіль некалькі разоў бегае на Ляда глядзець, як пасвіцца Гняды. Расчэсвае грыву, выдзірае са скуры кляшчоў, іншы раз нарве ў агародзе травы, і конь, дакранаючыся мокрай мызай да Васілёвых далоняў, ахвотна есць траву з рук.

Разы два Васіль ездзіў з хлопцамі ў начное. О, гэта было цудоўна! Гарэў агонь непадалёк, адліваючы золатам ці срэбрам, фыркалі коні, над галавой, калі адыдзеш ад агню, вісела расквечанае зоркамі неба. У начное вадзілі коней старэйшыя хлопцы, на Васіля, які нават яшчэ ў школу не хадзіў, яны не надта зважалі. Але ўсё адно было цікава слухаць гісторыі, якія расказвалі начлежнікі, поўніцца таямніча-страхатлівым духам, якім поўніцца летняя ноч.

Дык вось Васіль некалькі разоў прыбягае на Ляда, правярае, як пасвіцца Гняды. Нават распутаўшыся, Гняды не ўбіваецца ні ў якую шкоду. Дый нічога пасеянага няма сярод пнёў. Вечарам Васіль скача на кані, глытаючы пыл, які вісіць над дарогай пасля прагнанага статка, поіць Гнядога.

У залежнасці ад таго, якое стаіць надвор'е, конь выпівае больш ці менш вады. Калі стаяла гарачыня, яму трэба два вядры, у звычайны дзень абыходзіцца вядром.

П'ючы ваду, конь іншы раз дурэе. Набярэ вады ў рот, моўчкі стаіць, падняўшы над вядром пысу, затым пырскае вадой, абліваючы свайго гаспадара.

З кожным днём Гняды робіцца прыгажэйшым. Шэрсць на ім пачынае ільсніцца. Работы яму цяпер няма. Агарод узараны, бульба нават на лясных дзялянках пасаджана.

Як булка, круглы робіцца конь. Васіль ганарыцца яго выглядам.

Догляд каня не замінае Васілю цікавіцца іншымі рэчамі. Асабліва птушкамі. Кожную вясну ён знаходзіць два-тры птушыныя гнязды. Вядома, дробных птушак: вераб'ёў, чакунцоў, сініц. Ён за імі толькі сочыць. Як з маленькіх сініх або рабенькіх яечак вылупліваюцца голыя птушаняты. Як яны раскрываюць жоўтыя дзюбы, калі хто-небудзь набліжаецца да

гнязда, як пакрываюцца жоўтым пухам, перш чым пачынае вырастаць пер'е.

Гарадзінка — балота дрыгвяністае, вязкае. Але Васіль і туды наведваецца. Падкасвае штаны або зусім здымае і скача з купіны на купіну. Аднойчы Васілю пашэнціла — знайшоў аж тры гнязды дзікіх качак. Паглядзеўшы на свет, ці не наседжаныя, ён з усіх трох пабраў яйкі. Ледзь не поўную шапку буйнаватых яек прынёс. На добрую яечню.

Можа, і ёсць дзе на свеце мясціны прыгажэйшыя, прываблнейшыя, але Васіль іх не бачыў, і яго задавальняе тое, што ляжыць навокал. У суседняй вёсцы Кавенькі нават глядзець няма на што — крывыя хаты з маленькімі акенцамі збіліся ў гурт, на агародах адны грушы-дзічкі, а за агародамі адразу балота.

І ў матчыным сяле Бабінавічы таксама мала прыгожага. Цікава там адно: ад чыгуначнай станцыі пракладзена труба да рэчкі Ведрыца, з якой пампуюць ваду, каб паіць паравозы. Насып над трубой называецца Ляжнёўкай. Ляжнёўка парасла чарнічнікам, багуном, арэшнікам. Хаты ў Бабінавічах, як і ў Кавеньках, някідкія: стрэхі параслі зялёным мохам, у дварах бязладдзе, ва ўсім сяле парадку няма.

Васілю толькі падабаецца, што хата дзядзькі Івана, да якога ён прыязджае, размешчана, бадай, поруч з лесам. Прайдзі яшчэ адну хату — і маеш змешаны саснова-бярозавы лясок з вераском на доле, на якім растуць сыраежкі. Адным словам, шусні ў агарод па агурок, у лес па грыбы — і маеш абед.

Рэчка Ведрыца ад Бабінавіч бліжэй, чым ад мястэчка. Васілёвы стрыечныя браты і сёстры ходзяць на рэчку купацца. У мястэчку такой завядзёнкі няма. Боўтаецца мясцовая дзятва ў розных копанках, канавах і фактычна плаваць не ўмее.

Рэкі Днепр і Прыпяць забіраюць усю вакольную ваду. Бо і Ведрыца ўпадае ў Днепр. Пасля асушкі балота Ведрыца стала вузенькай, зарастае чаротам, асакою, не рака, а канаўка. Але і такая задаволіла б густы местачковай малечы. Бо што такое зямля без вады? Людзі, якія жывуць на такой зямлі, можна сказаць, не бачаць палавіны радасцей, якія дае жыццё. Хлапчукі і дзяўчаткі не ўмеюць плаваць, мужчыны не ловяць рыбу, няма лодак, чаўноў, не пачуеш голас чаек...

Васіль меў справу з балотам Гарадзінкай яшчэ да таго, як яе асушылі. Бацька на балоце касіў асаку. Затым яе зграбалі ў копы і выносілі на бераг. Васіль быў зусім малы, і бацька браў насілкі пры самой капе, а Васілю аддаваў доўгія канцы.

Аднойчы, калі такім манерам выносілі на сухое сена, у Васілёвы лыткі прысасалася, можа, дзесяць п'явак. Васіль ганарыўся гэтым. Каля балота аказаўся недалёка сусед Сяргей Серада. Васіль гукнуў яго да сябе:

— Глядзі, Сяргей, пацвердзіш, калі буду расказваць...

Коні мацнейшыя і дужэйшыя з усіх дамашніх жывёл. Можа, таму яны любяць, каб каля іх хадзілі моцныя, з цвёрдым характарам гаспадары.

Васіль жа толькі песціў Гнядога. І за гэта паплаціўся. Нягледзячы на падачкі, якія рабіў каню, на ўсе гэтыя жмені сакаўной травы, канюшыны, дзяцельніку, вычэсванне кляшчоў, знішчэнне аваднёў, сляпнёў, Гняды стаў пагарджаць Васілём. Не даваўся сябе распутваць, перашкаджаў на сябе садзіцца.

Аднойчы Васіль не вытрымаў і даў Гнядому кулаком у храпу. Конь нібыта пацішэў, але пад вечар, калі Васіль садзіўся на яго, неяк незвычайна выгнуў шыю і балюча ўкусіў седака за нагу.

Тым часам насталі брутальныя часы. У мястэчку саргнізаваўся калгас. Ад бацькі-чыгуначніка сталі патрабаваць, каб здаў каня. А бацька ніяк не мог скеміць, каму перашкаджае ягоны конь. Не мог уявіць, на чым прывязе дроў з лесу, сена з балота, як узарэ агарод і пралёт.

Цяганіна з сельсаветам кончылася тым, што бацька здаўся: адвёў Гнядога ў калгас. Тым часам Гняды толькі тры дні правёў у калгаснай канюшні. Уцёк і стаяў перад варотамі ў Васілёў двор. Бацька другі раз адвёў каня. Гняды другі раз уцёк з калгаснай канюшні.

Нарэшце бацьку параілі адвесці каня ў далёкую вёску. Ён так і зрабіў. Тая вёска стаяла пры шашы, па якой бясконца мчалі грузавікі, легкавыя машыны, процьма іншага транспарту.

Але і ад гэтай далёкай вёскі конь знайшоў дарогу да мястэчка. Зноў стаяў перад варотамі Васілёвага двара.

Цяпер за непакорнага каня ўзяліся другія службы. Але ўмяшаліся пуцейцы. Пуцейская служба мае патрэбу ў цяглавай

сіле. Трэба шпалы развозіць, пясок, аднымі ваганеткамі не справішся.

Тут якраз і выплыў Васілёў конь, які не прыжыўся ні ў адным калгасе.

Доўгія і цяжкія ішлі перамовы. Гнядога замацавалі за дыстанцыяй пуцейскай службы. За няйменнем пуцейскага памяшкання Гняды, як і раней, размяшчаўся ў Васілёвай хаце. Васіля прызначылі ездавым, налічалі зарплату.

Вядома, казённы конь, якога трэба даглядаць, касіць сена, рэзаць сечку, не надта ўзбагаціў Васілёву сям’ю, але жыць памагаў. Васілёва дзяцінства прайшло, такім чынам, пад знакам клопатаў пра каня. Ён і ў школе вучыўся, і каня даглядаў.

Праз упартасць каня, які не здолеў прапісацца ні ў адным калгасе, нейкую дадатковую славу атрымаў і Вася — узворваў агароды суседзям. Нават школьнаму пляцу рады даў. І вучыўся нядрэнна.

Дзіўная сіла яднала Васю і Гнядога. Ніякімі лішнімі клопатамі хлопец Гнядога не акружаў. Стаяў конь у хляве, сцены якога зыркалі вялікімі дзіркамі. Праўда, ён быў напоены, накормлены, шэрсць на ім ільснілася.

Аднойчы, калі Вася цэлы дзень быў у школе і не мог адлучыцца, Гняды прыйшоў у школу сам. Стаў перад варотамі, паціху ржаў, выклікаючы з урокаў Васю.

Калі фронт прыблізіўся да мястэчка, старэйшых школьнікаў мабілізавалі капаць акопы. Вася паехаў на акопы з канём.

Затым на даўгаватую ўжо нітку акопаў наляцелі нямецкія самалёты. Так здарылася, што Гняды сам выратаваўся і выратаваў Васю. Конь на акопах быў толькі адзін. Відаць, гэта ўгнявіла нямецкага лётчыка, якому вельмі хацелася знішчыць каня. Ён паліваў свінцом той участак, дзе Вася падвозіў на кані каменне і драўніну. Адчуўшы небяспеку, Гняды падбег да Васі, каб той сеў на яго вярхом, і даў такога драпака, што толькі зямля пад ім курэла.

*2002*

## СЯРЭБРАНЫ ЗМЕЙ

Адама, Нупрэя, Мішку Бычка ўзялі ў школу. А Сашу не ўзялі. Не хапае, маўляў, чатырох месяцаў да васьмі гадоў.

Мішка, да прыкладу, ніводнай літары не ведае, а Саша грызе чытанку як рэпу. І лічыць умее — хоць да мільёна. І на табе — чатыры месяцы, выходзіць, важней за тое, што хлопец амаль што пісьменны.

Гэта ўсё Ганна Мікітаўна нашкодзіла. Яна прыгажэйшая за ўсіх настаўніц. А вось Сашу не ўпадабала. Лічыць яго выскачкам. А ён не выскачка — хлопцы на каньках нясуцца, а ў Сашы канькоў няма і ніколі не было. Ды, фактычна, і чаравікі так парваліся, што да іх нават дзеравяшкі не прывяжаш.

Ад няма чаго рабіць Саша навучыўся чытаць. Адну літару ў маці выпытаў, другую — у дзеда, трэцюю — у знаёмага хлопца.

Сумна позняй восенню на агародзе. Ні агурка не знойдзеш, ні морквіны. Хіба што з капусціны можна салодкую храпку выразаць.

За гэтую сумную восень Саша навучыўся рабіць выдатных змеяў.

Што трэба, каб зрабіць змея? Двайны ліст паперы са сшытка. Было б лепей скарыстаць цупкую, траскучую, у якую загортваюць у магазіне, напрыклад, крупы. Але дзе ты такой паперы набярэшся?!.

Саша знайшоў другі спосаб. Патрэбны добрыя фанерныя палоскі і клей. Саша навучыўся рабіць выдатны клей. Трэба ўзяць звычайную бульбіну і біць па ёй малатком да таго часу, пакуль яна не зробіцца суцэльнай клейкавінай.

Пры такім клеі і добрых фанерных пасках можна нават з газетнага ліста змея змайстраваць.

Іншая справа — дзе ўзяць добрых нітак, якіх трэба метраў пяцьдзясят. Гэта цэлая шпулька, якую маці прадзе два ці тры дні.

І тут Саша знайшоў выйсце. У звычайным рыззі, якім стрэлачнікі выціраюць стрэлкі, ёсць ніткі, якія чамусьці забракавалі на фабрыцы. Трэба іх разблытаць, звязаць канцы — і будзе

добры повад, каб трымаць на ім змея. Прывязаць да змея льняны хвост — задача не цяжкая.

І вось носіцца Саша па сваіх і чужых агародах, а яго змеі плаваюць аж пад самымі воблакамі. Радасці яму хапае. Ды і вучні, якія па той ці іншай прычыне не пайшлі ў школу, бегаюць і галёкаюць разам з ім.

Аднаго разу Саша зрабіў асабліва выдатнага змея, які проста сам ірваўся ў неба. Ён апрануў яго ў сярэбраную паперу. Сам бег з ім па вуліцы, і тут яго напаткала няўдача. Змей засеў у пышнай таполевай верхавіне і быў добра відаць са школьнага двара. Абклееены срабрыстай паперай, змей так блішчаў, што яго нельга было не заўважыць. І ўсе ведалі, што гэта Сашаў змей.

Пасля гэтага Ганна Мікітаўна перадала праз вучняў, каб Саша прыходзіў у школу.

*2002*

## ХЛАПЕЧАЯ КАМПАНІЯ

Васеў сусед Адам, яго траюрадны брат, увогуле ціхі, спакойны хлопец. Адам мае некаторыя перавагі перад Васем. Ён далей кідае камень, лягчэй узлазіць на тэлеграфны слуп, умее свістаць у два пальцы, заклаўшы іх у рот.

У Васі таксама ёсць козыры. Ён можа дзяліць і множыць лічбы хоць да тысячы, спрытней знаходзіць у лесе грыбы, кожнай вясной разведвае два ці тры птушыныя гнязды.

Вася з Адамам наладзілі сумесны турнік. Ён за хлявамі, на Адамавым агародзе. Вася прынёс бервяно, якое ўкапалі ў зямлю. Трубу таксама дастаў Вася. Адзін канец яе прымацавалі да бервяна, другі ўвагналі ў сцяну хлява.

Вася з Адамам сябруюць. Калі яны толькі ўдвух, ніколі між імі не ўзнікае ніякіх непаразуменняў. Але праз два двары жыве трохі старэйшы за іх хлопец Піліп Бандзюк. Калі яны сыходзяцца ўтрох, то Адам часцей за ўсё падпявае Піліпу. А Васю крыўдна. Адам жа не толькі сябар, але трохі і родзіч. Чаму ён цягне за гэтым недарослым Піліпам?

Суседам Піліпа з нядаўняга часу стаў Мішка Бычок. Гэта прыезджая сям’я. Прозвішча ў Мішкі другое. Так яго празвалі за рухавасць і ўкормленасць. Мішка мае незалежны характар і рэдка згаджаецца з Піліпам.

— Калі вырасту, паступлю ў міліцыю,— пахваляецца Піліп.— Міліцыянерам даюць бясплатна вопратку, абутак. І яшчэ наган…

— Цябе ў міліцыю не возьмуць,— катэгарычна заяўляе Мішка.— Міліцыянер павінен быць высокі, дужы. А ты нізкі, як пень. У натоўпе цябе ніхто не ўбачыць.

— А свісток нашто? Як свісну, то не бойся, прыкмецяць.

— Свішчы не свішчы, а цябе палічаць за блазна. Падумаюць, што нейкі шкет. Украў міліцэйскую форму…

Мішка многа чытае і за словам у кішэню не лезе.

У час такіх сутычак Адам як бы адліпае ад Піліпа і зноў далучаецца да Васі.

Наўскасяк ад Мішкавага двара жывуць браты Дзікуны — старэйшы Павел і малодшы Пеця. Хлопцы не проста так сыходзяцца. Амаль кожны вечар наладжваюць гульні. У ялавога, кругавога. Пры гэтых гульнях утвараюцца па дзве каманды. Сама мала па тры-чатыры чалавекі. Хлопцаў на канцы вуліцы для гульняў хапае.

Браты Дзікуны — кірначы. Гэта значыць, што вушы ў іх не такія, як у іншых людзей. Маленькія, як стручкі гароху.

Тым часам старэйшы Дзікун — хлапчына ўладны. Ён не церпіць ніякіх груповак. Што загадае, трэба выконваць. Пеця Дзікун заўсёды патаквае брату.

Ёсць яшчэ адзін, сёмы хлопец — Іван Кіслы. Ён жыве каля самага чыгуначнага пераезда. Цвёрдай пазіцыі ён не мае. Прымыкае то да Піліпа, то да Паўла Дзікуна, то нават да Васі.

Увогуле хлопцы не любяць Паўла. Калі яго няма, паводзяць сябе весялей. І Мішка Бычок бывае атаманам, і нават Вася. Галоўнае — хто раскажа цікавейшую гісторыю ці прыдумае весялейшы занятак.

Пры Паўле разнабой канчаецца. Ён адзіны камандзір, і ўсе яму міжволі падпарадкоўваюцца. А гэта сумна. Бо кожны чалавек нешта мае за душой і можа штосьці цікавае расказаць.

*2002*

## УЛАСАЎЦЫ

Рушыць у партызаны з больш-менш спакойнай душой можна было з вёскі, дзе не было нямецкага ці паліцэйскага гарнізона, гада-старасты ці прыхільнікаў нямецкай улады. З горада, раённага цэнтра вырвацца ў лес цяжка. У немцаў дзейнічала сістэма заложнікаў. Каго-небудзь з сям'і (хутчэй за ўсё, бацьку) ці нават усю сям'ю расстраляюць, калі хто-небудзь з яе рушыць у партызаны.

На Палессі фронт дакаціўся да Дняпра яшчэ ў верасні сорак трэцяга года. Здаецца, тады было вызвалена першае палескае мястэчка Камарын. З таго часу фронт грукае і грыміць.

Каб ачысціць тыл нямецкай арміі ад партызан, немцы нагналі ўласаўцаў. Гэтыя сытыя, мардатыя воіны не толькі п'юць гарэлку і ўвіхаюцца за маладзіцамі, але могуць і вёску спаліць, і ў адрозненне ад немцаў не баяцца лесу і пруць у самыя глухія мясціны.

Местачковыя падпольшчыкі займаюцца партызанскімі справамі даўно. І не толькі партызанскімі. У вакольныя лясы скінута з самалёта група ваенных разведчыкаў. Местачкоўцы іх абслугоўваюць. Даюць звесткі аб руху нямецкіх цягнікоў, перавозках, увогуле аб справах немцаў.

Тым часам разведчыкі ідуць далей на захад. Толькі цяпер засвяціў хлопцам партызанскі лес. Бо ў мястэчку яны прымільгаліся і, па дакладных звестках, якія дала настаўніца нямецкай мовы, якая сядзіць у камендатуры перакладчыцай, сталі кандыдатамі ў канцэнтрацыйны лагер. Лагер размяшчаўся каля вёскі Сівалобы, блізка ад шашы Гомель — Мазыр.

На фронце нейкая воінская часць такі пераправілася праз Днепр, захапіла плацдарм на левым беразе. Паліцэйскіх і вясковых жандармаў як ветрам садзьмула.

Тыдзень ці болей Васіль хаваецца ў суседкі Мар'і, хата якой стаіць насупраць праз вуліцу. Васіль назірае за ўласным дваром. Сям'я, каб быць падалей ад граху, перабралася на Першамайскую вуліцу, якая цягнецца ад чыгуначнага пераезда ледзь не да самага лесу.

Цяпер хавацца не выпадае. Вераснёвым адвячоркам Васіль ідзе да сябра Івана Лобіка, які, працуючы ў рамонтнай брыгадзе, збіраў звесткі аб руху цягнікоў.

— Трэба ісці ў партызаны,— гаворыць Васіль.

— Трэба, дык пойдзем,— адказвае Іван.

Вінтоўкі, гранаты, іншыя ваенныя прыпасы ў хлопцаў ёсць. Яны прыхаваныя ў лесе і чакаюць толькі часіны, калі хлопцы іх возьмуць.

Наважыліся выходзіць заўтрашняй ноччу ад Іванавага дзеда. Яго сядзіба за чыгункай, пад аховай трох дубоў, на ўскрайку Першамайскай вуліцы, якая ўтварылася са сселеных хутароў.

Здарылася не так, як намячалі. Удзень разгрузіўся новы эшалон уласаўцаў. Яны рушылі ў напрамку вёсак, якія кантраляваліся партызанамі. І яшчэ нечаканасць. Да дзеда Антона прыйшоў не адзін Іван. Ён прывёў Сяргея Кашавара з жонкай, прыгожай Маняй, у якой на руках груднное дзіця.

Сяргей — мастак. У падпольных справах памагаў. Вырэзваў з гумавых падэшваў розныя пячаткі для нямецкіх прапускоў. А так маляваў іконы — і з гэтага жыў. Кашавар быў у арміі. У сорак першым трапіў у акружэнне, вырваўся з яго, прыбрыў дамоў. Кашавара можна ўзяць. Такі чалавек і ў партызанах патрэбен. Партызаны пад выглядам мірных людзей ходзяць па населеных пунктах, пакуль што занятых немцамі. А там без пропуска з нямецкай пячаткай не пройдзеш.

А вось Маня. Ды яшчэ з малым дзіцем. Можа, прыйдзецца дзе-небудзь стаіцца, прашмыгнуць нябачнымі і нячутнымі. А як зрабіць такое з малым дзіцем?

Сяргей Сяргеем, але ў ліку нечаканых прышэльцаў шморгае носам малы гадоў чатырнаццаці, Чыжык, з абрэзам драбавіка ў руках. Як і ад каго ён дачуўся, што мы ідзём у партызаны, невядома. Дружбы ніхто з ім не вёў. Бо ён яшчэ галёкае, перакідаючы праз сетку валейбольны мяч, і бегае ў кампаніі такіх, як сам, падшыванцаў.

Зрэшты, мы не можам прагнаць гэтага нахабнага Чыжыка. Пачне трубіць наконт нашага партызанства на ўсё мястэчка. А немцаў жа яшчэ не выгналі.

Недзе ў другой палавіне ночы яны, як цені, выслізгваюць з дзедавага двара, пераскокваюць сыпаны шлях, які вядзе да

вёскі Кавенькі. І адразу збіваюцца з дарогі. Наперадзе маячаць дрэва і нейкая будыніна. Васіль жахаецца, яны прыбрылі да чыгуначнай будкі, дзе размяшчаецца нямецкі ахоўны пункт. Партызаны, нічога не скажаш. Па першай гадзіне ледзь не трапілі ў нямецкія рукі.

Нарэшце выбіваюцца ў кустоўе. Недзе тут блізка дарога на Маслюкі. Яна замініравана, але дарогай хлопцы не пойдуць. Будуць прабірацца лесам.

Месяц назад Маслюкі спалілі ўласаўцы, той першы эшалон. Хлопцам гэта выгадна. У тым сэнсе, што ў спаленыя Маслюкі новыя ўласаўцы не палезуць. А тым часам яны знойдуць партызан.

Хто такія ўласаўцы? Васіль не ведае. Ён чуў толькі тое, што іх набіралі ў лагерах для ваеннапалонных. Там чырвонаармейцаў не кармілі, марылі не толькі голадам, а і холадам, усялякімі прыніжэннямі. Яны паміралі сотнямі і тысячамі. Іх наогул не лічылі за людзей.

І ў гэтыя лагеры прыходзілі нямецкія агітатары, вярбоўшчыкі. Васіль дапускае, што некаторыя салдаты, нават камандзіры, каб пазбегнуць галоднай смерці, запісваліся ва ўласаўцы. Маючы на мэце перабегчы пры выпадку на савецкі бок ці перайсці да партызан. Такія выпадкі, па чутках, былі.

Тым часам зусім нядаўна ўласаўцы (можа, было сярод іх некалькі немцаў-камандзіраў) спалілі Маслюкі і Мясаедавічы. Што ім перашкаджала перайсці да партызан? Маглі немцаў-камандзіраў пастраляць. Гэта б толькі ўзняло іх вагу ў вачах партызан і насельніцтва.

Карацей, ва ўсім, што датычыць уласаўскай арміі, шмат няяснага, незразумелага. Зрэшты, незразумела і другое. Немцы прыйшлі на Палессе два з лішнім гады назад. Нашы адступалі заднымі вінтоўкамі. Ні танкаў не было, ні самалётаў. Тым часам цяпер немцы адступаюць. Бадай, палавіну агромністай страчанай тэрыторыі нашы вярнулі. За кароткі час. Бо немцы дапялі да Волгі, узнялі свой сцяг на Эльбрусе. Не з аднымі ж вінтоўкамі папёрла немчуру назад савецкае войска. Значыць, танкі паявіліся, самалёты. Адкуль?

Маці, бацька, наогул людзі іх узроўню лічаць, што, каб немцы не знішчалі гэтак ваеннапалонных, маглі б прайсці ўсю краіну. Можа, штосьці ёсць праўдзівае ў такім поглядзе

на рэчы. Бо зразумелі байцы-франтавікі, увогуле ўсе, хто застаўся ў савецкім тыле: вораг замахнуўся не толькі на савецкія парадкі, не толькі на бальшавікоў і камуністаў (хоць знішчае іх у першую чаргу), а на ўвесь народ, на Расію, якая аб'яднала ў саюзнай дзяржаве другія народы.

Сапраўды, у сорак трэцім годзе Савецкая армія акружэнняў не мела. Наадварот, сама акружала немцаў. Пад Сталінградам перамалола нямецкую тэхніку, разбіла танкавыя арміі пад Курскам і, узяўшы ў летнім баі Харкаў, болей яго не аддала.

А ўцекачы ідуць на Маслюкі. Можа, залішне марудна, бо да спаленай вёскі толькі пятнаццаць кіламетраў, а ўцекачы крочаць ужо два дні і таго месца, дзе стаяла вёска, яшчэ не дасягнулі. Можа, таму, што ідуць не пясчаным шляхам, а проста лесам. Шлях замініраваны, загрувашчаны заваламі. Партызаны падпілоўвалі сосны, валілі іх на дарогу. Хлопцы не ведаюць, ці ёсць каля Маслюкоў партызаны. Тым часам недзе ж яны павінны быць. Побач з заваленым шляхам ляжыць зімнік, па якім уласаўцы дабіраліся да Маслюкоў. Але зімнік звычайна ледзь абазначаны: зімой па снезе па ім вязуць сена, дровы. Летам ён зарастае травой. Цяпер гэта, па сутнасці, яшчэ адна дарога, пракладзеная на Маслюкі. Нібы па жывому, яна прадзёрта праз лес. На кожным кроку вывернуты мох, карэнні дрэў, маладыя дрэўцы, якія паспелі вырасці на гэтай гіблай дарозе.

Нешта ўласаўцы валаклі па зімніку. Што? Танкаў, артылерыі ў іх, здаецца, не было. Відаць, прайшло вялікае мноства людзей, праехала шмат фурманак, і яны працярэбілі фактычна новую дарогу.

Талака часта робіць прыпынкі. Маня корміць дзіцё, хлопцы патрохі перакусваюць. Васіль кладзецца на мох, імгненна засынае. Усю дарогу так. У мястэчку не калаціўся, не дрыжаў. А тут, на свабодзе, душа нібы вызваляецца ад страхаў, якія, відаць, падсвядома над душой віселі.

І ў мястэчку, і тут, на свабодзе, Васіля не пакідае адна думка. Яна прыдае сілы, бадзёрасці. Армія стаіць на Дняпры. Яна страціла многія тысячы забітымі, параненымі. І раптам набыла такую сілу, што пагнала немцаў назад, калашмацячы іх да гэтага часу нікім не пераможаную армію. Відаць, народ

зразумеў, што вораг смяртэльны, што з ім трэба біцца адчайна і рашуча. Не на жыццё, а на смерць.

Але аднаго разумення мала. Армія, якая адступала, здала фактычна палавіну краіны з найбольш пладароднымі землямі, з буйнейшымі заводамі, фабрыкамі, з большай палавінай сваёй прамысловасці, раптам набралася сілы і паўстала ў зусім новым выглядзе.

Пад вечар вандроўнікі ўбачылі Маслюкі. Роўная даліна, над якой узвышаюцца цёмныя абсмаленыя печы, чорныя без лісцяў дрэвы, абгарэлыя шулы, слупы.

І гэта зрабілі рускія людзі, якія самі ваявалі з немцамі, бачылі смерць таварышаў на фронце і ў лагерах для ваеннапалонных, голад, холад, здзек, прыніжэнні.

Цяпер аб уласаўцах. Яны ж нейкія газеты чытаюць, ведаюць, што фронт стаіць на Дняпры. То пра што думаюць? Няўжо разлічваюць адседзецца дзе-небудзь у Германіі? Дойдзе чарга і да Германіі. І што тады?..

Зрэшты, з гісторыі Васіль ведае: было не раз, калі свае білі сваіх. І ў час татара-мангольскага ярма, і нават у блізкія да нас часы...

Поле вакол спаленай вёскі засеяна. Стары сялянскі звычай: паміраць збірайся, а хлеб пашы. Толькі сейбіты дзе? Відаць, у лясах, у буданах, шалашах... У самай гушчэчы.

Нанач вандроўнікі таксама, як здаецца ім, забіраюцца ў лясны гушчар. Наносяць ворах сухастою, распальваюць вогнішча. Вячэраюць, кладуцца спаць. Яшчэ цёпла. Можна спаць, не грэючы паперамена каля агню бакі. Таму не выдзяляюць нікога, хто б падкладваў у агонь дровы.

Смутнай туманнай раніцай вандроўнікі прачынаюцца і жахаюцца ад таго, што бачаць. Гушчар аказваецца амаль што ўзбочынай дарогі. Але галоўнае не гэта. Па дарозе, відаць, праехаў уласаўскі патруль. На ёй свежы конскі памёт.

Відаць, да таго часу, калі ехалі ўласаўцы, касцёр патух. Інакш патруль яго ўбачыў бы, успароў бы іх, нядбалых партызан.

З-за краю лесу выкацілася сонца. Туман спадае, на хвойных іголках блішчыць раса.

Куды ж цяпер ісці? Паснедалі, падаліся на захад. Сяргеева дзіця проста залатое. За ўсю дарогу толькі два ці тры разы

піскнула. Праўда, Маня мяняе пялёнкі. Але хіба намяняешся. Мыць іх няма дзе, сушыць — няма калі.

Яны праходзяць два ці тры кіламетры і натыкаюцца на шалашы. Жанчына ў доўгай спадніцы з наматанай на галаву хусткай, якая закрывае палавіну твару, штосьці памешвае лыжкай у прыстаўленым да агню чыгуне і нават не глядзіць на падарожнікаў. Здаецца, яна не адчувае ніякай цікавасці да людзей. Поўная абыякавасць і раўнадушша.

Падарожнікі высвятляюць толькі, што людзі, якія атабарыліся ў гэтых шалашах, не з Маслюкоў — з Залесся, якое блізка да чыгуначнай станцыі Макаў. У гэтым Залессі іхны таварыш Міхайла Райдун сустракаўся з дэсантнікамі. Перадаваў ім звесткі аб руху цягнікоў па чыгунцы, іншыя звесткі. У дэсантнікаў ёсць рацыя. Капітан Мазурэнка, камандзір дэсантнікаў, перадае разведзводкі ў цэнтр, у Маскву. Толькі дэсантнікаў цяпер тут няма — рушылі далей на захад.

Вось так жывуць пагарэльцы. Большая палавіна вёскі выгарала. Паліла іх эсэсаўская дывізія «Варшава». Потым уласаўцы дабавілі: зруйнавалі з зямлёй Маслюкі і Мясаедавічы.

Немцы ведалі, што робяць. Людзі без хат, без якіх-небудзь пажыткаў партызан харчам не забяспечаць. Не абагрэюць іх і не прытуляць. А на носе зіма...

Падарожнікі паварочваюць назад. Ёсць жа яшчэ не спаленыя вёскі. Там трэба шукаць сустрэчы з партызанамі. Тым болей, што ў такія вёскі самі хлопцы накіроўвалі ўцекачоў з чыгуначнай роты.

Яны не даходзяць да хвойніку, у якім начавалі. І раптам халаднеюць ад жаху. Бачаць на дарозе двух коннікаў.

Відаць, той самы ўласаўскі патруль. Уласаўцы едуць на чорных конях, гладкіх, адкормленых, шэрсць на якіх проста ільсніцца. Няўдала і не ў час яны выйшлі на дарогу, і схавацца няма куды. Направа — рэдзенькі хвойнік, які наскрозь праглядваецца. Мысок хвойніку акружае голая паляна з рэдкімі кусцікамі ракітніку і вербалозу. Уцякаць няма куды, уласаўцы іх убачаць. Калі застануцца на месцы, нават лягуць на зямлю, таксама будуць заўважаны. Яшчэ дзве-тры хвіліны, і памагатыя немцаў наставяць на іх вінтоўкі, загадаюць падняць рукі. Марудна цягнуцца імгненні. Выйсце адно: папярэдзіць уласаўцаў. Іван і Васіль прыцэльваюцца. Да дарогі метраў

дваццаць. І калі коннікі выязджаюць да месца, насупраць якога ляжаць уцекачы, раздаюцца амаль запар два стрэлы. Адзін уласавец павісае на шыі каня, не могучы вызваліць ногі са стрэмені. Другі імгненна заварочвае каня, імчыць назад. Конь з параненым ці забітым таксама скача наўздагон.

Уцекачы падхопліваюцца. Трэба зараз жа змяніць месца. Уцякаць падалей. Яны перабягаюць дарогу, зноў кіруюць у напрамку Залесся. Шыбуюць, задыхаючыся, мажа, з паўгадзіны. Запыняюцца на лугавіне, пакрытай рэдкімі кустамі, прыбітымі копкамі сена. Невядомы касец так і не склаў копкі ў стог. Аддыхаўшыся, заўважаюць дзвюх дзяўчат. На галовах у іх нейкія цюрбаны. Дзяўчаты бягуць нясмела: ад куста да куста, хаваючыся, часам нават прысядаючы.

Дзяўчаты ўжо блізка. Васіль пазнае іх. Адна, дробненькая, танклявая, яна завецца Каця — партызанская сувязная. Два ці тры разы прыходзіла ў мястэчка да хлопцаў. Другую яны добра ведаюць. Працавала ў гандлёвай канторы касірам. Забрала з касы грошы. Замест іх пакінула аркуш паперы з намаляванай на ім дуляй. Гэта было тыдні два назад.

Наткнуўшыся на местачкоўцаў, дзяўчаты разгубіліся. Тым болей, што на Васілю нямецкі мундзір. Хоць мундзір гэты і не зусім нямецкі. Без арлоў, іншых нашывак.

Дзяўчаты вядуць местачкоўцаў у атрад.

Мясцовы партызанскі атрад размяшчаецца ў вёсцы Гагалі. Акружаная дубовым лесам, невялікая вёска робіць добрае ўражанне. Хаты з добрага сасновага цёсу, двары агароджаны, на многіх вокнах узорная ліштва. Толькі перанаселены Гагалі. У вёсцы, апрача жыхароў, чалавек трыста партызан. Ёсць тут і местачкоўцы, якія дзейнічалі разам з хлопцамі. Сярод іх урач Андраюк, вялізны, рашучага характару мужчына з вялікай мядзведжай галавой, таўсценны ветэрынарны ўрач Гоцман і яшчэ некалькі асоб.

Васіля з Іванам Лобікам пасяляюць у штабную хату. Хлопцы маладыя, пісьменныя, нават па-нямецку чытаюць, дзейнічалі пад камандай дэсантнікаў. І цяпер маюць адпаведнае заданне ад штаба: хадзіць пад мястэчка, прыносіць тытунь, медыкаменты, а таксама звесткі, якія тычаць немцаў і ўласаўцаў.

Штабная хата належыць паліцаю, які збег у мястэчка. Партызаны на гэта не зважаюць. Яны цяпер нічога і нікога не баяцца, нават тых жа ўласаўцаў, якія аселі ў суседніх вёсках.

У атрадзе знаходзяцца ўкраінцы з чыгуначнай роты, ледзь не палавіну якой Васіль з Іванам пераправілі да партызан. Па-першае, ніякія яны не ўкраінцы, так, збор дружыны. Васіль меў справу толькі з адным чалавекам — старшым лейтэнантам Міхайлавым. Але Міхайлава няма. «Загінуў у баі»,— сказалі Васілю, калі ён спытаў пра Міхайлава, і Васілю гэта не спадабалася. Не такі атрад баявы, і не чутна было пра яго сутычкі з немцамі.

На вачах Васіля атрад пераўтвараецца ў брыгаду, якая дзеліцца на тры атрады.

Дзесьці ў навакольных вёсках размяшчаюцца ўласаўцы. У Гагалях партызаны, і гэтае становішча застаецца без перамен. Уласаўцы не хочуць нападаць на партызан, партызаны — на ўласаўцаў. Ды і што могуць партызаны: некаторыя ходзяць без вінтовак, а ў тых, хто вінтоўкі мае, не больш чым па пяць патронаў.

Тым часам ва ўласаўцаў — вінтоўкі, кулямёты і нават лёгкія гарматы. Сілы яўна няроўныя...

Калі Васіль і таварышы расказваюць аб падстрэленым імі конным раз'ездзе, то бачаць, што навіна партызанскім камандзірам не вельмі спадабалася. Толькі цяпер, прабыўшы ў атрадзе тыдні два, яны здагадаліся, у чым справа. Ім даручалі раскідаць па дарогах, якія вядуць у занятыя ўласаўцамі вёскі, лістоўкі. А ў лістоўках гаварылася пра падпалкоўніка Гіль-Радзіёнава, які перайшоў са сваім палком да партызан. Падпалкоўніку прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза.

Васіль з Іванам лістоўкі раскідалі. Толькі ўласаўцы чамусьці не кідаюцца ў партызанскія шэрагі, хоць былыя нямецкія службоўцы сярод партызан ёсць. І нямала. Дваццаць восем салдат чыгуначнай роты, якой камандаваў старшы лейтэнант Міхайлаў, разам з камандзірам перайшлі ў атрад, у які цяпер прыбрылі местачкоўцы. Васіля яны не ведаюць, бо ён меў справу толькі з Міхайлавым.

Васіль з Іванам амаль кожныя тры дні кіруюць у мястэчка. Чыгункі яны не пераходзяць, запыняюцца ў Іванавага дзеда Антона, сядзіба якога размешчана на ўскраіне мястэчка пад самым лесам.

Як магніт, прыцягвае хлопцаў мястэчка. Хоць не вельмі ладам хат, хлявоў, агародаў яно адрозніваецца ад звычайных вёсак. Тым часам у іх зусім другі рытм, рух жыцця. І хоць валадараць у мястэчку немцы, хлопцы сумуюць па сваіх хатах, кнігах, зборышчах.

Насунуліся халады. Іван хоць у кажушку. А Васіль у мундзіры, які даў Міхайлаў. Сіберны вецер працінае наскрозь. Пад мундзірам быў яшчэ пінжак ад касцюма, за якім выстаяў у чарзе бацька перад самай вайной. Але пінжак Васіль абмяняў на вінтоўку. Бо тая, з якой прыйшоў у атрад, мела вельмі няважны выгляд, праляжаўшы доўгі час у схованцы ў балотных карчах.

У гэты час уласаўцы выганяюць партызан з Гагалёў. Бою не было. Як партызаны дазналіся, што Гагалі займуць гітлераўскія хаўруснікі, Васіль не ведае. Іх вывелі з вёскі, і ноч яны праляжалі перад другой вёскай — Хамічы, у якой балявалі ўласаўцы. Вокны зыркалі агнямі, выразна чуліся п’яныя песні. Чаму так весяляцца ўласаўцы — незразумела. Фронт стаіць на Дняпры, і Чырвоная Армія вось-вось можа фарсіраваць вялікую раку і апынуцца ў гэтых палескіх мясцінах.

Назаўтра партызаны падаліся ў глыб балот, дзе няма ніякіх паселішчаў. Два ці тры дні пераседзелі ў складзеных з лазовых галін і чароту буданах. Уласаўцы за гэты час змыліся. Вёсак цяпер яны не паляць. Вёскі, відаць, патрэбны немцам, якія разлічваюць, што тут спыніцца фронт.

Пасля вызвалення мястэчка Васіль пайшоў на фронт.

Ужо ў канцы вайны ён служыў у парку сувязі на Першым Украінскім фронце. У маі 1945 года паўстала Прага. Яе радыёстанцыя бесперапынна заклікала: «Руда армада, на помоц!»

Калі ўварваліся ў Прагу, бой там сціх. Жыхары расказвалі, што ўласаўцы — іх там было шмат — далучыліся да паўстанцаў. Секлі з кулямётаў эсэсаўцаў неміласэрна, перастаўшы, такім чынам, быць саюзнікамі ворага.

*2002*

# ЦЫГАНСКІ БАРОН

Пачатак гэтай гісторыі тоне ў даўнасці, таму цяжка сказаць, што ў ім праўда, а што адносіцца да выдумкі і фантазіі.

Цыганы, калі вандроўка прыводзіла іх да мястэчка, звычайна спыняліся на яго заходняй ваколіцы, каля невялікага, атуленага разложыстымі дубамі хутарца. Мясціна называецца Дуброва, ад мястэчка аддзяляецца шырокім полем і яшчэ шырэйшай лугавінай. Мноства сцяжын вядзе адсюль да паселішча. Так што цыганкі амаль адначасова з'яўляюцца ў паўночнай і паўднёвай частках мястэчка.

Як толькі арганізаваліся калгасы, конныя кірмашы пераяліся — красці калгасных коней цыганы баяліся і не адразу навучыліся ўзорваць прысядзібныя ўчасткі местачкоўцаў і вазіць з лесу драўніну леспрамгасу.

Карацей, у той год, да якога адносіцца наша гісторыя, кожны наезд цыганоў вызначаўся тым, што босыя цыганкі брындалі па мястэчку і дурылі галаву яго жыхарам, а цыганы, разлёгшыся кружком на лугавіне, гулялі ў карты і пілі гарэлку.

Аднаго разу выяўляецца, што жонка хутаранца, яшчэ ніштаватая кабета, мае вострую цікавасць да цыганоў. То з ношкай травы бяжыць, то з вязанкай хворасту, то вядзе на вяроўцы цялушку, каб прывязаць для пасьбы.

— У цябе, Федзя, закахалася бабачка,— прамаўляе адзін з цыганоў.

— Захачу — мая будзе,— ляніва адказвае той, каго назвалі Федзем.

Федзя, бадай, самы малады і самы відны з цыганоў. Галава ў завітках чорных як смоль валасоў, як вытачаны, смуглявы твар, арліны нос.

Ніхто не бачыў, як і дзе прыгожы Федзя сутыкнуўся з хутаранкай. Але яны пачалі адасабляцца, шукаць патайных сустрэч. Цыганы глядзелі на парачку абыякава. Відаць, не ўпершыню іхні прыгажун завабліваў чужых жонак. Затое сярод местачкоўцаў прайшоў нейкі нервовы рух. Відаць, не было яшчэ выпадку, каб мясцовая жанчына зналася з цыганом.

Чамусьці вострыя языкі пачалі плясці, што хутаранка круціць любоў не са звычайным цыганом, а з цыганскім баронам.

Мусім сказаць некалькі слоў пра гаспадара хутара, высокага, шыракаплечага Сцяпана Дарошку. Ён не шмат аддаваў увагі гаспадарцы, бо на станцыі працаваў вугальшчыкам. Дзень у дзень размашыста крочыў туды.

Чуткі пра жонку да яго, вядома, дайшлі. Тым часам Дарошка аказаўся мудрым чалавекам. Ні скандалаў не ўздымаў, ні любоўную парачку не высочваў.

Цыганскі табар хутка зняўся з-пад дубоў і рушыў шукаць шчасця ў новых мясцінах.

Кабета-хутаранка засумавала. Дарошка, каб схаваць ад людзей сорам, які выпаў на яго долю, амаль штодня запрашаў жонку на станцыю. Там ёсць буфет, у якім можна выпіць і закусіць.

Яны займалі столік, не спяшаючыся выпівалі, затым ішлі, абняўшыся, па рэйках і гучна спявалі.

Мінуў год. Цыганы пад дубы не прыехалі. Не было іх і ў наступным годзе. І тады здарылася непазбежнае.

Жонка вугальшчыка стала чапляцца да любой цыганскай кампаніі. Цыганы на сваіх укормленых конях па найму леспрамгаса вазілі з лесу на станцыю рудстойку, розныя плашкі. Месяц ці два яны размяшчаліся паблізу прывезенай імі прадукцыі. Хутаранка, нікога не саромячыся, была з цыганамі. Піла гарэлку, гарланіла песні.

Восенню яна моцна застудзілася і памерла.

Праз нейкі час вугальшчык зноў ажаніўся, бо ў яго яшчэ падрасталі дзеці. І калі хто-небудзь з добра знаёмых пытаў у яго пра жыццё з новай жонкай, ён адказваў:

— Братка, толькі цяпер адчуў смак жыцця. Як бы нанова нарадзіўся на свет.

І ранейшай жонкі не ганіў ніводным абразлівым словам...

*2002*

## ЯК МЫ СКАСАВАЛІ ЗБОЖЖАВЫ ПАДАТАК

Мы ехалі з Германіі на ўласных транспартных сродках. Дзіва няма: армейскі полк сувязі мае дастаткова айчынных машын і замежных «студэбекераў».

На тым месцы, дзе пераязджалі граніцу, стаяў пасівелы генерал, узяўшы пад казырок, аддаваў чэсць кожнай машыне. Вось так сустракалі нас, пераможцаў.

Хадзілі чуткі, што паедзем далей, у Японію. Нас павезлі на станцыю, пагрузілі ў вагоны, але потым загадалі разгрузіцца. Там, на сопках Маньчжурыі, справы і без нас ішлі някепска.

Мы размясціліся ў заштатным гарадку N, які ўвесь патанаў у вішнёвых і яблыневых садах. Нас папярэдзілі: за межы гарадка па адзіночцы не выбірацца, можна напароцца на бандэраўцаў.

Тым часам плявалі мы на Бандэру. Зламалі рогі Гітлеру, то і з Бандэрам як-небудзь справімся. Хадзілі ў бярозавыя, дубовыя гайкі. За гарадком цішком бралі чарку і ні разу не было выпадку, каб сутыкнуліся з бандытамі.

Ішлі мірныя дні. Паспелі ў полі пшаніца, ярына, пачынаўся час хлебанарыхтовак.

Раённыя ўлады рашылі накіраваць у вёскі брыгады агітатараў, каб лацвей ішлі хлебанарыхтоўкі. Тым болей, што ў якасці агітатараў падабралі самых пісьменных, свядомых учарашніх воінаў.

У адну такую брыгаду трапіў Змітрок Савоська, старшына, у якога за плячамі было дзесяць класаў. Яго часова нават прызначылі кіраўніком брыгады.

Сяло трапілася немалое, раскіданае. Хаты глінабітныя, вішнёвыя садкі ледзь не каля кожнай. Амаль як у вершы Тараса Шаўчэнкі.

Ткнуліся ў першую хату. Гаспадыня ў доўгай спадніцы, у павязанай па самыя вочы хустцы, як толькі даведалася, чаму мы з’явіліся, залямантавала:

— Мае вы родненькія!.. Які такі хлебазагатоўкі. Мужа не маю. Дзеці на зацірцы сядзяць. Мы самі хлеба год у вочы не бачылі. Дзеці пухнуць ад голаду…

Дзеці — мала малога менш — коўзаліся па глінянай падлозе. Разабраць, дзе хлопчык, дзе дзяўчынка, было немагчыма. Усе трое былі ў доўгіх кашульках. Штаноў не меў ніхто. І ўвогуле ў хаце патыхала безнадзейнай беднасцю.

— Дзе муж? — спыталі мы.

— Сабакам сена косіць,— са злосцю адказала гаспадыня.— Можа, другую завёў. Паўгода не бачыла. Не муж, а быдліна…

Параіўшыся з таварышамі, Змітрок Савоська абнадзеіў гаспадыню:

— Будзем хадайнічаць, каб вызвалілі ад падатку як бедную сям'ю, у якой няма гаспадара.

— Спасібі, хлопчыкі.

Карціна паўтараецца і ў наступнай мазанцы. Гліняная падлога, лахманы і транты на ложку, галапузыя дзеці, якія залезлі на печ і глядзяць адтуль спалоханымі вачанятамі. Гаспадара і тут няма.

Гаспадыня пачынае з крыку:

— Каня не маю, каровы не маю, казу і тую ўкралі. Якую загатоўку магу здаць? Нічога не сеяла. Калі хочаце, забірайце дзяцей у яслі. А мяне самую — у турму…

Нічога не гаворачы, агітатары вывальваюць з хаты.

На дзвярах трэцяй хаты вісіць замок. Вялікі: такія замкі вешаюць на дзвярах магазінаў ці якіх-небудзь гаспадарчых складаў.

У наступнай мазанцы муж з жонкай б'юцца. У яе крывападцёк пад вокам, у яго распаласаваная сарочка і пісяг на грудзях і жываце. Сямейнікі настолькі раз'ятраны, што не заўважаюць агітатараў. Наскокваюць адно на аднаго, як ачмурэлыя пеўні.

Салдаты, што вярнуліся з вайны, бойку не разбараняюць. Не іх гэта справа. Пастаяўшы некалькі хвілін, паварочваюцца, выходзяць.

Яны воіны, прымалі прысягу, і таму да канца выконваюць ускладзенае на іх заданне. Праходзяць левую лаву мазанак з канца ў канец. І толькі ў дзвюх не вызваляюць гаспадароў ад збожжавага падатку. У канцы сяла сутыкаюцца з другой групай, на чале якой малодшы лейтэнант. Гэтая група аказалася больш жорсткай: не вызваліла ад падатку тры гаспадаркі і адну пакінула пад пытаннем.

А ўсяго ў сяле пяцьдзясят дзве мазанкі.

Раённыя ўлады наадрэз адмовіліся прыняць спіскі, якія склалі вайскоўцы-агітатары.

— Нават не ведаеце, які хлеб ясцё,— злосна сказалі ў райвыканкаме.

Палкавы «смершавец», старшы лейтэнант, на справу паглядзеў інача́й.

— Ваша лібералізацыя — суцэльнае глупства,— прамовіў ён.— Вы заўважылі, што ў хатах няма мужчын. Дзе яны? Так што, можа, і добра, што ціха скончылася. Бандэраўцы ў кустах сядзелі, за вамі цікавалі. Мы яшчэ іх прыціснем…

*2002*

## ЗЕМЛЯТРУС У ТАШКЕНЦЕ

Я прачнуўся ад магутнага ўдару. Ложак падскочыў, са столі, сцен пасыпалася тынкоўка. За акном на імгненне разлілося бялеса-сіняе святло. Былі яшчэ два ці тры меншыя штуршкі: падлога як бы згубіла ўстойлівасць, хісталася пад нагамі.

— Атамная вайна! — выгукнуў мой таварыш, з якім мы ўдваіх займалі пакой у гасцініцы.

Перад паездкай ва Узбекістан я прачытаў артыкул, змешчаны ў энцыклапедыі і прысвечаны рэспубліцы. З артыкула даведаўся, што ва Узбекістане нярэдкія землятрусы.

Стала зусім светла. Настала раніца. Мы адамкнулі дзверы і выбраліся ў калідор. Па ім бегла распатланая жанчына ў начной сарочцы і дзіка лямантавала:

— Амерыка! Не бамбі мяне. Я амерыканка…

Жанчына здавалася памешанай. Але менавіта ў калідоры, паблізу ад дзвярэй ляжала куча цэглы і друзу. Такая ж куча ўзвышалася і ў нашым пакоі. Гэта паказвала, што справа не ў бамбёжцы, тым болей атамнай.

Пазней мы даведаліся, што новыя будынкі ў Ташкенце ўзводзяцца з так званымі сейсмічнымі швамі. Гэта азначае, што, скажам, будынак гасцініцы не мае суцэльных сцен, а ўзведзены як шэраг паасобных секцый. Між секцыямі зроблены цагляныя пракладкі. У выніку сейсмічнага штуршка секцыі падскокваюць, пракладкі рушацца, а будынак устойліва трымаецца. Хрыбет, калі можна так сказаць, землятрус яму не зломіць.

Што і здарылася ў нашым выпадку. А землятрус быў досыць магутным. Сем з палавінай балаў па шкале Рыхтэра. Землетрасенне такой сілы лічыцца разбуральным.

Мы — а гэта пісьменніцкая дэлегацыя, якая прыехала ва Узбекістан для правядзення Дзён беларускай літаратуры і мастацтва,— выйшлі з гасцініцы на пляц. Усе сучасныя шматпавярховыя будынкі стаялі цэлыя і непашкоджаныя. Яны, як і наша гасцініца, трохі пападскоквалі секцыямі ў час падземных удараў, страцілі цагляныя пракладкі і стаялі цэлыя і непарушныя.

Затое на стары горад, па якім мы наважылі прайсціся, было цяжка і тужліва глядзець. Будынкі аблогам ляжалі на доле. Сярод такіх разбураных ці напаўразбураных будынкаў былі крамы, магазінчыкі, розныя склады. Але нават намёку на рабаўніцтва не было.

Ташкент мужна, з усведамленнем сваёй вартасці, гонару перажываў бяду, якая на яго абрынулася.

Назаўтра мы мусілі развітацца з Ташкентам. Між тым падземныя ўдары сілай тры-чатыры балы працягваліся цэлы дзень.

Заключнае пасяджэнне і канцэрт былі прызначаны ў Рэспубліканскім палацы культуры. Падземныя ўдары працягваліся. Вялізны зал быў поўны. Прэзідыум — кіраўнікі рэспублікі, актыў і мы, ганаровыя госці, таксама занялі свае месцы. Над намі, прэзідыумам, вісела агромністая люстра. У час падземных штуршкоў яна гойдалася. Думкі ва ўсіх былі бадай аднолькавыя: а што калі гэтая махіна адарвецца, абрынецца на дол?..

Тым не меней пад гэтыя штуршкі спявалі — хорам і сола, балетныя групы танцавалі, і ўсё астатняе было чын чынам, як заведзена. Начаваць у гасцініцу мы не пайшлі. Падаліся ў аэрапорт. Амаль усе мы былі на вайне, зведалі бамбёжкі, артылерыйскія, мінныя абстрэлы. Там нас ратавала зямля, мураваныя сцены, варонкі.

Тут нішто не ратавала. Зямля была хісткай, ненадзейнай.

Пад раніцу з намі прыехалі развітацца ўзбекскія пісьменнікі. Старэйшы з іх, Уйгун, сказаў:

— Ой, страшна. Не толькі вам, а і нам. Відаць, мы награшылі, калі разгневалася сама зямля…

*2002*

# РАССТРЭЛ КАЛЯ ЛІСІНЫХ НОР

Хмурай лістападаўскай раніцай па Макаўскім шляху ў напрамку лесу перавальваецца па калдобінах фурманка, запрэжаная валамі. Спераду яе важна дыбаюць два стараватыя немцы-жандары ў блакітных шынялях з перавешанымі праз шыі чорнымі аўтаматамі. Ззаду, панурыўшы галовы, з вінтоўкамі на плячах брыдуць трое паліцэйскіх, з якіх толькі адзін знаёмы — Сямён Цялеш, высокі, хмуры чалавек, які раней на станцыі працаваў грузчыкам.

На калёсах стары каваль Лейба з тоўстай непаваротлівай жонкай Ханай.

Лейбу многія ведаюць. Задымленая, з дзіркамі ў сценах, скрыўленым дахам кузня стаяла блізка каля школы. Вучні бачылі, як з самай раніцы, апусціўшы галаву, да яе шкандыбаў у рудых апорках Лейба. Ён ні на каго не глядзеў і ні з кім не вітаўся. Потым на працягу першай і другой змены з кузні чуўся жалезны грукат.

З палескага мястэчка ўсе, хто хацеў выехаць, выехалі. Ужо былі ўзяты немцамі Віцебск і Орша, баі ішлі ў Смаленску, а мястэчка ўсё яшчэ заставалася савецкім. З боку Бабруйска і Жлобіна яго абаранялі два бронепаязды.

Ды і куды маглі выбрацца Лейба з Ханай. Яны былі старыя, нямоглыя, мелі ўбогую хатку з адным акном, а ў гаспадарцы толькі дзве курыцы. Яны ні з кім не зналіся, іхні адзіны сын даўно выехаў і не падаваў пра сябе вестак, ім проста не было куды выязджаць. Ніхто нідзе іх не чакаў.

Хацінка іх стаяла побач з новай царквой, якая пасля таго, як закрылі царкву сапраўдную, і з яе бярвення збудавалі на другім баку вуліцы клуб, перабралася ў памяшканне шавецкай майстэрні. Ні купалоў не было на гэтай царкве, ні званоў, але старыя людзі веку Лейбы ці Ханы прызналі яе за царкву.

Нехлямяжая фурманка спынілася, даехаўшы да лесу. Ехаць далей азначала, што трэба шукаць нейкую пляцоўку, капаць магілу. Але ні немцы, ні паліцэйскія рабіць гэтага не хацелі.

Таму фурманка павярнула направа, дзе за гладкай палянкай узвышаліся пясчаныя горы. Там было мноства лісіных, барсучыных нор, і можна было знайсці яміну, якая б замяніла магілу.

Убачыўшы такі краявід, немцы загадалі фурману спыніцца. Самі адышліся, паліцэйскім далі знак пачынаць расправу.

— Злазьце, жыды! Далей не паедзем.

Лейба злез з воза. Памог злезці жонцы.

— Прашчай, мая Хана, давай развітаемся.

Старую кабету ён прыхінуў да сябе.

— Лепшай, чым ты, жонкі не было, ды я і не хацеў. Прабач, калі чым-небудзь пакрыўдзіў.

— Бывай, Лейба. Ты ніколі мяне не крыўдзіў. За табой я пражыла як царыца. Я буду на небе чакаць цябе.

У гэтую хвіліну раздаліся два стрэлы. Старыя паваліліся. Паліцэйскія закідалі іх ламаччам. З-пад галін відаць была рваная ватоўка Лейбы і вязаныя панчохі Ханы.

Так закончылася гэтая ганебная расправа. Стаяў лістапад сорак першага года, і яшчэ далёка было да таго дня, каб расквітацца з двухногімі нелюдзямі, якія яе ўчынілі.

*2002*

## СУСТРЭЧА З КАРАКАЛПАКСКІМІ ПІСЬМЕННІКАМІ

У час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане нашу пісьменніцкую групу накіравалі ў Каракалпакію, аўтаномную рэспубліку. Нас было трое: Пімен Панчанка, Аляксей Пысін і я. Самалётам мы прыляцелі ў Нукус.

Варта сказаць: да таго часу Каракалпакія памяняла сталіцу, перанёсшы яе ў другое месца. Нас спаткала новая гасцінічка, дзе яшчэ бачыліся сякія-такія недаробкі. Але ў кожным нумары, які пахнуў вапнай і свежай фарбай, ляжаў брусок свежага мыла і нават бутэлечка з адэкалонам.

Нукус суседнічае з пустыняй. Гаспадары, якія за нас адказвалі, напрамілы Бог прасілі нас не торкаць нос у яе пясчаныя абсягі. Маўляў, згубіцеся і ніхто вас не знойдзе.

Камічны выпадак адбыўся ў калгасе, куды мы прыехалі. Клуб у гэтым калгасе нагадваў сапраўдны палац. Агромністы, прасторны, ён, відаць, мог змясціць больш за тысячу чалавек.

Да таго часу, калі мы прыйшлі, ён быў паўнюткі. Відаць, нехта пусціў чутку, што прыехалі артысты.

Калі публіка ўбачыла, што мы, трое, не маем ніякіх музычных інструментаў: ні акардэонаў, ні гітар, ні нават барабанаў, яна дружна паваліла на выхад. Дарэмна Пімен Панчанка, ускочыўшы, махаў рукамі, стараючыся нешта растлумачыць. Ніхто яго не слухаў. Народ іраўся на прастор, дзе веяў свежы лагодны вецер і вісела над зямлёй не падобнае на наша, але таксама зорнае азіяцкае неба. Зал апусцеў. Толькі невялікая купка людзей, відаць, свядомых кіраўнікоў калгаса, засталася ў агромністай зале.

Мы хуценька сказалі свае прамовы і без асаблівага трыумфу пакінулі прэзідыум.

Назаўтра адбылася сустрэча з каракалпакскімі пісьменнікамі. Зал быў намнога меншы, чым у багатым калгасе, які, відаць, бавоўну вырошчваў.

Пісьменнікі, апранутыя ў звычайныя халаты, цюбецейкі, збіліся ў цесную кучку (іх было чалавек 25—30) і паселі падалей ад трыбуны. Не, ніякай варожасці ў іх позірках не было, проста гэта былі сур'ёзныя, разумныя людзі, якія не прывыклі да бурных, беспадстаўных сантыментаў.

Яны ведалі: Беларусь размешчана ў цэнтры Еўропы і думалі, відаць, што мы маем шырокія сувязі, што творы нашы вядомы ў свеце, ва ўсякім выпадку ў суседзяў. І выглядам сваім нібы сведчылі: нам далёка да вас, мы мясцовыя пісьменнікі, нас чытаюць у аулах, школах, нават у нашым невялікім Нукусе, і большага мы не хочам. Хопіць з нас таго, што маем.

Мы пахвалілі, хоць не надта ведалі іхнія творы, іхні край, імклівую Аму-Дар'ю, і ў душы, здаецца, пазайздросцілі ім.

З іх ніхто не выступіў акрамя даўно знаёмага нам высокага, стройнага старшыні праўлення Саюза каракалпакскіх пісьменнікаў Сулейманава, які прыязджаў у Мінск і тлумачыў нам, што чорныя калпакі, якія ўпамінаюцца ў «Слове аб палку Ігаравым», гэта і ёсць каракалпакі, якіх гісторыя загнала ў край пяскоў і пустынь.

*2002*

# [2003—2006]

## АДПЛАТА

Перад двухпавярховым будынкам школы стаіць абшарпаная хата, з падслепаватымі вокнамі, без ганка, без якой-небудзь агароджы. Галоўнае — без двара. Двор, як кажуць, прахадны.

Пятрок таксама ходзіць гэтым дваром. У іх пятым класе вучыцца хлопец з гэтай хаты, якога чамусьці ўсе называюць Іван Рыгоравіч. Гэта проста насмешка, бо ўзвялічваць Івана няма за што: вучыцца пасрэдна, ніколі нічога не ведае, з выгляду неахайны, закіданы. Але форсу не губляе: у спрэчках завадатар, крычыць, лямантуе, прагне настаяць на сваім.

Імя Івана Рыгоравіча хлопцы скарацілі. Проста на Рыгу: так прасцей для вымаўлення.

Аднойчы праходзячы міма Рыгавай хаты, Пятрок кінуў у шыбку маленькім каменьчыкам: маўляў, давай, Іван Рыгоравіч, у школу, на заняткі, хопіць у хаце сядзець.

Тут выскаквае з хаты Рыгаў бацька, кароткі, чырванатвары абрубак, валіць Петрака на зямлю, б'е нагамі ў грудзі, у жывот — куды прыйдзецца.

Неяк Пятрок устаў, пачыкільгаў у школу. Скардзіцца нікому не стаў. Падумаў толькі: «Калі ты такі гарачы, б'еш не спытаўшы, не ўведаўшы, з кім маеш справу, то некалі на свайго нарвешся...»

Петраку было крыўдна. Бацька абібока, лодыра збіў яго нізавошта, бо Пятрок дае спісваць Рыгу рашэнне цяжкіх задач, падказвае, калі выклікае настаўнік.

І пайшло...

Праз месяц ці два старэйшага брата Рыгі Валодзю, з рассечанай верхняй губой (ён такім нарадзіўся), знайшлі забітым каля памяшкання спіртзавода. Стралкі-ахоўнікі даказвалі, што ён праз выдзертае акно лез у памяшканне.

Яшчэ праз нейкі час бацька Івана, той, што біў Петрака, п'яны трапіў пад цягнік. Маці таксама загінула: у суседняй вёсцы набрала на ферме бульбы і, каб не ўбачылі людзі, хацела спраміць шлях, перайсці па тонкім лёдзе рачулку. Правалілася пад лёд і не выбралася.

Рыга застаўся адзін. Яго збіраліся пасылаць у дзіцячы дом. Пятрок і другія хлопцы збіралі ў школе па рублю, каб меў Іван Рыгоравіч хоць якія грошы.

Пятрок лічыць, што лёс паступае з сям'ёй Івана Рыгоравіча несправядліва. Ну, збіў яго бацька Петрака дарма, ну, брат Валодзя, магчыма, хацеў украсці трохі спірту, а маці з голаду пазарылася на калгасную бульбу. То хіба варта за гэта так жорстка караць усю сям'ю.

Пятрок не ведае, ці ёсць Бог (у школе забаранілі пра Яго гаварыць), але тое, што зрабілася, зрабілася не па-Божаму.

*[2003—2006]*

## БЕЗ МАІХ РУК

Ружавата-белым дываном рассцілаецца асушанае балота. Снегу выпала мала, ён не пакрывае нават рыжых купін, якія засталіся на балоце. Вецер гоніць па дарозе ледзь прыкметную пазёмку.

У гэты месяц два дружбакі, абодва Іваны, сыходзяцца ў дзеда Башлыка. Сядзіба яго размешчана ўскрай балота, пад старымі дубамі. Цяпер месяц люты, а ў лістападзе з мястэчка выгналі немцаў.

Кожны раз, прыходзячы з атрада да дзеда Антона Башлыка, сядзіба якога размешчана за чыгуначнай лініяй, у суседстве з алешнікамі і вялікім дубовым пнёўем, мы праз асушанае балота глядзелі на чыгуначную станцыю. У апошнія гады на балоце нічога не сеялі, яно стаяла рыжым. Проста расла трава сама па сабе, а восенню рыжэла.

Мы нарадзіліся ў мястэчку з чыгункай, станцыяй, і нам у лесе не хапае цывілізацыі. У партызаны з мястэчка пайсці не проста. Тут нямецкі, паліцэйскі гарнізон. Калі пайшоў, то вернешся толькі тады, калі немцаў прагоняць. Інакш табе ходу ў родную хату няма.

Мы з Іванам Башлыком часта прыходзілі ў мястэчка. На дзедаву сядзібу. Праз балота глядзелі на станцыю. Тады заўсёды быў рух. А ўвогуле немцы патроху выбіраліся. Паліцыя паспела ўжо знікнуць.

І гэта было добра. На падступах да мястэчка па кустоўі, пералесках можна было не баяцца засад. Адны немцы без паліцаяў засады не наладжвалі.

На Дняпры грыміць ужо тыдні два. Немцы завалодалі вострававам на сярэдзіне ракі і не хочуць прапускаць чырвонаармейцаў на правы бераг. Ніякія плацдармы тут не маглі памагчы.

Але настаў дзень. Мы злучыліся з арміяй. Каб не выпусціць немцаў, узарвалі чыгунку паміж другой і трэцяй абходчыцкай будкамі, дзе немцы нарабілі сабе ахоўных пунктаў.

Я на ўласныя вочы бачыў, як уцякалі немцы. Чалавек пятнаццаць трухала ўзбоч чыгуначнага палатна ў заходнім накірунку. Іх можна было знішчыць або забраць у палон, але ніхто пра гэта не думаў. Драпаеце, ну і на здароўе. Непераможная армія ўцякае. Да Волгі дайшла, да Каўказскага хрыбта, а цяпер шайка жулікаў бяжыць на злом галавы.

Гэта трэба было бачыць. Каб выкрасліць з памяці страх першага года. Бо тады немцы сапраўды здаваліся непераможнымі. Перлі наперад і, здавалася, ніякіх перашкод для іх не існуе.

Пасля выгнання немцаў мы часта збіраліся ў хаце дзеда Антона Башлыка. Відаць, памяць перажытага хіліла нас да гэтай хаты. Аднойчы Іван раздабыў паўлітэрку самагону і паклікаў мяне ў дзедаву хату. Выгода была ў тым, што бабка, дзедава жонка, закуску знойдзе: кіслую капусту паставіць, скрылік сала нарэжа.

Дзеда Антона дома не было.

— Кажуць, таго Чарыка злавілі, што тут на вуліцы шастаў,— сказала бабка.— У Антона будуць пытацца пра яго.

Быў такі Чарык. Старшыня воласці ў адным з паўночных сёл. Ад партызан уцёк у мястэчка. Пасяліўся на гэтай

залінейнай вуліцы і моцна перашкаджаў хлопцам, калі яны прыходзілі да дзеда.

Дружбакі не дачакаліся дзеда. Па шклянцы глынулі. Нарэшце і дзед прыйшоў. Ён узрадаваўся, што яму самагонкі трохі пакінулі.

— Ну, як той Чарык? — спытаў Іван.

— А што я пра яго ведаю? — запярэчыў дзед.— Я ж у тых сёлах, адкуль ён уцёк, не жыў. Мая хата з краю.

— Няўжо не памятаеш, заўсёды прыпіраўся гэты Чарык, калі мы прыходзілі. Лавіў нас.

— Нічога ён не лавіў. Каб хацеў злавіць, то злавіў бы. Такія вы былі непрыступныя.

Дзед пра Чарыка не хоча гаварыць. «Чалавека такога не ведаю,— адказваў следчаму.— Жыў месяцы два на нашай вуліцы. Але нічога такога асаблівага я за ім не заўважаў.

Калі вінен, карайце. Але без маіх рук».

Мы трохі злавалі на дзеда. Але і паважалі яго. Гэты сумленнем не пакрывіць.

*[2003—2006]*

## БРЫДКІ ХЛОПЧЫК

Бацька і маці прывезлі Віталіка ў вёску вечарам. Везлі цягніком, затым на аўтобусе, потым яшчэ ішлі пешкі вярсту ці дзве. Віталік за дарогу стаміўся і, нават не павячэраўшы, заснуў...

Назаўтра, не пабачыўшы ні маці, ні бацькі, хлопчык ад роспачы ледзь не заплакаў. Але ў хаце была знаёмая бабка, якую завуць Таццяна Іванаўна, і дзед Рыгор Іванавіч, у якога няма ніякай барады і толькі блішчастыя зубы ў роце. У дзеда і бабы Віталік ужо быў, хоць даўно, два ці тры гады назад. Таму ён многае забыў. Дзіва няма — ён тады быў вельмі малы, меў толькі чатыры гады.

— Як называецца ваша вёска? — спытаў Віталік у дзеда.

— Доўгі Брод,— адказаў дзед.

— Што такое брод?

— Брод, унучак, гэта такое месца на рацэ, дзе вады мала, мелкаводдзе, і рэчку можна лёгка перайсці.

Віталік павесялеў:

— Добра, што рэчка ёсць. Купацца буду. Можа, рыбу будзем лавіць з табой, дзед.

Дзед схамянуўся:

— Рэчкі ў нас няма, унучак.

Віталік імгненна насупіўся.

— Храновіна нейкая палучаецца,— сказаў ён.— Рэчкі няма, а вёска называецца Брод. Ды яшчэ доўгі...

— Можа, была ды высахла рэчка,— няўпэўнена выляхаўся дзед.

— Харошыя рэчкі не высыхаюць. Напрыклад, Волга. Была ў вас задрыпаная лужына. Вераб'ю па калена. Таму і высахла.

Дзед з бабай маўкліва перазірнуліся.

— Ідзі, унучак, на двор пагуляй,— сказала бабка.— Хочаш, на вуліцу выйдзі. У нас машыны не ходзяць. Ціха, спакойна. Суседскую дзяўчынку завуць Галя. У хаце з правага боку жывуць два хлопчыкі: Пеця і Міша. Пазнаёмся з імі. Будзе весялей.

Віталік з ахвотай ірвануў за дзверы.

Вярнуўся гадзіны праз тры. Злосны, з абдзёртым носам.

— Галя ваша — сука,— паведаміў бабцы.— З Пецькам злеглася. А Пецька — брахун і бабнік. Але я яму рогі абламаю. Я ўжо яму даў у зубы і нос расквасіў. Дам яшчэ не так. Мішка трохі лепшы. Але ўсё адно размазня і паскуда...

Таццяна Іванаўна жахнулася. Светлавалосае, з прыгожым тварам хлапчанё, а так брыдка паводзіць сябе і гаворыць. Ад сына свайго, бацькі Віталіка, яна, здаецца, за жыццё слова благога не пачула...

— Гуляй на двары, унучак,— папрасіла Таццяна Іванаўна.— Як-небудзь памірышся з Галяй і Пецькам...

З гадзіну павыдыбаў Віталік у адзіноце па двары, але хутка такі занятак перастаў яго цікавіць.

— Старая варона! — накінуўся на бабку.— Выгнала на двор, а сама спіць. Што ў вас ёсць? Ні футбола, ні валейбола. Нават тэлевізар сапсавалі. Ідзі, звані бацьку. Няхай забірае мяне з вашай смярдзючай дзіркі...

Назаўтра Таццяна Іванаўна адправіла Віталіка з дзедам на сенажаць. Думала, можа, лепей яму будзе на лузе. Вядома, гарадское дзіця...

Дзед касіў, а Віталік спачатку насіўся за матылькамі, лавіў розных жукоў, нават букецік красак нарваў. Але хутка ўсё гэта яму збрыдзела.

— Хрыч стары! — закрычаў ён на дзеда.— Прывык каровам хвасты круціць, думаеш, і мне гэта цікава. Кідай махаць сваёй шчарбатай касой і пайшлі дамоў. Я там хоць Пецьку адлупцую...

Але дзед — не баба. Выцягнуў са штаноў рэмень, хвастануў разы са тры ўнука. Той зарумзаў, адбегся да кустоў, пагражаючы яму здаля кулакамі і лаючы апошнімі словамі. Але пад кустамі Віталік суцішыўся і нават заснуў. Вечарам быў як шаўковы. Прызнаў-такі аўтарытэт дзеда і яго рэменя.

Увесь наступны тыдзень Віталік біўся з Пецькам, з другімі вясковымі хлапчукамі, абражаў Галю, даваў мянушкі вясковай дзятве, лаяўся такімі брыдкімі словамі, што да Таццяны Іванаўны сталі прыходзіць са скаргамі вясковыя жанкі.

— Адашліце вы хутчэй гэтага Савося-распусніка. Ён жа такім брыдкім словам навучае дзяцей, што нават мы, жыццё пражыўшы, не чулі...

Не было шчасця, ды няшчасце памагло. Гойсаючы па вуліцы, Віталік так глыбока загнаў у нагу стрэмку, што ні дзед, ні бабка выцягнуць не здолелі. Віталіка аднеслі ў бальніцу. Там, бадай, і адбылося горшае.

Калі вясковая доктарка, маладая, ласкавая жанчына, памазаўшы пяту Віталіка ёдам, пачала выцягваць стрэмку, ён залямантаваў дзікім голасам:

— Ой, баліць! Баліць!.. Хутчэй паварочвайся, кабыла завадская! Бач, задніцу адгадавала. Каб вы тут павыдыхалі! Нічога не робіце і толькі седзіцё на дзяржаўнай шыі...

Выцягнуўшы стрэмку, доктарка не вытрымала і заплакала. Таццяна Іванаўна, якая прысутнічала пры гэтай сцэне, пачырванела як макаў цвет. Яна раптам зразумела: дрэнна ў сынавай сям'і. І ў горадзе, дзе ён жыве. Хлапчук брыдкі, разбэшчаны. Але ён нічога не выдумлівае. Паўтарае, што чуе дома і на вуліцы...

*[2003—2006]*

## ВЫПАДАК

Нарэшце Васіль Снапок рашыў наведаць сваю партызанскую вёску. Ён пасля партызан быў на фронце: пад Ленінградам, у Польшчы, Усходняй Прусіі, Сілезіі, і цяпер, дэмабілізаваўшыся, працуе карэспандэнтам абласной газеты.

Вёска называецца Гагалі, і, жывучы ў раённым мястэчку, Васіль чуў пра яе. Толькі яна здавалася далёкай, размешчанай у глыбі бясконцых тутэйшых балот. Яно, відаць, так і было. Толькі перад самай вайной правялі меліярацыю балот, і тады Гагалі нібы прыблізіліся да мястэчка. Дайдзі да вёскі Кавенькі, якая мяжуе з мястэчкам, перайдзі магістральны канал і яшчэ па яго беразе, зарослым розным балотным бадыллём, прайдзі вярсты тры-чатыры — і маеш Гагалі, вёску, размешчаную сярод лесу.

З боку канала вёску акружае дубняк. Тады, калі Васіль праз гэты дубняк дабіраўся да мястэчка, была пара жаўталісця, і пад нагамі шасцела падушка апалай чырвона-жоўтай лістоты.

Цяпер Васіль думае пра тое, ці знойдзе ў Гагалях які-небудзь матэрыял, каб напісаць нарыс ці хоць замалёўку і надрукаваць у абласной газеце. Раптам Васіль бачыць на прабітай між дрэваў сцежцы кавалачак газетнай паперы. «Калі газета наша,— думае ён,— то абавязкова што-небудзь напішу». Ён нават прыкідвае загаловак матэрыялу…

Газета абласная. Больш таго, пад заметкай на кавалачку паперы стаіць прозвішча Васіля. Заметку газета змясціла тыдзень назад.

Выпадак рэдкі. Не так ужо часта Васіль друкуецца. Можа, знаходка мае які-небудзь сімвалічны сэнс. Кавалачак паперы з прозвішчам карэспандэнта, магчыма, заклікае яго паболей пісаць пра гэты край…

Васіль не ведае, што рабіць з газетным абрыўкам. Нарэшце насыпае на знойдзеную паперчыну шчопаць махоркі, верціць цыгарку, закурвае. Колцы шызага дыму імкнуцца ўверх, раствараючыся між шэрых камлёў магутных дубоў. Вядома, трэба болей пісаць пра партызан, пра вайну, бо Васіль усё гэта перажыў, і яно як бы стала часткай ягонай душы.

*[2003—2006]*

# ДЗЯЦЕЛ

Я ішоў лясной дарогай да шашы. Лес, пераважна сасновы, верасок, восень. Тут дом адпачынку. Я заўсёды стараюся трапіць сюды асенняй парой. Чытаю кнігі, раблю выпіскі. Лес самотны і ціхі. У сасновым лесе заўсёды мала птушак. Толькі дзятлы, трымаючы між сабой адлегласць, тукаюць у вяршаліны сосен. Ніколі так не бывае, каб два дзятлы працавалі на двух суседніх соснах.

Мой дзяцел — і я заўважыў гэта — залішне актыўна дубае па сасновай галіне. Як бы нехта падганяе яго.

Калі я ішоў ад шашы назад, дзятла на сасне не было. У мяне нарадзілася нядобрая думка: дзе ён? Я акінуў вокам дрэва і прылеглыя мясціны. Дзяцел ляжаў пад сасной. Я падышоў да яго, узяў птушку ў рукі. Птушка была жывая. Я чуў дробны перастук маленькага птушынага сэрца. «Птушка, відаць, перарвалася,— падумаў я.— Вельмі яна старалася».

Я паклаў дзятла на дыван у маленькім пакойчыку прыхожай. Тут было цяплей, чым на двары, але не так горача, як у пакоі, у якім я жыў, і мелася грубка.

Я ўвайшоў у пакой, скінуў плашч і стаў разважаць, якая прычына прымусіла моцную птушку ўпасці на зямлю. Вядома, яна перанапружылася, не знаходзіў я другога тлумачэння бяды, якая здарылася з дзятлам. А чаму так ірвалася? На гэтае пытанне адказу не было.

У хуткім часе я пачуў шасценне, лопат крылаў. Мой дзяцел аджыў. Адкрыў дзверку: ён бегаў па пакоіку. Я яго злавіў і выпусціў праз фортку. Ён паляцеў, і нісколькі не было заўважна, што з дзятлам здарылася што-небудзь кепскае.

Мяне агарнулі думкі. «Чаму,— разважаў я,— дзяцел не есць звычайных казюрак, якіх у лесе поўна, асабліва ў летні час, і здабывае іх, дзяўбучы старадрэвіну, трацячы на гэта многа часу і сіл? Хто на яго ўсклаў гэты цяжкі абавязак?»

*[2003—2006]*

# ДУБЫ ШУМЯЦЬ

Дубы шумяць у любое надвор’е: няхай свеціць сонца, або неба ўкрыта хмарамі, або неба чыстае, усё адно як бы хто падмёў яго,— усё адно шумяць. Для сябе самога я прычыну вытлумачыў так: дубы звычайна вышэй астатніх дрэў, а там, на вышыні, відаць, ходзяць патокі паветра, якія на зямлі не заўважаюцца.

Але і сасна шуміць. Хоць яна прыкметна меншая за дуб. Дасягае прыкладна палавіну яго росту. Для сасны я прычыну шуму ў яе разгалістай шапцы не высветліў. І не знайшоў ніякага вытлумачэння з боку патокаў паветра.

У нас на ўзлобку поля, якое мяжуе з алешнікам, стаялі тры магутныя дубы. Недалёка ад гэтых дубоў знаходзілася хата старога Казла, так па-вулічнаму звалі бацьку аднаго партызанскага камандзіра, якога выклікалі ў Маскву. У партызанах было некалькі хлопцаў з нашага сяла, і нам даручылі забяспечыць сустрэчу партызанскага камандзіра з бацькам. Каб не здарылася ніякіх нечаканасцей.

Хто яго ведае, як тое здарылася. Але ў той жа дзень паліцаі наладзілі засаду ў кустах паблізу дубоў. І паранілі камандзіра. У Маскву ён паляцеў. Але не на нараду. Яго паклалі там у шпіталь. Цень падазрэння ўпаў і на нас. Нас было чацвёра. Пасля выгнання фашыстаў гэтай справай займаліся органы дзяржбяспекі. Але і яны нічога не высветлілі.

Справа праяснілася гадоў праз дваццаць пасля вайны. У наша сяло перабраўся адзін нямецкі начальнік, бургамістр воласці. Першыя месяцы ён сядзеў, як гавораць, цішэй вады ніжэй травы. Тым часам партызаны сталі завітваць і ў наша сяло. Бургамістр пасяліўся амаль па суседстве з домам Казла. Завёў з ім сякія-такія адносіны. А потым перапужаўся. Партызаны маглі высветліць яго асобу і звесці з ім рахункі. А ён ведаў, што сын Казла партызанскі начальнік.

Расказаў аб гэтым паліцай, які сам удзельнічаў у засадзе.

*[2003—2006]*

# ЖОРСТКАСЦЬ

Ён не думаў, што так здарыцца. Ён прыкладна разлічыў, дзе сустракаецца жонка з гэтым новым завучам, якога нядаўна прыслалі ў школу. Гэта маглі быць толькі пасадкі ўзбоч чыгункі паблізу чыгуначнага пераезду. Яны досыць высока падняліся, гэтыя тапалі, клёны, акацыя.

Таму злезшы з цягніка, не заходзячы ў родны дом, ён адразу падаўся ў пасадкі. Быў вячэрні прыцемак, але ён адразу ўбачыў жонку у расхлістаным палітончыку, узмакрэлую, з раскіданымі валасамі, і яе кавалера, хлапчыну прыкладна свайго веку.

Ён не памятае, якім парадкам у яго руках апынуўся нож, доўгі, востры, на манер кінжала. Нож ён усадзіў спачатку ў грудзі жонкі, затым забіў яе кавалера. І яму стала сумна-сумна. Нават не ад таго, што пазбавіў жыцця дзве чалавечыя істоты. І не таму, што прыйдзецца адказваць за зробленае перад судом. А таму, што будзе сорамна перад людзьмі. Ён малады, мае толькі дваццаць шэсць гадоў, і ад яго, такога маладога, пабегла жонка…

Тут Янушка прачынаецца. І першым пачуццём, якое раптам яго ахапіла, была радасць. Радасць ад таго, што гэта быў толькі сон, што ён нікога не забіваў, што жывыя і былая жонка, і яе кавалер, і ніхто не будзе паказваць на яго пальцам.

Божа! Як доўга жыве ў душы пачуццё крыўды! На зары туманнага юнацтва з Янушкам сапраўды здарылася падобная гісторыя. Ён працаваў карэспандэнтам абласной газеты, прайшоў вайну, пабачыўшы яе жахі, тым не меней заставаўся чалавекам у нейкай меры рамантычным.

З абласной газеты яго паслалі ў Мінск, у газету рэспубліканскую. У доме бацькоў, у раённым мястэчку ён пакінуў маладую жонку з двухгадовым сынам, званіў ёй ледзь не штодня і недзе на трэцім месяцы адчуў смутную трывогу.

Узяць жонку ў Мінск ён не мог: горад ляжаў у руінах, развалінах. Большую палавіну заработку ён пасылаў жонцы, хоць сам ледзьве зводзіў канцы з канцамі. Жонка, па разліках Янушкі, магла год ці два як-небудзь пратрымацца.

У доме Янушкі, як у былога карэспандэнта, застаўся тэлефон. У адзін з цёмных асенніх вечароў, калі на душы было

асабліва трывожна і змрочна, ён пазваніў дамоў. Была ўжо дзясятая гадзіна вечара. Жонкі дома не было.

— Яна на педсавеце,— сказаў малодшы брат.

Янушка патэлефанаваў у школу. Ніякім педсаветам там нават не пахла. Што заставалася думаць?

Назаўтра Янушка папрасіўся ў роднае мястэчка ў камандзіроўку. Пайшоў на станцыю, купіў білет і на пачатку ночы сеў у цягнік.

У Гомелі была перасадка, і трэба было чакаць рабочага цягніка да пяці гадзін вечара. Янушка пайшоў у горад, такі ж разбіты, непрыветлівы, як і Мінск, і купіў срэбраны пярсцёнак, які мусіў надзець на палец жонцы у той дзень, калі яны запісваліся. Але тады грошай не было. І варта было звязаць іхні саюз не срэбраным, а залатым пярсцёнкам. Але на такі і цяпер грошай бракавала. Залаты ён купіць пазней, як пабагацее. Жонка сама павінна разумець.

Дома Янушка застаў неспакой. Жонка хадзіла хмурая, прыгнечаная.

— Я яму адпомшчу! — нечакана выгуквае яна.

— Каму? — насцярожыўся Янушка.

Жонка прыкусіла язык. Глядзела на мужа недаўменна, як бы не пазнаючы. Увогуле была разгублена ўшчэнт. Нібы не адчувала, на якім яна свеце.

Вечарам яна апранулася, сабралася ісці.

— Куды? — спытаў Янушка.

— На педсавет.

— Можа, на такі, як пазаўчора?

— Можа, на такі. У нас цяпер часта педсаветы.

— Я званіў у школу. Ніякага педсавета не было.

— Ты сочыш за мною?! — Жонка, не распранаючыся, з літаннямі, лаянкай кінулася на ложак. Яна была ў істэрыцы: вочы закаціла пад лоб, бяздумна варочала бялкамі…

Янушка стаў апранацца.

— Куды? — спытала жонка.

— Паеду,— адказаў Янушка.— Тут мне нечага рабіць.

— Думала, выбавіш мяне ад яго. А вы, мужчыны, аднолькавыя. Завабіце, а тады ўцякаць. Не дарую! — нібы памяшалася жонка.

— Я цябе не завабіў, ажаніўся з табою…

Янушку было сорамна перад маці, малодшымі братам і сястрой. Яны туляцца ў пярэднім маленькім пакойчыку. Яна займала чыстую палавіну дома. Хлопчыка адвезла да сваёй маці.

Ён ішоў на станцыю, разумеючы: з жонкай здарылася нешта незвычайнае. За агародам яго пераняў Пыліла, блізкі сусед. Ён у школе выкладае працу, вучыць дзяцей габляваць дошкі, збіваць шафы, табурэткі.

— Ты б у школу зайшоў,— сказаў Пыліла.— Да дырэктара.

— Навошта?

— Завуча зноў няма. Той, якога нядаўна прыслалі, учора з’ехаў.

— Ты мне скажы шчыра. Чаго з’ехаў, можа, з маёй жонкай спутаўся?

— Не мая справа.

— А хто мне праўду скажа — дырэктар?

— Можа, і дырэктар не скажа.

— Не цямні. Будзь чалавекам.

— За дакладнасць не ручаюся. Нібыта новы завуч абяцаў жаніцца на тваёй жонцы. Яна прыліпла да яго. Але я іх не вянчаў. У нагах іхніх не стаяў. Можа, толькі чуткі…

Янушка ўспомніў: у адным з раманаў Гамсуна намалявана жонка, якая, сышоўшыся з палюбоўнікам, стала лічыць, што пайшла замуж.

У станцыйным буфеце Янушка выпіў шклянку гарэлкі. Здалося мала: заказаў яшчэ паўшклянкі. Пахістваючыся, пайшоў у вагон. Усё адно ён цяпер ні ў чым не разбярэцца. Жонка як ва ўтрапенні. Хоць якая яна жонка. Таго, што пачуў і пабачыў, дастаткова. Цяпер няма ў яго жонкі…

Ён, аднак, адчуў, што вось так, ні ў чым да канца не разабраўшыся, выязджаць з дому нельга. Як бы ўцякае. Ён вылез з вагона, вярнуў у касу білет, выпрасіў у станцыйным буфеце бутэльку гарэлкі.

Дома было тое самае.

Жонка, так і не распрануўшыся, з ложка перайшла на канапу.

— Хоць бы сказаў, ці любіш? — прамовіла. Твар у яе прыпухлы, заплаканы, позірк нейкі блукаючы, як бы адсутны.

— Нічога разумнейшага не прыдумала? Ты лепш скажы, што ў цябе было з новым завучам?

— Ну, можа, трошкі палюбіла.

— Што значыць трошкі?

— Ён нягоднік, хлус. Не дарую!..

У жонкі пачыналася новая істэрыка.

Янушка пацалаваў маці, малодшых брата і сястру.

— Прабачце, мама. І вы, Валодзя і Люся, прабачце.

— За што прабачыць?

— За тое, што прывёў такую кветку.

— Трымайся, сын,— сказала маці.— У жыцці бывае ўсякае. Няхай яна ўціхамірыцца, адумаецца. А ты едзь. Няма чаго тут табе рабіць…

* * *

Мінула многа гадоў.

Гады праз чатыры пасля памятнага выпадку Янушка ажаніўся на другой. Ён пражыў з ёй доўгае і зрэшты не надта благое жыццё, выгадаваў трох дзяцей, яны ўсе паканчалі інстытуты, дасягнуўшы мэт, да якіх імкнуліся.

Адзінае, што азмрочвала сямейнае жыццё Янушкі, быў страшэнны недавер да жанчын. Гэты недавер якраз і пачаўся пасля разводу з першай жонкай. Бо да гэтага Янушка вельмі паблажліва адносіўся да таго, мела ці не мела дзяўчына знаёмствы, сяброўствы з кавалерамі. Што было да яго, яго не датычыла.

Янушка не падазраваў, што пасля першай жаніцьбы ён проста захварэў псіхічна. Магчыма, таму, што пачуццё да першай жонкі ён пранёс праз многія гады і ў тым ліку праз вайну. Ён бачыў цяпер чорнае там, дзе яго не было і ў паміне.

Так што моцна падумайце, дзяўчаты, перш чым ісці замуж за чалавека, які ўжо быў жанаты.

*[2003—2006]*

# КАХАННЕ НА СОТАЙ ВЯРСЦЕ

Я ляжаў у шпіталі ў заходнеўкраінскім гарадку, размешчаным непадалёк ад Луцка. Гарадок невялікі, ціхі, але напалавіну спалены. На белых сценах дамкоў засталіся дымныя цёмныя разводы.

Рана зажывае марудна, бо кормяць дрэнна.

Я сам згружаў прадукты, якія прыходзілі на адрас шпіталя. Бульбу згружалі вялікімі камлыгамі, ломам адвальваючы ад вялікай мёрзлай кучы. Капусту адсякалі ад кучы тапаром.

Пра блюды, якія з такіх прадуктаў гатавалі, шпітальныя вастрасловы гаварылі:

— Жыць будзеш, але гуляць да дзяўчат не захочаш.

Самае каштоўнае, чым нас кармілі, было ў абед: лыжка саладкаватай мёрзлай бульбы (каша) і лыжка бабовых кансерваў. Кансервы былі выдатныя на смак, але праглынуўшы іх невялікую порцыю, я настройваўся на чаканне наступнага абеда — бо пастаянна хацеў есці.

Шпіталь размяшчаецца ў школе, а мой ложак стаіць у настаўніцкай. Там спачатку стаялі два ложкі, але другога параненага перанеслі ў іншае месца. Можа, паспрыяла гэтаму мая санітарка, тоўсценькая, кругленькая дзяўчына з бліскучымі шэрымі вачамі. Наведаўшы мяне, яна ахвотна лажылася са мной і цалавалася ў ахвоту. Але што пацалункі? Я расказаў пра сваё становішча знаёмаму сяржанту, і ён даў такую параду:

— Умні грам дзвесце сала, і тады карціна будзе другая.

Сяржант хадзіў на мясцовы базарчык і нават самагонку адтуль прыносіў.

У мяне быў гадзіннік — бліскучы, нікеляваны. Куплены ў салдата-мадзьяра яшчэ ў акупацыю. Ён прасіў за яго сорак марак, а я даў яму сорак карбованцаў (салдат быў непісьменны). Пасля мадзьяр, выявіўшы сваю памылку, збіў на станцыі паліцэйскага. Мяне, каб знайшоў, той венгр, відаць, проста застрэліў бы.

Я аддаў сяржанту гадзіннік і папрасіў, каб меней чым за паўкілаграма сала ён яго не прадаваў.

Сяржант паднёс гадзіннік да вуха, сказаўшы:

— Ён не на камянях, на цыліндрах. Могуць не даць.

— Але ён жа бліскучы, прыгожы,— стаю на сваім я.

Карацей, назаўтра я меў паўкілаграма сала. Хлеба я дастаў лёгка. Выкарыстаў прадукцыю і чакаю нарачоную. Яна прыйшла вечарам. Прылягла побач. Штосьці яна адчула адразу, бо сказала:

— Дурнога не замышляй. Я цябе проста пашкадавала. У мяне хлопец быў, вельмі падобны на цябе. Няма на свеце таго хлопца…

Затое ёсць я. На гэты раз мы развіталіся цяплей, чым у час мінулых спатканняў.

*[2003—2006]*

## КРЫК ПАРАНЕНАЙ ПТУШКІ

У Налібоцкую пушчу Сяліцкі ездзіць па грыбы. У даволі позні для грыбоў час. Стаіць кастрычнік, [*неразборліва*] Знойдзеш зялёнку, пару груздоў, яшчэ нейкіх неславутых грыбоў. Галоўная прычына: лес паглядзець, які адыходзіць на цэлы год, па якім сумуеш, як па блізкім сябры. Зімовага лесу Сяліцкі не любіць.

Ён хоча абысці куст. Адтуль матляецца малая шэрая птушачка з пранізлівым піскам. Сяліцкі застывае. Такіх птушак ужо няма ў лесе. Паляцелі ў вырай. А гэтая? А ў гэтай пашкоджана крыло ці яшчэ што-небудзь. Лятаць яна не можа. Горасна робіцца Сяліцкаму. Ён мастак. Тым часам ён нічым птушачцы дапамагчы не можа. Яна вельмі малая ростам. Ні адносна куста, ні адносна якога-небудзь дрэва намаляваць яе нельга. Але ж жывая душа, якая загіне пры першых маразах.

...У дзяцінстве я быў палымяны паляўнічы за птушкамі. Не, я іх не забіваў, не прагнуў забіраць іхнія яйкі. Калі наступала цёплая пара, мне проста неабходна было ведаць хоць два ці тры птушыныя гнёзды. Я тады бегаў глядзець, якія змены адбыліся ў гняздзе. Хоць дзесяць разоў на дзень. Мяне цікавілі колеры яек: у вераб’я яны рабенькія, у чакунца блакітныя, у сініцы таксама блакітныя і вельмі дробныя, у вароны, голуба белыя.

Калі я знаёміўся з якім-небудзь хлопцам, я ў яго пытаўся: колькі ведае гнёздаў. Аднойчы далёкі хлопец, з Прыстані (ёсць у нас такое далёкае балота з рачулкай Ведрыч) прызнаўся мне, што ведае гняздо берасцянікаў, і абяцаў паказаць яго мне. Я не паленаваўся схадзіць на тую Прыстань і паглядзець, як водзяцца берасцянкі.

Бывалі брыдкія выпадкі. Аднойчы бацька з маці, збіраючыся прывезці сена, аставілі мяне апякаць двух меншых братоў. Дрэнны я быў апякун. Я лёгка ўгаварыў іх адпусціць мяне, даўшы кожнаму з іх па нейкай дрындушцы, сам пайшоў у палі і пералескі. На маё няшчасце, я заблудзіўся. Я знайшоў тады проста ў зямлі гняздзечка жаваранка. Гэта ўмерыла маю радасць, бо гэта была рэдкая ўдача.

Мушу прызнацца, што такія выпадкі ў маёй практыцы не часта паўтараліся. Нават у нашых блізкіх суседзяў — мухаловак, плісак, драздоў, сарок — мне не ўдалося асачыць ніводнага гнязда. Яны ўмелі хавацца. І сваімі перамогамі сачэння за птушкамі мне не вельмі хочацца пахваляцца.

*[2003—2006]*

## МІХАЛІНА

Я ўзненавідзеў гэтую няўрымслівую Міхаліну. Галоўным чынам за тое, што яна падбівае маю маці шастаць на станцыю ў чырвоны куток. У тым кутку выступае самадзейнасць, паказваюць кінафільмы, бывае, выступаюць цікавыя людзі.

Наконт Міхаліны я сёе-тое ведаю. Маючы чацвярых дачок, яна закахалася ў чыгуначнага майстра Сіма. А Сім не звяртае на яе ўвагі.

Маёй маці Міхаліна прызнаецца:

— Хоць паглядзець на яго. Такі мужчына. Здаецца, вачэй не зводзіла б.

Тым часам Міхаліна не з ліку легкадумных жанчын. Вот упаў ёй на вочы гэты чыгуначны майстар, і яна ні на каго другога глядзець не хоча. А Сім, сапраўды, ніштаваты мужчына. Ахайны, акуратны, ходзіць у форменным сінім касцюме. Ён зрэдку паяўляецца на чыгуначным пераездзе, дзе стаіць

каменная будка вартаўніка пераезда і драўляная — пуцявога абходчыка Арсеня, мужыка Міхаліны.

Міхаліна лішняй красой не вызначаецца. Сярэдняга росту, чарнявая, дзюбатая, адно што незвычайна імклівая, шустрая, непаседлівая. Яна прыніжае племя жанчын і незвычайна ўзвышае мужчынскі род.

— Што з гэтых баб? Чарэп'е. Могуць толькі лямантаваць ды звягу разводзіць. Свет дзержыцца на мужчынах.

Арсень, мужык Міхаліны, чалавек незвычайна маўклівы. Ходзіць неяк дзіўна і марудна пераступае ногі. І ад яго хады такое ўражанне, што яго фігура нібы павольна плыве ў паветры.

Вартаўнік пераезду Драгі-Мірэцкі не мясцовы чалавек. Яго прыгнала ў палескі край першая Германская вайна. У яго залатыя рукі. Можа лудзіць посуд, паяць самавары, скляпаць палівачку ці што-небудзь іншае, патрэбнае ў гаспадарцы. Ён гэтым і займаецца, а на пераездзе стаіць высачэнная, з пляскатымі грудзямі жанчына, ягоная жонка, якую бляхар выбраў з мясцовых жанчын.

Два разы на месяц палучка. Гэтыя дні асаблівыя, бурнарадасныя для абедзвюх будак. Яны як бы аб'ядноўваюцца. Няўрымслівая Міхаліна на працягу дня разоў пяць бегае ў краму.

Хутка пуцейскага майстра Сіма пераводзяць на другую, больш разгалінаваную станцыю, і Міхаліна перастае хадзіць у чырвоны куток.

З гэтага моманту яднанне дзвюх будак дзеля п'янкі канчаецца. Міхаліна ашчаджае грошы на білет. Яна хоча хоць раз у тыдзень з'ездзіць на суседнюю станцыю, каб пабачыць свайго Сіма.

Ён, як і раней, упэўнена кіруе чыгуначнай гаспадаркай — цяпер ужо на вялікай вузлавой станцыі. Міхаліна ніколі да яго не падыходзіць, вітаецца толькі здаля. Ёй гэтага цалкам дастаткова.

Аднойчы Міхаліна бачыць свайго Сіма з другой жанчынай. Яна хутка вызначае яе асобу: маладая, досыць відная жанчына прадае кветкі ў спецыяльным магазіне.

Міхаліна яшчэ раз едзе на вузлавую станцыю і назірае тую самую карціну.

Больш яна на суседнюю станцыю не ездзіць. Яна неяк адразу робіцца меншай, пад вачамі залягаюць сінія кругі. Пра Сіма, аднак, не гаворыць зняважліва, вінаваціць жонку:

— Адарвецца гузік, дык яна не бачыць. Хіба з такім мужчынам можна так абыходзіцца?

*[2003—2006]*

## МОГ БЫ ЖЫЦЬ

Маці і старэйшую сястру Ігара арыштавалі надвячоркам, яго проста выгналі з пакоя. Пераначаваў ён у хлеўчуку. Назаўтра кінуўся ў кватэру: нідзе нішто не зачынена, і дом пусты.

Ігар выйшаў на вуліцу. Ён сустрэў двух ці трох знаёмых, але ніхто з іх не спыніўся, не захацеў з ім пагаварыць.

Ігар два разы, туды і сюды, правандраваў па Камсамольскай вуліцы, зайшоў у свой двор, але ў кватэру заходзіць не захацеў. Не мог ён туды заходзіць, калі няма там ні маці, ні сястры. Яму было толькі пятнаццаць гадоў, і ён яшчэ ніколі не прымаў самастойных рашэнняў.

Ён пайшоў у жандармерыю, дзе сядзелі арыштаваныя маці і сястра. Жандарм спытаў, да каго ён прыйшоў. «Да маці»,— сказаў Ігар.

Жандарм адчыніў камеру і пусціў Ігара туды. «Мог бы жыць,— падумаў ён.— Але хто яго будзе карміць...»

Заўтра арыштаваных расстралялі.

*[2003—2006]*

## НАСУПРАЦЬ УЛАСНАЙ КВАТЭРЫ

Ёсць анекдот: насупраць кватэры Кузьмы размешчана турма. А цяпер Кузьма жыве насупраць сваёй кватэры.

Зубаскальства, вядома. Але ў жыцці Пятра Хвядосіка быў падобны момант. Хвядосік быў у акупацыі, жыў у мястэчку, займаўся падпольнымі справамі. І так прымільгаўся, надакучыў

немцам, што калі ім прыйшлося з мястэчка вымятацца, яны наважылі прыхапіць з сабой Хвядосіка. Тым болей, што на ўскраіне суседняй вёскі, на зарослым сасной кургане пачаў фарміравацца канцэнтрацыйны лагер. Хвядосіка папярэдзіла аб гэтым яго настаўніца нямецкай мовы, якую прымусілі працаваць у камендатуры.

Што рабіць? Канешне, трэба ісці ў лес, у партызаны. Але так проста не пойдзеш. Трэба аб'яднацца з сябрамі, забраць з патайных хованак зброю, дамовіцца аб іншых рэчах.

Хвядосік дамовіўся з суседкай Мар'яй, хата якой размешчана праз вуліцу насупраць яго хаты, што пажыве ў яе дні тры. Віжуе праз акно, ці хутка паявяцца на яго двары немцы. Так праходзяць два дні. На трэці дзень знерваваны Хвядосік месца сабе не знаходзіць. Можа, настаўніца памылілася і ніякай пагрозы не існуе? Але ўсё адно ісці ў сваю хату рызыкоўна. Ён сядзіць перад вакном і глядзіць на свой двор. Нарэшце перад дваром спыняецца аўтамашына. З кузава, з-пад брызенту выскакваюць два немцы і бягуць у двор. Але хата зачынена, на дзвярах замок вісіць. Немцы аглядваюцца, бачаць: на частаколінах паркана шарсцяная посцілка вісіць. Хапаюць посцілку, скручваюць і назад да машыны. Цяпер можна і сховы пакідаць. Дзякуй табе, цётка.

*[2003—2006]*

## НЕ ТРЭБА САДЗІЦЬ У ТУРМУ ЖАНЧЫН, У ЯКІХ МАЛЫЯ ДЗЕЦІ

Я завітаў у цырульню пастрыгчыся. Стрыг мяне адзін і той жа цырульнік Сямён Дробыш. Справа гэтая ў яго займала не шмат часу, меней чым чвэрць гадзіны.

Сямён быў змрочны. Я ведаў прычыну. У цырульні была праведзена рэвізія. Яна знайшла недахоп адэкалону. Быў суд. Сямёнаву жонку, якая таксама працавала ў цырульні, засудзілі на паўгода турмы. А ў яго на руках засталіся тры дзяўчынкі-малалеткі.

Трэба ж было мне прысунуцца ў цырульню іменна ў гэты дзень! Я сядзеў насупраць вакна, за якім рос шырокі куст бэзу.

Раптам пад кустом з’явілася дзяўчынка, зняла сукенку і тонкімі пальчыкамі пачала лавіць і выкідваць на зямлю нябачных мне паразітаў. Гэта была дачка Дробыша. Бацька таксама ўбачыў гэты малюнак, пачырванеў. Застукаў сашчымленымі пальцамі ў шкло вакна, і дзяўчынка знікла.

Няўжо тыя, хто выносіў прысуд, не пацікавіліся, колькі ў жанчыны, якой наракл і турму, малых дзяцей?

*[2003—2006]*

## ПРАВІНЦЫЙНЫ ГАРАДОК

Я звыкся з вобразам гэтага ціхага правінцыйнага гарадка. Калісьці ён быў нават больш славуты, чым Мінск, у гарадку сядзеў князь, а ў Мінску, апрача рамеснікаў і купцоў, нікога не было. Але ў дальнейшым гісторыя так выкіравала свае сцяжыны, што Мінск стаў сталіцай рэспублікі, а гарадок нават страціў невысокі тытул раённага цэнтра. Але Мінск з гарадком яднала адна і тая ж не вельмі славутая рака, паблізу яго будавалі мінчане дачы, а некаторыя, зважаючы на тое, што гарадок ціхі, размешчаны далёка ад цэнтраў цывілізацыі і культуры, куплялі ў ім дамкі і ў летні час жылі ў іх як на дачах.

Такі дамок купіла работніца адміністрацыі нашага тэатра, у мінулым нядрэнная спявачка, а цяпер звычайная чыноўніца. Сказаць пра Стасю Былінскую, што яна звычайная чыноўніца, будзе, па-першае, некаторай яе знявагай, па-другое, яе рана яшчэ садзіць корпацца ў паперах, падшываць накладныя, бо Стася не страціла ўсіх прыкмет жаночай прывабнасці і яшчэ да гэтага часу мае кавалераў.

Мы ў свой час былі даволі блізкія, і нас раз’яднала якраз гэтая якасць Стасінай натуры цікавіцца не толькі маёй персонай і асобай. Але даўняе забылася, здаецца, мохам-травою парасло, і, апынуўшыся ў гарадку з перспектывай сесці ў электрычку толькі раніцай, я пайшоў начаваць да Стасі.

Мужа дома не было. Для мяне гэта не мела ніякага значэння. Я папрасіў пасланць мне на раскладушцы ў першым

пакоіку. А Стася ўзрушылася. Накінуўшы толькі халацік і не выключаючы святла, яна схадзіла ў ванную, потым на двор, прынесла кветкі, паставіла іх у вазу. Я ляжаў на сваёй раскладушцы, як мёртвы.

Толькі пад раніцу Стася суцішылася. Каб не грукаць, я ўзяў бацінкі ў рукі і падаўся на станцыю, да электрычкі.

*[2003—2006]*

# СУХІ ПЛЕЎРЫТ

Тое, што ўліп у небяспеку, карэспандэнт абласной газеты Васіль Стралюк зразумеў, як толькі выехалі за станцыю. Лета і восень ён праездзіў на тармазных пляцоўках таварных цягнікоў. Але то былі цёплыя дні. А цяпер зіма, ды і дзень благі: дзьме пранізлівы вецер, да касцей прабірае, нягледзячы на лёгкі палітончык, які Васіль апрануў. І схавацца няма як, і з пляцоўкі не саскочыш: цягнік набраў хуткасць. Ногі паламаць не штука.

Каб не скарчанець ад холаду і ветру, Васіль пачаў біцца аб сценку вагона. Брыгада рамонтнікаў, якая ўбачыла гэтую карціну, гучна зарагатала. Больш за гадзіну Васіль скакаў, як апантаны. На сваёй станцыі ён ледзь злез з тармазной пляцоўкі: не слухаліся ногі.

Дома ён выпіў шклянку гарэлкі, тры шклянкі чаю і адразу палез на печ. Але не пранесла. Да вечара ён адчуў: сцінае дыханне. Ноч прамучыўся, коўзаючыся на чаране, а з раніцы падаўся ў бальніцу. Зрабілі ўколы, паслалі на рэнтген. Вынік: сухі плеўрыт.

У правым баку пры кожным уздыху і выдыху проста адчувальна штосьці шоргае па рэбрах. Урач сказаў «спайкі» і паслаў на праграванне сінім светам. Два тыдні прагравання за гадзіну неабдуманай язды на адкрытай пляцоўцы таварняка.

Але добра, што плеўрыт сухі. Мог быць мокры. Гэта б падоўжыла лячэнне. Ды і вынікі маглі быць горшымі.

Да вясны Васіль папраівіўся, амаль што не адчуваючы хваробы.

*[2003—2006]*

## ТЫ НА МЕСЦЫ…

*Эцюд*

Яшчэ калі Лагацкі працаваў карэспандэнтам абласной газеты, у раённую бальніцу прыслалі новага хірурга. Першы раз карэспандэнт убачыў яго на станцыі. Хірург — высокі плячысты мужчына, трохі рыжаваты,— размаўляў, відаць, са знаёмым.

— Год-два папрацую,— гаварыў доктар,— а там Бог бацька. Мяне ў ардынатуру запрашаюць. Абяцалі месца захаваць. Не пайшоў адразу, бо сумленне прачнулася: ісці ў ардынатуру, ні дня не папрацаваўшы ўрачом, усё-такі сорамна. Шэсць гадоў вучыўся…

Лагацкі не ведаў, што такое ардынатура. Сам ён збіраўся паступаць у аспірантуру і думаў, што ў медыкаў такая ўстанова называецца ардынатурай. У мінулым годзе ён скончыў універсітэт, а ў газеце адпрацаваў карэспандэнтам шэсць гадоў. Газета яму парадкам надакучыла. Ён лічыў, што трэба яшчэ трохі павучыцца. Бо завочная вучоба ўсё-такі павярхоўная. Адно добра: з дзяцінства ён многа чытаў і збольшага літаратуру ведае,— рускую, беларускую, чытаў найбольш славутых пісьменнікаў замежжа.

Маера Лагацкі запомніў. Прыязджаючы ў мястэчка з Мінска, распытваў пра яго. Яго хваліла маці:

— Добры доктар, стараецца кожнаму памагчы. Людзей паважае. *[пропуск]*

Маер тым часам ні ў якую ардынатуру не паехаў, сядзеў у мястэчку гадоў дзесяць. Захварэў бацька Лагацкага. Вось тады Лагацкі асабіста пазнаёміўся з Маерам.

Скончыўшы аспірантуру, Лагацкі займеў ступень кандыдата навук, выкладаў беларускую літаратуру ва ўніверсітэце. У газетах, часопісах стаў друкаваць артыкулы, а зрэдку і апавяданні.

Маер прызнаўся: «Мяне запрашалі ў ардынатуру. Не пайшоў, пасаромеўся, не папрацаваўшы ўрачом. А далей здарыўся Чарнобыль. Ва ўмовах радыяцыі нават звычайныя, добра зведаныя хваробы працякаюць са значнымі адхіленнямі.

Тады я падумаў: нікуды не паеду. На гэты куток зямлі абрынулася бяда. Людзям, якія жывуць у мястэчку і ў бліжніх

вёсках, цяпер найбольш патрэбен доктар. Гэта значыць мяне, доктара, напаткаў такі лёс. Ад лёсу не ўцякаюць».

І Маер працаваў, усё больш пашыраючы кола медыцынскіх ведаў. Ён працаваў хірургам, але паколькі ў бальніцы дактароў не хапала, станавіўся на час тэрапеўтам, нават роды прыйшлося прымаць. Рос яго аўтарытэт. Хворыя інтуітыўна адчувалі ў ім добрую чалавечую душу і, нягледзячы на характар хваробы, цягнуліся да яго. Ён не хацеў нікому адмовіць. Так мінулі два дзясяткі гадоў.

А там і сам Маер не захацеў з мястэчка выязджаць. Ён стаў як бы прыналежнасцю мястэчка, раёна, палескага краю, які чым далей, тым больш прызнаваў. Ды і месца неблагое: ёсць чыгуначная і аўтобусная станцыі, мястэчка можа прыняць нават самалёт, калі гутарка заходзіць аб вылеце дзеля дапамогі хвораму ў які-небудзь раён.

За Маерам некалькі разоў высылалі такі самалёт. Ён рабіў аперацыі. Потым вяртаўся ў сваё мястэчка. То навошта перабірацца ў якое-небудзь другое месца або ехаць у ардынатуру? Ён тут, на важным месцы, куды прыехаў працаваць, добра расце як спецыяліст, мае душэўны спакой, раўнавагу. Зрэшты, і мясціна ніштаватая. Вакол мястэчка добрыя лясы, прычым розныя: бярозавыя саснякі-сухадолы, лісцвяныя лясы, дубовыя гаі, альшанікі і нават грабнякі.

Блукаючы па лясах, лугавінах, ён знайшоў некалькі лекавых траў і, можна сказаць, захапіўся траválячэннем. Спачатку на самім сабе. Падлячыў сэрца, стаў добра спаць. Прыахвоціў да збору лекавых траў малодшы медыцынскі персанал.

Слава аб незвычайным доктары (сам сябе ён незвычайным не лічыў) стала пашырацца. Нават стрыечны брат, які насіў такое ж прозвішча і таксама працаваў урачом, хоць і далёка ад палескага мястэчка, дачуўся аб ім. Брат гэты і прыехаў да яго ў госці.

— Нікуды не з’язджай. Ты знайшоў сваё месца. Справа не толькі ў табе. Таксама і ў людзях, якія перад табой схіляюцца. Можаш другі раз такіх людзей не знайсці. Так што не рызыкуй. Ты на месцы.

*[2003—2006]*

# ЦЁМНАЯ НОЧ

Момант нязначны, але запамінальны. У першыя пасляваенныя гады з арміі вярталіся заслужаныя афіцэры, магчыма, сярод іх было нямала такіх, хто да вайны ніякім афіцэрам не быў.

У раённым Доме культуры ідзе канцэрт мастацкай самадзейнасці. Выступаюць мясцовыя артысты. Падахвоціўся спець песню і высокі плячысты капітан, якога мала хто ведае. Толькі паасобныя местачкоўцы бачылі капітана даваенным юнаком, які служыў у пажарнай камандзе і часта завітваў у РДК: любіў мнагалюддзе і ўсялякія культурныя мерапрыемствы. Не цяжка было здагадацца, чаму цяпер капітан папрасіўся на сцэну. Хацеў, відаць, пакрасавацца ў пагонах, пахваліцца тым, што быў простым хлопцам і вось цяпер капітан.

Спець песню гвардыі капітану дазволілі. Аб'явілі аб яго ордэнах, займаемай пасадзе і аб тым, што ён мясцовы чалавек.

Капітан выйшаў на сцэну, чамусьці ў шынялі. Відаць, ён спяваў у кампаніях за сталом, магчыма, яго пахвальвалі, але голасу, артыстычнага голасу, ён зусім не меў.

Пастаяўшы з хвіліну моўчкі, капітан раптам рвануў на самай высокай ноце: «Ц-ё-мная ноч, толькі пулі свісцят па сцяпі, толькі вецер шуміць в правадах, тускла звёзды мярцают...»

Нехта ў зале зарагатаў. Спявак не звярнуў на гэта ўвагі. Працягваў у тым жа стылі. Рогат ахапіў нарэшце увесь зал. Але і цяпер капітан не здаўся. Хацеў перакрычаць зал. Шырокі твар яго пачырванеў, наліўся крывёю. Ніякіх спеваў не было. Драў казліным голасам дарослы неразумны чалавек. Быў балаган. Здагадалася яго спыніць дзяўчынка, якая аб'яўляла нумары. Падбегла да спевака і дала яму кветку. Зал дружна заапладзіраваў. Тады толькі капітан пакланіўся і сышоў са сцэны.

*[2003—2006]*

## ЯЗЭПАВА ГУМНО

Пра гэтае гумно хадзіла па мястэчку пагалоска. Стары Язэп пабудаваў сядзібу насупроць вялікага балота трохі наводдаль ад мястэчка. Сама па сабе сядзіба нічым асаблівым не вызначаецца, такіх было шмат. Але па вечарах з чыгуначнай станцыі, якая добра праглядвалася з Язэпавай сядзібы, да яе хто-небудзь ішоў. Хутка стала вядома: старэйшы сын хутараніна працаваў у Рэчыцы і там займеў сабе сяброў. Вось яны і прыязджалі да яго, асабліва ў святочныя дні.

Хутка высветлілася яшчэ адна акалічнасць: гэтыя людзі былі сацыял-дэмакраты і кіравалі не ў Язэпаву хату, а ў гумно, якое як бы адгароджвала хутарок ад балота. У гумне яны праводзілі свае сходкі.

Ішоў час. Адбылася лютаўская рэвалюцыя, затым Кастрычніцкая. Сярод сацыял-дэмакратаў, якія прыязджалі ў мястэчка, былі і бальшавікі, і яны занялі ў Рэчыцы пасады. Язэпаў сын таксама зрабіўся начальнікам, хоць і невялікім.

Гадоў праз дзесяць пасля апісаных падзей да Язэпава гумна зноў імкнулі людзі. Толькі яны былі з вазамі. Гэта аднаасобнікі і розныя службоўцы, якія сеялі на лясных дзялянках збажыну, старонячыся сельсавецкага вока і падаткаў, звозілі ў Язэпава гумно ўраджай. Там яго малацілі, веялі, ссыпалі ў мяшкі.

Так гэта не мінулася. Нехта з ліку звышпільных напісаў у Рэчыцу заяву, і Язэпавага сына з яго пасады звольнілі.

*[2003—2006]*

## ЯК ЗАКОНЧЫЛАСЯ ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ

Гэта было ў Верхняй Сілезіі, у шахцёрскім гарадку, які размяшчаецца ля самай граніцы з Чэхаславакіяй. Ён размешчаны на пястаўскай, г. з. старажытнай польскай зямлі. Але палякаў мы не сустракалі, не чулі іхняй гаворкі. Значыць, калі яны і былі тут, то даўно анямечыліся.

Вайна скончылася. Наш армейскі полк сувязі размяшчаецца ў складзеным з чырвонай цэглы чатырохпавярховым будынку.

Мы нясем ахоўную службу, а таксама займаемся страявой падрыхтоўкай, вывучэннем вайсковых статутаў.

Не ведаю, ці ўваходзіць маршыраванне па вуліцах у страявую падрыхтоўку, але мы ледзь не кожны дзень выходзім з двара казармы доўгай калонай. Блішчаць на сонцы медныя трубы аркестра, які ўзначальвае калону.

Насельніцтва гарадка, відаць, любіць такія дэманстрацыі, асабліва музыку марша «Развітанне славянкі», якую пастаянна іграе аркестр. Вокны верхніх этажоў расчынены, з вокнаў, з балконаў глядзяць на калону людзі.

Праз месяц полк пакідае размешчаны ў падгор'ях Судэт гарадок. Начальства, відаць, адчувае, што паміж жаночай часткай гарадка і мужчынскім складам палка існуюць нейкія сувязі. І нельга гэтага не адчуваць. Бо байцы, сяржанты, асабліва ў перадвячэрні час, шасталі па дамах абывацеляў. З буханкамі хлеба пад пахай. Начальства між тым не хоча эксцэсаў.

Тое, чаго баялася начальства, здарылася.

Да месца адпраўкі аўтобусаў (полк сувязі мае ўласны транспарт) прываліў цэлы жаночы натоўп, ці не ўся жаночая палавіна раскіданага паміж узгоркаў гарадка. Тут былі асобы рознага ўзросту. Ад дзяўчат да дам бальзакаўскага ўзросту.

Другая і трэцяя калона выязджалі ноччу. Жанчын, якія прыйшлі развітацца з вайскоўцамі, было яшчэ болей. Хоць было папярэджанне не называць месца і час ад'езду. Вось так закончылася самая вялікая вайна — Другая сусветная.

*[2003—2006]*

# МАЙСТЭРСТВА ПРАЗАІКА

Безумоўна, мяжа, якая падзяляе матэрыялы, улучаныя ў першы і другі тамы дадзенага Збору твораў, уяўляецца ўмоўнай, у чымсьці нават штучнай. Бо ўвесь масіў навелістыкі Івана Якаўлевіча Навуменкі вызначаецца непарыўнай цэласнасцю і строгай лагічнасцю, унутранай сваёй знітаванасцю.

Аднак пры гэтым факт застаецца фактам: храналагічная рыса, пазначаная 1973 годам найперш з мэтай структураваць выданне, надаць тамам калі не роўны, дык хаця сунаблiжаны аб'ём, не проста разбівае апавяданні пісьменніка па перыядах. Разыходжанне атрымліваецца больш істотным. Вядома, пра кардынальнае непадабенства гаварыць не выпадае, але ў двух чалавек, адзін з якіх захацеў бы азнаёміцца толькі з першым, а іншы толькі з другім томам Збору твораў, маглі б скласціся не зусім аднолькавыя ўяўленні пра творчае аблічча празаіка, пра яго пісьменніцкія прыхільнасці і прыярытэты. Розніца адчувальная настолькі, што кожны больш-менш падрыхтаваны філолаг здолее, бадай, ідэнтыфікаваць, калі, у які перыяд, пісалася тое ці іншае апавяданне.

Такім чынам, размову варта весці пра важны, шмат у чым пераломны момант у творчай эвалюцыі майстра. Пра пэўны зрух, усплёск у выспяванні прыкмет новага. Між тым агульнапрызнаная вектарнасць перамен у інтанацыйным гучанні твораў І. Навуменкі менавіта падобнай дынамікі перамен як быццам не прадугледжвае.

Сапраўды, спецыялісты адзначаюць, што пісьменнік прыйшоў у літаратуру найперш як «пясняр сямнаццатай вясны», што гэтую «прыгожую і чарадзейную чалавечую пару, калі надыходзіць час развітвацца са школай і ўступаць у дарослае самастойнае жыццё»,[1]

---

[1] Кароткая, Л. Ад імя пакалення Л. Кароткая // Жывое, роднае… — Мінск, 1989.— С. 7.

ён, паводле вызначэння У. Гніламёдава, адлюстроўваў «у рамантычна прыўзнятых фарбах»,— а потым, з гадамі, у тэкстах пачынае ўсё больш заўважна праяўляцца аналітызм, глыбокі псіхалагізм, І. Навуменка выходзіць на новы ўзровень развіцця, у яго творах, зазначае М. Мушынскі, «шчыры лірызм арганічна спалучаецца з філасофскім роздумам Мастака над жыццём, над прызначэннем чалавека»[1].

Прыкладна такі шлях праходзіць у літаратуры ці не любы глыбокі, удумлівы пісьменнік. Рамантыка юначых твораў паступова змяняецца сталым роздумам над роляй і месцам чалавека ў Сусвеце... Гэта — няспешлівая дарога, асаблівасці якой пазначыў А. Марціновіч: «Ад твора да твора ішоў пісьменнік разам са сваімі героямі дарогамі вайны, ад твора да твора не толькі расло яго майстэрства, але і спасцігалася глыбей і праўдзівей роля і месца бязвусых юнакоў у самай страшнай вайне... Больш аб’ектыўнымі станавіліся адносіны да падзей, якія з гадамі ўсё аддаляліся і разам з тым нібы набліжаліся, і погляд станавіўся ўсё менш рамантычна-ўзнёслы»[2]. Пры падобным натуральным развіцці мастацкіх прынцыпаў усплёскавасць змяненняў можа, вядома, назірацца, але найперш тады, калі паскоранасць унутранага росту спараджаецца бурлівасцю працякання працэсаў у грамадстве — між тым 1970-я перыядам карэннага перавароту асноваўтваральных ідэалагем відавочна не былі, гэтае дзесяцігоддзе звычайна ідэнтыфікуюць як застойнае, пазначанае атмасферай дагматычнай устойлівасці пастулатаў.

У артыкуле У. Навумовіча «Эвалюцыя светабачання маладога пакалення ў прозе Івана Навуменкі» аналізуецца і такая вектарнасць перамен: першапачатковая фіксацыя праяў гераічных, рамантычных парыванняў герояў «пераломнага ўзросту», якім «жадаецца многага, але самі яны яшчэ не ў стане спыніцца ні на чым»[3], з цягам часу трансфармуецца ў творах пісьменніка ў прыпамін-роздум пра лёсы ўсіх тых, хто не вярнуўся з франтоў Вялікай Айчыннай.

---

[1] Мушынскі, М. Дзейнасць І. Я. Навуменкі як арганізатара навукі // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: матэрыялы навук. канф.— Мінск, 2006.— С. 5.

[2] Марціновіч, А. З вышыні пражытага. Штрыхі да творчага партрэта Івана Навуменкі // Роднае слова.— 2000.— № 2.— С. 4.

[3] Навумовіч, У. Эвалюцыя светабачання маладога пакалення ў прозе Івана Навуменкі // Беларуская мова і літаратура.— 2008.— № 6.— С. 21.

Дадзеная лінія змяненняў зноў жа не прадугледжвае імклівай усплёскавасці працякання эвалюцыйных працэсаў, да таго ж нават у дэбютных творах І. Навуменкі, першыя апавяданні якога з'явіліся адносна позна, у сярэдзіне 1950-х гадоў, рамантычная фіксацыя ваенных падзей вачыма сямнаццацігадовых юнакоў не магла не быць ужо формай роздуму, горкага і глыбокага, пра лёс тых, каму суджана было загінуць.

У кнізе А. Адамовіча «Літаратура, мы і час» змешчана напісаная ім прадмова да аднаго са зборнікаў І. Навуменкі. Тут узгадваецца цікавае прызнанне самога Івана Якаўлевіча: «Для мяне, як для пісьменніка, у першых апавяданнях важна было высветліць, якія сталыя, непераходзячыя жыццёвыя каштоўнасці захаваліся, не кранутыя ніякімі культамі»[1],— і гэта надзвычай паказальная фраза. Праўда, кантэкст, у якім прагучала прызнанне, у прадмове пададзены вымушана відазмененым. Справа вось у чым: І. Навуменка, калі запаўняў распрацаваную А. Адамовічам анкету, напісаў, што «на адно з пастаўленых пытанняў добра адказаў сам аўтар анкеты, А. Адамовіч, гадоў дваццаць назад ён справядліва пісаў...» — дадзенае месца давялося перапрацоўваць. Замест персаніфікаванай адсылкі ў артыкуле з'явілася згадка пра «нейкага» даследчыка, з думкай якога і пагаджаецца пісьменнік.

Уласную праніклівасць, такім чынам, А. Адамовіч карэктна прыхоўвае, яму важна падкрэсліць, наколькі прадуманым і ўзважаным быў выбар І. Навуменкам магістральнай для першых яго апавяданняў танальнасці.

Прывядзём яшчэ цытату. Гэта вытрымка з матэрыялу «Знайсці свайго героя», змешчанага ў 1985 годзе ў «Звяздзе». Тут І. Навуменка адзначае: «Маё пакаленне, рамантычнае пакаленне, цалкам вырасла ва ўмовах савецкай улады. Сёння звычайна, што мы становімся ўрачамі, інжынерамі і г. д. А ў тыя гады ўяўленне таго, што дзеці рабочых і сялян могуць стаць імі, нараджала нейкі парыў, рамантыку. І ўсё гэта перапыніла вайна»[2].

Натуральна, тыповы прадстаўнік такога пакалення не мог не выяўляць сябе на вайне хаця б крышку рамантыкам — і гэта адчуваў, гэта выразна разумеў малады пісьменнік Іван Навуменка. «Я свядома пачынаў з лірычных, рамантычных твораў. Але ніколі не бачыў

[1] Адамовіч, А. Апавяданні Івана Навуменкі / А. Адамовіч // Літаратура, мы і час — Мінск, 1978.— С. 244.

[2] Марук, У. Знайсці свайго героя // Звязда.— 1985.— 16 лют.— С. 3.

сябе толькі рамантыкам, лірыкам»[1],— такое прызнанне прагучала ў 1986 годзе ў размове пісьменніка з А. Марціновічам, запіс яе змясціла газета «Літаратура і мастацтва»; а на два гады пазней той самы «ЛіМ» надрукаваў яшчэ адзін матэрыял А. Марціновіча, «Каб было чэсна». Гэта рэцэнзія, у ёй даследчык аналізуе зборнік «Асеннія мелодыі», але размову пачынае з прыпаміну пра ранейшае апавяданне І. Навуменкі «Асфальт». Герой дадзенага, улучанага, дарэчы, у другі том апавядання робіць надзвычай важнае для яго адкрыццё: «Каб было чэсна. Гэта самае галоўнае».

У рэцэнзіі А. Марціновіча прадэманстравана: узгаданыя словы — ключ для ўзважлівага спасціжэння твораў, што ўвайшлі ў зборнік «Асеннія мелодыі». Больш таго, яны дазваляюць заглыбіцца ў разуменне ўсёй творчасці І. Навуменкі.

Праўда, няспынны пошук праўды... Каб было чэсна... У размове з карэспандэнтам газеты «Навіны Акадэміі навук Беларусі» на пытанне, што ж падштурхнула да напісання першых апавяданняў, І. Навуменка адказаў: «Я чытаў ваенныя творы іншых пісьменнікаў, але мне здавалася, што там няма праўды пра вайну. Вопыт, які я вынес з вайны, патрабаваў разнастайных фарбаў, шырокага погляду на падзеі, драматызму і нават трагізму»[2].

Выбар рамантычных інтанацый з гэтага гледзішча — аптымальнае мастацкае рашэнне, яно дазваляе і адлюстраваць драматызм, трагізм ваенных падзей ужо з вышыні горкага вопыту чалавека сярэдзіны 1950-х гадоў, і разам з тым не парушыць праўду той вайны, сведкам і ўдзельнікам якой быў Іван Навуменка.

Атмасферу трагізму ўтварае пры такім асвятленні жорсткая розніца ў светаадчуваннях успрымальніка — і дзеючых асоб апавядання. Чытач выдатна ведае, што многія з тых думак і спадзяванняў, якімі жылі (найчасцей нядоўга жылі) юнакі на вайне, не спраўдзіліся, ды і спраўдзіцца не змаглі б. Пісьменнік не мадэрнізуе герояў, не пераносіць у іх светаўспрыманне адзнакі бачання падзей чалавекам пазнейшых дзесяцігоддзяў (хаця для гэтага Навуменку ўжо трэба было прасейваць уласны жыццёвы вопыт і аддзяляць рамантыку юнацтва ад «не-рамантыкі», спароджанай горкім спазнаннем пасляваеннай праўды) — менавіта за кошт

[1] Марціновіч, А. Час абуджае думку творцаў // ЛіМ.— 1986.— 11 крас.— С. 5.

[2] Юрын, А. Апавяданні ваенныя яшчэ пішу // Навіны Акадэміі навук Беларусі.— 1994.— 10 чэрв.— С. 2.

гэтага ўзнікае кантраснасць супрацьпастаўлення «даваеннага» і «пасляваеннага» ўспрыманняў падзей. Падобнае адлюстраванне — неабходная ўмова той праверкі на трываласць прышчэпленых «знішчанаму пакаленню» жыццёвых каштоўнасцей, пра важнасць якой у сістэме мастацкіх прыярытэтаў пісьменніка-дэбютанта І. Навуменкі гаварыў А. Адамовіч.

Відавочна, што ўменне наперад пралічыць выяўленчыя магчымасці мадэлі мастацкага свету на такім, менавіта базісным, асноваўтваральным узроўні,— адзнака высокага майстэрства. Так, І. Навуменка валодаў і іншымі таямніцамі прафесіі, «ужо самыя першыя апавяданні празаіка, напісаныя ў 1954—1956 гадах, вызначаліся сваёй арыгінальнасцю, мастацкай свежасцю, добрай адшліфаванасцю выверанай на мілагучнасць фразы і ўвогуле прыкметнай прафесійнай культурай, за якой адчуваўся немалы вопыт дасведчанага журналіста, а галоўнае — беспамылкова ўгадвалася глыбокае разуменне жыцця, уласная, менавіта навуменкаўская яго паэтычная інтэрпрэтацыя»[1]; безумоўна, першыя ж апавяданні былі надзеленыя «многімі мастацкімі якасцямі, што будуць характэрнымі для творчасці пісьменніка і ў наступныя гады»[2], і ў пераліку бясспрэчных уменняў І. Навуменкі заўсёды будзе прысутнічаць здольнасць прадумана выбудаваць архітэктоніку, ураўнаважыць найбольш глыбінныя слаі аповеду.

Сапраўды, залежнасць паміж прасторава-часавай структурай твора і яго інтанацыйным, увасабляемым непасрэдна ў тэксце гучаннем Іван Якаўлевіч адчуваў выдатна. «Калі я падступаўся да работы, дык адразу адчуў, што пісаць раманы ў тым жа стылі, што і апавяданні, нельга. Неабходна было шукаць іншы стылёвы ракурс»[3]. І прычына відавочная: да прыкладу, лёгкая самаіронія, якая ўласціва героям ранніх твораў празаіка і якая мае, паводле словаў В. Каваленкі, «вельмі змястоўнае прызначэнне ў канцэптуальным плане», па сутнасці, дапамагала матэрыялізаваць тую дыстанцыю ў часе і, адпаведна, у светаўспрыманні, што існавала паміж аўтарам і яго героем. В. Каваленка пазначае: «танальнасць насмешкі над самім сабой і сваімі сябрамі — гэта не толькі развітанне з уласнай маладой

[1] Бугаёў, Д. Час падрахункаў // ЛіМ.— 1975.— 14 лют.— С. 5.

[2] Лаўшук, С. З пакалення, што не стала на калені // Полымя.— 1995.— № 2.— С. 216.

[3] Цыт. паводле: Синенко, Г. Из реки по имени факт // Неман.— 1984.— № 9.— С. 162.

наіўнасцю... але і развітанне з ілюзіямі часу, прывітымі спрошчанымі канонамі ідэйнага выхавання»[1], менавіта праз яе перакідваўся масток паміж часам напісання твора — і перыядам ваеннага ліхалецця, на які прыпала юнацтва літаратурных персанажаў.

Аднак відавочна: варта аўтару наважыцца больш актыўна і мэтанакіравана «ўмяшацца» ва ўнутраны свет героя — і тая ілюзія спавядальнага прамаўлення ад імя персанажа, якая выступае ў падобных творах асновай пераканаўчасці аповеду, знікне. Адпаведна фіксацыя, адсочванне, суперажыванне — вось стрыжнявы дыяпазон выяўленчых магчымасцей, што забяспечаны абранай пісьменнікам у першых апавяданнях будовай літаратурнага свету; пад задачы паглыбленага спазнання, аналізу матэрыялу запатрабуецца ў шмат чым іншы набор мастацкіх сродкаў.

Што з непазбежнасцю і праявілася пры рабоце І. Навуменкі над раманамі. Заўважым: у адказах на прапанаваную А. Адамовічам анкету (датуюцца 1977 годам) празаік якраз гэта і адзначыў: у першых апавяданнях «у дачыненні да іх герояў, людзей з чыстымі, добрымі сяганнямі, але барацьбітоў нявопытных, незагартаваных, я дапускаў як сродак раскрыцця характараў гумар, іронію. У раманах, каб я нават захацеў, гэтага нельга было зрабіць. Там дзейнічалі іншыя законы, і знаёмыя па апавяданнях героі траплялі ў сілавое поле драмы і нават трагедыі»[2].

Бачыў празаік і такі нюанс: спроба сумясціць спавядальнасць інтанацый і эпічнасць ахопу падзей пагражае «авантурызацыяй» твораў, выкліканай натуральным жаданнем зрабіць персанажа, ад імя якога вядзецца аповед, сведкам і ўдзельнікам мноства падзей. У выніку, як адзначаў І. Навуменка, ацэньваючы раман А. Марціновіча «Не шукай слядоў сваіх», герой адсылаецца «на розныя франты, у розныя куткі агромністай краіны, на сваім шляху сутыкаецца з многімі людзьмі»[3], і задача абгрунтаваць падобныя перамяшчэнні і сустрэчы сур’ёзна ўскладняе работу літаратара.

Вось яны, перадумовы істотнай перамены ў танальным гучанні навелістыкі І. Навуменкі: рэсурс выкарыстанай ім у стартавых творах

---

[1] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль... // І. Навуменка. Выбраныя творы ў двух тамах.— Мінск, 1995.— Т. 1.— С. 7.

[2] Анкета // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).— Фонд 495.— Воп. 65а.

[3] Навуменка, І. Споведзь ад імя пакалення // ЛіМ.— 1979.— 26 кастр.— С. 5.

мадэлі канструявання мастацкага свету быў усё ж вычарпальны. Як, дарэчы, і рэсурс любой літаратурнай мадэлі. З цягам часу перад аўтарам павінна было паўстаць прынцыпова тое ж, што і пры пераходзе да эпічнай прозы, пытанне пра неабходнасць відазмяняць прасторава-часавую будову адлюстраванага ў малафарматных творах мастацкага свету.

У 1979 годзе пісьменнік адзначыў, што з напісаннем рамана «Смутак белых начэй» «у нейкай меры завяршаецца тэма пакалення, пра якое я шмат пісаў,— найбольш у апавяданнях, троху у раманах — іменна тэма пакалення сямнаццаці-васямнаццацігадовых, але тут ужо на фронце, ва ўмовах зусім іншых... Гэта наш жыццёвы, творчы, пісьменніцкі, які хочаце, абавязак — напісаць пра лёс гэтага пакалення, стварыць рэквіем, аддаць даніну яго светлай памяці»[1].

Выказаны ў дадзеных словах настрой неабходна патлумачыць, бо вонкава ён супярэчыць тым ацэнкам, дзе творчасць Навуменкі прызнаецца нястомнай, няспыннай работай над стварэннем жыццяпісу свайго пакалення. Так, даследчыкамі адзначаецца, што пісьменнік «па сутнасці на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў піша кнігу аднаго лёсу. І паколькі лёс гэты непарыўна звязаны і з лёсам пакалення, да якога належыць Іван Якаўлевіч, дык гэта і кніга лёсу аднаго пакалення»[2]; заўважана, што і ў творах, дзе гаворка ідзе пра падзеі пасляваенныя, героем найчасцей выступае прадстаўнік усё таго ж, што і ў стартавых апавяданнях, пакалення, «пасталелы сямнаццацігадовы»[3].

Так што пра завяршэнне тэмы гаварыць не выпадае, зусім не гэта меў на ўвазе Іван Якаўлевіч. Звернем увагу: думка адразу ўдакладняецца, пісьменнік робіць агаворку: «найбольш у апавяданнях, троху ў раманах». А потым дадае вызначэнне жанравай танальнасці, пра фінальныя акорды якой фактычна і вядзе размову: «рэквіем».

Адразу прыгадваюцца радкі з артыкула В. Жураўлёва «З павагай да праўды» пра тых, хто з дзяцінства ішоў побач з Іванам

---

[1] Аніскові́ч, У. Літаратура — гэта самапазнанне / У. Аніскові́ч // ЛіМ.— 1979.— 28 вер.— С. 6.

[2] Марціновіч, А. Салдат вялікай вайны. Генерал вялікай літаратуры / А. Марціновіч // Роднае слова.— 2000.— № 2.— С. 169.

[3] Васючэнка, П. Салдаты вярнуліся: ваенная проза Івана Навуменкі / П. Васючэнка // Роднае слова.— 2005.— № 1.— С. 10.

Навуменкам: «Гэтыя хлопцы-равеснікі так і засталіся для нашай будучыні нязздзейсненай, няспетай песняй, вялікай і таямнічай загадкай»[1]. Большасць з іх загінула на вайне, але ж... У творах Навуменкі, дзякуючы гэтым творам, героі, «якія засталіся назаўсёды ляжаць сярод халодных каменных глыб, жывуць у нас: гучаць іх жарты, розыгрышы, успаміны аб доме і любімых»[2], праз словы ўзнаўляецца мелодыя іх так і не пражытых лёсаў. І калі А. Анікееў, аўтар змешчанага ў «Чырвонай змене» артыкула «Грымасы фарысеяў» (у назве — адбітак гісторыі, звязанай з абмеркаваннем рамана «Смутак белых начэй» у эфіры радыёстанцыі «Свабодная Еўропа»), выказвае ад імя чытачоў удзячнасць за падобную, сродкамі мастацтва захаванасць памяці пра ўсіх, каму не суджана было вярнуцца, гэта гучыць як падзяка за ўжо зробленую, сапраўды завершаную работу.

Вось толькі чаму рэквіем увасобіўся найперш у апавяданнях? Ды таму, што выкарыстаная ў дэбютных творах структура выбудовы аповеду найбольш спрыяла занатаванню ды фіксацыі (далёка не раўнадушным, нездарма В. Каваленка адзначыць: «…у творах пісьменніка пераважае не гэтак паказ мінулага, колькі яго перажыванне»[3]), суадносна адлюстраванне ў любым выпадку распадалася б на шэраг фрагментаў. У такой сітуацыі аптымальным варыянтам пры стварэнні цэласнага палатна, паяднанага адзінай задумай перадаць, як змянялася з гадамі бачанне вайны юнакамі і дзяўчатамі, абарочваецца перадача думак і пачуццяў маладых менавіта праз своеасаблівы ланцужок апавяданняў. У суме, у сваёй сукупнасці творы раскрываюць унутрана непарыўную лінію ўзмужнення ўчарашніх школьнікаў.

І. Навуменка адзначаў: «Паміж 1941-м і 1945-м пралёг доўгі шлях. Зразумела, я пасталеў: чалавек, які зведаў вайну, не можа не пасталець»[4]. З уласнага вопыту пісьменнік ведаў: пакідаючы за плячыма адзін ваенны год за адным, чалавек змяняўся, усё больш цвярозым выяўляўся яго погляд на вайну і свет, раставалі рамантычныя ілюзіі — і вось такую, найперш прадвызначаную

[1] Жураўлёў, В. З павагай да праўды // ЛіМ.— 1995.— 17 лют.— С. 7.

[2] Анікееў, А. Грымасы фарысеяў // Чырвоная змена.— 1979.— 4 кастр.— С. 4.

[3] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль...— С. 7.

[4] Уліцёнак, Г. З думкай пра дзень заўтрашні // Голас Радзімы.— 1985.— 21 лют.— С. 6.

самім матэрыялам дынаміку не трэба блытаць з праявамі сталення Навуменкі-мастака. Бо дыяпазон творчых магчымасцей пісьменніка пашыраўся настолькі імкліва, што межы зададзенай ад пачатку сістэмы ўмоўнасцей хутка сталі занадта цеснымі. Усё часцей з'яўляюцца творы, у якіх увасоблены прыкметы выхаду на новы ўзровень спасціжэння свету.

П. Васючэнка слушна заўважае: «шматмернасць, змена ракурсаў, неадназначнасць ацэнак, што праяўляліся ўжо ў ранняй прозе І. Навуменкі, сведчаць пра паступовае набліжэнне да асноваў раманнага мыслення»[1]. Заканамерным вынікам руху ў дадзеным кірунку бачыцца не толькі з'яўленне раманаў і аповесцей, але і адпаведная мадыфікацыя ў сукупным гучанні навелістыкі празаіка.

Такім чынам, на падыходзе да 1970-х складваецца наступная сітуацыя: папярэднюю задуму аўтар не адкінуў, ён не можа пакінуць яе незавершанай. Апавяданні, у якіх вайна паўстане, да прыкладу, пабачанай вачыма воінаў-пераможцаў, салдат 1945-га, апошняга года Вялікай Айчыннай, будуць яшчэ дадавацца ў паяднаны адзінай звышзадачай, адной магістральнай танальнасцю цыкл-рэквіем; аднак і пытанне: «Што ж далей?» — на той час не проста акрэслілася, але і ў шмат чым было вырашана. У планах празаіка — праца над амбіцыйным, наватарскім для нашай літаратуры праектам.

Лёс «выбітага» пакалення па-ранейшаму застанецца ў цэнтры ўвагі мастака, але ні ў якім выпадку гэта нельга ўспрымаць як праяву звужанасці, абмежаванасці абсягу яго творчых памкненняў. Прыгадаем, важным для сябе адкрыццём, першаштуршком да менавіта мастацкага спасціжэння свету пісьменнік прызнаваў дакрананне да наступнай таямніцы: «Помню, напісаў вялікі нарыс і падпісаў яго не І. Навуменка, як заўсёды, а Іван Навуменка. Я проста ўзяў і апісаў аднаго чалавека з калгаса, па-мойму, пчаляра, і мне хапіла. Аказваецца, праз пчаляра можна ўвесь калгас паказаць. Я зразумеў, што трэба браць адзінкавы факт, не варыцца ў мностве...»[2]

Лагічным працягам такой думкі выступае абагульненне: «Можна, атрымліваецца, з пляцоўкі, якая ў рамане Івана Мележа называецца палеская вёска Курані, пабачыць увесь свет з яго радасцямі і трывогамі,

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т літ. імя Я. Купалы.— Мінск, 2001.— Т. 3.— С. 696.

[2] Мікуліч, М. Усякаму пакаленню трэба баявая справа // Беларуская думка.— 1997. — № 4.— С. 81.

прыкметамі таго, што толькі нараджаецца, можна выявіць сувязі, што лучаць дзень сённяшні з днём учарашнім і будучым»[1].

Дадзены прынцып увасабляецца і ў творах самога І. Навуменкі: «Я стараюся ісці ад вобраза, ад канкрэтнага героя, які выражае новую ідэю, жыццёвую тэндэнцыю. Вазьміце аповесць «Замяць жаўталісця». Якая там сучаснасць? Я часта думаў пра сучаснае каханне. Ці такое яно, якім яго ўяўляла класічная літаратура? Дык, можа, у час навукова-тэхнічнай рэвалюцыі яно знікае, бо чаму тады кожная трэцяя сям'я ў нас распадаецца? Вось і хацеў разабрацца, якое ж яно, сучаснае каханне. А нават праз каханне, я лічу, можна паказваць і сучаснасць»[2].

Кірунак пошуку, як бачым, акрэслены выразна: праз асэнсаванне звужанай, прыватнай праявы (у якой, аднак, скандэнсаваліся адбіткі больш шырокіх працэсаў!) дасягаецца ўзыходжанне на ўзровень універсальных, максімальна шырокіх абагульненняў. У тым, што гэта стрыжнявы для творчасці пісьменніка падыход, пераконваюць назіранні многіх даследчыкаў. Так, У. Юрэвіч адзначаў: «Празаік яскрава выяўленага лірычнага складу, І. Навуменка ад пачатку свайго пісьменніцкага шляху не прэтэндаваў на ўсёахопнае адлюстраванне рэчаіснасці. Ён найчасцей абмяжоўваў аповед адным эпізодам, адной старонкай біяграфіі героя, але імкнуўся падаць яе настолькі рэльефна, так адчувальна, каб праз адзін эпізод цалкам выявілася ўсё жыццё асобы, калектыву, а часам нават і ўсяго народа»[3].

Менавіта ў кірунку «ад прыватнага, праз прыватнае — да агульнага» адбываецца, як заўважыў П. Васючэнка, і разгортванне хранатопу ў творах «партызанскай», распачатай раманам «Сасна пры дарозе», трылогіі І. Навуменкі: «...сасна каля дарогі, чыгуначная станцыя, мястэчка Бацькавічы, лес, навакольныя вёскі, нарэшце, Палессе»[4]...

Лагічна будзе дапусціць, што і адлюстраванне лёсу пакалення «сямнаццацігадовых» для пісьменніка з нейкага часу — не самамэта. Звышзадача шырэй: праз пераламленні ў біяграфіях, характарах прадстаўнікоў дадзенай генерацыі «падсвяціць», выразней праявіць

---

[1] Цыт. паводле: Синенко, Г. Из реки по имени факт.— С. 160.

[2] Марук, У. Знайсці свайго героя.— С. 3.

[3] Цыт. паводле: Юревич, В. Возвращение в юность // Испытание зрелостью.— М., 1981.— С. 218.

[4] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 697.

працэсы, што вызначалі сутнасць змяненняў у грамадстве, краіне, ва ўсім свеце.

Не, гучных заяў пра падобную скіраванасць сваіх творчых планаў празаік не рабіў. Але задумаемся: дзе, сярод каго найперш адшукаеш таго «пчаляра», у свядомасці якога, нібы ў чароўным крышталіку, з найбольшай вастрынёй адбіліся гістарычныя пераломы XX стагоддзя? Лёс якога пакалення стаў фактычным увасабленнем і ўсплёску надзей, і горычы ахвяр, і болю расчараванняў?

Адказ падаецца відавочным. Да яго проста не мог не прыйсці любы, хто задаваўся аналагічным пытаннем. Сведчанняў жа, што падобнае ўсведамленне сітуацыі — далёка не навіна для Івана Якаўлевіча Навуменкі, больш чым дастаткова.

1984 год, дзявяты нумар часопіса «Неман»: «Мяне прыцягваў унутраны свет, погляды, стаўленне да жыцця таго хлапчука, які нарадзіўся ў першыя гады пасля Кастрычніка ў беднай сялянскай сям'і, у вёсачцы, што згубілася сярод лясных прастораў... Не мае значэння, кім стаў хлапчук, чыё дзяцінства супала з першымі гадамі савецкай улады. Ён мог стаць трактарыстам, настаўнікам, інжынерам. Ён не прымаў удзелу ў калектывізацыі, не будаваў Днепрагэс, не паспеў. Але ён быў душой на баку ўсяго таго новага, што рабіла савецкая ўлада, бо адчуваў — гэта робіцца для краіны і для яго асабіста. Гэты герой выхоўваўся і фармаваўся ў атмасферы рэвалюцыйнага напалу, нечуванага энтузіязму народных мас, перад якімі сама гісторыя паставіла задачу пабудаваць на руінах старога свету новае жыццё»[1].

1995 год, газета «7 дней»: «Наша пакаленне можна назваць нават гераічным, бо мы выйшлі з вайны пераможцамі. І потым, у мірны час, тыя ж юнакі і дзяўчаты, былыя партызаны і салдаты, задавалі тон у жыцці. А цяпер мы — «старыя хрычы» — пакаленне, якое крочыла ў абойме, рабіла, што загадвалі»[2].

За падобным пункцірам — матэрыял, які літаральна пульсуе трагізмам. Псіхалагічная глыбіня тут проста невымерная. Не, І. Навуменка сапраўды меў права ўнутрана пасміхнуцца і не прыняць прапанову дарадчыкаў, што раілі (згадка пра гэта — у матэрыяле з газеты «Рэспубліка» за 30 кастрычніка 1998 года) засесці за архіўныя дакументы, каб на падставе выхапленых адтуль звестак

[1] Цыт. паводле: Синенко, Г. Из реки по имени факт.— С. 163.

[2] Цыт. паводле: Мамчиц, О. Цените каждое мгновение жизни // 7 дней.— 1995.— 18 лют.— С. 5.

пераадолець «рэгіянальную абмежаванасць» і ўзнавіць моманты вырашальных аперацый перыяду Вялікай Айчыннай: «А я сваё напісаў — тое, што для мяне блізкае, дарагое, хвалюючае»[1]. Ніколі пры такім падыходзе пісьменніку не пагражала небяспека застацца без фактуры, пытанне было ў іншым — у выбары аптымальнага, як мага больш узважанага ракурсу асэнсавання насычаных унутраным драматызмам рэалій. Неабходны быў падыход, які б засцярог ад спакуслівай лёгкасці перадачы найперш вонкавага, трэба было вучыцца ісці ўглыбіню, выяўляючы асноваўтваральныя тэндэнцыі і заканамернасці. Галоўнай для апавядальніка станавілася не тая здольнасць фіксаваць і занатоўваць, якая забяспечвалася ў межах ужо асвоенай мастацкай мадэлі, а хутчэй уласцівасць іншая, навык ненавязлівай падводкі ўспрымальніка да такіх супастаўленняў, пры якіх адзін і той матэрыял мог праяўляцца ў розным, часам нават нечаканым асвятленні.

Пашырыць выяўленчы дыяпазон папярэдняй мадэлі структуравання мастацкага свету за кошт нават сур'ёзнай яе мадыфікацыі было немагчыма. Хаця захады ў «мадэрнізацыйным» кірунку І. Навуменкам, натуральна, прадпрымаліся. Так, В. Жураўлёў звяртае ўвагу, што з нейкага часу роздум над лёсам сямнаццацігадовых на вайне, дыялог аўтара з чытачом «нярэдка выяўляецца ў формах адкрытай эмацыянальна-публіцыстычнай манеры»[2], падобны варыянт прыўнясення ў твор інтанацый ацэначных, аналітычных у чымсьці здымаў, няхай часткова, адпаведныя абмежаванні, абумоўленыя «непраяўленасцю» аўтара ў пераважна рамантычнай сістэме ўмоўнасцей.

Яшчэ адзін момант: пры пераходзе да адлюстравання пасляваенных падзей цяжэй станавілася дасягаць той вастрыні эмацыянальнага ўздзеяння, якая міжволі ўзнікала пры сунакладанні рамантычнай узнёсласці чаканняў, уласцівых юнакам 1941 года, і жорсткай прадвырашанасці лёсаў большасці з іх, добра вядомай і аўтару, і чытачам твораў. «Летуценнасць» чалавека, няхай і маладога, але ў якога за плячыма засталіся доўгія дарогі вайны, натуральнай не выглядала, пісьменнік абавязаны быў абгрунтаваць і патлумачыць такую ўзнёсласць. Між тым зрабіць гэта было даволі няпроста, нават разгорнутая сістэма аргументацыі, прыведзеная ў рамане

[1] Шыманскі, М. «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна...» // Рэспубліка.— 1998.— 30 кастр.— С. 9.

[2] Жураўлёў, В. З павагай да праўды.— С. 7.

«Летуценнік», пераканала не ўсіх. Па меншай меры, П. Дзюбайла, даследчык надзвычай чуйны да арганічнасці гучання твораў, пры ацэнцы рамана паслядоўна адзначаў: «Становіцца назойлівым называнне героя Дон-Кіхотам...»

Фактычна адыход І. Навуменкі ад «лірычнай» танальнасці быў прадвырашаны, перамену ў гучанні твораў вызначалі, як бачым, адразу некалькі прычын. І праяўляліся яны паступова, не ў адзін момант. Адпаведна і пошук рэцэптаў, згодна з якімі можна было аптымізаваць структуру новай, што замяніла б папярэднюю, мастацкай мадэлі, вёўся не адзін год.

Цікавай у гэтым сэнсе падаецца кампаноўка апавяданняў, што ўключаліся ў зборнікі прозы, выдадзеныя напрыканцы XX стагоддзя і праанансаваныя як кнігі рэпрэзентацыйныя, закліканыя стварыць цэласнае ўражанне пра творчасць пісьменніка. У дадзеных выданнях паслядоўна размежаваны апавяданні, што суаднесены з тэмай «сямнаццацігадовых» на вайне — і апавяданні іншай тэматыкі і танальнасці. Даты напісання твораў пры аналагічным падзеле пад увагу не браліся, вось, да прыкладу, у якім парадку размешчаны апавяданні ў надрукаваным у 1989 годзе зборніку «Водгулле далёкіх вёснаў»: «Жуль Верн» (1959), «Новая хата» (1959), «Па грыбы» (1965), «У Макаў, на млын» (1971), «Какава для папраўкі здароўя» (1975), «Як мы лавілі шпіёна» (1964), «Водгулле далёкіх вёснаў» (1965)...

Той факт, што творы, неаспрэчна далучаныя да тэмы «моладзь на вайне», размясціліся ў кнізе адзін за адным і вайна ў выніку паўстала ў паслядоўным, ад 1941-га да 1945 года, адлюстраванні, яшчэ можна палічыць не зусім паказальным, бо аналагічна арганізаваны і ўвесь матэрыял — героі пастаўленых у кнізе першымі апавяданняў падлеткі, і размова, суадносна, пра 1930-я гады, потым чытач бачыць падзеі ваенныя, яшчэ пазней — пасляваенных дзесяцігоддзяў...

У «Выбраных творах у двух тамах» (ч. І, 1995), дзе сабраны і апавяданні, кампаноўка зусім іншая. Тут сустракаем усё тое ж парушэнне храналагічнага парадку, назіраем тую ж разведзенасць твораў па тэматыцы і танальнасці гучання — але пры гэтым апавяданнямі пра сямнаццацігадовых на вайне зборнік распачынаецца. Без волі пісьменніка падобная перастаноўка, якая выразна сігналізуе пра падзеленасць ідэйна-тэматычнай лініі, зададзенай дэбютнымі творамі,— і матыву іншага, які яднае напісаныя на наступным этапе малафарматныя творы, адбыцца

наўрад ці магла. Праўда, той уніфікаванасці гучання, якая была характэрна для «лірычнай» плыні, у апавяданнях пазнейшых гадоў ужо няма.

Шмат у чым гэта лагічна, прыгадаем тут некалькі вядомых, заўважаных многімі даследчыкамі выказванняў Івана Якаўлевіча. Адно з іх прыведзена ў «ЛіМе» за 28 верасня 1979 года: «Мяне называлі лірыкам. Лірык дык лірык... Але я даўно ўжо аддаю перавагу аб'ектызаванай прозе, гэта значыць я валодаю здольнасцю — не толькі я, кожны празаік — угадаць, хто вы... І калі угадаеш характар,— а ў гэтым пісанне і заключаецца,— то ўжо ведаеш, як ён будзе дзейнічаць у тых ці іншых абставінах»[1]. Пазней (1986 год) пісьменнік удакладніць і канкрэтызуе: «Не трэба забываць, пісьменнік, па сутнасці, той жа самы артыст. Артыст у тым сэнсе, што я магу зразумець вас, другога чалавека, трэцяга...»[2] Зразумець — і пераўвасобіцца, каб пачаць думаць, успрымаць падзеі і рэагаваць на іх менавіта так, як гэта зрабіў бы абраны ў якасці героя апавядання персанаж.

Парадаксальна дапаўняе прыведзеныя вышэй выказванні думка, якая відавочна ўяўлялася настолькі важнай, што І. Навуменка не стамляўся раз за разам вяртацца да яе. Празаік падкрэслівае: «Я не заўсёды ведаў, калі садзіўся пісаць, як пойдзе развіццё падзей, які будзе канец. Тэмбр, рытм апавядання нараджаўся з жыццёвага матэрыялу, які я бачыў, адчуваў, калі пісаў апавяданне»[3]. Ці яшчэ: «Я лічу, што творчасць пачынаецца з музыкі. Яна гучыць у свядомасці як намёк на гармонію або драму, якія пісьменніку трэба будзе раскрыць словам. Апавяданне, напрыклад, для мяне пачынаецца з пэўнага рытму, настрою, што перадаюць дух эпохі»[4]; «патрэбна любіць, каб з гэтай любові нешта нарадзілася. Любоў нараджае музыку душы, свой настрой, рытм»[5]; «Большасць маіх апавяданняў, ды і аповесцей, пачыналіся з нейкай унутранай, душэўнай музыкі, з настраёвых пейзажных карцін. Аповесць «Развітанне ў Кавальцах» напісаў пад уражаннем ад маляўнічай даліны ракі Іслач, пасяліў

[1] Аніскові, У. Літаратура — гэта самапазнанне.— С. 6.

[2] Марціновіч, А. Час абуджае думку творцаў.— С. 5.

[3]Анкета // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).— Фонд 495.— Воп. 65а.

[4] Грыбоўская, Г. Як зямля пяе // Голас Радзімы.— 1982.— 11 лют.— С. 7.

[5] Матусевіч, А. «Пішу пра свайго сучасніка» // Беларускі ўніверсітэт.— 1984.— 20 снеж.— С. 3.

у гэтыя мясціны сваіх герояў»[1]; «Для мяне асабіста апавяданне пачынаецца з кавалка зямлі, які асабліва палюбіўся. Хочацца абавязкова людзей, каго ведаю, ці герояў, якіх выдумваю, прывязаць да гэтай мясціны»[2].

Пісьменнік, як бачым, паслядоўна падкрэслівае: тая меладычная танальнасць, якую неабходна без фальшывых нот, без зрываў правесці праз увесь твор, зыходзіць ад жыццёвага матэрыялу і нараджаецца яго спецыфікай. Адпаведна ў апавяданнях, дзе адлюстраваны розныя паводле свайго сэнсавага напаўнення калізіі, заканамерна павінна праяўляцца і тэмбравае непадабенства стылю, вобразаў, настрояў.

Дадзеная выснова ў многім падказана аналізам уласнага творчага вопыту. Бо нават у межах задумы, суаднесенай з тэматыкай «сямнаццацігадовых на вайне», зададзены ад пачатку настрой пры завяршэнні задумы ўжо стрымліваў аўтара, «падмінаючы» матэрыял, не адчуць гэтага І. Навуменка не мог. Адпаведна ён адмаўляецца ад прынцыпу ўніфікацыі гучання твораў, шукае новыя прынцыпы паяднання тэкстаў у адзіную, унутрана лагічную сістэму.

Зразумела, што павінны былі быць прадугледжаны іншыя, ужо не інтанацыйныя, прыкметы, якія б прасігналізавалі ўважліваму чытачу: апавяданні-«цаглінкі» ёсць сэнс пабачыць не толькі ў якасці самастойных твораў, але і паспрабаваць уявіць іх часткамі цэласнай пабудовы, дэталі якой арганічна дапаўняюць і ўзаемападсвечваюць адна адну.

Лагічнай выглядала б наступная лакалізацыя перакідваемых паміж творамі злучальных «масткоў»: іх узвядзенне напрошваецца ў месцах тэматычна-вобразнага сунакладання тэкстаў. Тым самым І. Навуменка ператвараў бы ў перавагі новай, ускладнёнай сістэмы тыя моманты «паўтаральнасці», «вытупвання» па адным тэматычным цаліку, за якія яго не раз папракала крытыка ў папярэднія гады.

Празаік па-ранейшаму не збіраўся пакідаць абсягі родных яму Васілевіч. Менавіта з гэтымі мясцінамі, знаёмымі кожнаму чытачу твораў І. Навуменкі, тым ці іншым чынам звязана жыццё персанажаў большасці яго апавяданняў як 1950—1960-х, гэтак і пазнейшых гадоў.

Багаты досвед літаратуразнаўцы падказаў Івану Якаўлевічу, як непазбежныя ў такой сітуацыі паўторы зрабіць элементамі

---

[1] Марук, У. Знайсці свайго героя.— С. 3.
[2] Марціновіч, А. Час абуджае думку творцаў.— 11 крас.— С. 6.

сэнсаўтваральнымі. Ён ведаў, наколькі шматаблічныя эфекты могуць дасягацца ў выпадках, калі тэрытарыяльна звужаны рэгіён пачынае праглядацца пад самымі нечаканымі ракурсамі, калі падзеі, што адбываюцца тут, паўстаюць пабачанымі вачыма розных людзей. Раманныя цыклы А. дэ Бальзака, Ж. Верна, Дж. Голсуарсі, У. Фолкнера — яскравыя прыклады менавіта такога, у мастацкім плане надзвычай перспектыўнага, шматзрэзавага прэпарыравання літаратурнай прасторы. Так што спроба дасягнення аналагічных эфектаў, але атрыманых пры паяднанні ў адзінае цэлае масіву апавяданняў, выглядае цалкам верагоднай. Ды і сам пісьменнік прызнаваўся: «Я, калі недагаворваю пра героя ў адным творы, дагаворваю пра яго ў наступным творы, але пад іншым імем»[1].

Найбольш праніклівыя даследчыкі, аналізуючы позні творы І. Навуменкі, не раз звярталі ўвагу на знарочыстасць пакідаемых аўтарам сунакладанняў і паўтораў. Так, П. Дзюбайла адзначае: «Многія дэталі побыту, партрэтаў, рысы характараў, сітуацыі часта і навязліва паўтараюцца. Незразумела: ці гэта робіцца знарок, ці гэта недагляд аўтара і рэдактара»[2]; ацэнка А. Марціновіча: «Не абышлося без паўтораў... Але, думаецца, так робіцца наўмысна. Пры жаданні аўтар мог бы лёгка ўнесці стылістычныя праўкі, нешта «падчысціць». Але пры гэтым акурат знікла б сама непасрэднасць расказу аб пражытым»[3]; ці вось яшчэ думка: «Відаць, пэўная «пераклічка» матываў, мастацкіх вобразаў і прыёмаў, вяртанне да таго, што аднойчы было ўжо выказана — свядомая пазіцыя аўтара»[4].

Многія сунакладанні ў позняй навелістыцы І. Навуменкі сапраўды цяжка аднесці да выпадковых. Так, героі апавядання «Эх, цёплае, добрае лета…» (2001), мястачковая дзятва, цэлае лета шчыруюць у лесе, занятыя прасвятленнем плантацыі дубкоў. Справа ў тым, што ў лясніцтве вырашылі заняцца аднаўленнем дуброў, якія да і пасля рэвалюцыі былі фактычна зведзеныя ў ваколіцах. Аднак закладзеныя дзялянкі шчыльна зараслі маладым бярэзнікам і асіннікам, таму падлеткам даручаюць працярэбіць лес, высекчы дрэвы ўсіх іншых, апроч дубкоў, парод.

---

[1] Анісковіч, У. Літаратура — гэта самапазнанне.— С. 6.

[2] Дзюбайла, П. Проза // М. Арочка, П. Дзюбайла, С. Лаўшук. На парозе 90-х.— Мінск, 1986.— С. 110.

[3] Марціновіч, А. Васіль Войцік як асколак вайны // Настаўніцкая газета.— 1996.— 30 ліст.— С. 4.

[4] Станкевіч, Р. Астравы памяці. Штрыхі да творчага партрэта Івана Навуменкі // Беларусь.— 1985.— № 9.— С. 25.

Ініцыяванае лясніцтвам «прасвятленне», якое чытач бачыць вачыма аднаго з удзельнікаў хлапечай брыгады, выглядае дзіўна: дзялянка настолькі зарасла бярозамі ды асінамі, што яе, каб толькі адшукаць кволыя парасткі дубоў, даводзіцца фактычна вынішчаць, зваленыя дрэвы пры гэтым сцягваюцца ў кучы і адразу спальваюцца. Да таго ж пісьменнік уводзіць у апавяданне дыялог паміж лесніком Рокашам, прызначаным адказваць за работы, і старым хутаранцам Бозькам, які, калі пабачыў на свае вочы, што адбываецца на дзялянцы, выказаў сумненне, што дубкі наогул змогуць вырасці на гэтым месцы: «Вы вось стараецеся, а лесу тут не будзе. Не такая зямля. Дуб сам сабе зямлю выбірае і нікога да сябе не пускае. Вы бачылі дубовыя зараснікі? Кустоўе там толькі дубовае».

Падлеткі, якім не па душы прапанаваная ім праца, заціхаюць, каб пачуць, што адкажа ляснік — а той нават слухаць чужых аргументаў не хоча: «Многа ты ведаеш. Дуб усюды расце». І Бозька, якому як хутараніну канфлікт з лесніком ніяк не патрэбны, сціхае…

Работа, на момант перапыненая, працягваецца, на «прарэджванні» хлопцы адшчыруюць усё лета, але пра вынік сваіх намаганняў ні яны, ні чытач, які азнаёміцца толькі з апавяданнем «Эх, цёплае, добрае лета…», ведаць не будуць. У пэўным сэнсе гэта лагічна: героі дадзенага твора, хлапчукі даваенных гадоў, пра тое, які лес паўстане на дзялянцы праз дваццаць, тым больш праз трыццаць гадоў, ведаць не могуць і не павінны.

Ці вырас дубовы маладняк, дзеля якога і прарэджвалася дзялянка, мы дазнаемся з іншага апавядання, «Грыбная зямля». Яно напісана Навуменкам у 1979 годзе, у ім адзін з хлапчукоў, які калісьці з сябрамі шчыраваў на дзялянцы з сякерай, ужо дарослым вярнуўся ў мястэчка, каб правесці дарогамі свайго маленства сына. Завітаўшы на месца, дзе павінна была вырасці дуброва, герой апавядання здзіўлена запыняецца: «...няма дубкоў. Замест іх на ўсім бачным прасторы разложыстыя асіны. Галаву трэба задраць, каб убачыць верх такога высокага дрэва… І на ўсёй плошчы толькі два ці тры чэзлыя дубкі».

Разгледзім яшчэ адну лінію, пункцірам праведзеную праз усю навелістыку І. Навуменкі. Распачынаецца яна ў апавяданні «За капусту» (1981), у гэтым творы мы сустракаем Антоніху, асобу, да якой цяжка аднесціся з сімпатыяй. Уявіць толькі: у першы дзень канікул, чаго толькі хлопцу не наабяцаўшы, языкатая кабета на ўсе тры летнія месяцы падахвоціла суседскага хлапчука пасвіць

на выгане яе Пантэру — ненажэрную, няўрымслівую, схільную да шкоды рабую свінню. А потым замест платы ў «колькі хочаш капусты», спаслаўшыся на тое, што «качаны выраслі як хвігі», прапанавала ўсяго толькі насыпаць семачак у кішэню.

Сітуацыю мы бачым вачыма падманутага хлапчука, спачуваем яму, гатовыя, услед за ўсёй вуліцай, бязлітасна асудзіць бессаромную Антоніху...

У апавяданні «Выбар» (1988) чытач зноў сустракаецца з ужо знаёмымі персанажамі. Час дзеяння іншы, гэта ваенныя гады, і сітуацыя складваецца куды больш сур'ёзная: жыхары мястэчка перахоўваюць у сваіх дамах яўрэя-шаўца. У выпадку, калі акупанты раскрыюць месца схованкі, будуць расстраляны не толькі яўрэй, але і тыя, хто даў яму прытулак.

«Голубу адразу пашанцавала. Развітаўшыся з Багамольцам, ён рушыў у мястэчка, да гаспадара сваёй першай кватэры Арсеня Булыбы. Спадзяваўся, што Арсень з хаты не выганіць. Трохі пабойваўся ягонай жонкі, кабеты неспакойнай, залішне языкатай, якая перасварылася з усімі суседкамі».

Не пазнаць «языкатую кабеціну» нельга, тым больш што ў тэксце ёсць і ўдакладненні, якія цалкам супадаюць з дэталямі, прыведзенымі ў апавяданні «За капусту». Муж Антоніхі працуе кантралёрам у клубе — пасаду кантралёра займае і Арсень Булыба, муж Куліны, па-вулічнаму Арсеніхі. Мае жанчына, як і ў апавяданні «За капусту», трох сыноў, пабачым мы нават хлапчука, калісьці так бессаромна падманутага суседкай: былы школьнік (паводле słоваў Арсеніхі, сусед «добра вучыўся, чытаў многа кніжак і быў такі разумны, што за год канчаў па два класы») падрос, ён ужо юнак «у някідкім, перашытым з чорнага чыгуначнага шыняля палітончыку», і вось яго Арсеніха і запрашае ў хату, каб даведацца ад хлопца, што ж адбываецца там, пад Масквой...

Узімку 1941-га толькі добрыя навіны з фронту маглі падняць настрой Голубу, таму самому яўрэю, якога прыхавала сям'я Арсеня Булыбы і які з-за перагародкі выдатна чуе ўсе размовы і так даведваецца, што «немцаў пад Масквой спынілі, затым пагналі назад...». Куліна, як бачым, нават пра гэта паклапацілася — наколькі відазмяняецца, насычаецца глыбінёй, ускладняецца вобраз, які склаўся ў адасобленым, не ўведзеным у кантэкст усёй навелістыкі І. Навуменкі апавяданні «За капусту»!

Дарэчы, языкатая кабеціна, якая ў апавяданні «Сямігодка для дарослых» на ўсю вуліцу ганіць мужыка, што выпраўляецца на

вучобу — гэта зноў жа дадатак у пункцір, той жа вобраз «Антоніхі — Арсеніхі»; Макрына Шукайла (апавяданне «Эх, цёплае, добрае лета...», 2000), якая «ўсчыняе на ўсю вуліцу несусветны гвалт»,— тыя самыя біяграфічныя падказкі-супадзенні, не заўважыць якія немагчыма... Суадносна новыя фарбы набывае і вобраз Сашы Шукайлы, якую чуткі пра нібыта згвалтаванне яе Мігуном вымусілі з’ехаць з мястэчка, у апавяданні «Выбар» мы бачым, што дзяўчына вярнулася, яна таксама ведае пра схованку Голуба і пра тое, што чакае сям’ю, калі пра яўрэя дазнаюцца немцы.

Мае нечаканы працяг і яшчэ адна лінія. Герой апавядання «Дрэвы над вадою» (1992) перакананы, што ведае жыццё мястэчка, якое пакінуў дзесяцігоддзі назад. У гэты раз ён не планаваў заязджаць на радзіму, проста падпарадкаваўся імпульсу і выйшаў на знаёмы перон з транзітнага цягніка. Магчыма, таму ўсе сустрэчы, размовы атрымліваюцца нейкімі бязладнымі, нібы абарванымі. Кавальчук павярхоўна праскоквае над вось-вось гатовымі перад ім расчыніцца таямніцамі.

Да прыкладу, ён бачыць перадвыбарную лістоўку-плакат Шынкарэнкі, свайго знаёмага, пытаецца ў Мікіценкі, жыхара мястэчка, ці ёсць у кандыдата шанцы на абранне,— і чуе ў адказ, што выбары прайшлі, выніку ніякага яны не прынеслі. Кавальчук выказвае ўпэўненасць: Шынкарэнку народ не падтрымаў з-за бацькі, «звычайнага заатэхніка, працаваў у той жа, што і Мікіценка, канторы «Заготжывёла», але залішне моцна прыліп да немцаў».

Вялікіх бед Шынкарэнка-старэйшы не нарабіў, ён, на думку маладых падпольшчыкаў, «празмерна віжаваў» за сумленнымі людзьмі. Каб не пакінуць такое злачынства беспакараным, юныя барацьбіты вырашылі забіць здрадніка — але не дазволіў камісар партызанскай брыгады, брат Шынкарэнкі: «Дурны гэты мой брат... Але вы, хлопцы, яго не чапайце. Мы з ім, падлюгай, самі расправімся...»

Не расправіліся... Пасля вайны з галавы заатэхніка ніводзін волас не ўпаў, Кавальчук і праз пяцьдзясят гадоў бачыць у гэтым вынік заступніцтва за брата партызанскага камісара.

Аднак у апавяданні «Выбар» акрэслена перспектыва іншага прачытання гэтай жа сітуацыі. Яўрэй Голуб не можа заседжвацца ні ў адной са схованак, ён вымушаны іх мяняць — і нарэшце патрапляе ў дом да Пііпа Жыгуна (у адным з варыянтаў твора — Піліпа Краснея), загадчыка канторы «Заготжывёла», чалавека, які нібыта звышаддана служыць немцам.

У Голуба тым часам свая думка: «Хітры чалавек. У хату да яго прыходзяць паліцэйскія, а часам і нямецкія гаспадарнікі ў жоўтых без пагонаў шынялях. Прыцемкам, калі не цікуе чужое вока, завітваюць да Жыгуна іншыя людзі». З паводзінаў начных гасцей зразумела: гаспадар «знаецца з партызанамі ці з людзьмі, якія шкодзяць немцам тут, у мястэчку...».

Такім чынам, у канторы, дзе заатэхнікам Шынкарэнка, дзейнічаюць дзве самастойныя групы, Кавальчук у складзе адной з іх, камсамольскай. Ён шчыра перакананы, што аперацыі, у час якіх да партызан патрапляе ці не ўсё, што нарабавана фашыстамі,— вынік іх, камсамольцаў, актыўнасці.

Хаця куды больш верагодна, што дадзеныя аперацыі агаворваюцца найперш у час спатканняў у доме Жыгуна, і патрабаванне не чапаць заатэхніка звязана з гэтым, з работай узначальваемай Жыгуном групы...

А вось у тым, што самога Жыгуна чакае надзвычай няпросты лёс, падказвае чытачу яшчэ адно апавяданне І. Навуменкі, «Край пясчаны, край балотны...» (1991). У дадзеным творы перададзена атмасфера, што панавала ў мястэчку ў першыя пасляваенныя гады. Здымаюцца з пасады, часам наагул бясследна знікаюць пасля арышту тыя, хто перажыў акупацыю. Дробязная зачэпка ў біяграфіі — і вось ужо нехта палічыў, што Бандарэнка, рэдактар раённай газеты, даверу не заслугоўвае. Бандарэнку пераводзяць загадваць сельгасаддзелам выканкама (дзіўная ўсё ж логіка!), а на яго месца прызначаюць Бізуна, які быў загадчыкам сельпо.

Неўзабаве Бізун, рэдактар з якога, на думку супрацоўнікаў,— ніякі, асвойваецца на пасадзе. Ён цалкам ёю задаволены і любіць павыхваляцца: «Як добра, што я паехаў у эвакуацыю. Добра, што не паслухаў старшыні райспажыўсаюза, які сам нікуды... не паехаў. Дзе цяпер той старшыня?..»

Супрацоўнікі раёнкі адказ ведаюць — даведваецца і чытач: «акупацыю не даравалі нікому». У тым ліку і быламу старшыні райспажыўсаюза (нават пры ўмове, што цяпер на гэтай пасадзе — Хаім Хаскін, несусветны, на думку героя твора, карэспандэнта Лявоніка, круцель і зладзюга!), і, безумоўна, падпольшчыкам з «Заготжывёлы»...

«Мушу прызнацца, што чым далей ідзе час, тым большая складанасць, драматургія адкрываецца мне ў падзеях вайны»[1].

[1] Навуменка, І. Аблічча галоўнага героя // Звязда.— 1980.— 31 ліп.— С. 4.

Гэтае прызнанне І. Навуменкі прагучала ў 1980 годзе, і падаецца надзвычай сімптаматычным, што яно суаднесена менавіта з гадамі, калі, як можна меркаваць, дадаваліся завяршальныя штрыхі ў задуму знітавання навелістыкі празаіка ў складзеную з цалкам самастойных тэкстаў адзіную, паяднаную логікай вырашэння сукупнай задачы, сістэму.

Безумоўна, абрысы падобнай ускладнёнасці праяўляліся і раней, «масткі» ўсвядомленага дапісвання твораў, пры якім за кошт «падсветкі» праз іншае апавяданне відазмянялася разуменне калісьці ўжо адлюстраваных пісьменнікам вобразаў і падзей, І. Навуменка пачынае перакідаць ад пачатку 1970-х гадоў. На пераломе 1970—1980-х ідэя набывае больш строгія, выразна ўяўляемыя мастаком абрысы. Прыгадаем, у 1979 быў завершаны раман «Смутак белых начэй» — поліфанічны, агульную мелодыку ў якім забяспечвае сунакладанне некалькіх інтанацыйных ліній, якія даносяцца праз галасы розных апавядальнікаў. За час работы над такім творам І. Навуменка не толькі засвоіў навыкі мадэлявання падобных ускладнёных літаратурных канструкцый — ён адчуў, спазнаў сутнасць тых магчымасцей, што разгортваюцца перад празаікам у шматмернай мастацкай прасторы. Атрыманы вопыт не прапаў дарэмна.

Новыя факты, новая глыбіня ў разуменні ваенных, і не толькі ваенных падзей, што спазнаваліся грамадствам на парозе 1980-х, выяўлялі прапісанай празмерна кантрасна, без належнай інтэрпрэтацыйнай гнуткасці пададзеную ў ранейшых творах панараму жыцця. Пры падрыхтоўцы сваіх апавяданняў да перавыдання ў шасцітомным Зборы твораў (такая работа пачалася ў канцы 1970-х) Навуменка гэта заўважаў — і яго, зразумела, павінна была зацікавіць тая перспектыва адкарэктаваць гучанне асобных эпізодаў за кошт уключэння ў тэксты больш позняга перыяду фрагментаў, спалучаных з сюжэтамі папярэднімі, якую забяспечыла б паяднанасць твораў у адзін суцэльны масіў.

Асваенне новых прынцыпаў выбудовы мастацкага свету адбывалася, натуральна, найперш у навелістыцы, менавіта тут павінны былі праявіцца прыкметы абноўленага гучання твораў. І. Навуменка неаднойчы гаварыў: «Апавяданне ж... Я люблю яго яшчэ і таму, што яно можа выявіцца нібыта сціснутым праспектам будучай больш разгорнутай рэчы, яе першай апрабацыяй. На аповесць, раман трэба аддаць месяцы і гады, але думку, якая пазней будзе пакладзена ў іх аснову, можна выказаць і ў апавяданні. Калі думка прадуктыўная,

яна будзе абрастаць новымі падрабязнасцямі, разгорнецца ўглыб і ўшыр — быццам кінутае ў зямлю зерне, якое дае пачатак новаму жыццю. Апавяданне — і стартавая пляцоўка для больш развітай эпічнай формы: аповесці, рамана,— і самастойны твор»[1].

У такім ці аналагічным сэнсе, паўторым, пісьменнік выказваўся неаднойчы. Адсюль лагічна вынікае, што паслядоўны аналіз праяўленых у яго навелістыцы тэндэнцый павінен падказваць, у якім кірунку разготваецца творчы пошук празаіка, якая тэма ў найбліжэйшым будучым стане аб'ектам павышанай яго ўвагі. Аднак у поўнай меры, рэльефна і выразна, сувязі, што закладаліся ў сістэму апавяданняў, маглі выявіцца толькі пасля таго, як скláліся б у суцэльную мазаіку дбайна падрыхтаваныя мастаком фрагменты маштабнага літаратурнага палатна. Нават адсутнасць аднаго пазла замінае лёгка і без скажэнняў успрыняць логіку раз'яднанай на часткі карціны — між тым у дадзеным выпадку у поле зроку даследчыкаў часам не патраплялі адразу па некалькі кавалкаў задуманай І. Навуменкам панарамы.

Так склалася выдавецкая сітуацыя на мяжы XX і XXI стст. Занадта часта ў той перыяд творы пісьменніка альбо выходзілі ў зборніках малатыражных (і ці не адразу кнігі станавіліся бібліяграфічнай рэдкасцю), альбо наагул з'яўляліся толькі ў выглядзе газетнай ці часопіснай публікацыі.

Чытач, які трымае ў руках другі том шматтомнага Збору твораў І. Навуменкі — у пэўным сэнсе першапраходзец. Вось так, у цэласным выглядзе, спадчыну пісьменніка зусім нядаўна не мелі магчымасці пабачыць нават спецыялісты, ім даводзілася даваць ацэнку на падставе аналізу толькі той часткі апавяданняў, якія яны здолелі адшукаць у моры друкаваных выданняў. Адпаведна губляліся ўнутраныя сувязі паміж творамі, «масткі» тых сунакладанняў, якія прадугледжваў празаік.

Між тым колькасць пункціраў, праведзеных праз тэксты адразу некалькіх апавяданняў, увесь час павялічвалася. Да прыкладу, калі з'явілася апавяданне «Сельсаветчыкі» (1996), новыя фарбы імгненна дадаліся ў вобраз гераіні апавядання «Неспакой» (1982) Ані Дуброўскай. Да таго набору звестак, якія ўжо былі данесены да чытача, прыплюсавалася і паведамленне пра гісторыю, якая, уласна, прадвырашыла няпросты лёс і, у канчатковым выніку, адзіноту гэтай прыгожай жанчыны. Безумоўна, Ані Дуброўскай фармальна

[1] Цыт. паводле: Синенко, Г. Из реки по имени факт.— С. 164.

ў «Сельсаветчыках» няма, дзяўчыну, у якую закахаўся малады старшыня сельсавета, тут клічуць Анэта Багунова — але яна жонка адзінага на ўсё мястэчка фельчара, ужо гэтай ідэнтыфікацыйнай прыкметы дастаткова.

Нам становіцца вядома, што вяселле, якое вось-вось павінна было адбыцца, паколькі Анэта развялася з мужам і гэтым зняла перашкоду на шляху да афіцыйнага стварэння новай сям'і, рэальнасцю так і не стане. Прычына банальная для тых часоў: зайздрасць, данос, арышт...

Наколькі па-новаму ў такім асвятленні пачынае выглядаць факт, пра які чытачу калісьці паведамлялася ў апавяданні «Неспакой»: жанчына ў гады вайны пераступіла праз крыўды, прыняла да сябе палоннага (фактычна вызваліўшы яго!), як мінімум не замінала яму далучыцца да падпольнай групы, што дзейнічала ў мястэчку...

А вось акрэсленая ўжо ў «Сельсаветчыках» лінія атрымала нечаканую «падсветку» пасля з'яўлення апавядання І. Навуменкі «А немцы ў Парыжы…» (2001). Адразу пасля арышту старшыні сельсавета («Сельсаветчыкі») ранейшыя актывісты паспяшаліся адмовіцца ад пасад і разбегчыся, чытачу паведамляецца, што намеснік старшыні Весялоўскі перабраўся тады ў школу.

У творы «А немцы ў Парыжы…» лінія працягваецца, і пэўныя яе моманты вымушаюць задумацца, што там, куды патрапіў данос на сельсаветчыкаў, яго зусім беспадстаўным палічыць не павінны былі. І. Навуменка акцэнтуе нашу ўвагу: у школе менавіта настаўнік рускай мовы і літаратуры Варановіч (але паводле ідэнтыфікацыйных паказнікаў супадзенні з Весялоўскім тут поўныя) займаецца арганізацыяй вечара, прысвечанага 30-годдзю творчай дзейнасці Якуба Коласа, гэта падаецца дзіўным нават вучням. Між тым як уважлівы чытач абавязкова ўзгадае: у аповесці «Апошняя восень» настаўнік усё ж выявіўся праз нейкі час арыштаваным…

У апавяданні «Пракляцце» (2000) сустракаем вобразы, знаёмыя па шэрагу іншых апавяданняў І. Навуменкі, тут дапісваецца, да прыкладу, акрэсленая ў «Мульменкавым садзе» (1979) лінія ўзаемаадносін «тонкай, кволай, з далікатным тварам» тэлеграфісткі Зіны і «перацягнутага ў рамяні» інструктара аўташколы Адольфа Плашчынскага. Так, многае пра іх лёс мы ведалі і раней, нам, напрыклад, паведамлялася, што пасля вайны Плашчынскі да жонкі

і дзяцей не вярнуўся — але вось пра тое, што быламу інструктару давялося плакаць на пахаванні сына, мы даведваемся толькі цяпер.

Падобных пункціраў, што ідуць праз два, тры, а то і праз некалькі апавяданняў, шмат. Такіх сунакладанняў проста не магло не быць у масіве твораў, пабудаваных на звязаным з жыццём даволі невялікага мястэчка матэрыяле. Аднак нельга не заўважыць: найчасцей назіраецца не чыста механічнае «дацягванне» ліній, кожны дадатак удакладняе, у чымсьці нават відазмяняе гучанне папярэдніх эпізодаў. Адбываецца карэкціроўка напісаных дзесяцігоддзі назад апавяданняў.

Тут бачыцца паказальным такі момант: у 2001 годзе надрукаваны апавяданні І. Навуменкі «А немцы ў Парыжы…» і «Эх, цёплае, добрае лета...». Абодва напачатку з’явіліся ў часопісах («А немцы ў Парыжы…» у «Полымі», а «Эх, цёплае, добрае лета...» у «Беларускай думцы»), а потым, у 2002, былі ўлучаны ў зборнік «Гуканне над верасамі». Пры перавыданні творы сур’ёзна перапрацоўваліся.

Дык вось, з апавядання «А немцы ў Парыжы…» выявілася адкінутай цэлая сюжэтная лінія. Са змешчанага ў зборніку тэксту аўтар прыбраў усе згадкі пра Маню Бобрык і пра закаханасць у яе сямікласніка Васіля, галоўнага героя аповеду.

Дадзеная лінія перанесена ў апавяданне «Эх, цёплае, добрае лета...», дзе размова вядзецца пра пяцікласніка (нават не пяцікласніка, бо апісваюцца летнія канікулы, закончыліся ўсяго чатыры гады навучання) Васю. Прыгледзімся: «Ужо быў выпускны вечар у дзявятым класе. Дзясятага няма — школа яшчэ расце. Нядаўна вырашылі зрабіць дзясяты клас. Бо ёсць школы першай ступені — сямігодка, і другой ступені — дзевяцігодка. Васю, як пяцікласніка, пусцілі на выпускны вечар».

Сляды пераносу — відавочныя, удакладненне «як сямікласніка» ў падобным кантэксце выглядала б куды больш натуральным. Ды і ўся лінія падлеткавай закаханасці арганічна ўспрымалася ў гісторыі пра старшакласнікаў, яе не было асаблівага сэнсу адкідаць — але толькі ў выпадку, калі б пісьменнік аднёсся да абодвух апавяданняў як да тэкстаў аўтаномных, не паяднаных унутранымі сістэмнымі сувязямі.

Адразу кідаецца ў вочы вось яшчэ што: у апавяданнях, і ў «Эх, цёплым, добрым леце...», і ў «Немцах у Парыжы…», сустракаецца нямала сітуацый, вобразаў, апісанняў, ужо знаёмых паводле аповесці «Апошняя восень» (1975). Той самай, пра якую пісьменнік гаварыў,

што «яна — нібы вяртанне назад, «перадгісторыя» маіх ранейшых апавяданняў»[1].

Пры гэтым у апавяданнях сітуацыі, перанесеныя з аповесці, нярэдка набываюць іншую афарбоўку, тлумачацца інакш. Ды і выснова, якой завяршаецца «А немцы ў Парыжы…», мае занадта шырокае, універсалізаванае гучанне: «Няўжо Гітлер на гэтым спыніцца? Калі ён нападзе на СССР, які тады быў сэнс дзесяць гадоў вучыць гэтых юнакоў і дзяўчат, дамагацца, каб яны ведалі мову, літаратуру, асновы фізікі, хіміі, засвоілі пачаткі дакладных навук, геалогіі і астраноміі? Сэнс быў. Як паказаў час, з хлопцаў, што да пачатку вайны скончылі па дзесяць, дзевяць, нават восем класаў, за месяц-два рабілі малодшых лейтэнантаў, якія вялі ў бой узводы, а пазней роты і нават батальёны, станавіліся вельмі маладымі капітанамі і маёрамі. Тое лета, калі немцы фатаграфаваліся каля Эйфелевай вежы, было ў мястэчку, асабліва сярод старэйшых школьнікаў, трывожным і пагрозлівым. Інтуіцыяй маладосць адчувала, што яе выпрабаванні толькі пачынаюцца. Закон жыцця аказаўся суровым: ні палюбіцца, ні пажаніцца не паспелі маладыя людзі, якія перад вайной заканчвалі сярэднія школы, а ўжо мусілі апранаць шынялі, ісці ў бой, ліць кроў, абараняючы родную зямлю».

Звернем увагу: у часопісным варыянце дадаваліся яшчэ два абзацы, у якіх фіксаваліся моманты прыватныя, суаднесеныя з непасрэдным завяршэннем сюжэтнага дзеяння. Пры такім спалучэнні кантраснае несупадзенне агульнай, няспешна-фіксуючай інтанацыі твора і высокай патэтыкі яго завяршальных акордаў не кідалася ў вочы.

Навуменка адкідае з другога варыянта канцоўкі малаістотнае і тым дасягае большай глыбіні дысанансу, яму важна, каб узнік эфект рытмічнага, настраёвага выбуху, каб успрымальнік адчуў гэты выбух і не прамінуў радкоў, дзе акумулявана выснова, падрыхтаваная не столькі ходам аргументацыі ў асобна ўзятым, даволі невялікім паводле аб'ёме апавяданні — логікай выбудовы многіх і многіх твораў пісьменніка.

Аповесць «Апошняя восень» завяршалася трывожна: «Вайна! — крычыць брыгадзір Васілю.— Гітлер напаў. Трактарыстаў трэба сабраць...» Даследчыкамі адзначана: вытокі паводзінаў асобы І. Навуменка паслядоўна шукае ў гадах дзяцінства і юнацтва,

---

[1] Старых, М. Вяртанне ў маладосць // Чырвоная змена.— 1975.— 16 лют.— С. 3.

у атмасферы, у якой выхоўваўся чалавек. Ацэнка аповесці «Апошняя восень» як «перадгісторыі», як вяртання да вытокаў таго, што знайшло ўвасабленне ў напісаных да 1975 года апавяданнях, сігналізуе: у чымсьці пошукавы алгарытм усведамляўся пісьменнікам замкнутым, ад разгорнутай фіксацыі вонкавых праяў, ужо з вышыні заўважанага ў апавяданнях «першай хвалі», І. Навуменка імкнуўся перайсці да аналізу юнацтва як пары выспявання тых характарыстык, якія выразна праявяцца ў больш сталыя гады. У «Апошняй восені» асэнсоўвалася перадгісторыя ўчынкаў, здзейсненых «сямнаццацігадовымі» на вайне, у ваенны перыяд.

І вось той жа матэрыял паўторна праглядаецца ў апавяданнях «Эх, цёплае, добрае лета...» і «А немцы ў Парыжы...». Акцэнты пры гэтым расстаўляюцца інакш, ужо з вышыні адлюстраванага ў апавяданнях 1970—2000-х гадоў матэрыялу. Фактычна выбудоўвалася завяршальная прыступка на шляху ўзыходжання да высновы-падсумавання, да адказу на пытанне, роздум над якім матэрыялізаваны ў маштабным цыкле апавяданняў, аповесцей, раманаў.

«Хацелася б паказаць савецкага чалавека, які вырас у асаблівым клімаце. Вось пытанне — хто мы? Што ў нас моцнае ў параўнанні, скажам, з папярэднімі пакаленнямі, хоць бы з нашымі дзядамі? А можа, дзесьці ў нечым ім саступаем, слабакі ў параўнанні з імі? Гэта трэба даследаваць»[1],— прагучала з вуснаў І. Навуменкі ў 1979 годзе. Прагучала як праграма, як устаноўка на будучае.

Не, ацэнка «Сэнс быў!» даецца не ад імя Васіля, які толькі ўступае ў жыццё. Аўтар, дарэчы, так паслядоўна і ўхіляецца ад удакладнення прозвішча персанажа, у «Эх, цёплым, добрым леце...» яго герой Вася, у «А немцы ў Парыжы…» — Васіль. Усяляк падкрэслівае І. Навуменка, што не дадзены канкрэтны падлетак, юнак адчувае бязлітаснасць павеваў навальніцы, якая пагрозліва набліжаецца (Васіль, наадварот, няўважлівы настолькі, што размовы пра перспектывы ўзяцця Уэскі ў Іспаніі байцамі-рэспубліканцамі ўспрымае як спрэчкі пра зусім процілеглае, ці возьме Уэску генерал Франка),— такі настрой характэрны для ўсяго пакалення...

Ацэнка выстаўляецца былымі юнакамі, мноствам людзей, якіх пісьменнік правёў ваеннымі дарогамі, да думак якіх ён прыслухоўваўся, адлюстроўваючы падзеі пасляваеннага дзесяцігоддзя; І. Навуменка глыбока асэнсаваў незадаволенасць гэтых людзей атмасферай

---

[1] Аніскові́ч, У. Літаратура — гэта самапазнанне.— С. 6.

1970-х, ён перадаў іх разгубленасць у перыяд карэннага перагляду грамадскіх каштоўнасцей, праўдзіва ўзнавіў перажыванні сваіх аднагодкаў, вымушаных на схіле жыцця задумвацца пра сэнс здзейсненага і няздзейсненага. І вось нарэшце — вяртанне да вытокаў, у школьныя калідоры, каб з вышыні пражытага і перанесенага прагучала ўзважаная ацэнка менавіта юнацкіх гадоў.

Так, настрой падвядзення вынікаў, падсумавання наагул характэрны для напісаных на падыходзе да 2000-х гадоў твораў І. Навуменкі. Невыпадкова ў адной з даследчых работ пры аналізе аповесці «Вір» пазначана: «Гэта своеасаблівая справаздача пісьменніка перад сабой і перад грамадствам»[1].

Аднак нельга не заўважыць: у навелістыцы прыступкамі да завяршальнай высновы станавіліся для Навуменкі паслядоўныя этапы яго пісьменніцкага пошуку, увасабляемага ў жанры апавядання. Такая паэтапнасць (яна, дарэчы, адна з прыкмет планамернасці ўзыходжання) выяўлена выразна: чатыры-пяць гадоў — і тэма ці настрой, што пераважалі ў творах, відазмяняюцца, празаік пераходзіць да асэнсавання сумежнага, унутранай логікай паяднанага з ужо прааналізаванымі пластамі, матэрыялу.

Апавяданні «Грыбная зямля» (1979), «Мульменкаў сад» (1979), «Байдачнікі» (1981), «Загародка на ваколіцу» (1981), «Срэбныя імхі» (1981)... Акрэсленую ў іх танальнасць паступова змяняе іншая, увасабляемая ў такіх творах, як «Выбар» (1981), «Помні свой лес» (1982), «Старавіленскі тракт» (1984), «Якая доўгая вайна» (1986)...

Потым рэльефна вылучаецца паласа невялікіх твораў-гумарэсак («Апрасцімся, сябры!..», «Выгнанне Вадалея», «Гусі-лебедзі». «Паляванне на дзіка» (усе 1988), «Не хачу быць каралём», «Форум у Дзеркачах» (абодва 1989), «Доктар навук на хутары» (1990), літаратуразнаўчая ацэнка якім фактычна не дадзена, а між тым, як слушна заўважыў у прадмове да зборніка «Апрасцімся, сябры!..» А. Лойка: «Іван Навуменка — раманіст, акадэмік, аўтар не вельмі вясёлых аповесцей,— і разам з тым ён і прыроджаны гумарыст, і нават крыху сатырык». І няхай гумар і сатыра — гэта не асноўнае

[1] Курыленка, Г. Спавядальная рэфлексія ў прозе І. Навуменкі // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст: матэрыялы навук. канф.— Мінск, 2010.— С. 264.

ў саліднай і малой прозе пісьменніка, але ж, працягвае даследчык, «і без гэтага ён — не ён!»[1]

Нельга не заўважыць унутранай знітаванасці і такіх твораў, як «Гасцініца над Прыпяццю» (1990), «Пенсіянеры мясцовага значэння» (1991), «Дрэвы над вадою» (1992), пабудаваных паводле прынцыпова аднолькавай кампазіцыйнай схемы: чалавек сталага веку наведвае мясціны, дзе прайшла маладосць, нешта прыгадвае, многае пераасэнсоўвае.

А побач — апавяданні «Пыл» (1990), «Край пясчаны, балотны» (1991), «Авёс для рэдактара» (1994), «Нашы каровы» (1995), «На сотай вярсце» (1996), у якіх пададзены рэаліі першых пасляваенных гадоў...

Як бачым, паслядоўнасць праходжання этапаў-прыступак вызначаецца не храналогіяй, не каляндарнымі тэрмінамі. Логіка развіцця думкі тут іншая. Каб зразумець яе, неабходна ўскрываць глыбінныя слаі арганізацыі тэксту, настойліва шукаць падказкі, якія пакінуў чытачам І. Навуменка.

Дзейснасць такога рэцэпту пацвярджае даволі даўняя ўжо гісторыя. У 1996 годзе выйшла калектыўная манаграфія «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі», аўтарам аднаго са змешчаных тут раздзелаў стала Т. Грамадчанка. Шмат месца ў яе рабоце адведзена аналізу крытычнага артыкула С. Запрудскага «Анатомія няўдачы», што быў надрукаваны ў зборніку «Вобраз — 90». І паколькі пісьменніцкай няўдачай С. Запрудскі абвяшчаў раман І. Навуменкі «Асеннія мелодыі», спроба разабрацца, наколькі абгрунтаванымі выявіліся агучаныя ў разгромнай рэцэнзіі заўвагі, вымусіла Т. Грамадчанка літаральна па сказах разабраць гэты і іншыя творы празаіка.

Пры падобным, набліжаным да тэксталагічнага, вывучэнні адразу праявілася мінімум падвоеная вектарнасць намаганняў пісьменніка: так, вонкава ў «Асенніх мелодыях» пераважае фіксацыя плыні побытавага і надзённага, суцэльная чарада падзей падхоплівае і нясе персанажаў; але пры гэтым з той жа, калі не з большай настойлівасцю І. Навуменка намагаецца за вонкавым пабачыць прыхаванае, яму важна зразумець, у які час адбылася трансфармацыя, чаму і калі, як піша даследчыца, «узнёслы, шчыры

[1] Лойка, А. Прадмова // І. Навуменка. Апрасцімся, сябры!..— Мінск: Выд. ЦК КПБ, 1990.— С. 3.

і светлы, рамантычна настроены юнак ператварыўся ў бяскрылага, стомленага жыццём, малацікавага чалавека?»[1]

Яшчэ адно назіранне, В. Каваленка, відавочна, не адносіць яго да выдадзеных пасля 1995 года апавяданняў і аповесцей: «чытаючы творы пісьменніка адзін за адным, міжволі пераконваешся, што ў яго герояў у наступным жыцці, пасля школьнага юнацтва і баявой маладосці, зусім не было ніякага значнага жыцця, пра што можна было б успомніць з хваляваннем і лірычным смуткам. Быццам усе далейшыя гады аказаліся нецікавымі, бессэнсоўнымі і пустымі...»[2].

Дадзеныя выказванні нібы працягваюць лінію, акрэсленую ў прызнаннях самога Івана Якаўлевіча. Прыгадаем яго адказы на прапанаваную А. Адамовічам анкету, гэта — 1977 год: «Калі можна паставіць пытанне, што новага ўнёс я ў беларускую навелістыку, то, на маю думку, адказ будзе такі — паказ школьнага пакалення. Так, у жыццё, у адрозненне ад нашых бацькоў, яны прыходзілі праз школу, наша дзяцінства, наша юнацтва — школа. І на вайну мы пайшлі са школы, правяралі на ёй жыццёвасць ідэй, якія ўзялі з кніг»[3]. І ў працяг думкі: «На патрыярхальных дзядоў, якія і цяпер не зніклі са старонак кніг, я гляджу трохі іранічна. Чалавек, якому сёння шэсцьдзясят гадоў, нарадзіўся ў 1917 годзе. Ён савецкі дзед. Хадзіў у школу, быў у піянерах, камсамольцах. Ад таго, колькі класаў скончыў, як вучыўся, залежала многае ў яго жыцці. У шафёры, стрэлачнікі ішлі, скончыўшы пяць — сем класаў, а хто адолеў дзесяцігодку, рабіліся сама мала ўчотчыкамі, тэхнікамі, настаўнікамі»[4].

Выразна проціпастаўляюцца кніжнае, атрыманае ў школе — і патрыярхальнае, праз сям'ю, праз побыт, сялянскую працу выхаванне. Безаглядны акцэнт на культывацыі пастулатаў «педагагічнага», пададзенага ў падручніках і прамаўляемага на пазакласных мерапрыемствах, непазбежна паслабляў дзейснасць спрадвечных механізмаў і прынцыпаў фармавання асобы. Заўважым, як у апошні час змяняецца ацэнка тых твораў І. Навуменкі, дзе перададзена рэфлексія героя, які ў сталым узросце прыпамінае падзеі мінулага.

[1] Грамадчанка Т. Крытыка і літаратурны працэс // Т. Грамадчанка, А. Гурская, Л. Гарэлік. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі.— Мінск, 1996.— С. 67.

[2] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль...— С. 8.

[3] Анкета.— Фонд 495.— Воп. 65а.

[4] Тамсама.

Так, у зборніку «Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст» (2010) адразу ў двух матэрыялах, А. Данілава і І. Саверчанкі, прааналізавана апавяданне «Срэбныя мхі» (1981). Абодва даследчыкі пабачылі адзін і той, «правідчы» аспект твора, эмацыянальна гаворыць пра гэта, напрыклад, Данілаў: паводле ягоных словаў, Навуменка прадчуваў катастрафічныя перамены, але для большасці сучаснікаў прагноз застаўся непачутым, глыбіню прадбачання мы зразумелі, «калі з таго, пра што нас папярэджваў яшчэ ў пачатку 1980-х гэты пранíклівы і глыбокі мастак, многае паспелі перажыць»[1].

Асновай для падобных ацэнак выступаюць пабачаныя, падкрэсленыя І. Навуменкам праявы безгаспадарчасці і бязладдзя, уласцівыя атмасферы 1970-х. Сёння яны сапраўды будуць успрымацца найперш як сігнал пра непазбежнасць, лагічную неабходнасць перамен у грамадстве. Але фіксацыя падобных момантаў магла выступаць і дзейсным сродкам удакладнення аўтарам вобразаў герояў сваіх апавяданняў. Калі чалавек, як і большасць яго сучаснікаў, прамінае, нібы не заўважаючы, уласцівыя агульнаму ладу жыцця недарэчнасці, падобная няўважлівасць вымушае задумацца пра існаванне сур'ёзных пралікаў яшчэ на этапе фармавання светапогляду. Бо менавіта хібы, да якіх прызвычаіўся з дзяцінства, пачынаюць успрымацца носьбітам як норма, як цалкам прымальная з'ява.

У 1990 годзе Навуменка апублікаваў апавяданне (часам твор падаецца як аповесць, П. Дзюбайла ідэнтыфікуе яго як «невялікую аповесць») «Гасцініца над Прыпяццю». Крытыка гэты твор увагай не абышла. Аўтары рэцэнзій не абвяшчалі, вядома, галоўнага героя, мастака Андрэя Івашку, выразнікам пазіцыі аўтара, але і не гаварылі пра існаванне адчувальнай дыстанцыі паміж імі. Істотна паглыбіў разуменне твора В. Жураўлёў, які піша (праўда, у дачыненні да матэрыялаў усяго зборніка «Гасцініца над Прыпяццю»), што тут «наш клопатны, у многім бядотны і неспакойны дзень бягучай сучаснасці выступае ў ацэначна-псіхалагічным кантэксце ўспамінаў-роздумаў аб тым, што было ўчора і можа адбыцца заўтра»[2].

---

[1] Цыт. паводле: Данилов, А. / Социальный компонент художественного творчества И. Науменко // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст: матэрыялы навук. канф.— Минск, 2010.— С.14.

[2] Жураўлёў, В. З павагай да праўды.— С. 7.

Аднак каб выйсці на праблематыку «школьнага пакалення», пра паказ якога І. Навуменка гаварыў як пра асноўнае сваё мастацкае адкрыццё, заўважыць у апавяданні трэба было і вось што: тыя ўдакладненні-маркеры, якія сведчаць пра неадназначнасць адносін аўтара да персанажа і, згодна з аўтарскай задумай, павінны імгненна насцярожваць уважлівага чытача.

Падказак падобных раскідана не так і мала. І. Навуменка раз-пораз дае зразумець: занадта лёгка Андрэй Івашка пераступае праз паняцці «няёмка», «варта было», «абавязаны». І пры гэтым для кожнага паслаблення, для кожнага кампрамісу знаходзіць вытлумачэнне, якое цалкам яго задавальняе і супакойвае. Ну, пасяліўся, маўляў, у доме цёткі Сынклеты, ну, давялося сюды ж маладую жонку прывесці. Вядома, нядобра так, цётка (ад якой, дарэчы, пляменнік толькі добрае бачыў, нават шыкоўны касцюм хлопцу менавіта Сынклета справіла), як падкрэслівае аўтар, «абразілася» — але хіба Андрэй вінаваты? Ён жа нават на саступкі пайшоў, не ў хату, а ў прыбудову перабраўся жыць!

Ці яшчэ сітуацыя: Івашка ў 1941-м не хоча застацца пад немцамі і выпраўляецца на ўсход. Але не заладзілася дарога, давялося неўзабаве вяртацца ў мястэчка, нібыта няма ў чым тут хлопца папракнуць — ды толькі пісьменнік уводзіць у аповед эпізод, які шмат у чым відазмяняе ацэнку падзей. Чытач даведваецца, што цэлы дзень Івашка адыходзіў да Дняпра разам з чырвонаармейцамі — але «вельмі ўжо непрывабная з выгляду» была гэтая часць. І ад такога войска будучы мастак паспяшаўся адасобіцца.

Сустракаем у тэксце і такое: вось Івашка асуджае калегу Вайнілу, які адмовіўся ад прапановы выступіць перад студэнтамі — і літаральна праз хвіліну сам робіць тое самае, адмаўляецца, спаслаўшыся на выключную сваю занятасць. Між тым сюжэтнае дзеянне не спыняецца — і ягоную «выключную занятасць» мы бачым на ўласныя вочы: паездкі, размовы, ад якіх можна было і адмовіцца...

Не можа не насцярожваць і адчужанасць, якая ўсталявалася паміж Івашкам і яго былой жонкай. Прычым асабліва востра засела ў памяці Андрэя крыўда, звязаная з канфліктам пры выплаце аліментаў: «на першым часе былая жонка сустрэч з ім не шукала, нават падавала ў суд, спрабуючы спагнаць дадатковыя аліменты... Сына Яніна не выхоўвала: ён жыў з яе бацькамі ў Хапалавічах, а на вялікія грошы квапілася». І гэта пры тым, спяшаецца апраўдаць сябе Івашка, што «іх хлопчык, па разліках, мусіў нарадзіцца ў

студзені. Ён чамусьці нарадзіўся ў кастрычніку. Яніна тлумачыла — сямімесячны. У душу Івашкі тады ўжо закралася падазрэнне».

Вось так: хлопец, не патрэбны ні маці, ні бацьку, з маленства выхоўваўся ў дзеда з бабай. У Хапалавічах, куды, ужо напрыканцы твора, Івашка, у многім нечакана для сябе, вырашае заехаць. На месцы ён аглядваецца і з непадробным здзіўленнем заўважае: «няма прыгожай сядзібы. Бацькі Яніны памерлі, сядзібу яна, відаць, прадала тутэйшаму чалавеку». Наўрад ці даводзіцца сумнявацца: каб Івашка хаця зрэдчас цікавіўся лёсам сына, што-што, а падобная навіна для яго нечаканасцю дакладна б не стала...

Так што адносіны да персанажа ў пісьменніка не надта простыя, у тэксце гэта адлюстравана — але паколькі крытыка дадзены, наагул даволі выразна прапісаны акцэнт не заўважыла, Іван Якаўлевіч, ужо ў пазнейшых творах, дадае да вобраза новыя фарбы. Безумоўна, адбываецца не механічнае дапісванне, Івашка не будзе ўзгаданы ні словам, мадэлюецца, калі можна так сфармуляваць, «персанаж-маска», вобраз «мастака з мястэчка». У апавяданні «Першы дзень свабоды» (2000) прозвішча яго Сяргей Ганчароў, ён, як лічыць патрэбным паведаміць аўтар, «у акупацыю маляваў багоў (іначай было не пракарміцца)», і толькі ў апошнія перад вызваленнем дні разам з сябрамі-падпольшчыкамі выбраўся ў партызаны.

У апавяданні «Уласаўцы» (2002) дэталізуецца: у лес Сяргей (але не Ганчароў, прозвішча пастаўлена іншае — Кашавар) сышоў не адзін, а з жонкай, прыгожай Маняй. На руках у дзяўчыны — грудное дзіця. Аўтарам падкрэсліваецца: Кашавара прывёў Іван Лобік, які ў падполлі ўдзельнічаў актыўна, між тым як Сяргей «у падпольных справах памагаў. Вырэзваў з гумавых падэшваў розныя пячаткі для нямецкіх прапускоў. А так маляваў іконы — і з гэтага жыў».

Цяжка не заўважыць: з біяграфіі Івашкі, прапісанай у «Гасцініцы над Прыпяццю», ваенныя гады выпалі, ні аўтар, ні сам персанаж пра іх не ўзгадваюць. І вось нарэшце ў агульную панараму прыўносяцца звесткі, якія дазваляюць запоўніць прагал. Лінія замыкаецца, і аб’ектыўна дадатак не ў лепшым святле падсвечвае вобраз: пакінуты Івашкам сын — тое самае «проста залатое дзіця», якое за дарогу ў партызаны толькі два ці тры разы піскнула?!

Дарэчы, цалкам верагодна, што мадэляванне неперсаніфікавана-абагуленых вобразаў, своеасаблівых масак — вынік менавіта ўсвядомленага, узважанага пісьменніцкага рашэння. Па меншай меры не мог І. Навуменка, літаратуразнаўца звышдасведчаны,

не ведаць пра адметную атрыбутыўнасць італьянскай камедыі масак, спецыфіка якой як нельга лепш падыходзіць пад патрэбы канструявання мастацкага свету на падставе фактаў з жыцця мястэчка, у якім аўтар жыве побач з рэальнымі прататыпамі сваіх не ва ўсім ідэальных літаратурных герояў…

І ўсё ж асноўнае — мэта, пад якую абіраюцца тыя ці іншыя мастацкія прыёмы. Мэта ж — усебакова, максімальна ўзважана і аб’ектыўна («Каб было чэсна!») асэнсаваць феномен «школьнага пакалення». Таго самага, да якога належыць і сам пісьменнік.

Каб мінімізаваць непазбежны пры такой умове суб’ектывізм, Навуменка будзе не толькі раз за разам перапраўляраць сябе, гэтага, на яго думку, недастаткова. Празаік распрацоўвае своеасаблівую сістэму маркераў, тых паказнікаў, у адпаведнасці з праяўленасцю ці непраяўленасцю якіх і выстаўляецца ў большасці твораў выніковая ацэнка. Паколькі ж выхоўвалася «школьнае пакаленне» асяродкам школьным, паколькі тым самым у нечым адарвана яно было ад сямейных, традыцыйных каштоўнасцей — сярод маркераў найперш асновы спрадвечныя: родная зямля, праца, адносіны да прыроды, да дзяцей і бацькоў.

І, вядома, не мог Іван Якаўлевіч, сам заўзяты кніжнік, не дадаць у дадзены пералік яшчэ адну пазіцыю — стаўленне персанажа да мастацтва, да літаратуры, музыкі, жывапісу. Гэта таксама штораз бярэцца пад увагу, але абавязкова — нароўні з іншымі паказнікамі, толькі ў выніку падобнага сістэмнага асэнсавання выстаўляецца аўтарам сукупная, сумарная ацэнка.

Вельмі цікава перачытваць творы І. Навуменкі, адсочваючы вынікі такой прыдзірлівай праверкі пісьменнікам глыбіннай сутнасці сваіх персанажаў. Пакінутыя без дагляду дзеці… Гэта — не толькі сын Андрэя Івашкі (апавяданне «Гасцініца над Прыпяццю), гэта яшчэ і Віталь з апавядання «Якая доўгая вайна», бацька якога, Павел, запознена будзе дакараць сябе за п’янкі, у многім з-за якіх ён прагледзеў сына. А колькі ў апавяданнях празаіка сыноў і дачок, якія не прыехалі, не паспелі сказаць бацькам, пакуль тыя былі жывыя, самых важных і патрэбных слоў!

Не перададзена «школьнаму пакаленню» і звычка да нялёгкай сялянскай працы. Да той, якая трымае на зямлі, якая можа падараваць адчуванне сустрэчы з цудам, з таямніцай. У апавяданні «Балотца між лесам» (1984) падкрэсліваецца: так, нават проста прайсціся па зямлі, выбраўшыся ў лес ад самага ранку — задавальненне; але работа набліжае да пачуцця больш глыбокага: «Вось і

скончана работа. Усё Петракова цела ные ад стомы. Але гэтая стома прыемная. Столькі за дзень зрабілі! Ужо ноч вісіць над лесам, такім незнаёмым, загадкавым, таямніча-зацятым. Лес здаецца Петраку яшчэ прыгажэйшым, чым раніцай, калі ён прыходзіў сюды ў грыбы».

У апавяданні «Мульменкаў сад» нібы глытком вады з гаючай крыніцы становіцца для героя вяртанне ў маленства праз забытыя за дзесяцігоддзі адчуванні зняможлівай да болю сялянскай працы; у апавяданні «Срэбныя імхі» герой, які напачатку адчувае сябе ніякавата, бо даўно не трымаў сякеры ў руках, потым «радуецца, што трапілася іменна такая работа». Апавяданне «Блаславенне бульбе» (1994) наагул становіцца ўзвышаным гімнам у гонар спрадвечнай сялянскай працы...

Вось калі пачынаеш разумець сутнасць разыходжання ў трактоўцы аднаго і таго эпізоду ў аповесці «Апошняя восень» (1975) і ў апавяданні «А немцы ў Парыжы…» (2001). Нагадаем, у гэтых творах бацька, заняты на дзяжурстве, выпраўляе сына па сена — і хлопцу разам з гаспадарамі нанятага каня даводзіцца накідаць і ўтоптваць воз. У абодвух выпадках Васілём незадаволены, прыкладна аднолькава ў абодвух выпадках гучыць і папрок: маўляў, няма ў Васіля спрыту, у параўнанні з аднагодкам (падкрэсліваецца — той у школу не ходзіць), ён у рабоце глядзіцца недарэкам...

Але ў аповесці размова хутчэй пра непаразуменне: Васіль працаваць умее, ён проста захапіўся прыгажосцю краявідаў, стаяў, загледзеўшыся на дзівосны зімовы лес («Бацька зразумеў Міронччыкаву заўвагу ў тым сэнсе, што Васіль кепска накідваў сена, Васілю трохі крыўдна — віламі, граблямі навучыўся карыстацца даўно...»); у апавяданні ж прызнаецца: «Воз наклалі хутка. Але ён атрымаўся распоўзлы, крывы: Васіль нераўнамерна размеркаваў сена, дрэнна ўтаптаў. Кірдзюкам прыйшлося папраўляць воз».

І далей думка ўдакладняецца: так, аднагодкі, якія не ходзяць у школу, у гаспадарцы «вялікія зухі». Аднак Васіль «тым часам складаныя задачы па арыфметыцы рашае, дыктоўкі па рускай мове піша амаль без памылак. А каля воза з сенам асабліва завіхацца не ўмее». У часопісным варыянце твора стаяла нават абагульненне: «Усе яго аднагодкі такія». Але яно занадта непрыхавана выводзіла на тэму «школьнага пакалення», і пісьменнік, які звычайна пазбягае аналагічных, занадта «лабавых» падказак, фразу пры перапрацоўцы апавядання зняў.

А вось на пытанні, зададзеным Васілю настаўнікам-географам, «Туркам», ці дапамагае хлопец-выдатнік аднакласнікам, аўтар наадварот засяроджвае ўвагу чытачоў. Дакладней сказаць, вылучае Навуменка рэакцыю хлапчука: «Васіль не знайшоўся што адказаць. Што азначае «памог»?.. Дык як Васіль памагае адстаючым? У большасці выпадкаў рашае задачы. Тыя, хто не рашыў, у яго спісваюць...»

Такая пазіцыя набліжана, напрыклад, да падкрэсленай І. Навуменкам у «Гасцініцы над Прыпяццю» абыякавасці мастака Івашкі да чужых клопатаў, да яго негатоўнасці пайсці некаму насустрач нават тады, калі асаблівых высілкаў падобны альтруізм не вымагае. Прычым шмат у чым, можна зрабіць выснову, тут уплыў атмасферы трыццатых гадоў, калі нават у школе была заўсёдная гатоўнасць суседа ці суседкі данесці на неасцярожнае слова аднакласніка. Зусім нядаўна, літаральна два гады таму, няхай не для Васіля — для Васі, героя апавядання «Эх, цёплае, добрае лета...», іерархія прыярытэтаў была цалкам інакшая! Хлапечая грамада, таварыства лічыліся для местачкоўца ці не галоўным у жыцці клопатам, такой была мясцовая традыцыя. Брыгадай хлопцы ішлі наймацца на работу, разам адпачывалі, гуртам выступалі на абарону пакрыўджаных «прафтэхшкольцамі» местачковых дзяўчат...

Яшчэ адно проціпастаўленне, на якое адразу звяртаеш увагу, параўноўваючы апавяданні «Эх, цёплае, добрае лета...» і «А немцы ў Парыжы…». У Васіля («А немцы ў Парыжы…») няма ў стаўленні да дзяўчыны той рамантычнай узнёсласці, ад якой Вася («Эх, цёплае, добрае лета...») ледзь не траціў прытомнасць, толькі ўявіўшы, што на вочы абранніцы ён мог патрапіць вось такім, нехлямяжым і абдзёртым...

Васіль не камплексуе, і калі з ім загаворвае незнаёмка, ён «пасля такога ветлівага звароту не можа не прысесці на лавачку». Клічуць на спатканне — Васіль пагаджаецца: «Чаму ён павінен не згаджацца?» Каб падкрэсліць падобную перамену, пісьменнік і пераносіць лінію закаханасці ў Маню Бобрык у апавяданне, дзе Вася вучыцца яшчэ не ў новай, спецыяльна пабудаванай двухпавярхоўцы, а ў памяшканнях, што засталіся з часоў дарэвалюцыйных. Паўтараецца матыў, характэрны для многіх апавяданняў І. Навуменкі 1970—2000-х гадоў: так было — і так сталася не без уплыву «прафшкольцаў», школы, усяго новага, што ўрывалася ў жыццё мястэчка.

Шмат што пры навучанні набываючы, падлеткі разам з тым нешта страчваюць, забываюцца на традыцыі, паняцці, якія ад веку

закладаліся ў светаўспрыманне беларусаў. Пазней, у пасляваенныя гады, адарванае ў свой час ад каранёў «школьнае пакаленне» будзе балюча вяртацца да вытокаў (дадзеную няпростую дарогу І. Навуменка перадаў падрабязна, максімальна шырока, у апавяданнях 1970—1990-х гадоў адсочаны лёсы як тых, хто да вайны паспеў скончыць дзесяць класаў, так і тых, хто сыходзіў пасля дзявятага, восьмага ці, як герой апавядання «Якая доўгая вайна» Павел Дубавец, пасля сёмага класаў) — і вось з пазіцый ужо зведанасці гэтага шляху пісьменнік зноў вяртаецца ў 1930-я, каб у апавяданнях, што завяршаюць задуму, больш пільна ўгледзецца ў перамены, якія толькі пачыналіся.

Такім вось цікавым, унутрана лагічным, сапраўды насычаным паводле зместу і наватарскім паводле формы атрымалася ўвасобленае ў мастацкую форму ўзыходжанне І. Навуменкі да выпакутаванай, усебакова ўзважанай ідэі, да выніковай яе высновы: «Сэнс усё ж быў!»

Пры гэтым новая арганізацыя матэрыялу дазволіла істотна пашырыць дыяпазон вырашаемых мастаком задач. І. Навуменка атрымаў магчымасць выяўляць сэнсаўтваральнымі тыя элементы, якія ў ранейшай сістэме найчасцей заставаліся атрыбутыўнымі. Творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа... Да яе празаік ставіўся з найвялікшым піетэтам, але пры гэтым у апавяданнях 1970—1990-х гадоў ні пра Купалу, ні пра Коласа ніводнай згадкі! Хаця сітуацыі, у якіх падобная адсылка магла прагучаць, узнікалі нярэдка.

Тыповы прадстаўнік «школьнага пакалення» выяўляўся даволі абыякавым да нацыянальнай літаратурнай класікі, гэта таксама адзін з маркераў, паводле якіх персанажам выстаўлялася аўтарская ацэнка. Яна пачынае ўдакладняцца ў апавяданні «Пачатак» (1999), дзе з вуснаў надзвычай маласімпатычнага падсяленца ў аспіранцкі пакой прагучыць кінутае суседзям-літаратуразнаўцам: «Якая там навука. Сцішкі Купалы і Коласа...»

Карані падобнага стаўлення ўскрываюцца ў апавяданні «А немцы ў Парыжы...». Вось Васіль піша пераказ па апавяданні Якуба Коласа «Страшнае спатканне» — яго работу ўхваляюць; вось проціпастаўляюцца два школьныя вечары, адзін прысвечаны падзеям у Іспаніі, а другі 30-годдзю творчай дзейнасці Якуба Коласа. Куды большае ўражанне ў душы Васіля пакідае коласаўская вечарына, «Колас блізкі, знаёмы, бо ён пісаў пра рэчы, якія добра ведае Васіль».

Будзе і пастаноўка купалаўскай «Паўлінкі» — але гэта ўсё нібы насуперак школьнай завядзёнцы, тым жа коласаўскім вечарам вымушаны займацца настаўнік рускай літаратуры, а пасля «Паўлінкі» ў школьнай актавай зале цугам пойдуць прэм’еры зусім іншых п’ес, пра дыверсантаў і шпіёнаў... Насаджалася — не тое, адпаведным атрымаўся і вынік, да такой высновы ненавязліва падводзіць чытача І. Навуменка.

І ўсё ж зводзіць талент пісьменніка толькі да такой, мэтанакіраванай і планамернай лагічнасці нельга. У многім стыль работы Івана Якаўлевіча заснаваны на спантаннасці, раптоўнасці творчых імпульсаў. Так, да прыкладу, у апавяданні «Лістоўкі сорак першага года» (1975) відавочна незапланавана выкарыстаны наступны прыём: савецкія разведчыкі ідуць яшчэ зусім нядаўна пакінутай ворагам тэрыторыяй. Задача зразумелая: выявіць, дзе замацаваліся войскі фашыстаў. Вельмі няспешна, насцярожліва праглядаюцца — ці не пакінута засада? — апусцелыя гарады і паселішчы.

Група падыходзіць да аднаго з населеных пунктаў, па мапе разведчыкі высвятляюць, што перад імі Грунвальд — і ні ў кога пры гэтым не ўзнікае ніякіх асацыяцый! Вось так, праз дэталь, красамоўна адлюстраваны ўзровень выкладання гісторыі ў тагачасных школах, пісьменніцкая знаходка проста бліскучая — але яна не запланаваная, гэта лёгка заўважыць, праглядаючы рукапісны варыянт твора. Бо там напачатку паўсюдна стаялі вызначэнні безаблічныя, «населены пункт» ды «вёсачка», і толькі потым дадзеныя словы былі перакрэслены і рукой аўтара рашуча надпісана: «Грунвальд».

Тут можна гаварыць пра спантаннасць, пра інтуіцыю, пра ўнутраную, незалежную ад волі аўтара логіку развіцця задумы апавядання, прапісаных у ім характараў і лініі развіцця сюжэта — у кожным выпадку перад намі імпульс, і гэтаму імпульсу І. Навуменка надае надзвычай вялікае значэнне. Адваротны пісьменніцкі стыль работы, той, пры якім усё — менавіта ў дэталях, да дробязей — наперад спланавана і пралічана, ён называе «мазгавым», «засушаным», прызнаецца, што не любіць і не разумее такой літаратуры.

Да прыкладу, канчатковы варыянт апавядання «На сотай вярсце» (1996): на ўзроўні задумы ён узважаны і дастаткова дбайна пралічаны. Аўтар ведае, дзеля дасягнення якога эфекту ён будзе пісаць апавяданне — пра тое, як узнікла, як афармлялася ідэя твора, ён гаварыў у размове з М. Мікулічам: «Вось я зараз пішу «На

сотай вярсце» — гэта будзе апавяданне на пяць старонак. Нешта я, канечне, бачу, напрыклад, тое, як хлопец і дзяўчына будуць начаваць у стозе. Але ці адбудзецца што паміж імі ці не, яшчэ не ведаю. Можа адбыцца, можа не адбыцца — я ў патрэбны момант адчую...»[1]

Спалучэнне дбайнай пралічанасці — і спантаннасці, плану — і імпульсаў, вось што робіць такой непаўторнай, шматстайнай, прадказальнай і разам з тым нечаканай творчую манеру І. Навуменкі. Ды і наагул апавяданні, што склалі другі том яго Збору твораў, надзвычай шматаблічныя.

Тут не толькі творы, што суаднесены з планамерным узыходжаннем да магістральнай для мастака задумы. Апавяданні «Праз дзень пасля салюта...» (1974) і «Лістоўкі сорак першага года» (1975) тэматычна суаднесены з першым цыклам «сямнаццацігадовых на вайне», у многім яны становяцца сімвалічным яго завяршэннем. Мы бачым і чуем («Праз дзень пасля салюта...») пасталелых юнакоў у першыя пасляваенныя месяцы, а потым, у апавяданні пра падзеі, суаднесеныя з апошнімі месяцамі вайны, атрымаем магчымасць (гэта падкрэслена назвай твора — «Лістоўкі сорак першага года») параўнаць, наколькі розніліся ўяўленні, з якімі ўступала ў вайну «выбітае пакаленне», і жорсткая рэальнасць выпрабаванняў, якія ім давялося перанесці.

Нельга не заўважыць цэлы пласт цудоўных апавяданняў І. Навуменкі для дзяцей; яго шчымлівыя пейзажныя замалёўкі, гучанне якіх пацвярджае слушнасць выказанай С. Лаўшуком думкі пра тое, што ў асобе Івана Якаўлевіча беларусы, калі «не было б вайны — магчыма, мелі б нешта накшталт Кіплінга ці Прышвіна»[2]; гумарэскі, за якімі лёгка адгадваецца багаты вопыт газетчыка-фельетаніста…

Аднак асаблівай увагі заслугоўвае такі аспект: пісьменнік, часам ідучы насуперак меркантыльнаму «як будзе лягчэй, прасцей для мяне самога», не баіцца зварочваць на сцежкі непратаптаныя, ісці якімі цяжэй, але вопыт пераадолення якіх у будучым спатрэбіцца ўсёй беларускай літаратуры, будзе садзейнічаць менавіта ўсеахопнасці, шматвектарнасці яе развіцця.

На пленуме Саюза пісьменнікаў, які праходзіў у лістападзе 1979 года, Навуменка чытаў даклад «Праблемы сучаснага беларускага рамана», рукапісны варыянт якога захоўваецца ў БДАМЛМ. У

[1] Мікуліч, М. Усякаму пакаленню трэба баявая справа.— С. 83.
[2] Лаўшук, С. З пакалення, што не стала на калені.— С. 215.

сваім выступленні празаік адзначыў, што досыць часта яго калегі зварочваюць на наезджаныя каляіны і бясконца штампуюць паўторы аднаго і таго літаратурнага вобраза-тыпажу: «Вядома, вясковую жанчыну Паліну, за якой стаіць вялікая традыцыя, лягчэй напісаць, чым сучаснага механізатара»[1]. Але калі ніхто не закладзе асновы таго, што ў будучым абернецца традыцыяй, трывалым грунтам пад новыя ўзыходжанні,— развіццё літаратуры выявіцца бясконцым вытупваннем па абмежаванай, неаднойчы выхаджанай дзялянцы.

Вось чаму, нават выдатна ўсведамляючы, што будзе няпроста, што існуе верагоднасць памыліцца і выслухаць за гэта папрокі крытыкаў, І. Навуменка зварочвае на цалкі непратаптаныя. Сучасны інтэлігент, механізатар, мастак, шахцёр — гэта ўсё амаль нераспрацаваныя ў беларускай прозе 1970—1980-х гадоў тыпажы, і пісьменнік паслядоўна бярэ прадстаўнікоў дадзеных сацыяльных слаёў і прафесій і робіць іх героямі сваіх апавяданняў.

Тое ж пашырэнне дыяпазону, але не тэматычнага, а ўжо інтанацыйна-стылёвага — у апавяданнях «Падарожжа ў Бабінавічы» (1999) і «Пасцель бела» (1992). Прадэманстраваная ў дадзеных творах нязмушанасць пры канструяванні ўскладнёнага, насычанага элементамі экзістэнцыялізму аповеду не надта стасуецца з прызвычаеным бачаннем мастака як традыцыяналіста, далёкага ад «мадэрновых штукарстваў» — аднак не забудземся, Навуменка славіўся як дапытлівы даследчык літаратуры. Безумоўна, перспектыўныя напрацоўкі сусветнай прозы ён не мог не паспрабаваць «прывіць» на беларускую глебу. Так, у аснову ўзгаданых твораў выразна пакладзены паралельны экзістэнцыйны мантаж: на адлюстраванне дарогі, адоленых персанажам метраў шчыльна нанізваецца сетка яго адчуванняў і прыпамінаў. «Плынь свядомасці» надыктоўваецца непасрэдна маршрутам, і наколькі ж па-майстэрску Навуменка прывязвае рэфлексію героя да спецыфікі пройдзеных ім геаграфічных скрыжаванняў!

Калі ў «Падарожжы ў Бабінавічы» перад намі падлетак (паводле сюжэта Пятрок ідзе да радні, клопат у яго дарослы, ля Бабінавіч лес багаты на ягады, і менавіта там трэба набраць запас чарніц на галаднаватую зіму), дык і дынаміка ўражанняў адпаведная: ад пачатку твора думкі цягнуцца няспешна, яны разгорнута-

---

[1] Навуменка, І. Праблемы сучаснага беларускага рамана // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).— Фонд 495.— Воп. 65а.

«паўсонныя» — але па меры таго, як спякотны дзень, смага і стома знясільваюць хлапчука, больш свавольна пачынаюць мільгацьзнікаць і мроі. Такую мітусню асацыяцый Навуменка перадаў проста шыкоўна: «Некаторыя спрытныя калгасы пачынаюць здаваць раннюю бульбу, агуркі. Цяпер, на пачатку лета, плацяць добра. За агуркі, напрыклад, рубель за кілаграм. Пятрок ведае гэта, бо чыстую палавіну іхняга дома займае нарыхтоўчая кантора «Плодаагародніна»… Трохі прытаміўся Пятрок: прайшоў болей за палавіну дарогі… самы час палуднаваць».

«Палавіна», «палавіна», «палуднаваць»… Пераскоквае па шэрагу асацыяцый думка зняможанага дарогай хлапчука, праз гэта, літаральна некалькімі штрыхамі, аўтар перадае эмацыянальны стан падарожніка — і адначасова не забываецца, дэталь за дэталлю, дадаваць фрагменты-«пазлы» ў маляўнічую панараму ўспамінаў пра тую даўнюю даваенную пару, на якую прыпала і дзяцінства самога І. Навуменкі.

Што ж адносна «Пасцелі белай», дык гэта наагул авангардны паводле выканання твор. І ў чымсьці палемічны: аўтар нібы наважыўся давесці, што псіхалагічны трылер можна будаваць не толькі на экзатычным, містычным матэрыяле, але і праз адлюстраванне тыповых, будзённых беларускіх рэалій. Бо побытавае ў апавяданні дбайна ачышчана ад любой «незвычайшчыны», мы бачым звычайную зіму ў стандартным прафілакторыі, нічым не адметны з выгляду насельнік аднаго з пакояў проста выбіраецца адвячоркам прайсціся на лыжах, агледзець ваколіцы. Найбанальнейшая завязка, ды і далей тое адчуванне пагрозлівасці сітуацыі, якое будзе нагнятацца ў творы, вынікне выключна з рэалій дарогі, пракладзенай аўтарам па такіх знаёмых, міралюбна-ласкавых беларускіх краявідах…

Выдатна ўмее пісьменнік і ўзбуйніць, паглыбіць гучанне твора праз асобны момант, дэталь, падрабязнасць. Так, у апавяданні «Звяга» (1991) арганічна спалучаны эпізоды, звязаныя з дзейнасцю антыфашысцкага падполля ў Васілевічах, і моманты, што былі характэрныя для змагання супраць акупантаў у Мінску. Асновай для сумяшчэння стала пабачаная празаікам універсальнасць тэндэнцый, якія аднолькава праявіліся ў працэсах, што адбываліся і ў палескім мястэчку, і ў вялікім горадзе. Гэта — выхад на новы ўзровень мастацкага абагульнення, да ўніфікацыі высноў.

Адзначаецца спецыялістамі і тое, наколькі дбайна адшліфавана мова твораў І. Навуменкі. Так, аўтар вонкава не ўскладняе яе,

не насычае «шумавымі эфектамі» — але гэта толькі вонкавае ўражанне. Вельмі няпроста бывае перакладчыкам захаваць зададзенае І. Навуменкам інтанацыйнае гучанне твораў, А. Лапцёнак і А. Карканіца, якія аналізавалі адметнасці перакладаў апавяданняў Івана Якаўлевіча на рускую мову, адзначаюць гэта, прыводзяць шматлікія прыклады дапушчаных перакладчыкамі памылак і пралікаў. Падобнае сведчыць: уяўная спрошчанасць тэкстаў пісьменніка — вынік настойлівай і мэтанакіраванай працы, перад намі менавіта дасягнуты, свядома падрыхтаваны празаікам эфект.

Адносна ж той здольнасці І. Навуменкі адчуць, прадбачыць, зазірнуць у будучыню, без якой немагчымай была сама задума паяднанага адзінай унутранай логікай масіву апавяданняў… У 1997 годзе ў размове пісьменніка з М. Мікулічам прагучала: «Калі я іду ўздоўж Свіслачы (хоць і не тут тая даўняя сеча была), то адчуванне самотнае. Відаць, гэтыя берагі столькі ўвабралі чалавечых пакут, што я прыходжу дадому заўсёды стомлены, знерваваны. Не люблю я гэтых берагоў, нешта мне гэтая зямля гаворыць. Не хочацца, не падабаецца мне хадзіць берагам Свіслачы, хоць і спрабаваў»[1].

Апавяданне «Цёмныя змрокі» празаік пісаў ужо ў 2000 годзе, пасля трагедыі, якая адбылася на ўваходных прыступках у падземны пераход, што вядзе да станцыі метро «Няміга». Пісаў, і гэта несумненна, цяжка і пакутліва. Але тэкст у выніку дадаўся ў мастацкае палатно, тое палатно, дзе, паводле словаў Л. Ламекі, «сабраныя разам, творы набываюць новую якасць — становяцца адзінай і цэласнай кнігай жыцця, па-новаму раскрываюць грані таленту мастака»[2]. Нельга сумнявацца: кожны новы том дадзенага выдання будзе пашыраць, паглыбляць наша ўяўленне пра выдатнага майстра слова, народнага пісьменніка Беларусі Івана Якаўлевіча Навуменку.

*Аляксандр Лапата-Загорскі.*

---

[1] Мікуліч, М. Усякаму пакаленню трэба баявая справа.— С. 84.

[2] Ламека, Л. Пра сваё пакаленне // Л. Ламека, Н. Ламека. Сучасная беларуская літаратура.— Мінск, 2003.— С. 148.

# КАМЕНТАРЫІ

Другі том Збору твораў Івана Навуменкі складаюць апавяданні і эцюды, напісаныя пісьменнікам у 1974—2006 гг.

Творы падаюцца згодна з жанрава-храналагічным прынцыпам. Аснова іх датавання — даты ў аўтографах, машынапісах, прыжыццёвых выданнях і іншых дакументальных крыніцах. Паколькі дакладна вызначыць тэрмін напісання неапублікаваных твораў дастаткова няпроста, умоўна ўсе такія апавяданні аднесены да перыяду 2003—2006 гадоў; у такіх выпадках дата пад тэкстам падаецца ў квадратных дужках.

Апавяданні «Адплата», «Без маіх рук», «Брыдкі хлопчык», «Выпадак», «Дзяцел», «Дубы шумяць», «Жорсткасць», «Каханне на сотай вярсце», «Крык параненай птушкі», «Міхаліна», «Мог бы жыць», «Насупраць уласнай кватэры», «Не трэба садзіць у турму жанчын, у якіх малыя дзеці», «Правінцыйны гарадок», «Сухі плеўрыт», «Ты на месцы», «Цёмная ноч», «Язэпава гумно» і «Як закончылася Другая сусветная» ніколі не друкаваліся, іх публікацыя ў другім томе Збору твораў з'яўляецца першай.

У Збор твораў упершыню ўключаны апавяданні «Авёс для рэдактара», «Адвячорак на ўскраіннай вуліцы», «Алёшка на небе», «А немцы ў Парыжы…», «Анэля», «Апрасцімся, сябры!..», «Аркестр», «Баба Зося на трыбуне», «Балотца між лесам», «Баравікі-веліканы», «Барсучаняты гуляюць», «Блаславенне бульбе», «Вагавая будка», «Ваяўнічы вожык», «Выгнанне Вадалея», «Выпадак на аўтобусным прыпынку», «Гадзюка», «Гасцініца над Прыпяццю», «Груша на прыгуменні», «Грыбное шчасце», «Гуканне над верасамі», «Гусі-лебедзі», «Дзеці кулака», «Доктар навук на хутары», «Дрэвы над вадой», «Дуб на ўзлессі», «Жоржык», «Жывот», «Заваёўнікі», «Зязюлі

ў родным лесе», «Калабарацыяніст Пеця Жучок», «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку», «Кот Мікіта», «Ліпы цвітуць», «Міша Дудзік і сабака Рудзік», «Год карася», «Звяга», «Зялёная крэпасць», «Зямля, зямля», «Край пясчаны, балотны», «Лясгас», «Мой конь», «На канікулах», «На сотай вярсце», «Нашы каровы», «Несмяротныя людзі», «Не хачу быць каралём», «Падарожжа ў Бабінавічы», «Падарунак», «Падранены журавель», «Паляванне на дзіка», «Параска», «Пасцель бела», «Пачатак», «Пенсіянеры мясцовага значэння», «Першы дзень свабоды», «Пракляцце», «Прыкрасць», «Пыл», «Рукі на камені», «Сарока-зладзейка», «Старавіленскі тракт», «Сельсаветчыкі», «Сустрэча з ваўком», «Сямён Гуляш», «Сярэбраная птушка», «Сярэбраны змей», «Трохі пра Якуба Коласа», «У Заграбе, на плошчы», «Уласаўцы», «Форум у Дзеркачах», «Хлапечая кампанія», «Цёмныя змрокі», «Цыганскі барон», «Эх, цёплае, добрае лета…», «Якая доўгая вайна», «Якімец-Якімчык», «Як мы скасавалі збожжавы падатак», «Як купіць аўтамашыну?» (гэтыя творы друкаваліся раней у часопісах, газетах і зборніках прозы).

За асноўны тэкст змешчаных у томе апавяданняў прыняты Збор твораў у 6 тамах (Мінск, 1981—1882, т. 1, 2) і Выбраныя творы ў 2 тамах (Мінск, 1995, т. 1) як найбольш аўтарытэтныя выданні, якія выдаваліся пры жыцці аўтара. Для астатніх твораў за асноўны прымаецца тэкст апошняй прыжыццёвай публікацыі твора. Ва ўмовах знятасці цэнзурных абмежаванняў і з улікам таго, наколькі адказна падыходзіў пісьменнік да падрыхтоўкі кожнага з выданняў, падобны падыход уяўляецца адзіна мэтазгодным. Адпаведна рубрыка *друкуецца* прысутнічае ў каментарыях да кожнага твора.

Для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту твораў, іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя архіўна-даведачныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) аўтографы апавяданняў: «Адплата», «А немцы ў Парыжы…», «Асфальт», «Баба Зося на трыбуне», «Без маіх рук», «Блінец для цёткі Аксінні», «Брыдкі хлопчык», «Вагавая будка», «Выпадак», «Грыбная зямля», «Дзяцел», «Дубы шумяць», «Жорсткасць», «Жывот», «За капусту», «Зялёная крэпасць», «Зямля, зямля», «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку», «Каханне на сотай вярсце», «Край пясчаны, балотны», «Лістоўкі сорак першага года», «Міхаліна», «Мог бы жыць», «Мульменкаў сад», «Насупраць уласнай кватэры», «Не трэба садзіць у турму жанчын, у якіх малыя дзеці», «Падранены журавель», «Правінцыйны гарадок», «Птушкі любяць волю», «Сухі плеўрыт», «Сямён Гуляш», «Ты на месцы», «У Заграбе, на плошчы», «Цыганскі

барон», «Язэпава гумно», «Якая доўгая вайна», «Як закончылася Другая сусветная», «Як купіць аўтамашыну», «Як мы скасавалі збожжавы падатак».

б) машынапісы, раздрукаваныя камп'ютарныя варыянты апавяданняў: «А немцы ў Парыжы…», «Баба Зося на трыбуне», «Баравікі-веліканы», «Без маіх рук», «Блінец для цёткі Аксінні», «Ваяўнічы вожык», «Выпадак», «Груша на прыгуменні», «Грыбное шчасце», «Гуканне над верасамі», «Дзеці кулака», «Дзяцел», «Доктар навук на хутары», «Жывот», «Заваёўнікі», «Зямля, зямля», «Калабарацыяніст Пеця Жучок», «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку», «Каханне на сотай вярсце», «Крык параненай птушкі», «Ліпы цвітуць», «Лістоўкі сорак першага года», «Лясгас», «Міхаліна», «Насупраць уласнай кватэры», «Не трэба садзіць у турму жанчын, у якіх малыя дзеці», «Птушкі любяць волю», «Пыл», «Сарока-зладзейка», «Сельсаветчыкі», «Сустрэча з каракалпакскімі пісьменнікамі», «Сустрэча з маршалам», «Сухі плеўрыт», «Сярэбраны змей», «Ты на месцы», «Форум у Дзеркачах», «Хлапечая кампанія», «Цёмная ноч», «Цёмныя змрокі», «Цыганскі барон», «Язэпава гумно», «Якая доўгая вайна», «Як закончылася Другая сусветная».

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1981, т. 1; Зб. тв., 1982, т. 2; Выбр. тв., 1995, т. 1.

б) Зборнікі: «Замяць жаўталісця», 1977; «Смутак белых начэй», 1980; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Апрасцімся, сябры!..», 1990; «Гасцініца над Прыпяццю», 1994; «Хатняе зайчанё», 1998; «Любімы горад», 1999; «Гуканне над верасамі», 2002.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Беларуская думка», 1997, № 9; 2001, № 1; «Беларусь», 1974, № 1; 1980, № 6; 1981, № 7; 1982, № 2; 1982, № 12; 1984, № 4; 1991, № 5; 1992, № 12; 1995, № 1; 1996, № 8; 1999, № 1; 2002, № 2/3; «Бярозка», 1975, № 2; 1982, № 5; 1984, № 8; 1985, № 8; 1997, № 11; 2002, № 11; «Вожык», 1988, № 3; 1988, № 6; 1988, № 11; 1988, № 13; 1989, № 18; 1989, № 22; 1990, № 14; «Вясёлка», 1974, № 11; 1995, № 2; 1996, № 3; 1996, № 12; 1997, № 2; 1998, № 1; 1998, № 11; 1999, № 7; 2000, № 2; 2000, № 7; 2002, № 1; «Крыніца», № 11/12; «Лесавік», 2002, № 6; «Маладосць», 1975, № 7; 1980, № 2; 1986, № 6; 1991, № 6; 1996, № 5; 1996, № 8; «Полымя», 1974, № 6; 1981, № 1; 1982, № 11; 1990, № 4; 2000, № 12; 2001, № 9; «Родная прырода», 1992, № 1;

б) газеты: «Звязда», 1990, 30 верас.; «ЛіМ», 1975, 6 чэрв.; 1980, 21 сак.; 1984, 20 ліп.; 1990, 21 верас; 1991, 5 ліп.; 1993, 15 кастр.; 1994, 11 лют.; 1994, 14 кастр.; 1996, 10 мая; 2000, 30 чэрв.; 2001, 19 кастр.; 2002, 8 лют.; 2002, 23 жн.; «Навіны АН Беларусі», 12, 19, 26 мая.

**4. Пасмяротныя выданні:**

а) зборнікі: «Аповесці, апавяданні», 2009.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі рэдакцыямі выпраўлены памылкі і фактычныя недакладнасці; удакладнены даты напісання апавяданняў.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі, якія ўдакладняюць гісторыю напісання тэкстаў апавяданняў, называюцца крыніцы тэкстаў твораў з апісаннем (пры наяўнасці) аўтографаў і машынапісаў.

Розначытанні, выяўленыя ў працэсе зверкі крыніц тэкстаў, адлюстроўваюць працэс авалодвання пісьменнікам прыёмамі і метадамі прыгожага пісьменства. Найбольш значныя і цікавыя ў мастацкіх адносінах розначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і розначытанні».

## 1974

### Праз дзень пасля салюта… (с. 3)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1974 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1974, № 6.

Уваходзіла ў зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Апавяданні пра Вялікую Айчынную», 1985.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1975, № 2; зб. «Замять желтолистья» 1978; зб. «Последняя осень», 1979) У. Жыжэнка.

С. 3:

*Парк у англійскім стылі* — пейзажны парк, прынцыпы афармлення якога акрэсліліся як вынік адмаўлення празмернай выверанасці геаметрычна роўных ліній стылю французскага. Англійскі стыль паркавай планіроўкі характарызуецца ірэгулярнасцю выбудовы, свабоднай планіроўкай, якая паслядоўна ачышчаецца ад строгай лінейнасці кутоў і ліній. Дэкаратар, паслядоўна ствараючы штучны рэльеф, імкнецца разам з тым захаваць ілюзію некранутай прыроднай натуральнасці прысядзібных паркавых пейзажаў.

*Дзядоўнік* — масіў пустазелля, у якім пераважаюць расліны з калючымі ўчэпістымі пупышкамі; найчасцей сустракаецца ў дзядоўніках лопух і бадзяк.

*Валынь* — гістарычная вобласць на паўночным захадзе сучаснай Украіны, у басейне паўднёвых прытокаў Прыпяці і вярхоўяў Заходняга Буга.
С. 4:

*Бадо і СТ апараты* — размова а) пра створаную французскім інжынерам Э. Бадо прыладу, што дазваляе да адной кабельнай лініі падлучаць адразу некалькі перадаткава-прыёмных апаратаў, кожны з якіх пачаргова, з дакладна вызначанымі затрымкамі, перадае і атрымлівае сваю порцыю сігналаў; б) пра апаратуру СТ (ці, больш дакладна, «СТ—35», што азначае «савецкі тэлетайп, мадэль 35-га года») выраблялася на Ленінградскім заводзе імя А. А. Кулакова, характарызавалася тым, што ўсе паведамленні пры перадачы зашыфроўваліся. У гады вайны выкарыстоўвалася найчасцей для забеспячэння сувязі на ўзроўні «штаб арміі — штабы карпусоў».

*...наспела вайна з Японіяй...* — СССР абвясціў вайну Японіі 8 жн. 1945 г.

*Далёкі Усход* — найбольш аддалены ад еўрапейскай часткі рэгіён Расіі на ўзбярэжжы Ціхага акіяна.

*ПЗД* — пункт збору данясенняў.

С. 5:

*Пакулле* — грубае валакно, якое атрымліваецца пры першаснай апрацоўцы лёну, канапель.

*Замаскварэчча* — раён Масквы, размешчаны на другім, адносна Крамля, беразе Масква-ракі. Доўгі час заставаўся маланаселеным з-за пагрозы татарскіх набегаў, потым забудоўваўся пераважна дамамі купцоў і гандляроў. Замаскварэчча да 30-х гг. XX ст. захоўвала свой патрыярхальны, пераважна вясковы выгляд.

*Выбарг* — горад у Расіі, цэнтр Выбаргскага раёна Ленінградскай вобласці.

*Судэты* — горы ў Еўропе, на мяжы Чэхіі, Польшчы і часткова Германіі.

С. 6:

*Русо Жан Жак* (1712—1778) — французскі філосаф, палітычны мысліцель, пісьменнік. Ідэалам дзяржаўнага ўладкавання прызнаваў дэмакратычную рэспубліку, заснаваную на ўсеагульнай роўнасці, адным з рэцэптаў пабудовы справядлівага грамадства лічыў зварот цывілізаваных народаў да першабытнага «натуральнага стану».

*Усходняя Прусія* — герцагства Прусія, якое ўзнікла ў 1525 г. на частцы земляў Тэўтонскага ордэна, захопленых немцамі ў прусаў (адсюль назва), у 1618 г. аб’ядналася з Брандэнбургам. Аб’яднаная дзяржава атрымала назву Прусія, былое герцагства стала лічыцца

Прусіяй Усходняй. У 1947 г. Усходняя Прусія ліквідавана, землі адышлі да СССР (пазней — Расіі) і Польшчы.

*Чэхаславакія* — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе, якая існавала з 1918 г. на тэрыторыі сучасных Чэхіі і Славакіі, сталіцай Чэхаславакіі быў горад Прага. 31 снеж. 1992 г. дзяржава спыніла сваё існаванне, узніклі незалежныя Чэхія і Славакія.

С. 7:

*Гітлеравы лозунгі* — Гітлер (сапр. Шыкльгрубер Адольф, 1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Германскай Нацыянал-сацыялісцкай партыі ў 1921 г., рэйхсканцлер з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным ваенным злачынцам. Скончыў жыццё самагубствам.

*Скіфы* — група народаў, што жылі ва Усходняй Еўропе ў эпоху антычнасці. Скіфы вызначаліся жорсткім ваяўнічым норавам.

*Гебельс Паўль Іозеф* (1897—1945) — палітычны і дзяржаўны дзеяч фашысцкай Германіі. Адзін з галоўных нямецка-фашысцкіх злачынцаў. З 1933 г. быў міністрам народнай асветы і прапаганды, кіраўніком імперскай палаты культуры, актыўна садзейнічаў усталяванню культу А. Гітлера. Скончыў жыццё самагубствам.

*Берлін* — горад, сталіца Германіі.

С. 11:

*...скончылася вайна з Японіяй.*— 2 верас. 1945 г. урад Японіі падпісаў Акт аб капітуляцыі.

*ЧП* — скар.: надзвычайнае здарэнне (*рус.* чрезвычайное происшествие).

*...заспявала пра трох танкістаў...* — маецца на ўвазе папулярная руская песня «На границе тучи ходят хмуро». Была напісана братамі Пакрас на словы Б. Ласкіна і ўпершыню прагучала ў застаўцы фільма «Трактарысты» ў 1939 г.

С. 12:

*Яраслаўская вобласць* — вобласць у цэнтры еўрапейскай часткі Расіі.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 3:

[10—11] крапівой і дзікім вішняком. // крапівой і дзікім *вішаннікам.*

[22] з вішняку, якога тут // з *вішанніку,* якога тут

С. 4:

[26] ПЗД — у Зб. тв. тлумачыцца як «пункт збору данясенняў», у часопісе — як *«пункт тэрміновых данясенняў».*

С. 6:

[15] — А на полі не радасна? — падкалвае Траяноўскі. // — А на полі не радасна? — *падказвае* Траяноўскі.

[27—28] вайна, у якой яны маглі загінуць. // *вайна, у якой яны лёгка маглі загінуць.*

С. 7:

[8] Так, было дзіўна, і доўга яшчэ пра гэта // Так, было *дзіўнае,* і доўга яшчэ пра гэта

[11—12] што там, на іх радзіме, усе ходзяць // што там, *адкуль яны прыйшлі,* усе ходзяць

С. 7—8:

[37—1] з выгляду — людзі, а не звяры. Больш таго // з выгляду *яны нікольki не саступалі самім немцам,* больш таго

С. 8:

[9—10] то асабліва прыкметнымі ў сэнсе сказанага // то асабліва *значнымі* ў сэнсе сказанага

С. 11:

[16—17] якія зацяжарылі. // якія *зацяжаралі.*

С. 12:

[14—15] танцы пад дубамі адноўлены зноў. // танцы пад *дубам* адноўлены зноў.

[25—26] На схіле пагорка, у густым вішняку // На схіле пагорка, у густым *вішанніку*

С. 13:

[15] Калі пойдуць удваіх, іх паставыя «засякуць». // Калі пойдуць *удвух*, іх паставыя засякуць.

## За кампанію (с. 15)

Друкуецца паводле Зб. тв, 1982, т. 2, дзе ўваходзіла ў «Літаратурныя эцюды» (разам з творамі «З дадаткам», «Цётчын блінец», «Гняды», «Сустрэча з маршалам», «Сямігодка для дарослых», «Птушкі любяць волю»).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1974, № 1, дзе ўваходзіла ў «Літаратурныя эцюды» (разам з творамі «З дадаткам», «Цётчын блінец», «Гняды».

Уваходзіла ў зб. «Замяць жаўталісця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

С. 17:

*Зайцава цыбуля* — чарамша (часам яшчэ называюць «мядзведжая цыбуля»), травяністая расліна сямейства цыбулевых. Мае смак часныку, квітнее ў маі — чэрвені, у Беларусі рэдкая.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Беларусь»*

С. 16:

[34—35] У такім узросце дрэнна губляць сувязь з калектывам, адасабляцца... // *У такім узросце дрэнна адасабляцца...*

С. 17:

[13—14] Але пацярухі было многа, і пакуль яны ўсю скурылі // Але пацярухі было многа, і пакуль *яе* ўсю скурылі

## З дадаткам (с. 17)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік як асобнае апавяданне змясціў істотна перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1974, № 1, дзе ўваходзіла ў «Літаратурныя эцюды» (разам з творамі «За кампанію», «Цётчын блінец», «Гняды»).

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); у зб.: «Замяць жаўталісця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); «Год карася», 1988 (як асобнае апавяданне).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

С. 17:

*«Прыгоды Тома Соера»* — адна з найбольш вядомых кніг амерыканскага пісьменніка М. Твэна (1835—1910). Аповесць напісана ў 1876 г., на беларускую мову ў 1936 г. яе пераклаў Янка Маўр.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *Зб. тв.*

С. 17:

[29] Саша ішоў са школы // *Вася* ішоў са школы

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Беларусь»*

С. 17:

[27—28] спытаў бацька, і Саша адразу знямеў. // спытаў бацька, і *Вася* адразу знямеў.

С. 18:

[8] Саша думаў, што пра рубель забылі. // *Вася* думаў, што пра рубель забылі.

[9] прынёс Нінцы новыя чаравікі // прынёс Нінцы *жоўтыя* чаравікі

[10—11] Сашу — нічога. Саша не пакрыўдзіўся // *Васю* — нічога. *Вася* не пакрыўдзіўся

[18—19] сядзець з Васем у другім класе яму сумна. // *сядзець разам з Васем у другім класе яму сумна*; паколькі «Вася» паслядоўна выпраўлялася пры перавыданні на «Сашу», мэтазгодна і ў дадзеным выпадку змяніць тэкст, адысці ад варыянта, змешчанага ў зб. «Хатняе зайчанё».

[32—33] На вуліцы разводдзе, набраклы вадою снег і гразь. // На вуліцы разводдзе, *ацеслівы, як каша,* снег і гразь.

[33—34] Сашавы чаравікі // *Васевы* чаравікі

С. 19:

[15—16] кідае на прылавак боханы хлеба. На Сашу // кідае на прылавак боханы хлеба, *ставіць пляшкі з гарэлкай, віном. На Васю*

**Цётчын блінец (с. 20)**

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік як асобнае апавяданне змясціў перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1974, №1, дзе ўваходзіла ў «Літаратурныя эцюды» (разам з творамі «За кампанію», «З дадаткам», «Гняды»).

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); у зб.: «Замяць жаўталісцця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); «Год карася», 1988 (як асобнае апавяданне); «Хатняе зайчанё», 1998 (як асобнае апавяданне).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца чарнавы рукапіс (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—3, працяг адсутнічае, назва апавядання пазначана як «Блінец для цёткі Аксінні»), рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання «Цётчын блінец».

С. 20:

*Пудлік* — мянушка, як мяркуецца, паходзіць ад аналагічнага ўкраінскага слова са значэннем «кораб», «кошык для тавараў»; адпаведна «пудлікі» ці самі карабейнікі, ці іх нашчадкі.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Беларусь»*

С. 20:

11—12 Нюрку і Стася я знарок вывеў з хаты на агарод, каб не канькалі есці. // Нюрку і Стася я *спецыяльна* вывеў з хаты на агарод, каб не *канючылі* есці.

21—22 Ён, пакуль не даможацца свайго, не перастане крычаць. // *Ён, пакуль не даможацца свайго, не перастане.*

27 Другім разам я даў бы ёй плескача. // Другім разам *я б ёй даў* плескача.

С. 21:

18—19 на якую мы летам лазім // *На якую летам лазім*

**Гняды (с. 22)**

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік як асобнае апавяданне змясціў перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1974, № 1, дзе ўваходзіла ў «Літаратурныя эцюды» (разам з творамі «За кампанію», «З дадаткам», «Цётчын блінец»).

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); у зб. «Замяць жаўталісця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); «Год карася», 1988 (як асобнае апавяданне).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

С. 22:

*...на турэцкай вайне.*— маецца на ўвазе руска-турэцкая вайна 1877—1878 гг.

С. 23:

*Ляда* — дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высечка.

*Дзятлавіна* — дробная канюшына, дзяцельнік у некаторых рэгіёнах Беларусі — толькі дзікая (белая) канюшына.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Беларусь»*

С. 22:

10—11 пралягала чыгунка, і яна ўносіла нешта сваё // пралягала чыгунка, *а* яна ўносіла нешта сваё

[24—25] цеплаватую, расплюшчаную на медаль, які атрымаў мой прадзед // *цеплаватую, расплюшчаную, падобную на медаль, які атрымаў мой прадзед*; памылкова прапушчана «падобную на», неабходна ўзнавіць першасны варыянт.

## Сустрэча з маршалам (с. 24)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік як асобнае апавяданне змясціў перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Вясёлка», 1974, № 11 (як асобнае апавяданне).

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); у зб.: «Замяць жаўталісця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); «Вясёлка», 1981; «Вяснянка», 1983; «Год карася», 1988 (як асобнае апавяданне).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «Сустрэча з маршалам» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—7); пачынаецца тэкст дадзенага апавядання фрагментам, які ў далейшым будзе вылучаны ў асобнае апавяданне «Птушкі любяць волю».

С. 24:

*...Маршал Савецкага Саюза — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета.*— на першых выбарах у Вярхоўны Савет СССР (12 снеж. 1937 г.) кандыдатам у дэпутаты па Васілевічах праходзіў Кулік Рыгор Іванавіч (1890—1950), Маршал Савецкага Саюза (1940 г.).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *Зб. тв.*

С. 24:

[14] убачыць на свае вочы // убачыць на *ўласныя* вочы

[17] Дзяжурны астаецца ў класе // Дзяжурн*ы астанецца* ў класе

С. 25:

[5—6] У партах ляжалі сумкі // У партах *ляжаць* сумкі

[7—8] Алёша дастаў з парты кніжку, прымасціўся каля цёплай грубкі, пачаў чытаць. // *Выцягнуўшы з парты кніжку і прымасціўшыся ля цёплай грубкі, Алёшка* пачаў чытаць.

[8] Так прайшло некалькі хвілін. // Так прайшло *з паўгадзіны ці, можа, трошкі болей.*

[13—14] рудыя падцёкі на сценах, на столі // рудыя падцёкі на сценах, *пад столлю*

[19—20] — Я дзяжурны. Школа пайшла маршала сустракаць. — Я, брат, маршал і ёсць. // — Я дзяжурны. Школа пайшла маршала сустракаць. *Вайсковец усміхнуўся: — Я, брат, маршал і ёсць.*

## Сямігодка для дарослых (с. 26)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1975 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1974, № 6.

Уваходзіла ў зб. «Замяць жаўталісцяя», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

С. 26:

*Поклад* — яйка або прадмет, падобны да яго, які кладуць там, дзе хочуць, каб несліся куры.

*Сямігодка, якую ён канчае, і на школу не надта падобна.*— маюцца на ўвазе агульнаадукацыйныя курсы на базе пачатковай школы: форма адукацыі, якая культывавалася з 1936 г., калі былі створаны школы для дарослых двух тыпаў: няпоўная сярэдняя агульнаадукацыйная (на базе пачатковай) і сярэдняя агульнаадукацыйная (на базе сямігодкі). З 1937 г. культывавацца пачынае ўжо іншая форма адукацыі для дарослых — завочныя школы.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 26:

[2—3] Цімоху загадаў // *Васю* загадаў

[8—10] здаецца, нават ледзь чутна папісквалі. Нават непрыемна было глядзець у вядро. // *здаецца, нават ледзь чутна папісквалі.*

[13] Лезці ў лужыну было позна // Лезці ў *лужу* было позна

[25] ён за кніжкі. // ён за *кніжачкі.*

[28] Заўтра можаш плявузгаць колькі захочацца. // Заўтра можаш плявузгаць колькі *захочаш.*

С. 28:

[17—18] не трэба табе ехаць на курсы, Сцяпан. Пражывем без курсаў. Тут у нас // не трэба табе ехаць на *тыя курсы, Сцяпан. Тут у нас*

[30] не прыйдзецца ехаць ад родных мясцін... // не прыйдзецца ехаць ад родных *аселіц.*

## 1975

### Птушкі любяць волю (с. 29)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік як асобнае апавяданне змясціў перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1975, № 2. Перад тэкстам — слова ад рэдакцыі: «Споўнілася 50 год вядомаму беларускаму пісьменніку Івану Навуменку. З-пад яго пяра выйшла нямала цудоўных твораў, якія хвалююць чытача сваёй праўдзівасцю, вызначаюцца глыбінёй зместу, высокім майстэрствам. Прыхільнікам мастацкага слова добра вядомы яго шматлікія апавяданні, аповесці, трылогія «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці». Гэтыя раманы прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны, мужнай барацьбе беларускіх партызан супраць гітлераўскіх захопнікаў. Піша празаік і для дзяцей. Добра вядомы юным чытачам яго аповесць «Вайна ля Цітавай копанкі», апавяданні, што друкаваліся раней на старонках нашага часопіса. Іван Навуменка — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. За кнігу «Таполі юнацтва» яму прысуджана прэмія Ленінскага камсамола рэспублікі. «Бярозка» сардэчна віншуе Івана Якаўлевіча з юбілеем і жадае яму новых творчых поспехаў».

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); у зб.: «Замяць жаўталісцця», 1977 (як частка «Літаратурных эцюдаў»); «Ручаінка», 1978; «Год карася», 1988 (як асобнае апавяданне).

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты рукапісу і машынапіс апавядання «Птушкі любяць волю» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—12); на адным з варыянтаў закрэслена першапачатковая назва «Сустрэча з маршалам» і ніжэй падпісана назва «Птушкі любяць волю».

С. 30:

*Туркалікі* — птушкі роду галубоў. У Беларусі два віды, туркалік звычайны (найменшы з галубоў Беларусі) — пашыраны лясны голуб, пералётная птушка, якая звычайна прылятае ў канцы красавіка і жыве ў лісцевых і мяшаных лясах, драбналессі, парках і садах, а потым, у канцы жніўня ці пачатку верасня, адлятае. У апавяданні размова менавіта пра гэтых галубоў, паколькі другі від, туркалік кольчаты, упершыню адзначаны ў Беларусі ў 1960 г. у Брэсце (туркалік кольчаты — птушка аселая, гняздуецца ў зялё-

ных насаджэннях населеных пунктаў, узімку вандруе чародамі па 10—25 птушак, начуе на дрэвах).
С. 31:
*Турманы* — парода галубоў, якія маюць здольнасць куляцца пры палёце.
*Пакулле* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 710).

Варыянты і разначытанні:
Зборнік «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Бярозка»*
С. 29:
[8] і накрыўка зачыняецца. // і накрыўка *захлопваецца.*

**Асфальт (с. 32)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1975 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1975, 6 чэрв. Змешчана пад рубрыкай «Апавяданне. Год 1975», перад тэкстам — слова аўтара: «Я люблю апавяданне за магчымасць выявіць у ім нейкі імгненны настрой, які прыходзіць у пэўны час і болей не паўтараецца. Дакараю сябе, што ў звычайнай, будзённай мітусні не занатаваў безліч такіх настрояў — яны наплывалі і знікалі, нібы хмурынкі на блакіце летняга неба. Апавяданне можна напісаць хутка, адгукнуцца на праяву часу, увасобіўшы ў ім штосьці значнае, што толькі наспявае ў жыцці і не мае яшчэ выразнай назвы. Ідэю апавяданню могуць даць выпадкова пачутая размова, які-небудзь убачаны эпізод, успамін, навеяны чытаннем кнігі, напісанай другім аўтарам, нават пачуццё, якое ўзнікае ад сузірання якой-небудзь мясціны, калі яно захавалася ў памяці, бо ёсць і пачуццёвая памяць. Я люблю апавяданне яшчэ і за тое, што яно можа стаць як бы сціслым канспектам будучай больш разгорнутай рэчы, яе першай апрабацыяй. На аповесць, раман трэба патраціць месяцы і гады, але думку, якая пазней ляжа ў іх аснову, можна выказаць і ў апавяданні. Калі думка прадуктыўная, яна будзе абрастаць новымі падрабязнасцямі, разгорнецца ўглыб і ўшыркі — нібы кінутае ў зямлю зерне, якое дае пачатак новаму жыццю».

Уваходзіла ў зб. «Замяць жаўталісця», 1977.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978; зб. «Последняя осень», 1979) В. Элькін.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—7).

На першай старонцы рукапісу ўгары закрэслена першая назва апавядання — «Сіняя птушка», і ніжэй падпісана назва «Асфальт».

С. 33:

*...харкаўскі трактар.*— маецца на ўвазе трактар, выпушчаны Харкаўскім трактарным заводам (ХТЗ).

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *газетны варыянт апавядання*

С. 34:

[8—9] Ні злосці на яго // Ні злосці *да* яго

[39] Скажаш, і ўгнаенні ляжаць // *Скажаш, што* і *ўгнаенні ляжаць*

С. 35:

[30] чым здаваўся на першы пагляд. Душа ў ім ёсць… // *чым здаваўся на першы пагляд.*

[37—38] Каб лішне не пашкодзіць жанчыне // Каб *махнуць на развітанне* жанчыне

С. 36:

[2—4] ён не хоча. Ён падыдзе да кампаніі ў апошні момант і сядзе разам у вагон… Завітвае // ён не хоча. *Яго жанчыне хопіць аднаго позірку і ўзмаху рукі. Місінскі расказвае тым часам пра загадчыка камунгаса Кавальчука, знятага з пасады: пабудаваў дом у грамадскім садзе, палавіну дрэў вынішчыў, астатнія прыгарадзіў.* Завітвае

[13] У горадзе, у філіяле // *Дзіўна, ён думае пра шашу, якой яшчэ няма, пра гладкі асфальт, які звяжа іхнія мясціны з абласным горадам. Там, у філіяле*

[23] Жызнеўскі выскачыў на перон. // Жызнеўскі *выйшаў* на перон.

[25] у правай — невялікі чамаданчык. // *невялікі чамаданчык — яго яна трымала ў правай.*

**Какава для папраўкі здароўя (с. 36)**

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998, у якім пісьменнік змясціў перапрацаваны, у параўнанні са Зб. тв., тэкст.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1975, № 7.

Уваходзіла ў Зб. тв., т. 1 (1981, з датай 1975); зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Пераломны ўзрост», 1986; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Лит. Россия», 1977, 11 марта; зб. «Замять желтолистья», 1978; зб. «Последняя осень», 1979) У. Жыжэнка.

С. 37:

*...Германія напала на Польшчу, Англія і Францыя аб'явілі вайну Германіі...* — на Польшчу фашысцкая Германія напала 1 верас. 1939 г., звязаныя з Польшчай саюзнымі дагаворамі Вялікабрытанія і Францыя аб'явілі вайну Германіі 3 верас. гэтага ж года — і на Захадзе пачалася гэтак званая «дзіўная» вайна, калі ні англійскія з французскімі, ні германскія войскі баявых дзеянняў не вялі. Праз 9 месяцаў, 10 мая 1940 г., у рашучы наступ перайшла германская армія.

С. 38:

*...месяц, як на Карэльскім перашыйку ідуць баявыя дзеянні...* — маецца на ўвазе савецка-фінская вайна, якая пачалася 30.11.1939 г.

*Карэльскі перашыек* — участак сушы паміж Фінскім залівам і Ладажскім возерам.

*Парыж* — сталіца Францыі.

С. 40:

*Плашка* — палова расколатага ўздоўж палена.

С. 41:

*Леспрамгасаўскі магазін* — маецца на ўвазе ведамасны, які адносіцца да лесапрамысловай гаспадаркі (гаспадарча-разліковага прадпрыемства па нарыхтоўцы, вывазцы і адгрузцы драўніны), магазін. Першыя леспрамгасы ў Беларусі арганізаваны ў 1930 г., з 50-х гг. XX ст. іх колькасць пачала скарачацца.

*Суравыя ніткі* — грубыя, нябеленыя.

*Сельпоўскі буданчык* — будынак, які, як і размешчаная ў будынку крама-кааператыў, належыць сельпо, сельскаму спажывецкаму таварыству.

С. 44:

*Мінула вайна з белафінамі...* — у лют. 1940 г. азначыўся пералом у баявых дзеяннях на карысць савецкіх войск, 12 сак. 1940 г. быў падпісаны мірны дагавор.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Маладосць»*

С. 36:

[33] а палове шостай знікаюць // *ў палавіне* шостай знікаюць

С. 37:

[22] гатовай прадукцыяй — прывозяць бочкі з грыбамі. // *гатовай прадукцыяй.*

[39] Англія і Францыя аб'явілі // Англія і Францыя *аб'явіла*

С. 38:

[10] вольны час ён захоўвае // вольны час ён *разрахоўвае*; тут мэтазгодна пакінуць першасны варыянт.

[11—12] са старым пашкамутаным томікам // са старым *патрапаным* томікам

[34] Прыхіліўшыся спіной // *Прыхінуўшыся* спіной

С. 39:

[6] два разы быў закаханы. // *два разы быў нават закаханы.*

[16] каб ён яе не ўспомніў. // *каб ён пра яе не ўспомніў.*

[31—32] закрыла рукой чарніліцу // закрыла рукой *чарнільніцу*

С. 40:

[20—22] У сям'і Васіль старэйшы, на яго плечы кладзецца большы клопат. З братоў яшчэ Міхась // У сям'і Васіль старэйшы*, акрамя яго ёсць тры браты, маленькая сястра, бацька працуе на чыгунцы, і яго заработку стае толькі на хлеб.* З братоў яшчэ Міхась

[29—30] Раней ён любіў гэтыя вандроўкі. // *Раней ён нават любіў гэтыя вандроўкі.*

[37] дасталося ў чарзе. // *даставалася* ў чарзе.

С. 41:

[13] Вось жа гора. // *Дзень складваўся няўдала.*

[14] з пустымі рукамі, сказаць, што хлеба // з пустымі рукамі, *сказаўшы,* што хлеба

[25—26] ісці болей няма куды. // ісці болей *некуды.*

С. 42:

[9—10] дома яго праглынуць, як муху, і ніхто не наесца. // *дома яго праглынуць, і ніхто не наесца.*

С. 43:

[12] зніклі на вачах. // *раставалі* на вачах.

[13] паліла і сваю печ. // паліла *і ва ўласнай печы.*

[15] У іх ёсць пякарня // У іх *уласная* пякарня

[19] Усё драўлянае // Усё *дзеравянае*

[34—35] Васіль узяў пілу, паклікаў Міхася і рушыў на агарод. // *Узяўшы пілу, паклікаўшы Міхася, Васіль* рушыў на агарод.

[36] і атрымаўся абярэмак дроў. // і *атрымалася печыва* дроў.

С. 44:

[37] Назаўтра бацька знарок схадзіў // Назаўтра бацька *спецыяльна* схадзіў

С. 45:

[1—2] маці згатавала і падала // маці *зварыла* і падала

[10] і ўтрох лыжкамі яны выбралі бляшанку // *і ўтраіх лыжкамі выбралі бляшанку*

**Лістоўкі сорак першага года (с. 45)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1975 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1975, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Аповесці. Апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Замять желтолистья», 1978) В. Элькін.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—11).

С. 45:

*Усходняя Прусія* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 710).

*Памеранія* — ад лацінскага Pomerania (скажонае польскае Pomorze), сярэднявечнае герцагства (1170—1648) у складзе Свяшчэннай Рымскай імперыі, створанае на месцы германізаванага славянскага княства памаран (да 1637 г. тут працягвала існаваць мясцовая, славянская, княжацкая дынастыя). Размяшчалася на ўзбярэжжы Балтыкі, на ўсход і захад ад ракі Одэр (Одра). Пазней стала прускай правінцыяй з цэнтрам у горадзе Штэцын (Шчэцін), пасля 1945 г. Памеранія часткова адышла да Польшчы, часткова (землі на захад ад Одэра) — да Германіі.

С. 45:

*Грунвальд* — мястэчка ў Памераніі, бліз якога адбылася знакамітая Грунвальдская бітва. Паказальна, што ніхто з герояў апавядання не задаецца пытаннем, ці той перад імі Грунвальд, на ўроках гісторыі будучыя салдаты гэту назву відавочна не чулі. Пры гэтым варта адзначыць: рукапіс апавядання, які захоўваецца ў БДАМЛМ, дазваляе пабачыць, што ад пачатку героі апавядання прыходзяць у безаблічную вёску, пасля словы «вёска» былі закрэслены і замест іх І. Я. Навуменкам пастаўлена: Грунвальд.

С. 47:

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

*Герынг Герман* (1893—1946) — адзін з кіраўнікоў фашысцкай Германіі, прэм'ер-міністр і рэйхсміністр авіяцыі (1933—1945), рэйхсмаршал (1940—1945). Паводле Нюрнбергскага працэсу прыгавораны да пакарання смерцю. Скончыў жыццё самагубствам.

Варыянты і разначытанні:
Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*
С. 45:
31—32 Пройдзем вёску і ўзбяромся // Пройдзем вёску і *забярэмся*
С. 46:
14—15 а ў дамах, на верхніх паверхах, насыпанае проста на падлогу ляжыць збожжа. // а ў дамах, на верхніх паверхах, *насыпаныя проста на падлогу, ляжаць кучы* збожжа.
16—17 клапаціцца пра харч у гэтым краі не выпадае. Усе ходзяць сытыя. // *Клапаціцца пра харч у гэтым краі не выпадае.*

**1979**

**Грыбная зямля (с. 50)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1979 г.
Упершыню — газ. «ЛіМ», 21 сак. 1980.
Уваходзіла ў зб.: «Смутак белых начэй», 1980; «Сярэбраныя мхі», 1983.
Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.
У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—12).

С. 50:
*Крушыннік* — зараснікі крушыны; крушына — куст або невялікае, да трох метраў, дрэва сямейства крушынавых, расце ў падлеску, хмызняках, па берагах рэк, на ўскрайках балот.
С. 51:
*Грабняк* — шыракалісты лес, у якім пераважае граб — дрэва сямейства бярозавых з шэрай, гладкай карой; камель граба ў ніжняй частцы рабрысты. Грабнякі складаюць толькі 0,2 % ад беларускіх лясоў.

Варыянты і разначытанні:
Зб. тв. // *газетны варыянт апавядання*

С. 50:

[3] выдыбаў па гэтай дарозе // выдыбаў *на* гэтай дарозе

[24—25] На іх месцы кучы цэглы // На іх месцы *куча* цэглы

С. 51:

[13] сын Юра // сын *Юрый*

[30] Спляліся галінамі бярозы // *Густа спляліся галінамі бярозы*

[35] Паміж Чарнічным борам і сцяной грабняку // *Паміж Чарнічным борам і сцяной цёмнага грабняку*

С. 52:

[18—19] як сорак, а мо як і сто гадоў назад // як сорак, *як, відаць,* сто гадоў назад

С. 53:

[12] Як у харом уступіў // Як у *хорам* уступіў

[14—15] ці па маладым сасонніку — белавата-наздраватым мохам. // ці па маладым сасонніку *белаватым, наздраватым* мохам.

## Мульменкаў сад (с. 54)

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1979 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1980, № 2.

Уваходзіла ў Зб. тв., 1982, т. 2; у зб. «Смутак белых начэй», 1980.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1983, № 9; зб. «Мечтатель», 1987) Э. Карпачоў.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «Мульменкаў сад» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—59).

С. 54:

*«У гэтым садзе для мяне // Яшчэ астаўся дрэваў шум // І лёгкі басаногі след // Далёкага юнацтва...»* — эпіграф — гэта радкі з верша М. Танка «Хоць сад абтрэсены даўно», упершыню змешчанага на старонках зб. «Дзень паэзіі — 66».

С. 56:

*Грабняк* — гл. камент. да апавяд. «Грыбная зямля» (с. 724).

*...наглытаўся газу...* — маецца на ўвазе атручанне, атрыманае падчас выкарыстання хімічнай зброі («газаў») на франтах Першай сусветнай вайны.

С. 63:

*Ваенна-транспартная акадэмія ў Ленінградзе* — дадзеная ваенная навучальная ўстанова ад пачатку знаходзілася ў Маскве, толькі ў 1938 г. яна пераведзена ў Ленінград.

С. 64:

*Ордэн Чырвонага Сцяга* — першы з савецкіх ордэнаў. Быў заснаваны 16 верас. 1918 г. падчас грамадзянскай вайны Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам. Уручаўся за асаблівую смеласць, самаадданасць і мужнасць, выяўленыя пры абароне сацыялістычнай Айчыны. Да зацвярджэння ордэна Леніна ў 1930 г. быў найвышэйшым ордэнам Савецкага Саюза.

С. 67:

*Забарсень* — вяровачныя петлі, з дапамогай якіх лапаць прымацоўваецца да нагі.

*Зашмарг* — зацяжная пятля, завязаная толькі адным канцом.

*Аборы* — тонкія вяровачкі ў лапцях, якімі абмотваюцца анучы.

С. 69:

*Вароўскі Вацлаў Вацлававіч* (1871—1923) — рэвалюцыянер, публіцыст, літаратурны крытык, савецкі дыпламат, з 1921 г. накіраваны паўпрэдам у Італію, удзельнічаў у рабоце Лазанскай канферэнцыі і быў забіты ў Лазане расійскім эмігрантам.

С. 70:

*...ў Рэчыцы, у педтэхнікуме...* — у 1930 г. у Рэчыцы адкрылася педагагічнае вучылішча, якое пасля ўзбуйнення Рэчыцкага раёна ў 1938 г. набыло статус тэхнікума.

*Маракоў Валерый Дзмітрыевіч* (1909—1937) — беларускі пісьменнік. Друкаваўся з 1925 г., у 1936 г. рэпрэсаваны.

*«На залатым пакосе»* — зборнік В. Маракова «На залатым пакосе» выйшаў у 1927 г. У БДАМЛМ, у архіве І. Я. Навуменкі, захоўваецца запіс, які ўдакладняе і пашырае гісторыю, звязаную з дадзеным зборнікам В. Маракова: «У мяне ёсць дзядзька, малодшы брат маці, старэйшы за мяне на восем гадоў. Ён заканчваў сямігодку ў нашым мястэчку і жыў, вядома, у нас. Дзядзька меў два таленты: добра маляваў і ўмеў прыгожа расказваць казкі.

Ён паступіў у Рэчыцкі педтэхнікум, але не скончыў яго: меў толькі скалечаную маці, якой трэбай малатарні адцяла правую руку і якая не магла яму дапамагаць.

Дзядзька цікавіўся літаратурай, у прыватнасці, паэзіяй. Аднойчы ён забыў кніжачку вершаў Валеры Маракова «На залатым пакосе». Я яе тут жа апрыходваў, змясціўшы ў сваю небагатую бібліятэку. Тую кніжачку я, вядома, чытаў і некаторыя вершы запомніў. Напрыклад, такія радкі:

Я не кахаў, кахаліся другія,
А я на іх з трывогаю глядзеў...

І вось праз некалькі дзесяцігоддзяў я сустракаю на старонках газеты імя Маракова. Леаніда. Звяраю па даведніку. Няма пакуль. Але не паспеў трапіць. Тым часам друкуецца часта. І бываюць рэчы неблагія. Вось як апавяданне «Выкрунтасы першага кахання». Стараюся дазнацца, хто Леаніду Валерый Маракоў. Аказваецца, дзядзька. Сын брата. Творчыя гены не гаснуць. У асобе дзядзькі і пляменніка сутыкаюцца розныя эпохі. Добра. Пляменнік пра дзядзьку напіша. Не парвецца род пісьменнікаў».

Варыянты і разначытанні:

Выбр. тв. // *часоп. «Маладосць»*

С. 54:

[23—24] прайсці на дыбачках кухню // *прайсці на дыбачках на кухню*

С. 55:

[4—5] П’е ён яе з прыемнасцю. // П’е ён яе *са смакам.*

[6—7] і калі яна, як тут, ледзь-ледзь цеплаватая // *і такую,* як тут, ледзь-ледзь *цеплаватую*

[9] Вада ў сенечках з калодзежа, які размешчан // Вада ў сенечках з *калонкі*, *якая размешчана*

[16] разалье малако па гладышках // разалье малако па *гладышыках*

[25—26] ён жыў вострым надзённым клопатам. // ён жыў вострым, *які набягае штодня,* клопатам.

[27—28] Яна ўжо паспела апрануцца. // Яна *паспела ўжо* апрануцца.

[34—35] Сам жа дыхаеш цяжка. // Сам жа *сапеш, як той мех у кузні.*

[37—38] Ты, можа, забыла, што яго бацька таксама на хутарах жыў. // Ты, можа, *забылася,* што яго бацька *тожа* на хутарах жыў?

С. 56:

[1—2] З аблічча бледны, сухашчавы. // З аблічча бледны, *хударлявы.*

[13] Трава на ўзгорках, узлобках жоўкне, высыхае // *Трава на ўзгорках жоўкне*

[17] разлеглая лясная паляна // *утульная* лясная паляна

[19—20] Паляну абступалі з заходняй стараны разлеглыя векавыя дубы // Паляну абступалі з *заходняга краю разложыстыя* векавыя дубы

[24—25] Асаблівых выгод, выключаючы тое, што можна было // *Вялікага раю там не было.* Можна было

[31—33] кашляў, і, мабыць, не ў апошнюю чаргу гэтым можна вытлумачыць, што ён пасяліўся на лясной паляне. // кашляў, і, *выбраўшыся з мястэчка,* пасяліўся на лясной паляне.

С. 57:

[3—6] выпрасіў у суседа-будачніка цэментовы круг, які астаўся лішнім пасля збудавання вымашчанага такімі кругамі калодзежа-прорвы, і агарадзіў // выпрасіў у суседа *цэментовы круг, які застаўся лішнім пасля збудавання калодзежа-прорвы ля чыгуначнай будкі,* і агарадзіў

[8—9] а зімой як бы нават цяплейшая за ўсялякую іншую ваду. // а зімой як бы нават *цяплела.*

[25—26] Гадавалага парсючка сястра трымае // *Парсючка сястра трымала*

[34—35] за накрыты цыратай столік // за накрыты *кляёнкай* столік

С. 58:

[1] Індывідуальныя каровы цяпер // *Аднаасобныя* каровы цяпер

[3] З пошты вецце рэзаць паслалі. // З пошты *сучкі* рэзаць паслалі.

С. 59:

[2—3] пачалося ў трыццаць восьмым годзе ці трыццаць дзявятым. // *пачалося ў трыццаць дзявятым годзе.*

[7—8] Працаваў, дыхаў паветрам, спаў. // *Рабіў,* дыхаў паветрам, спаў.

[20—21] Трэба пошту прыгатовіць дванаццацічасоваму. // Трэба пошту прыгатовіць *дванаццацігадзіннаму.*

С. 60:

[5—7] попельна-шэрыя валасы не даюць падстаў для дакладнага вызначэння ўзросту. // попельна-шэрыя валасы *могуць быць у старэйшага ці маладзейшага чалавека.*

[8] Пастарэў ты, Цімафей // *Здаў* ты, Цімафей

[9—10] А я за твайго бацьку ўсяго гадоў на дзесяць маладзей. // А я *з тваім бацькам добра знаўся. Лічы — сябраваў.*

[24] Пры такой жары на нізкім яна // Пры такой *спёцы* на нізкім яна

С. 61:

[5] Тут столькі ўсяго настроілі // Тут столькі ўсяго *набудавалі*

[6] Болей строіць не трэба. // Болей *будаваць* не трэба.

[9—10] нейкі прахадзімец зарэзаў. // нейкі *прайдзісвет* зарэзаў.

[10] Нібыта ўтрох да адной // Нібыта *ўтраіх* да адной

[14—16] Народу ўсялякага наплыло. Як бытта ў Мінску ці Гомелі ён тунеядзец, а тут // Народу ўсялякага наплыло. *Нават розных лодыраў і абібокаў з гарадоў сюды высылаюць. Як бытта ў Мінску ці Гомелі ён лодыр,* а тут

[18—19] грошай на кніжку налажыў. // грошай на кніжку *наклаў.*

[22—23] пра гэтыя і іншыя прыкрыя гісторыі, якія здарыліся ў мястэчку // пра гэтыя і іншыя прыкрыя *здарэнні — яны выніклі* ў мястэчку

[28—29] невялікая мэблевая фабрыка, цагельны завод і заводзік сухога малака // невялікая *фанерная* фабрыка*, цагельная арцель* і заводзік *хлебнага квасу*

[30—31] Найбуйнейшая прамысловая ўстанова, як і ў часы яго маладосці, чыгуначная станцыя. // *Найбольш людзей працуе,* як і ў часы яго маладосці, *на чыгуначнай станцыі.*

[32] Дзядзька, уволю нагаварыўшыся // Дзядзька, *усмак* нагаварыўшыся

С. 62:

[1—2] хаціны глыбей убіліся ў зямлю, прыселі. Не ратуюць становішча сям-там пафарбаваныя аканіцы, парканы. // хаціны глыбей *ураслі ў зямлю, як бы прыселі. Сям-там пафарбаваныя аканіцы*, *парканы не надаюць хацінам і дварам гарадскі выгляд.*

[4] атрымлівае саўгасную *пенсію.* // *палучае пенсію, заробленую ўжо ў саўгасе.*

[12] Паміж хатай і хлеўчыкам — маліннік. // Паміж хатай і хлеўчыкам — *зараснік малінніку.*

[37] сняцца лес, наша хата // *сніцца* лес, наша хата

[38—39] У трыццаць пятым я паехаў адсюль, васямнаццаць было. // *Я ў трыццаць пятым паехаў адсюль. У васямнаццаць гадоў.*

С. 63:

[2—3] І мне сніцца наш двор і вуліца. Гэта ўсё ў нас ад старасці. // І мне сніцца наш двор і вуліца. *Аднолькавыя сны.* Ад старасці.

[5] Я, як пайшоў у запас // Я, як пайшоў у *адстаўку*

[18] Ты ж з іншай эпохі… // Ты *зусім* з іншай эпохі…

[24] пабольш прыемнага ад жыцця палучыць… // пабольш прыемнага ад жыцця *вывудзіць…*

С. 64:

[16] Па гэты бок лесу // *На* гэты бок лесу

[30—31] Здароўе ў яго неважнецкае. // *Здароўе ў яго, відаць адразу, неважнецкае.*

С. 65:

[7—8] прынесла лапці, штаны, сарочку // прынесла лапці, *дзягу*, сарочку

[26] Узаб’ецца карова на асфальт, растапырваючы капыты // Узаб’ецца карова на асфальт, *шоргаючы капытамі*

[29] У сем гадзін // У *восем* гадзін

[29] Ляснічы мусіць ехаць // Ляснічы *будзе* ехаць

[36] пераездам канчаўся паўночны край мястэчка. // пераездам *канчалася паўночная старана* мястэчка.

[38] лента асфальту // *стужка* асфальту

С. 66:

[3] шкумяталі чыгунку // *шкуматалі* чыгунку

[18] левай рукой дзяржаўся за плячо // левай рукой *трымаўся* за плячо

[29] Цімафей Рыгоравіч дзяржыць касу // Цімафей Рыгоравіч *трымае* касу

[33] роўнай дарогай, якая губляецца ў траве. // роўнай, *якая губляецца ў траве, дарогай.*

С. 67:

[1—2] Негаваркі, нават хмурнаваты // *Лішне не гаваркі,* нават хмурнаваты

[16] выцвілыя дзядзькавы штаны // выцвілыя, *у клетку* штаны

[36] папіскваюць невядомыя птушкі. // папіскваюць *нябачныя* птушкі.

[38—39] З унутраным дрыжаннем падыходзіў да балацянкі. Кустоў аж // *Пабойваецца ён аднаго — ці не забыў, як трэба касіць. Балацявіна ўся зарасла*. Кустоў аж

С. 68:

[3—4] закладваюць мянташку за ручку касы. Але ён забыўся // *закладваюць мянташку за ручку касы, трымаючы яе ў руцэ. Але ён забыў*

[7] Трава тым часам някепская // Трава, *аднак,* някепская

[10] Раскарачыўшы, упёршы ногі // *Раскарачыўшыся,* упёршы ногі

[10—11] з правага пляча на левае. // з правага пляча *налева.*

[13] кладзецца ў рад. // кладзецца ў *пракос.*

[20—21] Час мянташыць. // *Трэба касу* мянташыць.

[22—23] Паставіўшы кассё між ног, для трываласці ўвагнаўшы // *Нахіліўшы кассё,* для трываласці ўвагнаўшы

[30—31] намячае рубяжы дальнейшага дзеяння і адпачынку. Дойдзе да таго вунь ажынавага куста // намячае *чарговы рубеж, дайшоўшы да якога, адпачне. Вунь ля таго* ажынавага куста

[33] гоніць пракосы гадзіну ці дзве // гоніць *пракос за пракосам*

[34—35] ломіць у крыжы паясніцу. // *ломіць паясніцу.*

С. 70:

[4—6] У гэтым клубе паставілі бясконцую колькасць п’ес, прыдумвалі розныя відовішчы, якія потым пераносілі на пляцоўку, на вуліцу. // У гэтым клубе паставілі *шмат розных* п’ес*, там узнікалі*

*задумы відовішчаў, якія камсамольцы паказвалі на пляцоўцы, на вуліцы.*

[21] У дальнім кутку саду // У *зацененым* кутку саду

С. 71:

[3—4] яго ціхія бязмоўныя заляцанні. // яго ціхія, *без напамінку аб іх дзяўчыне*, заляцанні.

[5] плячыстага, зацягнутага ў рамяні // плячыстага, *перацягнутага рамянямі*

[9] і шалясцела пры хадзьбе. // і *шасцела* пры хадзьбе.

[12] і на гэты раз зрабіў сваю справу. // і на гэты раз *дзейнічаў нібы гіпноз.*

[19—20] Маюць добрую хату, зажытак. // Маюць добрую хату, *пажытак.*

С. 73:

[5] На хвіліну ён прымгнуў вейкі і зноў — каторы раз // На хвіліну ён *звёў вейкі, прымгнуў і зноў — у* каторы раз

## 1980

### Як купіць аўтамашыну (с. 76)

Друкуецца паводле зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1980, № 6 (пад рубрыкай «Жартам кажучы», жанравае азначэнне — «гумарэска», падпісана «Яўхім Цыбук»).

Уваходзіла ў зб. «Сярэбраныя мхі», 1983.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—6).

С. 76:

*Крым* — паўвостраў на поўдні Украіны, абмываецца Чорным і Азоўскім марамі і Керчанскім пралівам. Буйны цэнтр турызму.

С. 77:

*Кузаў ад пяцітонкі* — кузаў ад аўтамабіля грузападымальнасцю 5 тон.

С. 78:

*«Масквіч»* — легкавы аўтамабіль малога класа, які выпускаў Маскоўскі аўтамабільны завод імя Ленінскага камсамола з 1946 г.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Апрасцімся, сябры!..» // *часоп. «Беларусь»*

С. 76:

[1] Фелікс мусіў прыехаць // Фелікс *меўся* прыехаць

[8] машыну ўзяў? — спытаў Фелікс. // машыну ўзяў? — *спытаўся* Фелікс.

[14] валяецца колькі хочаш // *раскідана* колькі хочаш

[14—15] Вось з іх і сабраў свой драндулет. // *Вось з іх і сабраў я свой драндулет.*

[17—21] Матор я выдраў з сямітоннага самазвала, пакінутага без нагляду на глухой дарозе. Затое з такім маторам мой драндулет можа імчаць звыш усялякай дазволенай хуткасці. Каб прыладзіў крыллі, відаць, паляцеў бы. // Матор я *знайшоў на задворках адной аўтабазы. І з гэтым начыннем мой драндулет можа імчаць з хуткасцю рэактыўнага лайнера. Адно прыладзь крылы — і, відаць, сігане ў неба.*

С. 77:

[3] Збяром, а што? // *Сабяром, а што тут такога?*

[15—16] Але зараз жа ў мяне выбліснула выратавальная ідэя. // Але зараз жа *ў маёй галаве бліснула* выратавальная ідэя.

[22] Потайкам ад жонкі… // *Употай* ад жонкі...

[25—26] трапляліся, бадай, на кожным кроку. // *траплялiся бадай што на кожным кроку.*

[26] было намнога больш, чым грыбоў // было *куды больш*, чым грыбоў

[29—30] прыладзіў кузаў ад пяцітонкі. Знойдзеныя бутэлькі занялі ў ім нязначнае месца. // прыладзіў кузаў *ад паўтаратонкі.*

[31] Справа пайшла. // *І пайшла ў нас справа!*

[32] выбіраліся ў лес. // *імчаліся* ў лес.

[33] заставаліся да цемені // заставаліся да *поцемкаў*

[33—34] збіралі па дзве, а іншы раз і па тры сотні бутэлек. // збіралі па *пяцьсот, а іншы раз і па тысячы* бутэлек.

[34—35] у якім напрамку не паедзь. // у якім напрамку не *пойдзеш.*

[37] віселі нават на дрэвах, надзеты рыльцамі на сукі. // віселі нават на дрэвах, *наткнутыя* на сукі.

С. 78:

[1—2] Можна было падумаць, што іх для сваіх гаспадарчых патрэб зацягнулі на дрэва // *Здавалася, што іх для нейкіх* сваіх гаспадарчых патрэб зацягнулі на *дрэвы*

[4—5] Грошай у нас хапала, за цаной не стаялі. На бутэльках мы зараблялі моцна. // Грошай *цяпер у нас хапала, і мы доўга не таргаваліся.*

[7—8] Едучы на новай, чэсна запрацаванай аўтамашыне па вуліцы // *Аднойчы, едучы на новай, сумленна заробленай аўтамашыне*

[9] які ўзнімаў у руцэ // які *трымаў над галавой*

[10—11] Грошы на ашчадную кніжку палажыў — машыну нажыў. // Грошы на ашчадную кніжку *паклаў — машыну прыдбаў.*

[12—15] «Няма табе, браце, чым выхваляцца,— падумаў я, пазіраючы на прычэсанага, прылізанага плакатнага дзецюка. — Ты колькі гадоў збіраў грошы, працэнты? Пяць або і ўсе дзесяць. А я за месяц купіў. // *І падумаў я пра плакатнага дзядзьку: «Чым ты, браце, выхваляешся? Колькі гадоў збіраў грошы, працэнты? Пяць, дзесяць? А я за месяц прыдбаў.*

**Байдачнікі (с. 79)**

Друкуецца паводле Выбр. тв., т. 1, 1995. Пад тэкстам: 1981 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1981, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1983, № 9; зб. «Мечтатель», 1987) У. Жыжэнка.

С. 84:

*Цыркулярная піла* — рэжучы інструмент у выглядзе пляскатага металічнага дыска з мноствам зубчыкаў.

*Дубовая тырса* — пілавінне.

С. 85:

*Дняпроўскі ліман* — месца, дзе Дняпро ўпадае ў Чорнае мора.

С. 86:

*...здаў нормы на значок «Варашылаўскі стралок»...* — «Варашылаўскі стралок» — нагрудны значок для ўзнагароджвання трапных стралкоў. Палажэнне пра стварэнне звання «Варашылаўскі стралок» было зацверджана 29 кастр. 1932 г. Прэзідыумам Цэнтральнага Савета Асаавіяхіма СССР і РСФСР, а сам значок «Варашылаўскі стралок» — 29 снеж. 1932 г.

Варыянты і разначытанні:

Выбр. тв. // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 79:

[17] з прыліпшымі да шляпак // з *прыліплымі* да *шапак*

[19—20] вандраваў па ўзгоркаватым // вандраваў па *ўзгорыстым*

С. 80:

[6] тыя жнівеньска-вераснёўскія // тыя жнівеньска-*верасеньскія*

[10—11] чым сем дзён, праведзеныя на дачы // чым сем дзён, *праведзеных* на дачы

[28] пакрытых цэмянтовымі плітамі // пакрытых *бетоннымі* плітамі

С. 81:

[15] слаба ўключана ў патрон // слаба *ўкручана* ў патрон

[35] выключаліся механічна. // выключаліся *аўтаматычна.*

С. 82:

[1] да крукоў з чашачкамі ізалятараў // да крукоў з чашачкамі *інвентароў*

[6—7] ланцужок ледзь прыкметных зеленаватых іскарак. // *ланцужок прыкметных зеленаватых іскарак.*

[7] Ясна, замыканне было тут. // *Ясна, няма кантакта.*

[12—13] уключылася, ледзь-ледзь ён крануўся дратоў… // *уключылася, ледзь ён крануўся дратоў…*

[26—27] як усё шпарчэй раскручваецца ворат // як усё шпарчэй раскручваецца *калаўрот*

[29—30] Круцячы ворат, выцягваючы вядро // Круцячы *калаўрот,* выцягваючы вядро

[32] трэба час ад часу дакрануцца // трэба час ад часу *дакранацца*

С. 83:

[30] памяць паслушліва перакінула // памяць *паслужліва* перакінула

[36] Местачкоўцы — як і ён сам // Местачкоўцы — як і *сам ён*

[38—39] якая невядома адкуль прыбрыла. // якая невядома адкуль *прыехала.*

С. 84:

[16] цягнуліся наўзбоч чыгуначных пуцей. // цягнуліся *ўзбоч* чыгуначных пуцей.

[17—18] дзе з іх выточвалі клёпку // дзе *іх распілоўвалі на* клёпку

[29—30] Там куплялі чацвяртушку гарэлкі // Там куплялі *чацвярцінку* гарэлкі

С. 85:

[28] шклянкі з арэхамі, семечкамі. // шклянкі з арэхамі, *семкамі.*

С. 86:

[7] ці ў прадуктовы склад. // *ці ў прадуктовы чыгуначны склад.*

## Выбар (с. 87)

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1981 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1982, № 11, пад шапкай «Новыя апавяданні» (разам з апавяданнямі «Загародка на ваколіцу» і «Неспакой»).

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987; «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

С. 88:

*«Эмка»* — легкавы аўтамабіль ГАЗ-М-1, які выпускаўся на Горкаўскім аўтамабільным заводзе (ГАЗ) у 1936—1943 г. Літара «М» у маркіроўцы з’явілася як вынік прысваення заводу імя В. М. Молатава.

С. 90:

*Дняпро* — трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

*...стаяла пад Гомелем, немцы былі наперадзе.*— Гомель, абласны цэнтр у Беларусі; быў захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі 19 жн. 1941 г.

С. 92:

*Кіеў* — сталіца Украіны.

*Стракапытаў М. А.* — былы царскі афіцэр, кіраўнік антыбальшавіцкага паўстання на Беларускім Палессі ў сак. 1919 г.

С. 94:

*Ордэн «Знак Пашаны»* — дзяржаўная ўзнагарода СССР, якой адзначаліся за высокія дасягненні ў вытворчасці, навукова-даследчай, дзяржаўнай, сацыяльна-культурнай, спартовай і іншай грамадска-карыснай дзейнасці, а таксама за праявы грамадзянскай доблесці. Зацверджана 25 ліст. 1935 г. 22 жн. 1988 г. перайменавана ў ордэн Пашаны.

С. 96:

*«Тумбала-тумбала, тум балалайка, // Тум балалайка, спіл балалайка… // Тум балалайка, спіл балалайка, // Спіл балалайка, фрэлех зо зэйн…»* — радкі з прыпеву песні з фальклору ўсходнееўрапейскіх яўрэяў. Адна з улюбёных песень яўрэеў на ідыш. У прыблізным перакладзе гучыць так: «Гучы бала, гучы бала, гучы балалайка, // Гучы балалайка, грай балалайка… // Гучы балалайка, грай балалайка, // Грай балалайка, хай будзе весела…»

С. 97:

*Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 72:

*...немцаў пад Масквой спынілі, затым пагналі назад...* — контрнаступленне пад Масквой пачалося 5—6 снеж. 1941 г., нямецка-фашысцкія войскі вымушаны былі імкліва адступаць.

*Ленінград* — горад на тэрыторыі Расіі, заснаваны ў 1703 г. Пятром І і названы ў ягоны гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

*Урал* — геаграфічны раён у Расіі і Казахстане.

Варыянты і розначытанні:

Выбр. тв. // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 88:

15 выклікае напаверх няпэўныя, здрадлівыя // выклікае *наповерх* няпэўныя, здрадлівыя

28 Хто б той ні быў. // *Хто б ні быў.*

31 узмацніўся вецер. // *узмацнеў* вецер.

35—36 разорай, якой край маладых пасадак аддзяляецца ад старога сасонніку // разорай, *якая аддзяляе маладыя пасадкі* ад старога сасонніку

С. 89:

11—12 ён асцярожна рассоўвае галіны, нячутна падбіраючыся да вогнішча. // ён, асцярожна *рассоўваючы галіны, нячутна падбіраецца* да вогнішча.

34—35 адубянелыя рукі. // *адубелыя* рукі.

С. 90:

31 немцы ўжо былі наперадзе. // немцы *былі ўжо* наперадзе.

С. 91:

19—20 па бярэмку сухіх галін, сукоў. // *па бярэмку сухіх галін.*

С. 92:

12 дарогі на ўсход ужо не было // *дарогі на ўсход не было*

26 свядома не хацеў заставацца // свядома не хацеў *аставацца*

30—32 Чырвоны камандзір Стракапытаў, зноў перафарбаваўшыся ў белы колер, пачаў знішчаць // *Чырвоны камандзір Стракапытаў пачаў знішчаць*

С. 94:

29—30 Нехта, правальваючыся ў снег, ішоў на двор. // Нехта, правальваючыся ў снег, ішоў *па двары.*

С. 95:

[5—6] Паспешліва прычыніўшы дзверкі, засунуўшы засаўку, пастарэчаму шоргаючы // Паспешліва прычыніўшы *дзверы, пастарэчы шоргаючы*

[7—8] Філімончык падыбаў наперадзе. У правай руцэ трымаў ліхтар «лятучая мыш». Мінулі хату *// Філімончык падыбаў наперадзе. Мінулі хату*

[17—18] Сказаў Філімончык і, не пакінуўшы ліхтар, выйшаў. *// сказаў Філімончык і выйшаў.*

[22—25] Вольга Іванаўна, перш чым пасадзіць яго за стол, прывяла ў лазеньку. На хвіліну адвінулася і зноў прыбегла. Похапкам распранулася, нібы хочучы выхваліцца буйным, трохі азызлым целам. Пахатлівая жывёліна!.. *// Вольга Іванаўна, перш чым пасадзіць яго за стол, прывяла ў лазеньку…*

С. 96:

[1—2] Калі быў яшчэ разам з Мігаём у лесе // *Калі быў яшчэ з Мігаём у лесе*

[19] прабівае на шве дзірачку // прабівае *па шву* дзірачку

[26—27] цвёрдыя, як жалеза. // цвёрдыя, як *бляха.*

С. 97:

[26] Загарадзілі закутак шырокім самаробным шкапам // Загарадзілі закутак *шырокай самаробнай шафай*

[28] Пра схоў яўрэя ведала // Пра схоў *Гірша* ведала

[30] язык за зубамі дзяржалі цвёрда. // язык за зубамі *трымалі* цвёрда.

[31] ні адна чужая душа не ўведала. // *ні адна душа не ўведала.*

С. 98:

[8] настрой яўрэю могуць // *настрой могуць*

[13—14] час ад часу дзівіўся на хлопца. // час ад часу *пазіраў* на хлопца.

[36—37] Голуб многа думаў пра далёкага свайго родзіча. // *Голуб многа думаў потым пра далёкага свайго родзіча.*

С. 99:

[21—23] у якое кравец час ад часу зазіраў. Від зацянялі чорныя галіны яблынь. Хата Лопата стаяла // *у якое кравец час ад часу зазіраў. Хата Лопата стаяла*

[33—34] і Сцяпан ад страху накрычаў на паліцэйскіх. // і Сцяпан ад страху *пачаў сварыцца з імі.*

С. 100:

[3] Піліп Жыгун // Піліп *Красней*

[8—9] адпраўляў у Германію кароў, свіней, авечак. // *адпраўляў у Германію кароў, свіней, авечак. Вынаходлівы, прадпрымальны чалавек.*

[28] Зарэла неба. // *Святлела* неба.

[31] Яна завядзе цябе ў атрад, — сказаў. // *Яна завядзе цябе ў атрад, — сказаў. — І будзе ўсё ў парадку.*

[32] На развітанне Голуб з Піліпам абняліся. // *На развітанне Голуб з Піліпам абняліся і нейкі момант нерухома стаялі.*

[37—38] Але яна хутка ўстала, паправіла на сабе хустку, аднекуль з-пад куста дастала // *Але яна хутка дастала*

## Загародка на ваколіцу (с. 101)

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1981 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», № 11, 1982, пад шапкай «Новыя апавяданні» (разам з апавяданнямі «Неспакой» і «Выбар»).

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

С. 101:

*Вобмешка* — тое, чым абмешваюць (г. зн. чым дапаўняюць) корм жывёле. Звычайна гэта мука, вотруб'е.

*Субар* — сумесь рознага зерня.

*Піла-цыркулярка* — гл. камент. да апавяд. «Байдачнікі» (с. 733).

С. 102:

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 736).

*Ад Гомеля да Жыткавіч...* — беларускія гарады Гомель (абласны цэнтр) і Жыткавічы (раённы цэнтр Гомельскай вобласці), адлегласць паміж якімі 238 км, звязвае чыгунка, яе будаўніцтва было завершана ў 1886 г.

С. 105:

*Асаавіяхім* — таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву, грамадска-палітычная абаронная арганізацыя ў СССР (1927—1948), папярэдніца ДАСААФ.

*МОПР* — скар.: Міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі — камуністычная дабрачынная арганізацыя, створаная паводле рашэння Камінтэрна ў якасці камуністычнага аналага Чырвонага Крыжа. Дзейнічала ў 1922—1947 гг.

*Атруціўся газамі* — гл. камент. да апавяд. «Мульменкаў сад» (с. 725).

С. 107:

*Ком гер (з ням.)* — хадзі сюды.

*Данбас* — Данецкі вугальны басейн, на тэрыторыі Днепрапятроўскай, Данецкай, Луганскай абласцей Украіны і Растоўскай вобласці Расіі, адна з важнейшых паліўна-энергетычных баз Еўропы. Здабыча вугалю вядзецца на глыбіні 400—800 м.

С. 109:

*Карэльскі перашыек* — гл. камент. да апавяд. «Какава для папраўкі здароўя» (с. 721).

*...перажыўшы ленінградскую блакаду.* — Ленінград быў блакаваны 8 верас. 1941 г., прарвана блакада 18 студз. 1943 г.

Варыянты і разначытанні:

Выбр. творы // *часоп. «Полымя»*

С. 101:

[11—12] У гэтых не дакупішся — самі сцягнуць, калі што не так ляжыць. // *У гэтых не дакупішся.*

С. 102:

[2] Яны знаёмыя, але Пятро // *Мужчыны* знаёмыя, але Пятро

С. 103:

[10] размешчаны ў вялікім // *размешчана* ў вялікім

[26] няспыннай прамове з кліентамі. // няспыннай *размове* з кліентамі.

С. 104:

[9—10] пайшлі па ўсім целе. Яго таму з дыспансера // Пайшлі па *ўсяму целу.* Яго таму з *дзіспансера*

[25—26] Усіх здзіўляў // Усіх *здзівіў*

С. 105:

[12] картонную скрыначку // *кардонную* скрыначку

[21] а ўжо потым трапіў у палон. // а *потым ужо* трапіў у палон.

[35] чужых валос, затым замятае іх // чужых *валасоў, змятае* іх

С. 106:

[7] быў адгароджаны ад вуліцы // быў *адгароджан* ад вуліцы

[27—28] складзенага з тоўстых бярвенняў // складзенага з *тоўстага бярвення*

С. 108:

[13] паехалі ў рамесніцкія вучылішчы // паехалі ў *рамесныя* вучылішчы

[15] па пакою пакінуў // па *пакоі* пакінуў

С. 110:

[1] не горш, можа, за таго самага Бабоўку // *не горш за таго самага Бабоўку*

## Срэбныя імхі (с. 111)

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1981 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1981, №1 (назва — «Срэбныя мхі»).

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987 (пад назвай «Сярэбраныя мхі»), «Гасцініца над Прыпяццю» (пад назвай «Сярэбраныя мхі», пазначана як «аповесць»).

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1985, № 2; зб. «Мечтатель», 1987) У. Жыжэнка.

С. 113:

*Антрацыт* — найлепшы гатунак каменнага вугалю.

С. 115:

*Данбас* — гл. камент. да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 739).

С. 119:

*...чэмер у самагонку дамешваў.*— чэмер (чамярыца Лобеля), надзвычай ядавітая шматгадовая травяністая расліна сямейства лілейных.

С. 121:

*Кубань* — стэпавыя раёны прыкубанскай нізіны, што раскінулася на поўнач ад ніжняга цячэння ракі Кубань. Найважнейшы збожжавы рэгіён Расіі.

*Ляда* — гл. камент. да апавяд. «Гняды» (с. 715).

С. 127:

*Гала* — голае месца, чыстая прастора.

С. 130:

*Семафор* — сігнальнае прыстасаванне на чыгунцы — у выглядзе мачты з рухомымі крыламі, становішча якіх падае сігнал машыністу цягніка. На сучасных дарогах заменена святлафорам.

С. 133:

*...школы новых савецкіх абласцей...* — школы, што арганізоўваліся на тэрыторыях, далучаных да СССР у верас. 1939 г.

Варыянты і разначытанні:

Выбр. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 111:

[28] і пасля вайны жыў. // *і дзе пасля вайны жыў.*

С. 112:

[4] чакальны зал, буфет. // *чакальная зала,* буфет.

С. 114:

[36] перарэзала надвое // перарэзала *надвая*

С. 115:

[4] стуса новых сасновых бярвенняў // стуса *новага сасновага бярвення*

С. 116:

[14] падперазаўся рамянём // падперазаўся *рэменем*

С. 118:

[16] паспелі тры вянцы бярвенняў палажыць. // *паспелі тры вянцы палажыць.*

[35] за трыццаць гадоў // за *столькі* гадоў

С. 119:

[15—16] Толькі што з памінак. // Толькі што з *помінак прыйшоў.*

[16] Былі памінкі Мар'і // Былі *помінкі па* Мар'і

[39] Да каго прытуліцца?.. // *Да каго ёй было прытуліцца?..*

С. 123:

[22] на вачах Васіля. // *на вачах у Васіля.*

С. 124:

[5] і выссе з яе вымені // і *высысае* з яе вымені

С. 126:

[20—21] з разлеглым, заросшым // з разлеглым, *зарослым*

С. 127:

[32] на хаду адна адной // на хаду адна *другой*

С. 130:

[23] насупраць святлафора. // *насупроць семафора* [тут і далей мэтазгодна пакідаць першасны варыянт — «семафор»].

[37] Святлафор, падымаючы крыло // *Семафор,* падымаючы крыло

С. 131:

[3] у дадатак да святлафора // у дадатак да *семафора*

[5] сотні метраў да святлафора // сотні метраў *ад семафора*

[8] кладучыся плашмя // кладучыся *плазам*

С. 132:

[25—27] Вось гэтым пераездам, які некалі вельмі многа значыў у Васілёвым жыцці, нібы замыкаўся круг, звязаны з прыездам Васіля ў мястэчка. // *Нібы замыкаўся круг, звязаны з прыездам Васіля ў мястэчка, вось гэтым пераездам, які некалі вельмі многа значыў у Васілёвым жыцці.*

С. 134:

[3—4] зусім не відаць. Васіль павярнуўся назад. Да яго слыху данёсся // *зусім не відаць. Да слыху Васіля данёсся*

[4—5] Відаць, прагульвалася моладзь. // *У пасадках, відаць, прагульвалася моладзь.*

[21] Прыбітая, прыціхшая Драздовічыха // Прыбітая, *прыціхлая* Драздовічыха

[26] адказваючы на прывітанні прахожых. // адказваючы на *прывітанне* прахожых.

[35—36] Іван Галавенька прынят кандыдатам у члены партыі // Іван Галавенька *паступіў кандыдатам у партыю*

С. 137:

[1—2] ацэментаваныя калодзежы // *цэментаваныя* калодзежы

С. 139:

[12] а вы яму хутчэй зенкі залівацъ. // *а вы яму хутчэй заліваць.*

С. 141:

[18—19] Многа перамен у мястэчку… Так корні кожнага // Многа перамен ў мястэчку*, але яшчэ больш такога, што Васіль да дробязей памятае і ведае. Васіль можа зрокава ўявіць усіх, да аднаго, гаспадароў старых, пакрыўленых хацін, якія стаяць наўзбоч забрукаванай, заасфальтаванай вуліцы, іх твары, паставы, паходку, манеру гаварыць, помніць іхнія сямейныя гісторыі, розныя выпадкі, якія з імі адбываліся. Толькі большасці гэтых людзей ужо няма на свеце. Так, карані* кожнага.

С. 143:

[9—10] Стражнік ужо паспеў падпіць // *Стражнік паспеў падпіць*

## 1982

### За капусту (с. 145)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1982, № 5 (пад назвай «На канікулах. Абразок маленства»).

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983 (пад назвай «За капусту»); «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «За капусту» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—7). Назва адсутнічае, пазначана як «Апавяданне».

С. 145:

*«Палескія рабінзоны» Янкі Маўра* — Маўр Янка (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч, 1883—1971), беларускі пісьменнік. Аповесць «Палескія рабінзоны» была апублікавана ў 1930 г.

С. 146:

*Дручкі* — калы, якімі ўскочваюць на воз (на тагачасных станцыях — у вагоны) калоды.

С. 147:

*«Юнацтва Максіма»* — гукавы фільм, сцэнарый для якога напісаны ў 1933 г., у 1934 г. карціна выйшла на экраны. Рэжысёры Р. Козінцаў («Мы — з Кранштата») і Л. Траўберг. Гукавыя фільмы пачалі выходзіць у СССР з 1931 г., магчыма, у апавяданні маецца на ўвазе «Юнацтва Максіма» — першы гукавы фільм, прывезены ў мястэчка.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Бярозка»*

С. 145:

[5] быў добры, лагодны настрой. // *быў лагодны настрой.*

[9] спытала яна Сяргейку. // спытала яна *хлопчыка.*

[11] ходзіць на выгане. // ходзіць *на мусах.*

[14—15] Палавіну агарода засадзіла. // *Палову* агарода засадзіла.

С. 146:

[8] Паназіраць за сваёй свіннёй // Паназіраць за *ўласнай* свіннёй

[12] нібыта атрымлівае штодзень // нібыта *палучае* штодзень

[17—18] такой неспакойнай скаціны, як свінні. // Такой неспакойнай *жывёлы,* як свінні.

[19—20] колькі свіней займае, той столькі разоў узапар // колькі свіней *займе,* той столькі разоў *запар*

[21] бо ў яго чарадзе свая свіння // бо ў *чарадзе яго ўласная* свіння

[24—25] Намучыліся хлопцы з гэтай няўрымслівай, проста-такі ненавіснай // *Напакутаваліся* хлопцы з гэтай няўрымслівай, *проста* ненавіснай

[25] Кожнай хвіліны лезе // *Кожную хвіліну* лезе

[26—27] пачнуць пячы бульбу, смажыць на ражончыках сала // *пачнуць смажыць на ражончыках сала*

[27—29] адварочваць ненасытную пантэру // адварочваць *ненажэрную* пантэру

[34] рудую свінню // *рабую* свінню

[36] у веснічках паявілася гаспадыня. // у веснічках *з’явілася* гаспадыня.

[37] Вусень паеў усю капусту! // Вусень *паела* ўсю капусту!
[37—38] голасна пачала скардзіцца. // *пачала скардзіцца яна.*
[38] Не качаны, а фігі. // Не качаны, а *хвігі.*

С. 147:

[2] Усю восень хлопчыка душыла крыўда. // Усю восень *душыла хлопчыка* крыўда.
[6—7] першае гукавое кіно. // *першы гукавы фільм.*
[11] але не вытрымаў // *але хлопчык не вытрымаў*
[14—15] правярае білеты ў дзвярах клуба сусед // *правярае білеты ў дзвярах клуба недалёкі сусед*
[17] што білета ў хлопчыка няма // што *ў хлопчыка няма білета*
[18—19] так на Антона зірнуў // так *зірнуў на Антона*
[20] быў вельмі задаволены // *быў задаволены*

**Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку (с. 147)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1982, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф, чарнавы варыянт рукапісу і машынапіс (два варыянты, адзін з іх без першай старонкі) апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31).

С. 147:

*Трапіўшы па службовай камандзіроўцы...* — сам І. Я. Навуменка быў у Нью-Ёрку на XXV сесіі ААН у 1970 г.

*...шматлюдны, шматгалосы Нью-Ёрк...* — горад Нью-Ёрк, размешчаны на паўночным усходзе ЗША,— адзін з найбуйнейшых гарадоў свету.

С. 148:

*...на асамблею Арганізацыі Аб’яднаных Нацый...* — Арганізацыя Аб’яднаных Нацый (ААН) — міжнародная арганізацыя, створаная для падтрымання і ўмацавання міжнароднага міру і бяспекі, развіцця супрацоўніцтва паміж дзяржавамі. Заснавана ў 1945 г. Асамблея ААН — вышэйшы орган дадзенай арганізацыі, які складаецца з прадстаўнікоў усіх краін — удзельніц і ўпаўнаважаны вырашаць любыя пытанні.

*Спецыяльны палітычны камітэт* — адзін з сямі галоўных камітэтаў пры Асамблеі ААН.

*Іст-Рывер* — суднаходны праліў у Нью-Ёрку, даўжыня 26 кіламетраў, над ім пабудаваныя некалькі мастоў, якія сталі візітнай карткай горада, у тым ліку Бруклінскі і Манхатанскі.

*Апартэід* — форма расавай дыскрымінацыі, палітыка расавага раздзялення і дыскрымінацыі; расавая палітыка ўрада Паўднёва-Афрыканскага Саюза (ПАС) абмяркоўвалася і асуджалася ўжо на першай сесіі ААН у 1946 г. Усяго прынята больш за 360 рэзалюцый Генеральнай Асамблеі па праблемах Паўднёвай Афрыкі.

*Эсэсаўскія карнікі* — эсэсаўцы (ад эсэс), СС (SS — скароч. ад *ням*. Schutzstaffeln — ахоўныя атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрнбергскім працэсе (1946) была прызнана злачыннай.

*Грамыка Андрэй Андрэевіч* (1909—1989) — савецкі дыпламат, міністр замежных спраў СССР у 1957—1985 гг. Ураджэнец Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці.

*«Чайка»* — назва легкавога аўтамабіля, які з 1950 г. выпускаўся Горкаўскім аўтамабільным заводам (ГАЗ).

С. 149:

*Каўказ* — геаграфічны рэгіён у Расіі, Азербайджане, Арменіі і Грузіі.

С. 150:

*«Селга»* — марка папулярных у СССР партатыўных транзістарных радыёпрыёмнікаў, якія выраблялiся рыжскім радыёзаводам імя А. С. Папова і Кандаўскім радыёзаводам з 1963 г. да сярэдзіны 1980-х гг. Назва паходзіць ад латышскага «Selga» («адкрытае мора»). «Селга-402» — першы савецкі побытавы прыёмнік на крамянёвых транзістарах. Паказальна, што дыпламат у Нью-Ёрку карыстаецца радыёпрыёмнікам IV класа, які каштуе ўсяго 32 рублі. Для параўнання: кошт прыёмнікаў вышэйшага класа 200 рублёў, першага — 180 рублёў, другога — 145 рублёў, трэцяга — 60 рублёў.

*...у Даўнтаўне, ніжнім горадзе...* — Даўнтаўн — слова, якое выкарыстоўваецца ў Паўночнай Амерыцы для абазначэння цэнтральнай часткі горада, дзе знаходзяцца пераважна дзелавыя аб’екты. Тэрмін для абазначэння дадзенай часткі горада ўзнік у Нью-Ёрку, дзе ён выкарыстоўваецца пачынаючы з 1830-х гг. для таго, каб адрозніць раён паўднёвага Манхатана. Гістарычна Нью-Ёрк пачаў сваё развіццё ў паўднёвай частцы вострава Манхатан, рухаючыся з поўдня на поўнач, то бок угару, калі глядзець па мапе. Адпаведна, на мапе гэта выглядае як ніз.

*Варонеж* — горад у Расіі, цэнтр Варонежскай вобл.

С. 151:

*Бронкс* — адно з 5 бора (раёнаў) горада Нью-Ёрка. Бронкс лічыцца радзімай лацінаамерыканскай музыкі і хіп-хопа, назва адміністрацыйнай адзінкі паходзіць ад прозвішча Ё. Бранка, выхадца са Швецыі, галандскага капітана, які валодаў тут зямлёй і заснаваў у 1639 г. ферму.

*Брадвей* — назва найбольш шырокай і доўгай вуліцы Нью-Ёрка.

С. 152:

*Майсееў Ігар Аляксандравіч* (1906—2007) — расійскі артыст балета, балетмайстар, педагог. Арганізатар і кіраўнік ансамбля народнага танца Расіі. Гастролі гэтага ансамбля ў ЗША адбываліся ў тым ліку ў 1970 г.

*Палац спорту* — спартова-канцэртны комплекс у г. Мінску, пабудаваны ў 1966 г., архітэктары С. Філімонаў і В. Малышаў.

С. 153:

*...у стылі Чэхава...* — маецца на ўвазе адзенне, характэрнае для эпохі, адлюстраванай у творах А. П. Чэхава (1860—1904), рускага пісьменніка і драматурга.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Беларусь»*

С. 148:

[12] разглядаў пытанне // *разглядае* пытанне

С. 149:

[8] і ўсё стала, як і раней. // і ўсё *пачалося*, як і раней.

С. 150:

[10] якія прыгожа і лёгка вісяць над вадой // *якія прыгожа вісяць над вадой*

С. 152:

[32—34] Па фасаду залішне мадэрнізаваны: нагадвае ашчэраную пашчу нейкага вялізарнага страшыдлы. Але знутры глядзіцца лепей, дый // *Па фасаду залішне мадэрнізаваны. Знутры глядзіцца добра, дый*

С. 153:

[10] Шматтысячны зал // *Шматтысячная зала*

[19—20] на ўздзетых у галёшы чаравіках // *ва* ўздзетых у галёшы чаравіках [памылка, варта вярнуцца да першаснага варыянту]

[37] Майсейчыкава ўяўленне // *Вішанькава* ўяўленне [мэтазгодна пакідаць «Вішанькава»]

С. 154:

[7] Спасібо, — гаворыць чалавек // *Спасіба,* — гаворыць чалавек

## Неспакой (с. 154)

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1982 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1982, № 11, пад шапкай «Новыя апавяданні» (разам з апавяданнямі «Загародка на ваколіцу» і «Выбар»).

Уваходзіла ў зб.: «Сярэбраныя мхі», 1983; «Асеннія мелодыі», 1987; «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

С. 154:

*Гармаш* — украінскае і беларускае паводле паходжання прозвішча, вытворнае ад «гармата».

С. 156:

*Першая германская вайна* — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна.

*Золатапагоннікі* — афіцэры царскай арміі.

*Рыцына* — касторавае масла, невысыхальны тлусты алей з насення клешчавіны («турэцкай каноплі»).

С. 158:

*Поўнач* — частка тэрыторыі Расіі, якая знаходзіцца пераважна паўночней Палярнага круга.

*Сібір* — геаграфічны рэгіён у Расіі.

*Башкірыя* — аўтаномная рэспубліка (сучасная назва — Башкартастан) Расіі.

С. 160:

*Венера* — першапачаткова багіня вясны ў старажытнарымскай міфалогіі, пазней стала лічыцца багіняй кахання і прыгажосці.

*Апалон* — бог, які ў Старажытнай Грэцыі суадносіўся з Сонцам і надзяляўся вечна маладым і асляпляльна прыгожым абліччам.

*Новыя Кузьмінкі* — раён у межах горада Масква, да 1960-х гг. пасёлак у Любярэцкім раёне Маскоўскай вобласці. У 1957 г. тут пачалося актыўнае будаўніцтва дамоў масавай забудовы, у той час Новыя Кузьмінкі, як і Черомушкі, сталі сімвалам «хрушчоўскай» гарадской забудовы.

Варыянты і разначытанні:

Выбр. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 155:

[18] пярэсты парасон. // *стракаты* парасон.

[23] хуткім, пружыністым крокам // хуткі*м, спружыністым* крокам

С. 156:

[12] пакручваліся золатапагоннікі. // пакручваліся *золатапагонныя афіцэрыкі.*

С. 158:

[27—28] засеяць, дагледзець агарод! // засеяць, *убраць* агарод!

С. 159:

[23] прыгажэй усіх // прыгажэй *за ўсіх*

С. 160:

[16] якая размяшчалася // якая *размяшчаецца*

[24] атрымаў ліст з Масквы. // *палучыў* ліст з Масквы.

**Помні свой лес (с. 161)**

Друкуецца паводле Выбр. тв., 1995, т. 1. Пад тэкстам: 1982 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1982, № 2 (пад назвай «Помні сваю вайну»).

Уваходзіла ў зб. «Сярэбраныя мхі», 1983 (пад назвай «Помні свой лес»).

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1983, № 9; зб. «Мечтатель», 1987) У. Жыжэнка.

С. 161:

*Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета* — узнагарода, упершыню ўведзеная ў 1938 г. Перастала існаваць як форма ўзнагароды ў 1996 г.

С. 162:

*...немцы рваліся да Сталінграда...* — Сталінград: у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын); датай пачатку Сталінградскай бітвы лічыцца 17 ліп. 1942 г.

С. 165:

*...зноў захапілі Керчанскі паўвостраў...* — Керчанскі паўвостраў — частка паўвострава Крым; у выніку дэсантнай аперацыі быў на некаторы час вызвалены савецкімі войскамі, але 8 мая 1942 г. нямецка-фашысцкія войскі зноў пераходзяць у наступленне, і ўжо 20 мая савецкі плацдарм быў ліквідаваны.

*...заліты крывёй Севастопаль...* — Севастопаль — горад дзяржаўнага значэння Украіны, размешчаны на паўвостраве Крым. У ліп. 1942 г. абстаноўка пад Севастопалем, які доўга ўтрымлівалі савецкія войскі, сур’ёзна пагоршылася.

С. 166:

*...зводкі Саўінфармбюро...* — Саўінфармбюро (Савецкае інфармацыйнае бюро; 1941—1961) — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце народных камісараў СССР 24 чэрв. 1941 г.

С. 167:

*...падыходзяць да Сталінграда, дасягнулі Каўказа...* — нямецка-фашысцкія войскі падышлі да Сталінграда 23 жн. 1942 г.; *Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

*Пасля Арла і Белгарада...* — гарады на тэрыторыі Расіі, у гонар іх вызвалення падчас Вялікай Айчыннай вайны, у 1943 г., упершыню быў дадзены святочны салют у сталіцы СССР горадзе Маскве.

*...у баях пад Беластокам...* — трагічныя баі армій Заходняга фронту на прыгранічных абарончых рубяжах. Ужо да 26 чэрв. 1941 г. савецкія войскі апынуліся ў акружэнні паміж Беластокам і Мінскам.

С. 171:

*«Северок»* — пераносная караткахвалевая радыёстанцыя, якая актыўна выкарыстоўвалася ў 1941—1945 гг. Распрацавана ў 1939—1940 гг., у аснову канструкцыі пакладзены дыпломны праект Б. А. Міхаліна. У перыяд дапрацоўкі праходзіла пад шыфрам «Амега», прынята на ўзбраенне пад назвай «Север». Вытворчасць распачата ў Ленінградзе ў кастр. 1941 г., там радыёстанцыя выраблялася і ў час блакады. Забяспечвалася сувязь на адлегласці да 400 км, пры спрыяльных умовах — да 600 км. У камплект уваходзіла 12-метровая антэна, 6-кілаграмовыя крыніцы сілкавання. Маса самога перадатчыка складала 2 кг, увесь камплект важыў прыкладна 10 кг.

С. 127:

*«Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры, // Вас ніколі ў жыцці не забыць...»* — радкі з «Лясной песні» на словы А. Русака (1904—1987), беларускага паэта-песенніка. Музыка У. Алоўнікава.

Варыянты і разначытанні:

Выбр. тв. // *часоп. «Беларусь»*

С. 161:

[25] падрабляў кадравіком // *падзарабляў* кадравіком

[26] Яны сядзелі за чаркай // Яны *пасядзелі над* чаркай

С. 162:

[22] якімі ахоплены свет. // якімі *ахоплен* свет.

С. 166:

[8—9] адзін загінуў, завісшы на дрэве ўніз галавой і не здолеўшы выблытацца // адзін загінуў, *завіс* на дрэве ўніз галавой і не *здолеў* выблытацца

С. 167:

[26] паблажліва ўсміхаўся. // паблажліва *ўсміхнуўся.*

С. 169:

[5] вызвалілі гарадок. // *вызвалялі* гарадок.

[6—7] партызанскія роты, здзіўляючы жыхароў, вайскоўцаў // партызанскія роты *вайскоўцаў, здзіўляючы жыхароў*

[12] абсаджаным па баках ліпамі гаку // абсаджаным па баках ліпамі *ганку*

С. 170:

[4] залішне раздабрэлай жанчыне // залішне *распаўнелай* жанчыне

[29] перапісваў сабе. // перапісваў *на сябе.*

[39] якія памаглі Гузю // якія *памагалі* Гузю

С. 171:

[12—13] Як застаецца ў яго самога… // Як *засталася* ў яго самога...

[14—16] Пасля мітынгу была складчына, на якую народу сабралася разы ў тры болей, чым стаяла на плошчы перад трыбунай. Сядзелі за даўжэзным // *Пасля мітынгу сядзелі за даўжэзным*

[16] казённай цыратай // казённай *кляёнкай*

С. 173:

[15—16] чым учора ў сталовай мясакамбіната. // *чым быў учора ў сталовай мясакамбіната*.

[24—25] белабрысы, вузкатвары дзяціна // белабрысы, вузкатвары *«хлапчына».*

[34] Не псуй абедню. Пра гэта асобны разгавор… // Не псуй абедню. *Разгавор не для мамента. Мы да дзела былі прылучаны. Можна сказаць, да вялікага дзела...*

## 1984

### Балотца між лесам (с. 174)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1984, № 8.

Уваходзіла ў зб.: «Асеннія мелодыі», 1987; «Год карася», 1988.

Апавяданне пераклала на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) І. Пятрова.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 174:

*Грабняк* — гл. камент. да апавяд. «Грыбная зямля» (с. 724).

С. 176:

*Рубель* — тут: тоўстая жэрдка, якой уціскаюць на возе сена, салому, снапы.

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 174:

[8] Пятрок ідзе па грыбы // Пятрок ідзе *ў* грыбы

[24] мае свой характар // мае свой *нораў,* характар

[34] назбіраць хоць паўкошыка // *насабіраць* хоць паўкошыка

С. 175:

[9] сёння нібы што падштурхнула. // сёння *як бы* што падштурхнула.

[38] насупраць балотца, цераз шлях. // насупраць балотца, *праз* шлях.

С. 176:

[2] яго прамяні кранаюць // яго *праменні* кранаюць

[4] выкасіў усё балотца. // выкасіў усё балотца, *размешчанае між лесам.*

[18] Бо застаюцца дзве капы // *Бо застаюцца яшчэ дзве капы*

[25] Але гэтая стома прыемная. // Але *гэта* стома прыемная.

[26—28] Ужо ноч вісіць над лесам, такім незнаёмым, загадкавым, таямніча-зацятым. Лес здаецца Петраку яшчэ прыгажэйшым, чым раніцай, калі ён прыходзіў сюды ў грыбы. *// Ужо ноч вісіць над лесам. Лес здаецца зусім незнаёмым, загадкавым, таямніча-зацятым. Лес здаецца Петраку яшчэ прыгажэйшым, чым раніцай, калі ён прыходзіць сюды ў грыбы.*

## **Старавіленскі тракт (с. 176)**

Друкуецца паводле зб. «Асеннія мелодыі», 1987.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1984, 20 ліп.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 176:

*Старавіленскі тракт* — адна з вуліц горада Мінска.

С. 177:

*...адкрылася мастацкае вучылішча...* — Мінскае мастацкае вучылішча афіцыйна заснавана ў 1947 г.

*Белы білет* — пасведчанне аб няздольнасці выконваць ваенную службу.

С. 178:

*Юбілейны і Камароўскі рынкі* — найбольш ажыўленыя ў пасляваенным Мінску месцы гандлю.

*Свіслач* — рака ў Мінскай і Магілёўскай абласцях, правы прыток ракі Бярэзіна.

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 179:

*...адкрыўся мастацкі інстытут...* — Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут адкрыўся ў 1953 г. У 1991 г. рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію мастацтваў.

С. 183:

*Венера Мілоская* — знакамітая старажытнагрэчаская статуя багіні Афрадыты з белага мармуру, створаная прыблізна паміж 130 і 100 гадамі да нашай эры. Знойдзена ў 1820 г. на востраве Мілас (Мелас) — адным з Кікладскіх астравоў у Эгейскім моры.

С. 185:

*Вільнюс, Рыга, Талін* — г. Вільнюс — сталіца Літвы, г. Рыга — сталіца Латвіі, г. Талін — сталіца Эстоніі, якія і ў савецкі час вызначаліся адметным шармам і стылем, заўважным у тым ліку ў шавецкай справе.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Асеннія мелодыі» // *газетны варыянт апавядання*

С. 177:

8—9 Ці ж цяжка спраектаваць такі дом // *Нічога не каштуе* спраектаваць такі дом

28—29 з рознымі момантамі партызанскага змагання і быту // *з рознымі момантамі партызанскага быту*

37 і ўсюды адмаўлялі. // *і ўсюды яму адмаўлялі.*

С. 178:

28 купіў на базары, прадаўшы дзве карціны // *купіў на базары, тут жа прадаўшы дзве карціны*

30 задуменную дзяўчыну // задуменную *дзяўчынку*

С. 179:

29 Фактычна гаспадыняй у доме // *Фактычнай* гаспадыняй у доме

С. 180:

[11] ніхто не пазнаў бы ў ёй // *ніхто б не пазнаў у ёй*

С. 181:

[38] Ноччу Андрэй не спаў, часта слухаў, як // Ноччу, *калі Андрэй не спаў, падоўгу* слухаў, як

С. 183:

[28] прыкметамі адцвітання, вытанчанага твару // прыкметамі *ўвядання,* вытанчанага твару

**Сямён Гуляш (с. 186)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1984, № 4.

Уваходзіла ў зб. «Асеннія мелодыі», 1987.

Апавяданне пераклаў на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) А. Астроўскі.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты рукапісу апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—51).

С. 187:

*Мінскі камвуз* — Камуністычны ўніверсітэт Беларусі імя У. І. Леніна, навучальная ўстанова, якая існавала з кастр. 1925 г. па верас. 1932 г. і мела аддзяленні: партыйнае, савецкае, прапагандысцкае, газетнае, народнай адукацыі. Рыхтавала кіруючыя кадры партыйных і савецкіх работнікаў. Тэрмін навучання курсантаў складаў 3 гады. На базе газетнага аддзялення Мінскага камвуза ў 1932 г. быў створаны Камуністычны інстытут журналістыкі.

*МТС* — скар.: машынна-трактарная станцыя.

*Асенні Мікола* — паводле царкоўнага календара ўшанаванне Міколы, архіепіскапа Мірлікійскіх, адбываецца 19 снеж. (6 снеж. па старым стылі). 22 мая (9 мая па старым стылі), увесну, святкуецца перанясенне мошчаў Міколы, архіепіскапа Мірлікійскіх, у Бар.

*Прастольнае свята* — свята, якое ўсталявана ва ўшанаванне той падзеі Святой гісторыі, той святой альбо святога, у гонар якіх і быў узведзены храм. Такое свята карысталася асаблівай пашанотай, бо людзі верылі, што святы апякун мясцовай царквы найперш уважлівы да малітваў сваіх прыхаджан.

С. 188:

*...у Германіі да ўлады прыйшоў Гітлер…* — Гітлер (гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...», с. 711)

С. 189:

*...жыла ў Мурманску, у Сярэдняй Азіі, на Далёкім Усходзе…* — Мурманск — горад на поўначы Расіі; *Сярэдняя Азія* (тэрмін з 1993 г. заменены на «Цэнтральная Азія») — частка тэрыторыі Азіі ад Каспійскага мора на захадзе да мяжы з Кітаем на ўсходзе і ад Арала на поўначы да мяжы з Іранам і Афганістанам на поўдні. *Далёкі Усход* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта…» (с. 710). Падобны пералік мае празрыстае сэнсавае напаўненне: у пералічаных рэгіёнах размяшчаліся гарнізоны, служба ў якіх праходзіла ў дастаткова няпростых умовах. Адпаведна афіцэр, які адбыў свой тэрмін у адным з дадзеных рэгіёнаў, мог звычайна прэтэндаваць на перавод у больш абжытыя мясціны. У тых, вядома, выпадках, калі не меў дысцыплінарных спагнанняў.

С. 192:

*...зарос кустамі лазы, сітняку, крушынніку…* — сітняк (балотніца) род раслін сямейства асаковых; крушыннік — гл. камент. да апавяд. «Грыбная зямля» (с. 725).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 187:

[12—13] тып жанчын, як цётка Мальвіна, хоць дачка зусім не падобна на маці // *тып жанчын, як цётка Мальвіна, Ліза, хоць дачка зусім не падобна на маці* [губляецца сэнс, «Ліза» варта пакідаць].

С. 188:

[9—11] шчодра раскідваў абяцанні, любіў падтрымаць чалавека ў яго найлепшых імкненнях, спадзяваннях. // шчодра раскідваў абяцанні, *імкнуўся падтрымаць чалавека ў яго найлепшых спадзяваннях, хоць свае абяцанні хутка забываў.*

С. 189:

[19] І такой маленькай зусім не здаецца. // *І такой маленькай не здаецца.*

С. 190:

[29] драматычным настроем не пахне // *драматычным настроем зусім не пахне*

С. 191:

[4—5] не робяць ні ён, ні блізкія і знаёмыя. // *не робяць ні ён, ні блізкія знаёмыя.*

С. 193:

[16—17] Ветлівы, памяркоўны, добразычлівы быў // *Ветлівым, памяркоўным, добразычлівым* быў

С. 194:

[21] зарослым гарбузнікам агародам // *па зарослым гарбузнікам агародзе*

[22] звалі Сцепанідай. // звалі *Сцепаніда.*

## 1985

### Год карася (с. 196)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1985, № 8 (разам з апавяданнем «Міша Дудзік і сабака Рудзік»).

Уваходзіла ў зб.: «Асеннія мелодыі», 1987; «Год карася», 1988.

Апавяданне пераклала на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) І. Пятрова.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 198:

*Напалеон I Банапарт* (1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай рэспублікі (1799—1804), імператар Францыі (1804—1814, 1815).

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

*Чарнігаў* — горад ва Украіне, цэнтр Чарнігаўскай вобласці.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 197:

[20—21] Калі дзеці пачыналі капрызнічаць, не слухацца, цётка палохала іх ільвамі, ваўкамі. // Калі дзеці пачыналі *капрызіць,* не слухацца, цётка палохала іх ільвамі, ваўкамі *і іншымі крыважэрнымі звярамі.*

С. 198:

[16—17] і, як яна гаварыла, мог лячыць // і, *па яе расказах,* мог лячыць

С. 199:

[5] маці адышлася, загаварылася з сяброўкай // маці адышлася, *загаварыўшыся* з сяброўкай

[6—7] Ён адразу аджыў, пачаў насіцца // Ён адразу аджыў, *пачаўшы* насіцца

[16—17] які нёс у вядзерцы з вадой абамлелага // які нёс у *вядзёрку* з вадой *напаўабамлелага*

[20—21] потым уздрыгнуў // *потым як бы ўздрыгнуў*

[22—23] Яны падаравалі жыццё // *Яны як бы падаравалі жыццё*

**Міша Дудзік і сабака Рудзік (с. 199)**

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1985, № 8 (разам з апавяданнем «Год карася»).

Уваходзіла ў зб.: «Асеннія мелодыі», 1987; «Год карася», 1988.

Апавяданне пераклала на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) І. Пятрова.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *зб. «Асеннія мелодыі»*

С. 200:

[4] сядзіць, чакае пакуль Міша // сядзіць, *чакаючы,* пакуль Міша

[20] на свае вочы. // на *ўласныя* вочы.

[22—23] падымаў з логвішчаў зайцоў // падымаў *са сваіх* логвішчаў зайцоў

[23] хадзіў па грыбы // хадзіў *у* грыбы

[30] навучыць Рудзіка чытаць. // навучыць *Рудзьку* чытаць.

[35] з прыгожым Рудзікам // *з прыгожым Рудзькам*

[36—37] Ён павінен навучыцца чытаць. Можа, нават пачне // Ён павінен *навучыць яго* чытаць. Можа, *Рудзік* пачне

С. 201:

[11] «Г» і «ў» кароткае чуюцца // *«га»* і «ў» кароткае чуюцца

[16—17] драцяныя пасткі ў норах кратоў // драцяныя *лавушкі* ў норах кратоў

[25—26] Скакаў, клаў пярэднія лапы яму на грудзі, стараўся лізнуць чырвоным языком нос ці шчаку // Скакаў, клаў *яму пярэднія лапы на грудзі, стараўся лізнуць чырвоным языком па носе ці па шчоках*

С. 202:

[3] напісаў «Ру-дзік». // *напісаў «Рудзь-ка».*

[9] лізнуў яго і без ніякай цікавасці адвярнуўся. // лізнуў яго *чырвоным языком і без ніякай цікавасці адвярнуўся.*

[11] Міша парашыў // Міша *рашыў*

## 1986

### Якая доўгая вайна (с. 203)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994 (пазначана як аповесць).

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1986, № 6.

Уваходзіла ў зб. «Асеннія мелодыі», 1987.

Апавяданне пераклала на рускую мову (зб. «Мечтатель», 1987) І. Пятрова.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 208:

*Раён ліквідавалі…* — адміністрацыйная рэформа мела месца ў верас. 1959 г. Менавіта тады частку тэрыторыі былога Васілевіцкага раёна передалі Рэчыцкаму, частку Калінкавіцкаму раёнам.

*Вуліца Чангарскай дывізіі* — у гонар 6-й кавалерыйскай Чангарскай дывізіі, якая існавала з кастр. 1918 па 19 верас. 1941 г. У свой час дывізія ўваходзіла ў склад Першай коннай арміі і вызначылася ў баях на Чангарскім паўвостраве (1920). Доўгі час размяшчалася на тэрыторыі Беларусі, у Гомелі.

С. 209:

*Шасты-таганы* — трыножнік для падвешвання ў полі люлькі, катла.

С. 210:

*Вароўскі* — гл. камент. да апавяд. «Мульменкаў сад» (с. 726).

*Нэпман* — вытворнае ад НЭП, «новая эканамічная палітыка». Нэпманамі называлі тых, хто ўзбагаціўся дзякуючы гэтай лібералізацыі ўмоў гаспадарання.

*Старшыня рыка* — скар.: РК (рэвалюцыйны камітэт).

С. 211:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Сямён Гуляш» (с. 753).

*Вуліца МОПРа* — маецца на ўвазе МОПР — гл. камент да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 738).

С. 212:

*«Калгаснік»* — радыёпрыёмнік, які адносіўся да серыі батарэйкавых прыёмнікаў, мадэль выпускалася з 1934 г. на маскоўскім заводзе імя Арджанікідзе, у 1936 г. вытворчасць перададзена на Варонежскі завод «Электрасігнал». «Калгаснік» заўважна саступаў іншым савецкім прыёмнікам таго часу як у выбіральнасці сігналаў,

так і ў адчувальнасці. Размяшчаўся ў драўлянай скрынцы, якая прыкрывалася дэрмацінам, вага — 3,3 кг.

С. 213:

*Міткаль* — гатунак баваўнянай тканіны палатнянага перапляцення, неапрацаваны паркаль.

*Корт* — баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартовага адзення.

С. 157:

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 736).

С. 219:

*Асаавіяхім* — гл. камент да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 738).

С. 220:

*НКУС* — скар.: Народны камісарыят унутраных спраў.

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

*Далёкі Усход* — рэгіён, які ўлучае Паўночна-Усходнюю, Усходнюю і Паўднёва-Усходнюю Азію, найбольш аддалены ад еўрапейскай часткі рэгіён Расіі.

С. 221:

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобласці.

*Дняпро, Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*ЧТЗ* — скар.: Чалябінскі трактарны завод. У крас. 1929 г. прынята рашэнне будаваць завод, у ліпені ў Чалябінск прыбылі першыя будаўнікі, у лістап. 1929 г. будоўля пачалася, а ўжо 15 мая 1930 г. выпушчаны першы трактар. Да 1938 г. Чалябінскі трактарны выпускаў 40 000 машын на год.

С. 222:

*Паволжа* — тэрыторыя, якая прылягае да сярэдняга і ніжняга цячэння Волгі і якая эканамічна імкнецца да яе.

*Стары ХТЗ* — скар.: Харкаўскі трактарны завод, у дадзеным выпадку — трактар, які выпушчаны на гэтым заводзе. Завод будаваўся з вясны 1930 г., першы трактар выпушчаны ў 1931 г. З 1931 па 1941 г. на ХТЗ выпушчана 217 тысяч трактароў самых розных мадыфікацый; у ліп. 1936 г., калі арганізоўвалася Васілевіцкая МТС, былі атрыманы 28 трактароў менавіта маркі ХТЗ.

*Бабіт* — асобы сплаў для заліўкі падшыпнікаў. Названы паводле імя амерыканскага вынаходніка І. Бабіта (1799—1862).

С. 223:

*...з акружэння, у якое трапіў пад Вязьмай* — Вязьма, горад у Расіі, цэнтр Вяземскага раёна Смаленскай вобласці; баі ў акружэнні пад Вязьмай адбываліся ўвосень 1941 г.

*«Кацюша»* — неафіцыйная назва, якая з’явілася падчас Вялікай Айчыннай вайны, бясствольных сістэм палявой рэактыўнай артылерыі (БМ-8, БС-13, БС-31 і інш.)

*НКВД* — рус. скар.: народный комиссариат внутренних дел СССР — цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання СССР па барацьбе са злачыннасцю і падтрыманні грамадскага парадку ў 1934—1946 гг., пасляператвораны ў МУС СССР.

С. 224:

*Сталінград* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 748).

С. 228:

*МТС, затым РТС* — МТС: гл. камент. да апавяд. «Сямён Гуляш» (с. 754); РТС — скар.: рамонтна-тэхнічная станцыя. МТС у РТС пачалі рэарганізоўваць у 1958 г., калі сельгастэхніку пачалі прадаваць непасрэдна калгасам.

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Маладосць»*

С. 205:

[5—6] прыцягваючы на свае абсягі шматлікіх людзей // *прыцягваючы на свае абсягі шматлікіх вясковых людзей*

С. 207:

[25—26] каб самім справіцца з работай // *каб справіцца з работай*

С. 211:

[35] Ён любіць сваю работу. // Ён *любіў* сваю работу.

С. 220:

[4—5] Паўла закасавалі — пласкаступ’е // Паўла закасавалі — *плоскаступнёвасць*

[32] скончыўшы школу НКУС // *скончыўшы школу войск НКУС*

С. 224:

[4] Летам сорак трэцяга года, пасля Сталінграда // *Летам сорак трэцяга, пасля Сталінграда*

С. 230:

[7—8] Немцы гэты дом спалілі пры адступленні. // Немцы гэты дом спалілі *перад адступленнем*.

С. 232:

[2] прыходзіў да Міхася // прыходзіў *сустракаць* Міхася

## 1988

### Апрасцімся, сябры!.. (с. 233)

Друкуецца паводле зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1988, № 3 (пазначана як «гумарэска»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 234:

*Парнас* — святая гара ў Грэцыі (у Факідзе), звязаная з міфічнымі сказаннямі. «Узабрацца на Парнас» — дабіцца прызнання ў літаратуры, мастацтве.

С. 235:

*Выстаўляў сябе за прапраўнука Дастаеўскага* — з чатырох дзяцей Ф. М. Дастаеўскага да сталых гадоў дажылі дачка Люба (з 1913 г. яна жыла за мяжой) і сын Фёдар. У Фёдара, які застаўся ў Расіі, было, у сваю чаргу, два сыны — Фёдар Фёдаравіч (1905—1921) і Андрэй Фёдаравіч (1908—1968), стваральнік музея славутага дзеда. Пры жывых праправнуках Дастаеўскага, Таццяне Андрэеўне і Дзмітрыю Андрэеевічу, выстаўляць сябе нашчадкам роду Дастаеўскіх было дастаткова рызыкоўна.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Апрасцімся, сябры!..» // *часоп. «Вожык»*

С. 233:

[9] Пра дысертацыю давялося забыць. // пра дысертацыю *прыйшлося* забыць.

[20—21] але ў кіраўнічых крэслах хочуць сядзець. // але ў *кіруючых* крэслах хочуць сядзець.

[23—24] не бярэ, жыве за кошт сваіх ганарараў. // не бярэ*, атрымлівае чэсна запрацаваныя ганарары.*

С. 234:

[4—5] Адзін артыкул ім падсыпаў // Адзін *артыкульчык* ім падсыпаў

С. 235:

[24] гартае часопіс. // *лістае* часопіс.

## Выгнанне Вадалея (с. 236)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1988, № 11 (пад назвай «Як прагналі Вадалея»).

Уваходзіла ў зб.: «Апрасцімся, сябры!..» (1990, ужо пад назвай «Выгнанне Вадалея»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Вожык»*

С. 236:

[13—14] Ніводнай маладой жанчыны не прапусціць // *Ні адну маладую жанчыну* не прапусціць

[14—15] І гэта, называецца, настаўнік, ды яшчэ дырэктар! // І гэта *настаўнік, ды яшчэ дырэктар!*

[22] Нібыта тры каханкі адразу падалі на яго ў суд. // Нібыта тры каханкі адразу падалі на яго ў суд, *каб спагнаць аліменты.*

[23] Так ці не так // *Так гэта ці не так.*

С. 237:

[10—11] прагнула вясёлага жыцця і ўцех. Васіль з ёй развёўся. // *прагнула вясёлага жыцця і ўцех. Ні аднаго хоць чым-небудзь цікавага мужчыны, які паявіўся ў вёсцы, не магла прапусціць. Васіль з ёй развёўся.*

[14] Мо й сваю Галю таму моцна крыўдзіў. // *Сваю Галю тым часам ён* моцна крыўдзіў.

[15—16] зразумеў, як ён памыляўся. // *зразумеў, як моцна ён памыляўся.*

[23] любіць чарку і свету за ёй не бачыць. // любіць чарку, *а, падпіўшы, часам і да чужых жонак заляцаецца.*

[30] якога Васіль сустракае ў раённым // якога Васіль *спатыкае* ў раённым

## Гусі-лебедзі (с. 239)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1990.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1988, № 13.

Уваходзіла ў зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 239:

*Гіцаль* — той, хто здымае скуры з забітых жывёл; скуралуп, скурадзёр.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Вожык»*

С. 239:

[4] Каменная сцяна не абы-якая: агароджвае // каменная сцяна не абы-якая: *адгароджвае*

[9] яго шматпакутнай працоўнай кніжцы. // яго *пашкуматанай* працоўнай кніжцы.

[12—13] [*У зборніку пры наборы відавочна быў прапушчаны радок, у выніку чаго замест «швейцарам у рэстаране, матросам-інструктарам на рачной выратавальнай станцыі» атрымалася «швейцарам на рачной выратавальнай станцыі»; мэтазгодна вярнуцца да часопіснага варыянта.*]

[28] мосце, перакінутым цераз раку. // мосце, перакінутым *праз* раку.

[31] Бачыш, як мы змарнелі. // Бачыш, як мы *замёрзлі.*

[33] Галаскокавы таварышы, не зважаючы на зімовы час // *Таварышы Галаскока, зважаючы* на зімовы час.

С. 240:

[17] Мясціна тут прывабная. // Мясціна тут *прыдатная.*

С. 241:

[5] А ён сапраўдны ўладар // А ён *сапраўды* ўладар

[15—16] Працаваў некалі інжынерам на трактарным // *Працаваў некалі на трактарным*

[26] Да шаленства даходзіла. // Да шаленства *даходзіў.*

[34—35] гэтых дзікіх птушак. // *гэтых дзікіх моцных птушак*.

## Паляванне на дзіка (с. 242)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1988, № 6.

Уваходзіла ў зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 243:

*«Масквіч»* — гл. камент. да апавяд. «Як купіць аўтамашыну» (с. 731).

*Дранкулькі* — буйны шрот, масіўная свінцовая паляўнічая куля.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Вожык»*

С. 243:

[18—19] Дзік — жывёла сур'ёзная // Дзік — *жывёліна* сур'ёзная

С. 244:

[1] Ціха ступаюць праз гушчэчу бярэзніку, асінніку. // Ціха *ступаючы па апалым лісці, з паўгадзіны прадзіраюцца паляўнічыя* праз гушчэчу бярэзніку, асінніку.

[5] выходзяць на світанку. // выходзяць на *світанні.*

[17] Нават змерзлі трохі // Нават *замерзлі* трохі

С. 245:

[23] трымае кошык з зялёнкамі. // Трымае *кош* з зялёнкамі.

## 1989

### Не хачу быць каралём (с. 246)

Друкуецца паводле зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1989, № 18.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 246:

*Сельтэрская* — мінеральная, саляна-вуглякіслая вада, назва паходзіць ад крыніцы Selters, што ў Германіі.

С. 247:

*Кардынал Мазарыні* — тут: адзін з герояў раманаў А. Дзюма, чый вобраз з асобай рэальнага французскага дзяржаўнага дзеяча Дж. Мазарыні (1602—1661) меў досыць прыблізнае падабенства.

*Шатландыя* — гістарычная вобласць у складзе Вялікабрытаніі.

*Герцагіня Наварская* — тут: літаратурны персанаж, гераіня трылогіі А. Дзюма пра Генрыха Наварскага.

*Адважнага Д'Артаньяна, дужага Партоса, праніклівага Атоса* — знакамітыя літаратурныя героі рамана А. Дзюма «Тры мушкецёры» і твораў, напісаных у працяг рамана.

С. 248:

*Замак Цюільры* — палац у Парыжы, адна з каралеўскіх рэзідэнцый.

*Булонскі лес* — парк, размешчаны каля прыгарада Парыжа Буёль-Біланкур, папулярнае месца адпачынку парыжан.

*Бастылія даўно ўзята...*— Бастылія — першапачаткова крэпасць, пабудаваная ў 1370—1381 гг. У XV ст. пераўтворана Людовікам XIV у вязніцу. У канцы XVI ст. тут трымалі пераважна палітычных зняволеных. Была сімвалам дэспатызму Бурбонаў. 14.7.1789 г. паўстанцы штурмам узялі Бастылію, што стала пачаткам Вялікай французскай рэвалюцыі. У 1790 г. разбурана. Цяпер на месцы знесенай крэпасці знаходзіцца плошча Бастыліі — месца скрыжавання дзясятка вуліц і бульвараў з падземным вузлом пасажырскага метро з трох ліній.

С. 249:

*Ад макулатурных кніг* — тут: ад кніг, якія лічыліся дэфіцытнымі і якія ў 1980-я гг. можна было набыць толькі пасля таго, як пакупнік прыносіў і здаваў у прыёмны пункт 20 кг макулатуры.

*Дзюма Аляксандр* (Дзюма-бацька, 1802—1870) — французскі пісьменнік, аўтар папулярных раманаў «Тры мушкецёры» (1844), «Праз 20 гадоў» (1845), «Віконт дэ Бражалон» (1848—1849) і інш.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Апрасцімся, сябры!..» // *часоп. «Вожык»*

С. 246:

[6] важыла не меней пуда. // важыла не меней *чым пуд.*

[9] жэст караля павінен быць напоўненым // жэст караля павінен быць *напоўнены*

[21] Нарэшце прыём скончыўся. // Нарэшце прыём *закончыўся.*

[22—23] лёкая, аздобленага, як і кароль // лёкая, *аздобнага,* як і кароль

С. 247:

[3] пачухаў паясніцу // пачухаў *ля паясніцы*

[7] На худым, нібы гарохавы струк, твары свяціліся *// На худым, нібы гарохавы струк, твары кардынала свяціліся*

[23] скрывіўся, нібы папярхнуўся гарчыцай. // скрывіўся, нібы *папярхнуўшыся* гарчыцай.

[24] Нячутна ўплыла каралева. Уся ў капроне і ў шоўку. // Нячутна *ўвайшла* каралева. *Яна была ўся ў капроне і шоўку.*

[31—32] Штосьці не надта ласкавае... пра рыначную эканоміку. // *Штосьці не надта ласкавае...*

[33] Апоўдні пацеў на парадзе // Апоўдні *ўжо я прыняў парад*
С. 248:
[15] Карону я шпурнуў у густую // Карону я *шпурхнуў* у густую.
[26] Ідзі к д’яблу! // Ідзі *да д’ябла!*
[35] А сам хаджу і думаю // А сам *сяджу* і думаю.
С. 249:
[1] ад макулатурных кніг усё // *Ад кніг усё.*

## Форум у Дзеркачах (с. 249)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1989, № 22 (пазначана як «гумарэска»).

Уваходзіла ў зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—4).

С. 249:
*Сельпо* — гл. камент. да апавяд. «Какава для папраўкі здароўя» (с. 721).
*Гіцаль* — гл. камент. да апавяд. «Гусі-лебедзі» (с. 762).
С. 250:
*ААН* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 744).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Вожык»*
С. 250:
[8] школа-інтэрнат для глуханямых. // *школа-інтэрнат глуханямых.*
С. 251:
[13] усюды з ім ездзіць // *услед за* ім ездзіць.
С. 252:
[15—16] і паціху насміхаецца над імі. // і паціху *надсміхаецца* над імі.

## 1990

### Доктар навук на хутары (с. 253)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Вожык», 1990, № 14 (пазначана як «гумарэска»).

Уваходзіла ў зб. «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—4).

С. 254:

*Дні атрымання заработнай платы* — да з'яўлення пластыкавых банкаўскіх картак заработную плату і аванс кожны супрацоўнік павінен быў асабіста атрымаць у бухгалтэрыі прадпрыемства.

С. 255:

*«Волга»* — легкавы аўтамабіль сярэдняга класа, які выпускала вытворчае аб'яднанне «ГАЗ» у г. Ніжні Ноўгарад з 1956 г.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *зб. «Апрасцімся, сябры!..»*

С. 253:

9 дык што тут такое? // дык што тут *такога?*

17—18 парадкі ў вышэйназваным інстытуце! // парадкі ў *памянёным* інстытуце!

С. 254:

3 у дні атрымання заработнай платы. // у дні *зарплаты.*

С. 255:

8 зразумець цяжка, што гаворыць // *зразумець цяжка, пра што гаворыць.*

12—13 на верандзе свайго хутарскога дагледжанага дома. // на верандзе свайго *хутаранскага* дагледжанага дома.

33 таварыш у памятым капелюшы. // таварыш у *прымятым* капелюшы.

С. 256:

8 Пудры каму-небудзь другому мазгі // Пудры каму-небудзь *іншаму* мазгі

14 ніякія налёты не страшны... // ніякія налёты не *страшныя...*

**Гасцініца над Прыпяццю (с. 256)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994 (пазначана як «аповесць»).

Упершыню — часоп. «Полымя», 1990, № 4 (пазначана як «апавяданне»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 256:

*...а што здарылася ў Чарнобылі, усім вядома…*— Чарнобыль — горад Іванкаўскага раёна Кіеўскай вобласці Украіны. Сумна вядомы праз чарнобыльскую аварыю — радыяцыйную аварыю, што адбылася 26 крас. 1986 г. на чарнобыльскай АЭС. Выбух і пажар выклікалі масавы выкід радыеактыўных рэчываў у атмасферу, якія распаўсюдзіліся на большую частку Еўропы. Найбольш пацярпела Беларусь.

*Прыпяць* — рака, правы, найбольшы па плошчы басейна прыток Дняпра.

*«Масквіч»* — гл. камент. да апавяд. «Як купіць аўтамашыну» (с. 731).

С. 259:

*Герой Сацыялістычнай Працы* — ганаровае званне ў СССР, з 1938 па 1991 г., вышэйшая ступень адрознення за працу. Узнагароджанай асобе ўручаліся медаль «Серп і Молат», ордэн Леніна і грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. У адрозненне ад звання Героя Савецкага Саюза, не прысвойвалася замежным грамадзянам.

С. 260:

*Угрум-рака* — выдуманая назва, пад ёю быў напісаны раман В. Я. Шышкова (1873—1945). Аўтар мог запазычыць назву з сібірскай песні. У рамане пад назвою Угрум-рака апісана рака Ніжняя Тунгуска.

С. 261:

*Пасля таго, што здарылася ў Чарнобылі...* — катастрофа на Чарнобыльскай АЭС адбылася 26 крас. 1986 г.

С. 266:

*Ведрыца* — Ведрыч — рака ў Гомельскай вобласці, правы прыток Дняпра. Пачынаецца каля вёскі Падлукі Калінкавіцкага раёна.

С. 267:

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (1878—1953) — савецкі дзяржаўны, палітычны і вайсковы дзеяч. Генеральны сакратар

Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г.

С. 268:

*«Чорны воран»* — у 1930-я гг. так называлі аўтамашыны, на якіх супрацоўнікі карных органаў перавозілі арыштаваных.

С. 269:

*Варашылаўская вуліца* — маецца на ўвазе Варашылаў Клімент Яфрэмавіч (1881—1969) — савецкі военачальнік, дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з першых маршалаў Савецкага Саюза.

С. 274:

*Рэнуар П'ер Агюст* (1841—1919) — французскі жывапісец, графік, скульптар, адзін з заснавальнікаў імпрэсіянізму.

*Ван Гог Вінсент Вілем* (1853—1890) — галандскі жывапісец, адзін з пачынальнікаў постімпрэсіянізму.

*Манэ Эдуар* (1832—1883) — французскі жывапісец, адзін з рэфарматараў жывапісу, папярэднік імпрэсіянізму.

С. 276:

*Паўтаратонка* — аўтамабіль грузападымальнасцю ў паўтары тоны.

С. 277:

*Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*...званне Героя заслужыў.*— маецца на ўвазе Герой Савецкага Саюза — вышэйшая ступень адрознення ў СССР, ганаровае званне, якога ўдастойвалі за здзяйсненне подзвігу ці выдатных заслуг падчас баявых дзеянняў, а таксама ў якасці выключэння, і ў мірны час. Званне ўпершыню ўстаноўлена Пастановай ЦВК СССР ад 16 крас. 1934, дадатковы знак адрознення для Героя Савецкага Саюза — медаль «Залатая Зорка». У адпаведнасці з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 14 мая 1973 г. разам з медалём «Залатая Зорка» герою ўручаліся таксама ордэн Леніна (вышэйшая ўзнагарода СССР) і грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

С. 278:

*Чарнігаў* — горад ва Украіне, цэнтр Чарнігаўскай вобласці.

*Курск, Растоў-на-Доне, куды нага немца не ступіць...* — гарады ў глыбіні Расіі, але не дасягнутым фашыстамі выявіўся толькі Курск. Ужо 21 лістап. 1941 г. немцы захапілі Растоў (праз некалькі дзён яны былі выбітыя з горада), у 1942 г. Растоў быў часова зноў захоплены гітлераўцамі.

С. 279:

*Дваццаты з'езд партыі* — XX з'езд КПСС (Камуністычнай партыі Савецкага Саюза), які прайшоў у 1956 г. Найбольш

вядомы асуджэннем культу асобы і, ускосна, ідэалагічнай спадчыны І. В. Сталіна.

*Палтава* — горад ва Украіне, цэнтр Палтаўскай вобласці.

*Саратаў* — горад у Расіі, цэнтр Саратаўскай вобласці.

С. 283:

*Нікалаеў* — маецца на ўвазе Мікалаеў — горад ва Украіне, цэнтр Мікалаеўскай вобласці.

*Ніжні Тагіл* — горад у Свярдлоўскай вобласці Расіі.

*Златауст* — горад у Чалябінскай вобласці Расіі.

С. 285:

*Беласточчына* — гісторыка-культурны рэгіён, які знаходзіцца на паўночным усходзе Польшчы, каля мяжы з Беларуссю, на сутыку этнічных тэрыторый беларусаў і палякаў у басейнах Заходняга Буга і Нарвы.

С. 286:

*Віцебскі мастацкі тэхнікум* — назва ў 1923—1934 гг. Віцебскага мастацкага вучылішча. У той час тут выкладалі запрошаныя з Расіі выкладчыкі, а лепшыя навучэнцы накіроўваліся (з 1926 г.) у Ленінградскую акадэмію мастацтваў.

*Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

*Дульцынея* — увасабленне «дамы сэрца» і рыцарскага ёй служэння; вобраз з рамана «Дон-Кіхот» (1615) М. дэ Сервантэса (1547—1616).

С. 287:

*Урал* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 736).

*Алтай* — горны рэгіён на тэрыторыі Расіі, Казахстана, Манголіі і Кітая.

С. 293:

*Піла-цыркулярка* — гл. камент. да апавяд. «Байдачнікі» (с. 733).

С. 294:

*...размешчана на пясчаных выдмах...*— маецца на ўвазе на пясчаных дзюнах, што трапляюцца на Палессі.

*...нібы авечкі ў летнюю спякоту, калі карыстацца вобразам паэта.*— маецца на ўвазе радок з верша Якуба Коласа (1882—1956) «Вёска» (1907) — «як авечкі ў летні жар».

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Полымя»*

С. 256:

[30] дзевяціпавярховая гасцініца // *сяміпавярховая* гасцініца

С. 259:

[22] Значыць, прага славы // *Значыць, прага да славы.*

[27] розгалас вясёлай рэстаراннай музыкі. // *розгалас рэстараннай музыкі.*

С. 263:

[8] Між тым з першага заходу паступае // *Між тым справа разгортваецца для яго нават вельмі паспяхова: можна сказаць, з першага заходу паступае*

С. 264:

[9—10] што ён арыштаваны. // што ён *вораг народа.*

[27] стыпендыі не даюць. // *стыпендыі яму не даюць.*

[39] Хвіліны не губляе // *Хвіліны не згуляе.* [сэнсава больш дакладны першасны варынт]

С. 267:

[11—12] трывожыцца Андрэй. Ён нават пачынае думаць // *трывожыцца Андрэй. Між тым нічога дрэннага не здараецца, і Андрэй пакрысе супакойваецца. Ён нават пачынае думаць*

[31] Увогуле трэба зрабіць твар інстытута. // Увогуле трэба зрабіць *фасад* інстытута.

[36—37] быць такім актыўным. Мые, чысціць, беліць пакойчык, наводзячы поўны глянец. За два дні паспявае аббегаць // *Быць такім актыўным. За два дні паспявае аббегаць.*

С. 269:

[29—30] У лютым, сакавіку пад нагамі тонкая наледзь. // *У лютым, сакавіку хрупасціць пад нагамі тонкая наледзь* [«хрупасціць» варта пакінуць у асноўным тэксце].

С. 271:

[37—38] які заходзіць у пакой, не скінуўшы // *які заходзіць у пакой, нават не скінуўшы*

С. 272:

[3—4] раз за разам выносіць іх удзельнікам суровыя прысуды // раз за разам выносіць іх *уладальнікам* суровыя прысуды [«удзельнікі» замест «уладальнікаў» — нематываваная замена].

[27] яны падковай абступілі мястэчка. // яны падковай *абступалі* мястэчка.

С. 274:

[7—8] А без настрою, без душы, якія ён укладае // *А без настрою, без душы мастака, якія ён укладае* (У зб. «Гасцініца над Прыпяццю» слова «мастака» адсутнічае, але яно павінна быць.)

[25—26] астатнія жанчыны маладзейшыя, зграбнейшыя. Некалькі мазкоў, зробленых тушшу // *Астатнія жанчыны маладзейшыя, зграбнейшыя. Вось такі цуд. Некалькі мазкоў, зробленых тушшу*

С. 278:

[9] Васіль Грыцко, шыракаплечы хлапчына // *Васіль Грыцко, шыракаплечы, маўклівы хлапчына*

С. 280:

[2—3] казыркамі дахаў, маленькімі падслепаватымі акенцамі. // казыркамі дахаў, маленькімі *падлобістымі* акенцамі.

С. 282:

[32—33] Вайніла не піша пра высланага бацьку... Ягоная справа. // *Вайніла не піша пра высланага бацьку — няхай не піша. Ягоная справа.*

С. 289:

[21—22] Відаць былі ў цемені царкоўныя макаўкі без крыжоў. // *Відаць былі ў цемені круглыя царкоўныя макаўкі без крыжоў.*

С. 290:

[23—24] Памаладзеў, ледзь не нанава адбудоўваўся гарадок за апошнія трыццаць гадоў. // Памаладзеў, ледзь не нанава *адбудаваўся* гарадок за апошнія трыццаць гадоў.

## Несмяротныя людзі (с. 295)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1990, 21 верас.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1992, № 12) П. Навуменка.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 217:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Кюры* — пазасістэмная адзінка актыўнасці выпраменьвання радыеактыўных ізатопаў.

С. 297:

*«Масквіч»* — гл. камент. да апавяд. «Паляванне на дзіка» (с. 762).

С. 218:

*Чарнігаў* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 768).

С. 299:

*«Пабеда»* — легкавы аўтамабіль (марка ГАЗ-М-20), які з 1946 па 1958 г. выпускаўся на Горкаўскім аўтамабільным заводзе.

*«Казёл»* — неафіцыйная назва аўтамабіляў-усюдыходаў, якія з 1950 г. выпускаюцца Ульянаўскім аўтазаводам (УАЗ).

С. 304:

*Скураты* — кавалкі скуры.

С. 305:

*Мультановая кофта* — зробленая з мультану, бавaўнянай варсістай тканіны.

С. 309:

*Васняцоў Віктар Міхайлавіч* (1848—1926) — рускі жывапісец. Адна з найбольш вядомых яго карцін — «Багатыры». Пашыраная назва карціны — «Тры багатыры» — няслушная.

*«Тры багатыры»* — гэтыя папяросы маглі трапіць да афіцэра толькі ў той надзвычай сур'ёзнай сітуацыі, што склалася пад Ленінградам. Справа ў тым, што ў СССР мелася 8 класаў якасці папярос, найлепшы — вышэйшы № 3. Якраз да гэтага элітнага класу і адносіліся «Тры багатыры» (меліся і такія варыянты афармлення пачка, калі на ім выбівалася не карціна Васняцова), дадзеныя маркі ішлі пераважна на экспарт. Выпускаліся падобныя папяросы ў тым ліку Ленінградскай тытунёвай фабрыкай імя М. Урыцкага, і менавіта рэальнасць пагрозы голаду вымусіла выдаваць такую прадукцыю са складоў на фронт.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *газетны варыянт апавядання*

С. 297:

[39] болей лясоў, хвойных і лісцяных // болей лясоў, хвойных і *лісцвяных*

С. 298:

[14] Адчуваецца напружанасць, з якой // *Адчуваецца напружанасць, натуга, з якой*

С. 299:

[8—9] і заўсёды на станцыі шафёры чакалі // *і заўсёды на станцыі некалькі шафёраў чакалі*

С. 301:

[14] падносіць да рота яблык і есць. // *падносіць да рота яблык*.

С. 305:

[34—36] Ты не з етых самых падпальшчыкаў? — насцярожана пытаецца.— Каторыя хаты руйнуюць бульдозерам. Іншыя хаты нават паляць. // Ты не з етых самых падпальшчыкаў? — насцярожана пытаецца.— Каторыя хаты *паляць. Прыходзілі да мяне на тым тыдні. Вёскі паляць, а попел зграбаюць і закапваюць бульдозерам.*

С. 306:

[1—2] ці не рушылі ягоную вёску. // ці не *спалілі* ягоную вёску.

[10] матацыкл схаваў,— тлумачыць Пархімовіч. // матацыкл схаваў,— *патлумачыў* Пархімовіч.

[27—28] Паблісквала на небе, і хмара сышла // *Пабліскала* на небе, і хмара сышла [варта пакінуць часопісны варыянт]

С. 308:

[29] Яго зруйнавалі // Яго *спалілі*

[31] Печ вялікая, чараном і ляжанкай яна займала // *Печ вялікая, з чараном і ляжанкай, яна займала*

[33] Котлішча паспела зарасці // *Пажарышча* паспела зарасці

С. 309:

[15—16] Рана ці позна бульдозер зробіць тое // *Рана ці позна агонь і бульдозер зробяць тое*

**Пыл (с. 309)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — газ. «Звязда», 1990, 30 верас.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца частка машынапісу апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—3).

С. 310:

*Куставы карэспандэнт* — карэспандэнт, які прымацаваны да аднаго з раёнаў, але абслугоўвае і шэраг («куст») суседніх.

С. 311:

*Тасаўскія, белтаўскія матэрыялы* — тыя, што прыходзілі з ТАСС (тэлеграфнага агенцтва Савецкага Саюза) і з БелТА (Беларускага тэлеграфнага агенцтва).

*«Правда»* — газета, якая ў часы СССР была асноўным штодзённым друкаваным сродкам масавай інфармацыі Камуністычнай партыі і найбольш уплывовым савецкім выданнем, фактычна — галоўнай газетай краіны. Выдаецца з 5 мая 1912 г.

«*Известия»* — савецкая і расійская грамадска-палітычная і дзелавая штодзённая газета, заснаваная ў сак. 1917 г. Падчас СССР — афіцыйны орган кіраўнічых органаў савецкай улады, у прыватнасці, Вярхоўнага Савета СССР.

С. 313:

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта…» (с. 711).

С. 314:

*...партрэт правадыра, які і ў мірны час не зняў мундзір і пагоны генералісімуса…*— маецца на ўвазе Сталін; гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Беластоцкае, Кіеўскае, Бранска-Вяземскае, Харкаўскае акружэнні* — найбольш маштабныя і крывавыя акружэнні 1941—1942 гг.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *газетны варыянт апавядання*

С. 309:

[23—24] стаіць яна ў мясцінах ягонага дзяцінства. // стаіць яна ў мясцінах *яго* дзяцінства.

С. 313:

[30] Адкуль быць дастатку // *Дый наогул адкуль быць дастатку*

С. 315:

[15—16] Зняважаны, ён амаль не паказваўся ў мястэчку. // *Збянтэжаны, зняважаны, ён падаўся кудысьці ў дальні сельсавет, у школу і амаль не паказваўся ў мястэчку.*

## 1991

## Звяга (с. 316)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1991, № 5.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 318:

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік і публіцыст.

*XX з'езд партыі* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 768).

С. 321:

*Арол* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 749).

*У тым месцы, дзе вуліца Талстога, пераскочыўшы людную Маскоўскую вуліцу…*— узнаўляецца тая тапаніміка мінскіх вуліц, якая існавала да пабудовы моста цераз чыгуначныя пуці, які фактычна стаў працягам вуліцы Маскоўскай.

*...трохпавярховы мураваны дом. На доме вісіць мемарыяльная дошка...*— гэта рэальны мінскі адрас і рэальная шыльда. Маецца на ўвазе дом (ён мае чатыры, а не тры паверхі), які раней адносіўся да вуліцы Л. Талстога, а цяпер стаіць на Дабрамысленскім завулку. На доме мемарыяльная дошка, якая паведамляе, што тут, у адной з кватэр, доўгі час працавала радыёстанцыя савецкіх разведчыкаў. Гаспадарамі дадзенай кватэры былі мінскія падпольшчыкі А. Д. і М. Т. Загорскія.

*Міткаль* — гл. камент. да апавяд. «Якая доўгая вайна» (с. 758).

*СД* — ням. SD, скар., якое ў перакладзе выглядае як «служба бяспекі». Дадзеная служба (яна адказвала і за бяспеку, і за палітычную разведку) існавала ўнутры СС. Была заснавана ў 1931 г. найперш як служба разведкі, з верас. 1932 г. атрымала назву СД. На Нюрнбергскім працэсе СД прызнана злачыннай арганізацыяй.

С. 322:

*«Фёлькішэр беабахтэр»* — у перакладзе з нямецкай «Народны аглядальнік», штодзённая афіцыйная газета нацыянал-сацыялісцкай партыі Германіі.

*«Дас Райх»* — штотыднёвік, выходзіў з траўня 1940 г., заснаваны асабіста Гебельсам, які рэгулярна пісаў перадавіцы для гэтага выдання.

*«Шварцэ кор»* — у перакладзе з нямецкай «Чорны корпус», афіцыйнае выданне СС, якое выходзіла штотыднёва, у сераду, і распаўсюджвалася бясплатна.

*Эсэсаўцы* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

С. 323:

*Фольксдойчэ* (*ням*. Volksdeutsche) — абазначэнне «этнічных германцаў», якія жылі ў дыяспары, то бок за межамі Германіі. У адрозненне ад «рэйхсдойчэ» (*ням*. Reichsdeutsche, «германцаў рэйха»), прыналежнасць да «фольксдойчэ» («германскасць») вызначалася паводле асобных прыкмет — паводле «сямейнай гісторыі» (ці былі бацькі дойчэ), нямецкай мовы як роднай, паводле імя, царкоўных запісаў і г. д.

С. 325:

*У пачатку восені другога года вайны... упершыню пачуў пра Кузняцова.*— выразная паралель з рэальнай сітуацыяй восені 1942 г., з правалам гарадскога падполля ў Мінску і асобай Івана Кірылавіча Кавалёва (1906—1943), сакратара мінскага падпольнага гаркама партыі ў 1941—1942 гг., які быў арыштаваны ўвосень 1942 г., якога доўга катавалі і, як пазней высветлілася, патаемна

забілі. Але прозвішча Кавалёва гітлераўцы выкарысталі для правакацый… Дарэчы, гаспадары канспіратыўнай кватэры на тагачаснай вуліцы Талстога паспелі да правалу выйсці ў лес, але былі расстраляны партызанамі як людзі, звязаныя са «здраднікам» Кавалёвым.
С. 326:

*Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

*Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найбольшых рэк Зямлі і найвялікшая ў Еўропе.

*...Сталінград акружаны савецкімі войскамі...*— Сталінград (гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 748)); наступленне савецкіх войск пачалося 19 лістап. 1942 г., 23 лістап. нямецкія войскі ўжо былі акружаны.

*Немцы арганізавалі СМБ...— Саюз беларускай моладзі —* беларуская моладзевая нацыяналістычная арганізацыя, заснаваная ў чэрв. 1943 г.
С. 327:

*«Север»* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 749).
С. 330:

— *На, пачытай. Кузняцова рэабілітавалі.*— у 1990 г. ЦК КПБ пастанавіла: «Лічыць неадпаведнай рэчаіснасці раней інкрымінуемую І. К. Кавалёву здраду членаў Мінскага падпольнага гаркама партыі, супрацоўніцтва з гітлераўскімі акупантамі», пастанова змешчана ў газ. «Звязда» за 24 крас.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Беларусь»*
С. 319:

[23—25] не даюць на працадзень — нармальна. Вёска гібее, людзі ўцякаюць у горад — нармальна. Пішам тое, у што самі не верым. // *не даюць на працадзень — нармальна. Пішам тое, у што самі не верым.*
С. 326:

[14—15] Вось і Сталінград акружаны савецкімі войскамі // *Вось і Сталінград акружаны*
С. 327:

[13] немцы не толькі захапілі радыёстанцыю «Север» // немцы не толькі захапілі радыёстанцыю *«Поўнач»*
С. 329:

[15] куды сам Давыдзюк рэдка завітвае. // *куды сам Давыдзюк рэдка завітвае. Дазволу гарадскіх улад на мітынг няма. Значыць, самаўпраўства...*

## Край пясчаны, балотны (с. 330)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994 (пазначана як «аповесць»).

Упершыню — часопіс «Маладосць», 1991, № 6.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—68); на першай старонцы рукапісу ўгары закрэслена першая назва апавядання — «Край балотны, нізінны», і ніжэй падпісана «Край пясчаны, балотны».

С. 332:

*«Віцебскія вароты»* — 40-кіламетровы пралом у лініі фронту на стыку груп нямецкіх армій «Поўнач» і «Цэнтр». Дзейнічалі з 10 лют. да 28 верас. 1942 г. паміж Веліжам (Смаленская вобл.) і Усвятамі (Пскоўская вобл.); цікавую выпіску з дзённіка баявых дзеянняў ахоўных войск групы армій «Цэнтр» за 3 жн. 1942 г. прывёў І. Чыгрынаў у рамане «Вяртанне да віны»: «Наведанне камандуючым генералам і начальнікам штаба 201-й ахоўнай дывізіі з мэтай абмеркавання на месцы надзвычай напружанага становішча, якое склалася ў Полацкім раёне. Камандзір дывізіі сказаў, што ўсе намаганні, накіраваныя на барацьбу супроць партызан, застануцца дарэмныя да таго часу, пакуль не будзе спынены праход падмацаванняў праз «акно» ў лініі фронту на ўчастку 59-га армейскага корпуса».

С. 333:

*Сельпо* — гл. камент. да апавяд. «Какава для папраўкі здароўя» (с. 721).

С. 335:

*«Віліс»* — аўтамабіль, які лічыцца прататыпам сучасных пазадарожнікаў. Вытворца — амерыканская фірма «Willys-overland motors», гады вытворчасці 1941—1945. З лета 1942 г. па ленд-лізу масава пачалі пастаўляцца ў СССР і адразу набылі папулярнасць як камандзірскае аўто, часам выкарыстоўваліся як цягачы для 45-мм пушак.

С. 336:

*Хата-чытальня* — цэнтр асветы ў вёсках СССР, атрымалі вялікае распаўсюджанне ў 1920-х гг., да пачатку 1960-х гг. трансфармаваліся ў клубы, Дамы культуры, бібліятэкі.

*Райза* — раённы аддзел нарыхтовак («раённае забеспячэнне»).

С. 337:

*Марксізм* — філасофскае, палітычнае і эканамічнае вучэнне і рух, заснаваныя нямецкім філосафам, сацыёлагам, эканамістам, палітычным журналістам, грамадскім дзеячам Карлам Марксам (1818—1883) у сярэдзіне 19 ст.

*Карэлія* — рэспубліка ў Расіі, размешчаная на Карэльскім перашыйку; Карэльскі перашыек — гл. камент. да апавяд. «Какава для папраўкі здароўя» (с. 721).

*Данбас* — гл. камент. да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 739).

С. 340:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 342:

*Спас у Дабрынічах — прастольнае свята...* — Спас: старажытнае свята, прымеркаванае да часу выспявання садавіны і гародніны. У жніўні тры Спасы: Першы, альбо Мядовы (14.08), Вялікі, альбо Яблычны (19.08), Трэці, альбо Арэхавы (29.08). Хрысціянскай традыцыяй да Вялікага Спаса прымеркавана свята Перамянення Божага. Прастольнае свята — гл. камент. да апавяд. «Сямён Гуляш» (с. 753).

С. 346:

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

*Энгельс Фрыдрых* (1820—1885) — нямецкі філосаф, аднадумца і сааўтар прац К. Маркса, адзін са стваральнікаў марксізму.

*...у чацвёртым раздзеле «Кароткага курса ВКП(б)»...*— маецца на ўвазе «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» — падручнік па гісторыі Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў), апублікаваны ў 1938 г.

С. 347:

*«Гамлета» ў пастаноўцы Віцебскага тэатра.*— Узноўленая ў 1955 г. пастаноўка 1946 г., рэжысёр В. Бебутаў, мастак А. Бебутава.

*...«Мяшчане», «На дне» М. Горкага, «Ліса і вінаград» Фігейрэду...*— толькі пастаноўка па п’есе бразільскага пісьменніка Г. Фігейрэду «Ліса і вінаград» непасрэдна суаднесена з перыядам, пра які апавядаецца ў творы. Прэм’ера спектакля адбылася 20 верас. 1957 г. і стала падзеяй у тэатральным жыцці краіны. Асноўным матывам спектакля (рэжысёр Б. Эрын, мастак Б. Волкаў, кампазітар Я. Цікоцкі) крытыкі прызналі ўслаўленне свабоды чалавечага духу, чалавечага розуму. Падобныя ж водгукі атрымала пастаноўка п’есы М. Горкага «На дне» (рэжысёр Б. Эрын, мастак А. Грыгар’янц), але

прэм’ера гэтага спектакля адбылася ўжо ў 1968 г. І. Я. Навуменка, такім чынам, уключае ў пералік найперш творы, якія характарызуюць псіхалагічны стан героя апавядання, яго імкненне да ўнутранай свабоды.

С. 349:

*«Праўда»* — гл. камент. да апавяд. «Пыл» (с. 773).

*...пяць нарысаў пад назвай «Пяскі і хлеб».—* з 9.6.1948 у газ. «Правда» друкавалася серыя нарысаў пра Васілевіцкі раён Палескай вобласці «Пески и хлеба» А. Зямцова; узгадваюцца сакратар райкама Сяргей Іванавіч Шкурко, старшыня Васілевіцкага калгаса Хайм Залманавіч Яшчын. Сакратаром Васілевіцкага райкама камсамола ў 1948 г. стаў С. Шульга.

С. 350:

*Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч* (1894—1971) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, з верас. 1953 па 1964 г. 1-ы сакратар ЦК КПСС, з 1958 па 1964 г. Старшыня Савета Міністраў СССР.

С. 351:

«*Ой, мяцеліца, ой, мяцеліца, // Усе дарожкі замяла, // Як мне з міленькім на вяселейка, // Ехаць з вёскі да сяла...*» — радкі з песні «Мяцеліца» на словы беларускага паэта-песенніка Адама Русака (1904—1987).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Маладосць»*

С. 334:

[6] хоць нічым сябе не запляміў // хоць нічым *не запляміўся*

С. 337:

[22—23] То быў нейкі вышэйшы момант адданасці селяніна зямлі // То *была нейкая вышэйшая кропка* адданасці селяніна зямлі

[30—31] старшыні калгасаў сустракаюць яго гасцінна. // старшыні калгасаў *сустракалі* яго гасцінна.

[31—32] Не выключана, што наогул паважаюць. // Не выключана, што наогул *паважалі.*

[33] кіраўнікі наладжваюць пачастунак // кіраўнікі *наладжвалі* пачастунак

С. 340:

[13] час дарам не губляла // час *дарма* не губляла

[19] узбіраючыся на тэндан паравоза // узбіраючыся на *тэндар* паравоза [«тэндан» замест «тэндар» — відавочная памылка].

[36] пералапачваюць, веюць, ачышчаюць ад насення пустазелля. // пералапачваюць, веюць, *ачышчаючы* ад насення пустазелля.

С. 345:

[1] амаль заўсёды ёсць чалавек // амаль заўсёды *знойдзецца* чалавек

С. 348:

[32] Кукуеўка можа лепш ілюстраваць // Кукуеўка можа *найлепш* ілюстраваць [«найлепш» варта пакінуць].

С. 349:

[22—23] вазіць высокіх гасцей, умее паказваць лепшае. // *вазіць высокіх гасцей, умее паказваць.*

С. 350:

[8—9] Хрушчоў, відны дзеяч, змясціў на яе старонках // *Хрушчоў, відны дзеяч, напісаў і змясціў на яе старонках*

**Пенсіянеры мясцовага значэння (с. 352)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1991, 5 ліп.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Неман», 1992, № 12) П. Навуменка.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 352:

*«Жыгулі»* — марка легкавых аўтамабіляў «ВАЗ» Волжскага аўтамабільнага завода (г. Тальяці, Расія).

С. 354:

*Газагенератар* — транспартны сродак, аснашчаны рухавіком, палівам для якога служаць дровы.

*Піла-цыркулярка* — гл. камент. да апавяд. «Байдачнікі» (с. 733).

С. 356:

*Праз моры, горы і пустыні...* — змененыя радкі («через реки, горы и долины…») з вядомай «Песні франтавога шафёра» (муз. Б. Макравусава, словы Б. Ласкіна і Н. Лабкоўскага). Упершыню была выканана ў 1947 г. М. Бернэсам.

С. 357:

*Цюмень* — Цюменская вобласць, у Заходняй Сібіры (гарады Цюмень, Сургут, Ніжнявартаўск, Новы Урэнгой). Рэгіён, у якім сканцэнтравана 64 % запасаў расійскай нафты і 91 % газавых запасаў Расіі.

С. 359:

*«Гренада, Гренада, Гренада моя»* — радкі з верша М. Святлова, напісанага ў 1926 г. на матыў творча перанятай паэтам сал-

дацкай песні часоў Першай сусветнай вайны «Прощайте, родные, прощайте, друзья, // Прощай, дорогая невеста моя…»

*Магнітагорск* — горад у Расіі, заснаваны ў сувязі з будаўніцтвам металургічнага камбіната ў 1929 г.

С. 360:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *газетны варыянт апавядання*

С. 354:

[24] скапляўся газ, і газ гэты рухаў матор. // скапляўся газ, і газ гэты рухаў *маторы.*

С. 355:

[8] Доўгія, як адрыны, карпусы // *Доўгія, як адрыны, драўляныя карпусы*

С. 356:

[12] Дый праехаць туды ўжо немагчыма. // *Дый праехаць туды немагчыма.*

С. 357:

[29] Каб дагадзіць райкаму партыі. // *Каб дагадзіць райкаму партыі, райвыканкаму.*

С. 359:

[20] Бухман усміхаецца: сын аптэкара // Бухман *успамінае:* сын аптэкара

[35—36] была ў Ізі шустрая, вясёлая сястра // *Была ў Ізі шустрая, вясёлая, са светлымі кудзеркамі сястра*

С. 360:

[19—20] Не крыўдуй, ты быў тады дахадзяга. // *Не крыўдуй, ты быў дахадзяга.*

## 1992

### Пасцель бела (с. 361)

Друкуецца паводле публікацыі ў часопісе «Родная прырода», 1992, № 1.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## Дрэвы над вадою (с. 365)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1992, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Гасцініца над Прыпяццю», 1994; практычна той, што і ў кнізе, варыянт быў змешчаны ў газ. «Навіны АН Беларусі», 1995, за 12, 19, 26 мая.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 366:

*«Четвертку колючего хлеба поделим с тобой пополам...»* — радок з верша рускага паэта У. Лугаўскога (1901—1957).

С. 368:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

С. 370:

*...аб узяцці мястэчка паведамілі на дзень раней, чым было ў сапраўднасці...*— Васілевічы, роднае мястэчка І. Я. Навуменкі, вызвалілі 19 лістап. 1943 г., але ў зводцы стаяла дата 18 лістап. 1943 г.

С. 372:

*Каваль Вярнідуб* — асілак, герой беларускіх народных казак.

*Дзьмуць вятры з поўначы, дзьмуць з поўдня і прыходзяць вятры на свае кругі...* — урывак з кнігі Эклезіяст, Глава 1, радок 6. Выкарыстоўваецца ў сэнсе «няма нічога новага на зямлі, усё паўтараецца».

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гасцініца над Прыпяццю» // *часоп. «Беларусь»*

С. 367:

[6] на высокіх цэментаваных слупах // на высокіх *цэментавых* слупах

С. 372:

[6—7] Любіце гэтае месца? Я таксама // *Любіце гэтае месца? Куток прыгожы. Я таксама*

## 1993

### Вагавая будка (с. 375)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1993, 15 кастр. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «У Заграбе, на плошчы...»).

Уваходзіла ў зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца чарнавы рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—8).

С. 376:

*...ў кожным пасёлку, гарадку, а ў вялікім горадзе дык нават на кожнай вуліцы была свая «Маладая гвардыя»...*— маецца на ўвазе раман рускага пісьменніка А. Фадзеева (1901—1956) «Маладая гвардыя» (1946).

С. 378:

*...з-пад Белай Падляскі...*— Бяла-Падляска — горад у Польшчы, у Люблінскім ваяводстве.

*«Тыгры»* — нямецкія цяжкія танкі часоў Другой сусветнай вайны, распрацаваныя ў 1941 г.

*«Фердынанды»* — мадэль нямецкай самаходнай артылерыйскай устаноўкі, распрацаваная ў 1942—1943 гг., усяго выпушчана 90 такіх машын; «фердынандамі» ў савецкіх войсках называлі любую нямецкую самаходную ўстаноўку.

*Курскі выступ* — раён паўднёвага Арла і паўночнага Белгарада, заняты савецкімі войскамі ў ходзе зімовай кампаніі 1943 г.; выступаў у абарону нямецкіх войск на глыбіню болей за 150 км і меў па фронце працягласць 550 км.

*...немцы пакінулі Арол і Белгарад...*— Арол і Белгарад — гарады ў Расіі, у гонар іх вызвалення 5 жн. 1943 быў дадзены салют у Маскве.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 376:

[14] Акупацыя гарадка працягвалася два з лішнім гады. // Акупацыя гарадка працягвалася два з *лішкам* гады.

С. 379:

[2—3] хто іграць не ўмее, б’е лыжкай па кацялку. // *хто іграць не ўмее, проста б’е лыжкай па кацялку.*

[24—25] Быльнёг, палын, гадзючнік, як і раней, раскашуюць на // Быльнёг, палын, гадзючнік, як і раней, *раскашуе* на

**У Заграбе, на плошчы... (с. 379)**

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1993, 15 кастр. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Вагавая будка»).

Уваходзіла ў зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 379:

*Заграб* — сталіца Харватыі.

*Любляна* — сталіца Славеніі.

*Кангрэс славістаў* — маецца на ўвазе Восьмы кангрэс славістаў, які праходзіў у Заграбе ў верас. 1978 г.

С. 380:

*Югаславія* — дзяржава на поўдні Еўропы ў 1918—2003 гг.; з 1991 г. існавала ў істотна паменшаных межах. На тэрыторыі былой Югаславіі — Сербія, Чарнагорыя, Харватыя, Боснія і Герцагавіна, Македонія, Славенія.

*Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917) — беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры.

*Панонія* — рымская правінцыя, якая займала заходнюю частку сучаснай Венгрыі, паўночную частку сучасных Харватыі і Сербіі, усходнюю частку Аўстрыі.

*Шыпка* — вяршыня вышынёй 1523 м у Балканскіх гарах на тэрыторыі Балгарыі. Найвышэйшая кропка Шыпкінскага перавала — аднаго з галоўных шляхоў паміж паўночнай і паўднёвай Балгарыяй. У 1877 г. тут праходзілі адны з найважнейшых бітваў у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг. Загінулі тысячы расійскіх і балгарскіх салдат.

*Галіцыя* — гістарычная вобласць ва Усходняй Еўропе (канец 18—пач. 20 ст.), якая прыкладна адпавядае тэрыторыі сучасных Івана-Франкоўскай, Львоўскай і большай частцы Цярнопальскай абласцей Украіны, Падкарпацкага і большай цастцы Малапольскага ваяводстваў Польшчы.

С. 381:

*Адрыятычнае мора* — паўзамкнёнае мора басейна Міжземнага мора, паміж Балканскай і Апенінскай паўвыспамі.

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

*Мусаліні Беніта* (1883—1945) — італьянскі дыктатар (дучэ), палітык, лідар нацыянальнай фашысцкай партыі, прэм’ер-міністр Італіі ў 1922—1943 гг. Адзін з найбольш вядомых дыктатараў XX ст. Вынаходнік тэрміна «фашызм».

*Павеліч Антэ* (1889—1959) — харвацкі палітычны дзеяч, у 1929 г. стварыў радыкальную нацыянальна-вызваленчую арганізацыю «Усташы», у 1941 г. узначаліў урад гэтак званай «Незалежнай Харватыі», марыянетачнай краіны, дзе ўсташамі праводзіліся масавыя забойствы нехарвацкага насельніцтва.

С. 382:

*Бялград* — сталіца Сербіі.

*Прага* — сталіца Чэхіі (да 1992 г. — Чэхаславакіі).

*Варшава* — сталіца Польшчы.

*Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 380:

12—13 хоць тое-сёе ў ягонай прамове // хоць *сёе-тое* ў ягонай прамове

**1994**

**Авёс для рэдактара (с. 383)**

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 384:

*«Парыжская камуна»* — рэвалюцыйны ўрад паўстанцкіх працоўных мас у Парыжы ў 1871 г.

## Блаславенне бульбе (с. 386)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1994, 11 лют. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Параска»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 387:

*Беласток* — горад у Польшчы.

С. 388:

*...пад Кіраваградам трапіў у палон...*— пад Кіраваградам у жн. 1941 г. толькі што сфарміраваная 223-я стралковая дывізія, якая яшчэ не паспела атрымаць цяжкое ўзбраенне, трапіла на маршы пад удар нямецкіх танкаў.

*Пецярбург (Ленінград):* гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 736).

*Дэпутат 4-й Думы* — чалавек, абраны ў Дзяржаўную Думу, прадстаўнічую і заканадаўчую ўстанову Расіі. 4-я Дума дзейнічала з 1912 па 1917 г.

С. 389:

*Белапольская акупацыя* — акупацыя часткі тэрыторыі Беларусі польскімі войскамі ў 1919—1920 гг.

*НЭП* — скар.: новая эканамічная палітыка — названа «новай» у адрозненне ад палітыкі ваеннага камунізму; сістэма мер, скіраваных на ажыўленне эканомікі на аснове выкарыстання таварна-грашовых адносін і матэрыяльнай зацікаўленасці. Праводзілася ў СССР у 1920-я гг. Была прынята 15 сак. 1921 г. X з'ездам РКП(б).

*Субар* — гл. камент. да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 738).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 390:

15—16 некалькі пудзілаў паставіў, каб не дзяўблі зерне вераб'і. // некалькі пудзілаў паставіў, каб не *клявалі* зерне вераб'і.

## Выпадак на аўтобусным прыпынку (с. 390)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1994, 14 кастр. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Зязюлі ў родным лесе»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 390:

*Кіеў, Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*Уладзімір* — горад на рацэ Клязьма, закладзены як Уладзімір Залешскі кіеўскім князем Уладзімірам Манамахам у 1108 г. Кіеўляне не проста заўважылі, што мясціны над Клязьмай вельмі нагадваюць кіеўскія краявіды (уражаныя, яны нават малым рэчкам бліз Уладзіміра далі кіеўскія назвы Лыбедзь, Ірпень і Пачайна), першапачатковае падабенства ў далейшым паслядоўна падкрэслівалася. У новым горадзе ўзводзіліся будынкі, якія шмат у чым паўтаралі кіеўскія ўзоры.

С. 391:

*Лагойск* — гарадскі пасёлак, цэнтр Лагойскага раёна Мінскай вобласці.

*Наваградак* — горад у Гродненскай вобласці, раённы цэнтр, лічыцца першай сталіцай ВКЛ.

*Слуцк* — горад, цэнтр Слуцкага раёна Мінскай вобласці, цэнтр раннефеадальнага Слуцкага княства.

*Тураў* — гарадскі пасёлак у Жыткавіцкім раёне, цэнтр раннефеадальнага Тураўскага княства.

*Заслаўе* — гарадскі пасёлак у Мінскім раёне, цэнтр раннефеадальнага Ізяслаўскага княства.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 391:

[5] Я грыбнік, таму вандроўнік. // Я грыбнік, *пагэтаму* вандроўнік.

[14—15] з яго нізкімі дамкамі, напаўразбуранымі мурамі // *з яго нізкімі дамкамі, напаўразбуранымі старажытнымі мурамі*

С. 392:

[20—21] з выпаленым пастухамі тулавам дуб // з выпаленым пастухамі *тулавішчам* дуб

[31] Але ад гэтага не знікне ў душы // Але ад гэтага не *знікае* ў душы

С. 393:

[2—3] здаюцца ў параўнанні з гэтай пышнай, магутнай забудовай звычайнымі мурашкамі // здаюцца ў параўнанні з гэтай пышнай, магутнай забудовай звычайнымі *мурашнікамі* [варта пакінуць «мурашнікамі»].

## Зязюлі ў родным лесе (с. 394)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1994, 14 кастр. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Выпадак на аўтобусным прыпынку»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 395:

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта…» (с. 711).

*Уласаўцы* — так называлі тых, хто ваяваў на баку гітлераўскіх войск у складзе «Рускай вызваленчай арміі» пад камандаваннем А. А. Уласава, былога генерал-лейтэнанта Чырвонай Арміі.

С. 396:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

## Зямля, зямля… (с. 397)

Друкуецца паводле зб. «Гасцініца над Прыпяццю», 1994.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты машынапісу апавядання «Зямля, зямля...» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—12). У першапачатковым варыянце апавяданне мела назву «Зямля».

С. 397:

*Стаханавец* — рабочы, які дасягнуў высокай прадукцыйнасці працы. Паводле імя А. Стаханава, забойшчыка шахты ў Данбасе, які пачаў у 1935 г. змаганне за высокія паказнікі сацыялістычнай працы.

*«Железнодорожник Белоруссии»* — галіновая грамадска-палітычная газета, створаная 30 чэрв. 1936 г.

С. 398:

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

С. 400:

*Ленін* (сапр. Ульянаў) Уладзімір Ільіч (1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння СССР.

*Урал, Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*...разгром немцаў пад Масквой...*— маецца на ўвазе бітва за Маскву (30 верас. 1941 — 20 крас. 1942), баявыя дзеянні савецкіх і нямецкіх войск на маскоўскім кірунку. Падзяляюць на два перыяды: абарончы (30 верас. — 4 снеж. 1941) і наступальны, які складаецца з двух этапаў: контрнаступлення (5—6 снеж. 1941 — 7—8 студз. 1942) і агульнага наступу савецкіх войск (7—10 студз. — 20 крас. 1942). У выніку нямецкія войскі былі адкінутыя на 100—250 км. Цалкам былі вызваленыя Тульская, Разанская і Маскоўская вобласці, многія раёны Калінінскай, Смаленскай і Арлоўскай абласцей.

**Параска (с. 401)**

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1994, 11 лют. (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Блаславенне бульбе»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 402:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 403:

*Днепрапятроўск* — горад ва Украіне, цэнтр Днепрапятроўскай вобласці.

С. 405:

*Данбас* — гл. камент. да апавяд. «Загародка на ваколіцу» (с. 739).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 401:

[31] з'явіцца ў ваенкамат. З двухдзённым запасам // *з'явіцца ў ваенкамат. Паслязаўтра. З двухдзённым запасам*

С. 402:

[4—5] Значыць, загінуў. Або пакутуюць бацька і сын у палоне // *Значыць, загінулі. Або пакутуюць у палоне.*

[32—33] толькі пачала вызваляцца, што пасля яе вызвалення // *толькі пачала вызваляцца, што нават пасля яе вызвалення*

С. 403:

[15] Мне здавалася, што я падабаўся і Парасцы. // Мне здавалася, што я *падабаюся* і Парасцы.

С. 404:

[12—13] Снежань ляжыць шэры, нецікавы. У выпетраным балотным бадыллі // *Снежань ляжыць шэры, нецікавы. Наўзбоч дарогі цёмны лазняк, алешнік. У выпетраным балотным бадыллі*

## 1995

### Адвячорак на ўскраіннай вуліцы (с. 406)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.
Упершыню — часоп. «Беларусь», 1995, № 1.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і разначытанні:
Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Беларусь»*
С. 406:

[18] думай пра сэнс жыцця, якое невядома // думай пра сэнс жыцця *ў гэтым неабсяжным свеце, які* невядома

### Кот Мікіта (с. 409)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 1995, № 2.
У зборнікі прозы не ўваходзіла.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### Нашы каровы (с. 411)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.
Упершыню — часоп. «Беларусь», 1995, № 1.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 411:

*...перавялі ў Мінск...*— гады работы ў газ. «Звязда» самога І. Я. Навуменкі — 1951—1952.

С. 412:

*Сіментальная парода* — адна з найбольш старажытных парод кароў, выводзілася ў Швейцарыі з V ст. Назва — ад даліны ракі Сіме ў кантоне Берн, нейкі час называлася таксама бернскай пародай. З XIX ст., калі пачалося інтэнсіўнае вывядзенне эфектыўнай па двух кірунках, і па мясу, і па малаку, каровы, спакваля склаліся

характэрныя для пароды вонкавыя прыкметы — масіўнасць, вялікія габарыты, непазбежная пры такім спалучэнні малапаваротлівасць. У 30-я гады XX ст. практыка паўсюдна прымушае адмаўляцца ад ранейшай габарытнасці «сіменталак».

С. 414:

*Крым* — гл. камент. да апавяд. «Як купіць аўтамашыну» (с. 731).

*Башкірыя* — гл. камент. да апавяд. «Неспакой» (с. 747).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Беларусь»*

С. 412:

[26] Карова была выдатная: сіментальнай пароды // Карова была выдатная: *сіментальскай* пароды

С. 413:

[12] валакла па зямлі вялікі, адвіслы жывот. // валакла па зямлі вялікі, *адвісшы* жывот.

## 1996

### Аркестр (с. 415)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1996, 10 мая (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «На сотай вярсце»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 415:

*Пціч* — рака, пачынаецца на паўднёва-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша, левы прыток Прыпяці.

*...маршал Жукаў служыў: камандаваў кавалерыйскім палком, штаб якога размяшчаўся ў Мінску...*— Жукаў Георгій Канстанцінавіч (1896—1974), савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч, з 1930 г. камандаваў кавалерыйскай брыгадай (штаб у Мінску), кавалерыйскай дывізіяй, потым корпусам (1933—1937, Слуцк), быў намеснікам па кавалерыі камандуючага войскамі Беларускай асобай ваеннай акругі (1938—1939).

С. 416:

*Уол-стрыт* — назва невялікай вузкай вуліцы ў ніжняй частцы Манхатана, якая ўважаецца за цэнтр Фінансавага квартала (на гэтай вуліцы размешчана ў тым ліку Нью-Ёркская фондавая біржа).

*Прыпяць* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 417:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Шопа* — павець, будынак.

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Сямён Гуляш» (с. 753).

*«Інтэрнацыянал»* — міжнародны пралетарскі гімн. Напісаны на верш французскага паэта-рэвалюцыянера Э. Пацье (1871), музыка П. Дэгейтара (1888). Упершыню выкананы 23 чэрв. 1888 г. хорам рабочых з французскага горада Ліля. У 1918—1943 гг. быў гімнам СССР. Рускі тэкст напісаў паэт А. Коц у 1902 г.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*

С. 418:

[4—5] разбурыць яго і адбудаваць зусім новы. // Разбурыць яго і адбудаваць *на новых пачатках.*

**Груша на прыгуменні (с. 418)**

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1996, № 5.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—5).

С. 419:

*Ленін* — гл. камент. да апавяд. «Зямля, зямля…» (с. 788).

*Троцкі Леў Давыдавіч* (сапр. Бранштэйн Лейба, 1879—1940) — палітычны і дзяржаўны дзеяч, у 1929 г. высланы з СССР.

*Сталін* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

С. 421:

*Кулямёт «максім»* — кулямёт сістэмы амерыканца Х. Максіма (1840—1916), распрацаваны ў 1883 г.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Маладосць»*

С. 419:

[35] і гэтак апальвалася — з плеч у печ // і гэтак *атоплівалася* — з плеч у печ

С. 421:

[2—3] Дзяліліся грушамі, вядома, з усімі хлопцамі // Дзяліліся грушамі, вядома, з *другімі* хлопцамі

**Дуб на ўзлессі (с. 421)**

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1996, № 8.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Всемирная литература», 1998, № 8) В. Каваленка.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 422:

*Ордэн Чырвонага Сцяга* — гл. камент. да апавяд. «Мульменкаў сад» (с. 726).

С. 423:

*Хірасіма* — горад у Японіі, над якім 6 жн. 1945 г. была ўзарвана першая атамная бомба. У выніку ў горадзе разбурана каля 75 тысяч будынкаў, загінула больш за 200 тысяч чалавек.

*Нагасакі* — горад у Японіі, над якім атамная бомба ўзарвалася 9 жн. 1945 г. Былі забіты і паранены каля 75 тысяч чалавек.

С. 424:

*Бяроза* — рака ў Зэльвенскім і Слонімскім раёнах Гродзенскай вобласці, левы прыток р. Шчара (басейн Нёмана).

*Чарнобыль, Прыпяць* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

**Жоржык (с. 425)**

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Вясёлка», 1996, № 12.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## Калабарацыяніст Пеця Жучок (с. 426)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1996, № 5.

Апавяданне пераклаў на рускую мову («Всемирная литература», 1998, № 8) В. Каваленка.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—4).

С. 426:

*Калабарацыяніст* — здраднік, які супрацоўнічае з ворагам сваёй радзімы, свайго народа.

С. 428:

*«По морям, по волнам // Нынче здесь, завтра там…»* — радкі з песні, якая сталася папулярнай у гады грамадзянскай вайны ў Расіі і шырока вядомай дзякуючы раману «Чапаеў» (1923) А. Фурманава. Аўтар гэтай песні — «Ты моряк, красив собою» — паэт пушкінскай пары В. С. Мяжэвіч (1814—1849), які напісаў яе для сваёй драмы «Артур, альбо Шаснаццаць гадоў пасля» (1839).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Маладосць»*

С. 426:

[22—23] ён, Пеця, вызначаецца незвычайнай шустрасцю // *ён, Пеця, вызначаецца незвычайнай шустрасцю і ўвішнасцю*

С. 427:

[8—9] выдалі мятлу і дазволілі па пероне, чакальнай зале і наогул па абсягах станцыі падмятаць смецце. // *выдалі мятлу і дазволілі хадзіць па пероне, чакальнай зале і наогул па абсягах станцыі, падмятаць смецце.*

С. 428:

[2—3] і насіў маці і сястрычцы. Бо жылі яны не вельмі. Цяпер ленаваты айчым // *і насіў маці і сястрычцы. Цяпер ленаваты айчым*

[10—11] «По морям, по волнам,— нынче здесь, завтра — там...» // «По морям, по волнам,— *сегодня* здесь, завтра — там...»

[30] Славакі падпалілі бікфордаў шнур. // *Славакі падпалілі доўгі бікфордаў шнур.*

## Ліпы цвітуць (с. 429)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1996, № 5.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—8).

С. 431:

*Крылоў Іван Андрэевіч* (1769—1844) — рускі драматург, байкапісец, журналіст. Вядомы таксама як гурман, які не абмяжоўваў сябе ў ежы.

С. 432:

*Пісараў Дзмітрый Іванавіч* (1840—1868) — рускі публіцыст і літаратурны крытык.

С. 433:

*Чарнышэўскі Мікалай Гаўрылавіч* (1828—1889) — рускі філосаф, пісьменнік, літаратурны крытык. Яго раман «Што рабіць» вывучаўся ў сярэдзіне XX ст. у школах і ВНУ.

*«Вайна і мір» Талстога* — эпапея рускага пісьменніка Л. Талстога, якую ён выдаў у 1865—1869 гг.

*Кутузаў Міхаіл Іларыёнавіч* (1745—1813) — рускі палкаводзец, генерал-фельдмаршал.

*Напалеон* — гл. камент. да апавяд. «Год карася» (с. 755).

С. 434:

*Мендэлісты-марганісты* — прыхільнікі вучэнняў Г. І. Мендэля і Т. Х. Моргана; Мендэль Грэгар Іаган (1822—1884) — аўстрыйскі прыродазнаўца, заснавальнік вучэння пра спадчыннасць, адпаведна мендэлізм — вучэнне пра заканамернасці атрымання ў спадчыну адзнак арганізма; Морган Томас Хант (1866—1945) — амерыканскі біёлаг, заснавальнік школы генетыкаў.

*Югаславія* — гл. камент. да апавяд. «У Заграбе, на плошчы...» (с. 784).

С. 320:

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта…» (с. 711).

*Бернэс Марк Навумавіч* (1911—1969) — савецкі акцёр і выканаўца песень, адзін з найулюбёнейшых артыстаў савецкай эстрады.

*...парень ходит, мается, // Свой покой он потерял навек, // Значит, без вниманья обращается // С человеком человек…*—

радкі з песні «У жыцці так здараецца» на словы Н. Лабкоўскага і Б. Ласкіна, муз. В. Салаўёва-Сядога, якая ўпершыню прагучала ў радыёаглядзе «Клуб вясёлых артыстаў» у 1947 г.
С. 435:

*Прыпяць* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

Варыянты і разначытанні:
Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Маладосць»*
С. 431:
[1] У ім чатыры пакоі. // *У ім толькі чатыры пакоі.*
[14—15] У поўдзень так горача // У *апоўдзень* так горача
С. 433:
[36—37] Трэці курс, можна лічыць, закончаны. // Трэці курс, можна *сказаць,* закончаны.
С. 434:
[4] нецярплівыя прамоўцы выкрываюць памылкі // нецярплівыя прамоўцы *выкрыкваюць* памылкі

## На сотай вярсце (с. 435)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.
Упершыню — газ. «ЛіМ», 1996, 10 мая (пад шапкай «Два апавяданні», разам з апавяданнем «Аркестр»).
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 437:

*Адзёнак (адонак)* — падсціл з галля, жэрдкі, на якія кладуць стог.

Варыянты і разначытанні:
Зб. «Любімы горад» // *газетны варыянт апавядання*
С. 436:
[6] Не любіць папутчыкаў. // Не любіць *папутнікаў.*
[11] Відаць, вельмі сур'ёзны, заняты Рудчык // Відаць, вельмі сур'ёзны, *зацяты* Рудчык [варта пакінуць «зацяты»].
С. 437:
[28—29] вяртацца ў вёску, дзе дуркаваты старшыня // вяртацца ў вёску, дзе *дурнаваты* старшыня

[33—34] У памяці Рудчыка, нібы іскра, успыхвае не зусім акрэслены малюнак. // *У памяці Рудчыка ўспыхвае, нібы іскра, зусім акрэслены малюнак.*

[35—36] Ці адзёнак ад стога. // Ці *адонне* ад стога.

## Падранены журавель (с. 439)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Вясёлка», 1996, № 3.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—6). Гэта чарнавы варыянт твора, пазней ён будзе скарочаны.

С. 439:

*Адонак* — гл. камент да апавяд. «На сотай вярсце» (с. 796).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Вясёлка»*

С. 439:

[9] Сонца яшчэ гарачае, як у сярэдзіне лета // *Сонца яшчэ гарачае, але не такое пякучае, як у сярэдзіне лета*

[12—13] Яны цяпер таксама жыруюць, каб набрацца сіл // Яны цяпер *сама* жыруюць, каб набрацца сіл

[37] То на леташнім адонку // То на леташнім *адзёнку*

С. 440:

[21—22] У яго нават пугі няма — звычайны дубочак. // У яго нават пугі няма — звычайны *дубчык.*

[36] абсталяваў для параненага жураўля закутак // абсталяваў для *падраненага* жураўля закутак

## Сельсаветчыкі (с. 441)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1996, № 5.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У газ. «Рэчыцкая праўда» (21 сак. 1937 г.) надрукавана: «Чаму вучаць васілевіцкія справы? На працягу доўгага часу ў Васілевіцкім сельсавеце арудавала антысавецкая група, якую ўзначальваў былы старшыня сельсавета, усім вядомы дзяржыморда і самадур «камуніст»

Анікееў (зараз выключаны з партыі). Неабмежаваным давер'ем у Анікеева карыстаўся ад'яўлены вораг савецкай улады, сын жандарма Бугрымовіч (былы намеснік старшыні)...»

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—7).

С. 441:

*…мястэчка не ўпершыню было раённым цэнтрам…*— Васілевіцкі раён існаваў у 1926—1927 і 1938—1959 гг.

С. 443:

*Вароўскі* — гл. камент. да апавяд. «Мульменкаў сад» (с. 726).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Маладосць»*

С. 442:

15 Ксюха Лапата // *Ксюха Лаптата*

24 Шчаслівы, блаславёны час! // Шчаслівы, *благаслаўлёны* час!

С. 443:

21—22 Музыка зноў абуджала радасць // Музыка *званоў* абуджала радасць (вярнуць «званоў»).

## Трохі пра Якуба Коласа (с. 446)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1996, № 8.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 446:

*Колас Якуб* (сапр. Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, 1882—1956) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі (1926).

*…перавялі з мазырскай абласной газеты... у рэспубліканскую «Звязду».*— І. Я. Навуменка працаваў у мазырскай абласной газ. «Бальшавік Палесся» ў 1945—1951 гг., у газ. «Звязда» — у 1951—1952 гг.

*...памерла яго жонка…*— Марыя Дзмітрыеўна (Каменская), жонка Якуба Коласа, памерла ў маі 1945 г.

*...аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся»…*— аповесць «У палескай глушы» (1-я частка трылогіі

«На ростанях») выйшла ў 1923 г., аповесць «У глыбі Палесся» (2-я частка трылогіі «На ростанях») выдадзена ў 1927 г.
С. 447:

*Ядвіся* — гераіня трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (1923—1954). Яе прататыпам была Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч.

*Слонім* — горад у Беларусі, цэнтр Слонімскага раёна Брэсцкай вобласці.

*Жыровіцкі кляштар* — Жыровіцкі манастыр базыльян, помнік архітэктуры XVII—XIX стст., сёння больш вядомы як Жыровіцкі праваслаўны манастыр.

*Сталін* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Талстой Леў* — гл. камент. да апавяд. «Звяга» (с. 774).
С. 448:

*Бурносаў Васіль Емяльянавіч* (1914—1984) — беларускі крытык, літаратуразнавец, перакладчык.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Беларусь»*
С. 447:

[9—10] жыла ў Слоніме. Мела дзвюх дачок // жыла ў Слоніме, мела *двух* дачок
С. 448:

[1] У тыя дні здарылася прыкрая справа. // У тыя дні *здарыўся непрыемны для мяне выпадак.*

[23] Маўляў, залішне бедны настаўнік // *Маўляў, залішне бедны быў настаўнік*

[32] Што гэта? Можа, адказ у тым, што // *Што гэта? Хто адкажа? Можа, адказ у тым, што*

## 1997

### Анэля (с. 449)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Беларуская думка», 1997, № 9. Выдадзена пад агульнай рубрыкай: *У нас у гасцях*, дзе друкавалася разам з апавяданнямі «Рукі на камені» і «Якімец-Якімчык».

У зборніку прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## Рукі на камні (с. 453)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Беларуская думка» (пад назвай «Рукі на камені»), 1997, № 9. Выдадзена пад агульнай рубрыкай: *У нас у гасцях*, дзе друкавалася разам з апавяданнямі «Анэля» і «Якімец-Якімчык». Перад тэкстамі — слова ад рэдакцыі: «Народнага пісьменніка Беларусі Івана Якаўлевіча Навуменку ведае, бадай, кожны інтэлігентны беларус. Таленавіты празаік, акадэмік, былы віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, ён і сёння шмат і плённа працуе. З-пад яго пяра выходзяць новыя і новыя апавяданні. У літаратуру Іван Навуменка, юнак з мястэчка Васілевічы пад Рэчыцай, уварваўся імкліва, смела ўжо сваёй першай кніжкай «Сямнаццатая вясна», заняўшы на творчым Парнасе ганаровае месца побач з класікамі. Крытыкі называюць яго песняром сямнаццатай вясны. Зрэшты, галоўныя героі трылогіі Івана Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» — маладыя людзі. У творах распавядаецца пра апаленае вайной юнацтва, падполле і партызанскі рух, удзельнікам якіх быў малады аўтар. Не дзіўна, што творы пісьменніка жыццёвыя, глыбокія, вызначаюцца мастацкасцю і вобразнай мовай. Іван Навуменка — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, узнагароджаны ордэнамі і медалямі, аягоныя кнігі перакладзены на многія замежныя мовы. Прапануем чытачам тры новыя апавяданні Івана Навуменкі».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Беларуская думка»*

С. 453:

[9—10] у мясцінах, па якіх ён вандраваў будучы яшчэ даволі маладым. // *у мясцінах, па якіх ён вандраваў яшчэ даволі маладым.*

[20—22] у мястэчку, больш падобным на вялікую раскіданую вёску — у ёй была // у мястэчку, больш падобным на вялікую раскіданую вёску — у *ім* была

[22—23] І быў не гэтак далёка лес, балота, пнёўе, ягады // І *былі* не гэтак далёка лес, балота, пнёўе, ягады

С. 454:

[15—16] але памяць патроху падводзіць. // але памяць *трохі* падводзіць.

С. 455:

[26—27] Нават некаторыя маладзейшыя спрытныя мужчыны з санаторыя // Нават некаторыя маладзейшыя *спрытнюгі* з санаторыя

[27—28] Прыцішаны гоман, піск, смех не сціхалі // Прыцішаны гоман, *віск,* смех не сціхалі

## Якімец-Якімчык (с. 456)

Друкуецца паводле зб. «Любімы горад», 1999.

Упершыню — часоп. «Беларуская думка», 1997, № 9. Выдадзена пад агульнай рубрыкай: *У нас у гасцях*, дзе друкавалася разам з апавяданнямі «Анэля» і «Рукі на камені».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 457:

*Сакратар ЦК* — сакратар Цэнтральнага Камітэта, у савецкі час вышэйшага кіруючага калектыўнага органа Камуністычнай партыі Беларусі паміж з’ездамі.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Любімы горад» // *часоп. «Беларуская думка»*

С. 456:

[11—12] Нарэшце справу асвятліла сакратарка адказнага рэдактара // Нарэшце справу *прасвятліла* сакратарка адказнага рэдактара

[12—13] плакатна-прыгожая фея з прызыўным позіркам // плакатна-прыгожая фея з *заклікальным* позіркам

[13—14] і шырокім выразам цёмнай шарсцяной сукенкі на грудзях. // і шырокім *разрэзам* цёмнай шарсцяной сукенкі на грудзях.

[19] Нарэшце мы ўведалі ягонае прозвішча // Нарэшце мы *даведаліся* ягонае прозвішча

[23] заклікаў мяне ў кабінет. // *паклікаў* мяне ў кабінет.

[24—25] справаздачна-выбарчую // справаздачна-*выбарную*

С. 457:

[2] Загубім дзела. // Загубім *справу.*

[30] Паляцелі па яго міласці галовы // Паляцелі *з яго* міласці галовы

[35] Зал ужо ведаў: кранты Баранчуку. // *Зала ўжо ведала:* кранты Баранчуку.

С. 459:

[1—2] Пасяліўшыся ў прыземістай гасцініцы (тут некалі быў «вясёлы дом»), я прыкмеціў // *Пасяліўшыся ў прыземістай гасцініцы, я прыкмеціў*

## Гадзюка (с. 459)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.
Упершыню — часоп. «Бярозка», 1997, № 11.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і розначытанні:
Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Бярозка»*

С. 459:

[19] на карані вываратня // на *корані* вываратня

С. 460:

[13] Ды і населен лес // Ды і *населены* лес

[13—14] Па ствалах, галінах сосен // Па *камлях,* галінах сосен

[17—18] да палавіны лета пырхае, спявае, перагукваецца рознае малое птаства. // *да палавіны лета пырхае, перагукваецца рознае малое птаства.*

[22] зусім яго не баяцца: нават у маленькі клубок не згортваюцца. // *зусім яго не баяцца: нават у клубок не згортваюцца.*

[23—25] Летам у лесе колькі хочаш мошак, казюрак, рознай паўзучай і лятаючай дробязі // *Летам у лесе колькі хочаш мошак, казюрак*

[25] Можна лавіць яе з раніцы да вечара. // Можна лавіць *іх* з раніцы да вечара.

[31—32] а ноччу вышуквае сваімі жоўтымі, нібы маленькімі ліхтарыкамі, вачамі // *а ноччу вышуквае жоўтымі, нібы маленькія ліхтарыкі, вачамі*

[37—38] выкідваюць з гнязда птушанят, з якімі раслі // *выкідваюць з гнязда птушанят, разам з якімі раслі*

С. 461:

[1—2] Міхась ходзіць у лесе з палкай. // Міхась ходзіць у лесе з *кійком.*

[2—3] Каб уберагчыся ад гадзюк. Трох ці чатырох гадзюк ён забіў. І ўсё адно не ўбярогся. // *Каб абараніцца ад гадзюк. І ўсё адно не ўбярогся.*

[4—5] выйшаў з лесу прама да чыгункі. // выйшаў з лесу *проста* да чыгункі.

[5] На схіле насыпу ўбачыў кружок ягад суніц // *На схіле насыпу ўбачыў кружок суніц*

[6—7] чырванелі, нібы раскіданыя бусінкі маністаў. // чырванелі, нібы раскіданыя *пацеркі* маністаў.

[7] Ён нагнуўся, стаў збіраць // Ён нагнуўся, *пачаў* збіраць

[8—9] штосьці торкнулася ў нагу вышэй забарасня лапця і як бы яе апякло. // *штосьці торкнулася ў нагу і як бы яе апякло.*

[9—10] пярэсты тоўсты жмут гадзюкі // *пярэсты жмут гадзюкі*

[11] Забіць гадзіну Міхась не паспеў. // *Ударыць па гадзіне* Міхась не паспеў.

[12—13] Ліхаманкава разбарсаўшы лапаць, раскруціўшы анучу, Міхась убачыў маленькую ранку на ступні нагі. // *Ліхаманава раскруціўшы анучу, хлопчык убачыў маленькую ранку.*

[14] стаў выдаўліваць з нагі кроў. // стаў *выціскаць* з нагі кроў.

[14] Давіў і давіў, пакуль // *Ціснуў і ціснуў,* пакуль

[17—18] нага толькі ледзь-ледзь падпухнула. // Нага толькі ледзь-ледзь *падпухла.*

[20] Паступіў як трэба. // *Зрабіў* як трэба.

### Сярэбраная птушка (с. 461)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Вясёлка», 1997, № 2.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1998

### Сарока-зладзейка (с. 464)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 1998, № 11.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—3).

### Сустрэча з ваўком (с. 466)

Друкуецца паводле зб. «Хатняе зайчанё», 1998.

Упершыню — часоп. «Вясёлка», 1998, № 1.

У апавяданні І. Я. Навуменкі «Па грыбы» (1965) ёсць эпізод сустрэчы з ваўком, які ў многім супадае з прыведзеным у апавяданні «Сустрэча з ваўком».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Хатняе зайчанё» // *часоп. «Вясёлка»*

С. 466:

20—21 Ён любіць лес да самазабыцця // Ён *вельмі любіць лес*

22 І ў кожную пару года лес нібы раскрывае // *І ў кожную пару года лес раскрывае*

24 Вясной, калі канчаткова растае пачарнелая скарынка снегу // Вясной, калі *растане пацямнелая* скарынка снегу

33 Напрыклад, ягадай касцянiцай. Восенню яна горкая, нясмачная. // Напрыклад, *ягадамі касцяніц. Восенню яны горкія, нясмачныя.*

С. 467:

2—3 падмарозіўшыся, касцяніца робіцца кісла-салодкай і проста растае ў роце. // падмарозіўшыся, *касцяніцы робяцца кісла-салодкімі і проста растаюць у роце.*

11—12 Малое птаства само ўе гнёзды // Малое птаства *сама* ўе гнёзды [варта пакідаць «сама»]

## 1999

### Ваяўнічы вожык (с. 469)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 1999, № 7.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—3).

### Падарожжа ў Бабінавічы (с. 471)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1999, № 1; перад тэкстам слова ад рэдакцыі: «Пра пісьменніка Івана Навуменку загаварылі, калі з-пад яго пяра выйшлі ў свет раманы «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967) і «Сорак трэці» (1974). У гэтых творах асабліва ярка праявіўся талент пісьменніка, які ўмее ствараць аб'ёмную і праўдзівую панараму жыцця беларусаў, якім на долю выпала выпрабаванне вайной. Ды і сам Іван Якаўлевіч васямнаццацігадовым юнаком у снежні 1943 года быў прызваны ў армію. Удзельнічаў у

баях на Ленінградскім і 1-м Украінскім франтах. Таму і не дзіўна, што ваенная тэма найбольш хвалявала І. Навуменку на пачатку літаратурнага шляху і наогул стала асноўнай у яго творчасці. Тыя суровыя гады, застаўшыся далёка, напамінаюць пісьменніку пра сябе не толькі святочнымі салютамі ў Дзень Перамогі, але і болем, які жыве ў душы.

Шмат часу і натхнення І. Навуменка аддае літаратуразнаўству. Ім напісаны такія кнігі, як «Янка Купала: Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас: Духоўны воблік героя», за якія пісьменніку ў 1972 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Якуба Коласа. Іван Навуменка — народны пісьменнік Беларусі, акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, аўтар шматлікіх навуковых працаў. У 1981—1984 гадах выйшаў Збор твораў пісьменніка ў 6 тамах. Сёння Іван Навуменка ў добрым творчым настроі, і сведчаннем таму яго новае апавяданне».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 472:

*Ведрыца* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

С. 475:

*Ляжнёўка* — дарога з насланага бярвення.

*Міткалёвыя сукенкі* — сукенкі з міткалю; міткаль — гл. камент. да апавяд. «Якая доўгая вайна» (с. 758).

*Картовыя штаны* — штаны, пашытыя з корту; корт — баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

С. 477:

*Ціпчак* — стэпавая кармавая расліна сямейства злакавых.

С. 483:

*Кагановіч Лазар Майсеевіч* (1893—1991) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, з верас. 1917 г. старшыня Палескага камітэта РСДРП, актыўны ўдзельнік станаўлення савецкай улады ў Гомелі. У 1930-я гг. — народны камісар шляхоў зносін СССР.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Беларусь»*

С. 471:

[1] Таму так званую жаночую работу // Таму, *калі можна сказаць так,* жаночую работу

[10—11] браты для збірання ягад непрыгодныя. // браты для збірання ягад *непрыгодны.*

С. 472:

[8] не ведае, што гэта вёска з сябе ўяўляе. // не ведае, што *яна* з сябе ўяўляе.

[25—27] З таго часу, як пачалі асушаць балоты, яна рабілася вузейшай і вузейшай. Цяпер Ведрыца — зусім невялікая рачулка. // З таго часу, як пачалі асушаць балоты, яна *робіцца вузейшай і вузейшай. А цяпер дык проста не вельмі прыкметная* рачулка.

[29—30] можна колькі хочаш набраць ракавін, на берагах — нарваць аеру. // *можна колькі хочаш набраць ракавін, на берагах рачулкі нарваць аеру.*

[36—37] канавах, дзе нават немагчыма навучыцца плаваць. // канавах, дзе *немагчыма нават плаваць навучыцца.*

С. 473:

[8—9] Ён збірае прыгаршчы за прыгаршчамі // Ён збірае *прыгаршню за прыгаршняй*

[11] Сонца вісіць над лесам і пячэ // *Сонца вісіць над лесам з правага боку і пячэ*

[15—16] Няма лепшага абутку для лесу, чым лапці. Ціха ў лесе // *Няма лепшага абутку для лесу, чым лапці. Самая гарачыня — і Пятрок вырашае прыпыніцца, папалуднаваць. Ціха ў лесе*

[20] Цяпер, на пачатку лета, плацяць добра. // Цяпер, на пачатку лета, плацяць *высока.*

[24—25] прайшоў больш за палавіну дарогі // прайшоў *большую палавіну* дарогі

[28] асабліва смачная ў яго скарынка // *асабліва смачная яго скарынка*

[32—34] Раптам Пятрок аж зніякавеў: ён заўважыў чмялёў. Яны звонка гулі над галавой і раз за разам імкліва спускаліся ўніз, хаваючыся // Раптам *яго ўвагу прыцягваюць чмялі, якія раз за разам, гудучы над галавой, імкліва спускаюцца ўніз,* хаваючыся

[34—35] Ясна: гэта земляныя чмялі // *Ясна: земляныя чмялі*

[35—36] і касец звычайна выбівае іх гняздо касой. // *і касец выбівае іх гняздо касой.*

С. 474:

[2—3] Невялічкі камячок, сплецены са збуцвелай тонкай травы, і ў ім соты. // *Невялікі камянючок, сплецены са збуцвелай тонкай травы, у ім соты.*

[3] Пятрок лёгка выкалупвае гэты камячок // *Пятрок лёгка выкалупвае камячок*

[16—17] Пятрок ледзь не зачапіўся за вяроўку падсохлага гада. // Пятрок ледзь *не торкнуўся ў* вяроўку падсохлага гада.

[21—22] Яму было непрыемна несці // Яму было *агідна* несці

[39] Стрыечныя браты, трохі маладзейшыя за Петрака // Стрыечныя браты, трохі *малодшыя* за Петрака
С. 475:

[3] Потым цікавасць знікне, браты разбягуцца // Потым цікавасць *будзе насычана,* браты разбягуцца

[12—14] Тут ёсць нават кусцікі буякоў — ягад, падобных да чарніц, але буйнейшых, прадаўгаватых, з шызым налётам. // Тут ёсць нават кусцікі, *на якіх ягады буякі растуць — падобныя да чарніц, але буйнейшыя, прадаўгаватыя,* з шызым налётам.

[24] Ёсць усё ж свае таямніцы // *Як бачна, ёсць* таямніцы
С. 476:

[10—11] Гэта метэаралагічная станцыя. Нарэшце кампанія // *Гэта метэаралагічная станцыя. Яе яшчэ да рэвалюцыі заснаваў генерал Жылінскі, які вывучаў, нават асушаў тутэйшыя балоты. Такая станцыя ёсць і ў мястэчку. Як бачна, і да рэвалюцыі таксама былі разумныя генералы. Нарэшце кампанія*

[12—13] промені сонца, якое толькі ўзыходзіць, пачынаюць кранаць верхнюю // *праменні* сонца, якое толькі ўзыходзіць, пачынаюць *лізаць* верхнюю

[14—15] шчыльна ўкрыты чарнічнікам. Дзяўчаты абматваюць стан // *шчыльна ўкрыты чарнічнікам. Ягад многа. Дзяўчаты абматваюць стан*

[16—17] замацоўвае свой гладыш // замацоўвае свой *збан*

[21—22] а толькі зрывай са сцяблін і кідай у гладыш. // а толькі *зрываць са сцяблін і кідаць* у гладыш.

[32] дзяцел дзюбае дрэва. // *дубае дрэва дзяцел.*

[33] перапыняе свой занятак, але // перапыняе *дубанне,* але

[35—36] На такі гладыш, як у Петрака, патрэбна гадзін пяць. // На такі гладыш, як у Петрака, *пойдзе* гадзін пяць.

[38—39] і каб тая не прападала — кінеш яе ў рот. // *і каб тая не прападала — кінеш у рот.*
С. 477:

[1] трэба адкінуць усялякія жаданні, забыцца пра ўсялякія інтарэсы // *трэба адкінуць усялякія жаданні, інтарэсы*

[3] Пятрок хутка ўвайшоў у рытм гэтай марудлівай работы. // *Хутка Пятрок дасягае належнага рытму і адпаведнага настрою.*

[8—9] Ёмістасць гладыша — пяць літраў. // Ёмістасць гладыша — *літраў пяць.*

[10—11] Ні на якой іншай рабоце // Ні на якой *другой* рабоце

[12—13] раздаецца роспачны крык малодшай сястры Веры. // раздаецца роспачны крык *маладзейшай* сястры Веры.

[17—18] сапраўды перапалохаліся: стаяць, прыхінуўшыся адна да адной // сапраўды перапалохаліся: *твары пабялелі, стаяць,* прыхінуўшыся адна да адной

[20—21] густа аплеценую белаватай шчацінкай ціпчаку // густа аплеценую белаватай шчацінкай *ціпцу*

[27] павешанага на сук прыдарожнай сасны. // павешанага на *галіну* прыдарожнай сасны.

[33—34] Усе яны назбіралі прыкладна аднолькава. // *Прыкладна ўсе яны на аднолькавых пазіцыях.*

[37—38] стаілася вавёрка і вокам-бісерынкай дзівіцца з кампаніі // стаілася вавёрка і вокам-бісерынкай дзівіцца *на кампанію*

С. 478:

[2] разварушваюць Петрака, бо перапыняюць аднастайнае // *разварушваюць Петрака, бо як бы перапыняюць аднастайнае*

[6] Трэба сагнуцца і ягадзіну за ягадзінай кідаць // Трэба сагнуцца і *ягаду* за ягадзінай кідаць

[8] Пятрок выбірае месца ў зацемку // Пятрок выбірае *мясціны* ў зацемку

[15—16] Пятрок ласуецца буякамі. // Пятрок *спрабуе паласавацца* буякамі.

[19—20] прылятала карміць сваіх дзетак, а ён ледзь не парушыў яе жытло. // прылятала карміць *птушанят, а ён яе жытло ледзь не парушыў.*

[25—27] Раптам хлапчуку здаецца, што ён у родным лесе: і хвоі такія ж стромкія, трохі таўставатыя, растуць нібы групкамі, і гурбачкі-курганчыкі // *Раптам Петраку здаецца, што ён у родным лесе: і хвоі стромкія, трохі таўставатыя ля пачатку камля як бы збіліся ў гурт, і гурбачкі-курганчыкі*

[30—31] Амаль такі ж узгорак сапраўды ёсць // *Падобны касагор* сапраўды ёсць

[32—33] Па другі бок узгорка бачны насып пясчанага шляху // Па другі бок *касагору відзён кавалак сыпанага* пясчанага шляху

С. 479:

[1] Некалькі гняздзечак ён і раней знаходзіў // *Некалькі гняздзечак ён знаходзіў*

[7—8] Ніколі так не бывае, каб гэтыя птушкі дзяўблі старадрэвіну паблізу адзін ад аднаго. // Ніколі так не бывае, каб *паблізу адзін ад аднаго дзятлы дзяўблі старадрэвіну.*

[12—13] А красы гэты пяюн не мае. // *А красы не мае.*

[16—18] Стрыечныя сёстры клічуць хлопчыка. Самая шырокая частка гладышыка запоўнена. Яшчэ гадзіна збірання — і ён будзе поўны. // *Завуць хлопца стрыечныя сёстры. Пятрок забірае свой збан. Самая*

*шырокая яго частка запоўнена. Яшчэ гадзіна збірання — і гарлач будзе повен.*

[19] на зарослым мохам узгорку. // на зарослым мохам *гурбачку.*

[31] Без сарокі, як заўсёды, не абышлося. // Без сарокі, як заўсёды, не *абыходзіцца.*

[34—36] Неўпрыкмет пасля полудня сталі зліпацца вочы. Дзяўчаты прыкрылі твары хусткамі, а Пятрок — шапкай, і ўсе паснулі. // *Нeяк само сабою здарылася, што пасля полудня ва ўсіх сталі зліпацца вочы, і, прыкрыўшы твары хусткамі, а Пятрок — шапкай, усе паснулі.*

[38—39] недзе ў лесе гучна крычала птушка, Пятрок спаў. // *гучна крычала птушка, Пятрок спаў. Справа дня зроблена.*

С. 480:

[1—3] Пятрок не засмуціўся гэтым. Бо ад іх асабліва не адстаў. Можа быць, яны адсталі, але ж самая вялікая пасудзіна ў яго. // *Ён не засмуціўся гэтым. Ад іх асабліва не адстаў. Можа быць, яны адсталі, бо самы вялікі жбан у яго.*

[7] лес дакладна разведаны. // *мясціны дакладна разведаны.*

[9] Зрабіўшы круг // *Зрабіўшы нейкі круг*

[12] цячэ рака. // *цячэ зусім прыстойная рака.*

[17—18] Іх не турбуе, што Пятрок не ўмее плаваць, што ў яго няма трусоў, а толькі картовыя штаны // *Яны зусім не бяруць пад увагу, што Пятрок не ўмее плаваць, што ў яго няма трусоў, а толькі кортавыя штаны*

[24—25] Пятрок нарэшце набліжаецца да берага. // Пятрок нарэшце *выбіраецца бліжэй* да берага.

[28] пракалола нагу аб асколак // пракалола нагу аб *ашкелак*

[32—33] Пятрок адзначае, што дом дзядзькі Івана з гэтага боку суседнічае з прыстойным ляском: хвоя, бяроза, асіна, дубок. // *Пятрок робіць тут цікавае адкрыццё. Аказваецца, дом дзядзькі Івана з гэтага боку проста суседнічае з ляском. Прыстойны лясок: хвоя, бяроза, асіна, дубок.*

С. 481:

[5—6] хаты, якія збіліся ў кучу нібы авечкі // *хаты, якія збіліся ў кучу нібы авечкі, ніякіх пачуццяў не выклікаюць*

[8—10] У Ані баліць нага, яна нават трохі распухла, а Вера можа збегаць у лес у любы дзень. // У Ані баліць нага, *трохі нават распухла, а Вера можа шуснуць* у лес у любы дзень.

[12] ён адчуваў сябе скаваным. // ён адчуваў сябе *звязаным.*

[12] А так будзе разняволеным. // А так будзе *на свабодзе.*

[18] Гэтым летам Пятрок працуе на станцыі // *Пятрок мае працу* на станцыі

[19—21] Палучка ўжо была, але ён не здолеў узяць сабе рубель на зваротны білет з Бабінавічаў. Грошы аддаў маці. // *Грошы аддае маці. Палучка ўжо была, але так здарылася, што ён не здолеў сабе ўзяць рубель на зваротны білет з Бабінавічаў.*

[24] думкі бягуць у іншым напрамку. // думкі бягуць у *другім* напрамку.

[32] Бульба, бульбяны суп, праснакі-скавароднікі. // Бульба, *кар-тапляны* суп, праснакі-скавароднікі.

[36—37] Там таксама ёсць // *Тут* таксама ёсць

С. 482:

[2] Бабінавічам далёка да мястэчка. // *Далёка Бабінавічам* да мястэчка.

[3] Перавага Бабінавічаў хіба ў тым // *Перавага Бабінавічаў у тым*

[5—6] падступае да вёскі. Пятрок ажно пазайздройсціў: родзічам літаральна за хатай можна збіраць сыраежкі // падступае да вёскі. *У Петрака гэта выклікае нават душэўнае замілаванне. Метраў за сто ад хаты дзядзькі Івана можна збіраць сыраежкі*

[8] то ён не ўпусціў бы такой магчымасці. // то ён не ўпусціў бы такой *акалічнасці.*

[11] У дзядзькавых хлопцаў няма ніякага інтарэсу да грыбоў. // *Дзядзькавы хлопцы грыбамі не цікавяцца.*

[12—15] якая жыве ў другой палавіне дома, падзеленага на дзве хаты агромністымі, невядома для чаго прызначанымі сенцамі, прыносіць процьму грыбоў. // якая жыве ў другой палавіне дома *(гэтыя палавіны раздзяляюць агромністыя, невядома для чаго прызначаныя сенцы)*, прыносіць процьму грыбоў.

[22—23] Разам з чарніцамі з’яўляюцца і першыя грыбы // Разам з чарніцамі *паяўляюцца* і першыя грыбы

[24] І зараз Пятрок знаходзіць баравічок. // *Пятрок таксама* знаходзіць баравічок.

[25] Цалуе яго ў шапачку. // Цалуе яго ў *шляпку.*

[26—27] Лічыць, што павага да першага баравіка // *Лічыць: павага да першага баравіка*

[31—32] Два чалавекі, разаслаўшы на зямлі гуньку, сілкуюцца. // Два чалавекі, разаслаўшы на зямлі *папону, сілкуюцца.*

[34] збіраюць па вёсках рыззё. // збіраюць па вёсках *розныя транты.*

[39] разглядваў прынесеныя рэчы, адтапырваў губу // разглядваў прынесеныя *дары, адпускаў* губу

С. 483:

[7] звяртаецца да Петрака // *звяртаючыся да Петрака, пытае*

[17—18] не даюць разгарнуцца каравачнікам. Дык яны // Не даюць *разгарнення каравачнікам. То* яны

[29] Старшыня калгаса, мяккі // *Старшыня калгаса, гуклівы, мяккі*

[30—32] Зернясховішча стаіць на высокіх палях. Нехта ноччу падлез пад яго, свердлам пракруціў у падлозе дзірку і выкраў збожжа, якое там было. // *Узбок дарогі, той жа ляжнёўкі, стаіць на высокіх палях квадратны дамок. Нехта ноччу падлез пад дамок, свярдлом пракруціў у падлозе дзірку і выкраў колькі збожжа.*

**Пачатак (с. 484)**

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Полымя», 1999, № 7.
У зборнікі прозы не ўваходзіла.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 484:

*Свярдлоў Якаў Міхайлавіч* (1885—1919) — рэвалюцыянер, савецкі палітычны дзеяч.

С. 485:

*...пасля смерці Сталіна...*— Сталін: гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Свіслач* — рака, правы прыток Бярэзіны.

С. 487:

*Эйнштэйн Альберт* (1879—1955) — нямецкі і амерыканскі навуковец-тэарэтык і грамадскі дзеяч, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, стваральнік тэорыі адноснасці.

*Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч, 1900—1944) — беларускі празаік, драматург, публіцыст.

С. 488:

*Колас Якуб* — гл. камент. да апавяд. «Трохі пра Якуба Коласа» (с. 798).

С. 489:

*Котлас* — горад у Расіі, раённы цэнтр у Архангельскай вобласці.

*...маршал Жукаў...*— гл. камент. да апавяд. «Аркестр» (с. 791).

С. 493:

*НЭП* — гл. камент. да апавед. «Блаславенне бульбе» (с. 786).

*Сувалкі* — горад на паўночным усходзе Польшчы.

*Усходняя Прусія* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 710).

*Сандамір* — горад на паўднёвым усходзе Польшчы, на рацэ Вісла; у 1944—1945 гг. бліз Сандаміра, на сандамірскім плацдарме, ішлі жорсткія баі.

*Пястаўскія землі* — Пясты, польская княжацкая і каралеўская дынастыя, названая ў гонар легендарнага родапачынальніка селяніна Пяста; пястаўскія землі — тэрыторыі, на якіх былі ўладанні Пястаў.

*Шлёнск* (часам Слёнск) — польская назва Сілезіі; цэнтр сучаснага Шлёнскага ваяводства ў Польшчы — горад Катавіцы.

С. 494:

*Генерал Франка* — Францыска Франка Баамондзе (1892—1975), іспанскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, у 1936 г. узначаліў мяцеж супраць Іспанскай рэспублікі.

С. 495:

*Вірта Мікалай Яўгенавіч* (1906—1976) — рускі пісьменнік і драматург. Камедыя «Гібель Пампеева» напісана ім у 1953 г., а ў 1954 г. у «Комсомольской правде» з’яўляецца з’едлівы фельетон «За блакітным плотам» (за подпісамі А. Суконцава і І. Шатуноўскага), пасля якога творы пісьменніка пачынаюць замоўчвацца.

С. 497:

*Купала Янка* (сапр. Іван Дамінікавіч Луцэвіч; 1882—1942) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі (1925).

*Колас Якуб* — гл. камент. да апавяд. «Трохі пра Якуба Коласа» (с. 798).

С. 498:

*Лысенкаўцы* — прыхільнікі вучэння Т. Д. Лысенкі; Лысенка Трафім Дзянісавіч (1898—1976) — савецкі навуковец-аграном, стваральнік псеўданавуковай канцэпцыі спадчыннасці, сцвярджаў магчымасць наследавання набытых арганізмам прыкмет.

*Мендэлісты-марганісты* — гл. камент. да апавяд. «Ліпы цвітуць» (с. 795)

С. 499:

*…сюжэт байкі пра чаплю і жураўля…* — маецца на ўвазе беларуская народная казка «Жораў і Чапля».

*Хрушчоў Мікіта* — гл. камент. да апавяд. «Край пясчаны, балотны» (с. 779).

*Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 501:

*Гартны Цішка* (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч, 1887—1937) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч; раман «Сокі цаліны» напісаны ў 1914—1929 гг.

С. 504:

*Мінскае мора* — другая назва Заслаўскага вадасховішча. Створана ў 1956 г., рэканструявана ў 1977 г.

*...аднаактоўкі Антона Чэхава, «Мядзведзь»...* — Чэхаў: гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 746); вадэвіль «Мядзведзь» напісаны ў 1888 г.

## 2000

### Алёшка на небе (с. 507)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 2000, № 7.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 508:

*Святы Пётра* — апостал, які ўважаецца за першага епіскапа Рыма, пачынальніка пап. Яго атрыбут — ключ (або два ключы), якімі Святы Пётра павінен адмыкаць дзверы ў рай альбо ў пекла.

### Зялёная крэпасць (с. 509)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Полымя», 2000, № 12.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—4); на першай старонцы рукапісу ўгары закрэслена першая назва твора — «Дзед і баба», і ніжэй падпісана назва «Зялёная крэпасць». Заменены таксама варыянт прозвішча герояў апавядання з «Іванчыкі» на «Самусікі».

С. 510:

*«Чорны воран»* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 768).

## Падарунак (с. 510)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 2000, № 2.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Сюжэт апавядання амаль цалкам паўтарае сюжэт апавядання «Кот Мікіта» (1995).

## Першы дзень свабоды (с. 512)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2000, 30 чэрв.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 512:

*Гудэрыян Хайнц Вільгельм* (1888—1954) — нямецкі ваенны дзеяч, тэарэтык і практык матарызаваных метадаў вядзення вайны.

*...пасля правалу наступлення пад Курскам...*— маецца на ўвазе Курская бітва, альбо Бітва на Курскай дузе (5 ліп. 1943—23 жн. 1943) — адна з найважнейшых бітваў Другой сусветнай вайны. Пасля завяршэння бітвы стратэгічная ініцыятыва ў вайне перайшла на бок Чырвонай Арміі.

С. 513:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*Варашылаўка* — ад вуліцы Варашылава; Варашылаў Клімент Яфрэмавіч (1881—1969) — савецкі ваенны, дзяржаўны і палітычны дзеяч, адзін з першых маршалаў Савецкага Саюза.

С. 515:

*...немцы захапілі Бабруйск і Жлобін...*— Бабруйск (гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку», (с. 745)); Жлобін — горад у Беларусі, цэнтр Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Бабруйск быў захоплены немцамі 28 чэрв. 1941 г., баі пад Жлобінам працягваліся да сярэдзіны жн. 1941 г. У ліпені горад быў заняты немцамі, у выніку контрнаступлення, якое пачалося 13 ліп., Чырвоная Армія вызваліла горад, але пазней зноў вымушана была адступіць.

*Смаленск* — горад у Расіі, цэнтр Смаленскай вобл.

*Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

*Ромель Эрвін* (1891—1944) — нямецкі генерал-фельдмаршал, узначальваў нямецка-італьянскія войскі ў Паўночнай Афрыцы.

С. 516:

*Сталінград* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 748).

*Курск* — гл. камент. да апавяд. «Якая доўгая вайна» (с. 758).

С. 517:

*Славацкі эшалон* — з вясны 1943 г. 2-ю славацкую ахоўную дывізію немцы з Заходняй Украіны перакідваюць у Беларусь, але ўжо 1 лістап. 1943 г. у сувязі з масавым пераходам славакаў на бок партызан дывізію абяззбройваюць і ў якасці будаўнічай брыгады пераводзяць у Італію.

С. 519:

*Танкеткі* — браніраваныя гусенічныя баявыя машыны, узброеныя адным ці двума кулямётамі; згодна з сучаснай класіфікацыяй гэта БМП.

С. 520:

*Брыгада імя Чапаева* — партызанская брыгада, створаная ў верас. 1943 г. Дзейнічала на тэрыторыі Гомельскай вобл.

## Пракляцце (с. 522)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.
Упершыню — часоп. «Полымя», 2000, № 12.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 523:

*Гунька* — пакрывала для коней, якое затуляе спіну і тулава.

С. 524:

*...нос на квінту не павесіў...*— «нос на квінту павесіць» — зажурыцца, засумаваць; квінта — найвышэйшая паводле тону струна скрыпкі.

Варыянты і разначытанні:
Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Полымя»*

С. 523:

32—33 спіну ўвесь час прыкрывала гунька // спіну ўвесь час *пакрывала* гунька

35 Нават не падыходзіў вечарамі да мужчын // Нават не падыходзіў *вечарам* да мужчын

## Прыкрасць (с. 526)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.
Упершыню — часоп. «Полымя», 2000, № 12.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 527:
*Вышэйшая партыйная школа ў Маскве* — у 1946—1991 гг. навучальная ўстанова для падрыхтоўкі кіруючых партыйных і савецкіх кадраў, а таксама для падрыхтоўкі кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.
*Кары* — сані або вялікія калёсы для перавозкі бярвення ці асабліва цяжкіх грузаў.

Варыянты і розначытанні:
Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Полымя»*
С. 526:
16—17 Але ўсё цяпер кінута, напаўразбурана // Але ўсё цяпер *пакінута,* напаўразбурана

## Цёмныя змрокі (с. 529)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.
Упершыню — газ. «ЛіМ», 2000, 3 лістап.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.
У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца аўтограф-рукапіс і машынапіс апавядання «Цёмныя змрокі» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—27), у рукапісе пазначаны першапачатковы варыянт назвы «Чорныя коні».

С. 533:
*Першы сакратар ЦК партыі* — ЦК партыі: гл. камент да апавяд. «Якімец-Якімчык» (с. 801).
С. 534:
*«Слова аб палку Ігаравым»* — помнік літаратуры Кіеўскай Русі XII ст., у якім прыведзена трагічнае апісанне Нямігскай бітвы 1067 г. каля сцен Мінска.
С. 535:
*Свіслач* — гл. камент. да апавяд. «Пачатак» (с. 811).
*Няміга* — рака ў Мінску, прыток Свіслачы. Упершыню згадваецца ў «Слове пра паход Ігараў» у аповедзе пра бітву Яраславічаў з Усяславам Брачыславічам.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *газетны варыянт апавядання*

С. 529:

[25] Свірыдовіч ачуўся і застыў у здранцвенні // Свірыдовіч *ачнуўся* і застыў у здранцвенні

[26] плафон пад столлю, і ён, заматаны // *плафон пад столлю, сіняватыя сцены і ён, заматаны*

[27] Два ложкі ў пакоі, і адзін з іх — яго. // *Два ложкі ў пакоі, і на адным з іх ён.*

[29] У яго нічога няма. // *За ім* нічога няма.

С. 530:

[1] астравок, які слаба свеціцца. // астравок, які *свеціцца слабым агнём.*

[3] Яна працяглы час цяжка хварэла… // Яна *доўга,* цяжка хварэла...

[4] Яму здаецца, што падступае // *Ён адчувае:* падступае

[5] Калі зноў ачуецца // Калі зноў *ачнецца*

[17—18] зарослы сіваватай шчацінай твар, абматаную бінтамі галаву // зарослы сіваватай *шчацінаю твар, абвітую* бінтамі галаву

[22] Ён вылічыў // *Ён ужо вылічыў*

[26—27] якая нерухома ляжыць у труне // якая нерухома ляжыць *на стале*

[31—32] Гэта натуральна // Гэта *ў парадку рэчаў*

[32—34] больш патрэбна ў жыцці: дапаможа дзецям, упарадкуе маёмасць ды яшчэ ці мала што іншае зробіць… // больш патрэбна ў жыцці: *лепей дапаможа дзецям, упарадкуе маёмасць ды яшчэ мала што іншае...*

[35] Вызначылі сваю асобу? // *Устанавілі* сваю асобу?

[36] Вызначыў. // *Устанавіў.*

[37] Мне здаецца // *Цяпер мне здаецца*

С. 531:

[1] Самае страшнае — гэта сатрасенне мозга // *Галоўнае* — гэта сатрасенне мозга

[3] Тыдні два прыйдзецца праляжаць… // Тыдні два прыйдзецца *паваляцца…*

[13] Доктарка, відаць, падумала, што хворы пачынае трызніць. // *Доктарка, відаць, падумала: пачынае трызніць.*

[14—15] Я вам дам снатворнае. // Я вам дам *снатворных таблетак.*

[20] Я падсяляю вам суседа,— сказала яна. // *Я падсялю вам суседа,— сказала*.

[26—27] рассцяліла ложак каля супрацьлеглай сцяны. // Рассцяліла ложак *ля супроцьлеглай* сцяны.

[33—34] Цягнула воз спраў, як чорны вол, бытавы клопат цалкам брала на сябе. // Цягнула, *як чорны вол, бытавы клопат цалкам узяла* на сябе.

[34—35] Пры траіх дзецях мела // Пры *трох* дзецях мела

[35—36] бегала па магазінах, гатавала ежу, мыла бялізну // бегала па магазінах, *варыла,* мыла бялізну

[37] Ён лічыў гэта звычайнай рэччу. // Ён лічыў, *што гэта ў парадку рэчаў.*

С. 532:

[2] Выдаваўся, бадай, штогод. // *Выдаваў,* бадай, штогод.

[4—5] выношваў у душы, але вялікай каштоўнасці ягоныя творы не мелі. // выношваў у душы, але *вялікіх адкрыццяў у іх не было.*

[8—9] Для сумеснага жыцця яму не патрэбна была іншая жанчына, акрамя яе. // Для сумеснага жыцця *ён не хацеў другой жанчыны, чым яна.*

[10] Авантурных прыгод ён не меў. // *Авантурных прыгод не меў*

[13—14] Колькі людзей хвалілі іх. // Колькі людзей хвалілі *яе лекцыі.*

[14] людзі сталыя // людзі *пажылыя*

[19] Ды яшчэ такая. // *Ды яшчэ такая жонка.*

[24] Гэта Міхнюк // *Гэта Серафім Міхнюк*

[27] яны адзін другога ведалі. // яны адзін *аднаго* ведалі.

[33—34] з дзяўчынай, якая загадвала аспірантурай, сур’ёзнай, разважлівай // з дзяўчынай, якая загадвала аспірантурай, *сталай,* разважлівай

[35—36] Міхнюк выкінуў незвычайны фартэль. // Міхнюк выкінуў *фартэль незвычайны.*

С. 533:

[9—10] І прапаў з вачэй… // І прапаў з *віду...*

[16—17] Знікла ўсмешка з круглага, сімпатычнага твара // Знікла ўсмешка *на круглым, сімпатычным твары*

[19—20] Зразумела, што, дажыўшы да сівых валасоў, яны страцілі пачуццё дружалюбнасці // *Ясна: дажыўшы да сівых валасоў, яны страцілі пачуццё дружалюбства*

[23—24] Прынёсшы нейкія лекі для Міхнюка, яна прапанавала // Прынёсшы нейкія лекі для Міхнюка, *сказала*

[28] Дык чаму панадзімаліся як мышы на крупы? // Дык чаму *панадзьмуваліся* як мышы на крупы?

[30] Свірыдовіч паглядзеў на Міхнюка. // Свірыдовіч *павярнуўся да* Міхнюка.

С. 534:

[16—17] Дачка ў іншым горадзе. // Дачка ў *другім* горадзе.

[18—19] Свірыдовіч прыгадаў гісторыю жаніцьбы Міхнюка. Так, цяпер ясна, ён // *Тым часам Свірыдовіч як бы высветліў для сябе даўнюю гісторыю жаніцьбы Міхнюка: з першага года навучання сябраваў з сімпатычнай загадчыцай аспірантуры, але, атрымаўшы кватэру, неспадзявана ажаніўся з другой жанчынай.* Так, цяпер ясна, ён

[19—21] не абараніў нават кандыдацкай дысертацыі, бо прыйшлося б мець справу з загадчыцай аспірантуры, перад якой яму было проста сорамна. // *не абараніў нават кандыдацкай дысертацыі, і перад той дзяўчынай яму было проста сорамна.*

[22] Мяжа адчужанасці была збольшага пераадолена // Мяжа адчужанасці была збольшага *пяройдзена*

[32] Што там рабілася! // Што там *тварылася!*

[37—38] Міхнюк, відаць, такімі рэчамі не цікавіцца. // *Міхнюк такімі рэчамі не цікавіцца.*

С. 535:

[10] Потым прыціснулі замаразкі // Потым *пачаліся моцныя* замаразкі

[11—12] Відаць, у клімаце адбываюцца змены. // *Клімат на вачах мяняецца.*

[13] Свірыдовіч хацеў пагаварыць пра гэта з Міхнюком // Свірыдовіч хацеў *спытаць аб гэтым Міхнюка*

[14—15] і той, сарваўшыся з ложка, шуснуў // і *Міхнюк,* сарваўшыся з ложка, шуснуў

[34—35] Хутчэй за ўсё ён даўно на пенсіі, а за жонку ўзяў па гадах унучку. // Хутчэй за ўсё *даўно на пенсіі, а за жонку ўзяў* унучку.

С. 536:

[1—2] Узяў тэму па эканамічнай геаграфіі. // *Узяў тэму па эканомгеаграфіі.*

[14—15] У дзвярах зноў паказваецца чарнявая галоўка маладой Міхнюковай // *Зноў у дзвярах чарнявая галоўка маладой Міхнюковай*

[25—26] Па небе лятаюць д’ябальскія сталёвыя птушкі, якія ўмомант могуць знішчыць вялікі горад. // Па небе лятаюць д’ябальскія *птушкі, якія ўмомант знішчаць* вялікі горад.

[27—28] перад пачварнымі вынаходніцтвамі чалавека. // перад пачварнымі *вынаходствамі чалавецтва.*

## 2001

### А немцы ў Парыжы... (с. 537)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.
Упершыню — часоп. «Полымя», 2001, № 9.
У Збор твораў уключаецца ўпершыню.
У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—112).

С. 538:

*«Рыя-Рыта»* — папулярны танец 1930-х гг., аўтар музыкі Э. Санцеухіні; у СССР быў найбольш вядомы запіс, зроблены аркестрам М. Вебера.

*«Кармэн»* — мелодыя з оперы Ж. Бізэ «Кармэн» (1874).

*«Чобаты»* — беларускі старадаўні народны танец. Музычны памер 2/4.

С. 539:

*...прамове Сталіна на XVII з'ездзе партыі...*— XVII з'езд ВКП(б) адбыўся ў канцы студз.— пачатку лют. 1934 г., у прамове Сталіна шмат гаварылася пра «поўную і канчатковую» перамогу над унутрыпартыйнай апазіцыяй.

С. 542*:*

*Бабчын* — вёска ў Стрэлічаўскім сельсавеце (Хойніцкі раён Гомельскай вобласці), радзіма этнографа і фалькларыста Ч. Пяткевіча, генерал-маёра Ф. Кірчанкі, беларускага паэта М. Мятліцкага. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС выселена.

С. 543:

*«Сокі цаліны» Цішкі Гартнага* — гл. камент. да апавяд. «Пачатак» (с. 812).

*Зарэцкі Міхась* (сапр. Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч, 1901—1937) — беларускі пісьменнік.

*Галавач Платон Раманавіч* (1903—1937) — беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч.

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963) — беларускі пісьменнік, паэт, грамадскі дзеяч.

*«Піянер Беларусі»* — масавая газета для піянераў і школьнікаў Беларусі, выдаецца на беларускай мове з 1929 г.

С. 544:

*«Хабен» — з ням.*: дзеяслоў «хабен» («мець») выкарыстоўваецца ў нямецкай мове як асноўны і дапаможны.

С. 545:

*...з кандыдатам у дэпутаты маршалам Кулікам.*— гл. камент. да апавяд. «Сустрэча з маршалам» (с. 716).

С. 547:

*Жуль Верн* (1828—1905) — французскі пісьменнік-фантаст. Стварыў «новы тып рамана», які грунтаваўся на дасягненнях навукі.

С. 551:

*Якуб Колас* — гл. камент. да апавяд. «Трохі пра Якуба Коласа» (с. 798).

*...сочыць за падзеямі грамадзянскай вайны ў Іспаніі.*— маецца на ўвазе грамадзянская вайна ў Іспаніі 1936—1940 гг. Адбывалася паміж левасацыялістычным рэспубліканскім урадам краіны, які падтрымлівалі камуністы, і манархічнымі сіламі, якія паднялі ўзброены бунт і на бок якіх стала большая частка іспанскай арміі на чале з генералам Ф. Франка. Бунтаўнікоў падтрымлівалі Германія і Італія, а рэспубліканцаў — Савецкі Саюз.

*Не ўдасца генералу Франка авалодаць Уэскай...*— генерал Франка — гл. камент. да апавяд. «Пачатак» (с. 812); Уэска, горад у Арагоне, Іспанія. Баі пад Уэскай пачаліся ў лют. 1937 г., асабліва жорсткія сутыкненні адбываліся ў чэрв. Горад штурмавалі не франкісты, а рэспубліканцы, якія, нягледзячы на тое, што мелі вялікую перавагу, авалодаць горадам так і не змаглі. Рэспубліканцы пад Уэскай панеслі адчувальныя страты, менавіта тут загінуў венгерскі інтэрнацыяналіст Матэ Залка (генерал Лукач). Фраза «Заўтра будзем піць каву ва Уэсцы» стала горкім жартам у рэспубліканскай арміі. У апавяданні Васіль памылкова расстаўляе акцэнты і гэтым дэманструе, наколькі ён няўважлівы да слоў сябра.

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 711).

С. 554:

*Лоўж* — куча галля.

*...верш Міхаіла Святлова «Гренада»* — гл. камент. да апавяд. «Пенсіянеры мясцовага значэння» (с. 780).

*...вечарына з нагоды трыццацігадовай творчай дзейнасці Якуба Коласа.*— вытрымка з пратакола пасяджэння Камітэта па правядзенні юбілейных мерапрыемстваў: «1. Правесці юбілейнае святкаванне 30-гадовай літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа з 5.10 па 15.10.1936 года».

С. 555:

*Ведрыца* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

С. 557:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*Жылінскі Іосіф Іпалітавіч* (1834—1916) — расійскі і беларускі геадэзіст, у 1863—1873 гг. кіраваў вымярэннямі па лініі Брэст — Пінск — Мазыр — Гомель, з 1873 па 1899 г. узначальваў Заходнюю экспедыцыю па асушэнні балот Палесся. Прозвішча Жылінскага ўзгадваецца ў варыянце часопіса «Полымя».

*«Любоў Яравая» Канстанціна Транёва* — Транёў Канстанцін Андрэеевіч (1876—1945), рускі пісьменнік, драматург. «Любоў Яравая» — найбольш вядомая з яго п'ес, упершыню была пастаўлена ў 1926 г., у 1936 г. аўтарам падрыхтавана новая рэдакцыя твора.

*«Паўлінка» Янкі Купалы* — Янка Купала: гл. камент. да апавяд. «Пачатак» (с. 812); п'еса «Паўлінка» напісана ў 1913 г.

С. 558:

*Пяцідзясятнікі* — евангельскія хрысціяне, паслядоўнікі пяцідзясятніцтва, аднаго з кірункаў пратэстантызму.

С. 559:

*«Suddeutsche Zeitung»* — у перакладзе з ням. «Паўднёвагерманская газета», доўгі час гэтае выданне было найбуйнейшай штодзённай газетай Германіі. Заснавана ў 1945 г.

*Троцкі* — гл. камент. да апавяд. «Груша на прыгуменні» (с. 792).

С. 561:

*...рэвалюцыйная арганізацыя «Шуцбунд» узняла паўстанне ў Аўстрыі...* — «Шуцбунд» (з *ням.*: «Саюз абароны») — ваенізаваная арганізацыя сацыял-дэмакратычнай партыі Аўстрыі, створаная ў 1923 г. У адказ на спробу фашысцкага путча ў Аўстрыі, які адбыўся ў студз. 1934 г., у лют. пачалося ініцыяванае кампартыяй Аўстрыі ўзброенае паўстанне. Баі працягваліся 6 дзён, загінула каля 12 тыс. чалавек.

С. 562:

*Рыбентроп фон Іахім* (1893—1946) — міністр замежных спраў Германіі (1938—1945), дарадца Адольфа Гітлера па знешняй палітыцы. Пакараны праз павешанне паводле выраку Нюрнбергскага трыбунала.

*...маланкавы візіт Рыбентропа ў Маскву...* — 23 жн. 1939 г. а шостай гадзіне вечара самалёт з Рыбентропам прызямліўся ў Маскве, да дванаццатай гадзіны ночы савецка-германскі пакт ужо быў падпісаны, 24 жн. Рыбентроп адлятае ў Берлін.

С. 563:

*...з-пад Белай Падляскі...* — гл. камент. да апавяд. «Вагавая будка» (с. 783).

*Значок «Варашылаўскі стралок»* — гл. камент. да апавяд. «Байдачнікі» (с. 733).

*«Если завтра война»* — песня з аднайменнага фільма, знятага ў 1938 г. рэжысёрам Я. Л. Дзіганам; аўтар слоў У. Лебедзеў-Кумач, музыка братоў Пакрас.

*...баі на Карэльскім перашыйку.*— гл. камент. да апавяд. «Какава для папраўкі здароўя» (с. 721).

*Немцы тым часам ужо ў Парыжы...* — 14 чэрв. 1940 г. гітлераўскія войскі без бою занялі сталіцу Францыі.

С. 564:

*Эйфелева вежа* — металічная вежа на Марсавым полі ў Парыжы, спраектаваная і пабудаваная кампаніяй інжынера Г. Эйфеля. Сусветна вядомы сімвал Францыі і Парыжа.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Полымя»*

С. 537:

[6—7] так растаўклі зямлю, што нага ледзь не па шчыкалатку правальваецца // так растаўклі зямлю, што нага ледзь не па *костачку* правальваецца

[13—14] да сёмага класа Васілю прыйшлося вучыцца // да сёмага класа Васілю *давялося* вучыцца

[17—18] У асноўным школьным будынку падлога пафарбавана, вокны вялікія і ў кожным класе // У асноўным школьным будынку *пафарбавана падлога, вялікія вокны* і ў кожным класе

[19—20] то нават заспіртаваная ў доўгай пасудзіне гадзюка. // то нават заспіртаваная ў *даўгім сасудзе* гадзюка.

С. 538:

[1] Каля Базарнай плошчы // *Каля пыльнай базарнай* плошчы

[1—2] Каменная, двухпавярховая. Яна будавалася на месцы царквы. // *Каменная, двухпавярховая. На месцы царквы.*

[3—4] два з іх трэснулі // два *званы* трэснулі

[4] разбіраць высокі будынак па бярвенцу. // разбіраць *высокі адметны* будынак *па паленцы.*

[5—6] Як хараша ў святочныя дні вытылінгвалі царкоўныя званы! // Як хараша ў святочныя *раніцы* вытылінгвалі царкоўныя званы.

[12—13] Местачковыя актывісты з бярвенцаў на другім баку плошчы складвалі клуб, ці, дакладней, раённы // Местачковыя актывісты — *дзякуй ім — хоць не разбурылі царкву, а па паленцы разбіралі і на другім баку вуліцы складвалі клуб, ці, праўдзівей,* раённы

[15—16] Хоць працоўныя не мелі да гэтага ніякага дачынення. // *Хоць працоўныя, здаецца, не мелі да гэтага ніякага дачынення.*

[23—25] Ён ішоў на клас вышэй, Васіль у яго пазычаў кнігі па літаратуры і за год // Ён ішоў на клас вышэй, *кнігі па літаратуры Васіль у яго пазычаў* і за год

[26] У Нупрэя вялікая сям'я — сямёра братоў і сясцёр. // У Нупрэя вялікая сям'я — *сямёра ці нават васьмёра братоў і сясцёр.*

[31—32] іх востраць на бруску і раз за разам ставяць новую пласцінку. // *іх вострацъ на бруску, і раз за разам ставяць пласцінку.*

[33] У іх шмат пласцінак // *Новыя песні, музыку Васіль слухае ў Біруляў.* У іх шмат пласцінак

[35—36] такія, якія вызначаюцца асаблівай мелодыяй і рытмам: «Рыя-Рыта» // такія, якія вызначаюцца *асабліва прыгожымі рытмамі: «Рыя-Рыта».*

[37—39] а таксама танец «Чобаты», які выконвае калектыў Хойніцкай машынна-трактарнай станцыі, размешчанай у суседнім раёне. // *а таксама мелодыя танца «Чобаты», які выконвае на сваіх канцэртах самадзейны калектыў Хойніцкай МТС (машынна-трактарнай станцыі), яна размешчана ў раёне, які суседнічае з іхнім.*

С. 539:

[2—3] хрыплаваты, вымаўленне нярускае, у ім выразна чуецца акцэнт. // *хрыплаваты, вымаўленне нярускае, выразна чуецца акцэнт.*

[5] Нупрэй не саступіў ні капейкі. // *Не саступіў ні капейкі Нупрэй.*

[6—8] то трэба ж і сумленне мець. Пасля сямігодкі многія дзеці местачкоўцаў // то трэба ж і сумленне мець. *Вечар з нагоды заканчэння навучальнага года выдаўся выдатны. Асабліва бліскуча выступіла Маня Бобрык. У сваім сінім сарафанчыку Маня, выконваючы «Крыжачок», лятала, як сіняя птушка, і заслужана атрымала бурныя воплескі. Васіль усё болей думае пра Маню. Гэта як насланнё. Ён ведае, што рана ў сёмым класе каго-небудзь любіць, дарыць свае пачуцці. Людзі жэняцца ў дваццаць гадоў, нават у трыццаць, а Васілю толькі пятнаццаць. Проста сорам. Можа, каханне захапіла Васіля таму, што ён чытае многа кніг. Вечары ля грубкі ў чыстай палавіне хаты, якую бацькі здаюць пад кантору «Заготлён», Васіль цалкам аддае кнігам. Добра ў канторы вечарамі. Цішыня, ніхто не перашкаджае. У вокны глядзіць ноч. Трэцца галіна маладой яблыні аб шыбіну. Можна адкласці кнігу, падумаць, паразважаць. Пасля сямігодкі многія дзеці местачкоўцаў*

[10—11] Бо дома жыць становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. // *Бо дома жыць цяжэй і цяжэй.*

[11—12] У сям’і тры хлопцы, грошай хапае бадай толькі на хлеб. // *У сям’і тры хлопцы, і хоць чыстую палавіну хаты здаюць пад кантору і маці ў той канторы працуе прыбіральшчыцай, грошай хапае, бадай, толькі на хлеб.*

[12—13] І то не заўсёды. На канікулах Васіль // І то не заўсёды. *З-за недастатку ў хаце бясконцыя сваркі. Васіль стараецца не звяртаць на іх увагі. Але звяга ўсё адно дапякае, псуе настрой. На канікулах Васіль*

[13—14] Летась і пазалетась ён зносіў на станцыі жужаль, які заставаўся пасля паравозаў // Летась і пазалетась *зносіў на станцыі жужаль, які застаецца* пасля паравозаў

[15—16] Гэтым летам працаваў у лесе на прарэджванні дубкоў // Гэтым летам працаваў у лесе *«на прасвятленні»* дубкоў

[18—19] яшчэ больш настаўнікаў, бо павялічылася прадметаў. // яшчэ больш настаўнікаў, бо *прыбавілася* прадметаў.

[19—21] Трохі ніякавата ад гэтай думкі. Хоць, здаецца, веды даюцца яму лёгка. Але то былі сярэднія класы // *Трохі ніякавата ад гэтай думкі. Мужа, трапіцца настаўнік, які Васіля не ўпадабае. Хоць, здаецца, ён лёгка ідзе па навуках. Але то былі сярэднія класы*

[21—23] Тут жа алгебра, геаметрыя, фізіка больш складаныя. Прыбавяцца хімія, трыганаметрыя. // *Тут алгебра, геаметрыя, фізіка больш складаныя. Хімія, трыганаметрыя прыбавіцца.*

[26—28] Ён працаваў старшынёй сельсавета і на Ластаўцы, гнядой кабыле з белымі падпалінамі на нагах, паўз двор Васіля імчаў у суседнюю вёску // Ён працаваў старшынёй сельсавета і на *гнядой кабыле Ластаўцы з белымі падпалінамі на нагах часта* імчаў у суседнюю вёску

[32—33] Тонкія губы, жорсткія, стальнога колеру вочы. // Тонкія *вусны,* жорсткія, стальнога колеру вочы.

С. 540:

[3—4] Чаму тады старэйшыя школьнікі страшылі Варановічам // Чаму тады старэйшыя *шкаляры* страшылі Варановічам

[8—9] ў сёмы клас прыходзяць цікавыя. Беларускую мову і літаратуру выкладае // *ў сёмы клас прыходзяць цікавыя. Хоць не ўсе ў аднолькавай ступені. Беларускую мову і літаратуру будзе выкладаць*

[14] Іншы раз зусім не ўжывае канчаткаў. // *Іншы раз зусім не ўжывае канчаткаў. Напрыклад, на першым жа ўроку патлумачыў: «Карэннае «е» нават у першым складзе перад націскам у «я» не пераходзе». «На параходзе»,— гучна паддзеў настаўніка клас.*

[15—16] Маленькі, са зморшчаным смуглявым тварам, ён мае на дзіва // Маленькі, са зморшчаным *чарнаватым* тварам, ён мае на дзіва

[32—33] Але гаспадар вельмі пільны. // *Але гаспадар саду вельмі пільны.*

[33—34] калі пройдзе міма гурт школьнікаў. У гэты час ён сядзіць на лавачцы каля двара. // калі пройдзе міма *чарада школьнікаў. Сядзіць у гэты час* на лавачцы, каля двара.

[35] Аднаго разу шкаляры ўсё-такі ўварваліся ў сад скнары. // *Адзін раз шкаляры ўсё-такі ўварваліся ў сад скупярдзяя.*

[36—37] хоць на чыгунцы ўжо не працаваў, кінуўся на станцыю. // Хоць на чыгунцы ўжо не *працуе,* кінуўся на станцыю.

С. 541:

[3—4] На іржышчы, за заходняй паловай хат, сеў самалёт. // На іржышчы, за заходняй *лавай* хат сеў самалёт.

[8] Прыцемкам самалёт знік: нібыта прыйшоў спецыяльны // *У прыцемках самалёт знік:* прыйшоў спецыяльны

[11—12] Васіль амаль кожнай раніцы бегае ў лес па грыбы. // Васіль амаль кожнай раніцы *шастае* ў лес.

[15—16] Амаль кожны грыбны паход удалы. // Амаль кожны грыбны паход *дае нейкія вынікі.*

[16] Не так ужо многа знаходзіць Васіль баравікоў // Не так ужо *шмат* знаходзіць Васіль баравікоў

[20—21] як увогуле абуджацца лес // як *наогул ажывае* лес

[22] На ўзлессі, на балацянках // На ўзлессі, на *балотных дзялянках*

С. 542:

[1—3] бяроза скідае жоўтае лісце, слухаць, як шамацяць барвова-жоўтыя асіны. У адзін з гэтых дзён Врановіч // бяроза скідае *жоўты ліст, слухаць, як лапочуць барвова-жоўтыя асіны, думаць пра Маню Бобрык, якую сёння ён убачыць у класе. Якраз у гэты дзень каханне да Мані раптоўна прападае. Прыйшоўшы ў школу, Васіль бачыць, як Змітрэнка Лёня, бадай, самы прыгожы ў класе хлопец, пасадзіўшы Маню на плячо, носіць яе між партамі, а яна весела смяецца і дрыгае ў паветры нагамі. Не, з такімі легкадумнымі асобамі Васіль звязвацца не будзе. І хоць пра свае пачуцці ён не сказаў Мані ні слова, але ж думаў пра яе цэлае лета. Цяпер ён вырашае цвёрда: яго каханне скончылася. Вялікага засмучэння Васіль не адчувае. Будзе насіць Маню на плячы Лёня Змітрэнка ці не будзе, Васілю ўсё адно. Для яго Мані з яе прыгожым сінім сарафанчыкам болей не існуе. Няхай жыве як хоча. У Васіля мільгае думка: дзяўчаты здрадлівыя. Цяпер жыццё дае яму наглядны ўрок.* У адзін з гэтых дзён Врановіч

[3—4] дае класу дыктоўку па рускай мове. // дае класу *рускую дыктоўку.*

[10—11] Гэта Васіль і дзяўчына-другагодніца Аня Конаш // *У ліку апошніх* Васіль і дзяўчына-другагодніца Аня Конаш

[13—14] Малы, як вузел, Вярчэбны // *Малы, як вузел, хлапчына, сямікласнік* Вярчэбны

[15] зрабіў болей як дзвесце памылак. // зрабіў болей *за* дзвесце памылак.

[16—17] не ўпускае магчымасці адзначыць такога незвычайнага вучня. // не ўпускае магчымасці *пазнаёміць клас з такім адметным вучнем.*

[19—20] вучань з задняй парты ў адзін момант апынуўся каля стала настаўніка. // вучань з *задняга раду ў адзін момант перамяшчаецца да* стала настаўніка.

[31—32] як яе ў мястэчку называюць, парыльня. // *як яе ў мястэчку называюць, парня.*

[33] а таксама розныя бочкі, дзежкі, маслабойкі. // а таксама *розны шырпатрэб:* бочкі, дзежкі, маслабойкі.

[33—34] Тут і працуе бацька гэтага малога хлапчыны. // *Значыць, там і працуе бацька гэтага малога сямікласніка.*

С. 543:

[11] ніколі не бачыў гэтага дзікаватага вучня // ніколі не *бачыць* дзікаватага вучня

[14—15] Гэтая гаворка // *Мясцовая* гаворка

[28—29] Бо нічога заганнага ў іх творчасці // Бо нічога *шкоднага* ў іх творчасці

[30] цікавей пішуць, другія — нудней. // цікавей пішуць, другія — *сумней.*

[37—38] то іх даўно палавілі. // *то іх даўно палавілі ў другіх раёнах.*

С. 544:

[1] Зрэшты, сёмы клас не такі цяжкі. // Зрэшты, *вучыцца ў сёмым класе не так і цяжка.*

[6] Шум і гоман стаіць у класе. // Шум і гоман *стаяць на ўроках нямецкай мовы.*

[12—13] Зранку туман з балота Гарадзінкі // *Сонца ўзыходзіць, калі* туман з балота Гарадзінкі

[14—15] Але ўзыходзіць сонца, і праз гадзіну туман развейваецца дарэшты. // *Праз гадзіну сонца развейвае туман дарэшты.*

[16] па-ранейшаму вандруе па лесе. // па-ранейшаму вандруе *ў лес.*

[18] калі і знойдзеш баравік, то адзін // калі і знойдзеш *баравіка,* то *аднаго*

[19—20] зрэдку абабкі, падасінавікі. Часцей трапляюцца зялёнкі. // зрэдку абабкі, падасінавікі, *найбольш* зялёнкі.

[20—22] хадзіць па маладых сасняках, дол якіх пакрыты белым наздраватым імхом // хадзіць па маладых *хвойніках, дол якіх укрыты белым наздраватым мохам*

[28—29] шчыльна зарасла ціпчаком, кругляцом, дзяцельнікам. // шчыльна зарасла *ціпцам, круглікам,* дзяцельнікам.

[30—32] трэба грыбы вытупваць і вымацваць. Восень усё больш замацоўвае сваю ўладу. // трэба грыбы вытупваць і вымацваць. *З левага боку ляжыць чыгунка. Пры ёй складзеная з чырвонай цэглы будка абходчыка. Васіля заўжды цікавілі і цікавяць людзі, якія жывуць на адзіноце, наводшыбе ад местачковага шматлюддзя. У будцы і школьнік ёсць — вучань шостага класа, які ў час вучобы кватаруе ў местачковай радні. Васіль з гэтым цыбатым, чорным, як цыган, хлопцам не сябруе. Бо ён не цікавіцца ні грыбамі, ні птушкамі, ні кнігамі. Восень усё глыбей укараняе сваю ўладу.*

[33—34] Пад нагамі — дыван з апалага лісця, пад якім наўрад ці знойдзеш які грыб. // *Пад нагамі пласты апалага лісця. У такім лесе грыба не знойдзеш.*

[35—36] Васіль з Адамам, суседскім хлопцам, клеяць паветраных змеяў. // *Васіль з суседам Адамам, стрыечным братам, блукаюць па мокрым агародзе, вырэзваюць з капусных качарыжак салодкую храпку. І яшчэ паветраных змеяў клеяць.*

С. 545:

[2—3] нават лепшыя, чым у іншых хлопцаў з мястэчка. // *нават лепшыя, чым у іншых хлопцаў.*

[8—9] дзе вучыўся Васіль, стаялі нізенькія парты першакласнікаў. // *дзе вучыўся Васіль, нізенькія парты першакласнікаў.*

[14] першы ў шарэнзе. Акрамя таго ён вельмі худы. // *першы ў шарэнзе. І вельмі худы.*

[19—20] Ён сам не любіць згорбленых людзей. // Ён сам не любіць *сагнутых* людзей.

[21] Канчаюць будаваць новую двухпавярховую школу. // *Ужо заканчваюць* будаваць новую двухпавярховую школу.

[28—29] Сустрэча павінна адбыцца на Базарнай плошчы. // Сустрэча *адбудзецца* на Базарнай плошчы.

[32—33] А цяпер яшчэ стаў і старшынёй савета атрада. Васіль нічога асаблівага не робіць. // *А цяпер яшчэ і старшыня савета атрада. Ні на адной з гэтых пасад Васіль нічога асаблівага не робіць.*

[34] добра вучыцца, і яго выбіраюць на гэтыя пасады. // добра вучыцца, і *яго ўсе гады пакідаюць на гэтых пасадах.*

[36] прыедзе ў школу. // *прыедзе на «эмцы» ў школу.*

С. 546:

[1—3] з вельмі суровым тварам, з вялікімі зоркамі на каўняры. Ён здзіўлена глядзіць на Васіля і пытаецца // *з вельмі звычайным суровым тварам, з вялікай зоркай на чырвоным абшлагу каўняра, трохі здзіўлена глядзіць на Васіля.*

[13—14] хто такі, што не пайшоў з іншымі? — працягвае пытаць Кулік. // хто такі, што не пайшоў *з другімі? — пытае маршал.*

[19] Дыктоўкі па рускай мове пачаў на «добра» пісаць. // *Рускія дыктоўкі* пачаў на «добра» пісаць.

[23] У іншыя класы яны не зайшлі. // У іншыя класы *не заходзяць.*

[25—26] «Турак»-географ // *Чорны турак-географ*

[32—33] Усё атрымалася само па сабе. Вывучалі якраз характарыстыкі вятроў. // *Усё ішло сваім ходам. Праходзілі якраз характарыстыку вятроў.*

[34—35] з тым, што прачытаў у Жуля Верна. // з тым, што *вычытаў* у Жуля Верна.

[35] І апрача пасатаў, мусонаў назваў // *І апрача пасатаў, мусонаў, пра якія напісана ў падручніку, назваў*

[37—38] і пра якія ў падручніку не было ні слова. // і пра якія ў падручніку не *напісана* ні слова.

С. 547:

[1—3] Чобат ад здзіўлення аж рот разявіў. Ён зразумеў, што перад ім начытаны і разумны вучань, і з таго часу нязменна ставіць // Чобат ад здзіўлення аж рот разявіў, *відаць, зразумеў, з кім мае справу. Цяпер* нязменна ставіць

[13—14] задача трапілася вельмі закавырыстая. // задача трапілася вельмі *занозістая.*

[14—15] не было дроў ні на сёння, каб у печы пратапіць, зварыць бульбу, ні на заўтра. // не было дроў ні на сёння *ў печы прапаліць, зварыць бульбу, ні на заўтра. Бацька, калі ідзе на дзяжурства (ён працуе стрэлачнікам), пра дровы не думае.*

[16—17] Васіль гадзіны дзве правёў каля станцыйнага дрывянога склада // Васіль гадзіны дзве *дрыгляваў* каля станцыйнага дрывянога склада

[19] З класа задачу ніхто не рашыў. // *Задачу ў класе* ніхто не рашыў.

[23—24] Улічваючы вашы папярэднія поспехі, можна паверыць // Улічваючы вашы *гістарычныя заслугі,* можна паверыць

[26—27] Каля дошкі Васіль з задачай спраўляецца, хоць на гэта траціць // *Бухман добры і разумны настаўнік. На дошцы Васіль з задачай спраўляецца. Хоць траціць*

[33] шэрыя воблакі зацягнулі неба. // шэрыя воблакі *заслалі* неба.

С. 548:

[1—2] Колькі месяцаў трэба чакаць цёплага лета!.. // *Шмат месяцаў трэба чакаць сонца і* цёплага лета.

[8] Распоўзлыя чаравікі Васіль зашывае суравымі ніткамі // *Чаравікі распаўзаюцца. Васіль зашывае іх суравымі ніткамі*

[11—12] Некалькі дыктовак па рускай мове Васіль напісаў на «добра». // Некалькі *рускіх дыктовак* Васіль напісаў на «добра».

[14—15] за чвэрць у хлопца пераважаюць добрыя і выдатныя адзнакі, і толькі адна тройка. // *за чвэрць пераважаюць добрыя і выдатныя адзнакі, і адна толькі тройка па рускай мове.*

[17—19] шкада старой школы, пясчанага двара, пасаджаных школьнікамі таполяў, якія ўбіраюцца ў сілу. // шкада старой школы, *разлеглага пясчанага двара, пасаджаных школьнікамі таполяў, якія сама* ўбіраюцца ў сілу.

[22] памяшканне, падобнае на тое // памяшканне, падобнае *да таго*

[27] Але і мясцовая дзятва там ёсць. // Але і *мясцовыя* ёсць.

[33] агромністы двор. // агромністы *пляц двара.*

[37] Базарная плошча пераносіцца ў іншае месца. // Базарная плошча пераносіцца ў *другое* месца.

[38] вымалёўваецца галоўнае месца раённага мястэчка. // вымалёўваецца *цэнтр* раённага мястэчка.

[39] будуецца райвыканкам. І райкам адсюль недалёка. Ужо пабудавана трыбуна, з якой у святы будуць // *вырастае двухпавярховы будынак райвыканкама. І райкам недалёка. Пабудавана ўжо трыбуна, з якой у рэвалюцыйныя святы будуць*

С. 549:

[3] Навагодняя ёлка пастаўлена ў новай школе. // *Ёлка стаіць у новай школе.*

[9] Памяшканне, якое размешчана тут, адвялі класу для заняткаў. // *Тут вызначылі месца заняткаў для 7 «Б».*

[12—14] Паўночны вецер абвявае выступ з трох бакоў, сцены настываюць, тым часам на ўвесь вялікі пакой адна грубка. // Паўночны вецер абвявае *куб сёмага класа з трох бакоў, тым часам грубка на ўвесь вялікі клас адна.*

[16—17] было цёмна, стаяла цяжкае паветра. // было цёмна, стаяла *спёртае* паветра.

[18—19] Сорак вучняў дыханнем абагравалі клас. Тым больш што дрэва — не камень. // Сорак вучняў *адным дыханнем абагравалі клас. Дрэва — не камень.*

[20—21] З другога паверха мястэчка выглядае як на далоні // *З другога паверха мястэчка як на далоні*

[21—22] дальнія вуліцы відаць. Шэрыя, пахілыя // дальнія вуліцы відаць. *Вока паселішча не радуе.* Шэрыя, пахілыя

[23—24] Лес, палі, балота таксама відны, хоць бачацца яны як бы ахутанымі сіняватай павалокай туману. // *Далёкі лес, палі, балота таксама з другога паверха відны. Хоць бачацца яны як бы ахутанымі сіняватай смугой туману.*

[25] Васіль шчыра адданы школе. // Васіль шчыра *аддадзены* школе.

[26—27] Вядома, ёсць хатнія справы: раздабыць дроў, купіць хлеба. // Вядома, ёсць *дамашняя работа: здабыць дроў,* купіць хлеба.

[27] гэта не замінае часу для школьных клопатаў. // гэта *далёка не выходзіць за межы* школьных клопатаў.

[33] снег між дрэў ледзь пацярушыў. // снег між дрэў ледзь *пацерусіў.*

[33—34] Відаць патоўчаную быдлячымі нагамі чорную груду. // Відаць *патоўчаны* быдлячымі нагамі *чорны груд.*

[38] «Ёсць другое жыццё — без урокаў, без школьнай гаманы і гвалту,— думае Васіль.— Не трэба рашаць задачы» // *І то не ўсюды: ёсць класы, дзе ўрокаў няма. Ёсць другое жыццё, упершыню думае Васіль. Не трэба рашаць задачы*

С. 550:

[7] Але ён атрымаўся распоўзлы, крывы // Але ён атрымаўся распоўзлы, *крываваты*

[14—15] Бацька ў школу іх не пускае. Маўляў, і так абыдуцца. // Бацька ў школу *не пускае. Маўляў, і так абыдзецца.*

[18—19] рашае, дыктоўкі па рускай мове піша амаль без памылак. А каля воза з сенам асабліва завіхацца не ўмее. // рашае, *рускія дыктоўкі піша амаль без памылак. А каля воза з сенам асабліва завіхацца не ўмее... Усе яго аднагодкі такія*.

[20—22] Іх трэба яшчэ нарыхтаваць. У Астроўках цэлы квартал вывернутых з карэннем бяроз. // Іх трэба *было яшчэ рабіць. У Астроўках — так называецца ўрочышча за Далёкім Лядам — цэлы квартал вывернутых з карэннем бяроз.*

[25] Шафёр аказаўся пад рукой: дзядзька Пеця // *У бацькі з'явіліся грошы: атрымаў гадавую прэмію. Шафёр пад рукой: дзядзька Пеця*

[28—29] Жонка настаяла, каб ён скончыў шафёрскія курсы. // Жонка *піхнула пасупаць на* шафёрскія курсы.

[31—33] Ён і нарыхтаваныя ў Астроўках бярвенцы перавёз у Васілёў двор. Так што да канца зімы апал ёсць. // *Ён і нарыхтаваныя ў*

*Астроўках бярвенцы перавёз у двор. Ды яшчэ кантора «Заготлён» дроў выпісала. Так што да канца зімы апал ёсць. Васіль можа чытаць кнігі.*

[34] Хлопец задаволены. // *Васіль на ўзлёце надзей.*

С. 551:

[1] Ужо трэці год Васіль ахоплены, калі можна сказаць так // *Перад Васілём адкрываецца жыццёвы прастор. Справа ў тым, што ўжо трэці год ён ахоплены, калі можна сказаць так*

[2] Прачытвае кнігу за дзень. // *Васіль чытае кнігу за дзень.*

[3—4] Дзе ён знаходзіць такую процьму кніг? // Дзе *знайсці* такую процьму кніг?

[6—7] Ксюша дазваляе яму завітваць сюды толькі раз у тры дні. // Ксюша дазваляе яму завітваць *у бібліятэку* толькі раз у тры дні.

[9] Ёсць суполка, аб'яднанне такіх кніжнікаў, як Нупрэй, Іван // Ёсць суполка, *г. зн. аб'яднанне кніжнікаў, такіх,* як Нупрэй, Іван

[11—12] толькі тым, хто ўваходзіць у суполку. Дзякуючы Нупрэю, Васіль пазнаёміўся // *толькі тым, хто ўваходзіць у суполку. У суполцы запраўляюць старшакласнікі, Васіль не раўнапраўны яе член. Але яму даюць чытаць усе кнігі, якімі валодае суполка. Дзякуючы Нупрэю, Васіль пазнаёміўся*

[13—15] з Іванам Лазавіком, таксама васьмікласнікам. Калі кнігу дастае Нупрэй ці Іван // *з Іванам Лазавіком, таксама васьмікласнікам. Лазавік — свяціла. Лепш за яго ніхто не рашае задачы. Акрамя таго, ён прызнаны шахматыст. Калі кнігу дастае Нупрэй ці Іван*

[19—21] Так што паліва для асвятлення хаты ёсць. Прыемна ўваходзіць у чужое жыццё // *Так што паліва для асвятлення хаты ёсць. І плошча ёсць, другая палавіна хаты, дзе размешчана кантора. Ноччу яна пустая. Чытай і нікому не будзеш перашкаджаць. Прыемна ўваходзіць у чужое жыццё*

[22—25] перажыць за вечар і ноч, пакуль чытаеш. І не толькі гэтым кніга прываблівае Васіля. Яна пашырае далягляд, дае магчымасць пабываць у розных краінах, у розных колах грамадства. // перажыць за вечар і ноч, *калі чытаеш кнігу. Многія жыцці. І не толькі гэта. Кніга пашырае далягляд, дае магчымасць пабываць у розных краінах, у розных, калі можна сказаць так, колах грамадства.*

[27—29] Змест праз некаторы час забудзеш, а мелодыя будзе гучаць у душы заўсёды. // Змест праз *паўгода ці год забудзеш, а мелодыя будзе звінець* у душы заўсёды.

[36—37] Дні праз тры настаўнік Васіль Хаміч Самацееў прынёс сшыткі, а пераказ Васіля зачытаў перад класам. // Дні праз тры настаўнік *Хацееў прынёс сшыткі, а Васілёў пераказ зачытаў* перад класам.

С. 552:

[4] Самацееў папрасіў Васіля // *Хацееў* папрасіў Васіля

[6] ён нават пляснуў рукамі // *нават успляснуў* рукамі

[7—9] Запомні: вучонымі некаторыя становяцца не ў сорак ці пяцьдзясят гадоў, а ў тваім якраз узросце. // Запомні: вучонымі, *дацэнтамі, прафесарамі становяцца не ў сорак ці пяцьдзясят гадоў, а значна раней.*

[10—11] гэтыя кнігі так альбо інакш прыйдзецца прачытаць. А ў цябе яны ўжо прачытаны. // гэтыя кнігі так альбо інакш *давядзецца прачытаць. А ты іх ужо прачытаў.*

[12—13] Размова з Самацеевым, дабрадушным, крыху павольным, схільным да жарту і гумару чалавекам, узбадзёрвае Васіля. // Размова з *Хацеевым, дабрадушным, крыху павольным мядзведзем, схільным да жарту, гумару,* узбадзёрвае Васіля.

[14—15] Дыктоўкі, якія Варановіч праводзіць кожны тыдзень, ён пачынае пісаць без ніводнай памылкі. Клас наогул прыкметна // *Рускія дыктоўкі ён пачынае пісаць без ніводнай памылкі. Дыктоўкі гэтыя Варановіч праводзіць кожны тыдзень.* Клас наогул прыкметна

[17] Іван Лазавік яшчэ больш пашырае // *Лазавік Іван яшчэ болей* пашырае

[23] Для Васіля вайна ў Іспаніі штосьці далёкае. // *Для Васіля вайна ў Іспаніі штосьці далёкае, незразумелае.*

[27] прабуе моц сваіх кіпцюроў. // прабуе моц сваіх *кіпцяў.*

[31—32] выбухаў, якія, праўда, гучаць далёка ад іхняй // выбухаў, якія, праўда, *ідуць далёка ад іх*

[34] Васіль, здаецца, пра такія рэчы не думае. // *Васіль стараецца пра такія рэчы не думаць.*

[36—38] Ад чыгуначнай станцыі адыходзіць ветка, якая вядзе ў паўднёвыя раёны. Адтуль вывозіцца лес: тоўстыя сасновыя бярвенні // *Ад станцыі адгаліноўваецца ветка-аднапутка, якая вядзе ў хлебныя паўднёва-прыпяцкія раёны. Палавіна тых раёнаў лясная, і адтуль таксама вывозіцца лес: тоўстыя сасновыя бярвенні*

[39] Бацька Васіля — стрэлачнік — падрабляе на гэтай ветцы. // *Васілёў бацька* стрэлачнік, падрабляе на гэтай ветцы.

С. 553:

[3—4] якраз там, дзе ветка рэзка паварочвае на поўдзень. // якраз там, дзе *ветка-аднапутка, адгаліноўваючыся ад станцыйных пуцей,* рэзка паварочвае на поўдзень.

[4—5] Тут адна палавіна доўгага чыгуначнага дома // Тут адна *палова* доўгага чыгуначнага дома

[11—12] Шафа поўная кніг. Але Васіль ужо добрую іх палавіну прачытаў. // Шафа поўная кніг. *Але яны асабліва не дзівяць Васіля, бо добрую палавіну іх ён перачытаў.*

[22—23] Калі перамогуць рэспубліканцы, вайны не будзе. Бачыш, Гітлер // *Калі перамогуць рэспубліканцы, вайны не будзе, бо ўжо, бачыш, Гітлер*

[24] Ён ведае ўсе франты // *Ведае ўсе франты*

[27—28] вясны, калі можна пакіраваць у лес, паслухаць перазовы птушак, і лета, каб паласавацца ягадамі. // *вясны, калі можна пакіраваць у лес, паслухаць перазовы птушак, паласавацца леташнімі ягадамі.*

[29] За хатай Івана ляжыць вялікае балота, дзе // *Ёсць яшчэ адно дзіва каля Іванавай казармы. За ёй у паўднёва-заходнім напрамку* ляжыць вялікае балота, дзе

[30—32] Каля гэтага балота ўзвышаюцца пясчаныя пагоркі, якія некалі ўтварыў ледавік. // *Перад гэтым балотам ледавік утварыў пясчаныя пагоркі.*

[32—33] Калі пракладвалі чыгунку, абмінуць так званыя горы не маглі. Праз іх пракапалі тунэль. // Калі пракладвалі *ветку-аднапутку, абмінуць горы не маглі. Іх пракапалі.*

[33—34] цягнік ідзе па вузкім, цесным карыдоры. // цягнік ідзе па вузкім, цесным *калідоры.*

[35] Васіля вабіць нават зімовы лес. // Васіля вабіць *лес. Нават зімовы.*

[39] і пакіраваў па заснежаным полі ў лес. // і пакіраваў па *засыпаным снегам* полі ў лес.

С. 554:

[1—2] Снег добра ўляжаўся. Лыжы слізгаюць па ім, амаль не правальваючыся. // *Ужо сярэдзіна зімы. Снег добра ўляжаўся. Паверх снежнай скарынкі намяло дробнага сухога снегу. Лыжы слізгаюць па снежнай шэрхані,* амаль не правальваючыся.

[5—6] абцярэбліваюць быльнёг, пустазелле, якія вытыркаюцца з-пад снегу. // *абцярэбліваюць быльнёг, пустазелле, увогуле ўсе бадыліны, якія вытыркаюцца з-пад снегу.*

[7—8] Да местачковых ваколіц падбіраюцца лісы, зайцы і нават ваўкі. // Да местачковых ваколіц, *аказваецца, маюць інтарэс лісы, зайцы, і, здаецца,* нават ваўкі.

[9] У лесе лыжы між дрэў правальваюцца ў снег, і // *У лесе лыжы між дрэў правальваюцца, і*

[11—12] І стоеная, старожкая цішыня пануе ў ім. // І стоеная, старожкая цішыня пануе ў *лесе.*

[12] Зрэдку трашчыць шышка // Зрэдку *трэсне* шышка

[15—16] Снег тоўстым пластом пакрыў Васілёвы грыбныя мясціны. Спяць ў лаўжах вожыкі, пахаваліся ў падземныя норы // *Пакрыў снег тоўстым пластом Васілёвы грыбныя мясціны. Ляжаць у лаўжах вожыкі, пахаваліся ў розныя* падземныя норы

[19—20] Прыгожа чытаў верш Міхаіла Святлова «Гренада» Ізя Зелікман // Прыгожа *прачытаў верш Міхаіла Святлова «Гранада» Ізя Зэлікман*

[20—22] п'есу паставілі школьнікі, у якой рэспубліканская разведка захоплівала ў палон франкісцкага генерала. // п'есу паставілі школьнікі, у якой *паказана, як рэспубліканская разведка захоплівае* ў палон франкісцкага генерала.

[23—24] Але Васілю болей помніцца вечарына з нагоды трыццацігадовай творчай дзейнасці // *Тым часам Васілю болей помніцца вечар, прысвечаны* трыццацігадовай творчай дзейнасці

[25] Арганізаваў і вёў яе Варановіч // Арганізаваў *яго і вёў* Варановіч

[26—27] пісаў пра рэчы, якія добра ведае Васіль. // пісаў *аб рэчах,* якія добра ведае Васіль.

[27—28] З той вечарыны хлопец запомніў, можа, вершаў дзесяць. // *З таго вечара, можа, дзесяць вершаў запомніў Васіль.*

[32—33] і залез у хлеў, на сенавал. // і залез у хлеў, на *вышкі.*

[34] Гэта была лепшая музыка да вершаў паэта. // Гэта была *добрая музыка да Коласавых вершаў.*

С. 555:

[1—2] робіцца радасна на сэрцы, думкі набываюць // *робіцца радасна на сэрцы, уздымаецца настрой, думкі набываюць*

[3—5] Агароды Васіля і яго сябра Адама завяршае высокі плот, складзены з бярвенняў. За гэтым плотам хлопцы змайстравалі турнік. Укапалі ў зямлю слуп // *Адам, стрыечны брат, адстаў ад Васіля на два класы. Можа, таму, што жаўтухай-ліхаманкай хварэў. Канец Васілёвага і Адамавага гарода завяршае высокі плот, складзены з бярвенняў. Тым часам Васіль лёгка сігае за гэты плот. Удвух з Адамам яны майструюць* турнік. Укапалі ў зямлю слуп

[7—8] Але ж турнік ёсць турнік. // *Тым часам* турнік ёсць турнік.

[9—10] Сябры хоць цэлы дзень // *Яны* хоць цэлы дзень

[11] Адамаў бацька чалавек не зусім добры. // *Тым часам Адамаў бацька чалавек не зусім добры.*

[11—12] Неяк у лесе Васіль выкапаў бераст і пасадзіў яго пад плотам // *У лесе Васіль выкапаў рэдкае дрэўца — бераст. І пасадзіў* пад плотам

[13] і яно прынялося // *і яно нават летам прынялося*

[16—17] Адамаў бацька чымсьці атруціў яго. Знайшоў нейкае зелле, падліў пад дрэўца, і яно засохла. // Адамаў бацька чымсьці атруціў *дрэўца. Знайшоў нейкае атрутнае зелле, падліў пад дрэўца, і яно загінула.*

[18—19] Маці расказвала, што гэтак жа старая Акуліна, маці бацькі Адама, вынішчыла // Маці *расказвае, што гэткім жа манерам старая Акуліна, маці Адамавага бацькі,* вынішчыла

[20] На жаль, яны жывуць да гэтага часу... // На жаль, яны жывуць да *апошняга* часу.

[32—33] Вось гэтая кампанія складае суполку кніжнікаў і дастае кнігі // Вось гэтая кампанія *дастае кніжкі*

[35—36] выхад у горы, на чыгуначны пуць, які вядзе // выхад у горы, на *чыгунку-аднапутку, якая* вядзе

[37—38] па схілах пазарасталі быльняком, лазой. // па схілах *зараслі розным быллём, кустамі лазы.*

[38—39] з левага боку відаць лугавую гаспадарку «Ведрыца» // з левага боку відаць *лугас* «Ведрыца»

С. 556:

[1—2] Аднойчы тут жа, у гарах, нараджаецца ідэя. // *Ідэя нараджаецца тут жа, у гарах.*

[3—4] сходзім у «Ведрыцу» і на торфазавод,— прапануе Іван // сходзім у *лугас і на торфазавод,— гаворыць* Іван

[5] пад бокам жывём і ні разу там не былі. // *пад бокам жывём і ні разу не былі.*

[6] Прапанова ўсім падабаецца. // *Прапанова падабаецца.*

[7] Прамой дарогі да яе няма. // Прамой дарогі *ў «Ведрыцу»* няма.

[8—9] Вырашылі ісці замёрзлым балотам. // Вырашылі ісці *праз замерзлае балота.*

[9—11] Балота гэтае Васіль ведае, катаўся тут на каньках-дзеравяшках. Дабягаў да Багародзіцкай гары, праз якую дружбакі наважылі дабрацца да лугавой гаспадаркі. // Балота гэтае Васіль ведае, *насіўся тут на каньках-дзеравяшках. Дабягаў да гары Багародзіцкай. Праз гару Багародзіцкую дружбакі наважылі дабірацца да лугаса.*

[11—12] Вада ўмерзла добра. // *Лёд умёрз* добра.

[12—13] глядзець у чорныя прорвы паміж рэдкіх купін, зараснікаў трыснягу і чароту. // глядзець у чорныя прорвы паміж *рэдкімі купінамі, абсягамі* трыснягу і чароту.

[15] Дарэчы, на балоце нехта займаецца рыбалоўствам. // Дарэчы, *і на балоце нехта прамышляе.*

[18] Узлезлі на Багародзіцкую гару. // Узлезлі на *гару Багародзіцкую.*

[18] Пра яе ходзіць легенда. // Пра яе *легенда ходзіць.*

[21] Саўгасны пасёлак выглядае вельмі ўбога. // Саўгасны пасёлак *мізэрны.*

[21—22] Стаяць пад ветрам і дажджом // *Стаяць упрытык да альшэўніку пад ветрам і дажджом*

[23—24] У «Ведрыцы» сеюць траву // *Лугас — лугавая гаспадарка. Тут* сеюць траву

[25] вырошчваюць кароў, ад якіх шмат надойваюць малака. // вырошчваюць *жывёлу, тонамі надойваюць ад кароў малака.*

[26—27] цэніцца ў мястэчку. Таму ў час касавіцы // *цэніцца ў мястэчку. Каровы ядуць яе з прагнасцю і адразу прыбаўляюць малака. Таму ў час касавіцы*

[27—28] лезуць у лугавую гаспадарку, каб хоць колькі дзён там папрацаваць. // лезуць у *лугас, каб* колькі дзён там папрацаваць.

[28—29] можна хоць трохі накасіць травы для ўласных кароў. // можна *зарабіць хоць трохі сеянкі.*

[30] Цяпер, у зімовую пару, нічога тут не відаць. // Цяпер, у зімовую пару, нічога *ў лугасе* не відаць.

[30—31] Лес стаіць голы, у галінах дрэў пасвістае вецер. // *Стаіць голы лес, у яго вершалінах* пасвістае вецер.

[31—33] балота ўслана снежнай наміткай. Стаяць гордыя дубы-велiканы, высока ўзносячы свае разгалістыя вяршаліны. // балота ўслана снежнай наміткай. *Адно добра: дубовыя гаі захаваліся ў Ведрыцы. І з правага боку, і з левага. Стаяць гордыя веліканы, высока ўзносячы свае разгалістыя шапкі.*

[34—35] Гаспадарка носіць імя рэчкі Ведрыцы, якая далекавата ад паселішча // *Лугас носіць імя па рэчцы Ведрыцы, якая ад паселішча далекавата.*

[37—38] І ўбачылі рэчку. Змізарнела Ведрыца. // І ўбачылі *раку. На ёй два масты — драўляны, які называюць «рабы», і чыгуначны, з навіслымі жалезнымі фермамі, афарбаваны ў сталёва-шэры колер.* Змізарнела Ведрыца.

[39] І зараз, зімою, напорна, у абдымкі да Дняпра, бягуць яе хвалі // *Напорна, у абдымкі да Дняпра бягуць яе хвалі*

С. 557:

[1—2] адбіваючы ў сваёй вадзе свінцовае неба. // *адбіваючы ў сваёй вадзе шэрае свінцовае неба.*

[3—4] Праз ваду праглядваюцца галька, ракавіны. Каб хоць такую змялелую // Праз ваду *праглядвае галька, розныя ракавіны. Рэчка як рэчка.* Каб хоць такую змялелую

[6—7] вялікай вады не бачылі. // вялікай вады не бачылі. *Плёхаліся ў розных копанках, канавах і нават плаваць добра не ўмеюць.*

[8—9] Васіль часцей бывае каля рэчкі, бо ходзіць у Бабчын, вялікую вёску, дзе // Васіль*, відаць, часцей бывае каля рэчкі. Бо ходзіць у Бабчын, вялікае сяло,* дзе

[12—13] вачам адкрываецца сапраўднае відовішча. // вачам адкрываецца *сапраўды адметнае* відовішча.

[13—14] Шырокая паляна, агорнутая лесам, стаіць нібы ў вянку. // Шырокая паляна *агорнута* лесам, стаіць нібы ў вянку.

[15—16] Паміж іх — рознай велічыні пабеленыя скрынкі, прымацаваныя на слупах // Паміж *дамкоў пабеленыя ў белы колер рознай велічыні* скрынкі, прымацаваныя на слупах

[16—17] З правага боку вялікі, відаць, жылы дом. // З правага боку вялікі, відаць, жылы *дамок.*

[18—21] Яна пабудавана яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі. Усе задаволены, што пабачылі прыгожы куток. У наваколлі нічога прыгажэйшага // *Яе пабудаваў генерал Жылінскі, які яшчэ ў мінулым стагоддзі асушаў тут балота.— Такая станцыя ёсць і ў мястэчку,— дадае Ізя Зэлікман,— насупраць аптэкі размешчана. І гасцініцу пабудаваў твой Жылінскі. Таксама блізка ад аптэкі.— Можа, і тваю аптэку генерал пабудаваў? Яму ж былі патрэбны такія-сякія кроплі? — падкалвае Ізю Валодзя Трыгубовіч. Хлопцы рагочуць. Зрэшты, усе задаволеныя, што пабачылі прыгожы куток. У местачковым* наваколлі нічога прыгажэйшага

[22—23] паставілі «Любоў Яравую» Канстанціна Транёва. // паставілі «Любоў Яравую» *К. Трэнёва.*

[23—24] мелі пяць ці шэсць рэпетыцый. З-за гэтага і ў вучобе адсталі. // мелі пяць ці шэсць рэпетыцый. *Хлопцы як дубы. З-за ліхалецця* ў вучобе адсталі.

[25—27] У пярэдняй частцы яго зрабілі ўзвышэнне, якое замяніла сцэну, павесілі заслону з цёмна-сіняй матэрыі. // У пярэдняй частцы *зрабілі ўзвышэнне, якое замяняе сцэну. Павесілі занавес* з цёмна-сіняй матэрыі.

[28—29] прайшоў удала. Праз месяц, пад вясну // прайшоў удала. *Штосьці таямнічае ёсць у п'есе. Любоў Яравая, звычайная мяшчанка, робіцца рэвалюцыянеркай, а яе муж, які спачатку хінуўся да рэвалюцыі, даў задні ход, апынуўся ў белых.* Праз месяц, пад вясну

[34—35] ролю Паўлінкі іграла самая прыгожая ў школе дзяўчына // ролю Паўлінкі *ўзялася іграць* самая прыгожая ў школе дзяўчына

С. 558:

[1] Нупрэй намазаў твар бураком і начапіў вусы. // *Нупрэй іграў ролю Адольфа Быкоўскага — намазаў твар бураком і начапіў вусы.*

[4—5] Ліпскай апладзіравалі за прыгажосць. // *Ліпскай апладзіравалі за яе прыгажосць.*

[7—8] Пераважна аднаактоўкі // *Як правіла,* аднаактоўкі

[18] Цэлы ўзвод міліцыі, акружыўшы хлявок // Цэлы ўзвод міліцыі, акружыўшы *хлевушок*

[19—20] сталі распранацца, разагнаў святую кампанію. // *сталі распранацца і скакаць, разагнаў святую кампанію.*

[21—22] На палях асядае і чарнее снег, на пагорках з'яўляюцца прагаліны. // На палях асядае, *чарнее зверху снег, на пагорках з'яўляюцца пралысіны.*

[31—32] Васіль ішоў паціху, думаў пра нешта сваё, і калі раптам азірнуўся,— ледзь не скамянеў ад жаху. // *Недзе каля першага дуба, дзе звычайна рамонтнікі ладкуюцца на абед, Васіль адчуў неспакой. Азіраецца і камянее ад жаху.*

[33] чухкаў чорны страшыдла-паравоз // *чухкае чорнае страшыдла паравоза*

[34] толькі паспеў саскочыць у адхон // толькі паспеў *скокнуць* у адхон

[36] падумаў Васіль // *толькі паспеў падумаць* Васіль

[38] інакш даў бы сігнал. // інакш *быў* бы сігнал.

[38—39] такое жыццё чалавека: можа лёгка абарвацца. // такое жыццё чалавека. Можа лёгка *загінуць ад выпадковасці*.

[39] вышэйшае стварэнне прыроды // вышэйшае *тварэнне* прыроды.

С. 559:

[2—3] Гіне, заблудзіўшыся ў лесе, гіне ў катастрофе самалётаў, у крушэнні цягнікоў і караблёў. // Гіне, *зблудзіўшы ў лесе, пры катастрофе самалётаў, крушэнні цягнікоў, караблекрушэннях.*

[5] абтрасае штаны і палітончык. // абтрасае *снег са штаноў і палітончыка*.

[10—12] У паўзмроку на процілеглым адхоне ён заўважае штосьці шэрае. Хлопец ідзе туды і бачыць ёмісты, мокры ад дажджу // *У сінеючым паўзмроку на процілеглым адхоне штосьці шэрае. Ён ідзе туды, правальваючыся ў снег, і бачыць ёмісты, макраваты ад дажджу*

[13—14] І, мяркуючы па ўсім, яна немецкая, мае назву // І, мяркуючы па *ведах, якімі ён валодае, гэта нямецкая газета з назвай*

[17] прайсці міма газеты // *адхінуцца ад* газеты

[18] з'яўлялася яўнай правакацыяй. // *уяўляецца* яўнай правакацыяй.

[18] Хлопец азірнуўся. // *Васіль азіраецца.*

[20—21] з першых рук дазнацца, што гэта за з’ява. // з першых рук *азнаёміцца з гэтым зверам*.

[23—24] Чытаюць і ў рэдакцыях цэнтральных газет, часта бяруць адтуль вытрымкі. // Чытаюць *у рэдакцыях цэнтральных газет, адкуль часта бяруць* вытрымкі.

[25] Добра чытаць па-нямецку Васіль не ўмее, але ж // *Чытаць па-нямецку Васіль умее, не разумеючы слоў, але ж*

[28] Хлопец бярэ газету — яна мокрая // *Васіль бярэ газету — макраватая яна*

[32—33] ідзе ў хату да Івана Лазавіка. Той незвычайна рады знаходцы // ідзе *ў казарму да Івана Лазавіка. Іван незвычайна рад* знаходцы

[36] Сяргей Кісель усклікнуў // *Сяргей Кісель з ліку тых, чые бацькі пераехалі з Баранавіч, усклікнуў*

[39] Сасноўская (яе бацька, дарэчы, у турме) надала ім прамы сэнс. // Сасноўская (яе бацька, дарэчы, *сядзіць) дала* ім прамы сэнс.

С. 560:

[1—2] Тыдні на два выпусцілі, потым забралі зноў. // *На тыдні два выпусцілі, тады* забралі зноў.

[3—4] у паддашак будкі, якая стаіць наводшыбе і куды складваецца пуцейскі інструмент. // у паддашак будкі, *дзе складваецца пуцейскі інструмент. Будка стаіць наводшыбе*.

[5—6] заяўляе Іван.— Ты нічога не зразумееш. // заяўляе Іван *Лазавік.— Ты нічога не ведаеш.*

[7—9] Іван, вядома, слоўнікаў мае багата і ніштавата ведае нямецкую мову. Ён даўно не звяртае ўвагі на «хабен» Галіны Васільеўны. Але мог сказаць далікатней... // Іван, вядома, *ніштавата ведае нямецкую мову. Але мог сказаць далікатней. Ён даўно не звяртае ўвагі на «хабен» Галіны Васільеўны. І слоўнікаў мае багата.*

[10—11] На тупіковых пуцях, густа зарослых быллём, здаўна стаіць абшарпаны, абадраны вагон. // На тупіковых пуцях, густа зарослых *быльнягом, гадзючнікам, здавён стаіць абшарпаны, аблуплены* вагон.

[11—13] начальства ламала галаву: ніхто вагон не патрабуе, а на запыты, якія яно накіроўвала ў розныя месцы, адказаў не было. // *начальства ломіць галаву: ніхто вагон не патрабуе. На запыты, якія станцыя накіроўвае ў розныя месцы, адказу няма.*

[14] Утвараецца камісія // Тады ўтвараецца *камісія*

[15—16] там кнігі. // *у вагоне* кнігі.

[18—19] вагон пераганялі са станцыі на станцыю, пакуль ён не затрымаўся тут. // *вагон пераганялі са станцыі на станцыю.*

[26—27] з настаўніцкіх семінарый, школ, ёсць нават царкоўныя кнігі. Якія ж хапугі немцы! // з настаўніцкіх семінарый, школ, *нават царкоўныя кнігі. Да чаго ж уцяганцы* немцы.

[29] Пакуль тая высокая камісія складае планы // *Пакуль высокая камісія складае планы*

[31] навукова-папулярныя кнігі і тоненькія брашуркі // *навукова-папулярныя кнігі і нават тоненькія брашуркі*

[35] Камісію ўзначальвае партыйны арганізатар Сядзёлкін // *Узначальвае камісію парторг станцыі* Сядзёлкін

[37] Ён з'яўляецца ў Васілёвым доме // Ён *быў у* Васілёвым доме

С. 561:

[1] Сядзёлкін вельмі просты і дэмакратычны чалавек. // Сядзёлкін вельмі *даступны,* дэмакратычны чалавек.

[2—3] адчуваецца нейкая яго прыніжанасць // *адчуваецца як бы нейкая яго прыніжанасць*

[5—6] арганізацыя «Шуцбунд» узняла паўстанне, у якім прымаў удзел // арганізацыя «Шуцбунд» *падняла паўстанне, у тым паўстанні* прымаў удзел

[10] сапсавалі настрой усіх тых, хто // сапсавалі настрой *усім тым,* хто

[12—13] амаль дваццаць гадоў ганялі са станцыі на станцыю // амаль дваццаць гадоў *ганяюць* са станцыі на станцыю

[15—17] гэта прадчувае і, не дачакаўшыся абвінавачвання, ідзе ў горы, у чыгуначны тунэль, і там страляе сабе з нагана ў грудзі. // гэта прадчувае. *Ідзе ў горы, сярод якіх прабіты чыгуначны тунэль, і там страляе сабе з нагана ў грудзі. Вясна пашырае абсягі. Снег сышоў зусім, сонца сушыць зямлю, і яна болей аздабляецца зялянінай. Пачынаюць цвісці сады. А ў Іспаніі дрэнна. Рэспубліканцы здалі Мадрыд. І ўвогуле ў руках рэспубліканцаў толькі вузкая палоска зямлі, якая мяжуе з морам.*

[18] Можа, неяк інтуітыўна дзеці неспакойнага // Можа, *нейкім звышчуццём* дзеці неспакойнага

[20—21] калі яны стануць гаспадарамі жыцця. // *калі яны хутка стануць гаспадарамі жыцця.*

[22] У іх узросце // У іх *жыццёвую пару*

[28] У адзін з тых веснавых надвячоркаў // *У адзін з тых надвячоркаў*

[29] бачыць на лавачцы прывабную дзяўчыну. // бачыць на лавачцы *пухнатую, пушыстую, чымсьці падобную на пчалу* дзяўчыну.

[31] пасля такога ветлівага звароту // *пасля такога ветлівага да сябе звароту*

[34—35] Саша прыехала на некалькі дзён з Мінска, дзе вучыцца ў хіміка-тэхналагічным тэхнікуме. // *Прыехала на некалькі дзён з Мінска, з хіміка-тэхналагічнага тэхнікума і кватаруе ў дзядзькі.*

С. 562:

[1] Ад дзяўчыны як бы зыходзіць цеплыня // Ад *Сашы* як бы зыходзіць цеплыня

[2—3] І хлопцу яна падабаецца. // І *Васілю* яна падабаецца.

[3] уся ў рабацінках // уся ў *рабацінні*

[4] якія завіткамі спадаюць на плечы. // якія *залатымі завіткамі спадаюць на шчокі,* на плечы.

[7] у мяне яшчэ тыдзень да ад’езду. // *у мяне яшчэ тыдзень.*

[10] Васіль згодны. // Васіль *згодзен.*

[13—14] выцягнулі і, не чытаючы, пакольні яна надрукавана на незразумелай // *выцягнулі і пакольні яна надрукавана на незразумелай*

[15] гаворыць Іван. // *тлумачыць* Іван.

[17—18] Яны збіраюцца зганяць з зямлі іншыя народы. *// Будуць зганяць з зямлі другія* народы.

[19] Васіля не надта цікавяць словы сябра. // *Васілю не надта цікава слухаць Івана.*

[20—22] А за садам на лавачцы яго чакае Саша. Цёплая, пухнатая, як пчала, дзяўчына. Яна сама прызначыла спатканне. // *Тым часам за садам на лавачцы яго чакае Саша. Сама прызначыла спатканне.*

[23] развітваецца з Іванам. *// пакідае Івана.*

[24] А сам крута паварочвае да сада... // *Затым крута паварочвае да сада. Саша ўжо там, чакае яго.*

[25] Вось і лета. Як і ў мінулыя гады // *Летам,* як і ў мінулыя гады

[27—28] і яшчэ добра не ведаюць адзін аднаго. // і яшчэ *мала знаёмыя.*

[30] але пакуль няма ніякіх вынікаў. // *але вынікаў ніякіх.*

[32—33] дагавор аб ненападзенні. // *дамову аб ненападзе.*

[34] Васіль задаволены гэтымі падзеямі. // Васіль *дагаворам задаволены.*

[34—35] ён за пашырэнне ўплыву Савецкага Саюза // *ён за пашырэнне Савецкага Саюза*

[38] сарамаціць ён Васіля. // *сароміць* ён Васіля.

С. 563:

[1] Ён проста пазбягае // Ён проста *хоча пазбегнуць*

[2] Падтопча спачатку Еўропу // *Падтопча Еўропу*

[4] перайшла польскую граніцу // *пераходзіць польскую мяжу*

[5] заходнім беларусам і ўкраінцам. // *заходнім беларусам і ўкраінцам. Іван вучыцца ў дзявятым класе, Васіль — у восьмым. Тут між імі рознагалоссяў няма.*

[6—8] некалькі сем'яў заходніх беларусаў, і ў восьмы клас, дзе на той час вучыўся Васіль // *некалькі заходніх беларусаў. Звычайныя людзі, нічым асаблівым ад мясцовых жыхароў не адрозніваюцца. У восьмы клас, дзе вучыцца* Васіль

[10] фізіку, хімію, алгебру, якія выкладаліся ў восьмым // *фізікі, хіміі, алгебры, якая выкладаецца* ў восьмым

[12] Застаўся Слава Кухарэвіч // *Застаўся адзін Слава Кухарэвіч*

[12—13] прыгожы хлопец, у элегантным касцюме, які на ляту хапаў тое, што тлумачылі // прыгожы, *у элегантным касцюме хлопец, які на ляту хапае тое, што тлумачаць*

[14—15] якія панавалі ў мясцовым калгасе // якія *пануюць у* мясцовым калгасе

[17—19] Рэальнасць савецкага жыцця жорстка абыходзілася з тымі, хто не прымаў яе законаў. // *Вось так у нас сустракаюць людзей, якія толькі-толькі сталі савецкімі.*

[20] Пасля дагавора з Германіяй жыццё не палепшылася. // Пасля *дамовы з Германіяй не стала цішэй.*

[22—24] сярод вучняў, якія займаюцца школьнай грамадскай работай, вылучаецца Нупрэй як кіраўнік секцыі па грамадзянскай абароне. // *сярод дзеячаў школьнай грамадскай работы вылучыўся Нупрэй. Бо ён кіраўнік школьнай абароннай работы.*

[24—25] арганізоўвае хаду ў процівагазах, начныя ваенныя // арганізоўвае *паход у процівагазах, затым* начныя ваенныя

[28—29] З рэпрадуктараў усё часцей грыміць песня // *З рэпрадуктараў грыміць песня*

[30] Краіна паступова ўключаецца // Краіна *непасрэдным чынам* уключаецца

[30—31] паходу савецкіх войск у Заходнюю Беларусь і Украіну // паходу *ў Заходнюю Беларусь і на* Украіну

[33—34] сведчаць пра непадрыхтаванасць Чырвонай Арміі. // *зусім не гавораць пра высокае баявое майстэрства Чырвонай Арміі. Гэта нешта адваротнае таму, што было каля возера Хасан.*

[35] Восеннюю саракавога // *Летам* саракавога

[35—36] Васіль пайшоў у дзявяты клас, а яго сябры — у дзясяты. // Васіль — *дзевяцікласнік. Яго сябры — дзесяцікласнікі.*

[37] дарогі заўтрашніх выпускнікоў? // дарогі *юных грамадзян, якія адзін за другім атрымліваюць пашпарты, уступаючы ў паўналецце?*

[38] Немцы тым часам ужо ў Парыжы. // *Немцы тым часам у Парыжы.*

[39] верыць у дагавор з Германіяй аб ненападзенні, закрадаюцца ў душу сумненні: няўжо Гітлер на гэтым спыніцца? // верыць у *дамову аб ненападзе з Германіяй, западаюць у душу сумненні. Няўжо Гітлер спыніцца на Парыжы?*

С. 564:

[2—3] які тады быў сэнс дзесяць гадоў // *які быў сэнс дзесяць гадоў*

[3—5] гэтых юнакоў і дзяўчат, дамагацца, каб яны ведалі мову, літаратуру, асновы фізікі, хіміі, засвоілі пачаткі дакладных навук, геалогіі і астраноміі? // гэтых юнакоў, дзяўчат, дамагацца, каб яны ведалі *граматыку, літаратуру, засвоілі пачаткі дакладных навук, асновы фізікі, хіміі, нават пачаткі* геалогіі і астраноміі?

[6] Сэнс быў. // *Быў сэнс.*

[6] паказаў час // паказаў *пазнейшы вопыт*

[6—7] што да пачатку вайны скончылі па дзесяць, дзевяць // што *паканчалі* па дзесяць, дзевяць

[9—10] станавіліся вельмі маладымі капітанамі і маёрамі. // *становячыся* вельмі маладымі капітанамі і маёрамі.

[13] Інтуіцыяй маладосць // Інтуіцыяй, *звышчуццём моладзь*

[15—16] Закон жыцця аказаўся суровым: ні палюбіцца, ні пажаніцца не паспелі маладыя людзі, якія перад вайной заканчвалі сярэднія школы, а ўжо мусілі апранаць шынялі, ісці ў бой, ліць кроў, абараняючы родную зямлю. // *Васілю не чыталася ў тое лета, калі немцы прыйшлі ў Парыж. Хоць арганізавалася раённая бібліятэка — багатая, з рознымі кнігамі. Закон жыцця суровы: ні палюбіцца, ні пажаніцца не паспелі маладыя людзі, якія перад вайной заканчвалі сярэднія школы, а ўжо мусілі апранаць шынялі, ліць кроў, абараняючы родную зямлю. Васіль яшчэ раз пабачыўся з Сашай, родзічкай Івана Лазавіка. Яна ўжо скончыла хіміка-тэхналагічны тэхнікум і мела накіраванне ў Беласток, на цэментны завод. Пухнатая дзяўчына, падобная на пушыстую пчалу, не вельмі задаволена сваім прызначэннем.— А як вайна будзе? Што я буду рабіць там, сярод чужых людзей? Васіль запэўнівае Сашу, вельмі прыемную дзяўчыну, што вайны не будзе, ёсць дамова з Германіяй, і ўвогуле добра, што Саша мае дыплом і сярэднюю адукацыю.*

**Грыбное шчасце (с. 564)**

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 2001, за 19 кастр. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Заваёўнікі» і «Жывот»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

На балгарскую мову апавяданне пераклала Пенка Кынева.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты машынапісу апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—6);

С. 564:

*Конскае тырла* — месца на пашы, дзе стаіць жывёла падчас гарачыні або ўначы.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *газетны варыянт апавядання*

С. 564:

[21] Паспрабуй, пастой за кафедрай // Паспрабуй, *выстай* за кафедрай

[22] Ды нешта ж яшчэ і гаварыць трэба. // *Ды нешта ж яшчэ больш-менш талковае і гаварыць трэба.*

[33] выпіваюць па чарцы // *бяруць* па чарцы

С. 565:

[5] Грэка тым часам не было. // Грэка тым часам *няма.*

[11] насупраць адзін другога. // насупраць адзін *аднаго.*

[12] Па грыбы? — пытае Пятро. // Па грыбы? — пытае *Бруй.*

[19] той глядзіць сур'ёзна // *той на яго глядзіць сур'ёзна*

[24—25] Быў чымсьці падобны да гэтага // *Чымсьці падобны да гэтага*

[29] відаць, гэта былі сухоты // відаць, *туберкулёз*

[31—32] ва ўсім падпарадкаваўся выкладчыку. // ва ўсім *падпарадкоўваўся* выкладчыку.

[35—36] Восень нагадвала пра сябе // *Блізкая восень нагадвала аб сабе*

[36—37] Вісела на дрэвах, рэдка падаючы долу, жоўтае лісце // *Яшчэ вісеў на дрэвах, рэдка падаючы долу, жоўты ліст*

[38] павяваў, бадзёрачы цела // *плыў,* бадзёрачы цела

С. 566:

[2] не заўсёды даходзілі гарадскія грыбнікі. // не заўсёды *дасягалі* гарадскія грыбнікі.

[5] калі ўладарыць грыбное царства. // калі *расцвітае* грыбное

царства.

[7] шапачкамі абабкамі // шапачкамі *абабкаў*

[14] Цяпер іронія адпала. // Цяпер іронія *адляцела.*

[15] на гэтых пагорках // на гэтых пагорках. *Заўтра гэтага не будзе.*

[18] сам бачыць упершыню. // сам бачыць *першы раз.*

[23] Пятро Бруй і Лявон Грэк наведваюць грыбныя пагоркі // *Пятро Іванавіч і Лявон Грэк наведваюць грыбныя курганы*

[24—25] Звычайны абабак ці сыраежку // Звычайны *падбярозавік* ці сыраежку

**Жывот (с. 566)**

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 2001, 19 кастр. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Заваёўнікі» і «Грыбное шчасце»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

На балгарскую мову апавяданне пераклала Пенка Кынева.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і чатыры варыянты машынапісу апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—12); у адным з варыянтаў маецца пазней адкінутая аўтарам канцоўка твора: «Затое бачылі Жэню з маладым капітанам. У хуткім часе яна знікла з горада. Гаварылі: выйшла замуж за ваеннага і паехала з ім на дальнюю граніцу».

С. 566:

*Ламаносаў Міхаіл Васілевіч* (1711—1765) — рускі вучоны, паэт, мастак, асветнік, у 1755 г. па ініцыятыве Ламаносава створаны Маскоўскі ўніверсітэт.

С. 567:

*Ідыёма* — устойлівы выраз, сэнс якога не вызначаецца асобнымі значэннямі слоў, што ў яго ўваходзяць.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *газетны варыянт апавядання*

С. 566:

[28] настроілася зрабіць кар’еру // *нацэлілася на* кар’еру

С. 567:

[3] Пятро нерастаропны // Пятро *вахлакаваты*

[3—4] і ў дадатак абсалютна рыжы. // *і — абсалютна рыжы.*

[4] Ён быў ужо жанаты. // *Быў Пятро* ўжо жанаты.

[13—14] які выбіўся ў дацэнты // які *прабіўся* ў дацэнты

[17—18] якое вельмі зацягнулася // якое *парадкам* зацягнулася

[20] прапанаваў з'есці па марожанаму. Жэня згадзілася. // прапанаваў з'есці па марожанаму, *з чым Жэня пагадзілася.*

[21—22] На ўскраінах горада садоў не пералічыць. Над імі ўспыхвае белае вогнішча квецені. Жэня // *Над многімі садамі як бы ўспыхвае белае вогнішча квецені. На драўляных ускраінах горада садоў не пералічыць. Жэня*

[22—23] Не дае ніякай падставы для гаворкі. // Не дае *ніякага поваду* для гаворкі.

[25] Вы ведаеце многа ідыём, Жэня? — пачынае Пятро. // *вы ведаеце многа ідыём, Жэня?*

[28—29] зачапіцца за іншыя некранутыя пытанні моўнай // зачапіцца за *другія, нечапаныя прагаліны* моўнай

[32] ён нібы выхваляецца // ён *як бы* выхваляецца

[36] ці знайшлася яшчэ якая прычына. // ці знайшлася яшчэ якая *халера.*

С. 568:

[1] З гэтым бурчаннем // *Пры гэтым бурчэнні*

[2] давёў Жэню да яе дома. // давёў Жэню да яе *дамоўкі.*

[13—14] паводзіць сябе з Пятром па-ранейшаму. // Паводзіць сябе з *Ламаносавым* па-ранейшаму.

[14—16] А ў глыбіні душы Ламаносава расце падазрэнне, што дзяўчына ўхіляецца ад яго кампаніі. Але яму не надараецца выпадку пабыць з ёй адзін на адзін. // *Тым часам яму не надараецца выпадку пабыць з ёй адзін на адзін. У глыбіні істоты Ламаносава расце падазрэнне, што Жэня проста ўхіляецца ад яго кампаніі.*

[17] загадчык кафедры абавязвае // *загадчык кафедры Журкевіч абавязвае*

[18—19] у якіх патрабуе тэарэтычна абгрунтаваць // *у якіх тэарэтычна абгрунтаваць*

[27—29] Ён піша адмоўную рэцэнзію. Яе ён зачытваць не стаў, проста аддаў Журкевічу. // *Ён піша адмоўную рэцэнзію. Пасля гэтага Ламаносаў не рабіў спроб зблізіцца з Жэняй. Сваю рэцэнзію ён зачытваць не стаў, проста аддаў Журкевічу.*

## Заваёўнікі (с. 569)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 2001, 19 кастр. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Жывот» і «Грыбное шчасце»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

На балгарскую мову апавяданне пераклала Пенка Кынева.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца тры варыянты машынапісу апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—9).

С. 569:

*Пціч* — гл. камент. да апавяд. «Аркестр» (с. 791).

*Нёман* — рака ў Беларусі і Літве, упадае ў Куршскі заліў Балтыйскага мора. Даўжыня 937 км.

*Прыпяць* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

С. 570:

*Дзуля* (дзюля) — выгукі, якімі падклікаюць свіней.

*Далёкі Усход* — гл. камент. да апавяд. «Якая доўгая вайна» (с. 758).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *газетны варыянт апавядання*

С. 569:

[5] пятляе і нарэшце трымае кірунак // пятляе і *ў канечным рахунку* трымае кірунак

[7—8] якая ездзіла на станцыю Пціч аднаўляць мост. // якая ездзіла *на Пціч (ёсць такая станцыя)* аднаўляць мост.

[8—9] Яны гавораць, што заўтра пойдуць цягнікі. // *Гавораць: заўтра пойдуць цягнікі.*

## Эх, цёплае, добрае лета... (с. 571)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Беларуская думка», 2001, № 1.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 572:

*Поклад* — гл. камент. да апавяд. «Сямігодка для дарослых» (с. 717).

*Ра* — у старажытнаегіпецкай міфалогіі бог сонца. Ра ўяўлялі сокалам, на галаве якога — сонечны дыск.

С. 581:

*...чытала на памяць пісьмо Таццяны да Анегіна...*— маецца на ўвазе ўрывак з рамана ў вершах «Яўген Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 582:

*Пульманаўскі вагон* — вялікі пасажырскі ці, як у дадзеным выпадку, таварны вагон, назва паходзіць ад завода, уласнікам якога быў амерыканскі вынаходнік Д. М. Пульман (1831—1891).

С. 585:

*Лоўж* — гл. камент. да апавяд. «А немцы ў Парыжы...» (с. 821).

С. 590:

*Круглец* — травяністая расліна з мяцёлчатым або гронкападобным суквеццем.

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Беларуская думка»*

С. 576:

17 кавалак бліскучай бляхі // *кавалкі* бліскучай бляхі

С. 577:

35—36 выступае мастацкая самадзейнасць // выступае *местачковая* самадзейнасць

С. 579:

34—35 выдалі пахвальныя граматы выдатнікам // *і выдалі граматы выдатнікам*

С. 580:

14—15 махалі крыллем два ветракі. // махалі *крыламі* два ветракі.

32—33 з мілым рабаціннем на тварыку // з мілым рабаціннем на *твары*

С. 582:

23 Былі суды, ды што з голага бадзягі высудзіш? // *Былі суды, ды што з голага высудзіш?*

С. 584:

20—21 футбольны мяч, більярд, шашкі, шахматы і ўсё такое іншае. // *футбольны мяч, більярд, шахматы і ўсё такое іншае.*

С. 585:

7 Дома Вася добра навастрыў тапор. // *Дома Вася навастрыў тапор.*

С. 587:

[11] Тым болей што прынізіў Мігуна // Тым *больш* што прынізіў Мігуна

С. 588:

[4—5] Мае Мігун трохі падлапленыя штаны // Мае Мігун трохі *падлатаныя* штаны

С. 591:

[11] Вася некалі вадзіў пасвіць каня. // Вася *неяк* вадзіў пасвіць каня.

[25] Дуб сам сабе зямлю выбірае // *Дуб сам па сабе зямлю выбірае*

С. 592:

[24] Васю зусім не хочацца бачыць дзяўчынку. // Васю зусім не хочацца бачыць *дзяўчыну.*

[26—27] Дый пра што гаварыць, невядома. // Дый пра што трэба гаварыць, невядома.

[28—29] калі хлопцы вярталіся з расцяробаў // калі хлопцы вярталіся з *расцярэбаў*

## 2002

### Баба Зося на трыбуне (с. 595)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 8 лют. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Як мы скасавалі збожжавы падатак» і «Дзеці кулака»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання «Баба Зося на трыбуне» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—7); у рукапісе пад назвай твора жанравае азначэнне «гумарэска» перакрэслена.

С. 595:

*Ной* — дзясяты і апошні з біблейскіх дапатопных патрыярхаў, якія паходзяць па прамой лініі ад Адама. Згодна з Бібліяй, Ной быў праведнікам у сваім пакаленні, за што быў выратаваны Богам ад сусветнага патопу і стаў прадаўжальнікам чалавечага роду.

*Царыца Саўская* (X ст. да н. э.) — легендарная кіраўніца Аравійскага царства Саба (Шэба), чый візіт у Іерусалім да ізраільскага цара Саламона апісаны ў Бібліі.

*Юда Іскарыёт* — апостал, які, паводле евангельскай легенды, прадаў Хрыста.

### Баравікі-веліканы (с. 597)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 2000, № 1.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца тры варыянты машынапісу апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—6).

### Барсучаняты гуляюць (с. 598)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Лесавік», 2002, № 6.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### Гуканне над верасамі (с. 599)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф апавядання (няпоўны) і два варыянты машынапісу з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—9).

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *машынапіс*

С. 600:

20 быў больш назіральным // быў больш *назіральны*

28 кідалі на маладога лейтэнанта // кідалі на *малодшага* лейтэнанта

С. 601:

9 хлопцы ўспрымалі выпадковыя сувязі як звычайную з’яву. // хлопцы ўспрымалі выпадковыя сувязі як звычайную *справу.*

23 што яна напісала іх за адзін вечар // што яна *пісала* іх за адзін вечар

33 Ён нават не заўважыў // Ён нават не *заўважаў*

С. 602:

14 А на яго часам наплывала штосьці цёмнае // А на яго часам *накатвала* штосьці цёмнае

19 грубіла, даючы адпор. // грубіла, *давала* адпор.

## Дзеці кулака (с. 603)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 8 лют. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Баба Зося на трыбуне» і «Як мы скасавалі збожжавы падатак»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты машынапісу апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—6).

С. 604:

*«Жыгулі»* — гл. камент. да апавяд. «Пенсіянеры мясцовага значэння» (с. 780).

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Сямён Гуляш» (с. 753).

## Лясгас (с. 605)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 2002, № 2/3 (разам з апавяданнем «Цыганскі барон»); перад тэкстам — слова ад рэдакцыі: «Народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка з пакалення тых людзей, на долю якіх выпала не толькі перажыць усе жахі Вялікай Айчыннай вайны, але і са зброяй у руках набліжаць Дзень Перамогі. Убачанае і перажытае Іванам Якаўлевічам на ваенных дарогах легла ў аснову многіх яго твораў, якія на сённяшні дзень з’яўляюцца класікай беларускай літаратуры. А пачаў друкавацца пісьменнік у 1955 годзе ў часопісе «Маладосць». З таго часу выдадзена шмат кніг яго прозы, сярод якіх найбольшую славу аўтару прынеслі раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці». Іван Навуменка вядомы ў нашай краіне і як аўтарытэтны літаратуразнаўца, аўтар такіх кніг, як «Янка Купала: Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас: Духоўны воблік героя». За іх пісьменнік у 1972 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Якуба Коласа. Апошнім часам Іван Навуменка працуе ў жанры кароткага апавядання, шмат друкуецца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, не забываецца і пра «Беларусь», дзе ў яго заўсёды былі і ёсць удзячныя чытачы. На гэты раз ён прапануе два новыя апавяданні».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты машынапісу апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—20).

С. 605:

*Сталінград* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 748).

*Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Канцэрт Майсеева ў Нью-Ёрку» (с. 745).

*Каўказскі хрыбет* — бесперапынны горны ланцуг, які распасціраецца больш чым на 1000 км. Падзяляе Каўказскі край на дзве часткі: Прадкаўказзе (Паўночны Каўказ) і Закаўказзе (Паўднёвы Каўказ).

*...у Алагіры* — Алагір стаў пунктам найбольш глыбокага пранікнення гітлераўскіх войск на Каўказе, ён быў захоплены ў выніку нямецкага наступлення, якое пачалося 25 лістап. 1942 г. У гэты момант агульная перавага савецкіх войск ужо не выклікала сумненняў, і неўзабаве немцам давялося спешна пакідаць Алагір з-за пагрозы поўнага акружэння.

С. 607:

*Апоркі* — рэшткі зношанага абутку, старыя боты без халяваў.

С. 609:

*...худы, як таран...*— «худы, як сушаная рыба»; таран — падвід платвы (азоўска-чарнаморскі таран ці таранка), але ў гандлі яна сустракалася звычайна ў сушаным выглядзе, адпаведна адбылося пашырэнне значэння слова і таранам (таранкай) сталі лічыць любую засушаную рыбную драбязу.

С. 610:

*Паўлюс Фрыдрых* (1890—1957) — нямецкі военачальнік (з 1943 г. генерал-фельдмаршал) і камандуючы 6-й арміяй, акружанай і капітуляванай пад Сталінградам. Аўтар плана Барбароса.

С. 611:

*...нарэшце гэтая бітва настала — пад Курскам і Белгарадам...* — маецца на ўвазе Курская бітва, якую прынята падзяляць на тры часткі: Курскую абарончую аперацыю (5—12 ліп.), Арлоўскую (12 ліп.—18 жн.) і Белгарадска-Харкаўскую (3—23 жн.). Пасля завяршэння бітвы стратэгічная ініцыятыва ў вайне канчаткова перайшла на бок Чырвонай Арміі.

*Танкі-«трыццаць чацвёркі»* — савецкі танк Т-34 распрацаваны ў 1937—1940 гг. пад кіраўніцтвам М. І. Кошкіна; найбольш масавы танк Другой сусветнай вайны.

С. 450:

*«Тыгры», «фердынанды»* — гл. камент. да апавяд. «Вагавая будка» (с. 783).

*ІЛы* — самалёты, распрацаваныя ў канструктарскім бюро С. У. Ільюшына (1894—1977); найбольш вядомая мадэль часоў

Другой сусветнай вайны — штурмавік ІЛ-2, масавая вытворчасць якога пачалася ў лют. 1941 г.

*Петляковы* — самалёты, распрацаваныя ў канструктарскім бюро У. М. Петлякова (1891—1942); найбольш вядомая мадэль часоў Другой сусветнай вайны — пікіроўшчык Пе-2.

*«Фоке-вульфы»* — нямецкія самалёты, якія выпускаліся на заводах фірмы «Фоке-Вульф»; найбольш удалыя мадэлі распрацаваныя канструктарам К. Танкам (1898—1983).

*«Месершміты»* — нямецкія самалёты, распрацаваныя канструктарам В. Месершмітам (1898—1978).

*...ўзяты Арол і Белгарад...*— гл. камент. да апавяд. «Вагавая будка» (с. 783).

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Беларусь»*

С. 605:

[11] у вялікім сяле // *у вялікім раскіданым сяле*

[12—13] праз некалькі гадоў — горада. У сваіх апавяданнях // *праз некалькі гадоў — горада. Пра гэты горад мясцовы настаўнік, які змяшчае вершы ў раённай газеце, напісаў: «Багушэвічы — горад вясковы». Сапраўды, гарадскога ў Багушэвічах мала. Ёсць чыгунка, нават, можна сказаць, вузлавая (адыходзіць ветка ў напрамку паўднёва-прыпяцкіх, багатых хлебам раёнаў), доўгая галоўная вуліца заасфальтавана: у ваколіцах паселішча ды і ў самім горадзе па агародах стаяць буравыя вышкі, здабываецца нафта, ёсць некалькі двухпавярховых і нават трохпавярховых будынкаў. У сваіх апавяданнях*

[13—14] называў сяло мястэчкам, каб узвысіць яго. // называў сяло мястэчкам, *можна сказаць, каб узвысіць яго прэстыж.*

[14—16] Сапраўдным мястэчкам яно ніколі не было, хоць па памерах пераўзыходзіла любое з іх, асабліва з таго часу, калі праз Багушэвічы пралягла чыгунка… // *Хоць сапраўдным мястэчкам яно ніколі не было. Тым часам па абсягах пераўзыходзіла любое з вакольных мястэчак. Асабліва з таго часу, калі праз Багушэвічы пралягла чыгунка. Сталі сяліцца ў паселішчы яўрэі-рамеснікі, адзін час размяшчаўся лясны тэхнікум, пасля яго — школа шафёраў. Яшчэ да вайны было ў Багушэвічах тры школы: пачатковая, сямігадовая і асноўная — беларуская дзесяцігодка. Яшчэ да вайны тут усталяваўся цэнтр раёна, выходзіла раённая газета «Шлях да камунізма», мясцовы калгас грымеў на ўсю рэспубліку, хоць, на думку Андрушкевіча, гэтага не заслугоўваў. Багушэвічы размешчаны на пясчанай выспе паміж двума масіўнымі балотамі. Жабіныя*

*канцэрты, калі крумканне асобных істот зліваецца ў суцэльны хор, ахінала паселішча на працягу ўсёй вясны. Потым паўночнае балота асушылі, і канцэрты самі сабой зваліся. Досыць ахайны будынак лясгаса стаяў на ціхай, не да канца забудаванай вуліцы. На ёй з грамадскіх установаў быў толькі лясгас ды трохі далей, на другім баку сядзібы, МТС. Так што мясцовае начальства, а ў акупацыю паліцаі тут асабліва не шасталі.*

[17] Была восень. // *Стаяла* восень.

[18] Дрэвы стаялі голыя. // *Узвышаліся голыя дрэвы.*

[21] У Івана Андрушкевіча было цяжка на душы. // *Іван Андрушкевіч быў у душэўным заняпадзе.*

[21—22] Вайна ідзе амаль паўтара гады // Вайна ідзе *хутка паўтара года*

[23—24] У Алагіры (гэта дзесьці на Каўказскім хрыбце) // У Алагіры *(відаць, гэта дзесьці на галоўным* Каўказскім хрыбце)

[25] Хто думаў, што так усё атрымаецца? // *Хто пра такое думаў?*

[26—27] Ён у падпольнай групе, і яна перажывае не лепшыя часіны. // Ён у падпольнай групе, *але і група ў заняпадзе.*

[30] дакладна ведаў, што ён у тых спісках ёсць. // *ведаў дакладна:* ён у тых спісках ёсць.

[31] у іхняй сям'і тры хлопцы. // у іхняй сям'і *трое хлопцаў*.

С. 606:

[1] Трэба ўладкоўвацца на якую-небудзь працу. // *Трэба было ўладкоўвацца на якую-небудзь работу.*

[1—3] Інакш завязуць у праклятую Нямеччыну, і будзеш на бручкавай баландзе батрачыць // Інакш *запруць у пракляты рэйх і будзеш на баландзе з бручкі ўкалваць*

[5] Паколькі Іван быў членам арганізацыі // *Паколькі Іван быў членам падпольнай арганізацыі*

[5—6] пытанне аб працаўладкаванні // пытанне аб *уладкаванні на работу*

[6—7] Ён папрасіў дазволу ў кіраўніка // *Папрасіў дазволу ў кіраўніка*

[7] Той некалі вучыўся // *Сымон* некалі вучыўся

[9] працаваў у магазіне. // *стаяў за прылаўкам змрочнага леспрамгасаўскага магазіна.*

[9] Сымон быў у партызанскім атрадзе //*Чамусьці Сямёна ўзялі ў партызанскі атрад*

[12—13] прасіў у Баравіка дазволу, і два разы той адмаўляў // *прасіў у Баравіка дазволу на ўладкаванне на работу, і два разы той адмаўляў.*

[14—15] Спіскі на адпраўку ў Германію былі складзены і ляжалі ў воласці, таму трэба было // *пакольki спіскі на адпраўку ў Германію былі складзены і ляжалі ў воласці, трэба было*

[15—16] арганізацыю вышэйшую за валасную. // арганізацыю вышэйшую, *чым воласць.*

[16] Іван падгаварыў // *Ён* падгаварыў.

[17—18] да якога насельніцтва адносілася даволі паважліва. // да якога насельніцтва *ставілася нават* паважліва.

[23—24] у той дзень, відаць, у яго быў добры настрой // *у той дзень у яго быў добры настрой*

[28] вывазу ў Германію // *вывазцы* ў Германію

[29—34] У той дзень, калі Іван упершыню прыйшоў у фінансавы аддзел, ён даведаўся пра свае абавязкі. Кожны аб'ект у межах раёна павінен быць застрахаваны. Немцы народ акуратны. У абедзенны перапынак хлопец завёз на веласіпедзе самаробную міну ў лес, схаваўшы яе паблізу чыгуначнага мастка. Праз месяц быў скінуты пад адхон нямецкі эшалон. // *У той дзень, калі Іван прыйшоў у фінансавы аддзел, ён хутка ўведаў свае абавязкі. У абедзенны перапынак завёз на ровары самаробную міну ў лес, схаваўшыся паблізу чыгуначнага мастка. Кожная будыніна ў межах раёна павінна быць застрахавана. Немцы — народ акуратны. Яшчэ праз месяц за скінуты пад адхон вайсковы эшалон немцы дашчэнту спалілі вёску Вербы.*

С. 607:

[1—2] з братам, зусім не падобным на яго // з братам, зусім не падобным *да* яго

[5] Увогуле такіх размоў Анегін не дазваляў // Увогуле *падобныя размовы Анегін у аддзеле* не дазваляў

[7] Праз тыдзень пасля працаўладкавання // Праз тыдзень пасля *ўладкавання ў фінансавы аддзел*

[8—9] у вёску Міханавічы, каб растлумачыць парадак страхавання // *у вёску Міханавічы. З задачай растлумачыць парадак страхавання*

[10] Сапраўдная ж прычына была іншай. // *Сапраўдная прычына была ў другім.*

[11—12] якая падабалася Івану і якая прызналася яму ў каханні. // *якая першая напісала Івану запіску, у якой фактычна прызналася ў каханні.*

[13] чуткі, што нягледзячы на ўсё круціць любоў яго Галя // чуткі, што нягледзячы на *запіску круціць любоў* Галя

[14—15] Ён верыў і не верыў. Стараўся пра гэта не думаць. // Ён верыў і не верыў. *Але пакольki Галя не займала ў ягоных думках*

*вялікага месца, ён проста пра гэта не думаў. Бо вайна, а не Галя запаўняла трывогай яго душу.*

[16—17] выявілася, што шукаць спатканняў з Галяй не трэба. // выявілася: *Галю шукаць* не трэба.

[17] за пісара сядзіць яе бацька. // за пісара сядзіць яе *родны бацька, заслужаны настаўнік.*

[21] Пісар запрашае работніка фінансавага аддзела // Пісар *паклікаў прадстаўніка* фінансавага аддзела

[23—25] добрых шкарпэтак няма, ён нацягнуў на ногі нейкія падраныя, замест туфляў — распоўзлыя апоркі. // *Шкарпэтак няма, ён нацягнуў на ногі нейкія парваныя калошкі, замест туфляў на нагах распоўзлыя апоркі.*

[25—26] Ногі, вядома, брудныя, у пяску, і вымыць іх // *Ногі, вядома, брудныя, і вымыць іх*

[26—28] з такімі нагамі пакажацца на вочы Галі і ляжа ў ложак, калі яго засцелюць чыстым прасцірадлам? // *з такімі нагамі ляжа на ложак, калі яго засцелюць чыстым прасцірадлам?*

[29—30] Але вайна найбольш чым дзяўчына напаўняе трывогай душу. Думкі гэтыя сядзяць у галаве // *Але здараецца нарэшце такое, што рашуча адсоўвае прэч гэтыя думкі. Ужо гаварылася: дрэнна на душы ў Андрушкевіча. Летась савецкае войска адступала і сёлета адступае. Хацелі вызваліць Харкаў, замест гэтага ўсадзілі ў пятлю акружэння шматтысячную армію. Немцы зноў захапілі Данбас, вярнулі вызвалены зімой Чырвонай Арміяй Растоў, ірвуцца да Волгі і на Каўказ. Думкі гэтыя сядзяць у галаве*

[34—35] і гэта нібы пацвярджае тыя чуткі // і гэта нібы *пацвярджала тыя глухія* чуткі

[36] Вечарам яны ўдвух выйшлі на вуліцу // Вечарам *з Галяй* выйшлі на вуліцу

[37] чамусьці ўвесь час круціўся каля іх. // чамусьці ўвесь час *дрыглюе каля лавачкі, на якой сядзяць Іван з Галяй.*

С. 608:

[2] кожны павеў лагоднага, нават ноччу, ветру // кожны *ўздых лагоднага нават вечарам* ветру

[3] пахі хвоі, прэлай балотнай травы. // пахі *спелай зелені, хвоі,* прэлай балотнай травы.

[4] Раптам сярод застылых далёкіх зор // Раптам сярод *застыглых* далёкіх зор

[5] Яна перамяшчаецца даволі хутка, выразна чуваць // Яна *мяняе месца над галавой,* выразна чуваць

[7] Гул то аддаляецца // *Гул матора то аддаляецца*

[11—12] Сяло небагатае, і бедната падалася на службу да немцаў. // Сяло *пясчанае, беднае, і люмпенпралетарыят папёр* на службу да немцаў.

[16] Калі там, у галоўным штабе, думаюць пра іх закінуты // Калі там, *у Маскве,* думаюць пра іх закінуты

[20] Пракацілася хваля арыштаў // *Паміж высадкай парашутыстаў і цяперашнім Іванавым становішчам пралягло паўгода. За гэты час адбылося некалькі падзей. Галоўным чынам адмоўнага характару. Пракацілася хваля арыштаў*

[21—22] Той наган кожны з падпольнай групы па вечару-два насіў // Той наган *усе яны, сябры змоўніцкай групы, па вечары-два насілі*

[24—25] Усе яны, змагары, мелі па сямнаццаць-васямнаццаць гадоў. // Усе яны, *барацьбіты, недалёка адышліся ад дзяцінства, маючы* па сямнаццаць-васямнаццаць гадоў.

[26—27] Выпытвалі пра быццам бы схаванае радыё. // *Выпытвалі пра радыё.*

[28] пераказвае вычытаныя навіны сябрам. // *пераказвае вычытаныя ў іх навіны сябрам.*

[28—29] Ды, галоўнае, відаць, памог раённы бургамістр, які прымаў яго на работу. // *Ды, галоўнае, відаць, раённы бургамістр, які прымаў яго на работу, памог.*

[30] Напрыканцы лета загаварылі пра вучобу дзяцей. // *Перад пачаткам восені загаварылі пра вучобу дзяцей.*

[30—31] Немцы наважылі адкрыць пачатковыя школы. // Немцы *наважыліся* адкрыць пачатковыя школы.

[31—32] Толькі пачатковыя, як бы тутэйшае насельніцтва нічога лепшага не заслугоўвала // Толькі пачатковыя, як бы тутэйшае *начальства* нічога лепшага не заслугоўвала

[33] схадзіў да загадчыка раённага аддзела асветы // схадзіў да загадчыка *навучальнага аддзела*

[34—35] і той, дазнаўшыся, што ў хлопца сярэдняя адукацыя // і той, дазнаўшыся, што ў *яго* сярэдняя адукацыя

С. 609:

[1—3] ў той летні вечар. Ён пойдзе да іх у атрад. Ды зрэшты можна і спектакль наладзіць: зрабіць так, нібы дэсантнікі забралі яго сілай. Тады і сям'я не будзе адказваць за яго ўчынак. // *ў той памятны вечар. І сям'я не будзе адказваць, бо ён будзе жыць асобна ад сям'і. Ды зрэшты можна і спектакль наладзіць: зрабіць так, нібы дэсантнікі забралі яго сілай.*

[6] Дзе працаваць будзеш? — пытае той. // Дзе працаваць будзеш? — пытае *круглаваты, з мясістым чырвоным тварам бургамістр.*

[7] У школе. Настаўнікам. // *Настаўнікам.*

[16] А моладзь па-ранейшаму пасылаюць у Германію. // *А ў Германію моладзь па-ранейшаму пасылаюць.*

[18] Шанцуе нарэшце і Андрушкевічу. // *Удача нарэшце спатыкае Андрушкевіча і яго сяброў.*

[21—22] і кожны раз у яго атрымліваецца новы рэзультат. // і кожны раз у яго атрымліваецца новы *вынік.*

[22] Галоўны бухгалтар Куліба, худы, як таран, рыжы // Галоўны бухгалтар *лясгаса Куліба, худы як таран, рудаваты*

[23] па мянушцы Эскімос // *па прозвішчы* Эскімос

[26—28] І тут сустракае старшага ляснічага Лагуту, круглага, як шар, чалавека // І тут *нарываецца на галоўнага ляснічага Лагуту, поўнага* як шар чалавека

[31] Чаго такі сумны, малады чалавек? — пытае ён. // Чаго такі сумны, малады чалавек? — пытае *старшы ляснічы.*

[32—33] ды не ўзялі,— адказвае хлопец. // ды не ўзялі,— адказвае *Андрушкевіч.*

С. 610:

[1] У сваім кабінеце ляснічы доўга раіцца з Эскімосам. // *У сваім кабінеце старшы ляснічы доўга раіцца з Эскімосам.*

[2] Нарэшце Андрушкевіча запрашаюць да Лагуты. // Нарэшце Андрушкевіча *завуць у кабінет да старшага ляснічага.*

[13] Як жа, быў пад арыштам... // Як жа, *сядзеў у турме…*

[14—19] Пазней Андрушкевіч адчуў вартасць і перавагу сваёй новай работы. Залічылі яго ў лясгас у снежні месяцы. Сталінградская групоўка на чале з Паўлюсам была акружана савецкім войскам у лістападзе. Лагута пра гэта ведаў: такім, як ён, немцы дазвалялі мець радыёпрыёмнік. У Івана была магчымасць слухаць навіны і перадаваць іх таварышам. // *Пазней Андрушкевіч дадумаўся да адной, на першы погляд, стоенай справы. Залічылі яго на работу ў лясгас у снежні месяцы. Сталінградская групіроўка на чале з Паўлюсам была абкружана савецкім войскам у лістападзе. Лагута аб гэтым ведаў. Такім асобам, як ён, немцы дазвалялі мець радыёпрыёмнікі. У выпадку прыходу савецкіх войск на дапамогу ад Андрушкевіча разлічваў Лагута.*

[21—22] Гэта быў харошы, надзейны дах для іх падпольнай дзейнасці. // *Гэта быў харошы, надзейны дах.*

[23—24] Самым галоўным было тое, што падпольшчыкі наладзілі сувязь з парашутыстамі. // *Самае галоўнае: мястэчковыя падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з парашутыстамі, самалёт з якімі прыляцеў яшчэ ў чэрвені месяцы.*

[24] Два разы на тыдзень сустракаўся з імі // *Сустракаўся з імі два разы на тыдзень*

[25—26] уладкаваўся настаўнікам у школу суседняй станцыі Мохаў. // уладкаваўся настаўнікам *на наступнай ад мястэчка* станцыі Мохаў.

[29] Там ён, нібыта вынімаючы партызанскую міну // Там ён, нібыта *дастаючы* партызанскую міну

[31] За гэта зараз атрымліваў ад паліцыі пенсію. // *Атрымоўваў* ад паліцыі пенсію.

[33—34] Праляцелі наступныя вясна і лета, асветленыя спадзяваннем і натхненнем. // *І праляцелі наступныя вясна і лета, асветленыя феерверкам радасці і натхнення.*

[34—35] Напрадвесні быў Сталінград, дзе нямецкая армія пацярпела вялікае паражэнне. // *Напрадвесні быў Сталінград.*

[36—37] Для насельніцтва // *Для мясцовага насельніцтва*

[37—38] гэта было прычынай асаблівай радасці і гордасці. // *гэта быў прадмет асаблівай радасці і гордасці.*

С. 611:

[2] ды і тыя, што збіралі іншыя звесткі // ды і тыя, што збіралі *ўсялякія* іншыя звесткі

[3—4] бітва, якая, магчыма, вырашыць зыход вайны. Яны фіксавалі новыя танкі // *бітва, якая, магчыма, вырашыць зыход вайны. Да гэтага ішло. Яны зафіксавалі новыя танкі*

[7—8] няўжо падзеі будуць разгортвацца так // няўжо падзеі *пойдуць* так

[9] Але дзіва дзіўнае: тады нашы адступалі, у небе панавалі // *Ды ўсё ж такі ёсць на свеце Бог. Дзіва дзіўнае: нашы адступалі з аднымі вінтоўкамі,* у небе панавалі

[10—11] а тут раптам танкі-«трыццаць чацвёркі» нішчаць тое // *а тут раптам танкі «трыццаць чацвёркі» лупяць тое*

[12—14] славутыя «тыгры», «фердынанды»; нашы ІЛы, Петляковы паляць у небе «фоке-вульфы» і «месершміты». Гэта здавалася нейкім цудам, казкай. // *славутыя «тыгры», «фердынанды», а нашы «ілы», «петляковы» паляць у небе «фоке-вульфы» і «месершміты». Адкуль узялася гэтая савецкая тэхніка? Бо гэта як нейкі цуд, казка.*

[15] Нарэшце ўзяты Арол і Белгарад. // Нарэшце ўзяты Арол і Белгарад. *Прытым летам, якое немцы лічылі спадарожнікам сваіх перамог.*

[17—18] Капітан Мазурэнка, камандзір парашутыстаў, быў старшым палітруком. // Капітан Мазурэнка*, які камандаваў парашутыстамі, на самой справе быў старшы палітрук.*

[21—22] даты захопу немцамі нашых гарадоў. // даты *захопленых* немцамі нашых гарадоў.

[27—28] Па радыё, тэлебачанні даўно збіраліся пра іх расказаць. // Па радыё, тэлебачанні даўно збіраліся *паказаць іх шырокаму гледачу.*

[28—29] Скажам, сядзяць былыя хлопцы, а цяпер мужчыны, вакол вогнішча // *Скажам, сядзяць хлопцы вакол вогнішча*

[30] падкладваюць у агонь сухое галлё // *падкладваюць у агонь галлё*

[31—32] Адзін за адным пamipалі тыя непрызнаныя героі. // *Адзін за другім пamipалі хлопцы.*

[35] відаць, нярэдка паўтараючыся. // відаць, нярэдка *паўтараўся.*

## Мой конь (с. 612)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Крыніца», 2002, № 11/12.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 615:

*Ведрыца* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

*Ляжнёўка* — гл. камент. да апавяд. «Падарожжа ў Бабінавічы» (с. 805).

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

*Прыпяць* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

## Сярэбраны змей (с. 618)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Бярозка», 2002, № 11.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «Сярэбраны змей» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—3), на першай старонцы рукапісу ўгары закрэслена першая назва апавядання — «Асеннія змеі», і ніжэй падпісана назва «Сярэбраны змей».

## Хлапечая кампанія (с. 619)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Вясёлка», 2000, № 1.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—7).

### Уласаўцы (с. 621)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Крыніца», 2002, № 11, 12.

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 621:

*Уласаўцы* — гл. камент. да апавяд. «Зязюлі ў родным лесе» (с. 788).

*Камарын* — гарадскі пасёлак у Брагінскім раёне Гомельскай вобласці, прыстань на Дняпры. Вызвалены савецкімі войскамі 22—23 верас. 1943 г.

С. 623:

*Волга* — гл. камент. да апавяд. «Звяга» (с. 776).

*...сцяг на Эльбрусе...*— Эльбрус, найбольш высокая і найбольш вядомая вяршыня на Каўказе (вышыня 5642 м); фашысцкі сцяг узняты гітлераўцамі над Эльбрусам 21 жн. 1942 г., ужо на пачатку 1943 г. адбылося ўзыходжанне савецкіх альпіністаў, якія знялі гэты сцяг.

С. 624:

*Сталінград* — гл. камент. да апавяд. «Помні свой лес» (с. 748).

*Курск* — гл. камент. да апавяд. «Якая доўгая вайна» (с. 758).

*...узяўшы ў летнім баі Харкаў, болей яго не аддала...*— гітлераўскія войскі захапілі Харкаў 24 кастр. 1941 г., 12 мая 1942 г. савецкія войскі пачалі наступленне з мэтай вызваліць Харкаў, але ў выніку 22 мая войскі, якія наступалі, патрапілі ў акружэнне і панеслі вялікія страты. 2 лют. 1943 г. пачалася яшчэ адна наступальная аперацыя савецкіх войск, 16 лют. Харкаў быў вызвалены, але 4 сак. 1943 г. гітлераўскія войскі перайшлі ў контрнаступленне, савецкія войскі зноў патрапілі ў акружэнне, Харкаў 15 сак. быў страчаны. Канчаткова, у выніку летняга наступлення 1943 г., Харкаў быў вызвалены 23 жн.

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).

С. 626:

*Эсэсаўская дывізія* — дывізія, якая ўваходзіла ў склад эсэсаўцаў (ад эсэс); СС (SS — скар. ад *ням.* Shutzstaffeln — ахоўныя

атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрнбергскім працэсе (1946) прызнана злачыннай.
С. 628:

*Гіль-Радзіёнаў Уладзімір Уладзіміравіч* (1906—1944) — палкоўнік Чырвонай Арміі, які ў нямецкім палоне арганізаваў і ўзначаліў 1-ю рускую нацыянальную брыгаду СС, разам з якой у 1943 г. перайшоў на бок партызан.

*Герой Савецкага Саюза* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 768).
С. 629:

*«Руда армада, на помоц!» — з чэш.*: «Чырвоная Армія, на дапамогу!»

*Прага* — сталіца Чэхіі, у 1918—1922—Чэхаславакіі.

**Цыганскі барон (с. 630)**

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 2002, № 2/3 (разам з апавяданнем «Лясгас»).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання «Сустрэча з маршалам» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—7); тэкст супадае з часопіснай публікацыяй апавядання.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // *часоп. «Беларусь»*
С. 630:

[3] Цыганы, калі вандроўка прыводзіла іх да мястэчка // *да з'яўлення калгасаў цыганы, калі іх вандроўка прыводзіла да мястэчка*

[7—8] Мноства сцяжын вядзе адсюль да паселішча. // Мноства *сцежак вядзе* да паселішча.

[10] Як толькі арганізаваліся калгасы, конныя кірмашы // *За калгасамі* конныя кірмашы

[14] да якога адносіцца наша гісторыя // да якога адносіцца *пачатак нашай гісторыі*

[16] і дурылі галаву яго жыхарам // і дурылі галаву *местачкоўцам*

[18] Аднаго разу выяўляецца // *Тым часам* выяўляецца

[23—25] прамаўляе адзін з цыганоў.— Захачу — мая будзе,— лянiва адказвае той, каго назвалі Федзем. // прамаўляе адзін з цыганоў.—

*Аднак выйграй яе ў карты. Інакш не аддамо.— Захачу — мая будзе,— ляніва адказвае той, каго назвалі Федзем.— Без картаў...*

[34] жанчына зналася з цыганом. // жанчына *зляглася з цыганам.*

[35] чамусьці вострыя языкі // *Можа, таму, што ёсць песня пра радавітага цыгана, вострыя языкі*

## Як мы скасавалі збожжавы падатак (с. 631)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 8 лют. (пад шапкай «Тры апавяданні», разам з апавяданнямі «Баба Зося на трыбуне» і «Дзеці кулака»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання «Як мы скасавалі збожжавы падатак» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—9); на першай старонцы рукапісу ўгары закрэслены першапачатковыя назвы апавядання — «Вызваленне ад падатку», «Як мы скасавалі збожжаздачу», і ніжэй падпісана назва «Як мы скасавалі збожжавы падатак».

С. 631:

*...замежных «студэбекераў»* — маюцца на ўвазе грузавыя аўтамашыны УС-6, што выпускаліся амерыканскай фірмай «Студэбекер» і пастаўляліся ў Савецкі Саюз з 1941 г.

С. 632:

*Маньчжурыя* — гістарычная вобласць на паўночным усходзе Кітая, назва — ад народа маньчжуры (паўднёвая частка групы тунгусаў).

*Бандэра Сцяпан Андрэевіч* (1909—1959) — украінскі палітычны дзеяч, лідар Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН).

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта…» (с. 711).

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — украінскі паэт, мастак, грамадскі дзеяч.

С. 633:

*«Смершавец»* — ад скарочанага «Смерць шпіёнам», назвы органаў савецкай ваеннай контрразведкі, створаных у 1943 г.

### Землятрус у Ташкенце (с. 634)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 23 снеж. (пад шапкай «Тры эцюды», разам з эцюдамі «Расстрэл каля лісіных нор» і «Сустрэча з каракалпакскімі пісьменнікамі»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 634:

*Ташкент* — сталіца Узбекістана.

*Узбекістан* — дзяржава ў Цэнтральнай Азіі, да 1991 г. адна з сярэднеазіяцкіх рэспублік СССР.

*Шкала Рыхтэра* — шкала, згодна з якой прынята ацэньваць магнітуду (велічыню, што характарызуе выдаткаваную энергію сейсмічнай хвалі) землятрусаў. Прапанавана амерыканскім сейсмолагам Ч. Рыхтэрам у 1935 г. Землятрус 1966 г. адбыўся ў Ташкенце а 5 гадзіне 23 хвіліне раніцы 26 крас., магнітуда — 5,2 балы паводле шкалы Рыхтэра. Цалкам або часткова было разбурана больш за 36 тыс. дамоў.

С. 635:

*Уйгун* (сапр. Рахматула Атакузіеў, 1905—1990) — узбекскі паэт, драматург, перакладчык. Народны паэт Узбекістана (1965).

### Расстрэл каля лісіных нор (с. 636)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 23 снеж. (пад шапкай «Тры эцюды», разам з эцюдамі «Землятрус у Ташкенце» і «Сустрэча з каракалпакскімі пісьменнікамі»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 636:

*...ўзяты немцамі Віцебск і Орша...*— Віцебск, абласны цэнтр у Беларусі, быў захоплены гітлераўцамі 11 ліп. 1941 г.; Орша — горад у Беларусі, цэнтр Аршанскага раёна Віцебскай вобласці, быў захоплены гітлераўцамі 16 ліп. 1941 г.

*...баі ішлі ў Смаленску...*— Смаленск: гл. камент да апавяд. «Першы дзень свабоды» (с. 814); у 1941 г. баі пад Смаленскам працягваліся з 10 ліп. па 10 верас.

*Бабруйск і Жлобін* — гл. камент. да апавяд. «Першы дзень свабоды» (с. 814).

## Сустрэча з каракалпакскімі пісьменнікамі (с. 637)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 2002, 23 снеж. (пад шапкай «Тры эцюды», разам з эцюдамі «Расстрэл каля лісіных нор» і «Землятрус у Ташкенце»).

У зборнікі прозы не ўваходзіла.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 637:

*У час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане...*— Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане праводзілася ў крас. 1966 г.

*Каракалпакія (Каракалпакстан)* — аўтаномная рэспубліка ў складзе Узбекістана. Займае 37 % плошчы Узбекістана, на якой жыве ўсяго 6 % насельніцтва краіны.

*Панчанка Пімен Емяльянавіч* (1917—1995) — беларускі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1973).

*Пысін Аляксей Васільевіч* (1920—1981) — беларускі паэт і перакладчык.

*Нукус* — горад (з 1932 г.), сталіца (з 1939 г.) Каракалпакіі (Каракалпакстана).

С. 638:

*Амудар'я* — рака ў Цэнтральнай Азіі (да зліцця з ракой Вахш мае назву Пяндж), даўжыня 1415 км.

*...старшыні праўлення Саюза каракалпакскіх пісьменнікаў Сулейманава, які прыязджаў у Мінск і тлумачыў нам, што чорныя калпакі, якія ўпамінаюцца ў «Слове аб палку Ігаравым»* — хутчэй за ўсё І. Навуменка пераблытаў Сулейманава Алжаса (н. 1936), народнага паэта Казахстана, вядомага як аўтара шэрагу прац пра «Слова аб паходзе Ігаравым», з Юсупавым Ібрагімам (1929—2008), каракалпакскім паэтам і драматургам, народным паэтам Узбекістана, які ў 1965—1980 гг. узначальваў Саюз пісьменнікаў Каракалпакіі.

*«Слова аб палку Ігаравым»* — гл. камент. да апавяд. «Цёмныя змрокі» (с. 816).

## [2003—2006]

## Адплата (с. 639)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—4).

## Без маіх рук (с. 640)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—8).

С. 641:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Выбар» (с. 735).
*Волга* — гл. камент. да апавяд. «Звяга» (с. 776).
*Каўказскі хрыбет* — гл. камент. да апавяд. «Лясгас» (с. 853).

## Брыдкі хлопчык (с. 642)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф твора з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—6), пад назвай пазначана «гумарэска».

С. 643:

*Волга* — гл. камент. да апавяд. «Звяга» (с. 776).

С. 644:

*Савось-распуснік* — герой аднайменнага верша Я. Коласа.

## Выпадак (с. 645)

Эпізод са знаходкай кавалка паперы, на якім карэспандэнт абласной газеты бачыць сваё прозвішча, ёсць і ў апавяданні «Дзеці кулака».

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты рукапісу (у першым назва «Папулярнасць» выпраўлена на «Слава»; у другім, больш познім, назва «Выпадак») і машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1); у машынапісе назва «Папулярнасць».

## Дзяцел (с. 646)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—7); у абодвух выпадках пад назвай твора пазначана «апавяданне».

## Дубы шумяць (с. 647)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1).

## Жорсткасць (с. 648)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—11).

С. 650:

*Гамсун Кнут* (1859—1952) — нарвежскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры за 1920 г.

## Каханне на сотай вярсце (с. 652)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—2).

С. 652:

*Луцк* — горад ва Украіне, цэнтр Валынскай вобласці.

## Крык параненай птушкі (с. 653)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—3).

## Міхаліна (с. 654)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—7).

## Мог бы жыць (с. 656)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1).

### Насупраць уласнай кватэры (с. 656)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1); аўтограф-рукапіс твора захоўваецца ў тым жа фондзе (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—2).

### Не трэба садзіць у турму жанчын, у якіх малыя дзеці (с. 657)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—3).

### Правінцыйны гарадок (с. 658)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «Сустрэча з маршалам» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—7).

### Сухі плеўрыт (с. 659)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—2).

### Ты на месцы (с. 660)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс твора «Ты на месцы» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 30, арк. 1—9); на першай старонцы рукапісу ўгары закрэслены два варыянты назвы «Доктар Маер» і «Народны доктар», пад якімі стаяла жанравае азначэнне «апавяданне».

С. 660:

*Чарнобыль* — гл. камент. да апавяд. «Гасцініца над Прыпяццю» (с. 767).

## Цёмная ноч (с. 662)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца машынапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1).

С. 662:

*«Цёмная ноч»* — папулярная песня, напісаная кампазітарам М. Багаслоўскім і паэтам У. Агатавым у 1943 г. для фільма «Два байцы».

## Язэпава гумно (с. 663)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца рукапіс-аўтограф і машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 28, арк. 1—3).

## Як закончылася Другая сусветная (с. 663)

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзяцца два варыянты рукапісу і машынапіс апавядання (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—9); на першай старонцы ў адным з рукапісаў угары закрэслены назвы апавядання «Як канчаюцца войны» і «Як канчалася вайна», ніжэй падпісана назва «Як закончылася Другая сусветная».

С. 664:

*«Развітанне славянкі»* — рускі патрыятычны марш кампазітара В. І. Агапкіна. Марш напісаны пад уплывам пачатку Першай балканскай вайны (1912—1913). Упершыню выканаюны ўвосень 1912 г. у Тамбове.

*Судэты* — гл. камент. да апавяд. «Праз дзень пасля салюта...» (с. 710).

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]

### Апавяданні



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

## ЗМЕСТ [1]

### Апавяданні

#### 1974



#### 1975



#### 1979



#### 1980



#### 1981



#### 1982



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

**1984**



**1985**



**1986**



**1988**



**1989**



**1990**



**1991**

**1992**



**1993**



**1994**



**1995**



**1996**



**1997**

**1998**



**1999**



**2000**



**2001**



**2002**

**[2003—2006]**

**Навуменка, І. Я.**

Н15 Збор твораў. У 10 т. Т. 2. Апавяданні, 1974—2006 / Іван Навуменка ; падрыхт. тэкстаў, камент. і паслясл. Аляксандра Лапаты-Загорскага; рэд. тома С. С. Лаўшук ; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларус. культуры, мовы і літ.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 878 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1444-7

У другі том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі (1925—2006) увайшлі апавяданні, напісаныя ім у 1974—2006 гг.

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**НАВУМЕНКА** Іван Якаўлевіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У дзесяці тамах

**Том 2**

*Апавяданні*
*1974—2006*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкае афармленне *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *М. У. Віцько, М. М. Адам,*
*М. А. Паддубская, Л. Г. Ганчарэнка, А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 20.05.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 46,2+0,42.
Улік.-выд. арк. 48,33. Тыраж 1200 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.